# ДЗЯЦІНСТВА

## Частка першая

### ПТУШКІ

#### I

З якога часу Вася сябе памятае?

Пытанне не такое простае, і так проста на яго не адкажаш. Вася, вядома, не памятае, калі ён нарадзіўся. Яму здаецца, ён не нараджаўся, а быў на свеце заўсёды. Заўсёды было высокае сіняе неба, сакаталі куры на двары і падскокваў сабака Рудзька, стараючыся дагадзіць Васю і лізнуць сваім доўгім чырвоным языком па ягоным твары.

Але якраз з Рудзькі і пачынаюцца супярэчнасці, бо яшчэ год назад, мінулым летам ён быў тоўсценькім, пузаценькім шчанюком з чорным, нібы гузік, носам, смешным рухавым хвосцікам і мяккімі апушчанымі вушамі. Рудзьку прынёс за пазухай дзед Піліп, год трымаў у падпеччы і толькі зусім нядаўна збудаваў для яго будку.

Так што ў Рудзькі два гаспадары: дзед Піліп і Вася. Калі дзед, ускінуўшы на воз плуг і барану, выбіраецца араць поле ці ўздзіраць дзірван пад проса, Рудзька бяжыць услед за возам. На Васю ў такі дзень ён, можна сказаць, не зважае. Але дзед не кожны дзень едзе на поле. Ён то корпаецца ў гумне, у

пуні, то, седзячы ў хаце, падшывае хамут. Рудзька ў такі час з усёй нястрымнасцю сваёй сабачай натуры кідаецца да Васі і дагаджае яму як толькі можа: верашчыць, падскоквае, торгае зубамі за штаны. Куды б Вася ні пайшоў, Рудзька заўсёды бяжыць поруч або нават паперадзе.

Месца, у якім Вася жыве, яму надзвычай падабаецца. Папершае, тут пачынаецца самая доўгая местачковая вуліца — Савецкая, бо на хаце дзеда Свірыдзёнка, Васевага суседа справа, прыбіта бляшаная таблічка з нумарам 1, а на хаце дзеда Піліпа — з нумарам 3. Вуліца вядзе ад чыгуначнага пераезда, дзе стаяць дзве будкі: каменная, складзеная з гладкай чырвонай цэглы, і драўляная, пафарбаваная ў жоўты колер. Сама чыгунка з дзвюма сталёвымі калеямі ўшчыльную прылягае да Васевага агарода.

Двор, які належыць дзеду і бацьку, а значыць, і Васю, шырокі і разлеглы.

У двары, усутыч адна да другой, стаяць хаты дзеда Піліпа і Васі. Дзедава хата вокнамі на вуліцу, на захад сонца, Васева на ўсход, на чыгунку, на чыгуначную станцыю. У дзеда хата пахілая, старая, збудаваная з асінавага бярвення. Дрэва патачыў шашаль, у ім шмат дзірак, у дзіркі, зумкаючы, шукаючы спажывы, залятаюць восы, чмялі і шэршні, якія нават не зумкаюць, а гудуць. Васева хата новая, з шырэйшымі, чым у дзедавай, вокнамі, гладкімі вугламі, акуратна абчэсанымі бярвеннямі, на якіх выступае смала.

У двары пахілыя хлявы з саламянымі стрэхамі, стары калодзеж з рыпучым жураўлём. Вада ў калодзежы жоўтая, нясмачная, яе заўсёды ледзь не ўпоравень з зямлёй. Жоўты колер вады маці тлумачыць тым, што дзед некалі трымаў шмат жывёлы і фактычна ўвесь ягоны двор стаіць на гнаі. Таму ў агародчыку і памідоры не паспяваюць: націна аж зямлю рве, вырастае да велізарных памераў, а памідоры ледзь завязваюцца.

Ваду бяруць у суседнім калодзежы, які належыць стрыечнаму бацькаваму брату Платону. У дзядзькі Платона ёсць сын Адам, з якім Вася сяброе нават трохі болей, чым з Рудзькам.

З паасобных прабліскаў памяці, якія ўспыхваюць, нібы маланкі ў цемені ночы, вымалёўваецца карціна ранейшага

Васевага жыцця. Ён яшчэ памятае час, калі іхняй новай хаты не было, маці, Вася і бацька жылі ў дзедавай асінаўцы. Вася спаў з маці на куфры, які яна прывезла ў пасаг. Раніцай маці абувала Васю ў лапцікі, пяшчотна абматаўшы нагу мяккімі крамнымі анучкамі, якія яна надзірала са старызны.

З жыцця ў дзеда Васю не шмат запомнілася. Падлога ў ягонай хаце дашчаная, рыпучая, са шматлікімі дзіркамі. Аднекуль з сырых куткоў на сярэдзіну хаты часам выскакваюць лупатыя жабы-рапухі. Гэтых брыдкіх рапух Вася ні кропелькі не баіцца. Але і забіваць іх не хоча. Як потым і куды выкінеш забітую жабу? Пагэтаму Вася проста палохае жаб, стукаючы малатком па дубовай лаве, працягнутай наўзбоч левай, а затым пярэдняй сцяны. Стуку жабы баяцца і зноў хаваюцца ў свае цёмныя сырыя дзіркі.

З часу, калі будавалі новую хату, Васю запомніліся толькі паасобныя праявы. Ён, напрыклад, нібы ўвачавідкі бачыць, як пілуюць дошкі на столь і падлогу. Сасновае бервяно кладуць на высокую сталюгу і рэжуць яго ўздоўж адмысловай, з вялікімі зубамі пілой.

На сталюзе бацька. То згінаючыся, то разгінаючыся, ён цягне пілу ўверх, а ўнізе, з абсыпаным тырсаю тварам, завіхаецца Майсей, які служыць разам з бацькам на чыгунцы. Яму, вядома, лягчэй цягнуць пілу, але затое яму прыходзіцца задзіраць галаву, і тырса запарушвае вочы.

Вася напіхвае пахучай тырсай кішэні і нясе сваяку і сябру Адаму.

— Здароў, Адам.

— Здароў, Вася.

Хата ў Адама пабудавана, дошак не пілуюць, і тырсе ён рад. Але маці крычыць:

— Зноў падлогу засыплеце. Марш на двор!..

Сябры выходзяць з хаты. На дварэ радасцей яшчэ больш. Можна на вуліцу выскачыць, пабачыцца з другімі хлопцамі.

Раз пяць у дзень Вася наведваецца да Адама, столькі ж — Адам да яго. Так яны жывуць.

Дзіўная рэч: Вася добра памятае, як прывозілі, абчэсвалі бярвенне, пілавалі дошкі, а вось як хату складвалі — забыў

нашчэнт. Можа, гэта было тады, калі ён хварэў. Маці расказвае, што ён цяжка пераносіў адзёр.

Печ і грубку ў новай хаце ляпіў Іван Казёл, які жыве праз вуліцу насупраць. Казёл невысокі, шчуплы, з непрыгожым маршчыністым тварам, але затое мае ўмелыя рукі і вельмі спрытны язык. З ягоных жартаў увесь час рагочуць мужчыны, а жанчыны, калі ён што-небудзь пры іх пляце, адварочваюцца і чырванеюць.

Да ляпіцы Вася абыякавы. Але яму вельмі падабаецца пляскаты аловак, пэндзаль і бутэлечка з сіняй фарбай, якімі валодае языкаты сусед. Кончыўшы ляпіць грубку, пабяліўшы яе, праз дзень ці два Казёл прыладжвае да сценак грубкі шнур, намячае алоўкам лінію, а затым вядзе па ёй пэндзлем, вымалёўваючы прыгожую сінюю паску.

Вася марыць пра пэндзаль і фарбу. Колькі б ён імі ўсяго намаляваў! Тым часам Казёл, скончыўшы работу, хавае прылады ў раменную сумку, а пляскаты аловак забывае на табурэтцы. Са страхам сочыць Вася за ляпіцай: раптам успомніць пра аловак. Але Казёл выходзіць з хаты, і Вася адразу бярэ аловак сабе.

Аловак, відаць, у Васі і застаўся б, каб не быў ён такі нецярплівы. Але ён не вытрымлівае і ў першы ж дзень пачынае размалёўваць белую грубку. Бацька круціць Васева вуха, адбірае аловак і адносіць Казлу.

Так, ёсць на свеце і непрыемнасці, але Вася на іх не зважае. Не надта добра жывуць між сабой дзед Піліп і Васеў бацька. Дзед гневаецца на сына за тое, што не захацеў жыць на хутары, кінуўся на чыгунку. Дзед нават водруб — асобны кавалак зямлі — на Далёкім Лядзе выменяў для сына, аддаўшы тры палоскі зямлі, размешчаныя ў розных ваколіцах мястэчка. Нават зруб пад хату паставіў на тым водрубе дзед.

Але бацьку, відаць, больш, чым хутар і зямля, вабіла чыгунка. Таму ён махнуў рукой на водруб, на хату і паступіў у дрываклады. Дрываклад — тое самае, што качагар. Бо паязды, калі бацька быў маладзейшы, хадзілі не на вугалі, а на дрывах. Затое папаездзіў бацька па свеце. Вася гэтаксама зрабіў бы.

Цяпер бацька ездзіць кандуктарам на таварных цягніках. Звычайна стаіць у апошняй тармазной будцы, бо ён пакуль што малодшы кандуктар. За гэта дзед не любіць свайго сына. Лічыць: паквапіўся на лёгкі хлеб.

Зруб з Блізкага Ляда перавезлі на агарод, і Вася, толькі прачнуўшыся, бяжыць да яго, ускарабкваецца на пярэднюю сцяну, пад самы дах, і назірае, як узыходзіць сонца, як распаўзаецца на балоце за чыгункай туман, як манеўруюць на станцыі паравозы.

На варожасць між дзедам і бацькам Вася не зважае. Якая яму справа да гэтага? Паснедаўшы дома, Вася куляй ляціць снедаць да дзеда. Бабка Аўгіння, мажная, круглатварая, надзвычай гаваркая, якраз ставіць на стол патэльню з яечняй і скваркамі. Бабка напякла цэлы стус пульхных грэцкіх бліноў, якія Вася надзвычай любіць.

Не пытаючы дазволу, Вася садзіцца за стол з дзедам, бабай, іхняй дачкой Аляксандрай, цёмнавалосай і дужа падобнай на Васевага бацьку, макае блінцом у патэльню, выцягвае відэльцам шкваркі. Відэльцы, якімі карыстаецца дзедава сям'я, адмысловыя: з цёмнымі драўлянымі тронкамі і чорным засаленым зуб'ем. Ні бабка Аўгіння, ні яе дачка ніколі не чысцяць відэльцы, выціраюць іх мокрай анучкай, кідаючы ў шуфлядку стала. Можа, ад гэтага відэльцы пахнуць чымсьці кіслым, застаялым, гэтак жа як змазаныя свіным шмальцам дзедавы боты, што вісяць на шастку пад самай столлю.

Вася, зрэшты, мала звяртае ўвагі на старамодныя відэльцы, на вялікія драўляныя лыжкі, якімі ядуць у дзеда страву з агульнай місы. Ён і абедаць прыходзіць да дзеда, і вячэраць і наогул шастае ў старую дзедаву хату, складзеную з асінавых бярвенняў, калі толькі захочацца. Бабка Аўгіння не толькі пульхныя грэцкія блінцы іаладкі пячэ, але варыць і смачны ячменны крупнік, і забелены малаком картапляны суп, і цёмную ад навару абабкаў, падасінавікаў і іншых губякоў капусту.

Дзед Піліп — серадняк. Вася цяпер часта чуе гэтае слова, як і словы бядняк, кулак, але, што тоіцца за імі, не вельмі добра разумее. У бабкі Аўгінні ёсць родзіч Пятро, як яна заве яго — братаніч. Пятро страшэнна руплівы і цягавіты: з раніцы да вечара, цёпкаючы па гразі разлезлымі лапцямі,

возіць на поле гной, арэ, сее, скародзіць поле. Знешне Пятро падобны хутчэй на старца, чым на гаспадара: носіць дзіравыя шарачковыя штаны, кашулю і нават у халодныя асеннія дні свеціць голым целам. Затое Пятро мае некалькі вялізных дубовых бочак, засыпаных даверху збожжам.

Пятра называюць кулаком, гэта значыць багацеем. Але які ён багацей, калі вось гэтак апранаецца, душыцца нішчымніцаю, свету белага не бачыць з-за работы.

Акрамя старой, з паточанымі шашалем сценамі хаты, дзед Піліп валодае крывым, пахілым хлявом, у якім проста плаваюць у гноевай жыжцы каровы, цёлка і конь. Яшчэ ў дзеда ёсць старое, з дзіравым саламяным дахам гумно і прысадзістая, з перакошанымі дзвярамі пуня, у якой ён складвае сена і салому.

Дзед Піліп, як і ягоны сваяк Пятро, вельмі працавіты. Дня не згуляе. Сее, баранue, косіць асаку на Гарадзінцы — так завецца балота, якое пачынаецца за чыгункай, за вуліцай Ганчаркай, агароды якой якраз спускаюцца да балота. Затым возіць гэтую асаку ў двор, закладвае з раніцы і вечарам корм каровам і каню, усю восень і зіму малоціць у гуменцы збажыну, возіць з лесу дровы на апал і смалякі для лучыны, для асвятлення хаты. У нядзелю дзед апранае новую кашулю, суконныя штаны, дастае з шастка боты. Ідзе ў царкву. Гэта ягонае свята.

Вось так жыве дзед.

Бацька жыве трохі інакш. Прыйшоўшы з дзяжурства, ён першы дзень адсыпаецца, накрыўшыся вялізнай шубай, якая пахне мазутам, карасінам і яшчэ чымсьці кіслым, прывезеным з далёкіх дарог. Такія шубы выдаюць кандуктарам: у іх вялікая густая поўсць і, апрануўшы такую шубу, не страшна нават зімой стаяць на тормазе.

На жаль, малодшым кандуктарам плоцяць не так многа грошай. Таму ў вольныя ад дзяжурства дні бацька займаецца тым, чым і дзед: арэ поле, сее, косіць сена. У бацькі ёсць конь па мянушцы Гняды, якога вельмі любіць Вася. Нават больш, чым сабаку Рудзьку.

## II

Цяпер якраз зіма.

З раніцы да Васі завітвае сябрук Адам, сусед і сваяк. Васеў і Адамаў бацька, дзядзька Платон, стрыечныя браты. Вася з Адамам, такім чынам, родзічы ў трэцім калене.

— Пойдзем на Гарадзінку,— гаворыць Адам.— Лёд трымае. Я ўчора пробаваў.

Вася прыцiскае палец да губ — маўчы. Бо брат Петрык, маладзейшы за Васю на тры гады, адразу натапырвае вушы. Бяда Васю з Петрыкам! Адаму восем гадоў, Васю сем, Петрыку толькі чатыры, але валачэцца за старэйшымі хлопцамі, як роўны. Петрык даўно засланяе Васю свет. Гады два Вася калыхаў яго, няньчыў і, можна сказаць, выгадаваў на сваю галаву. Цяпер малодшы брат ні на крок не адстае ад Васі.

— Схаджу да Адама,— гаворыць Вася, абуваючы зношаныя, з аблезлымі насамі чаравікі і апранаючы чорны, перашыты з чыгуначнага шыняля палітончык.

— Яны будуць коўзацца на лёдзе! — лямантуе Петрык.— Чаравікі будуць драць...

Ён памыкаецца шмыгануць з хаты ўслед за старэйшым братам і ягоным сябрам. Але маці Петрыка не пускае, і нават на двары чуваць ягоны адчайны лямант.

Пакрыты лёдам прастор Гарадзінкі бязмежны. Вася з Адамам гэта ведаюць, бо наперагонкі з ветрам носяцца па лёдзе ўжо другую зіму. Восенню балота гэтак заліваюць дажджы, што яно здаецца возерам. Зімой яно пакрываецца лёдам, і толькі чубкі рудой асакі, вяршалінкі розных дудак, што растуць па дрыгве, вытыркаюцца з-пад лёду.

Сябры прывязваюць да чаравікаў канькі. У Адама бліскучыя металічныя нажы, у Васі — звычайныя дзеравяшкі, якія змайстраваў дзед. Адаму трохі весялей жыць на свеце. Ён адзіны ў сям'і сын, і яму не трэба няньчыць малодшых братоў, пільнаваць іх, не маючы магчымасці выскачыць з хаты. У Адама, апрача жалезных канькоў, кажушок ёсць і шапка-вушанка. Бо Адам — смятаннік, а такіх, як Вася, у бацькі трое, ім не то што смятаны, сыраквашы не хопіць.

— Давай наперагонкі,— прапануе Адам.

— Не хачу наперагонкі,— адмаўляецца Вася.— Давай, як хто хоча...

Васю прыемна не толькі катацца па лёдзе, а яшчэ і глядзець навокал. Калі нясешся наперагонкі, нічога не ўбачыш. Толькі пара з рота ды вецер свішча каля вушэй. Дый спрытней Адам за Васю, і канькі ў яго лепшыя.

Звычайна Адам з Васем дабягаюць да гары Мядзведзіхі, пясчанага, з пакатымі схіламі пагорка, што вырас сярод суцэльнай балотнай дрыгвы. Калі глядзець здалёк, пагорак сапраўды нагадвае мядзведзіху: вялікая галава нібы прылеплена да яшчэ большага тулава.

Прыемна катацца на такіх дзеравяшках, як у Васі. Лёд яшчэ малады, і ён угінаецца пад канькамі. Нават трохі страшнавата: раптам трапіш у балотную бездань, патонеш.

Праз тры-чатыры дні скарынка лёду патаўсцее. Стары лёд нават не праб’еш. Трэба палена ці якая-небудзь жалязяка. Лёд робіцца звонкі, галасісты. Прыемна на такі лёд кінуць палку ці камень. Рэха далёка разносіцца. Здаецца, што лёд спявае.

Бліжэй да Мядзведзіхі паўзверх лёду больш вытыркаецца вяршкоў розных балотных дудак. Ёсць нават астравок трысьнягу, чароту з чорнымі катамі на выпетраным цыб’і. Трысьнягі хлопцы абмінаюць. Там катацца нельга.

Балота і лёд ёсць і за Мядзведзіхай, але, даляцеўшы да пагорка, сябрукі спыняюцца. У абодвух разгарачаныя, пачырванелыя твары, шчокі аж гараць. Тым часам згушчаюцца раннія зімовыя змрокі.

— Ці праўда, што на Мядзведзісе спраўляюць вяселлі ваўкі? — пытае Адам.

— Дзед гаварыў: праўда. Гання збіраецца вялізная. Калі натрапіць на чалавека, разрывае на кавалкі. Асабліва лютыя ваўкі ў Піліпаўку...

Цяпер якраз Піліпаўка. Сябрукі трывожна ўзіраюцца ў сіні паўзмрок, які паволі ахутвае шэрыя схілы пагорка. Ускрай балота цягнецца змрочны алешнік. Хлопцам здаецца, што на яго ўзбочыне нешта варушыцца.

— Давай пагонім назад,— гаворыць Адам.

— Давай.

З ваўкамі жарты кепскія. Хлапчукі самі чулі, як сярод ночы ў пачатку зімы з Мядзведзіхі даносіцца працяжнае і страшнае воўчае выццё. У хляве ў такія хвіліны трывожыцца жывёла: іржэ конь, нема раве карова. Хоць ваўкі да вуліцы Савецкай, на якой жывуць Вася з Адамам, ніколі не дасягаюць. Бо трэба пераскочыць чыгунку. Жалезных рэек, стрэлачных і паравозных агнёў ваўкі баяцца. На вуліцы Ганчарцы, якая мяжуе з балотам, воўк дзейнічае інакш. Ён падкапваецца, падграбаецца пад хлеў, бывае, перадушыць усіх авечак і толькі адну праз дзірку пацягне з сабой.

У разгар Піліпаўкі хлопцы наогул не ходзяць на Гарадзінку. Катаюцца на Заброддзі. Так завецца разлеглая нізкая лугавіна, якая восенню таксама заліваецца вадой, а зімой замярзае.

Да Заброддзя нават бліжэй, чым да Гарадзінкі. Бо яно размешчана наўзбоч Савецкай вуліцы, у пачатку якой, ледзь не ўпрытык да чыгуначнага пераезда, жывуць Вася з Адамам.

Летам Заброддзе — сенажаць, на якой буяе багатае разнатраўе,— загароджваюць. Там і нешырокі праход на лугавіну, і каб туды не трапіла жывёла, яго загароджваюць жэрдкамі. Вася і летам бегае на Заброддзе. Летам яно нагадвае спярэшчаны рознакаляровымі краскамі дыван. Сінія, жоўтыя, чырвоныя кветкі, над якімі днём не сціхае музыка. Здаецца: ціхі, прыглушаны, прыемны для слыху аркестр іграе над травяной ваколіцай. Гэтак гудуць пчолы і чмялі.

Васю нават прыемней катацца на Заброддзі.

Сюды не дабіраюцца ваўкі. Лес далёка, а на чатырохвярстовай Савецкай вуліцы столькі сабак і яны ўсчынаюць такі брэх, што сюды не тое што воўк — лісіца ці нават тхор не адважацца падступіцца.

Вася любіць Заброддзе не меней чым Гарадзінку. Ёсць прычына. На Заброддзі жыве Ліза. Яе нізенькая, з малымі акенцамі хата стаіць трохі наўзбоч вуліцы, каля праходу на Заброддзе.

Ліза — тоненькая, як былінка, са светлымі кудзеркамі валасоў, ціхая, сарамлівая і, можа, пагэтаму вельмі падабаецца Васю. Вася марыць пра тую часіну, калі разам з Лізай пойдзе ў школу. Бо ёй, як і яму, сем гадоў. Адаму восем, але ён у школу не пайшоў, бо хварэў жаўтухай.

Бацька ў Лізы беларус, працуе парыкмахерам, а маці — немка. Таму Ліза ўмее гаварыць па-нямецку. Васю гэта таксама вельмі цікава.

З-пад лёду на ваколіцы праглядвае не чорная, як на Гарадзінцы, прорва, а зялёная трава. Васю шкада травы. Яшчэ далёка да вясны, і колькі прыйдзецца трываць зялёнай, жывой траве ў ледзяным палоне.

Вася глядзіць на чаравікі: яны зусім дзіравыя. Пасля таго як лёд засыпле снегам, Адам будзе катацца па саннай дарозе. Васю гэта не свеціць.

## III

Вася жыве ў дзеда Піліпа. Маці нараджае яшчэ аднаго брата, якому нават імя яшчэ не прыдумалі, і Вася перабіраецца ў дзедаву хату. Бо маці яшчэ нядужая, ляжыць у ложку і не можа гатаваць ежу.

Вася памагае маці: коле дровы, носіць ваду. Потым ідзе да дзеда.

Вася памятае і той дзень, калі Петрык нарадзіўся. Каля маці ўвіхаліся розныя бабкі, прыходзіў нават тоўсты нізкі фельчар Прохар Прохаравіч, і на Васю, пасля таго як паявіўся на свет крыклівы, няўрымслівы Петрык, ніхто не звяртаў увагі. Вася страшэнна раззлаваўся. У адчаі схапіў малаток і гэтак грукнуў па дзвярах, што вядуць у другую, чыстую, тады яшчэ халодную палавіну хаты, што ад філёнкі адскочыла драўляная паска. Бацька пасля цвічкамі прыбіў гэтую паску да дзвярэй.

З'яўленне на свет яшчэ аднаго брата Вася ўспрымае спакайней, чым мінулы раз, калі нарадзіўся Петрык. У ягоных грудзях нават тоіцца надзея, што калыхаць меншага брата цяпер будзе Петрык і такім чынам развяжа Васю рукі. Настане для Васі доўгачаканая свабода, бо Петрык валачэцца за ім нібы хвост.

Аднак не спраўдзіліся Васевы надзеі. Самы малодшы брат — яго нарэшце назвалі Сяргеем — ляжыць у люльцы, і зноў, як раней Петрыка, калыша яго Вася. Бо Петрык ад усялякай работы ўвільвае як толькі можа. То ў яго рука баліць, то нага, то галава, то жывот. Малы, але хітры гэты Петрык...

Вядома, Вася трохі крыўдуе на бацькоў. Адам у сям'і адзін, і жывецца яму лепей, чым Васю. У яго і кажушок ёсць, і бліскучыя стальныя канькі, тым часам Вася нават не марыць пра такія рэчы. Паспрабуй пракармі тры раты. Хлеба ці нават звычайнай бульбы не набярэшся.

Спіць Вася з дзедам на печы. На жэрдках, прымацаваных пад самай столлю, вісяць перавяслы цыбулі і густа змазаныя дзёгцем дзедавы боты. Яны даюць пах на ўсю хату, і пах гэты Васю прыемны. Дзіўны дзед. Ён надзявае боты толькі па вялікіх святах — на Вялікдзень, на Радуніцу,— а ўвесь астатні час ходзіць у лапцях, ці пасталах, як іх называюць у мястэчку.

Дзіўны дзед яшчэ і таму, што ў яго ёсць вялікая, туга напакаваная мікалаеўскімі і керанскімі грашамі шабета. Па яго словах, за гэтыя грошы ён пабудаваў бы дваццаць такіх, якую мае, хат, а ботаў купіў бы — не злічыць. То чаму ён гэтага не зрабіў?..

У адзін з тых дзён дзед бярэ Васю з сабой у гумно. Ён пачынае сушыць, малаціць, веяць жыта, грэчку, што выраслі на яго кавалачках поля, раскіданых вакол мястэчка.

У правай палавіне дзедавага гумна размяшчаецца падосець: так завецца прыбудова, складзеная з круглага бярвення, чорнага ад дыму і сажы. Падосець мае вышкі, інакш кажучы, жардзяную столь, на якую дзед праз цёмную адтуліну ўскідвае доўгімі віламі снапы. Затым узлазіць на вышкі па лесвіцы сам, парадкуючы снапы так, каб яны шчыльна сталі адзін каля аднаго.

Вася ахвотна памагае дзеду. Паколькі падосець не мае ні акон, ні дзвярэй, залазіць у яе трэба на карачках. Вася з дзедам залазяць, раскладваюць агонь. Сухія дровы гараць добра, асвятляючы змрочную, з закуранымі сценамі падосець. Цёплы дух ідзе ўгору і сушыць снапы.

Днём дзед цупае на таку цэпам. Снапы сушыць ноччу. Вася дзеля начной прыгоды ахвотна памагае дзеду, хоць прыгода не надта прыемная. У чорным, цёмным склепе падосеці поўна дыму, які проста выядае вочы. Вогнішча гарыць пасярэдзіне склепа, грэе твар, грудзі. Але спіне няўтульна: з гумна ў падосець прабіраецца зімовы холад.

Тым часам і цікава ў падосеці. Гарыць агонь, яго водбліскі скачуць па цёмных, закопчаных сценах. На дварэ зіма, чуваць, як вецер свішча, б'е ў сцены снежнаю крупкай. Часам нібы гром прагрыміць. Гэта імчыць па сталёвых рэйках цягнік. Ад дзедавага гумна да высокага насыпу чыгункі метраў пяцьдзясят. Васю іншы раз нават як бы сорамна з-за гэтага гумна. Бо вельмі ў яго нягеглы выгляд: нізкае, прысадзістае, з выгнутай сцяной і як бы пераломаным папалам гнілым саламяным дахам. Што думаюць пра гэтае гумно добра апранутыя, часам нават з акулярамі на носе інтэлігентныя людзі, якія выглядваюць з вокнаў прыгожых пасажырскіх вагонаў? Відаць, нічога добрага не думаюць.

Дзед, седзячы пры вогнішчы, што-небудзь апавядае. Найчасцей параўноўвае жыццё мінулае і сучаснае. Раней жыццё было добрае і правільнае, лічыць дзед. Жыццё цяпер, аднак, перавярнулася, зыначылася і стала такім нікчэмным, што нават гаварыць пра яго не хочацца.

Васю, аднак, дзедавы разважанні не цікавяць. Яму жыццё падабаецца. Ён вельмі захапляецца птушкамі, агнястрэльнай зброяй і вайной, якая, па чутках, была не гэтак даўно. Немцы прыходзілі ў мястэчка, белапалякі, розныя булак-балаховічы. Тым часам пра вайну, зброю дзед нават слухаць не хоча. Да птушак таксама зусім абыякавы.

— Навошта табе вераб'і? Клююць зерне, шкодзяць. Погань, адным словам. Жуpавы цэлую дзялянку майго аўса збэрсалі. Тую, што ў лесе раскарчаваў.

Чыгунку дзед проста ненавідзіць.

— На чорта яна? Ведаў бы ты, які тут быў лес. Ні ў якім другім месцы такога не было. На Далёкім, Блізкім Лядзе раслі адны дубы. Неба вярхамі даставалі. Наўкруг сяла — дубы і дубы. Як у вянку сяло стаяла. Спляжылі, спілавалі, вывезлі наш лес па гэтай чыгунцы. Душа баліць.

Вася з нецярпеннем чакае Каляды. Чуў, што яны ўжо блізка. Да Васі прыходзіць Адам.

— Мы будзем кабана калоць,— паведамляе.

— І мой дзед будзе,— пахваляецца Вася.

Ёсць загад: здаваць шкуры, шчаціну ў сельпо, але ніхто загад не выконвае. Што за сала без шкуркі? Няма ў ім

ніякага смаку. Прыцемкам, на досвітку, тоячыся ад вока сельсаветчыкаў, вуліца паціху смаліць вепрукоў.

Вася пайшоў бы паглядзеў, як смаляць іхняга кабана. Але ніхто яго не пусціць.

Ад Васі не хаваецца, што і дзед надвячоркам прыносіць з гумна, ставіць у кут хлява некалькі снапоў кулявой саломы і да Івана Ляпіцы, або Казла, ідзе. Вядома ўсім: Іван, малы, шчуплы, шустры, як верабей, не толькі лепіць печы, устаўляе ў вокны шкло, фарбуе аканіцы, а яшчэ коле ўсяму канцу вуліцы свіней. Мае спецыяльнае начынне: доўгае вострае шыла, якім падшывае валёнкі лямцам, і меншае шыльца, на якое накручвае, а затым ірве шчаціну з заколатага, нерухомага вепрука.

Калі вепрука колюць і ён страшэнна вішчыць, Вася ў такі момант з хаты не выходзіць. Не любіць ён гэтага пранізлівага віску. Дзіва тут няма. Вяпрук жывы, і яму баліць. Толькі дурны вяпрук. Не разумее, што яго спецыяльна задобрываюць. Перад тым як закалоць, даюць есці, затым чэшуць пад чэравам, каб ён пакорліва лёг...

Похапкам апрануўшыся, Вася выскаквае з хаты толькі тады, калі бачыць трапяткія водбліскі агню. Кабана смаляць за хлявом. Іван Ляпіца перадае бабцы Аўгінні пук шчаціны. Баба здасць гэтую шчаціну ў нарыхтоўчую краму, купіць за яе дзве ці тры катушкі нітак, іголак, а таксама чырвоных ці сініх стужак і некалькі маткоў запалачы. Так проста іголак, нітак і стужак у мястэчку не прадаюць.

Сухая кулявая салома гарыць добра, рухавыя водбліскі агню скачуць па сцяне хлява, іскры ляцяць высока ў цёмнае зімовае неба. Цемень то адступае, то ўшчыльную приступае да месца, дзе смаляць кабана. Трашчыць і непрыемна пахне паленая шчаціна. Дзюрачка, праз якую ўвайшло ў сэрца кабана доўгае Ляпіцава шыла, заткнута драўляным калочкам — каб не выцякала кроў.

Ужо абсмалілі, абскрэблі нажом кабана, збіраючыся несці яго ў хату, як на панадворку нечакана з'яўляецца — нібы з неба саскоквае — Сцяпан Бохан, член сельсавета.

— Добрае утра,— гаворыць Сцяпан.— Смаліце кабана, значыць. Нарушаеце закон.

Бохан нізкі, круглы, апрануты ў чорны дублёны кажушок. На круглым чырванаватым твары выдзяляюцца сінія, як валошкі, вочы і пшанічныя вусы.

Мужчыны нібы слупянеюць. Затое бабка Аўгіння імгненна знаходзіць выйсце з непрыемнага становішча. Пачынае літанне, як па нябожчыку.

— Захварэў наш кабанчык, Сцяпанка. Тры дні не еў. Паглядзі, ён жа худы як ражон. Ветэрынарны доктар спраўку даў, каб закалолі. Прапасці мог. Тады б проста ў зямлю закапалі...

— У спраўцы напісана, што кабана і смаліць можна? — дапытваецца Сцяпан.

— Колькі тут той шкуры! Пойдзем у хату, Сцяпанка. Няхай мужчыны тут валаводзяцца.

Баба Аўгіння бярэ члена сельсавета за локаць і вядзе ў хату. Пра спраўку ветэрынарнага доктара яна, вядома, выдумала. Ніякай спраўкі няма. Проста дрэнна ўрадзіла бульба і кабана нечым карміць. Дый скварку сала трэба мець на Каляды.

— Не прасыхае ад гарэлкі сельсаветчык,— лаецца Ляпіца.— Яго цяпер час. Пакуль не паколюць, не пасмаляць свіней...

— Чалавек такі. Нікае ўсюды, як сабака. Нюхае, віжуе.

Сцяпан даводзіцца раднёй бабцы Аўгінні. Нават блізкай: пляменнік, род бабкі Аўгінні, як і Сцяпана, вядзе пачатак ад Боханаў, якіх у мястэчку не гэтак многа.

Сцяпана адчайна лаюць у дзедавай і Васевай сям’і. Тым часам у такіх, як цяпер, выпадках запрашаюць за стол, ставяць чарку. Бо мае ўладу Сцяпан. Данясе — і на любога гаспадара сельсавет накладзе штраф.

Мужчыны, каб не даць кабану астыць і заняць рукі, смаляць нават ягоныя капыты.

Нарэшце вяртаецца бабка Аўгіння, на чым свет стаіць кляне Сцяпана, якому дала выпіць. Нарэшце не надта цяжкага кабана, узяўшы за ногі, мужчыны нясуць у хату...

## IV

Перад Калядамі, як і трэба, падае снег, засыпае двары, агароды, дахі. Вася радуецца. Наступае чарада свят. Спачатку будзе посная куцця, затым скаромная. Шчадроўкі будуць. Летась хлопцы не ўзялі Васю ў талаку, а сёлета мусяць узяць. Бо яму сем гадоў і хутка пойдзе на восьмы.

Летась у Шчодры вечар Вася сядзеў у Адама. Адам якраз хварэў на ліхаманку. Вася любіць утульную, цёплую Адамаву хату, з белымі сценамі, вялікай печчу, чыстай, пакладзенай з новых сасновых дошак падлогай. Ён ужо збіраўся ісці дадому, як пад акном сябравай хаты раздаўся спеў:

Гаспадару, гаспадару,
Ці падаваў тавару?

На гэты спеў мігам адгукнуўся дзядзька Платон — невысокі, ладны, шустры, як верабей.

Я тавару падаваў
Ды ўжо й вілы пахаваў,—

заспяваў дзядзька ў адказ.

Шчадроўнікі тым часам працягваюць:

Ды бывай здароў, май сто кароў,
Май сто кароў, пяцьдзясят канёў,
Май пяцьдзясят канёў, сем сох валоў,
Сем сох валоў, паўтараста раёў.
Будзь здароў, як зімою вада,
Ды будзь багат, як улетку зямля...

І вось каляднікі ў хаце. Іх сем ці восем. Ілля Кісель вядзе на повадзе казу — апранутага ў кажух поўсцю наверх хлопца, Мірон Угоднік трымае ў руках вялікую палку. Мірон стукае палкай аб падлогу, каза заўзята скача.

Каляднікі спяваюць яшчэ некалькі песень, затым гаспадыня іх шчодра адорвае: кладзе ў мяшок, які носіць Кузьма Поклад, каўбасу, кавалак сала, паўбулкі хлеба.

Вася яшчэ не хадзіў калядаваць. Але Ілля Кісель, які мінулы раз вадзіў казу, абяцаў Васю ўзяць.

Дзіўны гэты Ілля. Мае гадоў шаснаццаць, носіць вялікую, як чыгун, галаву на вузкіх плячах і сябруе пераважна з такімі, як Адам і Вася. Ілля вучыць іх распазнаваць траву, якую можна есці: зайцаву цыбулю, зязюльчына шчаўе, малыя гарошынкі, што пасля цвіцення нарастаюць на гусіных лапках. Многа розных штук ведае Ілля і ахвотна раскрывае сакрэты перад малечай. Ілля вырабляе розныя свісцёлкі, дудкі, па-майстэрску іграе на балалайцы.

Вось і надыходзіць Каляда. Кісель слова спраўдзіў: узяў Васю на шчадроўкі. Адама таксама. Больш таго, Ілля прызначыў Васю механошам замест Кузьмы Поклада. Поклад, аказваецца, хлопец несумленны. Многае з таго, што дарылі на мінулую Каляду, клаў не ў агульную торбу, а распіхваў за пазуху і ва ўласныя кішэні.

Вася ганарыцца, што будзе насіць мех і збіраць у яго падарункі. Ён нават дзве новыя шчадроўскія песні вывучыў. Праўда, адну песню — ёй навучыў Васю дзед Пііліп — каляднікі забракавалі. Залішне святая яна, і гаворыцца ў ёй пра тое, чаго на самай справе не можа быць: на полі стаіць груша, на ёй гарыць свечка, іскарка ўпала, і стала возера, у якім купаўся, а потым нараджаўся Ісус Хрыстос. Як гэта — купаўся, не паспеўшы яшчэ нарадзіцца?

Затое другая песня, якой навучыла Васю маці, прыйшлася каляднікам да густу, і яны спяваюць яе ледзь не пад кожным акном.

Шчодры, шчодры
Вечар добры.
Дайце каўбасу —
Занясу Міхасю,
Дайце пышку —
Занясу Рыжку,
Дайце скварку —
Узрадую Адарку...

Вася выконвае абавязкі механошы, носіць у торбе багацце, якое назбіралі за свае спевы шчадроўнікі. Не гэтак многа на-

бралася падарункаў. Бо ў адной хаце давалі крышанчык сала, у другой — кавалак каўбасы, у некаторых хатах вокны былі цёмныя: іх гаспадары рана леглі спаць, і хлопцы пад гэтымі вокнамі нават не спявалі.

Вяртлявая, языкастая, доўгая, як аглобля, Арсеніха наогул не пусціла каляднікаў у хату, выйшла на ганак і ўсыпала ў кішэню Васевага палітончыка жменю семачак.

Вася любіць святы. Яны неаднакія, розныя, тым часам цікавыя тым, што на кожнае можна добра наесціся. Нават на посную куццю, якой пачынаюцца Каляды, гатовяць некалькі страў: ячменную гушчу з грыбамі, бабковым лістам і перцам, кісель аўсяны з салодкай сытой, кісель з журавін, узвар з груш і яблык. На стале нанізаныя на дубец сухія ўюны, мочаныя яблыкі.

На скаромную куццю, якая святкуецца праз тыдзень ці два пасля поснай, страў яшчэ болей. Катлеты, каўбасы, шынка, масла, смятана, яечня, салодкія, з пшанічнай мукі коржыкі, блінчыкі з сырам, розныя пампушкі. Маці ледзь паспявае падносіць стравы на стол. Еш хоць распе ражыся.

Вася за сваім сталом раскашуе і яшчэ да дзеда ідзе. Куцця інакш называецца Дзядамі. Лічыцца: пасля таго як павячэраюць жывыя людзі, на куццю за стол пасядуць памёршыя продкі, што сталі нябачнымі духамі.

Дзед і бацька, перад тым як сесці за стол, аднолькава выгукваюць:

Дзяды, дзяды,
Ідзіце гушчу есці.

На стол кладзецца лыжка, якой ніхто не карыстаецца. Рэшткі яды, міскі, талеркі так і застаюцца на стале. Ноччу пасядуць за стол дзяды...

Дзіўна яны ядуць: усё на стале як было, так і засталося. Але дзядоў усё адно «кормяць». Інакш яны засярдуюць і могуць наклікаць бяду.

На покуць, пад іконы, бацька і дзед кладуць патроху сена і каласавой саломы. Потым шукаюць зярнят. Калі хоць некалькі зярнят засталося на дзедавай лаве і бацькавым услоне

пасля таго, як забяруць з покуці сена і каласкі, то, значыць, дзяды не засердавалі і зычаць добры ўраджай.

Вася стараецца ўявіць, як духі-дзяды, якіх нельга ні пабачыць, ні пачуць, прабіраюцца ў хату. Праз комін залятаюць ці якім-небудзь іншым спосабам? І як яны ядуць, калі пакінуты на стале харч застаецца некрануты? Многа дзівос на свеце...

Духі дзядоў — істоты добрыя. Калі іх не пакрыўдзіш, не пасмяешся над імі, зла не зробяць. Нездарма дзядоў запрашаюць у хату, шануюць іх, паважаюць.

Іншая справа — нячыстая сіла.

Нячыстую сілу, пра якую найчасцей расказвае бабка Аўгіння, улагодзіць немагчыма. Яна накіравана супраць чалавека і робіць яму толькі шкоду. Палохае, збівае з тропу, іншы раз так змучыць чалавека, што ён не рад беламу свету. Бывае, чалавек нават памірае з пярэпалаху.

Найчасцей нячыстая сіла праяўляе сябе апоўначы, як гаворыць бабка, у глухую ноч. Але, здаецца, паказвае сябе і ў самай сярэдзіне дня. То ператворыцца ў сабаку, у чорную кошку, у варону. Часам нават чалавечы воблік прымае. Але калі ў патрэбны момант перахрысціцца, нячыстая сіла адступае. Бо чорт страшэнна баіцца крыжа.

Бабка Аўгіння расказвае бясконцую чараду прыгод, што здарыліся з тым ці іншым местачкоўцам. Адзін назбіраў поўную каробку грыбоў, радаваўся ўдачы. Але ў лесе яму перабег дарогу чорны сабака. Местачковец не перахрысціўся, не адпудзіў нячыстую сілу. Прыйшоўшы дадому, зняўшы з плячэй каробку, убачыў, што яна поўна каровіных рапяхоў. Другому местачкоўцу, які стругаў дошкі, каб збіць мёртваму суседу труну, сярод белага дня штосьці ўдарыла ў спіну. Калі ён азірнуўся, то ледзь не страціў розум. Стружкі самі сабой згарнуліся ў цвёрды камяк, а камяк самахоць падскакваў і біў чалавека ў спіну.

Яшчэ адзін местачковец убачыў пад сваім акном бабку-жабрачку. Калі ён вынес ёй кавалак хлеба, то абвешанай торбамі бабкі не было, замест яе сядзела на паркане чорная варона.

Наслухаўшыся за доўгі асенні ці зімовы вечар розных гісторый, Вася дадому не ідзе, начуе ў дзеда. Ён баіцца выт-

кнуцца за дзверы. Хто ведае, можа, сядзіць ля парога чорны сабака і спецыяльна чакае Васю.

Дзед страшных гісторый не расказвае. Найбольш апавядае пра Бога. Ён кожную нядзелю ходзіць у царкву, выстойвае малебен, слухае пропаведзі папа. У такі дзень дзед апранае чыстую белую сарочку, чорныя штаны, шэрую світку. Надзявае густа змазаныя дзёгцем боты: яны заўсёды вісяць на шастку пад столлю. Ва ўсе астатнія дні дзед ходзіць у лапцях.

Вася ўжо ведае, што Ісуса Хрыста нарадзіла святая Дзева Марыя, што знайшлі яго ў яслях на сене, што Хрыстос навучаў людзей правільна жыць.

Прыйшоўшы з царквы, дзед падрабязна пераказвае пачутае Васю. Не ўсё Вася разумее, але дзедавы гісторыі слухае з вялікай увагай і цікавасцю.

Дзед непісьменны, у школу не хадзіў. Ведае толькі тры літары: «О», якое называе вокам, падобную на касу літару «Г» і на зубы грабляў «Ш». Але ўведаўшы ад дзеда сэнс гэтых трох знакаў, Вася і да астатніх лёгка даходзіць. Некаторыя літары яму паказвае маці, некаторыя — старэйшыя хлопцы, якія ўжо ходзяць у школу. Чытаць Вася, такім чынам, навучыўся яшчэ два гады назад.

Маці расказвае: у бацькі быў цэлы сундучок кніг — з малюнкамі, карцінамі,— па якіх ён вучыўся, калі сам быў шкаляром. У двухгадовым ці трохгадовым узросце Вася дапяў да сундучка. Кнігі ўсе да адной падраў.

Вася не хоча верыць словам маці: няўжо ён быў такі дурны? У тым сундучку былі, відаць, цікавыя кнігі, і як бы прыдаліся яны Васю цяпер. О, варвар! Дурны, бязлітасны варвар! Гэтак Вася думае пра самога сябе: трох- і чатырохгадовага.

## V

Вася сябруе не толькі з сабакам Рудзькам, але і з катом Мікітам. Бо чаравікі парваліся, а новыя няма дзе купіць. З вопраткай і абуткам у мястэчку цяжка. Не даступішся. Ды, па праўдзе сказаць, няма за што купляць.

Дзед іншы раз пляце Васю малыя лапцікі. Але на колькі іх хопіць? Самае большае на тры дні.

Таму зімой Вася пераважна сядзіць у хаце. Няма ў што абуцца, дый палітончык, перашыты з чыгуначнага шыняля, слаба грэе.

Вася калыша малога Сяргея, а закалыхаўшы, лезе на печ. Зімовы дзень кароткі, а на шыбах акон так намярзае іней, што нават днём у хаце цемнавата.

На печы Вася гладзіць па мяккай спіне плямістага пушыстага ката Мікіту, з якім у яго цяпер нават большая дружба, чым з сабакам Рудзькам. Рудзька на двары, у будцы, а цяпер, у лютыя халады, Вася выскаквае на двор толькі па самай пільнай патрэбе.

Ноччу Вася спіць з Мікітам на печы. На дварэ снежная бура. У коміне люта завывае вецер. Мікіта, прыхінуўшыся да Васі, ляжыць, ледзь чутна выводзячы халодным носам свае каціныя рулі. Вася думае ў гэтую хвіліну пра тое, як дрэнна людзям, якіх засцігла ў дарозе такая шалёная завіруха.

Раніцай Вася прачынаецца ад таго, што нешта халоднае тыцкаецца яму ў твар. Ён бачыць Мікіту, які ўзрушана муркае і кладзе каля Васевага твару злоўленую мыш. Маўляў, бяры і еш. Такім манерам Мікіта выказвае сваю павагу і падзяку Васю.

Зіма лютуе. Сыпле снегам, завывае вятрамі. Два разы маці паліць у печы, але ў хаце холадна. У другой, чыстай, палавіне хаты, дзе ніхто не жыве і дзе маці толькі раз у дзень прапальвае грубку, яшчэ халадней.

Гісторыі, якія расказвае бабка Аўгіння, не даюць Васю спакою. Што такое нячыстая сіла? Дзе яна водзіцца, чаму прыносіць няшчасце чалавеку?

Вася і Адаму пераказвае страшныя гісторыі, пачутыя ад бабкі. У выніку Адам перастаў прыходзіць да Васі вечарамі.

Ноччу Вася прачынаецца. Увесь бок сарочкі мокры. Ну, ясна, Петрык зноў налавіў рыбы. Пераваліўшыся праз Васю і сагнуўшыся ў крук, Петрык адціснуў старэйшага брата на мокрае месца. Ён часта так робіць.

Вася рыбы не ловіць. Можа выпіць з адным драбком цукру дзесяць шклянак чаю, і ноччу нічога не здарыцца. Бабка Аўгіння гаворыць, што Вася трывалы на ўторы.

Петрыку, аднак, не дакажаш. Сам ляжыць на сухім, хутка высахне і заўтра скажа, што вінават ва ўсім Вася.

Вася злазіць з печы. У чыстай палавіне хаты цяпер кожнага дня топяць грубку, і бацька, маці, люлька малога Сяргея знаходзіцца там. Месячнае святло залівае хату, і добра відаць кожны прадмет: стол, які адначасна з'яўляецца шкапчыкам, заслонка ў печы, услончык, пад якім стаіць начны гаршчок і да якога цяпер дабіраецца Вася.

Раптам Вася камянее ад жудасці. Каля печы стаіць бык з натапыранымі вушамі, бліскучымі вачамі, глядзіць на Васю і хвастом матляе.

Дзіка крычыць Вася. Прачынаецца бацька, маці, нават малы Сяргей пачынае плакаць у люльцы.

— Чаго крычыш як рэзаны? — незадаволена пытае бацька.

— Там бык.— Вася калоціцца як асінавы ліст.

Маці паспешліва запальвае лямпу. Каля печы на выгнутай спінцы стула вісіць кажух. Прыйшоўшы са службы, бацька павесіў яго сушыць. Блішчаць медныя гузікі, звешваецца да падлогі папруга. Вось табе і бык: вушы, вочы, хвост — усё ў наяўнасці.

— Я заўтра ёй скажу,— гаворыць маці, маючы на ўвазе бабку Аўгінню.— Палохае дзіцё. Яшчэ якая хвароба прыкінецца.

Хвароба не прыкідаецца. Але Васю доўга сорамна за быка, якога ён убачыў у хаце каля печы. Петрык тым часам раззваніў пра здарэнне з быком на ўсю вуліцу, і хлопцы пакепліваюць з Васі.

З нецярпеннем Вася чакае вясны. Ён прадчуваў, што чаравікі парвуцца. Калі б нават не парваліся, усё адно Васю прымусілі б калыхаць Сяргея, сачыць за непаседлівым Петрыкам. Петрык пра сям'ю не думае і робіць тое, што яму падабаецца. Можа злізаць смятану з гладышыка, цалкам абдзёрці з бохана скарынку, пакрасці цукар, які бацька атрымлівае на паёк і кожны драбок якога маці дзеліць на некалькі чалавек.

Радасная хвіліна для Васі вынікае толькі тады, калі ў хату заскаквае Рудзька. Вася абнімаецца з сабакам, гладзіць, лашчыць яго. Сабака жыве ў будцы, трывае на холадзе, зашыўшыся ў збуцвелую салому. Вася трохі падкормлівае Рудзьку, але можна лічыць, што харч ён здабывае сам: з

раніцы аббягае ўсе памыйніцы і знаёмыя панадворкі. Сваім чорным халодным носам Рудзька добра чуе, у якім панадворку гаспадар рэжа ці коле жывіну. Калі і гэтага не хапае, каб напоўніць падцяты, заўсёды галодны жывот, Рудзька бяжыць за чыгунку. Туды, бывае, сцягваюць усялякую здыхляціну. Акрамя гэтага, Рудзька ўмее мышкаваць. Сядзіць на снезе, чуйна прыслухоўваючыся, як пад настам точаць норы мышы. Умомант Рудзька раскідвае лапамі снег, пасмяваючы сцяць зубамі неабачлівую мышку.

Вася баіцца за Рудзьку. Калі выходзяць бацькі, пускае ў хату, падкормлівае. Бо не толькі вандроўных, і гаспадарскіх сабак ловіць, закідваючы ім на шыі петлі, бліжні сусед Аркадзь Брыц. Задушыўшы, здзірае з сабак шкуры. Шмат усялякіх сабак, нават пародзістых аўчарак, губіць за зіму крыважэрны Брыц.

Бывае, гаспадары сабак, якія невядома куды зніклі, прыходзяць да Аркадзя сварыцца. Але што з яго возьмеш. Ён не вучыцца, нідзе не працуе, міліцыі не баіцца. Бандыт!

Брыц нават не закапвае трупы забітых, аблупленых сабак. Брыдкія, пачварныя, злёгку прысыпаныя снегам, яны ляжаць на канцах многіх агародаў.

Вясна прыбліжаецца. Дзень пабольшаў, сонца часцей заглядвае ў вокны, са стрэх павіслі сінявата-празрыстыя капяжы. Калі бліскучыя лядзяшыкі адрываюцца ад страхі і падаюць на дол, то звіняць, нібы шкляныя. Аднастайна, але прыемна, нараджаючы ціхую музыку, падаюць з уцалелых капяжоў кроплі.

Раўчукі бягуць па вуліцы, і Вася ўсё часцей выходзіць на двор. Ён спатыкаецца з Адамам, перамаўляецца аб розных навінах. Зрэшты, хлопцы робяць папяровыя караблікі і пускаюць па вадзе. Шкада, паперы мала. Летась Вася зрабіў караблік і пусціў у копанку. На караблік адразу села страказа. Яна была на ім нібы капітан. Потым страказа паляцела, і адразу на мачту сеў матыль. Матыль быў светла-жоўтага колеру, і Вася адразу ўгадаў, што лета будзе сонечнае. Бо каб было дажджлівае, то на караблік сеў бы рабы матыль. Лета і сапраўды было сонечнае і цёплае.

Адам таксама палавіну зімы не вылазіць з хаты. Па той прычыне, што хварэе. Яго трасе ліхаманка. Значыць, укусіў Адама малярыйны камар. Твар у Адама жоўты, нібы злеплены з воску. Ад ліхаманкі Адама лечаць парашкамі хіны. Вася ўзяў трошкі хіны на язык. Божа літасцівы, якая яна горкая! Як толькі трывае гэтую страшэнную гаркоту бедны Адам...

Вясной Адам пойдзе ў школу. Вася таксама збіраецца. Яму, праўда, яшчэ няма поўных васьмі гадоў, але ён даўно, ужо гады два або тры як навучыўся чытаць і лічыць. Шкада, кніжак няма. Маці прыносіць з малачарні, куды здае малако, розныя размаляваныя плакаты, і Вася іх чытае па некалькі разоў, затым складвае ў сундучок. У той самы, дзе ляжалі бацькавы кнігі, якія Вася, калі быў яшчэ малы і дурны, усе парваў.

Вечарам у Адамавай хаце збіраюцца мужчыны. Прыходзіць кандуктар Збароўскі, Сямён Брыц, бацька няўрымслівага Аркадзя, які забівае сабак, крывабокі Павел, ён жыве бабылём у нізенькай, з двума акенцамі хатцы, Іван Ляпіца, або Казёл, хата якога якраз насупраць Васевай хаты, і ён жанаты на Паўлавай сястры Мар’і.

Мужчыны гавораць пра рознае, часам нават пра вайну, і ў такія хвіліны Адам і Вася раты раскрываюць ад здзіўлення. Ім надзвычай падабаюцца розныя апавяданні пра вайну. Бо ў мястэчка, калі Адама і Васі яшчэ на свеце не было, прыходзілі немцы, пасля белапалякі, яго займаў чырвоны камандзір Стракапытаў, які потым перайшоў да белых, падняў паўстанне супраць савецкай улады. Рэзаў у мястэчку яўрэяў бандыт Булак-Балаховіч.

Вася разумее цяпер, чаму, капаючы зямлю, ён выкопвае самыя разнастайныя патроны: караткаватыя, тоўсценькія — рускія, вузейшыя, прадаўгаватыя — нямецкія, падобныя на іх французскія і англійскія. Французскія даўгастволыя вінтоўкі і англійскія карабіны мелі, аказваецца, белапалякі.

Вася з Адамам любяць знаходзіць патроны. З іх яны робяць падпаленкі і страляюць. У Васі ёсць самы сапраўдны штых, праўда, заржавелы, у Адама — затвор ад вінтоўкі. Сябры хочуць мець вінтоўку ці хоць наган. Кожнае лета яны ў розных месцах капаюць зямлю, каб знайсці зброю.

І вось ад Адамавага бацькі, дзядзькі Платона, Вася нарэшце чуе, што ягоны дзед Піліп пасля выгнання з мястэчка белапалякаў знайшоў і закапаў у зямлю кулямёт.

Мужчыны пасмейваюцца: заграбушчыя рукі ў дзеда Піліпа. Калі што-небудзь валяецца на зямлі і не мае гаспадара, то ён такую рэч не абміне, прыбярэ і схавае. Кулямёт дзеду не патрэбен, але ў ім шмат жалеза, значыць, у кузні можна перакаваць яго на якую-небудзь карысную рэч.

## VI

Вось і снег сагнала. На агародзе, на полі чорныя дрэвы, чорная зямля, якая здаецца Васю бездапаможнай, кволай і нібы прачынаецца ад цяжкага сну. Адно добра: цёпла, сонечна. Сям-там купкі зялёнай травы паказваюцца. Нават пад снегам не загінула трава.

Вася схадзіў на агарод, паглядзеў на яблыньку, якая, нібы сірацiна, прытулілася да апошняга хлява, на ланцужок сліў, якія растуць на мяжы Васевага і Адамавага агародаў.

У Адама ёсць сад і ў другога суседа — старога Свірыдзёнка — таксама сад у наяўнасці. У Васі — няма. Калі не лічыць пахілай яблынькі каля хлява і сліў на мяжы. Яблыкі на яблыньцы салодкія, але яны ніколі па-сапраўднаму не выспяваюць, бо іх, калі яны яшчэ толькі завязваюцца, зрывае і з'ядае Пятрок. Слівы, недаспелыя, таксама зялёныя, страшэнна кіслыя, хлопцы таксама абцярэбліваюць начыста.

Сад у дзеда Піліпа, а значыць, і ў Васі, як расказвае маці, быў. Было некалькі яблынь, сліў, вішань, груш. Сад знішчыла старая Бека, маці дзядзькі Платона. Бабку завуць Арынай, Бекай — дражняць. Нездарма Вася не любіць гэтую нізкую, прысадзістую, падобную на ступу бабку.

Сад нібыта пасадзіў прадзед Іван, бацька дзеда Піліпа. Ён быў на турэцкай вайне, прынёс адтуль баявы медаль. За верную службу казна нарэзала прадзеду Івану валоку зямлі.

Вось на гэтай валоцы і падняўся сад. Перад смерцю прадзед падзяліў маёмасць паміж сынамі. Сад дастаўся малодшаму сыну — дзеду Піліпу. Вось гэтага і не вытрымала зайздросная Бека, жонка старэйшага сына, брата дзеда Піліпа.

Наняла нейкага валацугу, і той за доўгую асеннюю ноч спілаваў сад да апошняга дрэўца.

У адзін з вясенніх вечароў Вася падступае да дзеда Піліпа.

— Пакажы, дзед, месца, дзе ты закапаў кулямёт.

— Ніякага кулямёта я не закопваў.

— Дзядзька Платон мужчынам гаварыў.

— Брэша твой Платон.

Дзед, вядома, праўды не скажа. Што ж, Вася сам пастараецца знайсці закапаны кулямёт. Бо дзед сапраўды валачэ ў двор усё, што трапіць пад руку. На гарышчы ягонай хаты ляжаць колы ад вайсковых фурманак, скруткі калючага дроту, чыгуначныя кастылі і гайкі, розныя шасцяронкі, безліч іншага жалезнага друзу. Але дзед не такі дурань, каб хаваць на гарышчы кулямёт.

З дзедавага багацця Вася пакуль што вывудзіў толькі жалезныя клешчы, пры дапамозе якіх лёгка ўзабрацца на самы высокі слуп. Дужа добрая рэч гэтыя клешчы. Ні ў кога з хлапцоў такой рэчы, вядома, няма.

Ваенная справа Васю проста захапляе, як і ўсіх хлопцаў з іхняй вуліцы. Таму пры кожным зручным моманце Вася распытвае дзеда Піліпа пра вайну.

— Дзед, няўжо нельга знайсці медаль, які твой бацька прынёс з турэцкай вайны?

— Дзе ты яго знойдзеш, унучак. Гадоў некалькі валяўся ў прыскрынку. Згубіўся.

— Залаты той медаль? Ці, можа, сярэбраны?

— Медны, унучак. Як царскі пятак. Была яшчэ да яго лентачка. Ды збуцвела. Нічога асаблівага сабой не ўяўляе.

Вася трохі засмучаны. Медаль прадзеда Івана ўяўляецца яму бліскучым, зіхатлівым, як якая-небудзь зорка.

— Чаму ты, дзед, не быў на вайне?

— Хай на яе ліха, на тую вайну, унучак. Нічога добрага там няма. Смерць, забойства. Хацелі на японскую вайну ўзяць, ды бацька, царства яму нябеснае, мяне выкупіў. Вялікаму начальніку руку пазалаціў.

Вася ўшчэнт расчараваны: ні дзед, ні бацька на вайне не былі. Бацька, праўда, служыў у войску, у кавалерыі, але тады, калі вайна ўжо скончылася.

— Раскажы, дзед, як германцы прыходзілі.

— Няма чаго расказваць, унучак. Скаціну забіралі, свіней, авечак. Праўда, плацілі. Але пайшлі яны — і маркі разам з імі пайшлі. Вось толькі адно добра: тратувар ад іх застаўся. Не хацелі, цёпкаючы па гразі, боты псаваць і прымусілі нас зрабіць тратувар.

Драўляны тратуар Вася ведае. Ён цягнецца ўздоўж усёй Савецкай вуліцы і яшчэ на Камсамольскую зварочвае.

— Хто старую царкву спаліў?

— Палякі, унучак.

— Так узялі дый спалілі?

— Стралялі па сяле. З гармат. Снарад трапіў у царкву, і яна згарэла.

Вася не хоча крыўдзіць дзеда, бо ў яго на языку пытанне пра Бога. Зрэшты, не вытрымлівае і пытае:

— Чаму Бог не ўратаваў царкву? Мог жа зрабіць так, каб снарад не разарваўся.

— Мы грэшныя людзі, унучак. Не можам гэтага знаць.

Так, лета — пара цудоўная. Вясны, лета — наогул цёплай пары — Вася чакае з нецярпеннем. Вялікія надзеі звязвае ён з летам.

Але пакуль яшчэ толькі Благавешчанне. На Благавешчанне прылятае бусел, але, бывае, нялёгка яму прыходзіцца. Бо і пасля Благавешчання часам узыграецца завіруха, засыпле снежнай крупкай балота, і стаіць тады замаркочаны бусел на купіне, грэючы па чарзе пад крылом то правую, то левую нагу.

Важным з’яўляецца вясновае свята Саракі. На Саракі трэба задумваць тое, чаго вельмі жадаеш, і каб жаданне спраўдзілася, кідаць трэскі на другі бок хлява. Трэба адначасова прыгаварваць: «Дай, Божа», «Памажы, Божа» і помніць, дзеля чаго якую трэску кідаеш.

У Васі многа планаў. Гэтым летам ён будзе пасвіць каня і займацца птушкамі. Да птушак у Васі прагная цікавасць. Да ўсіх, якіх ведае: вераб’ёў, сініц, чакунцоў, галак, варон, шызых галубоў і галубоў-туркалікаў, удодаў, жаваранкаў.

Шмат трэсак кінуў Вася праз хлеў у агарод старога Свірыдзёнка. Першыя тры трэскі замоўлены наконт закапана-

га дзедам Піліпам кулямёта. Дзе закапаны, якая глыбіня ямы, колькі дзён трэба чакаць, пакуль знойдзеш?..

Астатнія трэскі замоўлены наконт птушак. Колькі гнёздаў і якіх птушак Вася знойдзе? Кожная перакінутая праз хлеў трэска азначае асобную птушку.

Вася пералазіць праз паркан Свірыдзёнка. У ягоны агарод. Наконт кулямёта трэскі ляглі добра. Дзе дык проста трапілі адна на другую. Па ўсіх прыкметах знойдзе Вася кулямёт.

І наконт птушак трэскі зычаць удачу, бо адлегласць між імі не болей аднаго кроку...

Пра птушак Вася бясконца распытвае бацьку і дзеда Піліпа. Тым болей што бацька быў некалі паляўнічым, меў ружжо, страляў дзікіх качак, чыркоў, бекасаў. Але і хваробу з-за палявання набыў бацька. Седзячы ў балоце, прастудзіў ногі і захварэў на рэўматызм. Цяпер ён ходзіць, злёгку накульгваючы. Ружжо даўно прадаў: Вася яго ніколі не бачыў. Ён толькі ведае, што ў бацькі была бярданка.

Можа, з-за сваёй хваробы бацька нават гаварыць не хоча пра птушак.

Дзед таксама не надта ахвотна расказвае пра птахаў. Яны не выклікаюць у яго ніякай цікавасці. Вася тым часам аж гарыць, пачуўшы пра якую-небудзь новую птушку. Летась дзядзька Платон, які касіў сена на Далёкім Лядзе, мімаходзь паведаміў, што знайшоў гняздо жаўны. Пра жаўну Вася яшчэ нічога ніколі не чуў, не бачыў гэтай птушкі, таму адразу загарэўся. Чамусьці жаўна ўяўлялася вялікай і прыгожай. Вася некалькі дзён не даваў спакою Адаму, просячы, каб схадзіў з бацькам на Далёкае Ляда і ўведаў гняздо жаўны. Але Адам да птушак абыякавы і на Ляда з бацькам не пайшоў. Так і не ведае Вася, што за птушка жаўна, якія ў яе яйкі і ў якім месцы яна звівае сабе гняздо.

Што ж, пакуль што Вася будзе займацца кулямётам. Дзедава тайна авалодала ўсёй ягонай істотай. Вася будзе капаць хоць да скону дзён і абавязкова знойдзе кулямёт! Вось тады пабачаць хлопцы, які Вася чалавек. Бо — мусіць з горыччу прызнацца Вася — хлопцы яго зневажаюць. Асабліва старэйшыя — Аркадзь Брыц, які забівае сабак, Янка з каменнай будкі, кірнаты — з малымі вушамі — Павел. Белабрысы, з

аблупленым носам Аркадзь, дзе б Васю ні сустрэў, абавязкова дае штурхаля.

Вось і Вялікдзень наступіў. Хоць травы яшчэ няма і на дрэвах толькі набрынялі пукаўкі, але здаецца, што надышло сапраўднае лета. Свеціць сонца, дзень цёплы, нават спякотны, над Васевым дваром праляцеў белы матыль. Значыць, лета будзе гарачае, сонечнае.

Вася ідзе валачобнічаць. Напачатку заварочвае ў хату суседкі Свірыдзёнчыхі, якой маці мые бялізну. Высокая, худая, з праваленым ротам, Свірыдзёнчыха лічыцца жанчынай святога жыцця. Аднак Вася яе не любіць. Яна чэрствая, нібы драўляная. Можа, таму Вася, пераступіўшы парог нізенькай Свірыдзёнкавай хаты, памыляецца і гаворыць не тыя, што трэба, словы.

— Сус Хрыстос! — гаворыць Вася і адразу чырванее ад сораму; трэба было сказаць «Хрыстос уваскрос».

Свірыдзёнчыха, аднак, робіць выгляд, што сказана ўсё як трэба.

— Ваісціну ўваскрос! — адказвае яна і дае Васю рудаватае, пафарбаванае ў цыбульнай лусцэ яйка.

У другіх хатах Вася не памыляецца. Дамоў ідзе з поўнымі кішэнямі яек — чырвоных, сініх, нават блакітных: кожная гаспадыня фарбуе яйкі на свой густ.

У тым месцы, дзе жыве Вася, вуліца як бы разгаліноўваецца на дзве часткі. Адна лава хат ідзе ўлева, другая — управа, утвараючы пасярэдзіне зарослы муравой выган, які называецца — мусы. На мусах заўсёды штосьці шукаюць куры, павольна выдыбаюць, гергечучы, гусі, іншы раз нават свінні папасваюцца.

Цяпер на выгане хлопцы. Яны паспелі адвалачобнічаць і гуляюць у біткі.

— Ідзі сюды! — кліча Васю лахматы Ілля Кісель, якога з-за яго вялізнай галавы па-вулічнаму завуць Чыгун. Ілля намнога старэй малечы, якая цяпер сабралася на выгане, аднак добра сябруе з хлопцамі-падшывальцамі і ніколі нікога не крыўдзіць.

На вуліцы знаёмыя хлопцы, з якімі Вася гуляе ў «цуркі», «ялавога» і «кругавога». Тут Адам, Кузьма Поклад, Цімох

Стрыж, браты Шалудзькі — Іван і Шура, і яшчэ браты Мірон і Коля Угоднікі і іхні блізкі сусед Пятро Васьмярык. Апошнія трое жывуць каля Заброддзя.

— Налятай! — Кузьма Поклад выстаўляе Васю сціснутае ў кулаку яйка.— Толькі на маё яйцо мацак трэба. Іначай і не лезь.

Вася ведае: з Кузьмой гуляць нельга. Ён заўсёды махлярыць. Яйка праколвае, высасвае бялок, жаўток, затым залівае смалой. Такое яйка нават каменем не разаб’еш.

— Мацак на мацак,— гаворыць Вася.— Толькі я тваё зубамі пакаштую.

— У цябе зубоў няма,— рагоча Кузьма.— Кабыла выпердзела.

Так, Вася шчарбаты. Але справа не толькі ў гэтым. Год назад ён не даў вырваць верхні зуб, з-за гэтага вынікла бяда. Два пярэднія зубы выраслі неважнецкія: адзін залішне шырокі, другі — маленькі і крывы.

Вася яшчэ на леташні Вялікдзень навучыўся вызначаць, слабае яйка ці моцнае. Для гэтага, трымаючы яйкі ў адной руцэ, трэба папераменна ціхенька тукаць імі аб сцятыя зубы. Гук пакажа, якое яйка мацнейшае.

Кузьма працягвае Васю яйка.

— На, каштуй.

Залішне цяжкае яйка. Нібы камень. Канешне, Кузьма заліў у яго смалы.

— Гэтае біць не буду! — рашуча гаворыць Вася.— Давай другое.

Кузьме няёмка. Выцягвае з кішэні другое яйка. Вася старанна стукае ім аб зубы. Потым выстуквае сваё.

Кузьма так зашчаміў яйка ў кулаку, што відаць толькі маленькая шчылінка.

— Не буду біць,— зноў адмаўляецца Вася.— Як тут біць?

Кузьма трохі больш высоўвае яйка.

Вася б’е. Перамога! Кузьмова яйка трэскаецца.

Кузьма хавае бітку ў кішэню.

— Аддай малому яйка! — не вытрымлівае Ілля.— Ты чаго сюды прыйшоў? Дзяцей абіраць?

Кузьма ўсміхаецца.

— Да другога разу.

Ён падстаўляе заціснутае ў кулаку новае яйка. Вася зноў яго разбівае. І гэтае Кузьма хавае ў кішэню.

Тады Чыгун лямантуе на ўвесь выган:

— Аддай Васю яйкі! Інакш я табе ў каршэнь надаю.

Твар у Кузьмы робіцца бела-пунсовым.

— Да трэцяга разу.

Вася разбівае і трэцяе яйка.

Кузьма крута паварочвае, ідзе прэч. Дагнаўшы, Чыгун хапае Кузьму за каршэнь, дае каленам выспятка.

— Будзеш помніць. Не хочаш яйкі аддаваць, дык не гуляй.

Яшчэ раз пацвярджаецца: лахматы Ілля — добры чалавек. Ён заўсёды заступаецца за басоту.

## VII

У светлым, цёплым маі школа набірае першакласнікаў. Яны вучацца толькі дзён дзесяць: атрымліваюць лемантары, сшыткі, алоўкі, пер'і. Затым школа адпускае іх на канікулы да самай восені.

Вася марыць пра школу, асабліва пра той дзень, калі яму выдадуць падручнікі. Тады ўсе ўбачаць, як добра Вася ўмее чытаць. Але пакуль што ён ніякіх кніг не мае. У Васевым сундучку толькі напісаныя вялікімі літарамі плакаты, якія маці прыносіць з малачарні. Васю толькі сем гадоў і тры месяцы, але ён ідзе ў школу разам з Адамам, якому даўно споўнілася восем гадоў.

Ад пачатку Савецкай вуліцы, дзе Вася жыве, школа далекавата. На дзедавай хаце прыбіта шыльдачка з лічбінаю 3. У старога Свірыдзёнка хата пад першым нумарам. Каб дабрацца да школы, трэба прайсці доўгую Савецкую вуліцу, бадай, да палавіны, каля хаты пад 101-м нумарам завярнуць у вузкі гразкі правулак, які выводзіць да школы.

Прыгожая школа! Яна стаіць на пясчаным пагорку, атулена густымі кустамі бэзу і маладымі таполямі. Галоўны школьны будынак мае шмат вокнаў, два высокія ганкі, пафарбаваны ў цёмна-чырвоны колер жалезны дах. Знутры школа яшчэ прыгажэйшая. Доўгі калідор з пафарбаванай гэтак жа, як дах,

падлогай, белымі дзвярамі, якія вядуць у класы, застаўленыя чорнымі партамі. А якія дзівосы ў класах! На сцяне вісіць чорная дошка, на якой пішуць белай крэйдай, стаяць шкапы з кнігамі. У адным з пакояў — Вася зазірнуў туды — прытуліўся ў кутку чалавечы шкілет, за шклом у шкапах заспіртаваная ў шкляным слоіку гадзюка, чучалы розных птушак, на драўляных падстаўках套 рознае засушанае лісце. Яно называецца — гербарый.

З радасным бляскам у вачах вандруе Вася з класа ў клас. Якое вялікае цуда — школа, і які дзівосны свет яна адкрывае!

Звініць званок. Вася з Адамам садзяцца за парты ў першым класе. Чытаючы па спіску прозвішчы вучняў, маладая прыгожая настаўніца, якую завуць Галіна Аляксандраўна, Адама выклікае, а Васю — не. Тады Вася ўстае сам, называе сваё прозвішча.

— Цябе ў спісках няма,— гаворыць настаўніца.— Ты яшчэ малы.

— Мне сем гадоў і тры месяцы.

— Трэба каб было восем. Прыйдзеш на будучы год.

— Мне тады будзе болей як восем гадоў. Я ўжо стану стары.

Басаногія навічкі, якія сядзяць за партамі, гучна рагочуць.

— Садзіся і не зрывай урок,— ужо з дакорам гаворыць настаўніца.

Вася ледзь не плача.

— Я ўмею чытаць і лічыць,— настойвае ён на сваім.— Хоць да мільёна магу лічыць.

Тым часам настаўніца яго не слухае.

Вася яшчэ некалькі дзён прыходзіць. Думае: настаўніца запіша яго ў школу вучнем. Але яна Васю не выклікае, нават не звяртае на яго ўвагі, і ён перастае прыходзіць.

Дрэвы ўжо зялёныя. Нават дуб пціху распускае кволае лісце. Вася водзіць каня на пашу. Гняды яго добра слухаецца. Проста сесці на Гнядога Вася яшчэ не можа. Ён падводзіць каня да паркана і ўжо з паркана ўзбіраецца на спіну каня.

На Блізкім Лядзе мноства дубовых пнёў. На іх, ківаючы доўгімі хвосцікамі, пераважна сядзяць пліскі. Бывае, чакунец звівае гняздо ў пні, які мае дупло.

Вася кожны дзень вядзе росшукі птушыных гнёздаў. Два гнязды Вася разведаў: сініцы і чакунца. Тым часам не такія рэдкія гэта птушкі. Кожны год Вася натыкаецца на іх гнёзды. Пра вераб'ёў нават гаварыць няма чаго. У Адамавай хаце, якая мае франтон, чарапічны дах, вераб'і віюць тры ці нават чатыры гнязды адразу.

У сініцы яечкі маленькія, сіненькія-сіненькія, іх бывае сем ці восем штук. Яйкі ў чакунца светла-блакітныя, іх трохі менш — шэсць ці сем. Столькі ж шэра-рабенькіх яек нясе верабей. Выводзяцца вераб'і два ці тры разы на год.

Вася марыць разведаць гнёзды больш знатных птушак: голуба, жаваранка, той самай жаўны.

Пакуль што ён шастае на дрывяны склад, на станцыю, дзе складзены ў стусы бярвенні. У асінавых, альховых, нават дубовых бярвеннях сарцавіна часам выгнівае, і ў пустых адтулінах мосцяць гнёзды птушкі. Не ў кожным бервяне, вядома. Трэба добра пашастаць, палазіць, паназіраць, каб разведаць гняздо нават звычайнай птушкі: сініцы ці шчыгла.

Вася дня не можа пражыць, каб не збегаць на дрывяны склад, не паглядзець, як жывуць птушкі, гнёзды якіх ён разведаў. Гняздо сініцы ў альховым дупле, чакунца — у дубовым. Не, Вася лішне не назаляе птушкам. Ён толькі глядзіць, ці прыбавілася яйка ў гняздзе і ці не павадзіўся да птушак які-небудзь шкоднік. Бо былі выпадкі, калі птушкі нават ад уласных яек адмаўляліся. Бо Вася ім залішне назаляў. Мацаў гняздо тры-чатыры разы на дзень. Цяпер ён так не робіць.

Вася — летуценнік. Ён заўсёды пра што-небудзь марыць. Таго, пра што Вася думае, яшчэ няма, можа, нават ніколі не будзе на свеце, але гэта не перашкаджае Васю маляваць бясконцыя прыгожыя карціны і самога сябе ўяўляць у розных выдатных становішчах.

Вася трохі пакрыўджан на школу, на прыгожую настаўніцу Галіну Аляксандраўну. Ён добра ўмее чытаць і лічыць, а яго не запісалі ў школу. Хіба гэта справядліва? Вася тры дні хадзіў у першы клас і ведае, што большая палавіна вучняў нават літар не ведае.

Адам узычыў Васю лемантар. Вася прачытаў яго ўвесь за дзень. Крыўда на настаўніцу трохі развеялася. Васю ў

першым класе трэба будзе толькі пісаць навучыцца. Нічога асабліва цікавага ў лемантары не знаходзіць. Бэкаюць па складах першакласнікі, складаючы такія словы, як: мама, тата. Падумаеш, дасягненне!

Адам гаворыць, што ў другой палове года першакласнікам выдадуць кнігу-чытанку, у якой змешчана вельмі многа цікавых гісторый. Вася загадзя смакуе тыя, яшчэ не прачытаныя гісторыі, бо Адам і чытанку абяцаў яму даць, як толькі атрымае сам.

Вася пасвіць сваю і дзедаву свінню. На выгане заўсёды збіраецца хлапечая талака: Адам, Шура Шалудзька, Кузьма Поклад і яшчэ некалькі хлопцаў.

Дзіўна паводзіць сябе Адам. Адзін на адзін з Васем ён найлепшы сябар, але пры другіх хлопцах як бы ад Васі аддаляецца. Калі хлопцы падколваюць ці абражаюць Васю, смяецца разам з усімі. Васю крыўдна. Бываюць дні, калі ён наогул ні з кім не гуляе. У розных кутках двара ён будуе сабе хаткі, раскладваючы рэчы, якія мае.

Толькі мала ў Васі цікавых рэчаў. Прыгожая бутэлечка з сіняга шкла, кавалак меднага дроту, два патроны з кулямі — рускі і нямецкі. Галоўныя рэчы, якімі асабліва ганарыцца Вася,— заржавелы штых і клешчы, з якімі можна ўзлезці на самы вялікі слуп. Іх Вася хавае асобна, бо штых і клешчы хлопцы могуць украсці. Петрык, які суне свой чырвоны, аблузаны нос у Васевы справы, нават паспрыяе ім у гэтым.

З-за шчарбіны, крывога зуба Вася лічыць сябе дужа непрыгожым. На самога сябе ён даўно махнуў рукой. Суцяшаецца тым, што на свеце жывуць розныя людзі: прыгожыя, непрыгожыя, гарбатыя, сляпыя. Як, напрыклад, крывы Якаў, якога ахвотна прывячае бабка Аўгіння. Якаў звычайна паяўляецца ў дзедавай хаце, калі пачынае падаць снег, і сядзіць на падлозе каля прыпечка, падаслаўшы дзяружку. На гэтай дзяружцы і спіць, акрыўшыся кажухом. У Якава, нібы вераўчаны вузел, скручаны ногі, і ён перасоўваецца, апіраючыся на рукі і гэтыя скручаныя ногі. Пісклявым голасам, нібы плачучы, Якаў увесь час скардзіцца на жыццё, просіць у Бога смерці, але добра, са смакам есць усё, што б ні далі,— халодны блінец, бульбу ў лупінах, кіслую капусту з грыбамі губякамі.

Пасядзеўшы месяц, Якаў перабіраецца ў другую хату, куды яго пускаюць пажыць. Напрадвесні ён будзе зноў у дзедавай хаце.

Бабка Аўгіння наогул ахвотна пускае ў хату старцоў з лерамі, розных іншых вандроўных людзей, асабліва тых, якія ўмеюць цікава расказваць пра ўбачанае на свеце. Нават крышана сала не пашкадуе бабка, калі чалавек хораша і захапляльна расказвае пра дзівосы жыцця і свае ўласныя прыгоды. Дзед, акрыўшыся кажухом, спіць на печы, а бабка, палячы на прыпечку смалякі, слухае гісторыі вандроўнікаў.

Бабка і сама вельмі някепска ўмее плесці розныя гісторыі. Асабліва пра людзей, якіх не любіць. Такое пра чалавека выдумае, што хоць у кніжку змяшчай. Расказвае бабка на розныя галасы, і галасы знаёмых людзей умее падбіраць. Чысты спектакль. Слухаючы бабку, суседзі аж за жываты хапаюцца.

Жыхарам вуліцы бабка прыдумвае мянушкі. Такія трапныя, што яны прыжываюцца. Сёй-той нават крыўдуе на бабку Аўгінню, але яна не зважае...

Васю, вядома, непрыемна, што ён непрыгожы. Марыць Вася: знойдзе калі-небудзь паску бліскучай, залатой бляхі і прыладзіць на крываваты зуб. Тады людзі падумаюць, што зуб у Васі залаты.

Дзіўная рэч. Старэйшыя дзяўчаты, якіх называюць нявестамі, часта ловяць Васю, мілуюць і цалуюць. Значыць, не такі ўжо ён непрыгожы.

Асабліва лашчыць Васю тэлеграфістка Надзя Верасянка, дачка пуцявога абходчыка Ёсіпа Вераса, павольнага, насмешлівага і разам з тым страшэнна руплівага чалавека. Гэты Ёсіп, скончыўшы дзённае дзяжурства, нанач ідзе касіць. Ён і мусы, дзе хлопцы пасвяць свіней, выкашвае. Косіць рамонкі, конскі шчавель, розныя калючыя дзяды, затым зграбае і ношкамі носіць у хлеў на подсціл жывёле.

Надзю бацькі вельмі далікацяць. Шыюць ёй прыгожыя сукенкі, апранаюць як ляльку. Надзя і сямігодку скончыла, чытае розныя кніжкі.

Заўважыўшы Васю, не зважаючы, што бачаць і чуюць пабочныя людзі, Надзя прамаўляе:

— Вось мой жанішок ідзе...

І стараецца злавіць Васю...

Яму гэта непрыемна. Хіба такія словы гавораць пры сведках?

Пасвячы на выгане свіней, Вася штодзень дазнаецца шмат цікавага і проста дзівоснага. Незвычайныя гісторыі па чарзе расказваюць хлопцы. Гісторыі гэтыя датычаць усяго на свеце: нячыстай сілы, ваўкоў, ведзьмароў, маланкі і грому, чыгункі, якая пралягае паблізу, аэрапланаў, якія зрэдку пралятаюць над мястэчкам, і трактароў, якіх у мястэчку яшчэ ніхто не бачыў. Іх толькі зрэдку правозяць на чыгуначных платформах.

Ілля Кісель, які на выгане фактычна кіруе хлопцамі, дзівосных гісторый не расказвае, але яго таксама цікава слухаць.

Ілля шмат ведае пра розныя травы, бубачкі і насенне, якое на іх вырастае, пра карэньчыкі траў, пра розныя ягады, галоўнае, пра тое, што можна есці і што есці нельга.

Свет, на думку Васі, багаты. Нават тут, на выгане ці ля насыпу чыгункі, шмат ядомых траў. Расце шыракалісты і дзікі, вузкалісты шчавель, гусіная лапка, зялёныя галоўкі якой маюць прыемны смак, зайцава цыбуля. Падарожнік, якога колькі хочаш на выгане, добра зацягвае рану, калі праколеш нагу, парэжаш палец. Ад укусу змяі лечыць гадзючнік. Ён расце на насыпе чыгункі і проста па мясцінах, дзе шмат гліны і пяску. Цвіце сінім цветам.

Многім карысным рэчам навучае малечу Ілля. Ён забараняе браць у рукі жаб, бо ад іх нарастаюць на руках барадаўкі. Нельга спорваць ластаўчыныя гнёзды ў падстрэшшы хлявоў, гумнаў, бо пойдуць па твары вяснянкі ці нават рабацінне. Таму, хто адважыцца пабраць бусліныя яйкі ці з’есці бусляня, кара найстрашнейшая: такога чалавека абавязкова заб’е маланка.

Меншы брат Іллі, смяшлівы, трохі хваравіты Мікалай, захапляецца зброяй. Ён майструе выдатныя лукі, якія хлопцы між сабой называюць дужкамі. Змайстраваць дужку можа кожны: трэба зрэзаць малады дубок, расшчапіць, сагнуць, абвязаўшы канцы шпагатам. Нацягвай лук, прыладжвай стралу, выходзь на паляванне.

У Мікалая лук адмысловы. Ён прырабіў да дужкі гонтавую дошчачку і стрэлы кладзе ў яе прораз. Таму ён прыцэльна страляе з лука.

Вася на ўласныя вочы бачыў, як Мікалай стралой з лука трапіў нават у тоненькую ножку вераб'я.

Прыгожыя вясновыя і летнія вечары на выгане. Сонца даўно зайшло за далёкі лес, і толькі край неба за бліжняй чарадой аблок палымнее барвовай чырванню. Свіней хлопцы даўно пазаганялі ў двары, ужо і статак вярнуўся з пашы. Над вуліцай вісіць густы пыл, паступова асядаючы.

Хлопцы расказваюць па чарзе казкі або розныя гісторыі.

У наваколлі пануе светла-шэрая празрыстасць, і можна яшчэ доўга, пакуль не павісне на небе срабрысты боханчык месяца, слухаць пра дзівосы, якімі поўніцца свет.

## VIII

Звініць вячэрняя местачковая вуліца пераможнымі дзіцячымі галасамі. Яна пачынае па-асабліваму звінець, калі тых, хто ўжо ходзіць у школу, адпускаюць на канікулы. За доўгую восень і зіму насядзеліся хлопцы за цеснымі партамі і цяпер прагнуць волі і прастору.

Гульня ў «ялавога», «кругавога», нават у звычайныя «цуркі» — гэта ўсё гульні ў перамогу. Перамагае спрытнейшы, хітрэйшы, разумнейшы.

Вася найбольш любіць гуляць у «кругавога». Пасярэдзіне пылкай вуліцы вымалёўваецца вялікі круг. Унутры круга выдыбае адна каманда, наўзбоч — другая. Мяч у каго-небудзь з хлопцаў, якія ходзяць па-за кругам. Важна пацэліць мячом у таго, хто ўнутры круга, і паспець разбегчыся.

Васю рэдка давяраюць мяч, але калі давяраюць, то ён стараецца біць без промаху. Можа, таму, што ён яшчэ малы, і тыя, што ў крузе, проста не вераць, што гэткаму шкету могуць даць мяч.

Засунуўшы рукі ў кішэні, Вася тры ці чатыры разы праходзіць па крузе, нічым не выяўляючы, што мяч у ягоных руках. Некаторыя хлопцы проста выскаляюцца, не адчуваючы небяспекі, ушчыльную падступаюць да Васі. Маўляў, бі, чаго

марудзіш? І Вася без промаху б'е. Бывае, пасля гэтага яму зноў даюць мяч. Сэнс гульні ў тым, каб увесці ў зман, збіць з тропу каманду праціўніка.

Гульня ў «кругавога» Васю дужа падабаецца. Каб можна было, ён бы з раніцы да вечара гуляў у «кругавога».

Пасвячы свіней, хлопцы найчасцей гуляюць у нож. Уласнага ножыка ў Васі няма, няма як напрактыкавацца, і ад гэтага вынікаюць непрыемнасці. Ножык-складанчык трэба так кінуць, каб ён, перакруціўшыся ў паветры, трапіў у зямлю лязом. У Васі нож найчасцей кладзецца плашмя. Пагэтаму яму вельмі часта трэба выцягваць зубамі калочкі, якія хлопцы забіваюць у зямлю. Выцягваць калочкі перашкаджае шчарбінка. Хлопцы дражняцца і як могуць падколваюць Васю.

Выбаўляе Васю ад згрызот і пакут Рудзька. У тыя дні, калі не бяжыць за возам дзеда Піліпа і застаецца дома, Рудзька шчыра, самаахвярна служыць Васю. З Рудзькам Вася бегае на Гарадзінку вышукваць гнёзды кнігавак, пекураў, кулікоў. Як ні дзіўна, на Гарадзінку шастае таксама кот Мікіта. Рудзька і Мікіта — кожны паасобку — навучыліся нават рыбу лавіць. Сажалкі, што прылягаюць да балота, летам высыхаюць. Вада застаецца толькі на дне. Вось гэты момант выкарыстоўваюць хітрыя Рудзька і Мікіта. Рудзька наядаецца рыбы на месцы і ад вялікага задавальнення, нібы маторам, круціць сваім хвастом-абаранкам. Тым часам Мікіта па сваім кацінным звычаі прыносіць у зубах рыбу ў хату. У ахвоту з ёю, як з мышшу, гуляе і, толькі нагуляўшыся, з'ядае.

Дзед Піліп, пабачыўшы аднойчы Васю з запэцканым зямлёй ротам і зразумеўшы, у чым справа, майструе ўнуку ножык. Вядома, самадзельным ножыкам з драўляным тронкам перад хлопцамі надта не выхвалішся. Але Вася ўсё адно рады. Вялікая справа — уласны ножык! Цяпер Вася нікога і нічога не баіцца і можа зрабіць, што хто захоча. Ён бегае на Гарадзінку, вырэзвае балотныя дудкі і робіць з іх свісцёлкі. Найлепшыя свісцёлкі з вербалозу. Але іх трэба рабіць вясной. Калі пад карой многа соку. Трэба абавязкова дачакацца наступнай вясны і не зламаць ножык.

Хлопцы амаль штодня крыўдзяць Васю, не надта вераць гісторыям, якія ён расказвае, і наогул ставяць яго невысока. Вася нарэшце ўспамінае пра закапаны дзедам кулямёт. Каб толькі знайсці яго! Думка пра кулямёт захоплівае ўсю Васеву істоту. Ён адчувае: кулямёт надасць яму сапраўднай вагі. Цяпер хлопцы глядзяць на яго звысака, але ўсё пераменіцца, як толькі Вася завалодае кулямётам. Пачнецца зусім іншае жыццё. Нават Янка з будкі і Кузьма Поклад будуць набівацца на дружбу.

Вася капае ямкі ў розных канцах двара. Зайздросны, хітры Петрык цікуе за ім, спадзеючыся ўбачыць што-небудзь незвычайнае. Але нічога асаблівага Вася не знаходзіць: асклепак тоўстага зялёнага шкла, кавалак цэглы, якую-небудзь жалязяку. Гэта паказвае толькі, што на месцы Васевага двара людзі жывуць даўно. Бо, капаючы ямку на выгане, зусім нічога не ўбачыш. За пластом дзёрну пачынаецца тонкая скарынка шэразёму, за ім — глей, пясок, гліна.

Петрык нарэшце адвязваецца ад Васі. Вася пераносіць раскопкі на мяжу агарода. У адным месцы капае, у другім, трэцім. Нічога няма. Васю ахоплівае адчай.

З хлопцаў, якія забаўляюцца на выгане, першы да Васі падыходзіць Адам.

— Навошта ямкі капаеш? — пытае ў Васі.

— Так сабе. Думаю што-небудзь знайсці.

— Можа, дзедаў кулямёт?

— Можа, кулямёт.

— Давай і я пакапаю.

— Прыходзь з рыдлёўкай.

Удвух работа лепей ладзіцца. Сябры не толькі капаюць, але пачынаюць раздумваць, дзе мог схаваць дзед Піліп нямецкі ці белапольскі кулямёт. Нарэшце вырашаюць, што ні ў двары, ні на мяжы агарода кулямёт шукаць не варта. Кулямёт — зброя, за зброю трэба адказваць. Не такі дзед дурны, каб хаваць зброю на агародзе ці ў двары.

Пахілае дзедава гумно з саламяным, парослым зялёным мохам дахам, задняй сцяной, у якой, як і ў пярэдняй, прарэзаны вароты, выходзіць да чыгункі. Вузкім рогам агарод дзеда Піліпа як бы ўпіраецца ў тупіковыя пуці. На канцах пуцей,

каб вагоны не сышлі з рэек, насыпаны два пясчаныя курганкі. Абкладзеныя дзёрнам, густа ўтравелыя, гэтыя курганкі аддзяляюцца ад дзедавага агарода глыбокім ровам, які, відаць, і ўтварыўся ад таго, што бралі адсюль зямлю, каб насыпаць гэтыя самыя тупіковыя курганкі.

Назаўтра Вася з Адамам пачынаюць капаць у рове. Але ці то Адам прагаварыўся, ці самі хлопцы з канца Савецкай вуліцы заўважылі штосьці незвычайнае ў паводзінах Адама і Васі, але да тупіковых пуцей адзін за адным падыходзяць з рыдлёўкамі ў руках Коля Кісель, Кузьма Поклад, Пеця Кірнач. Цімох, якога перавялі ў другі клас, спачатку з'яўляецца з голымі рукамі, затым, нібы апомніўшыся, кідаецца праз агарод у свой двор і вяртаецца з рыдлёўкай.

Ад задавальнення, гордасці Вася на сёмым небе. Нават некаторыя хлопцы-школьнікі прыйшлі да яго. Вася не вытрымлівае і расказвае хлопцам пра закапаны дзедам кулямёт.

Ліхаманкава ідзе работа ў рове. З-пад рыдлёвак ляцяць кавалкі дзёрну, зляжалае кам'ё, пасмы жоўтага, перамешанага з зямлёй пяску. Калі зямля змяшана, то тут, значыць, ужо нехта капаў. Нарэшце рыдлёўка Колі Кісяля натыкаецца на штосьці жалезнае.

— Ёсць! — крычыць Коля.— Кулямёт...

З-пад зямлі тырчыць жалезны кружок.

— Цягні! — лямантуюць хлопцы, не помнячы сябе ад радасці.

Тры пары рук памагаюць Колю. Нарэшце жалезіна выцягнута, і з хлапечых грудзей вырываецца ўздых расчаравання: выкапалі вагонную буксу. Колькі хочаш такіх буксаў валяецца каля закопчанага паравознага дэпо па ўсходні бок станцыі.

Тэмп работы зніжаецца, але яна пакуль яшчэ прыносіць хлопцам інтарэс. Раз за разам трапляюць розныя жалезіны: кастылі, гайкі, балты.

Першы кідае рыдлёўку Кузьма.

— Дурны твой дзед! — крычыць Васю.— Закопвае ўсялякую дрэнь. Хіба нам кастылёў ці гаек не хапае?

За Васю заступаецца Коля Чыгун.

— Можа, дзед нічога не закопваў,— гаворыць разважліва.— Можа, сюды проста накідалі жалязяк з чыгункі.

Пасля Колевых слоў справа пачынае здавацца такой яснай, што хлопцы імгненна ўскідваюць на плечы рыдлёўкі, кіруюць прэч. Нават рагочуць па дарозе. Васева сэрца абліваецца крывёю. Ён не зваў хлопцаў у гэтую канаву, нічога ім не абяцаў, тым часам яны над ім пасміхаюцца. Цяпер Вася, бадай, цэлае лета будзе лічыцца вінаватым, і ніхто не паверыць ні аднаму яго слову.

Застаюцца на ўскрайку агарода Вася, Адам і яшчэ Пеця Кірнач.

— Я ўсё адно буду капаць,— гаворыць Пеця.— Мы з Паўлам тачку робім. То гайкі трэба. Я хачу шворань выкапаць.

Павел — старэйшы брат Пеці. Ён завадатар хлопцаў усяго канца вуліцы. Ілля Чыгун сябруе з малечай, падбадзёрвае, вучыць, нават абараняе яе. Павел на такіх, як Вася і Адам, не звяртае ніякай увагі. У грош іх не ставіць. Як бы іх зусім няма на свеце.

Аднак хлопцы, можна сказаць, добраахвотна падпарадкоўваюцца Паўлу. Бо ён дужы і злосны. Калі Паўлу хто не дагодзіць, то ён тады проста шалее ад злосці, а на ягоных губах, як у зацугленага каня, выступае пена.

Пеця сапраўды складае выкапаныя гайкі, балты ў асобную кучку. Пад вечар яму незвычайна шанцуе. Ён выкопвае колца, пры дапамозе якога дзверы ў таварным вагоне адчыняюцца і зачыняюцца. Вася радуецца: Пеця пахваліцца сваёй знаходкай хлопцам, і Васева ганьба такім чынам як бы зменшыцца.

Назаўтра на агарод Вася прыходзіць адзін. Ён засмучаны, прыгнечаны. Хіба ён каго зваў адкопваць кулямёт? Нават Адам набіўся сам. А сёння Адам нават у Васеў двор не зазірнуў. Скача па вуліцы з хлопцамі і рагоча. Няхай рагоча...

## IX

Наступае жніўная пара. Бацькава поле — малыя, вузкія палоскі ў розных урочышчах, размешчаных вакол мястэчка. Жыта пасеяна на Выбедзі, Рогаўцы і іншых мясцінах. Спачатку едуць жаць жыта на Выбедзь.

Каб трапіць на Выбедзь, трэба з канца ў канец праехаць усю доўгую — вёрст на пяць ці нават шэсць — Савецкую вуліцу, якую Вася ведае толькі да палавіны. Ён звычайна даходзіць толькі да пыльнай базарнай плошчы, вакол якой размешчаны царква, старая школа і сельсавет.

Калі Вася хадзіў запісвацца ў школу, сягнуў далей — да маста, за якім некалі стаяла старая царква, што згарэла ў польскую вайну. Але і за старой царквой доўга яшчэ цягнецца Савецкая вуліца. Шмат хат старых, пахілых, непрывабных з выгляду. Адзін дом, аднак, зварачае на сябе ўвагу. Ён складзен з дроў і абмазан глінай. Гліна трохі адлупілася, і дровы тырчаць як рэбры.

У гэтай невядомай Васю палавіне Савецкай вуліцы ёсць яшчэ адна школа — доўгі, ахайны, пафарбаваны ў жоўты колер будынак з жалезным дахам. Але гэтая школа пачатковая: тут сканчваюць чатыры класы. Гэтая частка вуліцы называецца Брылі. Можа, таму, што ледзь не ў кожным двары жыве які-небудзь Брыль. Акрамя пачатковай школы на Брылях размешчана крама-манаполька. Дзіўна: у краме-манапольцы прадаюць адну толькі гарэлку, і ўся яна — ад падлогі да столі — застаўлена драўлянымі скрынкамі з белагаловымі пляшкамі.

Выбедзь — пясчаны пагорак, наўсцяж засеяны жытам. Малюнак прыгожы: нават пад лёгкім ветрам лава жыта ўгінаецца і, здаецца, на полі перакатваюцца срабрыста-светлыя хвалі.

Бацька распрагае каня, маці вешае пад таганы калыску, у якой будзе спаць Сяргей, акрывае таганы радняным полагам. На абавязку Васі глядзець каня і калыхаць Сяргея. Сяргей добра поўзае па хаце, але маці яшчэ не адняла яго ад грудзей, і ён калі захоча есці, то пачынае плакаць.

Маці пачынае жаць жыта. Захватваючы левай рукой сухія жытнія сцяблiны, правай падразае іх. У некалькіх мясцінах жытнёвага разліву мільгаюць сярпы іншых жанок, галовы якіх павязаны белымі і сінімі хусцінкамі. Відовішча прыгожае.

Нажаўшы сноп, маці робіць з жытніх сцяблін перавясла і абвязвае ім сноп. Бацька зносіць снапы ў бабкі.

Вася, пакуль Сяргей спіць, у ахвоту збірае валошкі, якіх шмат у жыце. Ён любіць гэтыя валошкі-васількі і шкадуе, што на сонцы яны хутка завянуць. Растуць па жытнішчы і кветкі з пушыстымі галоўкамі: іх называюць авечачкі.

Петрык гойсае па жытнішчы за матылямі. Іх шмат на полі: белых, жоўтых, з чырвонымі крылцамі, на якіх прабіваюцца чорныя крапінкі.

На Выбедзі, на самай седлавіне пагорка, узвышаецца драўляны маяк. Аж галава кружыцца, калі глядзіш на яго верх: дзесяць ці нават болей лесвіц віюцца ад пралёта да пралёта. Вася лічыць: калі ўзлезці на самую макаўку маяка і мець у руках доўгую жэрдку, то можна лёгка дастаць неба.

Вася любіць вышыню. Ён ледзь не кожны дзень сягае на гарышча, на дах хаты, сеўшы на вільчык, спіной да коміна, назірае з вышыні, што робіцца на вуліцы, у дварах. Але лезці на маяк Вася баіцца. Страшэнная вышыня. Да першай перакладзіны ён, можа б, і дабраўся, але вышэй не адважыцца. Дый маці падыме лямант.

Сонца пачынае прыпякаць. Вася хаваецца ў цянёк, пад калёсы. Лета што трэба. Вася любіць лета, вось такія цёплыя сонечныя дні, якія часам перарываюцца імклівымі дажджамі-ліўнямі і навальніцамі. І ніколечкі Вася не баіцца грому і маланак. Ён нават радуецца, калі ўсчынаецца навальніца.

У поўдзень, у млявую гарачыню незвычайна звонка дае пра сябе знаць курыца, якая толькі што знесла яйка. Саскочыўшы з седала, яна так зычна, галасіста кудахча, што, здаецца, пахваляецца бог ведае якой перамогай.

Не ўсе куры нясуцца на седале. Ёсць адна ці дзве, якія кладуць яйкі ў крапіве пад Адамавай хатай. Але ўсё адно, знёсшы яйка, куры пераможна кудахчуць, і маці пасылае Васю шукаць згубленыя яйкі.

Звычайна ў летнюю гарачыню маці завешвае вокны пасцілкамі ці дзяружкамі. У хаце тады пануе прыемны паўзмрок, прахалода. Чутно, як звіняць мухі, як зумкае за акном разамлелы чмель, грозна гудзе шэршань, імкнучыся залезці ў якую-небудзь дзірку.

Тут, на полі, іншая карціна. На небе ні хмурынкі. Дзіўна прыгожы блакіт над галавой. На ўсім бачным прасторы толькі гэты блакіт ды гарачы, асляпляльны сонечны шар, на які нават не зірнеш. Спёка невыносная. Вася нічога не робіць і то спацееў.

Вася шкадуе маці. Яна на самым санцапёку: то згінаецца, то разгінаецца. Зжала ўжо прыкметную палоску. Вася бярэ збанок з вадой, ідзе да маці. Яна мочыць вадой засмяглыя вусны, робіць некалькі глыткоў.

— Я буду памагаць бацьку снапы насіць,— гаворыць Вася.

— Бацька адзін справіцца. Глядзі Сяргея.

На полі адчайны крык. Лямантуе Петрык:

— Вуж!.. Вуж паўзе...

Вася, колючы ногі аб іржышча, бяжыць да брата. Збялелы Петрык, калоцячыся як асінавы ліст, паказвае на разамлелую яшчарку, якая ляжыць на камені і нібы падрыгвае сваёй неспакойна-пераліўчатай скурай-луской.

— Дурань ты. Гэта яшчарка. Яна не кусаецца. Хочаш, наступлю на яе нагой, і яна адкіне хвост.

Вася робіць спробу наступіць на яшчарку, але яна імкліва саслізгвае з каменя, знікае ўмомант у іржышчы.

Маці заўсёды бярэ Васю з сабой, калі жне жыта. Таму ён добра ведае, што на полі водзіцца. Ні вужа, ні гадзюкі тут не ўбачыш. Вясной, калі жыта толькі падымаецца ад зямлі, у ім можа звіць гняздзечка жаўранак. Вася знайшоў аднойчы жытло гэтай пявучай птушкі. Круглае пустое гняздзечка ляжала на самай зямлі. Птушаняты паспелі вывесціся і разляцецца.

У сярэдзіне лета, калі жытнія каласы толькі наліваюцца, ледзь не на кожнай сцябліне поўзаюць жукі-кузькі. Яны бяскрыўдныя і нічога кепскага не робяць. Цяпер на полі шмат божых каровак. У мястэчку кароўку-жучка з чорнымі крапінкамі на чырвоных крыльцах завуць Пятро. Вася любіць Пятра. Ледзь казычучы скуру, ён паўзе па далоні, дабраўшыся да вялікага пальца, распрамляе крыльцы і адлятае. Гэта добрая прыкмета. Знайшоўшы жучка, трэба абавязкова яго выпускаць. Лічыцца: таму, хто яго пусціў са сваіх далоняў, Пятро абавязкова зробіць што-небудзь добрае.

Вася раз-пораз бегае да Гнядога — так завуць каня,— які пасвіцца на зялёнай лугавіне, размешчанай унізе, ля падножжа пясчанага пагорка, па дарозе ён ловіць стракоз, пужае тлустых шпакоў, якія павыляталі са сваіх гнёздаў і сама жыруюць на полі. Хутка яны паляцяць у вырай і набіраюцца на дарогу сілы.

Калі сонца трохі паварочвае на схіл, маці з бацькам ідуць да калёс. У іх расчырванелыя, успатнелыя твары, засмяглыя вусны. У маці з-пад белай хусткі выбіваюцца пасмачкі русявых мокрых валасоў.

Маці дае грудзей Сяргею, перад бацькам, Васем і Петрыкам рассцілае белы палатняны ручнік з полуднем. На полудзень хлеб, цыбуля, салёныя гуркі, малы кавалачак ёлкага сала, збан прастаквашы і дзве бутэлькі салодкага малака.

Які смачны на полі хлеб з салодкім цеплаватым малаком! Здаецца, нічога лепшага Вася не еў за ўсё жыццё. Дый не трэба лепшае.

Маці нажала аж чатыры мэндлікі жыта.

Бацька цяпер носіць снапы да воза. Калі воз робіцца вялікі, бацька падсаджвае Васю наверх, падае яму снапы на вілах. Затым бацька падсоўвае Васю рубель, уціскае, абвязвае воз вяроўкамі.

На полі бацька кіруе канём, ідучы побач з возам. На вуліцы аддае вожкі маці. Сам выдыбае наўзбоч, робячы выгляд, што не мае дачынення да жытняга воза і каня. Бацька працуе на чыгунцы кандуктарам і таму як бы не мае права мець каня і сеяць жыта на сялянскім полі.

## X

Пачынаюцца заняткі ў школе. Адам, Коля Чыгун, Кузьма Поклад, Цімох Стрыж, астатнія знаёмыя хлопцы ідуць у школу. Сумна, самотна Васю.

З раніцы Вася вядзе каня на пашу. Яшчэ нядаўна, каб сесці на Гнядога, Вася падводзіў яго да плота, лез на плот, а ўжо потым на каня. Цяпер зусім не так. Вася ставіць сваю нагу на нагу каня, на костачку, хапае Гнядога за грыву і ў адзін міг узлятае на яго хрыбціну.

На першым часе, не маючы вопыту і пускаючы каня наўскокі, Вася моцна, да балячак, націрае месца, якім сядзіць на вострай конскай хрыбціне. Цяпер налаўчыўся, і нічога такога не здараецца. Калі гоніш каня трушком ці наўскачкі, трэба ў такт ягоным крокам падымацца і апускацца.

Ад двара да Блізкага Ляда — болей як вярста. Гэта калі дабірацца шляхам. Але шляхам Вася толькі вядзе каня на пашу. На Ляда ён бегае ўскрайкам Гарадзінкі, міма хутароў, якіх шэсць ці сем на Блізкім Лядзе.

Каня трэба глядзець. Адвёўшы яго на пашу, два, а то і тры разы на дзень Вася бегае на Блізкае Ляда.

За пераездам позірку адкрываецца прасцяг поля. Вася з нецярпеннем чакае дня, калі з поля нарэшце звязуць усю збажыну. Тады на ржышча, мажа, прывядуць пасвіць коней хлопцы-школьнікі. Будуць раскладваць вогнішчы, прэгчы на ражончыках сала, скакаць праз агонь, расказваць розныя гісторыі.

Хоць усё менш становіцца коней. У навакольных вёсках, сёлах ствараюцца калгасы, і коней там, па чутках, аб'ядноўваюць. У мястэчку калгаса пакуль няма. Але ўсё адно некаторыя местачкоўцы, асабліва тыя, якія маюць якуюнебудзь службу, коней прадаюць.

Бацька Гнядога прадаваць не збіраецца. Малайчына бацька!..

Сумна Васю без хлопцаў-школьнікаў. Калі гаварыць шчыра, дык Блізкага Ляда ён не любіць. Што там цікавага? Бясконцы абсяг дубовых пнёў ды яшчэ алешнік. У алешніку цёмна, змрочна, на доле не расце ніякая трава. Дзіўна: у алешніку не водзяцца птушкі. Ні разу Вася не знайшоў тут птушынага гнязда. Хоць у дрэвах ёсць дуплы. Відаць, нават птушкі не любяць цёмнага, змрочнага лесу.

Надыходзіць сапраўдная восень. Сонца схавалася, пачалі ліць халодныя дажджы. Калі капалі на полі, затым на агародзе бульбу, Вася падкопваў карчы, сцягваў, паліў гічэўнік. Нарэшце бульбу пакапалі, ссеклі капусту, і няма больш Васю цікавага занятку. Адно толькі няньчыць Сяргея. Раз за разам Вася выскаквае на агарод, вырэзвае з капуснага кораня салодкую храпку. Іншай радасці няма. Сумна і пуста. Птушкі даўно паляцелі ў вырай, у цёплыя краі, і толькі выдыбаюць па градах мокрыя вароны ды ціліўкаюць у застрэшшы вераб'і.

Ціха, бязлюдна на вуліцы, на выгане. З усяго канца вуліцы толькі Вася не ходзіць у школу. Сябры-школьнікі прыходзяць

дадому толькі ў другой палавіне дня. Сякуць дровы, носяць з калодзежа ваду, потым садзяцца за ўрокі.

Вася ходзіць да Адама. Паабедаўшы, выняўшы з сумкі лемантар, Адам пачынае бэкаць па складах. Ён нават усіх літар не ведае. Вася спрабуе памагаць Адаму. Але карысці з гэтага мала. Школьная навука Адама цікавіць не надта. Кожны вечар ён дастае з-пад ложка канькі, пераціраe іх сухой анучкай. Адам, відаць, марыць пра час, калі надыдуць маразы, на Гарадзінцы, на Заброддзі ўтворыцца звонкі лёд і можна будзе ў ахвоту па ім пакатацца.

Вася з нецярпеннем чакае, калі Адаму выдадуць чытанку. Колькі цікавых гісторый, відаць, надрукавана ў гэтай самай чытанцы! Пра звяроў, птушак, далёкія краіны. Вася загадзя смакуе тыя яшчэ не чутыя, не чытаныя гісторыі.

Можа, таму, што восень сумная, адзінокая, Вася ўспамінае пра дзедаў кулямёт.

Дрэвы ў Адамавым садзе стаяць голыя. Увішны дзядзька Платон пазграбаў лісце ў асобныя кучкі і цяпер спальвае. Мокрае лісце дрэнна гарыць, і густы, шызы дым сцелецца па агародзе.

Панылая чарада слівін стаіць на ўзмежку Васевага агарода. На іх вецці застыгла мноства бліскучых вадзяных кропель. Крані толькі галінку, і цябе адразу абсыпле нечаканым дажджом.

Ужо мінула свята Кузьмы-Дзям'яна, і пастухі статкі на пашу не гоняць. Адзінокія каровы блукаюць па агародах, спрабуюць грызці капусныя бадылі, падоўгу мычаць.

Вася з рыдлёўкай на плячы шыбуе на загуменне. Дзядзька Платон праводзіць яго падазроным позіркам. Але Вася нават выгляду не падае, што чаго-небудзь баіцца. Маці Вася сказаў, што пойдзе шукаць хрэн. Дзядзька Платон, відаць, думае, што Вася будзе перакопваць граду, дзе сеялі моркву.

Васю прыходзіць у галаву думка, што калі дзед і закапаў кулямёт, то абавязкова каля якой-небудзь меткі. Не будзе ж дзед такую важную рэч, як кулямёт, закопваць дзе папала, што потым і сам не знойдзе. Толькі дзе гэтая метка і якая яна?

Васеў агарод ад агарода старога Свірыдзёнка аддзяляецца чарадой дрэў. Дрэвы сусед пасадзіў даўно, таму яны магутна

разрасліся. Таполя на ўскрайку агарода навісае над паласой чыгуначнага адчужэння, нібы хмара. Бліжэй да дзедавага гумна падняліся тры прыгожыя разгалістыя бярозы і ігруша, якая чамусьці не цвіце і ніколі не дае пладоў.

Рог клуні якраз выводзіць да грушы. Васю як бы цюкнула: прыдатнае месца, калі хочаш што схаваць. Зняўшы рыдлёўкай верхні затравелы пласт, Вася адразу ўбачыў, што зямля зрушана, чарназём перамешан з пяском і глеем.

Вася стараецца. Ладную ямку выкапаў. Цэлую горку зямлі выкінуў. Тым часам нічога няма. Вася хацеў было засыпаць ямку, каб пачаць у другім месцы, ды раптам яму на вочы трапляе шкурат. Ён тырчыць са сценкі ямкі. Вася торгае за шкурат, і тады на дно ямкі вывальваецца некалькі патронаў.

Вася аж дрыжыць ад узбуджэння. Узнікае вострае жаданне пабегчы да хлопцаў, пахваліцца, прывесці іх да дзедавай клуні. Няхай пабачаць: пра кулямёт ён не выдумаў!

Вася нават з ямкі вылез, наважыўшы перш за ўсё бегчы да Адама. Але верх бярэ развага. Кулямёта ён яшчэ не знайшоў. Можа, гэта зусім не кулямёт...

Вася похапкам расшырае ямку. Нарэшце выцягвае з зямлі сатлелую раменную торбу, якія носяць паляўнічыя. Цяжкая, мокрая торба даверху напоўнена пазелянелымі патронамі — рускімі, нямецкімі, англійскімі, французскімі. Кулямёта, аднак, у ямцы няма.

Кароткі асенні дзень канчаецца. Над агародам навісае шэры змрок. Ужо нават пасажырскі цягнік Гомель — Жыткавічы праімчаўся. З вокан вагонаў зыркае электрычнае святло. Цягнік праз местачковую станцыю праходзіць у шэсць гадзін вечара і кіруе пад самую польскую граніцу.

Нягледзячы на тое, што кулямёта няма, Васю распірае нястрымная радасць. Цяпер ён нібы кароль. У торбе сотня ці, можа, нават болей патронаў. Калі паклікаць хлопцаў, то яны патроны парасхопліваюць і Васю нават дзякуй не скажуць. Вунь Пеця Кірнач выкапаў у Васевым рове колца ад дзвярэй вагона і Васю нават пагуляць з ім не дае. Не, Вася цяпер не такі дурны!..

Але пачуцці ў Васі настолькі ўзбуджаны, што не пабегчы да хлопцаў і не пахваліцца патронамі ён проста не

можа. Вася прадчувае: пачынаецца паласа ягонага ўзлёту. Павел Кірнач, Кузьма Поклад, Янка з будкі смяюцца над ім, прыніжаюць. Цяпер пабачаць, чаго Васяварты. За свае патроны Вася купіць што захоча, і кожны цяпер будзе набівацца да яго на дружбу.

Адама Вася выклікае на двор.

— Вазьмі.— Вася кладзе ў Адамаву далонь два прадаўгаватыя патроны.

Адам загараецца:

— Кулямёт знайшоў?

— Яшчэ не знайшоў.

— Адкуль патроны?

— З кулямётнай ленты.

— Пакажаш мне?

Вася сам не ведае, навошта хлусіць пра ленту. Можа, таму, што Адам, астатнія хлопцы зацята шукалі кулямёт і як бы нават пакрыўдзіліся на Васю за тое, што нічога не знайшлі. Тым часам калі ёсць лента, то і кулямёт знойдзецца.

— Лента зусім саржавела,— гаворыць Вася.— Я яе выкінуў. Патроны пакажу.

У пацверджанне таго, што патронаў у яго колькі хочаш, Вася дае Адаму яшчэ два.

Назаўтра каля Васевага двара аціраюцца ледзь не ўсе хлопцы з канца Савецкай вуліцы. Каб пабачыцца з Васем, некаторыя, відаць, нават у школу не пайшлі.

У Васі добрае сэрца. Тым хлопцам, якія капалі ямкі ў рове каля тупіка, ён дае па два патроны. Проста так. Затым пачынаецца гандаль.

— Колькі дасі за лук? — пытае ў Васі Коля Чыгун.— За той, з якога я трапіў вераб'ю ў нагу.

Лук у Колі надзейны. Вася ведае. Таму не надта — таргуецца.

— Пяць патронаў.

За такую ж цану Вася купляе ў Пеці Кірнача колца ад дзвярэй вагона, а ў ягонага старэйшага брата Паўла выдатную падпаленку, якая страляе нібы вінтоўка і шрот кладзе кучна, у адно месца. Праўда, сам Павел не захацеў весці з Васем перагаворы і прыслаў Пецю. Вася гэта разумее. Павел — за-

вадатар усяго канца Савецкай вуліцы і не хоча прыніжаць свой гонар.

Да абеду Вася страшэнна разбагацеў. У дадатак да лука, вагоннага колца і падпаленкі ён выменяў на патроны дзве рагаткі, раменны ашыйнік для Рудзькі, прыгожую дудачку, праколаты гумавы мячык і другі мячык, зусім цэлы, выразаны з гумы, кавалак зялёнага шкла і яшчэ шмат рэчаў, прызначэння якіх не ведалі нават тыя, хто іх прадаваў. Гэта былі розныя бразготкі, вялікі бліскучы гузік ад жаночага паліто, сіняватае пяро сіваваронкі, некалькі алавяных пломбаў і ўсялякае іншае дабро.

Нарэшце ў Васі выблісквае шчаслівая думка.

— За кнігу дам дзесяць патронаў.

Нехта з хлопцаў аж прысвістае. Толькі ні ў кога ніякіх кніг няма. Ёсць толькі падручнікі, якія выдалі ў школе. Але Вася сам не хоча купляць такія кнігі.

Вечарам Петрык адкрадвае ад Васі прыгожую дудачку і адразу псуе. Ён налівае ў яе вады, і яна расклейваецца. Вася не карае Петрыка. Ён цяпер добры. Ён дорыць малодшаму брату бліскучы гузік ад жаночага паліто, дзве алавяныя пломбы і прыгожае пяро сіваваронкі. Але Петрык па-ранейшаму нахабны і нягодны. Ён страшэнна віжуе за Васем, стараючыся ўведаць, дзе ён хавае патроны.

Гандаль патронамі ідзе і на другі, і на трэці дзень...

Ліюць дажджы, плывуць з Гарадзінкі, з Заброддзя густыя туманы. Але весялей стала на Дзядку — так завецца пачатак Савецкай вуліцы, дзе Вася жыве. Нават самыя малыя, нікчэмныя шкеты нарабілі з Васевых патронаў падпаленак, і на загуменнях, на агародах і дварах раз-пораз грымяць стрэлы. Страляюць хлопцы і звычайнымі ключамі ад замкоў. Насыпле шкет у ключ пораху, уставіць цвік і цвіком аб слуп!

Нібы вайна ідзе...

Нарэшце зноў замярзае Гарадзінка і Заброддзе. Вася з Адамам выбіраюцца на лёд. Адамавы поспехі ў вучобе не надта добрыя. Па чытанні, пісьму і арыфметыцы адзнакі ён мае нездавальняючыя. Вася спадзяецца, што Адама ў другі клас не перавядуць. Тады яны будуць вучыцца ў першым класе і спісваць адзін у другога ўрокі.

Цяперашняя зіма праходзіць для Васі весялей, чым мінулагодняя.

Па-першае, не трэба калыхаць Сяргея. Ён ужо добра падрос і бадзёра выдыбае па хаце, раз-пораз падаючы голым задам на падлогу. Але ціхмяны Сяргей. Гэтак, як Петрык, не лямантуе. Варта толькі падняць яго з падлогі і выцерці нос.

У падпечны сакочуць куры. Цікаўны Сяргей прасоўвае ў падпечча праз маленькае акенечка руку, і, бывае, якая-небудзь курыца яго ў руку дзеўбане. Тады толькі Сяргей плача.

У Васевай хаце кватаруе брыгада цесляроў: аж пяць чалавек. Цесляры будуюць на станцыі розныя памяшканні, склады, на досвітку, калі Вася яшчэ спіць, выбіраюцца на работу, позна вечарам прыходзяць. Снеданне, вячэру гатуюць сабе самі. У іхніх вялікіх торбах ёсць бульба, круглыя боханы хлеба, крышаны сала, розныя крупы ў асобных невялікіх мяшэчках.

Прыйшоўшы з работы, цесляры пачынаюць чысціць бульбу. З работы яны вяртаюцца не з пустымі рукамі: кожны нясе з сабой які-небудзь драўляны чурбачок. Так што апалу хапае. У печы дровы аж гудуць. У хаце цёпла, прыемна. Зусім не тое, што ў мінулым годзе.

Вячэраючы, курачы самасад, цесляры да позняга вечара расказваюць розныя гісторыі. Вася, звесіўшыся з коміна, слухае.

Чацвёра цесляроў — бывалыя людзі, багата павандравалі па свеце і шмат чаго пабачылі. Іх сем'і жывуць на станцыі Дземяхі і ў вёсцы Салтанаўцы, што размешчана блізка ад Рэчыцы.

Рэчыцу цесляры часта ўспамінаюць у размовах. Праз горад цячэ рака Днепр, ёсць там фабрыка, на якой робяць запалкі, на святах наладжваюцца вялікія кірмашы. Вася ніколі яшчэ не бачыў горада, фабрыкі, ракі. Таму горад Рэчыца ўяўляецца дзівосным месцам. У мястэчку тым часам ні фабрыкі, ні ракі няма. Ёсць рачулка Ведрыца, якая працякае кіламетраў за восем ад мястэчка. Вася каля яе яшчэ не быў. Таму ён марыць трапіць у Рэчыцу.

Найбольш паважны цясляр, якога завуць Міхаль. Ён невысокага росту, шыракаплечы, круглы, лысаваты. Міхаль

нетаропкі ў рухах, у гаворцы. Як і другія, варыць сабе бульбу, таўчэ яе ў кацялку, засквараве кашу. Астатнія цесляры слухаюцца Міхаля. Ды і на рабоце ён брыгадзір.

Хударлявы чарнявы хлапчына па прозвішчы Мірончык разам з цеслярамі ходзіць на работу, спіць на падлозе, на разасланай кулявой саломе, але вечарам нічога не варыць. У яго, здаецца, і дамоўкі няма: нікуды не ездзіць у выхадныя дні і нічога з сабой не прывозіць. Жыве Мірончык з таго, што даюць на станцыі на паёк. Прынясе паўбулкі хлеба, парэжа на скібкі, памажа маргарынам ці павідлам і адразу з’есць. Бываюць вечары, калі ён толькі п’е чай.

Маці і астатнія цесляры шкадуюць Мірончыка і як могуць падкармліваюць.

Абед цеслярам гатуе маці: боршч, капусту, якую-небудзь кашу ці смажаную бульбу. Абвязаўшы каструлі ручнікамі, маці нясе абед на станцыю. У апошні час усё часцей да цесляроў ходзіць Вася. Каструлі цяжкія, дый абед ён разліць баіцца, таму ідзе павольна і часта адпачывае.

На станцыі ўсё болей перамен. Насупраць чыгуначнай крамы мурзатыя слесары клеплюць са стальных лістоў вялізны бак вадакачкі. Грукат стаіць страшэнны. Слесары зварваюць лісты электрыкай, і блакітны агонь аж рэжа вочы.

Над станцыяй навісаюць вялізныя таполі. Цяпер, зімой, яны голыя, а летам нагадваюць зялёныя хмары.

Усё часцей чуе Вася размовы між бацькам і маці: год наступае цяжкі. Бульбы накапалі мала: яна парасла дробненькая, бы журавіны. Жыта з-за гарачыні таксама няўдалае: колас напалавіну пусты. Намалацілі мала.

Таму няма чым карміць парсюка. Яго закалолі за месяц да Каляд. Сала тоненькае, з палец таўшчынёй, але і тое маці ашчадна зашыла ў мяшэчак і павесіла ў вялікі зялёны шкап, які стаіць у сенечках. Не вельмі ў шкап залезеш: на прабоі вісіць замочак, а ключ маці хавае.

Бацька трымае каня і па гэтай прычыне паёк на станцыі болей не палучае. Вася сумуе: бацька прыносіў цаглінкі печанага хлеба, якія пахлі алеем, іншы раз нават карасінам. Такі хлеб можна есці без ніякіх прысмакаў. Асабліва смачная

скарынка. Калі хлеб з чыгуначнай крамы трохі прысыпаць соллю, то няма, здаецца, лепшай яды на свеце.

Бацька іншы раз прывозіць зайцаў хлеб: кавалак зачарсцвелага мякіша, які астаўся ў яго ад яды, качаўся па прапахлым мазутам, вугалем сундучку. Гэты хлеб таксама здаваўся надзвычай смачным.

Цяпер няма ні зайцавага, ні крамнага хлеба. Той, які пячэ маці, глёўкі, салодкі на смак, у бохане заўсёды адтапырана скарынка. Раніцай, у абед, на вячэру Вася есць бульбу.

## XI

Пачынаецца калектывізацыя.

У некаторых вакольных вёсках, сёлах калгасы ўжо стварылі. У мястэчку толькі пачынаюць ствараць.

Бацьку справы да калгаса няма: ён працуе на чыгунцы. Дзеда Піліпа два ці тры разы выклікалі ў сельсавет, на сход, і ён вяртаецца адтуль злосны.

— Як жа,— разважае дзед,— адвядзі ім каня, карову, усю гаспадарку аддай, а што палучыш — невядома. Гуртавое — чартавое. Стаўкуцца людзі ў талаку, і ніякага парадку не будзе. Чалавек ахвотна робіць толькі на сябе. На чорта лысага рабіць не будзе...

Дзед у калгас уступаць пакуль што не збіраецца. Хоць жыве не надта. Хлеба невялікай дзедавай сям'і хапае толькі да Каляд. Пасля Каляд бабка Аўгіння пачынае пячы блінцы і ў муку дзёртую бульбу дабаўляе.

Вядома, падцiскаюць дзеда падаткамі. Пудоў трыццаць рознага збожжа здае на падатак. Каб спажываў гэтае збожжа сам, хлеба хапіла б удосталь.

У хаце Адама, дзе збіраюцца мужчыны і куды кожны вечар шастае Вася, ён чуе розныя гаворкі. Усюды нешта ломяць, руйнуюць, будуюць новае. За Далёкім Лядам, на балоце, капаюць канавы, каб балота асушыць, сеяць на ім жыта, авёс, бульбу. Там нібыта ствараюць саўгас.

Справа нечуваная. Вася ведае балота. Шукаючы гнёзды кнігавак, пекураў, дзікіх качак, кожную вясну лазіць па

Гарадзінцы. Бывае: не пацэліш нагой на купіну, то па самыя грудзі праваліцца. То як жа на такой зямлі будзе расці жыта?

З усходняга боку мястэчка балота таксама асушаюць. Але там для другой мэты. Пабудуюць завод, які будзе здабываць торф і пасылаць на паліва ў гарады. Вось так: балотная зямля на паліва.

Аднойчы Вася бачыць у хаце сябрука незвычайнае. Адамаў бацька купіў і павесіў на сценку ходзікі. На цыферблаце гадзінніка намаляваны трактар, які вязе агромністую, нагружаную сенам фуру. Ходзікі маюць гіру, доўгі жалезны ланцужок, якім гіра падцягваецца ўгору. Унутраная частка гадзінніка, яго механізм прыкручан да драўлянай каробкі маленькімі, нібы гарошыны, гаечкамі. Цяжка нават паверыць, што такія малыя гаечкі можна зрабіць. Адам з Васем кладуцца на лаву, глядзяць на гаечкі, ад задавальнення рагочуць.

Адамаў бацька, бацька Аркадзя Брыца, а таксама бацька Іллі і Мікалая Кісялёў уступаюць у калгас. Сямён Брыц дык нават неяк дзіўна ўступае. Ідзе ў клуб, слухае гаворку агітатара, у поўнач як шалёны прыбягае дадому, здымае з покуці іконы, сячэ тапаром на дробныя кавалкі. Назаўтра запрагае каня, ускідвае на воз плуг, барану, вязе на калгасны двор.

Дзіўна: дзядзька Платон і галоўнае — Сямён Брыц, які так паспешліва ўступаў у калгас,— у калгасе адзін месяц пабылі. Толькі месяц. Выпісаліся і паступілі ў «Лесбел» грузчыкамі. Дзядзька Платон хоць калёсы патаемна забраў і прыкаціў у двор. Сямён Брыц астаўся з голымі рукамі, бо ні коней, ні плугоў былым калгаснікам назад не вяртаюць.

Так, калгас у мястэчку створан, але што ён сабой уяўляе, Вася не ведае. З усяго канца вуліцы толькі стары Кісель астаўся ў калгасе. Але ён ранейшых прывычак не кідае. З раніцы апярэзваецца патранташам, ускідвае на плечы дубальтоўку, кліча-свішча суку Рэксу, ідзе на паляванне. Прыносіць забітых зайцоў, зрэдку пушыстую лісу, цецерукоў і глушцоў. За здадзеныя шкуркі Кісель атрымлівае міткаль, корт на штаны сынам, а таксама порах і шрот. Аказваецца, Кісель мае так многа вольнага часу таму, што прызначан

вартаўніком на кашары. Жывёлу ў кашары пачнуць заганяць толькі летам.

Зямлі цяпер ні ў дзеда, ні ў бацькі няма. Дзед у калгас не паступіў, бацька на чыгунцы, але іх зямля ўсё адно абагулена і адышла пад калгас. Васю крыўдна, што ён болей ніколі не паедзе на Выбедзь, дзе стаіць драўляны маяк, або ў Рогаўку ці на Дуброву, дзе яны сеялі ячмень, авёс, лён, садзілі бульбу.

Васю незразумела адно: неяк вельмі жорстка арганізоўваюць калгас. З мястэчка высылаюць трох ці чатырох кулакоў. Кулакі — багацеі, яны ссалі кроў з беднякоў, сядзелі на іхнім карку. Так гаворыць Сцяпан Бохан, які прыходзіць да дзеда спраўляць падаткі.

Між тым аднаго кулака, якога выслалі на Салаўкі, Вася добра ведае. Гэта Пятро Скачок, родны брат бабкі Аўгінні. Зіму і лета Пятро ходзіць у рваных шарачковых штанах, праз дзіркі ў якіх прасвечваецца голае цела, ледзь выцягвае з зямлі распоўзлыя лапці. Свету божага з-за работы не бачыць Пятро. Не разгінаюць спіны ягоная жонка і яе зусім глухая сястра. Ні на чыім карку яны ніколі не сядзелі і не сядзяць. Ну, маюць, вядома, запас збожжа, дык жа самі тое збожжа вырасцілі. І вось такога чалавека, як Пятро Скачок, высылаюць на Салаўкі. Дзе тут справядлівасць?

Бабка Аўгіння з раніцы да вечара кляне сельсаветчыкаў, якія ствараюць калгас. Якімі толькі словамі іх не называе! Сцяпана Бохана, пляменніка, цяпер нават у хату не пускае. Ён жа пляменнік і брату яе Пятру, аднак ні на што не паглядзеў, роднага дзядзьку пагнаў на Салаўкі.

Вася разгублен. Яму падабаецца трактар, які прыслалі з горада калгасаўцам. Гулка лапочучы, трактар ужо два разы праязджаў па вуліцы. Трэці раз, не даехаўшы да пераезда, трактар сапсаваўся. З яго круглага, аблітага мазутай боку нейкая сіла вырвала вялікі кавалак жалеза. Упрогшы чатыры пары коней, калгасаўцы адцягнулі трактар на станцыю, затым пагрузілі на платформу.

Бацька Цімоха Стрыжа, ссутулены, чорны, з касымі татарскімі вачамі, як апантаны носіцца па мястэчку. У калгас ён не ўступіў, але лічыцца членам сельсавета, партыйцам, носіць пры баку наган, крычыць, камандуе. З некаторымі

суседзямі стары Стрыж нават не вітаецца: панура павесіўшы галаву, робіць выгляд, што не заўважае.

Цяпер Стрыж насядае на Цераха Грэчку, сядзіба якога насупраць, праз вуліцу.

Церах Грэчка жыве ў звычайнай, стараватай, крытай дранкай хаце, якіх шмат у мястэчку. Як і Пятро Скачок, ніякі ён не багацей. Мае, праўда, невялікі сад, у якім некалькі яблынь, груш, сліў і вішань.

Маўклівы, нізкарослы і вельмі сквапны Грэчка сад свой аберагае і пільнуе аж залішне. Старанна забіў усе шчыліны, зверху на коллях паркана абцягнуў калючым дротам, летам, калі паспеюць яблыкі і грушы, пускае ў сад злога сабаку. Ніяк не залезеш у гэты сад.

Грэчка, аднак, не Пятро Скачок. Не паддаецца нават тады, калі сельсавет прымае рашэнне яго раскулачыць. Кідае хату, двор, гаспадарку, у чым стаіць кідаецца на балота да саўгасаўцаў. Тыя ахвотна прымаюць Грэчку ў свой гурт: рабочыя рукі на балоце патрэбны. Тым болей рукі ўмелыя, працавітыя.

Яшчэ больш дзіўная гісторыя здараецца з Макарам Перагудам, блізкім Васевым суседам. Макар — зяць Свірыдзёнка, яго-ная новая хата выбудавана на цесцевым двары. Макар паважны ў хадзе і рухах, сярэдняга росту, круглатвары, шыракаплечы. Ён ветлівы, абыходлівы, для кожнага знойдзе слова; мірыць суседзяў, калі між імі вынікае звяга. Ён і Васевага бацьку мірыў з дзедам Піліпам, калі яны пасварыліся з-за дошак.

Макар — культурны гаспадар. Выпісвае з Масквы, Мінска агранамічныя кніжкі, стараецца весці гаспадарку гэтак, як у іх напісана.

Зямлі ў Макара мала, нават агарода няма, але ён добра зямлю абрабляе і намалочвае столькі збожжа, што яго хапае не толькі на харч і прадналог, але і на продаж. У Макара ёсць малатарня з конным прывадам, трыер. Ён дазваляе карыстацца машынамі суседзям і нават платы не бярэ.

Макар, відаць, прадчуваў, што ўсялякае можа здарыцца. Можа, таму нават уласную хату не даводзіць да ладу. Стаіць гэтая хата на ўскрайку Свірыдзёнкавага двара без сенечак, франтона, і замест ганка да сцяны прывален камень.

Макар падае заяву ў калгас, але сельсаветчыкі яе нават не разглядаюць. То ён доўга не чакае. Складае ў чамадан якія-можа рэчы, садзіць у вагон жонку, сына, едзе ў Маскву. Там, па чутках, паступае на завод.

Чаму Макара, разумнага, вучонага чалавека, адагналі ад калгаса, Вася не разумее. Відаць, там кіруюць такія людзі, як Рыгор Стрыж. Тады справы дрэнныя. Рыгор жа кіпіць ад злосці і нянавісці. Васю здаецца, што ён увесь свет ненавідзіць...

Бацька па-ранейшаму ездзіць кандуктарам. Зямлі, акрамя чыгуначнага пралёта, яму цяпер болей не дадуць. Каня, аднак, бацька не прадае. Вася гэтаму бязмежна рад. Кожнага дня ён ходзіць у хлеў да Гнядога, падкідвае яму сена, выводзіць да калодзежа паіць. Дзіўна Гняды п'е. Калі хоча піць, халоднай вады не баіцца, і, злёгку раздзімаючы губы, выпівае вядро за якую-небудзь хвіліну ці дзве. Калі не хоча — набірае вады ў губы, як бы каштуе яе, моршчыцца і нарэшце пырскае.

Каня нельга збываць. Як тады ўзарэш пралёт, сена, дроў прывязеш. Калі поле забралі пад калгас, то каню будзе меней работы. Вася радуецца: Гняды цяпер, бадай, цалкам падпадзе пад ягоную ўладу.

Зіма мякчэйшая, чым мінулагодняя. Няма траскучых маразоў, раз-пораз веюць цёплыя вятры, прыносяць адлігу. Чарнеюць парканы, навісаюць са стрэх ледзяныя суслы, весела каркаюць вароны.

Весела жыць з кватарантамі-цеслярамі. Павячэраўшы, пасеўшы на сасновыя калодкі — гэткія яны парабілі сабе стулы,— цесляры апавядаюць пра розныя бывальшчыны, якія здарыліся ў тым ці іншым месцы. Пры гэтым яны называюць вёскі, сёлы, хутары, дзе здарылася тая ці іншая гісторыя, і нават прозвішча чалавека, які стаў героем прыгоды. Вася дзівіцца: столькі на свеце цікавага. Ён тым часам яшчэ нідзе не быў.

У Адамавай хаце, куды Вася па вечарах таксама шастае, збіраецца свая кампанія. Сюды прыходзіць саставіцель паяздоў Збароўскі — яго прыгожая, з белымі аканіцамі хата каля самага пераезда,— грузчык Сямён Брыц, стары Кісель, іншыя мужчыны. У гэтай кампаніі найбольш гавораць аб

пераменах, якія адбываюцца на свеце. Саставіцель Збароўскі, немалады, памяркоўны, надзвычай разважлівы мужчына, выпісвае газету «Гудок» і па вечарах расказвае, што ў газеце пішуць.

— У Германіі да ўлады прыйшоў Гітлер,— паведамляе аднойчы Збароўскі.— Цяпер там запануе фашызм.

Хто такі Гітлер, што азначае фашызм — Вася не ведае. І няма ў каго спытаць. Бацька, дзед Піліп газет не выпісваюць і нічога не раскажуць.

Ёсць тым часам чалавек, які мусіць такія рэчы ведаць. Гэта Іван Зязюля, Васеў сваяк. За партыйца Івана, былога парабка, выйшла замуж малодшая сястра маці Анюта, паўнацелая і вельмі смяшлівая. Яны запісаліся ў сельсавеце, затым прыйшлі ў госці.

Вася добра помніць той дзень. Якраз у мястэчка прыехалі са сваімі сінімі будамі цыганы. За апошняй будай, прывязаны жалезным ланцугом, валюхаў мядзведзь.

З-за мядзведзя Вася мала паглядзеў на маладых, амаль не пагаварыў з Зязюлем. Пабег на базарную плошчу, дзе цыганы наладзілі спектакль. Спектакль захапіў Васю: няўклюдна падымаючы ногі, мядзведзь хадзіў па крузе, танцаваў, еў разам з абгортачнымі паперкамі цукеркі, якія яму кідалі местачкоўцы. Нарэшце касалапы з'еў запаленую цыгарэту, якую яму сунуў у рот кудлаты чорнавалосы цыган, што вадзіў звера на ланцугу.

Вася ведае: Іван — былы парабак, які цяпер у суседнім раёне працуе старшынёй сельсавета. Ён чарнявы, прыгожы, умее іграць на гармоніку, таму, не паглядзеўшы на тое, што былы парабак хворы на сухоты, Анюта выйшла за яго замуж.

З дзядзькам Зязюлем Вася звязвае вялікія надзеі. Вясновы Мікола — прастольнае местачковае свята, і сярод іншых гасцей будуць, вядома, Анюта са сваім Іванам. Вось тады Вася і спытае дзядзьку пра фашызм. Магчыма, Зязюля што-небудзь Васю падорыць. Добра было б, каб дзіцячы гармонік. Бо ў Адама ёсць канькі-нажы, нядаўна бацька купіў яму піянерскі барабан, а ў Васі нічога няма.

На сыходзе зімы ў хату ўвальваецца член сельсавета Сцяпан Бохан. Без спросу садзіцца за стол, раскрывае шабету, якую носіць за плячамі.

— Табой не здадзена трыста кілаграмаў бульбы, Іван,— звяртаецца да бацькі.— То хутчэй здавай. Сам ведаеш — чым пахне нядоімка.

Бацька бялее з твару:

— Няма ў мяне бульбы. Я рабочы чалавек. Жыву з пайка. На чыгунцы бульба не расце.

Бохан наступае.

— Агарод засяваў. Пралёт. Каня трымаеш. У нас усё запісана. Не здасі нарыхтоўку, то сельсавет напіша начальніку станцыі. Глядзі, Іван. Можаш з работы паляцець...

Апошнія словы палохаюць Васю. Ён ганарыцца тым, што бацька кандуктар. Няхай малодшы. Ездзіць у Хвойнае, у Гомель. З-за бульбы, выходзіць, яго звольняць з чыгункі.

— Бульбы поўны падпол,— гаворыць Вася.— У чыстай хаце. Маці ў грубцы паліць, каб бульба не памерзла.

Бохан крыва пасміхаецца ў рыжыя вусы:

— Бачыш, ты забыў, а малец памятае. Здавай бульбу, Іван. Не круці хвастом. Усё адно не адкруцішся.

Бацька спакойны.

— Адчыню падпол. Ідзі паглядзі: бульба насенная. Дробная, як гарох. Мне яшчэ пудоў дваццаць трэба купіць, каб дажыць да вясны.

— Прадай каня, купі бульбы. І на падатак хопіць. Навошта чыгуначніку конь?

— Ты мне дроў, сена прывязеш? Пралёт узарэш?..

Сцяпана садзяць за стол. Гаворка ідзе мірная. Можа, па гэтай прычыне, пасля таго як госць пайшоў з хаты, бацька зусім не карае Васю. Толькі гаворыць:

— Не лезь, куды не просяць. Язык за зубамі навучыся дзяржаць!..

Вясна набліжаецца. Сінія вечары заглядваюць у вокны, з ціхім звонам падаюць на дол і разбіваюцца капяжы.

Як раней, цесляры вараць па вечарах бульбу альбо бульбяны суп, ядуць з хлебам. Міронччык нічога не варыць. Хлебную пайку з'ядае ў поўдзень, як толькі атрымлівае яе па картачцы. Прыйшоўшы з работы, ён, аднак, часта шастае ў сенечкі, затым, раз-пораз падыходзячы да вядра, п'е конаўкамі халодную ваду.

— Ад голаду, небарака,— жалкуе маці, падкладваючы кватаранту то блінец, то некалькі бульбін.

У адзін з вечароў маці як бы нешта цюкнула. Яна выходзіць у сенечкі, адкрывае ключыкам замочак на вялізным зялёным шкапе, шукае ў паўзмроку павешаны на цвік мяшэчак, у якім яшчэ з восені зашыта сала. Мяшэчак вісіць, але зусім пусты...

Не помнячы сябе ад роспачы, трымаючы ў руках пусты мяшэчак, маці заходзіць у хату.

— Замочак на шкапе вісіць, а сала няма. Нехта пакраў. Ніводнай шкуркі не пакінуў...

Мірончык, які сядзіць на сасновым чурбачку, раптам бялее з твару, хапае з цвіка чорны палітончык, выцертую, з адарваным вухам шапку. Ніхто апамятацца не паспеў, як ён выскаквае з хаты.

За Мірончыкам ніхто не гоніцца. Цесляры апускаюць галовы, маўчаць. Што з нягоднага свістуна возьмеш?

Вось так: сала, няхай сабе тоненькага, вісела ў мяшэчку фунтаў дзесяць, а цяпер нічога няма. У сям'і трое дзяцей, бульба канчаецца, наступае галодная вясна, і невядома, як сям'я будзе жыць.

Мірончык зжэр дзесяць фунтаў сала за месяц. Таму так адчайна хлябтаў ваду. Бессаромны, мізэрны бізун. Як ён будзе глядзець у вочы людзям, з якімі разам працуе?

Скардзіцца на Мірончыка бацька не ідзе. Дзе яго знойдзеш? Няхай крадзенае вылезе злодзею бокам. Між тым крыўдна: душачыся нішчымніцай, ядучы гуркі, кіслую капусту, бульбу, сям'я нават не дакранулася да сала, а нягоднік зжэр да апошняй крошкі.

## XII

Праўду людзі гавораць: бяда не ходзіць адна. Апрануўшы брызентавы плашч, узяўшы ліхтар, два сцяжкі — чырвоны і зялёны,— бацька ідзе на службу. Але гадзіна не праходзіць, як вяртаецца са станцыі. У паездку не пусцілі і наогул звольнілі з кандуктарскай пасады. Сельсавет такі прыслаў на станцыю паперу. Напісана ў паперы: Войцік Іван мае гаспадарку, каня,

тым часам абавязацельствы па кантрактацыі бульбы не выконвае. Дарма частавалі Бохана.

Бацька едзе ў Гомель скардзіцца, тым часам вяртаецца ні з чым. Ва ўпраўленні чыгункі яго нават слухаць не захацелі. Вывад ясны: калі хочаш служыць, то што-небудзь адно выбірай — або каня, або чыгунку.

Бацька, аднак, нізавошта не хоча развітацца з канём. Бо за грошы, якія плацяць малодшаму кандуктару, як ні скачы, не пражывеш.

Вася таксама супраць таго, каб прадаваць каня. Чым ён тады будзе займацца? Проста так на Блізкае Ляда не пойдзеш і наогул не адвернешся з двара. Як тады шукаць гнёзды чакунцоў, шчыглоў, сініц, іншых птушак?

Некалькі дзён пануе ў хаце трывожна-нацяты, напружаны настрой. Вось-вось запусціцца карова, і не стане двух або нават трох збанкоў малака, якія штодзённа надойвае маці. Калі не будзе ні хлебнага бацькавага пайка, ні малака, ні бульбы, то як тады жыць?

Наогул трывожныя чуткі паўзуць па мястэчку. На Украіне была засуха, есці людзям нечага, і яны ідуць куды вочы глядзяць. Проста ў белы свет. Мужык разлучаецца з жонкай, брат з сястрой. І нібыта мруць людзі як мухі. Пухнуць ад голаду, раздуваюцца, як горы, і паміраюць.

Наступае месяц май, падсыхае зямля, і чуткі пра голад на Украіне пацвярджаюцца: цэлай гурмой навальваюцца на мястэчка ўкраінцы. Бясконцым ланцугом вандруюць па вуліцы, заходзяць у двары, просяць есці. Бадай усе ў шэрых світках, белых палатняных кашулях і штанах. Мужчын болей, чым жанчын. Круглыя мужчынскія твары, зарослыя шчэццю, прыпухлыя ад голаду, часам здаюцца страшнымі.

У хату да дзеда, да Васі таксама завітваюць галодныя людзі. Па некалькі чалавек на дзень. У першыя дні ім яшчэ нешта даюць: дзве-тры вараныя бульбіны, засохлую скарынку хлеба ці проста пасярбаць учарашняй кіслай капусты. А потым і даваць няма як. Самім нечага есці. Баба і маці адсылаюць вандроўнікаў на дальнія сёлы. Туды, маўляў, ідзіце. Там няма чыгункі, станцыі і не збілася столькі галодных людзей.

У адзін з майскіх дзён у двор завітвае такі, як астатнія, няголены, з апухлым круглым тварам бадзяга. Тым часам ён не з голымі рукамі прыйшоў: трымае на плячы падобную на прасніцу-самапрадку прычындаліну з драўляным колам, жалезным стрыжнем.

— Паяю каструлі, луджу чыгуны,— сіплым глухім голасам паведамляе.

У бабкі Аўгінні ёсць трэснуты, з дзіркай на пукатым баку чыгун, таму яна ахвотна запрашае бадзягу ў хату. Дае яму стул, прыносіць пашкоджаную пасудзіну. Паяльшчык здымае з пляча і ставіць на падлогу прычындаліну, але пачынаць работу не спяшаецца.

— Есці хачу,— раптам заяўляе.

— Трэба спачатку зарабіць есці,— пярэчыць вострая на язык і не вельмі палахлівая бабка.

— Без яды ў мяне пруцянеюць рукі і ногі,— тым часам тлумачыць бадзяга.— Сёння яшчэ нічога не еў.

Бабку Аўгінню не лёгка збіць з тропу, але ў дадзеную хвіліну яна збянтэжана.

— Дык няма нічога. Абед толькі варыцца.

Вася ведае: бабка Аўгіння гаворыць праўду. Хлеба ў дзеда з бабай няма, яшчэ толькі заўтра ці паслязаўтра дзед павязе на млын апошні мяшок субару. На снеданне, вячэру вараць бульбу ў лупінах і ядуць яе з капустай ці кіслым малаком.

— Магу яек выпіць,— раптам заяўляе прышэлец.— Толькі трэба дзесяць штук.

— Няма дзесяць штук,— ужо злосна адказвае бабка,— яшчэ куры не знеслі.

Яна дае чалавеку тры яйкі. З вялікім спрытам ён разбівае іх і адно за другім імгненна глытае.

Паяць чыгун бадзяга, аднак, зноў не спяшаецца. Доўга поркаецца каля сваёй прычындаліны, аглядвае пабіты чыгун. Нарэшце заяўляе:

— У мяне волава кончылася. То я на дзірку латку пакладу.

— Кладзі латку,— бабка Аўгіння яўна падсміхаецца над бадзягай.

Чалавек націскае нагой на педаль, верціцца драўлянае кола, і ад яго круціцца жалезны стрыжань. Вася здзіўлены:

калі паяльшчык хоча зрабіць у чыгуне дзірку, то такім тупым стрыжнем яе не зробіш. Хоць год круці.

Чалавек між тым поркаецца каля чыгуна паўгадзіны, гадзіну. Нічога ў яго не атрымліваецца. Толькі рукі сажай запэцкаў.

Бабка не вытрымлівае.

— Скажы праўду: не ўмееш паяць чыгунцы?

— Не ўмею.

— Навошта тады прынёс сталюгу?

— Без яе мяне праганяюць. А так хоць яйкі выпіў.

У бабкі добрае сэрца: выцягвае з печы гаршчок з бульбай, налівае ў місу кіслай капусты. Абарванец похапкам есць, расказвае: жабрачаць удваіх з жонкай. Толькі жонка ходзіць у другім канцы мястэчка.

Чалавек гаворыць па-свойму, па-ўкраінску, але Вася ўсё разумее. Толькі вельмі дзіўная, нязвычная ўкраінская мова.

Вось зноў настае час ісці ў школу. Доўга чакаў Вася гэтага дня. Летась яго зняважылі, абразілі, і цэлы год крыўда пякла Васева сэрца. Як так: ён умеў чытаць, лічыць, а яго не прынялі ў школу. Ён нават планы складаў, як адпомсціць прыгожай настаўніцы, якая нібы не заўважала ягонай прысутнасці ў класе, не называла прозвішча і не выклікала да дошкі. Але што Вася можа зрабіць настаўніцы?

З цягам часу крыўда развеялася, і Вася ўжо спакойна думаў пра школу.

Маці, стракочучы на швейнай машынцы, пашыла Васю новыя картовыя штаны і сумку для кніг. Убачыўшы гэта, Петрык усчыніў страшэнны лямант і гвалт. Ён плакаў да таго часу, пакуль маці таксама не змайстравала яму малую сумачку. Новых штаноў Пятрок, аднак, не выплакаў: не было з чаго шыць.

І вось Вася крочыць у школу. Наперадзе, загнуўшы хвост абаранкам, бяжыць Рудзька, ззаду, за Васем, перавесіўшы сумку праз плячо, клыпае Петрык. Вася, дбаючы пра школу, цэлы тыдзень старанна мыў ногі, і яны ў яго белыя, чыстыя. У Петрыка ногі чорныя, парэпаныя, і наогул ён уяўлення не мае, што такое школа. Прывык лезці ўслед за старэйшым братам, таму і цяпер валачэцца.

Школа далёка. Можа, гадзіну трэба да яе дабірацца. Спачатку ісці той самай Савецкай вуліцай, на якой Вася жыве, але кіламетры праз два звярнуць налева і глухаватым, гразкім у асеннюю пару завулкам выбрацца на шырокі пясчаны майдан, наўзбоч якога размешчан школьны двор. Вася нервуецца: могуць заблудзіць, вяртаючыся дадому, Петрык з Рудзькам. Пойдуць назад пясчанай Паштовай вуліцай і заблудзяць. У гэтую частку мястэчка Вася рэдка калі завітвае, а Петрык, можа, ніколі не быў.

— Ідзі дадому,— спыніўшыся, угаворвае Вася малодшага брата.— Ніхто ў пяць гадоў у школу не прымае. Летась мне было сем з палавінай. І то не прынялі.

Зацяты Петрык маўчыць. Толькі шморгае носам.

На школьным двары шумна і тлумна. Вучняў трэцяга класа адпусцілі ўжо на летнія канікулы. Чацвёрты і ўсе вышэйшыя класы здаюць экзамены.

Убачыўшы талаку шкаляроў, якія з крыкам гойсаюць па двары, занепакоены Рудзька ўсчынае брэх, глядзіць на Васю. Петрыка таксама пакінула рашучасць. Вася махнуў рукой, і Рудзька весела пабег назад. За ім паныла паклыпаў Петрык.

Школа Васю падабаецца, і маладая, русявая, круглатварая настаўніца Марыя Рыгораўна таксама падабаецца. Канец мая месяца, якраз расцвіў бэз, сярод кустоў якога нібы ў вянку школьны будынак. Будынак школы і сам па сабе прыгожы: два высокія ганкі, шырокія вокны, пафарбаваны чырвонай фарбай бляшаны дах.

Па сакрэце маці расказала Васю, што гэтую прыгожую школу, як і дзве астатнія, якія ёсць у мястэчку, пабудаваў яе родны дзядзька, які працаваў валасным старшынёй і якога нават выбралі пазней дэпутатам Думы. Толькі маці загадала нікому пра гэта не гаварыць, бо то былі яшчэ царскія часы і Дума была таксама царская.

Так, школа Васю падабаецца, настаўніца падабаецца, але вострае захапляльнае пачуццё, якім летась была прасякнута ўся ягоная істота, не паўтарылася. Можа, таму, што Вася ведае, што будзе заўтра і паслязаўтра. Вось настаўніца загадвае зрабіць па дзесяць палачак, каб вучыцца па іх лічыць. Вася

пасміхаецца: навошта яму палачкі? Ён і так можа палічыць хоць да тысячы.

Усё ж карысць ад школы ёсць. Васю выдаюць новенькі лемантар, задачнік, два сшыткі — адзін у клетачку, другі — у касую лінейку! У сшытку трэба пісаць палачкі, каб навучыцца пісаць. Вася хоча авалодаць пісьмом, таму бясконца выводзіць крывыя нязграбныя загагуліны. Выходзіць, не такая лёгкая справа — навучыцца пісаць. Дарма ён задзіраў нос.

Пасля дзесяці дзён вясновых заняткаў першакласнікаў адпускаюць на канікулы.

Наперадзе — вольнае лета. Многа ў Васі планаў на гэтае лета. Па-першае, пабольш знайсці птушыных гнёздаў.

Птушкамі Вася захоплен да апантанасці. Як толькі наступае дзень, ён куды-небудзь бяжыць у розведы. Пра вераб’ёў Вася асабліва не думае: пад чарапічным дахам Адамавай хаты звіў канаплянік гняздо, у Цімоха пад такім жа, толькі большым па памерах дахам ёсць два ці нават тры вераб’іныя гнязды. Вераб’і весела ціліўкаюць, сама кладуць у гняздзечкі яйкі.

Дзіўныя вераб’і-канаплянікі. Зімой, летам жывуць паблізу чалавечага жытла, кормяцца тым, што пасее, вырасціць для сябе чалавек. Ёсць песенька:

Верабейка-верабей,
Не клюй маіх канапель,
Бо я табе, вераб’ю,
Кіем ножку пераб’ю...

Васю трохі смешна з гэтай песні. Якая ў таго вераб’я ножка! Танчэйшая за запалку. І навошта яе перабіваць? Ну, паклюе верабей трохі канапель, проса, ячменю, дык што з таго? Не збяднее гаспадар.

Па Васевых назіраннях, вераб’і ядуць тое, што і дамашнія птушкі ці нават сам чалавек. Калі маці сыпне курам жменю ячменю ці проса, то кляваць зерне мігам злятаюцца вераб’і. Не прагоніш іх. Бо куры да вераб’ёў ставяцца абыякава. Нібыта не заўважаюць гэтай драбнаты.

Асаблівая раскоша вераб’ям, калі паспее збажына, у садах нальюцца салодкім сокам вішні, слівы, яблыкі, грушы.

Да гэтага часу якраз падрастае першае пакаленне маладых вераб'ёў. Не спыняючы зацятага ціліўкання, сядзяць яны на просе, ячмені, любяць кляваць вішні, часам нават пераспелыя яблыкі і грушы. Спалохаеш, і пырхне, узнясецца ў паветра гаманлівая стайка, шугане ў адзін бок, у другі, пакуль рассядзецца на голлі дрэва ці нават на тэлеграфных дратах.

Верабей уе гняздо з жорсткіх карэнняў пырніку, затое засцілае яго мяккім пер'ем, пухам. Вася не раз бачыў, як ганяюцца вераб'і за кожнай пушынкай, якую згубіць курыца ці якая-небудзь іншая птушка.

Цікавыя птушкі вераб'і. Рухавыя, шчыльныя камячкі з невялікім хвастом і крылцамі. У самца шэрая галоўка, крылцы, грудка прыкметна святлейшыя. Самка, як і маладыя, якія толькі-толькі вылецелі з гнязда, вераб'і, мае буравата-шэрую афарбоўку.

У гняздзечку вераб'я пяць-шэсць маленькіх шаравата-блакітных, з цёмнымі крапінкамі яек.

За вясну і лета вераб'і выводзяцца два, можа, нават тры разы. Хітрая, асцярожная птушка верабей. Зімой Вася пляце сіллі, летам ставіць на даху хлява пастку, але яшчэ ніколі на яго прыманкі не паквапіўся верабей.

Лета пачынаецца ўдала. Вася ўжо ведае тры вераб'іныя гнязды, а ў той дзень, калі першакласнікаў адпусцілі на канікулы, ён у дадатак разведаў гняздзечка чакунца. Як хто падштурхнуў Васю: пайшоў дамоў не Савецкай вуліцай, а Паштовай, завярнуўшы потым на станцыю.

Каля станцыйных пуцей — лесасклад. Ён цягнецца ад пакгаўза да вагавай будкі: метраў на трыста. Высяцца доўгія штабялі дрывяных плашак, дубовых, альховых, асінавых бярвенняў, прывезеных сюды па зімняй дарозе на карах. Бадай кожны дзень ідзе пагрузка на дрывяным складзе. На станцыі ёсць спецыяльная брыгада грузчыкаў, заработак у якіх ад выпрацоўкі. Добрыя заработкі ў грузчыкаў. Супраць пастаяннага акладу малодшага кандуктара, які да нядаўняга часу меў бацька, у два, а то і ў тры разы вышэйшыя.

Грузяць якраз кражы — вялізныя дубовыя камлі. Грузчыкі дзеля гэтага два канцы камля ачэпліваюць канцамі каната, цягнучы за канат па нахіленых легарах, узвальваюць бервяно

на платформы. «Раз-два — узялі!» — падганяюць адна другую дзве шарэнгі грузчыкаў, якія цягнуць за канат. Іншы раз, асабліва калі па чыгунцы праходзіць жанчына, грузчыкі ў такт таго, як пасоўваюць па легарах цяжкае дубовае бервяно, пяюць брыдкія частушкі. За гэта Вася і не любіць грузчыкаў. Часам нават ненавідзіць.

Неасцярожныя стварэнні птушкі. Штабялі дроў, стусы бярвенняў доўга на станцыі не ляжаць. Аднак птушкі на гэта не зважаюць: у прамежках дрывяных штабялёў, дуплах бярвенняў звіваюць гнёзды.

Паблізу гаманлівай арцелі грузчыкаў Вася не затрымліваецца. Адыходзіцца далей, пад вагавую будку. Тут ёсць бярвенні, якія ляжаць па некалькі гадоў,ураслі ў зямлю, зараслі асакою, быльнягом. У гнілое дупло-сарцавіну бервяна Вася якраз засунуў руку і намацаў там гняздзечка чакунца.

Ён не першы раз знаходзіць такія гнёзды. Вася вымае з гнязда маленькае зеленавата-блакітнае яечка. Назад яго не кладзе. Бо інакш у гняздзе будзе пахнуць чалавечым духам і чакунцы могуць адкінуцца ад уласных яек. Адно яйка Вася возьме на памяць.

У Васі адразу ўздымаецца настрой. Першы дзень канікул, і такая вялікая ўдача. Цяпер ён ведае аж чатыры птушыныя гнязды.

## XIII

У мястэчку голад.

Даўно зніклі з вуліц апухлыя, абыякавыя ўкраінцы: местачкоўцам самім нечага есці, і ніхто бадзягам даўно нічога не дае.

Калі Вася вяртаецца са школы, разведаўшы па дарозе гняздзечка чакунцоў, бацька разворвае, упрогшы ў плуг Гнядога, агарод, маці ходзіць услед, кідаючы ў раллю дробненькую бульбу. Вася ведае: гэта апошняя бульба. Карова запусцілася, малака не дае зусім, і есці нечага. Тым болей што бацьку звольнілі з чыгункі, і ён не палучае ніякага пайка.

Вася адчувае сябе вінаватым. Гэта ён падказаў сельсаветчыку Сцяпану Бохану, што падполле чыстай палавіны хаты

засыпана вось гэтай дробнай, якую садзяць, бульбай. Таму сельсавет паслаў паперу на станцыю. Бацьку звольнілі з чыгункі, сала з'еў Мірончык, карова мінулым летам не пабегала, таму запускаецца. Як цяпер жыць?

— У гладышыку трохі малака,— гаворыць маці.— Акрайчык хлеба на паліцы. Схавала, каб Петрык не з'еў.

Маці шкадуе Васю, бо ён далікатны, чуллівы і вельмі пераборлівы ў ядзе. Які б ні быў галодны, не есць смажанай бульбы, баршчу з буракоў, не дакранецца да картаплянага супу, калі ён засмажан здорам з цыбуляй. Вельмі часта іменна такія стравы варацца на абед, і Вася нават не садзіцца за стол. Абыходзіцца шклянкай малака і кавалачкам хлеба. Ён худы, выпетраў, як цявіна, але прывычак не мяняе.

Маці просіць:

— Вазьмі, сынок, сумачку, пашукаеш шчаўя. Бабы ходзяць. Можа, хоць жменю прынясеш.

Вася заходзіць у хату, хавае ў сундучок выдадзеныя ў школе лемантар, чытанку, два сшыткі. У дадатак да школьных Вася цяпер мае тры ўласныя кнігі: «Правила технической эксплуатации железных дорог», «Правила сигнализации на железных дорогах» і нямецкую чытанку без вокладак. Першыя дзве кнігі даў Васю бацька, і ён час ад часу іх гартае. У іх намаляваны стрэлкі, семафоры, паравозы, дый пахнуць яны мазутай, карасінам, бо бацька вазіў іх у сваёй кандуктарскай сумцы. Нямецкую чытанку Васю падараваў малодшы брат маці — Пеця, які жыве ў Бабінавічах.

Шкада, няма замочка, каб замкнуць сундучок. Цікаўны Петрык совае туды нос. Кнігі баіцца браць, а ўсё астатняе, што Вася часам прыхоўвае ў сундучок,— патроны, алавяныя пломбы з вагонаў, рознакаляровыя шкельцы,— бязлітасна крадзе. І ніякай праўды не даб'ешся ад нягодніка.

Вася бярэ малы зрэбны мяшэчак, у які маці звычайна насыпае вобмешку для свінні, ідзе па шчаўе. Якраз насупраць вялізнай, з купчастым верхам таполі, што расце на агародзе старога Свірыдзёнка, зеўрае пракладзеная пад чыгуначным насыпам вялізная цэментная труба. Праз трубу працякае ручай, які яднае два балоты — Гарадзінку і Заброддзе. Магчыма, тады, калі насыпалі чыгунку, ручай быў невялікай рачулкай, і іншага выйсця, чым пусціць рачулку па трубе, не было.

Вася не раз лазіў у цэментовую трубу. Нават сядзеў у ёй, каб пачуць, як аддаецца гул цягніка, які ў гэты час імчыць па рэйках. Гул страшэнны, нібы землетрасенне.

Цяпер Вася звязвае з цэментовай трубой іншыя надзеі. Кнігаўкі, кулікі, нават дзікія качкі, вывеўшы птушанят, чамусьці пераводзяць іх з Гарадзінкі на Заброддзе. Брыдуць па звілістым рэчышчы высахлай рачулкі, пралазяць праз трубу, а ўжо далей як прыйдзецца. Часам нават разбрыдаюцца па навакольных агародах. Птушаняты ідуць, а дарослыя птушкі з трывожным крыкам носяцца над імі ў паветры.

Чаму кнігаўкі, кулікі робяць пераход з аднаго балота на другое, Вася не можа адказаць. Гарадзінка — дрыгва, твань, яна не высыхае ў самае засушлівае лета. Заброддзе высыхае. На ім падымаецца высокая трава, якую косяць на сена. Няўжо ў той траве болей харчу для птушак, чым між зараслага асакой балотнага куп'я на Гарадзінцы?

Гэтага Вася не ведае. Таму хоча падгледзець, як перабіраюцца птушкі праз цэментовую трубу, праз Савецкую вуліцу і што робяць у Заброддзі!

З торбачкай у руках Вася пераскоквае чыгуначны насып і вачам не верыць. Лугавіна да самай Гарадзінкі стракаціць ад белых, сініх, шэрых жаночых хустак. Сагнуўшы ў крук спіны, жанчыны шнырующь па лузе, зарослым зялёнай травой, вышукваюць, затым шчыплюць у прыпол шчаўе. Не, Васю тут рабіць нечага. Трэба падумаць, дзе яшчэ расце шчаўе і дзе можна нашчыпаць яго хоць прыгаршню.

Вася ідзе па сцежцы ўздоўж высокага чыгуначнага насыпу. Мінае семафор, у дадзеную хвіліну ён стаіць з апушчаным крылом, пераезд, па абодва бакі якога размешчаны будкі пераезных вартаўнікоў Драгі-Мілеўскага і Драздовіча. Будка Драгі-Мілеўскага складзена з бліскучай чырвонай цэглы, а ў Драздовіча — драўляная, пафарбаваная ў казённы жоўты колер.

На паўшляху ад местачковых пераезных будак да будкі пуцявога абходчыка Шкроба, ад якой да мястэчка вярсты паўтары, таксама ёсць невялікая лугавінка, на якой расце шчаўе. Расце яно і на пясчаным адхоне чыгункі.

Вася прыглядваецца. На чыгуначным пяску шчаўе толькі праклёўваецца. Два-тры вузкія чырванаватыя лісцікі толькі

вылазяць з зямлі. На нізінцы-лугавінцы, якая цягнецца ад насыпу чыгуначнага палатна да дубовага гайка, астраўка, пакінутага сярод суцэльнага масіву ўзоранага калгасам поля, шчавель большы і лепшы. Вася старанна яго вышуквае, шчыпле, прыкідваючы, каб хапіла на гаршчок.

Назаўтра Ілля Кісель збірае басоту на зарослым муравой выгане. У другі ці трэці раз вучыць, якую траву можна есці. Галаднавата жыве Дзядок. Выключаючы хіба Васевага суседа Адама, бацька якога надзвычай увішны і руплівы. Нездарма па-вулічнаму, за вочы яго завуць Верабей.

Выйшаўшы з калгаса, дзядзька Платон падаўся ў «Лесбел». «Лесбел» зімой і летам нарыхтоўвае драўніну, добра плаціць сваім рабочым і нават паёк печаным хлебам выдае. Нібыта нават прыязджаюць у «Лесбел» прыёмшчыкі з Германіі, аглядваюць нарыхтаваную драўніну.

Вася збольшага ведае, якую траву можна есці. На адхоне чыгункі расце зайцава цыбуля, у лесе ёсць мясціны, наўсцяж засланыя зязюльчыным сном. Але на адной траве не пражывеш. Трэба чакаць ягад, а галоўнае — бульбы.

Вечарам Вася чуе, як напаўголасу размаўляюць між сабой бацька і маці. Есці нечага: трэба прадаваць сак — дзявочае мацерына паліто і яе чаравікі з высокімі халяўкамі. За ўсё гэта Дзям'ян Мачула дае пуд грэчкі. Той самы Дзям'ян, які парэзаў дзедавы авечкі, а потым сказаў — зладзеі пакралі.

У Васі аж слёзы на вочы наварочваюцца. Ён не можа ўявіць, што маці болей не апране сваё паліто, не абуе бліскучых ад глянцу чаравікаў. У гэтых сваіх уборах, якія прынясла як прыданае, маці падобна на маладую дзяўчыну. Вася вельмі любіць яе такую.

Сак, чаравікі з высокімі халяўкамі бацька нясе на хутар да Дзям'яна, здабыты пуд грэчкі меле ў млыне. І вось маці пячэ пульхныя грэцкія бліны. Яна вельмі ашчаджае муку. Трэба, каб яе хапіла да першай бульбы. Таму пячэ блінцы толькі ў абед, і толькі пяць штук. Два бацьку, адзін сабе і па паўблінца дзецям. Раніцай і вечарам сям'я сёрбае пустое шчаўе.

Маці з бацькам едуць на Блізкае Ляда садзіць бульбу сумесна са стрыечнай сястрой маці Палінай. Бацька раскарчоўвае лясную паляну, насенне бульбы дае Паліна, мажная, распаўнелая,

з на дзіва прыгожым — нібы галубінае вуркатанне — голасам і яшчэ прыгажэйшым тварам. Можа, няма такой другой прыгожай жанчыны ў мястэчку, як Паліна.

Замужам яна за спакойным, мякка-падатлівым чалавекам, якога завуць Прохар Прохаравіч і які працуе фельчарам у чыгуначнай бальніцы. У пяць гадоў Вася хварэў на кор, у шэсць — на запаленне лёгкіх, і лячыў яго фельчар.

Васю доктар падабаецца: мяккі, абыходлівы, нават горкую мікстуру не надта прымушаў піць.

Тым часам у хаце ціхая, асцярожная гаворка між бацькамі пра тое, што Паліна збіраецца кідаць свайго Прохара Прохаравіча. Нібыта моцна зляглася яна са старшынёй сельсавета Бутрымовічам, дужым, рослым, рудавалосым мужчынам, пакуль яшчэ не жанатым, відаць, разлічваючы, што ён возьме яе замуж.

Вася нічога не разумее. Як можна кідаць мяккага, далікатнага фельчара і ісці за няведама каго? Тое, што Прохар Прохаравіч добры чалавек, ведаюць усе. А Бутрымовіч? Вася бачыў яго: злосны, шалёны, вочы зыркаюць, як у змея.

Вася даглядае Петрыка і Сяргея. Таксама за курамі сочыць: кіяхі пусцілі толькі першыя лісцікі і, заскочыўшы ў агарод, куры бязлітасна выграбаюць пасаджанае зерне. Ён спецыяльна вывеў братоў на агарод: здзіраць, есці смалу са слівін. Адсюль, з агарода, добра відаць дом і двор Цімоха Стрыжа. Сашка Пудлік, самы малодшы з трох братоў Цімоха, сядзіць на даху дома, на чарапіцы, і зычна лямантуе:

— Звары картопляў!

Гэта ён так звяртаецца да маці, Аксінні Рыгорыхі, якая поркаецца ў агародзе.

Агарод у Цімоха адмысловы. Пры доме, хлявах толькі дзве-тры грады з цыбуляй, гуркамі, макам, агароджаныя шчыльным дашчаным парканам. Далей нізкая лугавіна, якую вясной залівае вада, далей, на ўзлобку, зноў агарод: бульба, капуста, буракі.

Пудлік, відаць, крычыць з разлікам, каб пачула маці, якая завіхаецца на дальнім агародзе. Яна перакопвае леташняе бульбянішча, кідаючы ў вядро рэдкія, перамерзлыя за зіму бульбіны.

— Каб табе зарвала,— гаворыць Аксіння Рыгорыха і часта-часта махае сцятым кулаком: грозіць сыну.

— Звары картопляў! — крычыць Пудлік яшчэ гучней.

Пудлік псуе Васю справу. Маці, збіраючыся садзіць бульбу разам з цёткай Палінай, спякла больш, чым звычайна, блінцоў. Два прыкрыла настольнікам: на вячэру. Вася з малымі паабедаў: з’елі крупнік і па паўблінца. Так што да вечара трэба трымацца.

— Хачу блінца! — першы не вытрымлівае Сяргей.

Надзьмуўшыся, ён раз-пораз шморгае носам, і па ўсім відаць, хутка заплача. Сяргей вельмі падкі да яды.

— Звары картопляў! — набіраючыся ўсё большай моцы, разлягаецца Пудлікаў голас.

Пудліка Вася ведае. Ён, калі не даможацца свайго, не перастане лямантаваць.

— Будзем есці смалу,— гаворыць Вася братам.— Спачатку са старэйшай слівіны, потым з маладзейшай. Смала — смачная. Хіба ты не ведаеш, Сяргей?

— Не хачу смалы, хачу блінца,— заяўляе самы меншы брат.

Вася не любіць біцца. Ні са сваімі братамі, ні з чужымі хлопцамі. Зрэдку ён дае плескача толькі Петрыку, калі той асабліва назаляецца. Петрык тады лямантуе як рэзаны. На Сяргея Вася яшчэ ніколі не падняў руку.

Васю ўдаецца аддзерці ад камля слівіны невялікую пасачку светла-жоўтай смалы, і ён аддае яе брату.

— Жуй, Сяргей. Калі доўга жаваць, то есці зусім не захочацца.

Петрык дапытліва глядзіць на Васю: чакае сваёй чаргі.

Вася і Петрыку дае трохі смалы.

— Звары картопляў! — аж захліпаецца Пудлік.

Ён усё-такі нягодны, гэты Пудлік. Нездарма з ім хлопцы не хочуць гуляць. Калі хто-небудзь зачэпіць яго, то можа раўці хоць цэлую гадзіну. Сям’я ў Стрыжоў вялікая: аж сямёра дзяцей. Стары Стрыж — ссутулены, чорны, падлобісты — арганізаваў калгас. Але сам у калгас не ўступіў. Цяпер на машынна-трактарнай станцыі адпускае бензін і карасін.

Аксіння Рыгорыха кідае перакопваць бульбянішча і, несучы ў вядры выкапаную мёрзлую бульбу, ідзе ў двор. Пудлік імгненна куляецца з даху на дол.

— Смала нясмачная,— румзае Сяргей.— Да зубоў прыліпае.

— Пайду пагляджу, можа, маці прыехала,— гаворыць Вася.

— І мы з табой,— падахвочваецца Петрык.

— Курэй глядзіце. Мігам кіяхі падзяўбуць.

Сяргей прыціхае. Малыя насцярожана ўтаропліваюцца на Васю. Пра два грэцкія блінцы яны ведаюць. Абед даўно мінуў, і крупнік быў толькі ледзь забелены малаком.

Блінцы ляжаць на стале, прыкрытыя чыстым ільняным настольнікам. Вася яшчэ ў акно выглядвае: ці не пакажуцца маці, бацька і цётка Паліна. Аднак нікога не відаць. Спакуса настолькі вялікая, што Вася не вытрымлівае і адшчыквае кавалачак блінца. Праглынае яго, не разжоўваючы, і страшэнна палохаецца: што скажа маці. Яна таксама галодная. Ад свайго блінца яшчэ бацьку адломвае.

Калі Вася вяртаецца да меншых братоў, яны ягоны настрой разгадваюць умомант.

— Хачу піць,— заяўляе Сяргей, ідучы ў хату.

Блінца нягоднік, відаць, адламаў, хоць па ім зусім не відаць, што хоць трохі пакутуе ад дакораў сумлення.

Услед за Сяргеем, медзведзявата перастаўляючы свае тоўстыя ногі, валіць у хату Петрык.

Вася маўчыць. Што ён можа сказаць гэтым двум бессаромнікам?

Кропля надзеі ў Васевай душы ўсё ж тоіцца. Вася ідзе ў хату, падымае настольнік. Ад блінца засталася толькі палавіна. Вася, цяпер ужо зусім свядома, адламвае яшчэ кавалачак. Пасля яго ў хату па чарзе заскокваюць Сяргей і Петрык.

Было два блінцы, і застаўся адзін.

Вечарам вяртаюцца бацька, маці і цётка Паліна.

У мяшку засталося трохі бульбы, маці чысціць яе на вячэру і нібы зусім не заўважае, што блінец толькі адзін.

# XIV

Голад толькі крануў чорным крылом мястэчка. Можа, таму, што буяе лета, шчавель расце, вытыркае на градках зялёныя пёркі цыбуля. Вось-вось падыдзе бульба-скараспелка. Ягады пойдуць: суніцы, чарніцы. Тады — поўны паратунак. Не прападзеш, чалавеча...

Галаднаватыя, знясіленыя людзі ў мястэчку ёсць, але такіх абыякавых да жыцця зданяў, распухлых, павольных у рухах, якімі былі вандроўныя ўкраінцы, дзякуй богу, няма.

Галадаюць найбольш тыя сем'і, у каго дзяцей многа або гаспадара няма. Сям'я Васі, можна сказаць, трапіла ў гэты рад выпадкова. Бульба не ўрадзіла, хіжы Мірончык сала пакраў, а тут яшчэ карова запусцілася.

Хлопцы — Вася, Адам, Кузьма Поклад, Цімох Стрыж, Пеця Кірнач, Ілля Кісель і ягоны брат Мікалай — штодзень збіраюцца на мусах і гавораць толькі пра яду. Падзяліўшыся на пары, кіруюць да чыгуначнага насыпу, збіраюць зайцаву цыбулю.

Дзіўная зайцава цыбуля. Пёркі тоненькія, жарсткаватыя, на смак прыемныя, клубень нават меншы за ягаду чарніцу. Па цэлым пуку назбіраюць хлопцы зайцавай цыбулі. Толькі слаба яна наталяе голад. Горыч у роце, і ў жываце бурчыць.

Зноў ваяўнічы запал ахоплівае хлопцаў: ладзяць лукі-дужкі, падпаленкі, самапалы. На гэты раз дзеля палявання на птушак. Птушынае мяса, ого, якое карыснае! Калі забіць, скажам, дзесяць вераб'ёў, можна ў збытку наесціся.

Толькі слабыя чамусьці трафеі. Стралялі з падпаленак, зараджаных шротам, па вераб'ях, якія любяць сядзець кучкамі на дроце, на парканах, на вільчыках хат, і ніводнага не падстрэлілі. Відаць, падпаленка залішне рассыпае шрот.

З лукаў-дужак вераб'ёў тым больш не доймеш. Праўда, Коля Кісель папаў стралой вераб'ю ў ножку, Вася на ўласныя вочы бачыў. Але гэта было ў мінулым годзе. Дый усё адно паляцеў той верабей.

Вася ведае чатыры птушыныя гнязды. У кожным з іх вывеліся маладыя птушаняты. Але Вася птушкам не здрадзіць.

Бо гэтыя дзівосныя істоты ўмеюць лятаць, могуць высока ўзняцца ў неба, співаць свае прыгожыя песні.

Не, ніколі Вася не пакваліцца на птушак. Няхай нават будзе паміраць з голаду...

Цяпер Вася ў хлапечай талацэ пасе свіней. Вельмі часта міма будак на пераездзе імчаць цягнікі: поўныя, гружаныя і паражнякі — апошнія вызначаюцца нейкім вясёла-паспешлівым грукатам колаў. На платформах часта вязуць розныя сельскагаспадарчыя машыны: сеялкі, жняяркі, нават трактары.

Паражнякі талака прапускае. Нічога цікавага: вагоны, на якіх нават алавяныя пломбы не вісяць, доўгія замызганыя платформы. Вагоны неаднолькавыя: звычайныя і чатырохвосныя, пульманаўскія. На звычайных надпісы: тормаз Матросава, тормаз Казанцава. На доўгіх пульманаўскіх — тормаз Весцінгаўза. Цікава, хто такія Матросаў, Весцінгаўз і чым адрозніваюцца адзін ад другога іх тармазы?

Зачуўшы гружаны ці пасажырскі цягнік, хто-небудзь з хлопцаў бяжыць да чыгуначнага насыпу, паспешліва кладзе на рэйку, пад колы поезда, пятак. Калі апошні вагон, злёгку пагойдваючыся, мінае месца, на якім ляжыць манета, яе ўладальнік падымае яе, гарачую, расплюшчаную, падобную на медаль.

Раней хлопцы, выганяючы свіней за чыгунку, праглі на ражончыках сала, і калі сала пачынала пырскаць тукам, клалі яго на акрайчык хлеба. Цяпер ні сала, ні хлеба няма, таму хлопцы вышукваюць, выдзіраюць з зямлі розныя карэньчыкі. Ёсць горкія, непрыемныя на смак, але і такія ёсць, якія можна жаваць.

Вася пасе і рудую, з доўгім, нібы склюд, лычам дзедаву свінню, таму цяпер як бы на законнай аснове ходзіць да дзеда снедаць і абедаць. Дзедава сям'я жыве лепей, чым бацькава. Маці варыць на абед толькі шчаўе, а ў дзеда на стале картапляны суп, забелены малаком, смажаная бульба, запраўленая здорам, на снеданне — блінцы са скваркамі ці нават яечня.

Вася расказвае, якія стравы есць у дзеда, і, можа, па гэтай прычыне вынікае бяда. Бацьку дзед пакрыўдзіў: самае горшае поле выдзеліў, якое цяпер адышло пад калгас, нават хату не памог будаваць.

Невялікі, з касымі вугламі зруб, які цяпер стаіць на агародзе, вось такую хату дзед прыдбаў свайму адзінаму сыну. Зруб стаяў раней на хутары на Блізкім Лядзе, дзе Вася цяпер пасвіць каня. Але жыць на хутары, воддаль ад мястэчка, рабіць на зямлі бацька не захацеў. Ён наняўся на чыгунку: рабіў спачатку дрывакладам, потым паставілі яго малодшым кандуктарам.

За гэта дзед не любіць бацьку. Як жа, захацеў лёгкага хлеба: восем гадзін у суткі работаць, колькі захоча спаць. Дзед наогул не лічыць за людзей тых местачкоўцаў, якія адарваліся ад зямлі, падаліся на чыгунку ці ў якое-небудзь іншае месца.

Калі бацька ажаніўся, дзед яму нічога не даў. Карову прывяла яшчэ цёлачкай у прыданае маці, хату бацька паставіў за свае заработкі, сам купіў каня.

Бацька лічыць сябе пакрыўджаным. Дзед, бабка Аўгіння, іх маладая, дзябёлая, з круглым тварам дачка Аляксандра на цэлы дзень едуць засяваць просам лясную палянку. Карыстаючыся іх адсутнасцю, бацька наважвае ўзяць з матчынага кубла крышанчык сала. Сям'я галадае, грэцкая мука, купленая за жончын сак, скончылася.

Лепш бы не рабіў гэтага бацька! Замок на дзвярах дзедавай хаты ён адкрываў драцяной адмычкай, і не толькі не адкрыў, але яшчэ пакінуў у замку кавалачак дроту.

Які вэрхал усчаўся! Бацька на двор выйсці не можа, каб на яго не накінуўся дзед або бабка Аўгіння.

Нават Вася пакрыўдзіўся на дзеда. Як жа так, у дзеда ёсць хлеб, бульба, сала, а сям'я ягонага сына, Васевага бацькі, галадае, прадае апошняе, а дзеду ўсё гэта ні ў галаве. Нібы чужы чалавек Васеў бацька для дзеда.

Некалькі дзён Вася не ходзіць да дзеда. Нават ягоную даўгалычую рабую свінню не займае пасвіць.

На мусах хлопцы расказваюць, хто колькі і чаго можа з'есці. Найбольш пахваляецца Кузьма Поклад.

— Летась залез на Гусцінішыну дзічку і натрос колькі хацеў груш. Поўную запазуху і яшчэ шапку. І ўсе паеў...

Агромністая, разгалістая груша-дзічка бабылкі ці ўдавы Гусцініхі, як хмара, завісае над яе малой хаткай. Вясной груша як малаком аблітая ад квецені, восенню — голлі гнуцца

ад даволі буйнаватых, а калі паспеюць — пажаўцеюць, то і прыемных на смак грушак.

У Гусцініхі двое дзяцей: сын і дачка. Сын Гаўрыла жанаты, жыве разам з маці, працуе на дрывяным складзе грузчыкам. Дачка Таццяна то некуды выязджае з мястэчка, то вяртаецца. Пра яе гавораць нядобрае. Старэйшых, чым Вася і Адам, хлопцаў яна нібыта зазывае ў жыта і там расказвае ім розныя брыдкія гісторыі.

Кузьма не гаворыць, за які час з'еў два ці тры кілаграмы Гусцінішыных груш. Але за дзень, вядома, з'еў. Нічога дзіўнага тут няма. Бо акрамя Кузьмы ў сям'і яшчэ трое дзяўчат, а бацька лайдакаваты: то ноймецца на работу, то кіне.

Браты Шалудзькі — Іван і Шура — уладкаваліся пры чыгуначнай пякарні. Яна ў доме Цераха Грэчкі, якога такі выжыў з уласнага котлішча стары Стрыж. Грэчку ніхто не раскулачваў, ён проста сышоў з уласнага дома, які адразу захапіла чыгуначная пякарня.

Іван з Шурам носяць у пякарню ваду, бярэмкі дроў, пілуюць, колюць дровы. Грошай за гэта не палучаюць. Затое, па іхніх словах, аддзіраюць і ядуць колькі хочуць гарэлых скарынак, што прыстаюць да бляшаных формаў, у якіх выпякаюць хлебныя буханкі.

— Наемся скарынак,— пахваляецца старэйшы марудлівы Іван,— то магу любую канаву пераскочыць. Хоць Бечанкову копанку...

У Бечанковай копанцы хлопцы купаюцца. Шырокая, аднак, гэтая копанка, яе нават конь не пераскочыць.

Эх, хлеб, хлеб! Вася любіць фармавы, спечаны ў пякарні хлеб, які бацька атрымліваў на паёк. Асабліва скарынку любіць Вася: яна саланавата-кіслая на смак, пахне алеем, карасінам і яшчэ чымсьці вельмі прыемным.

Толькі бацька болей не працуе на чыгунцы, і пякарня не для Васі. Тым часам кожнага паўдня выязджае з двара пякарні драўляная будка, поўная цёплых буханак.

Іншага выйсця няма, і бацька паступае на работу ў «Лесбел». Гэтая арганізацыя нарыхтоўвае, вывозіць на станцыю драўніну. Расшыфраваць яе назву, відаць, трэба так: «Лес беларускі».

Зімой «Лесбел» тралюе па саннай дарозе вялізныя дубовыя камлі. Адно бервяно, пакладзенае на кары — доўгія, з раз'яднанымі і агромністымі палазамі сані,— вязуць двое ці нават трое прыпрэжаных да караў коней.

Відаць, Блізкае і Далёкае Ляда спілаваў гэты самы «Лесбел», у які, па чутках, наязджаюць нават чужаземцы — немцы. А што — ім шкада хіба беларускага лесу?

Агромністае па прасторы Блізкае Ляда, куды Вася водзіць пасвіць Гнядога, складаецца з аднаго толькі дубовага пнёўя. Пні яшчэ моцныя, толькі ледзь-ледзь пачарнелі ад ветру і дажджоў. У гэтых пнях яшчэ няма дуплаў, і таму не знойдзеш ніводнага птушынага гнязда. «Лесбел» выдае печаны хлеб. Па кілаграму на дзень, і толькі самім рабочым. Сем'і ў разлік не бяруцца. Дзядзька Платон, Адамаў бацька,— ён з самай вясны працуе ў «Лесбеле» — кожныя два-тры дні прыносіць акуратную буханачку хлеба.

Вася з надзеяй чакае бацькавай буханкі. І вось бацька яе прыносіць. Толькі ён вельмі галодны. Ён не вытрымлівае па дарозе, абламваючы хлеб рукамі, ледзь не палавіну буханкі з'ядае. І ўсё-такі гэта хлеб. Цяпер Васю кожны дзень перападае кавалак пахучага печанага хлеба.

А карова зусім запусцілася. Нават шклянкі малака ўжо не надойвае маці.

Дзіўная рэч: сельсаветчык Сцяпан Бохан хацеў, каб бацька прадаў каня, прычыніўся да таго, што бацьку звольнілі з чыгункі, а ягоны родны брат Мікалай, па-вулічнаму Грачанік, выбаўляе Васеву сям'ю з бяды.

Мікалай — хросны бацька Петрыка і па гэтай прычыне прапануе браць у яго штодзень па збанку малака. Без ніякай платы. Маўляў, калі мая карова запусціцца, то будзеце даваць малако мне.

За малаком бегае Вася. Мікалай жыве на вуліцы Чангарскай дывізіі. Яго дом, панадворак на самым ускраі Гарадзінкі. Да двара вядуць адгароджаныя з двух бакоў парканам сутачкі: вузкі, доўгі прамежак. Абы праехаць з возам.

Мікалай бясконца возіць па дактарах жонку, якой карова, матлянуўшы ў час даення хвастом, рассекла вока.

Мікалаева жонка заўсёды налівае паўнюсенькі збанок. Да збанка Вася прыладзіў вераўчаную початку, але ўсё адно поўны як вока гладышык, не расплескаўшы малако, дадому не данясеш. Таму, выйшаўшы з Мікалаевых сутачак, Вася трохі малака адпівае.

Жыць становіцца весялей. Пад бульбінамі, якія цвітуць, маці намацвае ў зямлі клубні, якія паспелі вырасці, і абрывае іх. На вячэру варыць чыгунок бульбы. Бацька буханку хлеба раз у два-тры дні прыносіць. Калі з'ясі трохі маладой бульбы ці крамнага хлеба са шклянкай малака, то болей нічога і не трэба.

Вася па-ранейшаму пасвіць з хлопцамі свіней на зарослых муравой мусах, вечарам гуляе ў «цуркі», у «ялавога», «кругавога».

Але галоўная Васева радасць — Гняды. Конь сапраўды гнядой масці, ніякіх іншых асаблівых прыкмет не мае, але Вася лёгка пазнае яго сярод сотні другіх коней.

З раніцы Вася садзіцца на Гнядога і верхам едзе на Блізкае Ляда. Там, сярод дубовага пнёўя, путае яго, пускае на пашу. Ляда ад Васевай хаты вярсты за паўтары, але яму нічога не каштуе два, а то і тры разы на дзень збегаць на Ляда і паглядзець, як пасвіцца конь.

Каб лепей падкарміць Гнядога, Вася рве яму на ўзмежках дзятлавіну, бярозку, даючы траву з рук. Конь торкаецца цёплай пысай Васевых далоняў, з ахвотай хапаючы губамі прыемную для яго палявую траву.

Вечарам Вася выдзірае са шкуры Гнядога кляшчоў, якія паўпіваліся ў яе за дзень, расчэсвае грыву.

Прыемна мець каня. З-за Гнядога бацьку звольнілі з чыгункі, ёсць іншыя непрыемнасці, але Вася нават думкі не дапускае, што каня калі-небудзь збудуць.

Раніцай і вечарам Вася нібы вецер імчыць на кані. Можа ехаць звычайна ці пусціць каня трушком. Але так Вася не хоча. Ён любіць імчаць як віхор.

Напачатку ён так намульваў зад, што на ім нават струп'е паяўлялася, балячкі ўскоквалі. Але паступова Вася навучыўся як след трымацца, калі нават пускаў каня наўскачкі. Трэба ў

суладнасці са скачкамі Гнядога трохі падымацца ці апускацца на конскай хрыбціне.

Васю здаецца, што ўсе, каго ён ведае, зайздросцяць, калі ён імчыць на Гнядым. Вася вельмі хацеў бы, каб яго ўбачыла на кані настаўніца Марыя Рыгораўна. Але яна жыве на вуліцы Чангарскай дывізіі, і пашы, куды Вася мог бы павесці каня, там няма.

На Васевы клопаты конь адказвае шчырай дружбай. Ён не ўцякае, калі нават сам распутваецца, дагаджае Васю ва ўсім. Хлопчык нават аброць не надзявае на морду Гнядога. Трымаецца за грыву, а калі трэба павярнуць каня ў які бок, ляпае яму далоняй па шыі або наддае каню трохі пяткамі.

Вася любіць лета. Летам добра, цёпла, узыходзіць і заходзіць сонца, грыміць гром, шумяць кароткія навальніцы, часам ідуць зацяжныя дажджы, расце, буяе зяляніна. І кожны летні дзень не падобны на другі. Сёння ёсць раса, заўтра няма, адзін вечар сонца ў хмарах заходзіць, аздабляючы залатымі водблескамі іх край, другі раз яно заплывае за лес, вялізнае, вогненна-барвовае, навяваючы нейкі неспакой, смутак і нават трывогу.

Якое неба прыгожае летам! Бывае чыста блакітнае, нібы кімсьці нябачным падмеценае. Сонца ў такія дні асабліва пякучае. Усё жывое хаваецца ў цень: разамлелыя куры, расправіўшы крыллі, нібы купаюцца ў пяску за хлявом. Рудзька сваёй цікаўнай пысы не высуне з будкі. Нават конь у такую гарачыню не пасвіцца. Нерухома стаіць і трасе галавой. Бульбоўнік, агурэчнік, гарбузнік як бы прывядаюць, сланечнік апускае галаву.

## XV

Паспелі суніцы. Хлопцы па суніцы звычайна не ходзяць: адны дзяўчаты. Ідзе сястра Кузьмы Поклада Саша, Цімохава сястра Маня, зусім дарослыя дзяўчаты: дачка чыгуначнага абходчыка Ёсіпа Надзя, Кірначова Поля.

У Надзі — дзюбаценькай, з прыемным, далікатным, засеяным вяснушкамі тварам — нейкія асаблівыя адносіны да Васі. Злавіўшы Васю на вуліцы, яна па-ранейшаму, не

саромеючыся, цалуе яго, часта прыходзіць сядзець на іхнюю лавачку, пры людзях называе сваім жанішком.

Васю, чым болей падрастае, становіцца больш непрыемна. Хіба пра таго, хто падабаецца, гавораць услых? Тым часам Надзя — нявеста. Кончыла сямігодку, іграе на гітары, песні спявае.

Вася ідзе ўслед за дзяўчатамі толькі дзеля таго, каб разведаць месца, дзе яны збіраюць суніцы. Хоць маці наказвае яму ад дзяўчат не адбівацца.

Старэйшыя дзяўчаты расказваюць адна другой розныя гісторыі, хіхікаюць. Васю да гэтых гісторый і хіхікання няма ніякай справы.

Па дарозе да лесу спярша кідаецца ў вочы дубовы гаёк, які нібы астравок сярод зялёнага, засеянага жытам поля. Жыта палавее. Малюнак незвычайны: агромністы, як кінуць вокам, сіва-зялёны прастор. Поле засеяў калгас, таму такі малюнак. Раней пярэстае было поле: хто жыта сеяў на гэтым дуброўным кавалку, хто ячмень ці авёс, хто нават бульбу садзіў.

Гаёк Васю добра знаёмы. Сюды ён прыходзіць з хлопцамі вырэзваць маладыя дубкі, з якіх згінаюць дужкі для лукаў, і наогул прыемна пагайдацца на пругкіх галінах маладых дрэў, якія растуць у гайку надзвычай шчыльна.

Разам з Васем ідзе Петрык, абуты, як і Вася, у новыя лапцікі. Ісці босым у лес нельга. Можна на змяю наступіць ці яшчэ што-небудзь непрыемнае здарыцца. Петрыку маці дала толькі кружку. Ён ідзе з подскакам, раз за разам забрыдае ў жыта, ірве сінія васількі, збірае ў жменю жукоў-кузькаў.

Вось Шкробава будка. Яна звычайная, драўляная, пафарбаваная ў жоўты колер. Вася часта забрыдае сюды. З хлопцамі, часам нават адзін. Па абодва бакі будкі асінавыя гайкі. Правы, перарэзаны папалам дарогай і вялікай лужынай, якая высыхае толькі да сярэдзіны лета, асаблівай цікавасці не ўяўляе. Затое ў левым гайку, які пачынаецца адразу за пераездам, магутна ўзмахваюць галінамі прыгожыя высокія асіны, у крушынніку, лазовых кустах спяваюць, пырхаючы з сука на сук, дразды і іншыя птушкі. Вася ні разу яшчэ не адшукаў гнязда чорнага дразда і разлічвае, што знойдзе іменна тут.

Каля Шкробавай будкі ёсць пераезд, але ён не ахоўваецца. Па правым баку чыгункі — сыпаны пясчаны шлях, па левым — прасёлкавая дарога. Шкроб — пануры, шыракаплечы, высокі мужчына, працуе пуцявым абходчыкам. Выгляд у яго страхавідны: пабіты воспаю твар, чорныя пукатыя вочы. Але чалавек Шкроб бяскрыўдны: ні на каго не крычыць, не пагражае.

Наступная ад Шкробавай будкі — Кротава, якой Вася яшчэ не бачыў. Цяпер якраз ідзе туды. Злева і справа паабоч чыгуначнага насыпу ўзвышаецца чарада дубоў. Пад адной такой чарадой нават хутарэц стаіць: хата, хлеў, гумно. Дубы высокія, разлапістыя, Вася глядзіць на іх з прыемнасцю. На такіх дубах у дуплах уюць гнёзды дзікія галубы. Але на дуб, шапка якога высока ўзнесена над зямлёй, так проста не ўзлезеш. Хоць і калоды з пчоламі стаяць на некаторых дубах. Пчаляры ўзбіраюцца да сваіх калод пры дапамозе жардзіныастровіны і вяроўкі. Вася такой астровіны не знойдзе. Жалезныя клешні, якія ў яго ёсць, таксама не дапамогуць. На іх проста не зачэпішся за таўшчэзны камель дуба, бо гэты камель нават рукамі не абдымеш.

Дубы, дубы да самага лесу. Яны і пры лесе стаяць нібы вартавыя: іх разложыстыя шаты вышэй вяршалін бяроз, асін, вольхаў.

Лес, у які дзяўчаты прывялі Васю з Петрыкам, змешаны: бярозы, асіны, сосны. З левага боку гэты прыгожы лес падпіраецца мокрым алешнікам.

У лесе дзяўчаты разбрыдаюцца і толькі зрэдку між сабой перагукваюцца. Ніхто з іх не вучыць Васю, як збіраць суніцы. Але ён сам умее. На адхоне чыгуначнага палатна часам расце сунічнік, і ягады на ім наліваюцца, нібы чырвоныя бусінкі.

Вось і Вася бачыць ягадзіну. Адну, другую, трэцюю. Не пакаштаваўшы ніводнай з іх, Вася кідае суніцы ў збанок. Маці нездарма дала Васю гэты збанок. Трэба набраць яго поўны. Жанчыны з іхняй вуліцы, якія ходзяць у лес, прыносяць па цэлай гладышцы ягад, разы ў два большай, чым Васеў збанок.

Галасы дзяўчат даносяцца то з правага боку, то з левага. Вася на іх не зважае. Ён не заблудзіць у лесе, бо побач

чыгунка. Па ёй бадай кожную паўгадзіну праносяцца цягнікі, і іхні гул толькі глухі не пачуе.

У лесе пануюць размаітыя пахі, водары: аж галава кружыцца. Розныя птушкі, папіскваючы, пералятаюць з галіны на галіну. Вася пазнае толькі чорнага дразда, і яму аж сумна робіцца: не ведае лясных птушак. Дый мала ён сёлета птушкамі займаецца. Перашкаджае бясхлебіца, голад.

Між тым робіцца ясна: бегаючы па лесе, суніц не набярэш. Дзе знайшоў ягадзіну, там шукай другую. Тупай і тупай. Большыя суніцы якраз на ўскрайку лесу. Можа, таму, што тут болей сонца.

Не разгінаючыся вытупвае Вася па лесе, можа, цэлую гадзіну, а ў збанку толькі дно закрыў. Нялёгкая справа — набраць ягад. У Петрыка справа яшчэ горшая. У ягонай алюмініевай кружачцы яшчэ няма ніводнай ягадзіны. Наогул шустры, цікаўны Петрык на вачах мяняецца. Ходзіць па лесе вялы, абыякавы і, здаецца, болей глядзіць уверх, на вяршаліны дрэў, чым на зямлю, на ягаднік.

— Ты, можа, ясі суніцы? — пытае Вася.

— Я яшчэ ніводнай не знайшоў. Ну іх к чорту. Пайду дадому.

— Смяяцца будуць. Скажуць: быў у лесе і нічога не знайшоў.

— Няхай смяюцца.

Васю пайшоў дзявяты год, Петрыку — толькі шэсць споўнілася. Такіх рэчаў, як сорам, ганьба, гонар, ён проста не разумее. Пайшоў у лес з цікаўнасці. Ён увогуле валачэцца за Васем як хвост, і часам Вася бязлітасна яго ад сябе адганяе. Але цяпер яму шкада Петрыка. Якраз трапілася багатая на ягады лапінка сунічніку.

— Ідзі сюды! — Вася кліча малодшага брата.— Бачыш ягады. Можаш тут паўкружкі набраць. Толькі асцярожна бяры, не даві суніцы...

Петрык яўна падахвочваецца. Адну ягадзіну кідае ў кружку, другую — у рот.

Можа, пяць ці шэсць цягнікоў пранеслася па рэйках, а Вася дайшоў толькі да пука — самай шырокай часткі гладышыка. Адолее ён пук, і справа пойдзе куды хутчэй.

Спіна ные, ногі здранцвелі, ды і камары кусаюцца. У лесе іх яшчэ колькі хочаш. Нудна зумкаюць над вухам. Вася некалькі камароў забіў: цяпер на руках у яго, на шыі некалькі чырвоных плям, не зразумееш, ці ад уласнай крыві, якой у збытку напіліся камары, ці ад сунічнага соку.

Дзяўчат не відаць, не чуваць. Пабеглі кудысьці далей. Няхай бягуць. Васю яны не патрэбны. Цяпер ён сам умее збіраць суніцы і ведае, дзе яны растуць.

Нечакана Вася з Петрыкам трапляюць у змрочны грабняк, на доле якога не толькі суніц — наогул ніякай расліннасці няма, а толькі ляжыць густы пласт апалага лісця. Стараючыся пераадолець змрочны лес, хлопцы выходзяць на залітую сонцам паляну.

Дзіўны малюнак адкрываецца позірку. Стаіць будка, складзеная са шчыльнай чырвонай цэглы, бадай, такая самая, як каля местачковага пераезда, дзе жывуць Янка і Адольф Драгі-Мілеўскія. Наводдаль — хутарэц: крытая дранкай хата з невялікімі вокнамі, два хлеўчукі, яшчэ нейкая невялікая будыніна.

З таго, што расказваюць старэйшыя хлопцы, Вася ведае: перад ім Кротава паляна. Стары дзікаваты Крот, апрануты ў даматканую белую кашулю і такія ж штаны, часта паяўляецца ў мястэчку. Ён валодае сваім хутарцом, а да каменнай чырвонай будкі не мае ніякага дачынення. Проста людзі яе так называюць.

Васю аж весялей робіцца: на такую прыгожую паляну забрылі яны з Петрыкам. Ніхто не прывёў: самі прыйшлі. На паляне сям-там купчастыя бярозы, на ўскрайку лесу густы арэшнік. Хутчэй за ўсё дзяўчаты на другі бок чыгункі шуганулі. Каля Кротавай будкі, як каля Шкробавай, ёсць глухі, які нікім не ахоўваецца, пераезд.

Вася ведае: ад Кротавай будкі да мястэчка тры з палавінай вярсты. Вось як далёка яны сягнулі. І дарогу назад ведаюць. Будзе што расказаць.

Сонца пачало хіліцца на спад. Відаць, цяпер дзве ці нават тры гадзіны дня. Да вечара яшчэ далёка.

Петрык стаміўся ўшчэнт. Зяхае, нібы выкінутая на бераг рыба. Твар чырвоны, мокры ад поту. І суніц у яго толькі

палавіна кружкі. Тым часам Вася амаль перайшоў пук. Засталося запоўніць суніцамі толькі гарлавіну гладышыка.

Васю шкада малодшага брата. Стаміўся, бо дрэнна яны цяпер кормяцца. Толькі два ці тры дні, як сталі есці маладую бульбу.

— Пасядзі пад бярозай, Петрык. Адпачні ў цяньку. Можаш трохі ягад з’есці...

— Давай я свае ягады табе ў гладышку высыплю,— просіць Петрык.

Вася разумее брата. Не верыць Петрык, што набярэ поўную кружку суніц.

— Сып,— дазваляе Вася.

Петрыкавы суніцы, дробненькія, напалавіну зялёныя, дазваляюць цалкам адалець ненавісны пук.

Петрык ляжыць пад бярозай. Можа, нават заснуў. Падбіўся малеча. Васю тым часам шанцуе. Такія буйныя сакаўныя суніцы на ўзлессі пад бярозамі, так многа іх! Па ўсім відаць: дзяўчаты гэтую багатую мясціну абмінулі. За якую-небудзь паўгадзіну Вася дабірае гладышык, трохі ласуецца суніцамі і трохі ў жмені для Петрыка нясе.

Задаволеныя, нават гордыя, варочаюцца Вася з Петрыкам з лесу. Як жа, поўны гладышык суніц назбіралі. І дзяўчаты ім не патрэбны. Не заблудзіліся ў лесе, цяпер самі знойдуць дарогу аж да Кротавай будкі.

## XVI

Сонечнае, цёплае плыве лета. Яно ўжо пераваліла на другую палавіну, аднак у хляве, у спецыяльна адведзеным, адгароджаным закуце няма ні сяніны. Дзе, як касіць? Яшчэ год назад сенакос дзялілі: кожны гаспадар цягнуў з агульнай кучы — каб крыўды не было — бірку, на якой адзначаліся мясціны ягонага сенакосу. Сенакос дзялілі так, каб кожнаму пападала трохі паплаўнога, лугавога і трохі балотнага сена. Адметная часіна была касьба. Ва ўсіх дварах мужчыны адначасна кляпалі на бабках косы, вясёлы металічны грукат-стукат стаяў над мястэчкам. Дзед Піліп, напрыклад, збіраўся

на касьбу як на свята. Апранаў чыстую даматканую кашулю, штаны, доўга адбіваў бабкай касу, затым тачыў яе мянташкай.

Бабка Аўгіння налівала ў дубовую — літраў на дзесяць — біклажку квасу-бярозавіку, запраўленага, каб не траціў смаку, падпаленымі хлебнымі скарынкамі, здымала з гарышча мяшэчак, у якім яшчэ з зімы былі зашыты кавалкі ёлкага, пажаўцелага сала. Не з'ясі на поплаве сала, то і касой не паводзіш.

Дзед запрагае каня, кідае на калёсы граблі, вілы, касу, аднак, нясе на плячы. На воз садзяцца бабка, цётка Аляксандра; іншы раз і Вася прыладзіцца. Паехалі...

Цяпер лугі, паплавы адышлі пад калгас. Дзе накасіць карове сена?

Местачкоўцы, відаць, чакалі якога-небудзь распараджэння сельсавета наконт касьбы. Трэба ж людзям жыць, гадаваць дзяцей, таму і каровы трымаць трэба. Бо на адным заработку, дзе б чалавек ні працаваў, не пражывеш.

Чакаюць тыдні два. Сельсавет, аднак, маўчыць. І вось кожны з местачкоўцаў, ціха пакляпаўшы на панадворку касу, патаемна шастае куды-небудзь у кусты. У адным месцы капу ўварве, у другім...

Бацька доўга спадзяецца на закон, таму лепшую пару прапускае. Кустоўе, узлессе ўжо нібы брытвай выгалена. Застаецца дрыгва, асака на Гарадзінцы. На тым самым балоце, дзе Вася зімой катаецца на каньках-дзеравяшках.

Напачатку з касой, затым з граблямі бацька ходзіць на Гарадзінку. Нарэшце заяўляе: трэба выносіць копы на бераг, на сухое. Наймаць чужога чалавека няма капіталаў, дый карміць нечым. Таму бацька бярэ з сабою Васю. На балоце бацька малога яшчэ сына ашчаджае. Сам бярэцца за насілкі пры самай капе, Васю пакідае даўжэзныя канцы.

Упершыню спазнае Вася, што такое балота. Збрадлівая, хісткая дрыгва можа зацягнуць, засмактаць з галавой, калі своечасова не станеш на купіну. Раз-пораз прыходзіцца праальвацца па грудзі ў дрыгву, затым з цяжкасцю выцягваць ногі. Ды і канцы касілак трэба трымаць у руках.

Да вечара выцягвае Вася з бацькам копкі асакі на бераг. Бацька парабіў копкі маленькімі, не надта цяжкімі, каб льга

было іх несці па балоце. Затое цэлы дзень Вася з бацькам да сёмага поту працуе.

Кожная купіна нібы дыхае.

Вася і не прыкмеціў, як за той час, калі выносілі з бацькам копы, пяць, а можа, нават дзесяць п'явак упіліся яму ў лыткі. Вася заўважае п'явак, калі тралююць на бераг апошнюю капу асакі. Вася мые ў вадзе чорныя ад балотнай жыжкі ногі і раптам бачыць п'явак.

Побач косіць асаку пануры, маўклівы памочнік машыніста Субота. На ўзбалотку пакручваецца лупаты Сяргей Субота, ягоны сын: таксама першакласнік. Ён, відаць, прыносіў бацьку есці. Убачыўшы п'явак, некаторыя з якіх, напіўшыся крыві, сталі тоўстыя, нібы пальцы, Вася не паказвае ногі бацьку, не выцягвае п'явак, а, падхапіўшыся, бяжыць да Сяргея.

— Бачыш, колькі п'явак ссуць мае ногі! — крычыць Вася.— Запомні, Сяргей. Раскажаш у школе...

Прагнуць маладыя душы незвычайнага, адметнага, хочучы самасцвердзіцца ў жыцці, і Вася не выключэнне.

Вось і канчаецца ліхая часіна. Не галадае больш мястэчка. Нарасла бульба, агуркі, памідоры, грыбы ў лесе прабіваюцца. Галоўнае — хлеб даспявае. Жанкі на асобных лапінках выжынаюць ячмень, сушаць, таўкуць у ступках, вараць кашу.

Вельмі згаладаліся паасобныя, асабліва мнагадзетныя сем'і. Таму звычайнага снедання, абеду, вячэры ім не хапае. Яны ноччу ўстаюць з пасцелі, выцягваюць з печы чыгун, ядуць ячменную кашу.

Нішто, аднак, без следу не мінае.

Маці, як і суседкі, нажала маладога ячменю. Хоць шкада было жаць: не зусім даспеў. Высушаныя ў печы зярняты маленькія, зеленаватыя. Вася, Петрык, Сяргей наеліся маладой кашы — і нічога. Назаўтра елі зноў. Бацька, аднак, захварэў. Не толькі не можа глядзець на кашу, а наогул на ўсялякую іншую яду.

Тыдні два бацька нічога не есць, толькі п'е розныя травяныя настоі, узвары і гэтак слабее, што не можа хадзіць на работу...

Трэба шукаць ратунак. Маці ўспамінае пра стрыечную сястру Паліну, з якой заедна пасадзілі бульбу і каля якой, па чутках, не перастае завіхацца старшыня сельсавета Бутрымовіч.

Паліна свайго фельчара пакінула, жыве з малой дачкой.

Паліна наладжвае пачастунак, на які запрашае бацьку, маці і старшыню сельсавета, моцнага як дуб Бутрымовіча.

О, вялікі цуд! Бацька атрымлівае ў сельсавеце даведку, завераную пячаткай, подпісам Бутрымовіча. У даведцы напісана, што нядоімшчыкам па кантрактацыі бульбы бацька не з'яўляецца. Каня не трымае. Вынікла, маўляў, памылка...

З даведкай сельсавета бацька едзе ў Гомель. На рабоце яго адразу аднаўляюць. Толькі ў пасадзе паніжаюць: прызначаюць не кандуктарам, а стрэлачнікам.

Васю шкада ранейшай бацькавай пасады. Не будзе ён, як раней, насіць вялізнага, з густой шэрай поўсцю тулупа, які пахне мазутай, вугалем, зімовымі вятрамі і акрыўшыся якім, можна спаць як у бога за пазухай. Стрэлачнікам такіх тулупаў не выдаюць.

Яшчэ адна падзея: у мястэчку арганізоўваюцца аўтатрактарныя курсы. На іх вучацца маладыя, шустрыя хлопцы, якіх вечарам можна сустрэць на кожнай вуліцы. Хлопцы пілікаюць на гармоніках, спяваюць, мілуюцца з дзяўчатамі. Буйнацелая дзедава дачка Аляксандра таксама прасядзела лета з маладым курсантам на лавачцы, якая належыць старому Свірыдзёнку.

І вось малады, чарнявы, прыемны з твару курсант — яго завуць Карней — прыходзіць да дзеда. Просіць дазволу ажаніцца з Аляксандрай. Дзед Піліп, аднак, зацяты. Нават слухаць не хоча хлопца, які ўжо вывучыўся на шафёра. За каго, маўляў, пойдзе Аляксандра? За гэтага бадзягу, у якога няма ні кала ні двара. Звязе ў свет адзіную дачку і там дзенебудзь пакіне.

За Аляксандру просяць Васеў бацька, маці, іншыя сваякі, але дзед Піліп, бабка Аўгіння стаяць на сваім.

У Аляксандры таксама цвёрды характар. Штовечар бегае на спатканні з Карнеем.

У дзедавай хаце не сціхае сварка і калатнеча.

## XVII

Настае для Васі школьная восень.

Школьны двор вялікі і прыгожы. З левага боку школьны будынак абсаджан бэзам, акацыяй, з правага — маладымі таполямі. У бэзавай гушчыні стаіць таксама чатырохскатны, з двума ганкамі дом дырэктара школы.

Дырэктар школы Дзям’ян Дзям’янавіч Гель Васю падабаецца. Ён немалады, маўклівы, заўсёды на чымсьці засяроджаны, ягоная трохі ссутуленая постаць раз-пораз мільгае то ў доўгім школьным калідоры, то на двары, то нават за школьным хлявом: там складзены высокія шуркі дроў.

Ідучы ў школу, Вася цяпер кожнай раніцы мые твар, рукі, вушы. Санітарная камісія першага класа, у якую ўваходзяць адны дзяўчаты, старанна правярае чысціню пазногцяў, вушэй і адразу дакладвае настаўніцы, калі выявіць што-небудзь дрэннае.

Някепскі падабраўся першы клас. Займаюцца ў ім болей як трыццаць хлапчукоў і дзяўчынак з розных канцоў мястэчка, нават з хутароў. Так што большасці вучняў Вася да школы не ведаў. З добра знаёмых асоб у першы клас ходзіць Пеця Кірнач, Мікалай Угоднік, сястра Кузьмы Поклада Моця і сястра Цімоха Стрыжа Люся.

Вася вучыцца ў першым «Б». Ёсць яшчэ першы «А», там таксама некалькі хлопцаў, дзяўчатак з Васевай вуліцы.

Знаёмыя хлопцы, дзяўчаты ў школе. Што болей трэба?

Непрыемнасць, аднак, здараецца. У кожным класе мусіць быць староста, і настаўніца Марыя Рыгораўна прапаноўвае выбраць на гэтую пасаду Васю. Маўляў, умее чытаць, лічыць. Яму трэба менш часу на падрыхтоўку ўрокаў, таму няхай зоймецца грамадскай работай.

Клас ахвотна галасуе за Васю. Зрэшты, класу ўсё роўна: Вася будзе старастам ці хто-небудзь іншы.

На школьным двары так многа пяску, што двор аж звініць ад узбуджаных галасоў: хлопцы высвятляюць між сабой адносіны, штосьці адзін другому даказваюць, адзін другога даганяюць, валтузяцца.

У дзяўчат адразу завязваецца дружба: абняўшыся адна з другою, яны назіраюць, як б'юцца хлопцы, скачуць у класы ці выдумліваюць якую-небудзь другую гульню.

Вася не любіць біцца. Ні на вуліцы, ні тут, у школе. Гэта не азначае, што ён палахлівы. Вася не баіцца сабак, любіць карабкацца на высокія дрэвы, слупы. Ён часта сядзіць на гонтавым даху сваёй хаты каля самага коміна. І ноччу Вася не баіцца хадзіць. Здаецца, схадзіў бы нават на могілкі, размешчаныя недалёка ад школы. Чаго баяцца? Мерцвякі ляжаць у зямлі і з-пад зямлі не падымаюцца. А вось душыцца, валтузіцца Вася не любіць.

Можа, таму, што быў голад, Вася мала разведаў птушыных гнёздаў. Толькі чатыры. Птушаняты ў ягоных гнёздах даўно вывеліся. Можа, нават паляцелі ў вырай.

Цяпер Вася чакае зімы. Зімой ён будзе лавіць сіллямі снегіроў. Сініцу няцяжка злавіць звычайным карытам. Пасыпаць пад карытам зярнят, абаперці яго на палачку, да палачкі прывязаць нітку. Сядзець у сенечках, назіраць праз дзірку, калі сініца пачне кляваць насенне. Шмаргануць за нітку, і ўсё.

Птушынае шчасце, аднак, не абмінае Васю і ў гэты год. Дзед Піліп ловіць у лесе савянё і аддае Васю.

Савянё вельмі цікавае. Па-першае, у яго вялікія жоўтыя вочы, якія ніколі не закрываюцца, ногі з кіпцюрамі і загнуты, нібы кручок, нос. Гэтым носам-кручком савянё ўвесь час чэкае.

Савянё шэрае, са светлымі крапінкамі на крылцах і асабліва на грудках.

Цяпер Вася нібы на крыллях ляціць са школы, каб пакарміць сваё савянё.

Прыходзяць глядзець савянё хлопцы: Адам, Пеця Кірнач, Цімох Стрыж. Нават Ілля Кісель заяўляецца. Ілля гаворыць, што ў Васі дамавы сыч. Але сыч — таксама сава.

Савянё з першага дня пачынае есці. Што дасі, тое есць: бульбу, хлеб. Днём савянё нерухома сядзіць на шастку, ноччу, калі ўсе палягуць спаць, вандруе па хаце. Днём іншы раз таксама злятае з шастка, заглядвае пад ложак, у цёмнае падпечча. Можа, нават мышэй ловіць. Кот Мікіта баіцца савяняці. Нават Рудзька яго не чапае. Толькі брэша на страшнаватую птушку.

Школьныя дні ляцяць як зацугляныя гнядыя коні. Сёння чытанне, арыфметыка, пісьмо, заўтра — пісьмо, чытанне, арыфметыка. Раз у тыдзень спевы, маляванне, фізкультура. Ні спяванне, ні маляванне Васю не вабіць, фізкультура — таксама смешная справа. Паднімі правую нагу, паднімі левую, сагніся. Вася і без фізкультуры ўсё гэта робіць шмат разоў на дзень.

У першым класе ёсць вучні, якія самі не ведаюць, навошта ходзяць у школу. Высокі цыганаваты Коля Цукар ніколі нічога не ведае, па якім бы прадмеце настаўніца яго ні спытала. Стаіць і маўчыць. Проста ціхі, маўклівы хлопец, які ні да чаго не імкнецца і нікога не чапае.

Коля Цукар ціхі, а другі Коля, па прозвішчы Ясны, з брыдкім чорным тварам, мокрымі губамі бясконца парушае дысцыпліну. То дзяўчат за касу цягае, то пэцкае чарнілам іх сшыткі, то дохлую мыш якой-небудзь за пазуху ўкіне.

Раз за разам дзяўчаты, якія сядзяць блізка ад Колевай парты, падымаюць рукі.

— Марыя Рыгораўна, Коля Ясны паветра зноў папсаваў.

Марыя Рыгораўна голас сарвала, крычучы на Колю. Яму, аднак, хоць кол на галаве чашы. Ні чытаць не ўмее, ні пісаць. І зусім не клапоціцца, каб гэтаму навучыцца.

Ёсць яшчэ ў класе Раман Стасюк, маленькі, увішны. Непаседлівы, як верабей. З чытаннем, арыфметыкай у Рамана блага. Клас ужо бэкае па складах, а Раман яшчэ і літар не ведае. Каб лішне настаўніцы неназаляцца, Раман ідзе на заняткі разам з усімі, але школу абмінае. Брындае па кургане могільніка, завітвае ў двор бандарнай майстэрні, на млын.

Калі вучні ідуць са школы, Раман далучаецца да іх.

Але вось халады наступаюць. На могілках не пасядзіш, з млына, бандарні Рамана гоняць. Відаць, заўважылі, што лодырнічае. Воляй-няволяй белабрысы ўпарты Раман прыходзіць на заняткі. Адчуваючы, што настаўніца вось-вось выкліча да дошкі, і каб папярэдзіць гэта, падымае руку:

— Пусціце да ветру,— просіць.— С... ць хачу.

Твар настаўніцы ўспыхвае нібы макаў цвет.

— Вон з класа!

Раману гэта толькі і трэба.

Надыходзіць зіма. Аднак нічога добрага яна Васю не абяцае. У старым чорным, перашытым з чыгуначнага шы-

няля палітончыку ён ходзіць ужо тры гады. Падкладкі ў палітончыку няма, і выдзімае Васю ў гэтай апранасе духі.

Бацька едзе ў Гомель купляць Васю чаравікі і прывозіць гумавыя боцікі. Гэткія боцікі, каб было цяплей нагам, дзяўчаты надзяваюць на туфлі. А Вася іх проста на панчоху надзявае. На чаравікі ў бацькі грошай не хапіла.

Нават калі анучай ногі абгарнуць, то ўсё адно ў гумавых боціках яны мерзнуць страшэнна. Вася ледзь не бягом бяжыць у школу, але хіба ад марозу ўцячэш?

Яшчэ і хлопцы пацвельваюцца:

— Ты б яшчэ хустку завязаў, спадніцу надзеў. Быў бы поўная дзеўка...

Не, не палятае сёлета Вася на каньках па Гарадзінцы, Заброддзі. Да ботаў канькі-дзеравяшкі не прывяжаш. Дый ногі можна адмарозіць.

Школьныя дні звычайныя, аднастайныя. Але ёсць і такія, што запамінаюцца.

Першы клас «Б» перавялі з прыгожага, з пафарбаванай падлогай будынка ў звычайную хату, перавезеную на школьны двор з хутара нейкага раскулачанага. Холадна ў хаце, змрочна, вучні на ўроках сядзяць у паліто. Відаць, толькі Міколу Яснаму і Раману добра: прыбіральня блізка. На кожным перапынку бегаюць туды курыць.

Можа, таму, што выгляд будынка ўбогі: з-пад пазаў бярвенняў звісае мох, вокны намёрзлыя, у першы «Б» завітвае дырэктар школы Дзям'ян Дзям'янавіч. Не знімаючы паліто, уладкоўваецца на нізенькай парце побач з Васем.

Марыя Рыгораўна бянтэжыцца ўшчэнт, але пакрысе адыходзіць. Урок арыфметыкі, настаўніца падымае вучняў, дае прыклады на складанне.

Нечакана сам дырэктар звяртаецца да класа:

— Колькі будзе, калі скласці двух аслоў і трох бараноў?

Раптам падымае руку, падхопліваецца Раман Стасюк:

— Пяць.

— Каго пяць? — дырэктар яўна пацвельваецца.— Аслоў, бараноў?..

Раман чырванее, маўчыць збянтэжаны клас.

Дырэктар школы глядзіць на свайго суседа Васю:

— Ты як думаеш?

Вася ўстае:

— Будзе два аслы і тры бараны. Але можна іначай сказаць. Пяць галоў дамашняй жывёлы.

— Малайчына! — хваліць дырэктар Васю.— Працягвайце,— звяртаецца да настаўніцы і выходзіць з класа.

Канчаецца першае паўгоддзе. У Васі адзнакі добрыя і выдатныя, «здавальняюча» толькі па пісьме. Ён яшчэ павінен дзякаваць Марыі Рыгораўне. За такія, як у яго, каракулі можна і «нездавальняюча» паставіць. Васю здаецца, што ніколі ён не навучыцца добра, прыгожа пісаць і па гэтай прычыне не пяройдзе ў другі клас.

Перад тым як пачнуцца канікулы, збіраецца агульны сход вучняў ад першага да чацвёртага класаў. На ім абмяркоўваюцца вынікі вучобы за першую палавіну года. Ніколі Вася не бачыў столькі вучняў разам: можа, дзве сотні ці нават болей. І адразу заныла ў Васі сэрца. Ён жа староста, і яго могуць выклікаць.

Вася як у ваду глядзеў. Нейкая дзяўчынка пралапатала, як вучыцца першы «А», і пасля яе выклікаюць Васю. Ён стаіць і маўчыць. Не ведае, што гаварыць.

— Хто ў першым «Б» дрэнна вучыцца? — пытае завуч пачатковых класаў, тая самая настаўніца, якая летась не прыняла Васю ў школу.

Выдаваць хлопцаў, якія няхай сабе дрэнна вучацца, Вася не можа.

— Мікола Ясны,— пачынае ён і адразу змаўкае.

Слёзы цурком ліюцца з ягоных вачэй.

Як пацвельваецца з няўдалага выступлення Васі другакласнік Косця Дранько, які жыве ў нізкай, доўгай, з двума комінамі хаце, размешчанай на месцы, дзе ад Савецкай адгаліноўваецца Вакзальная вуліца. Косця і песню ведае, і спявае яе перад усімі, каб яшчэ болей прынізіць Васю:

Старшына пузаты,
Запішы мяне ў салдаты,
У салдатах добра жыць.
Качаргою вошы біць...

Тры месяцы жыве савянё ў Васевай хаце. Маўкліва сядзіць на шосціку, шастае па хаце. За гэты час савянё ператварылася ў тлустую шэрую саву. Дзед зноў начуе ў падосеці. Ноччу сушыць снапы, днём малоціць. Васю з сабой не бярэ. Лічыцца: заняты Вася.

— Занясі саву ў гумно,— просіць дзед, калі Вася завітвае да яго.— Мышэй распладзілася. Жыта, авёс точыць. Сава павінна мышэй лавіць, а не бульбу есці...

Вася так і робіць. Заносіць саву ў гумно, пускае. Яна адразу зашываецца ў цёмны кут. І колькі потым ні завітвае Вася ў гумно, савы не бачыць. Можа, яна хаваецца па цёмных закутках, можа, вылецела. Дзірак у гумне колькі хочаш...

У ноч пад Новы год у самым вялікім класе школы выстаўлена ёлка. Выдатная ёлка: вялікая, аздоблена бліскучымі брындзулькамі і нібы нават снегам зацярушаная. Снегу дзяўчаты нарабілі з паперы, парэзаўшы яе на драбнюсенькія кавалачкі.

На ёлку запрошаны класы ад першага да чацвёртага. Васю дзіўна: першакласніцы, якія яшчэ добра чытаць не навучыліся, бэкаюць па складах, пад ёлкай адчайна пускаюцца ў скокі. Скачуць і нейкія прыпеўкі спяваюць. Знайшліся артысткі. Вася глядзіць на дзявочыя скокі зняважліва, нічога добрага ў іх не бачачы.

У старшакласнікаў каля гэтай ёлкі будзе заўтра бальмаскарад. Так напісана ў размаляванай рознымі фарбамі аб’яве, якая вісіць у школьным калідоры.

Васю, аднак, весела каля ёлкі. Дзеда Мароза прадстаўляе на ёй сямікласнік Іван Дзікун, ён жыве якраз пасярэдзіне Савецкай вуліцы — дужы, шыракаплечы хлопец, які ў звычайныя дні на такую драбязу, як першакласнікі, не звяртае ўвагі. Цяпер ён, аднак, як з мяшка сыпле жартамі, стараючыся рассмяшыць сваіх малодшых таварышаў. І першакласнікі смяюцца. Асабліва дзяўчаты.

Нарэшце памочніцы Дзеда Мароза, як адна апранутыя ў белыя сукенкі, раздаюць падарункі. Яны выцягваюць з торбачак, якія нясуць перад сабой, і раздаюць прысутным невялікія, зробленыя з паперы пакуначкі. Вася ведае, што ў пакуначках: па дзесяць цукерак-падушачак і па дзве шакаладныя.

Першакласнікам раздае цукеркі Ліза Мазуркевіч з першага «А» класа. Яе нізенькая хата стаіць якраз каля загародкі на Заброддзе. Вася часта бачыць Лізу: яна тоненькая, чысценькая, светлавалосая. Восенню Заброддзе залівае вадой, зімой яно замярзае. Прыходзячы катацца па лёдзе на каньках, Вася часта бачыць Лізу.

Васю падабаецца месца, дзе Ліза жыве. Таму і летам Вася прыбягае сюды часта. Ён сябруе з Мікалаем Угоднікам, з якім цяпер сядзіць за адной партай, а таксама з ягоным братам Міронам і Пятром Васьмерыком. Хлопцы — суседзі Лізы і гуляюць пераважна на поплаве, насупраць Лізінай хаты.

Русявая, даўганогая, з далікатным тварыкам Ліза раптам спыняецца перад Васем, неяк паспешліва, похапкам аддае яму пакуначак. Пры гэтым тварык Лізы ружавее. Счакаўшы некалькі хвілін, Вася заглядвае ў пакуначак. Ён так і знаў: Ліза дала яму болей цукерак, чым астатнім. Толькі шакаладных — чатыры, а падушачак і не злічыць.

Цёплая ўдзячная хваля залівае Васевы грудзі. Яму даўно падабаецца Ліза. Толькі ён гэта нікому не гаворыць і ніколі не скажа. І гуляць з Лізай не набіваецца. Проста прыходзяць хлопцы на поплаў, выходзіць са свайго дворыка Ліза. Вось і ўсё.

Цяпер Ліза як бы выказала сваю прыхільнасць да Васі. Ад гэтага радасна. Раптам Васю апякае трывожная думка: можа, Міколу Угодніку Ліза таксама дала шмат цукерак. Ён жа побач з ёй жыве. Але Вася адразу адкідае здрадлівую думку. Не, Ліза не можа палюбіць Міколу. Ён дрэнна вучыцца, вялы і маларухомы.

З радасным настроем ідзе Вася дадому. Мястэчка спіць. Рэдка ў якім акне блішчыць агеньчык. Гэта азначае, што Новы год па новым календары людзі не адзначаюць. Будуць адзначаць па старым календары — праз два тыдні.

Заўтра ці паслязаўтра, пазваўшы на помач каго з суседзяў, бацька заколе кабанчыка. Толькі трэба асцерагацца, каб не падпільнаваў, як у леташнім годзе, Сцяпан Бохан. Некаторыя местачкоўцы возяць смаліць свіней у лес. Можа, і бацька павязе.

Вася з нецярпеннем чакае старога Новага года. Будуць скваркі, каўбаса, патрашонка. Даўно гэтага не каштаваў. Таму проста марыць аб іх. Яда цяпер вядомая: бульба ды капуста. Нават печаны хлеб не кожны дзень бывае.

Бацьку даюць хлеб па картачках, але толькі на аднаго яго. Паўкілаграма на дзень. Бо бацька, як лічыцца, мае гаспадарку: засявае агарод, пралёт, мае карову, нават каня трымае.

Выкупляць бацькаў хлеб Вася ходзіць у чыгуначную краму, размешчаную недалёка ад станцыі. За прылаўкам гэтай крамы стаіць трэці Бохан — Еўдакім, нізкаваты, хітры, з лісіным, пабітым воспаю тварам. Еўдакім па характары, бадай, бліжэй да Сцяпана, які ўядае людзей, чым да меншага, Мікалая Пшанічніка, па-вулічнаму, які ўсё лета даваў Васевай сям'і малако.

Буханка набягае за чатыры ці пяць дзён. Але, здараецца, у хаце хоць шаром пакаці, і тады Вася ідзе выкупляць кілаграм ці нават паўкілаграма хлеба, які належыць атрымаць па картачцы.

Рабы Еўдакім у такім выпадку выскаляецца.

— Што, прыпякло? Такую лусту ты па дарозе з'ясі.

Лустаў Вася не есць. Толькі калі ёсць хоць маленькая дабаўка.

За хлебам у чыгуначнай краме трэба выстаяць у чарзе, бывае, Вася стаіць дзве ці нават тры гадзіны, пакуль перад дзвярамі крамы спыніцца будка з хлебам, які з пякарні паступае. Вася не баіцца туды хадзіць, нягледзячы на чаргу і кепікі хіжага Еўдакіма. Хлеб бацька зарабіў, то чаму Вася павінен прасіць ласкі ў Еўдакіма, які — усе ведаюць — казённы хлеб крадзе і прадае сваёй радні.

## XVIII

Пад сонцам блішчыць, пераліваецца снег. Некалі Вася любіў гэты бляск. Гэта было тады, калі ён меў цёплы палітончык і чаравікі. Цяпер палітончык носіць Петрык: Васю ён цесны. І ў дзявочых ботах, колькі ні наматвай ануч, мерзнуць ногі. Таму Вася, калі надараецца вольная часіна, бяжыць не на лёд, не на санную дарогу, выглянцаваную

карамі — агромністымі санямі,— на якіх «Лесбел» вывозіць на станцыю дубовыя камлі, а да дзеда.

Дзедава хата — старасвецкая. Як толькі зойдзеш у хату, у твар дыхне жарам вялікая печ, пры якой ёсць камінок і прыпечак. Седзячы на прыпечку, дзед пляце лапці. Перавяслы лазовых лыкаў ён загадзя размочвае ў вадзе. Дзед кроіць акуратныя дзягі і спрытна, з дапамогай падшыванкі — жалезнага пляскатага шыльца — завязвае аснову лапця, робіць вушкі, затым аснову падплятае лыкамі. За вечар ён лёгка сплятае дзве ці нават тры пары лапцей. Вася таксама хоча плесці лапці. Але дзед не дае: шкадуе лыкаў.

На шастку, звязаныя аборкай, вісяць густа намазаныя дзедавы боты. У іх ён ходзіць у царкву.

Каб дагадзіць дзеду, а найбольш бабцы Аўгінні, Вася іншы раз бярэ пустое вядро і бяжыць па ваду. Ваду прыходзіцца браць са студні дзядзькі Платона, бо ў дзедавай студні вада жоўтага колеру і вельмі нясмачная. Вада жоўтая нібыта ад таго, што дзед некалі трымаў многа жывёлы. Зямля ў двары прасякнулася гноем, таму і ў калодзежы жоўтая вада.

У германскую вайну, як цяпер, у калектывізацыю, казна забірала жывёлу на мяса. Плацілі грашамі, якія моцна ўпалі ў цане. Спачатку мікалаеўскімі, затым керанкамі.

Дзед усё чакаў, калі грошы падымуцца ў цане. Дачакаўся — пасля рэвалюцыі царскія грошы, керанкі наогул нічога не значылі. Вялікую, туга напакаваную шабету з грашамі дзед і цяпер трымае ў сваім сундучку. Але Васю грошай не шкадуе. То сотню дасць, мікалаеўскую, з малюнкам прыгожай царыцы, то цэлы мільён керанак — доўгую, нават не разрэзаную ленту.

— Мог ты, дзед, за свае грошы паставіць новую хату? — пытае Вася.

— Хто ж тады пра гэта думаў, унучак. На свеце вайна была.

— Дзесяць хат мог паставіць,— устаўляе слова бабка.— Толькі хіба яму ў галаву ўб’еш. Рубля шкадаваў, каб чыгун ці міску купіць. Вот і цяпер з дзіравымі чыгунамі пакутую.

Дзед ціхі, памяркоўны. Праўда, зрэдку выбухае нястрымным гневам. Але гэта тады, калі хто ліхі ўвядзе яго ў злосць. Ён наогул не любіць гаварыць. Можа, толькі з Васем.

Затое бабка Аўгіння не змаўкае ад ранку да вечара. Бясконца пляце розныя гісторыі, часам вельмі смешныя.

Два гады назад, калі Вася не хадзіў яшчэ ў школу, бабка Аўгіння нават на плошчы з трыбуны выступала. На першамайскае свята самахоць залезла на трыбуну і лаяла на чым свет стаіць сельсаветчыкаў. За тое, што душаць людзей падаткамі, спіну разагнуць не даюць. І нічога бабцы за яе прамову не было. Не будзеш жа садзіць у турму старую звяглівую жанчыну.

Шчадраваць на гэты раз Вася не ідзе. Па-першае, вопратка кепская, а на дварэ пякучы мароз. Па-другое, ён жа школьнік. Школьнікам забаронена брындаць па падвоканні і спяваць рэлігійныя песні.

Зімой дзед толькі возіць сена з балота, зрэдку — дровы, і малоціць у гумне снапы. У лютыя халады ён і ў гумно не ходзіць.

Вася любіць зімовыя вечары, калі яны з дзедам застаюцца адны. Бабка ідзе на попрадкі да Лучанковай Ганны, якая жыве праз вуліцу наўскасяк. Аляксандра похапкам прыхарошваецца каля кавалка люстэрка, зробленага з таўшчэзнага шкла і пастаўленага перад гаршком на стол. Затым бяжыць на гульбішча.

Цяпер Ражаство, і дзед часта ходзіць у царкву. То на абедню, то на вячэрню. Потым расказвае Васю пра Бога.

Вася мала што разумее з дзедавых апавяданняў. Як можна ўявіць Бога Айца, Бога Сына, Бога Святога Духа ў адной асобе? Але дзедавы апавяданні цікавыя. Яны вядуць у незвычайны, незнаёмы свет, у якім існуюць цвёрдыя, строгія законы дабра і справядлівасці. Будзеш жыць праведна, не крыўдзіць другіх людзей, памагаць бедным, убогім — трапіш у рай. Інакш — у пекла, дзе чэрці прымусяць вазіць на самім сабе смалу. Вялікія грэшнікі наогул будуць варыцца ў смале: гэта значыць вечна пакутаваць, прасіць аб літасці і дапамозе.

У хаце паўзмрок. Толькі невялікая лямпа-васьмярык з прыкручаным кнотам вісіць над столлю на тоўстым дроце. У вокны, на якіх няма занавесак, глядзіць цемень доўгага зімовага вечара. На дзедавай печы ўтульна. Вісяць перавяслы цыбулі, у шыйцы сушацца смалякі. Дзед іх потым паколе

на лучыну. Абшарпаны комін сям-там патрэскаўся і ў гэтых месцах абмазан глінай. Васю гліна проста прыцягвае, ён адкалупвае яе і есць. Дзед нават заахвочвае Васю ў гэтай справе.

— Еш, унучак. Ад гліны косці растуць.

Дзед адзінокі, нават панылы, пануры па характары. Ні да кога ён не ходзіць у госці, і ніхто не ходзіць да яго. Бабка шастае па суседках, расказвае смешныя гісторыі, запыняе, нават запрашае ў хату розных вандроўных людзей. Яна дае мянушкі, смяецца. Дзед, зацяўшыся, маўчыць. Вася ніколі не бачыў, каб ён смяяўся.

Дзед не задаволен жыццём, асабліва цяперашнім. Ён расказвае Васю — якое выдатнае было жыццё пры цару. Калі маеш грошы, можаш купіць усё, што захочаш. І з падаткамі, як цяпер, не насядалі. Заплаціш тры рублі і жыві спакойна.

— Як жа паны? — пытае Вася, пераказваючы дзеду пачутыя ў школе гісторыі.— Яны нічога не рабілі, жылі за кошт бедных людзей, ссалі з іх кроў.

— Ніякіх паноў у нас, унучак, не было. Адвеку не было. Мы — казённыя сяляне. Плацілі казне падатак, і ўсё. Твой прадзед, а мой бацька Іван — няхай яму лёгка ікнецца на тым свеце — служыў у войску. Быў на турэцкай вайне, медаль заслужыў. Яму за медаль далі валоку зямлі. Толькі ў нас — малая валока. Падзялілі паміж намі братамі — нас трое было ў бацькі сыноў,— і мне прыпала тры дзесяціны. Сенакосу было многа. Кароў дзяржалі. Жылі добра.

— Чыгунку пры табе, дзед, пракладвалі?

— Пры мне. Я маладым хлопцам быў.

— Адкуль пясок бралі?

— Як адкуль? Хіба не бачыў кар’ера каля станцыі. Там раней гара была. Як на Гарадзінцы. Але Гарадзінка далёка. Бралі адкуль бліжэй. Я сам вазіў пясок. Калі палціннік заробіш, калі — нават рубель. Толькі не патрэбна гэтая чыгунка. Ад яе ўвесь грэх ідзе...

Вася ведае, што дзед не любіць чыгунку, але не можа адолець спакусы яшчэ раз перапытаць дзеда.

— Які грэх ад чыгункі, дзед?

— Людзі зямлю перасталі любіць. Пайшлі на чыгунку шукаць лёгкага хлеба. Вот як твой бацька. Лес звялі. Ты, уну-

чак, не ведаеш, які тут быў лес. Дубы і дубы. Можа, тысячу дзесяцін. Цяпер адны пні асталіся. Як на Блізкім і Далёкім Лядзе.

Дзед часта дакарае сябе, што паверыў у свабоду. Гэтак ён называе рэвалюцыю, калі скінулі цара.

— Пазвалі нас на плошчу. Ветрык такі лагодны, сонца засвяціла. Нейкі чалавек узлез на фурманку, крычыць, што цар адрокся ад трона і цяпер наступіць свабода. Мы, дурныя, давай ляскаць у ладкі. Нават шапкі паздымалі. Вот табе і свабода...

Вася, паколькі ходзіць у школу і слухае апавяданні настаўніцы Марыі Рыгораўны, якая зусім інакш расказвае пра паноў, царскія парадкі, трохі з недаверам слухае дзеда. Але пярэчыць не адважваецца.

Дзед усю зіму малоціць збожжа. Намалочвае мяшкоў дзесяць. Чатыры ці пяць аддае на падатак (аднаасобнікаў цяпер моцна прыціскаюць), мяшок ідзе на памол, які забірае млын, астатняе застаецца дзеду. Бабка Аўгіння выпякае з мукі грубага памолу гляўкаваты, з адтапыранай скарынкай хлеб. Ён саладкаваты на смак і не ідзе ні ў якое параўнанне з хлебам, які пячэ чыгуначная пякарня, размешчаная ў доме Грэчкі.

Дзед носіць даматканае адзенне: шэрую світку, лапці, есць выпечаны бабкай не надта смачны хлеб. Зімой, вясной бабка тады-сяды смажыць яечню са скваркамі, пячэ блінцы. У сенакос здымаецца з гарышча мяшэчак, у якім зашыта добра пасоленае свіное сцягенца і некалькі кавалкаў ёлкага жоўтага сала.

Летам, восенню яда адна: звараная ў шалупінні бульба, шчавель, картапляны суп ці ячменны кулеш, які забельваецца малаком. І вось за такое жыццё, не разгінаючы спіны, дзед працуе дзень пры дні, ведаючы адпачынак толькі ў нядзелю ды ў рэдкія вялікія святы.

Дзед штовечар расказвае пра царкву: як там прыгожа, урачыста, велічна, і так распальвае Васю, што ён просіць узяць яго з сабой. Між тым вясна наступіла, снегу няма ні на агародзе, ні на полі. Суха і на вуліцы.

Першы раз, калі дзед прывёў Васю ў царкву, яна яму спадабалася не вельмі. Была вячэрняя малітва, сышлося

многа людзей, шмат было таўханіны, мітусні, і, можа, таму нічога асаблівага Вася не адчуў. Штосьці ўрачыста гаварыў поп, пеўчыя спявалі, але незразумелая гаворка папа, цягучыя доўгія спевы Васю не ўзрушылі.

Другі раз было зусім іншае. Вася з дзедам прыйшлі ў царкву з раніцы. Людзі стаялі толькі каля амбона — невялікага ўзвышэння, з якога прамаўляе поп. Вася прыгледзеўся да папа, і ён яму спадабаўся. Прыгожы твар, чорная бародка і рыза бліскучая, нібы залатая.

Вася колькі хацеў павандраваў па царкве, па ўсіх закутках, паглядзеў іконы. Яму найбольш спадабалася вялікая — на паўсцяны карціна, на якой святы Юры, седзячы на кані, б'е кап'ём дванаццацігаловага змея. Выдатная карціна! І ўсё да дробязей так хораша намалявана. Хоць дванаццацігаловых змеяў, можа, нават няма на свеце. У царкве наогул урачыста, прыгожа. Вельмі прыемна пахне дымок з кадзіла, якім размахвае ў час свайго казання поп.

Але найбольш падабаюцца Васю вузкія царкоўныя вокны, зашклёныя рознакаляровымі шкельцамі. Дзед падсаджвае Васю да аднаго такога акна. І тут адкрываюцца дзівосы, пра якія Вася нават не здагадваўся. З вышыні царкоўнага акна Вася бачыць сваю школу, курган могільніка, за ім шэры, шырокі прасцяг поля, якое цягнецца да самага лесу. Ніколі на тым полі і ў тым лесе Вася не быў. Можа, таму яно здаецца такім прывабным і таямнічым.

І яшчэ адно дзіва. У царкве маліўся нізкаваты чалавек у шэрай світцы. Свой вялікі саламяны капялюш чалавек трымаў у руках. Выйшаўшы з царквы, ён надзеў яго і стаў падобен на грыб. І чалавек-грыб шыбуе да школы, мінае могільнік, і вось ён ужо на шырокім таямнічым полі. Вася паглядзіць то ў светлае шкельца, то ў чырвонае, то ў зялёнае. І ў кожным чалавек-грыб бачыцца па-рознаму.

На трэцім разе Васевы паходы ў царкву спыняюцца. Ён прыходзіць з дзедам на споведзь, па навучэнні дзеда ў момант, калі поп ахінае яго чорнай хусткай, гаворыць: «Грэшан», прымае просвірку і лыжачку салодкага прычасця.

Спавядаецца, прычашчаецца разам з Васем вучаніца з іх класа Ульянка Сініца, якая жыве на хутары Ключары. Ульянка

даўно ходзіць у царкву, прыхільна да Васі ставіцца, але гэта не перашкаджае ёй данесці настаўніцы, што Вася спавядаўся і прычашчаўся.

Гром грымнуў у той жа дзень.

У школе ёсць лінейка, якая выстрайваецца ў доўгім школьным калідоры раз, а то і два разы на тыдзень. На ёй спецыяльныя дзяжурныя з ліку вучняў старэйшых класаў дакладваюць пра найбольш важныя здарэнні, што адбыліся ў школе.

І вось зычным, гучным голасам прамаўляе на лінейцы дзяжурны, рослы хлапчына-сямікласнік:

— Староста першага «Б» класа Васіль Войцік, паддаўшыся ўплыву свайго адсталага дзеда, які, дарэчы, не ўступіў у калгас, жыве аднаасобнікам, хадзіў у царкву на споведзь. Ганьба такім старастам і такім вучням!..

Чамусьці Васю зусім не сорамна, што хадзіў у царкву. І кары ніякай няма. Як быў, так і застаўся Вася старастам.

Першы клас ён заканчвае ледзь не на суцэльныя «выдатна». Толькі па пісьме «добра». Да трэцяй чвэрці меў Вася па пісьме «здавальняюча» і думаў, што ніколі не пазбавіцца ад крывых, якіх не любіў сам, літар-каракуляў. Аднак ён стараецца як можа, і патроху літары становяцца больш зграбнымі і прыстойнымі.

І вось канікулы, якія Вася заслужыў па праве.

Лета пачынаецца харошае: сонечныя дні пагодлівыя, ясныя, зялёным дываном пакрылася лугавіна за чыгункай, на дрэвах далікатныя, яшчэ клейкія лісцікі.

У Васі безліч планаў наконт птушак. Колькі нясуць яек, якога колеру яйкі ў вераб'ёў, чакунцоў, сініцы, як іх птушаняты падрастаюць у гняздзечку — Вася добра ведае. Ён прагне даведацца пра іншых, большых па памеры птушак: дзікіх галубоў, сіваваронак, удодаў, кнігавак, качак. Але як гэта зрабіць?

Пакуль што Вася ведае толькі гняздзечка шчыглоў. Яго паказаў яму Коля Угоднік, які застаўся на другі год у першым класе. Шчыглы звілі гняздзечка ў бэзавым кусце, у палісадніку, якім аддзяляецца ад вуліцы дом Ксюхі Бондаравай, што працуе бібліятэкаркай у сельсавецкай бібліятэцы.

Са шчыгламі Вася бадай што брыдка пастурае. Ён разоў пяць на дзень бегае глядзець, колькі яек у гняздзечку, мацае іх рукой. Калі яек у гняздзечку становіцца шэсць штук, Вася не вытрымлівае, бярэ гняздзечка, прыносіць дадому. Ён, праўда, хутка адумваецца, вяртае яго на месца, але шчыглы, відаць, спалохаліся: выракліся ўласнага гняздзечка і болей туды не прылятаюць. Дурны ён, Вася. Шчыглы хораша спяваюць-свішчуць, лёгка прывыкаюць да чалавека, жывуць у клетках. Мог ён дачакацца, пакуль птушаняты падрастуць, выгадуюцца, і тады ўзяць адно ці нават двух. Жылі б у яго пявучыя птушкі.

На Дзядку — так завуць паўночную частку Савецкай вуліцы, на якой жыве Вася і якая ўшчыльную прылягае да чыгункі,— спрамляюць шлях. У гэтым месцы вуліца нібы раздвойваецца, разыходзіцца, як канцы нажніц, калі імі што-небудзь рэжуць, утвараючы пасярэдзіне выган, на якім ходзяць куры, гегаюць гусі, пасуцца свінні і ўчыняе розныя гульні дзятва.

Новы шлях сыплюць каля правай лавы хат. Гарбары далёка па пясок не ездзяць. Раскапалі стары могільнік — нікім не заселены прагал паміж дварамі панурага Яўхіма Дзёгця і бібліятэкаркі Ксюхі Бондаравай. Могільнік гэтак раскапалі, што выкінулі напаверх чалавечыя косці. Вася з хлопцамі ходзіць на могільнік, але доўга там не вытрымлівае. Страшна глядзець на чарапы, рэбры і ўсё іншае, што засталося ад людзей і цяпер ляжыць непрыкрытае, раскіданае па зямлі.

На Забродздзі, Гарадзінцы валяюцца конскія косці, па агародах — шкілеты сабак, якіх забівае Аркадзь Брыц. На іх, аднак, не так страшна глядзець.

Яшчэ больш, чым стары могільнік, знявечан агарод Васевага суседа Свірыдзёнка. На гэтым месцы проста зрабілі кар'ер, які хутка запоўніўся вадой. У першы ж год у копанцы завяліся карасі, іншая рыба. Кузьма Поклад, які заўсёды разнюхвае ўсё першы, пахадзіўшы з баўтушай па шырокай доўгай копанцы, ловіць штук трыццаць бліскучых карасікаў і іншых рыбак.

Хлопцы ловяць рыбу і ў іншых, якія ёсць у мястэчку, копанках, канавах. Іншы раз Васю бяруць у кампанію.

Хоць Вася скончыў толькі першы клас, дзед Піліп лічыць яго вялікім грамацеем. На дзеда-аднаасобніка накладаюць столькі падаткаў, што разабрацца з абавязацельствамі па прадналогу, з абкладнымі лістамі, страхоўкамі, безліччу розных квіткоў дзед сваімі сіламі не можа, заклікае на дапамогу Васю. Раней дзед адрозніваў паперкі па колеры, памеры, цяпер не можа, бо іх стала вельмі многа.

Дзед збіраецца на млын, таму мусіць мець квіток аб здачы прадналогу. З палка, прыбітага пад самай столлю, дзед дастае раменную шабету, туга напакаваную казённымі паперкамі.

— Шукай, унучак, зялёную бумажку. На дваццаць пудоў.

Вася кнігу як рэпу грызе, але па пісаным кепска разбірае. Ды яшчэ напісаны квітанцыі вельмі невыразным почыркам.

— Тут трыста напісана, кг...

— На кілаграмы мераюць. Ета пазалеташні квіток. Шукай другога. Зялёны такі. Бытта трава.

— А вот яшчэ адзін. Тут напісана 12 руб. 40 кап.

— Ета штрахоўка, унучак. Шукай, дзе кілаграмы.

— На етым трыста дваццаць кг...

— Мабыць, еты. І ражок, бачыш, адарваны. Еты, унучак, еты...

Васю самая ахвота пакорпацца ў шабеце, але дзеду некалі. Паспешліва кладзе сумку на палок, ідзе запрагаць каня.

## XIX

Рудзька не такі верны, як здаецца. Цяпер, калі дзед едзе то на поле, то ў лес, то на луг, Рудзька пастаянна бегае за ім. Яму як бы сорамна перад Васем, таму ён нават ад сустрэч ухіляецца. Або ў будцы сядзіць, або шастае па вуліцы, чакаючы, калі дзед выедзе з двара.

Прыгожы лес у пачатку лета. Лісце з клейка-кволага, светла-зялёнага стала ярка-зялёнае, густое. Лес нібы спраўляе вялікае, урачыстае свята. Ён аж звініць ад птушыных галасоў, шчэбету, песень. Птушкі сама нясуць яйкі, а некаторыя ўжо кормяць птушанят. А колькі на прагалінах, на лугавінах, узбалотках кветак! Падснежнікаў — белых, сініх — хоць касой касі. На нізінах ярка буяе залатая лотаць. Белыя гарлачыкі

сама распускаюцца. Дуб апошні пакрываецца лістотай, але і ён ужо зялёны. Неба сіняе-сіняе, плывуць па ім, нібы гусі-лебедзі, белыя хмурынкі. Кожны дзень пачынаецца сонечнай зіхатлівасцю, бляскам, і многа радасці абяцае ён, звычайны, які зноў настане заўтра і паслязаўтра, летні дзень.

Ілля Кісель ці Павел Кірнач водзяць дзятву ў лес. Дзіўную рэч прыкмячае Вася. Калі талаку ўзначальвае Ілля, усе хлопцы аднолькавыя, ціхмяныя, ніхто ні над кім не насміхаецца. Можа, таму, што сам Ілля ціхі, лагодны, малых не крыўдзіць. Іншая справа Павел Кірнач. Ён зважае толькі на падлізнікаў. Хто перад ім макам рассыпаецца. Васю Павел як бы не заўважае. Каб дагадзіць Паўлу, хлопцы гатовы зямлю есці. Па гэтай прычыне падколваюць Васю. Нават сусед і сваяк Адам, відаць, адчувае, што Павел Васю не любіць. Сам ён дрэнна вучыцца, сядзіць па два гады ў кожным класе, а Вася амаль выдатнік.

Хлопцы вандруюць на Далёкае Ляда. Поле там узгоркаватае, і на кожным пагорку ўзвышаецца па некалькі магутных дубоў. І ўсе з буслянкамі. Нідзе няма столькі буслоў, як на Далёкім Лядзе. Можа, таму, што за пясчанымі пагоркамі разлягаецца вялізнае, парослае лазой балота. Жаб, вужоў, гадзюк на тым балоце процьма. Харчу буслам хапае ўдосталь.

Хлопцы ходзяць па лазу. Лазу трэба драць у самым пачатку лета, пакуль пад карой многа соку. Гнуткая кара проста сама адстае ад лазовага прута. У сярэдзіне лета яе сілай не аддзярэш.

У адзін з тых дзён, калі хлопцы вяртаюцца ў мястэчка, несучы на плячах вязанкі лазы, Ілля раптам спыняецца каля высокага ліпавага пня.

— У дупле пня гняздо ўдода,— паведамляе хлопцам.— У ім тры яйкі. Рукой не дастанеш — глыбока. Дый не трэба даставаць. Птушкі могуць адкінуцца.

Вася бачыў удода. Птушка вельмі прыгожая. Пярэстая, трохі падобная на дзятла.

— Якія ва ўдода яйкі? — пытае Вася.

— Белыя,— адказвае Ілля.

— Удод смярдзючы,— заяўляе Кузьма Поклад.

— Непрыемным пахам удод ад драпежнікаў ратуецца,— тлумачыць Ілля.— Напрыклад, ад коршака. А так птушка добрая.

Калі заносяць дадому лазу, Вася не вытрымлівае, зноў прыбягае на Далёкае Ляда. Хоча пабачыць гняздо ўдода. Вася ўскарабкваецца на ліпавы абрубак, заглядвае ў дупло. На дне яго сапраўды гняздзечка, і ў ім не тры, а чатыры яйкі. Беленькія, як у галубоў.

Вася і назаўтра прыбягае да ліпавага пня. Тое, што бачыць, моцна яго ўражвае. На доле каля засохлай ліпы трэскі, кавалкі спарахнелай драўніны. Нехта, відаць, хацеў расшырыць дупло, каб забраць яйкі. Але не здолеў, таму глыбока ў дупло забіў аскабалак.

Вася ледзь не плача. Хто мог такое ўчыніць? Раптам яго позірк падае на бліскучы — нібы залаты — гузік. Такія гузікі, перашытыя з чырвонаармейскай гімнасцёркі, носіць на сваёй закарэлай ад гразі сарочцы Кузьма Поклад. Значыць, ён забіў аскабалкам гняздо ўдода.

Лета ўбіраецца ў сілу. Калгаснікі на абагуленым полі пасеялі збожжавыя, нават бульбу пасадзілі. Дзед усё яшчэ поркаецца на сваіх лясных дзялянках.

На пясчаным лясным пагорку дзед сее грэчку. Вася пасвіць каня, шастае па кустах. Трава ўжо стаіць высокая: можна касіць. Краскі адцвітаюць. Галасоў птушыных у лесе трохі меней. Птушкі сядзяць на яйках, а некаторыя нават выveліся.

Красак яшчэ шмат. Вядома, няма ўжо таго пярэстага дывана, калі бела-сінім полымем палае дол, зарослы пралескамі, і золатам адлівае на нізінах, дзе цвіце лотаць. Кветкі больш рознакаляровыя: сінія званочкі, ружовая канюшына, белая кашка, дзятлавіна...

Вася выходзіць у светлы бярэзнік, за якім ляжыць пакінутае на папар поле. Яно гэтак зарасло свірэпкай, што здаецца суцэльна жоўтым. Над полем, віднеючыся ў небе нерухомай кропкай, спявае жаваранак. Значыць, недзе блізка ягонае гняздзечка. Але знайдзі яго на шырокім полі.

Вася ідзе па светлым бярэзніку павольна, расхінаючы рукамі траву: спадзяецца разведаць якое-небудзь жытло

лясной птушкі. Бо тыя самыя чакунцы ці малінаўкі, бывае, віюць гнёзды пры самай зямлі.

Раптам Вася спыняецца, замірае, затойвае дыханне. У траве пад нізкарослай бярозкай спіць, шчыльна прыклаўшы вушкі да спіны, маленькае шэрае зайчанё.

У першы момант Вася не ведае, што рабіць. Зайчанё такое малое, прыгожае, бездапаможнае. У наступнае імгненне ён, аднак, адважваецца. Няхай будзе ў яго зайчанё! Ён імкліва нагінаецца, хапае зайчанё за вушкі. Яно трапечацца, пранізліва, як плачуць дзеці, крычыць. Вася палохаецца нечаканага крыку, нават хоча адпусціць зайчанё на волю. Але яно гэтак жа нечакана супакойваецца.

Вася хавае зайчанё за пазуху. Прыгрэўшыся каля цела, яно, здаецца, зноў засынае. З зайчанём за пазухай Вася ідзе да дзеда.

Дзед і бабка да неба ўзносяць Васю: такі спрытны хлопец! Паляўнічыя, той жа Іван Кісель, бывае, прыносяць забітых зайцаў. А каб злавіць рукамі жывога зайца — такога яшчэ не было.

Глядзець зайчанё прыходзяць па чарзе ўсе хлопцы Васевай вуліцы. Вася на сёмым небе ад шчасця.

У хаце зайчанё не выказвае трывогі. Кот Мікіта спачатку трохі касавурыцца на невядомага жыльца, прыглядваецца да яго, але потым пакідае ў спакоі.

Петрык прыносіць зайчаняці маладыя капусныя лісточкі, усялякай травы. Вася налівае ў сподачак малака. Да малака зайчык не дакранаецца, а зеляніну, смешна раздзімаючы вусікі, адразу пачынае есці. Да вечара і малако пачынае піць, раз-пораз высоўваючы ў сподак маленькі чырвоны язычок.

У хату час ад часу завітвае Рудзька, які выказвае да зайчыка падазроную цікавасць. Таму Вася пасяляе зайчанё на печы. Яно аблюбоўвае стары, разлезлы валёнак, які там ляжыць. Залезе ў яго шырокую халяву і амаль увесь час спіць. Вылазіць, каб толькі пад'есці. На дзіва есць усё. Малака два ці тры сподкі выпівае.

Аднойчы бацька пасынкаваў тытунь. Адломленыя парасткі і лісце паклаў на печ сушыць. Ноччу зайчанё вылезла з валёнка і з'ела ўвесь бацькаў тытунь. Вася думаў, што зайчык за-

хварэе. Аднак усё абыходзіцца добра. Тытунь нават апетыту зайчаняці не сапсаваў.

Вася, можна лічыць, жыве цяпер добра. Ацялілася карова, дае вядро малака. Пярэсты, белалобенькі бычок скача па хляве. На чыгунцы хлеб выдаюць па картках. Але ў Гомелі ўжо вольны продаж хлеба. Даюць на рукі толькі кілаграм. Але гэта не мае значэння. Бацька ездзіць у Гомель, выстойвае ў чэргах і прывозіць дамоў паўмяшка жытніх, якія пахнуць алеем і карасінам, паўбуханак фармавога хлеба.

Бацька атрымлівае на паёк камсу. Кілаграм, а то і два. Дзіўная рыба камса. Маленькая, срабрыстая, прыемная на смак. Выгадная тым, што есці яе можна разам з галоўкамі.

Яды цяпер у доме хапае. Па гэтай прычыне і пра птушак Вася больш думае. Ён ужо і гняздо сарокі выгледзеў, і пліскі, і маленькага паўзунка.

Вася ходзіць па ягады: спачатку па суніцы, затым па чарніцы. Носіць з алешніку бабоўнік свінні.

Добра, весела жыць на свеце. Галоўнае: кожны дзень тоіць у сабе нечаканасць, неспадзяванку, абяцае розныя дзівосы.

Вядома, Петрык замінае Васю жыць. Поркаецца ў ягоным сундучку, залазіць у хаткі, якія Вася будуе ў розных частках двара.

Вася вельмі любіць ганяць, папіхаючы загнутым тоўстым дротам жалезнае колца. Колца можна разагнаць да неймавернай хуткасці. Яно коціцца, сутыкаючыся з дротам, звініць, і прыемна ў такія хвіліны бегчы па дарозе ці па ўтоптанай сцежцы.

Петрык крадзе колца, ганяе яго па вуліцы, але ў двор вяртаецца з пустымі рукамі. І праўды не даб’ешся ад Петрыка. Гаворыць: адабралі колца старэйшыя хлопцы. Хутчэй за ўсё абмяняў колца Петрык на што-небудзь цікавае для сябе.

Дзень на дзень не прыходзіцца. З раніцы свеціць сонца, плывуць па небе белыя ціхія хмурынкі, нішто не прадвяшчае непагадзі. Але вось сонца толькі на імгненне хаваецца за хмарку, якая нечакана набывае лілова-сіняе адценне, і з гэтага моманту настрой дня імкліва мяняецца. З захаду, з-за лесу ўсё болей напаўзае шэрых хмар, яны грувасцяцца адна на другую, засланяюць увесь далягляд. Дыхне халаднавата-свежым

павевам ветру, затрапечацца ліст на дрэве. Ластаўкі перад навальніцай адчайна-трывожна носяцца ў паветры, вераб'і сціхаюць, хаваюцца ў падстрэшша. Палохаюцца непагоды куры, хаваючыся ў хлеў ці пад паветку. Нават Рудзька, які, здаецца, нічога не баіцца, не любіць у такі момант высоўваць морду з будкі. Раптам стане цёмна, як ноччу. І тады чакай: вось-вось грымне гром. Ён сапраўды не забавіцца, агалосіць сваім магутным голасам амярцвела-прыціхшае наваколле.

Бывае, на громе, на бязгучных маланках-бліскавіцах і спыніцца навальніца. Пакрапае дожджык; нават пыл на вуліцы не прыб'е, паволі рассунуцца хмары, і зноў у светлым паднебным прасторы маляўніча выбліснe сонца.

Але найчасцей удары грому ўсё настойлівей, яны як бы апавяшчаюць, што навальніца разгуляецца ва ўсю моц. Дождж раптам хлыне як з вядра, імклівыя патокі вады зальюць каляіны, разоры на градах, паплывуць мутнымі раўчукамі. Дождж будзе ліць і ліць: нібы там на небе ўтварылася дзірка і яе ніхто не можа заткнуць.

Летнія навальніцы з громам, маланкай асабліва зацяжнымі не бываюць, іх імпэту хапае на гадзіну, самае большае на дзве. Зямля нібы падбадзёрваецца, умываецца пасля такіх навальніц: зноў весела свеціць сонца, шчабечуць птушкі, усміхаецца небу абноўленая, мокрая зямля.

Але, відаць, рэдка так бывае, каб жыццё плыло толькі добрае, без дрэнных прыгод. Вася па-ранейшаму даглядае Гнядога. Водзіць на пашу, бегае на Блізкае Ляда, глядзіць, каб конь не распутаўся. Стараецца найлепей падкарміць Гнядога. Нажынае сярпом на межах дзятлавіны, іншай травы, знішчае кляшчоў, якія паўпіваліся каню ў скуру, расчэсвае конскую грыву.

Конь і ў возе ціхмяны і паслухмяны. Калі возяць з Гарадзінкі асаку ці снапы з пралёта, вядзе каня, узяўшы лейцы ў рукі, Вася, а бацька ідзе збоку назіркам. Бо нельга чыгуначнікам трымаць коней.

Нечакана дружбацкія адносіны з канём парушаюцца. За лета конь стаў круглы, як булка, ад'еўся, поўсць на ім ільсніцца і блішчыць. Можа, ад добрага жыцця і стаў дурэць,

распускацца Гняды. У воз цяпер яго запрагаюць рэдка, а падачкамі, ласкай Вася яго проста зняверыў.

Гняды цяпер Васем пагарджае. Убачыўшы яго з аброццю, круціцца на месцы, не дае да сябе падступіцца. Скача прэч, травы з рук не бярэ, сам у рукі не даецца. Цяпер для Васі вялікая пакута злавіць каня, прывесці з пашы дамоў. Вось чым можа скончыцца вялікая дружба.

Аднойчы, прабегаўшы за канём, можа, гадзіну і нарэшце злавіўшы яго, Вася не вытрымлівае і б’е каня кулаком у храпу. Конь таксама помсціцца. Ніяк не дае Васю ўзлезці на сваю хрыбціну. Калі Вася ўсё-ткі знаходзіць прыдатны момант, ускаквае на Гнядога, ён, неяк нязвычна адвярнуўшы голаў, кусае яго за нагу.

Жыццё ідзе наперад. Страшны прывід мінулага галоднага года адступае ў нябыт. Бацька прыносіць пайковы хлеб, ездзіць па хлеб у Гомель — чыгуначнікам білет бясплатны. У хляве побач з каровай стаіць руды, з белай лысінкай на лобе бычок. Карова штодзень аблізвае бычка сваім шурпатым языком, настойліва мукае, калі яго да яе доўга не падпускаюць. У хляве парохквае свінчо. Малака цяпер хапае: карова вельмі малочная. Раніцай і вечарам маці прыносіць па поўнай драўлянай даёнцы малака.

Цяпер кожнага вечара па малако прыходзіць Мікалай Пшанічнік. Як у ваду глядзеў Мікалай: летась Васевай сям’і даваў малако, сёлета ў самога карова запусцілася. Добра, што людзі адзін другога ў цяжкую часіну выбаўляюць.

З выгляду карова няўклюдная. Яна рудавата-жоўтай масці, вялікая, шырокая і незвычайна павольная ў рухах. Статак пасе Кірыла Ламай, хлапчына хваравіты, трохі глухаваты і абыякавы да ўсяго на свеце. Вася спрабуе наладзіць з ім хаўрус. Кірыла пасе статак сёння ў адным месцы, заўтра — у другім. Так ці інакш, але ён, вядома, ведае, дзе віюць гнёзды розныя птушкі.

Аднак Кірыла не цікавіцца птушкамі і нічога пра іх не можа Васю расказаць. Ён ганяе кароў на Блізкае, Далёкае Ляда, на Ключароўскія хутары, пускае іх на самапас, а сам кладзецца на зямлю і адразу засынае. Пастух з Кірылы ніякі, але вуліца мірыцца з ім, бо лепшага не знойдзеш.

Бяда здараецца ў сярэдзіне лета. Кірыла, як заўсёды, спіць, не чуе, што між каровамі ўсчынаецца бойка. У гэтай бойцы чужыя каровы прапарваюць Васевай карове бок. Страшна на яе глядзець. Левы бок яе звісае цяпер ледзь не да самай зямлі.

Пускаць цяпер карову ў статак нельга. Вася пасе яе адзін. Гоніць карову на Дуброву: між палявога абсягу ёсць невялікая, атуленая лазовымі кустамі лагчына. Траву тут пакасілі, але адрасла атава, на адну карову пашы ўдосталь.

## XX

Вася ганарыцца тым, што ён пастух. І не за курамі сочыць, не свінню пасе, а карову. Маці нарвала яму са старызны мяккіх белых анучак, у якіх прыемна і лёгка нагам, абутым у лапці. Вася рана ўстае, не снедае, толькі бярэ з сабой, калі ёсць, кавалачак хлеба і выганяе карову з двара.

Лагчынка, дзе пасвіцца карова, размешчана паміж чыгункай і дубовым гайком, куды хлопцы ходзяць вырэзваць дужкі для лукаў. Мясціна сама па сабе цікавая. Па чыгунцы імчаць цягнікі, рагочучы і свішчучы, крочаць услед за ваганеткай пуцейцы-рамонтнікі. Калгаснікі проста ў полі малоцяць малатарняй збажыну. Коні водзяць прывад, аж пыл стаіць слупом вакол малатарні. На прасёлкавай дарозе брыдуць у лес, вяртаюцца з лесу местачкоўцы: хто з ягадамі, хто з рознымі грыбамі, з вязанкай бабоўніку ці вішу.

Вася адчувае адказнасць за карову. Пасвіць яе пільна. Бо ў патраву карова можа трапіць ці на чыгунку ўзысці. На душы ў Васі лагодны спакой. Птушыных гнёздаў і ў гэтае лета ён разведаў дастаткова і ўласнымі рукамі злавіў зайца. У каго яшчэ ў мястэчку ёсць дамашні заяц? Будзе што расказаць хлопцам у школе.

Калі сонца падымаецца досыць высока і пачынае прыпякаць, Вася з нецярпеннем паглядвае на дарогу. Хутка на ёй паяўляецца постаць маці. Маці нясе Васю сняданне: маладую бульбу ці блінец, загорнуты ў раднінку, бутэльку малака, бывае, драбок толькі што збітага масла.

Вася любіць маці. Болей, чым каго-небудзь у сям’і. Маці чулая, мяккая, яна разумее кожны Васеў крок. Не забараняе

трымаць у доме птушак, цяпер вот зайца. Шкада, сама маці нічога добрага ў жыцці не бачыць. З раніцы да вечара ў вечным клопаце, рабоце. Гатуе снеданні, абеды, абшывае, абмывае сям'ю, поле грады, жне збажыну, капае бульбу ды яшчэ памагае весці гаспадарку старой Свірыдзёнчысе, у якой не згінаецца спіна: мые ёй бялізну, нават іншы раз карову доіць. Бо беднасць у доме: дарагі кожны рубель ці міска пшонных круп.

Прыемна есці сумленна зароблены хлеб. Праз дзве-тры гадзіны — у самую спякоту — Вася гоніць карову дадому. Бо самая заедзь у гэты час. Карове спасу няма ад аваднёў, сляпнёў. Пасля абеду зноў прыгоніць карову на пашу.

Праз тыдзень да Васі далучаецца Цімох Стрыж. Ён пасвіць цёлку, якая яшчэ восенню пабегала і мусіць прывесці цялё. Таму яе не пускаюць у чараду.

Цімох — хлапчына дзелавы. Можа, таму, што мае сямёра братоў і сясцёр, і жыць у такой вялікай сям'і склаўшы рукі проста немагчыма. Бацька Стрыжа пахмуры, ссутулены, з чорным татарскім тварам, нядаўна быў заядлым застрэльшчыкам калгаса, самаўладна раскулачыў Цераха Грэчку, іншых местачкоўцаў. Сам, аднак, у калгас не ўступіў: быў на розных пасадах, а цяпер стаіць за прылаўкам лесбелаўскай крамы. Цімох хвіліны не пасядзіць без справы. На сваіх трохі крывых нагах безупынна носіцца па полі. Пасвіць цёлку, выразае ў гайку кійкі — падпоркі для фасолі, падпоркі-рагулькі пад памідоры, іврве траву, каб было што падкінуць цёлцы нанач.

Цэлы тыдзень хлопцы ўюць пугі-дратаванкі. Пуга — гонар пастуха. У тых, хто гоніць статкі ў поле, пугі адменныя, па тры-чатыры метры даўжынёй. Пачатак пугі, прыладжанай да драўлянай ручкі, тоўсты, як пута, але чым бліжэй да канца, тым болей пуга звужаецца. Ручкі пугі пастух з гонарам трымае на плячы, сама яна, спускаючыся па спіне, доўгім вужышчам цягнецца па зямлі.

Ляскае такая пуга адменна. Нібы хтосьці бабахае са стрэльбы. Каб зрабіць такі адмысловы гук, трэба вялікае майстэрства. І ляскаўку трэба мець. Пастух спецыяльна прыплятае да канца пугі тоненькую аборку з пушыстым канцом, якая пры кожным ляксанні ўкарочваецца.

Цімох з Васем навыдзіралі з канаплянішча — яно ў канцы Свірыдзёнкавага агарода — высокіх, яшчэ зеленаватых канаплін, абдзіраюць з іх валакно, сушаць на сонцы. Уюць спачатку тоненькія вяровачкі, якія затым сплятуць у адзін ствол. Вядома, такой пугі, як у сапраўдных пастухоў, яны не зробяць. Трэба мець адмысловы спрыт у руках, дый часу многа адыме такая пуга. Яны зробяць пужкі метра па паўтара даўжынёй. Тым болей што ў пачатку восені будуць пасвіць на ржышчы свіней.

Усё-такі добра мець пугу. Асабліва калі зрабіў яе сам. І яшчэ летам, калі ёй можна гэтак ляснуць, што гулкі водгалас разлягаецца па ўсім полі.

Лета ўжо робіцца задумліва-смутным. Яшчэ ўзыходзіць і заходзіць гарачае сонца. У поўдзень трымціць смуга над зжатым полем, у застыглай нерухомасці сінее лес. Але ўсеўладныя прыкметы замірання жыцця ўжо відаць на кожным кроку. У зялёнай шапцы бярозы ўсё болей жоўтых лісцяў, паволі барвавее трапяткая шапка асіны, кусты воўчай ягады. На ржышчы жыруюць шпакі. Яны ўжо збіраюцца чародкамі, паволі ўзлятаюць у паветра, як бы спрабуючы моц маладых крылляў. Шпакі паляцяць у вырай.

Вася з нецярпеннем чакае, калі пойдзе ў школу, у свой другі клас. За лета ён парадкам засумаваў па шумлівай школьнай талацэ. Ён сам не можа сказаць, чым яму падабаецца школа. Сядзець на ўроках, вядома, нудна, нудна слухаць, як бэкаюць па складах тыя, хто яшчэ не навучыўся добра чытаць. Але і свае перавагі ў школы ёсць. Там весела: тлум, смех, рогат не сціхае ўвесь дзень. Сам Вася асабліва не бегае, не скача, не галёкае, але глядзець, як робяць гэта другія, любіць. І наогул у школе шмат чаго пачуеш.

Аднойчы Цімох, прыгнаўшы на папас цёлку, прыносіць клубок суравых нітак і два драўляныя каўпачкі.

— Тэлефон зробім,— паведамляе Цімох.— Будзем перагаворвацца.

Вася ведае пра тэлефон. Ён іншы раз носіць бацьку абед у далёкую, размешчаную на процілеглым канцы станцыі будку стрэлачніка і чуе, як бацька перамаўляецца па тэлефоне з дзяжурным па станцыі. Але там тэлефонны апарат, электрыч-

насць, жалезныя драты, а ў Цімоха толькі ніткі і драўляныя чашачкі.

Хлопцы разматваюць ніткі па ржышчы. Метраў на сто хапіла суравых нітак. На такую прыкладна адлегласць, як два прасцягі між тэлеграфнымі слупамі. Цімох на сваім канцы прасоўвае нітку ў драўляную чашачку. Вася — на сваім. Нарэшце Цімох махае рукой, штосьці гаворыць. Вася прыкладвае чашачку да вуха. О, вялікі цуд! Вася чуе голас. Нібы звініць, трымціць штосьці ў чашачцы. Слоў не разабраць, бо голас дзіўна дрыжыць, казыча вуха.

— Чую! — крычыць Вася.

Цімох здалёк трасе кулаком. Толькі цяпер Вася здагадваецца, чаго хоча Цімох. Вася пачынае гаварыць, наблізіўшы вусны да чашачкі, Цімох тым часам прыкладвае чашачку да вуха.

Да паўдня хлопцы збольшага налаўчыліся размаўляць па самаробным тэлефоне. Усіх слоў разабраць немагчыма, але асобныя можна зразумець і здагадацца аб сэнсе астатніх.

Пасучы карову, Вася пасябраваў з Цімохам. Вядома, сяброўства не зусім раўнапраўнае, бо Вася перайшоў толькі ў другі клас, а Цімох будзе вучыцца ў чацвёртым. Але тым большая цікавасць Васі да старэйшага таварыша. Ён штодня шыбуе ў пакрыты чарапіцай вялікі дом Стрыжоў, які чатырма вокнамі глядзіць на вуліцу. Такі дом адзін на ўвесь канец Савецкай вуліцы.

Стары Стрыж зыркае на Васю нядобразычліва, звысака. На яго чорным, татарскага выгляду твары ніколі не цвіце ўсмешка. Ён партыец, ходзіць з наганам і наогул пагардліва глядзіць на суседзяў, ні з кім не вітаючыся. Адчувае сябе нібы на кані: арганізаваў калгас, раскулачваў местачкоўцаў.

Васю не надта прывячаюць у шматлікай, галасістай Цімохавай сям'і. Чарнавокія, касаватыя Цімохавы браты і сёстры нават часам зневажаюць яго. Бо хто такі Вася? Ніхто. Яго бацьку нават з работы звальнялі за тое, што трымае каня. Дзед Васеў яшчэ горшы. У калгас не ўступіў, жыве аднаасобна. Патыхае ад яго кулацкім духам...

Стары Стрыж, хоць другіх агітаваў, нават раскулачваў, сам ад калгаса вывернуўся. Стаіць за прылаўкам крамы. Мабыць,

у краме можна больш пагрэцца. Кожны дзень Стрыж нясе пад пахай дзве буханкі хлеба.

Пасучы з Цімохам каровы, Вася выявіў, што ён вельмі зацята кніжкі чытае. То адну з сабой прынясе, то другую.

Цімох найлепшы ў сям'і. Разумны, добра вучыцца. Не зневажае Васю, як меншыя браты і сёстры, і не адварочваецца ад людзей, як бацька. Дый птушак Цімох любіць. Можа, не так, як Вася, але цікавасць мае. Пад чарапічным дахам Цімохавага дома з восені да сярэдзіны лета ўюць гнёзды вераб'і. Таму хлопцы шмат часу праводзяць на гарышчы. Асочваюць гнёзды, цікавяцца, колькі ў якім яек, як вылупліваюцца з яек птушаняты і як растуць.

Лета ідзе на схіл. Дні становяцца карацейшыя, ночы — даўжэйшыя. Звініць хлапечымі галасамі пыльная вячэрняя вуліца. Хутка ў школу. Дзятва як бы пахапкам дабірае радасці, якія не паспела дабраць за канікулы. Кожны вечар на вуліцы гульня ў «ялавога», «кругавога». Вася прыходзіць дамоў узмакрэлы, задыханы і, ледзь дацягнуўшыся да ложка, імгненна засынае. Шчаслівы час!..

Хлапечую талаку па-ранейшаму ўзначальвае Ілля Кісель, старэйшы за кожнага з хлопцаў гадоў на сем-восем. Ён справядлівы, і малеча да яго цягнецца. Ва ўсім канцы вуліцы сад толькі ў Іллі, і ён, патаемна ад сям'і, налаташыўшы за пазуху яблык, раздае іх сваім малодшым сябрам. Затое хлопцы ягоны сад ашчаджаюць. Ніхто ніколі не крадзе яблык у Кісяля. Красці яблыкі ходзяць у другія месцы.

Ужо Спас мінуў, і страшэнна хочацца яблык. Звычайна хлопцы ходзяць красці яблыкі ў Ціткоў сад. Ён размешчан за Бечанковай канавай, у якой летам хлопцы купаюцца. Сад невялікі: тры ці чатыры яблыні, дзве грушы, некалькі слівін. Гаспадар саду — худы, цыбаты, з белым, нібы вымачаным, тварам хлапчына — адзіны ў сваёй старой маці. Цітох нібыта зараджае паляўнічую стрэльбу соллю, надзявае валёнкі, апранае кажух і начуе ў садзе.

Але хлопцы не такія дурныя. Ноччу ў сад не ходзяць. Падкрадваюцца да Цітковых дрэў днём. Боўтаючы босымі нагамі ўжо ў халаднаватай вадзе копанкі, праніклiва віжуюць за Цітковым дваром. Яшчэ момант — і яны ў садзе.

Вася ведае пранізліва-вострае пачуццё небяспекі, калі бяжыш да дрэва, похапкам ірвеш яблыкі, хаваеш за пазуху, стараючыся паболей іх туды напхаць. І салодкае пачуццё перамогі, калі небяспека мінае, калі хлопцы ўжо на дарозе і ў бок Цітковага саду нават не глядзяць, а за пазухай, тручыся адно аб другое, нібы злёгку папіскваюць яблыкі, і можна нарэшце, нікога не баючыся, угрызціся маладымі зубамі ў мяккую кісла-салодкую пепінку.

Ціткоў сад невялікі. Таму хлопцы залішне часта на яго не налятаюць. Можа, два ці тры разы за лета. Бо Цітку і ягонай маці таксама трэба пакінуць садавіну.

Гэта толькі дарослыя думаюць, што дзеці жывуць беспклапотна. Але гэта зусім не так. Вось Мірон, яго брат Мікалай, а таксама іх бліжні сусед Пятро Васьмярык наважваюць пабудаваць гіганы. Дзесьці бачылі яны такія арэлі, на якіх можна круціцца вакол укапанага ў зямлю слупа.

Вася горача падахвочваецца памагаць сябрам. Тым болей што гіганы пабудуюць насупраць агарода Лізы, і, магчыма, яна сама захоча пакруціцца на качэлях. Але дзе ўзяць слуп, кола ад калёс, шасцярню, вяроўкі?

Вася часта бывае на станцыі. Таму многае бачыць.

— Ля пакгаўза стаяць сеялкі і веялкі,— паведамляе Вася.— Стаяць з вясны, і ніхто іх не забірае.

Хлопцы загараюцца жаданнем неадкладна рушыць на станцыю. Вася іх стрымлівае.

— Трэба вечарам. Машыны некаму належаць.

Мірон, старэйшы за астатніх, заяўляе:

— Проста нічыйныя.

— Нікому не належаць,— працягвае ён.— Можа, іх няправільна выгрузілі.

Такія довады абвергнуць немагчыма. Хлопцы крочаць на станцыю. На пляцоўцы ўзбоч пакгаўза згружаны малатарні, веялкі, сеялкі. Яны сапраўды даўно стаяць пад дажджом, ветрам, бо ўжо і фарба месцамі аблупілася, і памётам вераб'іным абкіданы. Паказвае на тое, што ў малатарні, у трубе нават птушкі вывеліся. Шкада, не заўважыў Вася гэтай трубы раней.

Хлопцы колькі хочуць адкручваюць колаў, колцаў, шасцяронак. Гіганы — не простая рэч, і матэрыялу, каб іх збудаваць, трэба многа.

## XXI

Наступае верасень месяц. Дні стаяць цёплыя, сонечныя, як летам. Вася ідзе ў школу ў новых чаравіках. Яны пры хадзьбе рыпяць, і сонца адсвечвае на іх бліскучых насах. І каштуюць чаравікі не мала — цэлы чырвонец. Васю здаецца, што ўсе глядзяць на яго новыя чаравікі. Ва ўсялякім выпадку, бачаць, што Вася не носіць болей брыдкіх дзявочых ботаў.

Другі клас «Б» займаецца ў суседнім з леташнім памяшканні. У класе аж дзве грубкі і ваконныя рамы падвойныя. Вася радуецца: цёпла будзе зімой. Летась яны намерзліся. Бо сядзелі за партамі ў хаце, перавезенай з нейкага хутара і на скорую руку складзенай. Зімой у гэтай звычайнай сялянскай хаце вокны так намярзалі, што ў класе было не толькі холадна, але і цёмна. Часта яны сядзелі, не здымаючы паліто.

Цяперашняе памяшканне шмат лепшае, чым леташняе. Яно даўно стаіць на школьным двары. У правым крыле другі клас, у левым — трэці, пасярэдзіне — шырокі калідор.

Вася трохі зайздросціць вучням з «А» класаў, якія вучацца ў галоўным школьным будынку. Там прасторныя класы, шырокія вокны, пафарбаваная падлога. Здаецца, зусім іншы дух пануе ў тым строгім і прыгожым будынку. А тут усё звычайнае: пасмы моху вытыркаюцца між бярвенняў, мухі дзынкаюць і б’юцца аб шкло, між маснічынамі дзіркі. З-за адной такой дзіркі прапаў Васеў пятак. Упаў, пакаціўся па падлозе і знік у шчыліне.

Вучыцца ў другім класе весялей. Трэба чытаць, затым пераказваць сваімі словамі розныя гісторыі, рашаць задачы, вучыць на памяць табліцу множання. Слупок на кожную лічбіну Марыя Рыгораўна задае дамоў на дзень, каб вывучыць яго на памяць, а потым цэлы тыдзень паўтараюць у класе, рашаюць, прымяняючы табліцу множання, прыклады.

За лета Васева зайчанё вырасла ў вялікага шэрага зайца. Падбіраючы пад сябе заднія ногі, заяц скача па хаце, за-

глядвае ў чыстую палавіну, дзе шмат вазонаў, зяляніны. Ні кот Мікіта, ні сабака Рудзька зайца не чапаюць. Толькі вушы натапырваюць, і на іх спіне дыбка становіцца поўсць. Баяцца, значыць, вялікага адкормленага зайца кот і сабака.

У канцы верасня, калі яшчэ стаяць па-летняму цёплыя, ясныя дні, заяц нечакана знікае. Дзень якраз нядзельны, дома нікога няма. У чыстай палавіне хаты нехта расчыніў акно ды так і пакінуў. Можа, заяц выскачыў у акно? Але чаму Рудзька не забрахаў? Чаму ніхто зайца не ўбачыў? Куды ён мог дзецца з двара, дзе ўсё шчыльна агароджана і нават курыца між шчыкетніку не пралезе?

У Васі вялікае падазрэнне на Аркадзя Брыца. Ён катоў, сабак забівае, абдзірае шкуркі, а тут раптам зайца міне. Брыц чуў, вядома, пра зайца і ў нядзельны дзень, калі дома нікога не было, хутчэй за ўсё залез у хату і злавіў зайца.

Але неабвержных доказаў у Васі няма. Ад гэтага нават лягчэй. Прыемна думаць, што заяц вярнуўся на бярозавую паляну, дзе Вася яго злавіў, і цяпер скача па лесе вольны, незалежны, і Васю добра ўспамінае.

Новая радасць прыходзіць у Васева жыццё. Калі апошні ўрок прыпадае на спевы, маляванне ці фізкультуру, Марыя Рыгораўна замяняе гэты ўрок на чытанне. Яна прыносіць у клас невялікія кніжачкі і чытае ўголас. Выдатныя гэта кніжачкі! Пра грамадзянскую вайну, жыццё пад царом або ў суседніх краінах, дзе яшчэ пануюць буржуі. Кніжачкі якраз хапае на ўрок. Бывае, настаўніца не паспявае прачытаць кніжачку, аднак ніхто з месца не ўскоквае. Уважліва слухаюць да канца.

З нецярпеннем Вася чакае наступнага чытання. Настаўніца прыносіць кніжачкі толькі раз у тыдзень, і гэта, вядома, кепска. Вася, падахвоціўшыся да чытання, зрабіў спробу запісацца ў бібліятэку. Яго, аднак, не запісалі. Ні ў школьную бібліятэку, ні ў сельсавецкую. «Трэба дарасці да трэцяга класа, а тады ўжо запісвацца»,— не вельмі ветліва заявілі Васю абедзве бібліятэкаркі.

Так, у школу Вася ходзіць з прыемнасцю. У школьным тлуме не засумуеш. Кожны дзень што-небудзь ды здараецца. Васю па дысцыпліне ставяць добрыя адзнакі. Можа, таму,

што добра вучыцца. Бо ён таксама не такі святы: на перапынках не вельмі гайсае, затое на ўроках любіць кепікі падпускаць, жарцікі. Язык у Васі, калі ён нікога не баіцца, востры як брытва. Рагочуць з яго жартаў у класе.

Птушак Вася не забывае. Цяпер, асенняй парой ставіць пасткі на сініц. Пасткі вядома якія — знізу збітая з дошак невялікая скрыначка, зверху — такая ж накрыўка, усярэдзіне жалабок, на які трэба насыпаць круп. У жалабку зазорчык, куды ўстаўляецца язычок, прывязаны ніткай да накрыўкі. Пастка стаіць на хляве. Птушкі бачаць крупы і лезуць іх дзяўбці. Але варта ім дзюбкай дакрануцца да жалабка, як язычок адскаквае і накрыўка захлопваецца.

Праўда, не ўсе птушкі даверлівыя. Найбольш паддаюцца на прынаду сініцы. Хітры верабей скача вакол пасткі, зазірае, скасавурыўшыся, унутр, ды лезці ў небяспечную скрынку не адважваецца. Але Вася ўсё-такі аднаго разу злавіў хітрага вераб'я. І выпусціў адразу. Няхай жыве. А нядаўна трапіла ў пастку мышка. Нягледзячы на тое, што ў скрынцы цёмна, яна з'ела ўсе крупы, насыпаныя на жалабок, і, стаіўшыся ў куточку, спакойна пазірала на Васю сваім вочкам-бісерынкай, калі ён ледзь-ледзь прыўзняў накрыўку.

Сініц Вася выпускае. Яму проста прыемна патрымаць у руках далікатнае, пакрытае пер'ем стварэнне, якое без нічыёй дапамогі ўмее лятаць і, апынуўшыся на волі, пачынае яшчэ весялей цінькаць. Толькі вельмі палохаюцца птушкі, калі Вася вымае іх з пасткі: іх маленькае сэрца б'ецца так часта, што, здаецца, вось-вось выскачыць з грудак.

Вася і мыш выпусціў, хоць ведае, што мышы шкодныя. Яны точаць у зямлі норы, сцягваюць туды ўсялякае дабро. Але пастка стаіць на самым вільчыку хлява, і калі мыш жыве ў страсе, у саломе, то ніякай асаблівай шкоды яна не наробіць. Ну, можа, паточыць трохі сена, дык карова і такое з'есць.

Вяртаючыся са школы, Вася яшчэ з вуліцы бачыць, трапіла што ў ягоную пастку ці не. Калі накрыўка зачынена, ён нават у хату не забягае — лезе на хлеў.

Цеплыня скончылася. Восень шуміць вятрамі, плюскоча дажджамі. Галоўная мястэчковая вуліца — Савецкая — у не-

каторых мясцінах гразкаватая. Асабліва ў дзвюх — у Дзядку, дзе Вася жыве, і каля павароту ў школу. Тут якраз пачынаюцца Брылі — так завецца паўднёвы канец Савецкай вуліцы. Паселішча збудавана на балацянках і пясчаных пагорках, думае Вася. Толькі трэба да гэтага дадаць, што тыя далёкія людзі, якія заснавалі мястэчка, мясціну выбралі неблагую: пасяліліся сярод суцэльных дубовых дуброў. Толькі даўно няма тых дуброў. Апошнія дубы, можна сказаць, знікаюць на Васевых вачах.

Вася любіць восень. Можа, нават болей, чым якую-небудзь іншую пару года. Яму падабаецца нават позняя восень, калі жыццё замірае, поле ляжыць сумнае, шэрае, а на балацявінах праступае вада. Пуста на агародзе: толькі горкі агурок-жаўцяк можна знайсці ды прыхоплены маразам недаспелы гарбуз, а між пустога бадылля шастае вецер.

Хлопцы вандруюць па агародзе, вырываюць з зямлі капусныя качарыжкі, вырэзваюць з іх саладкаватыя храпкі. У Васі ёсць ножык-кірпель з доўгім драўляным тронкам. Гэты ножык зрабіў Васю дзед. Такім ножыкам перад хлопцамі не пахвалішся. У Мірона і Пятра Васьмерыка ёсць складанчыкі. Звычайныя, без розных вілачак, завітушак. Але і да такога складанчыка Васю далёка. Дзе ён яго возьме?

У Васі толькі аднойчы быў рубель. Яго пад вясёлы настрой даў яму бацька. Доўгая жоўтая паперка з выразна намаляванай лічбай «1» некалькі дзён грэла Васеву душу. Ён марыў да гэтага рубля дадаць трохі дробязі і як-небудзь выстарацца сабе складанчык. Але не было грошай на хлеб, і бацька ўспомніў пра Васеў рубель. Як бы пазычыў яго ў Васі, абяцаючы аддаць. Але так і не аддаў.

За дзесяць капеек, якія ў яго асталіся, Вася выпісаў часопіс «Іскры Ільіча» на снежань месяц. Падпіску праводзіла ў класе Марыя Рыгораўна. Вася цяпер з нецярпеннем чакае снежня, калі прыйдзе па пошце ягоны часопіс.

Добра, што Вася летам пасябраваў з Цімохам. Яны цяпер робяць разам змеяў. У Цімоха спрытныя рукі: змайструе што захоча. Каля яго і Вася вучыцца. Зрабіць змея не надта цяжка: знайсці вялікі аркуш паперы, нашчыпаць фанерных пасак, нарабіць з бульбы клею. Вядома, трэба яшчэ ніткі, бо змей

знікне ў небе і тады лаві яго. Добра, калі да змея прывязаць вялікі льняны хвост.

Клей Вася вырабляе з бульбы. Вараную бульбіну трэба доўга, пакуль сілы хопіць, біць малатком. Месіва робіцца паступова ўсё больш густым і клейкім. Ад пальцаў не адшкрабеш.

Цімохаў агарод як бы дзеліць папалам невялікая балацянка. Вясной яе залівае вадой, а як вада сплыве летам, цвіце лужок featзнакаляровымі краскамі.

Пасярод лужка расце разгалістая вербалозіна. Многа хлапечых спраў вырашаецца пад гэтым дрэвам. Адсюль і змеяў запускаюць. Прыемна бегчы ўслед за змеем, які, імкліва набіраючы вышыню, проста вырывае суравую нітку з рук, нарэшце ледзь не пад самымі аблокамі змей гуляе з вятрамі: то каменем падае ўніз, то зноў імкліва падымаецца; ільняны хвост як бы надае змею раўнавагу. Бывае, што змей адарвецца ад ніткі. Тады вышэй і вышэй падымаецца белы квадрацік, пакуль канчаткова не знікне з далягляду.

За балацянкай Цімохаў агарод: ён як бы ўзбіраецца на пясчаны пагорак. На пагорку купчастая, разгалістая грушадзічка. Да гэтай асенняй пары яна даўно абтрэсена, абскубана Цімохавымі братамі і сёстрамі, пра што сведчыць густы пласт апалага чорнага лісця, якое кругам ляжыць вакол грушы. Аднак, калі пастарацца, можна яшчэ скалаціць ці збіць палкай схаваную ў чырвона-жоўтай лістоце грушку. На зазімку такія грушкі асабліва прыемныя: прыхопленыя першым марозам яны робяцца церпкімі і кісла-салодкімі. Шапку такіх грушак можна з’есці.

Аднойчы Цімох на момант раскрывае перад Васем свой куфэрак. Некалі быў ён пафарбаваны сіняй фарбай, але абцёрся, аблез: цяперашнім выглядам прыемнага ўражання не выклікае. Але справа не ў выглядзе. Ледзь не да палавіны куфэрак закладзен кнігамі. І колькі тут усяго! Падручнікі-чытанкі за другі, трэці, чацвёрты клас, і не толькі тыя, па якіх вучацца цяпер, але і тыя таксама, па якіх вучыліся старэйшыя за Васю і Цімоха хлопцы.

Вялікі гэта момант — Цімохаў куфэрак!

Васева жыццё як бы напаўняецца новым сэнсам. Гэтак захапляюць яго Цімохавы кнігі. Ён цяпер прыходзіць да Цімоха кожны дзень. На першым часе не адважваецца прасіць у таварыша якую-небудзь кнігу. Бо чым адорыць яго? У Васі толькі падручнік арыфметыкі за першы клас, кніга з адарванымі вокладкамі і незнаёмая нямецкая кніга. Цімоху такія кнігі не патрэбны.

Гаманлівая, мурзатая, задзірыстая Цімохава сям'я паранейшаму Васю не надта прывячае. Але цяпер Вася на гэта не зважае.

Дзеля кніг можна і пацярпець.

Ёсць Цімох, ягоны куфэрак, у якім сябар іншы раз дазваляе Васю пакорпацца, паперакладваць, пагартаць кнігі. Болей нічога і не трэба. Як на свята ідзе Вася да Цімоха. Яны абодва вучацца ў першую змену. Прыйшоўшы са школы, Вася похапкам робіць пісьмовыя ўрокі, вывучае на памяць зададзены слупок табліцы множання і куляй імчыць да Цімоха.

Урокаў у Цімоха больш, і ў гэты час ён звычайна сядзіць за сталом у чыстай палавіне хаты, рашае цяжкія прыклады на дробы ці перапісвае ўкладанне. Цімох надзвычай акуратны і працавіты. Ён спачатку рашае задачы, піша ў чарнавым сшытку і затым перапісвае ў чыставы.

Цімох Васю верыць, таму кожны раз дазваляе пакорпацца ў куфэрку. Для Васі наступае часіна натхнення. Ён бярэ які-небудзь падручнік, прымошчваецца побач з Цімохам за сталом і чытае. Папера ў кнігах шорсткая, невыразны друк, цьмяныя малюнкі, але ўсе без выключэння матэрыялы, змешчаныя ў чытанках, хрэстаматыях, незвычайна Васю падабаюцца. Ён чытае пра восень, зіму і нібы бачыць сябе на Цімохавым поплаве, слухае, як бясконца шасціць асенні дождж, як свішча вецер па голым полі, на лёдзе Гарадзінкі: так выразна напісанае ў кнігах перагукваецца з тым, што Вася бачыць на ўласныя вочы. Малюнкі ў чытанках чорныя, як бы нават размазаныя, але ўсё адно яны вельмі выразна нагадваюць дрэвы, агароды, парканы, хаты, хлявы, якія Вася бачыць у мястэчку.

Галоўнае: апавяданні, вершы напісаны бадай што той самай мовай, якой размаўляюць у мястэчку. Якраз з гэтага

вынікае найбольшае здзіўленне. Не простая, не звычайная, значыць, гэтая мова, калі на ёй можна напісаць такія цудоўныя гісторыі! Васю ўсё болей поўніць захапленне родным краем, пра які так хораша расказваецца ў чытанках і хрэстаматыях.

Выносіць з хаты кнігі-чытанкі Цімох не дазваляе. Бяда невялікая. Вася іншы раз нават на Цімохаву печ з кнігай залазіць. Печ гэтая адмысловая: у пярэднім пакоі яе паляць, вараць страву, а шырокай ляжанкай яна выходзіць у адгароджаную тонкай дашчанай сценкай спальню.

У Цімохавай хаце непрыемна пахне, не заўсёды памыта падлога, прыбраны пасцелі. Малодшыя Стрыжы, здаецца, нават не мыюцца: чорныя, замурзаныя, з касаватымі татарскімі вачамі, яны ніколі не саромеюцца свайго неахайнага выгляду і сустракаюць лямантам і крыкам кожнага, хто завітвае ў хату.

Цімохавы браты і сёстры найбольш ахвотна гавораць пра яду. Хоць стары Стрыж працуе ў лесбелаўскай краме, штодзень валачэ пад пахай дзве, а то і тры буханкі хлеба, а худая, тонкая, як верацяно, Цімохава маці з раніцы ставіць у печ свіныя чыгуны з бульбай, буракамі, капустай, накарміць дзевяць ці нават дзесяць прагных ратоў не так-то лёгка.

Калі Вася толькі пераступае парог Цімохавай хаты, да яго падбягае адзін з меншых Стрыжоў — Сашка,— крываногі, з грубым, непрыгожым, засеяным балячкамі тварам.

— Ты што сёння еў?

Вася іншы раз нават не памятае, што ён еў. Хіба гэта галоўнае? Дый вядома, што ядуць у такую познюю, як цяпер, восень: бульбу, салёныя агуркі, іншы раз да бульбы кіслае малако.

— Мы сёння зацірку елі,— пахваляецца Сашка.

Вася ведае, з чаго зацірка. Стары Стрыж прынёс з крамы навалачку пшанічнай мукі. З яе можна было б напячы пульхных аладак, блінцоў, але на Стрыжаву прорву не напячэшся. Таму беласнежная мука, якая проста рыпіць між пальцамі, ідзе на зацірку.

Крываногі Сашка сваёй пахвальбой часам заганяе Васю ў кут.

— Мы сёння макароны будзем варыць,— паведамляе ён, хрумстаючы доўгую, з сушанага цеста трубачку-макароніну.

Што на гэта адкажаш? Макаронаў у сваім жыцці Вася яшчэ не каштаваў.

Зрэшты, гэта толькі пахвальба. Стрыжы ядуць тушаную бульбу, прасяны кулеш, ячменную кашу, запраўленую алеем. Паколькі яны не мыюцца, то рэшткі харчу засыхаюць вакол чорных ратоў, і можна, нават не пытаючыся, здагадацца, што елі яны на сняданне ці ў абед.

## XXII

Вось і скончылася зацяжная цёплая восень. За адну ноч густая чорная гразь, размешаная чалавечымі і быдлячымі нагамі, ператварылася ў цвёрды груд. Цяпер можна ісці па вуліцы, а не ціснуцца да парканаў, платоў, трымацца за частаколіны, каб пераскочыць гразкую мясціну.

Васю неяк асабліва ўражвае пераход цёплай летняй пары ў халодную, зімовую. На многа месяцаў замірае жыццё, не расце трава, не спяваюць птушкі. На зямлі толькі лёд, снег і халоднае нізкае сонца.

На агародзе, які прымыкае да школьнага агарода, стаіць разгалістая бяроза. Цяпер яна здаецца асабліва адзінокай і самотнай. Бо навокал шэры, замёрзлы груд, на якім няма ніякіх прыкмецін жыцця. Толькі апалае лісце.

Пад бярозай, калі Вася толькі пачынаў хадзіць у школу, яго чакаў Рудзька. Цяпер Рудзька не прыходзіць пад бярозу, бо школа стала звычайнасцю. Дый наогул Рудзька пастарэў, стаў менш рухавым. Ён нават за возам не бяжыць, калі дзед выбіраецца ў лес па дровы, а ляжыць і дрэмле ў сваёй будцы.

Будынак, у якім вучыцца Вася, глухой сцяной выходзіць на агарод. Наўзбоч сцяны прысыпана прызба, і ў адным месцы, дзе праз дзірку ў пазах бярвенняў, відаць, выходзіць цёплы дух, расце зялёная травіна. Кожны раз, крочачы ў клас напрамкі праз агарод, Вася аглядвае травіну. Як бы весялей робіцца на душы: кругом зіма, холад, а зялёная травіна расце.

Вось і снежань наступіў. Ідучы ў школу, Вася бачыць на сельсавеце, а затым і над ганкам пакрытага бляхай галоўнага школьнага будынка чырвоны сцяг з прышытай па краях чорнай стужкай. Вася не ведае, што гэта азначае, але на першым

жа ўроку справа праясняецца. Ворагі, аказваецца, забілі Сяргея Міронавіча Кірава, аднаго з кіраўнікоў савецкага ўрада. Урокі адмяняюцца, школьнікаў адпускаюць дамоў.

Падзеі, якія адбываюцца далёка, у Маскве ці ў якім іншым месцы, Васеву ўвагу асабліва не захопліваюць. Хоць ёсць сярод іх проста выдатныя. Якраз у гэты час вандруюць на льдзіне чалюскінцы, карабель якіх раструшчан вялізнымі, нібы горы, ільдамі Паўночнага Ледавітага акіяна. Невядома нават, ці выратуюць чалюскінцаў. Калі ёсць якія новыя звесткі пра чалюскінцаў, Марыя Рыгораўна заўсёды іх зачытвае з газеты. Клас слухае, стаіўшы дыханне.

Нарэшце прыйшоў часопіс, выпісаны Васем,— «Іскры Ільіча». Ён тоненькі, але мае вельмі шмат малюнкаў. Паміж малюнкамі вершы і невялікія апавяданні. Цікавы часопіс. Шкада, няма грошай, каб выпісаць яшчэ адзін нумар. Бо кожны нумар каштуе дзесяць капеек. Дзе возьмеш дзесяць капеек?

Вася прачытаў часопіс імгненна. І адразу пабег да Цімоха. Панёс часопіс яму. Трэба ж аддзячыць сябру за тое, што дае чытаць кнігі.

Цімох «Іскрам Ільіча» ўзрадаваўся. Дазволіў Васю ўзяць чытанку за трэці клас дадому. На адзін дзень.

Выдатны дзень і вечар! Парабіўшы пісьмовыя ўрокі, прынёсшы з Адамавага калодзежа два вядры вады, нанасіўшы дроў (дровы сырыя, і, пратапіўшы печ, выграбшы вуголле, палавіну іх маці закідвае нанач у печ, каб сушыліся), Вася пачынае лістаць чытанку. У каторы раз пераглядвае малюнкі, якія асабліва спадабаліся, перачытвае матэрыялы.

Птушкамі Вася па-ранейшаму захапляецца. Насыпае перад ганкам зерне, падпірае палачкай карыта, нітку, прывязаную да палачкі, працягвае ў сенечкі. Але мала птушак злавіў ён за зіму. Толькі аднаго снегіра і дзвюх сініц. Птушак ён выпусціў, толькі трошкі патрымаўшы іх у руках.

Сёлета ў Васі добры абутак — моцныя, з тоўстай скуры чаравікі,— і ён часцей, чым летась, выходзіць на лёд. Цікава назіраць, як непазнавальна зімовай парой мяняюцца знаёмыя мясціны. Гарадзінку, дзе летам правальваешся ў дрыгву па пояс, зноў скаваў лёд. Закідала снегам Гарадзінку, на паверх-

ню вытыркаюцца толькі засохлыя трыснягі, розныя балотныя дудкі, вецер намёў гурбы снегу, расчысціўшы астатнюю лёдавую прастору. Катацца на коньках можна.

Вася выбіраецца на лёд з Адамам, але найчасцей адзін. З Адамам можна толькі гнацца наперагонкі. Ён на сваіх коньках-снягурках Васю заўсёды пераганяе, і ад гэтага крыўдна. Таму Васю нават лепей аднаму. На балоце кожны дзень новыя цікавыя праявы: у адным месцы ўздуўся лёд, у другім вада прарвалася на паверхню і замерзла, утварыўшы цёмна-жоўты круглы нарост.

Вася аглядае мясціны, дзе яны з бацькам выносілі летам на бераг копы і дзе столькі п'явак прысасалася да ягоных лытак. Нічога не пазнаць. Лёд, гурбы, сухі трыснёг. Дзе зімуюць п'яўкі? Можа, залезлі глыбей у твань і там жывуць. Два ці тры разы Вася бачыў пад лёдам рыбак. Адна з іх проста ўмерзла ў лёд. Вася колькі мог разбіваў лёд коньком-дзеравяшкай, але выбавіць з палону краснапёрку ці карасіка не здолеў. Трэба будзе наступны раз прыхапіць сякерку.

У школе звычайныя справы. Вася і ў другім класе староста. Яго пасада не надта яму замінае. Толькі язычок часам падводзіць. Ляпне Вася такое, што клас паўгадзіны рагоча. Марыя Рыгораўна прабачае Васю такія ўчынкі, відаць, за тое, што ён добра вучыцца. Толькі кідае ў Васеў бок дакорлівыя позіркі.

Марыя Рыгораўна па-ранейшаму чытае на апошніх уроках тоненькія кніжачкі пра грамадзянскую вайну, жыццё пад царом. У Васі прагнае жаданне перачытаць гэтыя кніжачкі. Час ад часу торкаецца то ў школьную бібліятэку, то ў сельсавецкую, але яго не запісваюць. Трэба дачакацца трэцяга класа.

На першамайскае свята школьнікаў вядуць на базарную плошчу. Узбоч плошчы стаіць царква. На царкоўных залатых макаўках адсвечваюцца сонечныя промні. Толькі неяк блякла, невыразна. Пазалочаных крыжоў зусім няма. Іх паздымалі. Паскідалі са званіцы званы, і ўжо не пачуеш прыгожых, мілагучных перазванаў, якія плылі над мястэчкам кожнай святочнай раніцы.

Такі дамагліся свайго сельсаветчыкі: царкву закрылі. Нібыта па просьбе насельніцтва. Цяпер у царкве збожжавы

склад. Стаіць амаль новы будынак хмурай аграмадзінай, не радуючы вока, не прыцягваючы да сябе зацікаўленага позірку.

Сельсаветчыкам дапамагалі камсамольцы. У тыя вечары, калі ў царкве ішло набажэнства, яны тут жа, на царкоўным двары, наладжвалі спектаклі, спявалі зневажальныя частушкі, падкусвалі як маглі веруючых.

Званы і крыжы зніклі ноччу. Па мястэчку блукаюць чуткі, што званы разам з камсамольцамі здымалі актывісты: Сцяпан Бохан, стары Стрыж, былы старшыня сельсавета Бутрымовіч. Так гэта ці не так, Вася не ведае. Але камсамольцаў не ўхваляе. Яны жыць у мястэчку не збіраюцца, адзін за другім вышморгваюць на розныя курсы, зборы, асядаючы ў гарадах. То навошта шкодзяць старым людзям? Такім, напрыклад, як Васеў дзед.

Дзед пакутліва пераносіць закрыццё царквы. Гаворыць: наступае канец свету. Некалькі дзён ён не еў, не піў, і толькі вясковыя турботы паставілі яго на ногі. Пачаў дзед вазіць гной на свае палянкі, баранаваць зябліва і нібыта трохі пажвавеў.

Абшарпаную трыбуну, якая стаіць ускрай базарнай плошчы, перад першамайскім святам пафарбавалі ў чырвоны колер. На ёй па чалавеку ад кожнага прадпрыемства — ад чыгуначнай станцыі, абоднай майстэрні, мылаварнага завода, мясцовага калгаса, а таксама новы старшыня сельсавета Стрыбук, высокі, чорны, з жорсткім хударлявым тварам. Стрыбук ужо год носіцца на прыгожай кабыле Ластаўцы, чырвона-гнядой, з белымі падпалінамі на нагах і каля вачэй.

Паблізу трыбуны ёсць яшчэ адна школа, выкладанне ў якой вядзецца на рускай мове. Над ёй узвышаецца купчастая таполя. На галінках таполі сядзяць, нібы вераб'і, хлапчукі. Хлапчукі пераважна з тых, хто ў школу не ходзіць, але ёсць і школьнікі, якія цішком шуснулі з калоны і ўскарабкаліся на дрэва, каб падзівіцца на тое, што будзе адбывацца на плошчы. На плошчы тым часам заўсёды адбываецца што-небудзь цікавае.

Цікавыя на Першамай, як і ў іншыя святы, выступленні камсамольцаў. Камсамольцы ёсць і ў школе, гэта яны намалявалі на транспарантах, якіх шмат у калоне, бойкі рэвалюцыі:

чырвонаармеец у будзёнаўскім шлеме коле штыхом тоўстага генерала, худы, жылаваты рабочы змятае мятлой з зямнога шара буржуя, памешчыка і папа.

Вася ведае, што ў сямнаццатым годзе адбылася рэвалюцыя. На ўроках грамадазнаўства пра яе расказвае Марыя Рыгораўна. Толькі настаўніца абмалёўвае рэвалюцыю зусім не так, як дзед. Ад гэтага ў Васевай душы пякельны разлад.

Вася, аднак, болей схіляецца да таго, чаму вучаць у школе. Дзед стары, непісьменны, і што ён можа ведаць пра рэвалюцыю? Ён нават не здагадваецца, што рэвалюцыя хутка перакінецца на ўвесь свет.

Першамайскае свята якраз пацвярджае, што сусветная рэвалюцыя хутка ўспыхне. Аб гэтым напісана на лозунгах, намалявана на транспарантах, аб гэтым будзе спецыяльнае прадстаўленне камсамольцаў.

Камсамольцы выскакваюць на плошчу з-за пафарбаванага ў жоўты колер будынка пачатковай школы, выстройваюцца ў ланцуг, нагінаюцца, кладучы на пясчаны дол пляскатыя бляшанкі. Адно імгненне — і каля іхніх ног успыхвае полымя, валяць густыя воблакі дыму. Тады пачынаецца першы цуд: з агню і дыму як бы вырастаюць чырвоныя сцягі, якія на высокіх дрэўках уздымаюцца над галовамі.

Плошча тоне ў воплесках. Са школьнай калоны нясуцца дружныя выгукі захаплення.

Камсамольцы знікаюць. Прамежак перад трыбунай пусты. Чуваць ляскат колаў, бразгатанне жалеза: з павароту вуліцы на поўным скаку імчыць пажарная каманда. Пажарнікі ў бліскучых медных касках — яны ззяюць на сонцы, як залатыя,— і ў поўным пажарніцкім узбраенні — з сякерамі за брызентавымі паясамі, з доўгімі баграмі ў руках. Узяўшы коней пад вуздэчкі, пажарнікі выстройваюцца перад трыбунай. Тады пачынаецца мітынг. Першым пачынае гаварыць старшыня сельсавета Стрыбук. Яго трохі глухаваты, але гучны голас пакрывае не толькі плошчу, але і ўсё бліжняе наваколле. І тое, што выгуквае старшыня сельсавета, здаецца дзіўным, незразумелым і незвычайным.

— Пажарнікі! — падымаючы ўгору сцятыя кулакі і як бы збіраючыся ўзляцець над трыбунай, гукае Стрыбук.— Не

тушыце пажараў! Не трэба тушыць пажары! Няхай шырэй разгараецца полымя рэвалюцыі!

Пажарнікі тоўстымі адтапыранымі пальцамі торкаюць коней пад сківіцы, і коні ўміг як па камандзе падымаюць морды, стрыгуць вушамі. Здаецца, яны слухаюць гэтак жа ўважліва, як і людзі.

Наступны лозунг да чыгуначнікаў — гэткі ж звонкі, гучны і, калі кіравацца прамым сэнсам, недарэчны.

— Чыгуначнікі! Не спыняйце цягнікоў! Няхай імчаць лакаматывы ў сусветную рэвалюцыю!

Пасля кожнага выгуку прамоўцы — дружна, як адзін уздых, вокліч натоўпу. Стрыбук нібы гарыць сам — вочы блішчаць, на запалых шчоках чырвань,— але ж і ўмее запальваць. Здаецца, каб падняў ён руку, паклікаў — уся грамада людзей, якія стоўпіліся вакол трыбуны, хлынула б за ім, кінулася ў невядомыя прывабныя далі.

— Смалакуры! Не шкадуйце смалы! Заллём горла сусветнаму капіталу!

— Пільшчыкі! Хопіць рэзаць дошкі і брусы! Збівайце труну для праклятых буржуяў!

Нарэшце чарга даходзіць да школьнікаў. Школа горача падтрымлівае ўсе лозунгі — гучней, чым яна, не крычыць ніхто,— але і свайго чакае з нецярпеннем.

— Школьнікі! Хутчэй вырастайце! Давайце тэмпы росту! Станавіцеся ў армію байцоў рэвалюцыі!

Гоман, воплескі, бой школьных барабанаў...

Астатнія прамоўцы ў параўнанні са Стрыбуком гавораць нецікава: пра будзённыя справы. Што зрабілі, што трэба зрабіць. Колькі засеялі, загрузілі вагонаў, платформ драўнінай і якія бяруць абавязацельствы наперад.

Пасля мітынгу — дэманстрацыя па пыльнай чатырохвярстовай вуліцы мястэчка. Паліць сонца, баляць у цеснаватых, купленых на зіму чаравіках разамлелыя ногі. Але дзень незвычайны: б’юць барабаны, палошчуцца на сонцы сцягі, і не хочацца зважаць на стому. Шкада, што пасля абеду свята скончыцца, людзі разыдуцца і наступіць звычайны будзень. Няхай бы свята цягнулася бясконца...

Майскімі вечарамі цёпла, хараша. Сады цвітуць, дрэвы апрануліся кволай, светла-зялёнай лістотай. Вечарам гудуць, тыцкаючыся ў парканы, сцены хат, майскія жукі.

Хлопцы другога класа нават у школу ходзяць босыя. Навошта абутак? Нага адчувае сябе вольна, нішто не цісне яе, не душыць. Раніцай прыемна адчуваць ступнёй, пяткаю мяккую прахалоду зямлі, а ў поўдзень — цёплы, нават гарачы пясок. Дзяўчатамі хлопцы другога класа не цікавяцца. Таму і са школы ідуць асобным гуртам. Далёка чуваць гэты гурт. Лямант стаіць — за вярсту пачуеш. Бо кожны даказвае сваё.

Падышоўшы да двара, Вася бачыць, што ён повен людзей. Нібы ўся вуліца на іхнім двары сышлася. Жанчыны, мужчыны — старыя і маладыя — стаяць у сенцах дзедавай хаты і пад вокнамі, якія цяпер расчынены.

— Баба твая, дзеткі, памерла,— гаворыць Васю маці Пятра Васьмерыка, шчуплая, са старэчым тварам, бяззубым ротам кабета.— Ніхто не думаў не гадаў, што такая баба можа памерці. Была дужая, як гара.

Вася ведае, што людзі паміраюць. Але пачутае да яго даходзіць не адразу. Ён не хоча верыць, што бабкі Аўгінні не будзе ні заўтра, ні паслязаўтра — ніколі, што ён болей ніколі не пачуе яе зычнага, насмешлівага голасу, не ўбачыць яе круглага, прыгожага твару, мажнай рухавай постаці. Як гэта так — жывы чалавек і... няма? А што застаецца? Маці бярэ Васю за руку, вядзе ў іхнюю хату. Пакідае ў чыстай палавіне.

— Не трэба табе смерць бачыць. Не дзіцячае дзела. Сёння бабка памерла, сёння пахаваем. Гарачыня такая...

Хоць маці не надта ладзіла з бабкай Аўгінняй, вочы ў яе заплаканыя.

На ложку ціснуцца перапалоханыя, незвычайна маўклівыя Петрык і Сяргей. На стале талерка з жытнімі аладкамі, у другой талерцы тварог са смятанай. Хлопцы тым часам нават не дакрануліся да яды.

Вася ўспамінае, што бабцы нядужылася яшчэ ўчора. Можа, нават пазаўчора пачалася яе хвароба. Бабка скардзілася, што ўсё ў яе гарыць знутры, і шукала цяньку. Нават пад паркан клалася — шукала прахалоды. Ніхто, аднак, не здагадаўся паклікаць доктара.

Услед за бабкай, нібы запаленая свечка, згарае і дзед Піліп. Памёр ён праз тры ці чатыры тыдні пасля бабкі. Не хацеў дзед жыць на гэтым свеце без сваёй шумлівай, галасістай сяброўкі, з якой не заўсёды ладзіў. Дзед свядома рыхтаваў сябе да адыходу з жыцця. Труну сабе збіў загадзя, яна даўно стаяла на гарышчы. Перад смерцю дзед злазіў на гарышча, агледзеў труну, выцер з яе пыл. У двух-трох месцах дошкі рассохліся, паадставалі адна ад другой. Дзед убіў у дзіркі драўляныя паскі і па швах некалькі цвікоў забіў.

Рыхтуючыся да смерці, дзед быў маўклівы, засяроджаны. Ні з кім не размаўляў і амаль нічога не еў. З раніцы дзед аб'явіў дачцэ Аляксандры, што будзе паміраць. Слова спраўдзіў. Лёг на лаву пад абразы і да вечара памёр.

Зноў двор повен народу. Але наступілі канікулы, заняткі скончыліся, у школу Вася не ходзіць. Дзеда кладуць у труну ў чыстай даматканай вопратцы і ў ботах, якія ён насіў усё жыццё, ды так і не знасіў. На магілках — дзве насыпаныя з жоўтага пяску гурбачкі. Жылі дзед з бабай не вельмі злагадна, але памерлі амаль адначасова і цяпер мірна спяць.

Вялікая скруха агортвае Васю. Яшчэ ніколі не было яму так сумна, самотна. Малым дзіцячым сэрцам ён адчувае: дзед памёр не толькі таму, што застаўся адзін. Не прымаў ён жыцця, якое наступіла. Не пагаджаўся з калгасам, з тым, што падціскаюць аднаасобнікаў, не даюць селяніну жыць як хоча. І за Бога крыўдаваў дзед. Ніяк не мог зразумець, каму перашкаджала царква і чаму яе закрылі?

Рудзька пасля смерці гаспадара робіцца сам не свой. Ляжыць у будцы вялы, абыякавы, на Васевы заклікі не адгукваецца. Канчаецца ўсё тым, што сыходзіць Рудзька з двара і болей не вяртаецца. Значыць, дзеда любіў Рудзька болей, чым Васю.

## XXIII

Лета зноў распачынаецца харошае. З раніцы з таго боку, дзе размяшчаецца станцыя, узыходзіць сонца, першымі сваімі промнямі заглядвае ў дзіркі хлява. У школу ісці не трэба, карову зноў пускаюць у статак, і Вася можа ў ахвоту паспаць.

Прыемна начаваць у хляве. Цяжка ўздыхае, перажоўваючы жвачку, карова, зрэдку перагукваюцца на седале куры. У злепленым з гразі пад самым вільчыкам хлява гняздзечку азываюцца ластавяняты.

Наогул хлеў мае вялікія перавагі перад хатай. Сплючы на сенавале на дзвюх калясніцах маладога сена, якога накасілі на Блізкім Лядзе і скідалі тут, у закуце, Вася засведчвае перад малодшымі братамі Петрыкам і Сяргеем, як наогул перад усімі хлопцамі вуліцы, што ён нічога не баіцца. Бо з канца вуліцы — гэта ўсім вядома — толькі ён ды Цімох начуюць у хляве.

Сена выдзяляе разнастайныя пахі і водары, ад якіх проста галава кружыцца. Няма тут блох, і клоп не ўкусіць. Зрэдку зазвініць над вухам камар, але ад яго можна схаваць галаву пад коўдру. Дый пара камарыная канчаецца. Затое пачуеш у хляве столькі, колькі ў хаце ніколі не пачуеш. Бо ноч жыве вельмі цікавымі гукамі і зыкамі. Забрэша Рэкс у двары Іллі Кісяля, яму адгукнецца Каштанка Кузьмы Поклада, як у бубен забухае густым цяжкім брэхам сабака братоў Шалудзькаў. Затым далёка на вуліцы панясецца сабачы перабрэх і нарэшце гэтак жа нечакана скончыцца, як пачаўся.

Кот Мікіта летам таксама часта не начуе ў хаце — выходзіць на паляванне. Вось Вася чуе яго асцярожныя крокі па саламяным даху хлява. Мікіта даўно вынюхаў гняздзечка ластавак і зарыцца паесці маладых ластавянят. Сумлення ў яго ніякага няма. Толькі Вася не дапусціць злачынства. На вільчыку хлява, якраз над гняздом ластавак, ён прыладзіў фанерку. Мікіта можа шкрэбці па ёй кіпцюрамі колькі захоча, але да гнязда не дабярэцца. Праўда, дарослыя ластаўкі, чуючы ката, трывожацца, палахліва ўсклікваюць, нават пакідаюць гняздо, але з хлява не вылятаюць.

Штосьці шастае за сцяной хлява ў градах. Магчыма, гэта вожык. Вася прынёс яго з лесу, як толькі скончыліся заняткі ў школе. Вожык днём спаў, сціснуўшыся ў калючы клубок, а ноччу вандраваў па хаце, не зважаючы на харч, які Вася выстаўляў яму нанач: кавалачак хлеба ці бульбіну і трохі малака ў сподачку.

Вожык пахаджваў па падлозе гэтак гучна, нібы бахаў абуты ў новыя боты вясковы дзядзька. І маці запратэставала. Яна сказала, што не можа спаць з-за вожыка. Ён яе будзіць некалькі разоў за ноч.

Вася выпусціў вожыка на агарод. Магчыма, гэта ён цяпер тупае ў разоры між градамі, шукаючы спажывы. Магчыма, не вожык. Многа ўсялякага народу не спіць па начах: совы палююць за мышамі, малымі птушкамі, лісы, бывае, шастаюць, каб задушыць курку ці, на горшы выпадак, невялікае, дуркаватае куранё. Ды і двухногія зладзеі брындаюць ноччу. Але Вася нікога і нічога не баіцца. Хто яму што дрэннае можа зрабіць? Тым болей што Вася мае зброю. Ён кладзецца спаць на маладое сена, папярэдне ўваткнуўшы ў дзірку між бярвеннямі заіржавелы, але войстры, сапраўдны вайсковы штых. Так што Вася можа абараніцца ад няпрошаных гасцей.

Вася нібы прадчувае, што ніколі болей не будзе ў яго такога, як цяпер, лета. Петрык падрос, можа пагглядзець Сяргея. Пасвіць карову не трэба: яе пусцілі ў статак. Таму на Васевым абавязку толькі рудая, імклівая, як куля, свіння, якую ён штораніцы выганяе на мусы. Вася стараецца задобрыць Петрыка, абяцае яму залатыя горы, каб толькі гадзіну ці дзве паглядзеў свінню. Многа дабра з-за гэтай свінні перайшло ад Васі да Петрыка: чырвоныя і зялёныя шкельцы, гайкі, болцікі, алавяныя пломбы. Цяпер Васевым багаццем валодае Петрык. Ён упарты і карыслівы: нізавошта не згадзіцца глядзець свінню, пакуль Вася не пакладзе яму што-небудзь у руку.

Здабыўшы свабоду, Вася найчасцей шастае наўзбоч чыгункі, аглядвае кусты, якія растуць на адхоне, завітвае ў гайкі, бярэзнікі, што растуць наводдаль. Не лёгка знайсці птушынае гняздо. Два-тры дні трэба патраціць, каб на яго наткнуцца. Бывае — за тыдзень нічога не знойдзеш.

Апоўдні сонца прыпякае ва ўсю моц. Усё жывое замірае. Нават птушкі хаваюцца ў навісь веццця і галін. Толькі рабыя і белыя матылі лятаюць у паветры ды як гарох сыплюцца з-пад ног конікі. Матылі — усе гэтыя крапіўнікі, белякы-капуснікі, баярышнікі, махаоны — Васю не цікавяць. Гэта калі ён быў зусім малы, ён лавіў іх на корм птушкам. Але

малыя птушкі матылёў не ядуць. Нічога не ядуць. Марнеюць, гінуць, трапіўшы ў няволю. Таму малых птушак Вася таксама з гнёздаў не бярэ. Для яго дастаткова паглядзець на іх, падзівіцца, як, падманеныя нечаканым шорахам (думаюць, што бацькі прыляцелі), яны шырока раскрываюць свае жоўтыя дзюбы.

Вася ведае гнёзды берасцянкі, аўсянкі, жаваранка. Ва ўсіх іх тут вывеліся птушаняты. Праз кожныя два-тры дні Вася аглядвае гэтыя гнёзды, назіраючы, як малыя птушачкі спачатку пакрываюцца пухам, затым стрэлкамі, нарэшце, як са стрэлак — тоўсценькіх, круглых пруцікаў — вырастаюць крылцы. Ні з чым не параўнаную асалоду адчувае Вася, назіраючы, як з маленькіх — сіненькіх ці рабенькіх — яечак нараджаюцца таямнічыя і найцікавейшыя ў свеце істоты — птушкі. Бо птушкі ў адрозненне ад жывёл і нават ад чалавека лятаюць. Могуць уздымацца пад самыя аблокі.

Дзіўна адшуквае Вася гняздо жаваранка.

Бацька і маці паехалі на сена, загадаўшы Васю глядзець малых. Але чэрвень месяц на зыходзе, і калі Вася не знойдзе новае гняздо, то наогул у гэтым годзе не знойдзе. Бо птушкі ўюць гнёзды, нясуць яйкі, пачынаючы з красавіка і канчаючы чэрвенем. І ўсё. У астатнія месяцы птушкі нават не спяваюць — толькі перагукваюцца.

Вася наважыў збегаць на Ключароўскія хутары. На гэтыя далёкія хутары пастухі гоняць статкі. Сярод пастухоў ёсць Васеў родзіч — маўклівы, абыякавы да ўсяго і трохі глухаваты Кірыла Ламай.

Каб улагодзіць пастухоў, Вася яшчэ пазаўчора пацёр табакі-зелянухі. Ссыпаў у мяшэчак і чакаў спрыяльнага моманту.

З нядобрым сэрцам бяжыць Вася ў Ключары. Па-першае, малых пакінуў адных. Па-другое, у Ключарах некалі пакралі дзедавых авечак. А цяпер і дзеда няма. Вася тады начаваў у дзеда і памятае вясновы досвітак, калі нехта адчайна забарабаніў у акно. Бабка адчыніла дзверы, і ў хату ўскочыў Дзям’ян Мачула, высокі, чорны, у расхлістаным кажуху, разлезлых лапцях і вялізнай шапцы-кучомцы, якая нагадвала буслінае гняздо.

— Авечак пакралі,— глухім, як з бочкі, голасам выдыхнуў Мачула.— Маіх і вашых...

Мачула пабег. Другія гаспадары таксама аддавалі яму на выпас авечак.

Дзед нахмурыўся, запрог каня і ўдваіх з бабкай паехаў у Ключары.

Вечарам бабка самымі страшнымі словамі кляла Мачулу. Злодзей, бязбожнік, азіят. Сам парэзаў авечак, а ўзвальвае на другіх. Бабку не правядзеш. У цёмным Мачулавым катуху бабка Аўгіння знайшла, можа, дваццаць свежых аўчын, а ў прыгрэбніку — авечыя вантробы.

І вось Вася імчыць у гэтыя самыя Ключары. Дзед з бабкай памерлі нядаўна, Вася ніяк не можа прывыкнуць да думкі, што іх няма на свеце.

Ключары — гэта кусты, пнёўе і рэдкія купчастыя дубы. Нядобрае прадчуванне спраўджваецца. Вася спачатку раздае пастухам табаку, а ўжо потым пытае пра птушак. Але ніводнага птушынага гнязда пастухі не ведаюць. Птушкамі проста не цікавяцца.

Вася злуецца: гэтулькі бег, табаку перавёў, ногі папраколваў.

З Ключароў Вася вяртаецца напрамкі праз поле. Жыта стаіць высакаватае, зялёнай шчоткай прабіваецца ярына. Васеву душу гняце трывога: а калі бацька вернецца і ўбачыць, што яго няма дома?..

Заняты згрызотлівымі думкамі, Вася раптам застывае нібы ўкопаны. На папары, проста ў земляной ямцы гняздзечка, а ў ім пяць шараватых, з цёмнымі крапінкамі яечачак.

Такі знайшоў Вася гняздзечка жаваранка, славутага спевака, які звініць над полем з ранняй вясны да сярэдзіны лета. Даўно марыў ён паглядзець, як жыве жаваранак. Вось і чубатая, шараватая, з бурымі плямінамі на грудзях птушачка ў разоры мільганула. Няхай не хвалюецца птушачка. Вася нават не дакранецца да яе. Тым часам месца запомніць. Раз ці два прыйдзе на папар, паглядзіць, якія выведуцца з яечак птушаняты, як будуць падрастаць.

Трывога недарма пякла Васеву душу. Бацька вярнуўся з балота, прывёз калеснік сена, тым часам старэйшы сын збрыў

з двара. Памагаць раскідаць сена некаму. Бацька сам раскідаў сена па двары — дасушвацца.

Петрык з Сяргеем спатыкаюць Васю маўклівыя, спалоханыя. Прадчуваюць: будзе старэйшаму брату кара.

— Вот як ты глядзіш братоў, двара,— гаворыць бацька.— Дзе швэндаўся?

Не слухаючы ніякіх тлумачэнняў, бацька шлягае Васю разы са тры ляйчынай.

Васю душыць крыўда. Ну, ён захапляецца птушкамі і нічога з сабой не можа зрабіць. Што тут дрэннага? Нават хлопцы з іхняга канца вуліцы Васю не разумеюць. Кожны з іх радуецца, калі знойдзе птушынае гняздо. Тым часам так заўзята, як Вася, ніхто ў пошуках гнёздаў па ваколіцах мястэчка не вандруе.

Вася марыць пра жаўну. Ён аднойчы бачыў яе і ведае, што жаўна — вялікі дзяцел. Пер’е мае чорнае, якое нават бляскам адлівае. У самца на галаве, а ў самкі на шыйцы малінава-чырвоная палоска.

Жаўна жыве ў сасновым, нават змешаным лесе. Адамаў бацька, дзядзька Платон, аднак, пахваляўся, што знайшоў гняздо жаўны на балоце. Можа, гэта быў лясны курган, акружаны балотам.

Васю жаўна надзвычай вабіць, бо яна рэдкая ў іхнім лесе і вельмі асцярожная птушка. У дзядзькі Платона, аднак, пра жаўну другі раз не спытаеш. Мог бы спытаць Адам, але ён птушкамі мала цікавіцца.

Так, Вася адчувае сябе найбольш шчаслівым, калі ў пошуках птушыных гнёздаў вандруе па лесе, гайках, кустоўі. Тады ўся ягоная істота націнаецца, душу агортвае асаблівы, прыўзнята-святочны настрой. Наогул Васю прыемна вандраваць між дрэў, чуць птушыны шчэбет, глядзець на галіны, лісце, траву. Ён нібы яднаецца з гэтым зялёным светам, без якога проста не можа жыць.

Чэрвень канчаецца, птушкі яек больш не адкладваюць. Вася, аднак, спадзяецца на шчасце і ў адзін з цёплых сонечных дзён выбіраецца на Гарадзінку. Балота падсохла, на ім на ўсю моц вымахала асака, дзікі ціпец, круглец, розныя вадзяныя дудкі-парасоны. Не паспеў Вася пераскочыць некалькі купін,

як натрапіўся на гняздо дзікай качкі. Фактычна гнязда няма: ледзь-ледзь ямка засланая сухімі травінкамі. Яйкі вялікія, трохі зеленаватыя, з прыкметнымі цёмнымі крапінкамі, іх дзевяць штук у гняздзе. Вася паглядзеў праз яйка на сонца: прасвечваецца наскрозь. Значыць, не наседжаныя, свежыя. Добра, што Вася ўзяў шапку. Скачучы з купіны на купіну, за пазухай яйкі не пранясеш: паб'юцца, патрушчацца.

Калі шанцуе, дык шанцуе. Не прайшло паўгадзіны, як Вася наткнуўся на другое качынае гняздо, затым на трэцяе...

Горды ад удачы, ідзе Вася дадому. Ногі папракалваў, але болю не адчувае. Ледзь не поўная шапка вялікіх качыных яек, гэта добрая яечня. Ніхто цяпер не стане дакараць Васю, што ён гультайнічае, марна траціць час, вандруючы ў пошуках птушыных гнёздаў.

Харошы летні час. Кожны новы дзень дорыць новыя ўражанні, радасці. Жаўранкі вывеліся, Вася раз у два ці тры дні бегае глядзець, як падрастаюць жаўтадзюбыя птушаняты. Спачатку яны ляжаць у гняздзечку шчыльным камячком, голенькія, пакрытыя ледзь прыкметным пухам. Вася нахіляецца над імі, і яны нават гэта чуюць: дружна і шырока расчыняюць жоўтыя дзюбы.

Але пакрысе апераюцца птушаняты: спачатку як бы пакрываюцца жаўтлявымі стрэлкамі, а яшчэ праз колькі дзён са стрэлак пер'е і крылцы вырастаюць.

Вася цяпер не такі дурны, як у той час, калі не хадзіў яшчэ ў школу. Ён ведае: дробныя птушкі ў чалавека не жывуць, у няволі марнеюць і гінуць, таму ён іх не чапае. Прыходзіць толькі глядзець, як падрастаюць.

## XXIV

Сонца жарыць як з печы. На бязмежным сінім небе ні аблачынкі. Самы поўдзень, усё жывое пахавалася ў цень, у прахалоду, пазашывалася ў норы, у розныя закануркі. На пнёўі каровы збіліся ў круг і толькі адчайна ўзмахваюць хвастамі, адбіваючыся ад заедзі. Сляпнёў, аваднёў процьма, яны джаляць жывёлу бязлітасна, нібы шэрая сетка, вісяць над статкам. Яны і на разгарачанага Васю нападаюць. Нават

не дзынкаючы, бязгучна садзяцца на лоб, на шыю, на грудзі. Ён раз-пораз забівае абрыдлых ненаедных істот, а яны ўсё лезуць і лезуць.

Раптам у гарачай застойнасці дня як бы нейкі ўздых. Пругкая хваля нечаканай прахалоды кранаецца Васевага твару. Ён глядзіць на неба і вачам не верыць: невялікая хмарка напаўзла на сонца і зараз жа сышла, але за ёй, з паўднёва-заходняга краю неба, напаўзаюць новыя і новыя воблакі. Пяці хвілін не прайшло, а ўжо абложана неба сінявата-цёмнымі хмарамі, якія паспелі закрыць увесь далягляд. Наваколле нібы застыла, прытаілася ў чаканні перамен. Застыглыя вусны зямлі нібы просяць прахалоды, жыватворнай вільгаці. Будзе навальніца! Што ёсць сілы імчыць Вася да будынкаў, размешчаных на Блізкім Лядзе.

Ён не паспявае дабегчы пад дах ці хоць пад дрэва. Раздаецца магутны — нібы раскалолася неба — удар грому, і дождж адразу ліе як з вядра. За лічаныя хвіліны Вася прамакае да ніткі, і ўжо няма сэнсу бегчы шукаць схоў. Гром грыміць, вада льецца бачнымі касымі цуркамі. Ёсць нават асалода ў такім напорным дажджы. Умомант усё зелянее, ажывае, блішчыць. У выбоінах утвараюцца азяркі, па пыльнай, шчыльна прыбітай дажджом дарозе бягуць раўчукі.

Вася ведае хутар Блізкае Ляда. Адзін яго абгароджаны, нібы крэпасць, бярвеннем двор стаіць пры самым пясчаным шляху, які вядзе ў суседнюю вёску, астатнія тры ці чатыры трохі наводдаль. Бярвенне пад дажджом, ветрам пачарнела, пакалолася, і нягледзячы на тое, што ў хатах хутаранцаў, як і ў мястэчку, шырокія вокны, пакрытыя дранкай, нават гонтай дахі, яны ўсё адно здаюцца старасвецкімі.

З двара-крэпасці ў школу ходзяць дзве дзяўчыны: старэйшая, чарнявая, з заплеценай касой Галя і меншая, круглатварая, чырванашчокая Тоня. Тоня якраз вучыцца ў Васевым класе. Іх бацька магутны мужчына — высокі, шыракаплечы, з вялікай, як у мядзведзя, галавой, мае і клічку адпаведную — Топаль. Топалевы дзяўчаты і яшчэ Халімонава Маня, якая жыве ў малой, някідкай хаціне наводдаль шляху, з незапамятных часоў бачаць Васю верхам на кані. Ён праязджае міма іх двароў, калі прыганяе каня на пашу ці вечарам забірае дамоў.

Навокал хутара і трохі далей, сярод абагуленага калгаснага поля, яшчэ засталіся купы дубоў. Іх разложыстыя шаты ціха і, здаецца, неяк таямніча шэпчуцца з вятрамі, як бы разгадваючы нейкую спрадвечную тайну. Найбольш дубоў засталося на хутары Ключары, адкуль ходзяць у школу браты Кізеры, і гледзячы на шырокія, бясконцыя Далёкага і Блізкага Ляда пні, лёгка ўявіць, які цудоўны дубовы лес атуляў мястэчка. Дзіўна, такі багаты магутны лес стаяў навокал і такія бедныя, крывыя, касабокія трапляюцца ў мястэчку хаты.

А дождж ліе. Вася стаіць пад дубам, які расце на ўскрайку Топалевага агарода, і думае пра тое, што такі дождж залье гняздзечка жаваранкаў. У яго нават думка ўзнікае: пабегчы назад, каб як-небудзь выратаваць птушанят, але ён зараз жа адкідвае гэтую думку. Гняздо, відаць, прыкрываюць ад дажджу старэйшыя птушкі, крылы якіх і пер’е вады не баіцца. Гусі, качкі колькі хочаш могуць знаходзіцца пад дажджом і ніколі не абмакаюць, бо вада сцякае з іх, не затрымліваючыся.

Вася, аднак, прамок, прамёрз, і трэба хутчэй дадому.

Атрымліваецца так, што толькі праз тыдзень Вася наведвае гняздзечка жаваранкаў. Яно пустое. Значыць, падраслі птушкі і пакінулі свой дом. Каласуе ячмень, авёс — тады, калі Вася знайшоў гняздзечка, ярына была пры самай зямлі.

У Васі ў памяці нядаўняя навальніца, калі птушанят магло затапіць вадой. Аднак не падобна, што птушкі загінулі. Гняздзечка акуратнае, непарушнае. І нейкі сум у душы ад таго, што Вася ніколі болей не пабачыць жаваранят. Падраслі і паляцелі. Маладыя птушкі ніколі не наведваюць гнёздаў, у якіх выраслі.

Дні плывуць сонечныя, спякотныя. Эх, пакупацца б у такую гарачыню! Хлопцы збіраюцца, раяцца, купаюцца дзе толькі могуць: у Бечанковай канаве, Цітавай копанцы, размешчанай на мяжы станцыі з вуліцай Чангарскай дывізіі,— яна ледзь не ўшчыльную прылягае да балота Гарадзінкі, а іншы раз забрыдаюць нават на торфазавод у кар’еры: вада ў іх цёмна-карычневая, нібы ячменная кава. Шкада — рэчкі няма ў мястэчку! Зусім другое было б жыццё. Была б рыба, прыгоды на вадзе і шмат чаго іншага.

Калі гаварыць праўдзівей, то рэчка ёсць. Называецца Ведрыца, выцякае з мясцовых балот, круціцца па лясах, імшаніках, раўнінных тутэйшых палях і сенажацях, затым упадае ў Днепр. Толькі далёка Ведрыца ад мястэчка — ісці трэба сем кіламетраў. Ды столькі назад. Не вельмі накупаешся.

Суніцы, чарніцы паспелі амаль адначасна. Відаць, з-за гарачага лета. Звініць жаночымі, дзіцячымі галасамі бор, заціснуты паміж чыгункай і пясчаным, пабітым на калдобіны Макаўскім шляхам. Вася з Петрыкам прыходзяць у лес рана. Густы туман яшчэ сцелецца між соснаў. Прыгравае сонца, і рванымі сівымі касмыкамі туман падымаецца ўгору, знікае між вяршалін. Сонечныя промні адбіваюцца на вяршалінах медна-залатых камлёў хвой, спускаючыся ніжэй і ніжэй.

Ранішні бор сустракае Васю з Петрыкам расой: яна вісіць на барвенку, на чарнічніку, на траве, робіць на першым часе мокрымі пастолікі, ніжнія калашыны штаноў. Ягады чарніцы нібы ахутаны белавата-сівай павалокай, не ўсе іх убачыш, шастаючы рукой у чарнічніку, некаторыя трэба намацваць пальцамі. Нялёгка, зусім нялёгка назбіраць збанок чарніц. Галоўнае: нарвацца на багатую мясціну. Але ў Макаўскім бары не шмат знойдзеш такіх мясцін. Ён блізкі ад мястэчка, таму дарогу сюды ведае і стары і малы. Трэба цярпенне, трэба не мінаць нават самую маленькую, мізэрную ягаду, калі хочаш напоўніць збанок. Самае цяжкае, як і пры збіранні суніц, прайсці пук гладышыка.

Петрык адну ягаду кідае ў слоік з-пад варэння, дзве ці тры ў рот. Рот ягоны чорны, нібы бог ведае колькі паласаваўся Петрык у чарніцах. У слоіку чарніц толькі ў дне. Бедны Петрык! Не можа справіцца з самім сабой. Вася, як і раней, прыходзіць брату на дапамогу. Перасыпае жменю Петрыкавых ягад у свой збанок. Скажуць: збіралі разам.

Вось і канчаецца лета. Ліст на дрэвах набрыняў тугой зялянінай, на полі, у агародзе паспела пасеянае і пасаджанае. Гарбузнік узвіўся на платы, парканы, і, хоць ляжаць на доле, як парасяты, гарбузы, ён усё яшчэ цвіце. На градах сярод парадзелай націны ляжаць агуркі-жаўтлякі. Бочку агуркоў маці пасаліла, гэтыя — на насенне. Можна яшчэ знайсці ў градах

заморaны, крываваты агурэчык, бывае ніштаваты трапіцца, хрупасценькі, прыемны на смак, але часцей горкі, годны толькі на засолку.

Пярэдадзень восені — пара багатая. Маці то чыгун фасолі, бобу напарыць, то наварыць пшоннай кашы з гарбузам. Дах стопкі ўвесь закладзен жаўтабокімі гарбузамі. Ёсць сярод іх вялізныя — ледзь паднімеш. Гарбузы маці падмешвае ў тоўчанку свінні, семачкі сушыць на скаварадзе. Прыемны занятак — лузгаць паджараныя, часам нават трохі падпаленыя семачкі і ведаць, што іх у цябе ледзь не паўкішэні.

Памідоры на Васевым агародзе не ўдаюцца. Мажа, таму, што садзяць іх на месцы, дзе стаялі раней хлявы і глеба залішне тлустая. Гічэўнік памідораў вымахвае да метра, і толькі ў канцы лета на ім паяўляецца дробная завязь.

Рудзька пасля дзедавай смерці збрыў з дому і не вярнуўся. Няма ў Васі сабакі. Заводзіць новага не дазваляе бацька. Бацька гаворыць: Рудзька быў стары і проста сышоў здыхаць. Бо сабакі ў будках не здыхаюць: куды-небудзь звалакваюцца. Вася не верыць. Яму здаецца: Рудзька залішне любіў дзеда і таму не здолеў перанесці ягонай смерці.

Новая разлука наспявае ў Васевым жыцці — з канём. Бацьку выклікалі ў сельсавет і папярэдзілі: калі не адвядзе каня ў калгас, будзе абкладзен падаткам як аднаасобнік. Так што праз месяц, калі перавязуць з балота ў хлеў стажок сена, пакапаюць бульбу, бацька адвядзе каня ў калгас.

Вася сумуе. Ірвецца нешта шчырае, дарагое, што свяціла яму ўсе папярэднія гады. Ну, як бы ён жыў, каб не бегаў па вуліцы з Рудзькам, не лашчыў, не карміў яго, а Рудзька не адказваў шчырай удзячнасцю. Тое ж з канём. Летась адносіны з канём у Васі папсаваліся, конь зняверыўся ў ім, не лічыў за гаспадара, не даваў сесці на сябе. Цяпер дружба з канём як бы зноў наладжваецца. Гняды як бы прадчувае хуткую разлуку і не дзярэцца, не ўцякае ад Васі і гэтак не кусаецца, як летась.

У жніўні да дзеда Клімёнка прыехаў унук Валодзя, сын культурнага гаспадара Макара. Болей як два гады назад Валодзевага бацьку раскулачылі, але без высылкі, і ён з’ехаў з мястэчка. Працаваў нібыта на заводзе, у Маскве ці за Масквой — ніхто дакладна не ведае.

Валодзя паехаў падлеткам, а вярнуўся шустрым гарадскім хлопцам, магам і чараўніком: іграў на гітары, высвістваў пакручастыя рулады, і хлапечая талака схілілася перад ім у нямым захапленні. Яшчэ не было такога хлопца на Дзядку. Аркадзя Брыца ў разлік можна не браць: ён звычайны хуліган і бандыт.

Днём Валодзя, астаўшыся ў адных трусах, загарае на страсе дзедавага хлява, а ўвечары выходзіць на шпацыр.

Зайдешь в ресторанчик,
Чекулдыкнешь стаканчик...

Ён спявае, падыгрываючы сабе на гітары. Вася, Адам, Кузьма Поклад, Коля Кісель, Пеця Кірнач, Іван і Шура Шалудзькі, чарнаротыя Цімохавы браты (сам Цімох заве Валодзю кулацкім выпаўзнем і дружбу з ім не водзіць), іншая басота ідзе за Валодзем, глядзіць яму ў рот, баючыся прапусціць хоць слова. Што значыць гарадскі хлопец! Столькі дзівосных гісторый ведае, у такіх незвычайных справах удзельнічаў. Калі верыць апавяданням Валодзі, то ён усюды быў і ўсё бачыў — на Урале, за Уралам, у Сярэдняй Азіі, на Каўказе...

Валодзя часта вандруе ў лес. З хлапечага гурту бярэ з сабой толькі Васю. Можа, таму, што Вася любіць птушак. Валодзя таксама іх любіць і шмат лепей ведае іх норавы, мясціны гнездавання. Ён па голасе можа пазнаць птушку: дразда, шпака, шчыгла. Вася да гэтага яшчэ не дайшоў.

У лесе Валодзя мяняецца: не спявае сваіх песень, не свішча ў два пальцы. Іншы раз, выбраўшы зацішаны, парослы барвенкам грудок, Валодзя спыняецца, садзіцца, кладзецца на спіну. Ён штосьці думае і праз навісь сасновых лапін маўкліва пазірае на неба. Ён можа ляжаць так гадзіну ці болей. Вася ў такія моманты пакідае Валодзю. Гойсае па лесе, заглядвае ў дуплы, радуецца, калі знаходзіць нават пакінутыя птушкамі гнёзды.

Рана пачынаюць пракідацца грыбы. Яшчэ толькі палавее жыта, наліваецца ягоны колас, а Казлова Мар'я — яе хата праз вуліцу і выган якраз насупраць Васевага двара — вывешвае дасушвацца на сонцы нізкі баравікоў-жытнікаў.

Дзіўная гэта Мар’я. Нізкая, камлюкаватая, з грубым, нібы высечаным з каменю тварам, вялікімі цёмнымі вачамі, яна найлепшая з усяго канца вуліцы грыбніца. Бывае, шастаюць у лес кабеты, вяртаюцца з пустымі каробкамі, але Мар’я без грыбоў ніколі не вяртаецца. Нібы пад зямлёй знаходзіць. Тым часам Мар’я вельмі стоеная. Жанчыны набіваюцца ёй у таварышкі. Хоць неахвотна, але каторую з іх яна іншы раз бярэ з сабой у грыбы, але ў лесе абавязкова ад яе ўцякае.

Жыве Мар’я таксама з вельмі цікавым чалавекам Іванам Ляпіцай, або Казлом. Яна — мажная, раздабрэлая, Іван яе худы, шчуплы, з вострым, нібы ў камара, тварыкам. Тым часам залатыя рукі ў Івана Ляпіцы. Ён не толькі печы лепіць, а што хочаш саштукуе: змайструе ваконныя рамы, дзверы, зробіць бочку, дзежку, маслабойку, нават гадзіннік, калі трэба, пачыніць.

З гэтых сваіх заняткаў, нідзе не служачы, Іван жыве. Ён чарку любіць і мае надзвычай востры язык. Адчайна крытыкуе калгас, мясцовых кіраўнікоў, часам і да вышэйшых, пра якіх пішуць у газетах, дабіраецца. Мужчыны пасмейваюцца, калі-нікалі нават падтакваюць Івану, і ўсё яму пакуль што сыходзіць з рук. Іван не мясцовы. Прыбыў у мястэчка з германскай вайны, прыстаў да Мар’і ў прымы, а пазней і хату ёй паставіў.

Праз засаджаны бульбай агарод стаіць хаціна роднага брата Мар’і Паўла — вельмі ўбогая на выгляд. Страха правалена, сцены струхлелі, глядзіць будыначак на свет маленькімі падслепаватымі акенцамі. Відаць, і Мар’я ў гэтай хацінцы жыла, пакуль не прыняла да сябе Івана, але гэтага часу Вася ўжо не памятае.

Павел — таксама дзівак. Як Іван, быў на германскай вайне, яго там моцна пашкуматала. Параніла, кантузіла, і ходзіць Павел са скрыўленай шыяй і выгнутым бокам. Па гэтай прычыне не ажаніўся, жыве бабылём, сам сабе варыць, мые палатаныя порткі, <...>. Павел, гэтак жа як Іван, не ходзіць на службу, але і ягонага спрыту не мае. Тупае па двары, пілуе дровы, засявае агарод і нават карову трымае. З уласнай гаспадаркі жыве.

Казлова Мар’я пускае пагалоску пра грыбы, і пагалоска даходзіць да Валодзевых вушэй. І ён адразу загараецца: столькі часу, блукаючы па-за мястэчкам, не быў у лесе і, значыць, не бачыў грыбоў.

Валодзя бярэ з сабой Васю. Будзіць на золку, загадвае абуцца ў лапці, узяць кошык і нож. Маці наказвае далёка ад Валодзі не адыходзіць, каб не заблудзіцца. Петрык таксама прачынаецца: канючыць, плача — хоча, каб і яго ўзялі ў лес. Але Валодзя пра Петрыка нават слухаць не хоча.

Па грыбы Вася яшчэ ні разу не хадзіў. Калі грыбы прыносілі дзед ці баба, Вася любіў вымаць іх з лубянкі, сашкрэбваць з тугога карэння чорную лясную зямлю, абіраць ігліцу і жоўтыя бярозавыя лісткі з тугіх клейкіх шапачак.

Іншы раз Вася натрапляў у лубянцы на зусім распоўзлы, чарвівы абабак або падасінавік, але бабка Аўгіння ніколі такіх грыбоў не адкідвала.

— Чэрві ў ім,— гаворыць Вася.

— Не то чэрві, унучак, што мы ядзім, а тыя, што нас будуць есці.

Толькі цяпер да Васі даходзіць сэнс слоў, якія не раз прамаўляла бабка. І яна, і дзед ляжаць на могілках, у зямлі, і іх ядуць чэрві. Відаць, пра тое гаварыла...

З чарвівымі губякамі бабка варыла чорную, як дзёгаць, але смачную капусту, і Вася любіў тое яе варыва.

— Што ўлетку нагою, то ўзімку рукою,— яшчэ гаварыла бабка, маючы на ўвазе грыбы-шупплякі, тыя самыя, якія Вася раіў павыкідаць.

Валодзя з Васем шыбуюць у лес чыгункай. Пачынае світаць, сіне-белы туман вісіць над кустамі, што растуць паблізу насыпу, над лугавінай і ўзлессем. Дрэва шпалаў макраватае ад туману, кропелькі вады праступілі на гладка вылізанай паверхні рэек — як бы пакрапаў невялікі дождж. Ззаду і спераду галасы: рушылі па грыбы местачкоўцы.

Вось і дабрыдаюць Валодзя з Васем да лесу. Злева змешаны лес, куды Вася ходзіць па суніцы, справа — бор, дол якога густа зарос барвенкам: там Вася збірае чарніцы.

Лес, размешчаны на абодва бакі чыгункі, Васю знаёмы. Чыгунка не толькі яго перарэзала, але як бы нават зыначыла

прылеглыя да яе абсягі. Бо па левы бок стаіць змешаны лісцвяны лес, па правы — сасновы бор.

Лес пачынаецца дубовай градой. Магутныя, разлапістыя дубы стаяць па правы і левы бок чыгункі. Яны нібы ганаровая варта, што сцеражэ свае лясныя ўладанні.

Уладанні гэтыя пачынаюцца з мокрага, цёмнага алешніку, у якім ні ягад, ні грыбоў няма.

Далей падабенства падзеленага чыгункай лесу канчаецца. Пад Кротаву будку мясціна павышаецца, па левую руку побач з альхой прабіваецца асіна, бяроза, граб, бераст. Гэта і ёсць мясціна, куды Вася ходзіць па суніцы.

Іншы малюнак на правым баку. Мінеш сцяну шчыльнага грабняку, і пачынаецца бор — выносныя сосны, між якіх толькі зрэдку пракінецца якая-небудзь адзінокая бярэзіна. Дол у бары густа зарос чарнічнікам, брусьнічнікам. Тут Вася збірае чарніцы, якія паспяваюць тыдні праз два пасля суніц.

Валодзя паварочвае ў бор, мінуўшы Кротаву будку. Дол у гэтым месцы пераважна верасовы, але вытыркаюцца лапікі ягадніку-чарнічніку, шмат шорсткай, падобнай на асаку травы, аб якую можна парэзаць руку.

— Тут многа сонца,— гаворыць Валодзя.— Баравікі на прагрэтых мясцінах найбольш трапляюцца. Шукай тут.

Пачынаецца штосьці падобнае на казку. Толькі для Васі гэтая казка невясёлая.

— Грыб! — крычыць Валодзя.— Паглядзі, як прыгожа расце!..

Вася бяжыць да Валодзі. З цёмна-жоўтым каптурыкам, на тоўстай ножцы сядзіць баравічок. На голым месцы, зусім адкрыты — Вася таксама б яго ўбачыў. Толькі не для Васі шчасце.

Валодзя нагінаецца, падразае другі, трэці баравік, а над Васем як бы навісла закляцце. Крыўдна, горка Васю. Цяпер болей на Валодзю глядзіць, чым сабе пад ногі. Ім валодае паныла-адчайны настрой: ён няўмека, няўдачнік і ніякага баравіка не знойдзе.

Вася яшчэ і горды. Ён падалей адыходзіць ад Валодзі, каб той не бачыў ягонага сораму. Ім нават авалодвае жаданне

адбіцца ад Валодзі. Тады хоць гэтым ён вытлумачыць сваю няўдачу перад маці і хлопцамі.

У гэтае імгненне Вася бачыць баравік. Ён з цёмным каптурыкам, сядзіць, шчыльна прыціснуўшыся да камля сасны.

— Грыб! — не сваім голасам лямантуе Вася.

— Не руш! — крычыць Валодзя на бягу.— Ты б яго з коранем выхапіў. Не трэба так. Падрэж! Калі грыбніцы не пашкодзіш, тут яшчэ вырастуць баравікі...

У той свой паход Вася толькі і знайшоў два баравікі. Дый у Валодзі іх не так многа — дзесяць ці дванаццаць. Але надоўга запомніў Вася гарачы жнівеньскі дзень. Віселі сінія сонечныя палосы між сосен, перагукваліся жанчыны. Гулкім рэхам адбіваўся ў лесе лёскат колаў па рэйках. Пачуцці, якія валодаюць Васем, вельмі падобныя на тыя, якія ўзнікалі, калі ён знаходзіў новае птушынае гняздо. Радасць перамогі...

Валодзя не надта доўга пабыў у мястэчку. Яго ўладкавалі прадаўцом у саўгасную крамку. Толькі два тыдні пастаяў Валодзя за прылаўкам крамкі. Затым прыхапіў больш чым тысячу рублёў выручкі і знік у невядомым кірунку. На Валодзю нібыта аб’явілі росшук. Маўляў, знік вялікі злачынца, лавіце, шукайце. Фотакартка Валодзі нібыта вывешана цяпер у кожнай міліцыі.

Вася доўга ломіць галаву, не могучы здагадацца, чаму Валодзя так зрабіў. Ён жа спагадлівы, мяккі, добры хлопец. Здольны. Мог бы дзе-небудзь вучыцца ці працаваць. Ну, любіць трохі пыл пусціць у вочы. Дык хіба ён адзін такі? Пражыве Валодзя за ўкрадзеныя грошы месяц ці два. А што далей? Не, Вася Валодзю не разумее.

Перад знікненнем з мястэчка Валодзя Васю сфатаграфаваў. Была ў яго чорненькая каробачка фотаапарата. Прынёс праз дзень тры картачкі. І дужа здзівіў фотакартачкамі Васю. Ёсць у хаце пабітае люстэрка з тоўстага шкла, кавалкі якога — каб зусім не раскідаліся — бацька змацаваў дротам. Вася не любіць глядзецца ў гэтае люстэрка. Бо выглядае ў ім дужа непрыгожым. Тоўстыя губы, шырокія ноздры, і валасы стаяць старчаком. Вася ўжо даўно вырашыў: не ўдаўся ён з твару. Але што ж, жывуць на свеце і непрыгожыя. На фатаграфіі, хоць яна не зусім удалася, Вася выглядае прыстойным, можна

нават сказаць, прыгожым хлопчыкам. Губы, нос нармальныя, увогуле рысы твару тонкія, далікатныя... Дык вось чаму ловіць і цалуе Васю Надзя... Дый і іншыя дарослыя дзяўчаты прыхільна ставяцца.

## Частка другая

# КНІГІ

## I

Вася ідзе ў трэці клас. Парадкі тут іншыя, чым у першым і другім. Замест чытанкі выдалі хрэстаматыю, у якой нават партрэты пісьменнікаў змешчаны і трошкі пра іх напісана.

У трэцім класе ёсць руская мова і літаратура. Таму трэцякласнікі маюць таксама рускую хрэстаматыю і граматыку. Прыкметна прыбавілася кніжак у трэцім класе.

Рускую мову Вася добра разумее. Не трэба ніякі перакладчык. Бо няма ніводнага слова, над якім бы прыйшлося доўга ламаць галаву. Запамінаюцца рускія словы самі сабой. Толькі яны бачацца Васю залішне ўрачыстымі, высокімі, яму здаецца, што такімі словамі людзі размаўляюць дзесьці ў далёкіх белых гарадах і жывуць гэтыя людзі нейкім адмысловым, непадобным на местачковае жыццём.

Праўда, ёсць асобы, якія тут, у мястэчку, спрабуюць гаварыць па-руску. Моцна наварочвае рускімі словамі стрыечная сястра маці Паліна, з якой яны заедна садзяць бульбу. Паліна — жанчына відная, прыгожая, але яе рускую гаворку Вася ставіць невысока.

Беларуская мова — звычайная. Нават тая, якой напісаны кнігі, газеты, вельмі падобна на мясцовую, местачковую гаворку. Таму Вася нібы адкрыццё зрабіў, дазнаўшыся, што звычайнай мясцовай гаворкай могуць быць напісаны кнігі. І вельмі ўзрадаваўся, устанавіўшы, што ён беларус. Усё роднае блізка ляжыць да душы, сэрца. Таму мала сказаць, што Васю падабаецца беларуская мова. Ён яе любіць, зачараваны ёй, бязмежна ў яе закаханы.

Цімох ходзіць у пяты клас, і цяпер Вася, завітаўшы да сябра, кожны дзень глытае ягоныя падручнікі па беларускай мове. Ён ужо і многіх пісьменнікаў беларускіх ведае — Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю. Толькі шкада — кніг іхніх у бібліятэцы не возьмеш — у бібліятэках за імі агромністая чарга.

Вася, як толькі пайшоў у трэці клас, запісаўся адразу ў дзве бібліятэкі — школьную і сельсавецкую. Які выдатны наступае час! Чаргуючыся, каб лішне не назаляць бібліятэкаркам, Вася бадай кожны дзень бярэ новую кніжку. Пра школьную бібліятэку нічога асаблівага не скажаш: размешчана ў крытым бляхай будынку, у класе, які мяжуе з настаўніцкай. Там два шкафы кніг. Кнігі выдае прыгожая, але са злоснымі чорнымі вачамі настаўніца, якая некалі не запісала Васю ў школу. Цяпер яна вядзе чацвёрты клас. Вось так, мог ён вучыцца ў чацвёртым класе, каб не гэтая прыдзірлівая настаўніца. Зрэшты, яна і тут да Васі прыдзіраецца, не лічыць сур'ёзным чытачом і дае толькі самыя тоненькія кніжкі. Але ёсць выйсце. Вася бярэ тыя самыя кніжачкі, якія чытала на ўроках Марыя Рыгораўна. Чытаць іх цяпер не менш цікава, чым некалі слухаць.

Сельсавецкая бібліятэка размешчана ў былым папоўскім доме. Добра жыў некалі поп: меў восем ці нават дзевяць пакояў, вялікі пляц, сад, засаджаны акацыямі палісаднік, якім дом аддзяляецца ад вуліцы. Сельсаветчыкі будыніну, відаць, пераабсталявалі: нарабілі прасторных кабінетаў, залаў і толькі пад бібліятэку адвялі невялікі светлы катушок. Усе сцены ў закутку застаўлены кніжнымі паліцамі. Вочы разбягаюцца, калі зірнеш на гэтыя паліцы.

Бібліятэкарка Ксюха — мажная, высокая, светлавалосая дзяўчына-перастарка — Васю знаёма. Яе дом стаіць перад старым могільнікам на развілку Савецкай і Чыгуначнай вуліц. Брат Ксюхі, шчуплы, трохі сагнуты, са старэчым маршчыністым тварам, ходзіць з чыгуначным ліхтаром: служыць на станцыі саставіцелем ці аглядчыкам вагонаў.

Васю трохі ніякавата перад Ксюхай. У яе палісадніку, у бэзавым кусце ён агледзеў мінулай вясной гняздзечка шчыглоў. Лятаў да гнязда па тры разы на дзень, мацаў маленькія яйкі

рукамі, нават здымаў круглае гняздзечка з месца, пакуль шчыглы ад гнязда не адмовіліся. Ксюха пра гэта не ведае, але Васю ўсё адно няёмка.

Ксюха не надта любіць Васю. За тое, што ён часта торкаецца ў бібліятэку. Можа, па гэтай прычыне ў адрозненне ад прыгожай, але прыдзірлівай настаўніцы-бібліятэкаркі Ксюха дазваляе яму браць тоўстыя кнігі. Але і тоўстыя кнігі Вася глытае хутка. Праз дзень, самае большае праз два Вася зноў торкае нос у бібліятэку. Ксюха лаецца, падколвае Васю. Але ён цярпліва пераносіць насмешкі, кпіны. Без бібліятэкі, без кніжных паліц ён жыць не можа.

Ён яшчэ не дае сабе адказу, чаму так прагна цягнецца да кніг. Можа, па той прычыне, што і да птушак. Птушкі — стварэнні незвычайныя, прыгожа цвыркочуць, цінькаюць, умеюць лятаць. Хіба можна вытлумачыць, чаму адну рэч любіш, а другую — не. Вася ўжо ў трэці клас ходзіць. Але ўсё адно любіць гуляць у «цуркі», «ялавога», «кругавога», гнаць тоўстым дротам жалезнае колца і слухаць, як яно звініць, бегчы, прыціскаючы палку да шчыкетніка: гук такі — нібы трашчотка трашчыць. У доме ёсць швейная машынка. Васю падабаецца круціць яе ручку. Шкада: маці забараняе, дый і сам Вася баіцца лішне забаўляцца, бо можна машынку зламаць.

Хоць школа не блізка, вярсты дзве ад дому, Вася ахвотна ходзіць у школу. Васю да душы высокія, пагоркаватыя мясціны. У гэтай частцы мястэчка, насупраць школы, размешчан калгасны двор: доўгія, непрывабныя на выгляд хлявы, сіласная вежа. Пагорак крута абрываецца, агаляючы свой пясчаны бок. У жоўтым далікатным пяску, нібы куры, барахтаюцца першакласнікі.

З левага боку пагорка калгасная кузня. Будынак стары, сцены з дзіркамі, дах праваліўся. З кузні ва ўсялякі час года даносіцца жалезны стук. З правага боку стаіць калгасная кантора — доўгае, нізкае, як адрына, збудаванне.

Восенню бацька, нарэшце, адводзіць у калгас каня. У вёску Сівалобы, падалей ад вачэй. Вася нават не думаў, што будзе так балюча перажываць развітанне з Гнядым. У апошні час іх адносіны палепшыліся, пасля таго як нейкі час конь не даваўся Васю ў рукі. Штодзень Вася ўспамінае каня.

Галоўнае, ён не сядзе на Гнядога, не праляціць, падымаючы воблакі пылу, наўскачкі па вуліцы. Вася нават чакае, што конь як-небудзь уцячэ з Сівалобаў і хоць дзень ці два пабудзе ў двары. Хіба яму лепей у чужых людзей?

Конь, відаць, трапіў у моцныя рукі і сарвацца не ўдаецца. Вася часта ўспамінае Гнядога з ціхім смуткам, пераносячы ўяўнае спатканне з ім на пазнейшы час.

Вельмі дрэнна, што няма каня. Пакапалі бульбу ў Рогаўцы, на далёкім пралёце, а на чым прывезці? Трэба даць пяцёрку ці нават дзясятку аднаасобніку ці хітраму ўрвіцелю, які з каня і жыве.

Наогул, чым далей, тым цяжэй жыць. Усё болей абавязкаў ускладваецца на Васю. Каня няма — і няма як прывезці з лесу дроў. Паліць у печы, варыць страву, аднак, трэба. На Васевым абавязку цяпер украсці плашку ці дзве з бясконцых штабялёў, якімі застаўлены дрывяны склад, што ўпрытык прылягае да станцыйных будынкаў. І яшчэ хлеба прынесці. Хлеб цяпер ёсць у вольным продажы. Выкідваюць у трох ці чатырох мястэчковых крамах. Але яшчэ доўгія чэргі за хлебам. Нават у чыгуначнай краме, дзе хлеб выдаюць толькі тым, хто працуе на станцыі, трэба выстаяць у чарзе гадзіну або нават дзве.

Чыгуначная пякарня размешчана ў доме Цераха Грэчкі, які сышоў у саўгас. Хлеб адсюль возяць у краму ў спецыяльнай драўлянай будцы, якая стаіць на звычайных калёсах. Стоячы ў чарзе за хлебам, Вася раз-пораз выскаквае на ганак пагля-дзець, ці едзе гэтая доўгачаканая будка з хлебам. Бо яшчэ і плашку дроў украсці, і ўрокі трэба парабіць. Хоць пісьмовыя. Пра вусныя Вася асабліва не думае. Вучыць іх на перапынках між урокамі ці на самім уроку. Прачытанае запамінае хутка, дакладна. І гэтай сваёй здольнасцю Вася карыстаецца.

Адзін раз у маленькую чыгуначную крамку набіваецца асабліва многа людзей. Ужо і хлеб даюць, але чарга не рухаецца, бо прыходзяць машыністы, кандуктары, саставіцелі паяздоў, іншыя прывілейныя асобы, бяруць хлеб праз галовы, без чаргі.

— Па чарзе даваць трэба! — крычыць Вася.

Да Васі нахіляецца замурзаны, чорны, як відаць, толькі з паравознай будкі вылез, памочнік машыніста Іван Бурак.

— А ты што за спецыяліст? Чаго гарлапаніш? Дзе твой бацька працуе?

— Мяшком вецер ловіць,— адказвае Вася.

Некаторыя з тых, хто стаіць у чарзе, рагочуць.

— Дык ідзі і хлеб лаві мяшком...

Іван Бурак намерваецца выкінуць Васю з чаргі. Аднак чыгуначнікі заступаюцца за Васю.

— Бач, як брытвай адрэзаў, адказаў. Не кожны здолее.

— Малайчына, хлопец,— гудуць яны.

— Гэта сын Івана Война, стрэлачніка. Не чапай яго.

Адмысловых слоў Вася не прыдумаў. Ён іх у кнізе вычытаў. Яны спадабаліся, і ён іх запомніў.

На станцыі будуецца яшчэ адна воданапорная вежа. Яе клепцюць з вялікіх жалезных лістоў якраз насупраць чыгуначнай крамы. Калі строга лічыць, то ў гэтым месцы цэлых тры крамы. Побач з чыгуначнай — маленькая з вялікім казырком-навесам крамка Лізы Беленькай. Толькі дзверы адчыні, і адразу ўбачыш мілавідную, буйнацелую Лізу, якая заўсёды сядзіць за прылаўкам. Бывае, у маленькай крамцы, апрача жалудовага кофе і вадкага, у бочцы, мыла, нічога болей няма, але Ліза заўсёды на месцы. Мажа, яна зарплату толькі за тое, што сядзіць у крамцы, атрымлівае?

Трохі наводдаль лесбелаўская, ці, як цяпер называюць, леспрамгасаўская крама — доўгая, нібы адрына, напаўцёмная будыніна, складзеная з перавезенага ў мястэчка хлява ці гумна раскулачанага хутараніна. Па леспрамгасаўскай краме шустра бегае засяроджаны ў сабе чорны, нібы шпак, прадавец Зайчык, адвешвае соль, адпускае ў гладышыкі і шкляныя банкі бурачнае павідла, выкідвае на прылавак іншыя небагатыя тавары.

Чым далей, тым патрошкі багацеюць крамы. Выпадаюць дні, калі за камсой, сялёдкай, нават за цукрам няма чаргі. Толькі грошай няма на гэтыя даброты. Бацькава зарплата сто дваццаць шэсць рублёў. Калі ўлічыць, што кілаграм чорнага хлеба каштуе восемдзесят пяць капеек ці рубель, што ў хаце тры хлопцы, якія сама растуць і кожны з іх можа лёгка з'есці нават больш чым кілаграм, то лёгка зразумець, чаму імкліва разыходзіцца бацькава зарплата.

Бацька трохі прырабляе: суправаджае ў якасці кандуктара вагоны і платформы на Хвойніцкую ветку, дзе ідзе пагрузка

драўніны, часам сам прымае ўдзел у пагрузцы. Але гэтым прорвы не заткнеш. Усе грошы ідуць на харч. Часам маці з бацькам едуць у Гомель спраўляць якому-небудзь хлопцу чаравікі ці сарочку. Але гэта ўжо за пазычаныя грошы. У мястэчку з крамніны, абутку нічога не дастанеш. Чэргі страшэнныя, дый станавіцца ў чаргу трэба звечара.

Навакол мястэчка калгасныя вёскі, і хоць не чуваць, каб лішне раскашавалі людзі, якія зажылі па-новаму, аднак розныя нарыхтоўкі — збожжа, бульбу, нават моркву і капусту — калгасы вязуць у мястэчка спраўна. Збожжа ссыпаюць у распаўзлую, збітую наспех з дошак, пакрытую фанерай будыніну, размешчаную побач з лесаскладам, бульба, капуста, морква — пакуль іх не пагрузяць у вагоны — ляжаць у буртах пад хмурым асеннім небам.

Тым часам не можа дзяржаўнае дабро псавацца пад даждждом і снегам. Частку агародаў — Васевага, Адамавага, Аркадзя Брыца, Кузьмы Поклада і нават Цімохавага — адразаюць, адводзячы пад будаўніцтва базаў і складоў. Шкада: агароды значна паменшалі. З другога боку, цікава ўсё гэта. Васеў агарод непасрэдна прылягае да чыгункі, да тупіковых пуцей, і, такім чынам, асноўныя базы пабудуюць на ягоным агародзе. Бульбы цяпер будзе меней, затое гонар які!

На Васевым агародзе навалены стусы бярвенняў, дошак. Звініць цыркулярная піла, гахаюць сякеры, адвальваючы ад бярвенняў тоўстыя пласты шчэпак. На гэтую восень, а можа, нават на зіму дрывамі Вася забяспечан. Бо хто забароніць яму набраць шчэпак і аскалабкаў, якія кучамі ляжаць на Васевым агародзе. І цесляры нічога Васю не гавораць, калі, прыйшоўшы са школы, прынёсшы з крамы хлеба, ён нарэшце завітвае на агарод і пачынае ахапкамі насіць у двор трэскі.

Праўда, на Васю коса пазірае Бозік — сівы рухавы стары, які вартуе бурты бульбы і морквы, а цяпер, значыць, і новае будаўніцтва, бо базы якраз і прызначаны для схову бульбы і агародніны. Бозік жыў раней з жанатым сынам, але, відаць, непярэліўкі яму ў сынавай сям'і, і ён аддзяліўся. На канцы чужых агародаў збудаваў сабе курэнь, днюе і начуе ў ім, варыць у закураным кацялку бульбу і гэтак жыве.

## II

Два разы на тыдзень Васю выпадае насіць бацьку абед. Стрэлачнікі працуюць адмыслова: заступаюць на дзяжурства на ўвесь дзень ці на ўсю ноч. Пасля дванаццацігадзіннай дзённай змены маюць суткі адпачынку, пасля такой жа начной — двое сутак.

На станцыі два пасты стрэлачнікаў — усходні і заходні. Заходні — блізка, адразу за агародам — рукой падаць. Усходні — далекавата: трэба мінуць станцыю і яшчэ за станцыю з вярсту ісці.

Бацька, толькі калі каго падмяняе, працуе на блізкім блокпасту. Але гэта бывае рэдка. Так што Вася прызвычаіўся хадзіць да далёкай стрэлачніцкай будкі. У гэтым ёсць нават свае перавагі. Колькі перадумаеш за дарогу, колькі пабачыш новага.

Вася ідзе чыгункай, завітвае ў чакальную залу станцыі, у буфет, праходзіцца па пероне. Бывае, у гэты час якраз падлятае да станцыі пасажырскі цягнік з Жыткавіч, з заходняй граніцы. На станцыі цягнік стаіць хвілін дзесяць, і з яго вагонаў дружна вывальвае пярэсты натоўп пасажыраў, некаторыя з якіх нават у спальных паласатых піжамах вылазяць на перон. Большасць пасажыраў прагне розных напіткаў і таму імчыць у буфет, цягнучы адтуль цэлыя батарэі бутэлек. З акон вагонаў на Васю паглядаюць добра апранутыя, у матросках, розных джэмперыках, світарках хлапчукі і дзяўчаткі. Бывае, яны ядуць цукеркі, выкідваючы пярэстыя паперкі на перон.

Такімі паперкамі Вася цікавіцца, але яшчэ ніколі не было, каб ён падымаў іх на вачах гэтых па-святочнаму апранутых панічоў. Не, паноў сёння няма і халуёў таксама!

Нарэшце ўдарае першы, другі, трэці званок, мітусяніна супыняецца. Цягнік, гучна пыхкаючы, зрушвае з месца. Вася ідзе далей.

Над станцыйнымі пуцямі, нібы зялёныя аблокі, навісаюць купы срабрыстых таполяў. Старыя гэта дрэвы. Відаць, пасаджаны яшчэ тады, калі толькі пракладвалі чыгунку і будавалі станцыю. Пад таполямі невялікая будка, у якой бавіць час

розны службовы люд. Якія абавязкі кожнага з гэтых замурзаных людзей, Вася не ведае. Можа, пераводзяць стрэлкі, калі цягнік манеўруе, сцягваючы ці расцягваючы вагоны па розных пуцях. Хутчэй за ўсё так і ёсць, бо мужчын сярод гэтых службоўцаў меншая палавіна, больш жанчын. Адна з іх, Броня Дуля, дужа брыдкая з выгляду: твар чырвоны, нібы абвараны, тоўстыя губы, шырокія конскія зубы, постаць нагадвае напхаты саломай вялізны мех. Яшчэ і картавая Броня і з рознымі п'янымі мужчынамі швэндае — хто б ні пазваў.

Вася ведае, дзе Броня жыве. У маленькай спарахнелай хатцы з двума маленечкімі акенцамі, што стаіць пры самай царкве. Там Броня месціцца разам з сястрой, у якой, здаецца, і дзеці ёсць. Царквы ўжо няма. Залатыя макаўкі, крыжы зніклі. Царкву разбіраюць, з яе бярвенняў будуюць клуб — ён будзе размяшчацца якраз праз дарогу. На месцы царквы нібыта будзе пабудавана новая школа, і не звычайная, а каменная, двухпавярховая.

Бадай, самыя прыгожыя будынкі на станцыі.

Кожны чалавек ганарыцца месцам, дзе нарадзіўся, жыве. Вася таксама ганарыцца мястэчкам. Яшчэ калі жывы быў дзед, Вася колькі мог выпытваў у яго пра мястэчка. Калі ўзнікла, хто тут жыў? Дзед, аднак, мала што ведаў. Ён араў, касіў, малаціў, вазіў дровы і не вельмі цікавіўся гісторыяй роднага паселішча. Кажуць, першага чалавека, які тут пасяліўся, Базылём звалі, гаварыў дзед. Адсюль і мястэчка называецца Базылевічы...

Васю не задавальняў адказ пра няпэўнага Базыля. Ніхто, аднак, не цікавіцца даўнінай мястэчка, нават настаўнікі. Гэта Васю прыгнятае. Цяпер ён чытае кнігі, але ў кнігах таксама нічога пра Базылевічы не напісана. Нават на геаграфічныя карты мястэчка не нанесена. Яно ёсць толькі на карце чыгунак, якую аднойчы ўдалося ўбачыць Васю ў кабінеце дзяжурнага па станцыі. Мястэчка памечана на ёй нават прыкметным кружком. Бо гэта не звычайная, а вузлавая станцыя. Ад Базылевіч адыходзіць саракавярстовая ветка на Хвойнае — малы гарадок паміж Дняпром і Прыпяццю.

Станцыйны пасёлак самы ахайны ў мястэчку. Казённыя дамы акуратныя, крытыя бляхай, пафарбаваныя ў жоўты

колер. Ёсць двухпавярховы дом, складзены з бліскучай чырвонай цэглы. Гэтым домам Вася дужа ганарыцца. Бо ён адзін такі ў мястэчку і на выгляд зусім гарадскі. Калі Вася быў з бацькам у Гомелі, ён шмат такіх дамоў бачыў. Нават трох- і чатырохпавярховых.

Толькі хлеўчукі ў чыгуначнікаў, якія жывуць у прыгожых, з двума і нават трыма ганкамі дамах, вока не радуюць. Збітыя са старых шпал, яны доўгім непрывабным цугам цягнуцца наўзбоч глінянага кар’ера. Счэпшчыкі, кандуктары, нават машыністы не могуць пражыць з адной зарплаты. Таму трымаюць кароў, свіней, некаторыя — коз. Саломы на падсцілку ў іх няма, скаціна стаіць па калена ў гнаі. У сцёкавых ямах, дзе збіраецца жыжка, хвалямі калышуцца чэрві. Страшэнная вонь стаіць у вузкай вулачцы паміж дамамі чыгуначнікаў і іх хлеўчукамі.

У канцы станцыі высока ўздымаецца круглая цагляная вежа вадакачкі. Па суседству складзеная з чырвонай цэглы, закураная каробка дэпо. Дзверы ў дэпо — нібы чорная прорва. Праз іх у будыніну ўязджаюць і выязджаюць паравозы — «авечкі», «шчукі» і іншыя. Паравоз з дэпо выходзіць задам, узыходзіць па рэйках на паваротны круг, і тут яго, узяўшыся за доўгія дубовыя білы, паварочваюць.

Зусім не цяжка зрушыць з месца паваротны круг. Вася не раз спрабаваў. Праўда, паравоза на крузе ў гэты час не было.

Будка стрэлачніка, у якой дзяжурыць бацька, трохі наводшыбе ад чыгуначных пуцей і стаіць на высокіх палях. Да яе вядуць драўляныя масткі. У самой будцы ёсць грубка, два вялікія акны, стаіць высокі металічны апарат, па якім дзяжурны па станцыі аддае бацьку каманду адкрыць ці закрыць семафор. Зазвініць званок, бацька возьме тэлефонную трубку.

— Слухаю, таварыш дзяжурны.

Вася не чуе, што гаворыць дзяжурны бацьку. Але ад вочка, якіх на верхняй металічнай планцы апарата некалькі, адвальваецца вечка, штосьці ў апараце трашчыць, бацька бярэ за рычаг, апускае яго ўніз. Семафор, значыць, адкрыт.

Вася бачыў: да семафораў са стрэлачніцкіх будак цягнуцца драты. Але, як відаць, стрэлачнікі не па сваёй ахвоце адкрываюць семафор. Па загаду дзяжурнага.

На абед бацьку Вася прыносіць загорнутыя ў ручнік гаршчэчак з баршчом ці куляшом, кашу ці смажаную бульбу ў каструльцы, бутэльку малака. Пакуль бацька есць, Вася разглядвае ваколле.

У гэтай частцы станцыі ён бывае толькі тады, калі прыносіць бацьку есці, таму яму ўсё цікава. Будка фактычна стаіць на лугавіне, якая цягнецца ад чыгункі да паралельнай ёй вуліцы Варашылаўкі. Ёсць кружок алешніку на гэтай лугавіне, а на ўсходнім яе ўскраі доўгі рад старых, пагнутых вятрамі вербаў.

З акна відаць усходні пераезд, пуцейская казарма, пафарбаваны ў жоўты колер дом пуцейскага майстра. Бацькаву будку, як і іншыя будынкі, узвялі цесляры, што кватаравалі ў Васевым доме.

Вася любіць чыгунку і станцыю. Бо тут найбольшы рух і кожнай хвіліны што-небудзь мяняецца. З усходу і захаду прыбываюць новыя цягнікі, а калі не прыбываюць, то ўсё адно на станцыі чухкае манеўровы паравоз, перацягваючы з аднаго пуці на другі вагоны, фарміруючы новыя саставы. Няправільна думаць, што гэтай справай займаюцца толькі саставіцелі пояздоў і счэпшчыкі. Не менш за іх займаюцца і стрэлачнікі, якія не толькі стрэлкі чысцяць і адкрываюць семафор. Гаспадарка стрэлачніка вялікая і, можа, найбольш складаная, бо фактычна ён адказвае за ўсё.

На станцыі паравозы набіраюць ваду, загружаюцца вугалем. Кожны дзень дымяцца на шпалах кучы жужалю. Машыністы скідаюць жужаль дзе папала. Таму часам нават шпалы падгараюць.

Так, заўсёды на станцыі вірлівае, неспакойнае жыццё.

І знайсці сёе-тое можна: гайку, болцік, якую-небудзь шрубку. Асабліва ганяецца Вася за пломбамі, якія замест замкоў навешваюцца на створкі вагонных дзвярэй.

Алавяныя пломбы маюць вялікую вагу ў гандлёвым абмене. За пломбу можна выменяць найлепшае пяро, за дзве-тры пломбы чарніліцу, аловак ці нават сшытак.

Волава лёгка плавіцца, і калі расплаўлены метал уліць у кружку з вадой, атрымліваюцца розныя дзівосныя штучкі: штосьці падобнае да чалавечкаў, конікаў, незнаёмых птушак.

Шмат вясёлага на станцыі, як і на чыгунцы наогул. На высокім жвіровым насыпе ніколі не бывае мокра, які б ні прайшоў дождж. На адхоне насыпу раней, чым у якім-небудзь месцы, паяўляецца шчавель, расце зайцава цыбуля. Любіць Вася хадзіць па тупіковых пуцях, якія, можна лічыць, упіраюцца ў ягоны агарод.

Большую частку агарода, якая прылягае да чыгункі, адрэзалі, і цяпер гэта паласа адчужэння. Але бацька працуе на чыгунцы, а чыгуначнікам пад бульбу, ячмень, іншыя пасевы выдзяляюць на паласе адчужэння пралёты. Ад слупа да слупа. Бацьку ў якасці пралёта даюць яго былы агарод, які цяпер ужо належыць чыгунцы.

Не толькі Вася, усе хлопцы з паўночнага канца Савецкай вуліцы, або Дзядка, любяць бавіць час на чыгунцы. Вышукваюць жалезныя рэчы, адкручваюць шасцяронкі, колцы ад сеялак, веялак, жняярак, якія доўга не забіраюцца калгасамі. Колы, шворні для гіганоў ужо здабыты.

Вася ведае ўсе хады і выхады на станцыі, пераскаквае, калі эшалон стаіць, праз тармазы ці нават пералазіць пад вагонамі, катаецца, стоячы ў тармазных будках, калі цягнік манеўруе. Яго, вядома, зганяюць з тармазоў стрэлачнікі, счэпшчыкі, лаюць, пагражаюць рознымі карамі, але Вася, як і ўся мястэчковая басота, не звяртае на гэта вялікай ўвагі.

Што тачка ці двухколка! Назбіраўшы шрубак, Вася нарэшце майструе машыну. Цяжка сказаць, што гэта за машына: трактар, аўтамабіль ці што-небудзь іншае. Газа ў доме ёсць. Бадай, з кожнага дзяжурства бацька прыносіць бутэльку зэканомленай газы. Злівае яе з магазінаў стрэлачных ліхтароў.

Цэлую бутэльку газы Вася залівае ў бак сканструяванай ім машыны. Затым падпальвае газу. Полымя шугае высока, а машына на месцы стаіць, не рухаецца. Машыну Вася паставіў каля вугла хаты і цяпер не ведае, што рабіць.

Добра, што полымя ўбачыў са свайго двара дзядзька Платон.

Імгненна сігае ён праз паркан, адным махам развальвае Васеву машыну. Затым затаптвае полымя.

— Ты хоць разумееш, што мог пажару нарабіць?

Не, Вася гэтага не хацеў. Хіба ён дурны, каб уласную хату паліць.

Вечарам бацька круціць Васю вуха.

— Шкуру здыму, калі яшчэ раз вынесеш карасін з хаты.

Чыгунка прыносіць не толькі радасць. На станцыі ёсць чырвоны куток. Туды прыязджаюць розныя лектары, выступае самадзейнасць, нават танцы наладжваюцца. Іншы раз бацька з маці ідуць у чырвоны куток, а ў дні, калі бацька на начным дзяжурстве, падбівае маці пайсці ў чырвоны куток Дуня Драздовічыха. Яна жыве ў драўлянай будцы каля пераезда; мае чатырох чорных, як галкі, даўганосых дачок, хоць сама і яе мужык бялявыя, маюць светлы волас. Драздовіч аж залішне ціхі чалавек. Ходзіць абвешаўшыся гаечнымі ключамі, раўняе броўку, падкручвае на стыках гайкі.

Вася праклінае чырвоны куток. Калі Дуня вывалаквае маці на пагулянку, за старшага ў хаце застаецца Вася. Вася, Петрык і Сяргей залазяць на печ, трывожна прыслухоўваюцца да кожнага зыку і шораху. Малыя хутка засынаюць, а Вася заснуць не можа. Мала што можа здарыцца. Дый маці ён павінен адкрыць дзверы, якія ўзяў на зашчапку. Марудна цягнуцца хвіліны. Маці прабудзе ў чырвоным кутку доўга, прыйдзе ў адзінаццаць ці дванаццаць ночы. Увесь гэты час Вася праводзіць у напружаным чаканні.

Іншы раз бацька з маці ходзяць у госці да суседзяў: да кірнатага Кірылы, Яўхіма Дзёгця ці да Яўмена Угодніка, з сынамі якога — Міронам і Колем — Вася сябруе. Дзіўныя гэтыя госці. У Кірылы, Яўхіма, як некалі ў дзеда Піліпа, цягнуцца ўздоўж сцен шырокія, вышмараваныя да бляску ліпавыя лавы. Пастаўленыя ўзбоч прадоўжанай і папярочнай сцяны, яны стыкуюцца ў куце, дзе агорнутыя вышыванымі ручнікамі вісяць багі і стаіць засланы белымі ручнікамі стол.

Госці і гаспадары садзяцца на лаву і пачынаюць нетаропкую спакойную бяседу. Гавораць аб усім на свеце: што дзе здарылася, як хто жыве, якія ходзяць чуткі. На такіх пасядзелках гаспадары гасцей нічым не частуюць. Размаўляюць, і ўсё.

У Яўхіма ёсць высокая танклявая дачка Анюта, чорная, маўклівая, як ён сам. Бацька і маці іншы раз называюць яе Васевай нявестай. Вася, аднак, нават глядзець не хоча на

тонкую чорную Анюту, бо яна яму зусім не падабаецца. І ў школе не глядзіць.

Яўхімаў двор Васю цікавы тым, што стаіць побач са старымі могілкамі. Ніякіх крыжоў на могілках няма, даўно згнілі і паваліліся. Аднак на могільніку ніхто не селіцца. Так і пустуе вялікая дзялянка зямлі, на якой толькі дзікая трава расце. Калі насыпалі шлях, на старых могілках зрабілі кар’ер, бралі пясок. Выкапалі некалькі чарапоў, іншых чалавечых касцей. Абмытыя дажджамі, яны доўга бялелі на старых могілках, пакуль іх нехта не прыкапаў зямлёй.

## III

Ідзе ў першы клас Петрык. Васю гэта на руку. Можа, не будзе Петрык торкаць свой замурзаны нос у ягоныя справы і нарэшце адстане ад Васі. Хоць надзея невялікая. Петрык па-ранейшаму адчайна крадзе ў Васі рагаткі, гайкі, шрубкі, нават малюнкі вырывае з нешматлікіх кніг, якія ёсць у Васі. І праўды не даб’ешся. Ніколі Петрык не прызнаецца ў сваіх злачынствах.

Петрык лепшы механік і тэхнік, чым Вася. Лепш выгінае тоўсты жалезны дрот, каб гнаць ім па дарозе жалезнае колца, спрытней майструе папяровых змеяў, удала робіць дужкі, каб цэліць стрэламі ў вераб’ёў.

Аднак у навуках Петрыку далёка да Васі. Тры месяцы як ходзіць у школу, але цвёрда не ведае яшчэ ніводнай літары. Петрык прызнаецца: на ўроках яму сумна. У гэты час ён займаецца чым-небудзь сваім: праз каляровыя шкельцы разглядвае твары першакласнікаў, настаўніцы, вырэзвае сцізорыкам з гумкі чалавечкаў, майструе свісцёлкі. Не, не горне да сябе Петрыка школа!

Турботы па апале хаты ляжаць на Васі. Крадучы дрывяныя плашкі на станцыйным дрывяным складзе, Вася па-ранейшаму не абмінае будаўнічую пляцоўку плодаагародніннай базы, размешчаную на канцы былога іхняга агарода. Тут яшчэ можна сім-тым разжыцца: набраць бярэма трэсак, розных дрывяных аскалабкаў, якія добра гараць і добрае цяпло даюць.

База будзе размяшчацца на высокіх палях. Ужо выкапаны ямкі і ў іх пастаўлены ачэсаныя дубовыя слупы. Слупы нібы зубы вялізнага незнаёмага страшыдла. Асабліва ў вячэрні час.

Блукаючы каля будаўнічай пляцоўкі, Вася аднойчы натыкаецца на Бозю. Хоць холадна, зямля ляжыць замёрзлым грудам — Бозя апранут толькі ў даматканую кашулю, і яшчэ на ягонай худой спіне боўтаецца суконная світка.

— Ты не хадзі тут,— гаворыць Бозя.— Дошкі крадзеш, трэскі. Ета гасударсцвенная імушчаства.

— Вы трэскі ў курані паліце дзень і ноч,— пярэчыць Вася.— Не забароніце мне тут хадзіць. Бо тут быў наш агарод.

— Леташні снег ваш агарод,— пісклявым голасам пярэчыць Бозя.— Быў ды сплыў.— Бозя кіруе ў свой курэнь, вельмі падобны на эскімоскі чум, намаляваны ў падручніку геаграфіі. З Васем болей не спрачаецца, як бы прызнаючы яго права вандраваць па былым дзедавым агародзе, а цяпер пралёце, які чыгунка выдзяляе бацьку.

І вось зноў спатыкае Васю шчасце. Насупраць тупіковай горкі, дзе некалі шукаў Вася закапаны дзедам кулямёт, ён бачыць заржавелую жалязяку, выкінутую ў канаву. Прыгледзеўшыся, Вася вачам не верыць: вінтоўка! Сапраўдная, з затворам, магазінам, толькі страшэнна заржавелая, і прыклад зусім гнілы, збуцвелы.

Вася на сёмым небе ад шчасця. У яго ёсць вінтоўка! Да гэтага часу ён рабіў падпаленкі, страляў з ключа, цяпер будзе з вінтоўкі страляць. Патроны знойдзе. Патронаў яшчэ шмат валяецца па старых акопах у лесе, па полі, па дварах і агародах. Толькі трэба асцярожна. Бо мець уласную зброю забаронена.

Прыцемкам Вася забірае з канавы вінтоўку. Ідзе чалавек, нясе на плячы жэрдку ці палена дроў. Што тут такое асаблівае?

Вінтоўку, колькі можа, Вася абмывае ў кар'еры, на агародзе старога Свірыдзёнка. Затым насуха выцірае анучай, нясе ў двор, хавае ў хляве на вышках з сенам. Сена з вышак пачнуць браць толькі вясной. Да таго часу Вася вычысціць, вышмаруе вінтоўку як мае быць. Толькі трэба, каб ніхто не дазнаўся. Ні бацька, ні Петрык. Ясная справа: бацька знішчыць вінтоўку.

Як у галодны год знішчыў чатырох варон, якіх Вася ўзяўся гадаваць, паставіўшы клетку ў свіным катуху.

Васю распірае нястрымная радасць. Ён не вытрымлівае і расказвае пра вінтоўку Адаму, намякае пра яе Пятру Васьмерыку і Мірону. Хлопцы ўзбуджаны. Яны прагнуць зараз жа ўбачыць вінтоўку. Але Вася іх стрымлівае. За зіму ён вычысціць вінтоўку карасінам, змажа, агледзіць, бо цяпер нават затвор не ходзіць. Цяпер трэба збіраць патроны. Калі зазелянеюць дрэвы, яны вынесуць вінтоўку ў лес, схаваюць пад карчом і будуць страляць, колькі захочуць. Можна нават на паляванне схадзіць з вінтоўкай. Напрыклад, на ваўка.

Вінтоўка зыначвае Васева жыццё. Год назад, вяртаючыся са школы, Вася першай справай кідаў позірк на хлеў. Зачынена яго пастка ці стаіць з паднятай накрыўкай. Вася і цяпер ставіць пасткі на птушак. Але з куды большым імпэтам, нават не зайшоўшы ў хату, ён бяжыць цяпер у хлеў, узбіраецца на вышкі, правярае, ці на месцы яго вінтоўка. Некалькі раз прамыўшы затвор вінтоўкі карасінам, Вася дамогся, што ён лёгка, амаль бясшумна ходзіць. Можна цэліцца з вінтоўкі і шчоўкаць затворам, колькі захочацца.

Маці, гэтак жа як і Петрык, заўважае частыя Васевы візіты ў хлеў.

Маці Вася свядома хлусіць. Гаворыць, што, калі ідзе ў школу, ставіць у падстрэшшы сілкі на птушак, якія там хаваюцца. Вяртаючыся са школы, правярае, маўляў, сілкі. Маці верыць Васю. Петрыка, аднак, не так лёгка абвесці вакол пальца. Ён цяпер штодзённа брындае ў хлеў, стараючыся разгадаць Васеву тайну.

Так, зусім інакшае настае для Васі жыццё. Зіхатлівае і радаснае. Акрамя вінтоўкі ёсць яшчэ кнігі. Амаль што кожны дзень ён завітвае то ў школьную, то ў сельсавецкую бібліятэку, бярэ там новую кнігу, загадзя смакуючы прыемнасць, з якой правядзе вечар ці два. Цешыць Васю радасная будучыня. Ён схавае вінтоўку ў лесе, зноў будзе расшукваць птушыныя гнёзды, летам хадзіць па грыбы. Галоўнае — ён будзе разам з хлопцамі страляць з вінтоўкі.

Таму Васю не страшныя нават тыя дні, калі бацька на дзяжурстве, а ў двары няма ні палкі дроў. Знойдзе ён дроў.

Тым болей што і Бозя цяпер стаў менш чапіцца да Васі. Можа, зразумеў Бозя, што Вася не абы-які хлопец і, калі захоча, можа даць належны адпор. Можна і вінтоўкай Бозю падпалохаць.

Вася навучыўся добра абыходзіцца з сякерай. Чурбачкі з распіленых плашак ён расколвае спрытна і нават як бы весела. Ён ставіць чурбачок на папа, гах! — і вось ён ужо распаўся на дзве палавінкі. Асабліва лёгка, з прыемным звонам колюцца прамёрзлыя, разрэзаныя папалам бярозавыя плашкі. Іншы раз у палене трапляецца сук, з першага ўзмаху яго не расколеш, тады Вася ўсаджвае ў палена сякеру, два ці тры разы ўзмахвае, апускаючы сякеру на калодку абухам. Іншы раз нават клін прыходзіцца ўбіваць у палена. Дрывакол з Васі добры. Было б толькі што секчы.

У Васі ёсць радня па бацьку і па маці. Бацькава — нешматлікая, пахмурная, непрыветлівая. Матчына радня жыве ў вялікім, з гразкімі вуліцамі сяле Бабінавічы, размешчаным за дванаццаць вёрст на ўсход ад мястэчка. У гэтым не вельмі кідкім на выгляд сяле нарадзілася маці, адсюль пайшла ў мястэчка замуж за бацьку. Да Бабінавіч вядзе чыгунка, і Вася тры ці нават чатыры разы быў на матчынай радзіме. Пры Бабінавіцкай станцыі па абодва бакі чыгункі ёсць пасёлкі, але да самога сяла далекавата, да яго трэба дабірацца ляжнёўкай, пад якой ляжыць труба, што забяспечвае станцыйную вадакачку вадой.

Вада па трубе падаецца з рачулкі Ведрыцы, якая з’яўляецца не толькі бабінавіцкай, а і местачковай ракой. Праўда, ад мястэчка яна далекавата, і местачковая дзятва ў ёй не купаецца. Бабінаўцы купаюцца, бо бліжэйшы звіў ракі за ляском, да якога прыкладна столькі ісці, колькі да местачковага Паляковага рога, дзе Вася асочвае птушыныя гнёзды, збірае ягады і грыбы.

Мястэчка весялей пабудавана, чым Бабінавічы. І ў ім ёсць нізенькія, струхлелыя хаты з падслепаватымі акенцамі, гразь на вуліцы, бязладнасць у забудове. Але побач са старасветчынай шырэй разлягаецца новае: прасторныя, прыгожыя будынкі, хаты, крытыя гонтай, чарапіцай і нават бляхай, вуліцы не такія гразкія дый тратуар, няхай сабе драўляны,

пракладзен. Куды віднейшая станцыя ў мястэчку. Адзін гарадок, дзе размяшчаецца лясная школа, чаго варты. Вучэбныя карпусы, інтэрнаты, дарожкі, засаджаныя наўзбоч таполямі. Не, далёка Бабінавічам да мястэчка!

Маці, аднак, не можа нахваліцца Бабінавічамі. І лес там побач, і рака, а колькі ягад, грыбоў. У маці было цяжкае дзяцінства. Калі ёй было дзевяць гадоў, трыбай малатарні адхапіла правую руку яе маці, цяперашняй шустрай чарнавокай, часам нават злоснай бабцы Серафіме.

У чатырнаццаць гадоў маці асірацела. Бацьку забіла вулеем: на вяроўцы ён уздымаў яго на дуб, на борць. Гаспадарамі ў доме засталіся маці і на два гады старэйшы за яе брат Іван. Аднарукая бабка Серафіма, вядома, памагала дзецям. Зусім малыя Анюта і Пеця самі патрабавалі догляду. Цяжар немалой гаспадаркі лёг на плечы фактычна двух падлеткаў: маці і яе старэйшага брата.

Пра тое, як гаравала ў сіроцтве, маці расказвае мала і неахвотна. Затое з вялікай радасцю апавядае Васю, які разумны, увішны, гаспадарлівы быў яе бацька. Летам сеяў, касіў, малаціў, зімой ездзіў на заработкі ў лес, падвозіў да чыгункі розную драўніну. І жыў багата!

Купцы-лесанарыхтоўшчыкі нібыта разлічваліся з бацькам ледзь не сотнямі. З Рэчыцы ён прывозіў селядцы, абаранкі, цэлыя галовы цукру. Ледзь не райскае жыццё было ў маці пры бацьку.

Вася верыць і не верыць. Калі ўжо так добра маці жылося, то чаму хоць пачатковую школу не скончыла? Вучылася толькі адну зіму і цяпер ледзь-ледзь чытае па складах.

Маці хваліць свой дом, двор, але пабачыўшы сядзібу, Вася расчараваўся. Дом вялікі, як стадола. Прасторныя сенцы дзеляць яго на дзве палавіны. У правай палавіне, вокнамі на двор і на вуліцу, у двух невялікіх пакойчыках жыве бабка Серафіма і дзядзька Пеця, які канчаў у мястэчку сямігодку, ляжаў з Васем на печы і расказваў бясконцыя казкі. Цяпер дзядзька Пеця вучыцца ў Рэчыцы, у педтэхнікуме, дамоў толькі наязджае.

Другую палавіну дома займае сям’я дзядзькі Івана. Гэта толькі адзін вялікі пакой. Ёсць ложак, стол, некалькі сама-

робных стулаў і вялікая печ. Дзеці — а іх у дзядзькі Івана сямёра: чатыры дзяўчынкі і тры хлопцы — спяць на печы і ўпокат на падлозе.

Дзядзька Іван — Васеў хросны бацька. Ён вышэй сярэдняга росту, чарнявы, з разумнымі цёмнымі вачамі, у якіх заўсёды свеціцца хітрынка. Пра што дзядзька ні расказвае, ён заўсёды афарбоўвае апавяданне ў смяшлівыя таны. Не вешае носа, хоць жывецца нялёгка.

Дзядзька Іван — калгасны брыгадзір. Днюе і начуе на полі, тым часам плату за работу атрымлівае невысокую. Восенню прывозіць у двор дзве мажы бульбы, два-тры мяхі збожжа, і ўсё. Грошай калгас нават брыгадзірам не вымяркоўвае. Паспрабуй — накармі, апрані з такога прыбытку семярых дзяцей, якія толькі есці спрытна ўмеюць.

Дзядзька вельмі ўвішны і неяк выкручваецца. Мае знаёмства з многімі людзьмі, у калгасе і нават у раёне, ад якіх сёе-тое залежыць. У таго грошай пазычыць, таму бульбы ці капусты падкіне. Вось так і жыве.

З апавяданняў дзядзькі Вася ведае, што нават гадоў пяць назад жыў ён лепей, чым цяпер. У часы нэпа сарганізаваў хаўрус — шэсць ці болей гаспадароў, якія, склаўшы капіталы, пабудавалі ў сяле паравы млын. І іншыя справы вяршыў дзядзька. Гэты ж хаўрус нарыхтоўваў дубовую клёпку, арэхавыя абручы, якія затым сплаўляў па Дняпры ў паўднёвыя абсягі Украіны. Кіпела нібыта ў Бабінавічах жыццё. Відаць, па гэтай прычыне дзядзька трохі насмешліва глядзіць на калгасныя парадкі. Бо што ў калгасе? Кожнай раніцы бегае ён па падвоканню, склікае мужчын і кабет на работу. Працадні не дужа густыя, то і на работу народ лішне не рвецца. Калі і пойдзе хто, то абы дзень адбыць.

Нягледзячы на няўдачы, згрызоты, не губляе дзядзька Іван добрага гумару. Любіць фарсануць. На прастольнае ў Бабінавічах свята — Пакровы — збірае не толькі бліжнюю, але і дальнюю радню.

У процілегласць дзядзьку Івану цётка Алена, ягоная жонка, кабеціна нават залішне панылая і панурая. Амаль ніколі не смяецца цётка Алена. Апранута яна ў доўгую, да пят спадніцу, невыразнага колеру мультавую кофту, па самыя вочы павязана

хусткай. І зусім негаваркая. Буркне што-небудзь і нетаропка соваецца па хаце ці палежвае на адзіным у хаце ложку. Работы з такой сямейкай прорва, усю яе не пераробіш, відаць, думае цётка, таму лішне не мітусіцца. Вядзерны чыгун бульбы на снеданне, такі ж на абед.

Але і пры гэтым не надта выдатным харчы і доглядзе дзеці неяк нават залішне хутка растуць. Нямытыя, нячэсаныя, з чорнымі ратамі, яны заўсёды сустракаюць стрыечнага брата вясёлымі поклічамі і выгукамі:

— Васька прыехаў!.. Васька прыехаў!..

Цікавасць да Васі ягоных стрыечных братоў і сясцёр трывае, аднак, нядоўга. Хвілін праз пяць — дзесяць цікавасць насычана і сваякі разлятаюцца хто куды. Вася застаецца адзін. Адзін шастае па голым двары, дзе, акрамя вялікага хлява-аборы, няма больш ніякіх будынкаў, па вуліцы, на якой някідкія, з падслепаватымі вокнамі хаты густа збіваюцца ў гурт.

У мястэчку не знойдзеш хаты, крытай саломай,— толькі хлявы. У Бабінавічах такія хаты ёсць. Наогул, выгляд сяла даволі заняпалы. Вуліца, на якой стаіць дзядзькава хата, перакрыжоўваецца з другой вуліцай, збудаванай наўзбоч ляжнёўкі, што вядзе да станцыі. Вось і ўсё сяло.

Дзівосы тут ёсць, аднак. Па-першае, лес. Ён падступае да самых будынкаў. Праз тры-чатыры панадворкі ад дзядзькавай сядзібы пачынаецца беразняк, хвойнік з пакрытым верасам долам. Выходзь з хаты і збірай грыбы. Яшчэ шыбані вярсту ці болей і натрапіш на раку Ведрыцу. Тут яна прыкметна шырэйшая, чым паблізу мястэчка. Высокія пясчаныя берагі, прыгожы чысты плёс. Ракавін на беразе можнаназбіраць колькі захочаш.

Адразу за дзядзькавым агародам дубовы гай. Парадавацца можна такім разлапістым, магутным дубам і паздзіўляцца, як у такім бедным, як Бабінавічы, сяле, яны ацалелі.

## IV

І вось Пакровы. Тыя ж вароты з парослым зялёным мохам, з гонтавым каптурыкам-накрыўкай. Той жа двор, хата. Каля варот сустракае гасцей дзядзька Іван, няголены, зарослы чорнай шчэццю, у зашмальцаванай сарочцы. Так, выгляд дзядзькі

неважнецкі, але другой сарочкі, штаноў у яго проста няма. Аднак фарсануць любіць. Гасцей — процьма. Яны сцякліся з усіх навакольных вёсак, сёл, хутароў. Дзядзька ў такі дзень нікога не адпіхне. Калі прыйшоў, садзіся за стол, няхай ты ніякая не радня.

Гарэлкі на сталах багата: яна ў бутэльках, закаркаваных звычайным пакуллем, у гладышыках і нават у пазелянелым медным самавары.

Госці садзяцца за сталом, але яшчэ новыя і новыя падходзяць. Гэтыя засядуць у другі круг.

Пасля другой, трэцяй чаркі застолле шуміць-гудзе, валасатыя вясковыя дзядзькі гукаюць, як у лесе, жанкі з пачырванелымі тварамі наперагонкі шчабечуць сарокамі. Яшчэ хвіліна — і зачынаюць пісклявымі галасамі не надта складную песню...

У мястэчку прастольных свят два — вясновы і асенні Мікола.

У Васі вялікія надзеі на асенняга Міколу. Вельмі хоча купіць піянерскі барабан, які каштуе рубель і пятнаццаць капеек. Але грошай няма. Дый дзе іх дастанеш.

Малодшая матчына сястра Анюта выйшла замуж за цікавага чалавека — былога парабка, а цяпер партыйца Івана Зязюлю, які робіць старшынёй калгаса ў далёкай ад мястэчка вёсцы Валабуевічы. Вася помніць той дзень, калі Анюта ішла замуж. Ён яшчэ ў школу не хадзіў і гуляў з хлопцамі на пераездзе. У той дзень на царкоўнай плошчы цыганы паказвалі спектакль. Было вядома: у іх ёсць вучоны мядзведзь, які ўмее выробляць розныя штукі. Цыганы з мядзведзем мусілі прыехаць з вёскі Макаў, якая з'яўляецца наступнай станцыяй на захад ад мястэчка.

Дома Вася бачыць Анюту, паўнацелую, чарнявую і вельмі смяшлівую. На гэты раз Анюта сама на сябе не падобная: расчырванелая, узбуджаная. Увесь час шэпчацца з маці, адводзячы яе ў суседні пакой.

У другой палавіне дня Анюта прыводзіць у хату чарнявага прыгожага мужчыну, які падабаецца Васю з першага позірку. Аказваецца, запісвацца ў сельсавеце збіраецца з ім Анюта, таму так хвалюецца. Новага Васевага сваяка завуць Іван

Зязюля, ён былы парабак. Кім толькі не быў прыгожы чарнявы парабак: загадваў хатай-чытальняй, быў старшынёй сельсавета, а цяпер працуе старшынёй калгаса.

Два ці тры разы новы сваяк разам з расцвіўшай, як вясновая вішня, Анютай прыязджаў на Міколу да Васевых бацькоў. Мусіць і цяпер прыехаць.

Вася ведае: Іван Зязюля мае гармонік і заліхвацка на ім іграе. Таму Вася прасякаецца да родзіча вялікай павагай. Тым болей што ён вялікі начальнік: у сяле Валабуевічы, вёрст за трыццаць ад мястэчка, ужо цэлы год кіруе калгасам.

Калі Іван першы раз з’явіўся на вясновага Міколу, Вася папрасіў:

— Купі і мне гармонік. Дзіцячы. Каштуе тры рублі.

— Куплю, браток, абавязкова. Лічы, што ты яго ўжо маеш. Вот наступны раз прыеду і прывязу.

Вася тады толькі збіраўся ў школу і вельмі ганарыўся, што ў яго будзе гармонік. Ён тады зраўняецца з Адамам, які даўно рыпае на ўласным гармоніку. Па Васевых разліках, дзядзька Іван мусіць прыехаць на асенняга Міколу. Не так многа застаецца чакаць. На гэты раз Вася ўжо школьнік, і ён чакае дзядзьку з радасным хваляваннем.

Вось і наступае асенні Мікола. Многа гасцей завітвае ў Васеву хату. Ёсць і дзядзька Іван. Аднак гармоніка ў яго руках няма. Ён, па ўсім відаць, нават забыў пра Васеву просьбу.

Дзіўна: Вася не крыўдзіцца на Зязюлю. Можа, таму, што ён вельмі ветлівы, мяккі, ласкавы. Усім абяцае, хто б чаго ні папрасіў.

Вася наважвае не адступаць. Гармонік дорага каштуе — тры рублі. Калі дзядзька ўсім па тры рублі пачне раздаваць, то цётцы Анюце нават сукенку не справіць.

У местачковым культмагу, дзе прадаюць кнігі, ручкі, пёркі, чарніліцы, лінейкі, партрэты правадыроў, ляжаць на полцы піянерскія барабаны. Яны прыгожыя на выгляд — чырвоная акантоўка, сінія абручыкі, белыя шлейкі-цясёмкі, каб перавешваць іх праз шыю і трымаць барабан на грудзях. У дадатак да барабана даюць дзве акуратна вытачаныя палачкі. Каштуе барабан не вельмі дорага: рубель і пятнаццаць капеек. Адам такі барабан купіў, і Вася за адзін вечар навучыўся

рытмічна выбіваць дроб. Спрытна ў яго гэта атрымліваецца. Намнога лепей, чым у Адама.

Вася зайздросціць Адаму. Ён у бацькоў толькі адзін і мае вялікія перавагі над Васем. Лепей апранаецца, смачней есць. І канькі-снягурачкі мае Адам, і гармонік, і вось цяпер барабан. Хоць горш за Васю вучыцца.

Дзядзька Зязюля — збавенне. Адзін ён можа выручыць Васю з бяды. Таму ён з рашучым выглядам падыходзіць да Зязюлі:

— Гармонік не купілі, то купіце барабан. Ён рубель пятнаццаць капеек каштуе. Я потым збяру і аддам вам грошы.

Іван Зязюля нават расчульваецца:

— Куплю, браток. Каб мне з гэтага месца не сысці. Не трэба мне тваіх грошай...

Але, відаць, забывае Зязюля просьбы шматлікіх сваякоў. Усім абяцае і ніколі сваіх абяцанняў не выконвае.

Так, радні многа, а карысці з яе Васю малавата.

Цяпер на сваякоў Вася не спадзяецца. Ён раней думаў: калі Зязюля барабан не купіць, то ён назбірае ў радні грошай і купіць барабан сам. У хату на Міколу сыходзіцца чалавек пад сорак. Няхай кожны дасць хоць па дзесяць капеек, то будзе мець Вася чатыры рублі. Але на апошняга вясновага Міколу Вася ледзь збірае трыццаць капеек. Бо нават інтэлігентныя сваякі — фельчар Прохар Прохаравіч, цётка Куліна з Чарнігава, дзядзька Пецupon, які вучыцца ў Рэчыцы ў педтэхнікуме, грашамі Васю не ашчасလівілі. Хто цукерку паткнуў, хто пернік. Пра вясковую радню няма чаго і гаварыць. Жменя семечак, арэхаў, яблык ці груша — вось і ўсе падарункі.

Аднак Вася ўпарты і настойлівы. Па капейцы збірае рубель і пятнаццаць капеек і нарэшце купляе барабан. Большую частку грошай даў Васю анучнік Моўша Перчык, які кешкаецца ў малюсенькай крамцы, размешчанай ледзь не насупраць сельсавецкай бібліятэкі. Вася занёс яму, можа, пуд касцей, рознага рыззя, каравак, атопкаў. Дзіўны гэты Моўша. Над складзеным з буйнога бярвення ягоным дамком спускаюць галіны старыя ліпы, атрасаюць жоўтае лісце, шумяць вятры, барабаняць па даху дамка дажджавыя кроплі, а Моўшаў

дамок стаіць, знешне нікольві не мяняючыся. І сам Моўша не мяняецца. Зарослы сівой шчэццю, з адвіслай ніжняй губой, абыякавы да ўсяго на свеце, ён сядзіць за прылаўкам або перакладае на полцы каробкі са сваім таварам.

Яшчэ два-тры гады назад Моўша жыў іначай. Меў каня, каламажку з ускладзенай на яе драўлянай скрыняй, ездзіў не толькі па мястэчку, а і па навакольных вёсках, вёдучы сустрэчны гандаль. За паўвярсты можна было пачуць прарэзлівы Моўшаў голас:

— Караўкі!.. Караўкі!..

Бабы выносяць Моўшу вязанкі старых бэбахаў і доўга таргуюцца. Здаецца, нават любяць гэтую справу. Бо анучнік не вельмі шчодры. За ахапак рыззя дае іголку, катушку нітак ці ў лепшым выпадку маток запалачы.

Неяк перабіваўся Моўша. Нават курыў фабрычныя папяросы. У калектывізацыю з канём прыйшлося развітацца. Без каня як без рук. Моўша цяпер нібы прыкаваны да прылаўка крамкі. Трымае ў зубах скручаную з газетнай паперы махорачную цыгарку, пыхкае дымам, абыякава прымаючы і скідваючы ў кут старыя анучы.

Часам бурчыць у сівую бараду Моўша:

— Будуюць сіцылізм. Будуй на здароўе. Хоць дваццаць сіцылізмаў. Але навошта каня адбіраць? Як можа мой конь перашкодзіць сіцылізму? Маючы каня, я больш назбіраю каравак, болей паперы з іх наробяць. Бліскучай, глянцавай. Хіба папера не патрэбна сіцылізму? Ого, як патрэбна! Дык навошта каня адбіраеце? Разумнікі, трасца вашай матары...

У звычайныя дні да Моўшы пераважна завітваюць школьнікі. Моўша — хітры. Спецыяльна трымае пёркі, алоўкі, чарніліцы, гумкі, часам нават сшыткі. Але вырваць усё гэта ў анучніка вельмі нялёгка. Бо няма цвёрдай таксы. Колькі, напрыклад, трэба сабраць каравак, каб набыць звычайнае пёрка? Колькі Моўша захоча. Калі ў яго добры настрой, возьме за пёрка вязанку ануч, калі дрэнны — возьме дзве.

Вася, калі збіраў грошы на барабан, нават узмакрэў, прывалокшы на плячах свае бэбахі. Ён прама заявіў Моўшу:

— Мне трэба грошы.

Моўша ажывіўся:

— Колькі хочаш мець грошай?

— Рубель.

— Чаму іменна рубель?

— Хачу купіць барабан.

— Што будзеш з тым барабанам рабіць?

— Буду барабаніць.

Моўша зняважліва зыркае на Васю:

— Няма цябе каму, хлопец, адхвастаць лейцамі. Барабан яму трэба? Мала цяпер шуму без барабана? Трактары, машыны, самалёты. Навошта гэта? Хіба людзі не жылі без самалётаў? Вот у мяне каня забралі. Каму перашкаджаў мой конь?

Адтапырыўшы ніжнюю губу, Моўша грэбліва глядзіць на прынесеныя Васем лахманы і косці.

— Тут няма на рубель. Хочаш, дам два сшыткі?

— Не трэба мне сшыткі,— Вася зацінаецца.— Колькі грошай даеце?

— Пяцьдзясят капеек.

— Давайце.

Анучнік кідае Васеў клунак у кут, неахвотна адлічвае медзякі.

Вася задаволен. Ён баяўся, што Моўша наогул не дасць грошай. Паткне пёркаў ці алоўкаў. Цяпер жа ў яго ёсць восемдзесят капеек. Барабан каштуе рубель і пятнаццаць капеек. Не так многа дабіраць.

У той жа дзень Вася купляе барабан. Пазычае пятнаццаць капеек у Адама, дваццаць дае маці. Які Вася шчаслівы! Перавесіўшы шлейку праз шыю, Вася нават на вуліцы ў такт крокам выбівае дроб. Як лёгка, весела ісці пад барабан. Тры ці чатыры дні Вася ў ахвоту барабаніць. Мае здольнасці — не інакш. Бо за гэты кароткі час ён навучаецца і адмысловаму выбіванню рытму — праз тры ці нават чатыры такты. Словамі тут не скажаш. Рытм трэба проста адчуваць.

Вярнуўшыся ў адзін з тых асенніх дзён са школы, Вася раптам натыкаецца на патупленыя позіркі меншых братоў. Як бы нейкую віну адчуваюць перад ім браты. Нарэшце Вася дастае з куфэрка барабан і вачам не верыць — збоку, каля дужкі, прабіта дзірка. Гук барабана цяпер надтрэснуты, зусім

непрыгожы. Ад крыўды Вася ледзь не плача. Столькі стараўся, сілы паклаў, каб купіць барабан,— і ўсё марна. Прабітым барабанам перад хлопцамі не пахвалішся. У Васі нават не падымаецца рука даць па штурхалю хітрым паганцам, меншым братам, якія вышукалі і знявечылі ягоны барабан.

Так, радні ў Васі парадкам. Шуміць на вясновага і асенняга Міколу застолле. Маці за тыдзень да свята пачынае рыхтаваць закуску. Бацька купляе гарэлку. Гарэлку прадаюць у манапольцы.

Вася адзін толькі раз быў у манапольцы і вельмі падзівіўся з таго, што ўбачыў у краме. З самай падлогі да столі застаўлена прасторная крама скрынкамі. У скрынках — паўлітровыя, літровыя бутэлькі з гарэлкай. Ёсць скрынкі з чацвяртушкамі і нават з маленькімі стаграмовымі жулікамі, або кручкамі. Усе бутэлькі — вялікія і малыя — маюць белыя сургучныя галоўкі.

Манаполька ў другой палавіне мястэчка, якое называецца Брылі. На хатах прыбіты бляшаныя паштовыя дошчачкі, на якіх напісан нумар дома і прозвішча гаспадара. Праз хату натрапіш на Брыля — Івана, Антона, Нічыпара, Фёдара.

Вася бывае ў Брылях толькі ў час першамайскай і кастрычніцкай дэманстрацый. Раз ці два быў ён тут, калі яшчэ ў школу не хадзіў. Маці ўступіла ў малочны кааператыў, і Вася насіў на сепаратар збанкі з малаком. Сепаратар — так завецца машына, якая адбірае ад малака тлушч — размешчан у дзіўным доме. Дом гэты складзены са звычайных дроў, абмазан глінай і звонку пабелен.

За малако маці выдаюць макуху і адгон.

Пасля Пакравоў, Міколы сумны пачатак зімы, калі снегу яшчэ няма, навакол голы, шэры груд і на лёд не выйдзеш: ён яшчэ тонкі і крохкі.

Акрамя кніг, якія штодзень прыносіць са школьнай і сельсавецкай бібліятэк, Вася цешыцца вінтоўкай. Гаспадар над вінтоўкай, вядома, ён, але даўно адкрыўся і даверыўся Адаму, з якім чысціць, шмальцуе зброю.

Летам сябры хавалі вінтоўку ў лесе. Калі знаходзілі патроны, хадзілі ў лес страляць. Толькі мала знаходзіцца патронаў.

Цяпер сябры перахоўваюць вінтоўку то ў Васевым, то ў Адамавым гумне. У хляве ёй не месца. Даўно б Петрык яе апароў ці яшчэ горш — бацька. Бацька нюнькацца з вінтоўкай не стане: стукне аб вугал і занясе куды-небудзь у балота.

Пуста, ціха ў дзедавым гумне. Толькі зрэдку папіскваюць мышы. Праўда, невядома, што яны ядуць. Збажыны ў гумне ніякай, нават сена няма. Толькі леташняе ашмецце.

Адамава гумно prасторнае, прыгожае, складзенае з адно ў адно падабраных тонкіх сасновых паленцаў. Вялікі майстар дзядзька Платон. Але і ў гэтай вялікай, прасторнай будыніне гуляе вецер. Калгас зыначыў жыццё, і нікому цяпер не патрэбны аднаасобныя гумны, пуні і адрыны. Бо няма дзе сеяць жыта, лён, грэчку. Садзяць цяпер толькі бульбу і сеюць на загончыку ячмень ці проса.

Заматаўшы вінтоўку ў лахманы, хлопцы хаваюць яе ў кучах леташняга пазаддзя.

Нечакана Вася захворвае. Можа, у дзедавым гумне прастудзіўся, праз дзіркі якога свішча вецер. Баліць галава, да сарака падскоквае тэмпература, грудзі раздзірае надрыўны кашаль. Станцыйны фельчар і родзіч Прохар Прохаравіч, якога назаўтра прыводзіць бацька, ставіць дыягназ: запаленне лёгкіх.

Нішто Васю няміла, да ўсяго ён абыякавы, нават прабіты Петрыкам барабан успамінае без ніякай горычы. А яшчэ праз дзень-два Васю робіцца настолькі блага, што ён нават хоча расказаць маці пра вінтоўку. Але не паспявае — упадае ў трызненне.

Нечуваная раскоша: перад Васем ляжыць скібка намазанага маслам белага хлеба. Але ні пшанічнага хлеба, ні масла ён не хоча. Няма ніякага апетыту.

Васева становішча настолькі цяжкае, крытычнае, што каля яго ложка час ад часу збіраюцца сваякі. Як праз сон чуе Вася гаворку цётак, бабулек. Нібы ціхі ручаёк булькае. Усё-такі добра, што ёсць радня. Сёння адна родзічка прыйдзе, заўтра другая.

Пасля безупыннага, двухтыднёвага кашлю, які, здаецца, вось-вось разарве грудзі, Вася нарэшце супакойваецца, засынае.

— Крызіс мінуў,— чуе ён прыглушаны голас Прохара Прохаравіча.— Бачыце, пот выступае. Будзе жыць...

Нават да гэтага паведамлення Вася абыякавы. Яму ўсё адно: будзе ён жыць ці не будзе.

Усё-такі ачуньвае Вася. Але ўжо няма ні белага хлеба, намазанага маслам, ні іншых прысмакаў.

Чым цікавы трэці клас? Прадметаў больш, і яны больш сур'ёзныя. Прыродазнаўства, геаграфія, руская мова і літаратура. Вася з прагнасцю чытае беларускія кнігі, але і рускія яму не чужыя. Ён нават не памятае, калі навучыўся чытаць па-руску. Узяў рускую кнігу і пачаў чытаць. Усе словы ў ёй зразумелыя. Толькі нейкія высокія яны, узятыя зусім з іншага жыцця, ва ўсялякім выпадку, не з таго, якое пануе ў мястэчку. Васю нават смешна робіцца, калі прыкідвае, што пра звычайнае, нічым не выдатнае местачковае жыццё можна расказваць высокімі рускімі словамі.

Многія кнігі, якія Вася прыносіць з сельсавецкай і школьнай бібліятэк, напісаны рускімі пісьменнікамі. Некаторыя з іх перакладзены на беларускую мову. Напрыклад, «Маці» Максіма Горкага, «Чапаеў» Фурманава. Гэта добра. Толькі не лёгка дастаць гэтыя кнігі. У бібліятэцы не возьмеш — заўсёды на руках. Тут Васю вельмі дапамагае сяброўства з Цімохам Стрыжам. Цімох старэйшы за Васю дый шустрэйшы. Кнігу «Маці» Максіма Горкага ён мае ўласную: падаравала школа за паспяховае сканчэнне чацвёртага класа.

У школе час ад часу ставяць самадзейныя спектаклі. Пра рэвалюцыю, грамадзянскую вайну. У іх удзельнічаюць пераважна вучні старэйшых класаў. Але часам далучаюцца і тыя, хто вучыцца ў чацвёртым ці нават трэцім класе.

Піянерважатая Хая Цырульнікава, пухлая, марудлівая, заклапочаная чымсьці такім, што, здаецца, не мае дачынення да школы, часам завітвае ў трэці клас. Але нічога асаблівага яна не расказвае, і хлопцам з ёй нецікава. Аднойчы Хая паведамляе пра п'есу. Прапануе паставіць сіламі трэцяга класа.

Трэцякласнікам прапанова падабаецца. Толькі яны хочуць, каб п'еса была пра вайну.

Добрай п'есы Цырульнікава, аднак, не знаходзіць. Яна прыносіць кніжачку, у якой расказваецца пра барацьбу

нямецкіх рабочых з фашыстамі. Два разы ходзіць Вася на рэпетыцыі. Піянерважатая вызначыла яму ролю ў п’есе, але роля гэтая зусім нецікавая. Вася мусіць насіць над галавой плакат і час ад часу выклікваць лозунгі, накіраваныя супраць фашыстаў. Пабачыўшы грозную рабочую дэманстрацыю, фашысты самі сабой разбягаюцца.

На трэці раз Вася на рэпетыцыю не ідзе. Астатніх хлопцаў п’еса таксама не захапіла, і драматычны гурток сам сабой распадаецца.

## V

Вось і скончыў Вася трэці клас. Ён цяпер лічыцца адным з лепшых вучняў, і адзнакі ў ягоным пасведчанні толькі добрыя і вельмі добрыя.

З дысцыплінай у Васі справа не зусім бліскучая. Нявытрыманы, размаўляе на ўроках, можа жарт падпусціць, рассмяшыць увесь клас, хоць на перапынках асабліва не галёкае. Марыя Рыгораўна ўшчувае Васю, але, улічваючы, што ён добра вучыцца, адзнаку па дысцыпліне не зніжае.

Першы раз у жыцці Вася ідзе на работу, за якую будуць плаціць грошы. Бацька дамовіўся з брыгадзірам пуцейцаў Савачкіным, чорным, падлобістым, вельмі панурым з выгляду чалавекам, і Васю ўзялі падсобнікам. Будзе ссякаць траву паміж шпаламі, зносіць з пуцей жужаль, змятаць мятлой апалае лісце.

Работа нескладаная: з ёй нават меншы за Васю хлопец справіцца. Але ўставаць трэба рана: у сем гадзін раніцы рамонтнікі са сваёй ваганеткай ужо стаяць ля пуцейскай казармы. Казарма на процілеглым канцы станцыі, нават далей, чым будка стрэлачніка, куды Вася носіць бацьку абед.

Чым далей прасоўваецца па рэйках ваганетка, тым болей растайвае брыгада рамонтнікаў. На адным месцы Савачкін пакідае двух чалавек зносіць жужаль, на другім — раўняць пуць, падбіваючы пад шпалы баласт. Але заўсёды застаецца шэсць—восем рамонтнікаў, якія гоняць ваганетку за межы станцыі, дзе будуць выконваць найбольш цяжкую работу: мяняць шпалы ці рабіць разгонку рэек.

Вася межы станцыі не пакідае. Трава між шпаламі найбольш расце на бакавых пуцях, на адным з іх Савачкін вызначае Васю ўчастак работы.

Часам з Васем застаецца якая-небудзь рамонтніца ці немалады, блізкі да пенсійнага ўзросту пуцеец. Але бывае так, што ўвесь дзень Вася працуе адзін.

На станцыі цікава. Кожнай гадзіны ці нават паўгадзіны перамены. То цягнік прыбывае, то адпраўляецца, то, ляскаючы буферамі, манеўравы паравоз ганяе вагоны з аднаго пуці на другі, то з'явіцца на станцыю на аўтадрызіне якое-небудзь высокае чыгуначнае начальства.

Васеў інструмент нескладаны: сечка, граблі, рыдлёўка-шухля. Сечкай ён падсякае траву, граблямі — зграбае, на шухлі выносіць на адхон.

Вася малалетак. Таму ягоны працоўны дзень цягнецца толькі шэсць гадзін. У гадзіну дня Вася хавае інструмент пад будкай стрэлачніка і шыбуе дамоў.

Ніколі ў Васі не было такога харошага лета. Работа на станцыі дае ўпэўненасць, што недарма жывеш на свеце і ясі хлеб. Толькі пяць дзён пахадзіў Вася на чыгунку і прынёс маці першую палучку: трыццаць два рублі. Болей як шэсць рублёў у дзень зарабляе Вася. Гэта не жарты!

Другая палавіна дня ў Васі вольная, і ён робіць што хоча. Штодзень бывае ў Цімоха, у Пятра Васьмерыка. На ваколіцы дзейнічаюць збудаваныя хлопцамі качэлі-гіганы, і сябры ў ахвоту на іх круцяцца-катаюцца. Але гульня гульнёй, а хлопцы, як і Вася, марна дні не трацяць. Ходзяць у лес па віш, па бабоўнік — яго вельмі любяць свінні, дзяруць лазу, нарыхтоўваюць крушынавую кару: яе прымае ў сваёй краме Моўша, выдаючы ўзамен алоўкі і пёркі. Эх, і прывабныя стаяць летнія дзянькі! Калі Вася збіраецца на чыгунку, сонца яшчэ за небакраем, яшчэ спіць на другім канцы свету. На траве блішчыць раса, над Гарадзінкай сцелецца туман, ахопліваючы сваімі белымі хвалямі канцы агародаў, якія выходзяць на балацянку. Птушкі ўжо спяваюць, свішчуць, трашчаць. «Выганяй!» — чуецца на вуліцы, і пастух Кірыла Ламай, трохі прыдуркаваты хлапчына гадоў трыццаці, сустракае кожную карову, якая выходзіць з двара, гучным, нібы стрэл,

ляскатам даўжэзнай пугі. Гэтак ён усталёўвае парадак між сваімі падначаленымі.

Плодаагародніннная база, якая захапіла частку Васевага агарода, збольшага пабудавана: стаіць на высокіх палях, бялее новымі, з сасновага цёсу сценамі. Хутка павязуць калгаснікі на базу агуркі, памідоры, маладую бульбу, садавіну і агародніну. Чыгуначнікі нават закінутую вагавую будку панавому абсталявалі: зашклілі вокны, пафарбавалі ў жоўты колер.

На свеце пачаліся вялікія перамены, і іх перш за ўсё бачыш на станцыі. На адкрытых платформах новенькія трактары, аўтамашыны, пафарбаваныя ў жоўты, сіні, чырвоны колер жняяркі, сеялкі, веялкі. Намнога больш, чым год ці два назад, ідзе цяпер праз станцыю гэтых незвычайных грузаў. Праўда, раней на дзверках вагонаў віселі алавяныя пломбы, якія Вася, калі не віжавала чужое вока, нават адрываў. Але вагонаў стала болей, і волава на пломбы, відаць, не хапае, і іх цяпер робяць з чорнай цвёрдай смалы.

Сонца паказваецца з-за далёкага лесу, калі Вася падыходзіць да пуцейскай казармы. Спачатку залаты прамень нясмела лізне верхавіны дрэў, франтоны будынкаў, і толькі пасля гэтага выблісне яркае, яшчэ зусім негарачае і прыемнае святло.

Вася любіць мясціну, дзе размешчана пуцейская казарма. Тут пагорак, які прыкметна ўзвышаецца над вакольнай раўнінай. Чыгуначная ветка, якая вядзе на Хвойнае, наогул прачочана праз пясчаныя горы, і цягнік ідзе ў гэтым месцы як праз тунель.

Казарма — доўгая, пафарбаваная ў жоўты чыгуначны колер будыніна, пакрытая бляшаным дахам, з ахайнымі вялікімі вокнамі, двума ці нават трыма ганкамі, якія вядуць у асобныя кватэры чыгуначнага майстра і іншых службовых асоб. Пры казарме ёсць хляўчук, дзе складваецца пуцейскі інструмент. З усходняга боку сядзібу пуцейскага майстра ахінае вялікі яблыневы сад.

У дарожнага майстра Віргеля ёсць два смуглявыя, цыганаватыя хлопцы — старэйшы Аркадзь, які скончыў шосты клас, і малодшы Міхась, які, як і Вася, перайшоў у чацвёрты. Толькі Міхась ходзіць у «А» клас.

Можа, заўважыўшы сярод пажылых пуцейцаў Васю, майстар і сваіх сыноў пхнуў у заработкі. Васю ад гэтага мала прыемнасці. Прыйшоўшы на адведзенае месца, Аркадзь кідае на дол сечку, матыжку, брыдзе прэч. Пакалупаўшыся з паўгадзіны, Міхась ідзе шукаць брата. Майстравы сыны блукаюць дзесьці на станцыі, загараюць на штабелях і прыходзяць, каб схаваць інструмент пад будку стрэлачніка. Брыгадзіра Савачкіна і Васю майстравы сыны ў грош не ставяць.

Васю такі паварот справы зусім не з рукі. Дзялянку, на якой ён старанна высякае траву, цяпер, выходзіць, трэба дзяліць на траіх. Сляпому відаць, што хлопцы на такой рабоце не перарываюцца.

— Адвядзіце мне асобны ўчастак,— просіць Вася брыгадзіра Савачкіна.

Брыгадзір дзівіцца:

— Аднаасобнік ты. Гуртам жа рабіць весялей.

— Адвядзіце, і ўсё.

Савачкін нарэшце пачынае разумець.

— Добра. Я тых лайдакоў на шлак пашлю. Там не павіляеш.

Зноў Вася адзін. На кароткі час ён адвінаецца, у падстрэшшы будынкаў, у штабелях дроў, дуплах паваленых бярвенняў шукае птушыныя гнёзды. Птаства малое, шэрае, знаёмае. Але ўсё адно Васю вельмі цікава сачыць, як з рабенькіх, сіненькіх, канапаценькіх яек выводзяцца птушаняты, як спачатку пакрываюцца стрэлкамі, затым пер'ем, як яны робяцца нарэшце крылатымі і вылятаюць з гнязда.

Васева мара — жаўна. Дзядзька Платон яшчэ пазалетась, калі хадзіў касіць сена ў Астроўкі, расказваў, што бачыў гняздо жаўны, і з таго часу Вася думае пра гэтую рэдкую, незразумелую птушку. Ён ведае: жаўна — чорны дзяцел. Буйны, нібы варона. Гняздо, мусіць, мосціць, як звычайны дзяцел, у ім самім выдзеўбаным дупле.

Толькі адзін раз Вася бачыў падобную да жаўны птушку, калі хадзіў мінулай восенню па журавіны. У гэтыя самыя Астроўкі. Лес там балотны, імшастае куп'е. Журавіны збіраць прыемна: вялікія крохкія ягады растуць па восем і нават дзесяць штук на сцяблінцы.

У смутны асенні дзень убачыў Вася, як на імгненне мільганула па гладкім ствале хвоі вялікая матава-чорная птушка з малінава-чырвонай галавой. Мільганула і адразу знікла. З глыбіні лесу пачуўся непрыемны — нібы па блясе цвіком дзяруць — голас, але праз момант усё сціхла. Ні птушка болей не паказвалася, ні голасу яе не было чуваць. Можа, гэта была жаўна? Калі так, то вельмі гэта асцярожная і дзіўная птушка.

Бацька косіць сена ў Астроўках. Дні праз два трэба будзе сена зграбаць і складваць у копы. Тады бацька возьме ў Астроўкі Васю і Петрыка.

Васю вабяць Астроўкі. Далёкая, нават дзікаватая мясціна. Яны размешчаны аж за Далёкім Лядам. Хмуры балотны лес, у якім пераважае альха, бяроза і зрэдку расце сасна. Левая часткаляснога масіву высечана, і па пнях паднялося густое кустоўе. Між кустоў бацька і косіць сена. Трава някепская: маладая асочка, пажарніца, бабоўнік, вятроўнік. Карова будзе есці за мілую душу.

За Астроўкамі — Прыстань. Там стаяла хата Ціта Лопата, чорнабародага, злоснага, з вялікімі пукатымі чорнымі вачамі, які даводзіцца Васю далёкай раднёй. Ён, здаецца, брат бабінавіцкай бабкі Серафімы. Вася быў у Прыстані, у Ціта: бацька з маці, калі ездзілі туды ў госці, бралі яго з сабой. Але гэта было так даўно і быў Вася тады такі малы, што нічога з таго далёкага падарожжа не памятае. Нібы праз сон у Васевых успамінах прабіваецца дзіўнае відовішча: нібыта растуць наўзбоч дарогі з Прыстані вялізныя, нібы дрэвы, грыбы з цёмнымі шапкамі-парасонамі. Вася часам гадае, што гэта можа азначаць? Можа, везлі яго з Прыстані вечарам і такімі здаліся яму цёмныя вячэрнія дрэвы.

На сена бацька бярэ Васю і Петрыка. Астроўкі далёка, ад дому вёрст пяць. Перш чым іх дасягнуць, трэба мінуць Блізкае і Далёкае Ляда, абышоўшы з правага боку балотную Гарадзінку. Усталі да ўсходу сонца. Вася прывык так уставаць. Бацька нясе на плячах граблі і вілы, Вася — сякеру, а Петрык — полудзень у невялікім мяшэчку.

Цішыня, спакой на ўскраі Гарадзінкі. Над самім балотам вісіць шчыльны, белы, як малако, туман, які радзейшымі пасмамі распаўзаецца па прылеглым абсягу. Хаты пераезнага

вартаўніка Драгі-Мілеўскага (сам ён жыве ў цаглянай будцы, але хату на ўскрайку балота пабудаваў) проста не відаць з-за шчыльнай завесы туману.

Па дарозе на Блізкае Ляда стаяць тры хутаркі — Саўкі Лопата, які загадвае чыгуначным вугальным складам, старога Язэпа і Антона Войціка, які мае такое ж, як Вася, прозвішча, але ніякай раднёй не даводзіцца. Зрэшты, яшчэ некалькі Войцікаў жывуць у мястэчку, але найбольш такіх людзей у суседняй вёсцы Кавенькі.

На балоце зрэдку кігікаюць кнігаўкі. Сваё малое птаства яны ўжо вывелі і цяпер пераводзяць яго на Заброддзе. Чаму яны так робяць, Вася не ведае. Можа, на Заброддзі харчу болей. Але шлях туды небяспечны і цяжкі. Трэба перайсці чыгунку, мястэчковыя агароды і галоўнае — вуліцу. І вось носіцца, робячы ў паветры бясконцыя кругі, кнігаўка, часта прыпадаючы ледзь не да самай зямлі, кігікае то жаласна, то пранізліва трывожна. Але што яна можа зрабіць валацужным крыважэрным катам, сабакам, якія прагна асочваюць у гэты час сваю здабычу.

На траве блішчыць раса. У ціхай дрымоце стаяць па полі велічэзныя дубы. Іх робіцца ўсё меней і меней: калгас бязлітасна высякае.

Як толькі падрос, навучыўся ўзбірацца на спіну каня, вадзіў Вася на Блізкае Ляда Гнядога. Таму ўсё навокал ведае. У Лопатавай хаце тры хлопцы — Ахрэм, Барыс і Косця. Асабліва задзірлівы, невыносны сярэдні, Барыс. Не, ён не б'ецца, не накідваецца з кулакамі, як, напрыклад, Аркадзь Брыц. Але мае вельмі зласлівы язык. Праходу не дае. Клеіць хлопцам мянушкі, выдумлівае недарэчныя гісторыі, якія нібыта здарыліся з тым, каго не любіць, плявузгае што папала. Васю Барыс чамусьці асабліва не любіць.

Побач з Лопатавым хутарком сядзіба старога Язэпа. Вельмі адметны ён чалавек. Добры, спагадлівы. Калі яшчэ быў конь, Васеў бацька звозіў збожжа ў Язэпава гумно. Там і малаціў. У тым гумне не адзін раз быў Вася і бачыў, колькі людзей, хаваючыся ад сельсавецкага вока, звозяць у Язэпаў панадворак тайна пасеянае дзе-небудзь на лясной паляне жыта ці ячмень. Між тым у мінулым, як расказваюць людзі, Язэп

быў сацыял-дэмакрат, да яго прыязджалі рэвалюцыянеры з Рэчыцы, Гомеля.

На Блізкім Лядзе стаіць маленькая, крытая старой дранкай хацінка Халімона Лявоніка, дачка якога Маня вучыцца разам з Васем. Халімон — ціхі, лагодны, бяскрыўдны і такая ж ягоная дачка. Вады не замуціць. Але і вучыцца не надта. У асноўным — на «пасрэдна». Маня часта прыносіць у клас лузганцы. Вася ведае: гарбузы на Халімонавым агародзе родзяць выдатна. Пад восень увесь дах хаты, застрэшша хлява, гуменца пакрыта вялікімі, жаўтабокімі гарбузамі.

На Далёкім Лядзе, па пясчаным пагорку, цэлы пасёлак хутаранцаў. Панадворкі, аднак, не надта ўражваюць. Стаяць на голым гаку старасвецкія хаты з падслепаватымі акенцамі, крытыя дорам, пачарнелыя ад вятроў. Ні саду, ніводнага пладовага дрэўца ні ў каго з гаспадароў няма. Добра хоць, што дубоў многа на Далёкім Лядзе. Ледзь не на кожным дубе буслянка, а між хварасцін гнязда процьма малых вераб'іных гнёздаў.

На Далёкім Лядзе асобная калгасная брыгада, і гаспадарыць у ёй чорны, татарскага аблічча палявод Архіп, родны брат Цімохавага бацькі. Куды ні пойдзеш, сустрэнеш Архіпа: непрыхільна глядзіць з-пад навіслага лба, вочы чорныя, злосныя.

Калі Вася з бацькам і Петрыкам мінаюць Далёкае Ляда, сонца вісіць ужо досыць высока і грэе ніштавата. На Васю нападае страшэнная млявасць. Ідуць зарослай кустамі градой, якая нібы служыць мяжой паміж нізкімі, балоцістымі Астроўкамі і высокім, узгоркаватым полем Далёкага Ляда. Вочы ў Васі зліпаюцца, ногі робяцца непаслухмянымі, ватнымі. Лёг бы пад куст, на мяккую траву і імгненна заснуў бы. Але нельга спаць. Справа не дазваляе. Трэба не паддавацца спакусе, і млявасць хутка пройдзе. Як толькі пачнеш што-небудзь рабіць.

У самым блізкім суседстве з балотным лесам, у лясной адзіноце стаіць яшчэ адзін хутар — старога Сяргалкі. Сяргалка — маленькі, беленькі, лагодны дзядок. Дзіўна, але іменна яго сынамі з'яўляюцца чорныя, скуластыя, падобныя на татар калгасны палявод Архіп і Цімохаў бацька.

Двор Сяргалкі агароджаны высокім плотам з тоўстых бярвенняў. Шырокія вароты заўсёды зачынены. Так што нельга нават разгледзець, якая ў Сяргалкі хата, хлявы, панадворак. Не сядзіба, а крэпасць. Перад дваром, на зарослай дзірваном градзе чарада старых купчыстых ліп. Ім, відаць, гадоў па сто.

Вася спрабуе і не можа ўявіць, як жыве Сяргалка. Дзікі лясны кут. У зімовую ноч глуха стогне лес. У купах старых ліп завывае вецер. Можа, нават ваўкі падыходзяць да Сяргалкавага двара. Выюць, стараюцца падкапацца пад хлеў. Сяргалка, відаць, таму і агарадзіў двор такім высокім шчыльным плотам.

Вечарам да Сяргалкі ніхто не прыйдзе і сам ён нікуды не ходзіць. Але ён мяккі, памяркоўны. Сыны тым часам нелюдзімыя, ваўкаватыя.

Усё-такі цікава жыць сярод лесу. Выйшаў з хаты — наведвай птушыныя гнёзды, збірай ягады, шукай грыбы.

Бацька накасіў сена ў вузкіх прамежках між кустамі, дзе цяжка размахнуцца касой. Сена, аднак, харошае і зялёнае, з галінкамі маладой бярозкі, бабоўніку, вятроўніку, іншай лясной травы.

Дарослага памочніка ў бацькі няма, і Вася за апошнія два-тры гады парадкам навучыўся ўвіхацца каля сена. Умее грэбці, збіваць сена ў валкі, складваць у копы. На возе стаіць. Бацька вялікімі віламі падае сена на воз, Вася яго раскладвае, размяркоўвае, утоптвае. Тое самае, калі складваюць сена ў стог.

Страшэнна многа ў Астроўках вужоў. Гоніш валок, а з-пад сена вуж паўзе. Плямісты, гідкі. Вася ведае, што вужы не кусаюцца, але ўсё адно не можа пераадолець страху і агіды. Па гэтай прычыне нават птушыных гнёздаў не шукае. Расхінеш куст, а там вуж. Вужы любяць грэцца на сонцы, таму запаўзаюць на пні, кучы буралому, лаўжы. На кожным кроку можна натрапіць у Астроўках на вужа ці на скінутую ім скуру. У першую хвіліну нават не разгледзіш, вуж то ці ягоная, скінутая ім скура, доўгая, з колеру больш светлая, але таксама непрыемная і агідная.

Вечарам Вася чуе, як, размаўляючы з маці, хваліць яго бацька:

— За птушкамі ды за кнігамі свету не бачыць, але робіць добра. Сена грабе, як стары.

Васю прыемна. Ён не разумее толькі, чаму бацька хваліць яго патаемна. Не пры братах, не пры ім самім.

Васю такі шанцуе на жаўну. Мара спраўджваецца. У адзін з тых дзён ён ідзе ў Астроўкі адзін. Засталося дагрэбці якую-небудзь капу. Лапікі скошанай травы ў вузкіх прамежках між кустамі такія рэдкія, што часам нават цяжка знайсці іх.

Управіўшыся з сенам, Вася ідзе ў маліннік. Малін у дзікім балоцістым лесе процьма. Суцэльныя зараслі. І ягады паспелі. Вялікімі гронкамі вісяць буйныя чырвоныя кроплі.

Упершыню ў жыцці Вася не мае абавязкаў і можа есці ягады, колькі захоча. Толькі свабода, аказваецца, не такая ўжо прыемная. Адну, другую жменю малін есць Вася, і ахвота раптам прападае. Вось каб са збанком сюды прыйсці. Прынёс бы ён малін маці і братам...

Раптам Вася чуе ціхі піск. Падымае галаву і бачыць у камлі старой пахілай алешыны вялікае дупло. Піск даносіцца якраз адтуль. З дупла вынырвае вялікая чорная птушка з зялёнай галавой і нізам, між кустоў знікае з вачэй.

Сумнення быць не можа: жаўна!

Дык вось дзе мосціцца асцярожная рэдкая птушка. Алешына пахілая, з сукамі, і вельмі лёгка Вася на яе ўскарабкваецца.

Вася ўзбіраецца на старадрэвіну. Дупло ёмістае: можна лёгка прасунуць руку. Вася прасоўвае, затым імгненна выхоплівае: нехта яго балюча шчыпае за палец. Вася не на жарт палохаецца: столькі змей на зямлі, можа, адна і ў дупло забралася. Таропка аглядвае палец. Ніякай ранкі, аднак, няма. Ясна: маладая жаўна дзюбнула ў палец.

Вася больш не выпрабоўвае лёс. Жаўну бачыў, ведае, як і дзе яна мосціць гняздо. Што болей трэба?

## VI

Якое выдатнае плыве лета! Ніколі Вася не піў у такім збытку слодычы, якую дае вольная летняя пара. З работы, з чыгункі, ён вяртаецца апаўдня, а ў другую палавіну дня можа рабіць што захоча.

Акрамя школьнай і сельсавецкай бібліятэкі Вася запісваецца яшчэ ў адну — леспрамгасаўскую. Леспрамгас узнік на месцы «Лесбела» і займае ўсе ягоныя памяшканні. Ёсць доўгая, як стадола, напаўцёмная леспрамгасаўская крама, дрывяныя склады, якія прымыкаюць да чыгуначнай станцыі, кантора, што размяшчаецца побач з крамай. У канторы адзін пакойчык адведзен пад чырвоны куток. У ім стол, заслáны чырвоным абрусам, падшыўкі газет і тры шафы, напакаваныя кнігамі. Грузчыкі, вартаўнікі склада кніг не бяруць, таму культработнік, каржакаваты ціхмяны чалавек, які знывае ад бяздзейнасці, ахвотна запісвае ў бібліятэку кожнага, хто б ні папрасіўся.

Цімох прачытаў «Ціхі Дон» Шолахава, першую кнігу, і ўзносіць яе да неба. Вася ідзе ў сельсавецкую бібліятэку, у школьную — але няўдача: кніга на руках. І вось ён завітвае ў леспрамгасаўскі чырвоны куток. Шыракаплечы каржакаваты бібліятэкар ахвотна заводзіць на яго картку. Вася падыходзіць да кніжнай шафы і вачам не верыць: стаяць адна ў адну ў сіне-зялёных вокладках тры кнігі «Ціхага Дона» на беларускай мове. Вася бярэ кнігі ў рукі.

— Хочаш іх прачытаць? — пытае шыракаплечы культработнік.

— Хачу.

— То я табе іх запішу. Прачытаеш — прынось. Возьмеш другія.

Ніколі Вася не бачыў такога добразычлівага бібліятэкара і не меў такой удачы ўзяць у бібліятэцы тры кнігі! Тры кнігі адразу!

Гарадок — так называюць ахінутую разлапістымі таполямі пляцоўку былой лясной школы — даўно вабіць Васю. Лясной школы, у якой вучылі на ляснічых, няма, перавялі ў Гомель, у трох яе драўляных карпусах размешчаны курсы шафёраў. Бібліятэка лясной школы тым часам засталася. Толькі такім, як Вася, пакуль што ходу ў яе няма. Тут даюць кнігі тым, хто скончыў сямігодку. Але хопіць Васю леспрамгасаўскага чырвонага кутка.

Палохаючыся вужоў, якія, калі ён грабе сена, выпаўзаюць з-пад самых грабель, хаваюцца ў кучах буралому, кустах,

гідзячыся іхніх леташніх скурак, вельмі падобных на вужоў, толькі святлейшых, Вася нарэшце сцягвае валкі, складвае сена ў тры невялікія копкі, накрывае іх хварасцінкамі. І вось ён на беразе.

Усе дні, калі хадзілі з бацькам і Петрыкам на сена, Вася марыў паляжаць пад кустом разлапістай ляшчыны, якіх многа на мяжы нізкага балотнага чарналесся і пясчанага пагоркаватага поля. Яго ў гэтым месцы проста зморваў сон. І вось цяпер ён можа паляжаць, можа нават заснуць, бо работа зроблена. Маці дала Васю полудзень: у невялікім вузельчыку завязан кавалачак хлеба, злёгку прысолены агурок і крышанчык старога ёлкага сала, загорнутага ў зялёны капусны ліст. Некалькі кавалкаў такога сала, зашытага ў мяшэчак, з зімы вісела на гарышчы.

Вася ляжыць пад арэхавым кустом, палуднуе. Прыемнай стомай ные цела. Сонца паступова ідзе на схіл. Дзень не вельмі гарачы. Час ад часу набягае ветрык, прыемна астуджвае твар. Па небе плывуць лёгкія белыя аблачынкі, грамоздзячыся ў незвычайныя збудаванні: то раптам як бы палац узнікне, то магутная гара, то войска на шматлікіх конях. Над усім сінеча, блакіт летняга неба; ён нібы закалыхвае: навявае спакой, як бы яднае душу з гэтым бясконцым прасторам.

На лапіку зямлі сваё жыццё, клопаты. Зялёная травяная блошка паўзе па сцяблінцы, на суседняй былцы распраўляе свае чырванаватыя, з цёмнымі кропкамі крыллі, збіраючыся ўзляцець, божая кароўка. Відаць, палахлівая: калі возьмеш у руку, пакідае на далоні жоўтыя кропелькі-плямкі. Другога, трошкі большага, жучка з жоўтымі крылцамі, які поўзае па сцяблінках жыта ў той час, калі яно каласуе, завуць Кузька. Вася адрознівае адзін ад другога жукоў, але, акрамя майскага хрушча і прыгожага, з цёмна-зялёнымі крылцамі жука-гнаевіка, які падтачвае знізу кучы каравяку і іншы бруд, не ведае, як гэтыя істоты называюцца. Бо ёсць самыя разнастайныя жукі: адзін вялікі, чорны, з рагамі, другі — з пярэднімі нагамі-клешнямі, ёсць маленькі прадаўгаваты жучок са шматлікімі ножкамі, які, калі возьмеш яго ў пальцы, прытвараецца мёртвым. Пакладзеш на далонь, ён раптам напружыцца, пстрыкне — і на далоні яго няма.

Па самай зямлі між травінак поўзае чырвоная тля. Мізэрная, амаль не бачная вокам істота, але таксама жыве, мае нейкі свой інтарэс. Вася нават не ведае, хто корміцца тлёй. Можа, якія-небудзь дробныя чарвячкі, непрыкметныя для вока.

Зумкае бухматы чмель, пералазячы з кветкі на кветку. У адной кветцы ён валаводзіцца досыць доўга, можа, цэлую хвіліну, з другой адлятае неадкладна, толькі тыцнуўшыся ў яе і пры гэтым нездаволена зумкаючы. Відаць, мала знаходзіць спажывы і злуецца.

Хоць сярэдзіна лета ўжо, а яшчэ надаедліва звіняць камары. Садзяцца на шыю, твар, рукі. Няма ў жыцці хоць бы адной бязвоблачна-шчаслівай хвіліны. Трэба асцерагацца ядавітых гадаў, аваднёў, сляпнёў. Яны таксама гудуць над галавой, і час ад часу іх трэба адганяць. Бывае, авадзень ці сляпень так укусіць, што чырвоная пляма на месцы трымаецца дзень ці два.

Нячутна лятаюць матылі і бабачкі. У траве трашчаць — аж захліпаюцца — рознай велічыні і афарбоўкі конікі, цвыркуны, іншыя невялікія істоты, якія, нягледзячы на малую сваю велічыню, умеюць далёка скакаць, а іншы раз і падляцець трохі. Вось на Васеву руку сеў вялікі зялёны цвыркун з цёмна-чырвонымі вачамі, адтапыранымі, як у жняяркі, крыламі, спераду доўгімі, а ззаду ўкарочанымі нагамі. Цвыркун уталопіўся на руку, дзе сядзіць, ледзь чутна пакратаў скуру сваімі вусікамі, потым разважліва скочыў далей, у траву. Лета тым і прыгожа, што буяюць, лашчаць позірк, адорваюць размаітымі пахамі травы і кветкі, трашчаць у іх зялёным дыване, даючы аб сабе знаць, розныя непрыкметныя істоты, на ўсе галасы спяваюць, перагукваюцца, пераклікаюцца птушкі. Нібы славяць красу жыцця.

Усіх птушыных галасоў Вася не ведае. Ведае толькі тых, чые гнёзды знаходзіў. Можа, толькі дваццаць птушак ці трохі болей паспеў вывучыць, ведае, дзе яны мосцяцца, можа вызначыць іх па апярэнні, галасах, па памеры, колеру іхніх яек. А тутэйшых птушак, здаецца, болей за сотню відаў. Ці зможа ён з імі хоць трохі пазнаёміцца? Васю сумна, бо ўжо менш, чым раней, ён думае пра птушак. Прыйшло новае за-

хапленне — кнігамі, і яны паглынаюць амаль увесь вольны час. Птушкамі ён, вядома, цікавіцца, але ўжо не так востра, апантана, як год ці два назад.

Не, Вася не перастане любіць птушак. Вось у арэшніку перагукваюцца малінаўкі-заранкі, берасцянкі. Яны ўжо вывелі сваё малое птаства і пагэтаму амаль не спяваюць. Залівaецца пакручастымі прыгожымі трэлямі толькі жаваранак. Ён, як і верабей, здаецца, два разы на год выводзіць птушанят.

На дальніх і блізкіх пагорках узвышаюцца дубы. Усё меней і меней становіцца гэтых прыгожых волатаў у ваколіцах мястэчка. Нават калгас не шкадуе дубоў: калі растуць на полі, то калгаснікі іх проста спільваюць.

Розныя мясціны ў ваколіцах мястэчка Вася любіць па-рознаму. Астроўкі з Сяргалкавай сядзібай прыцягваюць яго загадкавасцю і таямнічасцю. Апроч усяго тут растуць ліпы — старыя і маладыя, лыка якіх вельмі прыдатна на лапці. У другім месцы ліпа не расце. Толькі ў Астроўках. Ліпавае лыка называецца ў мястэчку лут. У ахайных, прыгожых лутавых лапцях фарсяць найбольш увішныя мужчыны. Дзядзька Платон, Адамаў бацька, таксама дапінае да маладых ліпак. Кожнае лета прыносіць некалькі лутавых перавяслаў, з якіх зімой пляце лапці. Агорне нагу чыстымі белымі анучамі, абуе лутавыя лапці і скача па двары, нібы шустрая, непаседлівая птушка сініца.

## VII

Васю брыгадзір Савачкін лішняга разгарнення не дае. Відаць, падлічвае: на штаны, сарочку зарабіў — і хопіць. Дый не надта патрэбна чыгунцы Васева работа. Там, дзе два тыдні назад падсек траву, вырастае новая.

Вася прынёс у дзве палучкі па шэсцьдзясят рублёў і яшчэ авансу трыццаць два рублі. Усё да капеечкі Вася аддаў маці. За гэтыя грошы можна касцюм купіць. Толькі грошы — вада. Разышліся імгненна. На хлеб трэба, на цукар, на камсу. Можа, купіць бацька да школы чаравікі. Бо тыя, што Вася насіў, разлезліся ўшчэнт. Не зашыеш, не падлатаеш. Сарочка,

штаны яшчэ цэлыя. Можна насіць. Тым болей што ў Васевых таварышаў вопратка не лепшая.

І ў гэтае лета не здраджвае Васю птушынае шчасце. Ідзе ў Палякоў Рог па бабоўнік і нечакана разведвае гняздо галубоў-туркалікаў. Вельмі лёгка разведвае. Падымае галаву і бачыць: на спляценні галін ляжыць сетачка, складзеная з тоненькіх пруцікаў. Два белыя яйкі знізу відаць, бо гняздзечка вельмі рэдзенькае. Вася, можа б, адразу не здагадаўся, што гняздо належыць туркалікам. Галубы мосцяць гнёзды ў дуплах дубоў, высока над зямлёй. Тым часам ён убачыў туркаліка з пышным чорна-белым хвастом, які пырхнуў між алешын. Значыць, наседжвае яйкі галубіца. Позна толькі. Можа, ранейшае гняздо хто-небудзь знішчыў, і не ўдалося вывесці птушанят.

Вася прыкідвае: пакуль выведуцца галубы, пакрыюцца хоць трохі пер’ем, пройдзе сама мала два тыдні. Потым ён забярэ іх дамоў. У Янкі і Адольфа Драгі-Мілеўскіх з каменнай будкі на пераездзе дзве зімы жывуць туркалікі. Распусціўшы хвасты, лятаюць па будцы, ядуць хлеб, бульбу, а найбольш сядзяць на шастку, падвешаным пад столлю. Цяпер такія галубы будуць у Васі.

Маці пасылае Васю ў Бабінавічы па ягады. Кошык дае: у Бабінавічах лес вялікі, неабсяжны, людзей менш, чым у мястэчку. Таму ягад можна назбіраць колькі хочаш. Тым больш што па ягады кожны дзень ходзяць Васевы стрыечныя сёстры Маня і Таня.

У Васі ёсць пяць рублёў, якія маці дала яму на падручнікі. Білет да Бабінавіч каштуе толькі рубель і пятнаццаць капеек, але Вася наважвае ісці пешшу. Грошы трэба на кнігі. Тым болей што да Бабінавіч толькі дванаццаць вёрст, а Вася ўжо не малы. Ды і дарога да Бабінавіч прамая, цягнецца наўзбоч чыгункі.

І вось Вася ідзе. Мінуўшы абсяг станцыі, ён крочыць наўзбоч насыпу чыгункі. Сцяжынка хоць хаваецца ў густой траве, але ўтоптаная, выразна акрэсленая: многа ног па ёй праходзіць. Уздоўж чыгункі ўладна паўстаюць тэлеграфныя слупы з белымі кубачкамі-шашкамі, на якія нацягнуты правады. Аж тры рады слупоў нясуць на сабе розныя тэлеграфныя і тэлефонныя драты.

Вось поле Рогаўка, тут была іхняя палоска зямлі, і Вася аднойчы прыязджаў сюды на возе, калі капалі бульбу. Цяпер зямлю засявае калгас. За Рогаўкай Вася яшчэ не быў. Наперадзе зусім невядомыя абшары. У Бабінавічы Вася ездзіў, глядзеў на лес і поле праз акно вагона. Але адна справа — ехаць на поездзе і зусім другая — мераць незнаёмыя мясціны ўласнымі нагамі.

Вася мінае чыгуначную будку. Звычайная драўляная будка, такая, як у абходчыка Драздовіча, што жыве каля местачковага пераезда. Будкі ёсць двух тыпаў: драўляныя і складзеныя з гладкай чырвонай цэглы. Каля гэтай незнаёмай будкі ёсць пераезд, праз яго вядзе ў правы і левы бок пыльная дарога. Вася здагадваецца: калі пойдзеш направа, дасягнеш лугаса «Ведрыца», калі налева — трапіш на торфазавод «Рабушынскі мох». Абодва паселішчы ўзніклі на асушаным балоце не так даўно, і ў ні адным з іх Вася яшчэ не быў.

Далей балотнае, не вельмі прывабнае на выгляд рэдкалессе і шматкі поля, раскіданыя там-сям па лесе і засаджаныя пераважна бульбай.

На захад і ўсход прагрукатала ўжо некалькі таварных цягнікоў, а Вася ўсё ідзе. Нарэшце дасягае рабога моста, пабудаванага над рачулкай Ведрыцай. Тут і пясчаны шлях ідзе ледзь не побач з чыгункай, і Вася для большай пэўнасці зварочвае на шлях, бо ён чуў, што на жалезным чыгуначным мосце часам стаіць чырвонаармеец-ахоўнік і такім цывільным асобам, як Вася, ходу праз мост няма.

Узышоўшы на драўляны мост, па якім праязджаюць над рэчкай фурманкі, праходзяць людзі, Вася пачынае разумець, чаму ён называецца «рабы». Парэнчы на мосце афарбаваны ў белы і чорны колер, і гэтыя бела-чорныя палосы аж пярэсцяць у вачах. Тым часам і на жалезным чыгуначным мосце, здаецца, няма ніякага вартавога, і, значыць, Вася мог бы лёгка там прайсці.

Вельмі здрабнела, змізарнела рачулка Ведрыца. Стала яшчэ меншай, чым год назад, калі Вася бачыў яе з акна вагона. Фактычна канаўка ў шырокім, з абвіслымі берагамі логвішчы. Значыць, калі асушваюць балота, то і рэчка перасыхае. Вельмі дрэнна, калі гэта сапраўды так.

Пясчаны шлях, па якім Вася ідзе, пераводзіць яго на другі бок чыгункі. Як звычайна, будка на пераездзе стаіць. Будачнік шчодра засеяў свой вузкі агарод, які адным бокам прылягае да чыгункі, другім — да балоцістага лесу. Расце на гэтым агародзе бульба, цвіце белы і чырвоны мак, уздымаюць галоўкі сланечнікі.

За будкай характар лесу паступова мяняецца. Балацявіна пераходзіць у пясчаныя пагоркі, а на іх прабіваецца хвойны і нават баравы лес. Васю весялей: усё-такі не любіць ён нізкай, змрочнай балацявіны. Мясцовасць вельмі падобна да Палякова Рога. Каб не ведаў Вася, што ідзе ў Бабінавічы, мог бы лёгка памыліцца.

Раптам Вася ўздрыгвае: праз рэдкалессе праглядвае складзеная з чырвонай цэглы будка, як дзве кроплі падобная на тую, якая відаць з Кротавай паляны. Нават думка мільгае: нейкім цудадзейным спосабам ён трапіў іменна ў свой лес. Потым Вася супакойваецца: будкі па ўсёй чыгунцы, відаць, аднолькавыя. Іх рабілі па адным чарцяжы.

Так, ёсць у Васі вострая цікавасць да людзей, якія, як вось гэты невядомы, ні разу не бачаны будачнік, жывуць на адзіноце. Як адчувае сябе такі чалавек, што яго цікавіць? Пранясецца за дзень некалькі паяздоў, а так толькі пошум хвой, дождж, вецер, зімой — завіруха, якая асабліва люта завывае ў лесе. Вядома, па дарозе вандруюць людзі. Нават на чыгунцы па шпалах крочаць. Хто зойдзе да будачніка напіцца, цыгарку прыкурыць, а то проста пагаварыць, распытаць, дзе размешчана патрэбная мясціна. Ды і па лесе людзі штодзень ходзяць. Збіраюць грыбы, ягады. І ўсё-такі на адзіноце жыццё зусім не такое, як на сяле ці ў мястэчку.

Яшчэ паўгадзіны хады, і Вася выбіраецца на ўскраіну лесу, адкуль відаць замшэлыя бабінавіцкія стрэхі. Прыгожы гэты лес каля вёскі — суцэльны дубняк. Дубы магутныя — высокія, разложыстыя і многа іх: агінаюць сяло суцэльнай падковай.

Вася ўзбіраецца на ляжнёўку, якая ад бабінавіцкай станцыі вядзе на хутар. Пад насыпам ляжнёўкі труба, па якой з рэчкі Ведрыцы падаецца вада на бабінавіцкую вадакачку. Яна з такой жа высокай цаглянай вежай, як у мястэчку. І вось Вася

на панадворку дзядзькі і хроснага бацькі Івана. Як і ў мінулы раз, Васю гучна вітаюць стрыечныя сёстры і браты, скачуць, абнімаюць, нават цалуюць.

— Васька прыйшоў!.. Васька прыйшоў!..

Васевы родзічы як адзін босыя, з парэпанымі ад гразі нагамі, у неахайных парваных вопратках. Дзядзька Іван чарнявы, а яны ўсе бялявыя, нават белабрысыя, блакітнавокія.

Як і ў мінулыя разы, калі Вася прыязджаў у Бабінавічы цягніком, стрыечныя браты і сёстры, нагаварыўшы яму шмат прыемных слоў, праз некалькі хвілін дружна разбягаюцца. Тое, што хлопец застаецца адзін у чужой хаце і двары, іх мала цікавіць.

Двор у дзядзькі Івана закіданы, неахайны. Прыбіральні зусім няма. Хлеў толькі адзін: там і сена складваецца, і карова стаіць. На дрывотні ні палена дроў. Вуліца таксама не радуе вока. Суседнія хаты вельмі някідкія. Пачарнелыя, точаныя шашалем сценкі, маленькія ваконцы. На вуліцы падсохла, але адна лужына шырокая, як возера, засталася. У ёй, рохкаючы, ляжыць свіння. На кожным кроку калдобіны, выбоіны, каровіны рапяхі.

Не, у мястэчку вуліца лепшая. Асабліва цяпер, калі яе трохі падсыпалі, не пашкадаваўшы Свірыдзёнкавага агарода і могілак. Бралі адтуль зямлю і раўнялі вуліцу. На агародзе старога Свірыдзёнка запоўненая вадой копанка. Хлопцы ў копанцы купаюцца і нават ловяць баўтушай малых срабрыстых карасікаў.

Наўскасяк ад дзядзькавага дома стаіць новая хата, складзеная з сасновых, добра ачэсаных бярвенняў. Каля хаты пахаджвае хлапчак, пільна сочачы за Васем. Нарэшце ён падыходзіць.

— Мяне завуць Коля,— гаворыць.— Я скончыў трэці клас. Хочаш — будзем дружыць.

Супроць дружбы з невядомым Колем Вася нічога не мае.

Хлапчак, праўда, трохі шчуплаваты і, як для чатырохкласніка, мізэрны, але паколькі другіх знаёмых хлопцаў Вася не ведае, то будзе добры і гэты.

Вася згаджаецца. Выбіраць яму не прыходзіцца. Стрыечныя браты толькі і робяць, што бегаюць па завуголлі і

галёкаюць. Васю з імі нецікава: старэйшы, Саша, толькі ў першы клас хадзіў і перайшоў у другі. Астатнія нават, што такое школа, не ведаюць. Ды стрыечныя браты ў сваю кампанію Васю і не запрашаюць.

— Любіш чытаць? — пытае Вася ў Колі.

— Люблю. Толькі кніжак няма.

— Запішыся ў бібліятэку.

— У нас няма бібліятэкі.

— Нават у сельсавеце няма?

— Была. Але раскралі. Скурылі на цыгаркі.

— У школе тожа няма кніг?

— Ёсць. Толькі мала і парваныя. Я іх ледзь не ўсе прачытаў.

Вася з павагай глядзіць на Колю. Хоць малы ён, мізэрны, але галавасты. Нездарма будзе вучыцца ў чацвёртым класе.

Коля скрашвае Васевы дні ў Бабінавічах. Бо з раніцы, калі яшчэ сонца не ўзыходзіць, стрыечныя сёстры Маня і Таня вядуць Васю ў ягады. Баравы ягадны лес далёка, ад Бабінавіч вярсты за чатыры, і ідуць да яго Вася з сёстрамі зарослай ляшчыннікам ляжнёўкай. Па дарозе трохі збіраюць і ядуць буйныя ягады буякі. Ад іх адразу пачынае кружыцца галава. Кусцікі буяковага ягадніку размешчаны побач з густымі зараслямі багуну. Ад багуновага паху — Вася гэта ведае — можа не толькі закружыцца, але нават забалець галава.

Нецікавая справа — збіранне чарніц. Ні ў мястэчку, ні тут, у Бабінавічах. Вопыт Вася мае. Іншая справа, што ягад у бабінавіцкім лесе болей. Бо ў сяле менш людзей, і таму менш іх торкаецца ў навакольныя лясы.

Стрыечныя сёстры прывязваюць гладышы да жывата. І Вася так робіць. Абвязвае гарлавіну гладыша шнурком і прывязвае яго да папружкі. Выгода відавочная: сагнешся — і гладыш перад табой вісіць. Можна збіраць чарніцы дзвюма рукамі.

Але пакутлівая справа. Чатыры ці нават пяць гадзін трэба хадзіць па ягадніку сагнуўшыся, перш чым напоўніш дробнымі ягадамі прорву вялізнага гладыша. Васю тым часам трэба сем ці восем такіх гладышоў сабраць. Каб да верху насыпаць ягадамі каробку-лубянку і прывезці яе дамоў.

ные спіна, паясніца, ногі баляць, але Вася ўвесь тыдзень збірае чарніцы. Маці мусіць насушыць ягад, варэння зварыць (чарніца ад жывата памагае і ад іншых хвароб, а паслаць у лес, акрамя Васі, некага). Таму Вася жыве і корміцца ў дзядзькі Івана.

Дні спякотныя, нават млосныя. Аднойчы па дарозе дамоў распараныя, разамлелыя Маня і Таня зварочваюць да ракі Ведрыца. Каля Бабінавіч даволі шырокая рэчка. Вада ў ёй светлая, празрыстая. Імклівая цячэ Ведрыца між высокіх глiністых берагоў. І розных ракавін на пясчаным пляжы колькі хочаш. Сапраўдная рэчка. Трусоў ні ў Васі, ні ў стрыечных сясцёр няма. Тым часам дзяўчаты выхад знаходзяць. Абвязваюцца ручнікамі і кідаюцца ў ваду. У Васі ручніка няма, і ён сядзіць на беразе.

Але і Васю шчасце ўсміхаецца. З ягад Вася вяртаецца апоўдні і адразу кіруе да Колі. Цяпер удвух з Колем яны шыбуюць да ракі. Да Ведрыцы ад Бабінавіч вярсты дзве-тры, і хлопцы адольваюць гэты прамежак адным махам.

Упершыню Вася адчувае: якое вялікае шчасце жыць паблізу ад ракі! Можна летняй раніцай прачнуцца і адразу пабегчы купацца. А зімой на каньках па лёдзе насіцца. Местачковыя хлопцы пазбаўлены гэтай радасці. Купаюцца ў тарфяных кар'ерах, у розных копанках. Толькі ні ў якое параўнанне не ідзе гэтае боўтанне з купаннем у сапраўднай рацэ. Тут зусім іншы свет. Вада плывучая, малькі каля берага мітусяцца, дол цвёрды, пясчаны.

Коля плавае нібы рыба: ныряе, не баіцца ніякай глыбіні. Вася трымаецца берага. Нырнуў на глыбокім месцы і ледзь вадой не захліпнуўся. Бо плаваць, аказваецца, не ўмее. Добра, што Коля не заўважыў. Адна справа боўтацца ў копанцы, адчуваючы пад нагамі грунт, і зусім другая — нырнуць у сапраўдны рачны вір.

Вася распытвае Колю, ці ёсць у Бабінавічах акрамя ракі іншыя дзівосы. Не, дзівосаў няма. Ні таямнічых пячор, ні развалін якога-небудзь старога замка. Нават на станцыю хлопцы ходзяць рэдка, бо яна ад сяла далекавата.

— Ты цікавішся птушкамі? — пытае Вася ў новага сябра.

— Не.

— Не ведаеш ніводнага гнязда?

— Чаму. Сёлета знайшоў драздоў.

— Вывеліся?

— Не, як падраслі, салам наліліся, мы іх на шпотыках пасмажылі. Расклалі агонь і пасмажылі.

Васю сумнавата. У галодны год пад кіраўніцтвам Іллі Кісяля басота іхняга канца вуліцы гэтаксама рабіла. Але з таго часу, як у школу пайшлі, перасталі хлопцы нішчыць птушак. Вася, ва ўсякім выпадку, маладых птушак не есць. Як гэта: птушаняты не паспелі палятаць, жыццё ўбачыць, а іх ужо смажаць.

Праз тыдзень Вася напаўняе каробку-лубянку чарніцамі. На плячах такую каробку да мястэчка не данясеш.

Чыгуначны білет каштуе рубель пятнаццаць капеек. Увесь вечар бегае дзядзька Іван па канцы вуліцы, каб пазычыць рубель. Нарэшце пазычае.

## VIII

Вася зусім свабодны і чытае «Ціхі Дон». Ляжыць у хлеўчуку на новым сене, слухае шчабятанне ластавак, ціліўканне вераб'ёў. Вераб'і і ластаўкі выводзяцца па два, можа, нават па тры разы за лета.

Галубоў-туркалікаў, якіх Вася разведаў, калі хадзіў у алешнік па бабоўнік, ён наведвае кожны дзень. Вось галубяняты ў стрэлкі пабраліся, вось пачынаюць абрастаць пер'ем. Вася вагаецца: браць галубянят ці не браць. Адкладвае з дня на дзень. Прапусціўшы два дні, Вася завітвае ў алешнік і знаходзіць гняздзечка пустым. Галубы паляцелі. Дзіўна, але Вася не вельмі засмучаецца. Няхай жывуць галубы! На волі ім усё-такі будзе лепей, чым у клетцы.

Такую кнігу, як «Ціхі Дон», Вася можа прачытаць за тры, самае большае — чатыры дні. Штосьці ён разумее, чымсьці яго кранаюць няўрымслівыя, крывавыя падзеі на далёкай данской, казацкай зямлі.

Цімох перайшоў у шосты клас і пачынае чытаць «Вайну і мір» Талстога. Вася ўслед за ім таксама чытае. Кнігі новыя,

толькі выйшлі з друку. Вокладкі шаравата-белыя, з вялікім, ледзь не да палавіны вокладкі рудаватым карэньчыкам.

Напісанае дробным шрыфтам, як і ўсе апісанні, размовы на французскай мове Вася, вядома, прапускае. Але тое, што чытае, мае для яго нейкі інтарэс. Бо кнігу, якая не падабаецца, не выклікае цікавасці, Вася кідае чытаць на самым пачатку, нясе здаваць у бібліятэку.

Даўно так склалася: тое, што чытае Цімох, чытае ўслед за ім Вася. У густах хлопцы не разыходзяцца. Дзіўна адно: Цімох перайшоў у шосты клас, у сёмым будуць вывучаць Талстога. Цімох свядома да гэтага рыхтуецца. Вася чытае па ахвоце, зусім не думаючы пра школу.

Прачытаўшы, Вася выбягае на вуліцу, і, калі хлопцы гуляюць у «цуркі», «ялавога» ці «кругавога», далучаецца да іх. Чытанне ніколькі на замінае гульням, і Вася ўсёй душой цягнецца да іх. Гуляе ў коней, скача, вельмі любіць прабегчы ўздоўж тыну, прыкладаючы да яго палку. Гук атрымліваецца такі, нібы з кулямёта хто страляе.

Разам з Адамам, Цімохам, нават калі ёсць у кампаніі Мірон, ягоны брат Мікалай, Пятро Васьмярык, Вася вельмі добра сябе адчувае.

Зусім іншае — вялікія зборышчы. У іх верхаводзяць старэйшыя хлопцы: Павел Кірнач, Аркадзь Брыц і Янка з будкі. У такіх кампаніях Васю блага. Завадатары насміхаюцца над ім, падколваюць, астатнія хлопцы не бароняць. Чаму яго не любяць гэтыя вісусы? Можа, таму, што ён добра вучыцца, кніжкі чытае, а іх нават са школы павыганялі. Аднойчы Аркадзь Брыц просіць у Васі новенькую бібліятэчную кніжку і кідае яе на дарогу ў гразь...

Так, вельмі часта на вялікіх зборышчах Васю крыўдзяць, прыніжаюць. Можа, таму ён шукае адзіноты.

Бягуць дні, тыдні, месяцы. Вось і чацвёрты клас. Заняткі ідуць у асобным драўляным будынку, размешчаным бліжэй да вуліцы. Тры такія сялянскага выгляду хаты, перавезеныя з хутароў, стаяць на школьным двары. Толькі вокнаў прарэзалі ў хатах болей, чым было. Васю амаль не прыйшлося павучыцца ў прыгожым школьным будынку пад жалезным дахам, калі не лічыць двух-трох тыдняў у першым класе. Там

пафарбаваная чырвонай фарбай падлога, белай — дзверы, вокны, прасторныя аўдыторыі. Але там вучацца «А» класы, а Вася трапіў у «Б».

Хутка наогул прыйдзецца развітвацца з гэтай школьнай сядзібай. Бо ў цэнтры мястэчка ўзводзяць новую школу. На тым месцы, дзе стаяла царква. Царкву разабралі на бярвенні, з якіх збудавалі досыць прасторны клуб. Ён стаіць якраз на супрацьлеглым баку вуліцы.

У новую школу хадзіць будзе бліжэй. Васю, аднак, шкада пясчанага школьнага двара, таполяў, якія даволі высока падняліся за тры гады, што ён вучыцца, кузні з перакошанымі вугламі, што стаіць наўскасяк праз вуліцу і свеціць малымі і вялікімі дзіркамі ў сатлелым дранкавым даху. З гэтай кузні заўсёды даносіцца размераны жалезны звон. На ўроках нават весела ад яго.

Увогуле ваколіцы школы прывабныя. Тут пясчаны пагорак, ніколі не бывае гразі. Нездарма, відаць, у гэтым месцы засяроджана ледзь не ўся местачковая прамысловасць: паравы млын, абодная майстэрня, піларама, мылаварня. Тут жа высіцца шчыльна зарослы купчастымі хвоямі курган могільніка.

Галоўны калгасны двор таксама тут. Толькі нічым ён не вабіць позірку. Нізкія доўгія хлявы з дзіравымі дахамі, горы нявывезенага гною. Не праславіўся пакуль што местачковы калгас. Ні ўраджаямі, ні працаднямі.

Што ў чацвёртым класе? Нічога асаблівага. Бадай тое, што ў трэцім.

Школьная навука ідзе звычайна, размерана, і тут Вася не падкачае. Яму лёгка, добра вучыцца. Верш запамінае, прачытаўшы тры, самае большае чатыры разы. Задачы па арыфметыцы рашае, як арэшкі лускае. Вусных заданняў дома наогул не выконвае. Хопіць таго, што прачытае ў школе — на ўроку ці на перапынку. Карацей, Вася зусім не стараецца выдзяляцца сярод другіх. І ўсё адно Марыя Рыгораўна яго хваліць. Васю, вядома, прыемна. Як бы самасцвярджаецца яго асоба.

Толькі дома справы не надта выдатныя. Вася, Петрык, Сяргей падрастаюць, ім трэба болей харчу, вопраткі, абутку.

Хлеба ў местачковых крамах — колькі хочаш. Па чатыры кілаграмы прыносіць Вася штодня. Іншы раз нават па шэсць. Сала, мяса, іншага скораму ў хаце няма. Толькі хлеб ды бульба. Ды яшчэ малако. Вельмі часта бацькавага заработку нават на хлеб не хапае. Асабліва цяжка пратрымацца ад авансу да канца месяца.

Бясконцыя сваркі ў доме, звяга, калатнеча. Іншы раз, прыйшоўшы са школы, Вася застае маці ў слязах. Пасварылася з бацькам. Дый пры дзецях звяга ўсё часцей усчынаецца. Брыдкай пагудкай цягнецца з раніцы да вечара, бо ні бацька, ні маці не хочуць адно другому саступіць.

Што можа зрабіць Вася? Нічога. Летам, узяўшы кнігу, ён забіраецца ў хлеў, на сенавал. Зімой нікуды не ўцячэш. Часам ідзе Вася да Адама. У Адамавай хаце сваркі няма. Дзядзька Платон увішны, вясёлы. Адам застаўся на другі год у трэцім класе. Два гады сядзеў у першым, цяпер зноў другагоднік. Бацька, аднак, яго не дакарае. Аднак не такі ён добры, як здаецца. На Адама не сварыцца, затое на Васю бліскае злоснымі вачамі. Як бы не можа даравацЬ Васю, што перагнаў у вучобе ягонага сына. Таму ўсё радзей ходзіць Вася і да Адама. Ірвуцца ніці самай цеснай ранняй дружбы. Можа, яшчэ таму рвуцца, што Адам кнігамі не цікавіцца. Прачытаў толькі адну кнігу «Рабяты і звяраты». А Вася толькі кнігамі і жыве. Можа, уцякае Вася, дзякуючы чытанню, ад жыцця сапраўднага, са сваркамі, звягай, розным брудам, у свет цудоўны, чароўны, але выдуманы. Але і ў кнігах не адно выдуманае жыццё. У тым жа «Ціхім Доне». Не ўсё разумее Вася, але нават дзіцячай сваёй душой адчувае жорсткую і адначасна прывабную праўду, пра якую расказвае пісьменнік. Бо такія людзі, як у «Ціхім Доне», ёсць у мястэчку. І такія ж усходы і заходы сонца, гэтак жа блішчыць раса на траве, спяваюць птушкі. Толькі ракі няма. Шкада, што ў мястэчку няма ракі.

Сваркі, спрэчкі не кожны дзень. Дый на дзённым дзяжурстве бацька разоў сем на месяц. У такія дні ў доме спакой, злагада, цішыня. Жыць, зрэшты, можна.

Галоўнае — жыве Вася ў цікавы, нават гераічны час, якога яшчэ не было на свеце. Пра гэта пішуць у газетах, дый Вася

сам адчувае, што час незвычайны. Хіба быў раней трактар, самалёт, дрэйфавалі на льдзіне чалюскінцы, пралятаў над Паўночным полюсам Чкалаў? Ніколі такога не было.

Выдатныя навіны ўсё часцей паведамляе настаўніца Марыя Рыгораўна. Дый сам Вася сёе-тое вычытвае ў маленькай газетцы «Железнодорожник Белоруссии», яе выпісвае бацька. На будучы год з грошай, якія заробіць, Вася выдзеліць пяць рублёў і сам выпіша газету. Якую захоча.

Усё болей душы местачковых хлапчукоў захоплівае ў свой прывабны палон кіно. Пра такія фільмы, як «Абрэк Заур», «Двойчы народжаны», «Хвоі гавораць», «Лясная быль», хлопцы вядуць бясконцыя размовы ў школе і на вуліцы. Кіно да апошняга паказвалі ў клубе імя Вароўскага, разлеглай, шырокай, як стадола, будыніне, міма якой хлопцы заўсёды праходзяць, калі ідуць ці вяртаюцца са школы. Але клуб вось-вось разваліцца. Адслужыў ён свой век. Новы клуб, складзены з царкоўных бярвенняў, яшчэ да канца не абсталяваны.

Але збавенне ёсць. Кіно паказваюць у гарадку, у клубе прафтэхшколы, дзе навучаюцца будучыя шафёры лясной прамысловасці. Толькі залішне вострыя гэтыя шафёры. Па якой вуліцы ні ідзеш, вечарам хто-небудзь з іх сядзіць з дзяўчынай. На лавачках, парканах, на стусах бярвенняў на лесаскладзе. І не толькі сядзяць — цалуюцца, абдымаюцца. Незамужнія дзяўчаты нават дзяцей нараджаюць ад гэтых самых шафёраў. Бацькі тым часам ад сваіх дзяцей адмаўляюцца. Ідуць суды. Але што з голых бадзяг высудзіш? Маюць рублёў па трыццаць стыпендыі, брызентавыя туфлі і душу ў целе.

Час цікавы. Самалёты ўсё часцей гудуць у небе, свідруюць прастор. Па вуліцы, падымаючы воблакі пылу, праносяцца паўтаратонкі і нават «эмкі», па чыгунцы на адкрытых платформах усё болей вязуць трактароў, жняярак, сеялак, веялак, іншых машын.

З кіно Васю нарэшце шанцуе. На станцыю прыбывае вагон-клуб, і паказваюць якраз карціну «Лясная быль». Першы раз Вася трапляе ў кіно як сын чыгуначніка. Акуратна, прыгожа ў вагоне-клубе. Лаўкі стаяць роўнымі радамі, вокан многа, але яны завешаны цёмнымі шторамі, пад столлю гарыць

электрычнасць. Наперадзе белы экран. Святло нарэшце гасне, і на экране пачынаецца цуд. Партызаны, страшэнна адважныя і адчайныя хлопцы, ваююць з белапалякамі. Якіх толькі смелых штук яны не вытвараюць! То ў штаб пілсудчыкаў пралезуць, то варожага афіцэра ўкрадуць. Карціна нямая, калі хто з герояў гаворыць, то надпісы аж на чатырох мовах: беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай. Але і без надпісаў галоўнае можна зразумець. Трашчыць ззаду апарат, кашляюць гледачы, але нічога гэтага Вася не чуе. Лента іншы раз ірвецца, тады пад столлю ў клубе ўспыхвае святло, гледачы свішчуць і настойліва тупаюць нагамі.

Васю так падабаецца карціна, што ён і на другі вечар прашмыгвае ў вагон-клуб.

Нарэшце «Лясную быль» паказваюць школе, і зноў Вася, як і першы раз, глядзіць кіно з вялікай цікаўнасцю.

Кіно Васю захапляе. Трохі менш, чым птушкі, кнігі, але захапляе. Дрэнна толькі, што па білетах пускаюць у кіно. Дзе возьмеш грошай на білет?

Кіно паказваюць у гарадку, у клубе прафтэхшколы, дзе вучаць на шафёраў. Прыгожа ў гэтым гарадку. Стаяць вялікія ахайныя будынкі вучэбных карпусоў, інтэрнатаў, сам гарадок засаджан таполямі, якія цяпер, восенню, густа засцілаюць жоўтым лісцем дарожкі і алеі. На лавачках пад дрэвамі парачкі. Яны размаўляюць, перашэптваюцца, нават як бы спрачаюцца. Хтосьці напаўголасу, сам сабе падыгрываючы на гітары, спявае. На адной лавачцы дзяўчына, здаецца, плача.

Прывабна ў гарадку і трывожна. Вася як бы прадчувае: жыццё не такое простае, як здаецца. Шмат у ім загадак і таямніц. Тым часам вабяць, прыцягваюць да сябе гэтыя таямніцы.

Цёплай восенню двойчы пралазіць Вася ў клуб прафтэхшколы. Праз акно. Глядзіць карціны «Максім Максімавіч», «Смерць Пушкіна». Першую Вася не разумее, пра Пушкіна цікавей. Тым часам «Лясную быль», каб можна было, Вася паглядзеў бы і ў чацвёрты раз.

## IX

У чыгуначнай краме доўгімі нізкамі вісяць тараны, абаранкі, прадаюцца мяккія пушыстыя булачкі па трыццаць шэсць капеек штука. Пасля доўгай бясхлебіцы гэта здаецца раскошай. Сапраўды, чым не раскоша? Усё ёсць у краме: сялёдка, траска, цукар, масла, камса, розныя кансервы. Машыністы, кандуктары, нават дзядзька Платон, які працуе саставіцелем паяздоў, купляюць гэтыя рэчы.

Васеў бацька прыносіць — ды і то зрэдку — толькі цукар ды траску. Вася разумее бацьку: грошай нават на хлеб не хапае. Іншы раз прыходзіцца пазычаць. Можа, ад гэтага і сваркі ў доме. Маці, па яе расказах, лепей жыла ў свайго бацькі, чым выйшаўшы ў мястэчка замуж. Бацька яе нібыта быў вельмі ўвішны: зімой, па найме купцоў, вазіў у Рэчыцу дровы, розныя бярвенні, абручы, арэхавыя кійкі нарыхтоўваў, таму цукар купляў цэлымі галовамі, селядцы бочкамі.

Вася, наведаўшы Бабінавічы, стаў трохі сумнявацца ў тым, пра што маці расказвае. Неяк не верыцца, што ў доўгім, як адрына, доме было такое выдатнае, ледзь не райскае жыццё. Ды яшчэ, па расказах маці, палавіну дома настаўнік займаў пад кватэру, школа размяшчалася ў гэтым самым доме.

Маці папракае бацьку за тое, што ён не такі ўвішны, як другія мужчыны. Як Герасім Кірнач, Мацвей Угоднік, якія робяць грузчыкамі. Тут Вася згаджаецца з маці. Ідучы на начное дзяжурства і прыйшоўшы з яго, бацька па цэламу дню адпачывае. Але ён не лянівы і не безгаспадарлівы. Ён не п’е, не раскідваецца грашамі, дбаючы пра тое, каб накарміць і як-небудзь апрануць дзяцей. Выпівае пры кожнай палучцы толькі шклянку віна. Для эканоміі нічым не закусвае. І ў вольныя дні бацька не гуляе: косіць сена, на пагрузку ходзіць, наймаецца кандуктарам, калі ідзе пагрузка на чыгуначнай ветцы, якая вядзе на Хвойнае.

Вядома, бацька не можа зраўняцца з Герасімам Кірначом, бо той проста асілак. Шыракаплечы, высачэнны, як дуб. І стрыечнага брата Платона бацька не дагоніць. Бо той вельмі спрытны. Бегае і ног пад сабой не чуе. У бацькі ногі хворыя. Ён хварэе на раматус. Некалі ён таксама хутка бегаў. Меў

стрэльбу, хадзіў на паляванне. Паляванне і падвяло. Ужо жанаты, праваліўся бацька зімой у балота, застудзіў ногі і цяпер пры хадзьбе перавальваецца, нібы качка.

Нутром Вася адчувае: бацька даражыць службай і хоча несці яе сумленна. Таму ашчаджае сілы перад кожным дзяжурствам. Бо служба стрэлачніка не толькі нялёгкая, а нават небяспечная. Не так перавядзеш стрэлку, і можа здарыцца крушэнне цягніка. А там суд, турма, а можа, і штонебудзь горшае. Колькі чытаў Вася пра такія крушэнні. Напрыклад, на станцыі Ціханава Пустынь Маскоўскай чыгункі. Ужо некалькі гадоў наркамам чыгуначнікаў працуе Лазар Майсеевіч Кагановіч. Строгі парадак наводзіць. Па бацькавых словах, вельмі прыціскае чыгуначнікаў.

Чыгунка — пастаянная тэма бацькавых размоў з маці і нават з тымі людзьмі, якія прыходзяць у хату. З часу, як Вася стаў хадзіць у школу, бацька бясконца скардзіцца на дзяжурнага па станцыі Тупікава. Жыцця Тупікаў не дае. Няма ад ягоных прыдзірак ніякага ратунку.

Вася ведае Тупікава. Шырокі чырвоны твар, на тоўстых губах пагардлівая, з’едлівая ўсмешка. Каржакаваты, сыты, укормлены. Ён жыве тут жа, на станцыі. У казённай чыгуначнай кватэры: каровы, свінчаці не мае і, па словах бацькі, люта зайздросціць стрэлачнікам, счэпшчыкам, саставіцелям, у якіх няхай невялікія, але ўласныя гаспадаркі.

Тупікаў пад’ядае бацьку як можа. Дагадзіць яму немагчыма. Крычыць па тэлефоне: рабі так, як камандую. Ты на службе, на пасту сядзі!.. Калі ж бацька затрымаецца ў будцы, каманда адваротная: чаму цябе на пуцях не відна?..

Бацьку між тым трэба і ў будцы сядзець, слухаць каманду дзяжурнага, адкрываць і закрываць семафор, пераводзіць стрэлкі. Трэба гэтыя стрэлкі чысціць, бо зімой іх заносіць снегам.

Распякае Тупікаў бацьку за кожную дробязь: на дзесяціхвілінутцы, калі падводзяцца вынікі дзяжурства, на планёрцы, калі стрэлачнікі, аглядчыкі вагонаў, змазчыкі і іншы ніжэйшы чыгуначны люд на дзяжурства толькі заступаюць.

Можа, таму і наструнены, насцярожаны бацька, што баіцца за кожнае дзяжурства.

Наскокі Тупікава балюча адбіваюцца на сямейным дабрабыце. Брак у рабоце — значыць, прагрэсіўку бацька не палучае. А гэта дваццаць ці нават трыццаць рублёў у месяц.

Маці з бацькам доўга, можа, цэлы год згаварваюцца, як патушыць бяду. Нарэшце наважваюць пазваць Тупікава з жонкай у госці. Старанна ідзе падрыхтоўка да банкету. Маці варыць, парыць, смажыць, прыгатаўляе закускі цэлы тыдзень. Каб улагодзіць дзяжурнага, на баляванне запрашаюць стрыечную сястру маці Паліну, бо яна вельмі прыгожая. Паліна ўжо развялася са сваім фельчарам Прохарам Прохаравічам і цяпер жанчына свабодная.

Бацька збіраецца прадыктаваць пісьмо сваяку Івану Зязюлю: ён цяпер працуе намеснікам дырэктара МТС па палітчастцы ў Слуцкім раёне. Разлік просты. Казырнуць хоча перад Тупікавым бацька: маўляў, і ў нас ёсць заступнік, высокі партыйны чалавек, і ўсё такое іншае. Вася не згаджаецца пісаць пад дыктоўку бацькі: пакуль паклоны ад усёй радні перадасць, то пойдзе на гэта цэлая старонка. Зязюля зрэдку піша пісьмы, і на іх не хто іншы, як Вася, адказвае. І цяпер здолее напісаць тое, што трэба.

Вася трохі расчараваўся ў сваяку: на гармоніку добра іграе, займае высокую пасаду, але чалавек не надта пісьменны. Столькі курсаў скончыў у Мінску, у Камуністычным інстытуце вучыўся, але ў кожным слове робіць па памылцы, а то і па дзве. Працяжнікаў, косак, мяккіх і цвёрдых знакаў Зязюля наогул не прызнае, ды і кропкі часам ставіць там, дзе трэба і не трэба. Вася ліст піша, але Зязюля не прыязджае.

Банкетаванне ідзе як належыць. Тупікаўілье ў горла чарку за чаркай, добра закусвае. Маці падкладвае госцю новыя кавалкі: вяндліну, цяляціну, парасяціну, смажаныя грыбы, якіх Вася назбіраў у лесе.

Цётка Паліна смяецца як бы з галубіным вуркатаннем і адкідвае галаву: можа, дзеля таго каб госць лепш убачыў яе прыгожую шыю, арліны профіль твару, густыя залацістыя валасы.

Усе спадзяюцца на мір.

Пасля пачастунку Тупікаў сапраўды месяц ці два не чапае бацьку. Залатым робіцца чалавекам. Не нахваліцца бацька дзяжурным.

І раптам яшчэ горшым робіцца. Змей змеем. Кроку не дае ступіць, каб не пакамандаваць, не ўказаць, не паказаць сябе начальнікам. Можа, уявіў Тупікаў, што сям'я стрэлачніка Войціка наогул так харчуецца, як частавала яго. Есць цяляціну, парасяціну. Яму няўцям, што гэта дзеля ягонага пачастунку было зарэзана цялё і заколата парасё.

На чыгунцы пачынаецца стаханаўскі рух. Вася чытае газетку «Железнодорожник Белоруссии» і ведае пра рэкорд машыніста Крываноса, іншых славутых чыгуначнікаў.

На станцыі тым часам вырастаюць свае стаханаўцы. На процілеглым баку вуліцы, аддзеленай выганам, у блізкім суседстве з жоўтай драўлянай будкай абходчыка Драздовіча стаіць ніштаваты дамок з пабеленымі аканіцамі і ўзорнымі ліштвамі. Пры дамку яблыневы сад, прыстойны агарод, нават кавалак лужка ёсць, на якім летам шчодра буяе разнатраўе. Два разы за лета лужок акуратна скошвае марудлівы кандуктар-пенсіянер Збароўскі, сушыць сена, па некалькі разоў пераварочваючы пракосы. Ад першага ўкосу ён награбае дзве капы, ад другога — капу. На мяжы лужка пры самым паркане расце старая плакучая вярба. Цікавая яна тым, што па вясне ў сваёй разгалістай кроне дае прыстанішча мноству майскіх хрушчоў. Калі настае пара, хлопцы з усяго канца вуліцы збіваюць хрушчоў, кідаючы ў крону вярбы палкі, дручкі, каменні. Частка дабра падае на лужок Збароўскага. Пры касьбе можна нават касу зламаць — столькі на лужок накідана рознай збыні.

Збароўскі на хлапчукоў не сярдуе. Цярпліва збірае палкі, каменні, выкідваючы ў канаўку, што атачае ягоны агарод і лужок. Перад варотамі і веснічкамі ў двор Збароўскага драўляны масток пакладзен са старых шпалаў. На некаторых шпалах яшчэ захоўваюцца металічныя павукі-заклёпкі, на якіх адзначана, калі, у якім годзе шпала пакладзена пад рэйкі.

Вася, калі пасвіць на выгане свіней, а то і проста калі мае вольную часіну, любіць пасядзець ці нават паляжаць на мастку Збароўскага. Нагрэтае сонцам дрэва прыемна аддае цяпло, пасля дажджу, лашчачы слых, пад мастком булькоча ручаёк, і наогул ад дагледжанай, акуратнай сядзібы кандуктара-пенсіянера патыхае парадкам, спакоем, добразычлівасцю.

Падросшы, Вася нават з кнігай прыходзіць на масток Збароўскага. Што тут такое? Чытае хлопец, ну, і няхай чытае...

Жонка Збароўскага, парадкам глухаватая пані Магда Казіміраўна бясконца стракоча на швейнай машынцы. Яна фактычна абшывае ўвесь канец вуліцы. У яе прадаўгаваты, густа ссечаны маршчынамі твар, цалкам ссівелыя валасы і поўны рот залатых зубоў. Як і муж, яна вельмі добразычлівая, любіць пагаманіць з суседкамі і пераважна шые ў аванс, бо не заўсёды ў мястэчковай галоты ёсць грошы, каб разлічыцца са швейкай. Вася таксама знасіў некалькі картовых штаноў, за якія Збароўскай было заплачана тады, калі штаны ператварыліся ў дзіравыя лахманы і іх данашвалі Петрык або нават Сяргей.

Так, Збароўскі і яго ветлівая, гаваркая Магда Казіміраўна — людзі даступныя, звычайныя. А вось дзеці — іншыя. Старэйшая дачка — чорная, высокая, худая, як палка, ніколі не сядзіць у дзявочым гурце, не спявае песень і, здаецца, наогул ні з кім не размаўляе.

Калі Вася быў вельмі малы і, баючыся Аркадзя Брыца, які яго заўсёды б’е, нават на вуліцу рэдка вытыркаўся, Анжэла Збароўская, акуратна ступаючы новымі галошамі па гразі, важна несла напакаваны кнігамі жоўты скураны партфель. Яна ўжо тады канчала школу першай ступені, або, як цяпер называюць, сямігодку. Потым Анжэла з’ехала з мястэчка, і яе доўга было не відаць. Яна працавала ў горадзе, можа, нават у самім Гомелі, і нарэшце прыехала ў мястэчка, адразу заняўшы пасаду дзяжурнай па станцыі.

Смешна на яе глядзець, калі ў чырвонай мужчынскай шапцы на галаве, з флажкамі ці з ліхтаром у руках, зацятая, непрыступная, яна выходзіць на перон. У такія хвіліны яна вельмі падобная на высахлы грыб мухамор.

І вось Збароўская першай аб’яўляецца на станцыі стаханаўкай. Яшчэ праз месяц два чалавекі — пуцявы абходчык і счэпшчык. Фатаграфіі ўсіх траіх друкуе газетка «Железнодорожник Белоруссии». І подпіс пад фатаграфіяй: «Стаханаўцы палявых станцый».

Бацька аж з сіл выбіваецца, чысцячы, шмаруючы стрэлкі. Іншы раз на дапамогу яму прыходзіць Вася і нават Петрык. Але ўсё адно да стаханаўца бацьку далёка. Яму нават прагрэсіўку не кожны месяц налічваюць. Бо ёсць дзяжурны Тупікаў, які бадай на кожным дзяжурстве знаходзіць у бацькавай рабоце брак.

Іншы раз бацьку прыходзіцца дзяжурыць са Збароўскай. Як Тупікаў, яна не прыдзіраецца, але таксама не скажа ветлівага слова, трымаецца як незнаёмая, чужая. Тым часам выпадак здараецца. Палучыўшы каманду Тупікава, бацька спрабуе закрыць семафор з усходняга боку станцыі і не можа. Рычаг нерухомы. Відаць, дзесьці заела драты, працягнутыя праз маленькія жалезныя слупкі, што вядуць да семафора.

Бацька дакладвае Тупікаву:

— Семафор не закрываецца. Што рабіць, таварыш дзяжурны?

— Дзейнічайце па інструкцыі.

І вешае трубку...

Інструкцыю бацька ведае. Калі нельга закрыць семафор паўаўтаматычным спосабам, які дзейнічае на станцыі, то трэба закрываць спосабам механічным. Гэта азначае ісці да семафора, узбірацца на яго па прыступках і апускаць крыло рукамі. Але неабавязкова рабіць гэта стрэлачніку. Бо ён на пасту. Становішча аварыйнае, і дзяжурны можа паслаць да семафора другога чалавека. Каб хутчэй было — на дрызіне.

Бацька брыдзе да семафора. Ён адчувае несправядлівасць: боль і крыўда агортваюць ягоную душу. Можа, па гэтай прычыне ён дзейнічае залішне паспешліва. Узлазіць на семафор і спрабуе пацягнуць крыло ўніз. Ад першага дотыку яно само імкліва апускаецца і з усяго размаху б’е бацьку па галаве. Бацька губляе прытомнасць і падае на зямлю з пяціметровай вышыні семафора...

Добра, што ён упаў не на ўтрамбаваны баласт пуці, а на пахілы, мякчэйшы, зарослы травой адхон. Але і там ляжаў непрытомны гадзіну ці нават болей...

Між тым, не маючы ад бацькі звестак, Тупікаў спалохаўся. Прыслаў да семафора на дрызіне вольнага ад дзяжурства стрэлачніка. Бацька між тым характар паказвае. З рассечанай,

акрываўленай галавой даводзіць дзяжурства да канца, маўчыць на дзесяцімінутцы. Тупікаў сядзіць белы як палатно. Менавіта пасля гэтага здарэння пачынае патроху дабрэць да бацькі Тупікаў.

## X

Стаіць харошая цёплая восень. Чацвёртакласнікі вучацца ў другую змену. Пасля чатырох, нават пасля пяці ўрокаў яшчэ светла. Гаманлівая талака шкаляроў дамоў не спяшаецца. Ідзе пераважна вуліцамі, дзе за агароджай ёсць хоць якая-небудзь садавіна. Глядзіш: натраслося ля паркана трохі груш — во-сенню і дзічкі салодкія. На жаль, садоў у мястэчку мала. З Васевых таварышаў невялікі садок — дзве яблыні-пепінкі, груша прывітая і груша-дзічка — толькі ў Пятра Васьмерыка.

Паважаны і вельмі працавіты Пятро: заўсёды што-небудзь майструе. У дадатак ён і таварыскі хлопец: яблык таварышам не шкадуе. Як толькі Вася да яго прыйдзе, вядзе ў садок, зрывае дзве ці тры пепінкі.

Цяпер яблык няма — абабралі. Нават вялікі бальнічны сад стаіць пусты. Дарэчы, Вася разам з другімі хлопцамі ў канцы лета абіраў яблыкі ў гэтым садзе. Медсёстры складвалі яблыкі ў скрынкі, кладаўшчык, рухавы, шустры хлапчына, скрынкі забіваў. Вася заўважаў: не ва ўсіх скрынках ён забівае цвікі да канца. Механіка простая: выцягні цвік, падымі дошчачку і бяры са скрынкі яблыкі. Хто палічыў, колькі іх у скрынцы.

Хлопцам за работу не заплацілі. Дазволілі колькі хочаш есці яблыкаў. Але хіба многа з'ясі?

Толькі на Вакзальнай вуліцы застаўся неабабраны сад. У ім некалькі дрэў, на якіх яблыкі позніх гатункаў. Спакусліва звісаюць на вуліцу галіны з цвёрдымі чырванабокімі цыганкамі. Вядома, талака запускае пару дручкоў у вецце яблынь, пока-юць аб дол некалькі яблык, хлопцы іх паспешліва хапаюць, хаваюць у кішэні. Але ж не заўсёды гэта ўдаецца. Гаспадар саду, марудлівы пенсіянер-чыгуначнік, норавы талакі ведае. Таму ў той час, калі хлопцы вяртаюцца са школы, ён звычай-на сядзіць на лавачцы ля веснічак.

Затое шкаляры даюць сабе волю каля разгалістай грушы-дзічкі бабылкі Гусцініхі. У яе ёсць сын, які робіць грузчыкам і амаль ніколі не бывае дома, і разгульная з самых маладых гадоў дачка, якая даўно з'ехала ў горад, на двух недарослых унукаў хлопцы ўвагі не зварачаюць.

Гусцінішына дзічка — як зялёная хмара. Можна, вядома, кідаць у гэтую хмару дручкамі, збіваючы раз за разам па некалькі грушак, але лепей залезці хоць на ніжнюю галіну і трохі трасануць. Найчасцей хлопцы так і робяць. Буйным градам сыплюцца на зямлю грушкі. І хоць яны цвёрдыя, кіслыя, шкаляры набіваюць імі поўныя кішэні і хрумстаюць са смакам. Нічога ж лепшага няма.

Яшчэ ў канцы лета на Дзядку паявілася новая сям'я, якая пасялілася ў нізенькай, з маленькімі вакенцамі і доўгай, як пасажырскі вагон, хацінцы крывабокага Паўла. Павел быў на германскай вайне, дзе яго моцна кантузіла, быў у нямецкім палоне, вярнуўшыся, жыў адзінока, не ажаніўшыся. Лічыў: добрая дзяўчына за яго не пойдзе, благой ён сам не хацеў браць.

Новая сям'я — з трох чалавек. Вялікі, таўсташыі, з чырвоным тварам бацька, гуллівая, з вясёлымі вачамі маці і шустры чарнявы падлетак-сын Мішка.

Прозвішча прыезджых — Карпенкі. Стары Карпенка не проста жыхар — начальнік: загадвае нарыхтоўчай канторай, якіх у мястэчку нараджаецца ўсё больш. З першых дзён жыцця Карпенкі паказваюць сваю вясёлую натуру. Бо бацька без паўлітры ў нізенькую хатку Паўла са службы не з'яўляецца. Таварышаў з сабой прыводзіць.

У Карпенкі няма ні каровы, ні свінчаці, ні нават курэй. Ягоная жонка рыхтуе абеды, снеданні, вячэры з таго, што прынясе з крамы. Дый з магазінаў найбольш прыносіць кансервы.

Бабы-суседкі гэтую акалічнасць неадкладна вынюхваюць, збіраючыся каля студні, горача і зацікаўлена яе абмяркоўваюць. Відаць, да жонкі Карпенкі, даволі віднай, павабнай, з моднай гарадской прычоскай, неяк даходзяць жаночыя размовы.

Выходзячы за вароты, яна скардзіцца:

— Работы хоць адбаўляй. Навары, абсцірай, хату прыбяры. А што — муж у мяне дагледжаны. І Мішка гладкі, як бычок.

Мянушка да шустрага сына Карпенкаў прыклейваецца імгненна: Мішка Бычок.

Мішка тым часам кампанейскі хлопец. Як толькі паўлітра выпіваецца, ён выбягае да хлопцаў з пустой бутэлькай.

— Гайда ў магазін! Цукерак купім...

Бутэлька каштуе пяцьдзясят капеек. Сто грам цукерак-падушачак ці рудаватых арэшкаў з сухой, падобнай на халву начынкай каштуюць сорак адну ці сорак дзве капейкі. Рэшты задумлівы, марудлівы крамнік леспрамгасаўскага магазіна яўрэй Зайчык ніколі не дае: кладзе ў пакуначак дзве ці тры лішнія падушачкі.

Найвялікшая справядлівасць пануе ў той час, калі хлопцы ідуць дамоў і ядуць купленыя за бутэльку цукеркі. Усё дзеліцца па-брацку. Нават гаспадар бутэлькі Мішка не адважваецца пакласці ў рот лішнюю цукерку.

Мішка Бычок чалавек вельмі велікадушны, бескарыслівы. Хлопцы, аднак, не хочуць есці дарма ягоныя цукеркі. З гэтага часу кожны, у хаце якога выпіваецца паўлітра ці хоць чацвяртушка, спяшаецца на выган і сумленна паведамляе аб гэтым таварышам. Кампанія дружна кіруе ў напаўцёмны магазін да Зайчыка, дзе ляжаць на паліцах тапары, вілкі, міскі і розны гаспадарчы рыштунак, але цукеркі-арэшкі, абсыпаныя шакаладным пылам і напоўненыя павідлам падушачкі — таксама прадаюцца.

Насупраць Васевага дома, праз зарослы муравой, дзядоўнікам, лапухамі выган, сядзіба Кісялёў. Хата з прыбудоўкай-трысценкам нічым асаблівым не вызначаецца. Затое перад хатай выдатная бяроза. Такой бярозы, здаецца, няма ні ў адным двары. З другога боку хаты расце амерыканскі клён. І вялікі яблыневы сад ёсць у Кісялёў. Толькі ніколі Кісялёвы хлопцы Ілля ці Мікалай не завуць сяброў-таварышаў у гэты сад. І хлопцы баяцца ў гэты сад лазіць, бо ў старога Кісяля ёсць драбавік, сабака Рэкс, які ходзіць у двары без прывязі. Як лічыцца, паляўнічы Іван Кісель — адменны, зарад шроту можа ўляпіць.

Іван Кісель — адзіны на ўвесь канец вуліцы калгаснік. Уступалі ў калгас дзядзька Платон, Адамаў бацька, Сямён Дрыц, бацька няўрымслівага Аркадзя, які забівае вандроўных сабак і наогул творыць што хоча, бацька Кузьмы Поклада, Цімоха. І ўсе павыходзілі адтуль. Большасць мужчын прыляпілася на чыгунцы.

Кісель, хоць калгаснік,— жылы на рабоце не рве. Убіўся вартаўніком на кашары — яны далёка, за ваколіцай, пры самым лесе. Восенню і зімой Кісель ноччу сцеражэ кашары. Днём з дубальтоўкай, сабакам Рэксам ідзе на паляванне. Прыносіць забітых зайцоў, іншы раз нават вогненна-рыжага ліса.

Лета, калі палявання няма, дні і ночы бавіць на кашарах Кісель. Тым часам чуткі пра яго паўзуць нядобрыя. Нібыта Кісель і яго хаўруснікі наладжваюць на кашарах п’янкі. Закусваюць цяляцінай, парасяцінай. Бо вялікага кантролю за прыплодам у калгасе няма.

Праўдзівыя гэта чуткі ці не — невядома. Бо з пасады вартаўніка Кісяля не здымаюць. Увогуле, чалавек ён неблагі. Ягоны безвалосы, бабскі твар ніколі не бывае злосны. Вельмі любіць Іван сядзець на лавачцы ў кампаніі з жанчынамі. Бывае: сем ці восем жанчын сядзіць і сярод іх адзін ён. Калі падап’е, то і спявае з жанчынамі, пускаючы па круглым безвалосым твары слязіну за слязінай.

## XI

Яшчэ нядаўна Ілля, сярэдні сын Івана Кісяля, быў завадатарам хлапечай талакі. Мінула вельмі мала часу, і ўжо не мае бяскрыўдны, бескарыслівы Ілля ніякай увагі сярод падлеткаў. Бо ён, скончыўшы толькі клас ці два, адстаў ад хлопцаў. І ў ягонага брата Мікалая такі ж лёс. Нядаўна з ім наогул здарылася няшчасце. Знайшоў Мікалай дынамітны патрон і хацеў зрабіць падпаленку. Дынаміт выбухнуў, і медную частку патрона загнала Мікалаю ў жывот. Добра, што кішкі не парвала. Але ўсё адно паўгода праляжаў у бальніцы.

Хлопцы-школьнікі пасміхаюцца. Яны па-ранейшаму страляюць з падпаленак, гахаюць звычайнымі ключамі ад замкоў,

наскробшы туды серкі з сярнічак і ўставіўшы цвік, але такога глупства, як страляць з дынамітнага патрона, не зробяць. Бо кожны школьнік ведае: дынаміт — выбуховы матэрыял.

Падае вага хлапечых атаманаў.

Нядаўнія завадатары — Янка з будкі, Аркадзь Брыц, Павел Кірнач — адчуваюць гэта і злуюцца. Бо знікае ранейшая пакора і схіленне басоты перад імі. Бо хто яны ў вачах Васі, Адама, Цімоха, які ўжо вучыцца ў шостым класе? Вытураныя з другога, самае большае з трэцяга класа хуліганы. Табліцы множання нават не ведаюць. Тым часам па-ранейшаму хочуць камандаваць.

Праходзячы міма двара Аркадзя Брыца, Вася зрывае кветку цёмна-чырвонага гваздзюка, што вытыркаецца між шчыкецін. Так сабе зрывае, нічога не думаючы. Нехта Брыцу даносіць. Відаць, Кузьма Поклад, якога таксама выперлі са школы.

Аркадзя Вася не любіць, стараецца абмінаць. Тым часам Брыц сам на сябе не падобны. Сустракае Васю з Адамам, ветліва размаўляе, дае па яблыку.

— Зойдзем да мяне, хлопцы.

Вася не хоча ісці, як бы прадчуваючы бяду. Аркадзь, аднак, заве. Дый Адам цягне за руку.

Як толькі Вася заходзіць у двор, Аркадзь замыкае веснічкі, вядзе хлопцаў у напаўцёмную клець. У ёй засланы пярэстай тканай посцілкай ложак. Брындаючы дзе ўздумаецца па начах, Аркадзь, відаць, у клеці начуе. Не паспеў Вася азірнуцца, як Аркадзь раве ва ўсё горла:

— Кладзі яблык на ложак! Адказвай: краў мае кветкі?

— Не краў. Гваздзюк каля паркана рос.

Аркадзь тлумачэнняў не слухае. Схапіўшы жэрдку, б’е Васю па спіне, па нагах, па галаве. Анямелы Адам не ведае, што рабіць.

Васю ахоплівае шаленства. Заўважае ўваткнуты ў калодку тапор, хапае, кідаецца да Аркадзя. Той стаіць белы як палатно.

— Кідай жэрдку!

Аркадзь пакорліва кідае. Падняўшы аберуч тапор, Вася раз’юшана б’е Аркадзя то правай, то левай нагой. Б’е, куды патрапіць. Столькі ў Васі набралася злосці, жорсткасці да

ненавіснага, дурнога Аркадзя. Нарэшце ён кідае тапор, ідзе да веснічак. Нават не азіраючыся. І Аркадзь яго не даганяе...

Вечарам Сямён, Аркадзеў бацька, даведаўшыся пра здарэнне на ўласным двары, зазывае сына ў хату, спрабуе адхвастаць рэменем. Але адхвошчаш такога. Аркадзь прыкідваецца звар’яцелым, раве, лезе на сценку, нарэшце выскаквае праз акно на двор...

Вася святкуе перамогу. У той час нібы асуджае сябе. Нельга браць у рукі тапор, калі стаіш перад чалавекам. Нават калі абараняешся. Бо вельмі было блізка да бяды...

Не толькі болей не чэпіцца да Васі Аркадзь, але як бы нават паважаць пачынае. Недзе сфатаграфаваўся і картачку падараваў. Хоць на д’ябла Васю ягоная картачка.

Сыны будачніка Драгі-Мілеўскага Янка і Адольф, Аркадзь Брыц, Кузьма Поклад, Шалудзькі Іван і Шура, Павел Кірнач пакінулі школу, не дацягнуўшы нават да чацвёртага класа. І ў калгас ці на чыгунку не паступаюць. Брындаюць па мястэчку як непатрэбныя.

Каб зямля была, коні, можа, была б хлопцам работа. А так расце непатрэбнае пакаленне. Ад аднаго берага адбілася і да другога не прыстае...

База «Плодагародніны», што заняла частку Васевага агарода, пабудавана. Ніштаватая атрымалася будыніна. Доўгая, на высокіх палях, з драўляным памостам, каб маглі ўз’язджаць нагружаныя фурманкі і нават аўтамашыны.

З другога боку база ўшчыльную падступае да тупіковых пуцей. Пакладзі памосткі і загружай вагон.

Калгаснікі выконваюць планы нарыхтовак. Вязуць на базу агуркі, памідоры, капусту, моркву, буракі і цяпер восенню бульбу.

Ёсць работа жанкам з навакольных вуліц. Яны засальваюць бочкі агуркоў, памідораў, капусты. Частка бульбы, морквы, буракоў тут жа закопваецца ў бурты. Найбольш відная фігура на базе «Плодагародніны» цяпер вартаўнік Бозя. Ён па некалькі разоў абходзіць месца, дзе працуюць жанчыны, пільна сочачы, каб якая-небудзь лішне не насыпала сабе ў падол агуркоў ці памідораў.

Хоць сабе Бозя даруе і большыя злачынствы. У ягоным шалашы проста рай. Хрумстае вартаўнік агуркамі, памідоры есць, мачаючы ў пачарнелую анучку з соллю. Уволю пячэ бульбу ў вогнішчы, якое ніколі не тухне ў ягоным вастраверхім, падобным на чум шалашы.

Сыну, ад якога сышоў, перабраўшыся ў шалаш, а таксама іншай блізкай і далёкай радні Бозя казённых агуркоў, памідораў таксама не шкадуе. Цэлымі скрынкамі прыхоўвае пад саломай у шалашы, а прыцемкам сплаўляе на старану.

Ёсць, няхай часовая, работа для амаль дарослых хлопцаў: Янкі з будкі, Аркадзя Брыца, Паўла Кірнача. Насіць у вагоны скрынкі з агуркамі, памідорамі, загружаць іх бульбай. Толькі гэта вельмі цяжкая работа і не надта кідаюцца на яе местачковыя латругі. Вася два дні панасіў плеценыя кашы з бульбай, ссыпаючы яе ў вагон, і ледзь рукі не адарваў. Потым два дні адлежваўся. Малы яшчэ ён для такой работы.

Аднойчы Васю запрашае на работу Аркадзь Брыц.

— Дам па тры рублі,— абяцае.

Ходзячы на чыгунку, Вася нават па шэсць рублёў зарабляў. Але грошы трэба, і ён згаджаецца.

Не ведаў Вася, на якую работу наймае яго Аркадзь, а так бы не пайшоў. Аказваецца, прыбыў вагон з плеценымі лазовымі кошыкамі, і трэба яго не толькі разгрузіць, але і скласці кошыкі пад базай. На работу Брыц прывёў трох: Васю, Адама і Мішу Бычка. Сам ён толькі выкідвае кошыкі з вагона. Хлопцы мусяць іх падхопліваць, валачы пад базу, засоўваючы кошык у кошык, складваць роўнымі радамі.

Вагон пульманаўскі, вялізны, кошыкаў у ім некалькі тысяч. Ніколі яшчэ Вася так цяжка і з такім імпэтам не працаваў. Пад базай цесна, пыльна, туды ўсе, хто мае патрэбу, ходзяць апраўляцца. І вось, сагнуўшыся, трэба ў такім месцы раскладваць кошыкі.

Маці, адчуўшы нядобрае, сама прыходзіць на базу. Як жа, цэлы дзень няма дома Васі. Між тым работа скончана. Аркадзь без ніякага роспісу ў ведамасці выдае хлопцам абяцаны заробак.

— Ваш Вася ого як рабіў! — хваліць Брыц Аркадзь Васю.— Затое зарабіў тры рублі.

Дома бацька лаецца. Разгрузка пульманаўскага вагона рублёў сто каштуе. Так што хоць малапісьменны Брыц, але здорава абвёў хлопцаў-школьнікаў вакол пальца.

## XII

І вось Вася — пяцікласнік. Пяты клас гэта не чацвёрты і тым болей не трэці. У пятым класе значна больш прадметаў і вядзе кожны прадмет асобны настаўнік. Так што розніца паміж вучнем трэцяга, чацвёртага класаў і пяцікласнікам — вельмі вялікая.

Займаюцца пакуль што ў старой школе, але і новая, каменная, двухпавярховая, амаль гатова. Устаўляюць рамы ў вокны, беляць сцены, фарбуюць драўляную падлогу. Школа размешчана якраз на тым месцы, дзе стаяла царква. Збудаваны з бярвення разабранай царквы клуб — доўгая, падобная на стадолу будыніна — размешчан якраз насупраць школы, па другі бок вуліцы.

Наогул у мястэчку перамены. Яно цяпер стала раённым цэнтрам. Узнікла шмат раённых арганізацый, пра якія Вася раней нават не чуў.

Некаторым установам, канторам памяшканняў не хапае, і яны займаюць звычайныя местачковыя хаты. Па гэтай прычыне і ў Васевым жыцці перамены. У хаце трое хлопцаў, ядуць на поўную шчаку так, што двух, часам нават трох буханак хлеба не хапае. Зарплату між тым прыносіць адзін бацька. Зарплата старшага стрэлачніка вядомая — сто дваццаць шэсць рублёў. Ну, прырабатвае з паўсотню бацька, часам прагрэсіўку палучыць. Маці бялізну старым жанчынам мые. Вася за лета сотні паўтары заробіць. Але гэта дробязі. Грошай у асноўным хапае толькі на хлеб.

Па гэтай прычыне бацькі ахвотна згаджаюцца пусціць у другую, чыстую палавіну хаты раённую кантору «Заготлён». Служачых у канторы няшмат, толькі шэсць чалавек. Тым часам толькі за арэнду памяшкання кантора будзе плаціць гаспадарам пяцьдзясят рублёў, яшчэ і маці, як прыбіральшчыцы, столькі.

Тое, што мястэчка стала цэнтрам раёна, прыкметна ажыўляе яго побыт. Больш стала машын на вуліцах, больш вясковых фурманак цягнецца ў раённы цэнтр: здаваць розную нарыхтоўку, атрымліваць на базе райспажыўсаюза тавары для сельсавецкіх і вясковых крам.

Будаўніцтва ў мястэчку разгортваецца не на жарт: за лічаныя месяцы вырас будынак нарсуда, райкамаўскага парткабінета, прамкамбіната і, галоўнае,— рэдакцыі раённай газеты.

Памяшканне рэдакцыі не надта кідкае. Шырокае, пляскатае, падобнае хутчэй на які-небудзь склад, яно ў дадатак на вельмі прыкметнай для вуліцы пабудовы. Але рэдакцыя ёсць рэдакцыя. Яна пачала раённую газету выпускаць, якая называецца «Уперад да камунізму». Вася з даўняга часу вялікі патрыёт мястэчка, і тое, што тут цяпер нават газета выпускаецца, здаецца яму цалкам заслужаным. Раённая газета — невялікі лісток, з чвэртку цэнтральнай газеты, і падпісвае яе адказны рэдактар таварыш Левін.

Друкуецца газетка на шорсткай, далёка не першагатунковай паперы, літары на якой трохі расплываюцца і заметкі змяшчаюцца вельмі звычайныя: колькі які калгас здаў дзяржаве нарыхтовак, якія ўзяў абавязацельствы. Тым часам каштуе газетка «Уперад да камунізму» столькі, колькі «Правда» і «Звязда» — тры капейкі.

Заняткі ў пятым класе, як і ў чацвёртым, былі ў другую змену. Харошая, цёплая, сонечная стаіць восень. Жніво даўно скончылася, на ржышча, па якім паднялася густая сакавітая трава, хлопцы выганяюць на папас скаціну.

Поле называецца Дуброва, яно цяпер усё — аж да далёкага сіняга лесу — калгаснае, і на ім штогод сеюць што-небудзь новае. Канюшыну сеялі, жыта, садзілі бульбу, а цяпер вось зноў жыта пасеялі.

Вася выганяе на папас цялушку. Бярэ з сабой падручнікі за пяты клас. Ён іх купіў у Цімоха, і за тую самую цану, якая значыцца на вокладцы. Цімох хоць абкладаў вокладкі газетай, але ўсё ж кнігі трохі папсаваліся, расшкамуталіся і, вядома, не варты той цаны, якую заплаціў Вася.

Вася мог купіць зусім новыя падручнікі ў кніжнай краме, якая нядаўна адкрылася ў мястэчку. Але не хацеў крыўдзіць Цімоха. Тым болей што ўсіх патрэбных падручнікаў у краме ўсё адно няма.

Восень дорыць сонечныя дні — светлыя, незвычайныя, празрыстыя. На траве, нібы дыяменты, блішчаць кропелькі расы, над іржышчам, спрабуючы моц маладых крылляў, носяцца чародкі чорных драздоў. Дразды і на поле спускаюцца. Толькі зерняў, як шпакі, гракі, сініцы, звычайныя вераб'і, не вышукваюць. Прытоіцца ў траве чорны дрозд, выцягнуўшы наперад доўгую жоўтую дзюбу, і нібы замірае. Ён можа доўга вось гэтак стаяць: хвілін пяць ці нават дзесяць. І раптам, <...>, спрытна перабіраючы ножкамі, зрываецца з месца. Гэта ён нейкую мушку ці лятучую казюрку заўважыў, і можна не сумнявацца, што яна ўжо ў ягонай доўгай жоўтай дзюбе.

Хутка рушаць у вырай многія са знаёмых, прывычных птушак, і ад гэтага ў Васі сумна на душы.

Сюды, да самага поля выходзяць зады агародаў тых гаспадароў, хаты якіх размешчаны на правым баку вуліцы. Агароды тут прыкметна большыя, чым у Васі і ягоных суседзяў. Іх не перарэзала чыгунка, тупіковыя пуці, розныя базы, якіх за апошні час процьму пабудавалі. Асабліва доўгі агарод у безбародага Хвядосіка. Дзіўны ён чалавек. У калгас не паступіў і ў другім якім-небудзь месцы не працуе. Двор ягоны — зялёны востраў. Маленькую хатку атуляюць магутныя чаромхі, клёны, бярозы. Дол у дворыку густа зарос муравой. Хоць касой касі траву. Але сена Хвядосіку не трэба, бо каровы не трымае. Трымае гаспадар з такой жа, як сам, маўклівай жонкай свінчо ды некалькі курэй.

Васю недалёкі сусед вельмі здзіўляе. Ён нібы адгарадзіўся ад усяго астатняга свету і, здаецца, нават задаволен гэтым. Высокі, цыбаты, з незвычайна доўгай шыяй, ён, нібы бусел, пахаджвае па сваім зялёным двары і, здаецца, зусім не цікавіцца тым, што робіцца на вуліцы.

Хвядосік нават хлеб не ходзіць купляць. Сее на агародзе загончык жыта, ячменю, проса. Усю доўгую восень цупае ў гуменцы цэпам, малоцячы сваю збажыну, а зімой грыміць жорнамі: меле зерне на муку.

У той жа час нельга сказаць, што Хвядосік зусім не грамадскі чалавек. Ён мае ля паркана лавачку, над якой навісае галінамі духмяная чаромха, і іншы раз выходзіць на яе пасядзець. Тады да яго далучаюцца суседзі.

Хвядосік і лазеньку мае. Яна, бадай, адна на ўвесь канец вуліцы. Топіць яе гаспадар кожнага тыдня і ахвотна пускае памыцца і папарыцца, хто б ні папрасіўся.

Дзякуючы дзівакаватаму суседу Васю мінулагодняй восенню вельмі пашанцавала. На канцы Хвядосікавага агарода, адгароджанага ад калгаснага поля высокім тынам, расце прыгожая маладая грушка. Па вясне яна ўся ў белым цвеце, нібы маладая нявеста на вяселлі.

Вася пераконваецца, што хоць дрэўца і не прывітае, але грушкі на ім кругленькія, досыць буйныя і, галоўнае, прыемныя на смак. Да самых маразоў трымаюцца грушкі на галінах. У адзін з перадзімовых дзён Вася прыбягае да амаль голага дрэўца і вачам не верыць: процьма грушак ляжыць на пажаўцелым, засланым пачарнелым лісцем доле. І амаль усе на знешні бок паркана. Хвядосік пра сваю маладую грушку проста забыў.

Удосталь наеўся мінулай восенню Вася прыхопленых першым марозам, смачных, кісла-салодкіх грушак.

Сёлета Хвядосікава грушка, на жаль, не цвіла.

На ржышча прыганяе цялушку Цімох. Ён таксама вучыцца ў другую змену, таму трымае пад пахай цэлы бярэмак кніг. Цімох — сямікласнік і наогул выбіўся ў школе на прыкметнае месца. Ён не толькі добра вучыцца, але і актыўна ўдзельнічае ў грамадскай рабоце. Таму настаўнікі, нават сам дырэктар школы Гель, на школьных сходах узносяць Цімоха як найлепшага, узорнага для ўсёй школы вучня.

— Ну, што? — пытае Цімох.— У пятым класе не тое што ў чацвёртым.

Вася падтаквае: зусім не тое. Цяпер у пятым класе, калі ўлічваць спевы, маляванне і фізкультуру, выкладае дзевяць настаўнікаў. Ды і прадметаў колькі новых прыбавілася: руская і беларуская літаратура і мова, гісторыя, геаграфія, батаніка, нямецкая мова. Дый па арыфметыцы задачы такія, што добра трэба паламаць галаву.

— Цікавей у пятым класе,— гаворыць Вася.

— Пачакай, будзе не да цікавасці. Дабярыся да сёмага класа. Пабачым, што запяеш. У параўнанні з сёмым класам пяты — нуль без палачкі. У нас алгебра, геаметрыя, хімія, фізіка, анатомія і фізіялогія чалавека. У восьмым класе яшчэ цяжэй. Пра дзявяты — гаварыць нечага. У наступным годзе будзе і дзясяты клас...

Цімох заўсёды палохае Васю. Трохі ставіцца да яго зняважліва. Вядома, сам вучыцца ў сёмым класе, таму на пяцікласніка паглядвае звысака.

Толькі памыляецца Цімох. Школы, новых прадметаў, якія б яны ні былі, Вася не баіцца. Наадварот, яны ў яго выклікаюць вострую цікавасць.

— Вам у пятым класе Гудовіч дасць прыкурыць,— гаворыць Цімох.— Страшэнна злосны і жорсткі. Скажаш не тое слова: сядай, двойка. І ў дзённік запіша...

Гудовіча Вася ведае. Яшчэ два ці тры гады назад ён не быў настаўнікам. Быў старшынёй сельсавета, ездзіў на прыгожай кабыле Ластаўцы — чорнай з белымі падпалінамі на нагах і галаве. Скура проста льснела на гладкай, дагледжанай кабыле. Гудовіч сядзеў у рыпучым жоўтым сядле, скураной тужурцы, нібы нейкі камісар. Ён і быў камісар: арганізоўваў калгасы, змагаўся, каб яны найлепш выконвалі нарыхтоўку: везлі ў мястэчка на склады збожжа, бульбу, садавіну, агародніну. Нешта, аднак, не атрымалася ў Гудовіча. З пасады старшыні сельсавета знялі, і тады ён пайшоў працаваць у школу.

Вася ўжо бачыў Гудовіча на ўроку. Ён яго зусім не спалохаўся. Наадварот. Гудовіч яму вельмі спадабаўся. Высокі, чорны, вузкатвары, з гладка зачасанымі валасамі, ён імкліва зайшоў у пяты клас, і вучні імгненна, як па камандзе падняліся з-за партаў. Настала такая цішыня, што было чуваць, як муха зумкае, б'ючыся аб ваконнае шкло.

Настаўнік, аднак, паказаў сябе вельмі простым, разважлівым, спакойным.

— Я буду выкладаць у вас рускую літаратуру і рускую мову,— ён назваў сваё імя, імя па бацьку і прозвішча.— Але пачнем мы з фальклору. Фальклорам называецца вусная

народная творчасць. Гэта значыць, песні, казкі, розныя прыказкі, прымаўкі. Зразумела?

Не зразумець проста немагчыма. Бо настаўнік тлумачыць вельмі проста і даходліва.

— Зусім не страшны Гудовіч,— адказвае Вася.— І зусім не злосны. Умее трымаць дысцыпліну.

— Пачакай. Пабачыш, што будзе, калі не вывучыш урок. Гадзіну прастаіш каля дошкі.

Цімох дае характарыстыкі настаўнікам, якія будуць вучыць Васю. Адных хваліць, пра другіх гаворыць даволі зняважліва. Для Васі гэта нібы адкрыццё, і ён ушчэнт збянтэжаны. Ён прывык глядзець на настаўнікаў, як на вышэйшых істот, якія жывуць у асаблівым, адметным свеце і на звычайных людзей зусім непадобныя. Нават Марыю Рыгораўну, якая вучыла Васю чатыры гады, часта зрывалася, злавалася, называла някемных дзяўчат каровамі, іншымі абразлівымі словамі, Вася дужа шанаваў, не мог параўнаць са звычайнымі мястэчковымі цёткамі, якія сварацца каля студні. Адкуль узялося такое пачуццё да настаўнікаў, Вася не ведаў. Але яны для яго як прышэльцы з іншага свету, таямнічага і загадкавага. Бо настаўнікі таксама вучацца, заканчваюць інстытуты. Як далёка гэта ад пятага класа!..

На змену Цімоху прыходзіць пасвіць цёлку ягоны малодшы брат Кірыла. Ён вучыцца ў другім класе, але ў школу не ходзіць, бо пракалоў нагу і злёгку накульгвае. Наогул, братоў і сясцёр у Цімоха многа, аж сем, і ёсць яны амаль у кожным класе — ад першага да сёмага. Але з усіх адзін Цімох — выдатнік. Ды яшчэ сястра Ніна, хоць не выдатніца, але затое памяркоўная, ветлівая. Астатнія крыклівыя, нахабныя і ніякіх поспехаў у навуках не паказваюць. Чорны, падобны на турка Кірыла, з абсыпаным балячкамі тварам, ад школы як можа адвільвае. Калі меркаваць па ягонай гаворцы, здаецца, наогул трохі прыдуркаваты.

З Кірылам Васю гаварыць няма пра што, і ён паглыбляецца ў падручнікі. Цімох яшчэ летам паказаў Васю нямецкія літары, і ён без асаблівых цяжкасцей чытае нямецкі тэкст. Ды і слоў, здаецца, у нямецкай мове шмат знаёмых. Вася нават невялікі вершык на памяць вывучыў:

Wir bauen Motoren,
Wir bauen Traktoren,
Wir bauen Maschinen,
Wir bauen Turbinen.

Значыць гэта: мы будуем маторы, трактары, машыны і турбіны. Нічога цяжкага.

## XIII

У пятым класе шмат новых, незнаёмых хлопцаў, дзяўчат. Яны прыйшлі з суседняга з мястэчкам саўгаснага пасёлка, размешчанага на асушаных балотах, з торфазавода, з невялікіх навакольных вёсачак, у якіх адчынены толькі пачатковыя школы. Узоры страшэннай непісьменнасці, нават дурноты паказваюць некаторыя з навічкоў. У Бабінавічах, дзе нарадзілася Васева маці і куды Вася ездзіў цягніком і хадзіў пешшу, ёсць школа-сямігодка. Скончыўшы чатыры класы той школы, у пяты клас местачковай школы прыбыў малы, як вузел, белабрысы хлапчак па прозвішчы Вярчэбны. Можа, бацька пачаў у мястэчку працаваць ці якая іншая прычына. Дзіўнае ў тым, што, правучыўшыся чатыры гады, гэты самы Вярчэбны нават прозвішча свайго напісаць не ўмее. Гэта адразу падсякае суровы, строгі настаўнік рускай мовы і літаратуры Гудовіч.

— Як правільна вымаўляецца тваё прозвішча? — пытае ён спалатнелага ад страху хлапчака.

Вярчэбны, аказваецца, яшчэ і картавы, і з таго, што гаворыць, нічога нельга зразумець.

— Ідзі да дошкі і правільна напішы сваё прозвішча,— загадвае Гудовіч.

Вярчэбны ідзе, крывымі каракулямі, гучна стукаючы крэйдай па дошцы, нешта выводзіць. Прачытаць напісанае сяк-так можна: Арцебныя.

Гудовіч нават брывом не вядзе.

— Дрэнныя справы, брат Вярчэбны. Ты, выходзіць, за чатыры гады нават уласнае прозвішча не навучыўся пісаць.

Вярчэбны маўчыць.

— Ты, вядома, сядзеў на самай задняй парце?

Вярчэбны згодна ківае.

— Хто табе сшыткі падпісваў?

— Сястра.

— Няўжо ў трэцім і чацвёртым класе ў вас ніводнай дыктоўкі не было?

Вярчэбны зноў маўчыць.

Можа, узяўшы пад увагу гэты недарэчны прыклад, Гудовіч дае назаўтра пятаму класу рускі дыктант.

Надоўга запомніць Вася гэтую дыктоўку. Ніякіх асабліва цяжкіх слоў, здаецца, у дыктоўцы няма. Настаўнік чытае роўна, поўным голасам, робіць патрэбныя паўзы. Ды і тэкст знаёмы.

Памятаючы прачытаныя кнігі, Вася здагадваецца, якую дыктоўку падрыхтаваў Гудовіч. Ён чытае ўрывак з аповесці Пушкіна «Капітанская дачка»: «Я приближался к месту моего назначения. Вокруг меня простирались печальные поля и поляны...»

Някепска б зазірнуць у «Капітанскую дачку». Але дзе яе цяпер возьмеш. Каб ведаць загадзя.

З нецярпеннем чакае 5 «Б» клас вынікаў дыктоўкі. Тым болей што назаўтра настаўнік сшыткаў не прыносіць. Дзіва няма: у абодвух пятых класах амаль сотня чалавек, а Гудовіч выкладае яшчэ ў шостых і сёмых класах.

Нарэшце судны дзень настае.

Гудовіч прыносіць стус сшыткаў, кладзе на стол.

— Вось што, дарагія сябры,— пачынае ён зусім спакойна.— Ёсць усе падставы лічыць, што рускай мовы вы зусім не ведаеце. Хоць вучылі яе два гады. Пра якія адзнакі можна гаварыць, калі ў кожным слове некаторыя зрабілі па дзве і нават па тры памылкі.

Гудовіч не шкадуе часу на разбор дыктанта.

— Вярчэбны, устань. Ты, брат, пабіў усе рэкорды. У дыктанце сто дваццаць слоў, а ты зрабіў болей як трыста памылак. Нездарма ўласнае прозвішча не ўмееш напісаць. Думаю, у пятым класе табе рабіць нечага. Далажу пра гэта дырэктару школы...

Вярчэбны далейшых вынікаў не чакае. Маленькі, непрыкметны, ён нібы цень выслізгвае з класа, і болей ніхто ніколі не бачыць яго ні ў школе, ні нават паблізу яе.

Настаўнік па чарзе падымае тых, хто зрабіў па сто, па восемдзесят, па шэсцьдзясят памылак. Звычайныя местачковыя хлопцы і дзяўчаты. З ліку пяцікласнікаў, асабліва тых, якія разы па два былі другагоднікамі, ёсць такія, што парадкам вылюднелі. Некаторых дзяўчат дык хоць замуж выдавай. Але адкуль ім ведаць рускую мову, калі яны фактычна валодаюць толькі мовай местачковай, у якой у дзіўнай сумесі існуюць словы беларускія, рускія і нават украінскія. Ды ёсць яшчэ і мясцовыя слоўцы, якіх, відаць, ні ў адной мове не знойдзеш. Бо нават Вася заўважыў: што ні вёска, то свая мова. У Бабінавічах гавораць зусім не так, як у мястэчку. Там, гавораць, напрыклад, бульба, у мястэчку — картопля.

З нецярпеннем чакае Вася прысуду, які вынесе Мікалай Канстанцінавіч — так завуць настаўніка рускай мовы і літаратуры — ягонай рабоце. Сэрца як не выскачыць з грудзей: так моцна яно б'ецца. Ніколі Вася не думаў, што будзе хвалявацца з-за звычайнай дыктоўкі, якая, зрэшты, нічога не вырашае.

Тым часам Гудовіч не спяшаецца хваліць лепшых вучняў. А можа, іх няма зусім. Але ж нават у ліку тых, хто зрабіў па дваццаць, пятнаццаць, нават дзесяць памылак Гудовіч Васю не назваў.

Нарэшце чарга даходзіць да тых, каго можна лічыць нават героем гэтай, у літаральным сэнсе слова, славутай дыктоўкі. Толькі іх трое, і ў іх ліку Вася.

Алег Мікіценка, высокі, плячысты, з густа засеяным вяснушкамі шырокім, але прыемным тварам,— ён перавёўся з гарадской школы, бо яго бацька загадвае нейкай канторай,— зрабіў у дыктанце дзве памылкі, і Гудовіч паставіў яму «добра». Васю ды яшчэ Ані Кашуры, прыгожанькай, з ладным станам, ямачкамі на румяных шчоках,— «здавальняюча». Яны зрабілі па чатыры памылкі. Але Аня — другагодніца, і фактычна толькі Вася з усіх местачковых хлопцаў і дзяўчат не атрымаў «дрэнна».

— Я за вас не баюся,— толькі і пахваліў найбольш пісьменных па рускай мове вучняў Гудовіч.

Дыктоўкі паліліся за пяты клас як спорны дождж.

Мікалай Канстанцінавіч дае іх па дзве на тыдзень. Так цягнецца месяц, другі, трэці. І ўсё менш вучняў робіць па сто памылак і болей. Тыя ж, хто працягвае рабіць, пакрысе з пятага класа знікаюць. Відаць, не спадзяюцца адолець высокі бар'ер, які паставіў перад класам Гудовіч.

Розныя настаўнікі выкладаюць у пятым класе. Ёсць цікавыя, і ёсць нецікавыя. Жонка Гудовіча, Марыя Мікалаеўна Латыніна — бялявая, млявая ў рухах і павольная ў гаворцы, выкладае беларускую мову. Але пра яе нічога асаблівага не скажаш. Прыйдзе ў клас, раскрые журнал, адзначыць прысутных і адсутных. Выкліча двух ці трох вучняў. На адзнакі не скупіцца. Адным голасам перакажа змест апавядання, з якім трэба азнаёміцца, ці прачытае верш, які трэба вывучыць на памяць.

Акрамя Гудовіча найбольш выдатных настаўнікаў яшчэ два. Чорны, з доўгім закругленым на канцы, як у коршака, носам пераможна заходзіць у клас географ Антон Іванавіч Вярбіла. Ён малы, шчуплы, з вельмі непрыгожым тварам. Але ходзіць буйнымі крокамі, носіць моднае паліто, шляпу, нават у сухое надвор'е надзявае на туфлі галошы. Адным словам, Антон Іванавіч нават знешнім выглядам паказвае, што ён не абы-які чалавек і настаўнік.

Ён і ёсць не абы-які. У дадатак да вельмі някідкай знешнасці ён і голас мае нейкі скрыпучы, страшэнна картавы. Але гэтым картавым, драўляным голасам Антон Іванавіч робіць цуды. Педагог адменны. Што ёсць асабліва цікавага ў падручніку па геаграфіі для пятага класа? Нічога. Ну, ідзе там гаворка пра моры, акіяны, азёры і рэкі, даліны і горы, мацерыкі і астравы. Але хіба гэтым захопіш?

Антон Іванавіч захоплівае. Кожную з гэтых тэм уздымае на незвычайную вышыню, прыдае ёй нейкую асаблівую значнасць. Нібыта акрамя геаграфіі, апісання рэк, мораў, азёр не існуе болей ніякіх навук.

Дзіўныя казкі пра акаляючы людзей свет умее складаць Антон Іванавіч. Ён не проста настаўнік — артыст. Другога

такога трэба пашукаць. Дый ці знойдзеш. На адзнакі Антон Іванавіч, як і Латыніна, не скупіцца. Зачараваныя ім дзяўчаткі, якія рэдка калі ў дзённіку «чацвёркі» бачылі, у Антона Іванавіча лёгка атрымліваюць «выдатна». Як ружы, расцвітаюць у такія хвіліны дзяўчаткі.

Васю настаўнік геаграфіі з агульнай масы вучняў не выдзяляе. Можна сказаць, ігнаруе Васю чорны турак Вярбіла. Як бы ні адказаў, вышэй «здавальняюча» не паставіць.

Вася, аднак, не крыўдуе на Вярбілу. Геаграфіяй ён лішне не захапляецца. Гэта не руская ці беларуская літаратура, па якіх, калі б атрымаў «здавальняюча», згарэў бы ад сораму.

Барыс Майсеевіч Бушман, рудаваты, плячысты, з выгляду дабрадушны і памяркоўны, выкладае арыфметыку. Арыфметыка ў пятым класе нялёгкая. Рашэнне задач з адным і двума невядомымі, складаныя дробы, працэнты — усё гэта павінны асіліць стрыжаныя хлапчукі, шустрыя дзяўчаткі, якіх да гэтага часу навучала сама не надта моцная ў матэматыцы Марыя Рыгораўна.

Без апоры на вучняў, якія сёе-тое кемяць у матэматыцы, поспеху ў класе дабіцца немагчыма. Бо калі, напрыклад, рашае хто-небудзь на дошцы задачу і рашэнне заходзіць у тупік, павінен знайсціся хоць адзін вучань, здольны падказаць правільнае выйсце. Вася сяды-тады падказвае рашэнне і такім чынам трапляе ў актыў Бушмана. Тым часам Вася не галоўны матэматык у класе. Ім становіцца чарнявы, малы, як вузел, хлопец з суседняй вёскі Выселкі Грыша Чэкман. Няма задачы, каб Грыша не рашыў. Вася таксама рашае, нават самыя цяжкія задачы, але захаплення матэматыкай, як і геаграфіяй, у яго няма.

Ёсць яшчэ адна адметная настаўніца, якая навучае пяты клас. Гэта Ганна Уладзіміраўна Малевіч, якая вядзе нямецкую мову. Спачатку нямецкай мовай Вася цікавіцца, але першыя ўрокі гэтую ахвоту адбіваюць. Замест таго, каб перакладаць, пераказваць невялікія артыкульчыкі, змешчаныя ў нямецкім падручніку, навучыць задаваць самыя звычайныя пытанні: колькі табе гадоў, дзе жывеш, у якой школе вучышся,— Ганна Уладзіміраўна пачынае з дзеяслова «haben». Таўкуць гэты дзеяслоў тыдні два, можа, нават месяц, высвятляюць, як

спрагаецца «haben» у цяперашнім і мінулым часе, і пакуль усім гэтым займаюцца, цікавасць да нямецкай мовы знікае ў Васі канчаткова.

Ды і залішне слабавольная Ганна Уладзіміраўна. Дысцыпліну ў класе не ўмее трымаць зусім. Кволая, малая ростам, з тонкім далікатным тварыкам, яна нават накрычаць на парушальнікаў дысцыпліны не адважваецца. Іншы раз зрываецца на слабы жаночы піск. Але шыракаплечыя здаравілы — у пятым класе з ліку другагоднікаў сядзяць хлопцы гадоў па пятнаццаць — на гэты піск не рэагуюць. Нават брывом не вядуць.

Толькі што не б’юцца ў час урокаў Ганны Уладзіміраўны ў пятым класе. А так робяць што хочуць. Выконваюць дамашнія заданні, рыхтуюцца да наступных урокаў, хто з кім хоча размаўляе. Махнуўшы на навучанне нямецкай мовы рукой, Ганна Уладзіміраўна сядзіць за сталом і чытае кніжку.

Вася дзівіцца: гэтыя самыя вучні, у тым ліку пераросткі, на ўроку Гудовіча сядзяць так, што чуваць, як муха праляціць. Нібы мышы пад венікам. Вось што значыць сапраўдны настаўнік.

Аднойчы Ганна Уладзіміраўна дае пяцікласнікам дамашняе заданне: вывучыць на памяць нямецкі вершык. Сэнс невядомых, незнаёмых слоў не вытлумачвае, тэкст верша не перакладае. На пачатку Вася лічыць, што нельга запомніць тое, сэнсу чаго не ведаеш. Прыйшоўшы дамоў, разоў пяць прачытаўшы верш, Вася, зрэшты, даволі лёгка яго запамінае:

Kommt heraus aus dem Haus
Junge Sturmbrigaden!
Schnee und Eis, alles weiβ,
Vorwärts, Kameraden!

Не толькі Вася, але і шмат другіх пяцікласнікаў вывучылі верш на памяць. Можна, аказваецца, запомніць і тое, пра сэнс чаго нават не здагадваешся.

За вывучаны вершык Ганна Уладзіміраўна ставіць Васю «Sehr gut» — «вельмі добра». І за чвэрць гэтую адзнаку пакідае. Такім шляхам Вася становіцца выдатнікам у вывучэнні нямецкай мовы.

## XIV

Восень стаіць цёплая. У верасні сонца як у лагоднае лета. Па ржышчы буйна ўзыходзіць, нават расцвітае канюшына, якую ў папярэднім годзе на гэтым полі сеялі.

Вядома, школа стамляе, нават забівае прыродныя пачуцці, якія жывуць у душы. Нездарма пяцікласнікі носяцца на перапынках на пясчаным школьным двары на злом галавы. Галёкаюць, бораюцца, нават сядзяць адзін на другім. Вася такіх практыкаванняў не любіць, але ён таксама жывы чалавек.

Паколькі пяты клас ходзіць у другую змену, Вася шастае ў лес па грыбы. Шкада, далекавата ад мястэчка баравы лес. Гадзіну ці нават болей трэба да яго дабірацца. Так што да ўрокаў асабліва не разгонішся.

Птушкамі Вася цікавіцца цяпер менш, але ўсё яшчэ цікавіцца.

Урачысты, прыгожы вераснёўскі лес. Раніцай яшчэ туман вісіць між соснамі, марудна саступаючы месца сінявата-светлай празрыстасці, якая ўладна запануе праз гадзіну ці дзве. Настойліва цінькаюць у соснах птахі восені — сініцы. Нібы б'юць маленькімі далікатнымі малаточкамі па ценькіх струнах. Крэкне дзяцел, пералятаючы з хвоі на хвою. Паўсюдна між дрэвамі заснавалі свае разнастайныя кросны павукі. І трапляе яшчэ нешта ў павуціну: рознага памеру мухі і мушкі. Часам ужо і павук не вартуе сваю ахвяру, хаваецца ў якую-небудзь шчыліну, бо ноччу бывае халаднавата. Але ўсё яшчэ часта прыходзіцца сціраць павуціну з твару: яна нават як бы клеем змазана і прыліпае імгненна.

Усё прыгажэйшым робіцца асенні лес. Бяроза жаўцее, скідаючы лісток за лістком, чырвона-жоўтыя барвы ў купах асін, рэдкі ў мясцовым лесе клён палымнее, нібы вогнішча. Толькі дуб не спяшаецца мяняць зялёны ўбор, хоць і ў ягонай чупрыне праглядвае жаўцізна.

Далей Макаўскага лесу Вася не ходзіць: у школу можна спазніцца. Набірае як насмажыць сыраежак, іншай летняй і асенняй губы, бывае, некалькі баравічкоў вышуквае.

Школьнае жыццё зусім не падобнае на гэтае, якое цячэ ў лесе, полі. Тут яно ідзе само сабой. Ні ўрокаў, ні задач,

ні дамашніх заданняў. Ціха, прыгожа ў лесе ў любы час: ці то пад летнім сонечным, ці пад воблачным асеннім небам. Непадобнасць школьнага жыцця і жыцця прыроды асабліва Васю ўражвае. У адзін дзень можна сігануць у два зусім розныя светы са сваімі адметнымі, не падобнымі адзін на другі законамі.

Так, у школе — дысцыпліна, урокі, бясконцыя заданні, якія трэба выконваць. Там свет залежнасці, падпарадкавання. У лесе, на полі — воля. Рабі што пажадаеш, ідзі куды хочаш. Хоць, увогуле, гэта толькі так здаецца. Усюды трэба штонебудзь рабіць. Інакш памрэш з голаду.

Васю клопату хапае. Можа, таму ягоныя вандроўкі ў лес нібы свята душы. Бо кожны дзень перад урокамі трэба хлеба прынесці, пасля ўрокаў — украсці плашку ці дзве з дрывянога склада. Бо з таго часу, як бацька адвёў у чужы калгас каня, дроў на двары няма.

Цётка Аляксандра яшчэ ў сярэдзіне лета выбралася з двара. Дзедаву хату, гумно раскідалі, перавязлі на другі канец мястэчка. Не паладзіла цётка ні са сваім братам, Васевым бацькам, ні з маці, таму выбралася. Перад Васевай хатай цяпер чысты прастор, і бацька прарэзаў два акны на вуліцу.

Жыць робіцца ўсё горш і горш. У доме не сціхае сварка. Галоўным чынам з-за розных недахопаў. Хлопцы падрастаюць, патрабуюць усё болей харчу, вопраткі. Нават грошы, якія сям'я атрымлівае, здаўшы пад кантору другую, чыстую палавіну хаты, не ратуюць становішча. Маці дакарае бацьку, што не дбайны, не хандогі. Спіць, ідучы на дзяжурства, і прыйшоўшы, зноў цэлы дзень адпачывае. Другія мужчыны, маўляў, дбаюць лепей. Дастатак у іхніх сем'ях.

Сварка можа цягнуцца з раніцы да вечара, бо ні бацька, ні маці адзін другому не саступяць. Успамінаецца радня з аднаго і другога боку, хто якія меў пралікі ці ганьбу ў жыцці. Гэта каб даказаць уласную перавагу свайго роду.

Вася маці любіць болей, чым бацьку. Ён разумее: яна ў дзяцінстве, калі яшчэ не загінуў яе бацька, магчыма, жыла трохі лепей, чым цяпер. І бацьку мела болей увішнага, чым мужа. Усё гэта ніяк не можа забыць.

Зрэшты, маці і амаль з усімі суседкамі перасварылася. Праўдзівей, нават не перасварылася. Проста перастала іх паважаць і таму з імі не размаўляе. Апроч Ляпіцавай Мар'і, дзябёлай, дужай кабеты, яна жыве незапісаная са сваім Іванам Ляпіцай, які надзвычай чарку любіць, выпівае амаль штодзень, але затое і майстар на ўсе рукі.

Маці дзіўная. Яна мерае жыццё вельмі высокімі меркамі, таму не можа даравацць суседкам самых малых грахоў. І яшчэ ганарлівая маці. Крыўдзіцца за ўсялякую драбязу.

Вася ведае: маці хутка запальваецца, але гэтак жа хутка астывае. У яе добрае сэрца і спагадлівая душа. Гандляваць, прадаць, скажам, збанок малака маці зусім не ўмее. Аддае задарма. І грошы ў яе не трымаюцца. Калі завядзецца якаянебудзь пяцёрка, то маці ў той жа дзень яе і выдаткуе. Таму бацька выдае маці грошы па строгім разліку.

Такое жыццё, якое Вася бачыць вакол сябе, не вабіць яго. Таму ў яго нават думкі няма аставацца ў мястэчку пасля паўналецця. Што ён будзе тут рабіць? Дый што ўмее рабіць? Хвараваты, схільны да сваркі, рэдка калі задаволены бацька не перадаў Васю нават таго ўмельства, якім валодае. А бацька і шкапчыкі, і сталы для хаты парабіў, і розныя табурэткі. Яны хоць не вельмі зграбныя на выгляд, але служаць надзейна. Але нават такіх шкапчыкаў, табурэтак, каб прыйшлося, Вася змайстраваць не здолее.

Не адзін ён такі ў мястэчку. Такое амаль усё ягонае пакаленне, якое пайшло ў школу. Коней гаспадары здалі ў калгас, зямлю таксама. На скупых сотках, якія засталіся ў местачкоўцаў, асабліва ў тых, што служаць на чыгунцы ці ў іншых месцах, не навучышся араць, сеяць, збіраць ураджай. Толькі і расце цяпер бульба на прысядзібных участках. Ды яшчэ агуркі, капуста, буракі ў агародах.

Добра, што ёсць карова. Нарыхтоўваючы ёй корм, Вася ўмее грэбці сена, складваць у копы, нават касіць навучыўся. Паколькі ў доме няма дзяўчыны, а бацька з маці іншы раз выбіраюцца з дому, Вася сяк-так навучыўся нават жаночай рабоце. Ён умее падаіць карову, начысціць і зварыць бульбы, нават блінцоў напячы ўмее. Праўда, ягоныя аладкі, блінцы

досыць нягеглыя: прыгараюць, лёгка рвуцца на часткі. Але гэта ўжо дробязі.

Калі бацька з маці едуць у Маскву купляць корт, за дзецьмі прыглядае бабінавіцкая бабка. Але яна аднарукая і больш камандуе Васем, чым робіць сама.

Можа, таму Вася з такой ахвотай накідваецца на кнігі, што навакольнае жыццё не надта прыгожае і прыемнае. У кнігах зусім інакшы свет. Павабныя прасторы, далягляды, цікавыя, моцныя людзі. Ды і нельга сказаць, што ў кнігах адна няпраўда і выдумка. Ёсць, вядома, кнігі-казкі, але такіх Вася не любіць чытаць.

Наогул у кнігах Вася пераборлівы. Нецікавыя не чытае, адкладвае, адносіць у бібліятэку. Калі кніга вартая, то захоплівае з першых старонак. Дый слава аб кнігах ідзе між хлопцамі. За некаторымі трэба ганяцца, прасіць-маліць, каб далі хоць на адну ноч.

Увогуле час цікавы і жыць цікава. Кожны дзень прыносіць якую-небудзь навіну. Калі гэта было, каб так, як чалюскінцы, людзі імкнуліся да Паўночнага полюса, дрэйфавалі на льдзіне, лёталі праз полюс на самалётах. Хлопцы, дзяўчаты канчаюць школу, едуць у гарады, становяцца настаўнікамі, інжынерамі, лейтэнантамі. З мястэчка ўжо выйшла тры лейтэнанты: двое з іх у новых гімнасцёрках, бліскучых хромавых ботах, з партупеямі праз плячо прысутнічалі на школьным вечары. Вася таксама марыць пра прывабныя далі. Толькі спярша трэба скончыць школу.

## XV

У пятым класе многа цікавых хлопцаў і дзяўчат. Алег Мікіценка, плячысты, марудлівы, з густа засеяным вяснушкамі тварам,— той, што адзін на ўвесь клас напісаў рускую дыктоўку на «добра»,— адразу стаў набівацца да Васі на дружбу.

— Я ніякай граматыкі не вучу,— прызнаецца Алег.— Чытаю кнігі, і словы самі запамінаюцца.

Вася радасна ўздрыгвае. Хіба ён асабліва налягаў на граматыку, калі вучыўся ў трэцім і чацвёртым класе? Таксама,

як Алег, чытаў шмат кніг, таму робіць у рускіх дыктантах не больш трох памылак. Тым часам трэба не рабіць ніводнай.

Алег дае Васю пачытаць кнігу «Грач — птица весенняя». Ён да гэтага жыў у Гомелі, затым у Рэчыцы, добра апранут, гаворыць па-гарадскому, але вялікай уласнай бібліятэкі, як і Вася, не мае.

Алег захапляецца планерамі. Дастае, як можа, кардон, фанеру, клей. Васю планеры не цікавяць. Тым часам майстраваць змеяў ён любіць. З дзяцінства Васю вабіць высокае. Ён яшчэ ў школу не хадзіў, але ўжо любіў сядзець на даху хаты, побач з комінам, разглядаць з вышыні мястэчка. Ён і скакаць умее з гарышча, з вышыні трох-чатырох метраў, і гэта не ўяўляе ніякай небяспекі.

Васевы таварышы падраслі: вучацца ў пятым, шостым, нават сёмым класе. Яны па-ранейшаму сыходзяцца разам, пускаюць змеяў, рэдка гуляюць у «ялавага», «кругавога». Але штосьці рвецца ў старой дружбе. Адам астаўся на другі год у чацвёртым класе, і Вася абагнаў яго, хоць Адам і старэйшы. Тое ж з Пятром Васьмерыком, Міронам і Мікалаем Угоднікамі.

Да пятага класа не дацягнулі Павел Кірнач, Аркадзь Брыц, Янка з каменнай будкі — галоўныя завадатары вуліцы. Ілля Кісель кінуў школу яшчэ з другога класа, ледзь-ледзь навучыўшыся чытаць. Бывае, хто-небудзь з гэтых перарослых хлопцаў, што не вучацца ў школе і нідзе не працуюць, спрабуюць па-ранейшаму камандаваць пяцікласнікамі, шасцікласнікамі. Толькі не хоча паразумнелая талака ім падпарадкоўвацца. Нешта на свеце змянілася.

Вася па-ранейшаму ставіць на даху хлява пасткі на сініц. Толькі ён не ходзіць цяпер у школу ў другую змену, і калі ў пастку не трапіла сініца ці верабей да паўдня, ён пастку проста зачыняе. Няхай не палохаюцца птушкі, бо прыцемкам, калі Вася вяртаецца са школы, нават не разгледзіш, адчынена ці зачынена пастка.

Сямікласнікі — як дубы. У нядзелю некаторыя Цімохавы таварышы прыходзяць да яго дадому, іншы раз рашаюць разам цяжкія задачы па алгебры, геаметрыі, а найчасцей расказваюць смешныя гісторыі і рагочуць.

Цімох не надта любіць, калі Вася прыходзіць на зборы сямікласнікаў. Але Вася не зважае. З хаты Цімох яго не прагоніць, усё астатняе ён гатовы выцерпець. Бо дужа цікавыя для яго размовы старэйшых хлопцаў, іх сакрэты, імкненні.

З гурту Цімохавых таварышаў найбольш зычліва ставіцца да Васі Іван Гарошык, белабрысы, сярэдняга росту, з трохі адутлаватым тварам хлапчына, які славіцца ў школе як выдатны матэматык.

— Пакажы мне свае кнігі,— аднойчы просіць Іван.

Хвіліну перад гэтым Іван поркаўся ў Цімохавых кнігах. Цімох дзеля сваіх кніг спецыяльна збіў шкапчык з пагабляваных сасновых дошак, пафарбаваў шкапчык у зялёны колер і нават замочак прыладзіў: каб не торкалі ў ягоныя кнігі насы малодшыя браты і сёстры.

Вася лічыць: у Цімоха выдатныя кнігі. Некалькі кніг падаравала Цімоху школа за добрую вучобу. Сярод іх «Маці» Максіма Горкага, перакладзеная на беларускую мову, «Чапаеў» Дзмітрыя Фурманава і вялізная па памерах кніга са смешнай назвай «Ха!». Змешчаны ў ёй жартоўныя вершы, прысвечаныя беларускім паэтам: тое, што яны пішуць, як бы выкручана наадварот.

У Цімохавым шкапчыку — не толькі кнігі. Ён туды і спісаныя сшыткі складвае (Цімох вядзе сшыткі па ўсіх прадметах, нават па тых, па якіх пісьмовых работ няма), і самаробныя кнігі.

Самаробныя кнігі — рэч дужа цікавая. Газеты «Пионерская правда», «Піянер Беларусі» часам друкуюць з працягам у многіх нумарах апавяданні, аповесці. Цімох такіх твораў не прапускае. Ён іх вырэзвае нажніцамі з газет, склейвае старонкі, нават вокладкі прышывае.

Пасля Цімохавага шкапчыка Васю проста сорамна адкрываць перад Іванам Гарошыкам свой куфэрак, у якім сабраны вельмі небагаты скарб. Што ў тым куфэрку? У свой час Вася не здаў падручнік арыфметыкі за першы клас і чытанку за другі клас. З сапраўдных кніг у Васі толькі томік вершаў Някрасава: яго Вася знайшоў на станцыі, на лаўцы, калі нёс бацьку абед, кніга Ільфа і Пятрова «Золотой теленок» (яе нехта выкінуў з акна пасажырскага вагона, яна размокла на

дажджы, але Вася кнігу высушыў, расклеіў старонкі, якія пазліпаліся, і новую вокладку на кнігу прыладзіў).

Калі Вася вучыўся ў другім класе і не меў ніякіх кніг, ён наважыў перапісваць іх з кніг друкаваных. Яму вельмі спадабалася апавяданне «Пад царом», якое чытала на ўроку Марыя Рыгораўна. Запісаўшыся ў школьную бібліятэку і ўбачыўшы кніжачку «Пад царом», Вася ўзяў яе і цэлы месяц не здаваў у бібліятэку: перапісваў. Ён патраціў сем сшыткаў. Потым склеіў сшыткі пад адной вокладкай, намаляваў загаловак і нават некаторыя малюнкі перамаляваў.

У той жа год Вася і другую кнігу перапісаў: «Залаты ключык, ці Прыгоды Бураціна» А. Талстога. Бо вельмі яна яму спадабалася.

Ёсць у Васі яшчэ некалькі тоненькіх зборнічкаў беларускіх паэтаў, і сярод іх кніжачка «На залатым пакосе» Валерыя Маракова. Іх, калі вучыўся ў мясцовай школе першай ступені, прыносіў дзядзька Пеця. Папраўдзе кажучы, Вася проста адкраў гэтыя кніжачкі ад дзядзькі Пеці і цяпер мае ва ўласным карыстанні.

— У цябе лепшыя кнігі, чым у Цімоха,— раптам гаворыць Іван.— Асабліва гэтыя, якія перапісаў сам. Малайчына.

Вася вушам не верыць. Відаць, проста падхвальвае яго Іван. Бо ў Цімоха болей кніг і — галоўнае — яны лепшыя.

— Чаму лепшыя? — пярэчыць Іван.— У яго няма рукапісных кніг, няма Някрасава, «Золотого теленка». Гэта, брат, кнігі што трэба.

Някрасава Вася трохі чытаў, да «Золотого теленка» рукі яшчэ не дайшлі. Ды чаму цялё залатое? Ведае Вася, якія бываюць цяляты. Рудыя, белыя, чорныя, пярэсценькія, толькі не залатыя.

## XVI

Іван жыве на вуліцы імя Чангарскай дывізіі, якая ляжыць побач са станцыяй, чыгункай. Тая лава хат, на якой жыве Іван, вокнамі глядзіць на чыгунку, выходзячы агародамі на балоты, на Гарадзінку.

Хата Іванава ніштаватая, але недагледжаная, нават закіданая. Дом без гаспадара. Бо бацька маці пакінуў, пакінуў

дваіх дзяцей — Івана і гады на тры маладзейшую за яго сястру Ніну,— ажаніўшыся з другой, маладзейшай жанчынай. У мястэчку цяпер такія выпадкі — зусім не навіна.

Маці працуе на станцыі табельшчыцай, толькі і паспявае, бегучы на службу, усунуць у печ гаршчэчак з бульбай ці капустай. Так што Іван жыве горш за Васю. Ходзіць у нямытай кашулі, старых залапленых штанах. Не вельмі разгонішся на зарплаце табельшчыцы і тых скупых аліментах, якія вылічваюць з бацькавага заробку.

Калі Вася ўпершыню прыйшоў да Івана, пераступіў парог знешне някідкай хаты, ягоныя вочы пачалі разбягацца ад здзіўлення. Хата і знутры не надта ўражвае: даўно не беленыя сцены, абшарпаная печ. Затое кніг у гэтай не прыбранай з выгляду хаце процьма: яны ляжаць на стале, стусамі на вокнах, па кутках хаты, нават у шыйцы печы. У той жа час Іван пахваліў Васевы кнігі. Як гэта разумець? Ды, відаць, звычайна трэба разумець: Іван проста добры чалавек.

Вася бярэ ў рукі адну кнігу, другую, трэцюю. Усе яны ў добрых вокладках, пераважна дарэвалюцыйнага выдання. Класікі рускай літаратуры — Бялінскі, Гогаль, Ганчароў, Чэхаў.

— Дзе ты столькі кніг набраў? — міжволі вырываецца ў Васі.

Няма тайны ў Іванавым багацці. Частка кніг ад бацькі засталася. Бацька, які працуе на станцыі таварным касірам, любіў чытаць. Але ўсю рускую класіку — дадаткі да колішняга часопіса «Нива» — Іван ад дзеда прынёс. Ад дзеда Максіма, хутар якога на Блізкім Лядзе.

— Ведаеш, якія былі ў дзеда сыны! — захоплена выгуквае Іван.— Адзін камбат, другі камкор. Фактычна генералы. Памерлі абодва. Адзін атруціўся, другі ад туберкулёзу памёр.

Акрамя мёртвых сыноў дзеда Максіма, якіх Вася ніколі не бачыў, ён ведае двух жывых. Але на яго не робіць асаблівага ўражання шыракатвары задумлівы настаўнік Сяргей Максімавіч, якога часта можна бачыць каля будынка рускай школы — размешчана яна якраз насупраць новай двухпавярховай школы, якая будуецца. Гэтай школай, у якой, здаецца, ужо ёсць пяць класаў, Сяргей Максімавіч загадвае. Яго жонка, чорная, панурая хімічка, працуе ў беларускай школе.

І яшчэ адзін сын дзеда Максіма навідавоку. Ён ці то пракурор, ці то памочнік пракурора. Апранут ахайна, не ходзіць — бяжыць і чамусьці ўвесь час трасе галавой, паварочваючы яе, нібы птушка ўдод, ва ўсе бакі.

Да Івана Вася цягнецца з такой прагнай настойлівасцю, як не цягнуўся дагэтуль ні да аднаго свайго таварыша. У чым прычына? Можа, у тым, што Іван бачыць у ім роўнага. Не задзірае перад Васем нос і ніколі яго не зневажае. Бо нават сусед і далёкі родзіч Адам выхваляўся перад Васем сілай, а Цімох і цяпер глядзіць на Васю трохі звысака, бо вучыцца ў сёмым класе.

Вядома, яшчэ і з-за кніг цягнецца Вася да Івана. Бо іх у яго безліч. І кожны дзень можна ўзяць новую.

Толькі дзіўная рэч. Перайшоўшы з трэцяга ў чацвёрты клас, Вася прачытаў «Ціхі Дон» Шолахава, а затым «Вайну і мір» Л. Талстога. Цяпер, аднак, найбольш палюе за прыгодніцкімі кнігамі. На першым месцы сярод іх кнігі Жуля Верна. І не толькі Вася захапляецца фактычна дзіцячым чытаннем. Цімох, Іван Гарошык з вялікім захапленнем здабываюць кнігі Жуля Верна, Луі Бусенара, Майна Рыда, Фенімора Купера, Янкі Маўра. Дзяцінства нібы вяртаецца назад і бярэ з местачковых хлопцаў сваю багатую даніну.

Вася так захапляецца Жулем Вернам, што проста ім трызніць. Ён зусім не зважае, што кнігі Жуля Верна фантастычныя, гэта значыць цалкам выдуманыя, што людзі, падзеі, апісаныя ў іх, ніколі ў жыцці не існавалі.

Васю якраз і вабіць тайна, загадка, якую знойдзеш у кожным творы Жуля Верна. Пасля птушак кнігі Жуля Верна — найбольшае Васева захапленне.

Тым часам у бібліятэках Жуля Верна не возьмеш. Нават думаць не прыходзіцца. Добра, што ёсць на свеце Цімох і Іван Гарошык. Калі натрапляюць на Жуля Верна яны, то прачытае і Вася. Хоць на адну ноч дадуць. За Васем справа не стане. Колькі разоў было, што нават тоўстыя кнігі праглытваў Вася за ноч...

Пасля Жуля Верна пачынаецца паляванне на Дзюма: «Три мушкетера», «Виконт де Бражелон», «Двадцать лет спустя»...

Жуль Верн, Луі Бусенар, Дзюма нібы рвуць ніці ранейшай хлапечай дружбы. Бо ёсць хлопцы, якія чытаюць гэтыя кнігі

і якія не чытаюць. Тых, што не чытаюць,— большасць. На жаль, сярод іх амаль усе ранейшыя Васевы сябры: Адам, Пятро Васьмярык, Мірон, Мішка Бычок.

Чаму можа навучыць цяпер Васю Ілля Кісель, які быў верным дарадчыкам дзятвы на працягу некалькіх гадоў? На жаль, нічаму...

Слабнуць ніці былой дружбы. Вядома, з усімі ранейшымі сябрамі Вася мае добрыя адносіны. Яны па-ранейшаму сыходзяцца, гуляюць, разважаюць. Але ўжо ні да каго Вася не бяжыць з такой ахвотай, як да Івана Гарошыка. У выхадны дзень, у нядзелю, Вася ідзе да Івана Гарошыка, а затым разам з Іванам яны крочаць да Цімоха. Бывае, да Цімоха завітваюць іншыя сямікласнікі. Кола новых Васевых знаёмых пастулова пашыраецца.

У сёмым класе шмат цікавых хлопцаў. Высокія, рослыя, дасціпныя. Бадай усе яны ходзяць да Цімоха. За выключэннем, вядома, васьмікласнікаў. Тыя марку трымаюць. Розную драбязу нават блізка не падпускаюць да сябе, у тым ліку сямікласнікаў.

У адзін з тых дзён Вася, стоячы на станцыі на пероне, чуе цікавую размову іменна васьмікласнікаў.

— Ты чытаў раман Тургенева «Дым»? — пытае рослы шыракаплечы дзяцюк, якога ў школе завуць павелічальна — Іван Пракопавіч, у сына дырэктара школы Славы Геля.

— Не чытаў.

— Прачытай, брат. Тонка і дасціпна напісана пра каханне. Толькі Тургенеў умее так пісаць...

Вось якія размовы вядуць між сабой васьмікласнікі. Слава Гель — таксама відны хлопец: мае добры спартыўны выгляд і вучыцца добра, нягледзячы на тое, што бацька дырэктар. Вася ведае: васьмікласнікі рыхтуюцца паказаць п’есу «Любоў Яравая». Пяцікласнікі — не вучні трэцяга і чацвёртага класаў, якіх пускаюць толькі на ёлку. Перад імі не зачынены дзверы на школьныя вечары, на якіх паказваецца мастацкая самадзейнасць. Таму Вася з нецярпеннем чакае пастаноўкі васьмікласнікаў.

Старшакласнікі выпускаюць насценгазету, якая называецца «Школьны прамень». Якіх толькі штук не выкідваюць

у насценгазеце школьныя пісьменнікі, якія, бадай, усе з'яўляюцца членамі рэдкалегіі. Па-першае, яны свой групавы партрэт змясцілі ў насценгазеце. З малых фотакартак павырэзвалі толькі галовы, усё астатняе дамалявалі. Сядзяць за сталом гэткія веліканы з вялізнымі алоўкамі, пер'ямі і пішуць, пішуць...

У насценгазеце высмейваюцца ўсе недарэчныя выпадкі, якія час ад часу здараюцца ў школе, прычым у вельмі займальнай, часам нават вершаванай форме. У сёмым класе, дзе вучацца Цімох і Іван Гарошык, пабіліся два хлопцы. Звычайныя хлопцы, Вася іх ведае: Валодзя Трыгубовіч, хата якога размешчана каля новай школы, і ягоны недалёкі сусед Мішка Пінчук.

Школьны жывапісец удала вымаляваў тоўстую няўклюдную постаць Валодзі Трыгубовіча, які гоніцца за малым, нібы верабей, Мішкам.

Ізя Перэльман, сын аптэкара, рудаваты, трохі насмешлівы, але ўвогуле мяккі і добразычлівы,— ён таксама часам прыходзіць да Цімоха — зрабіў пад малюнкам, наследуючы Пушкіну, удалы подпіс:

И грянул бой, Полтавский бой...

У хаце Івана Гарошыка валадарыць не толькі кніга, а і штосьці іншае, што не меней вабіць і прыцягвае Васю. Іван у доме поўны гаспадар, і побач з ім не адчуваеш ніякай няёмкасці. Нездарма да яго валам валяць ягоныя равеснікі з вуліцы Чангарскай дывізіі, ніхто з якіх да сёмага класа, аднак, не дацягнуўся. Для іх Іван — нібы правадыр. Вуліца ляжыць побач са станцыяй, на ёй жыве многа новага, прыезджага народу, і дух авантуры, прыгодніцтва ўладна пануе на гэтай вуліцы.

Хлопцы з вуліцы Чангарскай дывізіі даўно шастаюць у клуб курсантаў аўташколы, дзе два ці нават тры разы ў тыдзень паказваюць кіно. Білетаў, вядома, не купляюць. Варта каму-небудзь аднаму з вуліцы Чангарскай дывізіі прашмыгнуць у клуб, як там будуць усе астатнія, хто наважыў паглядзець кіно, а білета не мае.

Курсанты аўташколы не любяць хлапцоў з Чангаркі. Можа, за тое, што тыя надта ім назаляюць. Лезуць, як роўныя, гуляюць з імі ў валейбол, нават більярд. Гоняць рослыя, дужыя аўташкольцы шпану з Чангаркі. Пры ўсіх выпадках, злавіўшы, кухталя даюць, вушы круцяць і наогул здзекуюцца незвычайна.

Дакуль жа будзе цярпець Чангарка?

Наспявае план помсты. Галоўныя яго выканаўцы белабрысыя, надзвычай шустрыя, рашучыя хлопцы Базыль Маленда і Антось Бандзюк. Вася ведае іх: вучацца ў шостым класе, нічым не вызначаюцца, але вельмі гучна крычаць, размахваючы рукамі, калі ў гаманлівай талацэ вяртаюцца са школы на сваю Чангарку.

План помсты нарэшце здзяйсняецца. Базыль і Антось такі высачылі, дзе прафшкольцы хаваюць мяч і валейбольную сетку. Астатняе — справа спрыту. І вось ужо сетка развешана на лугавіне між чыгункай і Чангаркай. Вася, несучы бацьку есці на далёкую будку, з зайздрасцю назірае, як адчайна бухаюць у мяч спрытныя хлопцы з Чангаркі.

На лугавіне — круг алешніку. Ён як бы хавае валейбольную пляцоўку ад чужога позірку.

Помста за знявагу працягваецца.

Хутка і аўташкольны більярд з усімі шарамі і кіямі прывалакла ў Іванаву хату жулікаватая шпана з Чангаркі. Няхай чухаюцца прафшкольцы.

Так, хлопцы горнуцца да Івана хутчэй за ўсё таму, што ён вольны і незалежны. І не накрычыць ні на кога: хочаш у валейбол гуляй, хочаш — у більярд, хочаш кнігу бяры.

Прафшкольцаў ніхто не шкадуе. Добра пераелі вантробы мястэчку. Цяпер яшчэ нішто, а ў галодныя гады па дварах, вуліцах шасталі, хапалі, што запарвуць. Дый дзяўчат многіх папсавалі будучыя шафёры. Пакінулі бедным дзяўчатам сыноў і дачок, а самі наўцёкі...

Восень яшчэ цёплая, і Вася спіць у хляве. Ноччу прачынаецца ад гучных літанняў:

— Ой, Дзімачка! Пусці, Дзімачка!..

Назаўтра Пятро Васьмярык пахаджвае па школьным двары, тлумачачы ўсім, хто мае ахвоту слухаць, сэнс начных

дзявочых літанняў. Аказваецца, прафшколец прыставаў да васьмікласніцы Лены, сястры Кузьмы Поклада. Можна сказаць, зняславіў нягоднік дзяўчыну. Праз некалькі дзён русявая, ціхмяная Лена, якая так добра на школьных спектаклях дэкламуе пісьмо Тацяны да Яўгенія Анегіна, знікае з мястэчка.

Час ад часу адбываюцца суды. Маладыя незамужнія дзяўчаты, якія гулялі з прафшкольцамі і нарадзілі ад іх дзяцей, падаюць на сваіх няўдзячных кавалераў у суд. Хочуць спагнаць з іх аліменты. Але што возьмеш з латруг і абарванцаў, якія палучаюць толькі стыпендыю, якой не хапае нават на тое, каб самім пракарміцца...

З Паўлам Кірначом, нядаўнім правадыром Васевай вуліцы,— бяда. Прасядзеўшы тры гады ў чацвёртым класе, не здолеўшы яго скончыць, Павел пакідае школу. На работу нікуды не ўладкоўваецца. Не трэба Паўлу работа, бо ягоны бацька, які працуе грузчыкам, добра зарабляе, двух сыноў якнебудзь пракорміць.

Павел шастае па вуліцах, сяды-тады даючы кухталя тым са сваіх нядаўніх дружбакоў, якія яшчэ год-два назад слова яму насуперак баяліся прамовіць, а цяпер, перагнаўшы Паўла ў вучобе, набраўшыся адвагі, робяць пры сустрэчы выгляд, што яго не заўважаюць.

Адзін з такіх, Федзька Шапятун, хата якога стаіць на мяжы ваколіцы і поля, дае Паўлу здачы. Кулаком у сківіцу. Рудаваты ціхмяны Федзька за апошнія гады вырас, пасталеў. Адчувае сілу, калі ўзяўся загрудкі з Кірначом.

Кірнач, аднак, меры не ведае. У такія хвіліны шалее. Ягоны брат Пецця не лепшы. Аднойчы стукнуў Васю па руцэ жалезным прэнтам, ледзь руку не пераламаў. Месяц ці нават болей рука балела, Вася не мог нічога ёй падняць.

Павел, не могучы адолець Федзьку ў звычайнай бойцы, выхоплівае з тына кол і з усяго размаху б’е сямікласніка па галаве. Забівае насмерць.

Вось так. Гэта ўжо не дзяцінства. Хоць Павел непаўналетні, яго арыштоўваюць, судзяць, даюць дзесяць гадоў лагераў.

## XVII

У канцы другой чвэрці школу пераводзяць у новае каменнае двухпавярховае памяшканне. Шкада старой школы, шырокага пясчанага двара, таполяў, якія сама ўзмахнулі сваімі шырокімі крыламі. З усім гэтым зжыўся Вася за гады навучання, і яно як бы стала часткай ягонай душы. Ды і ў прыгожым месцы стаяць будынкі старой школы: тут пагорак, пясок, добры краявід і ніколі не бывае гразі.

Новая школа таксама на пагорку. Прыгожы від адкрываецца з вышыні другога паверха. Мястэчка відаць як на далоні: бясконцыя лавы хат, скрыжаванні вуліц, пакрытыя зялёным мохам, трохі падгніўшыя гонтавыя дахі. Абсягі ваколіцы, далёкага шэрага лесу таксама праглядваюцца з вышыні другога паверха.

Школа, пабудаваная на месцы царквы, фактычна замыкае пясчаную базарную плошчу, на якой кожнага тыдня гандаль. На вялікім перапынку можна нават дамоў збегаць; калі кніжку забыў ці сшытак. Праўда, бегчы трэба агародамі, не пераводзячы дух. Вуліцай ад званка да званка не паспееш.

Пятаму «Б» класу, у якім вучыцца Вася, як заўсёды, не шанцуе. Яго размяшчаюць на другім паверсе ў выступе паўночнай сцяны будынка. Гэта адзінае ў школе памяшканне, вокны якога выходзяць на паўночны бок, а халодныя вятры абвяваюць аж тры сцяны. Цяпла адзінай грубкі, якая атапляе досыць прасторнае памяшканне, мала, і ў класе холадна, як у склепе. Сядзіш на ўроку і пры дыханні бачыш, як пар з рота выходзіць. Большасць вучняў не распранаецца. Але ў Васі няма добрага палітончыка і, саромеючыся яго выгляду, ён сядзіць у пінжачку.

На перапынках пяцікласнікі грэюцца ў калідоры ці ў пяты «А» забягаюць. Там цёпла.

Усё-такі хораша ў новай школе. Доўгія калідоры, белыя сцены, мноства вокан. У гонар завяршэння першага паўгоддзя ў актавай зале наладжваецца канцэрт мастацкай самадзейнасці. Хораша вытанцоўваюць школьныя дзяўчаты, нават пяцікласніцы. Васю даўно кінулася ў вочы новая вучаніца Маня Верхаводка, гнуткая, як яшчарка, з белымі

мяккімі, як лён, валасамі, трохі зеленаватымі вачамі, якія неяк незвычайна свецяцца. Яна прыйшла ў пяты клас з пачатковай школы, размешчанай на другім канцы мястэчка.

Вася ловіць сябе на тым, што пастаянна думае пра Маню. Ён хвіліны не можа пасядзець, каб не зірнуць на яе круглы, павабны, густа засеяны вяснушкамі тварык. Маня імклівая і мітуслівая. На перапынках бегае па класе, калідоры, абдымаецца з сяброўкамі, звонка, залівіста рагоча. Можа, і падабаецца Маня Васю за тое, што такая непаседлівая. Вучыцца дзяўчына не надта, але на гэта Вася не звяртае ніякай увагі.

Усеагульную ўвагу заваёўвае Маня на вечары мастацкай самадзейнасці. Яна, апранутая ў сіні сарафанчык, выходзіць танцаваць «Крыжачок» адна і з такім спрытам і бляскам выконвае гэты танец, што літаральна зачароўвае ўвесь зал. Мані горача апладзіруюць не толькі пяцікласнікі, але нават васьмікласнікі, настаўнікі, бясконца выклікаючы яе на сцэну.

Штосьці балючае варухнулася ў Васевых грудзях. Маня такая цікавая, прыгожая, на яе ўсе глядзяць, захапляюцца, і далёка да яе Васю...

Наплываюць новыя падзеі, і яны таксама не надта вясёлыя. Захапляецца Вася беларускімі кнігамі, глытае, калі дастае, адну за другой, але ўсё адно ні «Дрыгвы» Якуба Коласа яшчэ не прачытаў, ні «Сокаў цаліны» Цішкі Гартнага. Цяпер апошнюю кнігу, відаць, ніколі не прачытае.

Бо настаўніца Латыніна, жонка Гудовіча, якая выкладае ў пятым класе беларускую мову і літаратуру, загадала заклеіць у падручніку партрэты Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Міхася Чарота. Яны, аказваецца, ворагі народа.

Настаўніца нічога не тлумачыць, а вучні не распытваюць. Бо некалькі «ворагаў народа» ёсць і ў мястэчку. Бацькі арыштаваны, дзеці вучацца ў школе, і ніхто нічога благога ім не робіць. У пятым класе ёсць ціхмяная і вельмі разумная, з худым белым задумлівым тварыкам, дзяўчынка Шура Панцялеенка. Які б настаўнік ні выклікаў Шуру, яна заўсёды ведае ўрок. Дык вось бацьку Шуры таксама арыштавалі.

Наогул дзіўныя справы творацца на свеце. Не паспеў выйсці падручнік па гісторыі СССР для 3-4-х класаў (яго і ў пятым класе вывучаюць), як у ім таксама трэба заклейваць

партрэты ворагаў народа. Хто б мог падумаць, што сярод іх апынуцца нават славутыя маршалы — Тухачэўскі, Блюхер.

Пра арышты ворагаў народа Вася стараецца не думаць. Відаць, нейкая віна за гэтымі людзьмі ёсць. Вось жа церпіць паражэнне рэспубліканская армія ў Іспаніі, якая ваюе з генералам Франка. Чаму церпіць? Бо ў наяўнасці здрада. Цёмныя сілы наносяць рэспубліцы ўдар у спіну.

Васевы справы ідуць угору. Усё часцей ягонае прозвішча як выдатніка вучобы настаўнікі называюць на класных і нават на агульнашкольных сходах. У другой чвэрці Вася піша рускія дыктоўкі на «добра», а ў трэцяй і чацвёртай — пераважна на «выдатна».

Навучыў-такі Гудовіч Васю рускай мове. І не аднаго яго...

Зацяты турак-географ нарэшце таксама заўважае і ацэньвае Васю. Тут, бадай, Жуль Верн дапамог. Адказвае Вася аднойчы на ўроку геаграфіі пра вятры і столькі называе такіх, якіх і ў падручніку нават няма. Географ аж вочы ад здзіўлення вытрэшчвае. Толькі дзіва няма. Героі Жуля Верна столькі вандруюць па морах-акіянах, і столькі розных вятроў дзьме ў ветразі іх караблёў, што не запомніць хоць некаторыя з іх Вася проста не мог.

На тым самым вечары, дзе Васю выдаюць пахвальную грамату, выступае мастацкая самадзейнасць, а ў ёй зноў найбольш выдзяляецца вучаніца іхняга класа Маня Верхаводка.

## XVIII

Наступае лета, канікулы, Вася цяпер не сустракае Маню, але ўсё адно ўвесь час пра яе думае. Гэта як насланнё. Вася нічога не ведае пра шуструю, імклівую дзяўчынку, ні разу з ёй не пагаварыў, але яна нейкім цудадзейным шляхам завалодала яго душой, думкамі, імкненнямі, і нічога зрабіць з сабой Вася не можа. Тым болей што думаць пра Маню прыемна, нейкае асаблівае зіхатліва-радаснае пачуццё напаўняе ў такія хвіліны ўсю Васеву істоту.

Няўжо Цімох ці Іван Гарошык гэтак жа думаюць пра дзяўчат? Здаецца, не, відаць, адзін Вася такі нягодны, што ўжо ў пятым класе па вушы закахаўся.

Летам, у час канікулаў, на заработкі Вася ідзе не на чыгунку, а ў лес, на прасвятленне дубкоў, а калі выходзіць з лесу, то бачыць атуленае лугавінай аколіцы бяскрайняе зялёнае мястэчка. На паўднёвым канцы мястэчка Маніна хата. Вася ведае, у якім месцы яна стаіць: дазнаўся ў час першамайскай дэманстрацыі. Толькі Вася ніколі не падыдзе да Манінай хаты. Да яе самой таксама не падыдзе. Ён перайшоў толькі ў шосты клас, і рана думаць пра такія рэчы, як каханне. Рана і сорамна.

Прыгожая летам лугавіна, і само мястэчка, калі выйдзеш з лесу, здаецца таксама надзвычай прыгожым. Апаясанае зелянінай садоў, прысадаў, як бы ахутанае наміткай сіняватай смугі. Здаля яно нагадвае вялізны зялёны востраў. На процілеглым канцы гэтага зялёнага вострава жыве Маня.

На лета Вася выпісвае не «Піянер Беларусі», не «Пионерскую правду», а газету для дарослых — «Звязду».

Дома па-ранейшаму дрэнна. Штодзённа сваркі, калатнеча, і Вася думае, што пасля сканчэння сямігодкі ён абавязкова куды-небудзь з мястэчка паедзе. Паступіць у тэхнікум ці хоць на курсы. У «Звяздзе» якраз і друкуюцца такія аб'явы. Так што будучую прафесію Вася можа абдумаць загадзя. Пасля сямігодкі нават на настаўніцкія курсы можна паступіць. Правучышся тры месяцы і выкладай у пачатковай школе. Можна як-небудзь прыладзіцца і, працуючы, скончыць сярэднюю школу.

Вася чытае «Звязду» з ахвотай. Тон матэрыялаў, якія ў газеце друкуюцца, высокі і захапляльны. Краіна і рэспубліка штодня ўздымаюцца на новыя вяршыні. Толькі і трывожныя ноткі мільгаюць. Самагубствам пакончыў жыццё старшыня ЦВК БССР Чарвякоў. І толькі тры скупыя радкі ў газеце пра гэта надрукавана. Як бы гэта самая звычайная справа.

Дык вось Вася працуе на прасвятленні дубкоў. Заработак тут вышэйшы, чым на чыгунцы. І працаваць цікава.

Прасвятленне робіцца каля Кротавага хутара, дзе адна за другой цягнуцца паляны, густа зарослыя маладымі гонкімі бярозамі і асінкамі. Між іх ледзь бачна вытыркаюцца маленькія нягеглыя дубкі.

Васю шкада вынішчаць прыгожыя дрэўцы дзеля дубкоў, недаросткаў. Невядома яшчэ, што з іх будзе. Могуць зноў падняцца новыя дрэўцы і абагнаць у сваім росце дубкі. Што тады — яшчэ раз рабіць прасвятленне?

Вася не тоіць думак перад таварышамі. Іншы раз нават спрабуе выказаць іх у жартоўнай форме:

— Даруй, бярозка, што я цябе ссяку. Так начальнікі загадваюць. Ды і мне трэба капейку зарабіць. Можа, пасадзілі дубкі не на тым месцы, дзе трэба. А вы вот самі нараслі. Таму вас ссякаю...

Кузьма Поклад пацвельваецца з Васі:

— Бярозкі, асінкі шкадуеш. Малітву перад кожнай прамаўляеш. Бо кніжак начытаўся. Я даўно ведаю: кнігі да дабра не давядуць...

— Ведаеш, канечне,— у тон яму адказвае Вася.— Сем гадоў вучыўся і скончыў чатыры класы. Меў час падумаць...

Палуднаваць хлопцы выходзяць да Кротавай будкі. Вася даўно ведае гэтую мясціну. Яшчэ з тых дзён, калі хадзіў у лес па суніцы. Стары дзівакаваты Крот, які заўсёды апранаецца толькі ў даматканую вопратку — белыя льняныя штаны і сарочку, белую суконную світку, і нават шапка-кучомка з белай аўчыны,— абраў шырокую лясную паляну пад жытло. Сее авёс, ячмень, пшаніцу. У калгас, вядома, не пайшоў. Мясціна далёкая, належыць да лясной гаспадаркі, і дзівакаватага Крата ніхто не чапае.

Ён абжыўся тут. Выкапаў студню, копанку. Ветлівы з усімі, хто завітае ў лес. Частуе церпкім ад скіслых хлебных скарынак бярозавікам. Можа і кубак малака вынесці.

Зрэшты, не такая ўжо глухая мясціна Кротава паляна. Побач чыгунка і будка, у якой таксама жывуць людзі.

Дамоў прасвятляльнікі дубкоў вяртаюцца праз ваколіцу. Спрацаваныя, стомленыя, яны, аднак, усю дарогу пацвельваюцца адзін з другога, падпускаюць кепікі і жарцікі.

У адзін з тых дзён Вася выходзіць з лесу і вачам не верыць. Ля ўскрайку дубняку, каля калгасных кашар пасе статак Маня Верхаводка. Паверх знаёмага сіняга сарафанчыка яна накінула нейкі пінжачок, пушыстыя белыя валасы развейвае вецер.

Вася не ведае, што рабіць. Ён не можа паказацца Мані ў парваных штанах, сарочцы, у стаптаных лапцях. І назад, у лес, ходу няма. Маня, вядома, яго ўжо заўважыла.

Убіўшыся ў гурт хлопцаў, Вася клыпае сам не свой. Нават глядзець у Манін бок баіцца. Калі параўноўваецца з пастушкай, не вытрымлівае, глядзіць у яе бок. Не Маня гэта — аказваецца. Зусім незнаёмая, чужая дзяўчына. І зусім не прыгожая. З пасечаным воспаю тварам, адвіслай губой.

Так, Вася заўважае за сабой гэтае дзівацтва. Уявіць штонебудзь, і тады яму здаецца, што гэта іменна так і ёсць.

У сярэдзіне лета — нечаканасць. Раённая газета «Уперад да камунізму» надрукавала артыкул пад гучным загалоўкам «Варожая сямейка». З артыкула высвятляецца, што ў школе звіла гняздо банда нераскрытых, нявыяўленых ворагаў народа, якія, замест таго каб навучаць дзяцей у духу высокіх савецкіх ідэалаў, забіваюць іх галовы ўсялякай лухтой і хлуснёй. Да ліку ворагаў аўтар артыкула — прозвішча яго незнаёмае — адносіць дырэктара школы Геля, бо ён быў у царскай арміі афіцэрам, выкладчыка рускай мовы і літаратуры Гудовіча, бо ён, аказваецца, сын жандара, і настаўніцу нямецкай мовы Ганну Уладзіміраўну, якая названа ў артыкуле памешчыцай. У артыкуле так і напісана: «У школе арудуе памешчыца Малевіч».

Васю ў гэтым месцы артыкула нават смешна робіцца. Як можа на што-небудзь паўплываць ціхмяная, бязвольная Ганна Уладзіміраўна, якой ніхто не падпарадкоўваецца, не слухае якой і робіць на яе ўроках што захоча?

А Гудовіч? Ніякай хлусні і лухты Вася ад яго не чуў. Выдатны настаўнік. За адзін год навучыў пяты клас рускай мове.

Да пачатку заняткаў Геля і Гудовіча арыштоўваюць. Значыць, яны таксама ворагі народа.

## XIX

У шостым класе працягваецца тое, што было ў пятым. Школа харошая і настаўнікі някепскія. Толькі вось рускую мову і літаратуру ў шостым класе вядзе зусім нягеглы настаўнік. Нізкі і тоўсты, як вулей, Сямён Іванавіч

Дарафеенка — так завуць настаўніка — нават не спрабуе вучням што-небудзь тлумачыць.

Прыйдзе ў клас, сядзе за стол і чытае з падручніка. Слова ў слова. І двух лабатых, падобных да сябе сыноў пасадзіў у шосты «Б» клас. Сыны гэтыя суцэльныя лодыры і абібокі. Ні да якіх урокаў не рыхтуюцца, нічога не ведаюць. Хіба могуць быць у настаўніка такія сыны?

І ў сваіх пачуццях да Мані Верхаводкі Вася расчараваўся, як толькі прыйшоў у шосты клас. Яна, аказваецца, звычайная круцёлка. Садзіцца хлопцам на плечы і радасна рагоча, нават нагамі дрыгае ў паветры, калі хлопцы носяць яе па класе.

Хто з сур'ёзных хлопцаў захоча мець справу з такой вось круцёлкай?

Вася наважвае не думаць пра Маню, і гэта яму лёгка ўдаецца. Назаўтра яна для яго не існуе.

Усё болей захапляецца Вася грыбамі, пашыраючы абсягі сваіх лясных вандраванняў. Ён не баіцца адысціся ад мястэчка за восем і нават дзесяць кіламетраў. Цвітуць верасы, гамоняць з вятрамі рэдкія, гонкія на верасовых абсягах хвоі. Вася думае пра будучыню. Яна ўяўляецца ружовай і прывабнай. Ужо некалькі хлопцаў, скончыўшы восем класаў, падаліся ў ваенныя вучылішчы. Можа, і Васю так зрабіць? Цімох і Іван Гарошык, хоць услых не гавораць, здаецца, таксама збіраюцца паступаць у ваенныя вучылішчы. Зрэшты, ім, як і Васю, не так лёгка жывецца.

Цімохавай сям'і, як мнагадзетнай, дзяржава дала дзве тысячы рублёў дапамогі. За гэтыя грошы маці нашыла сынам і дочкам сукенак і штаноў, а бацька купіў патэфон. Цяпер кожны дзень у Цімохавым доме гучыць музыка. Якіх толькі выдатных песень і мелодый не наслухаешся ў Цімоха! Вася прагна ўбірае іх у душу, і здаецца, яны спецыяльна складзены пра час, у які ён жыве.

У раённым Доме культуры — так цяпер называецца складзены з царкоўных бярвенняў клуб — амаль кожны дзень кіно. Фільмы выдатныя: «Если завтра война», «Истребители», «Девушка с характером», «Свинарка и пастух».

Грошай няма, але ў шостым класе ёсць вельмі някепскія чарцёжнікі. Такі білет вымалююць, што ад сапраўднага нават калі захочаш не адрозніш.

Мацнее Васева дружба з Іванам Гарошыкам. У доме Цімоха рагочуць хлопцы-васьмікласнікі. Адзін з іх, Мікалай Бусел, які ніяк не мог навучыцца рускай мове і ўсё паўтараў суфіксы і прыстаўкі, бялявы рослы, надзвычай ціхмяны, нечакана падаў заяву ў лётнае вучылішча. Ён здолеў здаць экзамены і застаўся вучыцца ў далёкім заволжскім горадзе.

Вясной, калі ўжо наступіла апошняя чвэрць, з турмы нечакана выпускаюць дырэктара Геля і настаўніка рускай мовы Гудовіча.

У шостым класе Гудовіч стаў выкладаць ужо беларускую мову.

Ён зрабіўся яшчэ больш нешматслоўны, пахудзеў, на шэрым твары глыбока запалі шчокі і выступілі сківіцы.

Памятаючы пяты клас, шасцікласнікі чакалі ад Гудовіча цуду. Бо такі ён выдатны настаўнік. Але цуду не паўтарылася. Гудовіч і беларускую мову выкладаў добра, талкова, але ранейшы бліскучы запал як бы страціў.

Прыняўшы ў шостым класе экзамен, Гудовіч з жонкай-настаўніцай з’ехалі з мястэчка ў іншае месца.

*1991*

# ПАДЛЕТАК

## Частка першая

### ЛЕС

#### I

Летам, на канікулах, Васіль, як і раней, працуе ў рамонтнай брыгадзе. Людзі знаёмыя і работа знаёмая: падбіваць баласт пад шпалы, збіваць стыкі рэек, часам замяняць рэйкі і гнілыя, збуцвелыя шпалы.

Маючы заробак, Васіль выпісвае на другую палавіну года «Звязду». Ён адчувае сябе амаль дарослым. Тым часам газета цікавыя матэрыялы друкуе. Справа, аднак, не толькі ў

матэрыялах. На апошняй паласе газеты змяшчаюцца аб’явы наконт розных навучальных устаноў. Не выключана, што сёмы клас стане для Васіля апошнім. Бо жыць робіцца цяжэй і сядзець па-ранейшаму на бацькавай шыі Васіль не хоча. Трэба прабіваць уласную сцяжыну.

У сям’і не толькі тры хлопцы, але і дзяўчына ёсць. Нарадзілася хваравітая, кволенькая, і яе бясконца возяць па бальніцах, дактарах. Гэта каштуе грошай.

Бацькі шукаюць выйсце з нястачы. Ціхая, непрыкметная кантора «Заготлён» з чыстай палавіны хаты выбіраецца. Яе месца займае кантора больш дзейсная, багацейшая — «Плодагароднiна». Тая самая, дзеля якой, адрэзаўшы частку Васілёвага агарода, пабудавалі вялізную нарыхтоўчую базу. «Плодагародніна» будзе больш плаціць за арэнду памяшкання і прыплачваць маці як прыбіральшчыцы.

Але і за цэнамі не ўгонішся. Васіль памятае: не так даўно яму купілі хромавыя чаравікі на скураной падэшве за дзесяць рублёў. Цяпер такія і за дваццаць не купіш. І няма больш скураных падэшваў — гумавыя.

Васіль нават трохі смуткуе, што паступова робіцца дарослым. Далей і далей адыходзіць пара бесклапотнага дзяцінства, розных прыгод, захапленняў. Васіля цяпер мала цікавяць птушкі, толькі зрэдку ён клеіць змеяў і зусім не бегае на выган да хлопцаў.

Петрыка Васіль нават пальцам не кранае. Той болей не лямантуе, не енчыць, каб дачакацца маці і бацькі і наклікаць на Васілёву галаву кару.

Цяпер Васіль выступае міратворцам, калі ўсчынаецца бойка паміж Петрыкам і малодшым братам Сяргеем.

Ілля Кісель, ці Чыгун, па-ранейшаму збірае на выгане дзятву, навучаючы яе ўсялякаму патрэбнаму дзелу. Паўтараецца гісторыя: цяпер у талаку бегае Петрык, Сяргея, як некалі Васіль Петрыка, у сваю кампанію не пускае. У жыцці, відаць, ёсць цвёрдыя законы, якія перадаюцца ад чалавека да чалавека.

Васіль нават цяпер канчаткова не развітаўся з «Пионерской правдой». Яна будзе ісці да канца года. Яму шкада гэтай малой па фармаце, са шматлікімі фотаздымкамі, малюнкамі

газеткі. Больш года яна друкавала раман Адамава «Тайна двух океанов». Васіль вырэзваў з газеты кавалачкі тэксту і сшываў у асобную кнігу. Удзельнічаў ён і ў гульні-адгаданцы, якую вяла газетка: «Что вы знаете об этом путешественнике». Прозвішча падарожніка не называлася, не называліся мясціны ягоных вандровак, і толькі па агульных апісаннях трэба было вызначыць абсягі, даследаваныя падарожнікам, і ягоныя на гэтых абсягах адкрыцці.

Якога-небудзь прыза Васіль не заваяваў. Аднак былі падарожнікі — Амундсен, Міклуха-Маклай, Пржавальскі,— пра адкрыцці якіх ён правільна адказаў на ўсе пытанні, не страціўшы ніводнага ачка. Найгорш атрымалася з даследчыкам Афрыкі Стэнлі і падарожнікам Васка да Гама. Не было дзе прачытаць пра гэтых вандроўнікаў, а ў падручніках па геаграфіі пра іх сказана вельмі мала.

Васіль і цяпер хавае восем паштовых картак, прысланых з рэдакцыі. У іх яго нязменна называюць «дарагі Вася» і толькі адзін раз «дарагі Васіль». Гэты «Васіль» неяк непрыемна ўражвае.

Шкада «Пионерской правды». Шустры, увішны, трохі крываногі паштальён Якімчык, дзед Цімоха Стрыжа, болей не крыкне, сустрэўшы Васіля на вуліцы:

— Палучыце «Піянерачку». Свежая, толькі што з Масквы...

Так, раней Васілю хапала «Пионерской правды», каб ведаць, што дзеецца на свеце. У невялікай, спярэшчанай малюнкамі, фотаздымкамі газетцы пісалі пра чалюскінцаў і папанінцаў, пра пералёт праз Паўночны полюс Чкалава, Байдукова і Белякова, пра першых стаханаўцаў. І пра шпіёнаў многа пісала «Пионерская правда». У прыватнасці пра тое, як каля граніцы іх затрымліваюць піянеры і школьнікі. Можа, па гэтай прычыне Васіль даволі лёгка ўспрыняў арышт некалькіх мясцовых чыгуначнікаў. Яны людзі не мясцовыя, у Першую сусветную вайну, калі немцы захапілі Баранавічы, прыехалі ў мястэчка і тут аселі, пабудавалі дамы, пасадзілі сады. Баранавічы цяпер пад Польшчай, і Васіль дапускае, што гэтыя чыгуначнікі аб сім-тым сігналізавалі Пілсудскаму. Не будуць жа іх арыштоўваць проста так.

Калі гаварыць сур’ёзна, то да апошняга часу Васіля мала цікавіла палітыка. За птушкамі, кнігамі ён свету белага не бачыў. Можа, па гэтай прычыне Васіль не аддаваў належнай увагі грамадзянскай вайне ў Іспаніі і яшчэ менш — італа-абісінскай вайне. Ну, ідуць жорсткія баі пад Уэскай, Сарагосай. Гарады пераходзяць з рук у рукі. Ну і што? У «Пионерской правде» выразна напісана: «Но пасаран» — «Яны не пройдуць». Гэта значыць — фашысты. Таму за Іспанію Васіль быў спакойны. Ды і далёка Іспанія ад савецкіх граніц. Нават Мюнхенская здрада не выбіла Васіля з раўнавагі. Ясна ўсім: Савецкі Саюз хацеў заступіцца за Чэхаславакію, але нават яе прэзідэнт Бенеш не пажадаў дапамогі Чырвонай Арміі. Няхай цяпер цалуюцца з Гітлерам Чэмберлен, Даладзье і астатнія, хто дазволіў фашыстам расшкамутаць Чэхаславакію.

Уварванне Гітлера ў Аўстрыю, якое адбылося ў тым жа трыццаць восьмым годзе, Васіля, аднак, уразіла. На гэта была асаблівая прычына.

Прыводзячы ў хату дзяжурнага па станцыі Тупікава, частуючы яго, каб менш прыдзіраўся, бацька аднойчы разам з дзяжурным запрасіў і парторга станцыі Рымарчука. Бацька лічыўся спачуваючым, наведваў партыйныя сходы і, рыхтуючыся паступаць у партыю, нават сямігодку для дарослых скончыў.

Зусім зразумела, чаму ў Васілёвай хаце апынуўся Рымарчук. Відаць, бацька хацеў і ад парторга мець сякую-такую падтрымку.

Рымарчук — сярэдняга росту, з круглым сімпатычным тварам і трохі лысаваты. Вопратка вайсковая: шарсцяная гімнасцёрка, сінія штаны-галіфэ, на нагах — начышчаныя да бляску хромавыя боты.

Гарэлкі парторг амаль не п’е, мала есць і, адышоўшы ад стала, заводзіць гаворку з Васілём. Ён пытае, якімі кнігамі Васіль цікавіцца, і, відаць, здзіўляецца, што сын стрэлачніка даволі начытаны. Рымарчук і глыбей капае: ці чытае Васіль кнігі пра рэвалюцыйную барацьбу. І тут Васіль не падкачаў. Ён называе раманы Белы Ілеша «Ціса гарыць», Вілі Брэдэля «Выпрабаванне», Янкі Маўра «Аповесць будучых дзён»,

«Авадзень» Войніч і яшчэ некалькі іншых. Рымарчука асабліва ўсцешыла, што Васіль чытаў «Прыгоды бравага салдата Швейка» Яраслава Гашака.

— Ты малайчына,— хваліць ён Васіля.— Чытай, браток, і далей. Кнігі ніколі не падвядуць...

Васіль прызнаўся Рымарчуку, што пасля сямігодкі, відаць, паспрабуе куды-небудзь пастурiць. Бацьку цяжка. Зарплата малая, сям'я вялікая.

Рымарчук пасур'ёзнеў:

— Лепш бы ад сям'і не адрывацца. Думаеш, аднаму будзе лягчэй? Стыпендыя ў тэхнікуме невялікая. Дый час, браток, неспакойны.

Неяк зусім нечакана Рымарчук пачаў расказваць пра сябе. Ён гаварыў так горача, з такім шчырым хваляваннем, што Васіль адчуў: адзінокі чалавек. Верыць Васілю і як бы нават перад ім спавядаецца.

Яшчэ чатыры гады назад Рымарчук быў у Аўстрыі. Займаўся падпольнай рэвалюцыйнай работай, удзельнічаў у паўстанні шуцбунда — арганізацыі сацыял-дэмакратаў, да якой у час паўстання далучыліся камуністы. Паўстанне было жорстка падаўлена, можна сказаць, захлынулася ў крыві. Рымарчуку разам са жменькай другіх паўстанцаў удалося ўцячы ў Савецкі Саюз.

Рымарчук вельмі добра гаворыць па-руску, акцэнту не адчуваецца ні на кропельку. Пра тое, ці жыў ён у Аўстрыі, ці яго туды паслалі, не сказаў. Васіль вырашае: паслалі. Чуткі ходзяць: у іспанскім небе змагаюцца з фашыстамі і савецкія лётчыкі. А колькі іншых добраахвотнікаў ваюе на іспанскай зямлі. То і ў Аўстрыі магло быць так.

— Канчай сямігодку,— раіць Васілю Рымарчук.— А там нешта прыдумаем...

Носячы ў дзяжурную будку абед бацьку або завітваючы на станцыю, каб напіцца сцюдзёнай, прыемнай на смак вады з воданапорнай калонкі, Васіль яшчэ два ці тры разы спатыкаецца з Рымарчуком, нават патроху гаворыць.

І вось нечаканасць. Застрэліўся Рымарчук. Ад станцыі адыходзіць саракавярстовая ветка на гарадок Хвойнае. Там, у канцы станцыі, дзе якраз размяшчаецца пуцейская казарма,

высяцца пясчаныя пагоркі, або, як іх называюць, горы. Калі пракладвалі чыгуначную каляю, пагоркі проста раскапалі, нібы разрэзалі папалам. Пясчаныя іх сценкі строма навісаюць над каляёй.

Вось туды пайшоў Рымарчук, знайшоў зацішнае месца і застрэліўся з нагана.

Васіль узрушаны. Ён працуе ў брыгадзе, распытвае пуцейцаў аб прычынах гібелі Рымарчука, але тыя нібы вады ў рот набралі. Ніхто нічога не гаворыць. Нават бацька нічога не ведае. Толькі чуе ноччу Васіль перашэпты бацькі і маці. Да яго даносяцца паасобныя словы, з якіх можна зразумець, што на станцыі паарыштоўвалі пераважна тых, чыя радня за мяжой. Рымарчук тым часам сам быў за мяжой...

## II

Лета ўбіраецца ў сілу. Буяе разнатраўе, шчодра цвітуць краскі. Белыя, сінія, жоўтыя, чырвоныя. Яшчэ спяваюць птушкі. Гэта толькі тыя, якія па нейкай прычыне запазніліся звіць гнёзды. Бо птушкі, якія вывелі птушанят, паднялі іх на крыло, болей не спяваюць. Такія птушкі толькі перагукваюцца. Яны клапоцяцца пра дзяцей нават тады, калі тыя вылецелі з гнязда. Вучаць іх здабываць корм, хавацца ад шматлікіх ворагаў: каршукоў, соў, катоў, лісаў і нават гадзюк, якія таксама любяць ласавацца птушанятамі.

Час касавіцы. Цяпер Васіль, адпрасіўшыся ў брыгадзіра Скарынкіна, ходзіць касіць. У тыя самыя Астроўкі. Здараецца так, што ён часцей ходзіць на касьбу без бацькі. Аднаму касіць нават лепей. Ніхто не дакарае, не вісіць над душой. Ды і хворы на ногі бацька. Пакуль са сваім раматусам, пераварьваючыся пры хадзьбе, як качка, даклыпае да Астровак, то Васіль дзве такія ходкі зробіць.

Вясна была дажджлівая, мокрая, і ў Астроўках напладзілася аж залішне вужоў і нават гадзюк. Каб не ўкусіла ядавітая гадзіна, Васіль, абуваючыся ў лапці, наматвае на нагу аж па дзве анучыны. Заўважыўшы ў траве гада, ён бязлітасна рассякае яго касой на дзве палавіны.

Гадзюка нараджае жывых гадзючанят, вужы выводзяцца з яек, тым часам адрозніць іх цяжка, абодва гады выклікаюць страх і агіду.

Найлепей касіць раніцай: трава яшчэ мокрая, росная, каса лёгка яе бярэ. Апаўдня, калі прыгравае сонца, трава высыхае, і робіцца жорсткай, як дрот. Трэба ў такім выпадку часта мянташыць касу.

Касіць цяжка. Асабліва ў кустарніках, дзе касой не вельмі размахнешся. Пасля двух-трох гадзін касьбы, накасіўшы ўсяго якую-небудзь капу, Васіль адчувае сябе зняможаным. Настолькі стамляецца, што нават есці не хоча.

Паляжаўшы ў цяньку, трохі аддыхнуўшы, ён з'ядае свой полудзень і паволі кіруе дадому. Раз-пораз Васіль чуе прарэзлівы крык жаўны, але цяпер голас дзіўнай птушкі не робіць на яго вялікага ўражання. Адспявалі птушкі сваю прывабную песню ў Васілёвай душы і больш яе не ўзрушваюць.

Косячы, Васіль іншы раз натыкаецца на маленькія, звітыя з мяккай выпетранай травы гнёзды дзікіх земляных пчол, а таксама чмялёў. Мёд іх прыемны, смачны. Толькі мала яго, ды і ў большасці выпадкаў у сотах ужо белае малако. Такія гнёзды Васіль старанна кладзе на месца, бо з малочных сотаў хутка выведуцца маладыя пчолкі і чмялі.

На пчаліныя і чмяліныя падобны гнёзды лясных мышэй. Але мышы, відаць, выводзяцца рана і да пачатку касавіцы разбягаюцца. Так што норкі іхнія пустыя.

Зграбаць сена бацька бярэ аднойчы і меншых сыноў — Петрыка і Сяргея. Петрык яшчэ сяк-так падбівае граблямі малыя валкі сухой травы, а Сяргей зусім бездапаможны. Бацька загадвае яму выбірацца на бераг і рваць траву цялушцы.

Сена зграблі, склалі ў копы, выйшлі на бераг палуднаваць. Тут з Сяргеем ледзь не здараецца бяда. У вузельчык маці паклала трохі сала, вараных яек, маласольных агуркоў. Сяргей з прагнасцю накідваецца на харч. Ён амаль не жуе, стараючыся адразу праглынуць яго. Кавалак агурка захрас у горле. Добра, што бацька ведае, што ў такіх выпадках трэба рабіць. Раз за разам бацька злёгку б'е далонню па Сяргеевых плячах, загадвае яму піць ваду з бутэлькі.

Васіль столькі перасёк за час касьбы гадзюк, вужоў, што яго часам ахоплівае страх. Ён сам чытаў казкі пра змяінага цара, які нібыта помсціць тым, хто знішчаў залішне многа ягонага воінства. Казкі казкамі, а Васіль спіць у хляве, на сене, і што перашкодзіць гадзюцы, якая раптам трапіць у валку сена на вышкі, смяртэльна джагнуць свайго ворага.

Перш чым утаптаць сена ў засек, яго проста з воза раскідваюць па двары — дасушваюць. Васіль старанна, некалькі разоў пераварочвае валкі. І аднойчы з валка сапраўды выпаўзае вуж. Васіль перш чым занесці сена ў засек, памногу разоў перапрасае валкі.

## III

Кантора «Плодагародніна» перад пярэбарамі ў Васілёву хату паставіла некалькі ўмоў: атынкаваць сцены, устанавіць у вокны падвойныя рамы і, нарэшце, прарэзаць хоць у адным акне фортачку. Дбаюць пра сябе начальнікі. Хочуць сядзець у цяпле і дыхаць чыстым паветрам.

Васіль усе дзіцячыя гады пражыў у халаднаватай, якая ніколі не праветрывалася, хаце, з густой намараззю на вокнах у вялікія маразы і ніколі не думаў, што можна жыць іначай.

Бацька спецыяльна бярэ адпачынак, каб выкшталцаваць кватэру. Каб дапамагаць бацьку, раз-пораз адпрошваецца з брыгады Васіль. Бацька надраў тонкіх сасновых пасак і прыбівае іх крыж-накрыж на сценах і столі. Будуць атынкоўваць сцены і столь не толькі ў чыстай палавіне дома, у якой атабарыцца «Плодагародніна», а і ў меншай частцы, дзе будзе жыць сям'я. Гэтую меншую палавіну яшчэ аддзеляць дашчанай перагародкай ад вузкага праходу ў кантору, каб за побытам стрэлачнікавай сям'і лішне не цікавалі кліенты, якія валам паваляць у «Плодагародніну».

Падвойныя рамы за не вельмі вялікую плату робіць сусед Іван Ляпіца, або Казёл, які жыве праз вуліцу.

Работа пачынаецца. Васіль возіць тачкай гліну з кар'ера, што побач з чыгуначнай станцыяй, і пясок з Дубровы. Пясок бярэ з ямы, раскапанай наўзбоч пясчанага шляху, што ляжыць поруч з чыгункай і вядзе ў суседнюю вёску Макаў. Пясок

проста выдатны: беленькі, чысты, нібы мука. Проста дзіўна: як пад пластом шэразёму захаваўся ў непарушнасці такі чысты пясок. Бацька накладвае ў шырокае карыта гліну, падсыпае пяску, і гэтую сумесь ахвотна таўкуць нагамі Петрык і Сяргей. Васіль падносіць бацьку вёдры з сумессю. У хаце стаіць высокая сталюга, узлезшы на якую бацька абкідвае глінай столь і верхнюю частку сцен.

Работа хутка пасоўваецца. Абляпаўшы кожны квадрат сцяны, столі глінай, бацька старанна раўняе яе кельмай. Стараюцца не адстаць ад бацькі сыны. Колькасць сумесі ў карыце не памяншаецца, вёдры з глінай напагатове. Сям'я шчыра зацікаўлена, каб у хаце было цёпла, утульна.

І вось цуд: двух тыдняў не мінула, як хата атынкавана, пабелена і прыняла зусім другі, намнога ўтульнейшы і прыгажэйшы выгляд. Праўда, у пярэдняй частцы, дзе будзе размяшчацца сям'я, столь не атынкавана: не хапіла сасновай дранкі. Але і так добра. У сцяне, якая сутыкалася з дзедавымі сенцамі, прарэзалі новае акно. Светла, прыгожа ў хаце. Жыллё што трэба. А што будзе, калі яшчэ ўставяць падвойныя рамы і зробяць фортачку, праз якую будзе выходзіць з хаты тытунёвы дым.

Нечакана ў час кароткай навальніцы ў Васілёў агарод б'е шаравая маланка. Страшна грымнуў гром і нібы сіні слуп з вогненным шарам на канцы рынуў з неба на зямлю. На мяжы Васілёвага і Адамавага агародаў.

Васіль пасля аглядаў месца, куды ўдарыла маланка, і нічога не ўбачыў. Нават трава там не прымята, не пашкоджана. Зарад маланкі, відаць, цалкам пайшоў у зямлю.

Бацька за час водпуску яшчэ і мэблі нарабіў. Цяпер у самым куце пярэдняй часткі хаты стаіць не вельмі зграбны з выгляду шкапчык, пафарбаваны ў цёмна-чырвоны колер. Шкапчык адначасова і сталом служыць. Яшчэ большы, выштукаваны бацькам шкап стаіць у сенечках. Табурэткі таксама самаробнага бацькавага вырабу. Яны не вельмі прывабныя. Затое моцна збіты.

Так, мае бацька ў руках спрыт, майстэрства, толькі не перадаў гэта дзецям. Ён хворы на раматус ног і, можа, таму працаваць з ім цяжка: сварыцца, зневажае памочнікаў, якія не

ўмеюць рабіць так, як ён. Таму дзеці не хінуцца да бацькі. Нават Петрык, які на ляту пераймае ўсялякія штукарствы.

Васіль некалі сканструяваў машыну, невядома для чаго прызначаную, і з-за гэтага ледзь хату не спаліў. Петрык майструе самакаты, носіцца на іх па вуліцы. Нават старэйшыя хлопцы яму зайздросцяць.

Але і Петрык да астатняй гаспадарчай работы не прывучан. Каня няма, таму ні касіць, ні скласці стог ці хоць бы капу сена Петрык не ўмее, хоць мае здольныя рукі. Наогул падрастае пакаленне, адвучанае ад работы на зямлі. Сенакосаў ніхто нікому не дае. Няма ў мястэчку службы, якая б памагала жыхарам прывезці з лесу воз дроў, каляснік сена, пабудаваць хлеў ці хату. Кожны выкручваецца як можа.

Павесялеў, папрыгажэў двор.

Яшчэ мінулагодняй вясной на месцы дзедавай хаты, перад вуліцай, бацька з Васілём пасадзілі сад. Дрэўцы — яблыні, грушы — бацька прывёз з Гомеля ніштаватыя: ім па пяць і нават па сем гадоў. Сёлетняй вясной дрэўцы зацвілі і нават завязь сям-там паявілася.

Прыняліся Васілёвы дзікія яблынькі, ігрушы, якіх ён нанасіў з лесу. Іх сёлета прышчапілі. Васіль і два абрыкосавыя дрэўцы пасадзіў. Гною ў ямкі паклаў, ахінуў на зіму паўднёвых госцяў саломай. На паласе адчужэння (дрэўцы якраз прывезлі чыгуначнікі) абрыкосы вымерзлі. Васілёвы ацалелі. Яны распусцілі клейкія чырванаватыя лісцікі, але, на жаль, не зацвілі.

Усё ёсць у Васілёвым садзе: яблыні, ігрушы, слівы, вішні. Увесь двор цяпер зялёны.

## IV

Хата даведзена да ладу. І вось яе займае «Плодагародніна». Галоўны бухгалтар Асецкі, ціхмяны, засяроджаны і трохі ўжо стараваты чалавек, які ажаніўся з маладой мясцовай жанчынай і ў якога яшчэ зусім малыя дзеці, перайшоў з «Заготлёну» ў новую кантору. Ён нават стол сабе паставіў на ранейшае месца.

Асецкага лёгка зразумець: у новай канторы трохі больш плацяць. Ды і бульбу, агуркі кантора сваім супрацоўнікам прадае па сабекошту.

Бухгалтары ляскаюць на лічыльніках, круцяць ручку траскучага арыфмометра і безупынна пыхкаюць папяросамі. Фортачка ў акне прарэзана, і дым праз яе выцягвае на двор.

Самы малодшы чын у канторы — рахункавод Канапацкі — надзіва падобен да цесляра Мірончыка, які ў галодны трыццаць трэці год паквапіўся на сала, якое маці ашчаджала на лета і якое злодзей да апошняй шкуркі зжэр.

Ёсць яшчэ адзін чалавек у бухгалтэрыі, які прыкметна выдзяляецца: старшы бухгалтар Мяцельскі. Па-першае, ён на дзіва прыгожы: фігура стройная, падабраная, твар прадаўгаваты, выкшталцаваны і ўсё на гэтым твары на месцы — прамы нос з невялікай гарбінкай, прыемна акрэслены рот, мяккі падбародак і пад высокім лбом правільна пастаўленыя, па-мужчынску трохі жарсткаватыя шэрыя вочы.

Маці рада, што старшым бухгалтарам працуе Мяцельскі. Па-першае, ён налічвае зарплату, па-другое, ажаніўся хоць і з далёкай, але родзічкай маці. Гэтая родзічка-сваячка — птушачка шэрая, нявідная — часта шастае ў кантору. Відаць, стараецца не спускаць вока са свайго прыгажуна. І да маці ў адгароджаны дашчанай сценкай закутак заскоквае жонка старшага бухгалтара, і яны там падоўгу шэпчуцца.

Акрамя таго, што Мяцельскі вельмі прыгожы, ён у дадатак надзвычай прыгожа піша. Літары круглыя, акуратна выведзеныя — як на грашах. Васіль зайздросціць почырку Мяцельскага і мае намер хоць трохі яго пераняць.

Кантора «Плодагародніна» падабаецца Васілю яшчэ і таму, што выпісвае шмат газет, часопісаў. Газеты бухгалтары яшчэ чытаюць, літаратурным часопісам «Полымя рэвалюцыі» ніхто не цікавіцца, і Васіль забірае часопіс сабе.

Набліжаецца восень. Хутка Васіль і браты рушаць у школу. Нават Сяргей пойдзе ў першы клас (цяпер у школу прымаюць у сем гадоў). Аднак ні вопраткі, ні абутку ў хлопцаў няма. Маці сабрала фунтаў дзесяць масла, насушыла ягад, гарбузных семак і з гэтымі падарункамі бацька збіраецца ў

Маскву. Каб пазычыць у Макара Перагуда грошай, купіць што-небудзь з вопраткі, абутку сынам.

Не першы раз едзе бацька ў Маскву. У мястэчку нічога не дакупішся, чэргі страшэнныя, хутчэй у тых чэргах богу душу аддасі. Чыгуначнікам тым часам даюць бясплатны білет, і чаму гэтай прывілеяй не пакарыстацца?

Раней бацька ездзіў у Маскву разам з маці. Для нагляду за дзецьмі запрашалі бабінавіцкую аднарукую бабку. Вялікія абавязкі ў гэты час ускладаліся на Васіля. Ён даіў карову, варыў малодшым братам суп, пёк аладкі, блінцы. Бабка толькі камандавала Васілём.

Цяпер у доме кантора, яе трэба абслугоўваць: сціраць са сталоў пыл, мыць падлогу. Таму маці паехаць не можа. Бацька бярэ з сабой Васіля. Як-ніяк хлопец у сёмы клас перайшоў і няхай трохі пабачыць свету.

З білетам Васілю не шанцуе. Каб яго атрымаць, трэба фотакартка (дзецям чыгуначнікаў даецца білет, калі ім няма яшчэ васямнаццаці гадоў). Васіль ідзе здымацца ў мясцовую фатаграфію. Але здымак атрымоўваецца няўдалы. У той момант, калі фатограф на імгненне адкрывае вочка апарата, Васіль чамусьці надзімаецца, і на картачцы атрымліваецца шыракатвары, намнога старэйшы, чым ёсць.

Бацька завёз здымак у Гомель, ва ўпраўленне чыгункі. Зірнуўшы на здымак, там заявілі: сын дарослы. Прыйшлося здымацца другі раз.

Летась па сканчэнні пятага класа школа пасылала Васіля як выдатніка вучобы ў Мінск на экскурсію. Гэтаму, відаць, паспрыяў настаўнік Гудовіч, якога цяпер у школе няма. Шосты клас Васіль таксама скончыў на «выдатна», але ні пахвальнай граматы не атрымаў, ні нават у піянерскі лагер не трапіў. У піянерскі лагер паслалі вучняў, у дзённіках якіх ніводнай «пяцёркі» няма.

Дзяцінства канчаецца, і Васіль ужо ніколі не трапіць у піянерскі лагер. У сёмым класе вучні пачынаюць паступаць у камсамол.

І вось Васіль з бацькам едзе ў Маскву. Пра Маскву шмат пішуць у газетах: яе перабудоўваюць, асобныя дамы нібы на-

ват перасоўваюць на новае месца; пад зямлёй пракладваюць метро. Цікава ўсё гэта пабачыць.

У Маскву Васіль з бацькам прыязджаюць на Кіеўскі вакзал. А Макар Перагуд, у якога трэба спыніцца, жыве пад Масквой, на станцыі Катуары, да якой трэба дабірацца з Беларускага вакзала. Дарогу бацька ведае: не першы раз едзе да Макара. У яго наогул спыняюцца ўсе местачкоўцы, якія па той ці іншай патрэбе прыязджаюць у сталіцу. Нават Рыгор Стрыж, які збіраўся раскулачыць Макара, знаходзіць у ягоным доме прытулак.

Макар прымае ўсіх.

У Маскве гарачыня, задуха, дым. На вуліцах нешта перастаўляюць, перакопваюць, кладуць асфальт, які варыцца ў вялізных катлах. Едуць да Беларускага вакзала на трамваі, на аўтобусе і нават на метро. У бацькі ў руках чамадан і клунак і ў Васіля таксама чамадан. Баючыся ў людскім тлуме адстаць ад бацькі, згубіцца ў натоўпе, Васіль нічога толкам не паспявае разгледзець. Разумее толькі: жыццё ў Маскве кіпіць, круціцца, як у віры. Процьма ўсялякага народу збіраецца ў сталіцы. Многа чорных, падобных да цыганоў, людзей таўчэцца на вуліцах: відаць, гэта таджыкі, узбекі, армяне.

Пакуль дабраліся да Беларускага вакзала, Васіль стаміўся. І быў вельмі рады, калі яны з бацькам селі ў вагон электрычкі.

Час пасля палудня, людзей у электрычцы меней, чым у трамваі і нават у метро. Можна разгледзецца і сёе-тое ўбачыць. Узбоч вагона праносяцца такія самыя, як у ваколіцах мястэчка, бярэзнікі, сасднякі. Шмат ельнікаў, якіх у Васілёвай мясцовасці наогул няма. Толькі адна высозная, прыгожая яліна расце ў мястэчку: на двары метэаралагічнай станцыі.

Вось і паўстанак Катуары. За паўстанкам невялікі пасёлак, дамкі якога размешчаны ў лесе, пад навіссю кашлатых елак. Дамок, што выштукаваў Макар,— звычайная абшаляваная дошкамі хацінка, пафарбаваная ў зялёны колер. Тым часам мае бляшаны дах, што надае ёй фацэтны выгляд.

На лета Макар аддае дамок дачнікам. Сам з сям'ёй туліцца ў хлеўчуку. Хоць якая цяпер у Макара сям'я? Ён ды паўнацелая смяшлівая, якая страляе словамі як з кулямёта,

жонка. Сын Валодзя, які працаваў у мястэчку крамнікам, збег невядома куды. Нявесткі Макар так нібы і не займеў.

У хлеўчуку размяшчаюцца і Васіль з бацькам. Лепшае жытло і не трэба: абы толькі пераначаваць. Раніцай яны сядуць у электрычку, паедуць у Маскву, будуць стаяць у чэргах, каб купіць якой-небудзь тканіны, вопраткі, абутку.

Макар Васілю падабаецца. Сярэдняга росту, плячысты, лысы, з шырокім разумным тварам, ён сапраўды як бы нагадвае нейкага старажытнага мудраца. Ягоныя развагі цікава слухаць. За вымушаныя ўцёкі з мястэчка, страчаны набытак Макар ні на каго не крыўдуе, наадварот, паблажліва пасміхаецца.

— Лес сякуць, трэскі ляцяць. Перагібы, канешне, ёсць. Але што зробіш?

Галоўнае — Васіль выразна гэта адчуў,— Макар не супроць агульнага напрамку жыцця. Недахоп абутку, вопраткі, іншых патрэбных чалавеку рэчаў тлумачыць тым, што будуюцца гарады, заводы, фабрыкі: калі ўздымецца індустрыя, цяжкая прамысловасць, тады, можа, прыйдзе ўсё астатняе.

Макар і пра Сталіна гаворыць з пахвалой. Два разы бачыў, як Сталін праязджаў у аўтамабілі. Макара ў гэты час у трамваі ціснулі.

Макар, вядома, разумны чалавек і асцерагаецца многа гаварыць. Скажы, напрыклад, лішняе слова хоць пра таго ж Сталіна. Перакруцяць, перавернуць сэнс — і невядома, што можа здарыцца.

Васіль пра Сталіна асабліва не думае, хоць пра яго ўсё часцей пішуць у газетах. Чаму ён павінен думаць? Ёсць людзі бліжэйшыя да Васіля, скажам, дырэктар школы, настаўнікі. Але іх жыццём ён таксама залішне не цікавіцца.

Сталін мудры, геніяльны, вядзе народ ад перамогі да перамогі. Няхай вядзе. Васіль не любіць высокіх, напышлівых слоў. У звычайным жыцці такіх слоў няма. Было б смешна, калі б пра якога-небудзь местачкоўца, напрыклад, сказалі: ён вялікі і мудры...

Седзячы на лавачках, размаўляючы між сабой, местачковыя мужчыны іншы раз называюць Леніна, Сталіна. Пасмейваючыся, гавораць, што Ленін у чаравіках хадзіў, таму ста-

ранна абмінаў лужыны, гразь. А Сталін у боты абуўся. Валіць напралом, не баючыся ні лужын, ні нават балота.

Раненька бацька будзіць Васіля, і яны, нават не снедаючы, едуць электрычкай у Маскву. Каля прамтаварных магазінаў становяцца ў чаргу. Многа такіх, як Васіль і бацька, прыязджаюць у Маскву. Па той самай патрэбе. Знемагаючы ад гарачыні, абліваючыся потам, бацька з Васілём гадзіны праз дзве-тры дабіраюцца да прылаўка і бяруць, што даюць: крамніну, абутак, вопратку.

Так мінае дзень, другі, трэці. Крамніны — корту, міткалю — Васіль з бацькам купілі, можна сказаць, дастаткова. Будзе з чаго нашыць хлопцам сарочак, штаноў. А вось з гатовым адзеннем, абуткам не атрымалася. Гэтыя рэчы расхопліваюць імгненна. Васіль марыў, што купяць яму касцюм: канчае сямігодку. Але касцюма не дасталі. Раней Васіль даношваў вопратку з пляча Валодзі, Макаравага сына. Ягоныя старыя пінжакі, штаны былі старанна вымыты, адпрасаваны. Тыдзень ці два на іх прыемна было глядзець, але потым на худым Васілёвым целе яны віселі нібы лахманы і вельмі хутка зношваліся. Цяпер, аднак, і Валодзя невядома дзе.

Што ж, паходзіць Васіль без касцюма. Не прывыкаць. Яшчэ ніводнага новага не знасіў. Бо і за корт, міткаль, дзве пары чаравікаў прыйдзецца аддаваць Макару доўг. Амаль усе рэчы купілі за пазычаныя грошы.

Бацька стараецца дагадзіць Васілю. Купляе зробленую з языкоў каўбасу, булачкі, розныя напіткі, нават марожанае два разы купляў. На шчасце, Васіль і рубель знайшоў. Упершыню ў жыцці. Узняўся вецер, гнаў па асфальце абрыўкі газет, розныя паперкі і сярод іх жоўценькую рублёвую паперку. Ніхто не заўважыў грошай на асфальце, а Васіль свайго не ўпусціў. Прабег крокі два-тры, нагнуўся і — вось ён, сапраўдны, толькі трохі скамечаны рубель у жмені.

За знойдзены рубель Васіль хацеў кнігу купіць, «Яўгенія Анегіна», якога хутка будуць вывучаць. Нядаўна адзначаўся стагадовы юбілей з дня смерці Пушкіна, і Васіль браў у бібліятэцы «Яўгенія Анегіна». Каштуе ён, здаецца, рубель дваццаць капеек.

Натрапіўся якраз кніжны магазін. Васіль з бацькам зайшлі. Ці маеце «Яўгенія Анегіна»? Маем. Бярыце, калі ласка. Колькі каштуе? Дзвесце рублёў...

Васіль аж вочы вырачыў ад здзіўлення. Чаму так дарага? Магазін букіністычны, выданне рэдкае. Кнізе сто гадоў. Ёсць кнігі яшчэ даражэйшыя...

Ад расчаравання Васіль і знойдзены рубель бесталкова растраціў. Выйшаўшы з букіністычнага магазіна, убачыў апранутую ў белы халат дзяўчыну, якая на вуліцы гандлюе нейкімі ражкамі з белай начынкай. Купіў Васіль ражок (якраз рубель каштуе), а ў ім — лыжка салодкай смятаны. Лепш бы ён марожанага купіў. Было б дзве ці тры палачкі.

Чатыры дні прабыў Васіль у Маскве. У апошні дзень, жадаючы зрабіць сыну прыемнае, бацька павёў яго ў заапарк. Вялікі і дзівосны Маскоўскі заапарк. Якіх там толькі не пабачыш птушак, звяроў. Яны звезены з усяго свету. Тым часам Васіль ведае гэтых звяроў і птушак. У падручніку заалогіі, якую вывучалі ў шостым класе, у самым канцы кнігі некалькі старонак займаюць малюнкі жывёльнага свету. Не хочучы слухаць тлумачэнні настаўніка пра органы стрававання, размнажэння чарвяка, медузы, жабы, вужа, розных членістаногіх паўзуноў, рыб, Васіль на ўроках заалогіі часта адкрываў апошнія старонкі падручніка, разглядваючы змешчаныя там малюнкі. Можа, па гэтай прычыне ён адразу пазнаваў жывёл і птушак, пасаджаных у клеткі. Расказваў пра іх бацьку з такім выглядам, нібы разоў дзесяць наведаў Маскоўскі заапарк. Бацька нават пакрыўдзіўся.

У апошні дзень бацька паехаў у Маскву адзін, Васіль ад ранку да вечара блукаў па Макаравым панадворку. На сцяне хлеўчука вісіць каробка рэпрадуктара. З раніцы перадача для дзяцей, і паўгадзіны дыктар аднастайна паўтарае радкі новай песні, а дзіцячы хор песню выконвае. Ні словы, ні музыка песні Васіля не прывабілі, і ён стаў пакручвацца вакол елак. Дзіва дзіўнае: на агароджаным жалезнай сеткай Макаравым двары пад разгалістымі цёмнымі елкамі растуць баравікі, многа, вялікія кучкі грыбоў з цёмнымі моцнымі, як капыты, каптурыкамі вытыркаюцца амаль пад кожнай елкай. Васіль

ледзь не кінуўся падразаць баравікі, каб пахваліцца Макару і бацьку. Ды ў час спахапіўся. Не мог такі гаспадар, як Макар, не ведаць пра сваё багацце. Відаць, спецыяльна чакае, калі баравікі вырастуць большыя.

У Васіля аж на душы зашчымела. Па родных бярэзніках, сасняках, па разлівах цёмна-сініх верасоў, відаць, таксама пракідаюцца баравікі. Бо пачаўся жнівень месяц. Грыбная пара...

У Маскве Васіль не толькі стаяў у чэргах, але і сёе-тое пабачыў. Стаяў на бруку Краснай плошчы, глядзеў на абсаджаныя елкамі сцены Крамля, ды і па маскоўскіх вуліцах паблукаў.

Прыгожа ў Маскве. Але дома лепей. За тыдзень разлукі Васіль моцна засумаваў па мястэчку. Па родным двары, маладым садку, агародзе, у якім даўно паспелі агуркі, памідоры, па пясчанай вуліцы, рамонтнай брыгадзе, у якой ён працуе ўжо трэцяе лета, па сябрах-таварышах — Цімоху Стрыжу, Івану Гарошыку. Летась, вяртаючыся з Мінска і пад’ехаўшы да Бабінавіч, за якімі была местачковая станцыя, Васіль ад жадання хутчэй убачыць знаёмыя мясціны так высунуўся з акна, што ветрам сарвала з ягонай галавы шапку. Болей такога не здарыцца. Навучаны Васіль. І цяпер, гледзячы на лясы, пералескі, міма якіх праносіцца цягнік, у акно галаву не высоўвае. Летась Васілю наогул не пашанцавала з шапкамі. Яшчэ адну шапку сарваў з галавы шафёр паўтаратонкі, калі, ухапіўшыся за борт кузава, Васіль хацеў трохі пакатацца. Шапкі каштуюць грошай, і прыйшлося Васілю ісці ў школу ў завэдзганай, з паламаным казырком кепцы, якую ён знайшоў сярод друзу і рыззя на гарышчы.

Васіль ловіць сябе на непрыемнай думцы. Адлучыўшыся з дому на нейкі тыдзень, ён не знаходзіць месца ад суму па родным доме, мястэчку. Ён цяпер сямікласнік і па сканчэнні сямігодкі збіраецца паступаць у які-небудзь тэхнікум ці вучылішча. То як жа будзе жыць, калі ад’едзе з дому не на тыдзень, а на доўгія месяцы і, магчыма, гады.

## V

На свеце трывожна. У Іспаніі перамог генерал Франка. Ягоныя войскі авалодалі Мадрыдам. І ўсё больш нахабна паводзіць сябе Гітлер. Мала яму Аўстрыі. Дык яшчэ адарваў частку Чэхаславакіі, а затым і ўсю праглынуў. Апетыт аднак не задаволіў. Цяпер фашысцкі фюрар нацэліўся на Польшчу. У Данцыг — вольны горад,— аддзелены ад Германіі «польскім калідорам», усё болей прыбывае нямецкай навалачы, якая выдае сябе за турыстаў. Хутчэй за ўсё гэта шпіёны і дыверсанты.

Прыехаўшы з Масквы, Васіль перачытвае газеты, якія сабраліся за тыдзень: «Звязду», якую выпісвае толькі на лета, і «Пионерскую правду», якая (каштуе нядорага) будзе ісці да канца года. У «Пионерской правде» надрукавана якраз тая песня, якую развучвалі па радыё, калі Васіль не паехаў у Маскву і ўвесь дзень вандраваў па панадворку Макара Перагуда. Васіль, здаецца, не надта прыслухоўваўся да слоў песні, але збольшага запомніў яе.

На другі дзень пасля паездкі ў Маскву Васіль з’явіўся ў брыгаду. Сёлета ён працуе нараўне з дарослымі мужчынамі. Рамонтнікі мяняюць шпалы, робяць разгонку якраз паміж Шкробавай і Кротавай будкамі. Васілю гэта на руку. Ён любіць мясціны, якія раскінуліся паабапал чыгункі: поле, бярозавыя гайкі, лес, у якім ён не так даўно збіраў ягады, а цяпер ходзіць туды па грыбы. Поле — колішняя дуброва. Яшчэ і сёння на ім стаяць паасобныя купы разгалістых дубоў, якія часам падступаюць да самай чыгункі. Пад дубамі рамонтнікі звычайна палуднуюць. Выцягваюць з брызентавых сумак бутэлькі з малаком, акрайцы хлеба, цыбулю, трохі падсоленыя агуркі. Пасля яды, забраўшыся ў цянёк, адпачываюць.

Лета гарачае, неба аж дыхае жарам. На санцапёку працаваць цяжка. Дый пуцейская работа не салодкая: асабліва разгонка. Пабухай з паўгадзіны рэйкай, устаноўленай на лябёдцы, аб другую рэйку, каб звузіць рэечны зазор. Сем патоў выйдзе, пакуль брыгадзір Скарынкін, марудлівы чорны мужчына, з шырокімі татарскімі сківіцамі і лахматымі навіслымі брывамі, пераканаецца, што зазор даведзены да нормы.

Яшчэ цяжэй падбіваць пад шпалы баласт. Цюкай і цюкай кіркай да адурэння. Нарэшце Скарынкін кладзе на рэйкі шаблон — так называецца жалезная прычындаліна са шкалой, якая паказвае, што рэйкі ляжаць на адным узроўні.

Скарынкін лішне адпачываць пуцейцам не дае. Роўна ў гадзіну (абед пачынаецца ў дванаццаць) вымае з кішэні гадзіннік-цыбуліну і махае рукой. Рамонтнікі падымаюцца з-пад кустоў, пацягваючыся, ідуць да насыпу.

Вядома, і ў час работы бываюць кароткія перапынкі, перакуры. Пуцейцы расказваюць адзін другому смешныя гісторыі, падколваюць адзін другога, рагочуць. Пра палітыку ніякіх размоў не вядуць. Васіль, хоць выпісаў «Звязду», палітыкай таксама лішне не захапляецца. Але падзеі наспяваюць такія, што проста нельга не думаць пра тое, што робіцца на свеце.

Ад Жыткавіч да местачковай станцыі сто сорак кіламетраў. Там мяжа, граніца з Польшчай. Гітлер — у газетах пішуць пра гэта штодзень — напірае на Польшчу. То што будзе, калі раптам пачнецца вайна?

Васіль часта ходзіць да Івана Гарошыка. Іванава хата ахайная, складзеная з ачэсанага сасновага бярвення. Двума вокнамі глядзіць на вуліцу, яшчэ двума — на запушчаны, густа затравелы двор. Іван і малодшая сястра жывуць з маці. Бацька, касір чыгуначнай таварнай канторы, сышоўся з другой жанчынай. Касір зарабляе не шмат грошай, і яшчэ менш выпадае Івану і сястры аліментаў ад бацькі.

З таго часу, як бацька пайшоў з сям'і, Іванава маці памяшалася розумам. Памяшанне ціхае, яно выяўляецца толькі ў тым, што маці сама з сабой размаўляе, невядома з чаго смяецца, а часам нават выгуквае незразумелыя словы і пагрозы. Дамашнюю работу яна, аднак, робіць як трэба.

Іван у хаце вольны гаспадар, і да яго валам валяць хлопцы з вуліцы імя Чангарскай дывізіі. Адзін час тут стаяў нават більярд, украдзены жулікаватымі падлеткамі ў прафтэхшкольцаў. Гэтак адпомсцілі хлопцы за тое, што прафтэхшкольцы не пускаюць іх у кіно. Іван мяккі, памяркоўны і разумны. У ягонай хаце мноства кніг, якімі закіданы стол, падваконнікі і нават ложак. Васіль бярэ ў Івана кнігі, якія захоча і колькі захоча.

Васілёваму прыходу Іван зусім не здзіўляецца. Ён заўсёды такі. Сустракае чалавека, нібы ніколі з ім не разлучаўся. Ён трохі абыякавы да жыцця, аднолькава паблажлівы да ўсіх. Сябры выходзяць на вуліцу. Вуліца імя Чангарскай дывізіі цягнецца ўздоўж чыгункі і чыгуначнай станцыі. Агароды левай лавы хат выходзяць якраз да чыгуначнага насыпу, правай — на забалочаны бераг Гарадзінкі, якую цяпер асушваюць: экскаватарам пракладваюць магістральны канал, капаюць канавы-калектары.

З вуліцы імя Чангарскай дывізіі добра відаць станцыя і яе будынкі: вадакачка, памяшканне чакальнай залы, пакгаўзы. Тут чуваць гудкі манеўровага паравоза, ляскат буфераў, перастук колаў цягніка. І ў той жа час спакой і цішыня як бы навечна ўсталяваліся на ўскраіннай затравелай вуліцы. Тут амаль не ходзяць машыны і чалавека рэдка сустрэнеш. Жоўтыя кругі сланечнікаў, дзялянкі кіяхоў — кукурузы ў агародах, гарбузнік, які́м апавіты ўсе плятні і парканы, здаецца, чуйна і надзейна пільнуюць марудлівае, нетаропкае жыццё вуліцы.

Чаму Васіль так часта наведвае Івана Гарошыка? Так проста не адкажаш. З Іванам добра, яны гавораць аб усім на свеце, і дзень, калі ён не бачыць Івана, як бы прападае для Васіля. З Цімохам Стрыжам Васіль таксама сустракаецца ледзь не кожны дзень, але такой блізкай, інтымнай гаворкі, як з Іванам, не бывае. Цімох трохі звысака глядзіць на Васіля, ён засяроджаны на самім сабе і лішне раскрывацца не любіць.

Ужо надвячорак. Хлопцы крочаць на станцыю. У сем гадзін прыбывае маскоўскі цягнік, які кіруе да Жыткавіч — станцыі, размешчанай на самой граніцы. Ён імчыць як шалёны, уздымаючы пыл, які клубамі ахінае зялёныя класныя вагоны і яшчэ доўга вісіць над чыгункай. На станцыі цягнік спыняецца неяк нечакана, як бы нават не замаруджваючы бегу, і стаіць як укопаны пяць ці дзесяць хвілін.

Станцыя — прыгожае месца. Можа, найпрыгажэйшае ў мястэчку. Над акуратнымі будынкамі, нібы зялёныя хмары, навісаюць магутныя срабрыстыя таполі. Іх пасадзілі, відаць, яшчэ тады, калі пракладвалі чыгунку, будавалі станцыю.

На пероне перад прыходам маскоўскага цягніка заўсёды людна. Тут збіраецца местачковая інтэлігенцыя, моладзь. Нехта прыязджае, нехта ад’язджае.

У буфеце пампуюць піва, прадаюць гарэлку, віно, сітро. Васіль з Іванам зрэдку дазваляюць сабе купіць па шклянцы сітра. Хоць і без яго можна абысціся: з воданапорнай калонкі пругкім струменем б’е халодная, нібы крынічная, вада.

Ёсць штосьці таямніча-прыгожае, радасна-сумнае ў самім малюнку прыбыцця і адбыцця вячэрніх цягнікоў.

Маскоўскі цягнік адбывае. Першы пуць адразу займае цягнік мясцовы, які па чыгуначнай ветцы адыходзіць на мястэчка Хвойнае. Вагоны гэтага цягніка не маюць ніякага бляску, яны абдзёртыя, абшарпаныя. Публіка, якая запаўняе вагоны, таксама не зусім далікатная. Ледзь не палавіну яе складаюць галасістыя жанчыны, якія вазілі ў Гомель, на базар, ягады, яблыкі-наліванкі, грушы, вішні, слівы, іншую садавіну і агародніну.

Падаўшы сіплы гудок, гучна чухкаючы, нарэшце адпраўляецца поезд на Хвойнае: ён складаецца з шасці ці сямі запыленых вагонаў. Тады наступае поўная цішыня. Васіль любіць гэтыя хвіліны. Над станцыяй навісае шараваты паўзмрок, натоўп з перона схлынуў, і толькі пройдзе па пероне з запаленым ліхтаром які-небудзь счэпшчык ці змазчык вагонаў. Пасля тлуму, мітусні маўкліва стаяць, ледзь варушачы сваім мяккім лісцем, агромністыя срабрыстыя таполі.

На станцыі ёсць і газетны кіёск. Іван купляе «Праўду», «Огонёк». Васіль не купляе нічога. Газетамі і часопісамі ён забяспечаны.

Пасля вячэрняга цягніка сябры вандруюць па прыстанцыйных вуліцах. Найперш завітваюць у вялікі яблыневы сад, які насадзіў старшы кандуктар Мульменка. Ён не толькі сад пасадзіў, але і дом пакояў на дзесяць выбудаваў. Але няма Мульменкі. Прыціснуты мясцовымі ўладамі як уласнік-тарбахват, ён знік у невядомым кірунку.

Не мінаюць хлопцы і маладога таполевага парку на сядзібе лясной прафтэхшколы. Вечарамі ён нібы магнітам прыцягвае да сябе моладзь.

Мульменкаў сад, як і гарадок прафтэхшкольцаў, маюць над Іванам і Васілём нейкую таямнічую ўладу. На лавачках шэпчуцца парачкі, чуюцца прыцішаныя галасы, смех. Месяц-поўня лье срабрыстае святло на разгалістыя яблыні, на штабялі бярвення, плашак-дроў (побач з Мульменкавым садам размешчаны лесасклад, і туды таксама забрыдаюць парачкі). Усё гэта хвалюе, узрушвае, навяваючы прыемна-салодкія мары.

Цяпер Іван Гарошык не проста так ходзіць з Васілём. Ворага мае Іван, з'едлівага, зласлівага, вострага на язык Аляксея Лопата. Гэты Аляксей праходу не дае Івану. Падколвае, высмейвае, зневажае як толькі можа. Хутка пачнуцца заняткі ў школе, і зноў, як коршак на малую птушку, накінецца даўгалыгі Аляксей на Гарошыка.

Васіль ведае Аляксея: вялікая, з белымі аканіцамі хата Лопатаў стаіць на ўскраіне цяпер ужо асушанай Гарадзінкі. Стары Лопат, які працуе, здаецца, на вугальным складзе, трапло несусветнае, і ўсе крошкі ад яго пабраў сярэдні сын.

Васіль ведае, як адбіцца ад нахабнага Аляксея. Трэба дзейнічаць ягонай жа зброяй. Васіль прыдумвае розныя недарэчныя гісторыі, якія нібыта здарыліся з Аляксеем. Прыдумванне такіх гісторый даецца Васілю лёгка. Можа, таму, што ён сам не любіць Лопата.

Іван рагоча: Васіль імгненна сплёў апавяданне пра тое, як Лопат, паквапіўшыся на сланечнікі будачніка Драгі-Мілеўскага, сігануў у ягоны агарод і трапіў якраз у напаўзасыпаную выграбную яму, як бег адмывацца ў бліжэйшую копанку, напаткаўшы на сваім шляху трох школьных дзяўчат, у ліку якіх была і Кузёмкава Маня, да якой Аляксей заляцаецца.

Другая гісторыя, прыдуманая Васілём, паказвае спробы Лопата стаць пісьменнікам. Нібыта, перапісаўшы вядомую паэму Пушкіна і назваўшы яе «Руслан і Шыпіла», Аляксей паслаў твор у рэдакцыю. Адтуль атрымаў гнеўны адказ: процьму памылак зрабіў Лопат у радках, якія, спаборнічаючы з Пушкіным, напісаў сам.

Іван душыцца смехам. Выдуманыя апавяданні пра паходжанні Аляксея Лопата яму падабаюцца.

Яшчэ адна важная падзея адбываецца ў памятныя жнівеньскія дні. Хросны Васілёў бацька, родны матчын брат, ужо болей як год сядзіць у турме, у Мазыры. Настаўнік рускай мовы і літаратуры Гудовіч і дырэктар школы Гель таксама сядзелі ў мазырскай турме, але іх выпусцілі яшчэ вясной. Па следству. Над хросным бацькам, дзядзькам Іванам, будзе суд. Тут, у мястэчку.

Як звычайна, Васіль з раніцы пакіраваў у брыгаду. А калі вярнуўся дамоў, застаў поўную хату бабінавіцкай радні, і сярод заплаканых стрыечных сясцёр, цётак, бабак, зарослага чорнай шчацінай, страшэнна схуднелага, але вясёлага дзядзьку Івана. Яго апраўдалі.

За сталом дзядзька Іван сядзіць на покуці, спрытна куляе чарку за чаркай, ахвотна апавядаючы пра турэмныя прыгоды.

— Са мной сядзелі твае настаўнікі,— паведамляе Васілю,— Гудовіч і Гель. Пра цябе гаварылі. Нібыта ты вельмі здольны да навукі хлопец...

Васілю прыемна.

Абвінавачванні, якія паставілі дзядзьку Івану на судзе, пустыя, недарэчныя. Нібыта падчас белапольскай акупацыі ён убіўся ў вясковыя старасты, актыўна памагаў палякам: арганізоўваў для іх абозы, адбіраў у вяскоўцаў хлеб, скаціну.

Сведкі, якіх ад сябе паставіў дзядзька, лёгка абверглі недарэчную хлусню. Быў дзядзька Іван пры паляках худым, змізарнелым падлеткам, араў, касіў, трымаў на вузкіх хлапечых плячах сям'ю, бо бацьку ягонага забіў вулей, які ён усцягваў на дуб. І ніякага дачынення да палякаў, вядома, не меў.

Заяву на Васілёвага хроснага бацьку напісалі блізкія дружбакі: Захар Смыга і яшчэ адзін чалавек, які даводзіўся дзядзьку Івану далёкім родзічам. Захара (у Бабінавічах яго завуць Захар'я) Васіль памятае. Бачыў яго ў дзядзькі Івана, калі ездзіў у Бабінавічы: чорны, з пабітым воспаю тварам і нейкім дзіўным скрыпуча-драўляным голасам. Захар штодзень шастаў у дзядзькаву хату, каб выпіць чарку ці пахмяліцца пасля ўчарашняй.

— У суд трэба на Захар'ю падаць,— трашчаць за сталом стрыечныя Васілёвы сёстры, цёткі, бабкі.— Негадзяй. Самога трэба ў цюрму пасадзіць...

— Цыц, сарокі! — Дзядзька нават злёгку стукае па стале кулаком.— Ніякіх судоў. Людзей проста абаламуцілі...

Чымсьці бабінавіцкі дзядзька Іван нагадвае разважлівага Макара Перагуда, які жыве пад Масквой і да якога нядаўна ездзілі Васіль з бацькам. Толькі Перагуд маўклівы, сур'ёзна-засяроджаны, а дзядзька Іван вясёлы, жартаўлівы, рухомы, як жывое срэбра.

Пачынаецца ссяленне хутароў. Адначасна больш узмоцнена вядзецца асушка балот. Дзіўны, незабыўны час! Калі асушаюцца балоты, ссяляюцца хутары, аб'яўляецца прыём у інстытуты, тэхнікумы, на розныя курсы, то хіба можна думаць пра вайну.

Аднак яе прывід блукае. Летась каля возера Хасан, сёлета паблізу ракі Халхін-Гол і возера Буір-Нур Чырвоная Армія разграміла японцаў. На Захадзе Гітлер падграбае пад сябе краіну за краінай.

Асушка балот пачалася даўно. На асушаных балотах узнік пасёлак саўгаса «Ведрыца». Пасёлак выгляду не мае — нізкія шэрыя хаткі, баракі, а саўгас славуты. Сее авёс, жыта, а найбольш розную культурную траву. Трава дужа прываблівае местачкоўцаў: наймаюцца на сезонную работу ў саўгас падчас касавіцы ўсялякімі праўдамі і няпраўдамі, каб зарабіць хоць каляснік сеянкі.

На пясчанай выспе, дзе цяпер пасёлак саўгасаўцаў, жыў Васілёў сваяк чорнабароды Ціт. Яго раскулачылі, але без высылкі. Мог спакойна Ціт працаваць і нават жыць у сваёй хаце. Але меў ён натуру гордую, зацятую. З пясчанай выспы перабраўся ў Астроўкі. Сплёў з саломы і хворасту хату, што нібы вісела ў паветры, бо стаяла на высокіх драўляных палях. Гэтай вісячай хатай Ціт нібы кідаў выклік мясцовай уладзе. Адабралі, маўляў, маю зямлю, то і вашай не хачу.

Саламянка гады тры мазоліла вочы саўгаснаму начальству. Ціт рабіў у леспрамгасе, зарабляў неблагую капейку, але язык меў востры, ядавіты. З-за нейкага неасцярожнага слова да яго нарэшце падабралі ключы — Ціт знік, сям'я засталася: старавабатая ўжо жонка і два дужыя хлопцы.

Хлопцы пакінулі саламянку і мігам збудавалі невялікую хатку. Яна стаіць каля дарогі з мястэчка ў вёску Кавенькі.

Тут дубовае пнёўе, зямлі колькі хочаш. Карчуй пнёўе і сей. Хлопцы так і робяць.

І вось ссяленне хутароў пачалося. Шкада гэтых хутароў. Не будзе ні Блізкага, ні Далёкага Ляда, ні Ключароўскіх аднаасобнікаў, ні нават закінутай у гушчэчу лясоў сядзібы Салаха, якой Васіль яшчэ ніколі не бачыў.

Цітавых хлопцаў, іхняй хацінкі таксама не пашкадуюць. Бо стаіць на адзіноце, наводдаль ад чалавечага жытла і можа лічыцца хутарам.

Пра асушку балот пішуць у газетах, нават партрэты людзей, якія вызначыліся на гэтай рабоце, змяшчаюць.

Даходзіць чарга і да Гарадзінкі, на лёдзе якой Васіль катаўся на каньках, вясной збіраў яйкі дзікіх качак, летам памагаў бацьку выносіць на бераг скошаную асаку.

Шырокі магістральны канал ужо каторы тыдзень капае экскаватар, жалезнай зяпай дабіраючыся да шызавата-белага пяску, выкідваючы грунт на ўзбочыну шырокай канавы, якая адразу запаўняецца рудой балотнай вадой.

Бывай, Гарадзінка! Не будуць над табой насіцца, агалошваючы наваколле пранізлівым кігіканнем кнігаўкі, перастане выдыбаць па твані на доўгіх чырвоных нагах бусел. А што будзе? Відаць, тое самае, што ў саўгасе «Ведрыца», размешчаным за гарой Багародзіцай,— ячмень, жыта, бульба.

## VI

Вынікае падзея зусім нечаканая і незвычайная. Брыгада ў гэты дзень падбівае баласт пад шпалы пад самым лесам, за вярсту ад Шкробавай будкі. Брыгадзіра Скарынкіна няма, застаўся на станцыі, і рамонтнікі трохі раней, чым у прысутнасці начальніка, падаюцца на полудзень, пад дубы. Дубы разгалістыя, цень харошы, дый летняя гарачыня пакрысе спадае. Пахрумстаўшы агуркамі з хлебам, запіўшы небагаты полудзень малаком з бутэлек, рамонтнікі кладуць шапкі на твары, збіраюцца паўгадзінкі прыдрамнуць.

Васілю спаць не хочацца, ён вандруе пад дубамі, кідаючы час ад часу позірк на пясчаны шлях, на якім з лубянкамі за плячамі вяртаюцца з лесу местачкоўцы. Грыбы — па ўсіх

прыкметах — ёсць, бо людзей шмат. У выхадны дзень, у нядзелю, Васіль таксама шусне ў лес.

Раптам Васіль бачыць брыгадзіра Скарынкіна. Хуткай размашыстай хадой ён крочыць са станцыі. Гадзінніка, акрамя брыгадзіра, ніхто не мае, і Васіль трохі трывожыцца. Скарынкін — начальнік строгі і лішняга спачыну не дае.

— Дагавор заключылі з Гітлерам,— паведамляе без усялякай прадмовы брыгадзір.— На станцыі па радзіву чуў...

— Можа, з англічанамі і французамі? — перапытвае Васіль.— Іх дэлегацыі прыязджалі ў Маскву.

— Кажу табе — з Гітлерам. Не лічы сябе такім разумным.

Васіль збянтэжаны: столькі пісалі пра фашыстаў, лаялі іх, кінафільмы пра іх зверствы паказвалі і на табе — заключылі дагавор. Як усё гэта разумець і растлумачыць?..

Рамонтнікі навіну прымаюць абыякава. Ці, можа, яны, хітрыя, асцярожныя дзядзькі, проста не хочуць умешвацца ў размовы. Бо час не просты: хісткі, няпэўны, нават небяспечны. Хіба мала людзей арыштавалі. І ніхто не ведае, за што...

Назаўтра прыходзіць Васілёва «Звязда». Дагавор з немцамі сапраўды падпісаны, нават здымак змешчаны: Сталін, Рыбентроп у цёмных акулярах і Молатаў стаяць разам, усміхаюцца.

Вось так. У Савецкі Саюз, плывучы на нейкім ціхаходным караблі, прыбылі англійская і французская дэлегацыі. Каб заключыць з Масквой дагавор супроць агрэсара Гітлера. Толькі залішне доўга вяліся перамовы. Яны пачаліся яшчэ тады, калі Васіль толькі збіраўся з бацькам у Маскву. Ён даўно дома, а перагаворы ідуць як мокрае гарыць.

І вось Рыбентроп маланкава сігануў у Маскву і за два дні заключыў дагавор аб ненападзе паміж СССР і Германіяй.

Вечарам Васіль кіруе да Івана Гарошыка. Як ён глядзіць на дагавор з немцамі? Іван пэўнай думкі, аднак, не мае.

— Чорт яго ведае,— гаворыць,— Гітлер ёсць Гітлер. Фашыст і агрэсар. Ад таго, што падпісаў дагавор, ён не пераменіцца. Можа, мы сапраўды проста час адцягваем. Каб лепей умацаваць абарону...

— Можа, не трэба было падпісваць дагавор? — дапытваецца Васіль.

Іван раптам выбухае:

— Не прыставай з нажом к горлу. Французы і англічане з намі ў хованкі гулялі. І Польшча не хацела савецкія войскі прапусціць. Адзін на адзін з Гітлерам заставацца небяспечна. Вось таму і падпісалі дагавор...

Васіль спакайнее. Ён верыць таму, што пішацца ў газетах. У Маскве ведаюць, што робяць. Галоўнае — не будзе вайны...

Гэтак лічыць і Цімох Стрыж. Ён нават думкі не дапускае, што зроблена памылка. Сталін памылак не робіць. Нездарма ў газетах яго называюць правадыром усіх вякоў і народаў.

За некалькі дзён да пачатку заняткаў Васіль пакідае рамонтную брыгаду. Трэба пра падручнікі, сшыткі падумаць і, галоўнае, павандраваць па лесе. Людзі даўно носяць грыбы.

## VII

Лес даўно зачараваў Васіля. З таго, бадай, часу, як ён стаў шастаць па грыбы. Блізкае і Далёкае Ляда з цёмным алешнікам, дубовымі пнямі, гэтак жа як нізкія, балотныя Астроўкі, душу не прывабілі. А вось Макаўскі лес, які ляжыць на захад ад мястэчка, з кожным годам усё болей вабіць Васіля. Лес гэты багаты, разнастайны, бясконцы.

Сустрэчы з грыбным лесам Васіль чакае як свята. Цяпер Васіль ходзіць у лес не па чыгунцы, а шырокім пыльным шляхам і ў лес зварочвае на паўдарозе паміж Шкробавай і Кротавай будкамі. Бо і ў гэтым лесе, які местачкоўцы звычайна абмінаюць, Васіль знаходзіць не толькі сыраежкі, абабкі, падасінавікі, але і баравікі. Аднойчы пад дубамі, якімі лес пачынаецца, на роўным, голым месцы ён зрэзаў сем вялікіх цвёрдых, як капыты, баравікоў.

Можа, гэта блага, але мясціны, дзе знайшоў калі-небудзь баравік, Васіль ніколі не мінае. Заядлыя грыбнікі рвуцца наперад, на прастор верасоў, маладых сасоннікаў, а ён тупае то ў грабняку, то на зарослай кустамі палянцы паміж грабняком і баравым лесам, дзе яму аднойчы добра пашанцавала. Вядома, першыя грыбы, якія бачны ўсім, не трапляюць у Васілёў кошык. Іх выхопліваюць тыя, хто бяжыць па лесе яшчэ на самым золку.

У адзін з тых дзён Васіля па дарозе ў лес даганяе грузны Сямён Брыц, бацька злоснага бандзюгі Аркадзя Брыца.

Аркадзя няма, знік з мястэчка. Можа, паводзіцца дзе-небудзь у другім месцы, можа, нават у турме сядзіць.

Сямён маўклівы, нахмураны, рэдка з кім заводзіць гаворку. Нечакана ён, аднак, распачынае размову, больш таго, выварочвае перад Васілём душу:

— Калі я быў трохі старэйшы за цябе, пачалася рэвалюцыя. Нам, бедным людзям, было радасна: свабода, роўнасць, панам у карак дадуць. Паноў, праўда, у мястэчку не было. Нават памешчыка не было: мы значыліся як казённыя сяляне. Заплаці падатак тры рублі і ары зямлю, гадуй жывёлу. У твайго дзеда ведаеш колькі кароў было? Штук васямнаццаць. А цяпер што? Зямлю адабралі. Сагналі народ, як быдла, у калгас. Ды хоць каб парадак быў у калгасе. Парадку няма ніякага. Збожжа гніе, бульба гніе. А народ у чэргах тоўпіцца...

У лесе Васіль непрыкметна адстае ад Сямёна. Непрывычныя для яго такія размовы. Бацька цяперашні парадак жыцця не асуджае, і не трэба Васілю пра дзеда расказваць. Ён памятае, як жыў дзед. Можа, сапраўды меў шмат кароў. Для гною. Але нават добрай хаты не пабудаваў. Адны боты насіў усё жыццё...

Васіль дашукваецца прычыны, чаму Сямён так гаворыць. Некалі ён першы кінуўся ў калгас, пасек, папаліў іконы. Затым уцёк з калгаса. Яго нават судзіць хацелі, бо ноччу вывеў са стайні ўласнага каня.

Не пашанцавала Сямёну ў жыцці, прыходзіць да высновы Васіль. Сын бандыт, жонка, мажная, шыракатварая, з цэлым пакладам залатых зубоў, гуляе з кім захоча. Пра гэта ўсё мястэчка ведае...

Васіль уцёк ад Сямёна, бо не хоча бязладдзя ў думках. Ён сам бачыць, што яшчэ многа непарадкаў. Але павінна ісці на тое, каб выкараняць непарадак, каб жыццё паляпшалася...

Васілёва душа прагне гармоніі, зладжанасці і як бы знаходзіць яе ў лесе. Лес — жывая істота. Хораша ў лесе думаецца, у душу прыходзяць спакой, раўнавага.

Цяпер, у перадасеннюю пару, паветра напоена дзіўнай празрыстасцю. У нізкіх мясцінах нават пасля таго, як узыдзе сонца, вісіць туман, чапляючыся сваімі касмылямі за кож-

нае дрэва і куст. На іголках маладых сасонак блішчаць-пераліваюцца срабрыстыя кроплі.

Лес нібы жыве патайным, неразгаданым жыццём. Але нябачныя, нявыяўленыя праявы гэтага жыцця так ці інакш уздзейнічаюць на душу. У лесе ніколі не думаецца пра звычайнае, будзённае, бо хвоі, бярозы, дубы, іншыя дрэвы сваёй маўклівасцю ці нават ціхім шасценнем настройваюць думкі на высокі, урачысты лад.

Васіль малады, стаіць на парозе жыцця, і лес нібы настройвае яго на ўзвышаныя мары і летуценні. Колькі ўсяго перадумаў Васіль, вандруючы па светлых, пранізаных сонцам баравых чарнічніках, маладых сасняках, зарослых верасам бярэзніках.

Хоць і не гэтак многа пражыў Васіль, але ёсць што ўспомніць. Тут, у гэтым лесе, ён збіраў ягады, знайшоў свае першыя баравікі, на суседняе балотца, размешчанае за шырокім шляхам, ганяў вясной схуднелую за зіму карову. На балотцы вытыркалася першая трава чарнагалоў. Па галлі сосен скакалі цікаўныя вавёркі, няспынна дубаў аб старадрэвіну сваім нібы жалезным носам дзяцел, на другім канцы балотца зрэдку азываліся асцярожным краканнем дзікія качкі.

Хлопцы-пастушкі раскладвалі вогнішча, пяклі бульбу, збіралі па лесе чырвоненькую дробную ягаду касцяніку: звычайна горкая, праляжаўшы зіму пад снегам, яна рабілася кісла-салодкай, прыемнай на смак.

Па ярах, нізінах, упадзінах яшчэ ляжыць снег, а пачынае ўжо цячы бярозавік. Шчань для бярозавіку прывозіў у лес дзед, бацька, блізкія і далёкія суседзі. Вясной многа не вып’еш бярозавага соку: ён такі халодны, аж зводзіць зубы. Сок-бярозавік прываблівае малечу. Хлопцы робяць берасцяныя конаўкі і, трымаючы іх над вогнішчам (каб толькі не загарэлася бяроста), трохі падаграюць бярозавік і п’юць усмак.

Шлях, які перасякае лес, па ўсіх прыкметах, даўні, старажытны. Такі старажытны, што лес, які расце на левым баку, прыкметна адрозніваецца ад таго, што стаіць на правым. Можа, і ў даўнія часы, як цяпер, спецыяльна насаджалі лес.

Васіль пачынае грыбны абход з густога, цёмнага грабняку, на доле якога, густа засланага леташнім, нават пазалеташнім лісцем, часам можна знайсці дробненькі беленькі баравічок.

Насупроць, праз шлях,— стары дубняк. Ён рэдкі, расце на нізкім месцы, і Васіль ніколі туды не завітвае. Пад дубамі парослы куп’ем, асакой дол, і там наогул не знойдзеш ніякага грыба.

Год ад году Васіль пашырае абсягі вандровак. Чарнічна-брусьнічны бор, лес дзяцінства, ён праскаквае з ходу, хоць і ў ім можна падняць два-тры баравічкі.

На мяжы старога бору з маладымі сасновымі пасадкамі і светлымі густымі бярэзнікамі, якія насеяліся самі, ляжаць старыя акопы. Невядома, хто іх выкапаў: немцы, якія займалі гэтую мясцовасць у васямнаццатым годзе, ці белапалякі, якія прыйшлі ў дзевятнаццатым, а адступалі ў дваццатым.

Хутчэй белапалякі, бо яны абстрэльвалі мястэчка, спалілі старую царкву, якую Васіль ніколі не бачыў, і наогул пакінулі ў жыхароў нават горшае ўражанне, чым немцы. Калі Васіль ідзе ў школу, то заўсёды звяртае ўвагу на пабітую глыбокімі шрамамі сцяну хаты, якая належыць дзеду Івана Гарошыка. Тут разарваўся польскі снарад.

Акопы асыпаліся, аплылі, зараслі травой, з некаторых нават вытыркаюцца даволі рослыя бярозкі і хвойкі.

Баравікоў Васіль залішне многа не прыносіць. Па дванаццаць, пятнаццаць, у найбольш удалыя дні — па дваццаць. Лес, які цягнецца да вёскі Макаў, не надта грыбны. Дый ахвотнікаў збіраць баравікі мнагавата.

Нейкіх адметных грыбных мясцін Васіль не ведае. Перад тым, як зайсці ў лес, на душы трывога: ці знойдзе хоць што. Лес, аднак, не падводзіць. То ў адным месцы нешта знойдзеш, то ў другім. Купленая ў краме, сплеценая з палавінак лазовых дубцоў карзіна, пакрысе напаўняецца.

Васілёвы паходы ў лес дапамагаюць сям’і жыць. У канцы лета, на пачатку восені скарамніны ў доме ніякай. Купіць бацька камсы, траскі, але гэтай рыбы ў гаршчок не пакладзеш. Іншая справа грыбок-баравічок. Два-тры баравічкі, укінутыя ў забелены малаком картапляны суп, надаюць яму

незвычайны смак. Так што Васілёвы грыбы немалая для сям’і падмога.

Светлы бор заканчваецца пасадкамі маладых сасоннікаў, якія цягнуцца на вярсты тры-чатыры. Пасля іх пачынаюцца абсягі верасоў з адзінокімі рэдкімі соснамі, бясконцымі, зарослымі верасам, жаўтапёсамі.

Найчасцей Васіль бярэ кірунак на маладыя сасоннікі і светлыя бярэзнікі, якімі можна дайсці да суседняй вёскі Макаў. Некалькі разоў Васіль выбіраўся на ўскраек лесу, адкуль відны шэрыя макаўскія хаты.

На далёкія верасы можна выбіцца і другім шляхам. Пасля светлага бору пераскочыць шлях, звярнуць у правы бок і рэдкім сасоннікам з зарослым травой долам рушыць да Галістравай Лужы. Нізкаватага з травяным долам сасонніку Васіль не любіць. І не толькі таму, што тут рэдка знойдзеш грыб. Ёсць наогул мясціны, да якіх не ляжыць душа. Васіль іх прабягае, не запыняючыся. Не любіць ён нізкіх балацянак з чэзлымі хвойкамі, алешнікам, зараснікамі лазняку і вось такога зарослага травой сасонніку.

Галістрава Лужа адорвае пераважна сыраежкамі, ababкамі ды яшчэ таваранкамі. Таваранкі — шэранькія, з трывалымі пласцінaчнымі шапачкамі грыбы, якія, перш чым есці, трэба добра высушыць. У звычайным выглядзе яны трохі ядавітыя, хоць белага, як малако, соку, не выдзяляюць.

Дык вось пясчаная няўдобіца, заўсёды зарослая верасамі. Калі і адчуў прыгажосць зямлі Васіль, то іменна тут, на неабсяжных прасторах ружова-сініх верасоў. Высокае сіняе неба, сонца, празрыстае перадасенняе паветра і разасланы на вёрсты, прывабны, хоць аднастайны па колеру, дыван. Відаць, не аднаго Васіля ўражваюць верасы. Іх не жнуць, не косяць, не рвуць, як кветкі, але першы, яшчэ цёплы, прывабны месяц восені называецца ў беларусаў верасень.

Добра, прыемна на верасах. Думаецца аб усім на свеце. Можа, гэта нават не думкі, а няпэўныя, няясныя летуценні і адчуванні. Лёгкая прыемная хваля падхоплівае, нясе нібы на крылах, і ў гэтыя моманты знікае адчуванне часу, прасторы, душа нібы зазірае ў вечнасць.

Верасы таксама не багатыя на грыбы. Але баравікі, падасінавікі вырастаюць на прыволлі вялікія, ёмістыя. Знойдзеш пяць ці шэсць — і палавіна кошыка. Астатняе можна дабраць сыраежкамі, ababкамі, іншымі, няхай сабе не першакласнымі, грыбамі.

Калі ёсць акрайчык хлеба, то Васіль заўсёды палуднуе на верасах. Ціха навокал. Нібы ён адзіны чалавек на свеце. Зрэдку праляціць якая-небудзь птаха, прысядзе на галіну адзінокай стромкай сасны. Зумкне пчала ці чмель, пералятаючы з аднаго ружова-сіненькага суквецця на другое, збіраючы асенні верасовы мёд; пырхне пярэста-рабы ці сіні матыль. І зноў цішыня...

Захапленне птушкамі мінула, кнігі Васіль чытае паранейшаму. Лес гэтаму не перашкода. Ён можа хоць цэлы дзень правандраваць па лесе. І не засумуе. Хіба што ногі пачнуць балець ад бясконцага бадзяння.

Васіль нарэшце наважыў дапяць да хутара Салаха. Прынамсі, хутар гэты хутка знікне, і тады Васіль ніколі яго не ўбачыць.

Да Салаха трэба дабірацца ў паўночна-заходнім кірунку, абмінуўшы з усходу Галістраву Лужу. Вёскі тут у лясной старане рэдкія: да Макава вёрст дзесяць, да Зарэчча — чатырнаццаць, да Сухоцця — аж васямнаццаць. Так што лёгка заблудзіць.

Да Салаховага хутара цягнуцца досыць чэзлыя сасьнякі, якія раз-пораз перамяжаюцца палянамі пустых пясчаных няўдобіц, зарослых наздраватым імшанікам. У Васіля вострая цікавасць да хутаранцаў. Жывуць людзі на адзіноце, сярод лесу, звяроў, дзікіх птушак, не маючы блізкіх суседзяў, і наогул не могуць разлічваць ні на якую чалавечую дапамогу. Хіба цяжка напасці на іх ліхім людзям, якой-небудзь зладзейскай шайцы. Што тады? Як сябе адчуваюць хутаранцы асабліва ў зімнія ночы, калі гудуць сосны, завывае вецер дый ваўкі падбіраюцца пад самую сядзібу.

Васіль мог таксама жыць на хутары. Праўда, на хутары недалёкім, размешчаным на паўдарозе да Блізкага Ляда, адкуль мястэчка і асабліва станцыя відаць — як на далоні. Бацька, аднак, хутарскога жыцця не захацеў. Пайшоў працаваць на чыгунку, хату выбудаваў на дзедавым котлішчы.

У Бабінавічах вуліца выводзіць проста ў лес. Выйдзі з хаты — і вось табе малады бярэзнік, сасняк, нізкі верасок. Можна набраць грыбоў і праз якія-небудзь паўгадзіны смажыць іх на патэльні.

Васіль тым часам выдыбае па лесе, шукаючы хутар Салаха. Зямля пясчаная, неўрадлівая, таму на ёй расце адзін сасоннік.

Нарэшце выблісквае шырокая паляна. Пасярод яе просторная хата, сценкі яе з трохі пачарнелага ад вятроў бярвення, пакрытая дорам. Высока над студняй уздымаецца гладка ачэсаны журавель. Па-гаспадарску дагледжаныя хлявы, гумно, адрына. Нават азярод ёсць у хутаранца Салаха, і на ім якраз сушацца снапы. Між хатай і гаспадарчымі будынкамі расце некалькі груш, вішань, яблынь.

Дом і ўсе будынкі акружаны высокім тынам. Нейкія манаткі сушацца на тыне. Відаць панавешаныя на колле гладышыкі.

З аднаго боку да хутара падступае сцяна сасняку, з другога — беразняк і зялёная яшчэ лугавіна. Дзве каровы і цялушка пасуцца на лугавіне, а вышэй, па жытнішчы ці аўсянішчы, некалькі авечак.

Салахоў хутар Васілю падабаецца. Нейкая таямнічасць, загадкавасць як бы разліта навакол. Жыць тут, бадай, цікава. Грыбоў можна колькі хочаш назапасіць. Салах сена ўдосталь накосіць, і жывёле простор, выгода. Толькі хутка знікне хутар. Астанецца на шырокім двары куча цэглы, рознага друзу ды яшчэ грушы-яблынькі, якія без догляду хутка здзічэюць.

Васіль ахвотна напіўся б вады з Салаховай студні, але не адважваецца. Відаць, сабакі ёсць у Салаха. Ён крута паварочвае назад, у лес.

## VIII

Першага верасня Васіль ідзе ў школу, у сёмы клас. Заняткі ў другую змену. У канторы «Плодагародніна», размешчанай у другой, чыстай палавіне Васілёвага дома, на сцяне вісіць талерка рэпрадуктара, зробленая з чорнай траскучай паперы.

Бухгалтары, рахункаводы слухаюць толькі ранішнія апошнія паведамленні, затым вырываюць штэпсель з гнязда,

і радыё маўчыць увесь рабочы дзень, пакуль яны ляскаюць костачкамі лічыльнікаў і трашчаць на арыфмометрах.

Сёння радыё не выключаюць. Германія напала на Польшчу. Англія аб'явіла Германіі вайну.

Васіль у школу ідзе спакойна. Граніца з Польшчай блізка, ля Жыткавіч, гэта менш чым паўтараста кіламетраў. Але ёсць дагавор аб ненападзе паміж Германіяй і Савецкім Саюзам. Гітлер на СССР не рушыць. Невыпадкова Рыбентроп першы прыехаў у Маскву і папрасіў міру. Так думае Васіль.

Настрой ва ўсіх у школе звычайны. Толькі старшакласнікі і настаўнікі як бы трохі разгубленыя. Васіль ідзе па доўгім калідоры. Купка хлопцаў з дзявятага і дзясятага класаў стаяць каля акна, размаўляюць. Прамаўляе Іван Гарошык:

— Францыя заўтра ці паслязаўтра аб'явіць вайну Германіі. Пачнецца Другая сусветная...

— Ну і што,— выгуквае доўгі, як жардзіна, Аляксей Лопат.— Няхай грызуцца. Нам толькі выгада...

— Дурань ты! — Іван Гарошык наогул не любіць, калі яму пярэчаць. А з Лопатам у яго асаблівыя рахункі.— Можа такі пажар разгарэцца, што ахопіць увесь свет. Міргнуць не паспееш...

У гаворку ўмешваецца Цімох Стрыж:

— Гітлер на нас не нападзе. Калі раптам здурэе, то ў нас ёсць чым абараніцца.

Раздаецца званок, і хлопцы разыходзяцца па класах. Для Васіля гэта першы званок у сёмым класе, які з'яўляецца выпускным. Хто ведае, што будзе пасля сямігодкі. Можа, Васіль куды-небудзь паступіць і ў будучым годзе такога званка не пачуе.

Другі, трэці дзень ідзе вайна. Руйнуючы на шляху гарады, вёскі, па Польшчы імкліва прасоўваюцца нямецкія танкавыя калоны. Ірвуцца да Варшавы. Штосьці не дадумалі браты-славяне. Паны прэзідэнты, генералы не хацелі прапусціць праз польскую тэрыторыю савецкія дывізіі. Сталін і Молатаў тым часам падпісалі дагавор з Гітлерам. Вось як атрымліваецца.

Па чыгунцы ў напрамку Жыткавіч адзін за другім імчаць воінскія цягнікі. Вязуць танкі, танкеткі, гарматы. З праёмаў звычайных таварных вагонаў, часам нават рыпаю-

чы на гармоніках, выглядваюць чырвонаармейцы ў новых гімнасцёрках, шынялях. У мястэчку аб'яўлена частковая мабілізацыя: забіраюць маладых мужчын.

У адзін з тых дзён здараецца нечаканае. Сёмы «Б» займаецца на другім паверсе, у класе, вокны якога выходзяць на паўднёвы бок. Раптам над школьным дваром, неяк незвычайна лапочучы прапелерам, ляціць самалёт, увесь час паніжаючыся. Ён ледзь не кранае крыламі дахі хат, за могілкамі — на імгненне як бы завісае ў паветры, нарэшце ледзь не пад прамым вуглом падае ўніз на зямлю.

Урок зрываецца. Сёмы клас — ды і не адзін сёмы — шматгалосым натоўпам імчыць да месца катастрофы. Самалёт упаў недалёка ад могілак, на невялікай лугавіне. Самалёт урэзаўся ў зямлю, два лётчыкі ў белых гімнасцёрках мёртвыя. Па ўсіх прыкметах самалёт польскі. Чаму ён не сеў дзе-небудзь на полі? Чаму так раптоўна ўпаў? Бензіну не хапіла. Ці, можа, самалёт быў пашкоджаны?..

Пад вечар прыязджаюць вайскоўцы, забіраюць мёртвых лётчыкаў. Яшчэ за дзень дзятва абдзірае самалёт як толькі можа. Многія шкаляры пахваляюцца расчоскамі, якіх нарабілі з алюмініевай абшыўкі самалёта, а таксама з цэлулоіду, які выдралі з кабіны лётчыкаў.

І вось сямнаццатае верасня. Чырвоная Армія пераходзіць граніцу з Польшчай, каб узяць пад ахову заходніх беларусаў і ўкраінцаў. Бо, як пішуць у газетах, Польшчы фактычна не існуе, невядома нават, дзе знаходзіцца польскі ўрад.

Васіля поўніць радасць. Цяпер Беларусь будзе большай. Толькі мала ведае Васіль пра Заходнюю Беларусь.

А на другі дзень, пасля таго як Чырвоная Армія перайшла польскую граніцу, газета «Правда» друкуе верш Петруся Броўкі, прысвечаны заходнім беларусам:

Палілі вас агнём,
Знішчалі вас мячом,
Не смелі гаварыць вы моваю сваёй...

У рускамоўнай «Правде» верш надрукаваны па-беларуску. Васіль ганарыцца вершам: беларускае слова прачытаюць ва

ўсім неабсяжным Савецкім Саюзе, і, бадай, усе зразумеюць, што ў ім напісана.

На станцыі ўводзяць пасады сігналістаў, прызначыўшы імі найбольш вопытных стрэлачнікаў. Цягнікоў шмат, яны стаяць на пуцях паміж станцыямі, і трэба рэгуляваць іх рух. Бацька днюе і начуе цяпер у будцы паміж местачковай станцыяй і лясным раз'ездам Макаў. Раз у два-тры дні ён прыязджае дамоў, бярэ з сабой бохан хлеба, трохі круп, бульбы. Абеды, вячэры гатуе сабе сам.

Імкліва праходзіць Чырвоная Армія абсягі Заходняй Беларусі і Украіны. А там і ўстаноўчы сход галасуе за савецкую ўладу. Цяпер беларускі народ налічвае больш як дзесяць мільёнаў чалавек. Ды і тэрыторыі прыкметна прыбавілася.

Васіль — шчыры беларус і не можа не радавацца пераменам. Толькі ў тым, што адбылося, ёсць нешта не зусім зразумелае. У газетах, кнігах, якія Васіль чытаў, пісалася пра жабрацкае, халоднае і галоднае жыццё беларусаў пад польскай уладай. Аднак удзельнікі паходу ў Заходнюю Беларусь, якія да канца восені вярнуліся ў мястэчка, расказваюць зусім адваротнае. Магазіны ў гарадах поўныя тавараў, і якраз тых тавараў, па якія ў мястэчку доўгія чэргі або якіх зусім не купіш: розных тканін, сукнаў, абутку, вопраткі.

У армію быў мабілізаваны Васілёў сваяк Арцём, муж ягонай хроснай маці, бялявы шчуплы мужчына, які да мабілізацыі працаваў грузчыкам. То гэты Арцём, хоць ён ніякі не камандзір, добра-такі паджыўся, прайшоўшы ад Жыткавіч да Брэста. Прывёз некалькі адрэзаў сукна, прыгожых, на сукенкі сваім дзяўчатам, тканін, нават некалькі пар чаравікаў і ботаў прыхваціў.

І пра вайну Арцём маляўніча расказвае. Асаблівага супраціўлення панскае войска Чырвонай Арміі не чыніла, ахвотна здавалася ў палон, насельніцтва гарадоў, вёсак, якое гаворыць па-беларуску, з незвычайнай радасцю сустракала чырвонаармейцаў. У двух ці трох мясцінах быў бой, і Арцём хадзіў у атаку. «Кроў гарыць,— апавядаў ён.— Сябе не адчуваеш, няма страху, хоць побач падаюць параненыя, забітыя. Затое якая радасць, калі бой скончаны і ты застаўся жывы...»

Хутка немцы ўступілі ў Варшаву. Патроху пачаў забывацца кароткі і паспяховы паход Чырвонай Арміі на абсягі Заходняй Беларусі і Украіны.

Мабілізаваных местачкоўцаў (забітага не было ніводнага) да пачатку зімы адпусцілі, і вярнуліся яны, як і Арцём, не з пустымі рукамі.

Крамы ў Польшчы поўныя markdown рознага тавару. Гэта, вядома, добра. Толькі вось самалётаў, танкаў у палякаў аказалася малавата. Таму Гітлер так імкліва Польшчу разграміў.

## IX

Восень светлая, цёплая. Нават у кастрычніку свеціць сонца. З раніцы вісіць над палямі, балацянкамі туман, праз гадзіну-другую сонца яго разганяе. У нядзелю, у іншыя выхадныя дні Васіль па-ранейшаму ходзіць у лес, збірае грыбы. Яшчэ нават па некалькі баравікоў вышуквае. Але збольшага запаўняе кошык сыраежкамі, абабкамі і самымі познімі грыбамі восені — зялёнкамі.

Хораша ў маладых сасняках. Дол засыпаны жаўтаватай ігліцай, лісцем, зарос маладым вераском, і на гэтых пясчаных лапінах вытыркаюцца зялёнкі. З некаторых асабліва абсыпаных пяском каптурыкаў Васіль здымае паскі верхняй скуркі, якая лёгка аддзіраецца, а самі грыбы набываюць больш прывабны выгляд.

Васілём валодае няпэўны, самотны настрой. Ягоныя сябры Цімох Стрыж і Іван Гарошык вучацца ў дзявятым класе. Хутка скончаць школу, пададуцца ў шырокі свет. З Васілём што будзе?

Свайго бытавання ў мястэчку без Івана і Цімоха Васіль не ўяўляе. Ён адчувае: дайшоў да нейкага рубяжа, за якім павінна пачацца новае, зусім не падобнае на ранейшае, жыццё. Якое яно будзе?

Васіль як бы перанасыціўся кнігамі, якіх прачытаў, відаць, некалькі соцень. Ён і цяпер зацята чытае. Выбірае зарубежных пісьменнікаў — Ралана, Флабера, Бальзака, Гюго.

Беларускіх пісьменнікаў паменшала. Не прачытаеш Цішку Гартнага, Міхася Зарэцкага, Платона Галавача. У падручніках,

хрэстаматыях не напісана, чаму зніклі гэтыя імёны. Толькі вусна настаўнікі растлумачылі: яны — ворагі народа. У глыбіні душы Васіль не верыць, што пісьменнікі зрабіліся ворагамі. Хіба яны стралялі з кулямёта ці падкладвалі дынаміт пад заводы? І навошта паэтам, празаікам дынаміт?

Паэзіі Васіль чытае малавата. З беларускай паэзіі яго найбольш захапляюць вершы Якуба Коласа. Ён чытае гэтыя вершы цяпер, цёплай восенню, у хляве на сене. Імжыць дождж, ціхае шасценне вадзяных кропляў па саламянай страсе нараджае трохі самотны, шчымлівы настрой. Вершы Коласа нагадваюць знаёмае, зведанае, што Васіль сам бачыць на кожным кроку. І выдатна паэт апісвае лес: адчувае яго душу, настрой, які так часта ўвачавідкі мяняецца.

Васіль і сам зрэдку піша вершы. Пад уражаннем вызвалення заходніх беларусаў ён напісаў і нават паслаў адзін верш у рэдакцыю раённай газеты. Яго не надрукавалі, але Васіль не вельмі абразіўся. Паэтам ён сябе не лічыць і не бачыць.

Выпадкова Васіль выявіў, што Іван Гарошык таксама спрабуе сілы ў паэзіі. Нават за паэму ўзяўся. Пра Шаўчэнку. Відаць, таму, што нядаўна адшумеў шаўчэнкаўскі юбілей.

Купіў Іван вялікі, з добрай глянцавай паперы агульны сшытак і запаўняе яго клетачкі сваімі дробнымі, акуратнымі літаркамі:

Таварышы, Шаўчэнка быў паэт,
У голадзе і холадзе ён вырас,
Зрабіўся яго домам цэлы свет,
Які любіў ён горача і шчыра...

Ніштаватыя радкі. Тым больш што напісаў іх Гарошык, які найбольш здольны ў матэматыцы і, значыць, павінен адпаведна мысліць. Васіль разумее, чаму Іван узяўся за такую паэму. У лёсе Шаўчэнкі як бы бачыць свой уласны лёс. Жыве без бацькі, на мізэрныя аліменты: акрамя бульбы, кіслага малака, нічога на стале няма.

Не толькі да паэзіі прылучаецца Васіль, а і да музыкі. Сям’і Цімоха Стрыжа, паколькі ў ёй сямёра дзяцей, дзяржава выдала грашовую дапамогу. Дзве тысячы рублёў. Штаноў і сарочак сынам, дочкам накупляў стары Стрыж. Не пашкадаваў грошай на патэфон і пласцінкі.

З раніцы да вечара ў вялікай, як стадола, Цімохавай хаце не змаўкае музыка. Васіль шастае сюды кожны дзень. Пласцінак шмат: «По долинам и по взгорьям», «Зашумели, заиграли провода», «Тачанка-ростовчанка», «Широка страна моя родная» і іншыя. Ёсць і больш далікатная музыка: урыўкі з аперэт, розныя вальсы, факстроты, танга. Адно танга выконваецца нават на гавайскай гітары.

Стары Стрыж, як партыец, не забыў, вядома, пра Сталіна. У спецыяльнай кардоннай каробцы з такімі ж кардоннымі пракладкамі ляжаць дзесяць пласцінак, на якіх запісана прамова Сталіна на XVIII з’ездзе партыі. Гэтая прамова Васіля асабліва не захапляе. Голас у Сталіна глухі, невыразны, гаворыць правадыр марудна, дый вельмі моцна адчуваецца каўказскі акцэнт.

Астатнія пласцінкі — выдатныя. Іх, можа, паўсотні, музыка, песні на любы густ. Заспявала краіна! Чаму не спяваць? Тры ці чатыры гады магазіны не пустыя. Ёсць хлеб, масла, траска, камса, цукар, павідла, розныя цукеркі. Каб не стала горш. Бо з пачаткам вайны па цукар, напрыклад, зноў пачалі выстрайвацца чэргі.

Васіль сам не думаў, што гэтак захопіцца музыкай. Пра тое, каб набыць уласны патэфон, гаворкі не можа быць. На хлеб грошы бацька пазычае. Таму дзень у дзень Васіль шастае да Цімоха. Бывае, яго дома няма, як-ніяк ён школьны актывіст, дзевяцікласнік, але малодшыя Цімохавы браты, сёстры, як толькі Васіль паяўляецца, ахвотна заводзяць патэфон. Іголкі прытупіліся, музыка даносіцца праз шум і трэск, але ўсё адно гэта музыка. Васіль ахвотна заточвае іголкі на бруску. Ён нібы душой убірае словы песень, рытмы, мелодыі танцаў. Ён сам дагэтуль не ведаў, што так палюбіць музыку. Пра што яна гаворыць? Пра ўсё. Толькі не словамі. Галоўнае: музыка выклікае ў душы самыя разнастайныя пачуцці, пераважна ўзвышаныя, радасныя. Яна як бы прыўзнімае чалавека над звычайным, будзённым жыццём.

Добра, што ў Цімоха ёсць патэфон. Уся восень для Васіля праходзіць пад знакам музыкі, якая адбіта на шматлікіх Цімохавых пласцінках.

Настаўнікаў забіраюць у армію. Тых, якім гадоў па дваццаць пяць і нават трохі больш і якія па нейкіх прычынах мелі адтэрміноўку. Забіраюць чорнага як турка географа Антона Іванавіча Вярбілу, выкладчыка беларускай мовы і літаратуры ў старэйшых класах Шырокага, які за кароткі час паспеў спадабацца вучням. Калі ўлічыць, што пасля арышту з'ехаў з мястэчка Гудовіч, цяпер не будзе яшчэ географа, беларускага моваведа, то ў сёмым класе будуць выкладаць зусім новыя настаўнікі.

Так і здараецца. Замест Гудовіча, а затым Шырокага, прысылаюць прысадзістага пляшывага, з вялікай, як у мядзведзя, галавой, настаўніка Дарафеенку, які ў сёмым класе выкладае адразу рускую і беларускую мову і літаратуру. Але як выкладае Дарафеенка?! Смешна слухаць і глядзець. Садзіцца за стол, раскрывае перад сабой падручнік і, водзячы пальцам па радках, нешта плямкае шырокім ротам. Але ж падручнік сямікласнікі могуць самі прачытаць. Навошта тады настаўнік?

Ніколі не лаяўся Васіль. Свядома не дазваляў сабе слоўнай брыдоты. А тут па дарозе са школы не вытрымаў і лаяў Дарафеенку як толькі мог.

У сёмым класе за адной партай сядзяць два Дарафеенкавы сыны: чорныя, лабатыя, з вялікімі, зыркімі вачамі, якія, здаецца, круцяцца нібы на калясе. Яны не вучаць урокаў, ніколі не могуць адказаць ні на адно пытанне, але Дарафеенка і другія настаўнікі нібы нічога не заўважаюць. Ставяць лабачам тройкі і чацвёркі. Не, у местачковай дзесяцігодцы, якая лічыцца ўзорнай, такога яшчэ не было.

На кароткі час зноў паяўляецца ў школе нагала абстрыжаны географ Вярбіла. Яго нібыта знайшлі непрыгодным да вайсковай службы. Васіль весялее. Будзе ў класе хоць адна жывая душа. Але нядоўга выкладае географ. Тыдзень ці два. Яго зноў выклікаюць у ваенкамат і на гэты раз не адпускаюць.

Васіль вешае нос. Новы географ, прылізаны, у шчыгульным модным касцюме, як і Дарафеенка, чытае па падручніку. Беларускай мовы не ведае, прымушае вучняў адказваць па-руску.

Вось так. На ўвесь сёмы клас ніводнага цікавага настаўніка. Калі пойдзе гэтак і далей, то наогул у школу хадзіць не варта.

У мястэчка прыехала некалькі палякаў з-пад Бялай Падляскі. Яны не захацелі заставацца пад немцамі і папрасіліся ў Савецкі Саюз. Называюць сябе беларусамі.

У хуткім часе трое з гэтых палякаў паяўляюцца ў сёмым класе. Высокі, з прыемным вытанчаным тварам Слава Вержбалоўскі і два браты Юшчакі, нізкія, прысадзістыя, з хітрымі мігатлівымі вачамі.

Слава, ахайны, негаваркі, у добра пашытым цёмным касцюме, вучыўся ў гімназіі. У сёмым класе для яго не ўзнікае ніякіх пытанняў. Свабодна рашае задачы, усё хапае на ляту, на дзіва хутка пачынае амаль без памылак пісаць рускія і беларускія дыктанты. З Юшчакамі цяжэй. Нічога не разумеюць. Старэйшага перасаджваюць у шосты клас, малодшага — у пяты.

Васілю падабаецца Слава Вержбалоўскі. Некалькі разоў ён заводзіць з ім гаворку. Слава ахвотна адказвае, але на дружбу не ідзе.

Сумна ў сёмым класе, але часам выдаюцца і вясёлыя хвіліны. Матэматык Мялешка, высокі, з даволі прыемным тварам, у шэрым расхлістаным касцюме, уражвае клас сваёй незвычайнасцю з першай хвіліны. Па-першае, Мялешка зусім абыякавы да сваіх прадметаў — алгебры і геаметрыі. Зайшоўшы ў клас, з ходу кінуўшы на стол класны журнал, ён выцягвае з кішэні пінжака ключ ад замка і бярэ яго ў зубы.

— У мінулым годзе вы што праходзілі?

Дзяўчаты, якія сядзяць на пярэдніх партах, ахвотна тлумачаць, які вывучалі матэрыял.

— Глупства гэта. Нічога вы ў алгебры не разумееце. Дый навошта вам яна?

У сёмым класе ёсць ладныя дзяўчаты: паўнацелыя, з высокімі грудзямі, хоць замуж выдавай. На іх у першую чаргу скіроўвае позірк Мялешка.

— Вось ты,— звяртаецца настаўнік да Параскі Халімончык, ладнай дзябёлай дзяўчыны, якая сядзіць на адной з задніх партаў.— Можаш запісаць формулу сумы квадратаў?

— Магу.

— Напішы.

Дзяўчына як бы нехаця ўстае, кіруе да дошкі, даволі ўпэўнена выводзіць формулу.

— Глядзі ты. Не думаў, што ў тваёй галаве нешта ёсць. Садзіся. На сёння «пяць».

Хоць настаўнік грубаваты, бесцырымонны, але пасля такога павароту справы ў класе падымаецца лес рук. Усе прагнуць атрымаць высокі бал.

Мялешка ахвотна выклікае ўсіх, хто хоча адказваць, пытанні задае лёгкія і як з рэшата сыпле пяцёркамі. Нават тым ставіць іх, да каго ў дзённік рэдка і чацвёрка завітвала.

Васілю сумна. Некалі ён глядзеў на настаўнікаў як на людзей асаблівых, выключных. Сёння разумее, што яны звычайныя людзі. Ён думае, што ў жыцці настаўніка Мялешкі здарылася, відаць, штосьці надзвычай дрэннае, пасля чаго ён зрабіўся вось такім. Абыякавым да ўсяго на свеце. Нават да сваёй настаўніцкай работы. Во ён нічога не тлумачыць. Напіша на дошцы формулу, рэшыць задачу, загадае, каб вучні перапісалі гэта ў сшыткі і вывучылі да наступнага ўрока.

Фактычна ўрокаў алгебры і геаметрыі ў сёмым класе няма. Ніхто Мялешку не слухае, робіць што хоча. Тым часам ён, заціснуўшы між зубоў ключ, пахаджвае між партаў і неяк крыва, сарамліва пасміхаецца.

Нудна, нявесела праходзяць ледзь не ўсе ўрокі.

Затое з нейкай ліхаманкавай актыўнасцю пачынаюць працаваць абаронныя гурткі: па хімічнай абароне — ПВХО, санітарнай — ГСО, на здачу нормаў на значок «Варашылаўскі стралок».

Самы прэстыжны гурток на атрыманне значка «Гатоў да працы і абароны». Бо значок найпрыгажэйшы з усіх астатніх.

Васіль запісваецца ва ўсе гурткі. У іх выкладаюць вучні старэйшых класаў — дзявятага, дзясятага. Старшакласнікі тлумачаць матэрыял не горш за настаўнікаў, але Васілю нават гэта не трэба. Бо ёсць брашуркі, дзе ўсё напісана ясна і зразумела. Процівагаз Васіль навучыўся надзяваць, можа ў ім трымацца, простую перавязку зробіць.

Лёгка і паспяхова здае Васіль нормы на значкі ПВХО і ГСО. Ведае ўсе якасці смяртэльных для чалавека газаў — хлору, іпрыту, люізіту, адамсіту. На два астатнія значкі нор-

мы прыйдзецца здаваць вясной, бо трэба бегаць на розныя дыстанцыі, скакаць, адольваць бар'еры і перашкоды.

А на свеце ўжо вялікая вайна. Яна блізка. Савецкі Саюз мяжуе цяпер не з Польшчай, з самой Германіяй. Тым часам дзіўную вайну вядуць французы і англічане супроць немцаў. Зрэдку налятаюць на нямецкія гарады, немцы ім адказваюць. На самім фронце перастрэлка, пошукі разведчыкаў. Можа, гэта зацішша перад бурай?

У Васіля вострая цікавасць да вайны. І да цяперашняй, і да Першай сусветнай. Узяў у бібліятэчцы кнігу пра 1914—1918 гады і прачытаў яе за два-тры вечары.

У газетах фашыстаў не лаюць. Нават слова такое не ўжываецца. Як бы наогул фашыстаў на свеце няма. Франтавыя зводкі друкуюцца як нямецкія, так французскія і англійскія. Да немцаў у газетах сімпатыя, здаецца, нават большая, чым да англічан і французаў.

Фільмы пра вайну ў раённым Доме культуры, збудаваным з бярвення разбуранай царквы, ідуць па-ранейшаму. У адным з іх — «Истребители» — ёсць песня, якая вельмі Васілю спадабалася. Ён запомніў яе. Мелодыя гэтай песні часта бы сама сабой узнікае ў душы. Ды і словы ўзрушваюць:

Пройдем, товарищ, все бои и войны,
Не зная сна, не зная тишины.
Любимый город, можешь спать спокойно,
И видеть сны, и зеленеть среди весны...

Васіль прачытаў кнігу «Гитлер против СССР» О. Генры, у якой даказваецца, што крывавы дыктатар заваюе ўсю Еўропу, але спатыкнецца, напаўшы на савецкую краіну. Падымуцца народы заняволенай Еўропы, і ў гэтай барацьбе фашызм знойдзе сабе магілу.

У часопісе «Полымя рэвалюцыі» надрукаваны раман М. Шпанава «Дванаццаць гадзін вайны». У ім расказваецца, што нямецкія орды, не могучы прарвацца праз закаваныя ў сталь і граніт савецкія межы, рынуць на СССР толькі авіяцыяй. І чамусьці не з захаду, а праз Паўночны полюс. Роўна за дванаццаць гадзін яны будуць знішчаны ў ледзяной пустыні.

Магчыма, такія кнігі закалыхваюць, заспакойваюць Васіля, не даючы сапраўднага ўяўлення пра вайну, якая стаіць ля парога. Ва ўсялякім выпадку, пра рэальную вайну Васіль не думае або думае вельмі мала. Ёсць дагавор з Германіяй, усім вядома, што Чырвоная Армія магутная, непераможная, таму няма чаго лішне хвалявацца.

Усё часцей з'яўляецца ў Васіля думка, што такая, як цяпер, вучоба не мае сэнсу. Пасля сямігодкі трэба куды-небудзь падавацца. У тэхнікум ці хоць на якія курсы. Нельга слухаць такіх настаўнікаў, як Мялешка ці новы географ, і сядзець дармаедам на бацькоўскай шыі.

Тым болей што і новая істота ў сям'і паявілася — дзяўчынка, якую назвалі Жэня. Жэня нібыта дачасна нарадзілася — маленькая, кволенькая і нават плакаць не можа, толькі ледзь-ледзь папісквае. Вось так: у сям'і тры хлопцы і дзяўчынка. Сям'я згрудзілася ў першай, малой палавіне хаты, якую яшчэ і перагародка падзяляе. Каб не зыркалі лішне кліенты канторы на жыццё сям'і стрэлачніка. Наведвальнікі канторы бачаць толькі печ, каля якой заўсёды завіхаецца маці.

Сяргей таксама школьнік. Ходзіць у першы клас. Ён расце, вельмі хоча есці. Заўсёды бярэ з сабой лустачку хлеба. Калі няма хлеба, не саромеецца ўзяць у сшытую са звычайнага палатна, пафарбаваную ў чорны колер сумку дзве ці тры печаныя бульбіны.

Жэню з першых месяцаў жыцця возяць па дактарах. То адна хвароба прыключыцца, то другая. Дзяўчынка змарнела ўшчэнт. Васілю шкада сястрычкі, ён у ахвоту калыша яе, носіць на руках. Аднойчы Жэня ўдарылася галоўкай аб край плеценай калыскі і ўпершыню гучна, на ўвесь голас заплакала. Васіль пачаў біць калыску (ён рабіў так заўсёды — калі няньчыў яшчэ Петрыка і Сяргея), і Жэня адразу павесялела. Яна нават засмяялася: рада была, што Васіль карае калыску, якая прынесла ёй боль.

Нечакана выбухае новая вайна. Дзеля бяспекі Ленінграда савецкі ўрад папрасіў Фінляндыю перанесці граніцу падалей ад горада, аддаючы за гэта тэрыторыю ў тры ці чатыры разы большую ў Карэліі.

Фіны савецкую просьбу праігнаравалі.

І вось вайна.

Васіль лічыць вайну з Фінляндыяй несур’ёзнай. Колькі тых фінаў. У адным Ленінградзе столькі насельніцтва, колькі ва ўсёй Фінляндыі. Паход у Заходнюю Беларусь працягваўся тыдні тры. Відаць, і з Фінляндыяй будзе гэтак жа.

Аднак адбываецца нешта незразумелае. Пасля першых пераможных рэляцый наступае зацішша. Потым газеты нагогул перастаюць паведамляць пра занятыя Чырвонай Арміяй населеныя пункты. У той жа час па мястэчку паўзуць глухія трывожныя чуткі: лінія Манергейма непрыступная, Чырвоная Армія гібее ў прамёрзлых паўночных лясах і глыбокіх снягах.

А зіма пачынаецца не на жарты. У пачатку студзеня, нават тут, на Беларусі, маразы даходзяць да сарака градусаў. Ноччу на двары нібы нехта страляе. Гэта ад вялікіх маразоў разрываецца бярвенне, закладзенае ў сцены хлявоў і хат.

У Васіля цяпер адна толькі радасць — чытанне. Ён чытае ночы напралёт — да другіх ці трэціх пеўняў. Пад вечар у канторы ціха. Перастаюць ляскаць на лічыльніках бухгалтары, рахункаводы. У пакоі вісіць густы тытунёвы дым. Маці падмятае, затым мые падлогу, запальвае ў грубцы. Васіль адчыняе фортачку, якую спецыяльна прарэзалі ў раме акна, і дым паступова выходзіць.

Па вечарах да Васіля іншы раз прыходзіць Іван Гарошык. Хлопцы садзяцца каля грубкі, глядзяць на полымя, якое ў ёй бушуе, вядуць размовы.

Пра фінскую вайну таксама, бо яна разгортваецца вельмі няўдала.

— Дрэнна мы падрыхтаваныя да вайны,— гаворыць Іван.— Мізэрную Фінляндыю не можам адолець.

— Дык там жа доты, лінія Манергейма.

— Хіба нашы пра гэта не ведалі? Чаго тады палезлі? Цяпер ганьба на ўвесь свет.

— Былі і перамогі,— пярэчыць Васіль.— Успомні возера Хасан, раку Халхін-Гол. Там японцам далі па зубах. Японцы — не фіны.

— Яшчэ невядома, якая там была вайна. І колькі людзей палажылі. Я табе скажу: Гітлер як сыч з-за плота пазірае. Калі пераканаецца, што Чырвоная Армія слабая, нападзе.

— Ёсць жа дагавор.

— Пляваў Гітлер на дагаворы. Глядзі: Аўстрыю праглынуў. У каго ён пытаўся? Еўропа на калені стала перад Гітлерам. У Мюнхене падзялілі Чэхаславакію, аддалі Германіі Судэцкую вобласць, а Гітлер усё адно робіць што хоча. Польшчу растрыбушыў. Дабром гэта не скончыцца. Папомніш маё слова...

Трашчаць, пырскаючы іскрамі, у грубцы дровы. Дробныя вугалькі, бывае, вылятаюць з грубкі, падаючы на абабіты бляхай квадрат падлогі. Васіль разумее Івана: ён у дзявятым класе, хутка ў дзясяты пяройдзе, і калі вайна не скончыцца, яго забяруць у армію. Час такі. Васіль вучыўся толькі ў другім класе, калі пачаліся войны... Спачатку Італія напала на Абісінію, потым разгарэлася грамадзянская вайна ў Іспаніі, Германія захапіла Аўстрыю.

І пайшло і пайшло...

Фактычна ні аднаго года не было без вайны.

Самае лепшае, што ёсць цяпер у Васіля — гэта вечары ў пустой канторы. Сям'я туліцца ў пярэдняй хаце. Там, за перагародкай, бацька, маці, два браты і маленькая сястра Жэня. А Васіль у канторы як пан. У прасторным пакоі чатыры сталы, на кожным з іх добра запраўленая газай лямпа.

Адну з гэтых лямп Васіль запальвае. За акном ноч, шастае цёмнымі галінамі яблыня ў палісадніку, па кутках паміж шафамі, у якіх стаяць састаўленыя ў рад канцылярскія папкі, згушчаюцца цені. Лямпа кідае кружок святла на падлогу, наверсе, пад столлю толькі светлая пляма.

Кантора выпісвае шмат газет. Васіль прымошчваецца пад цёплай грубкай: засцілае падлогу старой коўдрай, пад галаву кладзе прапахлую карасінам, мазутам бацькаву фуфайку, акрываецца перашытым з шыняля палітончыкам. У гэтым месцы падлога няроўная, дрэнна прыладжаныя дошкі. Затое пад бокам цёплая грубка.

Напачатку Васіль чытае газеты. Так, сапраўды дзіўна ідзе вайна. Праўдзівей кажучы, ніяк не ідзе. Франты нерухомыя. Французы схаваліся за лініяй Мажыно, англічане трывожаць Германію паасобнымі налётамі на яе гарады.

Горш за ўсё, што фактычна церпіць паражэнне Чырвоная Армія, якая таўчэцца на Карэльскім перашыйку без ніякага руху наперад. Васіля гэта балюча ўражвае. Ён шчыра верыць таму, што пішацца ў газетах. Савецкі Саюз — непераможная краіна. Ён займае шостую частку зямной сушы. Грамадзяне сацыялістычнай дзяржавы, якія пазбавіліся ад ярма памешчыкаў, капіталістаў, з'яўляюцца творцамі ўласнага лёсу. Вольны чалавек усё адолее.

Аднак у газетах адно, у жыцці — другое. У мясцовым калгасе парадкі цераз пень-калоду. На працадзень — кілаграм хлеба, два — бульбы. Ёсць калгасы, дзе нават і гэтага няма. Пра якога тады вольнага чалавека, заможнае жыццё можна гаварыць?

Кнігі — цуд. Каб у Васіля спыталі, што з'яўляецца найбольшай радасцю ў жыцці, то, нават не задумваючыся, ён адказаў бы — кнігі.

Свой вольны час Васіль разрахоўвае так, каб як хутчэй застацца сам-насам са старым пашкамутаным томікам ці з новай кнігай, якая пахне яшчэ друкарскай фарбай. Няма большага шчасця, як неўпрыкмет перагортваць старонкі, поўніцца слодыччу ці горам бясконцых чалавечых гісторый, пра якія кнігі апавядаюць.

Дзякуючы прачытаным кнігам, Васіль нібы акідвае позіркам цэлы свет. Ён, відаць, расказаў бы пра многія гарады, краіны і не толькі пра іх клімат, горы, рэкі, а яшчэ пра многае іншае. Васілю часам здаецца, што ён нават быў у Парыжы. Столькі пра гэты горад напісана, што Васіль нібы ўвачавідкі бачыць, як гараць ліхтары на зацемненых вулачках, як стукаюць па бруку колы фіякраў і як на хаду, высунуўшы з-за фіранкі руку, таямнічая незнаёмка адважна кідае запіску свайму кавалеру.

Пакуль што ягоны Парыж ля грубкі. Прыемна грэе цяплом грубка, пахне карасінам, мазутам, іншымі чыгуначнымі пахамі бацькава фуфайка, свеціць, акрэсліваючы на падлозе шырокі круг, лямпа. Падлога няроўная, уздыбленая гарбом дошка муляе Васілю бок, але на такія дробязі ён не зважае. Светлы кружок не толькі на падлозе, а і на стале. На астатнім прасцягу пакоя паўзмрок.

Прыхінуўшыся спіной да цёплай грубкі, Васіль чытае. Гадзінніка ў канторы няма, і ён звычайна адкладвае кнігу ўбок пасля таго, як праспяваюць першыя пеўні. Калі захопіцца, нават іх не чуе. Кідае чытаць пасля другіх пеўняў.

Васіль чытае розныя кнігі. У тым ліку пра каханне. Ён як бы ўваходзіць у незнаёмае, нязведанае жыццё: таямнічае, прывабнае, але чымсьці трывожнае і нават драматычнае. Бо не простыя адносіны паміж людзьмі, у тым ліку і паміж закаханымі. Вельмі многа ў гэтых адносінах віхураў, бур, і зразумець іх прычыну часам вельмі нялёгка.

Васіль рады, што свабодны, вольны душой і ні пра якую дзяўчыну не думае. Бо ён ужо зведаў каханне, няхай сабе няспелае, дзіцячае, якое кранула яго яшчэ ў пятым класе. Але нават яно выпекла душу, прынесла столькі згрызот, што Васіль проста рады, што ні ў шостым класе, ні ў цяперашнім сёмым яго не прывабіла ніводная дзяўчына.

Бо далася яму ў знакі Маня Верхаводка, гнуткая, рухавая, як яшчарка, пяцікласніца, якой ён захапіўся, зусім нічога не ведаючы пра яе. Была смяшлівая, з густымі вяснушкамі на прадаўгаватым тварыку, звычайнай для Васіля і раптам стала значыць вельмі многа. Цэлае лета Васіль думаў пра яе, як пра асобу незвычайную, якую яму паслаў сам лёс. Можна сказаць нават, што трызніў Маняй Васіль. Гэта было як насланнё. Галоўнае: ён нічога не мог з сабой зрабіць. Маня стаяла ўваччу: прыгожая, недасяжная дзяўчынка ў сінім у кветачкі сарафанчыку. Ён думаў пра яе раніцай, днём, увечары, і думкі прыносілі слодыч і радасць.

Маня жыла ў другім, далёкім ад Васіля, канцы мястэчка. Гэта было добра. Бо Васіль не хацеў яе бачыць. Што б ён сказаў ёй, калі б раптам яны сустрэліся? Нічога. Ён толькі мог думаць, марыць пра яе.

Дзіўна: такое моцнае, трывалае пачуццё абарвалася нечакана і нават неяк абразліва. Пачаліся заняткі ў шостым класе. Да Мані Васіль, вядома, не падышоў. Яна, як і раней, насілася па класе, смяялася, рагатала, абняўшы за плечы сяброўак, аб нечым з імі шапталася. Такая Маня Васіля цалкам задавальняла. Іх размовы, магчыма, нават спатканні былі наперадзе.

Бо хто ў пятым ці няхай сабе шостым класе захапляецца дзяўчатамі?

І вось праз тыдзень ці два заняткаў у шостым класе Лёня Васіленка, увогуле прыгожы хлопец, падхапіў Маню на рукі і насіў па класе, а яна ў гэты час звонка, залівіста рагатала і ад задавальнення нават дрыгала ў паветры нагамі. Зачараванасць з Васіля як рукой зняло. Не было ніякага болю, пакутаў, перажыванняў. Васіль проста перастаў пра Маню думаць, і на гэтым усё шчасліва скончылася.

Цяпер ні Маня, ні якая-небудзь іншая школьная прыгажуня Васіля не хвалююць. Але ў глыбіні душы тоіцца радасць, змешаная з трывогай. Васіль нібы прадчувае, што хутка ўступіць у складаны, супярэчлівы свет, які называецца жыццём.

Чым яно адорыць Васіля? Радасцю, шчасцем ці няўдачамі і болем. Трашчаць, нібы страляюць, сцены хаты, парканы, дрэвы. К поўначы мароз яшчэ болей узмацняецца. Але грубка цёплая, Васіль, нібы баронячыся ад холаду, шчыльней прыціскаецца да яе.

Перш чым легчы спаць, Васіль пераносіць бліжэй да грубкі цяжкую жалезную скрынку касы, якая стаіць ля шафы галоўнага бухгалтара, блізка да акна. Ён не ведае, ці ёсць у касе грошы і колькі іх, але калі раптам зладзеі залезуць праз акно ў кантору, то хутчэй за ўсё дзеля касы і схаваных у ёй грошай. Нарэшце ён адкладвае кнігу, тушыць і адсоўвае трохі ўбок лямпу, каб у сне ненарокам не зачапіць.

Засынае Васіль імгненна. Сніць прыемныя сны, якіх ніколі не памятае, за пяць-шэсць гадзін, што застаюцца да світання, высыпаецца.

Назаўтра ўсё як дагэтуль. Толькі мароз яшчэ мацнейшы. Здаецца, за ўсё Васілёва жыццё не было такіх моцных халадоў. Сухі, бязветраны мароз зацінае дыханне, і каб Васіль, бегучы ў школу, не цёр час ад часу нос і далоні, то напэўна б іх адмарозіў. Як памятае сябе, зімой ён заўсёды мёрз. Ніколі не было ў яго кажушка, валёнак, ботаў, рукавіц. Не маглі бацькі, у якіх акрамя Васіля яшчэ двое сыноў, даць яму такую раскошу. Але ён на лёс не наракае. Многа такіх хлопцаў і дзяўчат, як ён. У мястэчку пераважаюць людзі не

надта багатыя. Некаторыя адпраўляюць сваіх дзяцей у шэрых сялянскіх світках, даматканых кашулях і нават у лапцях.

Каб сагрэцца, Васіль проста бяжыць. Чорны, перашыты з чыгуначнага шыняля палітончык носіць цяпер Петрык. У Васіля ёсць паліто, але яно кароткае, знасілася, вата збілася ў камякі, асела ў крыссі, і паліто засцерагае ад марозу слаба. Шапкі-вушанкі ў Васіля няма, на галаве звычайная кепка, і ён адчувае, як пачынаюць нямець вушы. Ён трэ іх як толькі можа, расцірае шчокі, нос. Самае горшае — адмарозіць нос. Тады ён будзе вечна лупіцца, як у якога-небудзь п’яніцы. Таму Васіль з асаблівай стараннасцю расцірае нос.

А ў Фінляндыі, дзе ідзе вайна, мароз, відаць, яшчэ мацнейшы. Як там адчуваюць сябе чырвонаармейцы сярод снягоў, абледзянелых соснаў, сіберных вятроў. Пра гэта Васіль думае часта, і ў яго балюча, трывожна на душы.

У школу ў гэты дзень болей палавіны вучняў не з’явілася. Тых, што прыйшлі, адпускаюць дамоў. Ёсць такое, хоць няпісанае, правіла: калі мароз перавышае дваццаць градусаў, у школу можна не ісці. А сёння, кажуць, ртуць у градусніку апусцілася ніжэй сарака.

Васіль прыбягае дамоў. Нос ён уратаваў, з вушамі — блага. Гараць вушы агнём. Маці націрае сыну вушы шмальцам. У вялікім зялёным шкапе, што стаіць у сенечках, знаходзіць старую бацькаву шапку-кубанку. Шапка зашмальцаваная, нягеглая з выгляду, але яе бакі можна апусціць і тады яны закрываюць вушы.

Дзе каратка, там і рвецца. Якраз кончыліся дровы, нарыхтаваныя ў Астроўках. Ды і хлеба ў хаце няма. З таго часу, як пачалася фінская вайна, з хлебам у крамах стала тугавата. Хлеб, дровы — Васілёў клопат. Проста няшчасце, што іменна ў вялікія маразы кончыліся дровы. Але дзіва няма: у хаце дзве печкі, за восень і пачатак зімы дровы спалілі.

Насунуўшы старую шапку-кубанку, якая яму ледзь вочы не закрывае, узяўшы ў маці тры рублі, Васіль спачатку ідзе купляць хлеб. Чэргаў ён не баіцца. Яны прайшлі праз усё ягонае дзяцінства. Быў светлы прамежак, які цягнуўся гады тры-чатыры, калі ў прадуктовых магазінах чэргі прапалі. Цяпер, з пачаткам вайны, яны зноў аднавіліся.

На вопратку, абутак чэргі не перапыняліся ніколі. Усё, што Васіль на сабе носіць, прывезена з Масквы або здабыта ў чэргах. Чаравікі, штаны, сарочка.

Хлеба тым часам няма ні ў цэнтральнай краме, размешчанай недалёка ад школы, ні ў астатніх.

Васіль ідзе ў леспрамгасаўскую краму. Мароз усё болей падціскае. Пранізліва рыпіць пад нагамі прамерзлы, прыбіты, утаптаны снег. У левым чаравіку падэшва трохі адстала і швы разышліся. Васіль, як умеў, прымацаваў падэшву дротам, швы сцягнуў суравымі ніткамі, а каб асабліва не кідаўся ў вочы ягоны самадзейны рамонт, ніткі пафарбаваў чарнілам. Нага, аднак, мерзне. Ды і палітончык са збітай у крыссі ватай не вельмі грэе.

Васіль у адчаі: у леспрамгасаўскім магазіне хлеба таксама няма. Прадалі. Не вельмі чакалі Васіля, пакуль адсядзіць шэсць урокаў. Што рабіць? Лягчэй за ўсё дома сказаць, што хлеба няма. А што есці будуць? Маці, вядома, можа зварыць бульбы, як-небудзь павячэраюць. А як заўтра? З чым Васіль, Петрык і Сяргей пойдуць у школу?

Хлеба між тым няма і ў чыгуначнай краме, і ў сельпоўскім буданчыку, у якім стаіць за прылаўкам раскормленая, дзябёлая, але з прыемным тварам і голасам крамніца Ліда. Буданчык гэты так і называюць — Лідзіна лаўка.

Усюды, куды б Васіль ні завітаў, прадаўцы ў адзін голас балабоняць: хлеба не будзе. На сённяшні дзень ліміт прадалі.

Васіль не ведае, што рабіць. Крамы, магазіны ён абшастаў, ісці болей няма куды. Жанчыны лаюцца з прадаўцамі, але толк з гэтага невялікі.

Раптам Васілю цюкнула: не ўсё страчана. Ёсць станцыйны буфет, сталоўка. Хлеб там не прадаюць, але, можа, яму ўдасца выкленчыць у буфетчыцы хоць кілаграм. Не проста ж будзе прасіць — за грошы.

У станцыйным буфеце шум, гоман, шызай хмарай вісіць густы махорачны дым. Стаіць чарга, тым, хто бярэ віно, гарэлку, буфетчыца дае па кавалачку каўбасы і не болей як па дзвесце грамаў хлеба. Відавочна: Васілёвы спадзяванні марныя. Злосная, нахмураная буфетчыца нават паўкілаграма хлеба не прадасць.

Васіль ідзе ў сталоўку. Яна на дальняй пясчанай вуліцы, за гарадком аўташколы. Ён настолькі ўзбуджаны, усхваляваны, што нават холаду не адчувае.

Разлік у Васіля просты: сталоўка ў чорта на кулічках, цісне мароз і наўрад хто з местачковых пойдзе туды сёрбаць боршч. А хлеб тым часам застаецца.

Васілёў прагноз спраўдзіўся на ўсе сто працэнтаў. Наведвальнікаў у сталоўцы няма, ёсць хлеб. Бяры хоць тры буханкі. Але ж не вельмі возьмеш, бо каштуе хлеб па два рублі восемдзесят капеек за кілаграм. Ён белы, пульхны, мяккі, як вата, і толькі аднойчы на Першае мая бацька прынёс булку такога хлеба.

Васіль вагаецца. Замест трох за свае грошы прынясе толькі кілаграм. Дома хлеб праглынуць, і ніхто не наесца. Але падыходзяць разгарачаныя жанкі, якія, відаць, таксама блукалі па мястэчку ў пошуках хлеба, бяруць па буханцы, па дзве, і Васіль нарэшце адважваецца.

Пакуль Васіль дабег дамоў, кілаграм пульхнага хлеба зашэрх, як бы зменшыўся ў памерах і нагадвае цвёрды, замёрзлы камяк.

Маці не дакарае Васіля, але ён сам адчувае сябе вінаватым.

Цяпер яшчэ трэба раздабыць дроў. Самае меншае дзве плашкі.

Калі дзень няўдала пачнецца, то няўдала і скончыцца. На станцыйным дрывяным складзе ёсць вартаўнікі, але Васіль іх не вельмі баіцца. Прыцемкам ён падыходзіць да штабеля дроў, выбірае сярэдняй вагі плашку, каб ільга было панесці, і, не надта асцерагаючыся, шыбуе ўзбоч чыгункі дадому. Ідзе хлапчак, нясе на плечуку палку дроў. Ну і што? Увесь канец Васілёвай вуліцы так робіць. Коней ні ў кога няма, машыну неноймеш — дарагая, а казна тым часам не збяднее. Можа, дваццаць ці трыццаць грузавікоў тралююць дровы з лесу, штодня некалькі вагонаў загружаецца плашкамі і адпраўляецца ў гарады. То неяк жа павінна жыць і мястэчка.

Пабойваецца Васіль аднаго Бозі — такая мянушка ў вартаўніка базы і засыпаных зямлёй буртоў бульбы «Плодагародніны». Нягледзячы на тое, што кантора «Плодагародніна» ў Васілёвай хаце, Бозя да яго ставіцца

варожа. Варожасць гэтая пачалася даўно, яшчэ калі на канцы бацькавага агарода толькі пачалі будаваць базу. Васіль прыходзіў па трэскі, браў іх, не зважаючы на Бозю, і яшчэ тады стары бурклівы вартаўнік неўзлюбіў надакучлівага хлопца.

Відаць, леспрамгас трохі прыплачвае Бозю, бо інакш не сачыў бы ён гэтак пільна за тымі, хто нясе на плячы казённую плашку. Дарослых Бозя пабойваецца, такім падлеткам, як Васіль, праходу не дае.

У гэты надвячорак Васіль якраз і нарваўся на Бозю. Стары вынырнуў аднекуль з цемры і стаў перад хлопцам як укопаны.

— Я табе вушы паабрываю, калі яшчэ раз злаўлю,— заявіў Бозя сваім прарэзлівым, пісклявым голасам. Схапіўшы абедзвюма рукамі плашку, ён сцягнуў яе з Васілёвага пляча.— Развялося паганцаў, бозя мой, бозя...

Бозя з Васілёвай плашкай на плячы ідзе ў курэнь. Зімой і летам жыве ён у гэтым абкладзеным дзёрнам курані, у якім пастаянна гарыць агонь і ўецца з вузкай гарлавіны дым. Бозеў курэнь вельмі нагадвае ненецкі чум, намаляваны ў падручніку геаграфіі.

Бозя варыць страву ў закураным кацялку, ходзіць у даматканых штанах, кашулі, толькі накідваючы на плечы кажушок. Вартаўнік ён адменны.

На гэты вечар Васіль яшчэ сяк-так назбіраў дроў: на санчках прывалок старую шпалу, садраў дошку з паркана.

Але дрэнна страціць веру ў сябе. У наступныя дні мароз не спадае, нават яшчэ больш узмацняецца. Колькі ні шастае Васіль каля станцыйных штабялёў, мерзнучы ў паліто са збітай у крыссі ватай, яму не ўдаецца прынесці ніводнай плашкі. Усюды мроіцца Бозя. Між тым нават рэшткі дроў знікаюць з дрывотні.

Нос Васіль уратаваў, а вушы адмарозіў. Яны спачатку балелі, свярбелі, потым як ад правага, так і ад левага вуха пачала аддзяляцца пачарнелая скура.

З хлебам наладжваецца. Бачачы, што яго расхопліваюць, чыгуначнікі робяць адпаведныя захады. У іх свая пякарня, то чаму яны павінны залежаць ад іншых службоўцаў? З гэтага часу чыгуначнікі завозяць хлеб не ў краму, а ў памяшканне

кандуктарскай і там прадаюць. Чужы чалавек на станцыю не торкнецца. І Васілю выгода: пастаіць якую-небудзь гадзіну ў чарзе і шыбуе дамоў з дзвюма буханкамі пад пахай.

З дрывамі па-ранейшаму катастрофа. Усё драўлянае, без чаго можна абысціся — дошкі, якімі адгароджваецца закутак для цяляці, падпоркі з-пад яблынь, нават арэхавыя кійкі, наношаныя летам пад фасолю,— Васіль папілаваў, пакалоў, пасек, і цяпер, каб ён нават захацеў, няма за што зачапіць рукі. Не будзеш жа расцягваць на дровы хлеў ці хату?

Адзін з тых пранізліва-марозных дзён выдаецца асабліва няўдалым. Зябнучы, дрыжучы, Васіль больш як гадзіну вандруе каля штабялёў. Тым часам і Бозя на варце стаіць пільна. Няма ніякай магчымасці прашмыгнуць міма яго з плашкай на плячы. Наступае вечар, барвавее заходні край неба — прыкмета, што і ноччу мароз будзе трашчаць. Паліць у печы, у грубцы тым часам няма чым.

Васіль нарэшце ўспамінае: на ўзмежку суседняга агарода ляжыць вываратэнь. Таполю паваліла ветрам, яе парэзалі на кавалкі, а корань застаўся. Васіль бярэ пілу, кліча на дапамогу Петрыка, і ўдвух яны кіруюць на агарод. Яны адпілоўваюць карані выварaтня, рассякаюць іх, і атрымліваецца бярэмя дроў. Але што гэта за дровы! Успыхнулі, як салома, не даўшы ніякага цяпла, і ледзь-ледзь удалося зварыць на вячэру бульбу.

Фінская вайна працягваецца. З кароткіх зводак, якія друкуюцца ў газетах, нічога не зразумееш. Чырвоная Армія, хутчэй за ўсё, таўчэцца на месцы. Паўзуць злавесныя чуткі: фіны заселі ў жалезабетонных дотах і выбіць іх адтуль няма ніякай магчымасці. Чырвонаармейцы гінуць, тысячамі замярзаюць у паўночных снягах.

Васіль усё больш нервуецца: столькі пісалі аб непераможнасці Чырвонай Арміі, а яна з маленькай Фінляндыяй не можа справіцца. Васілю нават часам газет не хочацца чытаць.

Нарэшце невялікая прасветліна ў халодным змрочным жыцці. Бозя збрыдзеў не аднаму Васілю. Вуліца, населеная чыгуначнікамі, іншым людам, у якіх коней няма і няма на чым прывезці дроў, нарэшце адчула, што менавіта Бозя зацікае яе інтарэс. На ўвішнага вартаўніка нехта напісаў заяву. Сэнс яе ў тым, што Бозя сам абвінавачваецца ў злачынстве: бессаром-

на крадзе дровы са склада, які павінен ахоўваць. Прыбывае камісія, факты пацвярджаюцца. Бозя сапраўды не шкадуе казённых плашак на ацяпленне свайго чума-кураня. Агонь у яго куранi нiколi не згасае. Дый за куранём, пад леташнiм бульбоўнікам, знаходзіць камісія два ці нават тры кубаметры казённых плашак. Відаць, і Васілёвы ляжалі ў тым штабелі.

Бозю судзяць. Улічваючы ягоны ўзрост, даюць год прымусоўкі. Пасылаюць вартаваць будаўнічы матэрыял, з якога вёрст за дзесяць ад мястэчка пракладваецца шаша.

Вуліца ўздыхае з палёгкай. Усё вяртаецца на ранейшыя кругі. Васіль цягае плашкі, пілуе, сячэ вечарамі. Прыхінуўшыся да цёплай грубкі, хуценька перакiдвае газеты, дзе пішацца пра вайну сярод фінскіх снягоў.

Перамог на Карэльскім перашыйку па-ранейшаму няма. І няма адказу на балючае пытанне, чаму стала такой непаваротлівай, няздольнай на подзвігі Чырвоная Армія.

## X

У школе будзёншчына. Большасць новых настаўнікаў паранейшаму сумна, нудна вядуць урокі. Стары Дарафеенка, як і раней, тлумачыць новы матэрыял, не адрываючы вачэй ад раскрытага падручніка. Новы географ, які вельмі ахайна апранаецца, так прылізвае валасы, што яны блішчаць. Зайшоўшы ў клас, зыркае вачамі на рослых сямікласніц і адзнакі ім ставіць не па заслугах. Настаўнік ён неважнецкі. Прыходзіць на ўрок з канспектам. Глядзіць у канспект і водзіць указкай па карце.

Колькі нітачка ні ўецца, а канец будзе. Катастрофа з матэматыкай. Кантрольную задачу па алгебры сёмы клас не рашыў. За выключэннем Грышы Чэкмана — малога, як вузел, хлапчака з суседняй вёскі Кавенькі. Грыша прыроджаны матэматык. На ляту хапае паспешлівыя тлумачэнні, ідэі, якія вельмі невыразна даносіць да класа няўважлівы, абыякавы да ўсяго Мялешка.

Васіль таксама спасаваў. Ураўненне з двума невядомымі развязаў, ён наогул лёгка, паспяхова рашае такія ўраўненні, але з двума прыкладамі на складаныя дробы не справіўся.

Педсавет рашэнне прымае імгненна. Мялешку ад работы адхіляюць, наогул звальняюць са школы, выкладаць матэматыку ў сёмы клас прыходзіць Зінаіда Паўлаўна Брусніцына, настаўніца рашучая, уладная і талковая. Праверыўшы клас, пераканаўшыся, што веды па матэматыцы ў яго не дужа грунтоўныя, яна пачынае з паўтарэння. Загадвае дастаць падручнікі пятага класа. І вось сямікласнікі, пачынаючы з трэцяй чвэрці, зноў бяруцца за арыфметычныя дробы, працэнты, затым за пачатак алгебры.

Здараецца бяда з бацькам Славы Вержбалоўскага. Слава вучыцца ў сёмым класе як належыць. Нават не скажаш, што год назад ён наведваў польскую гімназію. Разумны, здагадлівы, кампанейскі хлопец Слава, хоць на дружбу лішне не набіваецца. Ягонаму бацьку, аднак, не спадабаліся парадкі ў мясцовым калгасе. Настрою ён не тоіць — выступае на сходах, крытыкуе старшыню, брыгадзіраў. Ключы пад яго падбіраюць хутка. Абвінавачваюць у варожай агітацыі, арыштоўваюць, і ён бясследна знікае з мястэчка.

Месяц сакавік на свеце. Кожны дзень круцяць мяцеліцы-завірухі. На агародзе вялізныя гурбы снегу. Яны пахавалі пад сабой плятні, парканы, са стрэх хлявоў, адрын можна з’язджаць на лыжах.

Дзятва катаецца на санках. На вуліцы рогат, віск. Петрык так улягае ў гульню, што не звяртае ніякай увагі на ўрокі.

Васіль, як раней, цягае з дрывянога склада плашкі, пілуе, коле іх на дровы, стаіць у чарзе па хлеб. У душы збіраецца крыўда. Аднойчы яна прарываецца.

— Петрыку дванаццаць гадоў, а ён нічога не робіць,— гучна прамаўляе перад бацькам і маці Васіль.— Колькі хоча гуляе, ірве чаравікі і толькі двойкі прыносіць. Усё на мяне ўзвалілі...

Бацька з маці моўчкі пераглядваюцца. Скарга трапіла ў цэль. Бацька вядзе перамовы з загадчыкам канторы Фрышманам, і «Плодагародніна» нарэшце расшчодрываецца: выпісвае аж пяць метраў дроў.

Канчаецца нарэшце фінская вайна. Карэльскі перашыек з горадам Выбаргам становіцца савецкім.

Дорага каштаваў гэты перашыек. З вайны вярнулася некалькі местачкоўцаў, яны расказваюць жахлівыя гісторыі. У невыносныя маразы, па лясах, засыпаных снегам, чырвонаармейскія роты, батальёны ў лоб штурмавалі жалезабетонныя фінскія доты.

Нават неяк залішне хутка ў раённым Доме культуры паказваюць кінафільм «Лінія Манергейма».

Вялікага ўражання фільм на Васіля не робіць. Разваліць доты на жалезабетонныя глыбы, з якіх, нібы зубы невядомага страшыдлы, тырчаць жалезныя пруты, бэлькі, было, вядома, цяжка. Але ж супроць маленькай Фінляндыі ваяваў магутны Савецкі Саюз. Таму выхваляцца, што за пяць месяцаў армія прарвала на Карэльскім перашыйку тры ці чатыры абарончыя рубяжы генерала Манергейма, проста смешна. Камандаванне, перш чым пачынаць вайну, мусіла ведаць пра доты, дзоты і ўсё астатняе.

Іван Гарошык, які таксама глядзеў «Лінію Манергейма» разам з Васілём, выйшаў з вялікай, як стадола, залы клуба проста абураны.

— Ваяваць не ўмеем,— рашуча заяўляе ён.— Гітлер такое не прапусціць. Папомніш маё слова, Гітлер на нас нападзе...

Перад Васілём упершыню за пахмурную зіму нібы выблісквае першы светлы прамень. Толькі цяпер успамінае Васіль, што ў яго ёсць лыжы, якія ён знайшоў за школьным хлявом. Да лыжаў трэба палкі. Іх можна здабыць толькі ў арэшніку. А тут яшчэ маці просіць нарэзаць бярозавых дубцоў на венік. Васіль першы раз за зіму выбіраецца ў лес. Пакуль без лыжаў.

На двары — мяцеліца. Свішча вецер, секучы ў твар снежнай крупкай. Васіль ідзе чыгункай, левай каляінай, каб убачыць цягнік, калі ён будзе набліжацца.

У полі, за Шкробавай будкай, снежная каламуць. Вецер узмацняецца, згушчаецца снежная мітусяніна. У тым месцы, дзе па правы бок чыгункі стаіць некалькі разгалістых дубоў-веліканаў, як бы чуецца шум. Васіль напачатку думае, што гэта вецер гуляе ў шырокіх дубовых шатах. І толькі ў апошнюю хвіліну за два-тры дзясяткі метраў ад сябе Васіль бачыць чорны цягнік, які на яго ляціць. Васіль сігае ў адхон,

падае ў мяккі снег, і зараз жа міма яго пралятае чорны паравоз, ляскоча коламі доўгая чарада вагонаў.

Арэхавыя кійкі Васіль вырэзвае, наломвае на венік бярозавых дубцоў. І дае сабе зарок ніколі не хадзіць у снежную замець чыгункай.

Нарэшце Васіль націрае лыжы воскам і выпраўляецца ў сваю першую лыжную вандроўку. Паліто не апранае, проста пад пінжачок паддзявае яшчэ адну сарочку. Снег зашэрх, па полі ісці лёгка, прыемна. Толькі не ісці трэба, а бегчы, бо інакш замерзнеш.

З таго часу, як пачаліся заняткі ў школе, Васіль упершыню вырываецца на прастор. Дзяцінства мінула, ніякіх прыгод ён не шукае. Ды якія могуць быць прыгоды на пустым заснежаным полі, па якім Васіль шоргае лыжамі, насы якіх глядзяць у адзін правы бок. Снежны наст моцна трымае: снег зляжаўся, прамёрз і толькі зрэдку лыжына правальваецца, прабіваючы зледзянелую скарынку. Поверх гэтай скарынкі вецер перага182няе з месца на месца белую далікатную снежную муку, якая насыпалася з неба за апошні дзень. У лагчынах такой мукі занадта многа, і лыжы тут правальваюцца глыбока.

Васіль стараецца ісці як мага хутчэй, бо спіну прабірае мароз. Толькі палкі без кольцаў на канцах глыбока правальваюцца ў снег і замінаюць хуткай хадзе. Але на роўных мясцінах можна без палак абысціся. Васіль бяжыць па снежным насце, трымаючы палкі пад пахамі.

Хутка ён знаходзіць патрэбны тэмп і рытм: проста хутка крочыць па аснежаным полі, не выбіваючыся з сіл. Узмакрэлая ніжняя сарочка прыемна астуджвае разгарачанае цела. Васіль шалік прыхапіў, абгарнуў шыю, таму каўнер сарочкі сухі.

Удалечыні сінее лес. Цяпер сакавік, пярэдадзень вясны, і лес ахінае намітка ледзь прыкметнай сінечы. З-пад снегу, асабліва на пагорках, вытыркаюцца чубкі травы, былкі, выпетраныя бадылі. Насенне палявых раслін паўсюдна абдзёўбана птушкамі: пра гэта сведчаць кружочкі лускі каля кожнай больш-менш прыкметнай расліны, мяцёлкі якой маюць насенне. І цяпер чырванагрудыя снегіры вісяць на паасобных бадылях, успырхваючы, пачуўшы шоргат Васілёвых лыжаў.

Цяжка ў гэтую пару птушкам: корму ўсё менш, добра, што хоць маразы лопнулі.

Увесь прастор поля спярэшчаны слядамі. Яны розныя, і ўсіх іх Васіль не ведае. Відаць, шукаючы спажывы, бегаюць па полі зайцы, кіруючыся да крайніх хлявоў збудаванай з былых хутароў Чырваназорнай вуліцы, пятляла па снезе хітрая ліса, можа, нават воўк, пачуўшы дух здыхляціны ці намерваючыся падгрэбціся пад хлеў і выцягнуць авечку, ноччу краўся да мястэчка.

У маладым бярозавым гайку зычна каркаюць вароны. Варон многа: аж чорна ад іх на вершалінах бяроз. Каля Шкробавай будкі, у лагчынцы, сінеюць хмызы, узвышаецца чубок высокага разгалістага асінніку. Гэта ўсё мясціны Васілёвага дзяцінства. Ён любіў лазіць на Шкробавы асіны і нават на кары іх вырэзваў сваё прозвішча.

Васіль і цяпер бывае тут летам. Рамонтная брыгада, у якой ён працуе на канікулах, часта рамантуе чыгунку якраз у гэтым месцы. Вунь і купка высокіх разгалістых дубоў, пад якімі звычайна рамонтнікі палуднуюць, а пасля, прыкрыўшы шапкамі твары, патрошку спяць.

Васіль адчувае: да густога лесу не дойдзе. Пад дубамі, паблізу якіх растуць бярозы, асіны, кусты вербалозу, снег лыжаў не трымае, яны кожны міг правальваюцца. Ён ледзьве іх са снегу выцягвае. Ужо надвячорак, і трэба да цемені дабрацца дамоў.

За зіму, адседжваючы ўрокі, стоячы ў чэргах па хлеб, цягаючы са станцыі плашкі, да поўначы чытаючы, Васіль парадкам падупаў. Можа, яшчэ таму, што пераборлівы ў ядзе. Зусім не есць смажанай бульбы, кіслых буракоў, ячменнага крупніку — страў, якія маці вельмі часта гатуе на абед. Абыходзіцца шклянкай малака, кавалкам хлеба. Затое меншыя браты Петрык і Сяргей сякуць без разбору.

Ідзе вясна. Васіль адчувае гэта па многіх прыкметах. Часцей выглядвае сонца, са стрэх звісаюць светлыя ледзяныя суслы, святлейшымі робяцца дні. Тут, у пералеску, свае прыкметы набліжэння вясны. Дубы стаяць спакойныя, толькі вецер ледзь чутна шастае ў іх разгалістых шатах. Бярозы, асіны нібы павесялелі. На вербалозінах набухаюць пукаўкі, некаторыя нават напалову раскрыліся, і з іх вытыркаюцца белыя пушыстыя коцікі.

## XI

Бухгалтары ў канторы ляскаюць на лічыльніках, трашчаць на арыфмометрах. Тут сваё жыццё, нечым падобнае на тое, якое Васіль бачыць у школе. Строгі лад, распарадак. Толькі ў школе шэсць урокаў, а бухгалтары сядзяць па восем і болей гадзін. Галоўны бухгалтар Асецкі іншы раз прымушае падначаленых заседжвацца звыш рабочага часу. Сам ён нават не ходзіць на абед. З'есць бутэрброд, пастаіць, паглядзіць у акно і зноў садзіцца за лічыльнікі.

Васіль адчувае: маладая жонка бухгалтара, ягоныя малыя дзеці шмат ад яго патрабуюць. Іншы раз Асецкі і пасля работы застаецца ў канторы і працуе гадзін да дзесяці. Васіль у такім выпадку запальвае грубку і, узяўшы кнігу, садзіцца перад ёй. Ён цяпер чытае «Жана Крыстофа» Рамена Ралана. Такія кнігі яму падабаюцца. У апошні год прачытаў Стэндаля, Мапасана, Флабера, некалькі кніг Бальзака і некаторых іншых замежных пісьменнікаў.

Шырокі, мнагалучны свет паўстае з прачытаных кніг. Часам не такі ўжо святочны і прывабны. Бо ў ім не толькі каханне, дружба, самаахвярнасць, але і здрада, зайздрасць, помста, якая іншы раз нават прыводзіць таго ці іншага героя да смерці.

Добрае ў жыцці, аднак, перамагае. Такі вывад робіць Васіль з мноства прачытаных ім кніг.

Нагнуўшыся над адчыненымі дзверцамі грубкі, Васіль чытае пра музыканта Жана Крыстофа, галоўны бухгалтар Асецкі сядзіць за сталом, ляскаючы на лічыльніках. Адзін другому яны не замінаюць, не перашкаджаюць. Бухгалтар дадому не спяшаецца. У гэтай сувязі Васіль успамінае нядаўна прачытаны раман Флабера «Мадам Бавары». Кніга яго моцна ўзрушыла. Аказваецца, і такія, як Эма Бавары, ёсць жанчыны. Жонка ў Асецкага маладая, відная, толькі як бы з ледзь прыкметнымі адмецінамі зласлівасці, грэблівасці на даволі прыгожым чарнявым твары. Наўрад ці шукае яна любоўных прыгод. Справа ў другім. У бухгалтара зарплата не надта высокая. Вось і злуецца сяброўка Асецкага, думаючы, відаць, што магла б знайсці лепшага спадарожніка жыцця.

Загадчык канторы Фрышман і ягоны намеснік Фурман у «Плодагародніне» паяўляюцца толькі з раніцы. Хударлявы, у доўгім да пят кажусе Фрышман падпісвае некалькі папер, ставіць на іх пячатку і на ўвесь астатні дзень з канторы знікае. Нібыта ўладжвае справы ў райкаме, райвыканкаме. Маўклівы, шыракатвары Фурман, таксама ў кажушку, толькі значна карацейшым, чым у загадчыка, маўкліва выкурвае некалькі папярос і нарэшце кіруе на базу. Бо ён адначасна і загадчык базы: прымае ад калгасаў бульбу, буракі, моркву, частку закопвае ў капцы да вясны, частку грузіць у вагоны.

Ранняй, яшчэ аснежанай вясной у «Плодагародніне» нібы гром з летняга яснага неба грымнуў. Маўклівага Фурмана, загадчыка базы, у абласным горадзе затрымлівае міліцыя. Ён прывёз туды машыну казённай бульбы і прадаваў яе па трыццаць рублёў за пуд. Адпірацца, аднеквацца не здолеў: міліцыя схапіла за руку. Васіль з гэтага часу трохі зняважліва глядзіць на бухгалтараў, рахункаводаў. Падбіваюць рахункі, правяраюць накладныя, шукаюць кожную капейку, каб сышліся балансы. Але можна, аказваецца, нягледзячы на балансы, прадаваць бульбу, якая належыць дзяржаве, машынамі.

Загадчык Фрышман днямі носіцца па раённых установах, каб як-небудзь зменшыць віну, выручыць з бяды намесніка. Але беспаспяхова. Бо ў пракуратуры вельмі важкія доказы. Не толькі машыну бульбы адабрала ў Фурмана міліцыя, але, арыштаваўшы, знайшла ў ягоных сховах некалькі тысяч рублёў.

У пракуратуру, на допыт, цягаюць работнікаў канторы. Следчыя капаюцца ў бухгалтарскіх паперах. Бухгалтар Асецкі — на вышыні: ніякага фальшу ў яго балансах няма. Кантора не вінавата. Судзіць будуць аднаго Фурмана.

Жыццё ў школе звычайнае. Матэматычка Брусніцына, якая замяніла Мялешку, марна час не траціла. За два месяцы здолела паўтарыць з вучнямі матэрыял за пяты і палавіну шостага класа. Сёмы клас хутка пачне займацца па сваёй праграме.

Ураўненні з адным, двума невядомымі Васіль і раней любіў, рашаў такія задачы з ахвотай. Цяпер іх як арэшкі лускае. Навучыўся прымяняць алгебраічнае правіла з невядомымі да

арыфметычных задач. Самую цяжкую з іх развяжа за некалькі хвілін.

Брусніцына Зінаіда Паўлаўна — насмешлівая, з’едлівая і хітрая як ліса. Але ёй гэта можна даравайць. Бо справу ведае як трэба. Яна наогул усё пра ўсіх ведае. Пачынала выкладаць яшчэ ў лясным тэхнікуме і ў школу перайшла, калі тэхнікум перавялі ў другі гарадок. Так што даўно яна жыве і працуе ў мястэчку.

Скончылася трэцяя, самая доўгая, надакучлівая чвэрць. Васіль прынёс у дзённіку адны пяцёркі, у Петрыка «добра» толькі па трох прадметах: па фізкультуры, спевах і маляванні. Па астатніх — «дрэнна». Дзіўны Петрык: давучыўся да трэцяга класа, а не ведае, што ёсць расклад заняткаў. Калі збіраецца ў школу, кладзе ў сумку ўсе падручнікі, якія ў яго ёсць.

Бацьку і маці выклікалі на бацькоўскі сход. Яны ніколі на такія сходы не хадзілі. Цяпер раптам загарэліся. Можа, таму, што Васіль канчае сёмы клас, а гэта значыць, будзе мець няпоўную сярэднюю адукацыю, зможа нават паступіць вучыцца куды-небудзь вышэй.

Усё з-за сходу пачалося. На ім вельмі ўжо ўзнасіў Васіля новы дырэктар школы Мікалай Барысавіч Мазур, які замяніў Геля, і ў сёмым класе выкладаў гісторыю і канстытуцыю. Назваў лепшым вучнем, гордасцю школы. Пахвала на ўсё мястэчка. Бацьку дырэктар прысароміў: маеш выдатнага сына, а ходзіць ён у цябе, змарнелы, кепска апрануты.

Справіць Васілю абновы так адразу бацькі не могуць. Дзе купіш новую сарочку, штаны. Дый за што? Набыццё вопраткі адкладваецца на восень. Дзеля папраўкі Васілёвага здароўя бацька, аднак, прымае захады неадкладныя. Назаўтра знарок кіруе ў краму і прыносіць бляшанку какавы з наклееным бліскучым ярлычком.

Бляшанка куплена аднаму Васілю. У Петрыка, Сяргея і ад бульбы шчокі трашчаць.

Калі Васіль раніцай збіраўся ў школу, маці згатавала кубак цудадзейнага напітку. З якой зайздрасцю глядзяць на гэты кубак малодшыя браты! Васілю няёмка піць какаву пад іх прагнымі позіркамі.

Але ў той жа дзень папраўка Васілёвага здароўя і канчаецца. Петрык прыходзіць са школы раней за Васіля. Выкарыстаўшы хвіліну, калі маці выходзіць з хаты, ён дастае бляшанку з бліскучым ярлыком з верхняй палічкі, падгаворвае Сяргея, і яны ўдвух лыжкамі выбіраюць бляшанку какавы амаль да дна.

Вось і сапраўдная вясна прыходзіць. Цёплая, дружная. Па вуліцы бягуць жвавыя раўчукі, зелянее, вызваліўшыся ад снегу, паплавец каля раскідзістай Цімохавай вербалозіны. Сама вербалозіна выпускае на галінках пушыстыя коцікі.

Яшчэ праз тыдзень-два вытыркаюцца першыя, чырванаватыя язычкі шчаўя. Прарэзваюцца праз зямлю пёркі рана пасаджанай цыбулі. Вясна дорыць зеляніну, і можна паправіцца без дарагой какавы.

Калі сталі зацвітаць яблыні, выяўляецца, што ледзь не палавіна іх памерзла. Ва ўсіх местачковых садах. Дзве яблынькі загінулі ў маладым Васілёвым садзе. Так і стаяць яны голыя, чорныя, пакуль Васіль іх не ссякае.

Вясной газеты друкуюць матэрыялы аб узнагароджанні настаўнікаў. Матэматычка Брусніцына адна з усяго раёна атрымлівае ордэн «Знак Пашаны». Пра гэта абвяшчаюць усе газеты: рэспубліканскія, абласныя і нават мясцовая, раённая.

Васіль лічыць узнагароджанне Зінаіды Паўлаўны заслужаным, хоць не вельмі любіць матэматычку. Мялешка, папярэдні настаўнік, выкладаць матэматыку не ўмеў ці не хацеў, а як чалавек быў харошы, лепшы, чым Брусніцына.

У школе — бунт. Ледзь не ўсе настаўнікі паўстаюць супроць таго, што Брусніцына стала ардэнаноскай. Пішуць калектыўныя лісты ў розныя ўстановы, аспрэчваючы высокі ўрадавы ўказ.

У абарону матэматычкі выступае раённая, затым абласная газеты. У школу прыязджае камісія з Мінска. Нічога не дабіліся настаўнікі. Дырэктара школы Мазура (ён толькі год папрацаваў пасля Геля) здымаюць з пасады, некалькім астатнім настаўнікам аб'яўляюць вымовы.

Васілю непрыемна. Настаўнікі не такія ўжо святыя: сварацца, адзін аднаму зайздросцяць, нават ножку падстаўляюць.

Іншы раз Васіль задумваецца: з-за чаго настаўнікі так дружна выступілі супроць Брусніцынай. Яна, вядома, трохі зласлівая і нават ядавітая. Але ці яна адна такая? Дырэктара школы Геля, настаўніка Гудовіча, калі на тое пайшло, лепшага настаўніка школы, арыштоўвалі, затым выпусцілі. Можа, Брусніцына прытачыла грошык да гэтай справы. Але непадобна. З Гудовічам — Васіль ведае — яна сябравала нават пасля таго, як яго выпусцілі з турмы.

Новым дырэктарам школы прызначаюць Баркоўскага, біёлага, мужа Брусніцынай. Дзіўны гэты Баркоўскі. Сярэдняга росту, шчуплы, задуменны. У сёмым класе ён выкладае заалогію. Гэтым прадметам Васіль зусім не захапляецца, але, прымушаючы сябе, урокі вучыць. Трэба ведаць пра ўнутраныя органы жывёл, птушак, рыб. Баркоўскі дарма адзнакі не паставіць. Выпытвае, выведвае да дробязі.

Сёлета хоць знаёмых жывёл вывучаюць. Летась, у шостым класе, на ўроках заалогіі гаворка ішла пра туфелек, інфузорый, іншую драбязу. Баркоўскі і тады быў такі ж патрабавальны, засяроджана-сур'ёзны. Калі не ведаеш, чым корміцца, як размнажаецца звычайны дажджавы чарвяк, не вагаючыся паставіць двойку.

Тлумачачы новы матэрыял, Баркоўскі неяк незвычайна сціскае губы, ягоная гаворка густа перасыпана глухімі гукамі, якія як бы нагадваюць мычанне. «У барацьбе за існаванне... ммм... выжываюць толькі тыя індывідуумы... ммм... якія найлепш прыстасоўваюцца да акаляючых абставін... ммм...»

Баркоўскі — харошы настаўнік. Ён, вядома, залішне сур'ёзны, задуменны, зусім не валодае гумарам, не ўмее нікога рассмяшыць. У той жа час надзвычай спакойны, усім гаворыць «вы», ніколі ні на кога не павысіць голас, не пакрыўдзіць.

Новы дырэктар хутка наводзіць парадак. За месяц-два дысцыпліна ў школе прыкметна паляпшаецца. Па калідорах не снoўдаюцца абібокі, не бегаюць курыць у прыбіральню, няма натоўпу каля вешалкі.

Хоць прыкры выпадак здараецца іменна тады, калі лейцы кіраўніцтва бярэ ў рукі Баркоўскі. Вясна ўжо. Снег сагнала зусім. Дзяўчаты прыносяць у клас букеты белых і сініх прале-

сак. Два лабатыя Дарафеенкавы хлопцы, адзін дзевяцікласнік, з белым, нібы вымачаным тварам, трое дзяўчат — сярод якіх ёсць досыць прыгожая Васілёва аднакласніца — ідуць у лес па дзеразу. Завадатаркай кампаніі выступае шустрая паўнацелая шасцікласніца з распушчанымі, нібы ў русалкі, валасамі. Русалка намнога старэйшая за шасцікласніц: па ўзросту магла б вучыцца ў дзявятым класе.

Адна з дзяўчат прыбягае ў школу і, трасучыся ад страху, расказвае, што здарылася ў лесе і якую дзеразу там збіралі школьнікі. Ні больш ні менш групавой распустай займаліся выхаванцы ўзорнай школы.

Назаўтра русалку як мятлой вымятае з шостага класа. Наконт астатніх шукальнікаў любоўнай уцехі справу замінаюць. Відаць, таму, што сярод іх сыны настаўніка.

Вось і скончана сямігодка. За Васілёвымі плячамі няпоўная сярэдняя школа. У пасведчанні пяцёркі. Чацвёрка толькі па пісьмовай рускай мове. Увесь год пісаў Васіль дыктоўкі на «выдатна», меў выдатныя адзнакі за тры чвэрці, у апошняй кантрольнай зрабіў дробязную памылку, і абыякавы Дарафеенка знізіў адзнаку за ўвесь год.

Няма ў школе Гудовіча. Той бы такога не дапусціў.

## XII

Ваенныя падзеі ў Еўропе разгортваюцца не на жарт. Таптанне на месцы французскіх, англійскіх, нямецкіх войск у маі саракавога года канчаецца. Нямецкія войскі, захапіўшы Бельгію і фактычна абышоўшы лінію Мажыно, урываюцца ў Францыю. Імкліва імчаць танкавыя нямецкія калоны да Парыжа, прыціскаюць англійскія войскі да марскога ўзбярэжжа.

Васіль зноў ідзе ў рамонтную брыгаду. Пра падзеі ў Францыі, пра тое, што фашысты крочаць па французскай зямлі, пра тое, нарэшце, што англійскія войскі паспешліва эвакуіруюцца праз Дзюнкерк, Васіль штодня расказвае рабочым. Пуцейцы слухаюць і не слухаюць. Іх больш цікавіць, што па хлеб, цукар зноў чэргі. Жыць робіцца цяжэй. На звычайнай службе, вось тут, на чыгунцы, можна, калі спознішся

на работу на пятнаццаць хвілін, зарабіць прымусоўкі. Калі прагул зробіш, нават у турму можна трапіць.

Другая справа, што Скарынкін дый астатняе пуцейскае начальства не выконваюць закон. Рабочых залішне не прыціскаюць.

Цімох Стрыж знаходзіць добрыя заработкі на базе «Плодагародніны». Ён мае спрыт у руках і ад раніцы да позняга вечара збівае скрынкі пад яблыкі, памідоры. За дзень дзясятку і нават болей выганяе Цімох. Таму часу для якіх-небудзь размоў у Цімоха няма.

Канец Цімохавага агарода таксама абрэзаны. На гэтым месцы неяк залішне хутка, за месяц ці два, вырастае вялікая, збудаваная з адменнага сасновага цёсу, гандлёвая база. З гэтай базы Цімох таксама мае прыбытак. Крэслы, канапы, розныя шкапы, каб не пашкодзіць пры перавозцы, звычайна абіваюць сасновымі планкамі, дошкамі. Шкляны і іншы посуд дастаўляецца ў скрынках, напоўненых стружкамі.

Цімох увішны. Ён і на гандлёвай базе пастаянны падсобнік. На сваіх трохі крывавватых нагах ён цягае ў двор абломкі драўляных планак, дошак, фанеру.

Іван Гарошык нідзе не працуе. Завітвае да дзеда, двор якога на Блізкім Лядзе, дапамагае касіць траву, зграбаць сена. Іванаў дзед вельмі руплівы. Ён робіць у калгасе: то гной возіць, то поле скародзіць і, хоць калгасныя працадні не вельмі багатыя, без хлеба не сядзіць. Мае двор, агарод, на якім узвышаюцца тры магутныя разлапістыя дубы. Некалі ўсё Блізкае і Далёкае Ляда было ў такіх дубах, якія раслі па дзвесце і па трыста гадоў. Малюнак захапляльны. Тым часам не берагуць прыгажосць людзі. Дапілоўвае, валіць калгас магутныя дубы, якія яшчэ там-сям застаюцца на полі.

Іванаў дзед фактычна хутаранін, але яго не ссяляюць, бо сядзіба блізка ад дарогі. Ссяленне хутароў ідзе поўным ходам. Няма ўжо ні Блізкага і Далёкага Ляда, ні Ключароў, ні далёкай лясной сядзібы Салаха. Затое адразу за чыгуначным пераездам, на добрым дуброўным полі выцягнулася ўздоўж дарогі яшчэ адна местачковая вуліца — Чырваназорная. Назва добрая, сучасная, хоць выгляд будынін старасвецкі: вузкія акенцы, абветранае чорнае дрэва хат, хлявоў. Ды і ўборы но-

вых местачкоўцаў, асабліва жанчын, таксама старасвецкія: даматканыя андаракі, закручаныя на галовы на манер цюрбаноў хусткі-канаплянкі.

Няма болей Гарадзінкі, на якой зімой Васіль насіўся на каньках, летам вышукваў гнёзды дзікіх качак. Праз Гарадзінку прайшоў магістральны канал, па берагах якога не толькі града выкінутага торфу, а і шэра-белы пясок: аж да яго дакапаўся экскаватар. У магістральны канал упадаюць калектары, сеткай якіх парэзана ўсё балота.

На Гарадзінцы сеюць жыта, авёс, каноплі. Нават цукровыя буракі садзяць. І ўсё расце.

Агарод Івана Гарошыка якраз і ўпіраецца ў Гарадзінку. Для Івана, як і ягоных суседзяў, у гэтым няма ніякай выгоды. Вада ў студні апусцілася да дна, і агарод стаў сушэйшы, горш родзяць на ім агуркі, буракі, бульба. Вільгаці не хапае. Іван абураецца:

— Дурнота. Слепата. Нашы меліяратары спусцілі балотную ваду і рады. Далей хоць трава не расці. Яна і не расце. Успомнілі б хоць закон злучаных сасудаў...

Іван заўсёды пад свае словы як бы падводзіць навуковы грунт. Ён і на вайну глядзіць з большай насцярогай, чым астатнія старшакласнікі.

— Бокам нам вылезе, што пакінулі Францыю адну. Яна наш прыродны саюзнік. Жах — пусцілі Гітлера ў Парыж...

— Дык што будзе? — пытае Васіль.

— Гітлер нападзе на нас. І раскалашмаціць...

Васіль азіраецца па баках, Іван гаворыць небяспечныя словы...

— Усё паўтараецца,— працягвае між тым Гарошык.— Гісторыя развіваецца нейкімі кругамі. Напалеон увёў супраць Англіі кантынентальную блакаду, а напаў на Расію...

Трывожна робіцца Васілю. У Івана розум адмысловы. Тое, што Іван гаворыць, часта спраўджваецца.

Васіль зноў выпісвае «Звязду». Не спускае вока з аб'яў аб прыёме ў тэхнікумы, вучылішчы. Ёсць аб'явы аб наборы ў педагагічныя, ветэрынарныя, медыцынскія тэхнікумы. Васіля гэтыя ўстановы не вабяць.

## XIII

Нечаканую вестку прыносіць раённая газета. З сярэдзіны ліпеня ў самім мястэчку адкрываюцца месячныя настаўніцкія курсы, на якія прымаюцца пасля сямі-васьмі класаў. І стыпендыя ёсць. Яна, бадай, роўная месячнаму заработку Васіля ў рамонтнай брыгадзе.

Васіль ні хвіліны не вагаецца. Курсы выпускаюць настаўнікаў для пачатковых класаў. Дзе-дзе, а ў трэцім ці чацвёртым класе навучаць дзяцей Васіль здолее. Ён у школе добра вучыўся, памятае матэрыял за кожны клас.

Загадчыца курсаў якраз Брусніцына. Яна нікольκі не здзіўляецца, калі Васіль прыносіць заяву аб прыёме.

— У вас сям'я вялікая,— спачувальна гаворыць Брусніцына.— Я цябе разумею.

І тут жа Зінаіда Паўлаўна пераходзіць на даверлівы тон:

— Я табе скажу, мы будзем рыхтаваць настаўнікаў для вызваленых заходніх абласцей. Там трэба свае, савецкія людзі. Школе, аднак, шкада губляць такіх вучняў, як ты. Прыдумаем што-небудзь.

Да пачатку заняткаў на курсах яшчэ цэлыя два тыдні, і Васіль працягвае хадзіць у брыгаду. Ён адразу набывае падручнікі па літаратуры, гісторыі, некаторых іншых прадметах для восьмага, нават дзявятага класа. Не можа ён абмежавацца аднамесячнымі курсамі.

Работа ў брыгадзе пачынаецца з шасці гадзін раніцы і ў тры гадзіны дня канчаецца. Васіль прыходзіць з брыгады такі стомлены, што, дабраўшыся да сенавала, раскрыўшы падручнікі, адразу засынае.

Прыгожыя гэтыя дні, ночы на сенавале. Пасля птушак, якімі Васіль доўга захапляўся, і кніг, якія і цяпер ён чытае адну за другой, нічога лепшага ў Васілёвым жыцці не было.

Васіль падрастае, яму шаснаццаты год. Усё выразней гучыць у ягонай душы музыка. Часцей за ўсё гэта мелодыя песні «Любімы горад». Часта Васіль трапляе ў палон зваблівых мар, парыванняў, бачыць сябе ў самых разнастайных становішчах. Усё большае месца ў ягоных думках, марах пачынае займаць дзяўчына. Якая яна будзе, што Васіль ёй скажа, чым яна яго прывабіць, ён пакуль не ведае.

Пачынаюцца заняткі на настаўніцкіх курсах. Яны ідуць у старой школе, дзе Васіль вучыўся да палавіны пятага класа. Выкладаюць на курсах таксама знаёмыя настаўнікі, але ёсць і такія, якіх Васіль не ведае: прыслалі райана і аблана.

Настаўнікі гавораць пра вядомае. Толькі падыходзяць да матэрыялу як бы з метадычнага боку. Вучаць, як пабудаваць урок, колькі адвесці часу на той ці іншы момант. Бо трэба праверыць, хто з вучняў адсутнічае, як вывучаны папярэдні ўрок, растлумачыць матэрыял новы.

Васіль лёгка гэта разумее. З практыкі. Бо не вельмі даўно ён быў вучнем трэцяга, чацвёртага класаў і памятае, як вяла тыя ці іншыя ўрокі настаўніца Марыя Рыгораўна.

Ніякавата бачыць сябе ў школе ў летні час. У доўгім калідоры, на шырокім, як майдан, школьным двары пануе незвычайная цішыня. Пясчаны школьны двор густа парос травой, і кволыя некалі таполі цяпер высока ўзмахнулі разгалістым веццем.

Наведвальнікі курсаў, хлопцы, дзяўчаткі, звычайная вясковая галота. Мытыя-перамытыя пінжачкі, паркалёвыя сукенкі, брызентавыя туфлі з латкамі і дзіркамі. Нядаўнія сямікласнікі (сярод іх некалькі васьмікласнікаў) падаліся на курсы, каб хутчэй стаць на ногі, бо прыйшлі яны з мнагадзетных сем’яў. Ёсць некалькі местачковых хлопцаў, дзяўчат, і ўсе яны нічым асаблівым у школе не выдзяляліся. Большасць жа наведвальнікаў курсаў — з навакольных вёсак, сёл. Увогуле, моладзь з сямігадовай адукацыяй папаўняе мястэчка. Мноства вясковых дзяўчат сядзяць у розных канторах, ляскаюць на лічыльніках, перапісваюць паперкі.

Сярод курсантак ёсць адна вельмі прыгожая дзяўчына. Васіль нават баіцца на яе глядзець. Чарнявы твар, чорныя, нібы ластаўчыны крылы, бровы, прамы акуратны нос, пульхныя губы.

Васіль дазнаецца: дзяўчыну завуць Алеся, прозвішча Малейка, яна з далёкай вёскі і апранута лепш за астатніх. Дзіва няма: яна, аказваецца, дачка ляснічага.

Курсанты нарэшце пачынаюць самі даваць урокі. Курсы як бы ператвараюцца ў другі, трэці, чацвёрты класы, іх наведвальнікі мусяць адказваць настаўніку-курсанту як звычайныя вучні.

Васілю, як і астатнім, трэба правесці тры ўрокі. Па прыродазнаўстве яму прыйшлося расказваць пра ваду. Як і чаму яна ператвараецца ў лёд, снег, пару. Урок прайшоў ніштавата: пры разборы ніхто Васіля асабліва не хваліў, але і не ганіў таксама.

На літаратурным чытанні Васіль разбірае апавяданне Якуба Коласа «У старых дубах». Сам ён пасвіў карову, ведае, што такое дубы, толькі вось рэчкі ў мястэчку няма. Але ўсё адно апавяданне блізкае, зразумелае. Таму ён разабраў яго як мае быць. Атрымаў хвалу як ад курсантаў, так і ад настаўнікаў. У адным толькі папракнулі Васіля: залішне многа гаварыў сам і мала задаваў пытанняў вучням.

І вось апошні Васілёў урок, і ён дае чацвёртаму класу беларускую дыктоўку. Тэкст Васіль узяў са зборніка дыктантаў. Гэта ўрывак з аповесці таго ж Якуба Коласа «Дрыгва», у якім даецца малюнак зімовага лесу.

Васіль стараўся дыктаваць так, каб яго слухачы зразумелі, дзе ставіць коску, дзе працяжнік, а дзе двухкроп’е. Нават настаўніца, якая слухала Васілёва дыктаванне, у знак згодыківала галавой і нават трохі пасміхалася. Аднак ніякіх правілаў Васіль не парушаў. Ён проста дыктаваў па законах пунктуацыі.

Будучыя прафесары велькіх букваў дыктоўку напісалі някепска. Фактычных двоек толькі тры ці чатыры. Васіль не паставіў ніводнай. Не варта будучым настаўнікам псаваць настрой. Непрыемна ўразіла Васіля дзяўчына-прыгажуня. Зрабіла дзесяць памылак. Васіль некаторыя не выпраўляў, толькі падкрэсліў. Ён бачыў, як макавым цветам зардзеўся твар Алесі, калі яна раскрыла сшытак. Прозвішча Алесі Васіль свядома не назваў. Можа, яна зрабіла памылкі выпадкова. Бо рускую дыктоўку напісала нядрэнна, інакш бы яе не залічылі на курсы.

Непрыкметна праляцеў месяц. Курсы нарэшце скончаны. Іх наведвальнікам выдалі пасведчанні. Гэта аркушыкі звычайнай паперы, на якой тры ці чатыры радкі машынапіснага тэксту, унізе подпіс і пячатка аблана.

Наваспечаных настаўнікаў размяркоўваюць у заходнія раёны Беларусі. Васіль па накіраванне не ідзе: цяпер няма

як ехаць. Няма ні касцюма, ні паліто, ні нават прыстойных туфляў. І да першага верасня набыць гэта ён не здолее. Бо настаўнік не студэнт. У зашмальцаваным пінжачку перад вучнямі не з'явішся.

— Можа, тут што знойдзем,— абяцае Брусніцына.— Добра, што скончыў курсы. За плячамі не насіць.

Васіль работу знаходзіць сам. Некалькі хлопцаў узяліся загрузіць вагон плашкамі. Пагрузка тэрміновая, на яе адведзена толькі дзве гадзіны, і ў выпадку паспяховага выканання работы грузчыкам абяцана па чырвонцу.

У тым, што здарылася, вінават адзін Васіль. Трое хлопцаў кідаюць плашкі ў вагон, двое, якія знаходзяцца ў самім вагоне, іх складваюць.

На Васіля нападае нейкі шал. Ён гэтак імкліва шпурляе плашкі, што адна з іх у прамежак дзвярэй не трапляе, падае на дол. Зараз жа чуецца крык. Адным канцом плашка б'е па галаве тэхніка лесасклада, які нядаўна працаваў леспрамгасаўскім бібліятэкарам і даваў Васілю столькі кніг, колькі ён хацеў. З залітай крывёй галавою тэхнік кідаецца ў амбулаторыю.

Хлопцы хутка загружаюць вагон. Сядзяць сумныя, прыгнечаныя. Калі тэхніка пакладуць на лячэнне, то хто заплаціць за пагрузку? Але яшчэ не паспелі прычапіць вагон да саставу, як тэхнік з'яўляецца. У яго да палавіны забінтавана галава, на марлі праступаюць крывяныя плямы.

Тэхнік на хаду складае ведамасць, просіць распісацца, выплачваючы пры гэтым маладым грузчыкам па дзясятцы. Калі чарга даходзіць да Васіля, тэхнік пасміхаецца:

— Я цябе памятаю. Ты вялікі кніжнік. Забяжы заўтра да дырэктара леспрамгаса. Ён табой цікавіцца.

— Я вінават перад вамі,— гаворыць Васіль.— Я кінуў плашку, якая вам трапіла ў галаву.

— Я, брат, сам вінаваты. Не трэба ў час пагрузкі падыходзіць да вагона. Бо ўсялякае можа здарыцца.

Ёсць на свеце добрыя людзі. І адзін з іх леспрамгасаўскі тэхнік, які загадваў нядаўна бібліятэкай.

## XIV

Назаўтра раніцай Васіль ідзе ў леспрамгас. Кантора леспрамгаса па суседстве з доўгім, як адрына, напаўцёмным леспрамгасаўскім магазінам, у якім толькі два акны. Кантора аддзяляецца ад яго дваром, агароджаным высокім дашчаным парканам.

У дырэктара асобны кабінет. Сакратарка, маладая чарнявая дзяўчына, якая штосьці друкуе на машынцы, запытальна глядзіць на Васіля. Ён гаворыць, што яго да дырэктара прыслаў тэхнік лесасклада, які раней працаваў бібліятэкарам. Дзяўчына кідае на Васіля прыязны позірк і зараз жа заходзіць да дырэктара.

— Пачакай трохі,— гаворыць.— Мікалай Рыгоравіч размаўляе па тэлефоне.

Нарэшце дырэктар сам адчыняе дзверы і запрашае Васіля ў кабінет.

Васіль, аказваецца, ведае дырэктара леспрамгаса, агромністага, шыракаплечага, з вялікай, ледзь пасівелай галавой чалавека, апранутага ў вайсковую гімнасцёрку і сіняе галіфэ. Прозвішча ягонае Пінчук, і Васіль бачыў яго на станцыі з дзяжурным Тупікавым, парторгам Рымарчуком, які год назад па невядомай прычыне застрэліўся.

— Пра цябе мне гаварыў Зубец. Той самы, якому ты ўчора ледзь галаву не раскалоў.

Васіль ніякавее.

— Я жартую. Зубец хваліць цябе. Кажа, што другога хлопца, які б так любіў кнігі, у мястэчку няма. Можа, пойдзеш да нас бібліятэкарам?

— Я курсы настаўніцкія скончыў.

— Вельмі добра. Маеш, значыць, спецыяльнасць.

— Можна, працуючы ў вас, хадзіць у вячэрнюю школу?

— Дзівак. Чаму ў вячэрнюю? Вучыся ў дзённай. Толькі старайся. Газеты падшывай, арганізуй наглядную агітацыю, навядзі парадак з кнігамі. Будзе чырвоны куток. Да ўрокаў можна тут рыхтавацца. Прызнач час, калі будзеш выдаваць кнігі.

Васіль згаджаецца.

— Напішы заяву,— нарэшце гаворыць дырэктар,— і мы афармім цябе бібліятэкарам з першага верасня. Аклад, праўда, невялікі — сто рублёў. Але яны на вуліцы не валяюцца. Я ведаю твайго бацьку, сям'я ў вас немалая.

Васіль на сёмым небе. У пуцейскай брыгадзе ён зарабляў, вядома, болей. Але ўставаў у пяць гадзін раніцы, стамляўся страшэнна. Ды і работа там толькі ў час канікулаў. За тое, што бацькі хату здаюць пад кантору, а маці яе прыбірае, мые падлогу, выцірае вокны, «Плодагародніна» плаціць таксама сто рублёў.

Галоўнае — Васіль незалежны. Не будзе адчуваць сябе дармаедам і сям'і дапаможа. Справіць сабе вопратку, абутак.

У брыгаду Васіль болей не ідзе. Да заняткаў у школе, службы ў бібліятэцы яшчэ цэлы тыдзень, і ён кожны дзень шастае ў лес. Ужо за Барсуковай будкай, калі мець на ўвазе правы ад чыгункі бок, пачынаецца меднастволы бор. Сюды Васіль і раней даходзіў. Збіраў суніцы, чарніцы, нават ранняй вясной схуднелую за зіму карову пасвіў на балотцы, на якім адразу, як толькі сыдзе снег, прабіваецца першая трава — чорнагалоў.

Цяпер Васіль шастае значна далей гэтага бору. На ўскрайку бору ёсць вельмі ўдалая, зарослая ціпцам палянка, дзе ў густой траве можна натупаць і намацаць некалькі прыгожых светлагаловых баравічкоў.

Яшчэ туман вісіць над палянкай, зямля дыхае начной прахалодай, на лісці маладых бяроз, на кожнай травінцы вісіць празрыстая кропля расы. Дзесьці за лесам яшчэ толькі падымаецца сонца і яго першыя промні ліжуць вершаліны стромкіх сосен. Па ўсіх прыкметах дзень будзе ясны, цёплы, сонечны.

Васіль адчувае сябе ў лесе, як у нейкім хораме. Нібы родныя яму — бярозы, сосны, кожнае дрэва, куст. Лес жывы.

Лес нараджае ў душы як бы музыку. Звініць у Васілёвай душы то адна, то другая мелодыя. Сталее Васіль, набліжаецца пара юнацтва, і ўсё часцей наведваюць яго мары-летуценні аб будучыні — няпэўныя, хісткія, як імклівыя белыя аблачынкі, што плывуць сярод сінечы неба.

Стыхія летуценнасці часам настолькі захоплівае Васілёву істоту, што рэальнасці, звычайнай паўсядзённасці нібы не існуе. Знікаюць прастора і час. Васіль бачыць сябе ў розных гераічных ролях. То ён лётчык, то парашутыст, то адважны пагранічнік.

Зарослая ціпцам палянка, затым светлы меднастволы бор падораць заўсёды некалькі баравікоў, ababkaў, падасінавікаў, пругкіх, цвёрдых з зялёнымі шапачкамі сыраежак.

Зрэшты, на адным месцы, скажам, у тым жа меднастволым бары, можна грыбоў набраць не менш, чым сягаючы па маладых сасняках, бярэзніках многія кіламетры. Некаторыя жанкі так і робяць. Аднак Васілю такое не па душы. Бо ў лесе не толькі грыбы. Вабяць неабсяжныя лясныя далі, патаемныя, маларазведаныя мясціны, імшыстыя, барвенкавыя, сухадольныя сасняки, светлыя верасовыя бярэзнікі, зацяты, густы, цемнаваты са стоеным грыбным духам грабняк, змешаны лес, дзе сярод соснаў, асін і бяроз узвышаецца дуб; далей за градой сасновых пасадак, бярозавых гайкоў, якія самі насяяліся, цягнуцца неабсяжныя з пакінутымі адзінокімі хвоямі (на развод новага лесу) разлівы верасоў, пусташы і выгары.

Лес жыве сваім жыццём, ён нібы нагадвае аб нетаропкай вечнасці, якой няма ні граніц, ні берагоў. Сасна, бяроза, дуб стаяць усё сваё жыццё на адным і тым жа месцы, але на долю не скардзяцца. Іх насенне ляціць на навакольныя абсягі, паляны, і праз дзесяць-пятнаццаць гадоў гэтая зямля таксама зарастае лесам.

Дрэва загадкавае і мудрае. Хоць бы тая сасна. Стаіць на сыпучым пяску, з бязгнойнай зямлі здабывае каранямі пажыўныя рэчывы, зялёнымі іголкамі паглынае сонечнае святло.

Лісце ў звычайным лесе жыве толькі год, затым асыпаецца, на наступную вясну вырастае новае. Лісце, як і карэнне, гадуе дрэва. Наступае час, дрэва старэе, падае, угнойваючы зямлю, даючы грунт для новага жыцця. І гэтак бясконца. Што ўсё гэта значыць? У чым сэнс перамен, якія з пакалення ў пакаленне паўтараюцца? Можа, дрэва і створана для таго, каб

збіраць рассыпаныя ў сусвеце сонечныя праменні. А чалавек для чаго? Няўжо чалавечыя пакаленні таксама нібы лісце на невядомым дрэве, якое расце стагоддзі, тысячагоддзі і сэнс існавання яго для кароткага чалавечага веку няўлоўны.

Лес выклікае ў душы мары, летуценні, развагі, у ім хораша, узвышана думаецца. То бяроза з хвояй спляліся і стаяць, нібы сёстры, то выгнецца дугой лапатлівая асіна, то малады дубок раптам вырас у густой лазе. Пярэсты, не падобны на звычайных мясцовых птушак дзяцел настойліва тукае сваім нібы жалезным носам па старадрэвіне: навокал колькі хочаш розных казюрак, мух, слімакоў, але яму абавязкова патрэбна дабрацца да лічынкі, схаванай у трухлявай сарцавіне старадрэвіны. Чаму так? Хто прызначыў дзятлу гэтакую нялёгкую долю?

Кожная дзялянка, кожны лясны куток мае свой настрой, розны кожнага дня: сёння туман, назаўтра слабы ветрык і туману няма, у гарачыя дні дальнія сасnякі, бярэзнікі спавіваюцца сіне-шызай наміткай смугі. Цудоўны лес пры ціхім дажджы, ён закалыхвае, люляе аднастайным, мякка-лагодным шэптам.

Ёсць у лесе няўтульныя, як бы зацятыя мясціны, якія стараешся хутчэй праскочыць. У такіх мясцінах і птушкі не ўюць гнёздаў і не спяваюць, і звяры абмінаюць іх. Якую тайну хаваюць у сабе такія дзялянкі? Васіль не ведае. Можа, пад зямлёй на такіх месцах ляжаць шкодныя для ўсяго жывога рэчывы, якія выпраменьваюць нядобрую сілу, і таму ні птушкі, ні звяры тут не запыняюцца.

Настрой лесу мяняецца нават на працягу аднаго дня. Адзін раз Васілю прыйшлося вечарам прыехаць па сена на лясное балотца, з якім суседнічае паляна, на якой раніцай ён збіраў грыбы. Ласкавая з раніцы прагаліна, атуленая соснамі, бярозамі, вечарам была зусім не такая, як раніцай. Яна зрабілася сур’ёзнай, зацятай і нібы гаварыла: «Вязі сваё сена дадому і не перашкаджай мне думаць. Прыходзь заўтра — і ўсё будзе, як і раней...»

Васілю здалося, што палянка чакае новых начных гасцей і гэтыя нябачныя госці спускаюцца на яе з вяршалін сосен і бяроз на крылах даўгіх ценяў...

У лесе Васіль найчасцей думае пра Алесю Малейку, дзяўчыну-прыгажуню, з якой вучыўся на настаўніцкіх курсах і якой свядома не паставіў дрэннай адзнакі за беларускі дыктант. Дурань! Мог бы бліжэй пазнаёміцца з Алесяй, можа, нават і пасябраваць. Затое цяпер бы перапісваўся. Іх жа ўсіх загнала на тыя курсы агульная бяда, нэндза, жаданне хутчэй стаць на ногі, вызваліцца з-пад бацькоўскай апекі.

Васіль ведае: на кватэры адной местачковай дзяўчыны будучыя настаўнікі наладжвалі вечарынку. Трошкі выпілі, спявалі, танцавалі пад патэфон. Васіль не пайшоў на вечарынку: не было прыстойнай вопраткі, дый наогул ён не любіць тлуму і мітусні.

Куды паслалі Алесю? Васіль гэта можа лёгка высветліць, зайшоўшы ў райана. А што далей рабіць? Напісаць Алесі пісьмо? Ён марыць аб сустрэчы з дзяўчынай-прыгажуняй, і, успамінаючы яе, яму лёгка і прыемна вандраваць па лесе.

Найбольш Васіль любіць выдыбаць па неабсяжных разлівах верасоў. Нідзе ў другім месцы няма такога адчування прасторы, прыгажосці, чым на гэтай, пакрытай бясконцым блакітным дыванам, пясчанай няўдобіцы. Васілю іншы раз здаецца, што сярод разліву верасоў ён напаткае Алесю Малейку. Хоць гэта немагчыма. Яна родам з далёкай лясной вёсачкі (нават на карту не нанесена гэтая вёсачка, хоць там знаходзіцца лясніцтва). Бацька Алесін ляснічы. Па Васілёвых уяўленнях, ляснічы — значны чалавек. То чаму адпусціў дачку на жабрацкія настаўніцкія курсы?

Нараджаецца спагада, замілаванасць да Алесі. Васіль яшчэ і яшчэ дакарае сябе, што быў нясмелы, нерашучы і за месяц заняткаў не пазнаёміўся з дзяўчынай.

Дзіўнае, рамантычнае пакаленне ідэалістаў! Яно мала пра сябе думала, як бы пазбягаючы, баючыся асабістых радасцей, адкладвала іх на пасля, хоць на зямлі ўжо разгараўся пажар вялікай вайны...

## Частка другая

## МАЛАНКІ НА НЕБАСХІЛЕ

### I

Нарэшце Васіль прыходзіць на работу ў леспрамгасаўскую бібліятэку. Яна размешчана ў прасторным пакоі чырвонага кутка. Багацце бібліятэкі, аднак, невялікае: дзве шафы з кнігамі, замкнутыя на маленькія замочкі.

Зноў грузны, таўставаты дырэктар Пінчук, з шырокім, але прыемным на выгляд тварам, мае размову з Васілём.

— Ёсць звесткі, ты школьную насценгазету рэдагуеш?

— Рэдагую,— пацвярджае Васіль.— Толькі гэта была насценгазета сёмага класа.

— Не мае значэння. Галоўнае — справу ведаеш. Мусіш цяпер выпускаць насценгазету леспрамгаса. Хоць раз у месяц. Трэба, каб у чырвоным кутку была насценгазета і наглядная агітацыя: лозунгі, партрэты правадыроў. Работнікаў леспрамгаса пабольш пазапісвай у бібліятэку. Кніг трэба новых набыць. Падшукай, дзе іх можна купіць. Мы грошы адпусцім. Зразумеў задачу?

— Зразумеў.

— Тады не марнуй часу, разгортвай дзела. Будзеш старацца, прэмію выпішам. Звыш заработку.

Цяпер Васіль разумее, што перш, чым узяць бібліятэкарам, пра яго сёе-тое выведалі.

Пакорпаўшыся ў кнігах, Васіль высвятляе: лесатэхнік Зубец у бібліятэчнай справе разумеў не шмат. Назвы кніг запісаны ў вялікі канторскі журнал, тыя, што знаходзяцца на руках, значацца ў асобным сшытку. Вось і ўсё. Мяркуючы па запісах, большая палавіна чытачоў кнігі ў бібліятэку не вяртае.

У восьмым класе заняткі ў другую змену, і Васілю гэта на руку. Забяжыць на дзве-тры гадзіны ў бібліятэку, затым крочыць у школу.

Ёсць новыя вучні ў восьмым класе, якія з’явіліся з навакольных вясковых сямігодак. Значыць, вучыцца будзе весялей. Дзве дзяўчынкі, што, як і Васіль, скончылі настаўніцкія

курсы, нікуды таксама не паехалі. І гэта для Васіля ўцеха. Значыць, не адзін ён дэзерцір.

Пасля двух-трох тыдняў заняткаў незвычайная навіна ўзрушвае школу. За вучобу трэба плаціць. Пачынаючы з восьмага класа. І ў вышэйшых навучальных установах уведзена плата за навучанне. Выключэнне зроблена толькі для круглых выдатнікаў.

Добра, што Васіль уладкаваўся ў бібліятэку. Цяпер яму нішто не пагражае.

Яшчэ праз некалькі дзён з розных гарадоў, інстытутаў вяртаецца ў мястэчка цэлая гурма студэнтаў. Некаторыя паспелі скончыць па два і нават па тры курсы. Адзін з такіх студэнтаў цяпер настаўнік у школе. Выкладае фізіку ў старэйшых класах.

І яшчэ дзіва: чорны высокі хлапчына, які яшчэ гады два назад вучыўся ў восьмым класе, вітаўся з Васілём за руку, а пасля некуды з'ехаў, таксама паявіўся ў школе. Але ўжо настаўнікам. Выкладае гісторыю ў пятых — сёмых класах. Скончыў настаўніцкі інстытут. У такія інстытуты прымаюць, аказваецца, з дзевяццю класамі. Быў недабор студэнтаў, і сённяшняга гісторыка прынялі з васьмю класамі.

Дзеля таго, каб навесці хоць нейкі парадак у кнігах, Васіль ідзе ў раённую бібліятэку. Дзеля навукі. Ранейшай бібліятэкаркі Ксюхі Бондаравай, мажнай шыракатварай незамужняй жанчыны, няма. Перайшла на работу ў ашчадную касу. Ксюха з даўніх часоў знелюбіла Васіля. За тое, што залішне часта, ледзь не кожны дзень, шастаў у бібліятэку, якая тады была яшчэ сельсаветаўскай.

Васіль шкадуе тую сельсаветаўскую бібліятэку. Яна займала толькі адзін вузкі пакойчык у вялікім будынку сельсавета, які раней належаў папу. Але колькі там было цікавых кніг! Амаль усе кнігі Васіль перачытаў. Так што многа радасці даў яму той вузенькі сельсаветаўскі пакойчык.

Цяпер бібліятэка раённая і займае палавіну прыбудоўкі да Дома культуры, у якім паказваецца кіно, ставяцца спектаклі мастацкай самадзейнасці, адбываюцца розныя сходы. РДК — так скарочана называецца раённы Дом культуры — пабудавалі

з бярвення разабранай царквы. Царква стаяла якраз насупраць цяперашняга клуба.

У раённай бібліятэцы кніг намнога больш, чым у былой сельсаветаўскай. Стэлажы стаяць суцэльнымі радамі, займаючы вялізны пакой. Ёсць асобныя секцыі мастацкай, палітычнай, сельскагаспадарчай літаратуры.

Месца бібліятэкаркі адгароджана невысокімі балясамі. На стале некалькі скрыначак з абанементнымі карткамі.

Васіля сустракае высокая, з паўнаватым станам, доўгімі русявымі валасамі, якія рассыпаюцца па плячах, дзяўчына, вынырвае аднекуль з-за стэлажоў. Гэтай дзяўчыны ў бібліятэцы Васіль яшчэ ні разу не бачыў.

— Хочаце кнігу ўзяць? — пытае дзяўчына, і Васіль адразу зазначае для сябе, што бібліятэкарка гаворыць з ім вельмі ветліва, прыязна, як бы яны даўно між сабой знаёмы.

Васілю ніякавата. Апрануты ён у стараваты, трохі заплямлены шэры пінжачок, чорныя кортавыя штаны, якія пузырацца на каленях. А дзяўчына ў сукенцы ў сінюю палоску, і яшчэ зялёны жакецік на плечы накінула.

Не, ён не па кнігі прыйшоў, тлумачыць Васіль. Ён цяпер сам бібліятэкар і загадчык чырвонага кутка ў леспрамгасе. Кнігі там у беспарадку, і ён хоча навучыцца, як іх сістэматызаваць.

Дзяўчына ўсміхаецца.

— Гэта не так проста. Я тыдзень ламала галаву, пакуль сёе-тое зразумела. Ды і то не да канца. Я толькі месяц працую...

Яна запрашае Васіля за балясы, садзіць на стул.

Ёсць, аказваецца, аўтарскія табліцы, дзе пры дапамозе складоў-скарачэнняў, розных абрэвіятур можна падабраць нумар для кожнага пісьменніка. Мае свой нумар кожны від літаратуры — мастацкай, палітычнай, навуковай. Зверху на кнізе і на картцы да яе ставіцца нумар віду літаратуры, знізу — аўтарскі нумар. І яшчэ так званыя дзесяцічныя табліцы ёсць. Вось, значыць, такія дробы.

Нарэшце Васіль знаёміцца з бібліятэкаркай. Ён прызнаецца, што скончыў настаўніцкія курсы, у школу ў заходнія

вобласці Беларусі не паехаў, вучыцца ў восьмым класе. Дзеля заробку пайшоў у бібліятэкары.

Шчырасць за шчырасць. Бібліятэкарка — завуць яе Гэля Машчынская — аказваецца родам з Мазыра, недалёкага горада, паступіла на першы курс настаўніцкага інстытута, які там адкрыўся, але перавялася на завочнае аддзяленне і прыехала працаваць сюды. Так склаліся сямейныя абставіны. Пры апошніх словах голас Гэлі задрыжэў, а твар спахмурнеў і як бы пабляк.

Дамовіліся: Васіль яшчэ раз прыйдзе ў бібліятэку, а там з дазволу загадчыцы бібліятэкі, якая ў адпачынку, Гэля дасць Васілю аўтарскія і дзесяцічныя табліцы. Іх, зрэшты, можна перадрукаваць на машынцы.

Харошая Гэля дзяўчына. Гэта Васіль адчуў адразу. Прыветлівая, ласкавая. Толькі ў яе на душы нейкае гора.

З першага дня работы ў леспрамгасе Васіль стараецца паказаць сябе з лепшага боку. У чырвоным кутку паяўляюцца плакаты, а таксама лозунг, звернуты да калектыву леспрамгаса: выдатнымі паказчыкамі сустрэць гадавіну Вялікага Кастрычніка. Са сценак пакоя глядзяць на прысутных Сталін, Варашылаў, Кагановіч, а таксама славуты лётчык Чкалаў. Іх партрэты Васіль закупіў у культмагу. Па дамоўленасці леспрамгасаўскі сталяр зрабіў для іх рамкі.

На стале ў чырвоным кутку пяць падшывак газет, пачынаючы ад цэнтральных і канчаючы раённай.

І насценгазету Васіль рыхтуе. З тых леспрамгасаўцаў, якіх ён ведае, ніхто заметак у насценгазету пісаць не хоча. Але бяда невялікая. Васіль сам напіша патрэбныя заметкі, са згоды леспрамгасаўцаў паставіць пад імі іхнія прозвішчы.

Рухавы, трохі крываногі паштальён Дзямід Якімчык, напаткаўшы Васіля на вуліцы, выгуквае:

— Пісямко табе. Напісана дзявочаю рукою. Бо літары круглыя. Пісямко на школу, але я рашыў лічна табе аддаць. Бо ў школе ёсць другія дзяўчаты. Могуць зацікавіцца...

Васіль бярэ канверцік і вачам не верыць. Ліст ад Алесі Малейкі, якую ён на практычных занятках пашкадаваў і не паставіў двойку. Яшчэ большыя дзівосы чакаюць Васіля ў самім лісце. Алеся працуе ў Пінскай вобласці, недалёка ад

былой граніцы. Вядзе адразу другі і трэці клас, бо ў школе толькі два настаўнікі. І яшчэ Алеся паведамляе, што завочна вучыцца ў педтэхнікуме. На другім курсе.

Васілю робіцца горка. Ён лічыў, што добра ўладкаваўся: жыве ў бацькавай хаце, мае няхай невялікі заробак і вучыцца ў школе. Але ў параўнанні з Алесяй ён лайдак і няздара. Прыгожае, шустрае дзеўчанё не пабаялася адарвацца ад бацькавай хаты, паехала ў невядомую даль і яшчэ ў тэхнікум уладкавалася. Толькі дзіва-дзіўнае. Чаму адразу на другі курс?

Паразважаўшы, Васіль весялее. Прыгожая Алеся Малейка першая напісала яму ліст. За тое, відаць, што ён не паставіў ёй дрэннай адзнакі. Другой прычыны Васіль пакуль што не бачыць.

Пасля заняткаў Васіль амаль кожны вечар завітвае ў раённую бібліятэку. Гэля, асабліва калі няма наведвальнікаў, сустракае яго ветліва, ахвотна і шчыра з ім размаўляе. Хоць пра сябе па-ранейшаму нічога не расказвае. Яе як бы прыгнятае нейкая тайна.

Міжволі Васіль параўноўвае Гэлю і Алесю Малейку. Алеся, вядома, прыгажэйшая за Гэлю. Чарнявая, зграбная, з вострым носікам, цёмнымі мігатлівымі вачыма, вельмі падобная на малое лісяня, і на сваім малым тварыку яна як бы нясе нешта патаемнае, загадкавае.

Гэля таксама відная дзяўчына. Паўнацелая, высокая ростам, яна мае складную паставу, прыгожы меладычны голас, прыемна ўсміхаецца. Але прыгажосць Гэлі звычайная. Такіх дзяўчат шмат.

Атрымаўшы пісьмо ад Алесі, Васіль не проста радуецца. Ён успрымае гэта як шчаслівы знак лёсу.

Васіль рады, што знаёмы з дзвюма дзяўчынамі, якія прыхільна да яго ставяцца. Значыць, ні ў адну з іх ён не закахаецца. Каханне яму зусім не патрэбна. Яно цяжкое, пакутлівае, адбірае волю, звязвае рукі, як бы накіроўваючы думкі, пачуцці толькі на адну асобу. Так было, калі Васіль закахаўся ў Маню Верхаводку.

Назіраючы за Гэляй, за тым, як яна запаўняе фармуляры, карткі, Васіль пакрысе вывучае бібліятэчную справу. Гэля не проста выдае кнігі. Яна распытвае кожнага новага чалавека,

які прыйшоў у бібліятэку, хто ён, дзе вучыцца, працуе, што чытаў, якія любіць кнігі.

Раённая бібліятэка — не тое, што сельсаветаўская. Там стаялі два стэлажы з кнігамі, тут іх больш як дзесяць. Васіль з ахвотаю ходзіць між стэлажамі, корпаецца ў кнігах. Колькі ёсць новых пісьменнікаў, кніг якіх ён не чытаў: Ляскоў, Пісемскі, Шэлер-Міхайлаў, Данілеўскі і шмат іншых. Васіль бярэ па кнізе кожнага з такіх аўтараў, але хутка расчароўваецца. Толькі два томікі Ляскова прачытаў. Хароші пісьменнік і мова ягоных твораў харошая, але вельмі шматслоўны. Астатнія яшчэ горшыя. Пасля Пушкіна, Гогаля, Тургенева іх чытаць цяжка. Кнігі яшчэ дарэвалюцыйнага выдання. На кожнай з іх мноства пячатак: у розны час належалі яны розным бібліятэкам. Каму да рэвалюцыі належалі акуратныя зборы твораў у цвёрдых вокладках? Можа, якомунебудзь графу, князю ці буйному памешчыку. А цяпер кнігі перавандравалі ў раённую бібліятэку і іх можа чытаць кожны, хто захоча.

## II

Зноў харошая, цёплая стаіць восень. Дні сонечныя, мяккія, ціхія. Грыбы, якія Васіль прыносіць з лесу, маюць у сямейным жыцці-быцці немалое значэнне. З пачаткам вялікай вайны зноў стала скупа з харчам, зноў чэргі па хлеб, цукар, нават па камсу.

Тое, што Васіль працуе ў лесапрамгасе, мае свае выгоды. Побач, праз двор, доўгая, як адрына, леспрамгасаўская крама. Туды і хлеб завозяць, і цукар, і розную рыбу. У гэтым магазіне працуюць бацька і сын Більдзюгі, абодва кароткія, тоўстыя, круглатварыя. Жывуць яны на вуліцы Чангарскай дывізіі. Мірон Більдзюг, як і Васіль, сябруе з Іванам Гарошыкам. Але з гэтага не вынікае, што ён добра ставіцца да Васіля. Даюць якраз цукар, і Васіль просіць Мірона адважыць яму кілаграм. Дзве гадзіны стаіць Васіль у чарзе. Канчаецца тым, што Мірон адважвае Васілю кілаграм цукровай пацярухі з дна мяшка. Цукар напалавіну з ворсам, ніткамі, іншай збын-

ню, аднак грошы бярэ Мірон як з усіх: чатыры рублі і дзесяць капеек.

З таго дня ў леспрамгасаўскую краму Васіль завітвае толькі тады, калі замест Більдзюгоў за прылаўкам стаіць рухавы, трохі глухаваты яўрэй Зайчык. Зайчык Васіля прывячае.

Насупраць леспрамгасаўскай стадолы, упрытык да гасцініцы, туліцца дробненькая крамка, якая некалі належала нэпману Руману. Цяпер загадвае ёй маладая, досыць відная ўдава Ліда. Прадаўшы хлеб, цукар, яна заўсёды чытае кнігу. Васіль бярэ гэта на заметку. Запісаў Ліду ў бібліятэку, прыносіць ёй кнігі. У аддзяку за гэта крамніца прыхоўвае для Васіля буханку хлеба ці нават што-небудзь іншае, што завозяць з базы.

Цёплая ціхая восень ідзе на схіл. Прыкметы замірання жыцця найбольш відавочныя ў лесе. Скідае апошняе залацістае лісце бяроза, прыгажэйшая восенню ад усіх дрэў асіна лапоча вогненна-барвовым лісцем, нават у бязветранае надвор’е. Але большая палавіна яе чырвонай лістоты ляжыць на доле.

Васіль найбольш любіць восень. Не ведае чаму. Яму здаецца, што восенню жыццё не замірае.

Восень, думае Васіль, ростані на вечных дарогах старога і новага жыцця. Гэта адмеціна паўночнага краю, бо ў цёплых паўднёвых краінах ніякай восені фактычна няма. Расліны там зялёныя круглы год.

Цінькаюць сініцы, госці асенняга лесу. Усё часцей чуваць туканне дзятла, які робіць шматлікія дзіркі ў старых, струхлелых дрэвах, вышукваючы розных казюрак.

Ціхі асенні лес. Малое, сярэдняе і нават вялікае птаства, якое напаўняла яго вясной і летам рознагалосай музыкай, рушыла ў вырай, у цёплыя краіны. Але сустракае яшчэ Васіль сонных цецерукоў, якія, гучна лапочучы крыллем, зрываюцца з ядлоўцавых кустоў, мільгане іншы раз у хвойнай навісі вогненна-рудая вавёрка.

Грыбоў у асеннім лесе мала. Знойдзеш, прамаршыраваўшы доўгія вёрсты, пяць ці шэсць позніх баравікоў і гэтаму рады. Але ёсць яшчэ сыраежкі, таўстухі, часам трапіцца падасінавік ці абабак. У маладых сасняках густа пракідаюцца зялёнкі

і падзялёнкі. Так што з пустым кошыкам Васіль дамоў не вяртаецца.

Самотна ў Васіля на душы. Сябры Іван Гарошык і Цімох Стрыж як бы аддаляюцца ад яго. Вясной закончаць дзясяты клас і пададуцца ў шырокі свет. Абодва вучацца на «выдатна», могуць паступіць у інстытуты. Тым часам рашылі падавацца ў ваенныя вучылішчы. Паступіш туды і будзеш на ўсім гатовым. Бо чакаць дапамогі з дому не выпадае.

Сябры паедуць. Васіль застанецца адзін. Проста немагчыма ўявіць, як ён будзе жыць без штодзённых сустрэч, размоў з Цімохам, Іванам, без спрэчак, кніг і ўсяго астатняга. Ён, вядома, можа здружыцца з другімі хлопцамі, якія вучацца ў восьмым, дзявятым класе. З суседам і сваяком Адамам, які адстаў і вучыцца ў сёмым класе, Васіль прыязных адносін не рве. На Адамавым агародзе яны ўдваіх змайстравалі турнік і вось ужо два гады на ім практыкуюцца. Платон, бацька Адама, карыстацца турнікам хлопцам не забараняе. Бо асаблівай шкоды агароду яны не робяць. Жалезная труба турніка адным канцом упіраецца ў сцяну хлява, другім ляжыць на слупе, які сябры глыбока ўкапалі ў зямлю. Турнік надзейны. Хлопцы маюць роўнае права на яго, бо трубу і слуп прынёс Васіль, Адам тым часам аддаў пад турнік куток агарода.

Аднак Адам, як і другія знаёмыя хлопцы, такіх дружбакоў, як Цімох і Іван, Васілю не заменіць.

У апошні час Васіль заўважыў нешта незвычайнае: Іван і Цімох як бы перагаворваюцца між сабой на нямецкай мове. Прытым перагаворваюцца своеасабліва.

— Вада? — нібы пытае Цімох.

— Вассэр,— адказвае Іван.

— Зямля?

— Эрдэн. Можна бодэн...

— Паветра?

— Люфт.

Васіль здагадваецца, у чым справа. Ва ўсіх выпускных класах цяпер ёсць экзамен па замежнай мове. У інстытутах таксама ўвялі гэткі ўступны экзамен. Не выключана, што такія іспыты будуць і ў ваенных вучылішчах. Між тым Ганна Уладзіміраўна настаўніца слабая. Праўдзівей, не слабая, яна

добра ведае не толькі нямецкую мову, але і французскую. Аднак дысцыпліну трымаць не ўмее. На яе ўроках вучні займаюцца чым хочуць. Таму нямецкую мову амаль ніхто не вучыць. Іван з Цімохам узяліся займацца нямецкай мовай самастойна.

Блукаючы па асеннім лесе, Васіль амаль заўсёды трапляе ў палон летуценняў, мараў. І звініць у душы нячутная музыка, найчасцей мелодыя песні «Любімы горад». Яна цяпер амаль заўсёды звініць. Васіль бачыць сябе ў розных незвычайных становішчах: то ён лётчык, які, нібы Чкалаў, робіць беспасадачны пералёт у Амерыку, а калі вяртаецца ў мястэчка, адразу спатыкаецца з Гэляй Машчынскай і Алесяй Малейкай. Бачыць сябе Васіль і студэнтам КІЖа (Камуністычнага інстытута журналістыкі), які — ён даведаўся са «Звязды» — ёсць у Мінску, і нават ляснічым, пад уладу якога пасля інстытута трапляюць навакольныя лясы.

Аднойчы Васіль уявіў сябе нават кампазітарам. У той дзень у ягонай душы нараджаліся, змяняючы адна другую, дзівосныя мелодыі. Васіль не ведаў толькі, як іх запомніць ці запісаць на паперы.

Ва ўсіх Васілёвых подзвігах неяк прысутнічаюць Гэля і Алеся. Яму падабаюцца абедзве дзяўчыны. Ён думае аб іх з прыемнасцю, пакуль што асабліва не выдзяляючы ніводную. Не, такой недарэчнасці, якая здарылася з ім у пятым класе, калі ён адчайна закахаўся ў Маню Верхаводку, болей не здарыцца. Цяпер ён бачыць, што Маня — самая звычайная дзяўчына. Нават горшая за звычайную: засталася на другі год у сёмым класе.

У адзін з тых дзён, вандруючы між стэлажоў раённай бібліятэкі і корпаючыся ў кнігах, Васіль натыкаецца на томік Кнута Гамсуна дарэвалюцыйнага выдання. Васіль пра Гамсуна нічога не чуў, але спытаць у Гэлі пра невядомага пісьменніка пасаромеўся. Проста ўзяў у бібліятэцы кнігу і пайшоў дамоў.

Гамсун яго страшэнна ўразіў. Яшчэ ніколі, выключаючы хіба Шолахава, Васіль не сустракаў такога цікавага пісьменніка. Яго проста зачаравалі раманы «Голад» і асабліва «Пан». Выдатна пачынаўся і трэці раман «Вікторыя», названы

«Гісторыяй аднаго кахання», але ён абрываецца на самым пачатку: канец кнігі ці нават цэлую палавіну нехта проста вырваў.

— Ці ёсць яшчэ Гамсун? — пытае Васіль у Гэлі.

— Няма. Толькі гэтая кніга. Я забылася папярэдзіць: яна няпоўная.

Дзе дастаць Гамсуна? І чаму Васіль раней не натрапляў на ягоныя кнігі? Ён жа шмат перачытаў кніг дарэвалюцыйнага выдання. У тым ліку дадаткаў да часопіса «Нива».

Гэля як бы ўгадвае Васілёвы думкі.

— «Вікторыю» хочаце прачытаць. У мяне ёсць. Толькі на нямецкай мове,— і чамусьці густа зачырванелася.

— Вы ведаеце нямецкую мову?

— Ведаю. Мая маці — немка. Выкладае нямецкую мову.

— І бацька немец?

— Бацька беларус. Тутэйшы. Але яго цяпер з намі няма...

Гэля пазмрачнела, змоўкла, і Васіль спыніў роспыты.

Школьны Асаавіяхім наладжвае ваенізаваны паход у процівагазах. Ідуць па пясчаным Макаўскім шляху, па тых якраз мясцінах, куды Васіль шастае па грыбы. Голы, самотны стаіць лес. Хоць сасняки па-ранейшаму радуюць вока. Яны нават зелянейшыя, чым летам.

Цяпер Васіль рэдагуе дзве насценгазеты: леспрамгасаўскую «За высокія тэмпы лесавывазак» і насценгазету восьмага класа «Вучнёўскі прамень». Матэрыялы для абедзвюх ён знаходзіць і апрацоўвае адзін. Толькі малюнкі для школьнай насценгазеты робяць два здольныя самадзейныя мастакі. Здараецца іншы раз так, што малюнкі ёсць, але матэрыялаў для іх няма. Тады Васіль піша заметкі пад гатовыя малюнкі. Розных недарэчных здарэнняў у класе колькі хочаш.

Насценгазета восьмага класа (яна вывешваецца раз у два тыдні) весялейшая за леспрамгасаўскую. Каля яе, як толькі павесяць, заўсёды збіраецца натоўп. Васьмікласнікі чытаюць заметкі, рагочуць, некаторыя, каго пакрытыкавалі, лаюць Васіля і ягоных памочнікаў.

Але і для леспрамгаса Васіль сёе-тое робіць. Пра поспехі ў вывазцы драўніны надрукаваў дзве заметкі ў раённай газеце і адну нават у абласной.

Выкладанне і ў восьмым класе, як і ў папярэднім сёмым, не надта цікавае. Школа лічылася ўзорнай, але патроху апускаецца. Гудовіч з Гелем з’ехалі з мястэчка, некалькі маладых настаўнікаў пайшлі ў армію. Школе яўна не хапае зухаватых, адораных настаўнікаў, такіх, як географ Антон Іванавіч Вярбіла. Новы географ — з гладка прычасанымі валасамі, у шчыгульненькім касцюме — у падмёткі не гадзіцца ранейшаму.

У восьмым класе выкладаецца эканамічная геаграфія, і новы настаўнік, штохвілінна зазіраючы ў канспект, аднастайным саладжавым голасам паведамляе, што ў якім горадзе, вобласці, краі вырабляецца. Амаль усюды ёсць крухмала-патачная вытворчасць, металаапрацоўчая, швейна-пашыўная, абутковая. Паспрабуй запомні. Ды і нудота невыносная. Тое самае можна сказаць пра некаторых іншых настаўнікаў.

Бадай толькі тры прыкметныя фігуры засталіся ў школе: матэматычка Зінаіда Паўлаўна Брусніцына, яе муж біёлаг Баркоўскі ды яшчэ новы гісторык Бобчанка, павольны ў рухах, гаворцы, спакойна-ўраўнаважаны, нібы бог. Жонка Бобчанкі ў пятых — сёмых класах вядзе беларускую мову і літаратурнае чытанне. На работу яны ідуць разам. Бобчанка, які нясе туга напакаваны партфель, як гусак, ідзе наперадзе, яго жонка трухае ззаду.

Баркоўскага (як дырэктара школы і як выкладчыка) паважаюць. Тлумачыць ён новы матэрыял без асаблівага бляску, але прадметы свае ведае грунтоўна.

Час ідзе. Намесніка загадчыка канторы «Плодагародніна» Фурмана, які мінулай зімой прадаваў дзяржаўную бульбу ў Мазыры на базары, з турмы выпускаюць. Толькі паўгода прасядзеў ён у турме. Наняў добрага адваката, і той давёў новаму суду, што Фурман прадаваў бульбу, якая належала не базе «Плодагародніны», а гаспадару, у якога Фурман кватаруе. Гаспадар кватэры гэта пацвердзіў.

«Звязду» Васіль выпісвае толькі на летнія месяцы, калі працуе ў рамонтнай брыгадзе і мае грошы. На сорак першы год ён наогул ніякіх газет не выпісаў. Хопіць тых, якія ёсць у леспрамгасаўскай бібліятэцы і ў канторы «Плодагародніна».

У адзін з тых дзён позняй восені Васіль натрапляе ў абласной газеце на дзіўны артыкул. Ён называецца «Паклёпнік

Чужаземцаў і ў вус не дуе», і расказваецца ў ім пра тое, як два гады назад гэтая самая абласная газета памылкова надрукавала матэрыял, у якім Чужаземцаў абвінавачваў у варожай дзейнасці галоўнага агранома абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі Машчынскага Пятра Ігнатавіча. Яго арыштавалі. Аднак паўторная праверка надрукаванага матэрыялу, праведзеная газетай, фактаў не пацвердзіла. Тым часам Чужаземцаў, работнік таго ж упраўлення, жыве прыпяваючы і ніякіх дакораў сумлення за тое, што абылгаў нявіннага чалавека, не адчувае.

Васіля артыкул узрушвае. Аднойчы ён чуў, як загадчыца бібліятэкі, чорная сухая як вобла, называла Гэлю Галінай Пятроўнай.

Выходзіць, вось чаму сумавала Гэля і чаму мала пра сябе расказвала. Цяпер ясна: з-за арыштаванага бацькі. Але пасля такога артыкула бацьку Гэлі выпусцяць з турмы.

Васіль радуецца. Толькі баіцца радасць сурочыць. Можа здарыцца, што гэта не Гэлін бацька. Ёсць на свеце і другія Машчынскія і нават такія, якіх завуць Пятро.

Дні два-тры Васіль не завітвае ў бібліятэку. За гэты час абласная газета друкуе новую заметку. У ёй гаворыцца, што «паклёпнік Чужаземцаў пастановай бюро абкама партыі выключан з членаў КПБ(б)». Кароценькая заметка не дае ніякіх далейшых тлумачэнняў.

Васіль нарэшце ідзе ў бібліятэку. Замест Гэлі кнігі выдае чорная сухая загадчыца.

— Становішча змянілася,— не вельмі ахвотна тлумачыць Васілю.— Машчынская, відаць, не будзе ў нас працаваць. Будзе вучыцца ў інстытуце на стацыянары. Яе бацьку апраўдалі па суду і выпусцілі з турмы...

Вось так, значыць. Гэлінага бацьку апраўдалі, як апраўдалі летась дзядзьку Івана, роднага брата Васілёвай маці. На яго проста абы-што напляткі. І за гэтую бязглуздзіцу трымалі чалавека амаль год у турме і, як пошапкам расказваў дзядзька, нават білі. Два зубы выбілі. Навошта тады савецкая ўлада, калі пры ёй б’юць гэтак жа, як пры царызме?..

Загадчыца бібліятэкі, відаць, адчула, што залішне казённа размаўляе з Васілём.

— Прыйдзіце ў панядзелак,— гаворыць.— Да канца месяца Машчынская яшчэ папрацуе. Можа, нават да Кастрычніцкіх свят...

Васіль завітвае ў бібліятэку ў панядзелак. І бачыць Гэлю, якой яшчэ ніколі не бачыў. Вясёлую, прыгожую, у новай пярэстай сукенцы. Гэля сустракае Васіля з несхаванай радасцю.

— Баялася, што не прыйдзеце,— гаворыць і чамусьці чырванее як макаў цвет.— Я вам нешта прывезла.— Яна на хвіліну адварочваецца і дае Васілю ў рукі кнігу, вокладка якой пакрыта чырвонай матэрыяй.— Гэта «Вікторыя» Кнута Гамсуна. На нямецкай мове. Вы ж хацелі яе прачытаць?

Васіль недаўменна пазірае на Гэлю. Па-нямецку ён чытаць не ўмее. Праўдзівей, умее, але вельмі мала з прачытанага разумее. Навошта тады яму нямецкая кніга?

— Вы ж самі гаварылі,— нібы прыходзіць на дапамогу Гэля,— што вашы сябры вучаць нямецкую мову. Прачытаўшы «Вікторыю», вы іх дагоніце. Дастаньце нямецкую граматыку, слоўнік. Галоўнае — табліцу дзеясловаў трэба вывучыць. Ва ўсіх формах...

Васіль, падзякаваўшы за кнігу, збіраецца ісці, але Гэля яго затрымлівае.

— Ведаеце,— прамаўляе, чамусьці зноў чырванеючы.— Можаце завочна скончыць дзявяты клас. У горадзе ёсць завочная школа. Летам паступіце ў настаўніцкі інстытут і будзем разам вучыцца.

Прыходзяць двое ці трое новых наведвальнікаў, і Васіль развітваецца.

Разгарнуўшы кнігу, ён бачыць лісток паперы. У ім адрас завочнай школы і дамашні Гэлін адрас.

Па дарозе Васіль разглядае кнігу. Трохі нязвычна несці ў руках нямецкага Гамсуна, якога Васіль не можа прачытаць ні сёння, ні заўтра.

## III

Вечар асенні, халодны, з дажджом, ветрам, непралазнаю гразёю на вуліцы. Некалькі вечароў Васіль ходзіць на станцыю да вячэрняга маскоўскага цягніка. Хоча правесці Гэлю.

Васіль стойваецца ў станцыйным скверыку. Жоўтае лісце таполяў падае густа і шчодра, ім засланы ўвесь дол абнесенай жалезнай агароджай пляцоўкі, на якой па кругу стаяць дрэвы і прыхінутыя да іх казённыя з вылітымі металічнымі ножкамі лаўкі. Пасярэдзіне скверыка стаіць воданапорная калонка. Вада з-пад адкручанага крана б'е такая сцюдзёная, што ад яе нават летам, у гарачыню, зводзіць зубы. Вечарам, пры святле схаванай у лісці дрэў электрычнай лямпачкі, струмень вады зіхаціць, нібы сярэбраны.

Гэлю Васіль не пабачыў. Можа, паехала ў той дзень, калі ён на станцыю не прыходзіў, а можа, села на які-небудзь ранішні цягнік.

Напіўшыся пад кранам вады, Васіль нарэшце крочыць да Івана Гарошыка. Падзеі разгортваюцца такія, што іх можна абмеркаваць толькі з Іванам. Днямі Молатаў ездзіў у Берлін, у Германію. Гітлер наладзіў у гонар Молатава прыём. Затым банкет у гонар Гітлера і Рыбентропа даў Молатаў. У той час, калі ішло баляванне, на Берлін наляцела англійская авіяцыя. Госці Молатава, гэта значыць Гітлер, Рыбентроп і астатнія высокія ўрадоўцы, заставаліся ў савецкім пасольстве да самай раніцы. Што ўсё гэта значыць?

Германія — самая магутная ў Еўропе краіна. Ёй супрацiўляецца толькі адзінокая, астраўная Англія. Што будзе далей?

Газеты пра гэта не пішуць. Зусім не заглядваюць у заўтрашні дзень. Змяшчаецца матэрыял толькі на тэмы дня. Спачатку друкуюцца нямецкія ваенныя зводкі, за імі англійскія. Асабліва хвалебных матэрыялаў пра Германію няма. Наступіў нібы мёртвы сезон.

Іван Гарошык нічога пэўнага не гаворыць. Апроч таго, што Гітлеру асабліва верыць не выпадае.

Тое, што Гітлер і Рыбентроп начавалі ў савецкім пасольстве, Івана нават злуе.

— Што з таго? Успомні, як браталіся, цалаваліся Аляксандр Першы з Напалеонам. Потым што было? Карціна да сённяшняй падобная. Напалеон аблажыў Англію кантынентальнай блакадай, а потым абвінаваціў Расію, што яна блакаду парушае. І пачаў вайну...

Пра вайну Васіль не хоча думаць. Хоць на душы часам трывожна. Што, калі сапраўды выбухне вайна? Ды яшчэ калі Івана з Цімохам не будзе побач...

Івана, Цімоха, яшчэ двух-трох хлопцаў матэматычка Брусніцына, якая фактычна кіруе школай, нацэльвае на атрыманне атэстатаў выдатнікаў. Застаецца з імі пасля ўрокаў, рашае найцяжэйшыя задачы па алгебры, геаметрыі, трыганаметрыі.

Васіля ніхто не заахвочвае. Яго некалі выдзеліў толькі настаўнік Гудовіч, якога няма цяпер. Дзякуючы Гудовічу ў пятым класе Васіль атрымаў пахвальную грамату і яго паслалі на экскурсію ў Мінск. Магла быць пахвальная грамата ў шостым, сёмым класе. Але хто-небудзь з настаўнікаў нібы наўмысна ставіць Васілю «добра», і з-за адной такой адзнакі пахвальная грамата знікае, як няўлоўная сіняя птушка.

Самалюбівы Васіль? Вядома, самалюбівы. Але абразы доўга ў душы не тоіць. Спакойна глядзіць нават на ўсеўладную Брусніцыну, якая яго недалюблівае. Дзень ці два Васілю непрыемна, але вельмі хутка крыўда знікае, як бы яе і не было зусім.

Васіль, не называючы Гэлю, гаворыць таварышу пра сканчэнне дзявятага класа завочна. Іван адразу загараецца:

— А што? Чаго табе аднаму тырчэць у мястэчку? Вунь Кузьма (Іван называе гісторыка, які цяпер выкладае ў пятых — сёмых класах) з восьмага класа ў настаўніцкі інстытут паступіў. І добры настаўнік. Давай. Па матэматыцы буду табе памагаць...

Вядома, не пра настаўніцкі інстытут Васіль марыць. Ён вычытаў са «Звязды», што ў Мінску ёсць Камуністычны інстытут журналістыкі. Туды нібыта прымаюць не толькі партыйных. Але ўсё адно далёкі і недасяжны той КІЖ.

Некалькі дзён Васіль вагаецца. Паразважаць, падумаць ніколі не шкодзіць.

У Цімоха Стрыжа збіраюцца дзесяцікласнікі. Яны рыхтуюцца да выраю. У мястэчку ніхто з іх не застанецца. Што рабіць у мястэчку? Да зямлі, гаспадаркі хлопцы не прывучаны. Вядома, не панскія яны дзеці. Але лад жыцця такі, што араць зямлю, сеяць яны не ўмеюць.

Калгас нічога не робіць, каб затрымаць на зямлі гэтых маладых, працавітых хлопцаў.

Праўда, рабочы клас нібы пачаў пра сябе клапаціцца. Адкрываюцца школы фабрычна-заводскага навучання, розныя рамесныя вучылішчы. Гэтыя асяродкі бяруць моладзь на поўны кошт. Ахвотна рушылі некаторыя местачкоўцы, маладыя хлопцы, дзяўчаты, у такія вучылішчы. Хто скончыў па сем, нават па шэсць класаў.

Васіль чытае не толькі газеты, але і часопісы. Бо менавіта ў іх змяшчаюцца новыя творы. Часопіс «Полымя рэвалюцыі» Васіль вось ужо год-два чытае ўважліва. Толькі паменшала беларускіх пісьменнікаў. Местачковыя старшакласнікі зусім нядаўна нахвальвалі раман Цішкі Гартнага «Сокі цаліны». Доўга ганяўся за гэтай кнігай Васіль. Ды так і не прачытаў. Цяпер не прачытаеш. Пра Цішку Гартнага, Міхася Чарота, Міхася Зарэцкага няма ні слова ў школьных падручніках. Нацдэмы, ворагі народа. Іх кнігі забаронены.

Астатніх пісьменнікаў, якіх ведае Васіль, нядаўна ўзнагародзілі. Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, Міхася Лынькова.

Газеты часта змяшчаюць літаратурныя матэрыялы. Шырока адзначаліся юбілеі Пушкіна, Лермантава, Тараса Шаўчэнкі, Янкі Купалы, Якуба Коласа. З газет Васіль даведваецца пра армянскі народны эпас «Давід Сасунскі», паэму старажытнага грузінскага паэта Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры». Васіль дастае і чытае гэтыя кнігі.

Падзеі набягаюць адна на другую. Іх многа за апошні час.

XVIII з’езд партыі вітала беларуская дэлегацыя. У яе складзе вядомыя пісьменнікі, мастакі, артысты. Спявачка Александроўская пачала прывітальную прамову на рускай мове, але Сталін перапыніў, папрасіў, каб гаварыла пабеларуску.

Не так даўно ў Маскве прайшла Дэкада беларускай літаратуры і мастацтва. Дзесяць дзён з талеркі рэпрадуктара, які вісіць у другой палавіне Васілёвай хаты, гучаць мелодыі беларускіх песень, музыка, паэты чытаюць вершы.

Аднойчы ў бібліятэку зазірае дырэктар леспрамгаса. Глядзіць на плакаты, на свежы нумар насценнай газеты, на

драўляныя скрыначкі (іх Васілю зрабілі ў леспрамгасаўскай майстэрні), бярэ ў рукі некалькі картак.

— Сам дадумаўся пісьменнікам паставіць нумары? — усмешліва пытае.

— Не дадумаўся. Ёсць кніжныя каталогі. Усё распісана. Зрабіў, як у раённай бібліятэцы.

Дырэктар аглядвае кніжныя паліцы.

— Кніг малавата. Схадзі ў кніжны магазін. Адбяры сотню-другую. Аплацім па безнаяўнаму разліку.

— Мастацкіх кніг там няма. Іх высылае абласны бібкалектар.

— З'ездзі ў бібкалектар. Выпішам камандзіроўку.

І вось едзе Васіль у Мазыр. Быў у Маскве, Мінску, Гомелі, у Мазыры не быў. Месяц снежань на дварэ, але снег яшчэ не выпаў. Усё навакол шэрае, аднастайнае. Лашчаць вока толькі зялёныя хвайнякі, якія цягнуцца ўзбоч вузкай шасейкі, якой звязан драўляны чыгуначны гарадок з абласным цэнтрам.

Мазыр Васіля надта не ўражвае. Малыя мураваныя дамкі са знадворнымі лесвіцамі, якія вядуць на другія паверхі, брукаваныя вуліцы і больш нічога асаблівага. Цікавы гарадок толькі тым, што стаіць на пагорках, а ўнізе цячэ яшчэ не пакрытая лёдам Прыпяць.

У бібкалектары Васіль доўга не затрымліваецца. Кнігі, якія там ёсць, заказвае, выпісвае рахунак. І адразу ідзе шукаць завочную дзесяцігодку.

І там Васілю шанцуе. Спакойны, памяркоўны, рудаваты завуч (ён назваўся Майсеем Барысавічам) уважліва выслухоўвае Васіля, глядзіць яго пераводнае пасведчанне за сёмы клас і адразу прапаноўвае напісаць заяву.

— Здымеце копію з пасведчання і дашлеце,— тлумачыць завуч.— Для нас важна, што няпоўная сярэдняя адукацыя ў вас ёсць. Цяпер хочаце атрымаць сярэднюю. З усяго цыкла дзявяты клас самы цяжкі.

Яшчэ раз зірнуўшы на Васіля, завуч гаворыць:

— У нашай школе працуе настаўнік, які раней у вас працаваў. Яго завуць Бушман Барыс Майсеевіч.

Барыса Майсеевіча Васіль добра ведае. Настаўнік быў харошы, уважлівы, разумны. І да Васіля ставіўся прыхільна.

Бушман выкладаў арыфметыку ў пятым і шостым класах. З'ехаў з мястэчка, калі ўзнагародзілі Брусніцыну і між настаўнікамі вынікла спрэчка.

Пра ўсё гэта Васіль расказвае завучу завочнай школы.

— Бушман — мой брат. Не родны, стрыечны. Добра, што вы яго ведаеце. Вышле заданні па алгебры, геаметрыі, трыганаметрыі...

Цяпер толькі Васіль заўважае, што завуч падобен да стрыечнага брата. У таго толькі твар шырэйшы і рудыя валасы з завіткамі.

Зайсці да Гэлі Васіль не адважваецца. Хто ён такі, каб заходзіць да студэнткі? Знайшоў драўляны, пафарбаваны ў сіні колер дамок з двума ганкамі, у якім жыве Гэля, пастаяў пад акацыямі, на якіх яшчэ трымаецца сухое пачарнелае лісце, і падаўся на аўтобусную станцыю.

## IV

Ёсць мэта. Яна нібы памнажае сілы. Васілёва жыццё мяняецца. Адно, калі проста ходзіш у школу, вучыш урокі, і зусім другое, калі маеш дадатковае заданне, пра якое мала хто ведае.

Пасля паступлення ў завочную школу Васілём авалодвае асаблівы настрой. Пра яго заняткі ведаюць толькі Цімох Стрыж ды Іван Гарошык. Іван не толькі ведае, актыўна памагае Васілю. Тлумачыць новы матэрыял па алгебры, геаметрыі, трыганаметрыі. Нават складае спецыяльныя задачы, каб Васіль іх рашаў рознымі спосабамі.

Галоўнае Васіль робіць сам. Ён ніколі не думаў, што кароткія тлумачэнні ў падручніку могуць замяніць настаўніка, і да сэнсу тых самых прагрэсій, лагарыфмаў, сінусаў, косінусаў можна дабрацца самому, рашаць прыклады і задачы, выконваць кантрольныя заданні, якія пачаў акуратна прысылаць Бушман.

Бушман у адным канверце з заданнямі нават невялічкае асабістае пісьмо прысылае Васілю. У ім піша, што заўсёды высока ставіў ягоныя здольнасці, дысцыплінаванасць. Называе лепшых вучняў школы, у шэрагу якіх Іван Гарошык, Цімох Стрыж, просіць перадаць ім прывітанне.

Пісьмо Васіля падбадзёрвае. Як-ніяк сам настаўнік яму піша. Гэта нешта ды значыць.

Пачынаецца новы, сорак першы год. Васілю хутка споўніцца шаснаццаць гадоў.

Васіль зусім не збіраўся сустракаць Новы год у школе. Але перамяніў рашэнне. Дырэктар лясгаса выпісаў яму прэмію ў памеры месячнага заробку. Прэмія падняла Васілю настрой. Грошы ён аддаў маці на схоў. Ён мае надзею да вясны набыць новы касцюм.

Галоўнае: Алеся Малейка пра Васіля ўспомніла. Прыслала другі ліст. Гэта быў адказ на ліст Васіля, які ён напісаў Алесі яшчэ ў пачатку восені.

Трохі запознены адказ Васіля не засмуціў. Наадварот, ён нават узрадаваўся. Алеся кінула школу і з другога паўгоддзя збіраецца стацыянарна вучыцца ў педтэхнікуме ў прыдняпроўскім гарадку, які яшчэ нядаўна быў цэнтрам Васілёвага раёна.

Васіль ведае гэты тэхнікум, хоць сам там ніколі не быў. У ім вучыўся дзядзька Пеця, старэйшы за Васіля гадоў на восем малодшы матчын брат. Дзядзька Пеця — чорны як турак, з такімі ж чорнымі, трохі лупатымі вачамі, кучаравымі валасамі.

Перш чым паступіць у тэхнікум, Пеця канчаў у мястэчку сямігодку, або школу першай ступені, як тады яе называлі. Дзядзька гады два жыў у Васілёвым доме, вечарамі ляжаў з пляменнікам на печы і бясконца расказваў казкі. Якіх толькі дзівосных гісторый не наплёў маломy пляменніку малады дзядзька. Выдатны ён быў апавядальнік! Відаць, і настаўнік з яго быў бы ніштаваты. Толькі не собіла дзядзьку скончыць тэхнікум. Не было каму памагаць, і, скончыўшы два курсы, дзядзька Пеця пакінуў тэхнікум і ўладкаваўся рахункаводам у бабінавіцкі калгас. Яго б куды хочаш узялі, бо мае дзядзька надзвычай прыгожы почырк і яшчэ выдатна малюе. Намаляваны вугалем партрэт Мао Цзэдуна ўзяў у дзядзькі Пеці Бабінавіцкі сельсавет і нават трохі грошай заплаціў.

У далейшым жыццё дзядзькі Пеці закруцілася як нейкая недарэчная карусель. Узяў за жонку старэйшую за сябе шыракаротую дзявулю, скарб якой — пусты куфар — цыган

прывёз з суседняй вёскі. Першым дзелам дзявуля прымусіла дзядзьку зарэзаць карову: даіць яе яна не хацела і не ўмела.

Дзядзька, відаць, разлічваў, трымаючыся за рахункаводства, якім-небудзь спосабам скончыць тэхнікум, стаць настаўнікам. Тым часам яго палавіна прыняла другое рашэнне: пагнала дзядзьку на шафёрскія курсы. Бо не настаўнікі, а шафёры многа грошай палучаюць.

Паездзіў дзядзька з год шафёрам, нават сяды-тады ў Васілёву хату заскокваў, бо працаваў ад мясцовага леспрамгаса, у бібліятэцы якога цяпер працуе Васіль.

Цяпер дзядзька ў войску. Яго часць стаіць у горадзе Ломжы, на цяперашняй граніцы з немцамі. Дзядзька піша Васілёвай сям'і лісты, Васіль яму адказвае.

Па чутках, шыракаротая жонка, ад якой дзяцей у дзядзькі не было, цяпер адчайна гуляе з кім хоча.

Дык вось у тэхнікуме, які не здолеў скончыць дзядзька Пеця, будзе вучыцца Алеся Малейка.

Васіль пайшоў на навагодні вечар, спадзеючыся, што раптам і Алеся Малейка туды завітае. У зале стаіць ёлка, блішчыць рознакаляровымі цацкамі, электрычнымі лямпачкамі, якія схаваны ў густым вецці. У лясах, якія акружаюць мястэчка, яліну не сустрэнеш, гэта Васіль ведае добра. Ёлку прывезлі з дальняга сельсавета, з-пад самай ракі Бярэзіны. Недзе ў тых мясцінах вёска Алесі Малейкі.

Алесі на вечары, аднак, няма.

Верхаводзяць на вечары дзесяцікласнікі. Яшчэ трохі варушацца некаторыя вучні дзявятага класа, а васьмікласнікі пазашываліся ў цёмныя куткі і сядзяць як мышы пад венікам.

На школьным вечары прысутнічаюць два лейтэнанты. На іх новыя гімнасцёркі, перапаясаныя бліскучымі рамянямі, рыпучыя хромавыя боты. Аднаго лейтэнанта Васіль ведае. Гэта Іван Пракопавіч Дмухавец, хлапчына з іхняй Савецкай вуліцы. Толькі два гады назад Іван Пракопавіч скончыў сярэднюю школу, а ўжо лейтэнант.

Васіль памятае гэтага хлопца па п'есе «Любоў Яравая», якую ставілі старшакласнікі, калі ён вучыўся толькі ў шостым класе. Добра выступаў у п'есе высокі, з зычным раскацістым голасам Іван Дмухавец.

На лейтэнантаў захоплена глядзяць некаторыя школьныя дзяўчаты. Дзве-тры з іх апрануліся як на свята, і наогул падраслі, папрыгажэлі дзяўчаты. Сапраўдныя нявесты.

Выступае школьны хор, танцавальны калектыў. Затым перапынак, пасля якога пачнуцца танцы.

Танцы Васіля не цікавяць. Ён апранаецца, збіраючыся шуснуць дамоў. Але яго затрымлівае дзевяцікласніца Люба Сініца, родная сястра Ульянкі. Люба ладная, прывабная дзяўчына.

— Чаму так рана? — пытае Люба ў Васіля, і позірк яе бліскучых шэрых вачэй як бы выпраменьвае прыязнь, прыхільнасць.— Табой дзяўчаты цікавяцца, а ты з танцаў уцякаеш...

— Якія дзяўчаты? — Васіль нічога не разумее.

— Алеся Малейка, напрыклад. Яна ў нас кватаравала, як вучылася на курсах. Нядаўна забягала. Перадала табе прывітанне.

У Любы ўзбуджаны твар, яна шчыльна падступае да Васіля, кранаючы яго сваімі высокімі грудзямі, і ў такім становішчы распытваць пра Алесю проста недарэчна.

— Я з мінулага лета не бачыў Алесі,— гаворыць Васіль.— Не ведаю, дзе яна.

— Цябе на вечарах няма. Ні на кастрычніцкім не было, ні на самадзейнасці.

— Сёння галава баліць,— гаворыць Васіль, толькі каб што-небудзь сказаць.— На наступны вечар прыйду.

Разам з Васілём у восьмым класе вучыцца малодшая сястра Любы — Ульянка. Тая самая Ульянка з Ключароўскіх хутароў, якая ў першым класе была разам з Васілём у царкве на споведзі, аднак не пасаромелася нakляпаць на яго настаўніцы.

Васіля потым сарамацілі перад усёй школай.

Нягледзячы на сваю здраду, Ульянка прыхільна ставіцца да Васіля. Не мінае дня, каб яна не зачапіла яго якім-небудзь словам. Ульянка, аднак,— шэрае савянё... А вось Люба прыгожая дзяўчына. Толькі робіцца з ёй нешта незразумелае. Яна настойліва набіваецца на знаёмства з дзевяцікласнікамі, дзесяцікласнікамі і нават з хлопцамі, якія ў школе не вучацца.

Ульянка, Люба (у іх сям'і ці не чацвёра дзяўчат) жывуць цяпер на вуліцы Чангарскай дывізіі. Недалёка ад Івана Гарошыка. На ўзбалотку пад старымі дупляністымі вербамі, якраз насупраць чыгуначнай станцыі, іх бацька збудаваў доўгую, падобную на адрыну, хатку. За хаткай агарод, які адным канцом выходзіць да балота. Праўда, балота Гарадзінка цяпер асушана.

Спіць пад цёмным зімовым небам мястэчка. Снег толькі злёгку прыцерусіў зямлю, і пануюць у наваколлі два тоны: цёмны і шэры. Агнёў у вокнах амаль не відаць: Новы год мястэчка адзначае па старым царкоўным календары — з Калядамі, поснай і скаромнай куццёй. Хоць пад вокнамі ўжо не шчадруюць.

Некалі цясляр Міронччык крадком з'еў кайстру сала, якое сям'я ашчаджала на лета, і сям'я тое лета галадала. Цяпер здарылася новая бяда. Усю мінулую зіму, паставіўшы ў закутку, дзе туліцца сям'я, кросны, маці ткала палотны. Ад раніцы да вечара грукала бёрдамі, выткаўшы метраў трыццаць палатна. Яго разасалі па роснай траве — бяліць. Адной ночы палатно нехта ўкраў.

Маці вінаваціць Халімоніху, худую, тонкую, як жардзіна, недалёкую суседку, якая перасварылася з усёй вуліцай.

Вось так, значыць. У хаце тры хлопцы, дзяўчына. Тым часам бялізну няма з чаго шыць. Таму хутка ляснула Васілёва прэмія: за яе купілі бацьку, дзецям некалькі споднiх сарочак і нагавіц.

Не толькі Васілёва сям'я так жыве. Палавіна мястэчка перабіваецца з хлеба на квас. І вопраткай местачкоўцы не могуць пахваліцца. Авечак ніхто не мае. Значыць, і воўны няма. Ніхто не сее на вузкіх сотках лён. Забываюцца старыя рамёствы: краўцы не шыюць з аўчын кажухоў, людзі не валяюць валёнкаў.

Калгас не прынёс перамен да лепшага. Грошай калгаснікі не атрымоўваюць зусім. Таму не будуюць новых хат, хлявоў. Наадварот, занепадае тое, што было.

Жыць нялёгка і не надта весела. Гэта адчувае моладзь і, можа, па гэтай прычыне так адчайна рвецца з мястэчка. Бо што яе тут можа прывабіць?

## V

Тое, што Васіль працуе ў леспрамгасе, няхай сабе толькі бібліятэкарам, мае для сям'і карысць. Кантора стала выпісваць дровы, і леспрамгас таксама. Так што Петрыку не трэба красці на станцыі плашкі, як краў іх усе гады Васіль. І хлеб Васіль прыносіць. Бо паблізу ягонай бібліятэкі аж тры крамы.

З Петрыка выйшаў хлопец адменны. Вучыцца не надта, затое валодае вынаходніцкімі здольнасцямі. Чаго толькі Петрык не майструе з жалязяк, колцаў, шрубак, болцікаў, якіх колькі хочаш на чыгуначных пуцях. Тачкі, двухколкі і ў дадатак розныя машыны невядомага прызначэння.

Мінулым летам Петрык змайстраваў самакат. На восі з чатырма коламі прыладзіў драўлянае сядзенне, зрабіў рычаг, педалі, ланцуг на манер веласіпеда і, водзячы гэтым рычагом уперад-назад, горда раз'язджае па вуліцы.

Яшчэ і трусамі захапіўся Петрык. Прынёс самца і самку, памясціў у драцяную клетку без дна. За лета іх многа развялося. Трусікі жылі ў норах, непрыкметна пладзіліся лета і восень. Елі пышную зеляніну, якая нібы на дражджах расце на мяккай, пульхнай (тут некалі стаялі хлявы) глебе.

На зіму Петрык пакідае толькі двух трусікаў, якіх трымае ў падпеччы. Корміць іх бульбай, буракамі, мёрзлымі капуснымі лістамі, якія здабывае з-пад снегу на агародах.

У адзін з тых студзеньскіх дзён Васіль завітвае да Цімоха Стрыжа. Там якраз Іван Гарошык. Сябры слухаюць патэфон, перакідваюцца нямецкімі словамі, а то і цэлымі фразамі. Значыць, па-ранейшаму вучаць нямецкую мову сябры-таварышы.

Свой занятак хлопцы прыпыняюць, але Васіля ўсё роўна агортвае крыўда. Хаваюцца ад яго сябры. Не лічаць за роўнага. Бачаць у ім блазна, які набіваецца на дружбу.

Прыйшоўшы дамоў, Васіль бярэ ў рукі «Вікторыю» Кнута Гамсуна, падораную Гэляй Машчынскай. Спрабуе чытаць. Аднак не знаходзіць ніводнага знаёмага слова. Яму нават страшна робіцца. Ён жа чатыры гады вывучае нямецкую мову. Не выключана, што і пры паступленні ў настаўніцкі інстытут будзе экзамен па нямецкай мове. Як ён туды паступіць?

Назаўтра Васіль ідзе ў раённую бібліятэку. На шчасце, томік Гамсуна з абарванай на самым пачатку «Вікторыяй»

ніхто не ўзяў. Васіль радуецца. Ён возьме нямецкую кнігу і будзе чытаць яе, зазіраючы адначасова ў рускі тэкст.

Толькі марныя гэта намеры. Нічога не атрымліваецца.

Не ведаючы нямецкіх слоў, немагчыма адшукаць іх у тэксце.

Выйсце адно: вярнуцца да вытокаў. Васіль ідзе ў краму, купляе падручнік для пятага класа. Цяпер падручнік зусім не такі, як тады, калі Васіль вучыўся ў пятым класе.

Дзіўная справа, Васіль нават з асалодай завучвае нямецкія назоўнікі, дзеясловы, якія павінен быў ведаць даўно: і яны лёгка запамінаюцца. Дваццаць-трыццаць слоў можна запомніць за адзін дзень. Толькі трэба моцна захацець.

Ён яшчэ піша ліст у Мінск, нядаўняму аднакласніку Грышу Чэкману, які пасля сёмага класа паступіў у хіміка-тэхналагічны тэхнікум. У лісце просьба да Грышы: як-небудзь дастаць і прыслаць нямецкую граматыку. Малы, як корч, Грыша, які паходзіць з недалёкай вёскі Кавенькі, быў адменны матэматык. Задачы рашаў імгненна, намнога лепей, чым Васіль. Але жыў без бацькі. У Мінску Грышаў бацька. Ён, старшыня сельсавета, паехаў у Мінск на курсы ды так там і застаўся. Сышоўся з другой жанчынай, пакінуўшы трое дзяцей.

Двух тыдняў не мінае, як Васіль трымае ў руках нямецкую граматыку. Малайчына, Грыша! Сапраўдны таварыш. Кніга не новая, была ва ўжытку, але гэта Васілю без розніцы. Нямецкая граматыка найбольш каштоўная тым, што побач з нямецкім тэкстам ідзе рускі. І пераклад не вольны, як у «Вікторыі» Гамсуна, а дакладны, адпаведны.

Васіль узвальвае на плечы новую, нялёгкую ношку. Але праўду гавораць: свая ношка не цяжкая. Ён ахвотна чытае новы тэкст, запамінае словы.

Васіль тоіць надзею калі-небудзь умяшацца ў гаворку Цімоха з Іванам, паказаць, што і ён не лыкам шыты, не горш за іх разбіраецца ў нямецкай мове.

І ў завочным навучанні ён мае поспех. Кантрольных заданняў процьма, але Васіль іх выконвае.

Бягуць дні, тыдні новага, сорак першага года. Іх імклівага лёту Васіль нават не заўважае, бо жыве ў прыўзнятым, па-

лымяна-радасным настроі. Кожны новы дзень запоўнены да астатку рознымі справамі, інтарэсамі.

Вось ужо і месяц люты канчаецца. Запахла вясной. Часцей выглядвае сонца. Са стрэх хат, хлявоў віснуць празрыста-сінія суслы.

Санны шлях, якім стала местачковая вуліца, яшчэ трымаецца. Ён гладкі, слізкі, бо па ім бясконцым ланцугом імчаць шырокія трохконныя кары з дубовымі камлямі. Апошнія дубовыя гаі вынішчаюцца. Кажуць, дрэва ідзе ў Германію. Васіль гэтага не ведае, хоць працуе ў леспрамгасе. Але на душы непрыемна. Колькі часу трэба, каб вырас магутны, з шырокай раскідзістай кронай дуб? Дзвесце, трыста гадоў? Ніхто на гэта, аднак, не глядзіць. Давай план, і кропка! І Васіль гэтаму міжволі памагае. Бо хваліць перадавікоў у насценгазеце.

У леспрамгасаўскай бібліятэцы ніхто не перашкаджае Васілю займацца. За дзень завітаюць тры-чатыры чалавекі. Абмяняюць кнігі, пагавораць з Васілём. Прыходзяць пераважна тыя, хто ў леспрамгасе не працуе. Бо Васіль настойліва вярбуе новых чытачоў. Няхай чытаюць людзі кнігі. Ад гэтага толькі карысць.

Насупраць леспрамгасаўскай канторы гасцініца. Яна цяпер зачынена, бо будынак асеў, перакасіўся. Яшчэ два-тры гады назад гасцініца стаяла ніштаватая, з белымі аканіцамі, высокім ганкам. Васіль нават ганарыўся, што ў мястэчку ёсць гасцініца. Сюды з розных гарадоў прыязджаюць незнаёмыя людзі. Яны нібы з зусім іншага свету: у модных паліто, капелюшах, з туга напакаванымі партфелямі.

У пачатковых класах разам з Васілём вучылася беленькая, з пушыстымі валасамі дзяўчынка, дачка загадчыка гасцініцы. Яе звалі Ліза. Васіль быў нават трохі закаханы ў гэтую Лізу. З трапятаннем, сардэчным хваляваннем праходзіў міма гасцініцы. Спадзяваўся ўбачыць у акне гасцініцы Лізу. Але так ніколі і не ўбачыў. Цяпер белай дзяўчынкі ў мястэчку няма: гасцініцу закрылі, сям'я Лізы пераехала ў другое месца.

Перанеслі ў другое месца, за мястэчка, і метэаралагічную станцыю. Яна знаходзілася па левую руку ад гасцініцы, мела прасторны, шырокі двор, на якім стаялі высокія рэі з

флюгерамі — датчыкамі, і на меншых слупах розныя вымяральныя прыборы ў бляшаных з проразззю скрынках. На двары станцыі расла адзіная на ўсё мястэчка, стромая, як свечка, елка.

Ёсць яшчэ адна метэаралагічная станцыя: паблізу рачулкі Ведрыцы. Мясцовасць там прыгажэйшая: звілістая, нешырокая рэчка, парослая аерам лугавіна. І такія самыя бляшаныя з проразззю скрынкі на слупах.

## VI

У бібліятэку завітвае Люба Сініца. Узбуджаная, з пачырванелымі шчокамі, расхрыстанымі крысамі шэрага палітончыка.

— Запішы мяне ў сваю бібліятэку.

— Калі ласка.

Васіль запаўняе на Любу картку. Неяк механічна пытае:

— Год нараджэння?

Люба крыўдзіцца.

— Хіба не ведаеш? Ульянка з твайго года, я на год старэйшая.

Васіль уражаны. Любе толькі сямнаццаць гадоў. А такая відная дзяўчына.

— Дай мне кнігу пра каханне.

Васіль здымае з полкі «Мадам Бавары» Флабера.

Люба бярэ кнігу, чамусьці паспешліва, таропка выскоквае з бібліятэкі.

Тыдні праз два Васіль даведваецца: Любу паклалі ў бальніцу. У яе нейкая цяжкая хвароба. Якая — ніхто не гаворыць.

Люба, відаць, прадчувала хваробу. Была непадобнай на самую сябе, мітусілася, нервавалася, набівалася да хлопцаў на знаёмства.

У Цімохавым доме ўсё часцей збіраюцца дзесяцікласнікі. Слухаюць пласцінкі, разважаюць на розныя тэмы, рагочуць. Зрэдку завітвае да Цімоха сын аптэкара Ізя Перэльман, сярэдняга росту, з прыемным, засеяным вяснушкамі тварам, і чорны, як грак, Рува Зайчык, бацька якога стаіць за прылаўкам

леспрамгасаўскага магазіна. Рува вучыцца і працуе — ён школьны піянерважаты.

Акуратны, нібы кубік, дамок аптэкі побач з будынкам леспрамгаса. У леспрамгасаўскую краму да бацькі часта заглядвае Рува Зайчык, але на Васіля абодва хлопцы ніякай увагі не звяртаюць.

Ёсць, аднак, дзесяцікласнік, які Васілём цікавіцца. У яго дзіўнае прозвішча: Кузьма. Завуць Мікола. Мікола Кузьма. Каб прывесці да ладу несамавітае прозвішча, школьнікі перахрысцілі Міколу ў Кузьму-Дзям'яна. Ёсць такое свята ў познюю восень, пасля якога, пасучы ў полі каровы, пастухі патрабуюць дадатковую плату.

Кузьма-Дзям'ян — высокі, белабрысы, з чорнымі калючымі вачамі. Пранізлівыя, нібы свярдзёлкі, вочы неяк непрыемна выдзяляюцца на бялявым абліччы хлапчыны.

Кузьма-Дзям'ян завітвае да Васіля нечакана. Дванаццатая гадзіна ночы, Васіль паспеў паслаць пасцель пад грубкай.

— Давай пісаць гісторыю мястэчка,— прапаноўвае з парога Кузьма-Дзям'ян.

Ён, пэўна, ведае, што Васіль выпускае насценгазету і яшчэ сяды-тады папісвае ў раённую і абласную газеты.

— Дапусцім, напішам гісторыю мястэчка. Што тады? — пытае Васіль.

— Матэрыял надрукуем. У раённай ці абласной газеце. Цябе ж друкуюць...

Вось яно што. Кузьма-Дзям'ян, аказваецца, ускладае надзеі не на сябе, а на Васіля.

— Матэрыял я сабраў,— працягвае Кузьма-Дзям'ян, вымаючы з раменнай торбы, якую носіць з сабой, стос папер.— Са старымі людзьмі пагаварыў...

Дзіўна: Васіль згаджаецца паглядзець Міколавы паперы. Нібы ў яго процьма вольнага часу.

Сакавік свішча вятрамі, вее мяцеліцамі. Васіль любіць такую пару. Хоць мерзне ў кароткім палітончыку, у якім вата збілася ў камякі.

Аднойчы Васіль, як і мінулай зімой, становіцца на лыжы. Не, доўга гайсаць у ветраным полі ён не будзе. Лыжы ў снег правальваюцца, ды і вецер працінае наскрозь. Трэба, аднак,

хоць на гадзіну вырвацца з дому, хоць трохі расслабіцца, адпачыць.

Узбоч чыгункі расстаўлены снегаахоўныя шчыты. Каля іх высокія, ледзь не ўпоравень са шчытамі, гурбы снегу. З поля, з паўночнага боку дзьме калючы вецер, і, каб пуцейцы не ратавалі чыгунку, не панаставілі дашчаных шчытоў, снягі б занеслі яе дашчэнту.

Часткова чыгунку бароняць кусты. Яшчэ гады два-тры назад Васіль шастаў тут, вышукваючы птушыныя гнёзды. Цяпер Васілю нават трохі смешна з той ранейшай цікавасці да птушак. І Петрыка Васіль пальцам не кранае. Сярэдні брат птушкамі не захапіўся. Грыміць жалязякамі, майструе машыны, гадуе трусікаў.

Вось і Шкробава будка. Насупраць яе з другога боку чыгункі расце адзінокая, разгалістая сасна. У голлі дрэў свішча вецер.

Яшчэ год назад Васіль прыходзіў у кустоўе разам з суседам Адамам. Яны ўзабраліся на асіну, выразалі ножыкамі на кары свае прозвішчы. Можа, і цяпер яшчэ тыя літары відаць.

У кустах зацішна. Васіль, апусціўшы кійкі ў снег, адпачывае. На рэйках грукоча цягнік. На захад ідзе. На бясконцых платформах акрытая брызентам розная ваенная тэхніка.

Гэта не першы такі цягнік. Васіль толькі цяпер адзначае: ужо месяц ідуць да заходняй граніцы такія вось воінскія эшалоны. Жыццё ёсць жыццё: верыць Гітлеру асабліва не прыходзіцца.

У той жа вечар Васіль кіруе да Івана Гарошыка.

— Можа быць вайна,— зусім спакойна разважае Іван.— Ледзь не ўсю Еўропу Гітлер захапіў. Англія засталася. Толькі не палезе ён на Англію...

Дзіўны Іван. Ягоныя думкі супадаюць з тым, што напісаў О. Генры ў кнізе «Гитлер против СССР». Але кніга О. Генры выдадзена яшчэ да дагавора, які заключыў Савецкі Саюз з Германіяй.

— Паглядзі, што я знайшоў,— між тым пахваляецца Іван, кладучы на стол стос запыленых кніг.— На гарышчы ў рускай школе. Кнігі схавалі, мабыць, у трыццаць сёмым годзе.

Васіля міжволі ахопліваюць дрыжыкі. Якое багацце! У Іванавым стосе ёсць кнігі, якія Васіль не паспеў прачытаць:

спачатку іх нельга было ўзяць у бібліятэцы, бо на іх была чарга, а потым некаторыя з іх забаранілі. «Сокі цаліны» Цішкі Гартнага, «Сымон-музыка», «У палескай глушы», «У глыбі Палесся» Якуба Коласа. Месяцамі паляваў Васіль за гэтымі кнігамі. Яны заўсёды былі на руках. А «Сокі цаліны» наогул зніклі.

Дырэктар рускай школы — Іванаў дзядзька. Таму і ўдалося Івану забрацца на гарышча старой школы. У трыццаць сёмым годзе была паніка. Калі арыштавалі Геля, Гудовіча, бібліятэкарка, відаць, проста перапалохалася. Завалакла кнігі на гарышча.

Хлопцы выказваюць здагадкі пра трыццаць сёмы год. З мястэчка пасадзілі не гэтак многа людзей, але ўсё ж пасадзілі. Некалькі кандуктараў, машыністаў, якія ў Першую сусветную вайну перабраліся з Баранавіч і аселі ў мястэчку. Не толькі гэтых людзей пабралі. Пацярпелі некаторыя мясцовыя, асабліва машыністы. Двух Іванавых дзядзькоў арыштавалі — сыноў ягонага дзеда па бацьку. Былі маладыя, вясёлыя хлопцы, нават пажаніцца не паспелі. Чым яны нашкодзілі савецкай уладзе?

Гэтак жа незразумелы арышт машыніста Барыса Брыля, недалёкага Васілёвага суседа. Высокі, шыракаплечы, задуменны Брыль заўсёды крочыў, несучы завэдзганы сундучок са станцыі на свой панадворак. Дом ён пабудаваў трохі наводшыбе, на мяжы вуліцы з полем. Новы, прыгожы дом з новым гонтавым дахам. Відаць, дом гэты калоў вочы многім нядобразычліўцам Брыля.

— Сталін вайны баяўся,— гаворыць Іван.— Даў загад выяўляць нэблаганадзейных. Падбрэхічы знайшліся. Заўваж, бралі тых, хто харошую пасаду займаў. Машыніст на станцыі — цар. Больш за ўсіх грошай зарабляе...

## VII

Тыдзень ці два Васіль чытае знойдзеныя Іванам кнігі. Гэта проста шчасце падваліла. Бо такіх кніг у мястэчку няма. Найбольш прывабілі Васіля палескія аповесці Якуба Коласа і ягоная паэма «Сымон-музыка». Чытанне вось такіх кніг —

адпачынак, свята! Бо справамі запоўнена Васілёва жыццё. Кожны дзень ён рашае задачы, запамінае розныя формулы. Нахрапам нічога не возьмеш. Дзяўбі і дзяўбі камень кожны дзень, і тады толькі будзе які-небудзь плён.

Васіль адчувае ў сабе сілу. Калі надараецца, атрымаўшы буханку хлеба, вылазіць з чаргі, ён робіць гэта вельмі лёгка. Толькі паверне плячамі, і натоўп узмакрэлых жанок нібы сам сабой перад ім расступаецца. Жанчыны не вельмі злосна лаюць Васіля, як бы схіляючыся ў той жа час перад маладой мужчынскай сілай.

Выйшаў з друку падручнік гісторыі СССР для дзявятага класа. Ён ёсць толькі ў парткабінеце пры райкаме партыі, і Васіль штодня, пасля заняткаў у школе, ходзіць яго чытаць.

Будынак парткабінета вырас на былой пясчанай базарнай плошчы. Ён складзены з новага сасновага цёсу, у ім шырокія светлыя вокны, прасторныя пакоі. У адным з такіх пакояў — чытальным зальчыку — сядзіць Васіль. Другіх ахвотнікаў чытаць партыйную літаратуру ці хоць «Гісторыю СССР» няма. Васіль у поўнай цішыні, адзіноце. Гісторыю ў школе выкладалі дрэнна, настаўнікі чыталі яе з канспектаў, якія, відаць, прывезлі з інстытутаў, і Васіль нават з радасцю паглыбляецца ў маланаёмы матэрыял, стараючыся запомніць даты жыцця і смерці цароў, падзеі, якія ў час іх валадарання адбываліся.

Вясна ўсё болей нагадвае пра сябе.

Падаюць, разбіваючыся, звінючы, як шкляныя, капяжы з даху. Бягуць раўчукі, гарланяць па дварах пеўні, звонка галёкаючы, вядуць між сабой бойкі хлапчукі, якіх адпусцілі на кароткія канікулы.

Пануе ў паветры светлая празрыстасць. Нават тады, калі сонца не можа прабіцца з-за густых калматых аблокаў, неба залівае зямлю морам чыстага, як крышталь, паветра.

Надвячоркам Васіль выходзіць з парткабінета. Празрыстасць як бы напаўняецца перадвячэрняй сінечай, трохі падмарозіла, пад нагамі хрупасціць тонкі лядок. Па хрупасткай наледзі ідзе Алеся Малейка. Яна не заўважае Васіля, бо ўжо мінула будынак парткабінета.

У Васіля перахоплівае дыханне. Іменна ў гэтую хвіліну ён адчувае, што спадзяецца на сустрэчу з Алесяй, на тое,

што між імі штосьці ўзнікне. Але Алеся не папярэдзіла, што прыедзе ў мястэчка, і па гэтай прычыне Васіль не будзе яе даганяць. Няхай робіць Алеся як хоча. Яна нават на ягоную паштоўку, пасланую на адрас педтэхнікума, не адказала.

Васілю самотна. Алеся першая напісала ліст. Відаць, забылася пра гэта, не падае пра сябе ніякай весткі.

Васіль успамінае мінулае лета, будынак цяперашняй рускай школы, дзе размяшчаліся настаўніцкія курсы. У гэтай школе Васілю прыйшлося павучыцца да сярэдзіны пятага класа. Прыгожы будынак з шырокімі вокнамі, двума высокімі ганкамі, пафарбаваным жалезным дахам і цяпер Васілю падабаецца. Пясчаны двор зарос травой, падняліся, шырока ўзмахнулі веццем школьныя таполі.

Летась Васілём валодаў развітальны настрой. Ён і цяпер ім валодае. Калі Васіль скончыць дзявяты клас, то ў мястэчку не застанецца. Паедзе ў надпрыпяцкі горад, у настаўніцкі інстытут. Ад мястэчка да горада толькі пяцьдзясят кіламетраў, і Васіль з дому хоць бульбы прывязе. Нічым іншым сям'я яму не дапаможа.

Цягнікі з гарматамі, іншай ваеннай тэхнікай па-ранейшаму імчаць на Захад. Васіль адсылае ў горад апошнія кантрольныя заданні. Экзамены, па чутках, у завочнай школе пачнуцца трохі раней, чым у звычайных.

Выпадак зводзіць Васіля з двума дзевяцікласнікамі. Праўдзівей, яны самі прыходзяць запісвацца ў леспрамгасаўскую бібліятэку.

Чарнявага маўклівага Мікіту Бобрына Васіль фактычна ведае. Многа разоў бачыў гэтага шыракаплечага велікана ў школе. Другі дзевяцікласнік, таксама чарнявы, але шчуплейшы, рухавейшы Мікола Пішчык з'явіўся ў мястэчку нядаўна. Тым часам Бобрына і Пішчыка як бы хто-небудзь звязаў адной вяроўкай. Ходзяць заўсёды разам.

— Вось прывёў чалавека,— заяўляе з парога Мікола Пішчык.— Хоча ў бібліятэку запісацца. Сам не прыйшоў бы. Баіцца...

Пішчык усміхаецца, паказваючы рад белых, як часнок, зубоў.

Васіль нават узрадаваўся, убачыўшы хлопцаў. Даўно варта было пазнаёміцца з якім-небудзь дзевяцікласнікам. Адна справа — кантрольныя работы, якія ён выконвае і высылае ў надпрыпяцкі горад, і зусім другая — само навучанне ў дзявятым класе. Дзявяты клас — аснова сярэдняй школы. У дзясятым новага матэрыялу не шмат. Паўтараюць пройдзенае, толькі шырэй і глыбей.

— Ты нам дай што-небудзь пра любоў,— па-ранейшаму пацвельваецца Пішчык.— Мікіта закахаўся. Але не ведае, як рабіць на практыцы.

Так пачалося знаёмства. Новыя сябры жывуць недалёка ад Васіля. Бобрын — у ціхім зялёным завулку, які суседнічае з базарнай плошчай. Базары, а значыць, і людская гамана, талака, бываюць толькі па нядзелях. У астатнія дні па завулку нават машына не праедзе.

Звычайны стараваты дамок Мікіты Бобрына ў адным двары з харомінай, якую займае настаўніца нямецкай мовы Ганна Уладзіміраўна. Яе мужык быў некалі старшынёй сельсавета, таму заняў гэты местачковы палац. Бацькі ў Мікіты няма: памёр. Сям'ю — сына і малодшую дачку — трымае маці — ціхая, непрыкметная, якая шые на швейнай машынцы.

Мікіта Бобрын ціхі, сарамлівы. Вучыцца, аднак, намнога лепей за вострага, балбатлівага Міколу Пішчыка. Васіль памятае старэйшага брата Мікіты, сярэдняга росту хударлявага хлапчыну з акулярамі на носе. Ужо ў школе ён быў падобны на прафесара. Ён так добра вучыўся, што адзіны з усіх местачкоўцаў трапіў у ІФЛІ — інстытут філасофіі і літаратуры, які знаходзіцца ў Маскве.

А Мікола Пішчык жыве ў гарадку — так называецца прасторны пляц аўташколы. Праўдзівей, побач з гарадком, на месцы метэаралагічнай станцыі, якую перасялілі. Тут цяпер паўстаў цэлы квартал пабудаваных з новага сасновага лесу асабнякоў, якія займае раённае начальства.

Хата Пішчыка таксама новая, хоць да асабнякоў ёй далёка. Агарод мяжуе з вялізным кар'ерам, у якім капаюць гліну.

Васіль настойліва распытвае новых сяброў пра дзявяты клас. Тыя ў хуткім часе як бы пачынаюць пра штосьці здагадвацца.

— Ты, можа, хочаш клас пераскочыць? — дапытвае Васіля Пішчык.— Матэрыял наперад вызубрыў. Пераходзь, я буду ў цябе задачы спісваць...

Зрэшты, узяўшы з хлопцаў слова, што не выдадуць яго, Васіль прызнаецца, што вучыцца ў завочнай школе. Ён просам просіць іх маўчаць, бо можа ж так здарыцца, што праваліць які-небудзь прадмет, і тады будзе сорам на ўсё мястэчка.

Не праходзіць дня, як узрушаныя новыя таварышы пачынаюць памагаць Васілю, чым толькі могуць. Прыносяць яму канспекты, сшыткі з дамашнімі заданнямі.

Нарэшце Васіль адважваецца пачытаць «Вікторыю» Кнута Гамсуна. Падручнік па нямецкай мове для пятага класа ён асвоіў даўно, прабег тэксты для шостага класа. У нямецкую граматыку, якую прыслаў з Мінска Грыша Чэкман, зазірае таксама.

Кнут Гамсун піша кароткімі сказамі, іх, зрэшты, можна зразумець. Але марудна, як праз густыя зараслі лазняку, прадзіраецца Васіль праз нямецкі тэкст. Бадай на кожным сказе спатыкаецца. Незразумелых слоў больш, чым зразумелых. За вечар можна прачытаць якія-небудзь паўстаронкі. Але гэтая паўстаронка прыносіць агромністую, ні з чым не параўнаную радасць. Ён, Васіль, яшчэ не закончыў сярэднюю школу, а ўжо чытае па-нямецку. І не тэкст, змешчаны ў падручніку, а раман, які, па ўсім відаць, на школьнікаў не разлічаны.

Чытаць Гамсуна, аднак, не стае часу.

Калі хлопцы паступяць у інстытуты ці ваенныя вучылішчы, то і Васіль куды-небудзь трапіць. Хоць бы ў настаўніцкі інстытут. А там відаць будзе, бо настаўніцкая работа не надта Васіля вабіць.

## VIII

Вясна ўбіраецца ў сілу. Сагнала з зямлі снег, адзвінелі раўчукі. Цяпер звіняць птушыныя галасы. Вераб'і, шпакі, галкі, іншае вялікае і малое птаства ладзіць гнёзды. На вуліцы, асабліва ў нізкіх мясцінах, страшэнная гразь, калатуша. Машыны, асабліва леспрамгасаўскія грузавікі, разбілі

дарогі ўшчэнт, загразаюць у іх, не могучы выбрацца з балота, па гадзіне і болей натужна гудуць маторамі.

Кузьма-Дзям’ян зноў завітвае да Васіля нечакана і, як мінулы раз,— уначы. Ягоныя запіскі Васіль прачытаў, не знайшоўшы нічога цікавага. Але напісаць пра мястэчка было б нядрэнна. Васіль схадзіў у бібліятэку прафтэхшколы — так называюцца размешчаныя ў гарадку на сухім пясчаным пагорку курсы шафёраў,— зазірнуў у энцыклапедыю Бракгаўза і Эфрона, а таксама ў «Жывапісную Расію» Адама Кіркора (гэтыя кнігі ёсць толькі ў гарадку) і выпісаў сякія-такія звесткі пра мінулае мястэчка.

Звесткі скупыя, але цікавыя. Васіль цяпер ведае, што чыгунка праз мястэчка прайшла ў васьмідзясятых гадах мінулага стагоддзя. Тады яшчэ дзед Піліп быў маладзейшы, чым цяпер Васіль. Адначасова пачаў асушваць тутэйшыя некранутыя балоты пяхотны генерал Жылінскі. Менавіта ён усталяваў у мястэчку метэаралагічную станцыю, пры ім была пабудавана гасцініца.

Гэтыя звесткі ляглі ў аснову невялікага артыкульчыка на чатыры старонкі. Ад агульных разважанняў Кузьмы-Дзям’яна не засталося нічога.

— Добра,— сказаў Кузьма-Дзям’ян і першы паставіў сваё прозвішча. Тое, што ў артыкульчыку не засталося ніводнага ягонага слова, прыняў як належнае. Як бы так і павінна быць.

На свеце вясна, пастугова зелянее, квітнее зямля. Хутка першамайскія святы, за імі экзамены. Звініць у Васілёвай душы музыка. Жыццё ідзе наперад, як бы кліча сваімі звабліва далямі.

Васіль завітвае да Мікіты Бобрына. У яго асобны пакойчык — бакоўка, адгароджаная ад зальчыка дашчанай, абклеенай шпалерамі перагародкай. Новы таварыш сядзіць за сталом, раз-пораз зазіраючы ў слоўнік: перакладае матэрыял з нямецкага падручніка. Васіль бярэ падручнік у рукі. Сёлета ва ўсіх класах — ад восьмага да дзясятага — будзе экзамен па нямецкай мове. У падручнік дзявятага класа Васіль яшчэ не заглядваў. Тэксты там, аказваецца, даволі цяжкія для перакладу. Аднак агульны сэнс матэрыялу, над якім пакутуе Боб-

рын, зразумелы для Васіля. У ім гаворыцца пра вывяржэнне вулкана Везувія і пагібель Пампеі.

Тэкст Васіль тлумачыць таварышу. Ад здзіўлення той аж падхопліваецца.

— Дык ты і нямецкую мову ведаеш?

— Не ведаю. Праштудзіраваў толькі падручнік пятага класа.

— Навошта табе?

Усяго не растлумачыш. Пра тое, што спрабуе чытаць панямецку «Вікторыю» Кнута Гамсуна, Васіль гаварыць не хоча. Ёсць рэчы, пра якія неабавязкова званіць на кожным кроку. Ды і «Вікторыю» Васіль яшчэ нават да палавіны не прачытаў.

— Экзамен па нямецкай мове будзе? Будзе,— пытаннем на пытанне адказвае ён.— І здаваць яго мне прыйдзецца не адной Ганне Уладзіміраўне. Ганне Уладзіміраўне, дапусцім, здам. А ў завочнай школе...

Бобрын — харошы вучань. Цягне пераважна на пяцёркі. Але нямецкай мовы не ведае. Ніхто ў школе не ведае. Бо вельмі бяздарна яе выкладаюць. Бясконца вывучаюць граматыку, спражэнне дзеясловаў, скланенне назоўнікаў, а слоў не завучваюць.

Пра дзявяты клас, які Васіль заканчвае завочна, Бобрын і Пішчык нікому не гаварылі. Тайну захоўвалі. Дазнаўшыся пра нямецкую мову, трываць далей не здолелі. У хуткім часе Васіль пачынае лавіць на сабе дапытлівыя позіркі старшакласнікаў.

Усё канчаткова высвятляецца, калі Васіля запыняе матэматычка Брусніцына.

— Ты ў завочнай школе вучышся?

— Вучуся.

— Чаму мне не сказаў? Другім настаўнікам? Дапамагалі б табе.

— У вас клопатаў хапае. Дый не ведаў я, як пойдзе вучоба.

Васіль не надта любіць Брусніцыну. Усе гады ён добра вучыцца. Вядзе грамадскую работу. З першага па восьмы клас

стараста. Яшчэ і насценгазету выпускае. Чым яго адзначылі? У пятым класе далі пахвальную грамату. І ўсё...

Трохі наўскасяк ад школы, праз вуліцу, стаіць кіёск. Зімой ён зачынены. З пачаткам цёплых дзён там прадаюць газеты, кнігі, алоўкі, ручкі. Да самага шкла прыстаўлены таўставаты французска-рускі слоўнік у карычневай ледэрынавай вокладцы. Васіль з цікавасцю пазірае на гэты слоўнік. Толькі слоўнік дарагі, каштуе пяць рублёў. Са сціплага заробку аддаць столькі грошай Васіль не можа. Пяць рублёў — гэта пяць кілаграмаў хлеба.

Надвячоркам, калі спускаецца на зямлю шаравата-сіні змрок і не віжуе чужое вока, прасцей простага здабыць слоўнік. Выціснуць шыбіну, узяць слоўнік. Спакуса такая вялікая, што аднаго вечара Васіль ледзь так не зрабіў. Але штосьці яго стрымала. Замест слоўніка ён пазычыў у пенсіянера Жарыка, пухлага, падобнага на жанчыну чалавека з напеўным жаночым голасам, які прадае старыя кнігі, самавучыцель французскай мовы. Навошта Васілю ў такі час, калі галава поўная іншых клопатаў, французскі самавучыцель? Ён не ведае...

Бацькі Цімоха Стрыжа, хоць у іх сямёра дзяцей, таксама здаюць пярэдні пакой кватарантам. Адгароджваюць яго ад закуранай печы дошкамі, робяць у перагародцы дзверцы. Усім цяжка жывецца. Цімохаў кватарант — нізкаваты вастраносы настаўнік матэматыкі ў пятых — сёмых класах Лябёдкін, які замяніў бездапаможнага Мялешку. Брусніцына выкладаць матэматыку ў малодшых класах болей не хоча.

І яшчэ адзін настаўнік ходзіць у накрыты чарапіцай Цімохаў дом. Настаўнік гісторыі ў сярэдніх класах Платон Іванавіч Галабурда, з выгляду паважны круглатвары, падобны да якога-небудзь старажытнага мудраца.

Бацька Цімоха, актыўны партыец, які праводзіў калектывізацыю, раскулачваў, хадзіў з наганам, не вітаўся з суседзямі, робіцца ўсё меншым начальнікам. Пісьменнасці не хапае. Быў зампалітам у МТС, загадчыкам нафтабазы, цяпер стаіць за прылаўкам невялікай крамы.

Падлобісты, з выразным татарскім тварам Стрыж і настаўнік гісторыі Галабурда часта распіваюць паўлітру. Хоць

гарэлка падаражэла. Была шэсць рублёў паўлітра, цяпер — дзевяць.

Даволі часта выпівае і начальства канторы «Плодагародніна», якая кватаруе ў Васілёвай хаце. Бухгалтары не ў залік. Наляскаўшыся лічыльнікамі, яны пасля рабочага дня разыходзяцца. Загадчык канторы Фрышман, ягоны былы намеснік Фурман (за незаконны продаж бульбы ён у турме пасядзеў толькі паўгода, хоць быў асуджан на пяць гадоў), чорны шыракаплечы нарыхтоўшчык, яшчэ два-тры чалавекі, пасад якіх Васіль не ведае, збіраюцца ў канторы, похапкам выпіваюць, закусваючы маласольнымі агурочкамі, маладымі марынаванымі баравічкамі і нават мёдам, гладышык якога заўсёды прыносіць нарыхтоўшчык.

Вось і Першамай. Дзень, як заўсёды, цёплы, сонечны. Раней былі дэманстрацыі, шэсце па пыльнай Савецкай вуліцы. Цяпер толькі мітынг.

З мітынгу Цімох, Іван Гарошык і Васіль ідуць разам. Не згаворваючыся, сябры завітваюць у магазін.

— Давайце, хлопцы, вып’ем,— нечакана гаворыць Цімох.— Калі яшчэ будзе такі Першамай. Дый ці будзем мы разам...

Сябры купляюць у складчыну чацвярцінку гарэлкі, бляшанку кансерваў, трохі хлеба, каўбасы.

Чыгункай падаюцца ў лес. Маглі б спыніцца каля першай будкі, але брыдуць далей. На кустах, дрэвах праклёўваюцца вузкія клейкія лісточкі. На адхоне праз рудую, парыжэлую траву прабіваюцца зялёныя іголкі маладой травы. Весела шчабеча, седзячы на тэлеграфных дратах, малое шэрае птаства.

Адзін за другім праносяцца на захад два эшалоны. Абодва воінскія.

Хлопцы прыпыняюцца за другой, Кротавай будкай. На адхоне чыгуначнага палатна знаходзяць прыстойную мясціну, рассцілаюць газету. Навакол лес: з правага боку сасновы, з левага — змешаны, лісцвяны. Лес падпірае невялікае балотца, якое проста стракаціць ад жоўтых кветак лотаці.

З мінулага лета не былі хлопцы ў родным лесе, які ведаюць з дзяцінства. Збіралі тут ягады, грыбы. Можа, таму яны

прыбрылі іменна сюды. Для Івана, Цімоха, не выключана, што і для Васіля, гэта як бы развітанне з лесам. Бо ўжо летам рушаць сябры ў дальнія дарогі. Хоць яшчэ невядома, у якія...

Выпівакі хлопцы не моцныя. Чацвярцінкай гарэлкі затлумілі галовы. Наперабой загаманілі, нават песню зацягнулі. Голасу ні ў кога няма, але песня «Любімы горад» якраз да месца. Бо так ці інакш наступае час расстання...

За тыдзень да пачатку экзаменаў у звычайных школах Васіля выклікаюць у надпрыпяцкі горад. Едзе ён туды з непрытоеным страхам. Чамусьці здаецца, што абавязкова праваліцца. Бо ў завочнай школе, акрамя матэматыка Бушмана, яго ніхто не ведае.

Сталася інакш. Вытрымлівае Васіль іспыты нават з нейкім бляскам. Бо з тых, хто экзаменуецца — такіх набралася чалавек дзесяць,— толькі адзін ён школьнік. Астатнія — рабочыя, рахункаводы, розныя перапісчыкі папер.

Без прыкрасці, аднак, не абходзіцца. Чацвёркі Васіль атрымлівае якраз па тых прадметах, якія ведае найлепей: па рускай і нямецкай мовах.

Начуе Васіль з трыма такімі ж, як сам, прыезджымі ў пакойчыку-інтэрнаце, які ёсць пры завочнай школе. Сакратар райкама камсамола суседняга з Васілёвым раёна, чарнявы прыгожы хлапчына, экзаменуецца за сярэднюю школу экстэрнам. Пачуўшы, як Васіль адказвае, угаворвае яго:

— Напішы заяву і здавай за дзесяць класаў. Выдатна ведаеш матэрыял. Зразумей: дзясяты клас — паўтарэнне. Што там новага? З матэматыкі біном Ньютана, прымяненне метадаў трыганаметрыі да геаметрыі. Ну, яшчэ арганічная хімія. Пагартаеш два дні падручнікі, атрымаеш па якім-небудзь прадмеце «тройку». Ну дык што?..

Выпрабоўваць лёс Васіль, аднак, не адважваецца.

Назаўтра ён ідзе шукаць Гэлю Машчынскую. У інстытуце яе не знайшоў. Васіль рашаецца — ідзе да Гэлі на кватэру. Ветліва сустракае яго Гэліна маці, вельмі падобная на дачку і не такая яшчэ старая.

— З расказаў Гэлі я вас ведаю,— гаворыць яна.— Толькі няма Гэлі. Паехала ў Маскву. Хоча паступіць у інстытут замежных моў...

Вось, значыць, так. Васіль цяпер дакарае сябе, што не адважыўся здаваць экзамены за сярэднюю школу. Меў бы на руках атэстат. Мог паступаць куды захоча. Думкі пра настаўніцкі інстытут як бы самі сабой адпадаюць. Калі Гэля будзе ў Маскве, то навошта гэты інстытут Васілю?

Дома таксама экзамены. Трохі смешна: вучань, пераведзены ў дзясяты клас, экзаменуецца за восьмы. Ва ўсе часы, пачынаючы ад трэцяга ці чацвёртага класа, калі школьнікаў пераводзілі ў наступны клас з іспытамі, Васіль вельмі сур’ёзна ставіўся да сваіх ведаў. Падручнік вывучваў назубок. Іспыты былі для яго нават нейкай урачыстасцю. Па дзесяць разоў паўтараў ён пытанні, па якіх будзе экзаменавацца. І заўсёды выходзіў пераможцам.

А вось цяпер падкачаў. Не, ён уважліва слухаў настаўнікаў, вёў нават канспекты, але асноўную ўвагу аддаваў не восьмаму, а дзявятаму класу. Таму бляску на экзаменах за восьмы клас няма. Хіба толькі здзівіў Васіль Ганну Уладзіміраўну на экзамене па нямецкай мове. Лёгка, не зазіраючы ў слоўнік, пераклаў кавалачак тэксту, разабраў граматычны сказ. Ён ведаў нямецкіх слоў намнога болей, чым патрабавала праграма восьмага класа.

На экзамене па фізіцы Васіль ледзь не праваліўся. У восьмым класе вывучаецца механіка, а да яе ў Васіля ніколі не ляжала душа. Пра паскарэнне руху ён яшчэ неяк расказаў. Законы Кеплера, аднак, уяўляў вельмі цьмяна. Настаўнік, мясцовы хлапчына, які з’явіўся ў школу пасля трэцяга курса маскоўскага інстытута, проста пашкадаваў Васіля і паставіў «добра». Гэтай адзнакі Васіль не заслужыў, і яму брыдка і сорамна. Усё-такі ён кар’ерыст. Пагнаўся за жар-птушкай, тым часам элементарных рэчаў не ведае...

Нягледзячы на ўсё гэта, Васіль пажынае славу. Бацька, адстаяўшы ноч у чарзе, купляе яму нарэшце касцюм. Выдатны касцюм — шарсцяны, светла-шэрага колеру. Нібы на Васіля пашыты.

Дзевяцікласнікі, якія перайшлі ў дзясяты клас, запрашаюць Васіля прыняць удзел у складчыне. Баляванне ў доме дзяўчыны, які суседнічае з хатай Івана Гарошыка. Некалі

бацьку гэтай дзяўчыны, саставіцелю ці аглядчыку паяздоў, які хацеў выкінуць Васіля з хлебнай чаргі, ён сказаў словы, над якімі доўга рагаталі чыгуначнікі. На пытанне, дзе працуе бацька, ён тады адказаў: «Мяшком вецер ловіць...» Чыгуначнікі лічылі хлопца дасціпным. А Васіль проста вычытаў гэты выраз з нейкай кнігі.

Васіль добра падпіў, танцаваў пад патэфон, хоць не вельмі ўмеў, і, не маючы сталай сімпатыі да якой-небудзь дзяўчыны, вадзіў па вуліцы пад ручку ўсіх, якія былі на вечары. З адной дзяўчынай, якая трохі падабалася, ён сядзеў на лавачцы пад вярбой каля хаты Ульянкі Сініцы, сястра якой Люба нядаўна памерла. Вось як бывае. Люба прадчувала смерць.

Насупраць чыгуначная станцыя, там на высокім слупе ўстаноўлены гучнагаварыцель. Якраз перадаюць паведамленне ТАСС: Германія войск уздоўж савецкіх граніц не канцэнтруе, нападаць на СССР не збіраецца. Значыць, вайны не будзе.

## IX

Праз некалькі дзён, у нядзелю, Васіль ідзе да Івана Гарошыка: той атрымаў атэстат выдатніка. Цімох Стрыж, яшчэ два хлопцы таксама атрымалі такія атэстаты. З калонкі Васіль п’е сцюдзёную ваду, завітвае ў чакальны зал. У зале малалюдна. Раптам тры ці чатыры чалавекі, якія там сядзяць, падхопліваюцца, застываюць у напружаным чаканні. З чорнай талеркі рэпрадуктара, павешанага на сцяне, падаюць цяжкія, нібы камяні, словы. Молатаў прамаўляе аб тым, што Германія напала на Савецкі Саюз.

Першая думка: фашызм будзе разгромлены. Савецкі Саюз — не Польшча і не Францыя.

Калі Васіль выходзіць на перон, якраз падлятае брэсцкі цягнік. З зялёных запыленых вагонаў выскокваюць пасажыры, таропка бягуць у буфет. Некаторыя з іх у спальных піжамах, у туфлях на босую нагу. Пра вайну яны яшчэ нічога не ведаюць.

Іван Гарошык толькі што падняўся з пасцелі. Заспаў, бо ўчора быў выпускны вечар і дзесяцікласнікі весяліліся ледзь не да самай раніцы.

Вестку пра пачатак вайны з Германій Іван успрымае хмура. Можа, таму, што ўчора, атрымаўшы атэстаты, ён і Цімох Стрыж паслалі іх разам з іншымі дакументамі ў артылерыйскае вучылішча, размешчанае ў далёкім прыволжскім горадзе.

— Германія магутная,— коратка заяўляе Іван.— Заваявала Еўропу. У нас жа толькі вопыт грамадзянскай вайны. Па Фінляндыі было відаць...

Васіль вандруе па мястэчку, другі, трэці раз слухае выступленне Молатава. Зрэшты, увесь дзень перадаюць толькі гэтую прамову і яшчэ баявыя песні і маршы.

Мястэчка лішне не нервуецца. Але цёмная хмара над ім як бы павісае. Людзі збіраюцца купкамі, размаўляюць, але ніхто нічога пэўнага не ведае. Настрой ва ўсіх прыгнечаны.

Вечарам Васіль ідзе да Цімоха Стрыжа. Ягонаму бацьку прынеслі павестку з ваенкамата. Цімоха, як і Івана Гарошыка, таксама мусяць прызваць у армію, бо дзесяцікласнікаў мабілізуюць нават тады, калі ім не споўнілася васямнаццаць гадоў.

— Нашы рыхтаваліся да вайны,— гаворыць Васіль.— Хіба ты не бачыў, колькі эшалонаў ішло на захад. Чаму Молатаў сцвярджае, што Гітлер напаў нечакана?..

— Трымай язык за зубамі! — злосна адказвае Цімох.— Ведаеш, што за такія размовы можа быць. Асабліва ў ваенны час. Да сценкі паставяць...

Вечарам перадаюць першую ваенную зводку. З яе цяжка зразумець, дзе і што адбываецца. Ясна толькі, што на заходнім фронце фашысты прарвалі савецкую граніцу. На астатніх участках фронту, пераможна заяўляе дыктар, савецкія войскі трывала стаяць на дзяржаўнай граніцы.

Васіль прагне пачуць другое. Колькі пісалі, пахваляліся: ворагу не будзе аддадзена ні пядзі савецкай зямлі; вайна, калі пачнецца, будзе весціся на варожай тэрыторыі. Дык хоць бы ў адным месцы прарваліся савецкія войскі на тэрыторыю ворага.

Другі, трэці дзень вайны нічога не праясняюць. Зводкі туманныя, цьмяныя. Дзе, у якім месцы ідуць баі, зразумець па-ранейшаму цяжка. Ёсць Брэсцкі напрамак, ёсць некалькі іншых. Ясна толькі, што на паўднёвым фронце, якім камандуе

маршал Будзённы, немцы поспеху не маюць. У Цімашэнкі на Заходнім фронце і ў Варашылава — на Паўночным, справы, відаць, ідуць горш.

Васіль разважае над тым, куды падацца на работу. У бібліятэцы, дзе амаль ніхто не бярэ кніг, сорамна сядзець у ваенны час. Трэба, відаць, зноў вяртацца на чыгунку, у рамонтную брыгаду. Чыгуначнікі ў вайну як салдаты...

Здараецца штосьці недарэчнае. Палавіна Цімохавага агарода — балацянка. Вясной тут стаіць вада, летам расце высокая трава, якую разы два скошваюць на сена. Пасярэдзіне лугавіны ўзвышаецца старая купчастая вербалозіна.

Да Цімоха завітваюць сябры — дзесяцікласнікі, іх хутка забяруць у армію. Ён вядзе іх на лугавіну, пад вербалозіну. Некаторыя хлопцы нават кнігі з сабой прынеслі. Ляжаць пад вербалозінай, чытаюць, пацвельваюцца адзін з другога. Ведаюць усе: заўтра ці паслязаўтра развітаюцца з мястэчкам.

Раптам нібы гром з яснага неба. Лугавіну, крочачы шчыльнымі шэрагамі, з вінтоўкамі наперавес акружаюць чырвонаармейцы.

— Устаць! Рукі ўгору! Дакументы...

Якія ў хлопцаў, што толькі што закончылі школу, могуць быць дакументы? Некаторыя, відаць, яшчэ і пашпартоў не атрымалі.

Чырвонаармейцы, аднак, нічога не хочуць слухаць. Загадваюць хлопцам ісці з сабой. Ратуюць іх ад яўнай дурноты жанчыны, што збегліся з усяго канца вуліцы. Як толькі не сарамацяць жанкі звышпільных воінаў.

Бязглузды выпадак Васіля балюча ўражвае. Інакш як панікай, безгалоўем гэта не назавеш. Можа, і шпіёнаў, пра якіх столькі пісалі ў газетах, гэтак жа лавілі.

Здараецца няшчасце з суседам. Што толькі не плёў насмешлівы, ядавіты Іван Ляпіца, або Казёл, які жыве насупраць Васіля. Пра бальшавікоў, калгасы, савецкую ўладу. І ўсё сыходзіла з рук. Нават у трыццаць сёмым годзе Ляпіцу не кранулі. А цяпер вось узялі. Палавіне Савецкай вуліцы зляпіў Казёл печы, і ніхто за яго не заступіўся, бо забралі чалавека цішком.

Паўзуць чуткі: узвёў на Ляпіцу паклёп Кабылай, прыгожы, статны, ціхмяны з выгляду мужчына, які працуе ў пашпартным стале. Год ці два назад Кабылай на пагулянцы ўкраў у Ляпіцы паліто. Казёл — чалавек востры, праніклівы, сачыў за Кабылаем, хапіў яго за руку, калі той панёс паліто ў барахолку.

І вось цяпер Кабылай разлічваецца з Ляпіцай.

Другі выпадак яшчэ больш недарэчны. Казёл хоць языком што папала малоў, а дзед Хвядосік, двор якога амаль па суседстве з Ляпіцавым, жыў як прусак у шчыліне. Нікому вады не замуціў. Двор яго, парослы травой-муравой, нагадвае зялёны востраў. Жылі ціха дзед з бабай са свайго агарода, нічога ні ў каго не прасілі. Пускалі суседзяў у лазеньку, якая на ўсю вуліцу толькі ў іх і была.

І вось на гэтых ціхіх адшчапенцаў таксама нехта напісаў. Пасадзілі дзеда з бабай у вагон, павязлі невядома куды...

Пакуль Васіль, слухаючы ваенныя зводкі, гадае, у якім месцы знаходзіцца фронт, дамоў з мінскага рамеснага вучылішча, у якім вучыцца на сталяра, прыбывае сусед Коля, малодшы брат Іллі Чыгуна.

Тое, што расказвае ён, страшэннае, неверагоднае.

— Немцы ў Бабруйску,— паведамляе здарожаны, змізарнелы Коля.— На танках, матацыклах. Вясёлыя, смяюцца. Нікога не чапаюць, нас вось прапусцілі. Ідзіце, маўляў, куды хочаце. Усё адно вас дагонім...

Вось так. Яшчэ толькі тыдзень ідзе вайна, а немцы ўжо ў Бабруйску. Значыць, Мінск яны таксама захапілі. У зводках тым часам ні гуку...

Настрой у Васіля адчайна панылы. Творыцца нешта нечуванае. У Першую сусветную вайну такога ў паміне не было. Праўда, тады Германія ваявала на два франты. Дык чаму цяпер дапусцілі, што яна гэтак жа не ваюе? Гітлеру паверылі?

Пытанняў узнікае многа, яны вярэдзяць душу, не даюць спакою, але адказаў на іх няма.

Васілю позва — з’явіцца ў раённае аддзяленне міліцыі. Ён гадае-разважае: што патрэбна ад яго міліцыі? Справа высвятляецца: такія, як ён, позвы атрымалі Мікіта Бобрын, Мікола

Пішчык, іншыя хлопцы, якія вучыліся ў дзявятым і нават восьмым класе.

У міліцыі хлопцаў — іх чалавек трыццаць — выстройваюць у шарэнгу, зачытваюць загад аб залічэнні ў знішчальны батальён. Выдаюць вінтоўкі. Толькі гэта смешныя вінтоўкі. Так званыя вучэбныя. Байкі ў іх зрэзаны, над парахавой камерай пракручаны дзіркі. Страляць з такіх вінтовак нельга, можна толькі ляскаць затворам.

У знішчальным батальёне ёсць два-тры міліцыянеры, некалькі маладых мужчын з раённых устаноў, якіх чамусьці не забралі ў армію.

Казарма батальёна — школа. У яе прывезлі грузавік саломы, раскідалі на другім паверсе па класах. Бобрын, Пішчык і Васіль па праву гаспадароў выбіраюць дзясяты клас. Ён найлепш размешчаны: з яго відаць большая палавіна мястэчка, лугавіна ваколіцы, далёкі лес.

Знішчальны батальён павінен лавіць нямецкіх парашутыстаў, дыверсантаў, пераапранутых у чырвонаармейскую форму. Толькі дзе тыя дыверсанты? Вечарам патрулі, узброеныя вучэбнымі вінтоўкамі, вандруюць па вуліцах мястэчка. На лавачках да поўначы сядзяць дзяўчаты, лускаюць семкі, пасміхаюцца з патрулёў. На іх загады разысціся па хатах дзяўчаты не звяртаюць ніякай увагі.

У батальёне, хоць ён на казарменным становішчы, не кормяць. Абедаць адпускаюць дамоў, вячэру, сняданне загадваюць прыносіць з сабой. Дзеля снядання і вячэры ў школьным тытане кіпяцяць ваду.

Чуткі пра тое, што ў Бабруйску немцы, не выдуманы. Праз мястэчка праязджае гусенічны трактар «Чалябінец», які на двух доўгіх фурах вязе яўрэйскія сем'і ў эвакуацыю. Яўрэі — з Глуска. Зняможаныя, галодныя бежанцы пацвярджаюць: Бабруйск захоплены немцамі. Не толькі Бабруйск, а і некаторыя іншыя гарады. Напрыклад, Рагачоў.

Пачынаецца, хоць не вельмі відная, паніка. Без дазволу пакідае кантору «Плодагародніна» загадчык Фрышман. Маланкава знікае ягоны намеснік Фурман. З'язджае таксама настаўніца Брусніцына. Наогул, настаўнікаў няма: адных мабілізавалі ў армію, другія разбрыліся хто куды.

У Рэчыцы, запанікаваўшы, сапёры ўзарвалі чыгуначны мост цераз Дняпро. Цяпер увесь прыдняпроўска-прыпяцкі край нібы адрэзаны ад астатняга свету.

Ноччу гоняць праз мястэчка статкі кароў. Ідуць на ўсход сваім ходам аўтамашыны, трактары. У напрамку да Лоева. У Лоеве мост нібыта не ўзарваны.

## X

Знішчальны батальён раптам падымаюць па трывозе. Яшчэ толькі пачынае світаць. Ноччу быў дождж. Вее перадранішні ветрык, у небе гаснуць бледныя зоркі. Каля школы стаяць тры паўтаратонкі. У іх кузавы паспешліва садзяць байцоў батальёна. Немцы дэсант высадзілі — шэпчуць адзін другому хлопцы.

Васіль нямее. Як яны будуць знішчаць дэсант? Няма ніводнай баявой вінтоўкі. Толькі ў міліцыянераў наганы ды дзве-тры малакаліберкі.

Шэры перадсвітальны змрок ахінае мястэчка. Грузавікі кіруюць па доўгай Савецкай вуліцы, мінаюць пераезд, заварочваючы на Макаўскі шлях. Значыць, едуць у лес, які вельмі добра ведае Васіль. Няўжо сапраўды там дэсант? Чым могуць нашкодзіць немцы, седзячы ў ягадных і грыбных мясцінах?

Калі пад'язджаюць да лесу, змрок канчаткова развейваецца. Лес у густым тумане. Можа, таму, што быў дождж. За тры крокі нічога не відаць. Натужна равучы маторамі, калыбаючыся па запоўненых вадой выбоінах, грузавікі марудна паўзуць па шляху. У тым месцы, дзе густы, цёмны грабняк пераходзіць у светлы, сасновы бор, машыны раптам спыняюцца.

— Высадзіцца з машын! — гучыць каманда.

Школьнікі, міліцыянеры таропка саскокваюць з кузава на мокрую зямлю. Халаднавата ў лесе. Туман тут яшчэ гусцейшы. З правага боку балацянка і, можа, ад гэтага такі шчыльны туман. Байцы, згрудзіўшыся на пясчаным шляху, зябка пацепваюць плячамі. Ці то ад холаду, ці то ад страху.

— Рассыпацца ў ланцуг,— чуецца новая каманда.

Знішчальнікі сігаюць са шляху ў лес. Раптам наперадзе, на самым шляху, як бы мільгае чыясьці постаць. Нехта з міліцыянераў з пярэпалаху страляе з нагана.

— Не страляй, сволач! — раптам даносіцца з лесу.— Мы свае. Нас памылкова высадзілі...

На шлях з лесу таропка выходзяць купкі чырвонаармейцаў. Яны ў новым абмундзіраванні, са скаткамі шынялёў цераз плячо, усе як адзін з аўтаматамі, якія вісяць на грудзях.

— Складвай зброю! — раздаецца пісклявы, перапалоханы голас міліцыянера.

— Заткніся, ваяка! — З гурту чырвонаармейцаў выходзіць высокі, шыракаплечы, без якіх-небудзь воінскіх знакаў камандзір.— Нас тут высадзілі памылкова. Не мы — лётчыкі вінаваты. Інакш мы б вас пашаткавалі на капусту.

Частка чырвонаармейцаў садзіцца ў кузавы грузавікоў разам з байцамі знішчальнага батальёна. Па другіх яшчэ трэба прысланць машыны. Бо ў лесе іх болей за сотню.

Васіля ахоплівае абыякавасць. Вось як, выходзіць, ваюем. Паніка, неразбярыха з першых дзён. Дапусцім, лічылі чырвонаармейцаў нямецкім дэсантам. Але ў каго зварыла галава пасылаць на гэты дэсант бяззбройных школьнікаў? На верную пагібель пасылалі.

Апоўдні Васіль з новымі сябрамі Мікітам Бобрыным і Міколам Пішчыкам ідуць у гарадок. Нават дазволу ў дзяжурнага не пытаюць. У гарадок звозяць дэсантнікаў.

Там, на мураве, ляжаць упокат больш сотні чырвонаармейцаў. Аховы няма, але і зброі няма. Аўтаматы ў дэсантнікаў адабралі. Чырвонаармейцы, аднак, не бядуюць: кураць, пасміхаюцца, некаторыя спяць. Рады, відаць, людзі, што вырваліся з лап смерці.

Назаўтра школьнікаў са знішчальнага батальёна адлічаюць. Школа перастае быць казармай. У батальён нібыта набіраюць партыйцаў, узбройваюць. Дзе знаходзіцца новы батальён, ніхто не ведае.

Дзесяцікласнікі ідуць у армію. Іван Гарошык, Цімох Стрыж, яшчэ некалькі чалавек паслалі дакументы ў ваенныя вучылішчы. Ваенкамат на гэта не зважае. Усіх мабілізавалі,

пастрыглі пад машынку. Пойдуць дзесяцікласнікі пешай калонай разам з іншымі мабілізаванымі, сярод якіх ёсць дзядзькі гадоў па сорак, на Лоеў, на пераправу цераз Дняпро.

Каб развітацца з сябрамі, Васіль прыбрыдае ў ваенкамат. Ваенкаматаўскі двор у самым канцы ціхай Камсамольскай вуліцы. Паблізу размешчаны яшчэ двор МТС, і на гэтым вуліца канчаецца.

Васіль любіць гэтую частку мястэчка. Тут пагорак, пясок, ніколі не бывае гразі. Зеляніны многа. Узбоч вуліцы шапочуць лісцем разгалістыя таполі. Тапаліны гадавальнік побач. Ахвотнікі выпіць часта забрыдаюць у гадавальнік.

Цяпер ваенкаматаўскі двор як растрывожаны вулей. Многа жанок, яны адасобіліся са сваімі мужыкамі ці братамі, некаторыя нават выпіваюць, закусваюць. Гамана, слёзы, смех. Нехта рыпае на гармоніку, спрабуе спець песню.

Васіль нарэшце знаходзіць сяброў. Сядзяць на лавачцы, паставіўшы між ног брызентавыя рукзакі, ціхмяныя, разгубленыя.

— Мы табе напішам,— гаворыць Цімох.— Зайдзі да маіх. Ведаеш, вочы ў маці на мокрым месцы. Бацька пайшоў, цяпер я...

Ні Іванавай сястры, ні Цімохавых братоў і сясцёр на ваенкаматаўскім двары няма. Відаць, хлопцы забаранілі ім сюды прыходзіць. Раптам у шчыльна агароджаны дашчаным парканам ваенкаматаўскі двор завітвае купка дзесяцікласніц. Малайцы дзяўчаты! Прыйшлі праводзіць хлопцаў, з якімі разам столькі гадоў вучыліся. Закаханых хлопцаў у дзяўчат у дзясятым класе, здаецца, не было. Ні ў Цімоха, ні ў Івана дзяўчат, з якімі б яны завязалі сардэчныя знаёмствы, няма. Васіль ведае. Залішне сур’ёзна адносіліся хлопцы да навукі і марна час на дробязі не трацілі.

Няма на ваенкаматаўскім двары Ізі Перэльмана, сына аптэкара, вельмі вялікага школьнага актывіста. У Ізі, аказваецца, хворае сэрца, і ад воінскага абавязку ён вызвалены. Рувы Зайчыка таксама няма: ён рушыў на ўсход, яшчэ калі не быў узарваны мост на Дняпры.

Станцыю немцы раз-пораз бамбяць. Першыя бомбы падаюць на яе яшчэ на другім тыдні вайны. Адзінокі нямецкі

самалёт, нібы злодзей, вынырвае з-за лесу, праносіцца над дахамі хат і, дасягнуўшы станцыі, кідае на паравоз, які цягне доўгі цуг вагонаў, дзве бомбы. Яны не ўзрываюцца. Паравоз толькі абсыпае жвірам.

Блукаюць розныя чуткі. Нібыта спецыялісты адкапалі бомбы, разабралі іх і знайшлі там лістоўкі. Нямецкія рабочыя пішуць у лістоўках, што яны выступаюць супраць Гітлера і ваяваць з братамі па класу, савецкімі рабочымі, не будуць.

Васіль не верыць у байкі. Ірвуцца нямецкія бомбы. Ды яшчэ як! Другая справа, што нямецкія лётчыкі кідаюць іх як папала. Пасля некалькіх бамбёжак на станцыі амаль нічога не пашкоджана. Бомбы кладуцца на агароды чыгуначнікаў або нават на вуліцу Чангарскай дывізіі. Адна бомба — відаць, вагой не менш як тона — упала на вуліцы ледзь не насупраць хаты Івана Гарошыка. Утварыла агромністую варонку, на дне якой, як у калонцы, сабралася вада. Выбуховай хваляй толькі пакрывіла дах хацінкі, якая стаіць на другі бок вуліцы. У Іванавай хаце павылятталі шыбы з вокан. І ўсё.

Чарговая бамбёжка амаль разбурае будынак леспрамгаса. Васіль завітвае ў чыгуначную краму купляць хлеб, бярэ буханку, выходзіць на вуліцу. Высока ў сінім блакіце неба звініць ледзь бачная срабрыстая кропка нямецкага самалёта. І раптам чуецца пранізлівы свіст. Васіль ведае, што гэты свіст азначае, і з усіх ног кідаецца падалей ад станцыі. Ён метраў на пяцьдзясят адбег, пакуль раздаўся глухаваты выбух. Адзінокі самалёт, кінуўшы адну толькі бомбу, знікае. Васіль варочаецца паглядзець, куды трапіла бомба.

Трапіла яна ў леспрамгасаўскі магазін і разнесла яго ўшчэнт. У суседнім доме, дзе размяшчаюцца леспрамгасаўскія службы, а таксама Васілёва бібліятэка, выбухам знесла дах, высадзіла вокны разам з рамамі і ўвогуле неяк скасабочыла, напаўразбурыла будынак. Васіль зазірае ў пакой бібліятэкі і жахаецца. Столь расколатая, на падлозе тынк, друз, вокнаў няма. Залазь у пакой, бяры кнігі, нясі куды хочаш.

Дырэктар леспрамгаса ў час бамбёжкі сядзеў у кабінеце. Яго абсыпала мелам, тынкам, і цяпер ён мыецца пасярод разбуранага леспрамгасаўскага двара. Маладая, смяшлівая

бухгалтарка палівае яму ваду з графіна. Грузны, вялікі, як мядзведзь, дырэктар пасміхаецца.

— Жывы? — пытае ў Васіля.— Але служба твая, брат, канчаецца. Забяры колькі можаш кніг дамоў, таварышам раздай. Каб можна было калі-небудзь сабраць. А то іх проста раскрадуць. Ты, Маша,— дырэктар ужо звяртаецца да бухгалтаркі,— выпішы яму зарплату. За гэты месяц і за наступны...

Некалі Васіль мог толькі марыць пра кнігі, якія цяпер мае. Прывалок два мяхі. Рускай, беларускай, замежнай класікі.

Па мяшку ўзялі Пішчык і Бобрын. Рэшту Васіль дазволіў забраць іншым знаёмым хлопцам.

Мінае месяц вайны. Па ўсіх накірунках немцы прасоўваюцца наперад. На Палессі, аднак, загразлі ў лясах і балотах. Ужо ідзе бітва за Смаленск, узнік Пскоўска-Порхаўскі напрамак, узяты пад Ленінградам горад Луга, захоплена амаль уся Беларусь. Мазыр і Гомель застаюцца савецкімі. У Гомелі нібыта беларускі ўрад.

Калі яшчэ не ўзарвалі мост на Дняпры, у мястэчку выгрузілася з эшалонаў кавалерыйская дывізія. Па чутках, ёй камандуе славуты генерал Ока Гарадавікоў. Яго дывізія трымае абарону.

Да мястэчка ўжо амаль месяц даносіцца гул гарматнай кананады. Кіламетраў за трыццаць ёсць другая чыгунка, якая звязвае ўкраінскі горад Оўруч са Жлобінам. І там трымаюць абарону два савецкія бронецягнікі. Яны не даюць немцам прарвацца на Палессе з поўначы, з захопленага ў першы тыдзень вайны Бабруйска.

Вайна як бы ўваходзіць у паўсядзённасць. Раніцай і вечарам Васіль з прагнасцю слухае зводкі Інфармбюро, чакаючы пералому ў вайне. Пералому не відаць. Па ўсіх кірунках савецкія войскі адступаюць.

У канторы «Плодагародніна» застаўся толькі старшы бухгалтар Мяцельскі, прыгожы, з вытанчаным, далікатным тварам, яшчэ досыць малады чалавек, які, аднак, мае сям’ю і трое дзяцей. Жонка раўнуе яго да іншых жанчын, бо і цяпер, у вайну, штодня прыходзіць у кантору.

Кантора дзейнічае. Нараслі агуркі, маладая бульба, капуста, яблыкі, і калгасы вязуць гэта ў раён, на нарыхтоўчую базу.

Мяцельскі сваёй уладай прызначае Васіля рахункаводам. З заработкам удвая вышэйшым, чым у бібліятэкара. У бухгалтарскай справе Васіль разбіраецца не надта, але гэта і не патрэбна, бо працуе ён не ў канторы, а на нарыхтоўчай базе. Прымае агуркі, маладую бульбу, памідоры, выдаючы калгаснікам, што прывозяць агародніну, квіткі. І тут жа пад распіскі аддае ўсё гэта інтэндантам вайсковых часцей. Іх грузавікі цяпер кожны дзень дзяжураць каля нарыхтоўчай базы.

Васіль нават арганізоўвае засолку агуркоў, якія не паспяваюць забіраць чырвонаармейцы. А што? Жанчын, якія рабілі гэта летась і пазалетась, ён ведае, бондар, глухаваты дзядзька, які закрывае бочкі вечкамі, на месцы. Мяцельскі выпісвае рабочым грошы, бо раённы банк яшчэ дзейнічае.

Бочкі пасоленых агуркоў чырвонаармейцы бяруць з такой жа ахвотай, як і свежыя.

У Васіля нават знаёмства завязваецца з некаторымі старшынамі, якія прыязджаюць па агародніну і бульбу. Ён з імі вядзе размовы пра становішча на фронце, наша адступленне. Старшыны, аднак, не вельмі гаваркія і мала што Васілю расказваюць. Іхнія твары хмурыя, заклапочаныя, нават разгубленыя. Адчуваецца, яны, як і Васіль, ва ўладзе трывогі, няпэўнасці.

Нарэшце прысылаюць новага загадчыка плодаагароднінная базы замест чорнага, падобнага на казака дзядзькі, ахвотніка выпіць і закусіць, якога ў першыя дні вайны забралі ў армію. Прозвішча новага загадчыка базы Астапчык. Ён ціхмяны, нізкаваты ростам. Відаць, вызвалены ад ваеннай службы, бо на левым воку мае прыкметнае бяльмо. Загадчык назваўся Мікалаем Іванавічам, а жонка, худая устрывожаная, са змізарнелым чарнаватым тварам, якая ў першы дзень службы прыйшла на базу, заве яго Барыс.

Васіль рады, што прыйшоў новы начальнік базы, зняўшы такім чынам клопат з ягонай галавы. Няхай цяпер Астапчык, Мікалай ці Барыс, здае агуркі, маладую бульбу вайско-

вым інтэндантам, бо некаторыя з іх нават пячаткі не маюць і за атрыманую прадукцыю даюць звычайныя, напісаныя насліненым хімічным алоўкам распіскі.

Васіль рашае схадзіць па грыбы. Настае пара. Пачаўся месяц жнівень. Ні па ягады, ні па грыбы жанкі гэтым летам у лес не ходзяць. Баяцца. У лесе час ад часу чуюцца стрэлы, і, наогул, па чутках, розная навалач бадзяецца ў гэтыя трывожныя і смутныя дні па лясах.

Васіль таксама не адважыўся ісці ў лес адзін. Паклікаў суседа і сваяка Адама.

Жыта ўжо можна жаць. На вялізны залацісты разліў, на якім нібы перакатваюцца хвалі, падобна жытнёвае поле, якое цягнецца ад Шкробавай будкі да мястэчка. Кланяецца долу цяжкае калоссе. Але не відаць на полі ні жняяркі, ні жанок з сярпамі.

У прамове Сталіна, з якой правадыр выступіў месяц назад, сказана, што трэба знішчаць пасевы, спальваць іх, каб не засталіся ворагу. Васілю гэта здаецца недарэчным. Вораг ворагам, а што будзе есці само насельніцтва? Не будзе ж яно жыць святым духам.

Увогуле, аўтарытэт Сталіна, іншых вышэйшых кіраўнікоў у Васілёвых вачах моцна падупаў. Сам ён і раней не вельмі думаў, напрыклад, пра Сталіна. Правадыра ў газетах называюць вялікім, нават геніяльным. Няхай сабе і вялікі, і геніяльны. Няхай кіруе краінай, сусветным пралетарыятам. Толькі вось з вайной, сваім братаннем з Гітлерам Сталін штосьці недадумаў...

У лесе нават вусцішна. Калюжыны на прасёлкавай дарозе пакрыліся зялёнай раскай, у каляінах, не кранутых коламі аўтамашын, пачала расці трава. Рэдкая птушка азавецца ў лесе.

Васіль прыводзіць Адама на першую пасля цёмнага грабняку паляну, зарослую ціпцам, круглікам, іншай травой. Тут ён заўсёды вышукваў у густой траве першыя баравікі. Кроку не ступіўшы, Васіль нібы слупянее. Баравікоў нават вышукваць не трэба. То кучкамі, то ўраскідку яны пакрываюць усю невялікую, якая лёгка праглядваецца, паляну. Цёмныя і светла-жоўтыя каптурыкі вылазяць з травы куды ні кінь

вокам. Ніколі ў жыцці Васіль не бачыў такога грыбнога багацця. Трэба было выбухнуць вайне, каб даць магчымасць Васілю такое ўбачыць.

— Адам,— прамаўляе ён.— Бяры, брат, грыбы...

Яшчэ толькі поўдзень, а Васіль з Адамам ужо вяртаюцца з лесу. Васіль ірвецца яшчэ схадзіць, але Адам не хоча. Штосьці ў ціхім, нямым лесе яму не падабаецца.

Васіль ідзе адзін. Ён зноў назбіраў кошык баравікоў. Можна ісці дамоў, аднак Васілю яшчэ хочацца зазірнуць у бор.

Калі, мінуўшы густы ляшчыннік, ён сягае ў светлы, працяты сонечнымі палосамі сасоннік, разлягаецца кулямётная чарга. Кулі свішчуць над галавой, падсякаюць галінкі, лісце маладых дрэў. Васіль падае на зямлю, паўзе...

Дома ён ніяк не можа вытлумачыць гэты жахлівы выпадак. Хто па ім страляў? І чаму кулямёт перастаў стракатаць, як толькі ён упаў.

У тым самым месцы месяц назад памылкова высадзілі савецкі дэсант. Дэсантнікі, аднак, не стралялі...

— Розныя бандзюгі валочацца па лесе,— тлумачыць здарэнне бухгалтар Мяцельскі.— Проста ты мог убачыць іх схованку. Не хадзі болей...

## XI

Побач з базай «Плодагародніны» новы, выбудаваны з сасновага бярвення склад канторы «Заготзбожжа». Каля яго цэлы цуг грузавікоў. Работнікі склада, нават не ставячы мяхі на вагі, кідаюць іх у кузавы вайсковых паўтаратонак.

Васіль вачам не верыць. На памосце склада стаіць Гэля Машчынская з клункам у руках. Васіль настолькі губляецца, што яму нібы зацінае дыханне. Не ведае, што рабіць. Падысці да Гэлі, не падысці? За паўгода, што Васіль не бачыў дзяўчыну, яна пасталела, папаўнела. Белая ў сінюю палоску сукенка шчыльна аблягае яе стан.

Васіль нарэшце падыходзіць да Гэлі.

— Рэчы свае забрала,— разгублена гаворыць яна.— Прыехала на машыне. Цягнікі не ходзяць.

— У інстытут замежных моў паступілі? — нечакана пытае Васіль.

— Які цяпер інстытут. Вайна. У нашым горадзе фарміруецца кавалерыйская дывізія. Бацька прызначаны камісарам палка. Бярэ мяне з сабой...

Шафёр заводзіць машыну, расчыняе дзверцы, і Гэля, кінуўшы клунак у кузаў, на мяхі, таропка садзіцца ў кабіну. З кабіны махае Васілю рукой.

Вось такая кароткая сустрэча на сотай вярсце...

Хутка два месяцы, як ідзе вайна. Усе, хто хацеў выехаць з мястэчка, даўно выехалі.

Васіль спадзяваўся: будзе арганізаваная эвакуацыя. Але яе няма. Відаць, і не будзе. Таму Васіль раз-пораз заводзіць гаворку з Бобрыным і Пішчыкам. Трэба нам, хлопцы, падавацца на ўсход. Новыя сябры на ўгаворы паддаюцца слаба. Ад старэйшага брата, які вучыцца ў Маскве, Бобрын мае толькі адно пісьмо: брат, хоць у яго вельмі слабы зрок, паступіў добраахвотнікам у студэнцкі батальён. Калі і Мікіта падасца ў водступ, то дома застанецца адна маці з малодшай хваравітай сястрой.

У Пішчыка становішча не лепшае. Бацьку мабілізавалі. Дома ён, маці і яшчэ зусім малая сястра.

Ніхто з такіх, як Васіль, у эвакуацыю не збіраецца. Толькі частку чыгуначнікаў эвакуіравалі: машыністаў, памочнікаў машыністаў, увогуле работнікаў службы цягі. Васілёў бацька неваеннаабавязаны: хворы на раматус.

Хоць цягнікі не ходзяць, бацька ў вызначаны час з’яўляецца на службу.

Аднойчы, пайшоўшы на начную змену, бацька вяртаецца ўстрывожаны. Васіль выпадкова чуе ягоную размову з маці.

— Сказалі заставацца тут. Калі прыйдуць немцы, працаваць на станцыі. Толькі шкодзіць немцам. Сыпаць у буксы пясок, гайкі на рэйках развінчваць...

— Ты згадзіўся?

— Ніякай згоды не пыталі. Паперу я не падпісваў...

Бацька асцярожны. Ён некалькі гадоў лічыўся спачуваючым, наведваў сходы партячэйкі, але ў партыю не ўступіў. І курсы дзяжурных скончыў бацька. І зноў жа: застаўся стрэлачнікам, бо не захацеў перабірацца ў другое месца.

Местачкоўцы — калгаснікі, рабочы люд — за час грамадзянскай вайны прывыклі да перамены ўлады. З таго часу

мінула толькі дваццаць гадоў. Таму выбірацца з мястэчка, кідаць хату, набытак ніхто не збіраецца. Хто толькі ў мінулую вайну не прыходзіў у мястэчка. Немцы, белапалякі, генерал Булак-Балаховіч, чырвоны камандзір Стракапытаў, які падняў паўстанне і зрабіўся белым, іншыя атаманы і бандыты. Яны з'яўляліся і знікалі. Мястэчка заставалася. Хоць яго руйнавалі, палілі.

Местачкоўцы пачынаюць паціху жаць збожжа. Крадком і кожны сабе. Жанкі нажынаюць па некалькі снапоў, абмалочваюць, сушаць зерне на посцілках. Бо немец, калі захопіць мястэчка, хлеба не прынясе.

Надыходзіць час, калі і Мяцельскаму прыносяць павестку з ваенкамата. Пячатку бярэ з сабой. Няма каму яе даверыць: Астапчык чалавек новы, Васіль непаўналетні.

Мяцельскі, аднак, разумее, што грошы Васілю могуць спатрэбіцца. Яшчэ жанчыны працуюць на базе, ім трэба плаціць. Таму бухгалтар выпісвае чэк на прад'яўніка. Але пячаткі, подпісу не ставіць.

— Цяпер ваенкамат размяшчаецца ў стражы,— гаворыць Мяцельскі.— Дні тры-чатыры прабудзем там. Калі не абыдзешся без грошай, шукай мяне.

Стража — агромністая шопа за ваколіцай. Размешчана ў лесе, і дабірацца да яе латвей з паўднёвага канца мястэчка. Раней жылі ў стражы аб'ездчыкі, леснікі. Цяпер, здаецца, там ніхто не жыве.

Патрэба ў грашах узнікае на другі дзень пасля мабілізацыі бухгалтара. Воінская часць прысылае машыну па салёныя агуркі. За дзень з'яўляюцца яшчэ дзве такія машыны. Ускатваць бочкі на памост, грузіць у кузаў адным шафёрам не пад сілу. Таму Васіль з Астапчыкам хуценька арганізоўваюць брыгаду з мужчын, хлапцоў, якія трапляюць пад руку. Абяцаюць назаўтра з імі разлічыцца.

Вечарам таго ж дня Васіль ідзе на стражу. Ён рушыў нацянькі ваколіцай. Той самай ваколіцай, дзе на лёдзе ў дзяцінстве насіўся на ваньках-дзеравяшках.

На паўдарозе да стражы Васіль чуе натужны гул. Ён падымае галаву і жахаецца. Вынырнуўшы з-за лесу, не надта высока над зямлёй, на мястэчка ляціць армада нямецкіх самалётаў.

Васіль налічвае васямнаццаць бамбардзіроўшчыкаў. Заднія яшчэ вісяць над ваколіцай, пярэднія, якія знікаюць з вачэй, кідаюць на мястэчка бомбы. Хутчэй за ўсё на станцыю. Раз-пораз да слыху даносяцца глухія разлеглыя выбухі.

Дваістае пачуццё валодае Васілём. Ён рад, што пазбег гэтай страшнай масавай бамбёжкі. З другога боку, там, у мястэчку, сям'я: бацька, маці, браты, маленькая сястра. Бацька нават заступіў на начное дзяжурства.

На закінутай, занядбанай стражы нібы дзіцячы сад размясціўся. Сушацца на вяроўках сукенкі, порткі, бялізна. Стаіць некалькі фураў з будамі, падобных да тых, у якіх вандруюць цыганы.

Ніякіх мабілізаваных на стражы няма. Ні чалавека. Цяпер толькі Васіль разумее памылку. Бухгалтар гаварыў пра другую стражу. Яна ля суседняй вёскі Сівалобы, побач з шашой.

Разважаючы, якім шляхам трапіць на гэтую далёкую стражу, Васіль твар у твар сутыкаецца з Алесяй Малейкай. Яна ў выцвілай сукенцы, у туфлях-лодачках на босую нагу. І з выгляду бляклая, стомленая.

— Што ты тут робіш? — пытае Васіль.

— Едзем у эвакуацыю.

— Чаму сюды трапілі?

— Мой бацька ляснічы. Мястэчка бамбяць. Будзем тут начаваць.

Вось, значыць, як. Алеся, як і Гэля Машчынская, з дому выбіраецца. Без развагі, ваганняў едзе ў невядомы, ахоплены вайной свет. А ён, Васіль, яшчэ толькі разважае, што і як рабіць.

На Сівалобаўскую стражу Васіль трапляе ўжо прыцемкам. Яна гудзе як растрывожаны вулей. Прызваных у армію сотні. Васіль, аднак, даволі хутка знаходзіць Мяцельскага. Той падпісвае чэк, ставіць пячатку.

— Што думаеш рабіць? — пытае Васіля.

— Збіраюся ісці на ўсход.

— Справа твая. Толькі да арміі табе яшчэ далёка.

Дома навіна нават незвычайная. Пры налёце на станцыю чыгуначнікі кінуліся хавацца хто куды. Бацька заскочыў у каменную лазню. Прыхіліўся да печы. Яна як крэпасць: сцены

па метры таўшчынёй. Дык вось якраз у лазню трапляе бомба. Развальвае яе папалам. Бацька, аднак, як стаяў, так і астаўся стаяць каля печы. Яго толькі аглушыла. Чыгуначнікаў, якія схаваліся ў канаве каля лазні, забіла глыбамі разваленага будынка. Двух чалавек.

Тое, што бацька гэтак незвычайна выратаваўся, нібы знак лёсу. Відаць, нарадзіўся ён пад шчаслівай зоркай. Што ж, цяпер ёсць каму адказваць за сям'ю. У Васіля тым часам вольныя рукі...

Яшчэ праз дзень-два калгаснікі перастаюць прывозіць гародніну, бульбу. Больш не прыязджаюць на базу вайсковыя машыны. Значыць, армія адступае...

У райвыканкаме, аднак, яшчэ сядзіць таварыш Дабравольскі, загадчык райземаддзела, які выдае пасведчанні на эвакуацыю ўсім, хто толькі пажадае. Васіль, як толькі можа, угаворвае Бобрына і Пішчыка адыходзіць на ўсход.

Бобрын на ўгаворы паддаецца. Пішчык пярэчыць:

— Хіба мы дзеўкі. Немцы ж не будуць нам я... выразаць.

Нарэшце хлопцы згаджаюцца. Сябры-таварышы кіруюць у райвыканкам. Сівы, з дабрадушным круглым тварам яўрэй Дабравольскі, спытаўшы толькі прозвішчы, на вузкіх з папяроснай паперы палосках выпісвае хлопцам пасведчанні на эвакуацыю. Ні грошай не дае, ні нават парады: якім шляхам выбірацца з мястэчка, куды ісці...

Крамы яшчэ працуюць, у іх прадаюць хлеб. Васіль штодня бярэ па тры буханкі. Стрымліваючы слёзы, маці сушыць сухары.

Нарэшце Васіль чуе па радыё, што савецкія войскі пакінулі Нікалаеў і Крывы Рог.

Назаўтра і радыё перастае гаварыць. Ні газет, ні радыё. Глуха ў мястэчку, як у склепе.

Выходзяць сябры з мястэчка вечарам. Стараюцца хутчэй мінуць доўгую Савецкую вуліцу, каб пакінуць межы роднага паселішча. Бо мацеркі могуць паслаць наўздагон малодшых братоў, сясцёр, каб тыя ўгаворвалі хлопцаў вярнуцца.

Вось і Выбедзь. На гэтым узгоркаватым, пясчаным полі адна нешырокая палоска належала Васілёваму бацьку. Ён памятае, як маці жала жыта, як бацька складваў снапы ў

мэндлікі, а ён калыхаў самага меншага брата Сяргея. Калыска была падвешана на таганах, накрыта, каб быў цянёк, коўдрай.

І Выбедзь нарэшце мінулі. Мястэчка ўжо за пагоркам. Бывай, мястэчка!..

Начаваць хлопцы падаюцца ў жыта. Ёсць нязжатыя палоскі, ёсць зжатыя. З саломы сябры робяць логвішчы і кладуцца спаць. Жнівеньскае неба раскінула над імі густа засеяны зоркамі шацёр. Ціха, трывожна. Заўтра на золку выгнаннікі рушаць далей, да Дняпра, і, можа, ім удасца ўцячы ад знішчальнага вала вайны, які коціцца ўслед за імі.

*1993*

## ЮНАЦТВА

### ВАЙНА

### I

Нас выгружаюць на невядомай станцыі. У цемені ночы вызначаюцца некалькі прысадзістых будынін, атуленых голымі чорнымі дрэвамі.

Адразу пасля выгрузкі — марш.

Як заўсёды, у галаве калоны мы, разведчыкі. Я крочу побач з памкамузвода Смірновым. Яшчэ летам, пасля зацятых кровапралітных баёў на Карэльскім перашыйку я прызначаны палкавым перакладчыкам. Перакладчык другога разраду — пасада афіцэрская. У палку, дзе я служыў раней, яе займае лейтэнант Мілаванаў (выявіўшы, што я ніштавата ведаю нямецкую мову, Мілаванаў і далажыў аб гэтым вышэйшаму начальству).

Ні мне, ні старшаму сяржанту Смірнову, які камандуе ўзводам пешай разведкі, ніхто не збіраецца прысвойваць афіцэрскіх званняў.

Перакладчык павінен не толькі дапытваць палонных. Рабіць гэта мне не прыйшлося, бо на Карэльскім перашыйку мы ваявалі з фінамі. У абавязкі перакладчыка ўваходзіць

таксама сядзець на назіральным пункце, весці карту, пісаць разведзводкі, іншыя паперы, якіх штаб палка патрабуе аж зашмат.

Мае мястэчковыя таварышы, з якімі я трапіў у запасны полк і якіх фактычна сагітаваў у маршавую роту (у запасным палку ад недаядання мы ледзьве перастаўлялі ногі), на Карэльскім перашыйку ледзь не ўсе загінулі.

У газетах пішуць, што савецкі салдат прайшоў ад Волгі да Дняпра, а цяпер такім жа пераможным крокам ідзе да Віслы і Дуная. Гэта калі лічыць такога салдата асобай зборнай. Бо, скажам, канкрэтны салдат Іваноў ці Пятроў, калі нават служыць ездавым ці дзе-небудзь у гаспадарчым узводзе, так далёка не пройдзе. Яго вельмі хутка заб'юць або параняць. Такая цяпер вайна.

Апошнія два месяцы нас кідаюць з месца на месца. Пасля Карэльскага перашыйка мы пабачылі эстонскія сасznякі, што растуць на сыпучых пясках і дзюнах, пабывалі на Украіне, адкуль эшалоны, не даўшы ім разгарнуцца, высокія начальнікі зноў павярнулі на поўнач і спынілі каля беларускага горада Ваўкавыска. За Ваўкавыскам крэпасць Астраленка, там немцы зацята агрызаюцца. Але і пад Астраленкай мы не затрымаліся: крэпасць здалася.

І вось цяпер Літва. Гарадкі Калварыя, Марыямпаль, якія мы паўшэптам адзін другому называем, размешчаны амаль на граніцы з Усходняй Прусіяй. Трывожна на душы: зноў, відаць, як на Карэльскім перашыйку, прыйдзецца прагрызаць глыбока эшаланіраваную абарону, доты, дзоты, жалеза і камень.

Ноч доўгая, асенняя. У твар час ад часу падзімае прыемнай прахалодай. Шоргаюць боты на вышчарбленым бруку шашы, ціха пабразгваюць у рэчавых мяшках загорнутыя ў парцянкі запасныя аўтаматныя дыскі. Узбоч шашы бясконцая цёмная чарада дрэў. Пад імі парудзелая мяккая трава, на якую, пасля таго як аб'явяць дзесяціхвілінны прывал, мы ўсе падаем і імгненна засынаем. Я крочу, як і ўсе, на кароткі час засынаю, прачынаюся і думаю аб тым, што такія вось доўгія маршы нараджаюць у чалавека дзіўныя адносіны да жыцця. Ніякіх высокіх парыванняў, імкненняў. Жаданне самага звычайнага. Пад'есці, паспаць. Добра абматаць нагу парцянкай,

каб не муляла. Звярнуць цыгарку і закурыць. Дом, мірнае жыццё дзесьці за недасяжным парогам. Пра тое, што вернешся дамоў, думаць не трэба. Бо вельмі цяжка вярнуцца з такой вайны...

У часе доўгіх пераходаў мы маўчым. Нікому не хочацца гаварыць. Блісне агеньчык цыгаркі, пачуецца адрывістае слова каманды. І зноў толькі ноч і мернае шорганне ботаў...

Ідзем ужо болей як дзве гадзіны, а прывалу не аб'яўляюць. Можа, блізка месца, дзе мы нарэшце спынімся на прывал.

— Гадзіна ночы,— напаўголаса гаворыць Смірноў.— Тэпаць нам і тэпаць...

У Смірнова гадзіннік, на якім свеціцца цыферблат. Трафейны, нямецкі. Добра мець гадзіннік. У любое імгненне можна паглядзець і ведаць, колькі часу. Праўда, гадзіннік нібыта не самай высокай якасці. Замест каштоўных камянёў у ім цыліндры. Але я не ведаю, чым цыліндры горшыя за камяні, бо з выгляду гадзіннік прыгожы. Блішчасты, нікеляваны.

Каржакаваты, шыракатвары Смірноў спакойна крочыць па бруку. На вайне ён тры гады, перанёс ленінградскую блакаду. Тры разы быў паранены. Апошні раз — на Карэльскім перашыйку. Я ляжаў з ім у медсанбаце, але потым Смірнова вывезлі ў шпіталь. Я думаў, што болей не пабачу памкамузвода, але праз два месяцы ён шчасліва вярнуўся ў полк. Такое рэдка каму ўдаецца.

Наперадзе зыркаюць і імгненна гаснуць агеньчыкі. Я, як і ўсе астатнія, думаю, што наперадзе паселішча, а значыць, канечны пункт нашага маршу. Цвярдзей шоргаюць боты, чаравікі па бруку, нават нейкія галасы ў калоне раздаюцца. Але добры настрой хутка спадае. Проста на дарозе стаіць машына, у маторы якой корпаецца шафёр.

Абмінаючы машыну, калона праходзіць узбочынай шашы. Некаторыя сягаюць нават у кювет. Цёмнае, без зорак і месяца неба. Вецер трохі ўздымаецца, ён прылятае збоку, з поля, прыносячы церпкія пахі прывялых траў, гнілога бульбоўніку і мокрай асенняй зямлі. Вочы ўжо прызвычаіліся да цемені, і можна сёе-тое разабраць. Наперадзе ледзь-ледзь бялее палоска неба. Да слыху даносіцца далёкае, ледзь чутнае кукарэканне пеўня. Дзесьці збоку брэшуць сабакі. Раз-пораз няясна

праглядваюць купкі нейкіх будынін з цёмнымі прысадамі, і далей зноў голы, пусты прасцяг. Хутары. Хаты, хлявы, гумны, адрыны, раскіданыя па палявым прасторы.

Можа, гэта і добра. Пажыва для вайны тут, у Літве, была меншая, чым дзе-небудзь у другім месцы.

Напрыклад, вёскі ў маім раёне вынішчаны болей чым напалавіну. Іх паліла карная эсэсаўская дывізія.

Хочацца есці. НЗ выдалі на двое сутак, але два дні і ноч мы або ехалі, або падоўгу стаялі на станцыях. У дарозе было звычайнае катловае забеспячэнне — суп, каша, чай, але падчас падарожжа апетыт незвычайны, і можна лічыць, што НЗ няма. У мяне засталося два сухары і невялікі шкамуток шпігу. У Смірнова запас большы. Ён не такі падкі да яды, як я.

— Па сухарыку,— прапаноўваю я.

— Можна,— згаджаецца Смірноў.

З найвялікшай асалодай я ўгрызаюся зубамі ў крыху саланаваты з кіслінкай сухар. За вайну я не зведаў ежы смачнейшай, чым звычайны, аржаны, спецыяльна высушаны хлеб. На вайсковай службе не так многа радасцей, і найвялікшая з іх — пад’есці. Сухар, у адрозненне ад супу, кашы, дае магчымасць расцягнуць насалоду як мага даўжэй. Мае ў сабе сухар усе смакавыя адценні: пахне дымам, жытам, ільняным мяшком, у якім яго захоўвалі. Маючы сухары і ваду, можна на свеце жыць.

Зноў брэшуць сабакі, нават кукарэкае певень: блізка хутар.

Увогуле я слабавольны. Калі ў маім рэчавым мяшку ёсць сухары, то я іх паціхеньку выцягваю, жую, свядома заглушаючы дакоры сумлення. Па гэтай прычыне мне ні разу не ўдалося захаваць на патрэбны тэрмін недатыкальны запас.

— Тры гадзіны ночы,— паведамляе Смірноў.— Начальства штосьці задумала...

Ледзь не ўсю ноч мы ідзем без прывалу. Гэта не першы раз, і я ведаю пачуццё, якое пры такім доўгім маршы ўзнікае: ногі паступова робяцца як не свае, мяккія, гумавыя. Яны зусім не баляць. Балець яны будуць потым, а цяпер іх трэба, як алавяны салдацік, ні аб чым не думаючы, перастаўляць. У гэтым задача. Ісці і ісці. На вайне перш за ўсё патрэбна вынослівасць. Патрэбен баец, прызвычаены пераносіць боль,

голад, смагу, усялякія іншыя пакуты. Харошы салдат той, які ўмее забываць, што ёсць інакшае жыццё. Я, калі вучыўся ў школе, не вельмі захапляўся фізкультурай і надта добра сябе не загартаваў. Але, відаць, быў другі, больш будзённы гарт. Гадоў у дзесяць бацька адвёў мяне на чыгунку, і на працягу некалькіх летніх канікул я працаваў у рамонтнай брыгадзе. Ссякаў між шпалаў траву, зносіў з пуцей шлак, разам з пуцейцамі-рамонтнікамі мы падбівалі пад шпалы баласт, мянялі шпалы, спецыяльным прыстасаваннем з лябёдкі і стальнога кліна звужвалі зазоры між рэйкамі. Былі і іншыя заняткі. Я рана навучыўся касіць, зграбаць сена, краў на станцыі дровы, пілаваў, калоў, забяспечваючы ў зімовы час дом палівам.

Доўгія пяхотныя маршы я, можна сказаць, пераношу лёгка. Лягчэй нават, чым сёй-той, хто трапіў на фронт раней за мяне. Я ні разу не адстаў, не выбіўся са строю, і не было выпадку, каб мяне везлі на фурманцы.

Можа, таму я някепска выдыбаю доўгія вёрсты, што ў падлеткавым узросце рабіў частыя грыбныя паходы. Набраць грыбоў у нашым лесе, куды шастала мнагалюднае мястэчка, азначала штодня прабегчы вёрст дваццаць ці нават болей. У лес я пачаў шыбаваць з ранніх гадоў. Вось тут і загартоўка...

— Закурым,— гаворыць Смірноў.

Махоркі ў мяне няма: тры ці чатыры дні не выдавалі. Між тым памкамузвода, не прыпыняючы кроку, адрывае ад прамавугольнічка складзенай газеты паску паперы, насыпае табакі, згортвае цыгарку, і мне застаецца толькі наслініць яе і прыпаліць. Сам Смірноў цыгарак не курыць — робіць казіныя ножкі. Казіная ножка — асаблівы шык і вызначае пераважна тых, хто служыць ва ўзводзе пешай разведкі.

Першыя ж зацяжкі адразу ап’яняюць. Кружыцца галава, нейкая млявасць ва ўсім целе, але толькі ў першую хвіліну. Яшчэ праз імгненне свет мяняецца, і жыць на ім многа весялей. Невядома, як бы салдат ваяваў, як бы мераў непаслухмянымі нагамі доўгія вёрсты, каб не было махоркі.

Калона між тым даўно паламалася. Няма рытмічнага шоргання ног, мернага кроку, які напружвае і дысцыплінуе. Ідзем як хто можа, мы са Смірновым былі ў трэцім радзе, цяпер

неяк непрыкметна адсталі. Мы крочым побач з невядомымі людзьмі, ззаду ляскоча ротная фурманка.

— Хутка світаць пачне,— мармыча Смірноў.— Няўжо з ходу — на фронт?

Фронтам быццам не пахне. Каб быў фронт, наперадзе грымела б, свяцілі б водблескі пажараў, дарога была б запруджана калонамі, машынамі і абозамі. А так цішыня і амаль бязлюдная шаша. Хутчэй за ўсё — доўгі пераход. Як было пасля Ваўкавыска, калі нас хацелі кінуць пад Астраленку, ці як пад Ржэвам, калі ішлі на фарміроўку. Начальства ведае, што ноччу салдат пройдзе болей, чым днём.

Страшэнна хочацца спаць. Наступае стан напаўтрызнення, калі чалавек як бы бачыць навакольныя прадметы, людзей, што ідуць побач, і ў той жа час не бачыць. Можна, аказваецца, спаць і на маршы. Ногі перастаўляюцца самі, цела расслаблена, і вочы заплюшчаны. Мы не ведаем, колькі ідзем такім манерам. Нарэшце, як бы з-пад зямлі доўгая глухая каманда:

— Пры-ва-ал!..

Пачынае світаць. На бліжнім шэрым хутары брэша сабака. Непаслухмянымі нагамі мы перабіраемся цераз кювет, падаем на мяккую, вільготную траву і, нават не выбіраючы позы, не акрыўшыся плашч-палаткай, імгненна засынаем.

Колькі часу спім, не ведаем. Падымае нас зычная, шматгалосая каманда: «Пад’ё-ём!» Мы імгненна падхопліваемся. Уражанне: як бы зусім не спалі. Хоць на прывал, аказваецца, далі цэлую гадзіну.

На зямлі шэры, асенні дзень. Цемнаватыя купкі хутароў віднеюцца на бачным абсягу. Удалечыні, як бы ахутаныя дымам, сінеюць палоскі лясоў, яркімі, зялёнымі лапінамі на шэрані зямлі выдзяляюцца лугавіны.

На свеце ўсё-такі дзень, і на душы робіцца весялей. Вайны і тут яшчэ не чуваць, ды і гадзіна сну не прапала дарэмна: ногі весялей, прутчэй ступаюць па шэрым вільготным каменні.

Калона з першай хвіліны строю і кроку не захоўвае, мы паспешліва крочым у галаву яе, каб далучыцца да ўзвода. Цяпер мы ідзем у адным радзе з Філімонавым і Маскоўскім. Памкамузвода, як заўсёды, памоўчвае. Яго спадарожнікі, на-

адварот, голасна размаўляюць, смяюцца, як бы і не было ночы суцэльнага маршу. Маскоўскі, магчыма, трохі пад'ехаў на фурманцы. Ён неафіцыйны ад'ютант пэнша другога, афіцэра разведкі Канатнікава, і пільна сочыць, каб не прапаў вялікі скураны чамадан капітана і скрынка са стэрэатрубамі, біноклямі, якія належаць узводу пешай разведкі.

Мы вызначаемся ў палку. Сяржанты, яфрэйтары і нават радавыя носяць чубы, і хоць гэта па статуце не паложана, начальства маўкліва закрывае вочы. Ды і апрануты, абуты мы лепей: ва ўсіх добра падагнаныя шынялі, боты, плямістыя нямецкія плашч-палаткі.

Да наступнага прывалу дабіраемся даволі бадзёра. Калі разлягаемся на прывялай асенняй траве, чырванашчокі, рухавы Філімонаў, гучна рагатнуўшы, дастае з рэчавага мяшка ладны кавалак бараніны, спрытна махаючы блішчастай, з чорнай тронкай фінкай, дзеліць мяса. Лепей не прыдумаеш. Не згасае ва ўзводзе дух прадпрымальніцтва. Барана патаемна рэквізавалі ў лясной вёсцы пад Астраленкай. Гаспадар барана дабраўся да начальства, паскардзіўся, і было праведзена следства. Яно, аднак, нічога не даяло. Не міргнуўшы вокам, Філімонаў і астатнія даказалі поўную невінаватасць. Нават абураліся, што ёсць байцы з нячыстымі рукамі. Бадай усе ведалі пра барана, але лічылі, што з пярэпалаху Філімонаў яго дзе-небудзь выкінуў.

Снеданне выдатнае. Мяса пахне дымам, сасновым вецццем, смалой, ядлоўцам. Відаць, смажылі ў лесе, на кастры, падкладваючы ў агонь сасновыя лапкі і ядловец.

Зноў шаша і зноў расхлябаны аднастайны крок. Я вядаю разведчыкаў. Палавіна з іх навічкі, а са Смірновым, Філімонавым, Маскоўскім, яшчэ з пяццю-шасцю мы прайшлі Карэльскі перашыек, хадзілі на пошук. Найбольш, вядома, сядзелі на назіральным пункце. Разведчыкі, асабліва тыя, што трохі пабачылі вайны, амаль без выключэння хвалькі, любяць пусціць пыл у вочы. Яны нібы надзелі на сябе маскі страшэнных зухаў, якім мора па калена. На справе не так. Сама служба як бы прывучае нас да авантурызму, вынаходлівасці. Нават дзяжурная вылазка ў варожы тыл няпростая. Таму цяжка стрымацца і ў звычайных абставінах. Часам нават у маёмасць

палка мы запускаем руку. Склад ПФС — агромністая брызентавая палатка. Вечарам мы любім ацірацца каля гэтай палаткі. Маем хаўрус з аховай дый з самімі службоўцамі ПФС. Сёетое нам перападае. Бліскучая бляшанка кансерваў, некалькі сухароў, пачак папярос. За цюк бязі, украдзены з чужога эшалона, калі пераязджалі з Выбарга ў Тарту, двое нашых трапілі пад трыбунал. Іх паслалі ў штрафбат.

Нягледзячы на шык, выхваленне і знешні бляск, мы ўсе чулыя на таварыскасць, дружбу, спагаду. Як усе, хто на вайне, чакаем лістоў з дому, ад матак, знаёмых дзяўчат, таварышаў. І хоць канца вайны не відаць, запрашаем адзін аднаго ў госці. У сваю вёску ці горад...

Да паўдня калона расцягваецца, можа, на цэлую вярсту. Узводы, роты зноў мяшаюцца і нельга навесці ніякага парадку. Людзі стомленыя ўшчэнт.

Ужо надвячоркам, калі пачынае церусіць дробны дождж, мы ледзь не трапляем у бяду. Непрыкметна аказваемся ў чужой калоне. Шаша ў гэтым месцы робіць буйны выгіб. Праз лугавіну відаць галава калоны. Мы збягаем на лугавіну, каб скараціць шлях. Бо нашы таварышы, хутчэй за ўсё, у галаве калоны.

Ланцуг на шашы раптам замірае. З усіх канцоў даносяцца трывожныя галасы, воклічы. Мы не заўважылі, што лугавіна амаль усюды абнесена дротам і за ёй стаяць папераджальныя тычкі. Мы трапілі на міннае поле.

Асцярожна, ступаючы след у след, мы выбіраемся з лугавіны. І ўвесь час калона стаіць, не рухаецца, назірае за небаракамі, якія так блізка ад бяды. Нарэшце мы вынырваем з нізкай лугавіны на шашу, і калона зноў пачынае павольна паўзці.

Калі сутонне асенняга вечара пачынае агортваць зямлю, мы чуем глухія выбухі. Дзесьці там, наперадзе, фронт. Мы зноў ідзем сваім узводам. Мы настолькі стаміліся, што нават словам адзін да другога не азываемся. Наперадзе фурманка. Я бяруся рукой за вяроўку, якой абкручаныя нейкія цюкі. І адразу засынаю. Так і іду: засынаю, на хвіліну трывожна прачынаюся і зноў апускаюся ў спакой забыцця.

Канчаткова прачынаюся, калі фурманка спыняецца. Мы ў нейкім гарадку, з абодвух бакоў нешырокай вуліцы стаяць

прысадзістыя дамкі з зацемненымі вокнамі. Артылерыйскія выбухі як бы аддаляюцца, робячыся глушэй і глушэй. Байцы гучна перамаўляюцца, бразгаюць кацялкамі.

— Сто вёрст адмахалі,— чуецца незадаволены голас.— Чаго пёрлі? Побач чыгунка.

Гарадок жыве. Я бачу: з-за адной няшчыльна прычыненай аканіцы выбіваецца палоска святла. Я падыходжу да акна, прыпадаю тварам да аканіцы. У чыстым, утульным пакоі сядзяць у крэслах трое распранутых да гімнасцёрак афіцэраў. Ля сцяны стаіць піяніна, і на ім, лёгка ўзмахваючы рукамі, іграе дзяўчына з белымі валасамі. Я ледзь-ледзь чую гукі музыкі. Відовішча, як казка, бо нельга паверыць, што магчыма вось такое жыццё, можна вось гэтак сядзець у цёплым пакоі, глядзець на белую дзяўчыну, слухаць музыку...

## II

Мы займаем невялікі хутарок. Тут усюды хутаркі: большыя і меншыя, раскіданыя на палявым прасторы паасобна, а таксама згрупаваныя ў невялікія паселішчы. Роты, батальёны размешчаны па такіх вось паселішчах. Штаб палка — у невялікім гарадку.

Наш гаспадар — рухавы, каржакаваты, з шырокім добразычлівым тварам літовец. Свецячы лямпай-васьмерыком, ён адводзіць нам вялікі, які займае палавіну хаты, пакой. У пакоі мы размясціцца не можам, і гаспадар прапануе для начлегу і гумно. Толькі просіць не курыць, бо там сена.

Мы са Смірновым, Мерзляковым, яшчэ двума-трыма разведчыкамі выбіраем гумно.

Даўно, як вось цяпер, я не ляжаў на сене, у цішыні, пад саламяным дахам сялянскай стадолы. У гумне размаітыя пахі, ад якіх кружыцца галава.

Таварышы засынаюць імгненна. У кюветах, на кароткіх прывалах у час стакіламетровага маршу, я таксама гэтак жа засынаў. А вось тут не магу. Можа, з-за кантузіі. Але і да кантузіі было штосьці падобнае. У запасным палку пасля самай цяжкай муштроўкі ці работы я засынаў апошні.

Ідзе дождж. Ён аднастайна шапаціць па саламяным даху гумна, як бы пацвярджаючы, што на свеце сумная восень. Дзесьці ў тарпе неабмалочанага жыта папіскваюць мышы. У поўнай цемені, што пануе ў гумне, я выдзяляю светла-шэрую палоску, якая цэдзіцца з двара праз прыадчыненыя дзверы.

Я толькі год на фронце, але, можна лічыць, удзельнічаю ў вайне з самага пачатку. Так здарылася не толькі са мной. Інакш не магло сябе паводзіць маё школьнае пакаленне, якое толькі-толькі пачынала ўступаць у жыццё. Без ідэалаў, якія ўвабралі ў свае душы з дзяцінства, мы не мыслілі далейшага лёсу.

Нарэшце засынаю і я. Спім доўга. Недзе ў палавіне шэрага асенняга дня рыпае варотамі Філімонаў, і ў гумне чуецца яго насмешлівы голас:

— Уставайце. Прынёс учарашнюю вячэру, сённяшняе снеданне і абед...

Вестка харошая. Галоўнае — кухня блізка.

Двор гаспадара-літоўца неяк асабліва ўражвае. Не, ён не падобны на родны местачковы двор, на якім я вырас і пайшоў на вайну. Ён не надта багаты: два-тры хлявы, гумно з навіслым саламяным дахам-брылём, прыгрэбнік. Але менавіта гэтай сваёй звычайнасцю ён нагадвае далёкае роднае котлішча. Наша хата нават больш прасторная, прыгажэйшая, чым у літоўца-хутаранца.

На хвіліну запыніўшыся на ганку, складзеным з двух вялікіх валуноў, светлагрудай ластаўкай вылятае на двор дзяўчына. Па ўсім відаць, дачка гаспадара. Апранута яна ў чорную жакетачку і белую блузку. Дзяўчына акідвае імгненным позіркам нашы голыя да пояса паставы — мы якраз мыемся, голімся ля студні — і знікае ў чорнай прорве прыгрэбніка. Дзяўчына вабная. Сярэдняга росту, паўнацелая, з прадаўгаватым чарнявым тварам.

Як рукой здымае ўзаемнае пацвельванне, падколванне, сціхае рогат, жарты. Хто рашыў не галіцца, таропка пазычае ў таварыша лязо, намыльвае твар. Хто ўжо памыўся, пагаліўся, кідаюцца ў гуменца падшываць да гімнасцёрак новыя падкаўнерыкі.

Наш абед уяўляе сабой незвычайнае відовішча. На шырокім, узычаным у гаспадара стале стаяць два дзясяткі закураных кацялкоў, у якія хмуры падлобісты старшына Кіслякоў, мардвін па нацыянальнасці, толькі што наліў з тэрмаса супу. У накрыўках да кацялкоў дыміцца пшонная каша. Асобна на разасланай газеціне цэлая горка нарэзанага дробнымі шматкамі мяса.

На абед мы запрашаем гаспадара, гаспадыню — ціхмяную, са змізарнелым тварам жанчыну і іх маладую, чарнявую дачку. Гаспадыня і дачка адмаўляюцца. Гаспадар запрашэнне прымае. І не з пустымі рукамі прыходзіць у нашу палавіну хаты. Прыносіць збан самаробнага піва.

Да вайны я толькі раз ці два каштаваў піва ў нашай мястэчковай сталовай. Яно мне не спадабалася. Горкае, непрыемнае на смак. Але ў хутаранца піва інакшае. Ад кухля зваранага самаробным спосабам з уласнага ячменю піва імгненна зашумела ў галаве, і свет пачынае мне здавацца намнога весялейшым і прыгажэйшым.

Гаспадар, відаць, адчувае, што ў ягонай хаце не зусім звычайныя салдаты.

— Піва яшчэ дам,— гаворыць.— Толькі прашу — у прыгрэбнік самі не лезьце.

Слова гаспадар спраўджвае: двойчы ці нават тройчы бегае са збанам у прыгрэбнік.

Такога ўрачыстага абеду ці вячэры мы не памятаем. На Карэльскім перашыйку насельніцтва не было: адыходзіла ў бежанства. Пад Нарвай і Тарту маладыя эстонскія дзяўчаты нават размаўляць не хацелі з савецкімі салдатамі. У Беларусі пад Ваўкавыскам стаялі ў лесе: не было з кім знаёміцца.

У нас ёсць акардэон. Яго знайшоў Філімонаў яшчэ на Карэльскім перашыйку. У нейкай сіняй будзе на калёсах. Відаць, у ёй раз’язджалі франтавыя фінскія артысты. Доўга, надаедліва рыпаў Філімонаў на акардэоне, пакуль сяк-так навучыўся іграць вальс «Дунайскія хвалі», польку і штосьці яшчэ.

Цьмяна блішчыць пад столлю лямпа-васьмярык. Філімонаў іграе на акардэоне. Мы наперабой выдыбаем перад дачкой гаспадара, запрашаючы на танец, але яна рашуча адмаўляецца.

Амаль не ўмее гаварыць па-руску прывабная літовачка. Зважаючы на тое, што хутарок ляжыць на мяжы з Усходняй Прусіяй, я спрабую штосьці спытаць у яе па-нямецку. Але і па-нямецку чарнабровая прыгажуня не цяміць.

Назаўтра я ўважліва аглядаю сядзібу. Літоўскі хутарок сапраўды чымсьці няўлоўным падобен на роднае котлішча. На двары, як і там, дома, зялёная вільготная мурава, паркан, на каллі якога вісяць гладышыкі, коварат на агарод. На агародзе ігруша-дзічка, зусім голая вербалозіна, якая стаіць на мяжы капуснай грады з невялікім, зялёным яшчэ паплаўцом. Капуста ссечана, на паплаўцы я падымаю кавалак макраватай газеціны, хаваю ў кішэню. Чытаць нечага: у маёй палявой сумцы толькі нямецка-рускі слоўнік Неслера ў чорнай ледэрынавай вокладцы і вось такія шматкі нямецкіх газет, якія я дзеля практыкі старанна падбіраю.

Слоўнік я чытаю пастаянна: рыхтуюся да таго моманту, калі па абавязку службы буду дапытваць языка або палоннага. Нямецкі тэкст у газетах, кнігах я чытаю някепска. Яшчэ ў першую ваенную зіму я пачаў чытаць нямецкія газеты. З гаворкай — горш. Практыкі ў мяне фактычна не было ніякай.

Назаўтра я разглядваю кавалак нямецкай газеціны. Відаць, у гаспадара гэтак жа стаялі нямецкія салдаты, як цяпер стаім мы. Справа звычайная, і не гэта мяне ўражвае. Моцна ўражвае тое, што ў абрыўку газеты якраз ідзе гаворка пра родныя мясціны. Змешчана паведамленне пра бамбёжку шэрага чыгуначных вузлоў, і ў іх ліку называецца местачковая станцыя. Калі гэта было? Відаць, у пачатку летняга наступлення беларускіх франтоў. Фронт быў тады ад мястэчка кіламетраў за трыццаць.

Вось так. Як бы існуе нейкая таямнічая сувязь мясцін і часоў. На закінутым літоўскім хутарку я даведваюся пра нягоды, якія перанесла роднае паселішча. Бо пра бамбёжку не пісалі ні бацька, ні сябры і знаёмыя. Ашчаджалі мяне.

Некалькі дзён мы раскашуем на закінутым пад самую нямецкую граніцу літоўскім хутарку. Мы чысцімся, латаемся, прыводзім у належны выгляд амуніцыю. Бо калі яшчэ надарыцца такая, як цяпер, магчымасць. Тым болей што полк папаўняецца.

Суседні хутар большы, атулены прысадамі, і доўгая адрына з-за дрэў выглядвае. Гаспадар гаворыць, што там быў памешчыцкі маёнтак. Да прыходу Саветаў і пры немцах. У маёнтку размешчана стралковая рота нашага палка, якая цяпер прымае папаўненне.

Салдат з гэтага папаўнення — шчуплы чарнявы, у новенькім шынялі, жоўтых англійскіх чаравіках — забрыдае на наш хутарок. Ягонае вымаўленне адмысловае. Аказваецца, гэта малдаванін. Малдавію вызвалілі, правялі мабілізацыю. Салдат заскочыў да нас разжыцца тытуню. Гаспадар хутарка, аднак, не курыць, таму і тытуню не садзіў.

Замаркочаны малдаванін збіраецца адыходзіць. Я даю яму тры папяросы.

Госць здзіўляецца: звычайны салдат курыць папяросы. Не зусім звычайны, тлумачу я. З'яўляюся перакладчыкам палка, а гэта афіцэрская пасада.

Малдаванін узрушаны. Ён таксама ведае нямецкую мову, выкладаў яе ў школе. Салдат запытальна глядзіць на мяне.

Чым магу я яму дапамагчы? Два перакладчыкі ў палку не патрэбны. Дый не так проста стаць перакладчыкам. Асабліва чалавеку, які быў у акупацыі. Я ж не проста жыў пры немцах. Памагаў ваенным разведчыкам-парашутыстам, быў у партызанах. Ды і прызначылі мяне перакладчыкам пасля таго, калі Карэльскі перашыек я прайшоў у складзе ўзвода пешай разведкі.

Малдаванін яшчэ два ці тры разы завітвае. Я выдыбаю з ім па асеннім полі, вяду размовы. Раю прасіцца ў разведку. Скажы, маўляў, што ведаеш нямецкую мову і можаш прынесці ў разведцы большую карысць.

Некалькі разведчыкаў адчайна ўлягаюць за прыгожай літовачкай. Асабліва стараюцца Філімонаў і Маскоўскі, звышштатны ад'ютант афіцэра разведкі Канатнікава. Дзяўчыне заляцанні — па ўсім відаць — падабаюцца. Расчырванелая, узбуджаная, яна носіцца па двары, кідаючыся то да студні, то ў прыгрэбнік, то на агарод. Перавагі, аднак, ніводнаму з кавалераў не аддае. Ёй проста па сэрцы любоўная гульня.

На захадзе пачынае грымець. Гарматы, не спыняючыся, равуць некалькі гадзін. Затым гул аддаляецца. Вечарам

заходні край неба афарбоўваецца ў крывава-чырвоны колер. Пачалося — відаць па ўсім — наступленне на Усходнюю Прусію, на тую зямлю, адкуль вайна да нас прыйшла.

Яшчэ праз дзень мы пакідаем хутарок. Так добра, як тут, нам, здаецца, нідзе не будзе. Зноў калона, марш, кароткія прывалы. Грымоты наперадзе, мы іх даганяем.

Характар мясцовасці паступова мяняецца. Хутаркі саступаюць месца вёсачкам, якія вынікаюць то ў зарослых драбналессем ярах, то на пясчаных узлобках. Страшэнна бедныя, занядбаныя гэтыя вёсачкі. Пакрытыя саломай хаткі, падслепаватыя аконцы, голыя, як гакі, двары не агароджаны ні парканамі, ні хоць бы плятнямі.

Вечарам калона ўзбіраецца на седлавіну пагорка. З-за суцэльных калматых воблакаў на некалькі хвілін выбіваецца нізкае асенняе сонца, неяк злавесна асвятляючы густой барвовай чырванню голыя бярозавыя пералескі. Нібы кроўю засвяціліся шыбіны маленькіх хатак, а ў ярах, нізінах між тым згушчаецца змрок.

На самой седлавіне пагорка — невялікая вёсачка. Такая ж бедная, убогая, як астатнія. У вёсачцы — начлег.

Мы заходзім у нізенькую хаціну. Падлога земляная, палову памяшкання займае вялікая печ, пры ёй драўляны палок, на якім паўзверх збэрсанай саломы валяюцца ірваныя дзяружкі. Яшчэ голы стол ёсць у хаціне і такія ж голыя лавы, якія цягнуцца ўзбоч даўно не беленых сцен.

Смірноў просіць саломы, каб разаслаць на падлозе і, акрыўшыся плашч-палаткай, пераначаваць. Але ў гаспадыні, худой, змізарнелай, на якой спадніца вісіць як на калку, саломы няма. Няма нічога: ні каровы, ні свінні, ні нават курыцы. Толькі трое ці чацвёра замурзаных дзяцей, якія спалохана і насцярожана глядзяць з печы на няпрошаных гасцей.

Мы выходзім на агароды і прыносім па бярэмку саломы.

НЗ на марш нам не выдавалі, а кухні адсталі. Між тым на свеце канец сорак чацвёртага года. Не пакарміць салдата ў сорак чацвёртым — ЧП. Старшыны пабеглі па хатах. «Дайце што-небудзь на вячэру, заўтра аддамо...» Здолелі тым часам здабыць толькі па чатыры печаныя бульбіны на чалавека. Як

жа тут жывуць людзі? Наперадзе зіма, а ў іх ужо цяпер, восенню, нічога няма. Пуста і гола.

Мы кідаемся развязваць рэчавыя мяшкі. Але і мы небагатыя. Знаходзім некалькі драбкоў цукру, сухароў, кавалак шпігу. Гэта аддаем дзецям. Смірноў ахвярue дзецям нават губны нямецкі гармонік, на якім сяк-так вытылінгвае «Кацюшу».

Гаспадыня размаўляе па-польску. Я, паколькі з'яўляюся беларусам, збольшага польскую гаворку разумею. Смірноў, астатнія разумеюць горш. Але і яны з тутэйшымі людзьмі неяк згаворацца.

Полк пад Сувалкамі. У кутку, дзе сыходзіцца мяжа Польшчы, Літвы і Усходняй Прусіі.

Салома трохі макраватая. Але мы накрылі яе плашч-палаткамі, паляглі спаць. Перад вайной я якраз чытаў кнігу пра Першую сусветную вайну. Падзеі адбываліся пад гэтымі самымі Сувалкамі, Гумбіненам, на Мазурскіх балотах, дзе загінулі арміі Самсонава і Рэненкампфа.

За час знаходжання на фронце я наглядзеўся на смерць. Проста пакідае чалавек гэты свет. Пайшоў у атаку, і яго забіла. У акупацыі чалавек паміраў цяжэй. Яго арыштоўвалі, катавалі, затым расстрэльвалі. У вёсках жывымі палілі людзей. Бацькоў разам з дзецьмі. Мне, вядома, пашанцавала, хоць на вайне месца сабе не выбіраюць. У наступленне разведчыкі ходзяць у агульным ланцугу, гэтак жа, як і ўсе, штурмуюць доты, дзоты. У час наступлення на Карэльскім перашыйку маіх таварышаў выкасіла амаль усіх. Я вось застаўся.

Я не думаю пра смерць. Здаецца, ніхто не думае. Мы не спадзяемся застацца жывымі, бо вельмі жорсткая ідзе вайна. У сучаснай вайне матораў, жалеза, кулямётаў чалавек як асоба, адзінка мала што значыць. Вельмі многа прыдумана розных сродкаў ягонага знішчэння.

З лістоў, якія я атрымліваю з дому, ведаю, што і на другіх франтах многа хлопцаў загінула. Вынішчаецца цэлае пакаленне.

Назаўтра зноў па ўзгорках і далінах калыбаецца-хістаецца доўгая, як вужака, калона. Ноччу з'явіліся кухні, мы

падмацаваліся, з’еўшы адразу ўчарашні абед, вячэру і сённяшняе снеданне.

Калоны, калоны... Яны прайшлі праз наша дзяцінства, падлеткавыя гады, дагналі ў юнацтве. Куды вядуць бясконцыя калоны, што азначаюць?

На Першамайскае свята калона, большасць якой складалі школьнікі, выдыбала па галоўнай местачковай вуліцы ў самы канец яе, потым паступова разбрыдалася. У той частцы мястэчка, куды кіравала калона, нічога прывабнага не было. Пыл, старыя, вясковага выгляду хаты з малымі вокнамі, вузкія двары, бабулі з цюрбанамі-хусткамі на галовах, якія з-пад рукі глядзелі на гаманлівую талаку.

Калонамі старэйшыя школьнікі кіравалі ў лес на ваенныя гульні. У тых шэрагах было многа радасці, маладога запалу, задзёру. Жыццё, здавалася, шырока расчыняе дзверы перад маладым, поўным сіл, імпэту пакаленнем.

Партызанскія калоны мелі іншы характар. У атрад збіліся людзі, якія ўсяго наглядзеліся: палону, акружэнняў, голаду, холаду, галоўнае — не раз пазіралі ў вочы смерці. Я трапіў у партызаны, калі фронт імкліва набліжаўся да Дняпра. Бліжнія тылы нямецкай арміі прачэсвалі ўласаўцы, выганялі партызан з лясных, балотных вёсак. Добра памятаю адзін такі паход, калі халоднай восенню ўласаўцы выгналі нас з абжытай, з прасторнымі хатамі вёскі на асушанае, зарослае бадыллем балота, дзе на скорую руку мы пабудавалі саламяныя шалашыкі. Дзьме халодны, сіберны вецер. Палавіна партызан у пінжачках, світках, чырвонаармейскіх шынелках. Нямала людзей і ў падбітых ветрам сіне-зялёных нямецкіх шынялях — з ліку тых, што ўцяклі з нямецкіх рабочых каманд, падсобных воінскіх часцей. Нібы бачу аднаго такога, худога, ссінелага ад холаду ўцекача, які, відаць, добра пакаштаваў нямецкай кашы. Партызаны называлі сябе «язэпавымі сынамі», і вось гэты, безумоўна, надзелены дарам артыста інсургент усю дарогу па балотных імшарах усхваляў свайго бацьку, гэта значыць, Сталіна.

— Вялікі ў мяне бацька. Мудры, геніяльны. Дзякуючы яму пабачыў трохі свету. Адстрэльваўся ад немцаў ад Львова да Кіева. Пад Кіевам патронаў не хапіла. Ды і нагу мне немец

пашкодзіў: сорамна прызнацца — у пятку трапіў. Пятка, аказваецца, чалавеку патрэбна. Не здолеў на раненай назе з двайнога Кіеўскага акружэння выбрацца... Там, кажуць, паўтара мільёнчыка нашага брата засталося. Добра, што ўбіўся ў повары. Повар я ніякі, але для лагера самы раз. У катле варыў нячышчаную бульбу, бручку, рэпу. Ад'еўся на рэпе — і ў лес. У немцаў вось гэты шынелак прыхапіў. Дзякуючы мудраму бацьку. Памятаў яго запавет: ні ў якім становішчы не губляць галавы...

У калонах мы бадзёра маршыравалі і ў запасным палку. Ды толькі маладзейшыя партызаны (у іх ліку я) трапілі ў запасны полк. Са старэйшымі абышліся нялюдска. Як толькі мы злучыліся з Чырвонай Арміяй, многіх з іх, нават не абмундзіраваных, не абучаных, кінулі на нямецкія кулямёты. Як бы гэта былі не нашы людзі.

Да вайны ў армію праводзілі з гармонікамі. Мне прыйшлося ісці пад іншую музыку. Як толькі з эшалона на станцыі Фаянсава выгрузілася калона мабілізаваных і кіравала ў ізалятар запаснога палка, у цёмны яловы лес, на яе люта накінуліся бабы-гандляркі.

— Паліцаі, дэзерціры праклятыя!..

— У баб пад спадніцамі хаваліся...

— Нашы галовы склалі, а яны толькі ідуць.

— Будуць хваліцца, што ваявалі...

У чымсьці бабы-гандляркі былі недалёкія ад праўды. Пачыналася трэцяя ваенная зіма, і многія тысячы мужчын загінулі. Толькі не ведалі станцыйныя гандляркі, што людзі ў абшарпаных, падраных вопратках, якія выгрузіліся з эшалона і толькі цяпер ішлі ў армію, таксама сёе-тое пабачылі. Большасць з іх у армію ішлі другі раз, зведалі акружэнні, палон, уцяклі з-пад расстрэлу, гарэлі ды не згарэлі ў партызанскіх вёсках, якія карныя нямецкія атрады палілі разам з людзьмі.

Бабы-гандляркі дарэмна абражалі будучых воінаў. Бо за год, які мінуў з таго зазімку, большасць былых палонных, акружэнцаў, партызан таксама паспелі скласці галовы.

У запасным палку нас мала вучылі ваеннай справе. Пераважна прымушалі насіць бярвенні для будаўніцтва новых баракаў. Кармілі — горш не прыдумаеш. Таму ўсялякімі

праўдамі і няпраўдамі воіны тут затрымліваецца не жадалі, ірваліся на фронт.

Пасля начлегу ў занядбанай польскай вёсачцы нам выдаюць НЗ. На два дні. Ісці, значыць, ды ісці.

Наперадзе ледзь чутна грыміць. Нібы раскаты далёкай навальніцы.

Полк настолькі абнавіўся, што, акрамя разведчыкаў, дзяўчат з гаспадарчага ўзвода, санітараў, я амаль нікога не ведаю. Аднойчы мільгануў знаёмы малдаванін, які выкладаў нямецкую мову, але я яго не паспеў аклікнуць. Вядома кожнаму: у стралковым палку людзі доўга не затрымліваюцца. Два-тры баі — і роты, батальёны папаўняюцца больш як напалавіну.

У сапёрным узводзе быў адзін такі шчаслівчык Пеця Самахвалаў, якога ўсе ведалі. Бо два гады праслужыў у палку, меў ордэн, два медалі. Каржакаваты, з шырокім добрым тварам, ён заўсёды і ўсім усміхаўся. Пецю любілі: ён нібы выпраменьваў з глыбіні сваёй істоты нейкую незвычайную дабрыню, спагаду да кожнага.

Праўду гавораць: сапёр памыляецца толькі адзін раз. Каля ракі Вуоксы Пеця і зрабіў тую адзіную памылку. Залішне многа было каля Вуоксы мінных палёў.

Зрэшты, ісці лягчэй, чым па літоўскіх палях і раўнінах. Раз-пораз нас даганяюць калоны танкаў, самаходных установак, грузавікі з прычэпленымі, прыкрытымі брызентам «кацюшамі». Неба шэрае, асенняе. Самалёты ў такім небе не лятаюць.

Бачачы мора тэхнікі, мы весялеем. Перагукваемся з танкістамі, якія, высунуўшыся з люка, дыхаюць свежым паветрам, з абслугай «кацюш», што раскашуе, седзячы ў кузавах грузавікоў.

Непрыкметна наступае ноч. Марш працягваецца. Шаша як бы расшыраецца, замест вышчарбленага бруку пад нагамі асфальт. Не адразу да нас даходзіць, што крочым па Усходняй Прусіі. Наперадзе афарбаванае ў барвовыя сполахі неба. Трасуць паветра ледзь чутныя, дальнія грымоты.

— Пагуляем з немачкамі,— гаворыць Смірноў.— А што — фрыцы многа нашых дзевак папсавалі. Возьмем рэванш...

Побач раздаецца рагаток Філімонава:

— Што ты можаш? Будзеш на мігі паказваць. Вось перакладчык словамі растлумачыць, чаго хоча. Як сыр у масле будзе купацца...

— Словы, брат, тут не трэба. Мігі лепей...

Мяне, можна лічыць, даўно ва ўзводзе прынялі. Злёгку падтрунньваюць, падпускаюць шпількі. Але клімат ва ўзводзе такі, што пра сур'ёзнае тут стараюцца не гаварыць. Усё прапускаецца праз жарт, насмешку. Толькі ноччу, калі шэпчуцца адзін з другім хлопцы, размовы даверлівыя і сур'ёзныя.

Колькі я думаў пра Германію, стараючыся вытлумачыць для сябе, хто і што такое немцы, а цяпер іду зусім спакойна. Не адчуваю ніякай урачыстасці моманту. Вось прыйшлі мы ва Усходнюю Прусію. Ну і што?..

На нейкай лугавіне аб'яўляюць прывал. Бо зноў па шашы грыміць тэхніка. Ва ўзводзе бывалых разведчыкаў засталося не шмат. Смірноў, Філімонаў, Мерзлякоў, старшына Кіслякоў. Узводу пашанцавала ў тым сэнсе, што баі на Карэльскім перашыйку закончыліся ў пачатку лета, таму са шпіталя, размешчанага ў гарадку пад Ленінградам, у глыбокі тыл нікога не адпраўлялі. Параненыя разведчыкі вярталіся ва ўзвод. Сярод іх курносы велікан Мерзлякоў, старшына Кіслякоў. Было яшчэ няўдалае наступленне пад Вуоксай. Там і мяне цяжка кантузіла. Я таксама вярнуўся ў полк і магу лічыць сябе бывалым салдатам.

З новага папаўнення ёсць таксама цікавыя асобы. Старшына Мігайла, напрыклад. Ён пахваляецца: быў лётчыкам, капітанам, яго нават прадстаўлялі да звання Героя Савецкага Саюза. Але ў маскоўскім рэстаране ўчыніў незвычайны скандал Мігайла, і ягоныя рэгаліі, заслугі пайшлі псу пад хвост.

Мігайла, відаць, хвалько. Чалавек, аднак, някепскі, кампанейскі і ва ўзводзе прыжыўся. Навічкі ў баях не ўдзельнічалі. Сярод іх сяржант Хварасцянкін, худы, змізарнелы, прызваны на трэцім годзе вайны, з якім я ў пачатку лета пасварыўся, а потым пасябраваў.

На лугавіне мы праводзім рэшту ночы, бо паток тэхнікі на шашы не спыняецца. Нарэшце наступае світанне і перад вачамі малюнак дзівосны. Зусім іншы край, чым была Літва і асабліва паўночна-ўсходні куток Польшчы. Паблізу пасёлак,

які, нягледзячы на вайну, ацалеў. Ці вёска гэта, ці гарадок — не адрозніш. Дамы дабротныя, цагляныя. Суцэльны мур — куды ні кінь вокам. Дагледжаныя, роўныя, як талерка, палі. На некаторых зелянее азіміна.

Па тым, што зямля на полі чорная, я здагадваюся: асушанае балота. Бо вырас у балотным краі. Але ніякіх калектараў, магістральных каналаў няма. У адным месцы навалена гара чырвоных гліняных труб. Я чуў: ёсць падземная меліярацыя, якая называецца дрэнажом. Відаць, дзякуючы дрэнажу асушана гэтае балота.

Адмеціны вайны сям-там відаць.

На полі мноства варонак, напалавіну напоўненых вадой. Ад снарадаў, бомбаў, мін. Высяцца чорныя дрэвы з паламанымі стваламі. Наўзбоч заасфальтаванай шашы разбітыя, скінутыя на абочыну буды, фуры з гумавымі коламі. Стаяць два абгарэлыя танкі: нямецкі, з вялікім крыжам на борце, і наш Т-34.

Шэрае неба і такі ж шэры непрывабны далягляд. Аднастайная мураваная забудова. Відаць, летам, калі будынкі ахінае зеляніна, малюнак весялейшы.

Я дзіўлюся: маючы дабротныя, каменныя паселішчы, немцы палезлі на драўляныя, саламяныя польскія, літоўскія, беларускія вёскі. Хацелі новай жыццёвай прасторы? Канчаецца тым, што і са сваіх вёсак паўцякалі. Бо ў пасёлку ніводная жывая душа не варушыцца.

Загаду на марш няма. Але каманда жорсткая: нікуды не адлучацца. Тым часам некаторыя байцы з кацялкамі ў руках шыбуюць да пасёлка. На вуліцы воданапорная калонка. Вакол яе гурт байцоў.

Нейк непрыкметна ўцягваемся ў пасёлак. Загаду на марш няма. Значыць, начальства нешта прыдумала.

Так і ёсць. Пасля снедання аб’ява: выдадуць зімовае абмундзіраванне. Гэта добра. Гэта азначае: у пасёлку будзем начаваць.

У дадатак да шыняля я атрымліваю фуфайку, ватнія штаны, дзве пары бялізны, харошыя байкавыя анучы. Яшчэ кавалак мыла, катушку нітак, іголку, іншую драбязу.

Цяпер не замерзну. Бо мінулую зіму мёрз. У запасным палку, выпраўляючы на фронт, фуфаек, ватніх штаноў не

выдавалі. Шынель мне трапіўся добры, з тоўстага валенага сукна. Гімнасцёрку, аднак, нікчэмную палучыў: з бязевага матэрыялу, без кішэнькаў, і такія ж кароткія, у абцяжку штаны. Дужа мерзлі калені і лыткі ў тых штанах.

Мы займаем асобны дамок. Някепска ў ім жылі тутэйшыя баўэры. У мураваным з вузкім дворыкам дамку паспела перавярнуцца процьма народу. Але і нам сёе-тое засталося. Шустры Філімонаў нырае ў мураваны скляпок, затым у падвальчык пад домам, нарэшце, на гарышча і вяртаецца, трымаючы ў руках два шкляныя слоікі са шмальцам. Такога багацця мы яшчэ не бачылі. Мы намазваем лусты хлеба свіным салам і ядзім у ахвоту.

Я гляджу на каменныя дамкі, агароджу, акуратныя палісаднікі, у якіх яшчэ познія астры цвітуць, забрукаваную вясковую вуліцу, і мяне поўняць супярэчлівыя пачуцці. Не галодныя немцы. Няпраўду пішуць у газетах. Тутэйшага сытага баўэра доўбняй не заб'еш. Маючы добрую забудову, дарогі, высокую культуру сельскай гаспадаркі, немцы палезлі на Польшчу, Расію, дзе жыццёвы побыт бяднейшы: хаты драўляныя, добрых дарог мала, дрэнажу, як на тутэйшым балоце, і ў паміне няма. У блакаду эсэсаўская дывізія больш чым на палавіну спаліла мой раён. Драўляных вёсак, дзе цесна збіліся, нібы гурт авечак, хаты, эсэсаўцы не шкадавалі. Калі ўдавалася, палілі іх разам з людзьмі. Ясна: глядзелі на гэтыя вёскі, на іх людзей, як некалі еўрапейскія заваёўнікі на тубыльцаў Афрыкі ці Амерыкі.

Недзе і радасць расце ў маёй душы. Не такая ўжо Расія драўляная і саламяная. Пачынаючы ад Масквы, Сталінграда, пагнала нямецкіх ваякаў назад. Перакінула заводы на ўсход, у Сібір, выпускае нават больш, чым немцы, танкаў, самалётаў. Паўтара гады адступала Чырвоная Армія, і за паўтара гады Расія вярнула захопленую ворагам зямлю.

Толькі людзей Расія страціла, відаць, больш, чым Германія. Бо лёгка аддадзеныя ў сорак першым гарады — той жа Мінск, Бабруйск, Арол, Бранск, Харкаў — прыйшлося браць вялікай крывёю.

Вайна — асаблівы стан духу. Людзі на вайне ні на хвіліну не забываюць, што яны на вайне, што дарога да дому, да сям'і ляжыць праз вайну, праз бai і кроў.

Яшчэ ў дзяцінстве я чытаў кнігу пад назвай «В тумане тысячелетий». Аўтара не памятаю, ды, відаць, не надта славуты быў аўтар. Але думку, якая вынікала з прачытанага, я добра запомніў. Вайна — радасць, сцвярджала кніга. Яна самы натуральны стан чалавека. І некалькі радкоў з верша, які змешчаны ў кнізе, я таксама запомніў:

Война со славой неразлучна,
Нет в мире лучше дел войны,
Кто не был ранен, прожил скучно,
Как осень, дни его темны.

Вось так. Можа, тысячу гадоў назад, калі, ваюючы, людзі пускалі адзін у аднаго стрэлы з лукаў, біліся мячамі, прыкрываючыся нацягнутымі на цела стальнымі кальчугамі, шчытамі і шлемамі, так і было. У такім баі рашаючае значэнне меў чалавек, яго сіла, спрыт, смеласць, вынаходлівасць, адвага. Але з таго часу, як загрымелі гарматы, застракаталі кулямёты, завылі міны, з дзікім візгам сталі падаць на галовы людзей бомбы, характар вайны перамяніўся. Цяпер нават смелага, вынаходлівага чалавека можа разарваць на кавалкі выбухам бомбы, міны, снарада. Я бачыў гэта многа раз. Перад сцяной жалеза, агню, суцэльных выбухаў мін, снарадаў, калі кожны метр зямлі прашываецца асколкамі, кулямі, цяжка ацалець чалавеку. Яго або заб’е, або параніць. Усё залежыць ад выпадку. Або ад лёсу. Хто ведае. Хоць перад лёсам скарацца не трэба. У першую чаргу гінуць людзі, якія на вайне губляюцца, трацяць галаву.

Фашысты таксама лічаць вайну нармальным жыццёвым станам. У нямецкіх газетах гэтая ідэя настойліва прапагандуецца. Аднак я не веру гэтаму. Я чытаў раман Рэмарка «На Заходнім фронце без перамен». Яго старонкі дыхаюць пракляццем вайне. Бо і там чалавек пастаўлены перад сцяной перашкод, якіх асабіста адолець не можа. Ён сядзіць у акопе і чакае смерці. Гэтае чаканне і ёсць сучасная вайна...

Але і на гэтай вайне ёсць, аднак, рыцары смерці. Я бачыў іх. У маім мястэчку ў час акупацыі выгрузілася з эшалонаў эсэсаўская дывізія. Яе роты, батальёны, палкі

расцякліся па навакольных вёсках. І праз дзень-два падняліся ва ўсіх напрамках у сінім бязвоблачным небе дымы: эсэсаўцы палілі вёскі. Не проста палілі — разам з людзьмі, калі іх захоплівалі. Супраціўлення салдаты смерці не сустракалі. Як не сустракалі яго апранутыя ў чорныя мундзіры, з адным толькі пагонам на плячы шуцманы з атрада СД, якія білі палкамі зняволеных, трушчылі ім рэбры, косці, а пасля бязлітасна расстрэльвалі. Гэта, відаць, і ёсць звышчалавекі. Не бачачы пагрозы асабістаму жыццю, яны ідуць па касцях і чарапах. Толькі забываюць яны, што чалавек не жывёліна. Страхам не запалохаеш. І ёсць другія людзі, якія свядома ідуць на смерць. Людзі ідэі. Гэта партызаны, падпольшчыкі, наогул людзі, не скораныя духам. Іх многа, многія тысячы.

## III

Загад на марш. Ранейшай, суцэльнай калоны няма. Цяпер ясна: полк у рэзерве. Калі можна сказаць так, у другой лініі наступлення. Бо батальёнам дадзены канкрэтныя арыенціры, і кожны з іх ідзе сваёй дарогай.

Мы, як у пошуку, выцягнуліся ў ланцужок. Ідзем, паціху бразгаючы загорнутымі ў парцянкі аўтаматнымі дыскамі. Нямецкія вёскі блізка адна ад другой. Разбурэнняў мала. На агародах забітыя разбухлыя, як горы, каровы. Хто іх пабіў? Навошта? Паўзбоч шасейкі сляды паспешлівых уцёкаў мясцовага жыхарства. Валяюцца скінутыя ў кювет фуры, пярыны, падушкі. У адным месцы на ўзбочыне шашы стаіць у драўлянай кадцы фікус.

Чым далей мы ідзем, тым болей трапляецца калымажак, веласіпедаў, бідонаў, гаршкоў, рознага шкумацця. Паблізу быў, відаць, танкавы бой. На полі, сярод зялёнай руні, стаіць некалькі абгарэлых танкаў — хобатамі гармат яны ўткнуліся ў зямлю, і не пазнаеш, нашы яны ці нямецкія.

Можна колькі хочаш, якіх хочаш набраць боепрыпасаў. Безліч цынкавых скрынак з патронамі, штабеляў снарадаў, мін, вінтовак, аўтаматаў. Узбочныя канавы завалены процівагазамі. Бой быў учора ці пазаўчора. Нават трупы нямецкіх салдат не прыбраны. Яны пачынаюць разбухаць.

Грымоты наперадзе глухія, невыразныя, як быццам наступленне выдыхаецца.

Вечарам мы размяшчаемся ў невялікім гарадку. Тут адна вуліца з бакавымі правулкамі, круглая, забрукаваная дзікім каменем плошча, высозная, складзеная з чырвонай цэглы кірха, ратуша з круглай вежай. На вуліцах падушкі, пярыны, скруткі адзення, пакінутыя павозкі.

У шэрым небе выразна вымалёўваюцца цёмныя вершаліны голых дубоў. Краявід прыгнятае. Залішне правільна размеркаваны будынкі, двары, вуліцы. І гэты гарадок мала кранула вайна. Нашы, відаць, узялі яго з ходу.

Другі эшалон не першы. Не вельмі цяжка наступаць у другім эшалоне. Мы толькі баімся, што хутка станем пярэднім ланцугом. Бо жалезабетонных умацаванняў, дотаў, дзотаў мы яшчэ не бачылі. А яны ёсць ва Усходняй Прусіі. І ці не нам іх прыйдзецца браць?

Мы нервуемся. Цяжка ваяваць, не бачачы праціўніка, не ведаючы, дзе ён, якая ў яго сіла. Нанач выстаўляем вартавых. Самі не спім. Варочаемся, уздыхаем.

Прадчуванне не падводзіць. Сярод ночы ў пакой улятае вартавы Мерзлякоў.

— Немцы!

Якія немцы, адкуль немцы? Ёсць жа першы эшалон, перадавая лінія. Не было чуваць ніякіх выбухаў.

Мы выскокваем на двор. Цяпер ёсць выбухі. Яны зліваюцца ў суцэльны гул. Снарады, міны ірвуцца на вуліцы, у дварах. Гарадок накрыты шчыльным агнём. Некалькі дамоў гарыць.

На вуліцы мітусня, неразбярыха. Ляцяць фурманкі, артылерыйскія двухколкі, машыны з прычэпленымі гарматамі. Паніка. Ніхто не збіраецца супраціўляцца.

Смірноў ведае вайну з сорак другога года. Таму не губляецца.

— За мной! — гучыць яго жорсткая каманда.— Не разбрыдацца!

Праз бакавую вулачку мы вырываемся на поле. Тут таксама тлум, крык, гоман. Але няма такога шчыльнага натоўпу, як на вуліцы. То ў адным, то ў другім месцы вынікаюць вогненна-светлыя сполахі выбухаў.

Нехта адчайна крычыць:

— Танкі!

Дзесьці сапраўды чуваць натужны рык матораў, лязгат гусеніц.

Неба цёмнае, злавеснае. Ні зорак на ім, ні месяца. Гарадок гарыць, асвятляючы чорнае поле. Мы зусім недалёка ад яго адбегліся.

— Лажыся! — зычна загадвае Смірноў.— Падрыхтаваць гранаты!..

Мы нямеем. Мяне апаноўвае жах. Што значаць некалькі гранат, якія ёсць у нас, супраць танкаў? Калі нямецкія танкі прарвуцца, то магчыма акружэнне. За ім палон. Гэта жахліва: апынуцца ў палоне ў канцы сорак чацвёртага года.

Мы ўскокваем, бяжым, зноў падаем на зямлю. Так некалькі разоў. Ахоплены агнём гарадок ужо далекавата.

Аднекуль з глыбіні пачынае біць наша артылерыя. Малайцы артылерысты! Снарады шасцяць над нашымі галовамі і разрываюцца за намі, дзе вурчаць танкі. Здаецца, загарэўся адзін танк. За ім — другі. Ахопленыя агнём танкі нібы яркія факелы ў цемені поля.

— Сволачы! — чуюцца паблізу сярдзітыя галасы.— Дарваліся да Германіі. Увесь полк п’яны. Таму і немцаў прахлопалі...

Гэта артылерысты. Яны ўстанаўліваюць свае саракапяткі на прамую наводку. Праз дзве-тры хвіліны таксама пачынаюць біць па танках.

Мы весялеем. Можа, і не прарвуцца нямецкія танкі. Бо заслона агню шчыльней і шчыльней.

Немцы б’юць з артылерыі, мінамётаў. Чуюцца крыкі, лямант параненых. Невыносна слухаць дзікае, якое раздзірае душу, іржанне параненых коней.

Скачкамі мы адбягаем далей і далей у тыл. Колькі цяпер часу? Цёмная асенняя ноч асвятляецца толькі выбухамі мін, снарадаў, вогненнымі пісягамі трасіруючых куль.

Мы не страляем, хоць аўтаматы трымаем напагатове. Куды страляць? Наперадзе нашы артылерысты.

Шквал страляніны наогул як бы прыціхае. Ненадоўга хапіла імпэту ў немцаў. Захапілі гарадок — і на тым.

Выходзіць, армія навучылася не толькі наступаць, але і адступаць. Бо ўжо нібы складваецца нейкая наша абарона.

Мы падымаемся, бяжым, зноў падаем у гразь. Здаецца, рана пачалі радавацца. Толькі танкаў не чуваць. А так немцы садзяць мацней і мацней. Не ўстаяла хліпкая абарона. Імчаць назад, у тыл, двухколкі саракапятак, якія толькі што стралялі па немцах.

Яшчэ шчыльней кладуцца міны, снарады, прыбліжаецца кулямётная траскатня. Выходзіць, няма ніякай нашай абароны. Або немцы падмялі яе. Зноў дзіка іржэ паранены конь. Параненыя байцы завуць санітараў. Якія тут санітары? Ніхто небаракам не дапаможа. Паніка не паніка, але кожны бяжыць на злом галавы. Мітусня, бязладдзе працягваюцца.

Няма магчымасці залегчы і страляць. Ні на акопчык не натрапляем, ні хоць бы на якую ямку.

Далёкі гарадок гарыць. Я ўсё-такі прыхапіў з сабой рэчавы мяшок, у якім пара бялізны, новыя байкавыя парцянкі, і сумку, у якой нямецка-рускі слоўнік. Захапілі б мяне ў палон з гэтым слоўнікам і што тады?

Па-ранейшаму невядома, дзе свае, дзе чужыя. Страляюць наперадзе, збоку, ззаду.

Смірноў не губляе галавы. Сам не можа разабрацца ў абстаноўцы, таму і нас не тузае. Проста мы далей і далей адбягаем у тыл. Што прыдумаеш другое? Гарадок ужо далекавата. Ён проста стаў найбольш яркай светлай плямай.

Мы сталі як заведзеныя. Падобныя да алавяных салдацікаў. Бо ўсю ноч адна і тая каманда: «Бягом!.. Кладзіся!.. Бягом!.. Кладзіся!» Выдадзеныя дзень назад новыя фуфайкі, ватнікі забруджаны нашчэнт.

Нібыта пад раніцу ідзе. На ўсходзе, куды мы бяжым, узнікае светлая палоска.

Я ўспамінаю, як вызвалялі роднае мястэчка. Партызаны тады якраз злучыліся з арміяй. Тая ноч чымсьці падобная на сённяшнюю. Аднак не меў я той позняй восенню ні шыняля, ні ватоўкі. Толькі летні пінжачок. Адчайна мёрз. Мы выйшлі на чыгунку на захад ад мястэчка, заляглі. Трэба было выкапаць хоць маленькі акопчык. Але не было чым. Мой сусед, мастак, меў пляскаты штых. Мястэчка, як цяпер нямецкі га-

радок, гарэла. У трох ці чатырох месцах. Пляскатым штыхом мастак нагроб невялікі горбік зямлі, каб льга было схаваць галаву. Так, прыціснуўшыся адзін да другога, мы ляжалі і дрыжэлі ад холаду да самай раніцы. Раніцай з лесу вынырваюць дзве нямецкія танкеткі. Бязлітасна прасуюць падобныя на краціныя гурбачкі неглыбокія партызанскія акопчыкі. Да мяне з мастаком танкеткі не даходзяць. Адна за другой падрываюцца на мінах, якія спакойна паставілі армейскія сапёры...

Мы па-ранейшаму адбягаем. Вярста за вярстой. Снарады. Міны як бы радзей сталі рвацца. Злева яшчэ грыміць бой. Відаць, там прарваліся танкі.

Мітусяніна нарэшце канчаецца. Наступае спакой. У небе ўспыхваюць ракеты. Ланцуг іх няроўны, ён віляе, пятляе. Асобныя ракеты нават ззаду ўзвіваюцца. На гэтыя тылавыя ракеты мы бяжым. Бо там канчатковае збавенне.

Вось і пабачыў я, што такое адступленне. На працягу адной толькі ночы мы ўцякалі. У сорак першым адступленне цягнулася тыднямі, месяцамі. Як адчуваў сябе той далёкі баец сорак першага года?

Мы нарэшце дасягаем паспешліва арганізаванай абароны. Байцы стаяць у нямецкіх траншэях, ацэментаваных, разгалінаваных. Толькі байніцы звернуты ў траншэях на ўсход. Гэта не так важна. Можна страляць і без байніц і адчуваць пад нагамі цвёрды грунт.

Пачынае світаць. Узмацняецца вецер, халодны, сіберны. Ён разганяе воблакі дыму, клубы туману, што згусціліся ў нізінах. Поле вайны... Як кінуць вокам, на ім перакінутыя двухколкі, гарматы з усунутымі ў зямлю хобатамі, ледзь заўважныя горбачкі нерухомых чалавечых цел. І дымы, дымы, нягледзячы на вецер...

Наш выгляд мізэрны, нікчэмны. Мы бледныя, знямажаныя, з сінякамі пад вачамі. Шынялі, фуфайкі, нават зімовыя шапкі, якія нам выдалі два дні назад, заляпаны граззю, завэдзганы да немагчымасці. Шынялі, ватоўкі, боты можна неяк абшмараваць. А вось штаніны ватнікаў, якія ў прамежках між нагамі сталі глянцава-гладкімі ад засохлай, нацёртай да

бляску гразі, відаць, не адчысціш. Бо не прасядзіш жа дзень ці два без штаноў. У салдата такога часу проста не будзе.

Забітых, параненых ва ўзводзе пешай разведкі няма. А вось тых, што прапалі без вестак, аж пяць чалавек. Чатыры навічкі з апошняга папаўнення і старшына Мігайла. Для ўзвода, у якім толькі дваццаць два чалавекі, многа. Ці ўтрымаецца на пасадзе памкамузвода Смірноў?..

Паўночны вецер прыносіць зіму. На вачах шэрхне зямля. Падмярзаюць, пакрываюцца тонкай скарынкай лужыны. Вецер гоніць па полі падмерзлае лісце, якое звініць, нібы шкляное.

## IV

Прарыў ва Усходнюю Прусію няўдалы. Наступленне прыпыняецца. Але шматок варожай зямлі мы ўсё-такі захапілі. Тут усё не так, як у Літве, Польшчы, у нашай Беларусі.

Полк у абароне. Разведчыкі, як звычайна, на назіральным пункце. Але на назіральным пункце мы толькі дзяжурым. Узвод размешчаны ў невялікім каменным пасёлку. Вёска гэта ці горад, сказаць цяжка. Хутчэй вёска. Бо мураваныя падвалы дамоў, скляпоў засыпаны бульбай. Буйнай, адборнай. Вёска мае Bäckerei (пякарню) і Gasthaus (гасцініцу). Ёсць нават цырульня, у якой цяпер завіхаюцца, ляскаючы нажніцамі і точачы на рэмені брытвы, пажылыя дзядзькі-салдаты.

Ціха ў вёсцы. Нават снарады не далятаюць. Бо і на фронце ціха.

Каменная вёска размешчана пад навіссю магутных разгалістых дубоў. Гэта мяне вельмі цешыць. Дубы звычайныя, знаёмыя, з чорнымі разгалістымі шатамі. Толькі на іх чамусьці няма буслянак. За вёскай лес, праўдзівей, пералескі: бярозкі, асінкі, маладыя дубкі.

Мы займаем двухпавярховы дамок. Пад дамком ацэментаваная квадратная яма, ледзь не даверху напоўненая бульбай. Бульбы многа. Еш колькі хочаш...

Большасць часу мы праводзім на назіральным пункце. Ён абсталяваны ў каменнай вежы млына. Млын, відаць, некалі быў вадзяны: побач пакрытае льдом азярцо, трохі далей за-

пруда, якая нагадвае жалезны мост. За запрудай нешырокая, звілістая рачулка.

Праз стэрэатрубу мы назіраем за нямецкай абаронай. Немцы ўмацоўваюць пазіцыі. Ноччу падвозяць цэментовыя блокі, каменне. Цэлыя груды іх ляжаць наўзбоч траншэй. Праз дзень кучы будаўнічых матэрыялаў знікаюць. Новыя вырастаюць у другім месцы.

Паблізу траншэй ляжыць шасейка. Па ёй часам прамчыць грузавік, праедзе фурманка. Звычайны вайсковы побыт. Кожную паўгадзіну я раблю запіс у журнале назіранняў. Хоць нічога асаблівага не адбываецца. Вечарам у разведданясенні я занатоўваю адзін і той жа вынік: праціўнік умацоўвае пазіцыі, праводзіць інжынерныя работы. Данясенне падпісвае памкамузвода Смірноў (з пасады яго не знялі, у ротах, батальёнах страты большыя), затым яно перадаецца пэнша другому, афіцэру разведкі Канатнікаву.

На дзень-два я прыходжу ва ўзвод. Тут нябачная за ўсю вайну раскоша. Кухары вараць бульбу, прыпраўляюць бульбяную кашу салам, маслам з дадпайка. Еш, хоць распеhave.ражыся. І мяса хапае. Палавіна ўзвода штодзень шастае ў пералескі. Выяўляць варожых лазутчыкаў. Лазутчыкі не трапляюцца, затое амаль кожны дзень хлопцы прыносяць забітую дзікую казу. Пералескі, аказваецца, з'яўляюцца асабістым запаведнікам Германа Герынга, рэйхпрэзідэнта Усходняй Прусіі і маршала нямецкай авіяцыі. Дзічыны ва ўласным запаведніку маршала процьма.

Я, калі надараецца магчымасць, чытаю нямецка-рускі слоўнік Неслера, выдадзены яшчэ ў трыццатым годзе. Я ўвесь час яго чытаю. Другіх кніг няма.

Я старанна падбіраю шматкі нямецкіх газет, лісты салдат, наогул усё, напісанае па-нямецку. Я мушу практыкавацца, удасканальвацца ў нямецкай мове. У газетным тэксце я разбіраюся няблага. Чытаю яго без слоўніка. Вядома, трапляюцца словы, якіх не ведаю. Але іх робіцца ўсё менш і менш.

«Языка», або палоннага, дапытваць мне не давялося. Таму такога моманту я проста страшуся. Я вывучыў на памяць дваццаць ці трыццаць фраз з нямецка-рускага размоўніка. «Як называецца ваша воінская часць?»; «Адкуль вы прыехалі?»;

«Колькасць людзей у вашай роце, батальёне, палку» і гэтак далей. Але начальнік штаба ці камандзір палка могуць задаць і другія пытанні і, галоўнае, трэба зразумець адказы немца. Гэта мяне пастаянна непакоіць. Таму я проста грызу слоўнік. У ім сорак тысяч слоў і, бадай, усе асноўныя я ведаю. За выключэннем тэхнічных і спецыяльных тэрмінаў. Бо нават іх рускага значэння не разумею.

Здараецца нечаканае. У полк прыводзяць старшыну Мігайлу. Яго затрымала баявое ахраненне, калі ён перабіраўся на наш бок. Мігайла страшэнна змізарнелы, з зарослым густой шчэццю тварам, замест шыняля, ватніка на ім падзёртыя лахманы.

Мігайлу вядуць у Смерш. У хуткім часе мяне выклікаюць у штаб палка.

Мной валодае страх, і я з няпэўнасцю перамінаюся з нагі на нагу перад дзвярамі пакоя начальніка штаба маёра Круташынскага. Толькі адзін раз маёр меў са мной размову як з перакладчыкам. Непрыемную для мяне. Гэта было яшчэ на Карэльскім перашыйку. Напаткаўшы начальніка штаба, я аддаў чэсць, і маёр, не адказваючы, мяне затрымаў. Начальнік штаба высокі, плячысты, з хударлявым інтэлігентным тварам.

— Я незадаволен вамі, Войцік,— сказаў маёр.— Вы перакладчык палка, а не ўзвода пешай разведкі. Зрабіце вывады...

— Ёсць зрабіць вывады,— адказаў я тады.

Але вывадаў не зрабіў. Усё засталося, як было. Я пісаў разведданясенні, афармляў за афіцэра разведкі Канатнікава шматлікія паперы. Што мне было рабіць у штабе палка? У салдацкай заплямленай гімнасцёрцы, малых, у абцяжку штанах, пагонах радавога, я мог быць у штабе толькі пасыльным.

І вось мяне нарэшце выклікаў начальнік штаба палка. На гэты раз ён ветлівы, запрашае садзіцца ў крэсла, дае мне ў рукі два ліcткі з надрукаваным на машынцы нямецкім тэкстам.

— Перакладзіце.

Я спачатку прабягаю вачамі тэкст. Ён мне зразумелы. Зрэшты, у нямецкіх газетах я пераважна чытаў паведамленні з фронту, таму ведаю вайсковую лексіку.

Сказ за сказам я перакладаю лісткі машынапісу маёру. Дакумент адрасаваны камандзірам дывізій, палкоў, іншых асоб-

ных часцей. Ён як бы падводзіць вынікі нядаўніх баёў, дае ўказанні на будучае. У паперы з грыфам «Сакрэтна» гаворыцца, што Чырвоная Армія, захапіўшы Прыбалтыку, не дамаглася канчатковых стратэгічных мэт. Нямецкія дывізіі выслізнулі з мяшка, які для іх рыхтавалі Саветы. Дапаможным ударам, які наносіўся па Усходняй Прусіі, савецкае камандаванне хацела лепш забяспечыць правядзенне аперацыі па захопе Прыбалтыкі і авалодаць пазіцыямі, каб адрэзаць усходнепрускую групіроўку нямецкіх войск ад войск цэнтральных франтоў. Але гэтая спроба правалілася. Нязначнае ўварванне бальшавіцкіх ордаў на нямецкую зямлю з крывавымі стратамі для іх ліквідавана. Дзеля гэтага была задзейнічана толькі частка сіл танкавага корпуса «Герман Герынг»...

Перавёўшы паперу, я запытальна гляджу на маёра. Адчуваю: з задачай справіўся.

— Падобна на прапагандысцкі матэрыял,— задумліва гаворыць маёр.— Ацэнка апошніх ваенных падзей вачамі немцаў. Каб падняць дух у сваіх войсках.

— Зраблю пераклад на паперы,— прапаноўваю я.

— Не трэба. Пашлем у штаб дывізіі. Няхай там разбіраюцца. Вам — дзякуй. Нарэшце пазнаёміліся. Буду рад з вамі супрацоўнічаць...

Я з палёгкай уздыхаю. Адчуваю: вырас у вачах начальніка штаба. А гэта ўжо нямала.

На другі дзень ва ўзвод з’яўляецца старшына Мігайла. У Смершы ён асабліва не затрымаўся. Мігайла паспеў ачысціць ад гразі шынель, наглянцаваць боты. І настрой у яго вясёлы.

Разам з Мігайлам я іду на назіральны пункт. Мы дабіраемся да перадавой звілістымі траншэямі, якіх хапае ледзь не да самага вадзянога млына, адкуль вядзецца назіранне. Ажыла пяхота. Траншэі маюць бакавыя адгалінаванні, на іх лініі трапляюцца прасторныя бункеры, байніцы якіх пераабсталяваны, перанесены на заходні, нямецкі бок. З бункераў нават тоненькія дымкі віюцца. Грэецца пяхота або нават варыць што-небудзь у кацялках. Дзіва няма: не сорак першы год, вайна нарэшце прыйшла на нямецкую зямлю. На варожым баку таксама віюцца такія дымкі.

Ноччу на самім назіральным пункце рабіць няма чаго. Там застаюцца двое з нас, якія любуюцца асвятляльнымі ракетамі. Астатнія з каменнай вежы млына спускаюцца ў невялікі пакоік, абсталяваны пад дзяжурку. Тут стаіць распаленая ледзь не дачырвана жалезная пячурка, якую мы апальваем тарфянымі брыкетамі. Усё цяпер ёсць у нас: бульба, бручка, буракі, казінае мяса. Я ахвярую дзеля агульнага інтарэсу дадатковы паёк.

На варту мяне болей не ставяць. Ужо вядома: выклікалі мяне ў штаб, і я там перакладаў сакрэтныя нямецкія паперы. Такім чынам, мой статус павысіўся. На Мігайлу, які прынёс гэтыя паперы, таксама глядзяць з павагай.

Пра тое, як правёў два тыдні ў нямецкім тыле, гаваркі Мігайла, аднак, не расказвае. Пасля вячэры адзывае мяне ўбок.

— Што-небудзь важнае ў тых паперах?

— Важнае. Паслалі ў штаб дывізіі...

Я, вядома, не хачу гаварыць Мігайлу, што звесткі, якія ён прынёс, можна вычытаць у нямецкіх газетах. Асабліва ў тых, якія выдаюцца ў самім Берліне.

Мігайла хінецца да мяне яшчэ з большым даверам.

— Ведаеш, хлусіў я. Наконт героя, бойкі ў рэстаране, штрафной роты. Не было рэстарана. Проста не шанцуе мне. Лётчыкам я быў, гэта праўда. Два разы збівалі немцы над сваёй тэрыторыяй. Прыходзілася пераходзіць лінію фронту. Першы раз перабраўся са стралком-радыстам. Лета было цёплае ды і да фронту недалёка. Другі раз — бяда здарылася зімой. Адзін застаўся жывы. Нагараваўся. Перайшоў фронт, і паслалі ў штрафную роту. Сведак няма, дакументаў няма… Лейтэнанцкае званне пасля штрафроты не вярнулі…

— Чаму вы адсталі ад узвода?

— Вінават. Зноў можна пасылаць у штрафбат. Знаёмы трапіўся. Такі самы небарака, як я. З лётчыкаў перабраўся ў пяхоту. Добра мы з ім выпілі. Не чулі ніякага нямецкага наступлення. Калі прадралі вочы — немцы на вуліцы. Схаваліся ў руінах і два дні носа не высоўвалі. Чакалі — нашы горад адаб’юць.

— Многа было палонных?

— Былі. Я ўсяго не бачыў. Вялі па вуліцы. Невялікімі групамі.

Расказваючы, Мігайла цяжка дыхае, глытае сліну. Яго голас дрыжыць. На трэцюю ноч ён з таварышам вылезлі з руін і адразу напароліся на патруль. Разбегліся ў розныя бакі. Да гарадка, як і тут, ушчыльную падступае лес. Не зусім лес — пералескі. Мігайла кіраваўся на ўсход. Ішоў ноччу. Днём, зашыўшыся ў лоўж, адлежваўся. Душыў страх: з голымі рукамі з'явіцца да сваіх не можа. Схопіць зноў штрафную роту ці нават што-небудзь горшае. Меў аўтамат, дзве гранаты. У адным месцы ўсутык з лесам прабягала шасейка. Ён двое сутак ляжаў, чакаў. У вячэрнім сутонні паказалася машына. Кінуў пад яе гранаты, афіцэра і шафёра прашыў чаргой. У афіцэра забраў планшэтку...

— Галадалі?

— Галадаў. Але восенню не памрэш. На полі ёсць бульба, буракі, бручка. У лесе грыбы, рабіна, каліна. Больш чым ад голаду пакутаваў ад таго, што не было курыва. Вось такая мая вайна. Тры разы выбіраўся з тылу... Нават задрыпанага медаля не маю. Марыў пра геройства... У авіяцыйнае вучылішча паехаў, нават дзесяцігодку не скончыўшы...

Мігайла расказвае яшчэ адну гісторыю. У лесе ён напаткаў савецкага разведчыка, зарослага шчацінай дзяціну, у ірваных лахманах, галоднага, знямоганага. Іх групу яшчэ летам закінулі ва Усходнюю Прусію. Немцы разведчыкаў высачылі. Разгарнуцца не далі. Таго хлопца выратаваў ляснік. Даў прытулак, карміў, паіў. Разведчык, аднак, не адважваецца перайсці лінію фронту. Бо нічога не зрабіў. Хоча знайсці каго-небудзь з таварышаў.

Я пераношуся думкамі ў не такое далёкае мінулае. Бо ў акупацыю дапамагаў такой самай групе разведчыкаў. У наш лес яе закінулі яшчэ ў сорак другім годзе. Так здарылася, што я нават бачыў самалёт, які гадзін у дванаццаць ночы кружыўся над лесам.

З раніцы на назіральны пункт заяўляецца Філімонаў. Звяртаецца да мяне:

— Табе ў штаб палка.

Сяржант Ціхаміраў, навічок, з якім мы пасварыліся, потым пасябравалі, дае мне свой зеленаваты англійскі шынель. На

сваім я прапаліў крысо. Нельга паказвацца ў такім шынялі ў штабе.

Маёр Круташынскі, які мяне выклікаў, недаўменна разводзіць рукамі.

— Сёння вы павінны з'явіцца ў разведаддзел дывізіі. Такі загад...

Разведаддзел мне не страшны. Там усе знаёмыя. Маёр Казак, ягоны намеснік капітан Чарнічэнка, перакладчык старшы лейтэнант Фрэнкель. У дывізійным разведаддзеле, калі стаялі пад Ленінградам, я правёў цэлы месяц. Перш чым трапіць у полк, на пасаду перакладчыка, як бы праходзіў стажыроўку. Прачытаў два тамы падручніка па нямецкай арміі, які напісаў Шванебах, процьму другіх кніг, прысвечаных разведцы.

У штабе дывізіі са мной размаўляе перакладчык Фрэнкель. Ён трохі растаўсцеў, але па-ранейшаму ўважліва сочыць за сваёй знешнасцю. На ім акуратная дыяганалевая гімнасцёрка, брыджы з сіняга сукна, наглянцаваныя да бляску боты. На твары ранейшы іранічна-насмешлівы выраз.

— Нічога не разумею,— гаворыць.— Забіраюць палкавых перакладчыкаў. Усіх. Стаім у Германіі і раптам такое. З кім я буду работаць?

У суседнім пакоі нехта шастае паперамі.

— Мы Войціка да звання старшага сяржанта прадстаўлялі? — пытае Фрэнкель.

У суседнім пакоі, відаць, сядзіць капітан Чарнічэнка.

— Здаецца, прадстаўлялі.

Павольна, не спяшаючыся, Фрэнкель выпісвае мне службовае накіраванне. Ідзе падпісваць паперу да Чарнічэнкі: маёр Казак, відаць, адсутнічае.

У пакой неяк непрыкметна ўвальваецца таўставаты, трохі падобны на ката, прыземісты хлапчына. Гэта пасыльны разведаддзела Сямён Сычоў. Хлопец неблагі, можа, трохі лянівы. Мы з ім добра жылі. Я прыйшоў з палка згаладалы (яшчэ адчувалася недаяданне ў запасным палку, дый другая катэгорыя, па якой сталі карміць пасля запаснога, таксама не мёд). А ў Сямёна мяшэчкі з гарохавай мукой, канцэнтратам. Я на тыя мяшэчкі і накінуўся. Варыў сабе гарохавую кашу тры разы на дзень. Сямён не пратэставаў. Толькі дзівіўся:

— Ну і жарэш ты, брат... Каб каня да нас прыпісалі, дык і той менш еў бы...

Так, моцна я быў згаладалы пасля запаснога палка. Ніяк не мог ад'есціся. Хоць у тым палку пабыў толькі тры тыдні.

— Куды цябе? — з трывогай пытае Сычоў.— Можа, праштрафіўся?..

— Не праштрафіўся. Пераводзяць. Толькі не ведаю куды.

З'яўляюцца Чарнічэнка з Фрэнкелем.

— Жадаю поспеху,— гаворыць капітан.— Мы да цябе прэтэнзій не мелі. Разведзводкі складаў талкова. Я адразу здагадаўся, што тое ваша бервяно (капітан мае на ўвазе палкавога афіцэра разведкі Канатнікава) так не зробіць. У яго ж тры класы адукацыі...

— Напішы нам,— просіць дывізійны перакладчык, даючы мне службовае пасведчанне і прадатэстат.— Цікава, куды вас запратораць?..

У службовым прадпісанні я названы старшым сяржантам. Таму ў чырвонаармейскай кніжцы трэба запісаць нумар загада, якім мне гэтае званне прысвоена.

Я заходжу ў аддзел па ўліку радавога і сяржанцкага саставу. Капітан у новенькім абмундзіраванні, з перакрыжаванымі на грудзях бліскучымі рамянямі нават слухаць мяне не хоча.

— Радавым заходзіць у аддзел не паложана. Няхай ваш начальнік цікавіцца...

Мяне агортвае злосць. Гарыце вы з вашым старшым сяржантам! Сяржанцкае званне мне нічога не дае. І не я яго сабе прысвоіў.

Капітану адказваю:

— Я ваенны перакладчык. На афіцэрскай пасадзе. Думаю, вы мяне не замяніце. А я сядзеў за такім, як ваш, сталом, у страявой часці палка...

Паварочваюся, іду да выхаду.

Капітан шалее:

— Сяржант, вярніцеся. Я старшы па чыну.

Ужо адчыніўшы дзверы, адказваю:

— Капітан, вы законы ведаеце. У арміі падпарадкоўваюцца не па чыну. Па пасадзе...

Сэрца, аднак, шалёна калоціцца. Нарваўся на праклятага хлюста, які, не панюхаўшы пораху, любуецца сабою.

Ясна адно: у полк я болей не вярнуся. Знёс шынель Ціхамірава. Але мой шынель цяплейшы. Такой бяды: крысо падпалена. Пляму можна адшмараваць...

## V

У мяне накіраванне ў разведупраўленне арміі. Яно адсюль за некалькі кіламетраў, на літоўскай, значыць, на савецкай тэрыторыі. Я радуюся, што пакіну гэты шэры нямецкі куток. І неба тут хмурае, і ўсё астатняе не радуе, не лашчыць вока.

Зрэшты, не нямецкая гэта зямля. Яна належала прусам, літоўскаму племені, якое германцы-крыжакі захапілі і анямечылі. І дубы, значыць, якія пракідаюцца на ўсім бачным абсягу, не нямецкія, а літоўскія. Яны нічым не адрозніваюцца ад тых, якія растуць на маім Палессі.

Я шукаю спадарожную машыну, каб дабрацца да штаба арміі. На шашы якраз запыняецца паўтаратонка.

— Закурыць маеш, сяржант? — прыадчыніўшы дзверку, пытае малады, у завэдзганым ватніку шафёр.

Я паказваю пачак папярос.

— Ого! Папяросы курыш. Лезь у кабіну.

Мільгаюць пералескі, каменныя паселішчы. Граніцы і цяпер, хоць едзем днём, я не заўважыў. Проста машына бяжыць не па гладкай, а па вышчарбленай шашы, падскоквае на выбоінах. На даляглядзе атуленыя прысадамі хутаркі, зялёныя — снегу няма — лугавіны, шэрыя голыя палі.

А вось і літоўскі гарадок. Малыя, самае большае двухпавярховыя дамкі з аблезлым тынкам, забрукаваная каменем вуліца.

Я аддаю шафёру рэшту папярос, вылажу з машыны. Шукаю разведупраўленне арміі. Нарэшце знаходжу такі ж аблезлы, як астатнія, двухпавярховы дамок. Старшы групы армейскіх перакладчыкаў, шчуплаваты, з малым круглым тварыкам, у вялізных рагавых акулярах маёр, на якім доўгі, да пят, шынель, тлумачыць мне:

— Вас прыслалі ў групу бліжняй разведкі. Яны пры асобным палку сувязі. Ідзіце ў штаб палка. Заўтра ці паслязаўтра вы адсюль паедзеце. Штаб арміі ўжо на калёсах. Добра, што мяне засталі...

І вось пасля даволі працяглых пошукаў я спатыкаю камандзіра групы бліжняй разведкі старшага лейтэнанта Пылянкова. Ён чарнявы, сярэдняга росту, і вельмі афіцыйны. Чытае мае паперы, раз-пораз пераводзячы позірк на мяне самога.

— У службовым прадпісанні вы старшы сяржант, па пагонах сяржант, у чырвонаармейскай кніжцы радавы. Як гэта ўсё разумець?

— Вызвалі з палка тэрмінова,— тлумачу старшаму лейтэнанту.— Шынель узяў у таварыша. Не думаў, што не вярнуся ў полк. Службовае накіраванне выпісалі ў штадыве...

— Будзем верыць накіраванню. Прышыйце новыя пагоны...

Вось і ўся размова. Ні слова пра тое, што буду рабіць, якія мае новыя абавязкі.

Старшы лейтэнант паказвае дамок, у якім размяшчаюцца разведчыкі-сувязісты, і больш не звяртае на мяне ніякай увагі.

Раптам нечаканая радасць. На парозе дамка я спатыкаю Віктара Мілаванава, перакладчыка майго ранейшага палка, які і ўсватаў мяне на гэтую пасаду.

Высокі, з тонкімі рысамі твару лейтэнант пасмейваецца:

— І цябе забрылі. Папоўзаеш цяпер на жываце.

— Чаму на жываце?

— Таму што будзем падслухоўваць размовы. Нямецкія. Уключацца ў нямецкія правады...

Віктар Мілаванаў — маскоўскі хлопец. З інтэлігентнай сям'і, праўда, хто бацька, маці — не гаворыць. За мяне старэй на два гады. Нямецкую мову ведае з дзяцінства. На курсы перакладчыкаў пайшоў дзеля таго толькі, каб трохі вывучыць вайсковую справу і атрымаць афіцэрскае званне. У гэтым сваім лейтэнанцкім званні ён ходзіць усю вайну, бо перакладчык палка вышэй лейтэнанта не скочыць. Паложана так па штаце.

Мы здружыліся, яшчэ калі я служыў у палку Мілаванава. Бо ў мяне фактычна таксама сярэдняя адукацыя. Як ні дзіўна, літаратуры я чытаў больш за масквіча Мілаванава. Ён захапляецца філасофіяй, носіць у палявой сумцы кнігі Канта, чытае іх у арыгінале.

Пры сустрэчах я прашу яго патрэніраваць мяне ў нямецкай мове. Размоўнай. Ён рабіць гэта не любіць, але згаджаецца. Прычым заўсёды павучае:

— У палку допыт палоннага прымітыўны. З якой часці, які ўчастак фронту займаеце, якое ўзбраенне і гэтак далей. Можаш вывучыць пытанні з нямецка-рускага размоўніка. Начальнік штаба, які будзе весці допыт, задасць дакладна такія пытанні. Ён нямецкай мовы не ведае, і ты можаш лёгка выкруціцца, калі спытае штосьці другое, паўтарыць, удакладніць пытанне.

У Мілаванава я сяму-таму навучыўся. Галоўнае: звычайным выразам, якія перакладчыку трэба ведаць абавязкова ( «Я прыйшоў», «Я пайшоў», «Я нарадзіўся», «Я вучыўся» і г. д.).

Цяпер новая сітуацыя: падслухоўваць немцаў. Але на слых нямецкую мову я амаль не ўспрымаю. Чытаць газету, кнігу — адно, разумець нямецкую гаворку — зусім другое.

З такім пытаннем я і звяртаюся да таварыша.

— Не бядуй,— суцяшае ён.— У сям’і я гаварыў па-нямецку з бацькам, маці, а калі давялося дапытваць першага палоннага — не разумеў ні слова. У немцаў — адмысловае вымаўленне. Яны як бы глытаюць гукі, скарочваюць слова. Дый немцы не аднакія. Асабліва тыя, якія мала вучыліся. Шваб гаворыць на адной мове, саксонец — на другой, баварцаў самім немцам цяжка зразумець. Але навучышся, як навучыўся я. Практыкі няма, але запас слоў у цябе дастатковы...

Што ж, дзякуй за суцяшэнне. Лягчэй робіцца дыхаць.

Цяпер я ведаю: армію перакідваюць на другі фронт. Дывізія, у якой мы з Мілаванавым служылі, застаецца ва Усходняй Прусіі. Перакладчыкаў з усіх стралковых палкоў забралі, каб папоўніць групу бліжняй разведкі. Значыць, надаюць вялікае значэнне гэтай групе.

Я не хаваю задавальнення. Не спадабалася мне непрыветлівая Усходняя Прусія. Можа, па той прычыне, што давялося адступаць, нават вісела пагроза палону. Толькі дубоў шкада. Даўно я не бачыў такіх дубоў.

Рады я і таму, што буду служыць разам з Мілаванавым. Хоць ён адшчапенец. Яму ніякія сябры не патрэбны. Жыве ў сваім асобным свеце і нікога ў гэты свет не хоча пускаць.

І вось новыя разведчыкі. Група бліжняй разведкі — той жа ўзвод. Толькі байцы тут зусім не такія, з якімі я нядаўна развітаўся. Зялёныя хлопчыкі апошняга прызыву дваццаць

шостага года нараджэння. Маларослыя, шчуплыя, з белым пушком на верхняй губе. Некаторыя, відаць, яшчэ нават не голяцца. Хоць ёсць сярод іх яфрэйтары, малодшыя сяржанты і нават сяржанты.

Перакладчыкі займаюць асобны пакойчык, іх пакуль чатыры. Акрамя Мілаванава і мяне ў групу залічаны чорны, камлюкаваты Якаў Гоц (таксама са стралковага палка нашай дывізіі) у камандзірскай дыяганалевай гімнасцёрцы з сяржанцкімі пагонамі і бялявы, шыракаплечы, са шчарбатым ротам валагодзец Лебедзеў, узяты з артылерыйскай часці. Усе перакладчыкі ў афіцэрскім абмундзіраванні. Іх у часцях, відаць, болей цанілі, чым мяне. На мне і цяпер баваўняная ў абцяжку гімнасцёрка і заляпаныя граззю ватнікі.

Назаўтра мы грузімся ў эшалон. Полк сувязі наогул жыве на калёсах. Пераходаў пешымі калонамі не ведае.

Полк сувязі бадай што напалавіну складаецца з дзяўчат. Яны добра дагледжаны, абмундзіраваны. Выглядаюць зусім не так, як санітаркі ці дзяўчаты з гаспадарчага ўзвода ў стралковым палку.

За вайну я трохі паездзіў у вагонах-цяплушках. Не вельмі ўтульна ў гэтых вагонах, асабліва зімой. Нават пры наяўнасці печкі-буржуйкі. У кутах вагона, на сценках праступае намаразь, а калі нараў няма, зусім дрэнна. Сядзіш каля сценкі і нацягваеш крыссё шыняля на калені. Бо яны асабліва мерзнуць.

Дзіва няма: буржуйка іншы раз накаляецца дачырвана, а наледзь са сценак не знікае.

Я ўспамінаю першую цяплушку. Адразу пасля партызан мяне і яшчэ аднаго партызана-ваеннаабавязанага на чале з ваенкаматаўскім старшым лейтэнантам такой самай зімовай парой накіравалі суправаджаць у падмаскоўны горад Сталінагорск вагон са старастамі. Гэта былі бяскрыўдныя старасты, можа, нават пастаўленыя самімі партызанамі. Але так ці інакш іх мусілі праверыць у Сталінагорскім лагеры-фільтры.

Старасты лічыліся ваеннаабавязанымі. На іх быў выпісаны агульны харчовы атэстат. На прадпунктах ваенкаматаўскі старшы лейтэнант атрымліваў прадукты. Хлеб, лярд, канцэнтраты аддаваў падначаленым. Бляшанкі кансерваў, сала-шпіг хаваў у асобны рэчавы мяшок. Для сябе.

Старасты гэта бачаць, але маўчаць. Яны хоць ваеннаабавязаныя, але бяспраўныя.

Едзем доўга, марудна, прапускаючы эшалоны, якія імчацца на фронт. Стаім іншы раз нават сярод поля. У час адной з такіх стаянак я выскокваю з вагона, забягаю за густую чараду елачак, якімі абсаджана чыгунка. Прысядаю і жахаюся: снег на гэтым месцы засыпаны безліччу шэрых кропак. Нехта перада мной сядзеў на гэтым месцы і, відаць, скінуўшы споднюю сарочку, вызваляўся ад паразітаў.

Пакінуўшы на станцыі ў Сталінагорску старастаў, старшы лейтэнант са мной, як ардынарцам, паехаў далей. Паводле загаду ваенкама, мы мусілі дабрацца да Волагды, раздабыць там паперы для ваенкамата і вярнуцца назад.

Да Волагды мы, аднак, не даехалі. Старшы лейтэнант зрабіў у Маскве прыпынак. Ён, аказваецца, масквіч, мае ўласны пакой у камунальнай кватэры на Малой Ардынцы. Новы год я, такім чынам, сустракаў у Маскве. Схадзіў у кіно, паглядзеў кінафільм «Фронт», у газетным ларку за пяць рублёў купіў «Капітал» Карла Маркса. Мне нават удалося прабіцца ў маскоўскую лазню. Пад сарочкай несціхана свярбела цела.

Зняўшы сарочку, я жахнуўся. Споднюю бялізну суцэльнай шэрай сеткай пакрывалі вошы. Як на снезе пад той елачкай, дзе сярод поля спыніўся эшалон. Толькі там вошы былі спруцянелыя ад холаду, тут жывыя. Везці столькі вошай у рэчавым мяшку я не захацеў. Мыла не было, я сяк-так памыўся, надзеў чыстую бялізну, вашывую запіхнуў пад лаўку.

У той жа дзень старшага лейтэнанта затрымала ваенная камендатура. Ён, аказваецца, палучаў прадукты па двух атэстатах. Акрамя таго, насіў на грудзях чужы медаль «За адвагу».

Як толькі мы са старшым лейтэнантам вярнуліся ў мястэчка, мяне выклікаў ваенкам. Я ўсё добрасумленна расказаў. Праз два-тры дні атрымаў павестку ў армію. І толькі ў запасным палку я здагадаўся, што ў маскоўскіх прыгодах старшага лейтэнанта, відаць, быў замешаны і сам ваенкам. Бо хто яшчэ мог выпісаць падначаленаму два прадуктовыя атэстаты.

Былі яшчэ цяплушкі, у якіх я ездзіў, але гэтая найлепшая. У вагоне двух’ярусныя нары, пасярэдзіне — бляшаная

печачка. Мы ўвесь час падкідваем у яе тарфяныя нямецкія брыкеты. Разведчыкі-сувязісты — таксама зухі. Брыкетаў у вагон нацягалі столькі, што можна даехаць да Уладзівастока.

Мінулі Каўнас, Вільнюс, едзем, відаць, па Беларусі. Але ахінае зямлю цёмная снежаньская ноч і нічога нельга ўбачыць.

Разведчыкі-сувязісты — неблагія хлопцы. Я з імі хутка знаёмлюся. Палавіна — радысты, палавіна — тэлефаністы. Усе яны праходзілі спецпадрыхтоўку. Радысты на слых бяруць тэкст, які перадаецца лацінскімі літарамі. Ёсць і спецыялісты высокага класа. Напрыклад, сяржант Папоў, высокі, стройны з нібы вытачаным чарнявым тварам, скончыў тэхнікум сувязі і паспеў папрацаваць па спецыяльнасці.

Так, з разведчыкамі-пехацінцамі, сувязістамі мы аднаго пакалення. Таму лёгка сыходзімся.

Камандзір групы старшы лейтэнант Пылянкоў, яго намеснік Пытляваны — доўгі, як жардзіна, лейтэнант з артылерыйскімі пагонамі — размяшчаюцца ў асобным афіцэрскім вагоне. Мы, перакладчыкі, едзем разам з разведчыкамі.

Выдадзены НЗ на пяць дзён. У эшалоне, аднак, дзейнічае палявая кухня, і на вялікіх прыпынках, захапіўшы пабольш кацялкоў, некалькі сувязістаў ляцяць у хвост эшалона, на кухню. Прыхопліваюць і нашы кацялкі. Тэрмасаў на суп, кашу, чай, як гэта было ва ўзводзе пешай разведкі, у сувязістаў няма.

Так, разведчыкі-сувязісты — рухавыя, жывыя, вясёлыя хлопцы. А старшына групы, па прозвішчы Казалуп,— кастыль і дрын. Не ідзе ні ў якое параўнанне з крываногім, хмурым мардвінам Кісляковым, які быў старшыной ва ўзводзе пешай разведкі. Той гарой стаяў за разведчыкаў, нязменна штосьці здабываў, даставаў, хвіліны не мог пасядзець на месцы. І ў пошук хадзіў разам з астатнімі. Казалуп пальцам не варухне дзеля дабрабыту групы. Немалады, саракагадовы, з няскладнай доўгай постаццю і такім жа невыразным, посным тварам, ляжыць на нарах, на верхнім ярусе. Дзень і ноч спіць і злазіць толькі есці. З ім ніхто не лічыцца, але гэта Казалупа, здаецца, не засмучае.

Увогуле дзіўнае начальства ў разведчыкаў-сувязістаў. На стаянцы ў цяплушку зрэдку зазірае камандзір групы

Пылянкоў, хвіліну пастаіць, памаўчыць і знікае. Пытляваны іншы раз таксама заскочыць у цяплушку. Прысядзе ля пячуркі, папрасіўшы ў разведчыкаў табакі, выкурыць некалькі казіных ножак, на наступным прыпынку знікае ў свой афіцэрскі вагон.

Між тым раніца наступае.

Прыязджаем у Баранавічы. Тут эшалон спыняецца. Я выскокваю з вагона. Вісіць над станцыяй шэрае снежаньскае неба. Блізкія да станцыі будынкі разбураны нашчэнт, спалены, і нічога асабліва не ўбачыш.

Мінулы раз, калі дывізію хацелі перакінуць на нейкі другі фронт, эшалон сягнуў аж на Украіну. Тады праязджалі праз Полацк. Быў дзень. На прыпынку я таксама выскачыў з вагона, каб ступіць на родную беларускую зямлю. Горкае было спатканне. Горада не існавала: суцэльныя руіны і пажарышчы.

У час таго рыўка на Украіну здарылася гісторыя, якая магла дорага мне каштаваць. На нейкай станцыі — у Бахмачы ці Канатопе — я яшчэ з адным разведчыкам вылезлі з вагона, каб купіць на прыстанцыйным базарчыку семак.

У нейкім з вагонаў нашага эшалона, узмоцненая дынамікам, іграла радыёла. Гэта як бы арыенцір. З эшалона нesліся гукі вальсаў, танга, і мы з таварышам даволі бесклапотна блукалі па базарчыку. Раптам мне як бы штосьці цюкнула. Шмаргануўшы за рукаў таварыша, я кінуўся да эшалона. Яго на пуцях не было. На суседняй каляі стаяў чужы эшалон, і ў адным з яго вагонаў таксама іграла радыёла.

У мяне гімнасцёрка без кішэнькаў, і ўсе паперы, нават чырвонаармейская кніжка, засталіся ў палявой сумцы, у вагоне. Няпісаны закон вайны я ведаў: ваеннаслужачыя, якія адсталі ад часцей і не маюць дакументаў, накіроўваюцца прамой дарогай у штрафбат.

Спалохаўся я страшэнна. Можа, ніколі ў жыцці так не палохаўся. Разам з таварышам пабрыў у камендатуру. Дзіўны трапіўся камендант. Яшчэ досыць малады, з двума ці нават трыма лентачкамі раненняў на гімнасцёрцы, ён нас не дакараў, не крычаў на нас, а ўважліва выслухаў. Распытаўшы, з якой мы часці, стаў корпацца ў паперах, раскіданых на стале.

— Вот што, рабяты,— нарэшце сказаў камендант.— Садзіцеся ў эшалон, які стаіць на трэцім пуці. Ён зараз кранецца. Скажаце: я загадаў. Думаю, дагоніце свой састаў...

Мы ўбіліся ў чужую цяплушку. Сядзелі ні жывыя ні мёртвыя. І якая ж агромністая была радасць, калі на трэцяй ці чацвёртай станцыі чужы эшалон прыпыніўся, і мы нарэшце ўбачылі свой эшалон. Музыка ў ім па-ранейшаму іграла...

За наступную ноч праехалі Беларусь. Вось ужо і Украіна. Вялікая, са шматлікімі перакрыжаваннямі чыгуначных пуцей станцыя Роўна. І горад, здаецца, не асабліва разбураны.

Мая мясцовасць — Прыдняпроўска-Прыпяцкае Палессе з гарадамі Рэчыца, Мазыр, Пінск, Брэст — у акупацыю была далучана да Украіны. Для насельніцтва гэта не мела ніякага значэння. Вёскі немцы палілі гэтак жа, як і ва ўсіх другіх мясцінах, дзе былі партызаны, вывозілі моладзь на работу ў Германію. Тут, у Роўне, сядзеў гаўляйтар Украіны Эрых Кох, а ў Ровенскім банку выпускаліся ўкраінскія карбованцы. На карбованцах усе надпісы былі зроблены па-нямецку і толькі на другой палавіне банкноты, маленькімі літаркамі,— паўкраінску.

Цяпер ясна, што едзем на які-небудзь украінскі фронт.

## VI

Мы выгружаемся ў польскім гарадку Сендзішуў і сваім ходам, на машынах дабіраемся да вялікага сяла Майдан. Недзе тут, паблізу, Сандамірскі плацдарм, сяло шчыльна напакавана вайскоўцамі. Групе бліжняй разведкі дастаецца адна толькі хата, затое вялікая, прасторная, на тры пакоі. Перакладчыкі жывуць разам з байцамі.

Паўднёвая Польшча багацейшая за паўночную. Сяло Майдан не параўнаць з вёсачкамі, якія я бачыў паблізу Сувалак. Там у хатах нават падлога была гліняная, маленькія, заткнутыя анучамі акенцы, закураныя печы. Тут жыццё больш-менш прыстойнае.

У мяне такое ўражанне, што я трапіў у сваю беларускую вёску. Такія самыя тут драўляныя хаты з двухскатнымі, пакрытымі дранкай дахамі, пясчаныя вуліцы, разгалістыя грушы-дзічкі на агародах.

Снежань месяц. Пануюць навокал аднастайныя шэрыя колеры. Неба заслана густымі цёмна-ліловымі воблакамі, праз

якія проста немагчыма прабіцца сонцу. Да слыху зрэдку даносяцца працяжныя, нібы ўздыхі зямлі, выбухі. Не вельмі далёка фронт.

Сяло вялікае, з некалькімі вуліцамі. Аднак няма ў ім ні парканаў, ні плятнёў. Толькі голы лысы прастор. Відаць, вайна і галеча абдзёрлі сяло. Лес далекавата. А трэба ж атапліваць хаты, варыць ежу. Відаць, з-за гэтага зніклі плятні і парканы.

Да нас палякі ставяцца прыхільна. Мне, беларусу, збольшага зразумела іх гаворка. З бабулькай, гаспадыняй хаты, у мяне амаль дружалюбныя адносіны.

Мяне па-ранейшаму непакоіць тое, што я не разумею нямецкай гаворкі. Кнігі, газеты — адно, вусная мова — зусім другое. У акупацыі не было дзе трэніравацца: з немцамі я мала сутыкаўся.

На нашым прыёмніку «Віраж» ёсць дыяпазон доўгіх хваль, на якім можна лавіць Маскву, Берлін, іншыя вялікія гарады. Я наважваю пачаць трэніроўку. Але дзе? У хаце тлум, мітусня, няма дзе затуліцца.

На дапамогу прыходзіць старая гаспадыня. Яна дае мне вялізны аўчынны кажух. Не здымаючы ватоўкі, я накідваю кажух на плечы, бяру пад паху «Віраж», лезу на гарышча. Там ёсць тапчанчык, невялікае акенца. Я знаходжу берлінскую хвалю, акрываюся кажухом і слухаю перадачу за перадачай. З першага дня падбадзёрваюся. Калі перадаюць зводку галоўнага камандавання вермахта, я шмат што разумею. Бо на працягу ледзь не двух гадоў чытаў зводкі ў газетах. Лексіка, фразы знаёмыя. «Das Oberkommando der Wehrmacht gibt bekannt...»

Але, божа мой, як далёка на захад пайшлі франты! Баі ў Венгрыі, Славакіі, Аўстрыі. Не вызваленай засталася толькі частка Прыбалтыкі.

Ад снедання з перапынкам на абед слухаю немцаў. Іншы раз засынаю. Добра спаць пад цёплым кажухом, дыхаючы свежым зімовым паветрам.

Гаспадыня — рухавая нізенькая бабулька — і яе дзябёлая, з грубаватым мужчынскім тварам дачка, якую завуць Тэрэзай, часцей за ўсё звяртаюцца да мяне. Хлопцы з расійскіх абласцей польскую мову разумеюць слабавата. Мне прыходзіцца і тут выконваць ролю перакладчыка.

Некаторых польскіх слоў я таксама не разумею. Напрыклад, слова «венцэй», якое часта ўжываюць жанчыны. Аказваецца, «венцэй» значыць «больш».

Бясконца слухаць па радыё немцаў не хапае сілы. Часам я шукаю іншага занятку. Разведчыкі латаюцца, абшываюцца, ходзяць на заняткі па баявой, страявой, палітычнай падрыхтоўцы. Перакладчыкі ад гэтага вызвалены. У доме ёсць дзве-тры польскія кнігі рэлігійнага зместу. Я спрабую іх чытаць. Спатыкаюся на некаторых літарах. Пышнацелая, ядраная пані Тэрэза, ацэньваючы маё старанне, тлумачыць мне сэнс незнаёмых літар. Паціху, але настойліва я авалодваю польскім чытаннем.

У групе ёсць радыст Гайваронскі. Рудаваты прысадзісты, з жорсткімі чорнымі татарскімі вачамі. Ён родам з Сярэдняй Азіі. Хлопец кемлівы, таму наважвае выдаць сябе за паляка.

— Маё прозвішча Гайваронскі,— аднойчы заяўляе ён гаспадыні і яе пышнагрудай дачцэ.

— То пан ест поляк! — абедзве жанчыны ад захаплення ўсплёскваюць рукамі.

Гайваронскі змаўкае, бо па-польску не ведае ні слова. Але такую дробязь яму даруюць, пачынаючы з гэтага дня, гаспадыні дагаджаюць Гайваронскаму як могуць. Бабуля то бульбяны піражок радысту дасць, то кубачак кавы, а паўнацелая Тэрэза наогул пазірае на суайчынніка ласым вокам.

Я слухаю радыё і перачытваю нямецка-рускі слоўнік Неслера. Калі шчыра гаварыць, то па гэтым слоўніку я прыкметна ўдасканаліў нямецкую мову. Нямецкую газету я чытаў і год, і два назад, але сэнсу многіх выразаў, словазлучэнняў, ідыём не разумеў. Цяпер я на іх асабліва налягаю. Бо без іх ведання няма ведання нямецкай мовы. Гэта я адчуў, слухаючы радыёперадачы. Веданне слоў — яшчэ не веданне мовы. Трэба вывучыць фразеалогію, асабліва ідыёмы, якія нават літаральна перакласці нельга.

У канцы слоўніка ёсць табліца спражэння правільных і няправільных дзеясловаў, шматлікія прыклады кіравання назоўнікамі пры дапамозе прыназоўнікаў. Гэта трэба ведаць, як і скланенне артыкляў назоўнікаў, якіх у рускай, беларускай мовах наогул няма.

За месяц з курсаў «Выстрал» выпускаюць малодшых лейтэнантаў. Перакладчыка за месяц не выпусціш. Але я шмат зрабіў за палавіну снежня і палавіну студзеня, пакуль мы стаялі ў сяле Майдан. Я проста палюбіў слоўнік Неслера, зрабіўшы яго кнігай для чытання. Дый чытаць, акрамя газеты «Красная звезда», нечага.

І вуснай мовы я болей не баюся. Ведаючы словы, выразы, у нейкай ступені зразумееш хоць агульны сэнс гаворкі.

Польскае сяло мне падабаецца. У вобліку сваім мае штосьці блізкае, роднае. Раніцай з комінаў хат падымаюцца ў хмурае шэрае неба дымы. Сяло, вядома, немцы абадралі, як маглі. Але вяскоўцы таксама хітрыя. Сёе-тое прыхавалі. На прыкладзе сваіх гаспадынь я бачу, што ў іх ёсць яшчэ бульба, трохі мукі, круп. Але ні каровы, ні свінчаці, ні нават курыцы няма.

Мы патрохі дзелімся з гаспадынямі харчамі. Між намі і жанчынамі пануе мір і згода. Хоць жыць цеснавата.

Гайваронскі, прымаючы ад гаспадынь розныя ахвяраванні, польскай мовай не цікавіцца зусім. Яны гэта заўважаюць. З кожным днём яму меней і меней увагі.

Старая гаспадыня найбольш прыхільная да мяне. Можа, таму, што я пастаянна сяджу з кніжкай, чытаю абрыўкі нямецкіх газет, якія знаходжу дзе толькі магу, ды і незнаёмымі польскімі словамі цікаўлюся.

У доме няспынны вір. Дзверы адчыняюцца, зачыняюцца. Кіпіць, як у гаршку. Я бяру кажух, прыёмнік «Віраж», лезу на гарышча.

Там я прыстасаваўся і лісты пісаць. Пішу Алесі Малейцы, Гэлі Машчынскай. Ад іх я яшчэ ніводнага ліста не атрымаў. За год — ні ліста.

Хлопцы мне пішуць. Іван Гарошык, Кузьма-Дзям’ян, Мікалай Пішчык, якога камісавалі пасля цяжкага ранення. Ад бацькі, некаторых знаёмых местачковых дзяўчат лісты таксама атрымліваю. Так што навіны я ведаю: каго забілі, каго паранілі, ад каго няма ніякіх звестак. Многія знаёмыя хлопцы, з якімі я разам ішоў у армію, ужо загінулі.

У мястэчку адкрыўся дзясяты клас. Яго заканчваюць Іван Гарошык (ягоны атэстат, пасланы ў ваеннае вучылішча,

згубіўся), Мікалай Пішчык, некалькі знаёмых дзяўчат. Алесі Малейкі сярод іх няма. Яна ўсё носіцца па нейкіх курсах. З лясніцтва ў Сівалобах, на адрас якога я пасылаў Алесі лісты, адказу няма.

Лёс бацькоў Гэлі Машчынскай нешчаслівы. Я гэта ведаў яшчэ ў партызанах. Прызначаны камісарам палка ў кавалерыйскай дывізіі, якая фарміравалася ў Мазыры, бацька Гэлі загінуў у акружэнні пад Палтавай. Маці заставалася ў горадзе. Працавала перакладчыцай у гарадской управе. Немцы яе расстралялі. Не толькі маці Гэлі Машчынскай фашысты расстралялі, але і самога бургамістра, яго намеснікаў. Яны былі звязаны з партызанамі. Гэля пра гэта, вядома, ведае. Яна ў арміі. Адрас яе палявой пошты мне паведамілі людзі, якія цяпер жывуць у яе доме.

Ляжыць пад шэрым кажухом неба польскае сяло Майдан. За два тыдні ні разу сонца не выблiснула. Глуха даносяцца выбухі з недалёкага Сандамірскага плацдарма. Вайна даўно сягнула за межы савецкіх рубяжоў. Баі ідуць у Венгрыі, Чэхаславакіі. Хоць усё адно невядома, калі вайна скончыцца.

Я цяпер мала цікаўлюся вайной, якая ідзе на розных франтах. Галоўнае — немцаў з роднай зямлі выгналі. Няма болей ганьбы, абразы, якая болем сціскала сэрца. Пра блізкі канец вайны я таксама не думаю. Што будзе, тое будзе. На вайне нельга спадзявацца, што застанешся жывы. Ніхто і не спадзяецца. Усе настроены на горшае, хоць пра гэта і не гавораць.

Мне пакуль шанцуе. Я нібы выцягнуў у крывавай латарэі шчаслівы білет. Мірнае жыццё ўсё адно здаецца недасягальным святам. Ацалець ці загінуць на вайне ад сябе самога не залежыць. Салдат пасад не выбірае.

Набліжаецца новы, сорак пяты год. Можа, ён будзе апошнім годам вайны. Разведчыкі палка сувязі таксама хлопцы шустрыя. Хоць старшына ў нас лянівы пень, недарэка, пра свята не думае, але і без старшыны мы Новы год адзначым. Радыст Грыдзін, чарнявы лапаносы хлапчак, ужо вынюхаў, дзе дастаць бімберу. Трэба грошы або рэчы: чаравікі, боты, вайсковая амуніцыя. Лішняй амуніцыі ў нас, аднак, няма.

Мілаванаў, Гоц і я ідзем у фінансавую часць. Прыносім прыемную вестку. Польшча — замежная краіна, савецкім

салдатам у замежжы паложана грашовае забеспячэнне ў двайным памеры. Начальнік фінчасці — капітан з пабітым воспай жорсткім татарскім тварам і чорнымі калючымі вачамі — абяцае палавіну грашовага забеспячэння аддаць польскімі злотымі. Другую палавіну трэба палажыць на ашчадную кніжку.

Грошай нам выдаюць дастаткова. Польскія злотыя новенькія, хрупасткія, цёмна-шэрага колеру. Іх яшчэ ніхто не трымаў у руках.

Злотыя забірае Грыдзін. Ён выскаляецца.

— Распіску хочаце мець? Ці так паверыце...

Шустры распарадчык фінансаў шчоўкае пальцамі, падмігвае, як бы даючы зразумець, што за грошы ён купіць што захоча.

Месяц ці болей я прасядзеў у страявой часці і ведаю, з чаго складаецца пяхотны полк. Стралковыя роты, пульрота, мінрота, санрота. Сапёрны ўзвод, гаспадарчы ўзвод і яшчэ ўзвод пешай разведкі. Што такое полк сувязі — не ўяўляю. Чуў: ёсць радыёрота. Навошта сабралі разам столькі радыстаў? Чым яны займаюцца? Гэта высветліцца толькі ў будучым.

Разведчыкі-сувязісты — з выгляду някідкія. Малеча. Але і сярод іх ёсць, як таполя, рослы, стройны сяржант-радыётэхнік Папоў. Вызначаецца і высокі, танклявы, з далікатным дзіцячым тварыкам яфрэйтар Яфімцаў. Калі што не клеіцца ці няўклюдны старшына Казалуп не паспявае атрымаць патрэбных прадуктаў, Яфімцаў нязменна ўсклікае:

— Дожили до социализма...

Ёсць і яшчэ баявыя хлопцы.

Полк сувязі напалавіну складаецца з дзяўчат. Апранутыя ў акуратныя гімнасцёркі, шынялі, сувязісткі часта заскокваюць у хату да разведчыкаў. Пазычыць запалак, солі, папрасіць прас. Але ніякіх любоўных сувязей разведчыкі-сувязісты не завязваюць.

— Дзяшоўкі,— пацвельваецца над дзяўчатамі Грыдзін.— Да перакладчыкаў прыглядваюцца. Маўляў, што за фрукты?..

Да гаспадынінай дачкі Тэрэзы, тоўстай, непаваротлівай, завітвае яе сяброўка Эва-Іяланта, маладая чарнявая полька.

Яна настолькі прыгожая, што я нават баюся на яе глядзець. Бровы пад колер ластаўчына крыла, тонкі з гарбінкай, нібы ў грэчаскай багіні, носік, выкшталцаваны далікатны твар.

Я знаходжу польскую чытанку для другога ці трэцяга класа і, каб мець магчымасць завязаць размову з полькай-прыгажуняй, пачынаю штудыраваць падручнік. Вывучаю на памяць польскі гімн, некалькі сказаў. Але кожны раз, калі Эва-Іяланта прыходзіць у хату, мне зацінае дыханне і я слова не магу прамовіць. Размова адкладваецца на будучыню.

Якаў Гоц пануры, заклапочаны. Аднак у вялікім польскім сяле марна часу не губляе. Вайна не скончана, невядома калі скончыцца (вунь у Ардэнах немцы на злом галавы зноў пагналі саюзнікаў), тым часам Гоц пачынае мераць жыццё мірнымі меркамі. Ён скончыў хіміка-тэхналагічны інстытут, з аспірантуры інстытута яго ўзялі ў армію. У аспірантуру Якаў хоча вярнуцца. Я не ведаю, што такое аспірантура, кандыдацкія экзамены, дысертацыя, але Якаў так часта паўтарае гэтыя словы, што я ўспрымаю іх з павагаю.

Дысертацыю Гоц піша. Мае спецыяльную школьную чарніліцу-невылівайку, тоўстую з лакіраванай паперай бухгалтарскую кнігу (здабыў на Карэльскім перашыйку). Схіліўшыся над лямпай-васьмерыком, Гоц амаль кожны вечар штосьці крэсліць у бухгалтарскай кнізе.

У сяле, між тым, жыве полька, якая вярнулася з Англіі. Кожны вечар Якаў шыбуе да гэтай полькі практыкавацца ў англійскай гаворцы. Бо кандыдацкі экзамен у яго будзе па англійскай мове.

Я таксама часта шастаю на вуліцу. У сяле многа старых з разгалістымі шатамі ліп. Імі абсаджаны вуліцы, нават невялікая круглая плошча, ад якой вуліцы разбягаюцца. У цёмным вецці ліп шуміць вецер. Іх чорныя галіны нагадваюць рукі, што сплятаюцца ў цемені зімовага неба. Адна такая ліпа расце каля хаты, у якой мы размяшчаемся. Калі вецер усходні, то мне здаецца, што ён прыляцеў з родных мясцін. Я вельмі спадзяваўся сустрэць Эву-Іяланту на вуліцы і пагаварыць. Але так ні разу і не сустрэў.

## VII

Наступае Новы год. Усё як трэба. Сняжок пацерусіў, прыкрыў непрывабную шэрань зямлі, і мароз на шыбах дзівосныя ўзоры намаляваў. Непадалёк ад хаты, якую мы займаем, знаходзіцца маленькі — нібы цацачны — дамок касцельнага арганіста. Высокі, танклявы, у чорнай вопратцы, ён перад Ражаством разам з гаспадыняй пячэ ў вялікай печы аплаткі — тонкія, нібы старонкі сшытка, пласцінкі з белай мукі. Аплаткі ўжываюць каталікі. Я, аднак, праваслаўны і нічога пра іх не ведаю.

На навагодні вечар Тэрэза запрашае ў госці Эву-Іяланту. Мы колькі можам прыфранчаемся: памылі, адпрасавалі гімнасцёркі, падшылі белыя падкаўнерыкі, наглянцавалі боты.

Стол ніштаваты. Кацялкі з пшоннай кашай, каб не псавалі від, мы прыткнулі на прыпечку. На стале некалькі бляшанак свіной тушонкі, амерыканскіх каўбасак, прыхаваных спецыяльна для навагодняга свята. Ёсць нарэзаны малымі скрылікамі шпіг, масла, вараная бульба. А галоўнае: стаяць на стале, як важныя паны, вялікія, цёмнага шкла бутэлькі бімберу.

Гаспадыня таксама не паскупілася: наварыла студзеню, кісялю, узвару з ігруш-дзічак.

Я хмялею бадай з першай чаркі. Бімбер моцны. Эва-Іяланта прыгубіла толькі паўчарачкі, але адразу паружавела, запунсавела, папрыгажэла. З-пад яе белай шапачкі выбілася пасмачка чорных як смоль валасоў і павісла на смуглявым ілбе. З-за Эвы-Іяланты я адважваюся на крок, які б, відаць, не зрабіў у звычайных абставінах. Я напісаў верш, прысвечаны дзяўчыне. За гераіню яго можа быць любая дзяўчына, у тым ліку Эва-Іяланта.

Ночь над Польшей тиха,
И звезды, как дома, сверкают,
И старая сводня луна
С улыбкой на небо всползает...

Галоўны матыў верша: не выключана ў наступаючым годзе завяршэнне вайны. І тады наступіць час сустрэч, спатканняў, узаемнага прызнання ў каханні.

Верш кампаніі падабаецца. Мне дружна пляскаюць і тут жа прымушаюць выпіць паўшклянкі бімберу. Віктар Мілаванаў нават кароткую прамову гаворыць у мой гонар:

— Малайчына! Маеш здольнасці. Можа, нават большыя, чым у нямецкай мове. Не губляй іх. Жадаю поспеху...

Спяваем. Танцуем пад гітару, на якой іграе тэхнік Папоў. Эве-Іяланце свята падабаецца. Яна расцвіла, як чароўная ружа. Але мы людзі ваенныя. Пасля адзінаццаці адбой. Праводзяць прыгожую польку лейтэнант Мілаванаў і тэхнік Папоў. Я, накінуўшы на плечы шынелак, проста так выходжу на двор. На небе сапраўды ззяюць зоркі, і паўбоханчык месяца вісіць пасярэдзіне неба. Маўкліва стаяць цёмныя купчастыя ліпы. Нават выбухаў з плацдарма не чуваць. Здаецца, у гонар Новага года свет ахоплены лагоднасцю і цішынёй.

Яфрэйтар Яфімцаў паказвае мне, як карыстацца кароткахвалевымі дыяпазонамі «Віражу», на якіх немцы вядуць перамовы. Размовы могуць быць прамыя, калі адзін вайсковы камандзір што-небудзь дакладвае або патрабуе ад другога. Найчасцей, аднак, немцы перамаўляюцца перастукам марзянкі. Радысты навучаны запісваць такі тэкст. Іншы раз вынікаюць суцэльныя радкі лічбаў. Гэта шыфраграмы: група бліжняй разведкі разгадваць іх не ўмее.

Эфір, у зоне якога дзейнічаюць бліжнія нямецкія радыёстанцыі, густа, шчыльна запоўнены падобным да пчалінага зумкання піскам марзянкі, дробненькім перастукам тэлеграфных ключоў, шматгалосіцай шматлікіх размоў. Але гаворкі на рускай мове больш, чым на нямецкай. Разабрацца ў гэтай мітусяніне гукаў амаль немагчыма.

Яфімцаў пакручвае рычажкі, каб узбіцца на якую-небудзь хвалю. Але акрамя паасобных слоў сэнс гаворкі я не схопліваю. Афіцыйныя перадачы з Берліна я разумею намнога лепш.

Аднак я цярпліва сяджу, слухаю. Вынік павінен быць. Бо нездарма амаль месяц я прасядзеў на гарышчы з «Віражом». Акрыўшыся шынялём, я лаўлю размовы ноччу. У начны час эфір праслухоўваецца лепей. Менш камарынага піску, пчалінага гуду, завывання ў эфіры.

На доўгіх хвалях я па-ранейшаму стараюся перахапіць нямецкую ваенную зводку. Асобныя фразы, звароты зводак я вывучыў на памяць. Думаю: гэта спатрэбіцца. Бо буду падслухоўваць вайсковыя перамовы.

Змест ваенных зводак я схопліваю цяпер па радыё зусім нядрэнна. Трэба навучыцца гэтак жа разумець астатнія перамовы.

Як перамяніўся свет за апошнія год-паўтара! Цяпер немцы гавораць не толькі пра Усходні, а і пра Заходні фронт, пра баі ў Венгрыі, Чэхаславакіі, Нідэрландах, Паўночнай Італіі. Аж захліпаюцца нямецкія дыктары, распавядаючы пра бліскучыя перамогі ў Ардэнах. Мяне нават страх бярэ. Няўжо немцы, як у саракавым годзе, зноў пойдуць пераможным крокам па палях Бельгіі, Францыі, гонячы саюзнікаў да берагоў Атлантыкі.

Я не шкадую сну. Начныя практыкаванні не прыпыняю. Немцы гавораць хутка, непрывычна для вуха, але калі ўважліва слухаеш, то нешта зразумееш. Бо ёсць заштампаваныя выразы, сказы, адны і тыя ж словы, якія я вывучыў, чытаючы нямецкія газеты.

Калі ўмееш чытаць нямецкую газету, кнігу, то і гаворку зразумееш. Толькі для гэтага трэба час, практыка.

Наступленне! Яго чакалі даўно, але ўсё адно яно аказалася нечаканым. На Сандамірскім плацдарме раптам загрымела. Грымоты працягваліся дзве гадзіны ці нават болей. Нас падымаюць па баявой трывозе, яшчэ калі ў вокны хаты, дзе мы размяшчаемся, глядзіць цемень ночы.

Раніцай да хаты пад'язджае «студэбекер». У кабіне старшы лейтэнант Пылянкоў. Дзіўны наш камандзір. Жыве наводдаль ад групы, якой камандуе, і зусім мала цікавіцца, чым мы займаемся. Ён, праўда, бяскрыўдны. Жыць нікому не замінае. Не стараецца нас караць. Два дні назад Грыдзін напіўся і яго перахапілі на вуліцы патрулі. Аднак Пылянкоў не даў справе ходу.

Артылерыя грыміць. Па працягласці артпадрыхтоўка не саступае той, якая была пры прарыве першай лініі Манергейма на Карэльскім перашыйку. Неба на захадзе зацягнута суцэльным дымам. Час ад часу дым нібы пранізваецца вогненнымі палосамі. Завываючы, пасылаюць снарады «ка-

цюшы». Самалётаў няма. Нізкае, хмарнае неба не дае разгарнуцца авіяцыі.

«Студэбекер» кранаецца. На вуліцы купкі палякаў. Твары іх узрушаныя. Дзіва няма. Радзецкае войска, як яны нас называюць, рушыла канчаткова вызваляць Польшчу. У адной купцы я бачу Эву-Іяланту. Расчырванелая, узрушаная, яна махае нам рукой. Прыгожая дзяўчына. Такой прыгожай я, здаецца, яшчэ ніколі ні бачыў.

Наступленне паспяховае. У першы ж дзень нямецкая абарона прарвана. У дзірку хлынулі танкі, самаходкі, артылерыйскія часці і нават прыдадзены арміі кавалерыйскі корпус.

Я першы раз удзельнічаю ў такім наступленні. Бо і на Карэльскім перашыйку, і ва Усходняй Прусіі мы займалі пустыя, без насельніцтва вёскі, гарады. Тут іншы малюнак. Снег пакрыў палі, лясы, дахі хат белай коўдрай. Холадна, ветрана. Але на вуліцах кожнага паселішча, праз якое мы праязджаем, мноства народу. Усе — ад старога да малога — вывалілі на вуліцы. Вітаюць нас.

У мяне радасна б’ецца сэрца. Часам нават слязіна на вачах выступае. Ніколі не думаў, што чужая краіна будзе нас гэтак вітаць.

Зімовы дзень кароткі. Мы праскочылі некалькі паселішчаў. Усе яны густа, шчыльна запоўнены войскам. Можа, па гэтай прычыне мы вымушаны начаваць у лесе. Сячом яловыя лапкі, засцілаем снег. Нават шалашоў не робім. Няма на гэта часу.

На мне ватоўка, валёнкі, шынель. У партызанах я начаваў у лесе пры горшай вопратцы. Наламаўшы галля, прытаптаўшы логвішча ў снезе, я кладу ў галавы рэчавы мяшок, акрываючыся шынялём. Праз навісь галін праглядваюць яркія зімовыя зоркі. Здалёк, як бы з-пад зямлі, даносяцца гукі артылерыйскай кананады. Я ўспамінаю свае ранейшыя прыгоды. У халодны восеньскі дзень, калі з неба сеялася снежная крупка, уласаўцы выгналі наш партызанскі атрад з наседжанай, з добротнымі цёплымі хатамі вёскі. Доўгая, як змяя, партызанская калона пабрыла па асушаным запушчаным балоце, на якім трава, розныя рапяхі вымахалі ў рост чалавека. Лесу блізка няма. Каля вёскі, нашчэнт спаленай немцамі, мы з сухой травы, бадылёў сплялі нізенькія шалашы. У іх можна

было толькі ляжаць. Я не меў ні шыняля, ні паліто. Толькі пінжачок. Я ляжаў у шалашы, ляскаючы ад холаду зубамі. І нават не захварэў.

Раніцай — у паход. Мільгаюць аснежаныя палі, лугавіны, лясы. Вёскі пераважна драўляныя, падобныя на беларускія. Хоць да Беларусі адсюль далёка.

Першы прыпынак. У гарадку Хмельнік. Не надта кідкі гарадок. Аблупленыя сцены мураваных аднапавярховых і двухпавярховых дамкоў, вузкія цесныя двары і сям-там праваленыя дахі, замест шыбін у вокнах лісты фанеры.

Радысты, атрымаўшы памяшканне (на групу выдзелены дамок), разгортваюць «Віражы». Я саджуся за прыёмнік. У эфіры поўнае бязладдзе. Немцы вядуць перамовы адкрытым тэкстам. Але галасы наплываюць адзін на другі, зліваюцца. Цяжка што-небудзь разабраць. Толькі паасобныя словы. Але і з гэтых слоў, калі сядзіш за прыёмнікам некалькі гадзін, поўнае ўражанне складваецца — немцы адступаюць. У эфіры лямант: няма боепрыпасаў, рускія танкі абыходзяць пазіцыі, адразаюць, акружаюць войскі... Вось так, панове! Гэта вам вылазіць бокам сорак першы год. Ніхто вас не запрашаў у госці ні ў Польшчу, ні ў Расію. Вечарам кожны перакладчык аддае літкі з перахопленымі звесткамі камандзіру групы.

І зноў у наступ.

Мільгаюць перад вачамі гарады, гарадкі, бясконцыя вёскі, лясы, палі, пераправы на рэках і рэчках. Я ледзьве назвы паспяваю запомніць. Кельцэ, Астравец, Рыбнік. Больш чым на дзень ні ў адным з іх мы не затрымліваемся. Разгортваем «Віражы», слухаем размовы, паспешліва складваем данясенні. І зноў наперад! Ніколі за вайну я не адчуваў сябе ў такой меры бадзягам-авантурнікам як тут, на ўзгоркавата-раўнінных прасторах паўднёвай Польшчы. Не паспеем заняць гарадок, атабарыцца ў якім-небудзь дамку, пазнаёміцца з гаспадарамі, як новая каманда: «По колесам!» Выбіраемся, грузімся ў «студэбекер». Забываюцца твары гаспадароў-палякаў, якія далі прытулак на ноч, абрысы гарадкоў, двароў, пакояў, у якіх прыйшлося начаваць.

## VIII

Адзін выпадак запамінаецца. Прыбыўшы вечарам у нейкі гарадок, мы разгортваем «Віражы» і, каб паслухаць апошнія паведамленні, ловім Маскву — і дзіва дзіўнае: Масква перадае польскі гімн. Мы хутка цямім, у чым справа.

— Пан! — гукаем гаспадара.— Вызвалена Варшава. Ваша сталіца. Трэба адзначыць такую вялікую падзею, пан...

У вачах бялявага каржакаватага мешчанчука радасна блішчаць слёзы. Але тут жа бляск іх тухне. Гаспадар зацята чухае патыліцу.

— Але вудкі не маён...

— Пан, у нас грошы ёсць. Польскія злотыя. Ідзі купі гарэлкі, пан.

Дзівячыся на яшчэ нябачаныя злотыя, на якіх сапраўды ўсё напісана па-польску, гаспадар забірае грошы, выходзіць у сенечкі, стаіць там некалькі хвілін і, выцягнуўшы з засека, з кастрыцы трохі заінелую бутэльку бімберу, вяртаецца ў пакой. Чаркі за вызваленне Варшавы куляе з намі нароўні. Так, патрыёт ён бясспрэчны, але і гандляр харошы. Вайна абдзерла іх да ніткі. Таму мы не крыўдуем. Людзям трэба жыць.

Армія імкліва наступае. Хоць наступаць цяжка: на дарогах снежная каша, разводдзе. Дзесьці збоку застаюцца Чэнстахоў, Кракаў. І вось мы ў Сілезіі.

Сілезія — нямецкая тэрыторыя, хоць некалі належала палякам. З ходу мы фарсіруем Віслу: у гэтым месцы яна не вельмі шырокая.

Захопліваем Гляйвіц. Горад, які нейкім чынам звязаны з пачаткам Другой сусветнай вайны. Бо, згодна з нямецкімі паведамленнямі, менавіта ў Гляйвіцы палякі нібыта напалі на нямецкую радыёстанцыю, перабілі ахову і завалодалі радыёстанцыяй. Напад Германіі на Польшчу быў, такім чынам, як бы вымушаным.

Гляйвіц — горад невялікі. Белы, чысты. Армія так імкліва ірвецца наперад, што нават полк сувязі, пасаджаны на калёсы, не паспявае за ёй. У выніку частку маёмасці полк пакідае ў Гляйвіцы. На яе ахову выдзяляе некалькі чалавек. У тым ліку мяне, Папова, Грыдзіна.

Маёмасць палка — наматаныя на драўляныя колы скруткі рознага кабелю, дроту, скрынкі з палявымі тэлефоннымі апаратамі, іншы неабходны сувязістам скарб — ляжыць проста на ўзбочыне вуліцы, акрытая брызентам. У вуглавым доме, з акна якога відаць брызентавая горка, я знаходжу нямецкую сям'ю.

— Мы хочам пасяліцца ў вас на некалькі дзён. Нас пяць чалавек.

Пачуўшы нямецкую гаворку, хоць, можа, не зусім правільную, тры досыць мілавідныя немкі неяк нават паспешліва згаджаюцца.

Пазней я высвятляю прычыну паспешлівай згоды. У душах тутэйшых немцаў тоіцца неразвеяны страх перад рускімі. У горадзе шмат воінскіх часцей, байцы якіх па той ці іншай прычыне бryндаюць па кватэрах. Пра іх намеры немцы могуць толькі здагадвацца. Таму мы для гаспадынь кватэры жаданыя госці.

Гаспадыні адводзяць нам асобны пакой.

Пакой чысты, прасторны. І варта, якую мы нясем з сувязістамі другіх рот, узводаў, займае не гэтак многа часу. Толькі палкавое ПФС харчу нам не пакінула. Нават НЗ не выдала. Маўляў, дзень-два пратрымаецеся, а там прыедзем і забяром.

Аднак мінае дзень, другі. Даўно мы пагрызлі, якія ў нас былі, сухары, запіваючы іх несалодкім чаем. А голад — не цётка. Ён ушчыльную падступае да нас, байцоў-пераможцаў, якія першымі ступілі на нямецкую зямлю.

Параіўшыся, таварышы ўпаўнаважваюць мяне дамовіцца з гаспадынямі наконт харчавання.

З маёй нямецкай мовай справа абстаіць някепска. Я разумею немак, яны — мяне.

— Наша часць пайшла наперад,— тлумачу мілавідным жанчынам.— Абяцалі праз дзень-два забраць. Ды штосьці здарылася. Ці не змаглі б вы дзень-два нас пракарміць? Прадукты вам вернем.

О так, гаспадыні згодны. Яны наогул намі задаволены. Не думалі, што рускія такія далікатныя. Запасы іх, праўда, невялікія, але ж мы харч вернем. У адваротным выпадку яны самі будуць галадаць.

Раніцай мы атрымліваем па кубачку ячменнай кавы і па тоненькай скібачцы намазанага мармеладам хлеба. У абед — талерачку зупы, дзве лыжкі тоўчанай бульбы, пасыпанай зялёным гарошкам. Праглытваем гэта імгнення і чакаем, што будзе далей. Вечарам шклянка чаю...

Божа, няўжо немцы вось гэтак жывуць?

Нас даймае голад. Я ўспамінаю запасны полк. Пасля трох тыдняў знаходжання ў ім я тры месяцы не мог як след ад'есціся. Перастаў адчуваць голад толькі ў час наступлення на Карэльскім перашыйку, калі атрымалі першую катэгорыю харчавання, а нашы процівагазныя сумкі напоўніліся бязважкімі, тоненькімі, як лісты паперы, фінскімі галетамі.

Трэба дзейнічаць. Сорамна воінам-пераможцам ляскаць зубамі ад голаду.

Мы пачынаем варушыцца. Шустры Грыдзін вынюхвае: ёсць нямецкі харчовы склад, размешчаны не так далёка ад дома, які мы займаем. Ахова — звычайныя пехацінцы.

На перамовы з пяхотай ідуць Папоў і Грыдзін. Пра сваё бядотнае становішча расказваюць маладому, сімпатычнаму лейтэнанту, які ўзначальвае ахову.

— Паможам вам,— лейтэнант пасмейваецца.— Што вы дасцё ўзамен?

— Радыёпрыёмнік,— адказвае вынаходлівы Папоў.— Батарэі да яго. Будзеце слухаць у сваім бараку вясёлую музыку.

У ахоўнікаў ёсць трафейны пікапчык. Папоў з Грыдзіным грузяць у кузаў аўтамабільчыка скрынку з мяснымі кансервамі, з жоўтымі бляшанкамі плаўленага сыру, вялікія бляшанкі з павідлам, шмальцам, цаглінак з дзясятак печанага нямецкага хлеба, які доўга захоўваецца і не псуецца.

Немкі-гаспадыні нямеюць ад здзіўлення, назіраючы за скрынкамі, пакункамі, якія мы носім у пакой. Папоў забірае з сабой адразу два прыёмнікі. Іх у яго некалькі. Ён радыёпрыёмнікі збірае дзе толькі можа, корпаецца ў іх, рамантуе, і яны ў яго ўмелых руках праз гадзіну ці дзве пачынаюць галасіць музыкай і балбатаць на розных мовах.

Вяртаецца Папоў з блокам цыгарэт «Privat». Значыць, і курыць будзе што.

Яшчэ праз гадзіну Грыдзін прыносіць бутэльку шнапсу.

Гаспадыні кватэры — гэта маці і дзве дачкі. Для сваіх сарака гадоў маці выглядае нават залішне маладжавай. Старэйшай дачцэ трохі больш чым дваццаць, маладзейшай трохі менш. Відаць, маці рана выйшла замуж. Пра гаспадара мы дыпламатычна не пытаем.

На парадку дня, такім чынам, невялікае баляванне. Трэба ж аддзячыць гаспадыням за іх прыхільнасць да нас. Прыхапіўшы пару бляшанак з кансервамі, Грыдзін выменьвае іх на яшчэ адну бутэльку шнапсу. Ёсць дзве бутэлькі гаручай вадкасці.

Пачастунак мы наладжваем у сваім пакоі. Закускі дастаткова і гарэлкі таксама. Немкі п’юць чарка ў чарку з намі, чырванеюць, узбуджаюцца і пачынаюць гэтак балбатаць, што я з іх гаворкі мала што разумею... Але гэта п’яныя немкі. Цвярозых я разумею. Гэта мяне цешыць. Значыць, і з палоннымі, калі прыйдзецца, буду гэтак жа размаўляць.

Час ісці на варту. Я апранаюся, выходжу з пакоя і бачу малюнак нечаканы. Сяржант Папоў, затуліўшыся з малодшай немачкай на кухні, зацята цалуюцца. Немачка нават рукі закінула на шыю рсламу сяржанту. Нібы павісла на ім.

На варце ўжо трэці ці чацвёрты раз я стаю ў пары з тэлефаністкай Галяй Ігошынай. Галя прысадзістая, яе шыракаваты, сімпатычны твар густа засеяны вяснушкамі. Я з Галяй патроху размаўляю, ведаю, што яна з Валагодскай вобласці, скончыла восем класаў і добраахвотніцай пайшла ў армію. Аднак чым займаецца Галя ў палку, я не ведаю. У стралковым палку тэлефаністкам не пазайздросціш. Надрываюць голас, безупынна выклікаючы «Бярозу» ці «Сасну», круцячы ручку драўлянай каробкі вайсковага тэлефона. Пад выбухамі мін, снарадаў бегаюць звязваць провад, які перабівае дзесяць раз на дзень. Тэлефаністамі ў стралковых ротах звычайна служаць пажылыя мужчыны, хлопцы, і забівае, раніць іх на вайне, можа, нават часцей, чым звычайных байцоў.

Я расказваю Галі пра ўзвод пешай разведкі, у якім служыў. Трохі пахваляюся, як хадзіў з разведчыкамі ў варожы тыл, як прыйшлося адступаць ва Усходняй Прусіі.

Першы за зіму сонечны дзень. Растайвае снег, лагодна абвявае твар нехалодны заходні вецер. Нечакана з белых пушыстых аблокаў вынырвае, як злодзей, нямецкі самалёт, праносіцца над гарадком. Я не паспяваю вокам міргнуць, як ля краю пакрытай брызентам кучы ўздымаецца чорны слуп зямлі. Мне нібы гарачым вугалем абпальвае шыю. Я хапаюся рукой за патыліцу і бачу на ёй кроў.

Я разумею, што сур'ёзнай раны няма, відаць, проста драпіна. Другі раз за вайну церпіць мая бедная галава. Да мяне падбягае збялелая Галя, мітусіцца, як спалоханая птушка, не ведаючы, што рабіць. Трэба перавязаць шыю. Тым часам бінту не маем ні я, ні Галя.

Я прашу Галю працягваць варту. Сам іду ў дом да таварышаў. Немкі, бачачы маю залітую крывёй ватоўку, ледзь не трацяць прытомнасць. Папоў здымае з мяне ватоўку, прамывае рану гарэлкай (у адной пляшцы яе трохі засталося), змазвае ранку ёдам. Нарэшце абвязвае шыю бінтом. Толькі цяпер я адчуваю востры боль. Нават галава кружыцца, а ў вачах мільгаюць разнаколерныя пісягі.

— Маеш шчасце,— напаўголаса гаворыць Папоў.— Асколак мог быць большы. Мог глыбей залезці.

На варту я ісці не магу. Кладуся на ложак і неяк адразу засынаю. Між тым Папоў прыводзіць фельчара, немаладога, з добрым маршчыністым тварам дзядзьку з суседняй воінскай часці. Фельчар робіць мне супроцьсталбнячны ўкол.

— Тут шпіталь ёсць,— гаворыць фельчар.— Паляжаў бы дні два-тры. Месца небяспечнае...

Аднак я ў шпіталь не хачу. Калі туды траплю, то назад у групу бліжняй разведкі не вярнуся. Старшых сяржантаў, няхай яны займаюць афіцэрскія пасады, у часці, з якіх яны выбылі па раненні, назад не пасылаюць. Накіроўваюць на фронт у звычайных маршавых ротах.

Мы яшчэ два дні застаемся ў гарадку. Нарэшце за намі прыбываюць машыны. Грузім маёмасць палка ў крыты кузаў, залазім самі. Немкі, у якіх мы кватаравалі амаль два тыдні, ледзь не плачуць. Мы з імі зжыліся лепей не трэба. Але на вайне больш расстанняў, чым сустрэч.

## IX

Гарадок ці пасёлак, куды мы прыехалі, размешчаны за Одэрам. Ён белы, чысты, і ніякіх слядоў вайны на ягоных вуліцах не відаць. Захапілі яго з ходу. Але жыхароў, як у Гляйвіцы, няма. Нямецкае войска пагнала іх перад сабой. Такая карціна для нас не новая.

Мая рана загойваецца. Бінты я стараюся хаваць пад каўняром гімнасцёркі. Але яны відаць. Усім, хто пытаецца, я адказваю, што на шыі ўскочыў фурункул.

У групе перамены. З'явіліся тры новыя перакладчыкі. Радысты з іх насміхаюцца. Рослы, шыракаплечы, з нібы намаляваным лялечным тварам малодшы лейтэнант Валынец за шэсць гадзін дзяжурства не злавіў у эфіры ніводнага нямецкага паведамлення. Між тым скончыў гадавыя курсы пры ваенным інстытуце замежных моў. Не лепшыя поспехі паказвае яшчэ адна новенькая — малодшы лейтэнант Давыдава, танклявая, не вельмі прыгожая дзяўчына, якая таксама прыслана з ваенных курсаў.

Аказваецца, дрэнна вучаць ваенных перакладчыкаў. Я, аднак, не дзіўлюся. Што за год паспееш? У школе ад пятага да дзясятага класа вывучаюць нямецкую мову. І многія выпускнікі прасцейшага артыкульчыка без слоўніка не перакладуць. Практычна ўсе тыя, хто заканчвае не толькі сярэднюю школу, але нават педагагічныя, іншыя інстытуты, замежнай мовы не ведаюць.

Трэці перакладчык — сяржант Фельдман. У дыяганалевай гімнасцёрцы, брыджах, начышчаных да бляску хромавых ботах, ён адразу пачынае круціцца каля начальства — старшага лейтэнанта Пылянкова, лейтэнанта Пытляванага. І так здараецца, што за «Віраж» не садзіцца. Неяк выкручваецца ад дзяжурства. Фельдман родам з Латвіі, пахваляецца, што нямецкую мову ведае, як рускую, бо працаваў камівояжорам, ездзіў па многіх краінах. Праз некалькі дзён у групе паяўляецца і чацвёрты новы перакладчык — радавы Сямёнаў. Ён такі ганарысты, што нават ні з кім з нас не хоча знаёміцца. Высокі, з пабітым воспаю жорсткім, вузкім тварам, гадоў трыццаці, ён да гэтага быў нейкім пісарам у высокім армейскім шта-

бе. Відаць, адтуль вынес начальніцкія замашкі. І не толькі замашкі. На Сямёнаве новая афіцэрская гімнасцёрка, брыджы, ён курыць нямецкія цыгарэты, якіх у яго вялікі запас.

Высвятляецца: Сямёнаў скончыў педінстытут замежных моў.

Наступленне між тым запавольваецца. Тут, у Верхняй Сілезіі, вайна робіцца пазіцыйнай. Немцы закопваюцца ў зямлю, размовы ў эфіры вядуць шыфраваныя. Седзячы над «Віражом», мала што вывудзіш. Суцэльная марзянка.

Высокае начальства, узмацняючы групу бліжняй разведкі, відаць, спадзявалася на большы, чым ёсць, поспех. Групу скарачаюць. Праўдзівей, забіраюць лепшых перакладчыкаў у вышэйшыя штабы. Лейтэнанта Мілаванава перакідваюць у штаб корпуса, хоць забеспячэнне ён атрымлівае ў групе. Радавога Сямёнава, які нават не паспеў ні з кім пазнаёміцца, перакідваюць у армейскі штаб.

Месяц люты дыша вятрамі, завеямі. Я паспеў адчуць: зіма тут, у Сілезіі, мякчэйшая, чым у нас на Беларусі. Снегу менш выпадае, а вялікіх маразоў наогул няма.

Узгоркаватая раўніна густа пакрыта паселішчамі. Здаецца, што дамкі ў пасёлках аднолькавыя, белакаменныя, з чырвонымі чарапічнымі дахамі. На даляглядзе ўздымаюцца пакатыя горы. Уступ за ўступам яны сягаюць вышэй і вышэй. Іх седлавіны, пакрытыя хвойнымі лясамі, губляюцца ў ахутанай туманам далечыні. Гэта Судэты.

З радыё справа прыпынена. Цяпер на чарзе падслухоўванне нямецкіх тэлефонных размоў. Тэлефаністы ходзяць хмурыя. Яны ведаюць, што такое тэлефоннае падслухоўванне. На поўнач ад Выбарга, каля ракі Вуоксы, праводзілася аперацыя з выкідваннем разведчыкаў на нейтральную паласу. Усе тры групы загінулі. Тры тэлефаністы і тры перакладчыкі, белабрысыя хлапцы-інгермаландцы з-пад Ленінграда, якія ведалі фінскую мову.

Дзень між тым удалы. Я нарэшце атрымліваю адразу лісты ад Алесі Малейкі і Гэлі Машчынскай. Доўга я іх чакаў. Увесь той час, калі пасля партызан пайшоў у армію. Ад знаёмых хлопцаў, дзяўчат я меў пісьмы яшчэ ў запасным палку, на Карэльскім перашыйку і нават ва Усходняй Прусіі, дзе

знаходзіўся не так і доўга. Асноўныя местачковыя навіны я ведаў. Дый не было радасных навін. То аднаго, то другога школьнага хлопца забіла на вайне. Вось і ўсе паведамленні.

Я дапытваўся ў лістах пра Алесю Малейку, але адказу не атрымліваў. Мала хто ў мястэчку яе ведаў. Цяпер вось сама напісала. Почырк акуратны, круглы. Сказы кароткія, як бы абдуманыя. З ліста не відаць, што Алеся мне пісала. Яна, аказваецца, мінулае лета вучылася ў Мазыры, на педагагічных курсах. У Сівалобах, на лясной дачы, болей не жыве. Бацьку перавялі на ранейшае месца: у лясную глуш паблізу ракі Беразіны.

Мне ўсё адно прыемны Алесін ліст. Ён як бы вяртае мяне ў зялёнае мястэчка, на пясчаны пляц старой школы, дзе размяшчаліся настаўніцкія курсы. Тады, перад вайной, Алеся першая прыслала мне ліст. То была пара ранніх юнацкіх парыванняў і мар. Харошы, крылаты час. Лепшага за свае дваццаць гадоў я не бачыў. Дачуўшыся, што я іду ў армію, Алеся са сваіх Сівалобаў з'явілася ў мястэчка. Зазвала мяне на кватэру адной сваёй сяброўкі, з якой вучылася на настаўніцкіх курсах, і мы ўсю ноч прасядзелі з ёй і прагаварылі. Назаўтра я ўбачыў яе ў кампаніі двух маладых лейтэнантаў. Яна нават не спынілася, а толькі памахала мне рукой. Як бы не было ні гарачай размовы, ні абяцанняў, ні пацалункаў.

У Алесіным пісьме хоць трохі ды адчуваецца прыхільнасць, цікавасць да маёй асобы. У трохкутнічку, які прыслала Гэля Машчынская, нават гэтага няма. Яна коратка, суха паведамляе, што служыць у арміі — па ўсім відаць — у ваенным шпіталі. Я не дакараю Гэлю. У яе загінулі бацька, маці, і ёй не да сантыментаў. Але тое, што Гэля ў шпіталі, мяне непрыемна ўражвае. Памкамузвода Смірноў тры разы ляжаў у шпіталі і пра дзяўчат, якія там служаць, ён расказвае не надта прыемныя гісторыі.

Цвярозая развага падказвае: не варта мне пісаць ні Алесі, ні Гэлі. Я ім непатрэбен. Але што рабіць тады з летуценнямі, марамі, якімі, нягледзячы на згрызоты вайны, перапоўнена душа. Ёсць, відаць, лепшыя дзяўчаты, чым Алеся і Гэля. Але я іх не ведаю, і толькі гэтыя дзве мне падабаюцца.

Я пішу падрабязнае пісьмо Алесі і кароценькае, падобнае на даведку, Гэлі Машчынскай. Гэлі між іншым я паведамляю, што служу перакладчыкам.

Наступленне прыпынілася. Нас мусяць раскідаць па стралковых палках. Дзеля падслухоўвання нямецкіх тэлефонаў. Двух тэлефаністаў з перакладчыкам пасадзяць у якую-небудзь ямку на нейтральнай паласе. Сядзі і слухай. Мяне адольвае страх. Мы фактычна будзем безабароннымі перад немцамі. З той ямкі немцы проста могуць выкрасці гэткіх, як мы, доблесных воінаў. Што тады?..

Гарадок ціхі, спакойны. Трохі спалены. Тут размяшчаецца штаб арміі, ягоныя службы. Нам адведзена на зборы два дні. Карыстаючыся вольным часам, я вандрую па гарадку. Завітваю ў пустыя кватэры. Нічым яны не ўражваюць. Дватры пакойчыкі, кухня. Харчовых прыпасаў няма. Ніякага параўнання з Усходняй Прусіяй. Можна патрапіць на кухні на шкляныя слоікі з дробна пасечанымі долькамі бадыля, які па колеры нагадвае звычайны лопух. Відаць, гэта рэвень. Кіслы на смак гэты рэвень.

Дамы, кватэры абшуканы. Многа людзей у іх пабывала. На падлозе валяюцца паперы, розныя шкуматы, вопратка. У адным месцы мне шанцуе. Я заўважаю мураваны дамок, які стаіць у глыбіні сада пад шчыльнай навіссю акуратна падстрыжаных яблынь. Да доміка нават сцежкі няма: суцэльны снежны цалік. Са снегу вытыркаюцца розныя выпетраныя на ветры былкі. На іх жыруюць чырванагрудыя снегіры. Пры маім паяўленні яны дружна ўспырхваюць. Усё, як і ў нас. Зіма ідзе на схіл, і птушкі не грэбуюць насеннем дзікай травы. Увогуле мне падабаецца Сілезія. Штосьці ў ёй блізкае, роднае. Старажытныя славяне выбралі гэты ўзгоркаваты, з пакрытымі сасновым лесам гарамі край. Горы, нібы прыступкі аграмаднай лесвіцы, уздымаюцца адна над другой. Месяц люты на свеце, але не вельмі холадна. Тут, у Сілезіі, цяплей, чым на Беларусі, і адлігі бываюць часцей.

У дамку нехта пабываў. Вэрхалу, аднак, няма. На кухні я заўважаю ўмураваны ў сценку шкапчык. Адчыняю дзверцы — і вачам не веру: розныя шкляныя слоікі, бляшанкі, бутэлькі. Найбольш слоікаў з рэвенем і фасоляй. Маладую фасолю

немцы марынуюць разам са стручкамі. Сярод пакінутага багацця я заўважаю банку са шмальцам. Тое што трэба. На нейтральнай паласе, дзе будзем падслухоўваць немцаў, абедаў нам не прынясуць. Дадуць што-небудзь сухім пайком. Якраз прыдасца намазаць шмальцам лусту хлеба.

Знаходжу закаркаваную бутэльку нейкай вадкасці. У такіх бутэльках нямецкі шнапс. Хаваю бутэльку ў палявую сумку. Нам забаронена браць які-небудзь алкаголь. Бо побач з этылавым спіртам трапляецца метылавы, тэхнічны, якім можна атруціцца. Але піць шнапс сёння ці заўтра я не збіраюся. Ёсць час разабрацца.

У спальным пакоіку я бачу шкап з кнігамі. Пад шклом акуратныя рознакаляровыя томікі. Гаспадар дамка, магчыма, быў паляк ці цікавіўся пальшчызнаю. Бо палавіна кніг на польскай мове. Я кладу ў сумку «Польска-нямецкі слоўнік» і раман Рэмарка «На Заходнім фронце без перамен» на польскай мове. Дзіва дзіўнае: я нарэшце бачу ў шкапе «Вікторыю» Кнута Гамсуна. Дакладна такую, якую дала мне некалі Гэля Машчынская: з абцягнутай чырвонай матэрыяй цвёрдай вокладкай, тоўстай паперай, выразным, лёгкім для чытання друкам. Я ўспрымаю гэта як шчаслівы знак лёсу і, падхоплены пругкай радаснай хваляй, нібы на крылах вылятаю з дамка.

## X

Церусіцца снег. Нібы густой сеткай завешана прастора ад зямлі да цёмна-свінцовага неба. Дзень пабольшаў, пасвятлеў, але з-за снежнай замеці нічога не відаць за некалькі крокаў.

Мы грузімся на «студэбекер». Я ў групе з малодшым сяржантам Грыдзіным і яфрэйтарам Мерзляковым. У другой — Якаў Гоц таксама з двума тэлефаністамі. Мы едзем на перадавую. У два розныя палкі.

Вязе нас лейтэнант Пытляваны. У яго прадатэстаты на дзве нашыя групы. Карміцца мы павінны з палкавых кухань. Апроч гэтага кожны з нас атрымаў НЗ на тры дні.

Белая пуховая роўнядзь навокал. Ціхія пасёлкі, вёскі. На фронце актыўных дзеянняў няма. Нават аддаленых артылерыйскіх грымотаў не чуваць.

У мяне зноў пачынае балець параненая асколкам патыліца. Некалькі дзён назад боль аціх. Я нават марлевую павязку зняў. Учора адчуванне болю вярнулася. Варта было ўсё-такі паказацца ў санітарную часць. Але тады б падумалі, што я ўхіляюся ад паездкі на перадавую.

Лісты, атрыманыя ад Алесі Малейкі і Гэлі Машчынскай, мяне моцна ўзрушылі. Як бы зноў працягнулася ніць паміж бясхмарнымі перадваеннымі і сённяшнімі днямі. Я ўспамінаю зарослы рэдкай травой пясчаны двор старой школы, у якой я пазнаёміўся з Алесяй Малейкай. Я памятаю гэты двор яшчэ з дзён дзяцінства. Тры паасобныя дамы, перавезеныя з далёкіх хутароў, замкнулі школьны пляц на манер падковы.

У галоўным корпусе — з двума ганкамі, пафарбаваным бляшаным дахам, вялікімі светлымі вокнамі — вучыліся «А» класы. Там было прыгажэй, утульней, чым у нашых сялянскіх хатах. Недзе тады, калі я толькі пачаў вучыцца, у сыпучы пясок уваткнулі маладзенькія саджанцы таполяў. Кожны з іх спецыяльна агарадзілі, зрабіўшы трохвугольныя парканчыкі. Калі я вучыўся з Алесяй на месячных настаўніцкіх курсах, таполі сталі вялізнымі, разлапістымі дрэвамі. Яны, нібы хмары, навісалі над былымі хатамі хутаранцаў.

Мы вучыліся ў галоўным корпусе. У ім было цемнавата, бо густыя заралі бэзу нашчэнт закрылі вокны. А ў школьных хатах, у якіх вучыліся класы «Б», размяшчалася раённая кантора наркамзага. У ёй працавала шмат народу. Грудастыя дзяўчаты з навакольных вёсак з прычоскамі-завіўкамі, зробленымі ў мясцовай цырульні, па сканчэнні сямігодак ахвотна ішлі на работу ў гэтую кантору. На абед яны куплялі па бутэльцы ліманаду і булачцы за трыццаць шэсць капеек. Аднак нават ад гэтага небагатага харчу не мізарнелі ні тварам, ні паставай.

Я люблю мясціны, па якіх хадзіў. Алесю Малейку нібы бачу праз стары школьны двор. Гэтак жа Гэля Машчынская паўстае ў вачах, калі ўспамінаю леспрамгасаўскую бібліятэку, чырвоны куток, хоць яна ў гэтай бібліятэцы, здаецца, ні разу не была. Я да яе хадзіў у раённую бібліятэку, якая размяшчалася ў прыбудоўцы да Дома культуры. Прыстанцыйны сквер, воданапорная калонка з пругкім сцюдзёным струменем вады

таксама як бы нагадваюць пра Гэлю. Бо там я чакаў яе, прагнучы развітацца, калі яна сабралася ад'язджаць з мястэчка. Але так і не развітаўся.

Вечарэе. Навакол валадарыць сіняваты змрок. Прыехалі да месца, дзе трэба высаджвацца мне з Грыдзіным і Мерзляковым. Дзесьці паблізу лінія фронту. Мы развітваемся з камандай Якава Гоца, якая застаецца ў машыне. Несучы за плячамі свой рыштунак, пешшу пераходзім вузенькую рачулку, пакрытую заснежаным ільдом. На снезе многа слядоў. Сям-там шырокія палонкі: у гэтых месцах разарваліся снарады і міны. Але палонкі зноў зацягнула ільдом. Чуецца аддалены пошчак кулямётаў, траскатня аўтаматаў, адзіночныя стрэлы.

З намі лейтэнант Пытляваны. Пакінуўшы нас у палку, лейтэнант павязе ў другі полк групу Гоца. Я бачу: лейтэнант Пытляваны разгублены: не служыў у стралковым палку.

— Нам трэба афіцэр разведкі,— гавару я.— Ён яшчэ называецца ПНШ-два. Або хоць камандзір узвода пешай разведкі.

Правы, стромы бераг рачулкі ў сотах бліндажоў, зямлянак, выкапаных у гліністым грунце нор, уваход у якія завешаны плашч-палаткамі.

Нас запыняе пажылы, даўно не голены баец з апушчанымі на вушы рагамі шапкі-вушанкі.

— Памочнік начальніка штаба трэба,— гаворыць Пытляваны.

Баец няпэўна махае рукой, паказваючы на процілеглы бераг рачулкі.

— Штаб там...

Пытляваны не ведае, што рабіць. Яго доўгая постаць яшчэ больш сагнулася. Твар пасінеў ад холаду.

— Далёка абарона? — пытаю я.

— Метраў трыста. Трэба на бераг драцца.

— Мы шукаем узвод разведкі. Ці хоць іхні назіральны пункт.

— Недзе тут разведчыкі. Папытайце ў зямлянцы.

Я паварочваюся да Пытляванага.

— Мы знойдзем разведчыкаў. Больш ніхто не трэба. Скажыце ў штабе. Аддайце нашы атэстаты. Галоўнае, каб нас кармілі.

Пытляваны неяк узрадавана кідаецца назад, на лёд.

— Трымайцеся, рабята. Праз дзень-два я прыеду.

Мы шукаем зямлянку разведчыкаў. Неяк залішне ціха робіцца на фронце. Нават далёкага кулямётнага, аўтаматнага пошчаку ўжо не чуваць.

Нарэшце натыкаемся на акуратную, з сінімі жалезнымі дзверцамі (знятымі, відаць, з нейкага аўтобуса) зямлянку разведчыкаў. Яна невялікая, утульная. Пасярэдзіне дыша цяплом бляшаная печачка. На саматробным століку, размешчаным усутык да земляных нараў, стаіць сапраўдная лямпа, нават са шклом. Чацвёра вайскоўцаў, схіліўшыся над лямпай, гуляюць у карты.

— Хто такія?

Я выступаю наперад:

— Разведчыкі. З армейскага палка сувязі. Наш лейтэнант пайшоў у штаб. Дамаўляцца, каб нас кармілі, правялі на нейтралку.

— Што будзеце рабіць на нейтралцы?

— Праслухоўваць нямецкія тэлефоны.

Я нібы апынуўся ў знаёмай кампаніі. Хлопцы маладыя, дужыя, добразычлівыя. Праслухоўванне нямецкіх тэлефонаў — справа для іх новая, і, відаць, нечуваная, таму яны поўныя да нас увагі і добразычлівасці.

— Уключыцеся ў нямецкі кабель?

— Не абавязкова. Раскінем свае правады і пачуем немцаў...

— Сядзіце ў зямлянцы. Вось тут, каля печкі. Хіба не хопіць дроту, каб працягнуць да нямецкіх акопаў?

— Тады мы будзем праслухоўваць не нямецкія, а нашы тэлефоны.

Чарнявы плячысты разведчык у камандзірскай безрукаўцы-кажушку пераглядаецца са сваімі таварышамі.

— Будзем думаць. Пасадзім вас перад назіральным пунктам. Каб часам немцы не сцягнулі...

У гэты час адчыняюцца дзверцы і, прыгнуўшыся, у зямлянку заходзяць лейтэнант Пытляваны з незнаёмым старшым лейтэнантам. Разведчыкі падхопліваюцца.

— Вось што, Якаўлеў,— без ніякай прадмовы звяртаецца малады яшчэ старшы лейтэнант да хлапчыны ў афіцэрскім

паўкажушку.— Трэба памагчы армейскім разведчыкам. Пад тваю адказнасць. Харчаванне будуць палучаць у нас. Калі што цікавае выслухаюць, то і нам звесткі перададуць.

Абодва лейтэнанты выходзяць.

— Распранайцеся, хлопцы,— гаворыць плячысты, з добрым шырокім тварам Якаўлеў.— Ноччу к чорту на рогі не палезем. Пойдзем на назіральны пункт і вас прыхопім.

Разведчыкі мне падабаюцца. Норавы знаёмыя. Хоць гэта зусім другі полк. Аднак штосьці мяне непакоіць. Не ведаю — што. Не магу пакуль разабрацца. Аднак засынаю імгненна і сплю добра. Прачынаюся ад таго, што нехта мяне торгае за нагу.

Перада мной Якаўлеў. Ён, аказваецца, малодшы лейтэнант. Учора быў у паўкажушку, і я не заўважыў пагонаў.

Выходзім з зямлянкі. Яснае неба шчодра засеяна зоркамі. У стромым беразе ракі высечаны прыступкі. Па прыступках падымаемся на раўніну. Зноў ахоплівае мяне пачуццё трывогі. Мы ідзём ланцужком, адзін за другім, як звычайна ходзяць разведчыкі. Збоку цямнее нейкае паселішча. Цiснучыся да будынкаў, выходзім на яго ўскраіну.

Пачынаецца траншэя. Доўгая, звілістая. Па ўсіх прыкметах — нямецкая. Акуратныя нішы, бункеры. У адгалінаваннях траншэй праглядваецца штосьці белае. Таропка падхопліваюцца заспаныя вартавыя.

— Пярыны,— тлумачыць Якаўлеў.— Пяхота цяпер спіць на пярынах. Не той стаў немец. Не тыя і мы сталі...

Нарэшце разгадваю, ад чаго неспакой. Ціха на фронце. Нават залішне ціха. На самой перадавой. Ні стрэлу, ні выбуху, ні ўспышкі ракеты. Спяць немцы, спяць нашы.

— Заўсёды вось гэтак? — пытаю Якаўлева.

— Не заўсёды. Бывае, такая завіруха пачнецца.

Дабіраемся да назіральнага пункта. Гэта звычайны бункер, які збудавалі разведчыкі. Злева, справа акопы, траншэі пехацінцаў. Стэрэатруба выведзена наверх зямлянкі-бункера. Пытаю ў Якаўлева:

— У палку ёсць перакладчык?

— Ёсць. Пры штабе.

Вось так. Я амаль пастаянна сядзеў на назіральным пункце.

Якаўлеў размаўляе з разведчыкамі, якія прыйшлі змяніць назіральнікаў. Звяртаецца да мяне:

— Пасядзіце дзень. Разгледзьцеся, прыкіньце. Знойдзем месца, дзе вас пасадзіць. А то ўкрадуць вас немцы і не будзем ведаць адкуль...

Пачынае шарэць світанне. Якаўлеў з разведчыкамі, якіх змянілі іх таварышы, знікаюць. Мне малодшы лейтэнант падабаецца. Добразычлівы, з адкрытай душой. За час службы ў арміі я бачыў многа харошых хлопцаў. Яны паканчалі сярэднія школы, тэхнікумы, нават у інстытутах вучыліся. Вайна зрабіла іх лейтэнантамі, нават капітанамі, камандзірамі ўзводаў, рот, якіх найчасцей забівае. Іх называлі Ванькамі-ўзводнымі...

Некалі такіх хлопцаў я напаткаў, калі толькі вызвалялі мястэчка. Мяне наогул цікавяць людзі, якія не былі ў акупацыі і былі сведкамі падзей з аднаго толькі савецкага боку...

Я разлічваў трапіць у ваеннае вучылішча: маю, можна лічыць, сярэднюю адукацыю, быў падпольшчыкам, партызанам. Але нават маладых падпольшчыкаў і партызан, якія былі пад акупацыяй, у ваенныя вучылішчы не бяруць.

У доме нашага падпольшчыка, агранома Драгуна, яшчэ восенню сорак трэцяга года я пазнаёміўся з вельмі цікавым чалавекам. З капітанам, старэйшым за мяне толькі на два гады. Так здарылася, што мястэчка вызваляла Сталінградская дывізія і якраз у той дзень, калі год назад вакол Сталінграда замкнуліся савецкія клешчы. Капітан доўга не хацеў нічога расказваць пра фронт.

Я адчуў: вайна перавярнула ягоную душу. Пра бой пад Кацельнікавым, калі танкавая армія Гота ішла выбаўляць з акружэння армію Паўлюса, ён расказваў дрыготкім голасам. Бо там, пад Кацельнікавым, адбылося неверагоднае. Стаялі насмерць. Выстаялі, бо інакш было нельга. Вывад з яго апавядання такі. Не толькі танкі, артылерыя, маторы перамагаюць. Але галоўным чынам людзі, калі яны хочуць перамагчы.

Не ведаю, ці жывы капітан з задуменным прыемным тварам. Аграном Драгун, разумная галава, выдатны спецыяліст, загінуў. Драгун ужо быў на фронце. У сорак першым годзе. Адступаў да Дняпра, трапіў у акружэнне. Пасля вызвалення

мястэчка, яму, актыўнаму падпольшчыку, далі бронь: трэба было аднаўляць калгасы, севазвароты. Але зласліўцы пачалі пісаць пра Драгуна розную непатрэбшчыну. Бронь з агранома знялі. Загінуў агараном ва Усходняй Прусіі. Можа, у час таго нашага адступлення...

Я ніякі не прарок, не разумнік, але той памятнай восенню ў мяне канчаткова склалася думка, што вось такія маладыя, адукаваныя хлопцы не маглі не выйграць вайну. Вядома, разам з цягавітымі, вынослівымі дзядзькамі, пераважна калгаснікамі, якія пабачылі ўсялякага гора. Маладыя, пісьменныя хлопцы, якія ўчора былі школьнікамі, канчалі кароткатэрміновыя камандзірскія курсы, камандавалі ўзводамі, ротамі, батальёнамі. Дзядзькі-калгаснікі ішлі пад іх камандай у бой і дзясяткамі гінулі за кожную вёску, пасёлак, пагорак. Крывавая, цяжкая наша дарога...

Дзе б набрала армія камандзіраў, каб не гэтыя адукаваныя хлопцы. Бо я лепей за тых, хто не быў у акупацыі, бачыў, што здарылася з кадравай арміяй у першыя месяцы вайны. Значная частка яе трапіла ў акружэнне, у палон. Бясконцым ланцугом па чыгунцы на ўсход і на захад ішлі былыя байцы, камандзіры, якія вырваліся з палону, акружэння. Ішлі ўсю восень сорак першага года, пакуль цвёрда не ўсталявалася нямецкая ўлада.

Карыстацца стэрэатрубой я ўмею. Увесь дзень мы з тэлефаністамі вывучаем мясцовасць. Перад намі гладкае, трохі ўзгоркавае поле. Па ім прабягае вузкая шасейка, якая злучае два пасёлкі. Пасёлак на правы бок — нічыйны. Той дальні, у які бяжыць шасейка,— у немцаў.

Днём Якаўлеў прыносіць паперку, падобную на лістоўку. Дае мне.

— Прачытай...

Гэта не лістоўка. Гэта інструкцыя, як карыстацца фаўстпатронамі. Я з ходу перакладаю тэкст.

— Прачытай яшчэ раз...

Я чытаю.

Малодшы лейтэнант весялее.

— У нас ёсць фаўстпатроны. Штук дваццаць. Давай паспрабуем.

Праз дзве-тры хвіліны ён прыносіць падобную на булаву галоўку фаўстпатрона і доўгую трубу. У інструкцыі напісана, што галоўку трэба насадзіць на трубу, а трубу трымаць такім чынам, каб даць свабодны выхад газам.

Якаўлеў загараецца: «Давай паспрабуем!» Мы лёгка насаджваем галоўку на трубу. На трубе прымітыўная планка прыцэла і такі ж нязграбна прыпаяны спускавы кручок. Нямецкі пасёлак далёка: з фаўстпатрона можна страляць толькі на бліжнюю адлегласць. Мы цэлімся ў крайні дамок бліжэйшага ад нас пасёлка. Стрэл падобны на гук, калі паравоз раптам выпускае пару. Хвост дыму з трубы, дамок як карова языком злізала. На месцы дамка воблака дыму і пылу. Гэтак жа мы руйнуем другі, трэці дамок.

Нарэшце з бліжэйшай траншэі адчайны крык:

— Такую вашу маць! Перастаньце...

Відаць, каменне ў траншэю трапляе. Мы перастаем страляць. У мяне выблісквае шчаслівая думка:

— Дасцё нам тры фаўсты. Па адным на чалавека. Мы будзем адны.

— Дадзім, браток. Дзякуй за навуку.

Страляніна на перадавой не вельмі актыўная. На нямецкім баку кусты, нават два-тры дрэвы з абцярэбленымі галінамі. Голыя, як пікі.

Нейтральная паласа — аснежанае, з невялікімі пралысінамі поле. На даляглядзе, як і ў другіх мясцінах, уступамі ўздымаюцца пакатыя горы, пакрытыя зялёным хвойным лесам.

Метраў за сотню-паўтары ад бункера разведчыкаў мысок кустоўя. Яно чырванаватага колеру. Лепшага месца няма. Пойдзем туды.

Разведчыкі з намі згаджаюцца. Яны абяцаюць у выпадку небяспекі прыкрыць агнём, пры патрэбе нават выбавіць з бяды.

— Намецце цэль і біце з фаўстпатронаў,— раіць Якаўлеў.

Пад раніцу выбіраемся на поле. На небе ясныя зоркі, і нават сярпок месяца павіс на небасхіле. Грыдзін і Мерзлякоў сцішаныя, маўклівыя. Я таксама ва ўладзе страху. Але па другой прычыне. Баюся, што з нашага мерапрыемства нічога

не атрымаецца. Не ляжаў яшчэ за апаратам УСП і не ведаю, чаго ён варты.

Ідзем ланцужком. Снежны наст тонкі. У твар дзьме вецер. Хоць заходні, але халодны, калючы. Дзіва няма: сярэдзіна лютага. Хоць тут, у Сілезіі, цяплей, чым у Беларусі. Зіма хутка скончыцца, але яшчэ не было ніводнага па-сапраўднаму марознага дня.

Нарэшце дасягаем кустоўя. Яно густое, пругкае. Ёсць высакаватыя дрэўцы. Навобмацак я вызначаю, што гэта дубкі. Зімнія дубкі, выпетранае іх лісце звініць і трымціць.

У шэрай цемені мы знаходзім праталіну і рассцілаем на ёй плашч-палатку. Я думаю пра тое, што трэба выкапаць акоп або хоць паставіць шалашык. Ад ветру. Бо лежачы — адубянееш. Хоць у нас паверх ватніх штаноў, ватовак — шынялі. Яшчэ па плашч-палатцы на кожнага. Малую сапёрную лапатку, нават тапорык мы выпрасілі ў разведчыкаў. І тры фаўстпатроны з надзетымі на трубу галоўкамі прынеслі.

Грыдзін і Мерзлякоў зачышчаюць ножыкам канцы тэлефонных правадоў — яны называюцца вусы,— прымацоўваюць да металічных кантактаў драўлянай скрынкі апарата. Провад у іх намотаны на звычайную катушку.

— Пойдзем,— гаворыць Грыдзін, і ягоны голас злёгку дрыжыць.

— Ідзіце. Калі што, вернецеся па проваду.

Ноч не такая спакойная, як папярэдняя. З левага боку ў неба адна за другой узвіваюцца асвятляльныя ракеты. Раздаецца пошчак кулямётнай чаргі.

Я не ведаю, наколькі густое кустоўе. Можа, яно днём наскрозь праглядваецца. Таму ладжу шалашок. Звязваю провадам вершалінкі маладых дубкоў. Накідваю паўзверх плашчпалатку. І ўжо ёсць зацішны закутак. Вецер, як на полі, гэтак не даймае.

Я нават закурваю ў сваім закутку. Тытунь суцішае хваляванне. Цяпер я думаю пра Грыдзіна і Мерзлякова. Каб яны часам на немцаў не нарваліся. Хто можа сказаць, што немцы не наладзілі такое самае, як мы тут, падслухоўванне.

Марудна цягнуцца хвіліны. Горш за ўсё такое вось, як цяпер, чаканне. Успамінаю наша адступленне ва Усходняй

Прусіі і старшыну Мігайлу, які два тыдні асочваў немцаў, каб вярнуцца да сваіх не з голымі рукамі.

Так склаўся лёс, што ўвесь час я штосьці вынюхваю ў немцаў. Пачынаючы з лета сорак другога года. Калі ў нашай мясцовасці высадзілі групу ваенных разведчыкаў. Я нават бачыў самалёт, на якім дэсантнікі прыляцелі. Сядзеў у гэты час з Алесяй Малейкай на лавачцы ля Сівалобаўскай стражы, у якой яна жыла. Самалёт чорнай птушкай мільгануў у шэрым начным небе, гучна лапочучы маторам, пакружыў над лесам і праз некалькі хвілін знік. З разведчыкамі мы звязаліся ўжо восенню.

Грыдзіна і Мерзлякова няма і няма. Я пачынаю трывожыцца. Па часе яны павінны вярнуцца. Хіба трэба так многа часу, каб расцягнуць сотню метраў проваду. Яшчэ цёмна, немцы сувязістаў заўважыць не могуць. Ды і аўтаматы ў іх ёсць.

Па праўдзе кажучы, я не ведаю, на якіх прынцыпах дзейнічае апарат УСП. Хоць вучыў фізіку. Раней думаў, што ён проста ўзмацняе гук, які зямля, як праваднік, прымае ад тэлефоннага кабелю (дзе-небудзь ізаляцыя на кабелі парвана і металічны дрот сутыкаецца з зямлёй). Але аднойчы тэлефаністы пажартавалі, што могуць падслухаць размову ў суседнім пакоі. Варта толькі падвесіць у пакоі провад.

Акустыку я ведаю слаба. Якім законам вытлумачыць вось такое падслухоўванне, не ведаю. Можа, тут звычайныя радыёхвалі, якія ловіць наш апарат. У дзяцінстве, пасучы кароў, мы наладжвалі «тэлефон». Разматвалі з матчынага клубка звычайныя суравыя ніткі. Уцягвалі іх у бляшанкі ад кансерваў і такім манерам размаўлялі. Штосьці было чуваць нават на адлегласці. Нітка нібы вібрыравала, звінела.

Спачатку паяўляецца Грыдзін. Праз некалькі хвілін Мерзлякоў. Яны расцягвалі драты падалей адзін ад другога. Мой шалаш яны ганьбяць. У ім можна толькі на жываце ляжаць.

На ўсходзе святлее ніжні край неба. Праз густыя зараслі маладога дубняку мы прадзіраемся на ўскраіну мыска. Поле было засеяна кукурузай. Асобныя бадылі і цяпер стаяць. Цэрэбячы кукурузу, гаспадары пакінулі кучы сухога бадылля. Мы разважаем, як гэта бадылле выкарыстаць. Варта, відаць,

пашукаць якую-небудзь ямку, паглыбіць яе, зрабіць акоп і накрыць бадыллем. Тады будзе тое, што трэба. Бо можа каля нас і міна разарвацца, і снарад.

Вяртаемся назад. У кустоўі, блізка да ўскрайку, штосьці шэрае. Мы падыходзім бліжэй і вачам не верым. Стаіць атулены дрэвамі гатовы шалаш. Падобны на чум або вігвам. Складзены з жэрдак, абкладзены дзёрнам. З гарлавінай для дыму.

Пачынае світаць. Недзе бліжэй да рэчкі ірванулі паветра адзін за другім тры выбухі. Мы чуем свіст снарадаў. Нашы адказваюць. На нямецкай пазіцыі ўздымаюцца чорныя стаўбуры зямлі. Вось так будуць лятаць снарады, міны праз нашы галовы. Пакуль не кінуць немцы што-небудзь у нашы кусты. Мысок кустоўя — арыенцір харошы. Але не такі і малы. Крокаў пяцьдзясят у даўжыню і столькі ў шырыню.

Заходзім у шалаш. Пасярэдзіне было вогнішча. І кучка попелу, вугolля. Цяпер стаяць жалезныя рагулькі, на якія чалавек, што жыў тут, вешаў свой кацялок. Знутры шалаш наўкруг апаясаны драўлянымі лаўкамі. У адным месцы нават штосьці падобнае на ложак стаіць з набітым, відаць, саломай пляскатым тапчанчыкам. У кутку, бліжэй да дзвярэй, кучка абгрызеных кукурузных пачаткаў.

Ясна: тут жыў вартаўнік. Які вартаваў навакольнае поле. Гэтую самую кукурузу. У вайну, відаць, было нямала ахвотнікаў паласавацца дармавой кукурузай.

Трэба абжывацца ў шалашы. Нам проста пашанцавала. Інакш будзем мерзнуць як цуцыкі. Мы вяртаемся назад. Тэлефаністы адкручваюць кабель ад апарата, трохі расцягваюць яго між кустоў. У гайку раслі маладыя дубкі. Большасць іх спілавана. Толькі нізкія пеньчукі засталіся.

У шалашы тэлефаністы зноў прыкручваюць драты да апарата. У мяне тоіцца страх перад гэтым незнаёмым апаратам. Ніколі за ім не сядзеў. А раптам ён будзе маўчаць.

Страх знікае імгненна, як толькі я кранаю круглы, нібы гузік, рычажок настройкі. У шалаш, нібы вада праз застаўкі, урываецца мора гукаў. Гэтак жа, як і ў «Віражы».

## XI

Дні два назад я паслаў данясенне ў армейскі разведаддзел. Грыдзін завёз яго ў штаб корпуса, адтуль тэкст перадалі па апараце Бадо. Адразу нам прысылаюць падмацаванне: яшчэ двух тэлефаністаў. Бо ноччу трэба выстаўляць вартавых.

Усё, бадай, так, як пры праслухоўванні эфіру. З той розніцай, што там большая рознагалосіца. І яшчэ: праз апарат УСП добра праслухоўваецца не толькі нямецкая, а і наша перадавая, хоць кабель мы расцягнулі ў нямецкі бок. Часам ротныя, батальённыя камандзіры вядуць размовы горача, з ужываннем мата. Мат разнастайны, багаты.

Гэта толькі замінае рабоце. Я засек тры ці чатыры пункты, адкуль досыць выразна чую немцаў. Размаўляюць адны і тыя тэлефаністы, нямецкія начальнікі, і я паступова прывыкаю да іх галасоў. Не ўсё разумею. Можа, нават менш палавіны. Але калі крукам сядзіш каля драўлянай, пафарбаванай у шэры вайсковы колер каробкі апарата некалькі доўгіх гадзін, то сёе-тое вывудзіш.

Немцы часта ўжываюць слова «Brückenkopf». Я даўно яго ведаю: неаднаразова сустракаў у газетах. Па слоўніку яно перакладаецца як перадмаставое ўмацаванне. Аднак у дадзеным выпадку яно, безумоўна, азначае плацдарм. Само слова «плацдарм» у нямецкай мове мае аж два другія найменні, але ў размовах, якія я чую, немцы ўжываюць толькі гэтае.

Фактычна мы сядзім на плацдарме. Хоць вялікай актыўнасці не праяўляем. Ні мы, ні немцы. Звычайная перастрэлка. Рэдкія нямецкія асвятляльныя ракеты ноччу.

У пачатку вайны — гэта я чуў не раз — немцы нас нікольки не баяліся. Там, дзе яны спыняліся, палілі вогнішчы, нават святло ў вокнах не маскіравалі, прыкладна тое самае цяпер робім мы. Над салдацкімі траншэямі нават днём часта віюцца ледзь бачныя дымкі. З комінаў мураваных дамкоў, якія побач з траншэямі, дымы валяць густыя, прыкметныя. Ніхто нічога не баіцца. Нават мы ў сваім шалашы ноччу разводзім невялікае цяпельца. Каб абагрэцца. Днём палім каменны вугаль. Ён дыму не дае. Вугалю колькі хочаш у пасёлку. Тут Сілезія, блізка ад пасёлка размешчана шахта.

У данясеннях я асцярожны: паведамляю толькі, што немцы вядуць пастаянныя размовы аб нашым плацдарме: яго глыбіні, шырыні, умацаваннях.

Сякі-такі разведчыцкі вопыт я маю яшчэ з дзён акупацыі. Мы дапамагалі ваенным разведчыкам-дэсантнікам, а яны патрабавалі звестак аб руху цягнікоў, аб тым, што вязуць цягнікі на фронт і з фронту. Мы не праваронілі новых танкаў, самаходных артылерыйскіх установак, якія немцы пачалі падкідваць на фронт вясной сорак трэцяга года. Далі іх знешнія характарыстыкі. Толькі не ведалі, як тэхніка называецца. Пазней з газет даведаліся, што гэта «тыгры» і «фердынанды».

Кожны дзень я чую новыя галасы. Можна зрабіць вывад, што на наш участак прыбыў новы полк ці батальён. Але гэта можа быць памылка. Можа, проста новых галасоў я раней не чуў. Трэба слухаць і слухаць.

Пад вечар у наш лясок адна за другой гахаюць тры міны. Мы сцінаемся, тушым цяпельца. Новага налёту, аднак, няма, і мы супакойваемся. Відаць, немцы ў ляску нейкі рух заўважылі. Трэба быць асцярожнымі.

Бяда з маёй патыліцай. Яна баліць усё болей і болей. На тым месцы, дзе была драпіна, утварыўся нарыў. Нават лёгкае дакрананне выклікае боль.

Ноччу да нас прыходзіць малодшы лейтэнант Якаўлеў з двума разведчыкамі. Я яму перадаю тыя ж данясенні, што і ў разведаддзел.

Якаўлеў з цікавасцю аглядае шалаш.

— Самі збудавалі?

— Знайшлі гатовы.

— Дзіўна. Хто тут мог жыць?

— Вартаўнік. Поле вартаваў. У апошні год — кукурузу.

Малодшы лейтэнант прысаджваецца ля скрыначкі апарата.

— Можна паслухаць?

— Ноччу размоў няма. Хіба толькі перамаўляюцца між сабой тэлефаністы.

Я кручу гузік-рычажок, знаходжу размову. Сам я люблю слухаць начныя размовы. Няма мітусні, шматгалосся. Ды і тэлефаністы — простыя людзі. Гавораць пра звычайныя рэчы. Я іх збольшага разумею.

Якаўлеў некалькі хвілін уважліва слухае.

— Вялікая рэч,— гаворыць малодшы лейтэнант, адклаўшы навушнікі.— Немцы нас падслухоўвалі з самага пачатку вайны. Мы толькі цяпер за розум узяліся...

Адыходзячы, камузвода пытае:

— Не збіраюцца немцы спіхнуць нас у раку? Цёпла стала. Праз тыдзень-два пачнецца ледаход...

— Будзем слухаць. Падам сігнал, як толькі што пачую...

Адзін разведчык застаецца ў шалашы. Для сувязі са ўзводам. Нашы акцыі ў вачах палкавога начальства, такім чынам, падымаюцца.

На наступную ноч шыя баліць нясцерпна. Не магу ні галавы павярнуць, ні ляжаць. Шалаш цьмяна асвятляе карбідная лямпа. Я дастаю з палявой сумкі знойдзеную ў штабным гарадку бутэльку з алкагольнай вадкасцю.

— Вось што, хлопцы. Можа, гэта спірт метылавы. Атрута. Але я цярпець болей не магу. Паспрабую. Можа, боль суцішу.

За выключэннем вартавога, які акрамя аўтамата трымае фаўстпатрон, сувязісты і палкавы разведчык паляглі спаць на лаўках. Аднак не спяць. Сочаць за мной. Я асцярожна адпіваю глыток. Чакаю, пакуль забаліць жывот. Але жывот не баліць. Я раблю глыток большы. Арганізм нібыта не пратэстуе. У галаве пачынае прыемна шумець, і боль нібыта суцішваецца. Тады я раблю ўзапар некалькі глыткоў. Адразу прымошчваюся на тапчанчыку і імгненна засынаю.

Колькі сплю, не ведаю. Калі прачынаюся, адчуваю незвычайную лёгкасць. Болю няма. Нарыў прарвала. Гімнасцёрка на грудзях, спіне ў крыві.

Бутэлька пустая. Убачыўшы, што спірытус не атрутны, мае напарнікі яе апаражнілі. Цяпер спяць як забітыя.

Дзьме цёплы паўднёвы вецер. На полі ўжо амаль няма снегу. Толькі ва ўпадзінах, лагчынах невялікія белыя лапікі засталіся. Дубкі зімовыя, лісця не скідаюць. Звініць выпетранае лісце, нібы ціхая музыка. У бадылях кукурузы шастае вецер, раз-пораз як бы цяжка ўздыхаючы.

Мне прыносяць лісты, якіх я даўно чакаю. Сярод іх ёсць па пісьму ад Алесі Малейкі і Гэлі Машчынскай. Пісьмо ад Алесі кароценькае, з яго нічога нельга зразумець.

Ліст ад Гэлі на тры старонкі казённай кнігі з некалькімі графамі: «Приход на дежурство», «Уход с дежурства» і іншымі. Гэля як бы схамянулася і цяпер перада мной спраўдаецца. Яна востра адчувае адзіноту. І яшчэ штосьці ёсць, аб чым не піша. Можа, было ў Гэлі захапленне, нават каханне, ды раптоўна абарвалася.

Мае напарнікі малайцы. Хутка абвыкліся ў дубовым гайку. Дый саграваюць нас тры фаўстпатроны. Ноччу шастаюць хлопцы да разведчыкаў, прыносяць кацялкі з супам, кашай. Сім-тым яшчэ жывяцца Грыдзін, Мерзлякоў, астатнія, якія завялі дружбу з байцамі ўзвода пешай разведкі. Ёсць у шалашы карбідная лямпа, вядро з вадой, некалькі цёплых коўдраў. Гэтыя дары прынесены з узвода.

Шумяць вятры, звініць сухое лісце на маладых дубках. Размовы нашых тэлефаністаў, якія сядзяць блізка ад перадавой, часта ўрываюцца ў нямецкую гаворку. На гэты раз, аднак, штосьці асаблівае. Двое размаўляюць па-руску, але тон, змест гаворкі чужы. Дзень, другі, трэці я праслухоўваю кропку, адкуль чуецца руская мова. Прыходжу да вываду: размаўляюць людзі, якія служаць немцам. Магчыма, уласаўцы. Нейкая дапаможная або гаспадарчая часць. Бо размова часцей за ўсё ідзе аб дастаўленых лесаматэрыялах, лодках, плытах.

Уласаўцаў я бачыў. Нават ваяваў з імі. У той месяц, калі я з сябрамі пайшоў у партызаны, яны запоўнілі ўсе вёскі з паўночнага ад мястэчка боку. Фронт набліжаўся да Дняпра, а немцы кінулі сваіх памагатых ачышчаць мясцовасць ад партызан. Уласаўцы спалілі дзве буйныя вёскі, якія нават немцы не здолелі спаліць. Бо вёскі былі лясныя, дарогі да іх замініраваны. Нехта з уласаўцаў ведаў, што існуюць зімнікі. Яны схапілі аднаго старога лесніка, прымусілі яго паказаць адзін такі зімнік. Па ім падкраліся да вёскі, пачалі яе ачапляць. Людзі, аднак, паспелі ўцячы ў лес.

Уварваўшыся ў партызанскі край, уласаўцы адчувалі сябе гаспадарамі становішча. Яны былі добра ўзброены: мелі вінтоўкі, аўтаматы, кулямёты і нават лёгкія гарматкі. Нас яны выгналі з добра наседжанай вёскі, агнёў не тушылі, пілі гарэлку, спявалі. Мы ляжалі ў балоце, мерзлі, але ва ўласаўцаў не стралялі.

Той восенню на бок партызан перайшла ўласаўская часць на чале з падпалкоўнікам Гіль-Радзіёнавым. Сваім уласаўцам мы падкідвалі лістоўкі са зваротам гэтага падпалкоўніка.

Уласаўцы расстралялі некалькіх партызан. Тых, хто, не ведаючы, што яны пазаймалі партызанскія вёскі, вярнуліся туды з заданняў. Я з сябрамі таксама ледзь не трапіў у іхнія лапы. Яшчэ калі толькі ішоў у партызаны. Мы зняможыліся, стаміліся і, залезшы, як нам здалося, у гушчар лесу, расклалі вялікае вогнішча. Размясціўшыся вакол яго, паснулі. Добра, што вогнішча патухла і што мы яшчэ спалі. Бо гэта быў не гушчар, а ўскраек лесу, каля якога ішла дарога. Раніцай па гэтай дарозе праехаў уласаўскі дазор. Мы дазналіся пра гэта па свежым конскім памёце.

Цяпер вось я слухаю размову двух уласаўскіх афіцэраў. Адзін паручнік, другі — штабс-капітан.

Паручнік паведамляе:

— Немцы собираются кукурузные остатки поджечь. Которые на полях. Попугать большевичков. Вроде бы газы пускают...

Штабс-капітан адказвае:

— Ну и глупость сделают. Большевики могут настоящими газовыми снарядами ответить. Им теперь выгодно. Всю Германию ипритом зальют. Даже Гитлеру негде будет спрятаться...

Зноў гэтыя газы. Калі мы ў мястэчку лічылі нямецкія эшалоны, перадаючы звесткі парашутыстам-разведчыкам, было адно такое заданне. Выявіць, якім спосабам немцы правозяць па чыгунцы ОВ (отравляющие вещества). Мы давалі звесткі пра танкі (нават контуры танка «тыгр» наш мастак, які працаваў на чыгунцы, здолеў абмаляваць), пра артылерыю, іншыя ваенныя грузы, а пра атрутныя рэчывы нічога не маглі разнюхаць. Але ў дэсантнікаў былі свае людзі сярод немцаў. Некалькі тодтаўцаў-антыфашыстаў, якія працавалі на недалёкай вузлавой станцыі, далі такія звесткі. Яны далажылі: немцы сапраўды правозяць ОВ на фронт, але ў пасажырскіх вагонах.

Пра тое, што немцы намерваюцца падпаліць кукурузныя бадылі на навакольным полі, я ведаў раней. Толькі не ведаў

дзеля чаго. Цяпер справа праясняецца. Адразу пасылаю данясенне. Пераказваю размову афіцэраў-уласаўцаў. Дадаю, што яны самі не вельмі прыхільна ставяцца да немцаў.

Зіма не здаецца. Ноччу ўсчынаецца шалёны вецер. З цёмнага неба сыплецца снежная крупка. Акрамя посвісту ветру, чуюцца як бы меладычныя гукі. Яны то ўзмацняюцца, то заціхаюць. Адпаведна з уздыхамі ветру.

Ноччу завітвае Якаўлеў.

— Збірайцеся,— коратка паведамляе.— Заставацца тут болей нельга.

Тэлефаністы адчапляюць ад апарата кабель. Мы складваем манаткі, выходзім. Мне нават шчыміць у грудзях. Бывай, шалаш!.. Ты быў добрым прытулкам. Лепшага не знойдзеш. Седзячы на нейтральнай паласе, мы не ведалі голаду, холаду, не адчувалі асаблівага страху.

Мы ідзем нават не прыгінаючыся. Снежная крупка сячэ твар, рукі, засцілае поле. За два крокі нічога не відаць.

На назіральным пункце не застаемся: ідзем у зямлянку разведчыкаў. Там нас чакае лейтэнант Пытляваны. Прыехаў спецыяльна за намі. Пытляваны напаўголаса паведамляе:

— Гоц з групай прапалі без вестак. Відаць, загінулі. Там таксама быў плацдарм. Немцы контратакавалі.

Мяне ахоплівае містычны страх. Не трэба думаць пра мір, калі ідзе вайна. Гоц рыхтаваўся здаваць кандыдацкія экзамены, хадзіў да полькі, якая прыехала з Англіі, вывучаць англійскую мову. Шкада Гоца, хоць я з ім асабліва не зблізіўся. Даверлівы, шчыры, ён, як дзіця, з усяго бясконца здзіўляўся.

З раніцы пачынаецца артпадрыхтоўка. Яна не такая магутная, якую я бачыў і чуў на Карэльскім перашыйку. Але таксама моцная. З-за ракі малоціць артылерыя, завываюць «кацюшы», пракладваючы вогненныя палосы ў паветры. З гадзіну ці болей цягнецца абстрэл варожых пазіцый. За гайком, у якім мы сядзелі, паяўляюцца танкі, іх дзясяткі два. Перавальваючыся, яны імчаць на нямецкія пазіцыі. За танкамі вузенькі, рэдзенькі ланцужок пяхоты. Ланцужок прыпадае да зямлі, потым устае, рухаецца далей. У тым ланцужку мой знаёмы малодшы лейтэнант Якаўлеў. Вось так. У Германіі пераважна тэхнікай ваюем.

# XII

Мы вяртаемся ў полк.

Мяне выклікае начальнік групы перакладчыкаў маёр Ерусалімскі.

— На тыдзень-два даю вам новую работу. Пакуль ідзе наступленне, будзеце дапытваць палонных.

Маёр дае мне паперку. У ёй нумары палкоў, батальёнаў, салдаты якіх трапілі ў палон. З кожнай воінскай часці ці падраздзялення павінен дапытваць па адным чалавеку. Такі допыт не мае аператыўнага значэння. Каго трэба, даўно дапыталі. Ён носіць азнаямляльны характар. Проста разведаддзел арміі мусіць мець агульныя звесткі пра кожную воінскую часць.

Радыёгрупы з перакладчыкамі рухаюцца ўслед за фронтам. На «Віражах» праслухоўваюць эфір іншыя перакладчыкі. Толькі Мілаванаў на месцы. Яму, як і мне, Ерусалімскі паручыў весці азнаямляльны допыт палонных. (Мілаванаў дапамагае разведаддзелу корпуса, але лічыцца ў штаце групы бліжняй разведкі.)

Побач з домам, у якім размяшчаюцца армейскія перакладчыкі, я знаходжу нікім не заняты дамок. Трохі прыбіраю яго, падмятаю падлогу. Брыкетамі напальваю грубку.

Палонныя размяшчаюцца ў вялікай каменнай стадоле. Сядзяць, ляжаць, спяць на разасланай саломе. Некаторыя так ушыліся ў салому, што толькі ногі відаць.

Я называю воінскую часць. Прашу ўстаць тых, хто да яе належыць. Спачатку ніякай увагі. Прыходзіцца гучным голасам скамандаваць:

— Achtung! Achtung!..

Салома ў адно імгненне заварушылася. З воінскай часці, якую я называю першай, падымаецца некалькі чалавек. Я іх выводжу да дзвярэй, да святла. Для допыту выбіраю буйнога рудаватага салдата, гадоў сарака. Салдат такі тоўсты, што на ягоным жываце ледзь сыходзіцца шынель.

Вартавы, які паходжвае каля стадолы, мне не замінае. Ведае маю задачу.

Вяду немца ў кватэру. Там ёсць стол, за які саджуся. Палоннага саджу ў мяккае крэсла.

Палонны разумее мае пытанні. Збольшага я разумею ягоныя адказы. Радуюся: перада мною баварац. Ён гаворыць адмыслова, агульнавядомыя словы вымаўляе адметна. Чаму ён такі тоўсты? Бо хворы на сэрца. Але ў Германіі і хворых мабілізоўваюць. Яго ўзялі ў армію ў сорак трэцім годзе. Прозвішча палоннага Розенбаўм.

Я высвятляю, што ён быў у Расіі і нават у Беларусі. Служыў у ахоўных часцях.

— Можа, чыгунку ахоўвалі? — пытаю.

— Так,— ахвотна адказвае палонны.— Нас выкарыстоўвалі і на ахове чыгункі.

— Пра партызан чулі?

— О, гэта д'яблы! Я вельмі баяўся, што яны мяне заб'юць. Два разы па мне стралялі.

Немец не ліслівіць. Мы з ім гутарым гадзіны дзве ці тры, і толькі пад канец ён заяўляе, што фактычна з'яўляецца напалавіну чэхам. Толькі дзед быў чыстым немцам.

— Адкруціцца не мог,— з вялікім сумам у голасе паведамляе палонны.— Загарэлася, закіпела, і чалавека з прозвішчам Розенбаўм не маглі не ўзяць у войска. Хоць ён і хворы на сэрца.

Разглядваю зольдбух Розенбаўма. Усё расказаў правільна. Не заслужыў за два гады вайны ніякіх узнагарод, але спагнанняў таксама не мае. Вось так. Немец-чэх.

Наступны немец толькі на два-тры гады старэйшы за мяне. Унтэр-афіцэр. Ён мне падабаецца, бо вельмі падобны на рускага. Высокі, плячысты, з шараватым абветраным тварам, на якім вызначаецца вялікі кірпаты нос. Ваяваў у Францыі, быў у Парыжы. Пасля таго, як у Італіі высадзіліся саюзнікі, іхні пяхотны полк перакінулі туды.

Я цікаўлюся ягонай прафесіяй, адукацыяй. Бацька палоннага быў пераплётчыкам, яму таксама гэтая прафесія падабалася. Але як толькі закончыў школу (Volksschule), забралі ў армію. Добра, што не трапіў на Усходні фронт. Там яго, хутчэй за ўсё, забілі б. А так, можа, вернецца да маці. Бо бацька загінуў якраз на Усходнім фронце. Пад Курскам. Вайна — праклятая рэч.

І вось такія размовы з трэцім, чацвёртым, пятым палоннымі. Дапытаўшы кожнага, афармляю пратакол.

Маёр Ерусалімскі задаволены.

— Думаў, будзе горш. Харошая руская мова, дысцыпліна думкі. Дзейнічайце ў такім жа духу.

Аднойчы я не зачыніў дзверцы грубкі. Вуголле высыпалася на падлогу, нават прапаліла яе. Добра, што не ўсчаўся пажар і не згарэў дамок.

Я разумею, чаму маёр паслаў мяне да палонных. Хоча, каб набыў паболей практыкі. Усё-такі жывая гаворка.

Нарэшце трапляецца на допыт падпалкоўнік медыцынскай службы. Найбольшы нямецкі чын, якога я бачу. Высокі, хударлявы, з прамым з невялікай гарбінкай носам. Першае, аб чым падпалкоўнік просіць: каб яго імя не мільганула ў якой-небудзь савецкай лістоўцы ці ў перадачы па радыё. Бо ў адваротным выпадку пацерпіць сям'я. Я яго супакойваю. Падпалкоўнік у палоне два тыдні, і ніхто ім не зацікавіўся. То чаму павінны цікавіцца цяпер?

Зрэшты, падпалкоўнік — звычайны санітарны ўрач. Прыехаў з армейскага тылу на перадавую, бо ў адной з часцей паявіліся салдаты з кішэчнымі захворваннямі. Ніякімі асаблівымі сакрэтамі ўрач-падпалкоўнік не валодае.

У нашай падпольнай групе было два ўрачы: доктар Андрыюк, які здабываў у нямецкіх медыкаў лекі для партызан, і ветэрынарны ўрач. Партызаны ў хуткім часе запатрабавалі іх да сябе, і яны пайшлі ў лес з сем'ямі.

Вечарам мы сыходзімся з Мілаванавым. Блукаем па ваколіцах гарадка, размаўляем. Год назад, прыкладна ў такі час, мы пазнаёміліся і вандравалі ў ваколіцах ржэўскага сяла, калі дывізія, перш чым трапіць пад Ленінград, папаўнялася людзьмі і тэхнікай. Ужо тады Мілаванаў чытаў Імануіла Канта і спрабаваў сёе-тое з ягонай філасофіі растлумачыць мне.

— Матэрыяльнае і ідэальнае існуюць паралельна,— гаварыў ён і праводзіў палкай па мокрай вясновай глебе дзве лініі.— Матэрыяльнае — гэта ўсё, што нас акружае. Зямля, паветра, вада, рэкі, зоркі на небе. Ідэальнае — нашы думкі, мары, імкненне пазнаць навакольны свет. Але мы ніколі не спазнаем свет да канца. Не дадзена нам. Бо маем справу не

з самімі прадметамі, а толькі з нашымі ўяўленнямі пра іх. Значыць, паралельныя лініі, матэрыяльнае і ідэальнае ніколі не зліюцца.

На першым часе я не разумею нічога. Матэрыяльнае, ідэальнае — навошта гэта? Якая ад гэтага карысць? Тым часам зерне падае не на камень. За плячамі ў мяне фактычна дзесяцігодка. Матэрыялам дзявятага, дзясятага класаў, гэтак жа як нямецкай мовай, я авалодаў самастойна. Нарэшце здагадваюся: Мілаванаў гаворыць пра тое, аб чым напісана ў школьных падручніках, якія я вывучаў. Толькі другімі словамі. Як утвораны гэты свет, як узнікла жыццё, з чаго складаюцца рэчы, якія нас акружаюць.

Каб я паступіў у сорак першым годзе ў інстытут і каб не вайна, то інстытут я, відаць, заканчваў бы. Самую маладую, плённую паласу жыцця, калі хочацца вучыцца, сцвярджаць сябе, забрала вайна. Вайна нішчыць мільёны жыццяў, у тым ліку маладых, разбураючы ідэальнае і матэрыяльнае.

Мілаванаў не змяніўся. Можа, толькі трохі збляднеў, бо сядзіць у памяшканні. Памяркоўны, дабрадушны, з іранічнай усмешкай на далікатным, прыемным твары.

— «Пралегомены» скончыў,— як аб самым істотным у асабістым жыцці паведамляе Мілаванаў.— Вялікая кніга. Толькі чытаць цяжка. Год праз яе мудрасць прадзіраўся. А што ў цябе? Як адчуваў сябе на плацдарме?

Я расказваю. Пра падслуханыя размовы немцаў, рэдзенькі ланцужок пяхоты, якая ішла ў наступленне, пра тое, што папярэджваў у данясеннях аб тым, як немцы збіраюцца скінуць нас з плацдарма.

— Цяпер не прападзеш. Я сам не надта разумею тэлефонныя нямецкія размовы. Гоца шкада. Я яго, як і цябе, знайшоў і рэкамендаваў перакладчыкам.

Далей размова зноў пра Канта.

Я ведаю: першую кнігу Канта, якая называлася «Kritik der reinen Vernunft» («Крытыка чыстага розуму»), Мілаванаў знайшоў у партфелі забітага нямецкага афіцэра. Пад Вялікімі Лукамі яшчэ ў 1942 годзе. Чытаў яе два гады.

— «Пралегомены» — працяг «Крытыкі чыстага розуму»,— гаворыць Мілаванаў.— Удакладненне, растлумачэнне кнігі...

— Навошта табе растлумачэнне? Канта дастаткова ведаеш...

— Ведаю, ды не зусім. Яго ўсё жыццё можна вывучаць. Кант даў закончаны малюнак светабудовы.

— Што з таго малюнка, калі твой Кант не верыць у пазнанне свету. Звычайны ідэаліст.

— Ідэаліст, матэрыяліст. Нахватаўся слоў. Што ў іх разумееш?

— Таксама кнігі чытаў. Не меней, чым ты... Няхай не Канта. Веды дае практыка. Вазьмі, напрыклад, Галілея, Каперніка...

— У чалавека ёсць прыроджаныя паняцці. Часу, прасторы. Вось ты хвалішся: сам трыганаметрыяй авалодаў. Скажы, з якой практыкі выніклі сінусы, косінусы, тангенсы, катангенсы? Ёсць жа яшчэ вышэйшая матэматыка...

— Трыганаметрыя дае магчымасць вымяраць адлегласці. Яна ўзнікла з практычных патрэб марскіх падарожнікаў, якія хацелі адкрыць новыя землі.

— Калумб, дапусцім, хацеў адкрыць Індыю. Адкрыў Амерыку. На зоркі ляцець не збіраўся.

— Затое арыентаваўся па зорках.

Мілаванаў чымсьці падобны да майго школьнага таварыша Івана Гарошыка. Той таксама нічога не прымае на веру. Хоча да ўсяго дайсці сваім розумам. Вайну з Гітлерам Іван, між іншым, прадбачыў. Гады за два да яе пачатку.

Мы ходзім па заасфальтаванай шасейцы, якая ляжыць на правым беразе Одэра. Вечарэе. Сіняе сутонне ахінае яшчэ халаднаватую зямлю. На Одэры пачынаецца ледаход. Крыгі ўздзіраюцца адна на другую, ламаюцца, трэскаюцца. Іншы раз з ракі даносяцца выбухі, падобныя на гарматныя.

Мяне зноў выклікае маёр Ерусалімскі.

— Будзеш ездзіць з палкоўнікам Пушчыным. Ён начальнік армейскай разведслужбы...

Я ніякавею. Ёсць лепшыя перакладчыкі. Мілаванаў, Сямёнаў...

Маёр паціскае плячамі.

— Палкоўнік выбраў цябе. Можа, чытаў твае данясенні з плацдарма...

Палкоўнік Пушчын — сярэдняга росту, моцны, каржакаваты, з вялікай галавой. Твар шырокі, замкнёны, насуплены. Выдзяляюцца на ім хіба што густыя чорныя бровы.

Ніякіх размоў са мной палкоўнік не вядзе. Нават маіх абавязкаў не растлумачвае. Проста ён дзейсны, актыўны і не хоча, каб новыя звесткі аб праціўніку, прайшоўшы праз ланцуг розных штабоў, траплялі да яго на другія ці трэція суткі. Хоча мець звесткі неадкладна і з першых рук.

Таму мы штодзень носімся на нямецкім «опелі» ад палка да палка, ад дывізіі да дывізіі. Насуплены палкоўнік на заднім сядзенні, на пярэднім я з шустрым шафёрам-сяржантам. Старшына Казалуп выдаў мне новы, з белай аўчыны паўкажушок. Не будзеш жа сядзець побач з ахайным, апранутым у скураное паліто палкоўнікам у завэдзганай прапаленай ватоўцы.

Патрабаванні палкоўніка Пушчына я хутка засвойваю. Якія воінскія часці праціўніка супрацьстаяць ягонай арміі, ён ведае. Як табліцу множання, пералічыць дывізіі, палкі, нават асобныя батальёны, дывізіёны праціўніка. Яго цікавяць новыя часці, якія паявіліся на фронце арміі, іх колькасць, узбраенне, і ў нейкай меры страты вядомых яму нямецкіх часцей.

Мы імкліва носімся ад палка да палка. У самім палку палкоўнік выклікае да сябе толькі афіцэра разведкі. Просіць правесці яго да нямецкіх салдат, якія ўзяты ў палон учора ці сёння.

Палонныя звычайна сядзяць у каменных хлявах, гумнах, розных іншых гаспадарчых будынках. Допыт маланкавы.

— Name, Vorname! Zuname?[1]

— Ihr Dienstgrad?[2]

— Zum welchen Truppenteil gechören Sie an?[3]

Калі часць новая, палкоўнік запісвае яе нумар у блакнот, дапытваецца, адкуль прыбыла, цікавіцца колькасцю асабовага саставу, узбраеннем. Усё астатняе: настрой, які пануе ў войску, размовы салдат пра вайну (такія пытанні я настойліва задаваў палонным у штабным гарадку) палкоўніка зусім не цікавяць. Як не цікавяць палонныя са знаёмых часцей.

---

[1] Прозвішча, імя, імя па бацьку?

[2] Якое ў вас званне?

[3] З якой вы воінскай часці?

Мы праязджаем па дзвесце, нават трыста кіламетраў за дзень. Трапляем пад бамбёжку, нават пад артылерыйскі абстрэл.

У адным са скляпоў палкоўніка цікавіць палонны, які адзінока сядзіць у кутку, панура звесіўшы галаву ў нацягнутай на самыя вушы нямецкай пілотцы.

— Спытай, з якой ён часці.

— Я русский,— адказвае палонны.— Ни черта в вашей немецкой дребедени не понимаю.

Палкоўнік крута паварочваецца, на хаду зашпільваючы гузікі доўгага, да пят, скуранога паліто.

Хоць на дварэ толькі другая палова лютага, але снег амаль сагнала. Дзьмуць цёплыя паўднёвыя вятры. Зелянее рунь на палях, булькочуць у кюветах ручаі.

У адной дывізіі палкоўніка ўгаворваюць павячэраць. І мяне запрашаюць:

— Распранайцеся, таварыш капітан.

Я рашуча адмаўляюся. Пад акуратным кажушком завэдзганая гімнасцёрка з пагонамі старшага сяржанта. Нераўня я ў кампаніі штабных палкоўнікаў, падпалкоўнікаў, маёраў. Я выходжу на двор, гляджу на ясныя зоркі, якія адна за другой запальваюцца ў вячэрнім небе.

З раніцы палкоўнік Пушчын мяне не выклікае. І ў абед ніякага зыку. Лейтэнант Мілаванаў між тым падбівае:

— З’ездзім у горад. Яго толькі ўчора ўзялі. Паглядзім, як і што? Праз гадзіну вернемся.

Спакуса вялікая, і я не вытрымліваю. Да горада толькі дзесяць кіламетраў. Калі не за гадзіну, то за паўтары можна ўправіцца.

Мы садзімся на веласіпеды. Шаша роўная, яшчэ трохі макраватая. Да горада мы сапраўды далятаем за нейкія паўгадзіны. Але там Мілаванаў натрапляе на бібліятэку, корпаецца ў кнігах, зусім не слухаючы маіх роспачных заклікаў вяртацца назад.

І бяда здараецца. Пасля абеду мяне выклікае палкоўнік Пушчын. З паўгадзіны мяне шукаюць. І нічога палкоўніку не могуць адказаць...

У групе бліжняй разведкі здранцвенне. З пабялелым тварам ходзіць старшы лейтэнант Пылянкоў. Лейтэнант Пытляваны нават трохі падпіў.

— У штрафбат пойдзеш,— заяўляе ён мне.— Напішы хоць якую паперынку. Для свайго апраўдання...

Тым часам палкоўнік Пушчын не такі суровы, як выглядае. Не патрабуе апраўдання. Але і да сябе мяне болей не выклікае.

Я для яго як бы перастаю існаваць...

## XIII

У дзень Чырвонай Арміі мы наладжваем невялікі банкет. Нехлямяжы, абыякавы старшына Казалуп прыносіць дзве абцягнутыя ворсам біклажкі пайковага спірытусу і яшчэ адну ад сябе дадае: сэканоміў, калі мы былі на заданні. Закуска звычайная, але гэта неістотна. За апошнія два месяцы мы частаваліся толькі на Новы год у польскім сяле Майдан і ў Гляйвіцы, калі ахоўвалі маёмасць палка. З меншых пачастункаў была бутэлька бімберу, купленая ў паляка з выпадку вызвалення Варшавы, і бутля падазронай вадкасці, якой я лячыўся, калі распухла шыя і проста не мог пераносіць страшэнны боль.

Я хачу запрасіць Галю Ігошыну. Мы разам з ёй ахоўвалі маёмасць палка, і на яе вачах мяне параніла асколкам бомбы. Ды, здаецца, Галя і прывітанні мне перадавала праз сувязістаў, якія прывозілі на плацдарм газеты і пісьмы. У дубовы гаёк, размешчаны пасярод кукурузнага поля, на нейтральнай паласе, сувязісты не траплялі, запыняліся ў зямлянцы разведчыкаў. Але ўсё адно было прыемна, што пра цябе нехта думае і помніць.

Маю прапанову запрасіць на баляванне Галю Ігошыну, яшчэ якіх-небудзь дзяўчат разведчыкі сустракаюць насмешкамі і едкімі кепікамі:

— Ты яшчэ доктара запрасі. Капітана медыцынскай службы Голубеву.

— Чаму яе нельга запрасіць?

— Таму што яна пэпэжэ камандзіра палка. Свой абавязак ведае.

— Але не ўсе дзяўчаты пэпэжэ?

— Не ўсе. Толькі прыгажэйшыя. Твая Галя, магчыма, вольная. Бо вельмі канапатая.

Але і Галю ў дзень Чырвонай Арміі кудысьці запрасілі. У гэты дзень банкетаванне наладжваюць усе штабы: армейскія, корпусныя, розных галіновых службаў. Дзяўчат з палка сувязі расхапалі амаль усіх. Чаму не пайсці дзяўчатам? Выпіць віна, паслухаць музыку, патанцаваць...

Па дзве, тры змены дзяжураць на апаратах Бадо, СТ, на тэлеграфе, тэлефонах хлопцы-сувязісты. Лаюцца, высмейваюць напарніц, называюць іх непрыстойнымі словамі. Але дзелу не паможаш. Не сталі хлопцы палкоўнікамі, маёрамі, нават капітанамі і пагэтаму мусяць несці свой крыж...

На наладжанай намі пагулянцы дзіка напіваецца сяржант Грыдзін. Проста дурнее. Лямантуе дзікім голасам, лезе на сценку, выбівае вокны. Лейтэнант Пытляваны загадвае Грыдзіна звязаць. Другога ратунку няма.

Яшчэ праз колькі дзён групу разведчыкаў, тэлефонную і яшчэ нейкую роту перакідваюць у белы, чысты пасёлак. Жыхары з пасёлка ўцяклі, пакінуўшы скарб, дамашні набытак на месцы. А дзень цёплы, сонечны, светлы. Першы сапраўдны вясновы дзень.

Вялікага начальства паблізу няма, і здараецца цуд. Дзяўчаты-сувязісты ў шафах, камодах пакінутага пасёлка знаходзяць сукенкі, блузкі, туфлі і мігам ператвараюцца ў гжэчных мілых паненак, якім, здаецца, няма ніякай справы ні да кірзавых ботаў, гімнасцёрак, пілотак, ні наогул да вайны, якая пакуль што бушуе на свеце.

Хлопцы — сяржанты і радавыя — таксама не ўдараюць тварам у гразь. Выфранчваюцца хто ў што. Я таксама знаходжу далікатныя светла-шэрыя штаны з вузенькімі лампасамі і з прыемнасцю надзяваю іх, скінуўшы няўклюдныя ватнікі, на якіх густа накарэла, заільснілася гразь яшчэ з часу нашага асенняга адступлення ва Усходняй Прусіі.

На нейкую гадзіну ці дзве салдаты, сяржанты — хлопцы яны ці дзяўчаты — проста ператвараюцца ў звычайную, зухаватую моладзь, якой хочацца пакарыстацца ўцехамі жыцця, паглядзець на другіх і сябе паказаць.

Дзяўчаты, пабраўшыся парамі пад ручкі, праходзяць па вуліцы, азіраючыся на хлопцаў. Хлопцы стаяць каля варот, крытычна аглядаючы знаёмых тэлефаністак, якія ў новых уборах зрабіліся як бы зусім незнаёмыя.

Здаецца, яшчэ міг — і дзе-небудзь на вуліцы рыпне гармонік, адзавецца гулка бубен і завіхрыцца моладзь у танцах, скоках, як гэта і належыць у яе ўзросце.

Але міг такі не здараецца. На вуліцу ўрываецца пакрыты брызентам джып, з яго выскоквае высокі, перахлябісты, з нездаровым шэрым тварам маёр.

— Спыніць безабразіе! Скінуць нямецкія транты!.. Сорамна так сябе паводзіць савецкім салдатам!..

З джыпа вылазяць два салдаты ў ватоўках, з перавешанымі праз шыю чорнымі нямецкімі аўтаматамі. Яны выносяць з машыны і ставяць на дол драўляную скрынку. Маёр зычна камандуе:

— Ёсць тут хто з афіцэраў? Падысці да мяне!..

Зашпільваючы каўнер гімнасцёркі, да маёра таропкім крокам падбягае лейтэнант Пытляваны. Маёр на яго не крычыць, не пагражае, а, сцішыўшы голас, нешта доўга, настойліва тлумачыць.

Джып ад’язджае. На вуліцы застаецца сярэдніх памераў скрынка і каля яе лейтэнант Пытляваны.

Яшчэ праз некалькі хвілін разведчыкі, тэлефаністы даведваюцца пра навіну, якую прывёз хваравіты маёр. З акружанага савецкімі войскамі Браслау прарвалася воінская часць. Імкнучыся перайсці фронт (ён адсюль недалёка), яна на сваім шляху рушыць, нішчыць медпункты, шпіталі, штабы. Маёр прывёз скрынку гранат — абараняцца.

Гранаты, вядома, добра. Але дванаццаць разведчыкаў мужчын і трыццаць ці сорак дзяўчат-тэлефаністак ад раз’юшанай галоднай роты ці батальёна не абароняцца. Пра гэта, сабраўшы вакол сябе разведчыкаў, гаворыць лейтэнант Пытляваны. Ён артылерыст. На фронце з першага дня вайны і трапляў у розныя пераплёты.

Я выступаю наперад:

— На вуліцы куча фаўстпатронаў,— паведамляю лейтэнанту.— Добрая зброя. Я ўмею фаўстпатронамі карыстацца.

— Другіх навучыш?

— Навучу.

Лейтэнант імгненна прымае рашэнне. З пасёлка ўсім выбрацца ў чыстае поле. Жанчынам даць па дзве гранаты. Хлопцам узяць па фаўстпатрону. Мяне лейтэнант прызначае старшым групы фаўстпатроншчыкаў.

Мы адыходзім ад пасёлка на сотню метраў. Лажымся на полі на маладую рунь. Акопаў не капаем. Дый няма чым капаць. Сувязісты, нават разведчыкі, шанцавым інструментам не забяспечаны.

Каля вёскі лейтэнант пакідае двух сігнальшчыкаў. Яны павінны папярэдзіць, калі ў пасёлак прыйдуць немцы. Перачакацца ў гэтым, і толькі тады пускаць ракеты. Разлік просты: у вёсцы немцы пастараюцца раздабыць якога-небудзь харчу. Кінуцца па дамах. У акружаным Браслау яны ўшчэнт згаладаліся.

Марудна, пакутліва цягнуцца хвіліны. Неба светлае, зорнае. Зямля мокрая, халодная. Зябка ў полі, хоць паўзверх фуфаек мы нацягнулі шынялі. Больш здагадлівыя наламалі бадылля, сухой травы, зрабіўшы сабе хоць якое логвішча. Тэлефаністак мы накіравалі падалей ад поля, на лугавіну, дзе шарэюць у цемені нейкія халупіны. Усё адно тэлефаністкі нам не дапамогуць.

На фронце (ён кіламетраў за дзесяць адсюль) мігатлівыя водбліскі. Часам даносіцца глухі гул. У адзін момант мы ледзь не спасавалі. Ззаду, з лугавіны, пачуўся незразумелы шум. Падалося: немцы ідуць на нас у абход. Нарэшце шум пачуўся над галавой. Аказваецца, вяртаюцца з выраю птушкі. Яны знізіліся і нагадваюць мітуслівае воблака. Можа, птушкі хацелі спусціцца на бліжэйшай лугавіне, але, адчуўшы, што лугавіну занялі людзі, паляцелі далей.

Палавіна ночы мінае. Ціха. Ні зыку, ні шораху. Палоска святла прабілася на ўсходзе. Мы пачынаем драмаць. Відаць, немцы рушылі другой дарогай.

Раптам, калі зашарэла раніца, у вёсцы пачуўся гул. У неба ўзляцелі ракеты. Але і без ракет відаць, як па вуліцы бегаюць салдаты. Іх, здаецца, шмат: паўсотня ці трохі болей.

Мы бяром у рукі фаўстпатроны. Кожны меціць у загадзя вызначаны дом. Амаль адначасова націскаем на курківпласцінкі. Шыпенне, трэск, воблака дыму, якое нас ахінае. Ад удараў будынкі разлятаюцца, нібы картачныя домікі. На месцы мураваных домікаў выбухае агромністае вогнішча. Прыцэльна, дом за домам мы вынішчаем вёску, у якой заселі немцы, і, не хочучы здавацца, прарвалі акружэнне. Відовішча трагічна-злавеснае і чымсьці прыгожае. Суцэльны востраў агню, на якім ніштo жывое ўцалець не можа.

Вечнасцю здаўся нам бой, а цягнуўся ён толькі пятнаццаць ці дваццаць хвілін.

## XIV

Нездарма ў тэхніка Папова такое прозвішча, як і ў славутага вынаходніка радыё. Пакуль мы ездзім, раскідваем за перадавой драты-вусы, падслухоўваем немцаў, збіраючы сякіятакія звесткі, ён думае. Бо, зрэшты, не надта вялікая цана нашым звесткам. Яны — мясцовага значэння, а група — армейскага падпарадкавання.

Сяржант Папоў займаецца доследамі. Бясконца, дзень у дзень і тыдзень у тыдзень. А калі доўга капаеш, то да чагонебудзь дакапаешся.

У нямецкай зямлі закапана шмат розных кабеляў, па якіх вядуцца перамовы. Не мае значэння, што вайскоўцы гэтымі кабелямі, магчыма, не карыстаюцца. Лініі іхняй сувязі дзесьці побач. Для нашых апаратаў гэта дастаткова.

Тыдзень сядзеў у ацэментаванай яме кабельнага «калодзежа» Папоў. Правяраў правадок за правадком. Па некаторых з іх вядзецца гаворка. Ясная, выразная, гучная. Трэба толькі праверыць: цывільныя размаўляюць ці ваенныя.

І вось мы вылазім з джыпа ў невялікім беленькім гарадку. Ён прыфрантавы. Праўдзівей, фронт на яго заходняй ускраіне.

Мы размяшчаемся ў падвальных памяшканнях кансервавага заводзіка. Заводзік выпускаў толькі адзін від прадукцыі: маладыя гарохавыя стручкі. Па трыццаць ці сорак бляшанак з надпісам «Grüne Erbsen» запакавана ў кожную драўляную скрынку, і сотнямі такіх скрынак забіты склады заводзіка і нават двор.

Я саджуся за апарат. Сумненняў няма: па кабелі размаўляюць вайскоўцы.

Тры падвальныя пакойчыкі мы падмятаем, ачышчаем ад смецця, ставім ложкі, сталы, табурэткі, крэслы, жалезныя печкі. Знайшлі лямпы, карасін, нават шторы на паўпадвальныя вокны. Насельніцтва з гарадка ўцякло, сякія-такія скарбы можна знайсці ў пакінутых кватэрах. Акрамя харчу нам нічога не трэба. Але якраз харчу ў гарадку малавата.

Да апарата УСП Папоў падключыў усе правадкі, па якіх чуваць нямецкая размова. Кабельны калодзеж насупраць заводзіка. Трохі далей відаць старамодны, складзены з гладкай чырвонай цэглы будынак гарадскога паштамта.

Ужо сакавік. Дыхаюць у твар цёплыя паўднёвыя вятры. Снег сагнала, і зямля голая, бездапаможная.

Мы дзяжурым на пару з малодшым лейтэнантам Валынцом. Малодшы лейтэнант стараецца. Запісвае кожнае зразумелае слова. Але словы ў ягоных запісах стаяць нібы салдаты ў вольным страі, і хоць часам іх набіраецца цэлая сотня, які-небудзь сэнс схапіць цяжка.

Колькі магу, пасабляю Валынцу. Хоць разведзводкі кожны падпісвае асобна. Карацей: сякія-такія факты, якія здабыў сам, перадаю таварышу. Валынец у аддзяку дорыць мне цёмназялёную шавіётавую гімнасцёрку, якую насіў, калі вучыўся на курсах ваенных перакладчыкаў. Цяпер і я прыфранціўся: скінуў заляпаныя гразёй, закараўленыя ватнікі, надзеў новыя штаны (старшына Казалуп уважыў) і ніштаватую камандзірскую гімнасцёрку. Гімнасцёрка старога фасону: замест прамога каўняра, адкладны, на які некалі прывінчвалі кубікі. На такую дробязь я не зважаю. Прыладжваю пагоны, надзяваю артылерыйскія боты з высокімі халявамі (здабыў іх у пакінутай нямецкай казарме), адчуваючы сябе нарэшце бывалым ваякам.

Гарадок зрэдку абстрэльваюць немцы, і то ў адным, то ў другім месцы пажары. Іх ніхто не тушыць. Некаторыя будынкі выгараюць дашчэнту.

Служба наладжваецца. Пры мне і Валынцу пяць-шэсць тэлефаністаў, а таксама тэхнік Папоў. Нашай групе выдзелены матацыкл. Кожны дзень хто-небудзь з разведчыкаў вязе

ў штаб корпуса (ён за дзевятнаццаць кіламетраў ад гарадка) нашы разведданясенні, яны па апараце Бадо перадаюцца ў разведаддзел арміі. На складзе разведчыкі атрымліваюць прадукты і тытунь.

Пісьмы і газеты раз у тры-чатыры дні прывозіць лейтэнант Пытляваны.

Аднойчы Пытляваны прывозіць перакладчыка Фельдмана і забірае Валынца. На вуха шэпча мне, што зводкамі малодшага лейтэнанта ў штабе незадаволены.

Фельдман, хоць радавы, атрымаў новенькае абмундзіраванне. Афіцэрскае. На нагах рыпяць новыя хромавыя боты, грудзі перакрыжаваны бліскучымі рамянямі. Ваяцкі выгляд перакладчыка псуюць хіба толькі вялікія акуляры на кручкаватым носе, якія ён ніколі не здымае.

Дзіўна: у Фельдмана поспех не большы, чым у Валынца. Пахваляўся: бліскуча ведае нямецкую мову. Тым часам на слых нічога прыняць не можа. Скардзіцца: баліць галава, шум у вушах. Наракаючы на хваробу, Фельдман знікае.

Я здагадваюся: ведаў, якія трэба ваеннаму перакладчыку, у Фельдмана няма. Ён, відаць, ведае бытавую нямецкую гаворку. Можа, нават яе не надта добра ведае, пакладаючыся на яўрэйскую мову, якая з'яўляецца блізкім дыялектам нямецкай. Дапытваць палонных Фельдман, вядома, можа. Яўрэй з немцам згаворыцца. Няхай дапытвае. Бо, як я заўважыў, Фельдман і нямецкімі газетамі не цікавіцца. Яму, відаць, цяжка іх чытаць.

Камандзіру групы, старшаму лейтэнанту Пылянкову я пішу рапарт. Прашу прыслаць перакладчыка Мілаванава. Немцаў можна праслухоўваць па некалькіх каналах. Аднаму перакладчыку справіцца з такой работай немагчыма.

Дні праз два-тры лейтэнант Пытляваны прывозіць Мілаванава, пачак газет і асабіста мне аж шэсць пісем. Ніколі столькі пісем адразу я не атрымліваў.

Мілаванаў на пачатку як бы гневаецца:

— Трапіў у балота і мяне цягнеш. Карысці з вашай работы як з казла малака. Два яфрэйтары перабрэхваюцца па тэлефоне, а вы падслухоўваеце.

— Садзіся. Паслухай трохі яфрэйтараў.

Падключаю да апарата правадок, па якім вядуцца пераважна штабныя размовы.

Каробка УСП на стале. Тут жа разаслана карта Верхняй Сілезіі. Некалькі гарадоў абведзены чырвонымі кружочкамі. Гэта вядомыя мне пункты. Сюды перадаюцца розныя звесткі. Адсюль ідуць указанні, загады ніжэйшым штабам. Разрад штабоў я яшчэ не ўстанавіў.

Мілаванаў надзявае навушнікі. Я выходжу з пакоя.

Дзень вясновы. Нават да нас, у падвальнае памяшканне, зазіраюць сонечныя праменні. Ліжуць ацэментаваную падлогу, зайчыкамі скачуць па шэрай сцяне.

Сярод разведчыкаў вясёлая гамана. Пытляваны прывёз армейскую газету. На цэлую старонку ў ёй спіс узнагароджаных. Сярод іх тэлефаністы Грыдзін, Мерзлякоў, радыст Яфімцаў. Усіх іх узнагародзілі медалём «За адвагу».

Хутчэй за ўсё ўзнагароды Грыдзін і Мерзлякоў атрымалі за нашу вахту на плацдарме. За тое, што падслухалі размовы аб падрыхтаваннях немцаў да контратакі на плацдарме.

Пытляваны кранае мяне за руку. Адводзіць убок.

— І на цябе запаўнялі наградны ліст,— пошапкам паведамляе.— Здаецца, на Чырвоную Зорку. Пылянкоў ліст адазваў. Пасля таго, як цябе не знайшоў палкоўнік Пушчын...

Я не крыўдую. Нядоўгі час я ў групе. Дый ведаю (нездарма сядзеў пісарам у страявой часці), медалём узнагароджвае камандзір дывізіі. Ордэн дае вышэйшая інстанцыя.

Двор заводзіка абнесены плотам з цэментавых пліт. Вароты жалезныя, з дзвюма створкамі. Уверсе пруты, унізе суцэльны ліст.

Гарадок немцы абстрэльваюць, і ён паціху гарыць. То ў адным месцы вынікае густы чорны дым, то ў другім. Пажараў тушыць некаму.

Апаўдні над гарадком з'яўляецца самалёт. Ляціць даволі нізка. То ўправа зверне, то ўлева. Як бы штосьці вынюхвае. Нарэшце кідае бомбу. Яна падае на вуліцы якраз насупраць варот заводзіка, у якім мы атабарыліся. Бомба ці не паўтонная. Зрабіла вялікую яму, вывернуўшы нават гліну, ледзь не пашкодзіла кабельны калодзеж, у якім пастаянна корпаецца радыётэхнік Папоў.

Лейтэнант Мілаванаў скідае навушнікі.

— Прабач, ёсць што слухаць,— гаворыць.— Я памыляўся. Толькі засеклі нас немцы. Вы хоць якую-небудзь варту выстаўляеце?

Якая можа быць варта. Днём у нас сядзяць ці пахаджваюць па вуліцы двое разведчыкаў з палка, які трымае абарону. Сёе-тое з падслуханага я ім перадаю. Вечарам разведчыкі знікаюць. Нанач мы выстаўляем свайго дзяжурнага. Аднаго на ўсю ноч. Вясновыя ночы кароткія. Днём дзяжурны адсыпаецца.

— Ты чытаў надпісы каля нямецкіх тэлефонаў? — пытае Мілаванаў.

Вядома, чытаў. У кожным пакоі кожнай казённай установы вісіць таблічка са словамі: «Pst. Feind hört mit»[1].

— Немцы папярэджваюць аб падслухоўванні. Ну і што?

— Тое, што яны вучаць сваіх людзей лішняга па тэлефоне не балбатаць. Прыдаюць вялікае значэнне захаванню ваеннай тайны.

У мяне мільгае думка пра самалёт. Няўжо яго нехта навёў? Не, не падобна. Фронт на ўскрайку гарадка. Каб немцы ведалі пра нас, лёгка б знішчылі, паслаўшы некалькіх лазутчыкаў.

Мы, аднак, наважваемся ўзмацніць варту. Цяпер ноччу будзе дзяжурыць двое сувязістаў.

— Мала што разумею,— між тым скардзіцца Мілаванаў.— Пятае ці дзясятае слова. Ты, відаць, свае зводкі выдумваеш. Нездарма вершы пішаш.

Гэта гаворыць Мілаванаў, які з сорак першага года на вайне. Ён па-нямецку чытае Канта, якога і па-руску не кожны зразумее. Мілаванаў імітуе гаворку берлінцаў, саксонцаў, баварцаў. З тэлефонам, аднак, рэч асаблівая. Тут трэба цярпенне.

— Пасядзіш тыдзень з навушнікамі і пачнеш разумець,— адказваю лейтэнанту.— Не кожнае слова. Але сэнс зловіш. Прывыкай да галасоў. На кожным провадзе гавораць адны і тыя ж людзі.

Так, перш за ўсё цярпенне! Я сяджу, надзеўшы навушнікі, гадзін па дванаццаць у суткі. Данясенне атрымліваецца на

[1] Асцярожна. Вораг падслухоўвае.

старонку-дзве. Здаецца, я пачынаю разумець, што робіцца ў немцаў. Нібы адчуваю атмасферу, якая пануе ў іхніх штабах.

З Мілаванавым мне намнога лягчэй. Дзень я буду сядзець ля апарата, дзень — ён. Ды і пагаварыць ёсць з кім.

Мяне даўно вабіць складзены з чырвонай цэглы гмах паштамта. У вольны ад дзяжурства дзень іду туды. У мяне наган, але і аўтамат бяру з сабой. Пасля бомбы, якая ўпала каля нашага заводзіка, мы ўсе асцярожнічаем.

Паштамт мае два ці нават тры паверхі. Але ягоны верх шкляны і ў прасторным вестыбюлі надзвычай светла. У пакоях на падлозе, сталах мноства паперы. Розных бланкаў, разграфленых і зусім чыстых. Чыстымі бланкамі я запаўняю палявую сумку. Папера патрэбна. Хоць бы на тыя самыя данясенні. На паперы я занатоўваю кожную схопленую і зразумелую фразу. За адно дзяжурства набіраецца старонак дзесяць-дваццаць такіх фраз. З іх я складаю разведданясенне на старонку ці дзве. Абагульняю матэрыял, адкідваючы дробязі.

Я даўно шукаю падшыўку якой-небудзь газеты за сорак першы год. Бо, пачынаючы з зімы сорак другога года, я ўжо чытаў нямецкія газеты. Хоць чыгунка не працавала, але бацька хадзіў на службу.

Побач з ім у стрэлачніцкай будцы дзяжурыў стрэлачнік нямецкі, які быў родам з Памераніі і якому прысылалі «Pommersche Zeitung»[1]. Бацька іншы раз выпрошваў у немца газету, прыносіў дадому, а я яе чытаў, раз-пораз зазіраючы ў слоўнік. Бо страшна хацелася ведаць, што робіцца на фронце. Радыёпрыёмніка ў нас, хлопцаў-падпольшчыкаў, тады яшчэ не было.

Наогул перада мной яшчэ ў першую ваенную зіму паўстала пытанне-загадка. Хто такія немцы? Чаму яны так адважна замахнуліся на ўсю Еўропу і нават на ўвесь свет? «Heute gehört uns Deutschland und morgen die ganze Welt»[2],— гэтыя радкі з нямецкай песні я ўжо ведаў.

Яшчэ з таго далёкага часу я пачаў вывучаць усё, што мог знайсці ў нашым мястэчку, пра германскую нацыю. Знайсці

---

[1] «Памеранская газета» *(ням)*.

[2] Сёння мы маем Германію, заўтра мы будзем мець цэлы свет.

сёе-тое можна было. З энцыклапедыі Бракгаўза і Эфрона, з савецкіх энцыклапедый, кніг па гісторыі я чытаў пра арыйцаў, старажытных германцаў, готаў. У тым, што пішуць немцы пра сябе, ужо тады бачыў нямала прапагандысцкай хлусні. Бо арыйцамі, ці, праўдзівей кажучы, індаеўрапейцамі з'яўляюцца народы, якія насяляюць Еўропу. У тым ліку і славяне.

Недзе аж на трэцім паверсе паштамта я нарэшце знаходжу вялікі пакой, на стэлажах падшыўкі газет, розныя папкі. Знаходжу тое, што трэба. Бяру падшыўку фашысцкага афіцыёзу «Фёлькішэр беабахтэр» за сорак першы год. Пашукаўшы, знаходжу і мясцовую сілезскую газету. Не лішне будзе пачытаць і яе. Трэба ведаць мясцовасць, у якой ваюеш.

## XV

Гарадок паціху выгарае. Ужо і немцаў адагналі: фронт ад гарадка за некалькі кіламетраў. Снарады на вуліцах, па дварах не ірвуцца. Аднак дамы, пакінутыя жыхарамі, нібы загараюцца самі сабой. Хоць справа, відаць, у людзях. Вандруюць, бадзяюцца па гарадку салдаты, у пошуках спажывы забрыдаюць у памяшканні. Адзін сярнічку не патушаную кіне, другі — недакурак.

Разведчыкі стралковага палка па-ранейшаму дзяжураць каля нас. Ім кожны дзень сёе-тое перападае. Вечарам амаль слова ў слова я запісваю разведданясенне, якое нямецкі палкавы тэлефаніст перадае ў вышэйшы штаб. Аднойчы я перахопліваю паведамленне нямецкіх назіральнікаў аб тым, што сярод рускіх войск паявіліся румыны. Адкуль румыны, якія румыны?!

Я перадаю паперку з паведамленнем палкавым разведчыкам. Прашу высветліць, у чым справа.

Назаўтра шустры малодшы сяржант, не стрымліваючы смеху, расказвае, што здарылася. Пехацінцы распатрашылі абозна-рэчавы склад нямецкай будаўнічай арганізацыі. Сядзець ноччу ў акопах зябка, холадна. Паверх сваіх шынялёў салдаты нацягнулі амуніцыю чужаземнай арміі. Перадавую не правярае ніхто. Ротныя і ўзводныя камандзіры, якія знаходзяцца разам з салдатамі, глядзяць на гэта скрозь пальцы.

Я ведаю: будаўнічая нямецкая часць — гэта арганізацыя Тодта. Тодтаўцы носяць цёмна-зялёныя шынялі чэхаславацкай арміі. Формы румынскай арміі я не бачыў. Не выключана, што яна падобная на чэхаславацкую.

Мілаванаў асвоіўся з апаратам. Немцаў, вядома, разумее глыбей, чым я. Але данясенні ягоныя па змесце не лепшыя за мае. Дзіва няма: мы слухаем размовы адных і тых жа людзей.

Нарэшце для самога сябе я раблю адкрыццё. У газеце «Фёлькішэр беабахтэр» знаходжу мемарандум Гітлера савецкаму ўраду, надрукаваны ў дзень аб'яўлення вайны Савецкаму Саюзу. Матэрыял доўгі — на тры газетныя паласы. У нашых газетах пісалася, што Германія напала на СССР без аб'яўлення якіх-небудзь прэтэнзій.

Прачытаўшы нямецкую ноту аб аб'яўленні вайны СССР, я лаўлю сябе на адчуванні, што нешта падобнае чытаў. Успамінаю: у прамове Гітлера, якую ён выгаласіў 3 кастрычніка сорак першага года, пахваляючыся нямецкай перамогай над бальшавікамі, былі сцверджанні як бы ўзятыя з мемарандума. (Прамова Гітлера друкавалася ва ўкраінскай газетцы, якая нейкім чынам трапіла ў мястэчка.)

Расказваю пра мемарандум Мілаванаву. Ён адмахваецца:

— Чытаў я.

— Калі чытаў?

— Не памятаю. Мала немцы пішуць глупства?

— Тут не глупства. Тут выкладзены прычыны вайны.

— Ну і што?

— Тое, што прычыны тыя самыя, якія выклікалі Першую сусветную вайну. Басфор, Дарданэлы, панаванне на Балканах. Бальшавікі праводзілі тую самую міжнародную палітыку, што і цар.

Лейтэнанта гэта мала хвалюе. Ён чытае «Пралегомены» Імануіла Канта. «Крытыку чыстага розуму» таго ж аўтара даўно прачытаў. Тым часам носіць гэтую тоўстую кнігу ў сваёй лейтэнанцкай сумцы.

Калі я хачу высветліць сутнасць дамаганняў нямецкай нацыі, то Мілаванаў, здаецца, ставіць перад сабой задачу большую. Ён хоча ведаць, што такое чалавек наогул, як збудаваны гэты свет і для якой мэты ён створаны. Вайна для Мілаванава — прыватнае пытанне.

Шанцуе мне на сяброў. Лішні раз пераконваюся: Мілаванаў вельмі падобны на Івана Гарошыка, местачковага філосафа і матэматыка. Іван, пакаштаваўшы вайны яшчэ ў сорак першым годзе, жыве цяпер у мястэчку, працуе на чыгуначным вугальным складзе. Яму далі бронь. Іван другі раз заканчвае местачковую дзесяцігодку. Бо атэстат ягоны прапаў. На два мае лісты ён адказвае адным. А то і наогул падоўгу маўчыць. Я не крыўдую. Ведаю: такі ён чалавек.

Удалечыні, нібы вал за валам, узвышаюцца Судэты, пакрытыя зялёным хвойным лесам. Цяпер, вясновай парой, яны нібы ў мроіве сіняватай смугі. Мне часам здаецца, што, калі мы дойдзем да Судэтаў, вайна скончыцца. Але я пра гэта не толькі не гавару, нават думаць баюся. Перакладчык Гоц рыхтаваўся здаваць кандыдацкія экзамены. Дзе цяпер Гоц? У час вайны нельга складаць планаў. Вайна крыважэрная і не пакідае ніякага месца для светлых надзей.

Узыходзіць сонца. З кожным днём яно ўсё болей прыгравае. У агародчыках, палісадніках прабіваецца з зямлі шчаціна зялёнай травы. Выразней бачацца хвойныя Судэцкія горы.

Там, каля гэтых гор, ідзе зацятая вайна. Армія, у падпарадкаванні якой знаходзіцца полк сувязі і наша група бліжняй разведкі, наступае. Цяжка, марудна наступае. Такі вывад раблю з падслуханых перамоў розных нямецкіх штабоў. Там нервовасць, узбуджанасць. Яны як бы і мне перадаюцца.

Мілаванава няма. У яго так забалеў зуб, што аж апухла шчака. Я адзін. Сяджу за апаратам кожны дзень гадзін па шаснаццаць. Ноччу спаць не магу. На мяне напала сапраўдная бяссонніца. Можа, ад кантузіі, якую атрымаў на Карэльскім перашыйку, можа, ад перанапружання. Як ад бяссонніцы пазбавіцца, не ведаю.

У мяне харошая лямпа, і тады, калі не спіцца, я пачынаю чытаць. Я знайшоў пяць ці шэсць новых кніг Кнута Гамсуна і па начах, у час бяссонніцы, глытаю іх адну за другой. «Unter Herbststernen» («Пад асенняй зоркай»), «Gedämpfte Seitenspiel» («Ігрок пад сурдзінку»), «Segen der Erde» («Блаславуленне зямлі») — гэтых кніг на рускай мове я не бачыў. Бо на пачатку акупацыі, калі местачковыя бібліятэкі былі разрабаваныя (з іх павыносілі сталы, крэслы, стэлажы,

а кнігі скінулі на падлогу), у бібліятэцы былога ляснога тэхнікума я такі знайшоў Кнута Гамсуна. Прачытаў яго «Голад», «Пана», «Запіскі лейтэнанта Глана», «Розу», «Бенані» і пераканаўся, што гэта выдатны пісьменнік. Хараша піша. Лёгка, займальна і адначасна глыбока заглядвае ў чалавечыя душы. Як Талстой ці Дастаеўскі.

Можа, па гэтай прычыне мне лёгка чытаць Гамсуна. Я і «Вікторыю» знайшоў і ў такой самай чырвонай, абцягнутай тонкай, як бінт, матэрыяй вокладцы. Тое самае выданне. Гэтая кніга нібы знак лёсу. Яна яднае мяне з даваенным часам. З якой цяжкасцю прадзіраўся я некалі праз тэкст «Вікторыі». Цяпер чытаю лёгка, свабодна, нібы дыхаю лясным паветрам.

У апошнія дні я часта, часцей, чым пра Алесю, думаю пра Гэлю. Яна дзесьці побач. Яе лісты прыходзяць за тры-чатыры дні. Мяне гэта палохае. Ва Усходняй Прусіі гэтак жа хутка я атрымліваў лісты ад знаёмага дзесяцікласніка, маўклівага, дужага Васіля Валовіка. Нечакана пісьмы перасталі прыходзіць. Яшчэ праз месяц я атрымаў з мястэчка вестку, што Валовік загінуў.

Наша армія наступае на Верхнюю Сілезію. Седзячы суткамі ля апарата, я нават ведаю гарады, за якія ідзе бой. Немцы іншы раз прагаворваюцца. У час наступлення не да сакрэтаў.

Зона наступлення арміі, якую абслугоўвае наш полк сувязі, рака і горад Нейсэ, а таксама горад Нейштат. Часта чую назвы гарадоў Рацібор, Рыбнік. Нарэшце перахопліваю загад аб падрыхтоўцы да ўзрыву вадасховішча Отмахау. На рацэ Нейсе, якая ўпадае ў Одэр, на карце як бы праглядвае азярко. Можа, яно і ёсць тое самае вадасховішча Отмахау...

Пішу данясенне, падыходжу да Папова.

— Вось, прачытайце. Трэба перадаць без чаргі. Як тэлеграму-маланку...

Група мае такое права: надзвычай важныя звесткі перадаваць як тэлеграмы-маланкі. Але Грыдзін ці Мерзлякоў, якія звычайна возяць зводкі на карпусны вузел сувязі, за 19 кіламетраў, могуць і не дабіцца гэтага права. Таму я прашу, каб Папоў паехаў сам. Папоў чытае тэлеграму, і ягоны твар робіцца сур'ёзным.

— Пастараюся перадаць.

Ён надзявае шлем, садзіцца на матацыкл, націскае на педаль. Матор нібы страляе, з выхлапной трубы вылятае цэлае воблака сіняга дыму. Хвіліна — і Папова не відаць.

Яшчэ два-тры дні Папоў па некалькі разоў на дзень возіць тэрміновыя данясенні. Немцы паспешліва рыхтуюць фаўстпатроншчыкаў, пасылаючы ў кожную роту па 20—30 чалавек. Выбіваюць, сволачы, нашы танкі.

Верхняя Сілезія — край прамысловы. Шахты, заводы, фабрыкі, чыгуначныя станцыі. Немцы ўсё гэта мініруюць. Я штодзень пасылаю данясенні пра гэта і пра многае другое.

Сінеюць удалечыні Судэцкія горы. Там ідзе вайна.

Нечакана наступае цішыня. Нашы пераходзяць да абароны. Размовы ў немцаў звычайныя. Ёсць нават недарэчныя. Два начальнікі доўга спрачаюцца, куды паслаць эшалон з венгерскімі яўрэямі. Майданак, куды эшалон накіроўваўся, даўно заняты савецкімі войскамі.

Поўная бязглуздзіца. Скончыліся баі каля возера Балатан. Немцы пастралялі ў Будапешце савецкіх парламенцёраў, але, зрэшты, здалі горад і ўсё яшчэ вывозяць з Венгрыі яўрэяў. Няўжо ў іх няма другога занятку? Відаць, раскруцілі фашысты махавік сваёй машыны і самі не могуць яго спыніць.

Красавік у Сілезіі — цёплы, вясновы. Можна хадзіць без шынялёў. І мы ходзім, радуючыся сонцу, лагоднаму надвор’ю, цішыні. Толькі харчу малавата. Паёк мы палучаем з ПФС чужога палка, і лішняга нам не даюць. Хутчэй урэзваюць. Мяса зусім мала. Пасыльныя прывозяць па кілаграму, ці нават меней, казляціны. Мы яе з’ядаем адразу (каб не псавалася), на другі, трэці дзень варым пусты канцэнтрат.

Разведчыкі-сувязісты, аднак, хлопцы шустрыя. Як і ў Гляйвіцы, калі ахоўвалі маёмасць палка, выйсце знаходзім. На ўскраіне гарадка, дзе нядаўна быў фронт, цукровы завод. Цукру там завалы. Інтэнданты пра завод не ведаюць. І мы маўчым. Хлопцы прывалакваюць адразу тры мяшкі цукру. На тачцы прывозяць. Цукар жоўты, не паспеў прайсці апошнюю фазу апрацоўкі. Але ён такі ж салодкі, як сапраўдны.

Выязджаючы на прадуктовы склад, Грыдзін прыхоплівае паўмяшка цукру. Дар за дар. Прывозіць мясныя кансервы, лярд, нават цыгарэты.

Дзякуючы цукроваму заводу, мы пачынаем жыць як каралі. У нас колькі хочаш яды і курыва. Мы цяпер і бляшанкі са стручкамі зялёнага гароху пасцяхова збываем пяхоце.

Ва Усходняй Прусіі, у асабістым запаведніку Герынга, мы палявалі на дзікіх коз. Тут палюем на зайцоў. У дубовых, бярозавых гайках, пералесках вакол гарадка процьма зайцоў. Раніцай яны выходзяць ласавацца на рунь. Там іх разведчыкі падсцерагаюць. Цяпер на абед у нас кожны дзень смажаны заяц або нават два.

Раптам нечаканы візіт. Каля нашага заводзіка, аб’ехаўшы варонку ад бомбы, запыняюцца два «вілісы». З іх вылазіць процьма начальства: два палкоўнікі, два падпалкоўнікі, маёр.

Адчыніўшы вароты, мінуўшы дворык, начальства спускаецца да нас у падвал.

Я сяджу за апаратам. Начальства ўбачыў праз акно. Таму паспеў падрыхтавацца. Як толькі афіцэрская світа завітвае ў падвал, дакладваю па форме:

— Таварышы афіцэры! Група бліжняй разведкі вядзе падслухоўванне праціўніка.

Палкоўніка Пушчына сярод штабных афіцэраў няма. Тым часам, ён галоўны разведчык нашай арміі. На мяне прыязна глядзіць высокі, з вузкаватым інтэлігентным тварам, сівізной на скронях незнаёмы палкоўнік.

— Што такое асаблівае вы падслухалі?

— Рознае. Данясенні пасылаем у разведупраўленне арміі. Бывае па два, нават тры на дзень.

З навушнікаў, якія я паклаў на стол, чуваць невыразнае балбатанне. Я бяру гітару, на якой практыкуецца Папоў, кладу на яе навушнікі. У пакоі раздаецца выразная нямецкая гаворка.

На тварах афіцэраў непаддзельнае здзіўленне. Нібы там, за сцяной, ідзе ваенная нямецкая нарада.

— Чым немцы заклапочаны?

— Разбітыя роты, батальёны, палкі зводзяць у баявыя групы. Па пяцьдзясят, сто чалавек. На чале з капітанамі, маёрамі. Пераважна групы фаўстпатроншчыкаў. Каб выбіваць нашы танкі. Штабы патрабуюць новых боепрыпасаў...

— Звесткі пра мініраванне вадасховішча Отмахау вы перадалі?

— Мы.

Афіцэры збіраюцца адыходзіць. У мяне ўражанне: тое, што ўбачылі, ім спадабалася.

Я стаю ў безрукаўцы-кажушку (у падвале халадней, чым на дварэ), і пагонаў не відаць.

— Дзякую за службу, лейтэнант.

— Служу Савецкаму Саюзу. Толькі я не лейтэнант, таварыш палкоўнік. Старшы сяржант.

— Памылку можна паправіць.

Мы здзіўлены нечаканым візітам. Што ён азначае? Камандзір групы бліжняй разведкі старшы лейтэнант Пылянкоў да нас ні разу не заглянуў, а тут такія знакамітыя госці.

Але ніякага адказу не знаходзім.

Далёкія баявыя дарогі... Перш чым пісаць гэтую кнігу, я прачытаў некаторыя мемуары военачальнікаў. Каб хоць трохі аднавіць у памяці падзеі мінулай, самай вялікай, якая калі-небудзь была на свеце, вайны. Прачытаў кнігу І. С. Конева, камандуючага Першым Украінскім фронтам. Забыў некаторыя моманты, падрабязнасці нават маршал, слаўны герой вайны.

І толькі ў другім выданні «Гісторыі Вялікай Айчыннай вайны» (гэта зусім іншая гісторыя ў параўнанні з першай, якая выйшла на некалькі гадоў раней), у томе, дзе расказваецца пра ваенныя аперацыі ў Верхняй Сілезіі, я знайшоў напамінак пра вадасховішча Отмахау. Напісана там, што савецкае камандаванне ведала аб намеры немцаў узарваць вадасховішча і выратавала такім чынам жыцці многіх тысяч савецкіх салдат.

Дык вось чаму світа палкоўнікаў, падпалкоўнікаў прыехала ў прыфрантавы гарадок і зазірнула ў падвал кансервавага заводзіка, адкуль мы пасылалі ў разведаддзел арміі свае данясенні.

## XVI

Прыязджае нарэшце лейтэнант Мілаванаў. Ён, відаць, адлучаўся ў штаб не толькі лячыць зубы. На гімнасцёрцы лейтэнанта блішчыць новенькі ордэн Чырвонай Зоркі. Няма слоў: заслужыў лейтэнант ордэн. Чацвёрты год на вайне. Я шчыра яго віншую.

У адказ Мілаванаў і мяне віншуе. Мне, аказваецца, прысвоілі званне старшыны.

— Толькі цябе, брат, абскакаў Фельдман.— Мілаванаў бяскрыўдна пасміхаецца.— Далёка табе да яго. Імкліва расце. Быў радавы, а ўжо малодшы лейтэнант.

Спрытнюга Фельдман. Я нават не ведаю, чым ён цяпер займаецца. Для падслухоўвання немцаў непрыгодны. Можа, палонных дапытвае. Ва ўсякім выпадку, каля штаба пакручваецца спрытна. Выбіў зорачку малодшага лейтэнанта. Толькі навошта яму? За ягонымі трохі сутулымі плячамі гадоў сорак, і ў арміі ён ні ў якім выпадку не застанецца.

Ноччу Грыдзін, прызначаны дзяжурным, дае некалькі кароткіх аўтаматных чэргаў. Мы падхопліваемся, апранаемся, абуваемся, выбягаем на двор.

Спім мы як у звычайнай казарме. Маем ложкі, матрацы, прасцірадлы, коўдры. Чаго баяцца? Горад у нашых руках. Цяпер ад яго да перадавой кіламетраў дзесяць. Ніякі чорт сюды не дапрэ.

— Нехта шастаў па двары,— усхвалявана тлумачыць Грыдзін.— Калі я крыкнуў «стой!», ён знік. Як скрозь зямлю праваліўся. Тады я пачаў страляць...

Грыдзін бледны, ад хвалявання дрыжыць. Нельга яму не верыць.

Мілаванаў пасміхаецца:

— Табе прыснілася.

Пачынае світаць. Мы аглядаем двор. І адразу знаходзім дзірку ў плоце. Нехта вывернуў з агароджы ніжні цэментовы блок. Прытым у такім месцы, што і заўважыць цяжка. За гарой скрынак і бочак.

Тыдні два назад насупраць гарохавага заводзіка самалёт скінуў бомбу. Цяпер вось хтосьці бryндаў па двары. Прытым ноччу.

Я стаўлю ў адзін рад бомбу, скінутую самалётам насупраць гарохавага заводзіка, наведванне нашага закутка высокім начальствам, нарэшце, візіт начнога віжа. Ці не сочаць за намі немцы?

З другога боку, хіба мы падобны на штаб? Звычайныя байцы, якія могуць пасяліцца ў любым доме. Адно што высокія

палкоўнікі завітвалі да нас у падвальчык. Самалёт, аднак, скінуў бомбу раней, чым з’явіліся высокія начальнікі.

Так, каля нямецкіх службовых тэлефонаў вісяць таблічкі з надпісам: «Pst. Feind hört mit»[1]. Але як немцы могуць дазнацца, што іменна мы падслухоўваем іхнія размовы?

Ведаючы, што данясенні групы перадаюцца па апараце Бадо, пытаю ў Папова, як апарат дзейнічае.

— Па прынцыпе тэлеграфа. Толькі тэкст перадае літарамі па пяцізначнаму коду.

— Перадачу можна падслухаць?

— Падслухаць можна ўсё. Толькі трэба мець такі ж апарат.

Мы ўтраіх — я, Папоў, Грыдзін — наважваем абследаваць наваколле. Прыкідваем, дзе немец мог хавацца. На вуліцы многа пустых дамоў. Аднак наўрад ці адважыцца немец у якім-небудзь з іх сядзець. У пустыя кватэры кожны дзень завітваюць салдаты. Нават на гарышчы і ў падвалы заглядваюць.

За гарохавым заводзікам — нешырокая лугавіна, якая вядзе да рэчкі. Зямля пакрыта густой шчэццю травы. На ўскраіне лугавіны, на беразе рэчкі ланцуг прысадзістых будынін, падобных на склады. Але марная справа шукаць тут начнога госця. Памяшканні забіты дошкамі, скрынкамі, бочкамі, розным друзам. Тут можа схавацца цэлая рота і нікога не знойдзеш.

У адным месцы мы знаходзім кучу збэрсанай саломы і некалькі нязграбна разрэзаных бляшанак з-пад стручкоў зялёнага гарошку. З нашага заводзіка бляшанкі. Значыць, нейкія бадзягі іх выкрадваюць. Але дзе знайсці гэтых бадзяг? Ды і навошта нам яны, калі толькі ратуюцца ад голаду.

На нашым участку армія спыніла наступленне. Немцы цяпер у акопах, бліндажах. Размовы самыя звычайныя. Цяпер мы зводкі пасылаем раз у дзень, і няма ў іх нічога асаблівага.

Красавік ідзе па зямлі. На дрэвах набухаюць пукаўкі. У горадзе мноства дамашніх галубоў. Шукаючы харчу, яны залятаюць і на дворык гарохавага заводзіка.

---

[1] Асцярожна. Вораг падслухоўвае.

Да нас прыехаў Гайваронскі. Яго прыслалі замест Папова (ёсць, аказваецца, яшчэ адзін пункт падслухоўвання немцаў, і радыётэхніка перакінулі туды). Прызначаны за кухара, Гайваронскі выбраўся ў горад і адзіночнымі аўтаматнымі стрэламі забіў каля дзясятка галубоў. Абскуб, выпатрашыў і засмажыў на шырокай блясе. Мы папярэдзілі Гайваронскага: каб больш такога не рабіў. Мы і галубы — адзіныя жывыя істоты ў пустым мёртвым горадзе. Навошта крыўдзіць мірных суседзяў?

Яды цяпер хапае. Мяняем цукар, гарохавыя кансервы на харч. Можна і спірту здабыць. Але мы з Мілаванавым не дазваляем.

Горад паціху гарыць.

Я шастаю па вуліцах, на якіх яшчэ не быў. У дамашніх бібліятэках (яны не ў кожнай кватэры) знаходжу розныя кнігі. Аказваецца, не ўсе немцы бездакорна слухаліся Гітлера. У адным доме знаходжу томік Леніна, у другім — Максіма Горкага. Я нават не адразу здагадаўся (Горкага ў школе прачытаў усяго), які твор у маіх руках. Кніга называецца «Drei Männer». «Трое» — нарэшце здагадваюся. Сапраўды, у немцаў няма слоў, каб сказаць двое, трое пра людзей.

Яшчэ адна цікавая кніга трапляецца — невялікі зборнік «Sowjetrussischer Humor»[1], выдадзеная ў 1940 годзе, калі ў нас з немцамі існаваў дагавор аб дружбе. З прыемнасцю я чытаю гумарыстычныя апавяданні М. Зошчанкі, некаторых іншых савецкіх пісьменнікаў, у якіх досыць едка высмейваліся нашы норавы і парадкі.

Галоўнае не гэта. Бяссонніца працягваецца. Я, аднак, цвёрда трымаюся на нагах. Можа, таму, што малады. Па начах чытаю «Фёлькішэр беабахтэр» за 1941 год. Ідзе бітва за Берлін, а я пры святле карасінавай лямпы чытаю пераможныя рэляцыі немцаў на пачатку вайны. Як высока немцы сябе ўзносілі! Якой магутнай, непераможнай бачылі Германію. Загалоўкі ашаламляльныя: «Мінск — заваёваны на шосты дзень вайны», «Смаленск — вароты Масквы ў нямецкіх

[1] «Рускі савецкі гумар».

руках», «Тры мільёны палонных за месяц вайны». Было ад чаго закружыцца галовам не толькі абывацеляў, але і генералаў.

Пасля ўзяцця Бранска, Арла, акружэння трох нашых армій «Фёлькішэр беабахтэр» дала загаловак на ўсю першую старонку: «Бальшавіцкія арміі знішчаны. Шлях на Маскву адкрыты».

У тым жа нумары змешчана вялікая прамова Гітлера, у якой ён сцвярджае, што Савецкай Расіі нанесены смяртэльны ўдар і ніколі больш яна ўжо не падымецца.

Памыліліся, панове! Расія сапраўды панесла агромністыя страты, мільённыя ахвяры, але выстаяла. У першую ваенную зіму па аснежаных палях, пералесках пагнала нямецкія орды на захад. Пра гэта немцы паведамляюць як бы паміж іншым, нібы скрозь зубы. Яшчэ вераць у перамогу. Нібыта скарачаюць лінію фронту, пераходзяць на зімовыя кватэры.

Я памятаю прыпеўкі, якія спявалі ў той час у мястэчку, адну з іх прынесла ў нашу хату Дуня, хворая на сэрца, трохі таўставатая, адышлівая жонка пераезднага вартаўніка.

Мы раўняць будзем да Роўны,
Адступаць будзем да Коўны...

Скарачалі немцы фронт, раўнялі, і вось дараўняліся. Савецкія гарматы б'юць па Берліну. Немцы Маскву бачылі толькі ў біноклі. Савецкія танкі хутка будуць грымець на берлінскіх вуліцах. Я рады, што дажыў да гэтага дня.

Сёе-тое я дазнаюся з газеты аб гістарычных вытоках нямецкіх сяганняў. Мяне проста ашаламляе загаловак «Крым зноў стаў нямецкім». Хоць дрэнна мы вывучалі ў школе гісторыю, але не памятаю я нічога пра нямецкі Крым. Хіба што немцы-каланісты жылі на поўдні Украіны і, можа, да Крыма дабіраліся. Аказваецца, справа ў іншым. У гэтым жа нумары газеты вялікі гістарычны нарыс. У I—II стагоддзях германскае племя готаў высадзілася з паўвострава Готланд на еўрапейскі мацярык у вусці Віслы. Готы рушылі на поўдзень. Яны жылі ў розных частках славянскіх зямель, у тым ліку і на Беларусі. У іх нават быў горад на Дняпры — Градзір —

недзе трохі ніжэй Кіева. Але ў канцы III стагоддзя готаў нашчэнт разбілі ваяўнічыя гуны. Частка готаў рушыла на захад, частка — схавалася ў Крыме. Месцам іх знаходжання стаў самы паўднёвы край Крыма — Фарос.

Гэта былі слабыя готы: яны плацілі даніну розным вандроўным народам — полаўцам, печанегам. У «Слове аб палку Ігаравым» ёсць радок: «Готские девы поют на берегу Черного моря».

Вось прычыны, паводле якіх газета лічыць Крым нямецкай зямлёй.

Раніцай я выходжу на двор. Падобныя на ціхую музыку, аднекуль ліюцца жалобныя мяккія гукі. Я падымаю галаву і бачу ў паднябессі жураўлёў. Жураўлі ляцяць двума роўнымі шнурочкамі, якія наперадзе сыходзяцца, утвараючы завостраны клін. І курлыкаюць. Мяне агортвае смутак. Жуpавы жывуць і ў нашым балотным краі. Можа, туды і ляцяць. У дзяцінстве я захапляўся птушкамі. Але журава не пабачыў. Жуpавы месцяцца ў глухіх, далёкіх ад чалавечага жытла кутках. Перад вайной пачалі асушаць балоты, дзікія нетры і, відаць, пазбавілі жуpавоў шмат якіх мясцін іх вечнага гнездавання.

Вайна грыміць на поўначы, на поўдні. Відаць, хутка будзе ўзяты Берлін. У мяне няма адчування, што знаходжуся далёка ад вайны. Я на самай сапраўднай вайне. Такі настрой валодаў мной вясной і летам сорак трэцяга года. Мы, местачковыя хлопцы, звязаныя з партызанамі, ірваліся ў атрад. Ды здарылася, што звязаліся яшчэ і з дэсантнікамі-разведчыкамі. Яны далі строгае заданне: нікуды не адлучацца, лічыць воінскія эшалоны, наогул збіраць як можна больш звестак пра немцаў.

У партызаны мы з Іванам Гарошыкам нарэшце вырваліся. Але тады, калі група дэсантнікаў рушыла на захад, у Польшчу. Я дык проста не мог болей заставацца ў мястэчку. Намазоліў немцам вочы, і мяне збіраліся запраторыць у лагер. Аб гэтым папярэдзіла настаўніца нямецкай мовы, якая працавала перакладчыцай.

У горадзе ўжо ёсць ваенны камендант, нейкая ўлада. Наш заводзік на гарадской ускраіне. Аднойчы мы, чацвёра ці пяцёра разведчыкаў, апынуліся ў цэнтры горада. Убачылі круглую

плошчу, вежу ратушы з вялікім гадзіннікам, вастраверхія гатычныя шпілі касцёла.

Зайшлі ў касцёл. У вялікім памяшканні, круглы размаляваны купал якога падпёрты калонамі, напаўцёмна. Вузкія, нібы байніцы, вокны, аздобленыя шматколернымі вітражамі, высока наверсе.

Унізе, перад алтаром, арган. Нехта крануўся клавішаў, і ў памяшканні пачуліся высокія ўрачыстыя гукі. Па вузкай вінтавой лесвіцы мы з Гайваронскім палезлі наверх.

У невялікім пакойчыку, нанізаныя адна на другую, віселі бліскучыя трубкі. Унізе арган толькі пачынаўся. Канчаўся ён тут, у верхняй вежы касцёла. Можа, арган таму і меў такі высокі ўрачысты тон, што розналагоса спявалі ўсе гэтыя нанізаныя адна на другую трубкі.

Калі мне было восем, дзевяць гадоў, дзед Піліп вадзіў мяне ў царкву (яе ў хуткім часе закрылі, зрабіўшы з яе клуб). У царкве я адчуваў сябе нібы далучаным да таямніцаў зямлі, неба, жыцця, у душы нараджалася пачуццё ціхай радасці, урачыстасці, жаданне быць добрым, пакорлівым. Ні ў якім другім месцы не ўзнікала падобнае пачуццё. Хіба што ў меднастволым сасонніку, асветленым раннім сонцам. Але гэта было ўсё-такі зямное, прасякнутае радасцю існавання, пачуццё. У царкве ж яно ўзвышала істоту, як бы падымаючы яе ў недасяжныя надземныя высі.

Тыя, што засталіся ўнізе, пачалі зганяць нас з галёркі, шпурляючы палкамі, камякамі тынку. У адказ мы пачалі, зрываючы адну за другой, кідаць лёгкімі арганнымі трубкамі.

Раптам я адчуў пранізлівы боль. Я так размахаўся рукамі, што не заўважыў, як загнаў пад пазногаць невялікі ржавы цвік. Ён вытыркаўся з пальца на сантыметр ці два, а галоўка шчыльна сядзела ля асновы пазногця.

Я паспрабаваў выцягнуць цвік зубамі. Ён не паддаваўся.

Дзве ці нават тры гадзіны насіў я цвік у пальцы, пакуль на заходняй ускраіне гарадка не натрапіў на медсанбат і маладая смяшлівая доктарка не выцягнула яго абцугамі, густа заліўшы ёдам і шчыльна забінтаваўшы палец.

Гэта быў як бы напамінак: не блюзнерствуй. Не замахвайся на вышэйшыя сілы, аб якіх нічога не ведаеш.

Гарадок нават пры наяўнасці ўлады паціху выгарае. Ад аднаго пажару займаецца другі, ад другога — трэці. Ніхто пажараў не тушыць. Няма ў камендатуры сіл.

Вечарамі я акуратна запісваю нямецкія разведзводкі. Нічога асаблівага немцы на нашым баку не бачаць. Як, дарэчы, і мы на іхнім. Бо я і нашы разведданясенні, як і іншыя размовы, мог бы лёгка запісваць. Я намацаў правадок, па якім добра праслухоўваюцца размовы нашых камандзіраў.

У нас і прыёмнік «Віраж» ёсць. Каб слухаць паведамленні Інфармбюро і музыку. Вельмі добра чуваць радыёстанцыя «Таццяна», якая належыць уласаўцам. Яна недзе блізка. Уласаўцы гавораць мала. Больш перадаюць музыку Чайкоўскага, Рахманінава. Кожны пачатак і канец перадачы завяршаецца ўласаўскім гімнам. Слоў разабраць нельга, а музыка харошая.

Я думаю пра ўласаўцаў. Іх асабліва многа прываліла ў мястэчка ў канцы лета сорак трэцяга года, калі фронт прыбліжаўся да Дняпра. Не могучы прабрацца да вёсак Карпілаўка і Дымавічы, бо сыпаны шлях туды быў густа замініраваны, завалены спіленымі дрэвамі, уласаўцы схапілі старасту з суседняй з мястэчкам вёскі Кавенькі і прымусілі паказаць зімнік — дарогу, па якой зімой вёска вазіла дровы і сена. Па тым зімніку ўласаўцы падкраліся да вёсак і спалілі іх. Насельніцтва, аднак, уцякло ў лес.

Логіка здрады. Калі надзеў варожы мундзір, узяў зброю, будзеш страляць, паліць вёскі, нішчыць сваіх жа людзей. Будзеш рабіць, што загадае вораг. Пра гэта ў сваіх перадачах уласаўцы не гавораць. Найбольш пра несправядлівасці, якія чынілі над народам бальшавікі.

Мы, местачковыя падпольшчыкі, уратавалі ад такой здрады роту ўкраінцаў. Яе так называлі. Украінцаў там было не больш, чым людзей іншых нацыянальнасцей. Гэта была рабочая чыгуначная рота. Салдаты ў нямецкіх мундзірах, але без зброі. Я пазнаёміўся з камандзірам роты старшым лейтэнантам Міхайлавым. Шыракатвары і шыракаплечы рускі хлопец, родам з Ленінграда, хацеў перайсці да партызан. У апошні момант рота хістанулася, але чалавек трыццаць да партызан мы ўсё ж пераправілі.

Бяссонніца працягваецца. Ноччу я чытаю Кнута Гамсуна. Раман за раманам. Выдатны пісьменнік. Піша пра Нарвегію, але многае, аб чым чытаю, нагадвае наша мястэчка, вёску. Я як бы пазнаю знаёмых людзей, іх звычкі, норавы, характар. Яны ні добрыя, ні благія, гэтыя людзі. Лепшыя і горшыя, скупаватыя, баязлівыя, працавітыя, зайздросныя, ганарыстыя, прыбітыя. Ні пра аднаго з іх не скажаш, што ён абсалютна добры або зусім благі.

## XVII

Ідуць баі за Берлін...

На нашай паласе фронту немцы збіраюцца адыходзіць. Шматлікія перамовы, загады, якія я чую, гэта пацвярджаюць. Кожны дзень мы з Мілаванавым пішам у данясеннях пра намер немцаў адступаць.

Перада мной ляжыць карта. Нямецкі фронт як бы навісае над гарадком. Яго могуць захапіць. Бо калі пачнуць немцы адыходзіць, то не ў Судэты ж рушаць. Ёсць небяспека трапіць да іх у лапы.

У нас пяць фаўстпатронаў. Нас ніхто не ахоўвае, і мы спадзяемся толькі на гэтую зброю. Калі немцы прыблізяцца, ударым па бліжэйшых будынках. Зробім так, што вуліца будзе ў суцэльным пажары. Не тое што пяхота, танк сюды не сунецца...

Разведчыкі з узвода пешай разведкі па-ранейшаму дзяжураць каля нашага дамка. Прыходзяць адны і тыя хлопцы, і я кожнага ведаю ў твар. Прашу іх прынесці яшчэ некалькі фаўстпатронаў. «Нашто фаўстпатроны?» — «Там будзе відна. Вас навучу з іх страляць».

Праз дзень-два разведчыкі прывалакваюць яшчэ пяць фаўстпатронаў. Два я прыхоўваю, з астатнімі праз лугавіну мы ідзем на бераг рэчкі. На другім беразе некалькі спаленых дамкоў. Але страляць па іх нельга: і ў руінах могуць быць людзі. З нашага стромага берага мы будзем цэліць у ваду, у строму рэчкі.

Тлумачу, як страляць з фаўстпатрона. Некалькі разоў паўтараю, як і што рабіць. Нарэшце кладу трубку фаўстпатрона

на плячо, цэлю ў сярэдзіну рэчкі і націскаю на спускавую рамку. Ціхі трэск, дым, пасярод рэчкі выбух: агромністы слуп агню, і вада высока ўздымаецца ў паветра.

Фаўстпатрон разведчыкам падабаецца. Практыкуецца першы даўні наш ахоўнік. У яго добра атрымліваецца. Затым бярэ патрон трохі гулліві, жулікаваты хлапчына. Ён, відаць, дрэнна цэліць: снарад слізгае па вадзе, трапляе ў спалены дом, і дом гэты імгненна асядае, ахоплены агнём і дымам.

І адразу на левым беразе вырастае баец. Ён у адной гімнасцёрцы, яшчэ зімовай шапцы, штосьці выгуквае, махае ў паветры кулаком. Лаецца матам. Затым паволі ідзе прэч.

У мяне адлягае ад сэрца. Дзякуй богу, нікога не забілі. Болей такіх практыкаванняў не будзе. Бо гэта гульня са смерцю.

Днём хаджу на пошту, прыношу розныя газеты. У адной з іх партрэт маршала Конева, які камандуе нашым фронтам. Шырокі, зарослы шчацінай твар, вузкія, пад навіслымі брывамі вочы, нібы рассечаны сякерай рот. Не маршал, а бандыт з вялікай дарогі.

Ясна: немцы запалохваюць насельніцтва. Пра Чырвоную Армію пішуць, як пра дзікія азіяцкія орды, якія ледзьве не з нажамі ў зубах, нягледзячы на агромністыя страты, лезуць на нямецкія пазіцыі. Калі рускія — дзікія бальшавікі, то і маршал іхні не лепшы.

Я нібы штосьці ўспамінаю. Іду на паштамт, шукаю газеты за восень мінулага года. За той час, калі мы былі ва Усходняй Прусіі і адступілі адтуль. Нарэшце знаходжу тое, што трэба. Так, фашысты — прапагандысты адменныя. Дзе толькі яны знайшлі фантастычныя здымкі. Павешаныя на слупах, на галінах дрэў, распятыя на крыжах людзі. Пажарышчы, руіны там і тут. Забітыя, з распаратымі жыватамі каровы, коні. Жах...

Усё гэта нібыта было ва Усходняй Прусіі, калі частку яе захапілі рускія...

Дзіва няма. Начытаўшыся такога, немцы на злом галавы ўцякаюць з наседжаных мясцін. Вядома, ім яшчэ памагаюць спецыяльныя воінскія каманды. Наконт гэтага я пэўны. Не раз чуў загады пра эвакуацыю насельніцтва, якія перадавалі вышэйшыя нямецкія начальнікі ніжэйшым.

На нашым фронце — цішыня. Хоць не зусім так. У абароне цэнтр і паўднёвы фланг. На паўночным крыле фронту адбываецца рух. Нават воінскія часці, танкі, артылерыя праходзяць праз гарадок. Перакідваюцца на поўнач. Кабель, які я праслухоўваю, вядзе ў Верхнюю Сілезію. Другога кабелю ў нас няма. Не шукаем яго. Наша армія трымае абарону ў Верхняй Сілезіі.

Я пішу лісты дадому, бацькам, а таксама сябрам-таварышам. Вайна, па ўсіх прыкметах, канчаецца. Толькі я баюся пра гэта думаць. Не хачу намячаць ніякіх планаў.

Алеся Малейка мала і рэдка піша. І пра яе я амаль нічога не ведаю. Відаць, мая асоба яе цікавіць мала.

Гэля Машчынская нарэшце прыслала шчыры ліст. У яе, аказваецца, быў друг, які загінуў на фронце. Мне робіцца самотна. Я ведаю пра адносіны, якія існуюць тут, на фронце, між мужчынамі і жанчынамі. Значыць, і Гэля... Як магу, апраўдваю Гэлю. У яе і бацька на вайне загінуў, і маці, і да каго-небудзь яна мусіла прыхінуцца. Мяне ж побач не было. Але гэта слабыя довады. Мне нават не хочацца Гэлі пісаць...

Вывад невясёлы: няма дзяўчыны, якая б сумавала па мне. Ёсць дзяўчаты, якія пішуць ахвотна. Але я да іх лістоў абыякавы. Відаць, у жыцці так: каго мы любім, не любяць нас, і наадварот...

Разведчыкі з узвода пешай разведкі запрашаюць у госці. Да сябе ў полк. Абяцаюць пазнаёміць з палкавым перакладчыкам. Аднак я адмаўляюся. Настолькі рашуча, што яны здзіўляюцца. Перакладчык сам мог сюды прыйсці. Не ацірацца ў штабе. Мы ж і палку звесткі перадавалі. Часам нават каштоўныя.

На другі дзень да нас прыходзіць толькі адзін разведчык. Разгублены і як бы вінаваты. Яго таварыша, які ўчора асабліва горача запрашаў мяне ў полк і якога я навучыў страляць з фаўстпатрона, забіла. Яго і яшчэ некалькіх разведчыкаў. У час артналёту. Снарад упаў на накат зямлянкі. Артналёт пачаўся адразу, як толькі разведчыкі вярнуліся ад нас. Так што і нас магло б забіць, каб мы пайшлі ў госці...

Другі раз за вайну мяне спатыкае вось такая прыгода. У партызанах восенню сорак трэцяга года аднакласнік Кузь-

ма зваў мяне пайсці па мёд да дзеда-хутаранца. Мёд дзед мяняў на соль. Кузьма зваў настойліва, упрошваў і нават пакрыўдзіўся, але я ўпарта адмаўляўся. Па дарозе да хутара Кузьма падарваўся на міне.

Няўжо ёсць прадчуванне? Калі ёсць, то на чым грунтуецца? Разважай, не разважай — але адказу няма. Містыка...

Цішыня, цішыня. Паволі выгарае горад. Камендатура нічога зрабіць не можа. Удалечыні ўсё больш акрэслена, выразна выступаюць абрысы Судэцкіх гор. Я нібы прадчуваю, што цішыня хутка ўзарвецца. Прадчуванне не падводзіць. Праз дзень ці два пачынаецца наступленне на Берлін.

Я не сумую, што застаўся на ціхім участку фронту і Берліна не пабачу. Салдат службы не выбірае. Але калі нашы возьмуць Берлін, вайна, хутчэй за ўсё, скончыцца. А што тады?

Я перажыў агромністае пачуццё палёгкі, нястрыманай радасці, калі восенню сорак трэцяга года савецкае войска вызваліла мястэчка. Я сам, як партызан, удзельнічаў у гэтым вызваленні. Хмурая восень здавалася вясной. Дзень, калі пяхота запрудзіла вуліцы мястэчка (танкі на нашым напрамку не дзейнічалі), выдаўся цёплы, сонечны. Нібы на бяду. Бо на мястэчка наляцела армада нямецкіх самалётаў. Бомбы немцы кідалі ў кантэйнерах. На ляту кантэйнер расчыняўся, і дробныя, асколачныя бомбы накрывалі немалую плошчу. Крыві ў першы дзень вызвалення фашысты нарабілі многа. Ды і пазней ледзь не тыдзень абстрэльвалі мястэчка з артылерыі.

Менавіта ў тыя дні я ўпершыню ў жыцці спазнаў пачуццё свабоды. Прачнешся раніцай — і на душы радасць. Тыя самыя хаты з гнілаватымі гонтавымі дахамі, крывыя хлявы, парканы, пясчаная, гразкая вуліца, а глядзяцца па-другому. Весела і нават святочна. Бо па вуліцы не ходзяць немцы, чужыя людзі...

Вызваленне — як казка. Можа, таму, што я памятаў, як адыходзілі нашы часці. Разрозненымі групкамі, з аднымі вінтоўкамі. Твары чырвонаармейцаў зарослыя шчацінай, гімнасцёркі выгаралыя на сонцы, закарэлыя, з белымі плямамі солі.

Паўтара года як мястэчка свабоднае. Толькі мне не зусім падабаецца гэта свабода. У акупацыі мястэчка было два

гады і два месяцы. Мне дык нават вельмі добра бачна, хто чым дыхаў, як сябе паводзіў. Некаторыя паліцаі і начальнікі прыліплі да немцаў адразу, некаторых у паліцыю загналі сілай. Астатнія служылі часцей на ранейшых месцах. Бо трэба мець кавалак хлеба. Моладзь таксама ўладкоўвалася на работу. Бо інакш пад прымусам яе пагналі б на работы ў Германію.

У час нядоўгага партызанства я расказваў начальству пра местачковае падполле. Ды начальства само ведала: мела ад нас звесткі, соль, бінты, медыкаменты. Ведалі партызаны і пра нашу службу ў ваенных разведчыкаў.

За паўтара года свабоды ніхто з раённых кіраўнікоў не пацікавіўся падпольнымі справамі. Горш таго: на падпольшчыкаў сталі навешваць розныя ярлыкі, прыніжаць іх. З партызанамі паступілі не лепш: яшчэ памятнай восенню, калі мы толькі злучыліся з арміяй, іх, не абмундзіраваных, не ўзброеных, не абучаных, кінулі ў наступленне на нямецкія дзоты. Без артылерыйскай падрыхтоўкі, танкаў. Большасць партызан у тым наступленні загінула.

Памочнікам камісара па камсамоле быў у нашай брыгадзе высокі вузкатвары хлапчына па прозвішчы Філімончык. Нёс сябе высока: сшыў чорную доўгую казачыну, хромавыя боты, здабыў камандзірскую фуражку з зоркай. На фронт Філімончык не пайшоў: прыліп у абкаме камсамола.

Я два лісты напісаў таварышу Філімончыку наконт местачковага падполля. Ён маўчыць, не адказвае. Не выключана, што сам быў у палоне ці акружэнні. Цяпер, відаць, дрыжыць, баіцца страціць пасаду, якая выбавіла ад арміі, фронту.

У арміі — дэмакратычныя парадкі. У стралковыя роты ахвотна бяруць палонных, якіх войска вызваляе з розных лагераў. Наогул у арміі многа людзей, якія былі ў акупацыі. Нават сувязісты групы бліжняй разведкі — пераважна смаленская дзятва дваццаць шостага года нараджэння. Пра акупацыю, аднак, хлопцы ні зыку. Яна нібы плямы на іх кладзе, прыніжае.

Мы з Мілаванавым ужо тыдзень дакладваем, што немцы збіраюцца адыходзіць. Не заўважылі, аднак, што ад гарадка яны адступілі. Лінія фронту цяпер ад нас кіламетраў за

дваццаць. Разведчыкі са стралковага палка да нас болей не прыходзяць.

Мілаванава адклікаюць у штаб арміі. Работы цяпер меней. Спраўляюся я адзін.

На берлінскі напрамак падцягваюцца часці. Ідуць танкі, самаходкі, аўтамашыны. Каля гарохавага заводзіка вялізная варонка, і тут утвараецца пробка. Да мяне ў пакой урываецца раз'юшаны старшы лейтэнант, высокі танкатвары грузін з акуратна падстрыжанымі чорнымі вусікамі.

— Хто такія? Ану засыпаць варонку!

Я імгненна ўспыхваю. Выклікаю Грыдзіна.

— Сяржант Грыдзін, чаму дапускаеце ў памяшканне пабочных? Праводзьце старшага лейтэнанта...

Грыдзін разумее мяне імгненна. Гледзячы на ганарыстага грузіна, звяртаецца да яго з гумарам:

— Пайшлі, старшой. Мы ў сваім падвале ніжэй палкоўніка не прымаем. Нядаўна было пяць палкоўнікаў. Наша начальства...

Старшы лейтэнант бялее. Хапаецца за пісталет.

— Я памочнік ваеннага каменданта горада. Дадзенай мне ўладай...

— Вашы дакументы, старшы лейтэнант.

Ён дае мне пасведчанне. Прозвішча яго Нінашвілі.

Я вымаю з нагруднай кішэні складзены ў чатыры столкі лісток. Там падпісаны начальнікам штаба арміі, генералам зварот да ўсіх воінскіх часцей аказваць нашай групе ўсялякае садзеянне.

— Хто вы такія?

— Слухалі вы калі-небудзь, старшы лейтэнант, немцаў па тэлефоне? Калі хочаце, паслухайце...

Старшы лейтэнант недаўменна на нас пазірае.

— Якіх немцаў?

— Звычайных. Тых, што на фронце. Можа, нават генералаў.

Я ўключаю апарат. Даю старшаму лейтэнанту навушнікі.

Ён з хвіліну слухае. На твары нават адбітак страху.

— Фронт за дваццаць кіламетраў. Містыка...

На мяне нібы накатвае хваля нахабства.

— У вас ёсць пэпэжэ, старшы лейтэнант? Дайце адрас, і я запішу вашу размову з ёй. Або размову пэпэжэ з кім-небудзь другім. Думаеце, яна вам верная?

— Як вы размаўляеце, старшына? Я старшы па чыну.

— У арміі пасада вышэй чына. Я на афіцэрскай пасадзе. Мой напарнік — лейтэнант. Шкада, не магу яго з вамі пазнаёміць.

Зняважаны старшы лейтэнант збіраецца адыходзіць.

Я, аднак, перагнуў палку. Не варта было крыўдзіць памочніка каменданта горада.

— Ёсць грузінскі пісьменнік Эгнатэ Нінашвілі. Ці не ваш родзіч?

Старшы лейтэнант весялее.

— Родзіч. Але далёкі...

— Не крыўдуйце, старшы лейтэнант. Служба сакрэтная. Мы тут больш месяца. Фронт быў на ўскраіне горада. Немцы маглі нас выкрасці. Каб ведалі, дзе мы знаходзімся...

— Тут былі моцныя баі? Горад напалавіну спалены...

— Ён сам згарэў. Не было каму тушыць пажары.

На развітанне паведамляю старшаму лейтэнанту пра запасы зялёнага гарошку на складзе заводзіка. Гэта ж харч. Няхай камендатура возьме яго на ўлік. Старшы лейтэнант ужо зусім не злуе і працягвае мне на развітанне руку.

Назаўтра заяўляюцца два сапёры, пажылыя, маларухавыя дзядзькі.

— Памочнік каменданта загадаў праверыць памяшканне на міны...

Сапёры водзяць палкамі мінашукальнікаў па падлозе, сценах. Раптам з апарата даносіцца тонкі, падобны на мышыны, піск.

— Міна ёсць, старшына. У гэтым пакоі.

Я пасміхаюся.

— Не міны. Фаўстпатроны.

— Навошта фаўстпатроны?

— Бараніцца. Нас ніхто не ахоўвае.

Набіўшы кішэні шынялёў бляшанкамі з маладым гарошкам, сапёры знікаюць.

Мая бяссонніца пакрысе спадае. Цяпер ясна: была ад ператамлення. Можа, ад кантузіі. Баяўся я, што нешта важнае прапушчу ці не разбяруся. Таму развінціліся нервы. Сядзеў каля апарата гадзін па шаснаццаць-васямнаццаць. Я і цяпер сяджу. За амаль паўтара месяца, што мы знаходзімся ў горадзе, я прывык да галасоў тэлефаністаў, вайсковых начальнікаў, якія вядуць пастаянныя перамовы. Пазнаю ўсе гэтыя галасы, іх адценні.

Я даўно выдзеліў двух тэлефаністаў, якія вечарам ці ў пачатку ночы, калі сплывае службовая мітусня, размаўляюць пра асабістыя справы. Аднаго завуць Карл, другога — Герман. Яны ў невялікіх чынах, Карл, здаецца, унтэр-афіцэр, Герман — яфрэйтар. Яны вопытныя тэлефаністы і лішняга ніколі не гавораць. Найбольш пра яду: чым іх кармілі на снеданне, абед і вячэру. У пераліку страў, іх вартасці, смаку яны нават смешныя. Бо дэталёва абмяркоўваюць кожную страву. Між іншым, кормяць немцаў нядрэнна. Лепей, чым нас. У дадатак да звычайных страў: супу, бобу, гароху з мясам, катлет, макаронаў з таматнай падліўкай — яны атрымліваюць каву, мармелад, розныя кухены[1], штучны мёд, галеты, плаўлены сыр. Вось пра гэта найчасцей размаўляюць Карл з Германам.

У мірным жыцці ваякі-тэлефаністы займалі невысокія пасады. Карл, здаецца, быў паштовым чыноўнікам, Герман працаваў у гарадскім парку. Хутчэй за ўсё даглядчыкам, бо часта расказвае пра кветкі, палавіну назваў якіх я не ведаю і не магу знайсці гэтых назваў у слоўніку.

Абодва тэлефаністы ахвотна расказваюць пра жонак. Я нават ведаю, як завуць іхніх жонак. Карлаву — Луіза, Германаву — Анна-Марыя. Яна, відаць, каталічка. Немцам даюць урляўбы[2]. Мінулагодняй восенню адпачынак пашчасціла атрымаць абодвум. (Гарадоў, дзе жывуць, тэлефаністы не называюць.) Скардзяцца адзін другому дзяжурныя тэлефаністы, што іх мажныя, паўнацелыя жонкі прывабнасць страцілі. Кормяцца па картках, лішняга харчу няма, таму невядома куды зніклі іх некалі пышныя зады, грудзі.

[1] Піражанае.
[2] Адпачынак.

Карл пахваляецца: у час урляўбу шмыгануў да адзінокай Марты. Мужа ў яе ніколі не было, затое ёсць трое дзяцей.

— Steiβ wie bei der Elefantweibchen, Zitzen wie Bomben[1].

Бо мые Марта посуд у кантыне[2], і харчу, відаць, мае дастаткова. Тоячыся ад жонкі, пад выглядам адлучак у казарму, некалькі дзён пажыў Карл, як ён гаворыць, auf grossen Fuss[3], Герман у адказ толькі ўздыхае: «Futsch ist futsch und hin ist hin»[4]. На жаль, у яго няма знаёмай Марты, якая б працавала ў кантыне.

Абодва тэлефаністы зрэшты пагаджаюцца, што жонкі могуць wieder zu frühem Gange sein[5]. Для гэтага трэба толькі харч. І болей нічога.

Іншы раз яны пераказваюць адзін аднаму сны, якія снілі, стараюцца разгадаць, што сны азначаюць. Пра вайну, яе хуткі, відавочны канец не гавораць ні слова. Хоць я адчуваю: яны цалкам паклаліся на волю лёсу. Es mag gehen, wie es will[6].

Нечуваныя перамогі немцаў, тое, што яны ледзь не дайшлі да Масквы, дасягнулі Сталінграда, Каўказа, падчас акупацыі рабіла іх у маіх вачах істотамі незразумелымі, загадкавымі. Цяпер ад гэтага я далёкі. Я бачыў палонных немцаў, размаўляў з імі. Нічым асаблівым яны не вызначаюцца. Такіх, як Карл і Герман, я бачыў яшчэ ў мястэчку. Яны служылі ў палку, які ахоўваў чыгунку. Харчу ім не хапала, і ўжо ў першую ваенную зіму яны брындалі па хатах, прапаноўвалі на абмен іголкі, ніткі, фарбу, просячы за гэта яйкі і сала.

Распусных жанчын у мястэчку было не шмат. Бадай што адзінай салдацкай каханкай была Каця Дзуля, прысадзістая картавая стрэлачніца з вялікімі бёдрамі і шырокім, страшэнна непрыгожым тварам. Замуж Дзулю ніхто не ўзяў: як з такой пачварай паказацца ў людзі? Салдаты-ахоўнікі, аднак, на брыдкі Дзулін твар не зважалі. Прыцемкам, калі не асабліва віжавала чужое вока, па адным, па двое і нават па трое яны

[1] Задніца, як у сланіхі, грудзі, нібы бомбы.
[2] Салдацкі буфет.
[3] На шырокую нагу.
[4] Што з возу ўпала, тое прапала.
[5] Стаць ранейшымі.
[6] Што будзе, то будзе.

пракрадваліся на панадворак досыць прасторнага яўрэйскага дома, які падчас акупацыі захапіла Дзуля. Яна нідзе не працавала і жыла з таго, што прыносілі салдаты.

## XVIII

Паўтара месяца на адным месцы. Столькі за вайну мы нідзе не стаялі. Хіба толькі ў Выбаргу пасля таго, як узялі. Цяпер разгортваецца бітва за Берлін. Возьмуць нашы Берлін, і вайна хутчэй за ўсё скончыцца. Але я баюся пра гэта думаць. Вайна ідзе, і нельга ў мірнае жыццё лезці нават у думках.

Цяпер, калі вайна канчаецца, армія, якой належыць полк сувязі і наша група, не на галоўным напрамку. Мяне гэта не бянтэжыць. Адчуваю: робім сваю справу. Карысць ад яе ёсць. Адно наша папярэджанне аб намеры немцаў узарваць вадасховішча Отмахау можа апраўдаць усю дзейнасць групы. А былі ж і іншыя данясенні.

Летам сорак трэцяга года ў мяне было такое ж адчуванне. Перад гэтым мы, маладыя местачковыя падпольшчыкі, ірваліся ў лес, да партызан. Складалі розныя планы, як да партызан далучыцца. Бо не так проста было пайсці ў лес. У мястэчку нашы сем'і, і немцы іх у спакоі не пакінуць.

Ваенныя разведчыкі, з якімі мы наладжваем сувязь, загадваюць нам заставацца ў мястэчку. Бо ім трэба звесткі пра немцаў. У лесе такія звесткі не здабудзеш. У разведчыкаў ёсць радыёстанцыя, і яны хочуць мець у мястэчку, асабліва на чыгунцы, сваіх людзей. Бо праз чыгуначную станцыю (яна ў нас нават вузлавая) рухаюцца на фронт нямецкія эшалоны, вязуць воінскія часці, тэхніку.

Мае дзіцячыя гады праляцелі каля чыгункі. За нашым агародам ляжаў чыгуначны насып, насупраць двара стаяў з паднятым ці апушчаным крылом семафор.

Калі па рэйках нясліся цягнікі, у вокнах звінелі шыбы, трохі падрыгвалі сцены, падлога, але да гэтага, як і да пранізлівых паравозных гудкоў, перастуквання колаў, у сям'і прывыклі і не звярталі ўвагі. Нават ноччу на сон гэта не ўплывала.

І вось цяпер за гэтай чыгункай мы сочым. На нашым абавязку не прапусціць ніводны эшалон, асабліва калі ён воінскі.

Палічыць вагоны, платформы, колькасць войска, тэхнікі. Дзеля гэтага дэсантнікі далі спецыяльную форму: квадрацікі, кубікі, трохвугольнікі, іншыя значкі.

Падпольшчыкамі сталі школьныя хлопцы, якія сябравалі яшчэ да вайны. Ёсць сярод нас дарослыя: аграномы, урачы, заатэхнікі. Але з дэсантнікамі сувязь завязалі мы, мы яе падтрымліваем, таму інтэлігенты з дыпломамі мусяць нам падпарадкоўвацца.

Так што ліха мы пабачылі. Іван Гарошык і Кузьма-Дзям’ян, якія да вайны скончылі дзесяцігодкі, у сорак першым годзе былі мабілізаваны, удзельнічалі ў баях, трапілі ў акружэнне. Шчасліва выбраліся адтуль хлопцы і прыдыбалі ў мястэчка. Іван Гарошык — з-пад Арла, Кузьма-Дзям’ян — з-пад горада Яфрэмава. Разам з Іванам Гарошыкам быў Цімох, мой бліжэйшы сябар-сусед. Пра яго нічога не чуваць. Нават пасля вызвалення мястэчка не адазваўся. Ці загінуў, ці, можа, трапіў у палон.

Я з дзевяцікласнікамі Пішчыкам і Плоткіным хадзіў у адступленне. Вырвацца ў тылавыя, глыбінныя раёны краіны нам не ўдалося. Дайшлі толькі да Дняпра. Ішла бітва за Кіеў, ужо былі захоплены немцамі Гомель, Чарнігаў, і мы вярнуліся ў мястэчка.

Мікалай Пішчык быў са мной на Карэльскім перашыйку. Яго цяжка параніла ў жывот, доўга ён ляжаў у шпіталі, а цяпер канчае мясцовую дзесяцігодку. Аграном Драгун забіты ва Усходняй Прусіі. Загінуў і Плоткін.

Многа, вельмі многа хлопцаў з дзясятага, дзявятага класаў загінула.

А тады, у сорак трэцім, актыўна, з вялікім душэўным уздымам мы здабывалі звесткі пра немцаў. Іван Гарошык дзеля гэтага ўладкаваўся на чыгунку, у рамонтную брыгаду. Яму дапамагалі яшчэ два хлопцы, адзін з якіх нават быў мастаком. Калі па чыгунцы везлі якія-небудзь адмысловыя гарматы ці танкі, ён замалёўваў іх контуры.

У разгалістых станцыйных таполях шумяць то лагодныя, цёплыя, то халодныя здрадлівыя вятры. Я радуюся весткам з фронту: зімой сорак трэцяга года яны пераможныя. Я ведаю: лёс вайны вырашаецца на фронце. Пад Сталінградам немцам

зрабілі выдатны кацёл, адагналі ад Масквы, прарвалі змяінае кальцо блакады пад Ленінградам.

Але вясна, як і ў мінулым годзе, прыносіць не толькі радасць, а і расчараванне. Чырвоная Армія, авалодаўшы Харкавам, палавінай Данбаса, зноў здае іх немцам. Мяне не перастае трывожыць пакутлівае пытанне. Няўжо нашы ўмеюць ваяваць толькі зімой, калі ціснe мароз і мятуць снягі?

Я проста хварэю за справы на фронце. Дакладна ведаю дзень і месяц, калі Чырвоная Армія здала які-небудзь горад і калі ўзяла яго назад.

Канец майго агарода нібы ўпіраецца ў тупіковыя пуці. Каля іх яшчэ да вайны набудавалі розных складоў і баз. Вясной на тупіковых пуцях паявіўся цэлы эшалон цяплушак. У абшарпаных таварных вагонах памяшчаецца розны люд: палякі, чэхі, бельгійцы. Немцы адарвалі людзей ад сем'яў, прыгналі на далёкую, невядомую станцыю. Выкарыстоўваюць у якасці рамонтнікаў. Прытым рамонтнікаў асаблівых, якія аднаўляюць чыгунку, кладуць новыя рэйкі, шпалы пасля партызанскіх дыверсій. Не хочуць немцы, каб рамантавалі чыгунку мясцовыя людзі. Бо тады пра партызанскія справы, іх размах будзе ведаць усё навакольнае насельніцтва.

Кожную раніцу я праходжу міма застыглага эшалона цяплушак, кіруючы ў канец станцыі, дзе на ціхай ускраіннай вуліцы размяшчаецца кантора лясгаса. У лясгасе я працую касірам. Гэта вельмі прыдатная пасада дзеля той работы, якую мы выконваем па заданні дэсантнікаў. У ваколіцах мястэчка раз-пораз запыняюцца нямецкія воінскія часці. Яны без нічыйнага дазволу высякаюць лес, будуючы бункеры, дзоты, апорныя пункты. Лясніцтвы даюць аб гэтым звесткі ў лясгас. Бухгалтэрыя лясгаса выстаўляе немцам рахункі. Я з рахункамі торкаюся ў фінансавыя аддзелы воінскіх часцей. Сёе-тое пра характар гэтых часцей разнюхваю.

Я яшчэ да вайны, збіраючыся паступаць у інстытут, збольшага вывучыў нямецкую мову. Пра становішча на фронце чуткі хадзілі самыя супярэчлівыя. Пра захоп Масквы, Ленінграда, пра тое, што бальшавікоў адагналі за Урал. Таму ўжо ў першую ваенную зіму я накінуўся на нямецкія газеты. Каб ведаць пра становішча на фронце, я заглядваў у граматыку, слоўнік і пачаў чытаць газеты амаль без слоўніка.

З веданнем нямецкай мовы я мог знайсці пасаду лепшую, чым касір лясгаса. Але нават для дэсантнікаў не хацеў гэтага рабіць. Прадчуваў: цяжка будзе адмываць гразь, якая прыліпне на нямецкай службе.

У сорак трэцім годзе немцы, як бы нават захліпаючыся, пішуць пра «новую Еўропу» і «новы парадак». Відаць, баяцца рускіх, іхняга наступлення, і хочуць з’яднаць еўрапейскі люд, пагражаючы нашэсцем дзікіх азіяцкіх ордаў.

Каля эшалона ў тупіковых пуцях ніколі не спыняецца гандаль. Тут аціраецца мясцовая басота, якая за нямецкія маркі, што ніякай цаны ў мястэчку не маюць, выменьвае ў рамонтнікаў запальнічкі, цыгарэты, іншую драбязу.

Сярод рамонтнікаў ёсць знаёмы чэх, якога завуць Карэл Чапля. Круглатвары, прысадзісты, ён здаецца спакойным і ўраўнаважаным. Але толькі да таго часу, пакуль гаворка не заходзіць пра немцаў. Немцаў чэх ненавідзіць люта і адразу выбухае гневам:

— То гэрады! Бандыты, вісельнікі. Іх трэба нішчыць, мардаваць. Справідлова робяць вашы партызаны...

Чэх падрабязна расказвае, якую, з якім размахам учынілі чарговую дыверсію партызаны. Мне такія весткі таксама патрэбны.

Ужо чэрвень мінуў, ліпень пачаўся, але немцы не наступаюць. Я пачынаю трывожыцца: няўжо будзе, як летась і пазалетась. Зімой — поспех Чырвонай Арміі, але як толькі прыгрэе сонца, падсохнуць дарогі, ачысціцца ад цяжкіх воблакаў неба, немцы напралом папруць наперад.

Нарэшце пачалося нямецкае наступленне. І зноў, як і ў мінулым годзе, на паўднёвым напрамку. Ад Харкава, які нашы ўзялі зімой, а ў пачатку вясны здалі.

Мы, сувязісты, лічы, з сакавіка-красавіка паведамлялі дэсантнікам пра новыя танкі, артылерыйскія ўстаноўкі, якія немцы ліхаманкава кідалі на фронт. Мы толькі не ведалі, як гэтая тэхніка называецца. Аказваецца, танкі — «тыгры», артылерыйскія ўстаноўкі — «фердынанды». Цяпер «тыгры» і «фердынанды» напіраюць на Курскі выступ.

Я кожны дзень хаджу на станцыю, дзе для немцаў-чыгуначнікаў у калідоры цаглянага двухпавярховага дома —

інтэрната — вывешваюцца надрукаваныя на пішучай машынцы зводкі Оберкамандо Вэрмахт[1].

Слаба прасоўваюцца немцы, але ўсё ж прасоўваюцца. На душы ў мяне непакой, трывога. Няўжо зноў правал, адступленне? Да маёй радасці, немцы нарэшце спатыкаюцца. Пішуць пра шалёныя атакі рускіх, якія нібыта з поспехам адбіваюць. Я між тым навучыўся чытаць між радкоў. Савецкае войска, значыць, перайшло ў наступленне...

Здагадка ў хуткім часе пацвярджаецца: нібы скрозь зубы немцы паведамляюць: пакінулі Арол і Белгарад.

Трэба было бачыць у гэты дзень эшалон з абшарпаных цяплушак, які я называю «новай Еўропай». Скінуўшы завэдзганыя робы, апрануўшы робы навейшыя і чысцейшыя, рамонтнікі частуюць адзін аднаго шнапсам, іграюць на гітарах, губных гармоніках, спяваюць. Той, хто іграць не ўмее, проста б’е лыжкай па кацялку або каструлі. Абы болей гуку. Гэтак «новая Еўропа» адзначае перамогу рускіх на Курскай дузе...

З таго спякотнага жніўня я паверыў канчаткова: песенька немцаў спета. Ім болей не падняцца, колькі б яшчэ вайна ні працягвалася. То былі самыя шчаслівыя хвіліны майго жыцця...

Між іншым, сур’ёзнае і смешнае часта ходзіць у пары. У снежні сорак першага года, калі па мястэчку папаўзлі чуткі, што немцаў разграмілі пад Масквой, мяне раптам пачала запрашаць да сябе ў хату наша суседка Бабурыха. Гэта была высокая, худая як палка, страшэнна языкатая жанчына, якая перасварылася з усёй вуліцай. Маці мяне не пускала, але я хадзіў да Бабурыхі, якая, здаецца, украла наша палатно, якое маці цэлую зіму ткала, затым выбельвала, рассцілаючы на ранішніх росах. Метраў сорак палатна. Сподняй бялізны ў нас у той год не было.

І вось Бабурыха стала запрашаць мяне ў чысты пакой, прасіла распранушца і настойліва выпытвала пра падзеі на фронце.

Пазней я дазнаўся, у чым справа. У пачатку першай зімы Бабурыха хавала шаўца-яўрэя. Ён сядзеў у адгароджаным

---

[1] Галоўнага нямецкага камандавання.

шырмай закутку каля грубкі, і, значыць, для яго я расказваў навіны пра падзеі на фронце.

Шавец, перахаваўшыся па месяцы-два яшчэ ў двух гаспадароў, вясной рушыў у партызаны.

Дзіўнае, незразумелае племя абываццеляў!.. У найцяжэйшы момант вайны, рызыкуючы жыццём сям'і, Бабурыха (яе муж, вартаўнік клуба, быў цалкам пад уладай жонкі) ледзь не подзвіг здзяйсняла, а летам сорак трэцяга, калі немцаў пагналі ад Арла, Белгарада, аддала маладую прыгожую дачку замуж за немца. Дый жаніх быў несапраўдны. Каржакаваты, гадоў трыццаці фольксдойч з Польшчы, які, напэўна, меў жонку і дзяцей. Ён, як і рамонтнікі з эшалона, працаваў на чыгунцы. Толькі жыў не ў цяплушцы, а ў інтэрнаце, меў выхадны форменны касцюм з сіняга сукна і шапку з кукардай.

Так, фольксдойч хутчэй за ўсё быў жанаты, бо праз месяц, калі Чырвоная Армія падышла да Дняпра, залішне паспешліва драпануў са станцыі, пакінуўшы маладую жонку на волю лёсу...

## XIX

Прыехаў Мілаванаў, прывёз радасную навіну. Мяне ўзнагародзілі ордэнам Чырвонай Зоркі. Значыць, нездарма некалькі палкоўнікаў, падпалкоўнікаў прыязджалі да нас, спускаліся ў падвал, слухалі галасы немцаў.

— Цябе ў штабе хваляць,— коратка зазначае лейтэнант.— За звесткі пра вадасховішча. Тое вадасховішча немцы ўзарвалі...

Я не хаваю радасці. У некаторых камандзіраў, байцоў па два-тры ордэны. Мне хопіць аднаго. Хоць за вайну я таксама сёе-тое пабачыў. Аднак ваяваў я на няўдзячным фронце, пра які нават не хочацца ўспамінаць. У сорак другім годзе мяне арыштавала СД, дапытвала наконт радыёпрыёмніка, які наша група слухала. Ні пра прыёмнік я немцам не сказаў, ні таварышаў не выдаў.

Партызанам, дэсантнікам мы памагалі многа. Трыста кароў, прыгнаных немцамі са спаленых вёсак, аддалі партызанам. Зрабілі так, што пастухі пагналі вялізны статак ва ўрочышча, дзе іх ужо чакалі партызаны.

Пасля нашых данясенняў дэсантнікам, над вялікім горадам за восемдзесят кіламетраў ад мястэчка пад поўнач загараліся чырванаватыя агні ракет. Іх вешалі савецкія самалёты. Яны бамбілі чыгуначны вузел, а значыць, і тыя эшалоны, пра якія мы паведамлялі разведчыкам.

Выбухаў не чуваць, а водбліскі далёкіх зыркіх ракет відны. Паліцэйскія патрулі ў гэты час страляюць у паветра, і чамусьці зацята брэшуць сабакі. Сувязь паміж бамбёжкамі і нашымі чыгуначнымі зводкамі самая прамая: чым больш прайшло эшалонаў на ўсход, тым даўжэй вісяць у небе падобныя на самыя яркія зоркі ракеты.

Дык вось табе ордэн не толькі за вадасховішча, а і за тыя эшалоны...

Апошнія дні мы з Мілаванавым пасылаем данясенні аб адыходзе немцаў на захад. Бяссонніца мая скончылася, але ўсё адно сплю мала. Начамі, як у школьныя гады, чытаю. За апошні час прачытаў тоўстую кнігу белагвардзейскага генерала Краснова «Vom weissen Adler bis zum roten Stern»[1]. Слязлівы, сентыментальны раман. Няма ў генерала моцнай ідэі. Проста скардзіцца на лёс, на тое, якія жорсткія, несправядлівыя бальшавікі.

Спрабую чытаць па-польску «На Заходнім фронце без перамен». Тыцкаюся на кожным радку ў слоўнік, а калі знаходжу незразумелае слова, то яно, аказваецца, не такое далёкае ад беларускага ці рускага. Зрэшты, кнігу Рэмарка я чытаў. На беларускай мове. Яна была перакладзена яшчэ ў пачатку трыццатых гадоў.

Не, на такой вайне, якую апісвае Рэмарк, я, здаецца, не быў. У сэнсе настрою, які валодае героямі. Хоць, з другога боку, ёсць падобнае і з гэтай вайной. З таго часу, як я трапіў у армію, на фронт, я зусім не думаю, як у акупацыю, калі і які ўзяты намі горад. Узяты, ну і добра. І яшчэ ёсць у маіх пачуццях штосьці рэмаркаўскае. Пачынаючы з сорак другога года, немцы расстрэльвалі падпольшчыкаў — знаёмых мне хлопцаў, дзяўчат. Гінула моладзь у партызанах і асабліва гіне тут, на фронце. Са знаёмых хлопцаў з дзявятага, дзясятага

[1] «Ад белага арла да чырвонай зоркі».

класаў, бадай, большай палавіны на свеце няма. І навошта таіць: у душы нешта надламалася. Калі ў лістах з дому пішуць, што загінуў той ці іншы чалавек, асабліва той, што трохі пажыў, мяне такая вестка мала кранае.

Мілаванава зноў адклікаюць. На гэты раз канчаткова. Я прашу яго:

— Дай мне «Пралегомены». Хоць некалькі старонак прачытаю. Якія ты пакажаш...

Ён з хвіліну вагаецца. Затым вырывае з блакнота лісток, піша мне парады. Галоўны ягоны наказ: не згубі кнігу. У Саюзе такой не знойдзеш. Чытай раздзелы пра школьныя навукі — геаметрыю, трыганаметрыю. Увогуле, у філасофію не лезь. Не маеш ніякай падрыхтоўкі. Гэта табе не ваенныя зводкі чытаць або немцаў падслухоўваць...

Невялікі раздзельчык, які я прачытаў, сапраўды цяжкі для разумення. І ўсё ж штосьці знаёмае ў памяці ўсплывае. Сістэма доказаў у тэарэмах, аксіёмах. Сапраўды, што такое сінусы, косінусы, тангенсы, катангенсы? Тэарэтычныя паняцці, якія ў жыццёвай практыцы прымяняюцца, ад яе адштурхоўваюцца, але з’яўляюцца вынікам абстрактнага мыслення.

Мы цяпер спім, распрануўшыся да бялізны. Небяспекі няма. У горадзе ўсё шырэй разгортвае дзейнасць ваенная камендатура. Круглыя суткі па вуліцах выдыбаюць патрулі.

Кожны дзень я адпраўляю данясенні пра намер немцаў адыходзіць на захад. Паперы возіць па чарзе хто-небудзь з сувязістаў на карпусны вузел сувязі. Пра змест данясенняў яны ведаюць.

Добра мы пажылі ў гарадку. Паўтара месяца на адным месцы. Рэдка такое выпадае на вайне.

Ноччу я болей не слухаю немцаў. Няма чаго слухаць. Прыходжу спаць да разведчыкаў у агульны вялікі пакой. Перацягваю туды свой ложак.

У свой час я някепска прыжыўся ва ўзводзе пешай разведкі. Тое самае і тут. Сувязісты прынялі мяне ў свой гурт. Зрэшты, мы амаль равеснікі. Яны дваццаць шостага года нараджэння, я — дваццаць пятага. Яны — апошні прызыў, які паспеў удзельнічаць у вайне. Сувязісты — дробненькія,

нізкарослыя, падобныя да хлапчукоў. Відаць, ваенкаматы спецыяльна падбіралі такіх хлапчукоў для часцей сувязі.

У групе, як і раней, ва ўзводзе пешай разведкі, пануе дух насмешлівасці, узаемнага падколвання. Аўтарытэты не шануюцца. Самыя высокія з іх скідаюцца на зямлю.

— Войцік піша дзвюм дзяўчынам,— ледзь не штовечар расказвае пра мяне Грыдзін.— Хоча праверыць, якая гарачэй любіць. Тым часам адна ўжо выскачыла замуж, другая — збіраецца...

У нашай групе адзін пра другога ўсе ўсё ведаюць.

Грыдзін ездзіў у полк, прывёз пісьмы, газеты, мой дадпаёк.

Падышоў да мяне.

— Віншую вас, таварыш капітан, з прысваеннем чарговага воінскага звання.

Я адчуваю: розыгрыш. Толькі чаму Грыдзін называе мяне капітанам?

Грыдзін падае пісьмо. На канверце надпіс — капітану Войціку. Па прыгожым каліграфічным почырку я адразу пазнаю: пісьмо ад дзядзькі Пеці. Дзіва дзіўнае. Да вайны дзядзька Пеця служыў у Ломжы, на самай граніцы з немцамі. З першага дня вайны перастаў падаваць пра сябе весткі. Тым часам у пачатку першай ваеннай зімы нехта пусціў чутку, што бачыў дзядзьку ў Мінску, у лагеры ваеннапалонных. Я нават збіраўся ісці пехатой у Мінск — вызваляць дзядзьку. Аднак мне не дазволілі: чалавек, які расказваў пра дзядзьку Пецю, не выклікаў ніякага даверу.

З пісьма я даведваюся: дзядзька сапраўды быў у палоне. Трапіў туды ў першы дзень вайны. Вайну правёў у шахтах. Можа, у гэтай самай Сілезіі. Нядаўна яго выбавілі з няволі, і цяпер ён зноў у арміі. Можа, у іх часці перакладчык мае званне капітана і таму дзядзька ў такі чын мяне ўзвёў?..

У газетах пераможныя рэляцыі. Я іх толькі збольшага перакідваю. Ужо месяцы два «Красная звезда» не друкуе артыкулаў Іллі Эрэнбурга. Паявіўся матэрыял «Товарищ Эренбург упрощает» за подпісам незнаёмага аўтара, і з таго часу няма болей артыкулаў вострага, разумнага, з’едлівага ў адносінах да немцаў пісьменніка.

Іншы раз вечарам сувязісты спяваюць. Пачынае Гайваронскі. У гэтага шыракатварага сяржанта з калючымі азіяцкімі вачамі прыемны барытон. Ён пачынае, падыгрываючы сабе на гітары, і паступова ў спевы ўцягваюцца астатнія пяць-шэсць хлопцаў.

Я прапаноўваю сувязістам вывучыць нямецкі гімн «Deutschland, Deutschland über alles». Яны з ахвотай згаджаюцца. Я знайшоў нямецкі песеннік, на першай старонцы якога змешчаны гімн нават з нотамі. Гайваронскі (ён жыў у дзіцячым доме і трохі ўмее чытаць ноты) мелодыю падабраў. І вось гучаць уночы з падвала гарохавага заводзіка першыя цвёрда засвоеныя радкі нямецкага гімна:

Von der Maas bis an die Memel,
Von der Etsch bis an den Belt,—
Deutschland, Deutschland über alles,
Über alles in der Welt[1].

Аднойчы ў рашотку паўпадвальнага акна нават патрулі прыкладам аўтамата пастукалі, маўляў, спяваць забаронена.

Але мы працягваем спяваць:

Deutsche Frauen? deutsche Treue,
Deutscher Wein und deutscher Sang
Müssen in der Welt behalten
Ihren alten schönen Klang[2].

Ведаць нямецкі гімн — не за плячамі яго насіць. Прывітаем якую-небудзь паважаную кампанію.

У данясеннях, якія я адсылаю ў штаб, памылкі няма. Немцы сапраўды адыходзяць. На захад. Цэлымі дывізіямі.

Раніцай прыязджае лейтэнант Пытляваны. Мы грузімся ў кузаў. Бывай, гарадок! Фронт насупраць нас амаль застыў і вось толькі цяпер зрушыўся. Ужо лісце на дрэвах праклёўваецца, а некаторыя дрэвы зусім зялёныя. Нават на

---

[1] Ад Мааса да Мемеля, / Ад Етча да Бельта, / Германія, Германія вышэй за ўсё, / Вышэй за ўсё на свеце.

[2] Нямецкія жанчыны, нямецкая вернасць, / Нямецкае віно і нямецкія песні / Павінны атрымаць у свеце / Даўняе цудоўнае гучанне.

маладых дубках клейкія маладыя лісточкі. У нас, на Палессі, дуб стаіць голы, чорны ледзь не да сярэдзіны мая.

Мы праязджаем зусім цэлыя, непашкоджаныя, некранутыя вайной гарадкі, вёскі. Жыхароў не відаць. Можа, пахаваліся. Ля паселішчаў капры шахтаў, горы ўзнятай з глыбіні зямлі пустой пароды, высокія заводскія трубы. Нібы тут не было ніякай вайны. Малайчына, маршал Конеў! Выштурхнуў немцаў з прамысловай Верхняй Сілезіі праз вузкую гарлавіну так імкліва, што яны не паспелі пашкодзіць, вывесці са строю заводы, фабрыкі, чыгуначныя станцыі.

Вечарам бадай што разам з перадавымі часцямі мы займаем нямецкі гарадок. На яго ўскраіне вялікі, абнесены дротам лагер. Гэта не канцэнтрацыйны, а звычайны рабочы лагер. Хоць мае калючую агароджу, баракі, вышкі для вартавых. Калі нашы машыны праязджалі паўз лагер, з яго варот вырываўся вялікі, пярэсты натоўп. Там розныя людзі і, бадай, усе яны радуюцца, убачыўшы нас.

Праз шырокія вароты мы заходзім у лагер. Баракі, дарожкі, пасыпаныя жоўтым пяском, кволыя дрэўцы. Нашы дзяўчаты плачуць. Колькі чакалі яны гэтага дня. А ёсць, відаць, такія, што не дачакаліся. Бо не соладка было ў гэтым лагеры савецкім хлопцам і дзяўчатам, якія ні ад сем’яў, ні ад Чырвонага Крыжа пасылак не палучалі.

Нібы вясёлыя чэрці, круцяцца каля нас італьянцы. Хто яны, калі, якім чынам трапілі ў лагер? Можа, яны з ліку тых, хто пасля высадкі саюзнікаў у Італіі адмовіліся ваяваць за Гітлера.

— Аміко, аміко!..

Італьянцы просяць сувеніраў. Асабліва цікавяць іх зоркі на нашых пілотках. Але як аддасі зорку, калі яна ў цябе толькі адна. Усё ж мы нешта знаходзім, адорваем італьянцаў.

У процілегласць італьянцам французы не выказваюць да нас ніякай бачнай сімпатыі. Добра апранутыя — у світарах, джэмперах, нават у касцюмах, з гальштукамі — яны стрыманыя, замкнутыя. Нібы не мы іх вызвалілі, а хтосьці другі. Ды бог з імі, французамі. Ім таксама не соладка было ў нямецкім раі.

Мяне агортваюць невясёлыя ўспаміны. Я мог апынуцца ў гэткім жа лагеры. І мяне мог хто-небудзь вызваліць, як вось цяпер мы вызвалілі нашых дзяўчат, хлопцаў, а таксама італьянцаў і французаў. Першы год акупацыі я нідзе не працаваў. Мы, маладыя падпольшчыкі, хадзілі з горда ўзнятымі галовамі і, па сутнасці, паказвалі немцам кукіш у кішэні.

У сярэдзіне лета сорак другога года знаёмая дзяўчына, якая працавала сакратаркай у валасці, шапнула мне, што маё прозвішча стаіць у спісках для адпраўкі ў Германію. Дзіва не было: у нашай сям'і тры хлопцы дый бацька дома, працуе на чыгунцы.

У той жа дзень я кінуўся да кіраўніка нашай падпольнай групы Сымона Більдзюга, каржакаватага ўпартага хлопца, на год старэйшага за мяне. Сымон быў у партызанскім атрадзе, які стварыў перад прыходам немцаў райкам партыі. Атрад не ўтрымаўся: разышоўся ў першую ваенную восень. Сымон жыў у мястэчку на птушыных правах. Яго ўжо арыштоўвалі, але, пратрымаўшы ў турме тыдні два, выпусцілі.

— Ніякай работы! — рашуча заявіў Сымон.— Пойдзем у партызанскі атрад.

— Дык яшчэ няма атрада.

— Створым свой.

— Зброю дзе возьмем?

Са зброі ў мяне быў абрэз і вінтоўка, у Сымона толькі наган.

— У немцаў здабудзем зброю.

Сымон гаварыў нібы ў гарачцы. Нібы трызніў. Ягоны гонар быў утаптаны ў гразь. Бо ўсе ў мястэчку ведалі, што, арыштаваўшы, паліцаі маладога хлопца білі шампаламі.

Дні праз тры я зноў пайшоў да Сымона:

— Не рабі дурноты. Я ў спісках. Ты, дарэчы, таксама. Тыдні праз два адпраўка. Калі мы пойдзем у лес, немцы расстраляюць бацькоў.

Сымон на гэты раз быў ціхі, разважлівы: дазволіў мне паступіць на службу. Пра сябе сказаў:

— Я да іх не пайду. Не дачакаюцца...

Разам з Васілём Плоткіным, з якім хадзілі ў водступ, мы напісалі заявы наконт работы і пайшлі да бургамістра Краме-

ра, высокага, з круглым чырвоным тварам фольксдойча. Я ў сваёй заяве апошні сказ напісаў па-нямецку.

Плоткіна прынялі статыстыкам у гандлёвую кантору, мяне страхавым агентам у раённы фінансавы аддзел.

У дзень паступлення на работу, у абедзенны перапынак, я на пазычаным веласіпедзе адвёз на ўзлесак самаробную міну, зробленую намі з украдзенага ў паліцыі аманалу. Простая была міна: рукаў ад кашулі набілі аманалам. Мы збіраліся ўзарваць масток на чыгунцы, па якой толькі-толькі пайшлі нямецкія цягнікі.

Дзіўныя на свеце бываюць рэчы. Праз тыдзень пасля паступлення на работу я быў у Сівалобах, спаткаўся з Алесяй Малейкай, якая жыла ў будынку лясной стражы, што туліўся каля лесу, наўзбоч вёскі.

Была ноч. У вёсцы брахалі сабакі. Вісеў над лесам срабрысты боханчык месяца, у небе свяцілі бляклыя зоркі.

Пачуўся гул самалёта. Па гуку матора я здагадаўся, што самалёт савецкі. Самалёт зрабіў два-тры кругі над лесам і паляцеў ва ўсходнім кірунку.

Час быў трывожны. Пасля пераможнай для Чырвонай Арміі зімы, немцы з усіх сіл імкнуліся павярнуць у сваю карысць ваенную кампанію. Поспех у іх быў: зноў захапілі Керчанскі паўвостраў, дабівалі заліты крывёй Севастопаль. Пра гэта я ведаў з паведамленняў савецкага радыё, якое мне ўдалося нарэшце наладзіць. Радыёпрыёмнік знаходзіўся ў хацінцы суседа, які выбіўся з акружэння і стараўся жыць ціха, непрыкметна.

У тую ноч, калі кружыў самалёт, я нават не здагадваўся, якую вялікую ролю ён адыграе ў маім жыцці. Расказаў пра самалёт сябрам-таварышам. А тут яшчэ чуткі паплылі: у недалёкім лесе немцы выявілі некалькі парашутаў, што завіслі на дрэвах. Стала ясна: трэба шукаць сувязь з дэсантнікамі-парашутыстамі.

Дзіўнае было тое лета. Здаецца, нават навакольныя лясныя абшары-сасьнякі на сыпучых пясках, беразнякі, круглыя купы лазняку на балацянках, зарослыя травой лясныя сцежкі, па якіх шнырылі мы, хлопцы-змоўшчыкі,— былі прасякнуты стоеным адчуваннем таго, што на свеце ідзе самая вялікая вайна.

У нямым чаканні застылі лясныя вёскі — з крытымі дранкаю хатамі, саламянымі стрэхамі хлявоў. Узыходзіла сонца, і над сасоннікамі, над соннымі з выгляду аселіцамі трымцела няпэўная, сіняватая намітка смугі. Гэтая хісткая, няўлоўная смуга, здаецца, таксама сведчыла аб значнасці, неразгаданасці падзей, якімі ахоплены свет.

Мала мне прыйшлося папрацаваць у якасці страхавога агента. Арыштавалі Сымона Більдзюга, а затым і мяне. Па-лявацку настроены Сымон групу не выдаў, нікога з яе ўдзельнікаў не назваў, але пра радыё, пра тое, што іменна я слухаю радыё, сказаў. Зрэшты, ён не любіў мяне. Яшчэ ў апошнюю мірную восень, стоячы разам з бацькам за прылаўкам леспрамгасаўскага магазіна, ён пратрымаў мяне дзве гадзіны ў чарзе, але кілаграма цукру так і не даў. Даў кіло пацярухі, перамешанай з ворсам ад мяшка, і ўзяў поўную цану.

Дзякуй табе, нямецкая мова! І яшчэ дзякуй бургамістру Крамеру, які ўвогуле ратаваў усіх, каго мог. Ён быў і Сымона вызваліў: працаваў з яголым бацькам да вайны ў леспрамгасе. Але начальнік паліцыі, які арыштаваў Сымона, знайшоў у яго пад падушкай наган. Той самы, які і я насіў за поясам. Тут ужо Крамер не мог дапамагчы...

...І вось мы едзем па зялёнай, веснавой Германіі. Гарадкі з вастраверхімі, пакрытымі чырвонай чарапіцай дахамі дамоў, у якіх вузкія — ледзь-ледзь размінуцца двум грузавікам — вуліцы і завулкі, палісаднікі з падстрыжанымі газонамі. І цішыня, цішыня. Народ або хаваўся, або рынуў у бежанства.

Зрэшты, мы даганяем, насцігаем бежанцаў. Іх цэлы палатачны гарадок, а наўзбоч сінія буды на колах, сытыя коні, якія пасуцца на лугавіне. Жанчыны, дзеці, бабулі, дзяды. Мужчын прызыўнога ўзросту няма. Прыгожыя мілавідныя дзяўчаты ўсміхаюцца нам. Ахвотна ўступаюць у гаворку.

Аб прычыне я здагадваюся. Я знайшоў мясцовую газету, у якой выдрукаваны вялікімі чырвонымі літарамі загаловак: «Führer ist gefallen»[1]. Газета за другое мая. Ніякіх падрабязнасцей аб смерці Гітлера няма. Напісана толькі, што ён загінуў, як салдат.

[1] Фюрар загінуў.

Мы спыняемся ў нейкім замку на ўскраіне горада.

Вечарам я саджуся ля «Віражу», надзяваю навушнікі. Нечуваная рэч: на доўгіх хвалях, на якіх перадаюць апошнія паведамленні, нямецкіх галасоў не чуваць. Нібы анямела Германія. У акупацыю, калі я дабіраўся да патайнога прыёмніка, было нават страшна: здавалася, увесь свет гаварыў па-нямецку. Нямецкая гаворка неслася не толькі з Берліна — з Варшавы, Прагі, Будапешта, Парыжа. Масква ў гэтым размаітым хоры нямецкіх галасоў ледзь-ледзь праслухвалася. Берліна цяпер зусім не чуваць. Затое пры самым нязначным павароце рычажка гучыць, як на кірмашы, руская, англійская, французская гаворка.

Мне ўдаецца перахапіць незвычайную навіну: саюзнікі адзначаюць перамогу. Гэта вынікае з перадачы англійскай радыёстанцыі, якая зрэдку пераходзіць на нямецкую мову.

Гадзін у адзінаццаць вечара пачынае гаварыць наша франтавая радыёстанцыя. Дывізіям і палкам немцаў, якія адступаюць перад фронтам, прапаноўваецца здацца ў палон. Называюцца нумары вайсковых часцей, прозвішчы нямецкіх камандзіраў, а таксама населеныя пункты, дзе трэба складваць зброю. Праз кожныя дзесяць хвілін перадача паўтараецца. Нямецкая мова, якая цяпер гучыць з «Віражу», зразумелая мне да апошняга слова. На ёй гаворыць рускі чалавек.

Праз некалькі хвілін перада мной паўстаюць Грыдзін і Гайваронскі.

— Старшына Войцік! Да начальніка штаба...

Я не ведаю, дзе штаб. Грыдзін вядзе мяне туды. Ноч шаравата-цёмная. У небе свецяць бляклыя зоркі. Месяца я зусім не знаходжу. Знік некуды месяц. Грыдзін маўчыць. Нарэшце мы падыходзім да нізенькага мураванага дамка, перад ганкам якога стаіць ваенны «газік» з апушчаным брызентавым верхам. У вузкім, як яма, пакоіку за сталом сядзіць начальнік штаба, пасівелы, з прадаўгаватым тварам маёр, якога я бачу толькі другі ці трэці раз. На стале перад ім склеенае прасціродла карты і гарыць звычайная карасінавая лямпа.

— У пяць нуль-нуль быць тут,— гаворыць маёр.— Паедзеце ў Нойхаўз. У якасці парламенцёра. Усе перакладчыкі задзейнічаны...

Грыдзін мяне чакае.

— Пойдзем, старшына. Мы сёе-тое падрыхтавалі...

Грыдзін, відаць, ведае, куды паеду. Я ў думках хвалю сябе: не расслабляўся, забараняў сабе думаць пра канец вайны. У Будапешце, здаецца, яшчэ недзе парламенцёраў пастралялі. Думаць пра гэта не варта. Што будзе, тое будзе...

Пакой, у які мяне прыводзіць Грыдзін, заліты электрычным святлом. Начальнік штаба пры карасінавай лямпе сядзіць, а тут святло. Вось так. Значыць, электрастанцыя не пашкоджана. Мірны край...

Стол застаўлены высокімі, цёмнага шкла бутэлькамі. Яны нібы абсыпаны мукой. Ці як бы ніцямі павуціны абвіты. Відаць, здабылі іх разведчыкі ў нейкім цёмным падвале.

За сталом лейтэнант Пытляваны.

— Выпі, старшына. Берлін узяты, Гітлеру капут. Ёсць за што выпіць.

— Ён парламенцёрам едзе,— паведамляе Грыдзін.

— Тым болей. «Пройдем, товарищ, все бои и войны»,— лейтэнант пачынае пець.

Я выпіваю поўную шклянку. Віно церпкае, густое. Прыемнае на смак. Грыдзін зараз жа налівае мне другую шклянку. Я і другую выпіваю...

У галаве прыемна кружыцца, але напружанасць, трывога не спадаюць. Трэба, каб заўтра галава была светлая, свежая.

Я іду да дзвярэй. Ніхто мяне не затрымлівае. Спускаюся ўніз па паўцёмнай лесвіцы. На першым паверсе на століку гарыць запаленая свечка. Прыхінуўшыся да сцяны, стаіць высокая, стройная, як таполя, мілавідная немка. Усміхаецца мне.

— Wer sind Sie?[1] — пытаю.

— O, du sprichst deutsch! — усклікае яна.— Ich habe dich schon gesehen. Du bist ein deutscher Typ[2].

— Ich bin slavisch,— адказваю я.— Weissrusse. Haben Sie vom weissrussischen Volk gehört?[3]

— Ich habe nicht gehört. Ganz egal. Komm zu mir[4].

[1] Хто ты?

[2] О, ты гаворыш па-нямецку! Я цябе ўжо бачыла. Ты – нямецкі тып.

[3] Славянскі тып. Беларус. Ты чула пра беларускі народ?

[4] Не чула. Але ўсё адно. Ідзі да мяне.

Яна вядзе мяне па калідоры. Адкрывае ключом дзверы. Чыркае запалкай, і на століку ля шырокага разабранага ложка запальвае свечку. Пачынае распранацца. Гнуткае цела, маленькія грудзі, распушчаныя валасы. Русалка, Ларэлея, як у вершы Генрыха Гейнэ.

— Komm zu mir.

У мяне кружыцца галава. Вось-вось я загіну ў віры шчымлівага, шалёнага пачуцця...

Калі ўсё канчаецца, яна, касавурачы на мяне зеленаватыя вочы, пытае:

— Hash du noch nicht eine Weibe gehabt?[1]

— Jetzt habe ich Sie schon[2].

Яна шчаслівa смяецца.

## XX

Я ўспамінаю Алесю Малейку. Можа, яна прыходзіла дзеля таго, што цяпер вось у мяне адбылося з немкай?..

Ад немкі, у якой я не паспеў запытаць ні імя, ні прозвішча, я выходжу, калі на дварэ пачынае святлець. Хмелю ў галаве ні каліва, але я злёгку пахістваюся. Правёў бяссонную ноч. І не з той жанчынай, пра якую думаў і марыў.

Сонца яшчэ не ўзышло, але ўжо светла. Ля штаба стаіць чорная легкавая машына незнаёмай маркі. Каля яе нервова пахаджвае камлюкаваты палкоўнік з зялёнымі пагонамі пагранічніка. Твар у палкоўніка шырокі, кіслы, непрыемны.

— Вы старшына Войцік? — у палкоўніка і голас скрыпучы, брыдкі.— Скажаце немцам толькі тры словы: «Следуйце за намі». Каб ніякіх выдумак. Толькі гэтыя словы...

Толькі цяпер я заўважаю, што на радыятары машыны ўмацавана досыць вялікае, прыкметнае палотнішча белага сцяга.

Палкоўнік садзіцца ззаду, я побач з шафёрам, маўклівым дзядзькам у новай гімнасцёрцы. «Газік» імчыць, мінаючы белыя гарадкі, паселішчы, ахутаныя першай зелянінай. Тут,

[1] Ты яшчэ не ведаў жанчыны?

[2] Цяпер ведаю.

у Германіі, гарадкі, вёскі амаль што зліваюцца. Вастраверхія дахі, замкнутыя на манер падковы двары, сям-там мільгане вастраверхі шпіль кірхі.

Я ўсё яшчэ ва ўладзе неспадзяванага, нечаканага, што здарылася са мной ноччу. Хто яна, высокая, стройная незнаёмка, у абдымкі якой я кінуўся без ніякай развагі. Мае ключ ад пакоя ў будынку, падобным да замка. Можа, яна якая-небудзь пані?

Я зноў успамінаю: перад маім прызывам у армію з лясной казармы з Сівалобаў у мястэчка прыйшла Алеся Малейка. Яна прыслала да мяне дамоў Параску Бастун, якая разам з намі вучылася на настаўніцкіх курсах, з наказам, каб я вечарам прыйшоў да Параскі. Была ўжо зіма, толькі бясснежная, зямлю прыхапіла прымаразкам, і я не ішоў, а ляцеў у канец вуліцы Савецкай, грукаючы разлезлымі чаравікамі па замерзлай зямлі.

Мне было васямнаццаць гадоў, я быў дарослы, але пра што гаварыць з Алесяй, не ведаў. Я, распрануўшыся, глядзеў на яе, яна — на мяне, і мы абое маўчалі.

Параска паклапацілася: мы з Алесяй былі адны ў чыстай, натопленай палавіне хаты, а ў пярэднім пакоі, каб не замінаць нам, лягла спаць Парасчына сям'я. Я нарэшце асмялеў, штосьці расказваў Алесі пра сваё партызанства. Алеся паранейшаму глядзела на мяне і маўчала...

Параска ведала, што трэба ў такім выпадку рабіць. У вайну загінуў яе старэйшы брат. Таму яна з рашучым выглядам увайшла ў пакой і разаслала нам пасцель. Адну на дваіх...

За акном ляжала месячная зімняя ноч, з крэсла я перасеў на ўслончык да Алесі, і, абняўшыся, прыціснуўшыся спінамі да цёплай грубкі, мы гэтак сядзелі. Пасцель нас чакала...

Я думаў пра адносіны, якія існуюць паміж мужчынам і жанчынай, чакаў, што ўсё гэта будзе ў мяне з Алесяй. І ўсё ж штосьці замінала. Што? Не ведаю. Можа, звычайная юнацкая сарамлівасць, якой нялёгка пераступіць парог той спрадвечнай тайны, што аддзяляе мужчыну ад жанчыны. А можа, і другое, яшчэ болей высокае. Не такой уяўлялася наша з Алесяй пасцель. Тое, што мусіла адбыцца, паўставала ва ўяўленні інакшым, болей прывабным, прыгажэйшым. Тут

жа была звычайная, разасланая Параскай пасцель, сялянская хата, парудзелыя, не надта добра выбеленыя сцены.

З Алесяй я прасядзеў усю ноч. К раніцы нашы твары пацямнелі, пад вачамі ляглі сінякі, мы хавалі адно ад другога позіркі.

Дык вось так: з Алесяй не адважыўся на тое, чаго яна, відаць, ад мяне чакала, а да незнаёмай немкі кінуўся ў абдымкі...

Назаўтра я ўбачыў Алесю ў акружэнні двух маладых лейтэнантаў. Яны наперабой нешта ёй расказвалі, яна звонка, залівіста смяялася і, убачыўшы мяне, толькі махнула рукой.

Гэта была першая крыўда на Алесю. Другая прыйшла ў душу тут, на вайне. Алеся мала цікавілася мной. Пісала ад выпадку да выпадку, і ў пісьмах яе я не знаходзіў ні шчырасці, ні радасці ад шматлікіх лістоў, якія пасылаў ёй.

Пра Гэлю Машчынскую няма чаго гаварыць. Яна выходзіла замуж, і не мной былі заняты яе думкі.

Мужчыны ўмеюць быць вернымі. Але мая вернасць нікому не патрэбна...

Палкоўнік-пагранічнік маўчыць. Паглыбіўся ў свае думкі, і ў яго такі выгляд, нібы ні мяне, ні шафёра ў машыне няма. Чымсьці непрыемнае гэтае маўчанне. Палкоўнік — наш начальнік. Варта парай слоў абазвацца. Едзем не ў госці...

У мяне мільгае думка, што палкоўнік спалоханы. Трапіў у такія моцныя абдымкі страху, што не валодае сабой. Сапраўды, у якіх бойках ён мог удзельнічаць? Ні ў якіх. Уцякаў ад граніцы, шлях сюды, у Германію, таксама пракладвалі другія.

Я абдумваю, як скажу па-нямецку: «Следуйце за намі». Можа, «Kommen Sie mal mit», ці «Fahren Sie mit uns», а можа, «Fahren nach uns». Магчыма, па-нямецку ёсць больш дакладны выраз. Але слоўніка з сабой я не прыхапіў.

Пры выездзе з малой — толькі некалькі двароў — вёсачкі машыну раптам прыпыняюць. Аднекуль з кювета на вільготную ад ранішняга туману стужку заасфальтаванай шашы выскокваюць тры байцы ў плямістых плашч-накідках. Наставіўшы аўтаматы, перагароджваюць дарогу. Палкоўнік выходзіць з машыны, вымае з нагруднай кішэні кіцеля паперку, перадае аднаму з байцоў. У гэты час вылазіць і шафёр, папраўляе прымацаваны на радыятары белы сцяг...

Калі машына кранаецца, трое байцоў з перавешанымі праз шыю аўтаматамі становяцца ў адзін рад, бяруць на каравул. Твары іх насупленыя, сур'ёзныя...

Далей ляжыць зямля, на якую савецкі салдат яшчэ не ступіў. Зялёныя, як і там, на далёкай радзіме, палеткі жытнёвай руні, бярозавыя і дубовыя гайкі, густая навісь ляшчынніку наўзбоч дарогі.

Шаша ўзбегла на ўзгорак і стала пятляць па лесе. Агідны халодны страх ахоплівае маю істоту. Можа, пад дубкамі, бярозамі, хвоямі прытаіліся нямецкія салдаты і вось-вось зрашэцяць нас з аўтаматаў, кулямётаў. Лес, аднак, злавесна маўчыць. Толькі чуваць — нават з машыны,— як рознагалоса, весела шчабечуць абуджаныя раніцай птушкі.

Праязджаем яшчэ дзве-тры вёскі. Усюды пануе стоеная цішыня. Ні зыку, ні чалавечага руху ці голасу, як бы ўсё кругом вымерла. Ад гэтай цішыні зноў запаўзае ў душу халодны страх. Калі іх, парламенцёраў, што едуць на перамовы, сустрэнуць кулямі, то хутчэй бы. Абы не гэтая мёртвая, зацятая цішыня...

Наперадзе, за зялёным полем азіміны, вымалёўваюцца абрысы горада. Палкоўнік дастае з планшэта карту. Каля шлагбаума з узнятай паласатай перакладзінай ён загадвае спыніцца. Я вымаю з кішэнькі штаноў вялікі, як цыбуліна, трафейны гадзіннік. Без дзесяці шэсць. Нас ніхто не чакае, не сустракае...

Мы становімся каля машыны ў адзін рад. Палкоўнік пасярэдзіне, мы з шафёрам па баках.

Шэсць гадзін. Нікога няма. Стаім яшчэ пяць хвілін. Ясна: немцы ад сустрэчы ўхіляюцца. Можа, навастрылі лыжы да саюзнікаў? Палон у амерыканцаў ці англічан, здаецца, для немцаў смачнейшы.

Чуецца гул матораў. Па шашы імчаць савецкія танкі. Іх карпусы густа абляпілі салдаты ў касках, са скаткамі шынялёў за плячамі. Танкаў бясконцая армада.

Толькі праз гадзіну шаша болей-меней вызваляецца. І дзіўная рэч: паселішчы, якія здаваліся мёртвымі, палохалі стоенай цішынёй, раптам ажываюць. Над варотамі двароў, з вокан дамоў, акенечак франтонаў высоўваюцца белыя сцягі.

Гэтак у кожным гарадку, вёсцы. Сцягі — як белыя матылькі. Ад іх пярэсціць у вачах. Кожная сям'я нібы здаецца паасобку. Нам смешна бачыць такое ў ваяўнічых немцаў, якія намерваліся заваяваць увесь свет.

У нейкім нават залішне густа завешаным белымі сцягамі гарадку палкоўнік вылазіць.

— Завязеш старшыну ў Фёрстэнберг! — загадвае шафёру.— Вяртайся неадкладна...

Фёрстэнберг сустракае такім самым расквеццем белых сцягоў — яны высоўваюцца з кожнага акна, балкона. Горад ля падножжа зялёных гор, на якія ўжо месяцы два-тры я глядзеў здалёк. Вуліцы гарбатыя: то ўніз спускаюцца, то падымаюцца ўгору.

Полк размяшчаецца ў двухпавярховым, складзеным з пачарнелай цэглы будынку нямецкай казармы. Яе прасторны, роўны, як ваенны пляц, двор абнесены высокай жалезнай агароджай.

З шафёрам мы не проста развітваемся: ціснем адзін другому рукі, абдымаемся.

Грыдзін, Яфімцаў, убачыўшы мяне, не тояць радасці.

— Жывы, перакладчык? То пойдзем...

Яны прыводзяць мяне ў пакой, які застаўлены ложкамі з пакуль што голымі паласатымі матрацамі. Пахне карболкай і чымсьці кіслым, застойным. Гэта нямецкая казарма. Тыдзень назад тут стаялі немцы, цяпер мы будзем стаяць.

Грыдзін прыносіць абвітую павуцінай бутэльку. Налівае алюмініевую конаўку густога чырвонага віна, падсоўвае адчыненую бляшанку з плаўленым нямецкім сырам.

— Выпі, перакладчык. Закусі. У нас каўбаска ёсць,— ён кладзе на стол колца тонкай сухаватай каўбасы.

Я выпіваю, закусваю і, ледзьве дабраўшыся да ложка, падаю на матрац. Адразу правальваюся ў сон.

Нібы ў цёмную прорву падаю. Не ведаю, колькі сплю. Мяне хтосьці настойліва тармошыць.

— Уставай, старшына. Новае заданне...

Гэта гаворыць Грыдзін. Сувязісты стаяць устрывожаныя. Яшчэ толькі поўдзень. У вокны пакоя свеціць яркае сонца.

Праціраючы вочы, я ўключаю «Віраж». І адразу чую прызыўны кліч:

— Руда армада, на помац![1] Руда армада, на помац!

Гаворка чужая, аднак збольшага зразумелая. Добра, што я трохі практыкаваўся па-польску.

— У Празе паўстанне,— тлумачу сябрам-таварышам.— Немцы хочуць задушыць паўстанне. Прага кліча на дапамогу Чырвоную Армію.

— Я так і ведаў,— хмурна кідае Гайваронскі.— Для нас нічога не скончылася.

— Яшчэ трохі паслухай,— просіць Грыдзін.— Што немцы перадаюць?

Я нарэшце трапляю на нямецкую хвалю. Голас дыктара ясны, выразны. Мне зразумела амаль кожнае слова. Перадаецца загад начальніка штаба нямецкай арміі Кейтэля аб спыненні баявых дзеянняў. Ён паўтараецца зноў і зноў...

На гэтай жа хвалі нейкі вайсковы штаб заклікае немцаў змагацца да апошняга:

— Keitel ist Verräter! Dönitz ist Verräter! Wir verteidigen unserer Heimat bis zur letzten Patrone[2].

Я пераказваю сувязістам сэнс пачутага. Твары іх хмурнеюць.

У сакавіку-красавіку я глядзеў на зялёныя пакатыя схілы Судэцкіх гор. Здавалася, што, калі мы дойдзем да гэтых гор, вайна спыніцца. Для кагосьці вайна сапраўды спынілася. Толькі не для нас. У душы нейкі халодны боль, які сціскае сэрца. Як бы прадчуванне нядобрага. Прадчуванне мяне ніколі не падводзіла.

Па вуліцы грымяць танкі. З некаторых люкаў высоўваюцца танкісты. Твары іх запыленыя, цёмныя, хмурыя.

Сувязісты грузяцца ў кузаў «студэбекера». Старшы лейтэнант Пылянкоў загадвае мне садзіцца ў кабіну. Побач з шафёрам. На маім абавязку праслухоўваць эфір у час маршруту.

І вось мы едзем. У кузаве Грыдзін, Яфімцаў, Папоў. На мне пристойная шавіётавая гімнасцёрка, якую падараваў Валынец, але штаны, якія выдаў старшына Казалуп, засаленыя,

---

[1] Чырвоная Армія, на дапамогу! *(чэшск.)*

[2] Кейтэль — здраднік! Дзёніц — здраднік! Мы абараняем сваю краіну да апошняга патрона.

брудныя, тапырацца пухірамі. Я ўспамінаю, што штаны гэтыя былі на мне і мінулай ноччу і іх магла бачыць немка-незнаёмка. Мне сорамна, брыдка. Можа, толькі немка ў паўзмроку не разгледзела, якія неважнецкія штаны ў яе кавалера.

Мы падымаемся ўверх і ўверх. Вось ужо і не відаць высокіх шпіляў кірхаў і касцёлаў. Мы пакідаем за сабой хвойныя лясы, камяні-валуны, абымшэлыя, якія навісаюць над дарогай, скалы. Я ніколі не бачыў гор. Судэцкія, па якіх мы цяпер праязджаем, не вельмі высокія, пакатыя, але таксама прыгожыя і велічныя.

Час ад часу я пакручваю гузік «Віражу». Саюзнікі, мяркуючы па ўсім, адзначаюць перамогу. Са словамі аб сканчэнні вайны яны звяртаюцца да нямецкага насельніцтва, просяць захоўваць дысцыпліну і парадак.

Мы ўсё вышэй і вышэй падымаемся ў Судэты. Што нас чакае, калі спусцімся з гор у даліну?

Мільгае адна вёсачка, другая. Яны зусім не такія, як нямецкія. Складзеныя з каменю, пабеленыя дамкі, акуратныя дворыкі, агародзікі. Каля парканаў лавачкі, на іх стаяць бліскучыя бідоны. Цвітуць вішні, чарэшні, яблыні. Наўзбоч вулачкі стаяць жанчыны, мужчыны, дзеці. Яны весела махаюць нам рукамі. Жанчыны падобныя на нашых, беларускіх. Іх белыя, цёмныя, сінія хусцінкі падвязаны вузельчыкам пад падбародкам. Мужчыны ў цёмных капелюшах з вялікімі палямі.

У адной з вёсачак мы спыняемся. І адразу людзі кідаюцца да блішчастых бідонаў, якія стаяць на лавачцы ля плятнёў, у кружкі, конаўкі, збанкі наліваюць і падносяць нам малако. Даўно я не піў малака. Яно трохі цеплаватае, але такое самае на смак, як і ў нас на Беларусі.

— Наздар! Наздар!

Між тым наступае прыцемак. З гор мы спускаемся ў даліну. Навокал акуратна дагледжаныя палі: рунь суседнічае з яшчэ чорнай, але ўжо засеянай забаранаванай зямлёй.

Начуем у гарадку. Гэта толькі так сказана, што начуем. Гарадок бурліць, кіпіць, віруе. Ад узбуджэння, радасці, пачуцця свабоды. Нідзе, ні ў якім другім месцы гэтак гасцінна, як у гэтым не дужа вялікім чэшскім гарадку, нас не сустракалі. Маладыя чэшкі лезуць на танкі, цалуюць, абдымаюць танкістаў.

Нас, сувязістаў, таксама не пакідаюць у крыўдзе. У кожнага чэха, чэшкі, юнака, дзяўчыны ў руках бутэлька ці збанок. І не толькі з малаком — найчасцей, з віном ці якой-небудзь настойкай, наліўкай. Я не дазваляю сабе многа піць, але адбіцца нельга. Кружыцца галава: ад хмелю, а найбольш ад агульнай радасці, узбуджэння.

Чэхі просяць сувеніры. Я ўжо аддаў зорачку з пілоткі, усе, якія былі ў кашальку, савецкія манеты, расчоску, нават компаса не пашкадаваў і аддаў маладой дзяўчыне, якая проста павісла ў мяне на шыі, абдымала і цалавала.

Я мог бы паразмаўляць з чэхамі па-нямецку, але не хачу. Не месца і не час для такой гаворкі. Перамешваючы беларускія і польскія словы, гавару чэхам, што папярэднюю капітуляцыю з саюзнікамі ўжо немцы падпісалі і вось толькі застаецца вызваліць Прагу. У чэхаў радасна блішчаць вочы.

— Мы так на вас чэкалі. Сем лят. Сем лят не патжылі слонца...

Світае. Людскі натоўп не змяншаецца. Цяпер мы бачым, што ўсе фасады дамоў на невялікай круглай плошчы завешаны партрэтамі Бенеша і Сталіна, намаляванымі, відаць, мясцовымі мастакамі. Бенеш — круглатвары, спакойны, спаважны. Твар Сталіна нагадвае фотаздымкі трыццатых гадоў — худы, чорны, з вузкімі пранізлівымі вачамі. Ні мундзіра на ім, ні шырокіх з маршальскімі зоркамі пагонаў.

Я лезу ў кабіну, уключаю «Віраж». Прага па-ранейшаму просіць дапамогі. Чуваць галасы нашых вайсковых радыёстанцый. Камусьці падцягнуцца, выйсці ў той ці іншы квадрат, асядлаць дарогу, заняць кляштар у такім-та квадраце. Размова адкрытым тэкстам. Але і немцы яшчэ ў Празе ці каля яе. Чуваць іх абрывістыя, шалёныя, якія цяжка зразумець, каманды.

На душы ў мяне па-ранейшаму трывожна. Чамусьці ўспомніўся сорак першы год. Абарону ў лясах, якія прылягалі да мястэчка, трымала кавалерыйская дывізія. Ваявала супраць танкаў, іншай ваеннай тэхнікі. Гэтая дывізія і яшчэ два бронецягнікі больш месяца не давалі немцам прарвацца на палескую раўніну з поўначы — з боку Бабруйска, Жлобіна.

Восенню сорак першага года, вярнуўшыся ў мястэчка пасля няўдалага адыходу, я ад суму сыходзіў у лес і аднойчы на верасе ўбачыў чырвоныя лісткі. Іх савецкі лётчык, відаць, скінуў для нямецкіх салдат. Я і тады ніштавата ведаў нямецкую мову. Ва ўсякім выпадку, з дапамогай слоўніка лістоўку пераклаў.

У лістоўцы гаварылася, што нямецкія рабочыя і сяляне галадаюць, а ў самой Германіі нястача бензіну, вугалю, дні яе злічаны.

З сумам я ўспамінаю тую далёкую лістоўку. Чатыры гады спатрэбілася, рэкі крыві праліліся, перш чым савецкае войска дайшло да Германіі і ўбачыла ўсё як ёсць. Не, з голаду немцы не пamіралі. Вугалю, бензіну толькі цяпер, відаць, не хапае, калі іх выгналі з Сілезіі і Рура.

Тады, калі савецкі лётчык кідаў лістоўкі, немцы стаялі пад Масквой. Цяпер нашы ўзялі Берлін, няма на свеце Гітлера. Вайна не скончана, бо яшчэ трэба ўзяць Прагу. Пра шчаслівы канец, пра тое, што застануся жывы, я па-ранейшаму баюся думаць.

Мы зноў едзем наперад. Прыгожыя краявіды, ціхія гарадкі, вёскі, засеяныя палі.

Мы спыняемся ў невялікім паселішчы, у якім толькі шэсць ці сем дамкоў. Нам загадана спыніцца і весці праслухоўванне эфіру. Наперадзе ідзе бой: немцы ўсё яшчэ не здаюцца.

Наводшыбе, на сасновым пагорку, стаіць двухпавярховы дамок. Белы, каменны.

— Там фашыст жыў,— тлумачыць чэх-селянін, які выгнаў на пашу дзве каровы і цёлку.— У горы драпануў. Ён ляснічым тут быў.

Расцягнуўшыся ланцужком, мы кіруем да дамка. Раніца ўбіраецца ў сілу, наперабой шчабечуць птушкі. Скачуць з галінкі на галінку вераб'і — яны такія ж шустрыя, непаседлівыя, як і ў нас, у Беларусі. Адна нацыя.

Справа, ахутанае туманам, ляжыць азярко. З пагорка добры кругагляд. Парослая лесам раўніна перарываецца прагаламі палёў, белымі вёсачкамі, гарадкамі.

Двор ляснічага забрукаваны буйным, дзікім каменем. Тут гараж, стайня, іншыя гаспадарчыя забудовы. Дзверы ўсіх іх

расчынены насцеж. У гаражы, відаць, стаяла легкавая машына: на макраватым пяску між каменнямі бруку выразна праглядвае след гумавых шын.

У ніжнім пакоі, відаць, размяшчалася кантора ляснічага. Тут стаяць два сталы, на падлозе ў беспарадку валяюцца паперы, на сцяне пад партрэтам Герынга вісіць старамодны тэлефон з нікеляванымі званочкамі.

— Чаму ў ляснічага Герынг? — пытае Грыдзін.

Я ведаю чаму: яшчэ калі быў у стралковым палку ва Усходняй Прусіі, мы наткнуліся на агароджаны драцяной сеткай запаведнік, які асабіста належаў Герынгу.

— Герынг у фашыстаў не толькі камандаваў авіяцыяй. Ён яшчэ і галоўны ляснічы Германіі...

Грыдзін прысвіствае.

Па вузкай вінтавой лесвіцы мы падымаемся на другі паверх. Тут асабістыя пакоі ляснічага: сталовая, гасціная, спальня. Усё некранутае, зіхаціць адмысловай чысцінёй. Мэбля дарагая, мабыць, з арэхавага дрэва і моранага дубу.

Раптам Грыдзін усклікае:

— Паглядзі, якая птушка! Няйначай нямецкі ас!..

У гасцінай уся сцяна завешана павялічанымі фотаздымкамі, пастаўленымі ў чорныя асадкі пад шкло. Высокі, з вітымі пагонамі ваенны чын прышпільвае танкляваму, з вузкім тварам маёру жалезны крыж; гэты ж маёр у рамянях, шлёме стаіць перад самалётам; сядзіць у кабіне,назіраючы за прыборамі; ён разам з такімі, як сам, стаіць на ўзлеску, перад замаскіраванымі самалётамі. Нарэшце, апошні здымак: маёр з жалезным крыжам між пятліцамі, з некалькімі іншымі крыжамі, рэгаліямі на мундзіры стаіць з пустым, падцягнутым рукавом фрэнча.

— Бамбіў нашы гарады, сволач! — гаворыць Грыдзін.— Але дайграўся, руку адкусілі.

— Мабыць, гэта сам гаспадар,— гавару я.— Без рукі не наваюеш, Герынг даў яму месца ляснічага.

— Зараз праверым.

Грыдзін падыходзіць да шафы, похапкам адчыняе дзверы.

Здагадка пацвярджаецца. У шафе побач з касцюмам, паліто вісіць мундзір, той самы, што і на здымку,— з падшытым

правым рукавом. І ўвогуле ні жаночай, ні дзіцячай вопраткі няма, акрамя цывільнага касцюма, паліто, скроеных, мабыць, на адну мерку. Яшчэ капялюш з жураўліным пяром ляжыць: такія капелюшы носяць нямецкія лясьнічыя.

Я пераходжу ў гасціную, высоўваю шуфлядку стала. У вочы кідаецца кардонная скрыначка. Я адчыняю яе і вачам не веру: у ёй куча сярэбраных манет — савецкіх рублёў і паўрублёвікаў чаканкі тысяча дзевяцьсот дваццаць чацвёртага года. Адзін толькі раз бацька падараваў мне такі паўрублёвік, і я панасіў яго ў кішэні дзень ці два, але далей трымаць у кішэні не хапіла цярпення — купіў на базары тры яблыкі. Рубля я ніколі не бачыў: яны былі выпушчаны ў той год, калі я толькі нарадзіўся, і да таго часу, як падрос, разышліся. Лётчык, аднак, недзе на іх напароўся. Збіраў, відаць, серабро, каштоўныя рэчы.

Я стаў разглядваць рубель. На пярэднім баку герб і надпіс «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!». На другім баку малюнак: стаяць, абняўшыся, селянін і рабочы, удалечыні вымалёўваюцца абрысы нейкага завода з высокімі трубамі, а над усім гэтым узыходзіць сонца. Па каёмцы выгравіраваны словы: «Чистого серебра 12 грамм».

— Немцы! — раптам крычыць Грыдзін.

Я гляджу ў акно і нямею ад жаху. З лесу расцягнутай шарэнгай ідуць на нас немцы. Іх чалавек сорак ці пяцьдзясят. А нас толькі восем.

У памяці вогненнай іскрай успамін: такое ўжо было ў маім жыцці. Восенню сорак трэцяга года мы прыйшлі ў саўгасны пасёлак, суседні з мястэчкам, і ў той жа саўгас прыехаў па капусту ўзвод нямецкіх гаспадарнікаў. Але тады немцы не ведалі, што ў хаце саўгаснага каваля, майго дзядзькі, трое партызан. Цяпер ведаюць: мы ў доме лясніча́га. Наш «студэбекер» ужо гарыць. Смяротны сум ахоплівае маю істоту. На кукурузным полі і тады, калі немцы, якія вырваліся з Браслау, захапілі заняты намі пасёлак, у нас былі фаўстпатроны. Мы адышлі і разграмілі вёску. Цяпер фаўстпатронаў няма. Адступаць некуды: калі мы выскачым з дому, немцы нас імгненна скосяць.

Я старэйшы па чыне і па пасадзе ў групе.

— Страляць кароткімі чэргамі! — загадваю.— Галоўнае, іх затрымаць... Хоць на паўгадзіны.

Мы яшчэ з хвіліну чакаем. Затым з усіх вокан, звернутых да сасонніку, трашчаць кароткія чэргі. Немцы залягаюць. І адразу паліваюць нас градам аўтаматнага агню. У іх нават ручны кулямёт ёсць. Касавурачыся ў акно, бачу, як, пастаўлены на жалезныя ножкі, ён аж захліпаецца, выпускаючы вогненныя пырскі.

Мы страляем. Немцы падняцца не могуць. Навошта ім гэты дом? Вайна скончана. Здаецца, немцы не эсэсаўцы, якія не хочуць здавацца савецкім войскам. А ў нас нават гранат няма. Калі на шашы паявіцца хоць адна наша машына, немцы ўцякуць. Ад сваіх, ясная справа, яны адрэзаны.

Мы працягваем пырскаць кароткімі чэргамі.

У нас усяго толькі па адным дыску. Звініць разбітае шкло. Кулі сякуць сцяну, якраз тую яе частку, дзе развешаны фатаграфіі лётчыка-маёра.

Я чую крык. Упаў Грыдзін, які страляў з суседняга акна. Я нічым не магу яму дапамагчы. Мы яшчэ страляем. З першага паверха таксама. Там Яфімцаў, Гайваронскі.

Пах дыму. У нейкім месцы дом гарыць. У немцаў, відаць, бранябойна-запальваючыя кулі. З двума абадкамі — чорным і чырвоным — на канцы кулькі. Нездарма я не дазваляў сабе думаць, што шчасліва выберуся з вайны. Некалькі разоў шчасліва выбіраўся. Пяць ці шэсць разоў. Але немагчыма, каб на вайне бясконца шэнціла...

У гэты міг я бачу цуг нашых аўтамашын, з якіх на хаду саскокваюць байцы. Я высоўваюся з акна, захлынаючыся ад дзікай радасці, дастрэльваю рэшткі патронаў з дыска. Раптам штосьці цяжкае, чырвонае б’е ў галаву, і я правальваюся ў бездань...

## XXI

Вось і скончылася твая вайна, Васіль Войцік, доўгая, шматпакутная, і ты застаўся жывы. Ты не дазваляў сабе радавацца загадзя, будаваць планы мірнага жыцця. Правільна рабіў.

Я ляжу ў чыстым, светлым пакоі і гляджу праз закратаванае акно на зялёныя, пакрытыя сасоннікам горы. Яшчэ тыдзень назад акно не было закратавана. Жалезныя пруты паставілі ў мяне на вачах. Бо з акна (пакой размешчаны на трэцім паверсе) выкінуўся на забрукаваны школьны пляц мой напарнік, цяжка кантужаны малады лейтэнант. Ён са мной не размаўляў. Ляжаў, штосьці ціхенька мармытаў і нават спяваў.

Вось у якую палату я трапіў. На Карэльскім перашыйку ляжаў у шпіталі, размешчаным у школьным будынку, і тут, у Верхняй Сілезіі, таксама. Ёсць яшчэ адно падабенства. І там, і тут я трапіў у шпіталь, калі вайна скончылася.

У палату заходзіць, накінуўшы белы халат на шырокія плечы, капітан Мітрафанаў. Ён сярэдняга росту, з нявідным, някідкім цемнаватым тварам і акулярамі на носе.

— Як спалі? — пытае.

— Дрэнна.

На мяне зноў, як у час знаходжання на гарохавым заводзіку, напала бяссонніца, і часам страшна баліць галава. Мітрафанаў дае мне таблеткі, якія дапамагаюць заснуць. Я нават не ведаў, што ёсць такія таблеткі.

У шпіталі я два тыдні і наогул папраўляюся.

— Трэба развеяцца,— гаворыць капітан.— Праз дзень-два сходзім у адно месца.

Мяне параніла ў галаву. Крыху вышэй віска. Куля прайшла пад скурай, пашкодзіла косць, але яе не прабіла. Капітан гаворыць, што куля была не маленькая, аўтаматная, а вінтовачная, нармальная, але яна зрыкашэціла. Інакш бы я не ў шпіталі ляжаў, а ў другім месцы.

Бедная мая галава. Трэці раз за вайну яна церпіць. Кантузія на Карэльскім перашыйку, асколачак бомбы ў патыліцу і куля вышэй віска тут, у Сілезіі.

Палата для нервовахворых. Я трапіў у яе таму, што не мог назваць ні свайго імя, ні прозвішча, ні часці, у якой служыў. Нічога пра сябе не памятаў. Хоць не зусім так. Гаварыў толькі, што немцы мяне хацелі арыштаваць, кінуць у канцлагер, але я збег у партызаны і што на нейкім кукурузным полі ў мяне былі фаўстпатроны. Гэта мне расказаў урач капітан Мітрафанаў.

Вылечылі мяне ад бяспамяцтва лёгка. Прывялі ў палату Грыдзіна з рукой на марлевай перавязі, і я адразу пазнаў яго і ўспомніў усё, што з намі здарылася ў доме ляснічага.

Папоў, аказваецца, таксама ў шпіталі. Паранены ў нагу.

Капітан Мітрафанаў пасля дапытвае мяне:

— Вы многа пілі перад вашым раненнем?

— Усю ноч. Чэхі частавалі.

— І перад гэтым пілі?

— І перад гэтым. Быў парламенцёрам.

Ён штосьці абдумвае, але мне нічога не гаворыць.

Капітан дае мне стус газет. Затым выходзіць. Я сумую. Чытаць нечага. Мне прынеслі толькі палявую сумку, у якой нямецка-рускі слоўнік і «Пралегомены», што даў пачытаць лейтэнант Мілаванаў. Астатнія кнігі ў рэчавым мяшку. Дні два назад я напісаў ліст старшаму лейтэнанту Пылянкову, камандзіру групы бліжняй разведкі, з просьбай прыслаць мой рэчавы мяшок, шынель і ашчадную кніжку — яна знаходзіцца ў фінчасці.

А ўвогуле я ўжо хаджу па шпіталі. Мой аўтарытэт сярод урачоў, медсясцёр і параненых высокі. Асабліва сярод тых, хто, як і я, блукаюць па калідорах. Мы ў нямецкім горадзе, дапаможны персанал — немкі, а гаварыць па-нямецку ніхто не ўмее. Нават урачы, якія паканчалі інстытуты.

Мяне тым часам як прарвала. Стоенае, якое цягнулася тры-чатыры месяцы, падслухоўванне немцаў, кнігі, якія праглынуў, зрабілі сваю справу. Я размаўляю лёгка, свабодна і немак-прыбіральшчыц разумею з ходу. І мяне яны разумеюць. Я, відаць, карыстаюся назапашанымі фразамі, якія запомніў, бо і цяпер не ведаю дакладна артыкляў назоўнікаў і ўжывання прыназоўнікаў ва ўскосных склонах.

Я ўважліва чытаю прамову Сталіна на ўрачыстым банкеце з нагоды перамогі над фашысцкай Германіяй. Мне падабаецца прамова, і я перачытваю яе некалькі разоў. Сталін гаворыць праўду: памылак было зроблена многа, і ў тым ліку правадырамі, кіраўнікамі, урадам. Народ цярпліва нёс свой цяжкі крыж. Цяжка жыў народ. У голадзе і холадзе. Палавіна краіны разбурана. Відаць, не хутка наступіць светлая часіна.

Я ўспамінаю восень сорак першага года. Бясконцым ланцугом брыдуць па чыгунцы людзі з захаду на ўсход і з усходу на захад. Тыя, што вырваліся з палону, акружэння, турмаў. Немцы лічылі вайну выйгранай, і ў першыя асеннія месяцы бадзяг ніхто не затрымліваў. Па чутках, цэлыя арміі траплялі ў акружэнне, а затым у палон. Пад Беластокам, Мінскам, паміж Бранскам і Вязьмай. Колькі каштавалі Кіеўскае, Харкаўскае акружэнні. Мільёны палонных. Які народ такое б вытрымаў?

Вайна выйграна. Цвітуць сады перамогі.

Шмат якія лёгкапараненыя, падлечаныя, наогул байцы, афіцэры, якіх хутка са шпіталя выпішуць, завялі знаёмства з немкамі. Бегаюць да іх начаваць. Бывае, што ў палаце пакідаюць толькі аднаго дзяжурнага. На астатніх ложках накрытыя коўдрамі скруткі шынялёў.

Начальства пакуль глядзіць на гэта скрозь пальцы. Была ж такая доўгая, крывавая вайна. Няхай людзі пацешацца. Пагуляюць.

Немкі толькі першыя два-тры дні страшыліся рускіх і не вытыркалі носа з кватэр. Прыгледзеўшыся, што ніякія рускія не азіяты з раскосымі вачамі, не бандыты, наперабой пачалі набівацца на знаёмства. Тым болей што мужчын у горадзе амаль няма. Бо нават шасцідзесяцігадовых дзядоў і пятнаццацігадовых хлапчукоў падчысціў Гітлер — пхнуў у фольксштурм. Сумуюць адзінокія немачкі. А рускі салдат не толькі горача абдымае, а яшчэ і бохан хлеба пад пахай прынясе ці што-небудзь іншае з харчу.

Эпізод з немкай, якая, можна лічыць, сама прыняла мяне, кінулася ў абдымкі, як бы траціць прывабную рамантычнасць. Усё значна прасцей. Жанчыны сумуюць без мужчын.

Капітан Мітрафанаў завітвае да мяне з раніцы.

— Вы пераведзены ў каманду выздараўліваючых,— паведамляе.— Будзем пускаць вас у горад. Ды і для дзела трэба.

Для якога дзела, капітан не гаворыць. На твары яго выраз урачыстасці.

— Заўтра пойдзем да Гаўптмана. Да славутага нямецкага пісьменніка. Жыве ў гарах. Я маю маршрут. Вы чыталі Гаўптмана?

Я чытаў толькі драму «Ткачы». Праўдзівей, урыўкі з яе. Яны друкаваліся ў школьных хрэстаматыях.

У мяне галава кружыцца. Пачатак чэрвеня, пачынаецца лета. Горад прыгожы, зялёны. Раскіданы ў далінах між пагоркамі. У многіх мясцінах узвышаюцца заводскія трубы. Густы лес, сасоннік, пачынаецца адразу за апошнімі дамамі. Малайцы, гараджане. Здолелі захаваць прыгажосць. У маім мястэчку да лесу трэба вярсты тры ісці. І лес быў выдатны — дубровы. Але высеклі іх, выкарчавалі.

Мы падымаемся ў горы. Даўно я іх назіраю. З канца зімы. Здалёк горы прыгожыя. Яны прыгожыя і зблізку. Сснякі, бадай што, падобныя да нашых. Дол то голы, пясчаны, то пакрыты дробным зялёным, то белым, наздраватым лішайнікам. І птушак у гэтым сасонніку, як і ў нашым, мала. Дзесьці па старадрэвіне тукае, нібы жалезным носам, дзяцел. Мільганула, адчайна крыкнуўшы, чорна-бела-сіняпёрая сойка. Вогненнай маланкай сіганула з сука на сук вавёрка.

Каменняў многа ў сасонніку. Некаторыя з іх нагадваюць розных звяроў, яны наогул нібы нейкія фантастычныя істоты. Такія фігуры — вымытыя вадой, выдзьмутыя ветрам кавалкі пароды.

Мы толькі адзін раз пытаем дарогу ў жанчыны, якая спускалася ўніз з вязанкай хворасту за спіной. Жанчына падобна на нашу сялянку: шарсцяная чорная кофта, чырвоны андарак. Мясціна, куды мы ідзем, называецца Фёгелькопфэн. Гэта азначае штосьці накшталт птушыных верхавін.

Убачыўшы жанчыну-сялянку, я ўспамінаю радкі Гейнэ:

Auf die Berge will ich steigen,
Wo die frommen Hütten stehen[1].

— Зямля, па якой мы ідзем, некалі была польская,— гаворыць капітан Мітрафанаў.— Так званая пястаўская. Быў такі польскі кароль Пяст. Асоба амаль міфічная.

Я гэта ведаю, але не хачу перабіваць капітана. Нездарма адчуваў душой прыхільнасць да Сілезіі. Славянскі край. І нездарма, відаць, я знайшоў у адным месцы польскія кнігі.

[1] Хачу ў горы я падняцца,
Дзе стаяць сціплыя хаціны.

— Недалёка адсюль ёсць горад Баўцэн,— працягвае Мітрафанаў.— Там жывуць славяне. Называюць сябе сорбамі. Гэта лужыцкія славяне.

Вось гэтага я не ведаў.

— Баўцэн! — усклікаю.— Я яго праслухоўваў!

— Як праслухоўваў? — Капітан нічога не разумее.

Я вырашаю адкрыцца. Ніхто мяне не папярэджваў, што мая работа звязана з тайнай. Тым болей што вайна скончылася.

— Служыў у групе бліжняй разведкі. Разведка асаблівая — сродкамі сувязі. Мы падслухоўвалі немцаў. Па правадах...

— Вы так добра ведаеце нямецкую мову?

— Не надта добра. Умею чытаць газету. Цяпер стаў чытаць кнігі. Амаль без слоўніка. Падслухоўваючы немцаў, навучыўся разумець гаворку...

— Малайчына вы. Я вот колькі ні прымушаў сябе, нямецкай мовы так і не вывучыў.

Між тым мы ўздымаемся вышэй і вышэй. У мяне кружыцца галава. Прыемна кружыцца. З раніцы ні разу не забалела.

На седлавіне гары стаіць невялікі, пафарбаваны ў блакітны колер дамок, агароджаны акуратным парканчыкам. Насустрач нам з невысокага ганка спускаецца немаладая жанчына, чымсьці падобная на тую, якая ішла з вязанкай хворасту.

— Entschuldigen Sie vielmals, wir möchten fragen nach dem Schriftsteller Gerhart Hauptmann. Ob er hier wohnt?..[1]

— Hier seine Sommerhäuschen. Hauptmann ist nicht da. Er ist in die Berge weggegangen. Schon lange...[2]

— Sind Sie seine Frau?[3]

— O, nein! Ich bin seine Bediente[4].

Я пераказваю Мітрафанаву размову. Ён сумна ўсміхаецца. Так, гэтага трэба было чакаць. Варта было адразу прыйсці на

---

[1] Прабачце, мы хацелі спытаць пра пісьменніка Герхарта Гаўптмана. Ці сапраўды ён тут жыве?

[2] Тут яго дачны дамок. Але Герхарта Гаўптмана няма. Ён пайшоў у горы. Ужо даўно...

[3] Вы яго жонка?

[4] О, не! Я толькі эканомка.

Фёгелькопфэн. Але хто ведаў, што тут жыве славуты Герхарт Гаўптман.

Дзякуючы таму, што Мітрафанаў мяне апякуе, я штодзень выходжу ў горад. Вандрую па яго вуліцах, парках, скверах. Жыццё ў горадзе і не спынялася. Ходзіць трамвай, у піўных можна выпіць кухаль піва. Праўда, яно штучнае, без градусаў. Але на смак як сапраўднае. Павязку з галавы знялі. Валасы выстрыглі толькі вышэй раны, але яны трохі адраслі. Гэтае месца я прыкрываю пілоткай, носячы яе трохі набок.

У засаджаным букамі, вязамі, грабамі, зацененым скверыку спатыкаю чарнявую, падобную на армянку дзяўчыну.

Здаецца: нібы дзесьці бачыў яе. З якой-небудзь воінскай часці дзяўчына, мільганула думка. Зняла форму і выйшла на шпацыр. Звяртаюся да яе па-руску. Але яна нічога не разумее.

Пры першых нямецкіх словах чарнявы твар дзяўчыны святлее. Мы знаёмімся. Завуць дзяўчыну Інгеборг. Скандынаўскае імя. Магчыма, было яно ў якой-небудзь кнізе Кнута Гамсуна ці Ібсена.

Цяпер толькі бачу: Інгеборг на дзіва падобная на Гэлю Машчынскую. Такі ж прыветлівы, з правільнымі рысамі твар, паўнаватая пастава, сур'ёзныя шэрыя вочы. Толькі чарнявая, нібы армянка ці грузінка, немка Інгеборг. Славянка Гэля Машчынская тым часам бялявая, светлавалосая.

Пакрысе завязваецца размова. Мяне цікавіць, што такое фольксшуле, якую скончыла Інгеборг, якія прадметы ў ёй выкладаліся. Інгеборг адказвае чамусьці неахвотна. Ёсць нямецкая гісторыя, літаратура, ну, вядома, матэматыка. Рускую ці якую-небудзь іншую гісторыю, літаратуру ў фольксшуле не вывучаюць. З рускіх пісьменнікаў Інгеборг нікога не ведае.

Інгеборг паспела паглядзець савецкі фільм «Юнацтва Максіма». З нямецкімі цітрамі. Фільм ёй вельмі спадабаўся.

Адчуваю: у душы дзяўчыны — пустата. Яна хоча за штонебудзь зачапіцца, стаць на нейкі грунт. Відаць, як і я сам, верыла таму, чаму вучылі ў школе. Але ўсё тое рассыпалася, развеялася як дым.

Я ўспамінаю дзень, калі замоўклі нямецкія радыёстанцыі. Пуста стала ў эфіры. Відаць, такая ж пустата ў душах, асабліва маладых немцаў.

Я выцягваю з кішэні гімнасцёркі гадзіннік. Тлумачу дзяўчыне, што я знаходжуся ў шпіталі і мой час скончыўся. Ці можам мы яшчэ спаткацца?

Яна ахвотна згаджаецца. Называе вуліцу і дом, дзе жыве. Я абяцаю Інгеборг абавязкова да яе прыйсці.

У шпіталі я патрэбная асоба. Вяду перамовы з немцамі, якія завітваюць у шпіталь, з персаналам, набраным з мясцовага насельніцтва. Акрамя таго, урачы, афіцэры, сяржанты, байцы, якія выздараўліваюць, запрашаюць мяне, калі ідуць у горад. Патрэб многа: хто боты шые, хто мундзір, гімнасцёрку, і трэба дамовіцца з шаўцамі, краўцамі. Рамеснікаў у горадзе на любы густ. Трэба толькі распытаць, дзе жывуць. Я лёгка распытваю, дамаўляюся аб тэрмінах, плаце.

Квітнеюць сады. Адцвілі каштаны, паплыў па горадзе тапаліны пух, зацвітаюць ліпы. Ва ўсіх нас узнёслы пераможны настрой. У шпіталі, аднак, не знойдзеш ні выпіўкі, ні цыгарэт. Гэтыя рэчы мы здабываем як хто можа.

Грыдзін паправіўся, шастае ў горад. Папоў таксама ўстаў з ложка. Пакуль што выдыбае з палачкай па пляцы шпіталя.

Паколькі я памагаю здабываць цыгарэты, віно, іншую выпіўку, шустрая, выбітная кампанія, якая патаемна стварылася ў шпіталі і ў якую паспеў пралезці Грыдзін, сакрэтаў ад мяне не тоіць.

Савецкіх байцоў, афіцэраў лёгка прапускаюць у сваю вызваленую краіну чэшскія пагранічнікі. Граніца побач. Якіх-небудзь дваццаць кіламетраў. Чэхі нікому не дазволілі разбазарыць нямецкія прадуктовыя склады. Тым часам савецкіх байцоў, афіцэраў на склады пускаюць. І вось прывезлі ў шпіталь Грыдзін і астатнія мяшок цукру (чыстага, не такога, як у прыфрантавым гарадку), скрынку мармеладу, вялікую вядзёрную бляшанку са штучным мёдам, сотню-дзве бляшанак з плаўленым сырам.

Скарб надзейна хаваецца. Гарадскія немкі, адчуўшы, што ў нас зусім няма курыва, робяцца страшэнна прагавітымі. Цыгарэты прадаюць паштучна. За дзесяць цыгарэт просяць кілаграм цукру, за бутэльку лікёру ці рыслінгу — два кілаграмы. Прыходзіцца плаціць.

За добрыя паслугі прадпрымальніцкая кампанія і мяне аддзячвае. Рулон чырвонага сукна, недзе здабытага кампаніяй,

рамеснік-фарбаўшчык за двое сутак робіць выдатным цёмна-сінім матэрыялам, з якога можна шыць брыджы. Штаны мае, між тым, неважнецкія. Спагадлівы Грыдзін адмервае мне паўтара метра сукна, а калека-кравец (у яго няма нагі) з бліжэйшага да шпіталя дамка шые мне галіфэ.

І яшчэ адна прыгода, якая цягне за сабой другую. Старшы лейтэнант са Смерша, які служыць у шпіталі, адводзіць мяне ўбок.

— Памажы, браток. Схапіў нядобрую хваробу. Тут лячыцца не хачу. Сам ведаеш... Знайдзі нямецкага венеролага...

Венеролага я знаходжу. Праз тры-чатыры дні смершавец здаровы і пры сустрэчы весела мне падміргвае.

Маладога афіцэра я вяду да зубнога ўрача. Прымае ён дома, на ягоных дзвярах бронзавая таблічка: доктар Фідлер, зубны ўрач, тэхнік, пратэзіст і яшчэ нейкія іншыя тытулы.

Доктар Фідлер, здаравенны рыжы дзяцюк у белым халаце, высокі, шыракаплечы, магутны, пачуўшы маю гаворку, усклікае:

— Адкуль ты, славянін, так добра ведаеш нямецкую мову? І вымаўленне харошае. Малайчына. Дзякуючы нямецкай мове ты прыблізішся да нямецкай культуры. Яна вышэй за славянскую.

— Перамаглі ўсё-такі мы, славяне,— пярэчу я.— І культура ў нас ёсць. Высокая культура. Хіба Гётэ вышэй за Талстога?

— На гістарычную арэну вы выйшлі пазней немцаў. Вякоў на пяць...

Я дзіўлюся: нічога і нікога не баіцца рыжы дзяцюк. І чаму наогул ён не ў арміі? Яму гадоў сорак. Фізічна здаровы. Хіба, можа, збег з лагера ваеннапалонных?

Між тым доктар Фідлер заўважыў недасканаласць маіх зубоў. У дзяцінстве я своечасова не вырваў пярэдні малочны зуб і пад ім вырас зуб някідкі, крываваты. Гэта псуе выгляд пярэдніх зубоў.

— Твае зубы я зраблю прыгажэйшымі,— абяцае доктар.— Пастаўлю дзве каронкі. Трэба два грамы золата.

Золата ў мяне няма. Я абяцаю Фідлеру дзве савецкія манеты, у якіх дваццаць чатыры грамы срэбра. Ён з хвіліну раздумвае.

— Добра. Што яшчэ дасі?

— Два кілаграмы цукру.

— Добра. Толькі трэба яшчэ паўкілаграма масла. Работа не простая.

Урач садзіць мяне ў крэсла, падпільвае два зубы.

— Прыходзь праз два дні. На прымерку каронак. Прынось тое, аб чым дамовіліся.

Савецкіх манет Фідлеру я, аднак, не нясу. Дару іх капітану Мітрафанаву. Ён дае мне дзве залатыя пласцінкі.

— Не трэба, каб немец плавіў нашы грошы на каронкі,— гаворыць капітан.

Яшчэ праз дзень-два мае зубы маюць прыгажэйшы, далікатнейшы выгляд. Што ні кажы, а доктар Фідлер спецыяліст адменны.

Іду да Інгеборг. Лёгка знаходжу яе дом. Гэта блізка ад шпіталя. Трэба спусціцца ўніз з шырокай вуліцы, павярнуць налева, у глухаваты завулак. Дом аднапавярховы, стаіць пад старымі разгалістымі вязамі. Побач вялікая гара пустой пароды. Значыць, недзе блізка была шахта.

Я іду не з пустымі рукамі. Нясу бутэльку лікёру, сёе-тое з прадуктаў.

У доме шыракаплечы, паўнацелы, з вялікай лысай галавой і шырокім тварам бацька, маці, вельмі падобная на Інгеборг, і хлопчык, брат, у адрозненне ад сястры, зусім бялявы. Ёсць яшчэ вялікі руды сабака. Ён падыходзіць да мяне і пачынае абнюхваць.

— Caso, raus,— адганяе сабаку Інгеборг.— Du stinkst[1].

Бацька, пачуўшы маю нямецкую мову, адразу звяртаецца з пытаннем:

— Ты камуніст?

Я толькі камсамолец, але адказваю сцвярджальна.

— Я сацыял-дэмакрат. Сядзеў у канцлагеры. Тры гады. На фронт не ўзялі. Служыў у ахоўным батальёне. Своечасова дэзерціраваў. І вось цяпер з сям'ёй.

Я называю сябе Віктарам. Яшчэ пры сустрэчы з Інгеборг назваў сябе так. Можа, па той прычыне, што ў немцаў імя Васіль няма.

[1] Касо, прэч. Ты смярдзіш.

Бацька Інгеборг кідаецца ў палітычную размову.

— Сацыял-дэмакраты пасадзілі ў сядло Гітлера,— рашуча заяўляе.— Нашы камуністы таксама вінаваты. Сектанты. Лічылі, што толькі яны валодаюць ісцінай.

Мы патрошкі выпіваем. Маленькімі, як напарсткі, кілішкамі. Закусваем салёным пячэннем. Немцы ўсё атрымліваюць па картках. Але цяпер, здаецца, трохі больш, чым у дні вайны.

У гэтыя дні ўвесь час, на які мяне адпускаюць са шпіталя, я праводжу з Інгеборг. Мы ідзем за горад, дзе ля падножжа гор зелянеюць палі, цвіце жыта, буяюць ячмені, аўсы. Цвітуць краскі. Мы хаваемся ў высокую траву, цалуемся, абдымаемся, бясконца аддаючыся каханню. Мне дваццаць гадоў. Інгеборг на год маладзей. Толькі цяпер, калі адгрымела вайна, я спазнаў жанчыну.

Я толькі і думаю пра Інгеборг. Развітаўшыся, чакаю новай сустрэчы. Інгеборг пакорлівая, самаахвярная. Выконвае кожнае маё жаданне.

З палка сувязі прыязджае перакладчык Лебедзеў. Яго накіраваў камандзір нашай групы Пылянкоў. Лебедзеў прывёз мой шынель і рэчавы мяшок. Весткі з палка невясёлыя. У першы пасля перамогі дзень атруцілася радыёрота. Напілася тэхнічнага спірту. Некалькі чалавек памерлі, некалькі аслеплі ці аглухлі. Камандзіра радыёроты засудзілі на дзесяць гадоў, знялі з пасады камандзіра палка. Камандзір нашай групы Пылянкоў, між іншым, ажаніўся. З дзяўчынай, якую апякаў. Ім, як сямейным, выдзелілі аўтамашыну з будай.

Лейтэнанта Мілаванава няма. Яго нібыта накіравалі ў Аўстрыю. Служыць у акупацыйных войсках. Перакладчыкаў размяркоўваюць у розныя мясціны. Лебедзеву нічога не свеціць. Няма афіцэрскага звання.

І яшчэ расказвае Лебедзеў пра бой за дом ляснічага. Акрамя нас, траіх параненых, двое забіта і трое ацалела. Нават драпіны не атрымалі. Фактычна нас выратавала калона савецкіх машын.

Лебедзеў ад’язджае. Абавязкаў у шпіталі на мяне ўсклалі столькі, што не заўсёды ёсць час ісці да Інгеборг. Ные, баліць у такія дні душа.

Я адчуваю: шчасце, якое падараваў мне лёс, кароткае, прывіднае, здрадлівае. Дабром не скончыцца. Таму трымаюся за яго як магу. Калі вырываюся да Інгеборг, мы ходзім па палях, забіраемся ў горы, слухаем шум ветру, перагукванне птушак. Інгеборг купіла білеты ў тэатр. Горад нібы прачынаецца ад цяжкага сну. На сценах з’яўляюцца афішы аб сеансах кіно, розных відовішчах.

Дзеянне на сцэне тэатра-вар’етэ — суцэльныя камічныя малюнкі. Адзін з іх запамінаецца. Змест яго такі. Артыст пытае ў другога артыста, якія ёсць у нямецкай мове замежныя словы.

— Jungfer[1],— без запінкі адказвае той.

Зала смяецца. Інгеборг смяецца таксама.

Я прыводжу новага кліента да доктара Фідлера. Пачуўшы маю гаворку, ён абураецца:

— Што з табой? Гаворыш па-нямецку горш, чым раней. Вымаўленне цвёрдае, жорсткае.

Відаць, рыжы доктар мае рацыю. Але чаму мая нямецкая мова пагаршаецца? Відаць, таму, што раней я гаварыў словамі, фразамі, якія запомніў з падслуханых перамоў. Цяпер тыя словы, фразы пакрысе выветрываюцца.

Капітан Мітрафанаў прыносіць мне канверт з сургучнымі пячаткамі. З палка ў шпіталь пераслалі ашчадную кніжку і выпіску з загада па арміі аб узнагароджанні мяне ордэнам Чырвонай Зоркі.

Капітан уздыхае:

— Вы вось ордэн маеце. Я ад званка да званка правёў на вайне і хоць бы медаль...

Мы з Інгеборг падымаемся на Фёгелькопфэн. Адзінока стаіць дамок пісьменніка Гаўптмана. Ні гуку, ні руху на двары. Відаць, нават старая служанка пакінула дамок пісьменніка. Я ўжо прачытаў дзве п’есы Гаўптмана: «Перад узыходам сонца» і «Перад заходам сонца». Вялікі пісьменнік.

— У мяне быў жаніх,— раптам гаворыць Інгеборг.— Мы былі заручаны. Ён быў лётчык. Знешне вельмі падобны на цябе. Загінуў у Італіі год назад. Хутка ты паедзеш. З кім я застануся?..

---

[1] Гульня слоў, якая азначае, што ў Германіі няма «девственниц».

Я ўздрыгваю. Я таксама пазнаёміўся з Інгеборг, бо яна мне нагадала Гэлю Машчынскую. Толькі Гэля не чакала мяне. Закахалася, выходзіла замуж. Хоць якое там ваеннае замужжа. Алеся Малейка пра мяне не думае. Для мяне свет таксама сышоўся на чорнай, як армянка ці грузінка, Інгеборг, пра якую яшчэ два месяцы назад я нічога не ведаў.

Я раптам уздрыгваю. На седлавіне пагорка паяўляецца алень. З маленькай галавой, невялікімі рагамі, светла-жоўтай поўсцю, якая ільсніцца на сонцы. Ногі ў аленя як вытанчаныя. Я чуў: ёсць еўрапейскія алені. Цяпер аднаго з іх бачу. Дарэчы, не так далёка ад нашага гарадка ляжыць горад Хіршберг. У перакладзе — аленева гара.

З сасновага зарасніку раптам выходзіць самка-аленіха. Такая ж прыгожая, з вытанчанымі нагамі, толькі зусім без рагоў. Аленіха падлашчваецца да самца, трэцца аб ягоную шыю, але ён не кранаецца з месца. Ён як бы чакае другую.

— Ты паедзеш, і я застануся адна,— гаворыць Інгеборг.— Ты хоць трохі пра мяне думаеш?

— Думаю. Я цябе люблю...

Кароткая сустрэча на сотай вярсце. Але зусім не выпадковая. Гэтую ціхую, сур'ёзную дзяўчыну нібы падарыў мне лёс. І ці знайду я такую яшчэ раз у жыцці?..

— Ведаеш, Інгеборг,— гавару я.— Мне яшчэ трэба вучыцца, скончыць інстытут. Потым я хачу напісаць кнігу пра гэтую вайну. Прышлю табе. Можа, сам прыеду.

— Кажуць, нас выселяць. Тут будзе Польшча.

— А ты не едзь. Бо куды я пашлю сваю кнігу?

Па яе смуглявай шчацэ цячэ светлая, як кропля расы, слязіна...

Ноччу я доўга не магу заснуць. Чамусьці ўспамінаю запасны полк. Барак, у які я трапіў, змяшчаў на сваіх трох'ярусных нарах восемсот чалавек. Мне дасталося месца на трэцім ярусе, пад самым дахам. Я дзівіўся: праз шчыліну ў вільчыку відаць зоркі, на дварэ зіма, але ад дыхання соцень людзей гэтак цёпла ў бараку, што можна спаць не акрываючыся. Хлебная пайка лёгка ўмяшчалася на далоні, і я ад нецярпення з'ядаў яе, пакуль даходзіла мая чарга да супу. Мы не столькі займаліся баявой падрыхтоўкай, колькі насілі на пля-

чах бярвенні для новых баракаў. Адно раніцай, перад сціплым снеданнем, у абед і перад вячэрай — яшчэ па адным.

Раніцай на палкавым пляцы пачынаецца развод вучэбных рот. Бліскучыя трубы выдыхалі са сваіх медных горлаў ваенныя маршы, гулка бухаў вялізны турэцкі барабан, у разлезлых чаравіках, падгарэлых, не па росце шынялях БВУ мы чаканілі крок, пазіраючы на застылага ў нерухомай позе, з узятай пад казырок рукой пасівелага палкоўніка.

Маршыруй, пакаленне! Ідзе вайна, якой, можа, не было ў гісторыі. На ёй ліецца кроў, губяцца маладыя жыцці. Але тваю радзіму, пакаленне, топча вораг і не ваяваць ты не можаш. Грыміце, трубы, і чаканьце крок, салдаты самай вялікай вайны!

Дзе тыя салдаты? З нашага дзявятага, дзясятага класаў большая палавіна хлопцаў загінула. Відаць, усюды так.

І вось каханне на варожай зямлі. Дзяўчына шчыра верыла ў зусім іншыя, чым я, ідэалы. Тым не меней мы сышліся...

Мне шанцуе. На Карэльскім перашыйку трапіў у шпіталь, калі вайна з фінамі скончылася. Тут тое самае. У шпіталь паступаюць толькі хворыя. Азвярэлых бандаў, якія нават пасля сканчэння вайны не хацелі здавацца, болей няма. Параненыя ў шпіталь болей не паступаюць.

Першы цуг з пакрытымі брызентам кузавамі грузавікоў адпраўляецца з нашага шпіталя раніцай. О, вялікі Божа! Каля шпіталя натоўп немак, маладых, сярэдняга веку, пажылых. Яны, не саромеючыся, плачуць, абдымаюць, цалуюць сваіх часовых нарачоных, піхаюць ім у рукі нейкія пакункі. Вось так канчаюцца войны. Любоўю, мілаваннем розных рас і народаў.

Начальства збянтэжана. Слабая вялася палітычная, тлумачальная работа, калі ледзь не ўвесь радавы, сяржанцкі і афіцэрскі састаў гэтак цесна звязаны з мясцовым насельніцтвам.

Другі эшалон наўмысна адпраўляецца ноччу. Малюнак, аднак, той самы.

Я не хачу, каб Інгеборг мяне праводзіла. Хаджу да яе штодзень, мы вандруем па палях, пералесках, забрыдаем у

горы. Ужо жыта выйшла ў колас і колас наліваецца зернем. Паспелі чарэшні.

Інгеборг дорыць мне сваю фотакартку. Новай у яе няма. Ранейшы надпіс на фота яна заклеіла аркушыкам чыстай паперы. На памяць мне напісала: «Vergiss mich nie, weil ich hab' dich lieb»[1].

Наш эшалон адпраўляюць нечакана. Без ніякага папярэджання. Выходзім з абедзеннай залы. Тым часам на вуліцы, перад будынкам школы ўжо стаяць машыны. І натоўп немак пакрысе збіраецца.

Інгеборг няма. Я закідваю ў кузаў рэчавы мяшок, шынелак — і ўсё гляджу, гляджу на спуск вуліцы: раптам паявіцца там знаёмая постаць і чарнявы, мілы, такі дарагі мне твар маёй дзяўчыны.

*1994*

## ВІР

### I

За вокнамі вецер. Нават у змроку відаць, як хвоя хістаецца ўлева-ўправа, махнатая галіна матляецца перад самай шыбінай. Пакой дацэнта Несцяровіча на другім паверсе адмыслова выштукаванага з сасновага цёсу двухпавярховага дома, вокны якога якраз дасягаюць шатаў дрэў.

Вецер мацнее. Пошум сосен зліваецца ў суцэльны гул: доўгі, працяглы, чымсьці самотны, трывожны. Несцяровіч любіць летнія навальніцы, доўгую асеннюю непагадзь, нават вось такія зімовыя завірухі. Але гэта тады, калі на душы спакой, раўнавага. Цяпер жа душа ўзрушана, прыгнечана, і Несцяровіч не ведае прычыны гэтага.

Пачалася зімовая сесія студэнтаў, два тыдні Несцяровіч вольны як вецер, і ён прыехаў у гэты бласлаўлёны Дом творчасці пісьменнікаў што-небудзь напісаць. Бо ён не толькі

[1] Не забывай мяне ніколі, бо я цябе любіла.

выкладчык універсітэта, літаратуразнавец, а і пісьменнік-празаік.

Дом творчасці — былая паляўнічая рэзідэнцыя высокага ўрадавага чыноўніка. Чыноўніка з пасады турнулі, дом, у якім налічваецца чатырнаццаць пакояў, аддалі пісьменнікам. Пішыце, маўляў, тварыце, праслаўляйце бацькаўшчыну. Відаць, сам Бог паспрыяў, каб пісьменнікі займалі гэты дом. Бо куды б дзеўся Несцяровіч ці такія, як ён, службоўцы-літаратары, каб не гэты схаваны ў лесе, за два дзясяткі кіламетраў ад Мінска, дом. Тут пануе цішыня і някепска харчуюць. Галоўнае, што сюды можна ўцячы ад гарадскога тлуму, мітусні, сходаў, паседжанняў.

Пакой дастаўся Несцяровічу добры, з вокнамі на густы зялёны сасоннік.

З таго часу як Несцяровіча прынялі ў Саюз пісьменнікаў, ён некалькі разоў бываў у Доме творчасці. Летам, восенню, зімой. Ведае тут амаль усе пакоі.

Раніцай Несцяровіч вярнуўся з Мінска, з пагулянкі. Дзень прапаў, бо за пісьмовы стол ён так і не сеў. Шумела ў галаве, ён быў млявы, разбіты. Адзначаў саракапяцігоддзе дэкан філалагічнага факультэта, і не пайсці было нельга.

Сорак пяць гадоў — не прычына для балявання, але дэкану якраз далі ордэн, і ён не мог ухіліцца, каб не пачаставаць тых, з кім разам працуе.

Несцяровіч, дзе б там ні было, не перапівае, не было выпадку, каб ён перабраў. Ён і на баляванні ў дэкана не перапіў, але мінулі суткі, а ён не можа прыйсці ў норму. У дадатак няпэўная, няясная трывога вярэдзіць душу.

Лес за акном шуміць усё гучней. Асабліва глухія ўздыхі даносяцца з сярэдзіны: там нешта трашчыць, ломіцца, валіцца. Раптам шугануў снег, ды такі густы, напорны, што нават сасны пад акном стала не відаць. Зіма нарэшце канчаткова ўсталявалася. Доўга, чатыры ці нават пяць месяцаў, будзе вісець над зямлёй цёмнае неба і сыпаць снегам, будуць свістаць-разгульваць вятры. Лясныя жыхары пахаваюцца ў норкі, дуплы, і адзін толькі дзяцел будзе дзюбаць жалезным носам па амярцвелай галіне ці вяршаліне сасны.

Несцяровіч не любіць зіму. Ён вырас у небагатай шматдзетнай сям'і — тры хлопцы і дзяўчына, бацька працаваў

стрэлачнікам, і ягонага заробку нават на хлеб не хапала. Малы Алесь зімою заўсёды мёрз. Бо не насіў ні кажуха, ні валёнак, ні нават добрага цёплага паліто. Не было ў бацькі капіталаў, каб купляць такія рэчы...

Даўно спіць Дом творчасці. Хоць, можа, які-небудзь дзівак, наморшчыўшы лоб, сядзіць за сталом (ёсць пісьменнікі-начнікі). І кампанія не бryндае па дарозе: у такую віхуру носа не вытыркнеш з дому.

Несцяровіч рассцілае пасцель, выключае настольную лямпу, кладзецца ў ложак. Ён нажыў сабе хваробу, хоць яшчэ не стары: марудна, пакутліва засынае. Гадзіну ці нават больш варочаецца ў ложку, успамінае розныя падзеі ці мясціны, пакуль сон канчаткова не адолее.

Ён нарэшце засынае. Але праз нейкую гадзіну падхопліваецца. Яму раптам робіцца яснай прычына душэўнага неспакою. Неяк не так, не як звычайна, паводзіла сябе на банкеце жонка. Яна ўвогуле эмацыянальная, мае ў характары штосьці ад артысткі і любіць верхаводзіць за сталом. Несцяровічу нават падабалася, што жонка дасціпная, добра валодае гумарам, здольная ажывіць любую кампанію.

Аднак на ўчарашнім вечары жонка была непадобнай на сябе. Занадта вогненна-вясёлая, яна мітусілася, прамаўляла тосты, закрануўшы кепікамі ледзь не ўсіх прысутных на банкетаванні людзей.

Такой сваёй Галіны Мікалаеўны Несцяровіч яшчэ не бачыў. У гэтай яе няўрымслівай мітусні як бы адчуваўся нейкі надрыў. Што магло здарыцца?

Несцяровіч жанаты другі раз. Можна сказаць, што гэта ягоная драма і нават трагедыя. Ён ажаніўся з дзяўчынай першага, яшчэ школьнага, кахання, хоць прадчуваў, што гэтага не трэба было рабіць. Але ён не мог пераступіць праз пачуццё, якое гарэла ў душы амаль дзесяць гадоў. Гэта было безагляднае юнацкае каханне, якое не прымае ў разлік жыццёвай прозы, не звяртае ўвагі на супярэчнасці жыцця. Цяпер, з цягам часу, ён разумее, што Ізольда, першая жонка, яго зусім не любіла, звяртаючы ўвагу толькі на сваю асобу. Ён ёй, вядома, трохі падабаўся, але не больш, чым іншыя. Не была яна, дачка настаўніка, асаблівай прыгажуняй, не вызначалася

здольнасцямі да навук. «Цвёрдая пасрэдніца»,— неяк сказаў пра яе завуч дзесяцігодкі, якую дзяўчына заканчвала. Яна рана пачала знацца з хлопцамі. Мяняла іх як пальчаткі. Можа, па гэтай прычыне і на шлюб глядзела як на нейкі ўзаконены саюз, дзе зусім не абавязковая ўзаемная адданасць мужа і жонкі. Ёй думалася, што пры такой адданасці будзе аднастайнае панылае жыццё, якое не прынясе жанчыне ніякай радасці.

Вось такая была Ізольда, першая жонка Несцяровіча. Чаму ж ён з ёй ажаніўся? Быў верны абавязку: яна зацяжарыла і сказала пра гэта. Уцякаць у кусты ён не мог. Не паважаў бы самога сябе. Пазней, перабіраючы ў памяці акалічнасці сваёй жаніцьбы, ён вельмі засумняваўся, што іменна ад яго Ізольда зацяжарыла. З горам папалам прабіўшыся ў настаўніцкі інстытут, яна (да Несцяровіча даходзілі глухія чуткі) вяла там вельмі вольнае жыццё.

У дваццаць шэсць развёўшыся з Ізольдай, пакінуўшы ёй трохгадовага сына (аліменты па тым часе складалі ледзь не палавіну заробку Несцяровіча, бо «добраахвотная» падпіска на аблігацыі клалася цалкам на ягоную долю заработнай платы), Несцяровіч вельмі падазрона стаў глядзець на дзяўчат і жанчын. Яны наогул здаваліся яму хціўымі, легкадумнымі, здрадлівымі істотамі.

З ранніх гадоў Несцяровіч чытаў кнігі, і, відаць, яны дапамаглі яму стаць зацятым рамантыкам. У яго склаўся нейкі стэрэатып паводзін юнака і дзяўчыны: хлопец змагаецца за жыццёвы поспех, дасягае яго і як дар кладзе да ног каханай, а яна ва ўзнагароду дорыць яму сваё сэрца. Відаць, так паводзілі сябе сярэдневяковыя рыцары, і гэта Несцяровічу падабалася.

Тут таксама паўставала пытанне аб прыгажосці, бо каханне без прыгажосці не бывае. Ізольду Несцяровіч лічыў вельмі прыгожай, а сябе — не. У Германіі, калі скончылася вайна, ён некалькі разоў сфатаграфаваўся. І — здарыўся цуд. На фатаграфіях ён выглядаў не проста самым звычайным, а нават вельмі прыгожым хлопцам. Нібы брыдкае качанё ператварылася ў лебедзя. Прывабны выгляд на фотакартках Несцяровіч прыпісваў майстэрству нямецкіх фатографаў.

Пасля вяртання з фронту Несцяровіч схуднеў, зблажэў. Па-першае, харч быў не надта добры. Па-другое, пакутаваў ад розных згрызот. Два гады ён быў у акупацыі, год ці болей памагаў партызанам, затым і ў атрад пайшоў. Але такіх, як ён, усё адно не надта прывячалі. У грамадстве тады панавала дурнота, якую цяпер называюць чужаземным словам «таталітарызм». Нібы нараджаўся новы клас. Не разбіраючы, разумныя яны ці не надта, валодаюць арганізатарскімі здольнасцямі ці не, тых, хто вярнуўся з фронту, не быў у акупацыі, прызначалі на кіруючыя пасады: старшыня калгаса, загадчык, кіраўнік прадпрыемства. Былым палонным, акружэнцам або тым, хто жыў пры акупацыі ды яшчэ дзе-небудзь працаваў, дарога на такія пасады была перакрыта.

Несцяровіч заўсёды думаў пра вучобу. Дарма не прапусціў не тое што года, а нават месяца. Ён быў нібы створаны для чытання кніг, якія падштурхоўвалі да роздуму аб усім навакольным.

З другой жонкай, Галінай Мікалаеўнай, Несцяровіч сыходзіўся марудна, пакутліва. Мабыць, прычынай гэтага была першая жаніцьба. Ён стварыў сабе вобраз ідэальнай дзяўчыны, якая беражэ сябе для абранніка, якога настойліва чакае, не пускаючыся ні ў якія авантуры. Толькі жыццё было іншым. Несцяровіч не хацеў разумець, што дзяўчына, якая заканчвае інстытут, мае перспектыву атрымаць дыплом, а значыць, і работу, не надта баіцца памыліцца ў абранніку. Дрэнны будзе адзін, дык знойдзецца другі.

Дзіўна пазнаёміўся Несцяровіч з Галінай Мікалаеўнай. Не жаніўся ён пяць гадоў. Жыў па аспіранцкіх інтэрнатах, абараніў дысертацыю, працаваў выкладчыкам, падрабляў у маладзёжным часопісе. Матэрыяльна быў незалежны, хоць аліменты адбіралі значную частку заробку.

Знаёмы выкладчык Федзя Чашчавік, які таксама скончыў аспірантуру і працаваў ва ўніверсітэце, аднойчы паклікаў яго да сябе. Яны не былі сябрамі, і недаверлівы Несцяровіч напачатку рашыў не ісці. Але пайшоў: штосьці ў Федзевым голасе было загадкавае, таямнічае. У трохі большым, чым меў сам Несцяровіч, пакойчыку за сталом гудзела невялікая кампанія. Дзяўчаты былі незнаёмыя, акрамя даўганосай выкладчыцы

Хадакоўскай, зямлячкі Несцяровіча, якая паходзіла з адзінай у іхнім раёне лясной шляхецкай вёскі.

Федзя Чашчавік нездарма паклікаў да сябе Несцяровіча: ён прывёз сабе і яму кандыдацкія дыпломы па даверанасці ўніверсітэцкага аддзела кадраў.

Несцяровіч кінуўся за бутэлькай, але Чашчавік спыніў яго царскім жэстам. Не клапаціся, маўляў. Усё ёсць. Пачастуеш кампанію іншым разам.

Гэта ўжо быў другі дыплом Несцяровіча. Першы ён атрымаў пяць гадоў назад пасля заканчэння ўніверсітэта. І зараз ён не таіў радасці і піў колькі налівалі. І сп’янеў.

З кампаніі, якая сядзела за сталом, яму кінулася ў вочы пышнацелая, з буйнымі завіткамі валасоў дзяўчына. Можна лічыць, яна верхаводзіла кампаніяй. Сыпала як з мяшка жартамі, дасціпнымі словамі, весяліла гасцей.

— Раю пазнаёміцца! — гучна сказаў Федзя, звяртаючыся да Несцяровіча.— Мая лепшая студэнтка (Чашчавік па сумяшчальніцтве і ў Інстытуце народнай гаспадаркі выкладаў). Ты, мармыза, ходзіш у задрыпаным паліто, хоць і кандыдат навук, а яна працуе толькі другі год і ўжо намеснік дырэктара ГУМа. Адчуваеш тэмп? Будзеш жыць як у Бога за пазухай.

Несцяровіч мала што памятае з таго вечара. Пелі, нават танцавалі пад патэфон, затым ён наважыўся ісці з вуліцы Маскоўскай, дзе жыў Федзя, у свой інтэрнат на вуліцы Свярдлова. З ім пайшла Галя, але Несцяровіч ледзь валачыўся, запляталіся ногі, і дзяўчына рашуча завярнула яго ў завулак, які размяшчаўся ледзь не насупраць інтэрната на Маскоўскай.

Прачнуўся ён на канапе, побач з Галяй, у маленькім, але ўтульным пакоіку, сцены якога былі абклеены сінімі шпалерамі. Пакоік меў асобны ўваход. Фактычна гэта была аднапакаёвая кватэра, якую здолела атрымаць у малаадбудаваным Мінску ўчарашняя студэнтка, а сёння намеснік дырэктара галоўнага ўніверсальнага магазіна. Вось што значыць гандаль!

— Кватэру малодшы брат падарыў. Ён падпалкоўнік інжынерных войск. Мінск адбудоўваў. Цяпер яго паслалі ў другі горад.

Так завязалася знаёмства Несцяровіча з Галяй. Штосьці падабалася ў яе твары, адкрытым і вясёлым, а галоўнае, у характары — вогненна-дзейсным і незвычайна актыўным. І ён ёй спадабаўся. І, здаецца, болей чым яна яму. Бо не было дня, каб яна яго не наведала ці хоць не пазваніла на работу. Ён чытаў лекцыі, але найбольш часу, пачынаючы з дванаццаці гадзін, праводзіў у рэдакцыі часопіса «Юнацкі свет». Часопіс толькі-толькі пачаў выходзіць. Тут упершыню Несцяровіч пачаў сустракацца з пісьменнікамі, сталічнымі журналістамі, а таксама з мастакамі, якія афармлялі часопіс.

Бачыў ён і Якуба Коласа, але гэта было раней, калі ён працаваў у рэдакцыі рэспубліканскай газеты «Звязда». Ён ганарыўся, што працуе ў газеце, якая выходзіла яшчэ да рэвалюцыі. Ён ужо там друкаваў нарысы, якія займалі палавіну газетнай старонкі.

Несцяровіч думае пра літаратуру. Нідзе, ні ў якім падручніку не напісана, што звычайная проза мае рытм, інтанацыю, якія ствараюць настрой, што нібы закалыхвае, зачароўвае чытача. Вялікае значэнне мае само слова, яго эмацыянальная афарбоўка, свежасць, гучанне.

Несцяровіч збіраецца нават напісаць апавяданне, якое ўражвала б мілагучнасцю мовы, але пакуль не адважваецца.

## II

Як у віхурным танцы, закружылася каханне Несцяровіча і Галі. Ён спазнаў яе пры першым спатканні, калі яна прывяла яго да сябе начаваць. У дрызіну п’яны, не маючы ў адносінах да дзяўчыны ніякіх сур’ёзных намераў, што ён мог памятаць? Тады, калі сустракаўся з Ізольдай, гэтая акалічнасць не мела значэння. Цяпер мае. Цяпер ён ведае, што ад такіх рэчаў можа паламацца жыццё. Сеяць па свеце дзяцей ён не збіраецца. Калі з-за нявернасці кінуў адну жонку, то другую, якая народзіць дзіцё, не кінеш. Інакш зломіш жыццё канчаткова.

Ён патрабаваў ад Галі споведзі: каго любіла, з кім была блізкай. У такія хвіліны яна выбухала гневам і абурэннем, з ходу адмятала яго пытанні. Якое права ён мае на допыты?

Сам быў жанаты, плаціць аліменты, а тут патрабуе нейкай незвычайнай чысціні!

Яны сыходзіліся і разыходзіліся. Але паступова Галя ўзяла Несцяровіча пад поўны кантроль. Яна знаходзіла час зазірнуць у інтэрнат ці хоць пазваніць у рэдакцыю. Гэтая настойлівасць падабалася Несцяровічу. Калі Галя гэтак да яго цягнецца, то, відаць, яна да яго не абыякавая. Ізольда ніколі такога не рабіла. Не распытвала, дзе быў, як жыў, з кім бавіўся. Да ягонага жыцця яна была абыякавая. Галю, наадварот, цікавіла ўсё, звязанае з ім. Яна досыць начытаная, хоць вучылася ў наргасе, дзе літаратуру нават не выкладаюць. Гаворку з ёй можна весці на любую тэму. І розум у яе дасціпны, і гумарам валодае.

Пазней Несцяровіч зразумеў, што была яшчэ адна, можа быць, самая галоўная прычына, якая з'яднала яго з Галяй. Ён быў мяккі, сузіральны, яна — дзейсна-актыўная.

Яны абое выхоўваліся ў бадай аднолькавым асяроддзі. Галя родам са Слуцка. Несцяровіч з вялікага, раскіданага мястэчка, больш падобнага на вёску. Але і ў Слуцку, і ў Несцяровічавым мястэчку было шмат вуліц, чыгуначная станцыя, па нядзелях ладзілі базары, і ў той жа час там і там панаваў чыста сельскі ўклад: многія жыхары трымалі кароў, свіней, курэй, мелі агароды, умелі таўчы ў ступах крупы, а ў ліхую гадзіну на жорнах малоць муку.

Перад самай вайной Галіны бацькі разышліся. Малодшы брат вучыўся ў ваенным вучылішчы, а старэйшая сястра ў апошні перадваенны год паступіла ў медыцынскі інстытут. Бацька пераехаў у Мінск і забраў з сабой Галю. Ён болей не жаніўся, і Галя змалку навучылася гаспадарыць. Бацьку пры вызваленні Мінска ад немцаў, хоць быў немалады, забралі ў армію. Восенню сорак чацвёртага года ён загінуў. Галі тады было пятнаццаць гадоў.

У Слуцк Галя не вярнулася. У Мінску жылі цёткі, бацькавы сёстры, якія мелі свае дамкі, і Галя тулілася каля іх. Не, яна з іх нічога не цягнула, нічога ад іх не патрабавала. Навучылася жыць сваёй галавой. У невялікі магазінчык, які гандляваў бульбай, агароднінай, яна ўладкавалася забеспячэнцам, скуплівала ў насельніцтва буракі, капусту, і, дзякуючы

яе намаганням, магазінчык, які жыў на грунце дзяржаўнага закупу, нават працвітаў. Галя яшчэ і цёткам памагала.

Яна скончыла школу, паступіла ў інстытут. Папераменна жыла ў цётак, дамкі якіх размяшчаліся ў процілеглых канцах горада. Брат, падпалкоўнік, з’явіўся пазней і, па сутнасці, не Галі, а старэйшай сястры Святлане, якая, скончыўшы медыцынскі інстытут, працавала на раёне, завяшчаў кватэру.

У той час, калі Несцяровіч пазнаёміўся з Галяй, старэйшая сястра рабіла ўсялякія захады, каб перабрацца ў Мінск, але ёй гэта пакуль не ўдавалася. Быў яшчэ адзін брат, які жыў недзе ва Уладзівастоку і даваў знаць пра сябе вельмі рэдка.

Беглі дні, месяцы. Мінула два гады, як Несцяровіч пазнаёміўся з Галяй, але яны ўсё яшчэ блукалі па вуліцах, высвятлялі адносіны. Ладу, згоды між імі не было.

Памёр Сталін. Несцяровіч успрыняў гэта як вялікую трагедыю. Галя між тым пасмейвалася:

— Пражывём. Гэта толькі ў газетах пісалі: «Сталін — родны бацька». Па такім бацьку можна і ногі выцягнуць...

У час бурлівых сутычак з Галяй Несцяровіч на кароткі час знаёміўся з другімі дзяўчатамі. Адна скончыла інстытут замежных моў і ў тым жа інстытуце засталася лабаранткай. Калі ён прыходзіў да яе ў пафарбаваны ў жоўты колер дамок у адным з трох чыгуначных завулкаў за каменным мастом, яна давала яму ў рукі альбом, дзе былі дзясяткі яе фатаграфій: на пляжы ў купальніку, на валейбольнай пляцоўцы ў спартыўнай форме, на лясной паляне, дзе загарала.

Другую дзяўчыну — аспірантку-хімічку, пышнацелую, ганарлівую — ён запрасіў у кіно. Няўпэўнены ў поспеху, ён не разгледзеў, што купіў білеты на розныя месцы, і разгневаная аспірантка па дарозе ў інтэрнат з ім зусім не размаўляла, падбіваючы наском чаравіка, каціла перад сабой круглы лядзяш.

Не, Галя з ім так не абыходзілася. Яна не таіла радасці, калі ён прыходзіў, старалася нават накарміць яго, зацыраваць шкарпэткі.

У рэдакцыі часопіса «Юнацкі свет» працавала стыль-рэдактарам Зіна Засуліч, не вельмі прыгожая жанчына, затое вельмі гаваркая, паслужлівая. Яна Несцяровічу дала раздзелы

сваёй недапісанай дысертацыі пра Максіма Танка, і ён імі з поспехам пакарыстаўся.

Несцяровіч ведаў Зінінага мужа, з якім разам працаваў у «Звяздзе». Мяккі, абыходлівы, разумны чалавек. Зіна тым часам круціла з паэтам, які пісаў гучныя лозунгавыя вершы да пэўных дат, а па натуры быў надзвычай настырны, нават нахабны.

Дык вось гэтая Зіна, чуючы аднойчы, як безуважліва Несцяровіч з Галяй размаўляе па тэлефоне, сказала:

— Гэта табе адгукнецца. Жанчыны такога не даруюць...

Цяпер, гэтай бяссоннай ноччу ў Доме творчасці, з параненай душой, ушчэнт разгублены і, можна нават сказаць, знішчаны, Несцяровіч успамінае словы Зіны Засуліч. Бо Галя, хутчэй за ўсё, збіралася кідаць яго...

Яны ўсё-такі пажаніліся.

Добра яны пражылі сем гадоў. Ён не пайшоў да яе на кватэру, на якую прэтэндавала сястра. У хуткім часе тая яе ахвотна заняла. Знайшоўшы мужа-фельчара, нарэшце пераехала з ім у Мінск.

І Несцяровіч прывёў Галю ў інтэрнат, у невялікі пакойчык, які на час за ім пакінулі, дзякуючы падтрымцы сакратара ўніверсітэцкага парткама.

Добра ім было ў тым інтэрнаце! Гудзелі-шумелі да поўначы студэнты, ледзь не кожную ноч наладжвалі пагулянкі суседзі-аспіранты.

У час танцаў, нібы слон, тупаў нагой аб падлогу таўставаты аспірант-журналіст, да якога між іншым ахвотна прыхінулася аспірантка-хімічка, якую Несцяровіч так няўдала звадзіў у кіно. Яшчэ праз месяц журналіст (месца яму далі ў газеце «Фізкультурнік Беларусі») ажаніўся з дзяўчынай. Жылі яны таксама ў гэтым жа інтэрнаце, але разам пражылі нядоўга, штосьці з паўгода, і разышліся як у моры караблі. Бо не ўмела хімічка ні гатаваць, ні мыць бялізну, наогул уцякала ад усялякага быту.

У інтэрнаце асталяваліся два каты. Каб жыццё грунтавалася на разумных пачатках, то каты маглі пароўну падзяліць уладанні. Кожнаму прыпала б па два паверхі з мноствам масіўных чыгунных урнаў, куды студэнты зносілі недаедкі.

Але каты сыходзіліся каля якой-небудзь адной урны на другім ці трэцім паверсе, біліся і наладжвалі такія дзікія канцэрты, ад якіх прачынаўся ўвесь інтэрнат. Катоў разганялі, але праз гадзіну яны зноў сыходзіліся і пачыналі лямантаваць.

Але Несцяровіч з маладой жонкай займалі вуглавы пакойчык, і не ўсе гукі чатырохпавярховага інтэрната да іх далятали.

Несцяровіч па начах піша, бо днём не мае часу. Ён усё-такі цягне дзве нагрузкі: праца ў рэдакцыйным аддзеле і выкладанне ва ўніверсітэце. Часопісу ён аддае нават больш увагі, чым лекцыям.

«Юнацкі свет» друкуе першыя апавяданні Несцяровіча. Іх даволі хутка заўважаюць. У літаратурнай газеце нават з'яўляецца рэцэнзія, прысвечаная творам маладога, невядомага пісьменніка.

Час першай цаліны. У далёкі казахстанскі стэп адбываюць з гарадоў эшалоны маладых і не вельмі маладых заваёўнікаў неасвоеных мясцін. У паветры носіцца штосьці новае, незнаёмае. Нібы подых нязнанай раней свабоды. Дваццаты з'езд з дакладам Мікіты Хрушчова аб кульце асобы Сталіна ўражвае, узрушвае Несцяровіча да глыбіні душы. Асабіста яго культ асобы не закрануў. Хіба толькі нашкодзіў атмасферай падазронасці. Іхнюю падпольную групу, баявую, з канкрэтнымі вынікамі, якія лёгка праверыць, да гэтага часу афіцыйна не прызналі.

Але ў памяці ўсё ўсплыло: трыццаць сёмы год, калі з іхняга канца вуліцы бясследна знікла чатыры ці пяць чалавек; арышты чыгуначнікаў, пераважна палякаў, якія прыехалі на станцыю яшчэ ў першую вайну пасля заняцця немцамі Баранавіч; бессэнсоўнае раскулачванне, калі непісьменнага, заскарузлага Пятра Сколіча, які хадзіў у дзіравых шарачковых портках, свяціў праз дзіркі задам, затое быў страшэнна працавіты і ў запасе меў некалькі высокіх дубовых бочак збожжа, разам з жонкай і глухой сястрой пасадзілі ў вагон і звезлі невядома куды. Пятро быў родны брат бабкі Аўгінні, і яе праклёны сельсаветчыкам прайшлі праз усё дзяцінства Несцяровіча.

Не было павагі да асобы, да канкрэтнага чалавека — іменна гэта зразумеў Несцяровіч пасля закрытага прачытання пісьма на сходзе камуністаў універсітэта, і ад гэтага найбольш пакутавала душа. Чалавека маглі зняважыць, арыштаваць і нават расстраляць за нішто. Такое яшчэ неяк можна апраўдаць у гады рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, але ніякім чынам у мірны час.

Якраз тады Несцяровіч пачаў пісаць. Пісаў праўду: пра самаахвярнасць сяброў-таварышаў, якія добраахвотна ўдзельнічалі ў падполлі, ішлі ў партызаны, на фронт. Іх ніхто не арганізоўваў, не даваў заданняў, яны, калі гаварыць высокімі словамі, па ўласнай волі рызыкавалі сваімі жыццямі і нават жыццямі родных, блізкіх. Гэта былі нявыдуманыя гісторыі, але яны, як і ўсё ў літаратуры, узнікалі на хвалі натхнення, вымыслу і домыслу.

Несцяровіч актыўна абураўся парадкамі, заснаванымі на панаванні культу асобы. За тым, што гаварыў, не сачыў. Выказваўся шчыра, адкрыта, часам нават гнеўна. А ў рэдакцыі, аказваецца, былі розныя людзі. Нават такія, што слухалі і запаміналі, перадавалі тое, што ён гаварыў, куды трэба. Прытым, відаць, у пісьмовым выглядзе, магчыма, з уласнымі дабаўкамі і перабольшваннямі.

Вынік не прымусіў чакаць. У мястэчку, дзе Несцяровіч нарадзіўся і дзе жыў у пасляваенныя гады, працуючы карэспандэнтам абласной газеты, брындала па вуліцах звольненая з настаўніцкай пасады пані Кульбацкая. Пра яе было вядома, што ў час акупацыі пісала даносы на савецкіх актывістаў, падпольшчыкаў, якіх немцы арыштоўвалі і нават расстрэльвалі.

І вось слаўныя работнікі нябачнага фронту не знайшлі нічога лепшага, як даручыць Кульбацкай выліць на Несцяровіча вядро бруду. Што яна напісала, Несцяровіч не ведае, але па абрыўках размоў, якія пачуў ад правяраючых, там было несусветнае глупства. Ходу справе не далі.

Хоць свабода не спяшалася паўсюдна запанаваць, а ўжо такім, як Кульбацкая, разгарнення не было.

## III

Доўга насіў Несцяровіч боль, узрушанасць, трывогу ад таго, што пачуў пра Сталіна.

Нейкую ролю ў яго прасвятленні адыграў Ямпольскі, з якім Несцяровіч гады два-тры жыў у інтэрнацкім пакоі. Ямпольскі якраз на асуджэнні культу асобы цяпер рабіў кар’еру. Выкладчыка з яго не атрымалася. Ён перайшоў у акадэмічны інстытут, сыпаў артыкуламі ў газетах, у тоўстых часопісах, пра якія Несцяровіч нават не марыў, граміў пісьменнікаў за ідэалізацыю жыцця, лакіроўку, заклікаў рашуча выяўляць супярэчнасці ў грамадстве.

Тым часам Несцяровіч ведаў ранейшыя намеры Ямпольскага. Аднойчы ў таго вырвалася: «Буду змагацца за чысціню партыйнай лініі ў літаратуры». Ідэямі змагання была прасякнута кандыдацкая дысертацыя Ямпольскага. Ён шчыра паверыў, што такія пісьменнікі, як Язэп Пушча, Уладзімір Дубоўка, Адам Бабарэка, былі ворагамі савецкай улады, скрыўлялі партыйную лінію ў літаратуры. Прозвішчы іх ён пісаў з малой літары.

Але вось арыштаваных пісьменнікаў пачалі рэабілітаваць. З далёкай высылкі вярнуліся Пушча і Дубоўка.

Ямпольскі між тым рыхтуе дысертацыю да выдання. З незвычайнай лёгкасцю ён мяняе мінус на плюс. Цяпер учарашнія ворагі ў ягонай кнізе паўстаюць як героі, барацьбіты-пакутнікі. І зусім не трывожыць Ямпольскага, што ў дысертацыі інакш пра іх напісана, што нехта, калі захоча, можа прачытаць гэтую дысертацыю.

Яшчэ са студэнцкіх гадоў — як выскаляюцца ўніверсітэцкія вастрасловы — Ямпольскі піша «раман». Свой «раман» студэнт, затым аспірант, нарэшце, навуковы супрацоўнік Ямпольскі ахоўвае аж залішне пільна. Рукапіс з трыма ці нават чатырма папкамі-варыянтамі «романа» ён трымае ў ёмістым чамадане, які аддае каменданту інтэрната на схоў. Калі едзе дамоў, у слуцкую вёску, бярэ чамадан з сабой.

Несцяровіч пасля прачытання таго рамана не выказаў захаплення, і з-за гэтага ягоная дружба з Ямпольскім пайшла на спад. Тым часам, дзякуючы Ямпольскаму, ён зразумеў, што

мае ўласны матэрыял для твора, можа, нават багацейшы, чым у Ямпольскага. Бо быў у сапраўдным падполлі, у партызанах, апошнія два гады — на фронце.

На першым часе Ямпольскі яшчэ завітвае ў інтэрнат, дзе асталяваўся Несцяровіч з Галяй. Але ў далейшым прыходзіць радзей і радзей.

Несцяровіч, вядома, зрабіў памылку. Не трэба было ганіць раман таварыша. Другія пісьменнікі, якія яго чыталі, рабілі інакш. Нешта хвалілі, нешта трохі крытыкавалі. Бо самалюбівы народ пісьменнікі. І Ямпольскі не выключэнне.

За свой промах Несцяровіч атрымаў па заслугах. Нідзе ніколі не мільганула ў крытычных аглядах Ямпольскага прозвішча нядаўняга сябра. Як бы не жылі разам, не спрачаліся, не сядзелі ў застоллях. Вось так. Вучыся, браце, жыць.

Добра Несцяровічу з Галінай. Лепшай жонкі не трэба. Яна, намеснік дырэктара буйнога магазіна, устае на золку, калі студэнты яшчэ спяць. На агульнай кухні гатуе сняданні, абеды. І гатаваць умее.

Магла б лепш апранацца жонка кандыдата навук, а ў хуткім часе і дацэнта. А яна ходзіць у адной і той жа зялёнай сукенцы, якую, відаць, пашыла яшчэ ў студэнцкія гады. І туфлі не надта добрыя ў яе. Са стаптанымі абцасамі.

Ледзьве не кожную ноч Несцяровіч працуе над сваімі творамі. За адно толькі лаецца Галя: курыць папяросу за папяросай, і ў маленькім пакоіку столькі дыму, што немагчыма спаць. Аляксандр Іванавіч расчыняе дзверы: пакой бакавы, і ніхто ў гэтую частку калідора не завітвае.

Мінаюць гады. Выходзяць кнігі: адна, другая, трэцяя. Нават нейкае імя ўжо мае Несцяровіч. І вось нарэшце раман.

Паабяцаў аўтар часопісу апавяданне. Два разы прыязджаў сюды, у Сосны, і ніяк яго не мог закончыць.

Цяпер ужо гутарка ідзе пра аповесць. Але і аповесць не можа змясціць матэрыялу, які сядзіць у душы і патрабуе выйсця. Несцяровіч піша пра сваё юнацтва, горкае, абпаленае вайной, але незабыўнае і дарагое. Яны, местачковыя хлопцы, учарашнія школьнікі, стварылі баявую групу. Не толькі слухалі радыё, друкавалі лістоўкі, а і зброю збіралі, чынілі

сякія-такія дыверсіі. Самі, без ніякай прынукі. Агромністая трывога за радзіму, яе лёс панавала ў душах, дыктавала ўчынкі, прымушала забыць пра ўсё астатняе.

Не ў кожнага пакалення бывае такі зорны час. А вось на долю гэтага выпаў. І трэба было быць вартымі гэтага вялікага часу, не хаваць галаву як страус у пясок.

Тут Несцяровічу якраз і памог Ямпольскі. Бо і ён пісаў пра акупацыю. Раней, седзячы над апавяданнямі, малады творца нават не думаў, што з матэрыялу, якім валодае, можа атрымацца раман. І ў архівы ён не заглядваў. Хапіла таго, што добра ведаў сам.

Раман убачыў свет хутка. Выйшаў асобнай кнігай адразу пасля надрукавання ў часопісе.

Старэйшыя пісьменнікі, адзначаючы юбілеі, сталі запрашаць Несцяровіча разам з Галяй. У нейкай ступені гэта было прызнаннем ягоных творчых магчымасцей.

Доўга, пакутліва ішла барацьба за кватэру, бо Галя зацяжарыла.

Яны маглі даўно мець дзяцей, але то адчайна сварыліся, не ведаючы, ці сыдуцца, пажэняцца, то проста не было дзе жыць. У інтэрнаце дзіцячыя манаткі не сушаць. Дый не хацеў Несцяровіч жаніцца з прычыны таго, што дама сэрца цяжарная. Адзін раз такое высакародства ён праявіў. А цяпер толкам не ведае нават, ці з'яўляецца бацькам сыну, на ўтрыманне якога вылічваюць ледзь не палавіну заробку. Яго першая каханая, як здаецца Несцяровічу, таксама не ведае гэтага, бо ад аднаго да другога пырхала як матылёк з кветкі на кветку, нібыта не здагадваючыся, што ад такіх залётаў-пералётаў бываюць дзеці.

Несцяровічу прыйшлося прысутнічаць на невялікім баляванні, якое арганізавалі работнікі ГУМа. У зальчыку-бакоўцы магазіна, дзе, відаць, праводзіліся нарады, сабралася народу няшмат: не больш дваццаці ці трыццаці чалавек. Толькі загадчыкі аддзелаў і іншае начальства.

Прычыны балявання Несцяровіч не ведаў. Нарэшце ён высветліў, што гасцей сабрала адна з намесніц дырэктара — паўнацелая, з фарбаванымі, узбітымі, як стог, валасамі, напарфумленая да немагчымасці матрона гадоў пад сорак. Яе

жаніх, даволі відны круглатвары бландзін з бакамі, вусікамі і прыкметнай плешынай у рэдкаватых валасах, таксама даўно развітаўся з часам квітнеючай маладосці.

Галя з гэтай кампаніі выбіваецца. Яна і тут бойкая, жывая, сыпле жартамі, у той час як астатняя публіка па-чыноўніцку строгая, маўклівая, прамаўляе панылыя, аднастайныя тосты. Госці сядзяць нібы аршын праглынуўшы.

«Што яднае двух гэтых людзей?» — думае Несцяровіч, гледзячы на жаніха, банкаўскага работніка, чымсьці падобнага на сытага, лянівага ката, і на нявесту, якая, як яму падаецца, усё зведала, перапрабавала, перасмакавала і выходзіць замуж толькі дзеля таго, што ў яе гады заставацца незамужняй не прэстыжна.

Несцяровіч не вытрымлівае і, паколькі нявеста сядзіць блізка ад яго, задае ёй не зусім далікатнае пытанне:

— Што калі муж акажацца раўнівы? Вы на рабоце да ночы. Раптам хто-небудзь захоча вас правесці?

— Ну і што? Няўжо муж думае: пастаўлю яго фотакартку, стану на калені і буду на яе маліцца...

Несцяровіч адчувае, што немаладыя муж і жонка будуць жыць так, як жылі дагэтуль,— як хто хоча. Шлюб для бачнасці...

У кампаніі сядзяць два дацэнты і нават адзін прафесар. Эліта гандлёвая як бы зліваецца з элітай навуковай. Несцяровіч ведае, што дырэктар магазіна мэблі піша дысертацыю. Яго работай кіруе доктар навук. Сумнення няма, дырэктар магазіна атрымае вучоную ступень: мадэрнавая мэбля цяпер у цане.

Несцяровіч даўно выношвае думку: трэба як хутчэй вырваць Галю з асяроддзя хціўцаў і гандляроў.

Цяпер у Несцяровіча два малайцы, якія бадзёра дыбаюць па даволі прасторнай плошчы яго двухпакаёўкі. З першым хлопцам ледзь не тры гады малады дацэнт і трохі вядомы пісьменнік разам з жонкай пражылі ў «вагоне з тамбурам» — так Несцяровіч назваў кватэру-палутарку, якую яму выдзелілі пасля інтэрната.

Цяперашняя кватэра ніштаватая, але вельмі шумная, бо вокнамі выходзіць на праспект. Гэты шум трохі сціхае пасля поўначы, а на золку ўсчынаецца зноў.

Трэба думаць пра лепшую кватэру. Тым больш што будзе яшчэ адно дзіцё.

Несцяровіч не памыліўся, ажаніўшыся з Галяй. Гаспадарку яна цалкам узяла на сябе. Ноччу ўставала да дзяцей, даючы яму магчымасць выспацца. Так яны і жылі.

Яшчэ ў інтэрнацкі пакоік валам валілі Несцяровічавы землякі. Гэта былі пераважна раённыя службоўцы, што прабіліся ў партыйную школу.

Выйшаўшы з інтэрната, пасяліўшыся на першай кватэры, у «вагоне з тамбурам», Несцяровіч з Галяй наладзілі, можна сказаць, княжацкае застолле. У два прыёмы. За адзін дзень усіх гасцей прыняць не маглі: не дазваляла плошча. Два вечары і дзве ночы гудзела невялікая кватэрка ўзбуджанымі галасамі, песнямі.

Пачастунак Галя гатавала сама. Несцяровічу яна не дазволіла нават посуд вымыць.

Праз тыдзень рэдакцыйны фатограф Аляксандр Мендэль атрымлівае кватэру. Несцяровічаў, у якіх ён банкетаваў аж два дні, на сваё наваселле не запрашае.

Ланцужок няўдзячнасці цягнецца далей. Толькі невялікая частка гасцей, пераважна выкладчыкі ўніверсітэта, адплацілі ўзаемнасцю, пазвалі Несцяровіча і Галю да сябе.

З землякамі Аляксандра Іванавіча наогул атрымалася смешна. Калі Галя з мужам прыехалі ў мястэчка, да бацькоў Несцяровіча, то адзін з найбольш частых наведвальнікаў іхняй кватэры, убачыўшы іх на станцыі, кінуўся наўцёкі. Зрабіў выгляд, што іх не ўбачыў. Астатнія аказаліся больш высакароднымі. Да сябе, аднак, не запрасілі. Са сваёй паўлітрай прыйшлі да бацькоў Несцяровіча. На гатовую, так сказаць, закуску.

Пасля нараджэння трэцяга дзіцяці, дзяўчынкі, Несцяровіч нарэшце дамогся, што Галя пакінула ГУМ. Але заставацца без работы яна не хацела. Федзя Чашчавік, які да таго часу стаў дэканам у наргасе, прыняў яе на выкладчыцкую работу. Галя ўзялася здаваць экзамены кандыдацкага мінімуму. Ёй нават тэму дысертацыі зацвердзілі.

Яна гарэла энергіяй, бадзёрасцю. Жыла, радуючыся жыццю. Даглядаць дзяцей узялася адна з родных цётак Галі,

кволенькая, ціхая, ветлівая. Дзеці яе любілі, і яна з імі добра ладзіла.

Аляксандра Іванавіча жонка аж залішне шанавала. Калі ён, стомлены, прыходзіў з лекцый (здаралася, па чатыры і нават па шэсць гадзін на дзень), яго чакаў не толькі добры абед, але і чарка гарэлкі. Паўлітэрак Галя не купляла — чацвяртушкі. Бутэлечкі хапала на тры дні.

## IV

Тым часам у «Юнацкім свеце» ўзнікае непрыемная справа. Рэдактар Гулікоўскі напісаў аповесць «Краснасельцы». Несцяровіч да таго часу стаў рэдактарам аддзела прозы. Вядома, не ён вырашаў пытанне пра друкаванне таго ці іншага твора. Выносіў толькі прапанову.

Прачытаўшы аповесць, ён адчуў трывогу і, не таячыся, выказаў яе галоўнаму рэдактару. Астатнія супрацоўнікі таксама занепакоіліся. Аповесць для «Юнацкага свету» (да таго часу ён стаў тоўстым часопісам) была небяспечная. У ёй аўтар намаляваў сапраўднага самадура, які кіраваў калгасам, і вельмі нярадаснае жыццё калгаснікаў.

Рэдакцыя думала, гадала, што рабіць. Змякчыць факты — сапсаваць твор. Параілі аўтару напісаць прадмову, у якой дэпутат Вярхоўнага Савета пачынаў размову, завяршаючы яе тым, што вінаватыя зняты з работы і нават аддадзены пад суд.

Але і дэпутат не дапамог.

Работнікаў ЦК камсамола, якія таксама кіравалі часопісам (ён быў і органам Саюза пісьменнікаў), Гулікоўскі называў мяшчанамі. І вось гэтыя «мяшчане» заварушыліся, як мурашкі. Асудзілі аповесць на сваім бюро і перадалі на бюро ЦК партыі.

Тым часам аповесць перадрукаваў зарубежны часопіс. Лёс Гулікоўскага быў вырашаны: зняць з пасады.

Несцяровіч сам звольніўся з рэдакцыі, бо пабольшала спраў ва ўніверсітэце. Ды і для пісання трэба час.

Увогуле, нялёгкае жыццё выкладчыка. Цяжка не лекцыі чытаць. Калі добра падрыхтуешся, асвоіш матэрыял, то стаяць за кафедрай прыемна. Бачыш перад сабой удзячныя

твары студэнтаў і выходзіш з аўдыторыі з пачуццём выкананага абавязку. І яшчэ з пачуццём свабоды. Няхай сабе да наступнай лекцыі, якая будзе паслязаўтра ці нават заўтра.

І ўсё адно: чытанне лекцый — як прыгон. Выкладчык звязаны імі па руках і нагах. Бо калі лекцыя заўтра, то прыйшоўшы дамоў, паабедаўшы, пачынаеш пра яе думаць. І так месяц за месяцам, год за годам.

Гэта нібы ланцугі на нагах.

Надыходзіць і бласлаўлёная часіна — канікулы ці вось такія, як цяпер, фортачкі ў час экзаменацыйных сесій. Вырывайся ў Дом творчасці і пішы. Можна гадзіну, нават дзве пахадзіць па лесе, паразмаўляць з іншымі творцамі, адцягваючы час, калі трэба садзіцца за стол.

Аляксандр Іванавіч і дамоў звоніць. Бывае, па два разы на дзень. Відаць, гэта таксама падсвядомае адцягванне часу. Бо пісанне — пакута. Самая цяжкая работа, якая ёсць на свеце. Вядома, здараюцца выпадкі, калі пішацца лёгка, натхнёна. За адну ноч можа нарадзіцца апавяданне. Але такія ўзлёты духу бываюць рэдка. Галоўнае — праца. Сядзі, прымушай сябе жыць у часе, пра які пішаш, улазь у скуру герояў, у іхнія душы, выяўляй іх імкненні, жаданні. Пісьменнік — той жа артыст. Але своеасаблівы. Бо нават у невялікім апавяданні вымушаны іграць некалькі роляў. І не так проста даецца слова. Калі садзішся за стол, ёсць толькі агульнае адчуванне таго, пра што трэба пісаць. Ніякага плана няма. Калі і ёсць, то ён заўсёды сарвецца.

Нават газетныя нарысы Несцяровіч пісаў пакутліва. Паедзеш куды-небудзь, пагутарыш з людзьмі, назбіраеш процьму фактаў. Што рабіць з гэтымі фактамі?

Творчы працэс пачынаецца як бы па-за межамі свядомасці. Магчыма, у патаемных глыбінях душы нараджаецца патрэбная музыка, вымалёўваецца галоўная ніць апавядання. Так-так: пісанне пачынаецца з настрою, з музыкі. Яна — галоўнае. Але як пакутліва, марудна яна нараджаецца.

Несцяровіч нават у натхнёныя часы выдыхаецца за трычатыры гадзіны. Ён пасля ўпартага і тым больш удалага пісання нібы выціснуты лімон. Ён стомлены, шчаслівы і пусты.

Іншы раз Галя напісанае хваліць або ганіць. Галоўнае, што яна дае яму магчымасць пісаць, беручы бытавы клопат на сябе. З вядомых слоў паэта «не продаётся вдохновенье, но можно рукопись продать» яна найлепей разумее апошнія словы, хоць сама, перайшоўшы на выкладчыцкую работу, чытае лекцыі — па ўсім відаць, добра,— і ведае, што такое натхненне, бо сама трохі артыстка, і ў нудны курс нейкага там бухгалтарскага ўліку здольная ўнесці элемент займальнасці. Студэнты наргаса хваляць яе лекцыі.

Але Несцяровіч не толькі пісьменнік. Ён літаратуразнавец, выкладчык, і часам ловіць сябе на думцы, што сучаснае літаратуразнаўства мае вялікую хібу. Яно пераважна цікавіцца тым, што стварыў пісьменнік, тэмамі і праблемамі, стылем твораў, але зусім абмінае асабістае жыццё творцы. Вядома, калі гутарка заходзіць пра Аляксандра Пушкіна альбо Льва Талстога, тут акалічнасці асабістага жыцця вялікіх мастакоў навідавоку. Але не толькі Талстым і Пушкіным створана літаратура. За ёй сотні «добрых і розных пісьменнікаў», пра якіх, апрача іхніх твораў, шырокі чытач ведае вельмі мала.

Дый беларуская літаратура ў асаблівым становішчы. Многія яе лічаць другараднай. Мала таго, што ў Мінску ніхто, апрача пісьменнікаў ды невялікай кучкі закаранелых беларусаў-настаўнікаў, па-беларуску не гаворыць, дык у школе нават беларускую літаратуру пачынаюць выкладаць па-руску.

Чаму так адбываецца? Недаспелая, не сфармаваная цалкам нацыя? І гэта ёсць. Несцяровіч памятае: ягонаму бацьку, стрэлачніку, было ўсё роўна — беларус ён ці не беларус. Размаўляў на «трасянцы», якая ў аснове сваёй была беларускай гаворкай, і цвёрда лічыў, што беларуская мова не патрэбна. Маўляў, і руская зразумелая. Дык навошта выдумляць яшчэ нешта?

Увогуле гісторыя пакрыўдзіла беларусаў. І моцна. Яшчэ ў сярэднявеччы яны мелі дзяржаву, няхай сабе пад чужой каронай. Але не адны яны былі такімі. Гэта было тыпова для сярэдніх вякоў. Францыю стварыла германскае племя франкаў, Іспанію — готы, таксама германцы. След германскага панавання прагледжваецца ў назвах французскай Андалузіі —

тут засяродзілася нямецкае рабаўнічае племя вандалаў, у паўночнай частцы Італіі — Ламбардыі, дзе панавалі ў сярэднявеччы нямецкія заваёўнікі лангабарды, якія, мабыць, насілі доўгія бароды. Што з гэтага? Чужаземны элемент застаўся толькі ў назве. Беларусь, да прыкладу, яшчэ ў XIX стагоддзі называлі Літвой.

Дзве вялікія славянскія дзяржавы сціскалі Беларусь з двух бакоў, не жадаючы прызнаваць яе самастойнасць. Вядома, дрыгавічы, крывічы, радзімічы, якія склалі ў далейшым касцяк беларускай нацыі,— усходнія славяне. Яны бліжэй да рускіх, украінцаў, чым да палякаў і чэхаў. Але стагоддзі самастойнага існавання беларусаў нарадзілі своеасаблівы народны дух, норавы, мову, няхай сабе блізкую да рускай ці ўкраінскай, але ў корані самабытную сваёй музыкай, поглядам беларуса на свет, яго філасофіяй. Так-так, усё гэта ёсць у мове. Бракавала сялянскай беларускай нацыі толькі ўласнай інтэлігенцыі. Але рускія дваране, гэтак жа як эліта іншых краін, таксама пагарджалі роднай мовай. Іншая справа, што лепшыя людзі з пануючага класа павярнуліся да родных каранёў яшчэ два-тры стагоддзі назад.

Несцяровічу падаецца, што ў глыбіні душы ягоная Галіна таксама не дужа цэніць занятак мужа. Па той жа прычыне, што і астатнія. Хоць, з другога боку, жанчына — тайна. Нават некаторыя жонкі геніяльных людзей не падзялялі думак сваіх мужоў, адстойвалі ўласную самастойнасць, незалежнасць. Можа, таму, што адчувалі: жыццё даецца адзін раз, і пражыць яго трэба так, як патрабуе душа.

## V

Відаць, ніколі не забудзе Несцяровіч праклятую віхурную ноч, калі ў яго нарадзіліся думкі аб здрадзе Галіны. Ён тлумачыць гэта цяпер выключнай стомленасцю, спустошанасцю душы пасля напісання рамана і падручніка.

Ён у тую ноч заснуў толькі пад раніцу. Чуў, як аціхае віхура, не так глуха ўздыхае лес, не так шалёна свішча вецер.

Бура парушыла сувязь, і ў горад дазваніцца немагчыма.

Пасля бяссоннай ночы сядзець за сталом Несцяровіч не можа. Ён вандруе па занесеных сцежках, правальваецца ў снег, пракладваючы першы след.

Лес у яркім белым убранні. Сосны, елкі нібы ў карункавых сукенках. Але і заплаціў лес за снежную прыгажосць вялікую цану. Шмат танкастволых хвоек пераламала папалам, некаторыя вывернуты з коранем. Паваленая сасна нават дарогу да сталовай перагарадзіла.

На ўскраіне лесу, сярод якога размешчаны Дом творчасці, стаіць адзінокі хутарэц: звычайная, крытая дранкай хата, з саламяным дахам скасабочаны хлевушок і яшчэ адна ахутаная снегам будыніна, відаць, паграбец.

Хутарэц належыць Івану Валавіку, высокаму, танкляваму мужчыну гадоў пад пяцьдзясят, у якога кватаруе сястра-гаспадыня Дома творчасці Мар'я Іванаўна, яшчэ маладая ладная кабета, ветлівая і абыходлівая.

Якую ролю ў жыцці Дома творчасці адыгрывае сам Іван, Несцяровіч не ведае. Можа, ён лічыцца вартаўніком, можа, за ім запісаны якія-небудзь іншыя абавязкі. Бо нямала людзей, нават маладых хлопцаў, дзяўчат, туляцца каля пісьменніцкага дома. Сярод лесу, паблізу Дома, стаіць звычайная хаціна, у якой жывуць дзяўчаты, якія працуюць прыбіральшчыцамі, абслугоўваюць кухню. Маладыя хлопцы, якія колюць дровы, відаць, прыходзяць з вёскі.

Пра адну ролю Івана Валавіка Несцяровіч здагадваецца. Цісне хутаранін паціху самагоначку. Але збывае яе асабліва давераным пісьменнікам, у лік якіх Несцяровіч не ўваходзіць.

За Іванавай хатай, каля самай шашы, абсаджанай прысадамі, чыстае поле. Быў тут, на ўзмежку з лесам, зарослы верасам дубняк, у якім нават раннія баравікі пракідваліся. Але дубкі выкарчавалі, і верас знік сам сабой.

Прыкладна за вярсту адсюль — невялікі пасёлак, забудаваны трохі абадранымі глінабітнымі дамкамі. Відаць, там жыве нейкае кіраўніцтва (зямля навакол саўгасная), бо часта па адзінай скразной вуліцы пракочваюцца легкавыя машыны.

Прыемна брысці, няхай сабе правальваючыся ў снег, ускрайкам лесу. Несцяровіч не першы сюды завітаў. Вось ужо і заяц паспеў праскакаць, пятляючы, маскіруючы пакручастыя

скокі. І яшчэ ёсць след, які Несцяровіч не можа разгадаць. Можа, воўк бег, можа, хітрая лісіца.

Зімовы лес, асабліва сасновы, не багаты птушкамі. Але дзесьці паблізу дзюбае дзяцел, дабіраючыся на вяршаліне старадрэвіны да схаваных у яе стрыжані лічынак і чарвякоў.

Дзіўна стварыла прырода. Дзяцел тукае жалезным носам і летам, калі жучкоў, чарвячкоў, увогуле розных насякомых, у лесе аж занадта, і іх не трэба даставаць з-пад кары дрэва. Але Бог вызначыў: кожнаму сваё.

Стала прывычнай завядзёнкай, што перш, чым сесці за стол, Несцяровіч блукае па лесе. Ён у такія хвіліны любіць адзіноту. Проста глядзіць на лес, на дрэвы, на зямлю, думаючы аб усім, што ў гэтыя хвіліны набяжыць на душу.

Назаўтра сувязь з Мінскам аднаўляецца, і Несцяровіч размаўляе па тэлефоне з Галяй. У ягоным голасе яна адчувае нейкую трывогу, бо гадзіны праз дзве сама з’яўляецца ў Доме творчасці. Вясёлая, ажыўленая, бадзёрая. Гэта якраз не падабаецца Несцяровічу. Чаму яна так весяліцца, калі ў яго панылы і нават хваравіта-адчайны настрой? Ёсць жа нейкая прычына, што ў яе адкрылася нібы другое дыханне?

Галя яго супакойвае. Яна ў ім не расчаравана, не выстаўляе прэтэнзій, не дакарае за якія-небудзь грахі. Ён праводзіць жонку да шашы, па якой ходзяць аўтобусы на Мінск, садзіць у аўтобус. Свет адноўлены.

Але душу Несцяровіча па-ранейшаму точыць чарвячок недаверлівасці. Ён, аднак, ведае, што нічым сабе не дапаможа. Вузел пытанняў, якія яго хвалююць, развяжа толькі час. Трэба адно: цярпець. Ён яшчэ не круглы ідыёт і дапускае, што прычына ў ім самім. Хутчэй за ўсё, ён вельмі стаміўся. На лекцыі, семінары, якіх у яго заўсёды было многа, наклаліся клопаты па выданні рамана і падручніка.

Падручнік для апошняга выдання Несцяровіч з калегамі перарабілі грунтоўна. За яго яны нават прэмію атрымалі, аб чым паведамлялася ў газетах.

Так ці інакш, а ў яго яўны ўпадак сіл. Да такога стану душы можа якая хочаш д’ябальшчына падключыцца.

Акрамя таго, падсвядома Несцяровіч адчуваў, што не народжаны апісваць вайну. Куды ахвотней ён пісаў бы пра звы-

чайнае жыццё, пра каханне, пра лес, поле, імкненні палымянага юнацтва. Тым часам юнацтва ў яго не было, яго ахінула чорным крылом вайна. Ён ведае акупацыю з яе патайной партызанскай барацьбой, фронт таксама ведае, бо апошнія два ваенныя гады прабыў на фронце.

Пішаш пра тое, што ведаеш. Бо немагчыма выдумаць пачуцці, настрой часу, у які адбываюцца падзеі. Дзіўна: пабачыўшы руйнаванне, кроў, смерць, Несцяровіч захаваў цвярозы погляд на жыццё, нават гумар. Відаць, гэта ідзе ад асяроддзя, у якім ён жыве. Людзі, якіх ён ведае, рэалісты па светаўспрыманні, але ў той жа час вясёлыя і гуллівыя.

Прыехаў Піліп Жарстак, ужо немалады пісьменнік, паэт і празаік. Ён, паходзячы з Заходняй Беларусі, адзінаццаць гадоў прасядзеў у турмах панскай Польшчы. І не зламаўся, не страціў бадзёрасці духу, вясёлага гумару. Праўда, нейкая хібіна ў ягоным поглядзе на свет ёсць. На людзей, асабліва тых, што выраслі ў Заходняй Беларусі, ён глядзіць выключна праз акуляры класавай барацьбы. Калі чалавек меў хутар ці гектараў трыццаць-сорак зямлі, то ў вачах Жарстака ён быў эксплуататарам і фашыстам.

Рагоча Жарстак гучна, раскаціста: «Го-го-го». Ягоны круглы твар з чорнымі вачамі-свярдзёлкамі, вялікім наздраватым носам цалкам выдае пачуцці, якія валодаюць ягонай душой.

Калі Жарстак быў гадоў на дзесяць-пятнаццаць маладзейшы, то тут жа, у Доме творчасці, здарылася з ім даволі рамантычная гісторыя. Афіцыянткай у сталовай працавала маладая асоба, якая неяк вельмі хутка зачаравала пісьменніка. Жыла яна ў лясным дамку. І вось у час вясновага росквіту ў дамок стаў завітваць Жарстак. У новым касцюме, пры гальштуку, з гітарай у руках. Ён хораша іграў, спяваў дарэвалюцыйныя рамансы. Вынікам заляцанняў немаладога пісьменніка сталася тое, што маладая асоба ў хуткім часе прызналася: чакае дзіця.

— Нараджай! — выгуквае Жарстак.— Будзем выхоўваць.

Уласныя ягоныя дзеці амаль што дарослыя.

Дзіця нарадзілася, Жарстак штомесячна прысылаў грошы, а калі хлопчыку споўнілася гады тры-чатыры, стала ясна, што не пажылы пісьменнік ягоны бацька. Як дзве кроплі вады хлапчанё падобна да ўвішнага, шустрага шафёра, які

працаваў у Доме творчасці і, убачыўшы гэта, знік у невядомым напрамку.

Жарстак любіць пасядзець за чаркай, пабалагурыць, пасмяяцца. Рыхтуецца да гэтага, як да нейкага свяшчэннадзеяння. Не толькі адну-дзве паўлітэркі прывозіць, але і некалькі цыбулін, алею, воцату, каб прыправіць селядзец. Тым часам не ўсіх да сябе запрашае. Найбольш любіць пагаварыць адзін на адзін, без лішніх сведкаў.

Такіх, з кім любіць Жарстак пасядзець за сталом, усяго чалавек пяць. У іх ліку Несцяровіч.

Гадоў дваццаць назад Несцяровіч, калі быў яшчэ маладым хлопцам і працаваў у мазырскай абласной газеце, напісаў рэцэнзію на аповесць Жарстака «Пачатак». Ён не ведаў пісьменніка і назваў яго маладым. Жарстак не пакрыўдзіўся. Ён не быў закалыханы славай і, відаць, дзякаваў кожнаму, хто гаварыў пра яго добрае слова.

Стаўшы выкладчыкам універсітэта, складаючы па даручэнні кафедры праграму па беларускай літаратуры, Несцяровіч у раздзел па савецкай літаратуры, якую сам чытаў студэнтам, увёў творчасць Жарстака. Бо хіба ёсць другі, настолькі адданы ідэям рэвалюцыі, пісьменнік? Як творца Жарстак асаблівых вышынь не адолеў. Тым не меней і вершы ягоныя, і проза мастацкую вартасць маюць. Няхай сабе яны сярэдняга ўзроўню.

Несцяровіч пераканаўся, што Жарстак вялікі ідэаліст. Нядаўняй восенню ён зайшоў да суседа па кватэры, вядомага празаіка Івана Шацілы. Там сядзеў Жарстак. Несцяровіч як раз прынёс навіну пра зняцце з пасады Мікіты Хрушчова.

— Пайшоў у адстаўку, небарака,— першы падаў голас Жарстак.— Дзяржаўны воз нялёгка везці. Чалавек новага тыпу. За ўладу трымацца не будзе...

З гэтымі словамі і Шаціла пагадзіўся. Яны ўдваіх чакалі, што скажа Несцяровіч. Ён назваў іх летуценнікамі. Яшчэ не ведаючы падрабязнасцей ходу Пленума ЦК КПСС, Несцяровіч адчуваў: Хрушчоў не сам адмовіўся ад пасады — знялі. Бо справа наперад не ішла. Бясконцыя, даволі пуставатыя прамовы, кукуруза, якая сілай навязвалася, словы пра сучаснае

пакаленне, якое будзе жыць пры камунізме,— усё гэта вельмі пахла дэмагогіяй.

Назаўтра стала ясна: Хрушчова сапраўды знялі. Нават з трэскам. Перавярнулася яшчэ адна старонка стракатай, супярэчлівай, імклівай як вецер, савецкай гісторыі.

## VI

Жыццё ўвайшло ў ранейшую каляіну. І ўсё ж сумненні ў душы Несцяровіча ёсць. Ён ужо не адчувае, што ў яго надзейны, жалезны тыл.

Пасля здрады Ізольды ім валодала пачуццё абразы, зняважанага мужчынскага гонару. Ізольдай ён даўно перахварэў. Даказаў сабе самому, што не варта пакутаваць з-за легкадумнай, самазакаханай верціхвосткі.

Несцяровіч перад першай жаніцьбай меў пэўныя сумненні наконт Ізольды. Але ў душы жылі рыцарскія пачуцці. Дзяўчына сказала, што цяжарная, і ён без ваганняў з ёй распісаўся. Нават з бацькамі не параіўся. А сын, вельмі магчыма, не яго. Не падобны на Несцяровіча ні тварам, ні постаццю. Нізкарослы, нявідны. Ды і каляндарныя даты — яны самі сабой запалі ў памяць — не сыходзяцца. Паводле іх, Ізольда павінна была нарадзіць дзіцё ў студзені. Нарадзіла ў снежні. У метрыках, аднак, запісала нараджэнне хлопчыка студзенем. Маўляў, каб не прыбаўляць сыну лішняга года.

За многія гады пасля развітання з Ізольдай Несцяровіч сёе-тое зразумеў, асэнсаваў некаторыя дробязі, над якімі раней не задумваўся. Яна не заўсёды сама кідалася да мужчын. На некаторых яе наводзілі. Тыя, каму гэта паложана па службе. Настаўніка-гісторыка, з якім яна звязалася пасля таго, як Несцяровіч паехаў з мястэчка паступаць у аспірантуру, юнаком немцы вывезлі ў Германію. Ізольда, выходзіць, правярала яго погляды і настроі.

Галя — мэтанакіраваная, актыўная. Нават аддалена не нагадвае Ізольду. А што калі ён, Несцяровіч, для яе, як і для Ізольды, толькі праграма мінімум? Калі гэта сапраўды так, то мужчына ён нікчэмны. Мужчынскай цвёрдасці ў ім, відаць,

няма. Ад сапраўднага мужчыны жанчыны не бегаюць, наадварот, трымаюцца за яго колькі ёсць сілы!

Здаецца, усё прасцей простага. Калі ёсць падазрэнне, завядзі каханку і плаці жонцы той жа манетай, што і яна. Але не атрымліваецца. Нават на прыгожых жанчын, прыгажэйшых, чым Галя, Несцяровіч не надта кідае позіркі. Значыць, ён любіць Галю. Хоць каханне гэтае зусім не падобнае на папярэдняе.

Тое было фактычна першае, юнацкае, з трывалым запасам ідэалізму. Несцяровіч ніколі не сказаў сваёй дзяўчыне таго, што хацеў сказаць. Хваляваўся, нерваваўся і найчасцей маўчаў. Ён памятаў закуткі, лавачкі, месцы, дзе пастаяў ці пасядзеў з дзяўчынай. Праходзячы міма гэтых мясцін і год, і два пазней, ён адчуваў дрыготку ў сэрцы. Чысцейшы Дон Кіхот, які выдумаў Дульцынею Табоскую.

З Галяй было не так. Яны бясконца сварыліся, потым мірыліся, і ніякіх святых мясцін ён не памятае. Аднак жа і да яе прыкіпела сэрца, можа, нават мацней, чым у юнацкім узросце да Ізольды. Ён зразумеў, хто такая Ізольда, і выкінуў былую жонку з душы. Не адразу, вядома. Калі праз год разводзіўся з ёй у судзе, не меў ніякіх ілюзій і ні аб чым не шкадаваў.

А цяпер ён нават не шукае пацверджання здагадкам, падазрэнням у адносінах да Галі. Навошта яму шукаць? Канчатковая ісціна яму проста не патрэбна. Галю ён не пакіне. Бо сеяць дзяцей-бязбацькавічаў па свеце не збіраецца. Растуць пад бацькоўскім наглядам два хлопцы-малайцы і маленькая дзяўчынка, якая яшчэ хадзіць не ўмее, і няхай растуць. Можа, пакутуюць трохі ад неладоў, сварак, якія час ад часу ўзнікаюць між ім і жонкай, але тут ужо нічога не папішаш.

У тую зіму з Дома творчасці Несцяровіч прыехаў прыбіты, прыгнечаны. Дрэнна спаў, галава расколвалася ад болю, рукі, ногі дрыжэлі. Убачыўшы яго такога, Галіна спалохалася.

Несцяровіч, аднак, не згубіў здольнасць цвяроза разважаць і адчуваў: у тым, што здарылася, сышлося некалькі прычын.

Па-першае, ён стаміўся. Чацвярцінкі таксама сыгралі ролю. Расхісталі псіхіку. Хоць па сваёй натуры ён не любіць гарэлкі. Не любіць быць п’яным, бо пасля выпіўкі баліць

галава, настрой панылы. Піць малыя, але частыя чаркі прымушала нудная будзённасць, аднастайнасць жыцця. Бо што ён добрае бачыць? Выкладваецца на лекцыях, а ў такія вольныя часіны, як цяпер, едзе ў лес і там яшчэ больш выдыхаецца. Пісанне — цяжкая работа. Натхненне — птушка рэдкая, залятае ў душу ў лічаныя шчаслівыя імгненні.

Галоўная прычына — Ізольда, яе нечаканая здрада. Першае і такое працяглае ў часе каханне, што пачалося ў раннім рамантычным юнацтве, не магло не нанесці Несцяровічу незагойнай душэўнай раны. Ад гэтага нямала пацярпела і Галіна. Іх знаёмства, збліжэнне магло быць радасным і светлым. А яны толькі лаяліся і зневажалі адно аднаго. І дзіўна — не разышліся. Хоць магло гэта здарыцца шмат разоў.

Не хадзіце, дзеўкі, замуж за тых, хто быў жанаты. Бо яны, за малым выключэннем, людзі сапсаваныя.

Узрушэнне, перажытае ў лесе, настолькі моцнае, што Несцяровіч на працягу некалькіх дзён не можа заснуць, звычайныя таблеткі ад бяссонніцы не дапамагаюць. Галіна знаходзіць выйсце: дастае аміназін. Яго даюць толькі псіхічна хворым. Несцяровіч глытае кругленькую, жоўтую, падобную на вітаміннае дражэ таблетку і спіць цэлыя суткі.

Мінае месяц, другі. Несцяровіч пакрысе пачынае забывацца на ўспышку рэўнасці, якая выбухнула ў Доме творчасці. Тым часам недарэчны выпадак зноў кідае яго ў вір насцярожанасці і падазронасці. Галіна, звяртаючыся да яго з нейкім пытаннем, раптам называе яго Грышам.

Яго завуць Аляксандрам, і гэта, як гавораць у Адэсе, дзве вялікія розніцы. Галіна спахопліваецца.

— Гэта я пра брата думала. Таго, што ва Уладзівастоку...

Старэйшы брат Галіны сапраўды жыве ва Уладзівастоку і служыць у параходстве. Несцяровіч яго бачыў толькі адзін раз. Хлюставаты, хітры і, здаецца, не вельмі разумны. Гэтаму брату не шанцуе з сям'ёй. Жэніцца ці не трэці раз. І наогул, жанчыны ў яго жыцці займаюць вялікае месца, бо калі прыязджаў у Мінск, то па чарзе наведаў некалькіх былых каханак.

Несцяровіч адразу прымярае нечаканага Грышу да мужчын, якія прысутнічалі на баляванні з нагоды дня нараджэння

і ўзнагароджання дэкана факультэта, дзе вельмі віхурна, не так, як звычайна, паводзіла сябе Галіна. Там, аказваецца, было аж два Грышы. Адзін, добра знаёмы, выкладчык марксізму-ленінізму, увесь час пакручваўся каля яе, танцаваў, аказваў розныя знакі ўвагі. Нядаўна ён прынёс Несцяровічу артыкул, надрукаваны на машынцы, просячы змясціць яго ў «Юнацкім свеце», дзе Несцяровіч застаўся членам рэдкалегіі.

Артыкул прагледзела і Галіна, сказаўшы даволі зняважліва:

— Адны цытаты.

Думаць, што Грыша-марксіст заляцаецца да Галіны, перашкаджае яшчэ адна акалічнасць. Вельмі ўжо нягеглы гэты Грыша, а з твару зусім непрыгожы. Як бы ляпіў гэты твар нядбайны майстар і кінуў справу дзесьці на палавіне. Атрымаўся дрэнна абчэсаны клін: вострае падбароддзе, нібы касой разрэзаны рот з тонкімі губамі, такі ж тонкі доўгі нос, глыбока схаваныя вадзяністыя вочы, над якімі навісае вузкі лоб. Ну як з такім кавалерам можна пацалавацца?..

Праўда, фігура Грышы-марксіста файная, спартыўная, на жывоцік, які прыкметна выпіраецца ў Несцяровіча, нават намёку няма.

Другі Грыша — рэдактар вядомай газеты, у якой у свой час працаваў Несцяровіч. У гэтага твар шырокі, з вялізным, вытыркнутым наперад носам. І сам ён вялізны, марудлівы і важыць, мабыць, болей за цэнтнер. Некалі Несцяровіч паважаў рэдактара: узначальвае такую важную газету. З часам расчараваўся: пісаць ён зусім не ўмее.

Раней Галіна расхвальвала Несцяровіча, высока яго ўзносячы: прыгожы, статны, прыстойны мужчына. Ён і сам, відаць, часткова паверыў у пахвальбу. І быў спакойны за будучыню: ад прыгожых мужчын жанчыны не бегаюць. Як цяпер расцаніць факт, што жонка трызніць нейкім Грышам? Можа, памылка? А калі — не?

Мінаюць дні, месяцы.

Несцяровіча ахоплівае трывалы панылы настрой. Жыццё шматграннае. Жыве з ім Галіна даўно, ведае яго не толькі з добрага, а і з дрэннага боку. І што яму за шчасце, калі даведаецца, што ў жонкі ёсць сімпатыя? Кінуць яе ён не можа, трое

дзяцей — не жарты. Адзін ужо гадуецца на аліменты, ніякай цягі да бацькі не праяўляючы.

Жыві, квітней, Галіна Мікалаеўна, толькі не называй мужа Грышам. Гэта, канечне, не доказ здрады. Аднак на сумныя думкі невядомы Грыша наводзіць.

Некалі новыя кіраўнікі выкрылі Сталіна, але новых ідэй узамен не прапанавалі. Жыццё ішло па старой накатанай каляіне, хіба што не саджалі ў турму невінаватых. Хоць і гэта здаралася. У Віцебску і, здаецца, у Мазыры былі расстраляны ілжыва абвінавачаныя людзі, якія прызналіся ў нібыта здзейсненых злачынствах. Доказы міліцыя здабыла па старой схеме — у выніку фізічных катаванняў.

Добра хоць тое, што справы гэтых невінаватых раскруцілі і справядліва далі па шапцы высокім міліцэйскім і судовым чыноўнікам.

Вярнуліся з далёкіх калымскіх, сібірскіх лагераў некалькі пісьменнікаў. Яны расказваюць жудасныя рэчы. Улады — палітычныя, юрыдычныя, сілавыя — свядома тварылі злачынствы на самым высокім узроўні нібыта дзеля апраўдання вышэйшых дзяржаўных інтарэсаў.

Несцяровіч, аднак, піша пра другое. Пра пакаленне ідэалістаў, якое было досыць шматлікім як у перадваенны час, так і ў віхурныя дні вайны.

Ён, Несцяровіч, не ідэалізуе літаратурных герояў — падпольшчыкаў, партызан, воінаў-франтавікоў. Паказвае такімі, якімі бачыў, бо былі яны звычайнымі людзьмі. Відаць, з яго боку гэта падсвядомае апраўданне часу. Бо былі не толькі даносчыкі-стукачы, каты-следчыя, нікім не выбраныя правадыры, якія пры жыцці давалі ўласныя імёны вуліцам, гарадам (а самаму вялікаму правадыру ўсіх вякоў і народаў ставілі помнікі-манументы нават у заштатных гарадках і пасёлках).

Іронія часу: высокае, гераічнае жыло побач з нізкім, агідным, мірна з ім суіснуючы. Ніхто не пратэставаў. Са школьных часоў Несцяровіч памятае шматлікія радкі з «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну». Пісьмо гэта напісалі самыя славутыя беларускія пісьменнікі, у іх ліку Янка Купала і Якуб Колас.

Цяпер Несцяровіч ведае, як пісалася пісьмо. Пісьменнікаў сабралі ў Доме творчасці пад Пухавічамі, далі па пакоі, бясплатна харчавалі, а яны сядзелі і пісалі.

Былі харошыя, пранікнёныя радкі ў тым «Пісьме». Напрыклад, гэтыя:

Адважна і пільна ўзлятае высока,
Краіну сваю аглядае штодня,
І цешыцца сэрца, і цешыцца вока —
Якое раздолле, прастор, шырыня!..

Школьнікам Несцяровіч захапляўся гэтымі радкамі, бо яны адпавядалі яго ўнутранаму настрою, марам, летуценням. Ён марыў аб далейшым навучанні, інстытуце, горадзе.

Першыя творы ён напісаў у сярэдзіне пяцідзясятых гадоў, іх настрой супаў з тым настроем, які запанаваў пасля дваццатага з’езда. Аднак як пісьменнік ён належыць да пакалення шасцідзясятнікаў. Але менавіта ў тыя гады ў яго душы прарастаюць першыя парасткі нязгоды з найбольш радыкальнымі дзеячамі, публіцыстамі, якія на выяўленні злачынстваў у час культу асобы будуюць уласную кар’еру. Пушкін, Лермантаў, Някрасаў ды і Талстой з Дастаеўскім, якім прыйшлося жыць, пісаць у эпоху прыгоннага права, фактычна напаўрабства, таксама не ўхвалялі грамадскія парадкі. Сваю нязгоду з імі яны выяўлялі праз даследаванне ўнутранага свету герояў, праз глыбіннае разуменне душы, праз стварэнне філасофіі чалавечага быцця.

У зеніце славы Ямпольскі: носіцца па сталіцах, па заграніцах. Па ягоным рамане хіба толькі балет не пастаўлены. А так ва ўсіх жанрах ён існуе. Хоць кнігу цяжка чытаць. Аж сківіцы баляць ад пазяхання. Вось так: адмятаем адну няпраўду, на ёй расце, як пустазелле, другая...

## VII

Гэта пачалося яшчэ з дзён акупацыі, калі па мястэчку праходжваліся немцы. Афіцэры ў седлаватых шапках, з вузенькімі пагонамі на мундзірах і салдаты ў звычайных пілотках. У мястэчку яны прабылі трохі болей чым два гады.

Але і за гэты не надта доўгі час Несцяровіч сёе-тое ўведаў.

Немцы лічылі сябе вышэйшай арыйскай расай. У школе гісторыю выкладалі дрэннавата. Несцяровіч чытаў шмат кніг, у тым ліку гістарычных, але пра арыйцаў, нардычную расу, амаль нічога не ведаў.

Пра сваю вышэйшасць немцы прама не гаварылі і не пісалі. Пачаўшы чытаць нямецкія газеты з першай ваеннай зімы, стараючыся дазнацца, што робіцца на фронце, Несцяровіч толькі зрэдку натыкаўся на незразумелыя, двухсэнсоўныя сказы, накшталт такіх: «Сталіца готаў размяшчалася паўднёвей Кіева», «Крым нарэшце зноў стаў нямецкім», «Рускую дзяржаву, як і краіны ледзь не ўсёй Еўропы, стварылі германскія плямёны».

Яшчэ тады, у акупацыю, прынёсшы з разрабаваных бібліятэк процьму кніг, Несцяровіч пачаў корпацца ў энцыклапедыях, даведніках, шукаючы звесткі пра арыйцаў. Дазнаўся, аднак, няшмат: пра гэта не пісалі нават дарэвалюцыйныя выданні. З артыкула пра арыйцаў, змешчанага ў энцыклапедычным слоўніку Бракгаўза і Эфрона, Несцяровіч даведаўся: арыйцы — адно з іранскіх плямён, а само слова азначае — высакародныя. У шырокім сэнсе, тлумачыў даведнік, арыйцамі можна называць усе індаеўрапейскія народы, і славян таксама.

Маючы такі грунт, падмурак, Несцяровіч, які ўжо мог і просценькую нямецкую фразу скласці, аднойчы адважыўся выказаць немцу-аграному, які за дзесяць яек выпісваў кілаграм нашай жа савецкай солі, што ўсе народы роўныя, у тым ліку рускія і немцы.

Той не раззлаваўся, толькі здзіўлена паглядзеў на сямнаццацігадовага Несцяровіча.

— Не роўныя,— сказаў аграном.— І не гавары болей так. Зразумеў?..

Несцяровіч ягоныя словы ўсвядоміў трохі пазней, калі немцы пачалі выпальваць сёлы, вёскі разам з дзецьмі, дзядамі, жанчынамі. Народ еўрапейскай цывілізацыі, культуры, які даў свету славутых філосафаў, музыкантаў, паэтаў, паліў жывых людзей.

У пасляваенны час савецкія газеты, пішучы пра чалавеканенавісніцтва немцаў, прыводзілі прыклад: у Чэхаславакіі фашысты спалілі вёску Лідзіцэ, у Францыі — Арадур.

Несцяровіч не ведае, колькі было такіх Лідзіцэ і Арадураў у захопленай немцамі амаль усёй Еўропе.

У не надта вялікай Беларусі іх было спалена сотні. Толькі ў Несцяровічавым раёне салдаты дывізіі СС «Варшава» разам з салдатамі вермахта вынішчылі сорак восем паселішчаў з шасцідзесяці. Тры ці чатыры вёскі пусцілі дымам разам з людзьмі.

Зразумела, што нейкіх там беларусаў немцы не лічылі за людзей. Хоць гэтыя «недачалавекі» зрэшты добра давалі заваёўнікам у зубы. Бо грымела чыгунка, ляцелі пад адхон воінскія эшалоны, у вёску, размешчаную ад гарнізона за якія-небудзь пяць-шэсць кіламетраў, фашысты маглі паткнуцца, маючы не меней узвода салдат.

У пасляваенныя гады, вучачыся ва ўніверсітэце, у аспірантуры, стаўшы выкладчыкам, Несцяровіч усур’ёз заняўся пытаннем пра арыйцаў і так званую арыйскую расу.

Ён перачытаў шмат кніг, у тым ліку на нямецкай мове, і зразумеў, што самаўслаўляць сябе немцы пачалі даўно. Яшчэ з XIX стагоддзя. Так нарадзілася захапленне Несцяровіча параўнальным мовазнаўствам. Бо менавіта яно давала ў рукі галоўны козыр: немцы — ніякая не вышэйшая раса, у еўрапейскай моўнай сям’і яны роўныя сярод роўных. Стаўшы на дарогу аналітычнага развіцця, нямецкая мова нават страціла сякія-такія яркія старажытныя формы. Бо бліжэй да санскрыту — самай старажытнай пісьмовай мовы індаеўрапейцаў — стаяць не германскія мовы. Бліжэйшыя сваякі санскрыту — мовы армянская, грэчаская, лацінская, балтыйскія і нарэшце славянскія мовы. У тым ліку беларуская. Вось так, панове арыйцы. Кожная мова ўдасканальваецца. Ідзе сваёй дарогай. У нямецкай мове чатыры склоны, у рускай і ў беларускай — шэсць, у фінскай аж чатырнаццаць.

У мовах аналітычнага складу (centum) кіраванне словамі ў значнай меры ажыццяўляецца праз прыназоўнікі, у мовах сінтэтычнага кірунку (satem) праз склонавыя формы.

Ва ўсякім выпадку сістэма індаеўрапейскіх моў адна, марфалагічныя, сінтаксічныя формы кожнай з іх блізкія паміж сабой у параўнанні, скажам, з мовамі ўрала-алтайскімі ці цюркскімі.

## VIII

Бяда не ходзіць адна. Падручнік Несцяровіча, трэцяе выданне якога пайшло па школах, відаць, пабачыла Ізольда. Пра заробкі пісьменнікаў, навукоўцаў чуткі заўсёды перабольшаныя, асабліва ў мяшчанскім асяроддзі. Несцяровічу вядома, што, калі выйшла ягоная першая тоненькая кніжачка, па родным мястэчку папаўзлі чуткі, нібыта атрымаў ён неверагодна высокую суму — аж сто тысяч рублёў. На самай справе ганарар быў нават ніжэйшы за месячны заробак дацэнта, з якога Ізольда атрымлівала аліменты. Фактычна яна брала ледзь не палавіну заробку, бо з той часткі, якая заставалася Несцяровічу, вылічвалі яшчэ значныя сумы дзяржаўнай пазыкі (на аблігацыі дацэнты ў форме добраахвотнага прымусу падпісваліся на два месячныя аклады). Але тады Ізольда яшчэ мела трохі сумлення і не квапілася на ягоныя ганарары за літаратурныя творы.

Несцяровіча выклікаюць ва ўніверсітэцкую бухгалтэрыю, паказваюць выканаўчы ліст, прысланы з суда, а таксама даведкі з выдавецтваў аб суме яго ганарару за апошнія тры гады. Ад страху ён ледзь не млее.

За неспагнаныя аліменты з заработнай платы могуць вылічаць палавіну, і калі з палавіны, што застанецца Несцяровічу, забяруць працэнты на дзяржаўную пазыку, то яму застануцца капейкі. За што карміць дзяцей? Жончына зарплата не вельмі... Кніга пішацца два, нават тры гады, і бываюць выпадкі, калі ён па году-два не атрымлівае ніякіх ганарараў.

Якая ўсё-такі дрэнь Ізольда! Сама разваліла сям'ю, звязаўшыся ў першы месяц яго ад'езду ў Мінск з новым, прысланым у школу настаўнікам, а цяпер помсціць. Несумленны яна чалавек у сямейных справах. Несумленны і ва ўсім астатнім.

Не бывае, аднак, благога без добрага. Як ветрам выдзьмула рэўнасць з душы Несцяровіча. Пра жыццё трэба думаць, а не пра ўсялякае глупства.

Несцяровіч едзе на радзіму. Два ці нават тры гады не быў ён дома. А там усё мілае, ранейшае. Хоць вока прыкмячае перамены. Станцыя, атуленая аграмаднымі, як воблакі, шатамі таполяў, здаецца, трохі змізарнела. Будынкі асядаюць, перон вышчэрбліваецца, на ім лужыны вады. Размешчаны ўздоўж чыгункі дрывяны склад, адкуль Несцяровіч у дзяцінстве цягаў плашкі, каб маці магла прапаліць печ, апусцеў, нейкая частка яго зямлі засаджана бульбай, нават нехта там забудаваўся. Вагавая будка, прылеглыя да тупіковых пуцей склады, пабудаваныя ў апошнія гады перад вайной, ад дажджоў, вятроў пачарнелі, збуцвелі.

А вось іхні агарод. Несцяровіч, калі вяртаўся з паездак, заўсёды ішоў агародам. Аб ногі цёрся бульбоўнік, агурэчнік, разлапістае, стромае лісце кіяхоў — так у іх мясцовасці называюць кукурузу.

Выпетраная, як цявіна, маці, твар якой яшчэ болей пацямнеў, змаршчыніўся, і хворы бацька, які з цяжкасцю ўстае з ложка, сына не чакалі, але ўзрадаваліся ягонаму прыезду. Бацька, адпрацаваўшы ўсё жыццё стрэлачнікам, проста марыў аб пенсіі. Ён пайшоў на яе нават раней тэрміну. Хацеў свабоды, незалежнасці. Бо стрэлачнік — самая няўдзячная пасада на чыгунцы. Яна проста гняла бацьку. Ды і хворы ён. З маладых гадоў займеў рэўматызм: хадзіў на паляванне і праваліўся ў балотную «чортаву» яму.

Толькі цяпер, стаўшы службоўцам, Несцяровіч зразумеў: у бацькі было вельмі высокае пачуццё адказнасці за даручаную справу. На станцыі стрэлачнік адказвае ледзь не за ўсё. Не на той пуць прыме цягнік — крушэнне. Не гэтак стрэлку перавядзе — цягнік паржа стрэлку ці сыдзе з рэек. Таму бацька вельмі старанна рыхтаваўся да дзяжурстваў — дзённага і начнога. Як бы набіраўся сілы. А ў доме вечная нястача, бо заробку стрэлачніка пры чатырох дзецях нават на хлеб не хапала. Таму былі нярэдкімі сваркі, звяга.

— Не шанцуе табе, сын,— гаворыць бацька.— У вайну мог лёгка галаву скласці. І мы дрыжалі: вінтоўкі, гранаты цягнуў у двор. А ўзнагароды няма. Пішуць, зневажаюць...

— Нічога, бацька. Сабака брэша, вецер носіць. Пісьменнік — не апошні на свеце чалавек. Ды яшчэ і дацэнт.

— Цяперашні муж тваёй нарачонай, як толькі заступіць на дзяжурства, пячонку ў буфеце заказвае,— азываецца маці.— Не корміць яна яго, не даглядае. І хвастом зноў круціць. Па людзях чутно...

Мястэчка занепадае, хоць называецца горадам. Раён ліквідавалі, цяпер гэта толькі цэнтр сельсавета. Жыццё прыкметна змяніла пульс. Машын стала менш, няма ранейшага руху. Сюды на перавыхаванне прысылаюць з горада розную навалач. Цыганы аселі ў мястэчку. Маюць коней, аруць людзям агароды і страшэнна крадуць. Прыязджаюць сюды і жанчыны лёгкіх паводзін. На варотах некаторых двароў хоць чырвоны ліхтар вешай. Добрае гаспадарчае сяло з палямі, сенажацямі, лесам, цвёрдымі сялянскімі норавамі ператвараецца ў чорт ведае што.

Куды ісці Несцяровічу? У яго нават думкі не ўзнікае завітаць у школу, дзе працуе Ізольда, пагаварыць з дырэктарам Марыяй Мікітаўнай Весялоўскай, папрасіць, каб паўшчувала былую жонку. Відаць, гонар не дазваляе Несцяровічу зрабіць гэта.

Вечарам ён садзіцца ў мясцовы цягнік, які кіруе па аднакалейнай ветцы на паўднёва-прыпяцкае мястэчка Хвойнае. Праехаўшы дванаццаць вёрст, ён сыдзе, пакрочыць у сяло Міханавічы, дзе жывуць бацькі Ізольды, старыя настаўнікі.

Цяпер Несцяровіч разумее, што з маладых гадоў Ізольда лічыла сябе несусветнай прыгажуняй. Пры такой красе, думала, навошта займацца навукай, чытаць кнігі. Прыгажосць сама па сабе выведзе да багатага жыцця...

Ужо верасень. Прыцемак наступае рана. Станцыйныя серабрыстыя таполі шчодра засыпаюць лісцем перон, рэйкі, пуці. З даваеннага часу любіць Аляксандр Іванавіч станцыю, вячэрнія цягнікі, вось гэтыя таполі з шатамі, падобнымі на воблакі. Ён любіць нават цягнік на Хвойнае з абшарпанымі вагонамі, у якіх ніколі не адчыняюцца вокны, пахне пылам, махорачным кіслым дымам. Цягнік марудлівы, ён не імчыць, а фактычна паўзе, адольваючы сорак кіламетраў за дзве гадзіны. Бо пуці з пакарабачанымі партызанамі рэйкамі

так ніхто і не перамяніў з часу вайны. Іх толькі скарацілі і прыбілі да шпал на жывую нітку.

Вагон ціха пагойдваецца на ўкарочаных рэйках, праз замутнелае, нямытае акно праплываюць у шэрані вечара дрэвы, кусты, агні далёкіх будынкаў. Рыпіць стары вагон, які даўно пара спісваць. Пасажыраў мала.

Аляксандр Іванавіч выбраў асобнае купэ. Святла няма. Ён глядзіць на шэрыя краявіды і думае пра тое, што ў ягоныя маладыя гады зусім другой здавалася дарога на Міханавічы. Нават сэрца пачынала біцца часцей пры думцы, што ён хутка пабачыць Ізольду. Каханне на свеце ёсць, але, відаць, нярэдка яно ператвараецца проста ў падман. Куды падзелася каханне Несцяровіча да Ізольды? Яно цягнулася дзесяць гадоў, перажыло вайну, доўгае расстанне. І адразу рассыпалася ў пыл, як толькі ён дазнаўся, што Ізольда яму здраджвае з гісторыкам. Нехта ёй параіў гэта зрабіць, хоць і самадзейнасцю ў любоўных справах Ізольда з ахвотай займаецца. Ледзь з'яўляецца цікавы чалавек, як яна пачынае каля яго круціцца. Відаць, лічыць, што так робяць усе. Шлюб для яе — афіцыйнае прыкрыццё свабоднага кахання. Адзін і той жа чалавек нават за год збрыдзее. Як жа з ім правесці цэлае жыццё? Вось такая нескладаная філасофія Ізольды...

У вёсцы Шабуны, суседняй з Міханавічамі, шчодра свецяцца агні. Шабуны — прыстанішча шафёраў. Узбоч яе пралягае шаша, бадай, адзіная ў гэтым лясным і балотным краі. Але нават не шаша галоўнае. Пры шашы стаіць «зялёны змей» — гандлёвая кропка, у якой заўсёды ёсць гарэлка і сякая-такая закуска. Што шафёру яшчэ трэба? Купіць бутэльку, завітае да якой-небудзь удавіцы. Не на ложку пераначуе, дык на лаве.

А вось і Міханавічы. Станцыі тут няма. Стаіць невялікая будачка, у якой жыве пуцейскі абходчык. У дождж ці снег нават схавацца няма дзе. Праўда, абходчык у такіх выпадках пускае людзей у калідорчык свайго дамка.

Па дарозе ад чыгункі да сяла — могілкі. У паўзмроку ночы паўстае атулены дрэвамі цёмны ўзгорак. Не без прытоенага ў глыбіні душы страху праходзіў некалі міма гэтага месца Несцяровіч. Але ніколі нічога страшнага не здаралася. Мірна спалі нябожчыкі. Нездарма па-нямецку могілкі называ-

юцца Friedhof, гэта значыць — мірны двор. Дажыві да сваёй пары, чалавек, кладзіся ў вечны ложак, адпачывай. Ні табе кахання, ні здрады, ні знявагі.

Колькі часу не быў Несцяровіч у Міханавічах? Відаць, гадоў дзесяць. Але ён лёгка знаходзіць сцежку, якая выводзіць яго на вуліцу сяла. Вось і гаспадарка Ізольдзіных бацькоў. Дом, палісаднік, сад зліваюцца ў суцэльную пляму. Да гэтага цемнаватага ў шэрані ночы вострава не падступіцца. Высокі дашчаты паркан з нацягнутым наверсе калючым дротам, наглуха зачыненыя вароты, весніцы. Нават у акно нельга пастукаць: яно ў палісадніку, за парканам.

Але Несцяровіч знаходзіць выйсце. Побач з домам вузкі, глухі завулак, які вядзе ў поле. Там агарод былых родзічаў.

Паркан, аказваецца, пастаўлены і там, толькі калючы дрот зверху не нацягнуты. Аляксандр Іванавіч сяк-так пералазіць праз агароджу, ні за што не зачапіўшыся і не парваўшы штаноў. Ён ідзе ў двор, ступае на абвіты дзікім вінаградам крыты ганак, стукае ў дзверы.

У хуткім часе ў сенечках чуюцца крокі.

— Хто там?

Несцяровіч называе сябе.

Яму адразу адчыняе дзверы Сямён Іванавіч, бацька Ізольды. Ён трымае ў руках ліхтар «лятучая мыш».

У пакоі (іх у доме тры) ужо гарыць дванаццацілінейная лямпа. Сямён Іванавіч за час, які не бачыў яго Несцяровіч, яшчэ болей высах, выпетраў, зблажэў. Звычайны дзядок з лысай галавой, з вялікімі акулярамі на тоўстым носе. Затое Матыльда Вацлаваўна, былая цешча, раздалася ўшыркі. Гэтая нездаровая распоўзлая паўната ўразіла Несцяровіча.

Як здалося Аляксандру Іванавічу, былыя родзічы не здзівіліся яго раптоўнаму начному прыезду. Як бы чакалі яго. Не спыталі нават, у якім месцы ён пералез праз паркан.

«Ведаюць, чаго прыехаў»,— падумаў Несцяровіч.

Былая цешча, па ранейшым звычаі, раскладае на прыпечку агонь, каб сашкварыць яечню і пачаставаць былога зяця.

Гадзіна ночы. У тры з паловай гадзіны ідзе з Хвойнага той самы абшарпаны цягнік, якім Несцяровіч прыехаў. Яму трэба паспець на яго. Таму ён адразу прыступае да справы.

Аргументы ў яго наступныя. Ізольда атрымлівае прыстойныя аліменты. Столькі, колькі зарабляе сама. Прачула пра падручнік і рашыла, што ён зарабляе бог ведае якія грошы. А ён за падручнік атрымаў капейкі. Тым часам закон дазваляе вылічваць нават палавіну заробку, калі ёсць запазычанасць па аліментах. На год ці два Ізольда можа пакінуць ягоных дзяцей без сродкаў на існаванне.

Старыя маўчаць. Відаць, была ў іх з дачкой і новым зяцем гаворка пра гэта.

— Хлопцу шаснаццаць гадоў,— працягвае Несцяровіч.— Праз два гады ён будзе паступаць у інстытут. Хто яму дапаможа?

Зноў старыя не гавораць ні слова.

Несцяровіч бачыць, што рабіць болей нечага. Адмовіўшыся ад пачастунку, развітваецца з былой раднёй. Ён повен злосці, хоць не выказвае яе. Ён як-небудзь выберацца з бяды. Не можа быць, каб перамаглі гэтыя прагныя тарбахваты.

Сямён Іванавіч праводзіць былога зяця да веснічак, закрытых на некалькі запораў.

Несцяровіч зноў ідзе праз могілкі. Дзеля чаго жылі людзі, што ляжаць тут? І ўвогуле, што азначае жыццё, калі яно такое кароткае і чалавек не паспявае разабрацца ў самых простых рэчах? Ён жыве, не задумваючыся, пакуль не прыйдзе смерць. Гэтак на працягу многіх пакаленняў. У былыя гады на могілках жыла сава. Сярод ночы яна кігікала, наводзячы страх на прахожых. Цяпер савы не чуваць.

Несцяровіч даходзіць да паўстанка. Вісіць над зямлёй глухая, без зыкаў і рухаў, ноч. Неба ад краю да краю густа засеяна зоркамі. Такое неба бывае толькі ў жніўні-верасні, калі лета канчаецца, а восень яшчэ не наступіла.

Прысеўшы на ганак будкі абходчыка, Несцяровіч адчувае, што ён тут не адзін. Здагадка пацвярджаецца. Аддзяліўшыся ад сцяны, да яго падыходзіць чалавек. Ноч светлая, і Аляксандр Іванавіч бачыць немаладога, апранутага ў доўгі плашч дзядзьку з капелюшом на галаве. Дзядзька, аднак, гаворкі не зачынае, і Несцяровіч рад гэтаму. Ён пасядзіць і падумае. Калісьці гэты паўстанак, будка абходчыка, навакольнае поле,

лес-сасоннік мелі над ім вялікую ўладу. Бо па гэтых мясцінах хадзіла Ізольда.

...Смотрю на тёмную вуаль
И вижу берег очарованный
И очарованную даль...

Адкуль гэта? Здаецца, з Блока. Паэт быццам таксама быў няшчасны ў сваім каханні. Трэба падчытаць пра Блока. Ён быў рамантык і сімваліст. Свет для яго поўніўся чароўнымі, загадкавымі вобразамі.

Вялікая сіла — пачуццё. У апошнія год-два перад тым як ажаніцца з Ізольдай, Несцяровіча пачала запыняць супрацоўніца райвыканкама, якая ў вайну служыла ў арміі. Паўнацелая, ветлівая, з прыемным адкрытым тварам, яна падабалася Несцяровічу. Для яго не мела ніякага значэння, што яна была на год ці два старэйшая за яго. На жаль, да душэўнай блізкасці ў іх не дайшло. Як заноза, сядзела ў сэрцы Ізольда.

Тая дзяўчына доўга не палятала вольнай птушкай. Дэмабілізаваўся капітан ці маёр, нават далёкі родзіч Несцяровіча, і, пахадзіўшы з ёй два ці тры дні, павёў яе ў загс.

Несцяровіч не ведае, дзе яна цяпер, але падсвядома адчувае: яна яго дзяўчына. Толькі ўпусціў ён сваё шчасце. Іначай, відаць, не магло быць. Ён вельмі кансерватыўны ў пачуццях. Ізольда нібы ланцугом прывязала яго да сябе. І ён не змог проста так пераступіць праз пачуццё, якое так глыбока і так даўно ўсталявалася ў душы.

Несцяровіч крыўдуе на сяброў-таварышаў і проста на знаёмых. Ведалі Ізольду, яе звычаі, характар. Не папярэдзілі, не сказалі. Нават блізкія людзі. Тая самая дырэктар школы Марыя Мікітаўна Весялоўская. Тады, калі здарыўся разрыў, напаткаўшы Несцяровіча, яна сказала: «Я ведала — яна табе не пара». Магла б раней сказаць...

Высвечваецца даволі цьмянае вока цягніка, які ідзе з Хвойнага. Пыхкаючы, цягнік спыняецца. Пасажыраў толькі двое — Несцяровіч і дзядзька, які, здаецца, хацеў, але не асмеліўся завесці з ім гаворку.

Яны абое садзяцца ў купэ, якое асвятляецца не электрычнай лямпачкай, а свечкай, устаўленай у падвешаны да столі ліхтар. Пахне пылам, газай, чыгуначнай жарствой. Аблічча суседа здаецца Несцяровічу знаёмым: вузкі твар, шчуплая постаць.

— Я ведаю вас,— нарэшце азываецца спадарожнік.— І вы мяне ведаеце. Вы працавалі ў газеце і часта пісалі пра леспрамгас. У асноўным у адмоўным плане. Маё прозвішча Андрэенка. Я быў намеснікам дырэктара леспрамгаса.

— Насілі дублёны чырвоны кажушок,— успамінае Несцяровіч.

— Была такая апранаха, лёгкая і цёплая. На жаль, знасілася.

Яны разгаварыліся. Высветлілася, што леспрамгаса ў мястэчку даўно няма. Бо няма спелага лесу. (Толькі цяпер Несцяровіч успомніў, што лесасклад, размешчаны ўздоўж чыгуначных пуцей, пусты. На той зямлі, здаецца, бульба пасаджана, нейкая хата стаіць.)

У Несцяровіча, хоць ён сапраўды крытыкаваў леспрамгас (план заўсёды выконваўся са скрыпам), добры ўспамін пра яго супрацоўнікаў. Там не крыўдзіліся на карэспандэнта, разумеючы, што інакш ён напісаць не можа. Ды і памяркоўная была яго крытыка, без абразы, навешвання ярлыкоў.

Несцяровічу падаецца, што Андрэенка хоча яму нешта сказаць і разам з тым мнецца, не адважваецца.

— Можа, падумаеце, маю доўгі язык,— нарэшце пачынае ён.— Ды справа не ў гэтым. І ўвогуле вас цяпер не датычыць.

— Гаварыце,— просіць Несцяровіч.

— Пра вашу жонку хачу сказаць. Былую. На лесаскладзе быў інжынер па эксплуатацыі. Разведзены. Вельмі яна каля яго пакручвалася. Хацела, відаць, каб узяў яе замуж. Іншы раз, прыязджаючы ў Міханавічы, нават да бацькоў не заходзіла, адразу да яго. Частавала інжынера. Прывозіла выпіўку, закуску. Тым часам інжынер з другой ажаніўся. А яна не ведала і прыехала. Што там было, не ведаю, але рабочыя паўгода рагаталі...

Несцяровіч пра гэта ўжо штосьці чуў. Гэтак жа ўпарта Ізольда дагаджала настаўніку, якога прыслалі ў рускую дзесяцігодку. Нічога не атрымалася, хоць яна так задобрыла кавалера, што той амаль згадзіўся на шлюб. Але ў апошнюю хвіліну перадумаў...

Несцяровіч упэўніваецца, што Ізольда хацела мець інтэлігентнага мужа. На першым часе яна нават пахвалялася: выйдзе за генерала. Але паколькі ў наваколлі не размяшчаліся воінскія часці, якімі б камандавалі генералы, ад мары прыйшлося адмовіцца.

Пасля працяглых пошукаў Ізольда выйшла замуж за станцыйнага змазчыка Мікалая Халюту, які тры ці чатыры гады адсядзеў у турме за тое, што сарваў у вагоне пломбу і выкраў некалькі садовых саджанцаў, якія чыгунка везла для нейкай замежнай краіны.

Несцяровіч ведае Мікалая. Ён з ім вучыўся ў першым класе. Пасля выкліку настаўніка Коля ўставаў і не адказваў ні на адно пытанне. Стаяў і маўчаў. Так і прастаяў увесь першы клас, застаўшыся ў ім на другі год.

Коля — чалавек ціхі, памяркоўны, але бацькі ў яго драпежныя. Вельмі любілі грошы. Відаць, гэта спрыяла ягонай жаніцьбе. Ізольда сама атрымлівала зарплату ды яшчэ і аліменты мела неблагія.

Не жадаючы выйсці з інтэлігенцкага кола, Ізольда і тут не ўдарыла тварам у гразь. Сама паступіла ў педагагічны інстытут, мужа паслала ў вячэрнюю дзесяцігодку. Толькі з гэтага, здаецца, нічога не выйшла.

Цяпер Несцяровіч да Ізольды не адчувае ні любві, ні нянавісці. Шкада толькі мінулага, мар, летуценняў, звязаных з яе вобразам. Бо з Галінай было не так. Ён, бадай, вінаваты перад Галінай. Іх адносіны пачаліся з прэтэнзій і прыдзірак. Ён апёкся на Ізольдзе і раўняў да яе дзяўчат, з якімі знаёміўся. Галі ён, аднак, падабаўся, і яна не пакінула яго. Пазней яму самому стала страшна, што Галя магла гэта зрабіць. Бо ён гэтага заслугоўваў.

## IX

Выніку паездка ў Міханавічы не дала. Трэба шукаць другое выйсце. Зрэшты, навошта шукаць? Тое, што расказаў Андрэенка, сам па сабе харошы факт. І яшчэ падобныя факты ведае Несцяровіч. Колькі разоў ні прыязджаў ён у мястэчка, яго заўсёды лавіла гарэзлівая, пышнацелая крамніца.

— Няўжо не разумееш, хто цябе запрашае? — звужаючы жоўтыя кашэчыя вочы, пытала крамніца.— У некаторых жанчын пачуцці яшчэ не патухлі...

Несцяровіч здагадваўся: запрашае Ізольда. У яе пачуцці ён не верыў. Можа, хацела выхваліцца, што былы муж паранейшаму да яе бегае...

Цяпер ён хоча пабачыць Ізольду. Нават трохі яе прыстрашыць. Яна, магчыма, хоча мець грошы на любоўныя ўцехі. Не атрымаецца. Пасаду дацэнта ён пакіне. У выніку яе аліменты прыкметна зменшацца. Ды і ў суд ён напіша заяву: пры трох дзецях Ізольда хоча за яго кошт раскашаваць.

У мястэчку яшчэ жыве стары сябар Іван Млыноўскі, які працуе ляснічым. Яго сына, падлетка, яны пасылаюць паклікаць Ізольду.

Яна не тое што прыйшла, а, можна сказаць, прыляцела.

— Які ты прыгожы! — усклікнула, убачыўшы Несцяровіча.— Дурная была, што абедзвюма рукамі за цябе не трымалася.

Пачатак як бы абяцаў поспех. На стале ўзнікла бутэлька гарэлкі, сякая-такая закуска. Ізольда прыгубіла чарачку, расчырванелася, яшчэ больш павесялела.

— Праз два гады Вадзім скончыць школу,— гаворыць Несцяровіч.— Куды збіраецца паступаць?

— Не ведаю. Няхай сам рашае...

— Хочаш аграбіць маіх дзяцей — Вадзіма аграбіш...

— Трэба яму новую вопратку справіць, абутак. Твой сын...

У гэтую хвіліну адчыняюцца дзверы, і ў хату ўвальваецца Мікалай Халюта, другі муж Ізольды. Ён раззлаваны да шаленства.

— Усё хвастом круціш! Тайныя спатканні наладжваеш! — лямантуе ён.— Едзь з ім у Мінск. Ні стравы не ўмееш згатаваць, ні сарочку памыць...

Іван асаджвае Мікалая.

— Не крычы. Тут я гаспадар. Да мяне таварыш прыехаў, якога ты хочаш абабраць да ніткі...

— Нічога я не хачу. Я нават нічога не ведаю...

Ізольда падхопліваецца, лашчыцца, прыціскаецца да Мікалая.

— Ён пазваў. Наконт аліментаў. Не хоча плаціць...

Калі Ізольда з Мікалаем пакідаюць хату, Млыноўскі гаворыць:

— Твой сын падказаў. Вадзім. Бачыў майго хлопца.

Душа Несцяровіча поўніцца гневам. Навошта яму прыніжацца? Прасіць літасці ў тарбахватаў? Няхай яны просяць...

## X

Кола замкнулася. Несцяровіч зноў у Доме творчасці. Цяпер як вольны казак. Ён можа месяц тут прасядзець, можа больш. Два гады — без лекцый, семінараў — яму вызначана на напісанне доктарскай дысертацыі.

Цяжкі быў год. Усё круцілася нібы ў віры. Адна нечаканасць змяняла другую. Ён, вядома, неўрастэнік. Такіх раней называлі іпахондрыкамі. Можа прыдумаць гісторыю, паверыць у яе. Хоць у цяперашнім свеце трымай вуха востра. Гісторыя, з-за якой ён пакутаваў, здараецца на кожным кроку.

Несцяровіч адчувае: адзін адрэзак жыццёвага шляху пройдзены, пачынаецца другі. Дзесяць гадоў прастаяў ён за кафедрай. Шкада, не знайшлося студэнта, які б падрабязна канспектаваў яго лекцыі. Можна было самому пашукаць такога студэнта. Бо ён не толькі паўтараў нешта вычытанае, але іншы раз імправізаваў, выказваючы тое, што нарадзілася ў душы. Як прыдаўся б цяпер Несцяровічу канспект уласных лекцый...

Восень. Стаяць у золаце бярозы; нібы барвова-чырвоныя вогнішчы, свецяць сярод астатніх дрэў асіны. Ціха, аднастайна-таямніча шумяць хвоі.

Даўно пасябраваў з лесам Несцяровіч. Яшчэ ў раннім дзяцінстве. Лес навяваў мары, летуценні, як бы рыхтуючы юнака ў далёкую жыццёвую дарогу. Лес і лячыць можа, супакойваць, уціхамірваць, калі мары не спраўджваюцца.

Вірлівы, пакутлівы быў год, і як узнагарода — лясная цішыня. Падае пажухлы ліст, шасціць пад нагамі. На аголеным цёмным вецці вырасце наступнай вясной новы, зялёны, сведчачы, што жыццё не спыняецца, ідзе на новы круг.

*1997*

# ДЗЯСЯТЫ КЛАС

## I

У хліпкім, адліжным студзені тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года паранены, спісаны з арміі па чыстай, малады, але змарнелы Грыша Ладуценка вярнуўся дадому.

Некалькі месяцаў ён дыбаў з паўпустым рэчавым мяшком з гарадка паблізу Харкава, дзе ляжаў у шпіталі. Армія наступала, фарсіравала Днепр, і ён трымаўся яе тылоў, бо тут лягчэй было пракарміцца.

Са шпіталя ён выпісаўся позняй, але цёплай восенню. Дрэвы, асабліва дубы, асіны і клёны, стаялі ў барвова-залатым убранні. З раніцы ўзыходзіла нізкаватае сонца і пад поўдзень грэла ніштавата. Байцы тылавых часцей скідалі шынялі, скручвалі ў скаткі, крочылі ў адных гімнасцёрках.

Наступленне фронту, які другі раз за год — у лютым сорак трэцяга і ў жніўні — браў Харкаў, развівалася хоць і не вельмі імкліва, але паспяхова. У дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі Чырвоная Армія з вялікімі ахвярамі вызваліла Кіеў.

Грыша ведаў, што немцаў выгналі з некаторых беларускіх раёнаў. У тым ліку і з роднага мястэчка.

Паўночныя вятры нечакана прынеслі холад, і, пераначаваўшы ў полі, у стозе саломы, акрываючыся шынелкам з танкаватага англійскага сукна, Грыша прамёрз і прастудзіўся. Два тыдні ён ляжаў на печы ў спагадлівай украінкі, вёска якой размяшчалася на самым памежжы з Беларуссю.

Той украінцы Грыша падараваў гарусавую хустку — адзін з нешматлікіх падарункаў, якія нёс у рэчавым мяшку. Яшчэ на падыходзе да мястэчка Грыша даведаўся, што яно ўцалела. На Дняпры ўжо быў адноўлены мост, і хлопец сеў у цягнік.

Незвычайная радасць захліснула Грышавы грудзі, калі ён выйшаў на перон. Станцыя ніколькі не змянілася. На тым жа месцы стаяў пафарбаваны ў жоўты колер будынак, дзе размяшчаліся пакой дзяжурнага па станцыі, тэлеграф, чакальная зала з білетнай касай і буфет. Не кранула вайна і астатніх будынкаў — таварнай канторы, кабінета начальніка станцыі,

пакгаўза. Тыя самыя велізарныя дубы сваімі пышнымі кронамі ахінalі станцыю.

І далей было ўсё знаёмае, некранутае: вагавая будка, нарыхтоўчыя базы. І толькі на месцы агромністай гандлёвай базы, пабудаванай перад самай вайной, хлопец убачыў папялішча. Відаць, тут размяшчаліся нямецкія ваенныя склады.

Грыша вярнуўся дамоў з цяжкім, прыгнечаным настроем, які не магла да канца развеяць нават сустрэча з родным домам. Ён столькі пабачыў жахаў і жудасцей вайны, гора, слёз, смярцей, што марыў пра адно: пабыць у цішыні, адаспацца, адагрэцца, знайсці душэўную раўнавагу.

Пры яго з'яўленні ў родным доме ўсе нібы анямелі. Бацька, жарсткаваты, не схільны да сантыментаў, зрабіўся, як дзіця, мяккім, падатлівым. Маці наогул не разумела, на якім яна свеце. Малодшыя брат і сястра, якія прыкметна падраслі, выцягнуліся, глядзелі на Грышу, як на казачнага героя.

Сярэдняга брата, Міхася, дома не было. Ён, небарака, не маючы поўных шаснаццаці гадоў, пайшоў на ўласны хлеб. Рабіў у Гомелі аглядчыкам вагонаў.

Сям'я жыла надгаладзь.

Багатай радні ў Грышы не было. З нагоды яго вяртання завітала толькі цётка Анюта, стрыечная сястра маці, паўнацелая местачковая прыгажуня. Яна прынесла бохан хлеба, ладны крышан сала.

Гэта трохі аблегчыла жыццё, бо сям'я сядзела на бульбе, якую нарасціла на агародзе і на выдзеленым кавалку поля. Карова яшчэ даілася, але мусіла вось-вось запусціцца.

Мястэчка фактычна было прыфрантавым. Савецкае войска толькі-толькі фарсіравала Прыпяць і вызваліла горад Мазыр. З паўночнага боку, там, дзе перад самай вайной калгасы дружна асушалі балоты, пралягаў фронт. Прыкладна кіламетраў трыццаць-сорак ад мястэчка.

Грыша застаў поўную хату вайскоўцаў, хлопцаў прыкладна свайго веку. Яны па чарзе ездзілі ваяваць у залітых вадой балотных акопах. Вярталіся зняможаныя, хворыя, страшна кашлялі, хрыпелі прастуджанымі грудзьмі. Грышу, двойчы параненаму, нават было сорамна грэцца на печы. Бо салдаты ляжалі на падлозе на саломе.

Некалькі месяцаў правёў Ладуценка ў шпіталі пасля першага ранення, якое атрымаў пад Масквой. Разрыўной куляй яму развярнула левае плячо. Быў, відаць, пашкоджаны нерв, і левая частка цела знерухомела. Ён думаў, што наступае канец. Але пакрысе боль адступіў, рука пачала варушыцца.

Другое раненне, менш цяжкае, ён атрымаў пад Харкавам. Асколак міны, якая разарвалася на брустверы, драпануў патыліцу. Але больш цяжкая, чым раненне, была кантузія. Ён страціў слых, нюх, галава здавалася пустой, і ў ёй увесь час шумела. Слых вярнуўся, нюх жа прапаў канчаткова. Ён пакутаваў ад пастаянных боляў у галаве.

Дзіўна Грыша трапіў у армію. Іх, некалькіх хлопцаў і дзяўчат, райкам камсамола абавязаў гнаць на ўсход калгасных кароў. Месяц цягнулася вандраванне. Ён за гэты час зазнаў столькі гора, так стаміўся, знябыўся, што не захацеў вяртацца ў мястэчка, якое немцы, здаецца, яшчэ не паспелі захапіць. Дзяўчаты і двое хлопцаў (сярод іх школьны таварыш Мікалай Зімчук) пакіравалі дамоў. А ён падаўся ў гарадок Жыздру, дзе жыў далёкі сваяк. Звычайна сястра сваяка, суседка, трохі картавая, на пытанне, дзе жыве брат, адказвала:

— У Жызд’і...

У Жыздры, аднак, сваяка не было: яго як ветэрынара паспелі мабілізаваць у армію. Грыша пайшоў у ваенкамат.

Маладжавы маёр перабраў Грышавы паперкі і, не хаваючы хітрых агеньчыкаў у вачах, спытаў:

— Чым ты дакажаш, што не шпіён? Цяпер блукае многа такога цёмнага, як ты, народу...

— Можаце пазваніць. Гомель, Мазыр немцы яшчэ не занялі...

Маёр задуменна зірнуў на Грышу:

— Яны, брат, Смаленск занялі. Ірвуцца да Масквы. Гэта для нас важней... Прыйдзі заўтра...

Грышу не было як чакаць да заўтра. Ён быў галодны, не было дзе начаваць. Таму хлопец папраўіў у метрыках пяцёрку на тройку. Цяпер яму стала васямнаццаць гадоў. У той жа Жыздры ён пашыбаваў у штаб воінскай часці. Прачытаўшы ў пераводным пасведчанні, што Грыша дзесяцікласнік, стары

капітан у пенснэ, падобным на тое, якое насіў пісьменнік Чэхаў, нават узрадаваўся.

Грыша, аказваецца, трапіў у пантонна-маставы атрад, якому патрэбны былі пісьменныя хлопцы. Такія, якія лёгка маглі разлічыць, колькі толу, аманалу, дынаміту, іншага выбуховага рэчыва патрэбна для падрыву таго ці іншага моста.

Назаўтра Грыша меў гімнасцёрку, шынель, пілотку з зорачкай і ўпершыню за месяц з лішкам бадзяння ўволю наеўся прасяной кашы. У атрадзе было некалькі машын-паўтаратонак, салдаты жылі ў палатках. Пачынаючы ад Рослаўля, Кірава, знаёмай Жыздры, услед за адступаючай арміяй байцы ўзрывалі і палілі масты. Але так толькі лічылася, што ўслед. Трывалага фронту, а таксама надзейнай сувязі між воінскімі часцямі не было. Часам прыходзілася наладжваць пераправы для груп чырвонаармейцаў, якія выходзілі з лясоў і збіраліся на беразе рэчкі, масты на якой ужо былі ўзарваны.

Атрад, як і шматлікія часці, восенню сорак першага года трапіў у Бранска-Вяземскі кацёл. Але наяўнасць машын дапамагла вырвацца з варожага акружэння.

Пад Масквой атрад дзейнічаў у складзе пяхотнага палка. Там Грышу цяжка параніла. Лячыўся аж ва Уральску, дзе праляжаў да вясны.

Дзіўныя здараюцца на вайне супадзенні. Пасля шпіталя Ладуценку накіравалі ў запасны полк, які размяшчаўся ў Кіраве, адбітым у немцаў у выніку зімовага наступлення. А з Кірава, недалёкай ад яго Жыздры, Рослаўля ён пачынаў вайну.

Потым быў Харкаў. Ладуценка ўдзельнічаў ва ўзяцці яго ў лютым сорак трэцяга, потым у жніўні. У жніўні яго другі раз параніла.

Пасля гэтага ён лячыўся ў маленькім гарадку паблізу Харкава. Нашы войскі ўжо гналі немцаў, і ў шпіталі жыццё Грышы Ладуценкі звялося да ўспамінаў. Ён згадваў свой двор, насып чыгункі за агародам, станцыю, вагавую будку, базы, склады наўзбоч тупіковых пуцей.

Найчасцей перад яго вачамі паўставалі агромністыя веліканы-дубы, што ахіналі чыгунку. Такіх дубоў за доўгія месяцы ваенных вандровак Грыша не бачыў нідзе. Тлела ў душы кволая надзея застацца жывым, вярнуцца дамоў, абняць

маці, бацьку, двух братоў і сястру. І яшчэ адна думка-мара, чым далей, тым болей, укаранялася ў Грышавай душы: не трэба нікуды ездзіць, блукаць па чужых дарогах, а жыць там, дзе нарадзіўся,— на роднай зямлі, пад родным небам.

## II

Толькі два тыдні пагуляў вольным казаком Грыша. Бохан хлеба і крышан сала, які прынесла цётка Анюта, з’елі хутка. У бацькі, які робіць на станцыі стрэлачнікам, прадуктовая картачка. Па ёй фактычна ён атрымлівае толькі хлеб — буханку на тры-чатыры дні. Трохі малака дае карова-пярэдайка, якая літаральна ратуе сям’ю.

Сёе-тое перападае сям’і ад салдат, якія стаяць у хаце, разпораз ад’язджаючы на фронт, на мокрае балота, і вяртаючыся назад. Але і салдаты любяць бульбу, вараць яе ў кацялках, і невядома, ці хопіць яе да вясны.

У Грышы пасведчанне інваліда другой групы, але ў ваенкамаце інвалідам нічога не даюць.

Хлопец ідзе ў рамонтную брыгаду, у якой працаваў да вайны, пачынаючы з чацвёртага ці пятага класа. Брыгадзір ранейшы: чарнавокі, лабасты Галошкін, суровы з выгляду і мяккі па характары. З даваенных, знаёмых Грышу пуцейцаў у брыгадзе толькі двое. Астатнія — зборны люд, ёсць нават маладыя жанчыны.

Ранейшай чыгункі няма. На шырокім жвіровым насыпе ляжыць толькі адна каляя з кароткімі рэйкамі.

Брыгада працуе каля лясной будкі, якую так часта ўспамінаў Грыша. Толькі лесу няма. Ён высечаны паабапал чыгункі на дзвесце метраў. Баяліся немцы партызан, выбухаў на чыгунцы, таму вынішчылі лес.

Па пнеўі густа падымаюцца маладыя дрэўцы. Іх тонкія дубчыкі прагна цягнуцца да сонца. Але выгляд лесу мяняецца. Некалі тут быў светлы сасновы бор. А зараз маладых хвоек не відаць. Іх забівае чарналессе: асінкі, бярозкі, ляшчыннік.

Знішчаны лес дзяцінства, і ад гэтага сумна на душы.

Грыша хутка перазнаёміўся з рамонтнікамі. Яму нават падабаецца адна рамонтніца — чарнявая Зося, якая таксама

кідае прыязныя позіркі на Грышу. Яна маладая ўдава: калі вызвалілі мястэчка, на мужа прыйшла пахаронка.

Зося задзірыстая і смяшлівая. Бліскаючы залатым зубам, яна штодзень высмейвае марудлівых дзядзькоў, якія пры адыходзе брыгадзіра адразу спыняюць работу. Яны або стаяць, абапіраючыся на лапаты, або разводзяць цяпельца, садзяцца вакол і грэюць рукі.

Грыша, можна лічыць, адляжаўся, адаспаўся. Ён абышоў мястэчка — усе вуліцы і ваколіцы. Паселішча ад вайны пацярпела мала. Хлопец з вялікай радасцю аглядаў знаёмыя з дзяцінства мясціны. Ускраіна мястэчка, якая называецца Дрылі, хоць і ацалела, але выглядае вельмі ўбога. Стаяць, уросшы ў зямлю, звычайныя вясковыя хаты, будынкі з абадранай тынкоўкай, хлявы з праваленымі стрэхамі.

Асабліва радуецца Грыша ўцалелай станцыі. Са станцыяй звязаны ягонае дзяцінства і не надта шчаслівае юнацтва, перапыненае вайной.

Некалі ён марыў: сядзе ў цягнік і паедзе ў шырокі свет. Вучыцца. Пасля сёмага ці дзясятага класа. Інакшага працягу жыццёвага шляху не бачыў.

Грышу, які, прыйшоўшы з работы, лезе на цёплую печ, сорамна перад прастуджанымі байцамі, якіх душыць надрыўны кашаль.

Маці іх лечыць. Заварвае розныя зёлкі, дае піць. Толькі Грышу яна не можа вылечыць. Ад кантузіі ў яго раптам пачынае страшэнна шумець у галаве, дрыжаць рукі, ногі. Ён у такіх выпадках шукае зацішку, ляжыць, акрыўшыся шынялём.

Адзінока жыве Грыша. Сябры-таварышы, падхопленыя віхурай вайны, раскіданы па свеце. Пра некаторых няма ніякіх вестак: або загінулі, або пакутуюць у палоне.

На вугальным складзе робіць Іван Гарошык, з якім Грыша да вайны сябраваў. Яны іншы раз сустракаюцца на станцыі, заводзяць кароткія гаворкі.

Не так даўно выпісаўся са шпіталя Мікалай Зімчук, які разам з Грышам гнаў кароў на ўсход, але вярнуўся ў мястэчка разам з дзяўчатамі і Васілём Грышкіным.

Зімчук разам з Гарошыкам, Грышкіным, іншымі хлопцамі і дзяўчатамі, жывучы ў час акупацыі ў мястэчку, памагаў

партызанам. Як толькі прыйшла Чырвоная Армія, ён быў мабілізаваны.

Яго цяжка параніла ў жывот на тых самых мокрых балотах, куды ездзяць салдаты, што кватаруюць у Грышавым доме. І лячыўся Зімчук у мясцовым шпіталі, які толькі-толькі быў арганізаваны.

Зімчук шчуплаваты, сімпатычны, з вясёлымі цемнаватымі вачамі і вялікім носам. Да вайны ён вучыўся даволі пасрэдна, затое ўсё пра ўсіх ведаў. Ён і зараз шмат пра каго можа расказаць. З дзесяцікласнікаў, якія пайшлі на фронт у сорак першым, мала засталося ў жывых. Толькі Ізя Пэральман, які служыць у санітарным поездзе, ды Кірыла Цукар — яму пашэнціла вывучыцца на армейскага радыста. З дзевяцікласнікамі справа не лепшая. Шмат іх палягло ў баях мясцовага значэння, якія з восені вядуцца на аддаленых балотах.

Ён і пра Габрыелу, дзяўчыну, з якой яны разам гналі кароў, расказаў Грышу. Яна, аказваецца, дачка ўрача і фельчаркі з суседняга вялікага сяла. Цяпер бацькі Габрыелы перабраліся ў мястэчка і абодва працуюць у шпіталі. Можа, і перабраліся дзеля таго, каб даць дачцэ магчымасць вучыцца.

Паведамленне пра Габрыелу аглушае Грышу. Значыць, яна тут, у мястэчку, а ён за тры месяцы яе ні разу не пабачыў. Па словах Мікалая, яна пойдзе ў дзясяты клас, заняткі ў якім пачнуцца з восені.

Каб Грыша быў больш пранiклівы, то заўважыў бы, што Мікалай, расказваючы пра Габрыелу, крывавата пасміхаецца, як бы штосьці недагаворвае. Але Грышу захліствае радаснае пачуццё — ён можа пабачыць Габрыелу!

Школай загадвае Валянціна Паўлаўна Дудзінская.

Дзяўчат на дзясяты клас хапае. Толькі дзвюх ці трох фашысты пагналі на работу ў Германію і столькі ж пайшло ў армію. Астатнія дома. Праўда, некаторыя працуюць у шпіталі. З хлопцамі цяжэй. Тым не меней абрысы дзясятага класа вымалёўваюцца.

Дудзінская выклікае да сябе двух былых дзевяцікласнікаў: Грышу Ладуценку і Мікалая Зімчука. Размова кароткая: рых-

туйцеся да вучобы. Атэстат трэба мець. А там рабіце што хочаце.

Валянціна Паўлаўна не змянілася. Можа, толькі трохі распаўнела. Той жа ўладны, пранізлівы голас, тыя ж звычка камандаваць і нежаданне прымаць хоць якія-небудзь пярэчанні.

Пры немцах у мясцовай дзесяцігодцы размяшчаўся са сваёй світай гебітскамісар, пасля — штаб нямецкай воінскай часці. Капітальна адрамантаваць абшарпаны будынак да пачатку заняткаў не ўдалося. Здолелі толькі саскрэбці нямецкія надпісы на дзвярах класаў, сяк-так пабяліць сцены і вымыць падлогу.

Грыша іншы раз думаў пра заканчэнне вучобы, калі ўдасца вярнуцца дадому жывым. Ён бачыў сябе ў акружэнні знаёмых хлопцаў, дзяўчат, чуў галасы даваенных настаўнікаў.

Вайна не скончылася, яшчэ і Беларусь не вызвалена, а Грыша разумее, што дзясятага класа, такога, якім яго ўяўляў, ніколі не будзе. Бо загінулі і вучні, і настаўнікі, і вайна наогул дашчэнту перайначыла жыццё.

Івана Гарошыка Дудзінская таксама сагітавала пайсці ў дзясяты клас. Іван школу скончыў яшчэ ў сорак першым годзе. На другі дзень пасля выпускнога вечара ён паслаў дакументы (у іх ліку атэстат за сярэднюю школу) у артылерыйскае вучылішча. Там яны і прапалі, бо грымнула вайна.

Сам Іван пабыў на фронце яшчэ ў сорак першым, трапіў у палон, але праз дзень-два выслізнуў з калоны, калі палонных вялі на станцыю.

Дома Іван, як і Зімчук, не сядзеў склаўшы рукі. Хлопцы патроху шкодзілі немцам, дапамагалі партызанам. Іван нават у партызанскім атрадзе быў. Другі раз Гарошыка ў армію не ўзялі. На яго ўтрыманні хворая маці і сястра. Ваенкамат, каб даць Івану бронь, паслаў яго працаваць на чыгуначны вугальны склад.

Мікалая Зімчука забралі ў армію восенню сорак трэцяга года, калі Чырвоная Армія фарсіравала Днепр і вызваліла некалькі паўднёвых беларускіх раёнаў. На фронце ён пабыў тыдні са два. Але зазнаў там такога ліха, што нават Ладуценка, які ваяваў амаль тры гады, жахнуўся. У запасным палку, размешчаным у сяле, непадалёк ад мястэчка, Мікалая за нейкі

месяц зрабілі кулямётчыкам і адправілі на балоты, за якія і цяпер змагаюцца чырвонаармейцы.

Мікалай з другім нумарам выбралі адносна сухі грудок, на якім выкапалі акоп, дзве запасныя ячэйкі і ўстанавілі кулямёт. У хуткім часе снег растаў, і грудок ператварыўся ў астравок сярод суцэльнай воднай прасторы. Для немцаў гэта быў выдатны арыенцір. Садзілі з мінамётаў па астраўку безупынна.

Але галоўная бяда была не ў гэтым. Кулямётчыкам з-за зімовай паводкі не маглі даставіць прадуктаў. Мокрыя, галодныя, яны поўзалі па нейтральнай паласе, абшарвалі ранцы забітых немцаў. Ім удалося раздабыць біклагу спірту. Спіртам грэліся. Елі каніну. На нейтралцы ляжаў забіты конь, і яны штоночы прабіраліся да разбухлага трупа, абразалі кавалкі смярдзючага мяса і смажылі на агеньчыку, які развялі ў акопе.

Недзе на зыходзе другога тыдня вада спала. Старшына ўпершыню прывалок кулямётчыкам тэрмас супу, хлеб, іншыя прадукты. Але ў тую ж ноч параніла другога нумара, а затым і Мікалая. Рана была цяжкая: асколкам міны распарола жывот.

Месяцы тры правёў Мікалай у мясцовым шпіталі, побач з якім стаяла родная хата. Як толькі рана пачала загойвацца, Мікалай, можна сказаць, не вылазіў з дому. У шпіталь хадзіў на перавязку і з кацялком — па харчаванне.

Грыша цяпер ведае: ягоныя сябры-таварышы, якія засталіся ў акупацыі, пад немцам, думалі пра фронт, пра Маскву, пра вялікую краіну, якая знемагала ў баях. А ён, Грыша, марыў вярнуцца ў мястэчка. Ён бачыў сваю хату, двор, вулкі, правулкі, поле з заходняга боку мястэчка, па якім вяртаўся з лесу, з грыбоў, і чыгуначную станцыю. Яе ён асабліва любіў. Марыў, калі будзе вяртацца з фронту, вылезці з вагона і на вышчарбленым пероне ўбачыць каго-небудзь знаёмага.

У Грышы былі два шпіталі, але зусім не такія, як у Мікалая. Адзін знаходзіўся ва Уральску, другі — у гарадку пад Харкавам.

Шпіталь на вайне — гэта месца для ўспамінаў. І яшчэ для спрытнюг магчымасць павалачыцца за дзяўчатамі і жанкамі.

Лежачы ў шпіталі, Грыша ўспамінаў, як яны гналі статак кароў, пыльныя прасёлкавыя дарогі, высокае жыта, якое па-

чало ўжо наліваецца. У небе пераможна ўладарылі нямецкія самалёты. Іншы раз яны кідалі бомбы і на статак.

У вёсках паганятыя прасілі жанчын падаіць кароў. Яны і самі навучыліся даіць, у тым ліку і хлопцы, але ў статку было болей за дзве сотні галоў, і справіцца з такой колькасцю скаціны паганятыя не маглі. Каровы ішлі з адвіслым вымем, пакутліва мычалі. Выручалі чырвонаармейцы, калоны якіх ішлі на фронт, ці без артылерыі, кулямётаў групкі байцоў, якія брылі з фронту.

У першай жа вялікай вёсцы да местачковага далучыўся меншы статак калгасных кароў. Паганятымі былі два хлопцы і дзве дзяўчыны. Адна з іх падалася Грышу прыгожай. Звалі яе дзіўна: Габрыела. Хто гэтая залётная птушка, у якім гняздзе ўзгадавалася, Грыша не ведаў. Паблізу Лоева, каля пераправы праз Прыпяць, на дарозе сабралася некалькі гуртоў. Наляцелі нямецкія самалёты, пачалі бамбіць статкі. Каровы, людзі разбегліся па жыце. Так здарылася, што Грыша ўпаў побач з Габрыелай — твар яе быў потны, расчырванелы. Цяжка дыхаючы, яна павярнулася да Грышы, закінула руку яму за шыю і пацягнула на сябе. Недзе блізка выбухнула бомба... Яны абое ўзбуджана дыхалі...

Грыша пасля гэтага многа думаў пра дзяўчыну. Чаго яна хацела? Відаць, спалохалася, шукала абароны ў яго, мужчыны. А можа — другое?..

## III

Пасля таго як Мікалай Зімчук паведаміў, што Габрыела тут, у мястэчку, Грыша нібы абудзіўся ад сну. Пачаў думаць пра дзяўчыну, якую фактычна не ведаў і з якой сутыкнуўся на сотай ваеннай вярсце.

І здарыўся цуд. Аднойчы Грыша, скончыўшы змену, пакіраваў дамоў не чыгункай, не полем узбоч яе, а травяністай ваколіцай, якая ляжала наводдаль. Некалі гэтую ваколіцу восенню залівала вада, а зімой дзятва каталася тут на каньках. Толькі цяпер, здаецца, не катаецца. Пасля таго як на галоўным балоце, што раскінулася на ўсход ад мястэчка, правялі меліярацыю, нізкая ваколіца высахла сама

сабой. Мясцовыя жыхары на ўскраіне лугавіны нават пачалі забудоўвацца.

Ідучы сцежкай, Грыша вачам не паверыў: каля адной новай хаты на плятні сядзелі дзве дзяўчыны, і адной з іх была Габрыела. Грышу аж дух заняло. Не забыў ён дзіўную, загадкавую фею...

Грыша не спыніўся, не павітаўся з Габрыелай, тым болей што другой дзяўчыны ён не ведаў.

З гэтага моманту хлопец канчаткова вырашае, што пойдзе ў дзясяты клас. У час размовы з Дудзінскай ён яшчэ хістаўся, бо стаць звычайным вучнем не мог: трэба зарабляць на хлеб. Тым часам старэйшыя класы заўсёды займаюцца ў другую змену. З раніцы ён пойдзе ў брыгаду, у другой палове дня — у школу.

Грыша весялее. Жыццё набывае сэнс.

Да вайны ў час летніх канікулаў ён выпісваў «Звязду». Бо меў кішэнныя грошы. Ён і цяпер ідзе на пошту, каб выпісаць газету.

Будынак пошты ранейшы. Перад самай вайной яго разам з будынкам раённай газеты пабудавалі на ціхай ускраіннай вуліцы. На жаль, на «Звязду» падпіскі няма. Беларусь яшчэ пад немцамі, і «Звязда» выдаецца як партызанская газета. Затое ў Гомелі выходзіць «Савецкая Беларусь» на беларускай мове, і Ладуценка яе выпісвае.

Як бы ў знак удзячнасці паштарка дорыць Ладуценку цэлы стос газет за мінулыя месяцы. Бо пакуль што мала хто выпісвае іх, і тыя бясплатна размяркоўваюць па сельсаветах, калгасах. Газеты ахвотна бяруць байцы і камандзіры. І хоць беларускай мовы не ведаюць, неяк чытаюць і разумеюць напісанае.

Ужо лета прыйшло. Звычайнае лета, з сонцам, зелянінай, спевам птушак. Як бы і не было мокрай, слізкай зімы, больш падобнай на мокрую восень.

Фронт заварушыўся. На станцыю прыбываюць новыя і новыя эшалоны. Танкі, артылерыя рассяроджваюцца ў навакольных лясах. Гэты рух заўважаюць немцы. У адзін з ясных чэрвеньскіх дзён на станцыю налятае армада нямецкіх самалётаў. Гэтак жа, як у сорак першым годзе. І тады ў

станцыйныя будынкі рэдка калі пападалі бомбы, цяпер яны ўвогуле падаюць дзе папала.

Грыша атрымлівае пісьмо ад Васіля Грышкіна. Ён лёгка прачытвае між радкоў трывожныя думкі, якія валодаюць Васілём. Сябар ваюе недзе на памежжы з Усходняй Прусіяй. Ён асцярожна піша пра нямецкія ўмацаванні, якія ім прыходзіцца проста прагрызаць метр за метрам. І пра салдацкі побыт піша Васіль, але нявесела. Як сведчыць пісьмо, хвіліны радасці ён перажывае тады, калі прыязджае кухня і калі прыносяць пошту.

У Грышы і гэтага не было. Больш як два гады ён не атрымліваў з дому пісем. Не ведаў нічога пра сям'ю.

Ад вайны нідзе не схаваешся. Адзін з салдат, якія запаланілі мястэчка, прыйшоўшы ў хату, папрасіўся на печ. Ён захворваў, яго трэсла як у ліхаманцы. У гэты час пачаўся налёт нямецкай авіяцыі. Нямецкі лётчык спусціўся ледзь не да местачковых дахаў, абстрэльваў наваколле з кулямёта. Куляй прабіла сцяну і параніла салдата, які ляжаў на печы. Ішоў салдат на фронт, а паляжаў на печы — і трапіў адразу ў шпіталь.

Нарэшце пачалося! Пра летняе наступленне Чырвонай Арміі на Беларусь Грыша даведаўся не з газет. Ён уласнымі вушамі пачуў артылерыйскія грымоты з боку тых балот, адкуль прыходзілі абсушвацца салдаты. Аднойчы яны болей не прыйшлі. Некаторыя пасля пісалі лісты. Доўга, ледзь не да канца вайны.

Палессе — падбрушша Беларусі. Адсюль немцам ударылі пад самы дых. Усё тое, што немцы рабілі з Чырвонай Арміяй у сорак першым годзе, ім адгукнулася на гэтай жа беларускай зямлі ў сорак чацвёртым. Не больш чым праз тыдзень пасля пачатку наступлення замільгалі зводкі пра ўзяцце беларускіх гарадоў — вялікіх і малых, пра катлы, якія наладзілі немцам пад Бабруйскам, пад Мінскам і ў іншых мясцінах. Нарэшце — і Мінск вызвалены.

Мястэчка з палёгкай уздыхае. Цяпер прыфрантавая паласа далёка. Спее бульба, на градцы можна знайсці агурок, ягад у лесе, куды зусім нядаўна баяліся хадзіць местачкоўцы, хоць захлыніся.

Азімае жыта, якое гаспадары сеялі аднаасобным парадкам, будзе жаць калгас. Харошае жыта. Густое, з буйным коласам.

Грыша дзівіцца: ён з сябрамі і дзяўчатамі перагнаў калгасных кароў, армія забрала коней, ніякай тэхнікі ў мястэчку не засталося — і ні адзін лапік зямлі ў мястэчку не пуставаў. Хоць капалі рыдлёўкамі, аралі на ўласных каровах, а зямлю засеялі.

Калгасы зжынаюць жыта і адразу вязуць на нарыхтоўчы пункт. Збожжавая база якраз за Грышавым агародам. Дзяўчаты дасушваюць жыта на разасланых брызентах, посцілках, пералапачваюць яго, сушаць.

Вечарамі, сабраўшыся ў гурт, дзяўчаты спяваюць песні. Пераважна сумныя. Бо ўсё часцей прылятаюць у вёскі, нібы жалобныя кнігаўкі, пахаронкі.

Грыша зусім абнасіўся. Чаравікі, у якіх ён прыйшоў дадому, канчаткова распаўзліся. Трэба купляць новыя. Хлопец нарэшце аформіў пенсію. Не такія вялікія грошы, але і яны не пашкодзяць. Грышу адразу налічылі пенсію за тры апошнія месяцы. На чаравікі, здаецца, хопіць. Варта было б штаны і сарочку купіць, бо ваеннае абмундзіраванне таксама не вечнае. Але гэта ўжо з наступных пенсійных палучак.

Грыша нечакана стаў атрымліваць «Звязду». У газеце пануе высокі, урачысты тон. На людскую бядоту, нягоды, розныя жыццёвыя недахопы, недахваты газета не зважае. Яна, нібы арол, лунае ў паднябессі і піша толькі пра вялікае і значнае. Нават у Грышавым раёне «Звязда» знаходзіць факты, вартыя ўхвалы і пераймання. Напрыклад, тое, што мясцовыя ганчары вылепілі болей за дзве тысячы штук глінянай пасуды: місак, гаршкоў, глячкоў.

Выступіў у «Звяздзе» з вялікім артыкулам-падвалам старшыня мясцовага райвыканкама. Ён прывёў жахлівыя факты. Спалена большая палавіна вёсак раёна, расстраляны і спалены жывымі дзве з паловай тысячы мірных жыхароў, столькі ж вывезена ў Германію. Артыкул канчаецца на аптымістычнай ноце. Жыццё ідзе наперад. На папялішчах вырастаюць новыя хаты, адкрываюцца школы, пятнаццаць тысяч пудоў хлеба плануецца здаць Чырвонай Арміі. Няма цягла, але і гэта не перашкода. Больш як дзве тысячы кароў прывучаны да палявых работ.

## IV

Лета дорыць сонечныя дні, цеплыню, і дажджы раз-пораз пырскаюць. Як толькі паспявае жыта, з’яўляюцца першыя грыбы-каласавікі. Суседка Мар’я, хата якой стаіць якраз насупраць Грышавага двара, цішком шуснула ў лес і прынесла ў кошыку баравікоў-жытнікаў. Затапіла печ: значыць, парадкам назбірала грыбоў і цяпер іх сушыць.

Апошні раз Грыша быў у лесе чатыры гады назад. Дзіўны быў той паход за грыбамі. Ён выбраўся ў лес са стрыечным братам Адамам. На зарослай ціпчаком паляне насупраць Барсуковай будкі трапілася столькі баравікоў, што сядзі на адным месцы і толькі падразай карэньчыкі. Грыбы былі іменна жытнікі: карэньчыкі не вельмі тугія, мяккаватыя і некаторыя, хоць і маладыя, з чарвінінкай.

На паляне Грыша заўсёды знаходзіў грыбы, але такога багацця, як тады, яшчэ не бачыў. З боку мястэчка да паляны падступаў густы, цёмны грабняк, з заходняга боку — бор, у якім сярод стромкіх, нібы нацягнутыя струны, сосен траплялася часам бярэзіна, асіна і нават ліпа.

Паляна ляжыць пры грунтавым шляху. Праз яго лес зусім інакшы. Грабняку няма і згадкі, на нізкаватай балоцістай глебе высяцца рэдкія велічныя дубы, на ніжэйшай балацянцы растуць прыземістыя хвойкі.

Пасадкай, упарадкаваннем лесу займаліся даўно. Дубам гадоў па трыста, іх пасадзілі яшчэ ў часы Вялікага Княства Літоўскага.

У тое першае ваеннае лета Грыша імгненна запоўніў кошык, затым, зняўшы сарочку, завязаўшы рукавы, зрабіў штосьці накшталт мяшэчка і яго таксама напакаваў грыбамі.

Адам таксама сабраў ніштавата грыбоў. Але пасля абеду ў лес ісці не захацеў. А Грыша зноў ірвануў на сонечную паляну. І ледзь не заплаціў за прагу да грыбоў жыццём. Як толькі ён пачаў падразаць і класці ў кошык баравікі, раздалася доўгая кулямётная чарга. Частыя кулі ціўкалі, абіваючы лісце з маладзенькіх бярозак і хвоек. Грыша лёг на жывот і папоўз да чыгункі.

Хто страляў? Невядома. Немцы занялі мясцовасць не хутка. Можа, шайка дэзерціраў ці проста бандыты, спакой якіх ён парушыў, другі раз завітаўшы ў лес?

Цяпер Грыша ідзе ў лес, не верачы, што знойдзе якое-небудзь грыбовішча. Бор каля чыгункі, у якім ён заўсёды што-небудзь знаходзіў, вынішчаны. Тым не меней, дайшоўшы да Барсуковай будкі, Грыша збочвае на правы бок, не жадаючы мінаць знаёмую сонечную паляну.

Грабняку няма, няма светлага выноснага бору, разлапістых дубоў. На паляне густа разросся ляшчыннік. Нават трава перамянілася. Замест шорсткага нізкага ціпчаку расце высокая, мяккая трава, падобная да вішы, якой местачкоўцы набіваюць сеннікі.

З першых крокаў Грыша пачынае знаходзіць баравікі. Толькі яны не з белымі, як раней, а з цёмнымі шапачкамі: такія баравікі растуць пад ляшчынай. Значыць, зямля тая самая, грыбная, яна па-ранейшаму шчодра родзіць.

Грыша не шмат назбіраў баравікоў. Толькі тыя, што трапіліся на знаёмай паляне. Але дамоў вяртаецца задаволены. Колькі ён павандраваў па лесе! Абышоў ледзь не ўсе абсягі сасновых пасадак, бярозавых гайкоў, знаёмых з самых ранніх гадоў. Як жа перамяніўся лес за гэтыя чатыры гады! Хвойныя пасадкі хутка стануць борам. Нехта даглядае іх, прарэджвае. Беразнякі таксама дагледжаны. Іх высякаюць на дровы. Стусы бярозавых плашак трапляюцца часта. І бяскрайнія прасторы верасоў зарастаюць: зямля не любіць пустаты.

Вандруючы па пасадках сасоннікаў, па бярозавых гайках, верасах, ён калісьці марыў пра будучыню. І амаль не адчуваў, што насоўваецца вайна. А яна стаяла блізка, каля самага парога. Асабліва пасля далучэння Заходняй Беларусі і Украіны. Савецкі Саюз стаў межаваць з Германіяй, якая захапіла Польшчу. Ён, Грыша, нават радаваўся, што такія магутныя дзяржавы — Германія і Савецкі Саюз — прыйшлі да згоды, будуць жыць у міры. Які ён быў наіўны і недалёкі!

Здаецца, з таго часу прайшла цэлая вечнасць.

Тое самае неба над галавой, пад нагамі тая самая зямля, толькі зусім іншы чалавек глядзіць на неба і ходзіць па зямлі. Бяскрайняга ціхамірнага шчасця не бывае. За ўсё трэба плаціць. Плаціць жорстка, уласнай крывёю, жыццём...

Зямля спаласавана акопамі. Што думаў Грыша, калі знаходзіў у акопах першай германскай і польскай вайны белыя з доўгімі крывымі ножкамі грыбы? Нічога асаблівага. Ён радаваўся, што ніхто да яго першы не залез у акопы і не перахапіў ягоных грыбоў. І зусім не думаў, што ў акопах ляжалі, паміралі людзі і капалі іх, каб выратавацца ад смерці.

Цяпер ён ведае пачуццё, якое кіруе салдатамі на вайне. Глыбей залезці, зашыцца ў зямлю. Яна абароніць, выратуе. Бо столькі вынайдзена зброі, снарадаў, бомбаў, мін, каб знішчыць слабага і кволага чалавека...

Старыя акопы аплылі, апаўзлі, зараслі травою, іх нават цяжка пазнаць. Затое новымі нямецкімі акопамі разрыты лес. Немцы надоўга затрымаліся тут, абстрэльвалі мястэчка, і іх прыйшлося выкурваць літаральна з кожнай пядзі зямлі.

За апошнія сорак гадоў двойчы на гэту зямлю прыходзяць немцы. І чаму мы іх сюды пускаем? Хіба тут іх вотчына? А ў гэтую вайну яны так глыбока прасунуліся ў зямлю ўсходніх славян, што страшна падумаць. І ўвогуле ўсе славянскія землі апынуліся пад нямецкім ботам. Над гэтым варта задумацца...

Раней, яшчэ да вайны, Грыша пераадольваў граду пасадаксасоннікаў, беразнякі, выгары, верасовыя разлівы, выходзіў на гала, адкуль было відаць вёску Макаў. Ад яе да мястэчка, праўдзівей, да чыгуначнага паўстанка дзесяць кіламетраў. Грышу было прыемна, што ён столькі праходзіў па лесе.

Вёска Макаў — адметная. Зямля тут — суцэльныя неўраджайныя пяскі. Аднак і на такую зямлю паквапіліся ўкраінцы, якім, відаць, не на ўсіх хапала тлустых чарназёмаў. Яны купілі зямлю і пасяліліся на гэтых пясках. Пра іх жыццё нічога асаблівага не было чуваць. Сяк-так перакідваліся з хлеба на квас.

Грыша выходзіць на ўскраек лесу і вачам не верыць. Няма вёскі. На месцы хат — цёмныя коміны, разбураныя печы, па панадворках чорныя абвугленыя дрэвы.

Толькі цяпер да Грышы даходзіць: Макаў з ліку спаленых вёсак, якіх у раёне большая палавіна. А ён лічыў, што фашысты пазнішчалі толькі партызанскія вёскі, так сказаць, апорныя пункты лясных салдат.

Грышу аж горка стала. Вернуцца салдаты, якія прайшлі вайну, недаядалі, недасыпалі, загойвалі па шпіталях раны, і ўбачаць папялішчы на месцы родных хат.

Між тым у вёсцы, а таксама ў полі, якое акружае яе, варушацца людзі. І нейкія гурбачкі ўзвышаюцца на панадворках. Грыша разумее, што гэта зямлянкі. Жыхары спаленага паселішча пакуль што наладзілі часовае жытло.

Хлопец ішоў дамоў, думаючы пра тое, што зусім не такой атрымалася вайна, якой яе ўяўлялі. Армія адступала, здавала агромністыя тэрыторыі, на якіх вораг рабіў што хацеў. Зараз гэта бокам фашыстам вылазіць. Тры гады таму, такім жа летнім месяцам, яны перлі на ўсход, абмінаючы на шляху ўсе перашкоды. Грыша да смерці будзе памятаць густыя жытнія і пшанічныя палі, пыльныя дарогі, бясконцыя статкі, якія яны, паганяльшчыкі-камсамольцы, гналі таксама на ўсход, і процьму нямецкіх груганоў-самалётаў, якія кідалі бомбы на кароў.

Дзе тыя самалёты? Дзе танкі, якія безаглядна рваліся наперад, адразаючы жалезнымі клінамі савецкія дывізіі і нават арміі ад асноўных баз? Ад Волгі да Дняпра ржавеюць нямецкія танкі, абломкі самалётаў. Нямала ляжыць іх пад Бабруйскам, Мінскам, наогул на шматпакутнай беларускай зямлі.

## V

Грыша, вяртаючыся з грыбоў, даўно мінуў Барсукову будку, дайшоў да Бобрыкавай, адкуль мястэчка відаць як на далоні. Яно — нібы зялёны востраў. Хоць у паселішчы, здаецца, не так многа дрэў.

Непадалёк ад Бобрыкавай будкі, над навіссю дубовых шатаў, стаяла хаціна-хутар, гаспадар якой працаваў на чыгунцы. Калі Грыша вяртаўся з грыбоў, яго заўсёды сустракала круглатварая, прыгожая дзяўчына Надзя, якая не саромелася першай распачынаць гаворку з грыбнікам-вандроўнікам.

У апошні перадваенны год хутары знеслі. Надзя цяпер жыве непадалёк ад Грышавага дома, з другога боку чыгункі.

Грыша ідзе, думае пра дзяўчыну, а тут і сама яна выходзіць з былой сядзібы, несучы штосьці ў лазовым кошыку. Бываюць жа такія нечаканыя сустрэчы...

Вырасла Надзя, папрыгажэла. Сапраўдная царыца палёў, якая выйшла падзівіцца на жытні прастор. Яна ў паркалёвай у палоску сукенцы, якая шчыльна аблягае ладны стан.

— Вярнуўся з вайны, а пра мяне не ўспомніў,— Надзя гаворыць такім тонам, нібы толькі ўчора яны развіталіся.— Я цябе бачыла. Але не хацела першая падыходзіць...

— Успамінаў.— Грыша сапраўды ўзрадаваўся, убачыўшы дзяўчыну.

— Вішні абірала. На нашай сядзібе процьма парэчак, вішань, агрэсту. Калі я ўсё знашу? — Яна сыпле Грышу ў прыгаршчы жменю вішань: — Пакаштуй.

Ён дзівіцца з яе паставы, з гордай пасадкі галавы, з прывабнага белага твару, якога не кранае загар.

— Ты, праўда, успамінаў мяне?

— Успамінаў.

— І я таксама пра цябе думала. Баялася, што загінеш. Была рада, калі вярнуўся. Толькі ты не хілішся да мяне. Што я: чатыры класы скончыла. Маці рана памерла. Я карову даіла, бацьку, брата абмывала...— Яна нібы спахапілася, паспешліва працягвала.— Я раней думала, што ты мой хлопец. Лепшага не хацела. Толькі ты не мой. Чула, быццам ёсць нейкая верціхвостка, з якой ты кароў ганяў. У яе дзесяць такіх, як ты, было, і яшчэ дзесяць будзе...

— Нікога ў мяне няма,— рашуча адказвае Грыша.— Нават не ведаю, пра каго ты гаворыш...

Між тым думае пра тое, як хутка разносяцца чуткі. Ён пасля вяртання дадому з Габрыелай не сустракаўся, не гаварыў, а ўжо пагалоска пакацілася.

Яны, ідучы дарогай між жытоў, дабрылі да мястэчка.

— Прыходзь,— гаворыць Надзя.— Мая хата першая на Варашылаўцы. З правага боку.

Надзя назвала Габрыелу верціхвосткай. Адкуль ведае яе? І наогул, хто можа пра яго самога што сказаць? З дзяўчатамі не знаўся, на танцы, на вячоркі ніколі не хадзіў.

Лета ў разгары. Харошае лета. Няма лішняй гарачыні, засухі, зрэдку ўвільгатняюць зямлю дажджы. З раніцы неба пакрыта белымі, нібы статак лебедзяў, аблачынкамі, якія да паўдня разыходзяцца, агаляючы бязмежную сінечу неба, па

якім плыве бліскучы круг сонца. Але мёртвай, бязветранай цішыні не бывае. То заходні ветрык ускалыша траву, то ўсходні. Раніцай на траве вісіць буйная раса.

Грыша начуе ў хляве. Ён і да вайны любіў спаць на сене. Чуе вячэрнія, начныя зыкі, хоць спіць добра. Цяжка ўздыхае, пеpажоўваючы жвачку, карова, папіскваюць у гняздзе пад самым вільчыкам ластавяняты. Яны, здаецца, выводзяцца за год другі раз.

Грыша збіраецца ўзяць адпачынак, бо новага сена няма, а бацька, кульгаючы (у яго рэўматызм), ходзіць у Астроўкі, выбівае там між густога кустоўя рэдкія пракосы. Грыша ў Астроўках касіць не хоча. Вельмі многа там вужоў і гадзюк. Але ён не баіцца іх. Проста не любіць таго месца. Ён, калі хадзіў па грыбы, спецыяльна завярнуў да Калістратавай лужы. Ёсць такая ў абсягу ягоных грыбных інтарэсаў. Лужа парадкам высахла, на яе роўнядзі пачалі падымацца маладыя дрэўцы. Але сярод сасоннікаў Грыша выглядзеў малазарослае дрэвамі нізкаватае месца з добрай травой. Трава пераважна асочная, але выбіраць не прыходзіцца. З'есць карова і такую.

Грыша сказаў пра тое бацьку, бацька пагаварыў з ляснічым, які даводзіцца ім нават далёкай раднёй. І дазвол атрыманы: можна касіць нізінку.

Мясціна далекавата ад мястэчка. Вёрст за восем. Калі дзень косіш, вернешся дамоў, назаўтра рушыш у лес, то касец будзеш невялікі. Не тое што касы, ног не пацягнеш. Таму Грыша наважвае пераначаваць у лесе. Як-небудзь прыстасуецца. Вогнішча распаліць, хваёвых галін наломіць, сухога моху надзярэ. Харчу Грыша бярэ трохі з запасам і налівае вадой драўляную біклажку, якая засталася ад дзеда.

Ён прыходзіць на месца і трохі расчароўваецца. Нізінка з лепшай сакавітай травой выкашана. Пакос зроблены дзеньдва назад, бо зверху трава высахла, яе трэба толькі перавярнуць, затым можна зграбаць у копы.

Грыша пачынае касіць і паступова супакойваецца: нічога, знойдзе яшчэ якую-небудзь лапіну. Галоўнае, месца прыдатнае: ёсць дарога-зімнік, і па ёй льга вывезці сена, нават калі наняць машыну-паўтаратонку. Грыша ашчаджае сілу, але гоніць пракос за пракосам, зрэдку мянташыць касу, праз кож-

ныя паўгадзіны прыкладваецца да біклажкі. Сонца ўжо даволі высока, і ў горле перасыхае. Лужу ён павінен дакасіць заўтра, а сёння было б добра пакласці траву хоць на палавіне.

Мянташачы касу, выціраючы яе ад травы, Грыша ставіць перад сабой пэўныя мэты. Дайсці, напрыклад, без перадыху да ядлоўцавага куста. Там трохі перадыхнуць. Затым выкасіць рад да бярэзінкі са стромкай вяршалінкай.

Ціха ў лесе. Зрэдку падасць голас якая-небудзь птушка ды ўпадзе на дол сухая шышка. Грыша рад цішыні. Ён не любіць талакі, мнагалюддзя і адчувае сябе найлепш, калі побач няма ніякіх сведкаў ягонай работы. Ні школа яго не перарабіла, ні войска.

Сонца ўжо ў зеніце. Робіцца млосна. Мацней баліць левая рука — дае пра сябе знаць параненае прадплечча. Тым часам ён выкасіў ніштаватую лапіну. Ён толькі падраўняе пакос, потым зробіць перапынак. Падсілкуецца. Можа, з гадзіну паспіць.

Ён уладкоўваецца ў цяньку пад сасной, з'ядае кавалак хлеба са скрылікам сала, якое маці спецыяльна ашчаджае на касавіцу, запівае вадой з драўлянай біклажкі. Разаслаўшы на зямлі пінжак, трохі дрэмле.

Прачынаецца ён ад залівістага смеху. Над ім стаіць Надзя, з-пад хусцінкі ледзь відаць вясёлыя шэрыя вочы.

— Работнічак! — смяецца дзяўчына на ўвесь лес.— Не паспеў да месца дабрацца, як улёгся спаць. Толькі тут не рамонтная брыгада...

Потым яна акідвае позіркам выкашаную лапіну і перастае смяяцца:

— Ты касіць умееш?

— Хіба не бачыш?

Грыша прыўстае, выцягвае з кішэні курткі пачак папярос, закурвае.

— А хату адбудаваў бы?

Грыша ўсміхаецца:

— Я лепш раскажу, дзе служыў. Напачатку ў пантоннамаставым атрадзе. Будавалі масты, наладжвалі пераправы, рабілі зямлянкі, насцілалі гаці. З тапаром, пілой я ўмею абыходзіцца. Хату адбудаваў бы. Было б з чаго. Я пра гэта

думаў на вайне. Наляжаўся ў шпіталях, нацярпеўся. Думаў: калі вярнуся жывы, адпачну, адляжуся, уладкуюся на работу. Потым агораю дрэва (франтавіку мусяць даць) і пастаўлю хатку. Каб жыць незалежна. Ні пра якую вучобу не думаў.

— Давай так жыць, Грыша. Да мяне сваталіся. Дваім адказала. За цябе б пайшла. Каб паклікаў...

Ладуценка ніякавее. Той настрой, з якім вяртаўся ў мястэчка, даўно сплыў, знік, развеяўся, як ранішні туман. Цяпер ён думае пра вучобу. Пойдзе ў дзясяты клас, які адкрыецца восенню. Можа, у інстытут захоча паступаць.

Хлопец пераходзіць на жарт:

— Скончу дзясяты клас і вазьмуся за хату.

— Ты ж не хацеў вучыцца далей. Дзевяць класаў хіба мала?

Грыша маўчыць. У яго планы не ўваходзіць цяпер жа кінуцца будаваць хату і праз год ці два прывесці ў яе прыгожую Надзю. Хоць яна яму вельмі падабаецца.

Надзя, відаць, разгадвае яго думкі:

— Я адсюль паеду, Грыша.

— Куды паедзеш?

— У Данбас. Там сястра. Устроілася ў сталовай. Жыць тут не магу. Бацька ажаніўся. Узяў амаль што маю равесніцу. Як мне жыць з ёй у адной хаце?..

Звесіўшы галаў, маруднай нерашучай ступою Надзя ідзе на свае пракосы. Грыша бярэцца касіць. Ён стараецца не глядзець у Надзін бок і не заўважае, як яна, перавярнуўшы пакосы, знікае.

## VI

Ён начуе ў лесе, пад сасной, падаслаўшы трохі Надзінага сена і акрыўшыся шынялём, які ўзяў спецыяльна. Дзіўны, загадкавы начны лес. Праз навісь хвоі праглядваюць чыстыя, нібы вымытыя ў расе, зоркі. Дзесьці пад вечар змоўклі галасы птушак. Але сярод ночы кугакае сава. Хтосьці шамаціць, прабіраючыся праз зараснікі ядлоўцавых кустоў. Вандруюць між дрэў нябачныя жывёліны, можа, козы, дзікі ці нават ваўкі.

Грыша думае пра Надзю. Сапраўды, ён траціць штосьці дарагое, блізкае. Надзя хінецца да яго. Гэта галоўнае. Яна дзяўчына, якую рэдка сустрэнеш. Можа, ён будзе сумаваць па ёй. Бо няма другой, якая б гэтак, як Надзя, да яго ставілася. Разам з тым чакаць Грышу пяць ці шэсць гадоў, пакуль ён будзе вучыцца, Надзя не стане.

Валянціна Паўлаўна Дудзінская, якая арганізоўвае дзясяты клас, вярнулася ў мястэчка з далёкай Саратаўскай вобласці. Там яна таксама была дырэктарам школы. Да вайны школай загадваў яе муж — сціплы, талковы Іван Іванавіч Зайкоўскі. Ад пятага да дзясятага класа ён выкладаў біялогію: батаніку, заалогію, анатомію і фізіялогію чалавека, асновы дарвінізму.

Нічога не чуваць пра Зайкоўскага. Ці загінуў, ці, можа, трапіў у палон. Дудзінская пісем ад яго не атрымлівае.

Заняткі ад першага да сёмага класа ішлі яшчэ зімой. У старэйшых пачынаюцца з восені.

Асаблівай урачыстасці з нагоды новага навучальнага года няма. Валянціна Паўлаўна заходзіць у дзясяты клас, гаворыць невялікую прамову. Сэнс яе ў тым, што трэба вучыцца, рабіцца спецыялістамі, бо вельмі многіх людзей забрала вайна. Трэба іх замяніць.

Убогі, сірочы выгляд мае дзясяты клас. Добра апранута толькі Ніна Шарко, далёкая Грышава родзічка. Яна носіць зялёную вязаную кофтачку, якая шчыльна аблягае паўнаваты дзявочы стан. Пад кофтачкай сукенка з карункамі, на нагах даваенныя на нізкіх абцасах туфлі.

Яшчэ дзве-тры дзяўчыны трохі прыхарашыліся. Габрыела ў дзясяты клас пакуль што не ходзіць. Не пайшлі ў школу і некаторыя школьніцы, якія працуюць у шпіталі. Сакрэт, відаць, просты: дзяўчаты-медсёстры кормяцца ў шпіталі. Бо мястэчка голае, галоднае, спустошанае. Крамы адчыненыя, але ў іх па картках даюць хлеб і рэдка што-небудзь іншае.

Хлопцы таксама не маюць кавалерскага выгляду. Мікалай Зімчук, Грыша Ладуценка ў ваеннай амуніцыі: выцвілых гімнасцёрках, штанах, англійскіх — жоўтай скуры — чаравіках. Найгорш апрануты Іван Гарошык.

Даваенных і, трэба сказаць, добрых настаўнікаў у школе няма. І невядома, ваююць яны яшчэ ці загінулі. Бо іх сем'і пакінулі мястэчка.

З даваенных настаўнікаў засталіся толькі Валянціна Паўлаўна, якая выкладае матэматыку, настаўніца хіміі Вера Андрэеўна і настаўніца нямецкай мовы Наталля Уладзіміраўна.

Завучам школы прызначаны Валерый Іванавіч Цапок, чалавек сярэдняга росту, чорненькі, вяртлявы. Чаму ён не ў арміі, ніхто не ведае. Але ўсе ведаюць, што Цапок не скончыў настаўніцкі інстытут і закончанай вышэйшай адукацыі не мае. Паколькі настаўнікаў не хапае, Валерый Іванавіч — ён па спецыяльнасці гісторык — выкладае свой прадмет ва ўсіх старэйшых класах.

Цапок глядзіць ласым вокам на дзесяцікласніц, сярод якіх нямала прывабных дзяўчат, ставіць ім добрыя адзнакі, гаворыць кампліменты. Тым часам дзяўчаты яго не надта высока цэняць, завуць «цукровым пеўнікам», хіхікаюць, як толькі гісторык адварочваецца да дошкі.

Школай фактычна кіруе Валянціна Паўлаўна. Дастае дровы, газу і самае галоўнае — сшыткі і некаторыя падручнікі.

Валянціна Паўлаўна з першага ўрока ашаламляе дзясяты клас.

— Наш клас выпускны, а вы ўсё забылі,— гаворыць яна.— Таму пачнем вучобу з паўтарэння арыфметыкі з пятага класа і алгебры — з шостага. Інакш ніводнай кантрольнай задачы не рэшыце.

Іван Гарошык на ўрокі матэматыкі не з'яўляецца. Ён увогуле вучыўся бліскуча і быў прыроджаным матэматыкам. Ён кантрольную рэшыць.

Габрыела пачала завітваць у школу. Апранута яна не надта. Куцы кажушок, чаравікі з доўгімі халяўкамі, простая сукенка.

Грыша прыглядаецца да Габрыелы. Штосьці ў ёй ёсць. Асабліва ў вачах. Яны нейкія вогненна-прызыўныя. Смуглявая, гнуткая, рухавая, як яшчарка, дзяўчына нагадвае іспанку. Можа, яна іспанка і ёсць? Можа, не надта маладыя бацькі ўзялі яе, калі ў Савецкі Саюз на сталае жыхарства прывозілі іспанскіх дзяцей?

Габрыела, вядома, забыла той выпадак, калі ў час бамбёжкі яны ляжалі ў жыце побач. А ён памятае. І гэта як насланнё. Ён не можа пагаварыць з Габрыелай, як з другімі дзяўчатамі, губляецца, ніякавее перад ёй.

Дзясятаму класу выдзелілі ранейшае памяшканне. Яно на другім паверсе, апошняе з заходняга боку, і, паколькі заняткі ў другую змену, у ім заўсёды светла.

Шкада, настаўнікі іншыя. З тымі, што былі да вайны, не параўнаць. Каго з тых даваенных ні вазьмі, кожны быў адметнай асобай. Беларускую мову і літаратуру выкладаў Іван Герасімавіч Гацееў. Педагагічны інстытут, які ён скончыў, так і не выбіў з яго магілёўскае вымаўленне.

— У словах замежнага паходжання ў першым складзе перад націскам «е» ў «я» не пераходзе,— тлумачыў настаўнік.

— «На пераходзе»,— крывіў настаўніка клас.

Ён не крыўдаваў, не злаваўся, але пазбавіцца ад асаблівасцей роднай гаворкі не мог.

Гацееву падручнікі і наогул некаторыя кніжкі былі непатрэбны. «Новую зямлю» Якуба Коласа ён ведаў ледзь не на памяць. Чытаў вялікія кавалкі прозы, не зазіраючы ў кнігі Коласа, Бядулі, Лынькова.

Яшчэ большым дзіваком быў географ Базыль Іванавіч Крутагор. Ён вёў урокі так, нібы ўсюды быў і ўсё бачыў уласнымі вачамі. Пяцікласнікі, шасцікласнікі верылі, што Крутагор вандраваў па Афрыцы, Паўднёвай Амерыцы. Вялікі артыст быў Базыль Іванавіч. Ведаў дзіцячую псіхалогію, і прыдрацца да яго аповеду было немагчыма.

— Мы стаім на беразе возера Чад,— тлумачыў ён стрыжаным пяцікласнікам.— Берагі балоцістыя. Дрэвы апавіты ліянамі. Пад нагамі кішаць змеі. Укусы некаторых смяртэльныя. На ліянах гойдаюцца малпы. Найбольш смелыя кідаюць у нас какосавыя арэхі. Проста так, дзеля цікавасці, бо варожых пачуццяў да нас не маюць...

А ў мястэчку няма ні пальмаў, ні ліян, наогул ніякіх экзатычных дрэў.

Яшчэ некаторых настаўнікаў успамінаў Грыша, асабліва ў дні і месяцы, калі ляжаў у шпіталях. Ён і «Яўгенія Анегіна» хацеў вывучыць на памяць, але паспеў запомніць толькі два першыя раздзелы, бо кніжку ўкралі.

Юнак, амаль дарослы чалавек, Грыша жыў у палоне дзіцячых ілюзій. Чамусьці думаў, што, калі вернецца жывы, пабачыць усіх знаёмых настаўнікаў. Яны, гэтак жа, як да вайны, трымаючы пад пахамі папкі, будуць прыходзіць на ўрокі.

## VII

Грыша збліжаецца з Іванам Гарошыкам. Ходзіць да яго кожны выхадны, які прыпадае на нядзелю, і не толькі дамоў, на Варашылаўскую вуліцу, а і на вугальны склад, дзе ў абшарпаным, складзеным з чырвонай цэглы дэпо ёсць адгароджаны негаблёванымі дошкамі пакойчык, які займае Іван.

Іван заўсёды носіцца з якой-небудзь ідэяй. Цяпер іх у яго нават дзве. Першая — паходжанне мястэчка і другая — ці не пасварацца саюзнікі пасля пераможнага сканчэння вайны.

Ідэя дружбы ці сваркі саюзнікаў пасля перамогі над Германіяй цікавіць Грышу мала. Абы хутчэй зламалі хрыбет Гітлеру. А вось над мінулым роднага мястэчка ён сам думаў. Асабліва калі ляжаў у шпіталях.

Мястэчка завецца Паддубічы. Хоць не ўсе яго лічаць мястэчкам. Некаторыя, адпраўляючы пісьмы, пішуць унізе «сяло Паддубічы», некаторыя — «станцыя Паддубічы».

На геаграфічных картах Паддубічы часта не адзначаюцца. У дзяцінстве гэта крыўдзіла Грышу. Чыгунка, вузлавая станцыя, вялікае паселішча, і пра гэта — ні слова.

У Івана ёсць рукапіс, прысвечаны Паддубічам. Дробнымі, як мак, літаркамі ён спісаў ёмісты сшытак. Іван ахвотна дае яго пачытаць Грышу.

Залішніх адкрыццяў у Іванавым рукапісе няма. Але часам трапляецца нешта новае і цікавае. Так, Іван сёе-тое ўведаў пра даўніну краю, пра плямёны, якія яго насялялі.

Яшчэ ён даведаўся пра экспедыцыю генерала Жылінскага. Яна асушала навакольныя балоты прыкладна ў той час, калі пракладвалі чыгунку. Пасля гэтага стаў лепей расці лес, балоты давалі больш сена, і гаспадарчае значэнне сяла значна павялічылася. Драўніны, тых самых дубовых кражоў, станцыя стала адгружаць разоў у пяць болей, чым раней.

Жылінскі адкрыў у Паддубічах метэаралагічную станцыю, пабудаваў гасцініцу, наогул узвысіў Паддубічы. Узнікла станцыя, якая ў хуткім часе стала вузлавой. Станцыя мела ўласную службу цягі, дэпо, вугальны склад, воданапорную вежу. Ад яе адышла ветка ў хлебныя паўднёва-прыпяцкія раёны. Хлопцы адчайна рынуліся на чыгунку. З'явіліся не толькі стрэлачнікі, счэпшчыкі, саставіцелі паяздоў, рамонтныя рабочыя, але і машыністы, качагары, кандуктары.

З дзясятак яўрэяў-гандляроў імгненна адкрылі ў сяле свае мізэрныя крамкі, сталі скупляць у жыхароў розную сыравіну.

Гарошык падкрэслівае, што Паддубічы — не мястэчка. Гарадкі-мястэчкі складваліся стагоддзямі. Палавіна іх насельніцтва, калі не болей, была яўрэямі, якія займаліся гандлем, рамесніцтвам. Нічога гэтага ў Паддубічах не было. Вялікае казённае сяло (у Паддубічах ніколі не было паншчыны) пераўтварыла ў мястэчка чыгунка, пракладзеная ў канцы XIX стагоддзя.

Так, яўрэяў, калі Грыша падрастаў, у мястэчку было мала. Але ўсё ж такі трохі было. Яны збіраліся купкамі і гергеталі на сваёй мове. Паштальён Якімчык, шустры і цікаўны, які быў у нямецкім палоне ў час першай германскай вайны, не прапускаў выпадку, каб не падступіцца да купкі і не наставіць вуха: ён трохі разумеў па-нямецку, а значыць, і па-яўрэйску, бо ідыш мае ў сваёй аснове нямецкія дыялекты.

Навакольны край лясны, зялёны, але са з'яўленнем станцыі павялічылася высяканне лесу. Па тэрыторыі раёна на поўнач ад Паддубіч пракладзена і другая чыгунка. Дробныя памешчыкі даўно папрадавалі яўрэям-нарыхтоўшчыкам свае невялікія лясныя дзялянкі, і абедзве чыгункі раздзяляюць хіба што прасторы пяскоў і балот.

Пасля рэвалюцыі ў Паддубічах узнікла лясная школа. Фактычна тэхнікум. Гадоў праз дзесяць, калі лясы навакол мястэчка «Лесбел» — была такая арганізацыя — парадкам вынішчыў, школу перавезлі ў другое, багацейшае месца. Застаўся вучэбны гарадок з класамі, аўдыторыямі, кватэрамі для выкладчыкаў. Ён доўга не пуставаў. Яго заняла аўташкола, якая рыхтавала шафёраў для лясной прамысловасці.

Яшчэ ў сярэдзіне дваццатых гадоў XX стагоддзя Паддубічы сталі раённым цэнтрам. Праз нейкі час райцэнтр чамусьці ліквідавалі, але пакуль Іван Гарошык і Грыша Ладуценка скончылі пачатковую школу, раён у Паддубічах аднавілі зноў. З'явіліся грамадскія і дзяржаўныя ўстановы, нарыхтоўчыя канторы, стала выходзіць раённая газета «Зара камунізму»...

Восень сорак чацвёртага. Ідуць дажджы, стаяць голыя дрэвы. Хутка і зіма ляжа.

Гэтая восень стала пераможнай. Вайна перайшла межы Савецкага Саюза. Нашы войскі ў Польшчы, Румыніі, Балгарыі, ва Усходняй Прусіі.

Ціснуць немцаў і саюзнікі. Яны занялі Парыж, падбіраюцца з захаду да нямецкіх гарадоў. Тым часам лік пахаронак, якія прыходзяць у мястэчка, не змяншаецца.

Іван у школе з'яўляецца рэдка. Раз ці два на тыдзень. Бо на вугальным складзе шмат работы.

Грыша ходзіць у школу дзень у дзень. Урокі Валянціны Паўлаўны прапусціць нельга. За месяц заняткаў, калі паўтарылі ўраўненні, прагрэсіі, падступілі да лагарыфмаў, сінусаў, косінусаў, ён адчуў, што стаіць на цвёрдым грунце.

Грыша ўвайшоў у рытм вучобы. Толькі вельмі стамляецца. У шэсць гадзін, калі на дварэ яшчэ цёмна, устае, бярэ з сабой сякі-такі полудзень, праз усю станцыю ідзе да казармы, дзе работнікі атрымліваюць інструмент, у другой палове дня ідзе ў школу і толькі ў восем гадзін вечара вяртаецца дадому. І яшчэ гадзіну ці дзве сядзіць, выконваючы дамашнія заданні.

Варта было б падшукаць іншую работу. Толькі дзе яе знойдзеш?

Хутка год, як ён дома. Лёс падараваў яму жыццё. Апатыя, якая панавала ў душы, калі ён толькі вярнуўся дамоў, знікла, развеялася. Вось пайшоў у школу, відаць, скончыць дзясяты клас. А далей што?

Грыша не забыўся, як на фронце не мроілася яму ніякая далейшая навука. Нават мільгала думка: пабудаваць хату і працаваць хоць бы ў той самай рамонтнай брыгадзе.

Але хлопец памятае: дзед крыўдаваў на бацьку за тое, што той кінуў сялянскі занятак, ворыва, сяўбу, поле, пайшоў шукаць лёгкага хлеба на чыгунку. Чыгунка тым часам не за-

бяспечвала жыццёвых патрэб чалавека, плаціла мала, сям’я трымала каня, карову, засейвала пралёты каля чыгункі, патайныя паляны ў лесе. І зараз бацька раздвойваецца: ходзіць на службу, але і зямлю не забывае — патроху сее, косіць. Службай бацька даражыць. Прыйшоўшы з аднаго дзяжурства, заўсёды адпачывае, каб набрацца сіл на наступнае.

І ўсё ж, нягледзячы на цяжкасці, бацька жыве трохі лепей, чым дзед. Дзед ні дня не ведаў продыху, вазіў на свае вузкія палоскі, раскіданыя ў розных канцах мястэчка, гной, араў, сеяў, касіў, звозіў збожжа ў гумно. Усю зіму, устаючы досвіткам, цупаў цэпам, малаціў збажыну. Недзе пасля багатай куцці бабка хлеба не пякла. Ашчаджаючы муку, пераходзіла на бліны. Меў дзед сякі-такі скорам, але зноў жа не на ўвесь год. Торбачка з салам вісела толькі для касавіцы. Моцна прыціскалі дзеда і падаткамі. У калгас ён не ўступіў, і яго, як аднаасобніка, завальвалі падаткамі аж залішне. Аднаго жыта дзед здаваў пудоў сорак. Але сялянскага занятку не выракаўся. Іншага жыцця не бачыў.

Мінае першая чвэрць.

Дудзінская заўважае, што Грыша стараецца праз сілу. Вучыцца добра, але на вачах худзее, мізарнее. Аднойчы, калі настаўніцкая апусцела, Валянціна Паўлаўна запрасіла туды Грышу.

— У цябе ёсць воінскае званне?

— Старшы сяржант. Трохі камандаваў узводам.

— Тут такая справа,— Валянціна Паўлаўна зніжае голас.— Наш ваенрук быў у палоне. Тут, у шпіталі, пасля нямецкага лагера лячыўся. Ёсць указанне ад палонных вызваляцца...

Грыша неўразумела глядзіць на дырэктара.

— Хочам узяць ваенруком цябе. На чыгунцы не вытрымаеш.

— Дык я ж вучань.

— Вінтоўку, аўтамат ведаеш. Устаў, ці як там ён у вас называецца, падчытаеш.

Грыша ўявіў маладога, стройнага лейтэнанта, які з месяц як працуе ў школе. З дзясятага класа на ваенныя заняткі ніхто не ходзіць: трое хлопцаў, якія там вучацца, вайну ведаюць.

Грышу няёмка. Ён быў на вайне з першых месяцаў і ведае, як лёгка салдаты траплялі ў палон. Палкі, дывізіі не маглі вырвацца з акружэння. Іх пантонна-маставы атрад між Бранскам і Вязьмай таксама трапіў у кацёл і з вялікай цяжкасцю адтуль выбраўся.

Аб прапанове Дудзінскай Грыша расказвае Івану і Мікалаю.

Гарошык маўчыць. Ён чымсьці прыгнечаны. Можа, тым, што ў армію забіраюць дваццаць сёмы год. Некалькі вучняў з восьмага, дзявятага класаў павесткамі выклікалі ў ваенкамат.

— Ты лейтэнанту не паможаш,— нарэшце гаворыць Іван.— І сам прападзеш. На пасадзе ваенрука хоць адаспішся.

— Ідзі ў ваенрукі,— раіць і Мікалай.— Будзеш настаўнікам. Можа, прыйдзецца да цябе калі звярнуцца.

А Грышу шкада кідаць чыгунку. Ён любіць яе. Яшчэ да вайны, падчас канікулаў, хлопец працаваў рамонтнікам. Вопыт ягоны вельмі спатрэбіўся на вайне. У пантонна-маставым атрадзе і пазней, калі ён служыў у звычайнай роце, яму прыходзілася мець справу з сякерай, ломам, рыдлёўкай. Школа ж гэтаму не вучыла. Яна наогул не вучыла практычным, вельмі патрэбным у жыцці рэчам.

Два апошнія месяцы брыгада працуе каля Барсуковай будкі. Тут з аднаго боку балотца з парыжэлай, някошанай травой, з другога — лес, які падымаецца пасля вынішчанага немцамі сасновага бору. Той бор цяпер жыве толькі ў Грышавай памяці.

Увогуле за час ваенных вандровак лепшага лесу, чым у ваколіцах мястэчка, Грыша не бачыў. Можа, гэта была адна з прычын, чаму так прагна рвалася ў родныя мясціны душа.

## VIII

Дрэнна ў доме з харчам. Але надараецца шчаслівы выпадак. Ідучы цёмнай раніцай да пуцейскай казармы, Грыша чуе прыглушаны голас:

— Хлопец! Ідзі сюды...

Ад сцяны складзеных у штабялі плашак аддзяляецца цёмная постаць.

— Дзвесце рублёў маеш? — Голас знаёмы, але чый, Грыша не пазнае.— Вось тут мяшок камбікорму. Саўгасаўцам прыслалі. Дык я трохі ўхапіў.

Толькі цяпер Грыша пазнае вартаўніка дрывянога склада Цераха Будзіка. Вярнуўшыся з войска, ён з ім разы два сутыкаўся. Пры дапамозе Цераха ён нават трохі плашак дамоў пераправіў.

— Як я твой мех вазьму? Мне ў казарму трэба.

— Давай грошы. Мех занясу сам. Аддам маці...

А маці вечарам не нахваліцца Грышавым здабыткам. Камбікорм — дробная сечка з розных круп. І аладку можна спячы, і нават блінец, калі трохі дабавіць мукі. Будзе чым адзначыць Новы год.

Церах Будзік — далёкая радня. Ён заўсёды чым-небудзь памагаў. Як быў лесніком, дазваляў бацьку касіць па кустоўі сена. Калі працаваў будачнікам, спрыяў, каб бацька засеяў бульбай пралёт. А цяпер ён вось на дрывяным складзе. Без яго цяжка было б апальваць хату.

Многія рэчы перамяніла ў мястэчку вайна. Раней яно было палахліва-сялянскае, залішне патрыярхальнае. Маці, калі надойвала лішні гладыш малака ці мела ў запасе дватры дзясяткі яек, нават думкі не дапускала, што дабро можна вынесці і прадаць. Аддавала суседкам, тыя ў сваю чаргу чымнебудзь аддзячвалі яе.

Другія местачковыя кабеты былі гэткія ж.

Цяпер іншае. Цяпер каля прыстанцыйнага скверыка тры ці чатыры рады збітых з грубых, неачэсаных дошак вузкіх сталоў. На іх — чаго хочаш. Збанкі малака, бульбяныя піражкі, семкі гарбузовыя, сланечнікавыя. А летам — яблыкі, памідоры, гуркі, вішні, слівы.

Маці засталася такой, як была. Нічога нікому не прадае. Проста так аддае, спадзеючыся на аддзяку.

Восень зацягнулася. Калі раніцай Грыша з пуцейцамі шыбуе да Барсуковай будкі, дзе яны мяняюць шпалы, пачынае імжыць дождж. Над балоцістым узлессем, над густой шчоткай маладняку, што падымаецца на дзялянках, вісіць туман. Нават небяспечна ісці чыгункай, бо за тры крокі нічога не відаць.

Туман рассейваецца марудна. Але рассейваецца. Каля Барсуковай будкі пуцейцаў застае светлая празрыстасць раніцы. Туман яшчэ трохі вісіць. Але ад яго разрэджанай сінемалочнай сцяны адрываюцца паасобныя пасмы і, чапляючыся за сукі, вецце дрэў, нябачна знікаюць.

На захад грукочуць воінскія эшалоны. На платформах, пад макраватым брызентам,— тэхніка: аўтамашыны, гарматы, танкі. У вагонах-цяплушках — салдаты. Твары пераважна маладзенькія, шынялі, абмоткі, чаравікі — новенькія. Грыша разумее: з запасных палкоў кіруе на фронт новае папаўненне.

Якая ненажэрная вайна! Грыша памятае, як за тры-чатыры месяцы да нападу Гітлера гэтак жа імчалі на захад эшалоны. З пачаткам вайны іх стала ўдвая ці ўтрая больш. Куды пасля падзеліся тыя салдаты, вясёлыя, гаманкія, тыя гарматы, танкі? Хлопец бачыў армію, якая імкліва адкатвалася на ўсход. Без строю, без ладу клыпалі чырвонаармейцы з аднымі вінтоўкамі, а то і без вінтовак, у выцвілых, з плямамі солі, гімнасцёрках. Зрэдку мільгалі адзінкавыя, з пагнутымі шчытамі гарматкі, якія цягнулі коні. І, здаецца, ён не бачыў ніводнага танка, які б адступаў.

Праз два гады вал вайны пакаціўся на захад. Па дарогах ішлі байцы з перавешанымі праз шыю аўтаматамі, грукаталі танкі-«трыццаць чацвёркі». У небе, збіваючы «юнкерсы», «месершміты», мітусіліся савецкія самалёты.

У час акупацыі па мястэчку расходжвалі немцы, расстрэльвалі партызан, сувязных, падпольшчыкаў. Яны спалілі большую палавіну вёсак раёна, вынішчылі лес уздоўж чыгункі. Дзе зараз тыя немцы, аб чым думаюць, на што спадзяюцца?

У адзін з тых хмарных дзён без журнала завітвае ў клас Дудзінская.

— Загінуў ваш таварыш Сяргей Валавік,— прамаўляе яна.— Заняткі адмяняюцца.

Клас устае, маўклівым позіркам праводзіць Валянціну Паўлаўну, якая, больш нічога не гаворачы, пакідае клас.

Грышу самотна. Яшчэ ў пачатку восені, узяўшы ў Зімчука адрас, напісаў Сяргею два лісты. Ён нібы бачыць яго: ладны, шыракаплечы, ціхмяны. Рос Сяргей без бацькі. Нядаўна Гры-

ша атрымаў адказ на апошні ліст. Па ўсіх прыкметах, Сяргей ваяваў ва Усходняй Прусіі. Усе ягоныя лісты былі стрыманыя, сумныя.

Праз тыдзень новая навіна, нібы ўдар грому. Загінуў Васіль Грышкін. Навіну прынёс у нядзельны дзень Мікалай Зімчук, спецыяльна завітаўшы да Грышы дамоў. Ёсць нейкая таямнічая сувязь між людзьмі: яны гналі калгасны статак — Грыша, Мікалай і Васіль. Да месца так і не дапялі. Вайскоўцы патроху забіралі скаціну, даючы адпаведныя паперы. Між Бранскам і Курскам рэшткі статка паганятыя нарэшце здалі ў саўгас. Не мела сэнсу гнаць далей дваццаць галоў. Грыша заклікаў сяброў ісці далей, каб яшчэ раз не ўцякаць ад немцаў. Грышкін хістаўся. Зімчук меў цвёрды намер вяртацца. І мяккі, памяркоўны Грышкін пайшоў за ім...

За тыдзень да Новага года на дошцы аб'яў з'яўляецца загад аб прызначэнні Рыгора Ладуценкі ваенруком. Перад гэтым яго выклікаюць у ваенкамат.

Ваенкам, таўставаты, з іголкі апрануты капітан, размаўляе з Грышам ветліва, даверліва:

— Хочам даць вам заданне. З нашым старшым лейтэнантам паедзеце спачатку ў Маскву, потым у Волагду. Там папяровы камбінат. Трэба дастаць дзясятак кілаграмаў паперы. Нават павесткі прызыўнікам няма на чым выпісваць. Па дарозе завязеце ў Сталінагорск групу ваеннаабавязаных — гэта пад самай Масквой. Перш чым трапіць у армію, яны павінны прайсці фільтр. Бо былі старастамі, соцкімі, хоць і партызанам нібыта памагалі. Трэба дасканальна вывучыць іх справы...

Другі раз Грыша трапляе ў акрутнае становішча. Спачатку заняў месца лейтэнанта, зволенага за тое, што трапіў у палон, цяпер у Сталінагорск павязе людзей, з якіх мусяць змыць кляймо недаверу. Але выбіраць не выпадае: ваенрук падпарадкоўваецца не толькі дырэктару школы, але і ваенкамату. Аўтамат Калашнікава, вінтоўку, іншы ваенны рыштунак, гэтак жа, як статуты, неабходныя на яго цяперашняй пасадзе, выдаў Грышу іменна ваенкамат.

# IX

Першы раз у Маскву Грыша ездзіў з бацькам. Бацька і тады працаваў стрэлачнікам, а чыгуначнікам давалі бясплатны білет. Па гэтым білеце бацька мог узяць каго-небудзь з дзяцей, узрост якіх не перавышаў васямнаццаці гадоў. І бацька ўзяў Грышу.

Толькі напачатку здарылася недарэчнасць. Трэба было паслаць ва ўпраўленне чыгункі фотакартку. Фатаграфавацца Грыша паехаў у Рэчыцу. Там ён чамусьці надзьмуўся, вырачыў вочы, і фотакартка атрымалася адпаведная. Ва ўпраўленні чыгункі сказалі, што гэтаму хлопцу болей як васямнаццаць гадоў. Грышу ішоў толькі чатырнаццаты. Прыйшлося фатаграфавацца яшчэ раз.

Стаяла летняя гарачыня. Масква перабудоўвалася. Паўсюдна вісеў густы дым: у вялікіх чанах-катлах варылі смалу, укладвалі асфальт. У газетах пісалі, што нейкім чынам нават дамы перасоўваюцца з месца на месца. Але на ўласныя вочы Грыша гэтага не бачыў.

Яны з бацькам пасяліліся ў былога суседа Макара, які выехаў з мястэчка і збудаваў хацінку ў падмаскоўным пасёлку Катуары.

На світанні яны ўставалі, ехалі электрычкай у Маскву, потым на трамваі ці метро кіравалі да якога-небудзь магазіна, каб раней заняць чаргу. Яны прыехалі ў Маскву, каб купіць матэрыялу на штаны і сарочкі Грышавым братам, а таксама які-небудзь абутак. Частку грошай пазычылі ў Макара, прывёзшы яму ў якасці падарунка два глечыкі з маслам, некалькі нізак сушаных грыбоў, мяшэчак сушаных чарніц і сёе-тое яшчэ.

Дні за тры наяўныя грошы, у тым ліку пазычаныя, яны выдаткавалі. Нешта, вядома, купілі. Бацька наважыўся паказаць Грышу Маскву. Звазіў на Красную плошчу, у Заалагічны сад. Трэба прызнацца: тут Грыша выявіў пэўную дурноту. Ён скончыў шэсць класаў, выпісваў «Пионерскую правду», многа чытаў. Сталася так, што не бацька яму, а ён бацьку даваў тлумачэнні. Асабліва ў Заалагічным садзе. Тых звяроў, якія сядзелі ў клетках, ён пазнаваў па карцінках, змешчаных

у кнігах, і нічым не захапляўся, паказваючы сябе вялікім знаўцам жывёльнага свету. Бацька нават пакрыўдзіўся.

А цяпер вось Грыша паедзе ў ваенную Маскву.

Нарэшце заканчваецца панылая дажджлівая восень. Пачынаюцца прымаразкі. Гразь ператварылася ў замёрзлую груду. Хадзіць па вуліцах і дыхаць стала лягчэй.

Зусім не страшныя былыя старасты і соцкія. Звычайныя людзі. На прадуктовых пунктах старшы лейтэнант і Грыша на іх і на сябе атрымліваюць па атэстаце вайсковы паёк. Аднойчы старшы лейтэнант памкнуўся частку кансерваў, выдадзеных на групу, прыхаваць у асобны рэчавы мяшок. Грыша запратэставаў. Старшага лейтэнанта, грубага картавага чалавека, з верхняй заячай губой, ён не баіцца. Чаго яго баяцца?

Грыша быў на фронце. Шмат паездзіў у такіх цяплушках, у адной з якіх яны едуць зараз. Нічога ў іх не змянілася за апошні год, калі ён перастаў быць вайскоўцам. Пасярэдзіне вагона, як і раней, стаіць печка-буржуйка. Яна разаграваецца дачырвана, а сценкі вагона тым часам пабелены інеем. Нараў няма. Калі буржуйка астывае (дроў не заўсёды хапае на ўвесь доўгі шлях), у вагоне наступае халадэча. Асабліва мерзнуць калені, як ні накрывай іх поламі шыняля. У тых, хто сядзіць каля сценак, калені мерзнуць і тады, калі печка гарыць.

Нарэшце яны прыехалі ў Сталінагорск. Здаўшы ваеннаабавязаных, вольнымі казакамі Грыша і яго начальнік прыбываюць у Маскву.

Ваенная Масква здаецца Грышу маўклівай, задуменнай. Старшы лейтэнант — масквіч, нават пакой мае ў доме на Малой Ардынцы. Таму ў Волагду яны не спяшаюцца, спыняюцца на два-тры дні ў Маскве.

Грыша ідзе ў кіно, глядзіць кінафільм «Фронт», пастаўлены па п’есе Аляксандра Карнейчука. Яшчэ ён купляе за пяць рублёў таўшчэзны першы том «Капітала» Карла Маркса.

І славутую Сандуноўскую лазню наведвае Грыша. Трэба памыцца, бо ён неяк няўтульна адчувае сябе ў сваёй вопратцы. Зняўшы споднія штаны, сарочку, ён жахаецца. На іх проста кішаць вошы. Пакласці бялізну ў рэчавы мяшок Грыша не адважваецца. І мыла няма, каб памыць сподняе. Не, торбу

вошай ён з Масквы не павязе. Згарнуўшы бялізну, ён запіхвае яе пад лаўку, у дальні цёмны куток.

На другі дзень старшы лейтэнант пасылае Грышу на прадуктовы пункт. Тым часам у Маскве добра пастаўлена служба выяўлення махлярства, і не паспявае хлопец сунуць у акенца атэстат на атрыманне прадуктаў, як афіцэр, які дзяжурыць там, просіць яго пачакаць. Хвілін праз пяць заходзяць двое салдат, арыштоўваюць Грышу і прыводзяць у камендатуру. Там ужо сядзіць перапалоханы старшы лейтэнант, які таксама атрымліваў прадукты.

Хутка высвятляецца прычына іхняга затрымання. Старшы лейтэнант на сваё імя выпісаў два прадатэстаты. У Маскве, аднак, такія штучкі не праходзяць.

Старшага лейтэнанта наогул правяраюць. Аказваецца, і медаль «За адвагу» ён носіць не свой. Зняў з забітага байца.

Карацей, ні Грыша, ні ягоны начальнік Волагды не пабачылі. Ім загадалі неадкладна пакінуць Маскву.

Вярнуўшыся ў мястэчка, Грыша чыстасардэчна расказвае аб маскоўскіх прыгодах ваенкаму. Той для выгляду кіпяціцца:

— Я яго, нягодніка (гэта пра старшага лейтэнанта), на фронт пашлю! Будзе помніць два атэстаты! Ты нікому не гавары. Сам разбяруся...

Па хітрых, мітуслівых вачах ваенкама, замяшанні, нават страху Грыша здагадаўся, што капітан пра ўсё ведае. Хацелі разжыцца лішнім харчам работнікі ваенкамата. Рыхтаваліся, відаць, належным чынам сустрэць Новы год.

У школе ёлка. Дзеля яе з самага вялікага класа павыносілі парты. Дрэва прывезлі лейтэнанты, што лечацца ў шпіталі, аж з-за Бярэзіны. Бо ў тутэйшых лясах елкі не растуць, ніхто ніколі іх тут не бачыў. Лейтэнанты, якіх праз тыдзень-два пашлюць на фронт, хочуць патанцаваць з дзяўчатамі-старшакласніцамі. Валянціна Паўлаўна дазваляе. Ідзе тысяча дзевяцьсот сорак пяты год, пяты па ліку год вайны. Можа, апошні? Бо савецкія войскі штурмуюць пазіцыі немцаў у Венгрыі, Польшчы, нават у самой Германіі.

Шпіталь, які займае галоўныя будынкі на вялікім бальнічным двары, а таксама ўсе памяшканні суседняй з бальніцай аўташколы, моцна ўрос у побыт мястэчка. А яно

за вайну згаладалася, агалела. Многія жанчыны, дзяўчаты знайшлі ў шпіталі работу і патроху каля яго кормяцца. Ды і кавалеры трэба дзяўчатам. А дзе іх, акрамя шпіталя, зараз знойдзеш?

Такі закон жыцця: дзе салдаты, там дзяўчаты. Грыша ведае шпітальныя парадкі. Падлячыўшыся, ледзь-ледзь стаўшы на ногі, пастаяльцы шпіталя імкнуцца за яго межы, у абдымкі да мясцовых маладзіц і дзяўчат. І знаходзяць тыя абдымкі. Паўсюдна цвіце кароткая ваенная любоў...

А дзяўчаты, якія-небудзь васьмікласніцы, нават сямікласніцы, за гэты час падраслі, папрыгажэлі. Хлопцы, з якімі яны сябравалі, на вайне. Некаторыя з іх загінулі. Што рабіць дзяўчатам? Хіба вялікі грэх, калі яны пазнаёмяцца са шпітальнымі кавалерамі, пацалуюцца, паабдымаюцца? Гэтыя кавалеры таксама хутка выправяцца на фронт, і, можа, паспеюць дзяўчаты атрымаць ад іх па адным ці па два лісты-трохкутнічкі.

Усю вайну думаў Грыша пра Габрыелу. Толькі Габрыела яго не памятае. Гэта ён высветліў, як толькі аднавіў з дзяўчынай знаёмства. Габрыела не ўзрадавалася, убачыўшы Грышу. Яна, здаецца, нават забыла пра выпадак у час бамбёжкі, калі яны апынуліся побач у высокім жыце.

Не надта багатая, вясёлая атрымалася школьная ёлка. Упрыгожвае яе тое, што каля яе сабраліся маладыя людзі.

Дзесяцікласнікі наладзілі пачастунак у сваім класе. Дзяўчаты нарабілі вінегрэту, халадцу, нават трохі сала прынеслі. Хлопцы, склаўшыся, купілі самагонкі. Дзяўчаты закрасілі яе вішнёвым сокам, і атрымалася някепскае віно.

У кампаніі дзесяцікласнікаў чатыры лейтэнанты. Яны прынеслі бутэльку спірту.

Ніколі Грыша так не напіваўся, як у гэты раз. Дзеля гэтага ёсць прычына. Школьнай піянерважатай прызначана Гэля Машчынская. Дзесяць класаў яна скончыла яшчэ да вайны, была ў арміі, а цяпер вось дэмабілізавалася.

Гэля высокая, ладная, статная. І ваенная форма з вузенькімі пагонамі медыка-лейтэнанта ёй вельмі пасуе. Яна скончыла кароткатэрміновыя фельчарскія курсы, ведае армейскую службу, бо была ў страявых часцях, а таксама ў медсанбатах і шпіталях.

— Слава богу, ты жывы,— гаворыць Гэля, не тоячы радасці.— Я цябе ўспамінала. Баялася за цябе...

Ад гэтых слоў Грыша расце ва ўласных вачах: да яго хінецца такая дзяўчына. Яна, калі вучылася ў дзясятым класе, часта запыняла Грышу, уступала з ім у гаворку. А ён яе саромеўся. Ён увогуле не меў ніякіх спраў з дзяўчатамі.

Тыя месяцы, што хлопец правучыўся ў школе, ён думаў пра Габрыелу. Цяпер жа ён у яе бок не зірне — хопіць, намучыўся, напакутаваўся.

Грыша ўжо дакарае сябе за тое, што ён, як той Дон Кіхот, зрабіў дамай сэрца памаўзлівую верціхвостку, праўда, знешне даволі прывабную. І галоўнае — яна як бы шукала ў яго дапамогі. Цяпер ён пачынае разумець, якая дапамога ёй была патрэбна...

Выпіўшы дзве шклянкі віна-самагонкі, Грыша нават у танцы з Гэляй кінуўся, хоць танцаваць не ўмеў. У той жа час хлопец разумеў, што толькі на добрым падпітку ён навучыцца танцаваць, бо рытм адчувае, нават добра адчувае. Адсюль усё астатняе...

Дзяўчаты і хлопцы ўпершыню ўбачылі Грышу як танцора. Ён вытанцоўваў някепска. Нават Габрыела звярнула на гэта ўвагу і стала пільна прыглядацца да Гэлі.

Грыша рад, што напаткаў Гэлю. Ён не адыходзіць ад дзяўчыны ні на крок. Нават лейтэнантаў да яе не падпускае. Хопіць, наглядзелася на лейтэнантаў у арміі.

Смяецца, паказваючы прыгожыя белыя зубы, Мікалай Зімчук. І ніхто не ведае, да каго ён мае сімпатыю. А прыхільніц у яго процьма. З кожнай ён пацвельваецца, кожную адорвае ўсмешкай. Грыша ведае Міколаву сімпатыю. З той дзяўчынай ён вучыўся ў дзявятым класе. У дзясяты яна не прыйшла...

Нават у Івана Гарошыка ёсць сяброўка — чарнявая, маўклівая Аня Базылевіч, выдатніца дзясятага класа. Яе бацька — дырэктар рускай сямігодкі, якая размяшчаецца ў драўляных будынках ранейшай беларускай школы. Ходзяць чуткі, што руская школа таксама будзе дзесяцігодкай.

У школе абышлося ўсё добра. Пачаставаліся, патанцавалі, паспявалі.

На вечары ў шпіталі адбылося незвычайнае здарэнне, вестка пра якое імгненна абляцела мястэчка і нават навакольныя паселішчы.

Да падпалкоўніка (у штаце шпіталя не толькі ўрачы, але і розныя забеспячэнцы, гаспадарнікі) прыехала жонка. Тым часам падпалкоўнік жыў з маладзенькай медсястрой, якая, відаць, па-сапраўднаму ў яго закахалася. Пасля прыезду жонкі ён перастаў звяртаць на каханку ўвагу. Танцаваў толькі з жонкай. Медсястра не вытрымала і, падышоўшы да падпалкоўніка, спытала:

— А хто я для цябе?

— Пэпэжэ,— раззлавана адказаў той.— Растлумачыць, можа, па літарах...

— Ты раней не так гаварыў...

Медсястра выхапіла з-пад блузкі малы пісталецік, два разы стрэліла ў падпалкоўніка, потым — сабе ў грудзі. Пазней высветлілася, што замежны пісталецік падараваў ёй якраз гэты самы падпалкоўнік.

Вядома, адносіны да вайскоўцаў дзяўчат, што служаць у шпіталі, а таксама местачковых жанчын, што ў цёплую пагоду бавяць час з параненымі на лавачцы, пад дрэвамі, сядзяць на плятнях, ходзяць нават на могілкі пад кашлатыя хвоі ці на бліжэйшыя лугавіны, не маюць такой высока-рамантычнай афарбоўкі. Тут справа прасцей. Жыццё ідзе. Маладых мужчын, хлопцаў у мястэчку мала, дык трэба ж жыццё чым-небудзь запоўніць. Хоць такімі кароткімі трапяткімі сустрэчамі.

А можа, ёсць вышэйшы закон, яшчэ не ўсвядомлены тутэйшым жыхарствам? Бо такія сустрэчы местачковых дзяўчат з хлопцамі адбываліся і тады, калі жыццё кацілася ціхамірна, не бухалі гарматы і на зялёныя вуліцы не падалі бомбы. Аўташкола, якая рыхтавала шафёраў для лясной прамысловасці, стала гэтаму прыкладам. Курсанты-прафтэхшкольцы лёгка знаходзілі сяброўак у местачковым асяроддзі, якое зусім не вызначалася разбэшчанымі норавамі. Здаралася, што нават маладых настаўніц, школьніц старэйшых класаў схілялі да кахання маладыя дзёрзкія шэльмы.

Іншы раз такое легкадумнае каханне заканчвалася драматычна. Бо ў выніку яго нараджаліся дзеці. Але маладыя зухі жаніцца не хацелі. Не хацелі называцца бацькамі. Таму бясконца ішлі суды. Але што высудзіш з бяздомных галетнікаў, якія фарсілі ў брызентавых туфлях, не мелі рубля нават на кухаль піва ці пачак танных тоненькіх цыгарэт «Ракета».

Справа, можа, у тым, што людзі, якія жывуць у такім вялікім мястэчку, носяць пераважна прозвішчы тых, хто некалі гэтае мястэчка заснаваў. Таму, якую вуліцу ні вазьмі, яе насяляюць местачкоўцы з прозвішчамі Чорны, Сухі, Дрозд, Шпак, Іваненка, Пятрэнка. Ёсць яшчэ некалькі прозвішчаў, але яны рэдкія. Таму ў мястэчку, можна сказаць, жывуць суцэльныя родзічы. А гэта вядзе да выраджэння. Асабліва ў дынастыі Чорных. У сем'ях з такім прозвішчам нярэдка нараджаюцца разумова абмежаваныя дзеці, якія, падрастаючы, робяцца залішне жорсткімі.

Можа, у такіх вось спатканнях мясцовых дзяўчат з прыезджымі незнаёмымі хлопцамі знаходзіць выйсце інстынкт, які патрабуе прыліву свежай крыві, абнаўлення геннай спадчыны.

## X

Вайна, мітусяніна, хуткія, непрацяглыя знаёмствы Габрыеле, здаецца, даспадобы. Вучыцца яна не надта, прапускае заняткі, штодня пакручваецца каля шпіталя. Габрыела, здаецца, упэўнена, што ў любой мужчынскай кампаніі знойдзецца чалавек, які зірне на яе ласкавым вокам. Што болей трэба для такой, як яна?

Пасля навагодняга вечара Грыша праводзіў Гэлю дамоў. Жыве яна недалёка ад чыгуначнай станцыі на новай шырокай вуліцы, якая ўтварылася пасля таго, як мястэчка стала раённым цэнтрам.

На гэтай вуліцы жывуць пераважна прыезджыя. Гэля таксама прыезджая. Яе бацька загадваў нейкай базай ці складам. У трыццаць сёмым годзе ён неяк непрыкметна знік. Можа, Гэля і ў армію пайшла, каб даказаць, што яе бацька ніякі не вораг народа.

Гэля завітвае ў дзясяты клас, хоць тут піянераў няма. Падыходзіць да парты, за якой сядзіць Грыша, размаўляе з ім. Іншы раз яны выходзяць з класа, прахаджваюцца па калідоры.

А Грыша толькі цяпер адчуў, што жыццё, нават такое звычайнае, нічым не адметнае, якое выпала на яго долю, можа быць радасным. Ад яго адвярнулася Габрыела, затое прыйшла Гэля. І хоць ён не закаханы ў гэтую ладную, спакойную дзяўчыну, але адчувае, што іншая яму не патрэбна.

Дваццаць сёмы год бяруць у армію, так што вучняў у Грышы паменшала. Затое маладзейшыя падлеткі аж гараць ад узбуджэння, калі на занятках ім трапляе ў рукі вінтоўка або аўтамат.

Заняткі ідуць у ваенным кабінеце, вузкім, як пенал, пакойчыку, які нібы пераломваецца, маючы такі ж вузкі працяг каля знешняй сцяны. У першай палавіне класнага пакоя Грыша развесіў розныя дыяграмы, карты, схемы. Бліжэй да адзінага акна стаіць некалькі партаў. Грыша разам з вучнямі разбірае і складвае затвор вінтоўкі, аўтамат ППШ, пільна сочачы, каб шустрыя падшыванцы не прынеслі ў клас патронаў ці, не дай бог, гранату. Бо ўжо ёсць выпадкі, калі цікаўныя хлапчукі паплаціліся жыццём з-за неасцярожнага абыходжання са зброяй.

Аднойчы на заняткі па ваеннай справе з'яўляецца выключаны са школы Кастусь Бахілка. Яго і выключылі за тое, што прыходзіў на ўрокі са зброяй: то з гранатай, то з толавай шашкай. Неяк заявіўся нават з наганам.

— Каб духу твайго тут не было! — выгуквае Ладуценка.

Не захоўваючы ніякага педагагічнага такту, ваенрук хапае Бахілку за каўнер і вывалаквае з класа. І Дудзінскую папрасіў, каб пазваніла наконт гэтага хлопца ў міліцыю.

Калісьці настаўнікі здаваліся Грышу нейкімі незямнымі, незвычайнымі істотамі. Ён бачыў у іх штосьці выключнае, асаблівае, лічачы іх ледзь не багамі. Гэты флёр даўно спаў з вачэй. Але і цяпер Грыша саромеецца настаўнікаў і па гэтай прычыне ў настаўніцкай залішне не затрымліваецца. Нават правёўшы свае заняткі, ідзе ў свой дзясяты клас.

Два месяцы мінула, як Грыша пакінуў брыгаду. Адпала вельмі цяжкая работа. Пасля працоўнай змены, пасля школы

ён прыходзіў дамоў ушчэнт знясілены, зняможаны, нібы выціснутая ануча. Неяк яшчэ і дамашнія заданні выконваў.

Цяпер Грыша мае больш вольнага часу. Як некалі да вайны, ён ледзь не да поўначы чытае. На падлозе каля грубкі хлопец рассцілае фуфайку. Другую фуфайку кладзе пад галаву. Лямпу ставіць на падлогу. У пакоі паўзмрок. Толькі відаць круг святла ад лямпы.

У кожным нумары «Звязда» друкуе ваенныя зводкі, загады Вярхоўнага галоўнакамандуючага. Вайна мінула межы Савецкага Саюза, ідзе на палях Венгрыі, на нямецкай зямлі. Толькі курляндская групоўка немцаў трымаецца за кавалак савецкага балтыйскага ўзбярэжжа. Ужо відавочна, што фашысцкая Германія вайну прайграла.

Дзіўным чынам нашы адступленні, паражэнні перараслі ў перамогу. Пачалося ўсё са Сталінграда. Пасля яго фашысты ўжо не маглі спыніць вал савецкіх наступленняў. Яны яшчэ здолелі выбіць нашы войскі з Харкава, Жытоміра, але на большае сіл не хапіла. Спустошылі, абабралі краіну дашчэнту. Пра гэта цяпер і піша «Звязда». Піша яна пра аднаўленне машынна-трактарных станцый, калгасаў, саўгасаў, пра тое, што адкрываюцца бібліятэкі, кінатэатры, пачынаюцца заняткі ў тэхнікумах, інстытутах.

Высокім, урачыстым стылем напісаны газетныя матэрыялы. Грыша не зусім верыць у гэтыя высокія, напышлівыя словы. Яны нібы малітвы, стратэгія духу. А практыка — іншая рэч. Жыць цяжка. Проста невыносна цяжка. А пра гэта ў газеце не пішуць. Толькі гора не схаваеш. На здымках мужчыны, жанчыны ў парваных ватоўках, разлезлым абутку; бедна выглядаюць адноўленыя, скіданыя на скорую руку хаткі, хлявы, наогул першая мірная забудова.

Вось ужо і люты на двары. У мінулую зіму фронт стаяў паблізу мястэчка, і хата была поўнай ваенных людзей. Тады Грыша не мог дазволіць сабе раскошы чытаць па начах.

За акном вецер, мяцеліца. Галінка бэзу раз-пораз шкрабе па шыбіне. У коміне завывае вецер.

Разасланыя каля грубкі фуфайкі пахнуць газай, вугалем і яшчэ чымсьці такім, што ёсць толькі на чыгунцы.

Грыша напачатку праглядвае «Звязду». Цяпер ідуць вулічныя баі ў Будапешце. Інфармбюро паведамляе, што

савецкія войскі фарсіравалі Одэр. Наперадзе — наступная вялікая рака — Рэйн. Вось так, значыць. Не толькі немцы мылі боты ў нашых рэках, а і мы памыем свае ў іхніх.

Самае галоўнае паведамленне — трохі прытоенае. У раёне Чорнага мора сустрэліся кіраўнікі саюзных дзяржаў — Сталін, Рузвельт, Чэрчыль. Калі думаць пра савецкую тэрыторыю, дык той раён Чорнага мора, хутчэй за ўсё,— Крым, які яшчэ летась быў вызвалены ад немцаў.

Няцяжка здагадацца і пра мэту гэтай сустрэчы. Вайна, па ўсіх прыкметах, ідзе да пераможнага канца. Варта дамовіцца пра пасляваеннае ўладкаванне. Шмат ёсць пытанняў, якія чакаюць сваёй развязкі, напрыклад, што будзе з Японіяй, якая ўпарта ваюе?

І навіны з рэспублік Грыша праглядвае з прыемнасцю. Тэхнікумы, інстытуты наперабой аб'яўляюць аб прыёме студэнтаў. Прычым пра некаторыя даваенныя абмежаванні і напаміну няма. Так, стыпендыя выплачваецца ўсім: выдатнікам і невыдатнікам. Студэнты забяспечваюцца харчаваннем, інтэрнатам. Нечуваная раскоша!..

Зрэдку ў «Звяздзе» друкуюцца мясцовыя навіны. Напрыклад, у апошнім нумары паведамляецца, што паляўнічы Паддубіцкага раёна здаў восем шкур ліс і шмат іншай пушніны. Развялося за вайну звяр'я. Грыша ведае, што ваўкі нават да мястэчка дабіраюцца, да Залінейнай вуліцы. Падкопваюцца пад хлявы, душаць авечак, парсюкоў.

Начамі Грыша чытае кнігі па гісторыі. Гісторыю дрэнна выкладалі ў школе. Настаўнікі, ведучы ўрокі, зазіралі ў свае інстытуцкія канспекты, а то і проста дыктавалі з іх. Зараз Грыша чытае пра сярэднія вякі, пра готаў, якія, нібы цяперашняя Германія, замахваліся на ўсю Еўропу.

У часопісах з'яўляюцца творы пра вайну, толькі вайна паказана залішне прыгладжанай — амаль што такой, якую Грыша бачыў у даваенных фільмах.

Нарэшце друкуецца аповесць, якая ўсхвалявала хлопца. Аказваецца, і праўду можна пісаць пра ваенныя падзеі, не выдумваючы суцэльнай гераікі. Аповесць называецца «С фронтовым приветом», і напісаў яе невядомы Грышу пісьменнік Валянцін Авечкін.

Дні робяцца даўжэй, празрысцей. Вясна наступіла. Урокі заканчваюцца, калі на дварэ яшчэ светла.

Грыша часта прагульваецца з Гэляй, хоць ён і заўважыў, што яна не вельмі любіць прагулкі па-за школай. І ў кіно з ім ходзіць без вялікай ахвоты.

Яны сустракаюцца ў сквeрыку каля станцыі. Тут ёсць воданапорная калонка, якая замяняе фантан. Яны садзяцца на лавачку — яна ўнутры круглага скверыка цягнецца ўздоўж невысокага парканчыка,— слухаюць,— як шамаціць вецер у разгалістых шатах таполяў, як прыбываюць і адбываюць воінскія эшалоны. На станцыі заўсёды мітусяніна, таўханіна, з воданапорнай калонкі ў змроку вечара б'е серабрысты струмень вады.

Весткі аб забойстве падпалкоўніка каханкай-медсястрой і самазабойстве медсястры шырока пайшлі па свеце. Выключны выпадак. Нібы ў п'есе Шэкспіра. Нават салдаты, якія, выскачыўшы з эшалона, набіраюць з-пад калонкі ваду ў кацялкі, ведаюць пра гэта.

І стрыманая Гэля, як здаецца Грышу, залішне цікавіцца крывавай гісторыяй. Можа, таму, што сама служыла па медсанбатах.

Гэля неяк сказала, што Габрыела звязалася з урачом-капітанам, які быў жанаты. Відаць, штосьці абяцаў Габрыеле капітан, але пасля любоўнай дуэлі, якая адбылася ў шпіталі, падціснуў хвост. Сустрэч з Габрыелай пазбягае. А яна сама не свая...

— Хутка суцешыцца,— гаворыць Грыша.— Тыдні праз два. Якая розніца: той капітан ці які-небудзь другі?

Гэля падазрона зірнула на Грышу:

— Ты адкуль ведаеш? Кажуць, і ты ўвіваўся каля яе, як гналі статкі ў тыл...

— Так увіваўся, што яна нават прозвішча маё забыла. Пры сустрэчы не магла пазнаць...

І ўсё ж такі ў грудзях у Грышы соладка ные. Навошта ад сябе хавацца: на вайне ён толькі Габрыелу ўспамінаў. Нават маляваў ва ўяўленні карціну сустрэчы. Але не было сустрэчы і не патрэбна яна.

Гэля між тым надзімаецца, хмурнее і хоча з Грышам развітацца.

— Пачакай. Я толькі хацеў сказаць, што Габрыела прывыкла мець многа кавалераў. Каб за ёй пастаянна хто-небудзь бегаў...

— І ты быў у іх ліку.

— Не быў. І не збіраюся быць...

Гэля адразу спакайнее. Мір наладжаны. А Грыша робіць вывад, што і з Гэляй трэба быць асцярожным.

Дзяўчына цікавіцца, як і дзе Грыша ваяваў, у якіх шпіталях лячыўся.

— Мабыць, заводзіў каханак?

— А як жа? Прыбягалі дзяўчаты ў акопы. Мы сядзелі на брустверы і слухалі салаўёў. Ведаеш: прыгожа спяваюць салаўі на перадавой...

Гэля смяецца. Ёй падабаецца, што Грыша ўмее жартаваць.

— Каханак заводзіла высокае начальства,— гаворыць Грыша.— Салдаты называлі іх пэпэжэ — палявая паходная жонка. У палкоўнікаў, маёраў былі асобныя бліндажы. Выпіўка, закуска, пасыльныя. Яны нават мелі магчымасць узнагароджваць каханак ордэнамі.

— У мяне быў хлопец,— неяк знянацку прамаўляе Гэля.— Такі, як і я: скончыў дзесяць класаў. Малодшы лейтэнант. Я з ім у санітарным батальёне пазнаёмілася. Яго адправілі спачатку ў шпіталь, потым — на фронт. Паспела атрымаць ад яго адно пісьмо...

Нечакана Грышу ўзнагароджваюць. Дзеля гэтага ў школу прыбывае рухавы капітан-ваенкам. Разам з Валянцінай Паўлаўнай і яшчэ дзвюма настаўніцамі завітвае ў дзясяты клас. Капітан уручае Грышу медаль «За баявыя заслугі» і гаворыць прамову. Маўляў, узнагарода знайшла героя.

Грышу тым часам здаецца, што ваенкам сваёй уладай узнагародзіў (яны маюць на гэта права), каб замяць справу з двума атэстатамі, з якімі яго і старшага лейтэнанта затрымалі ў Маскве. Той старшы лейтэнант і цяпер служыць у ваенкамаце. Ні адзін волас не ўпаў з яго галавы.

Дзяўчаты глядзяць на Грышу як на героя. А таго не ведаюць, што такія медалі ў першую чаргу выдаюць пісарам штабоў, розным пасыльным, ездавым.

## XI

На Восьмае сакавіка здарыўся выпадак, пра які стараліся не гаварыць, бо інакш гэта зняважыла б школу.

Дзяўчаты даўно перашэптваліся, што «цукровы пеўнік», завуч школы, у вячэрнюю пару іншы раз затрымліваецца ў пустым класе разам з Габрыелай. Да Дудзінскай, відаць, таксама дайшлі чуткі. Каб праверыць іх, яна сачыла за завучам.

І такі высачыла. Здолеўшы неяк адчыніць замкнёныя знутры дзверы на першым паверсе, яна застала ў класе распараных, расчырванелых Габрыелу і завуча-гісторыка.

Назаўтра «цукровага пеўніка» са школы як карова языком злізала. Нават дакументаў не паспеў забраць. А Габрыеле Дудзінская што зробіць? Тая ходзіць, пасміхаецца: маўляў, на мой век «цукровых пеўнікаў» хопіць. Ведае, нягодніца, што дырэктар школы скандал раздуваць не будзе.

Некалькі дзён ходзіць Грыша, ахоплены змрочным, панылым настроем. З-за Габрыелы. Усё-такі падсвядома думаў пра яе. На штосьці спадзяваўся. На фронце на кожным кроку ён бачыў адносіны накшталт тых, якія былі ў Габрыелы з «цукровым пеўнікам», і амаль не верыў у сумленных дзяўчат. Зараз жа ён не сумняваецца, што такія дзяўчаты ёсць. Напрыклад, Гэля.

Вясна, нарэшце, увабралася ў сілу. Сонца зранку зацягнута павалокай шматслойных воблакаў, але ўдзень светла, цёпла. Зямля падсохла. На пагорках пачынае зелянець трава.

Вайна набліжаецца да завяршэння. Даўно ўзяты Варшава і Кракаў. Газеты пішуць пра канферэнцыю, якая мае адбыцца ў Сан-Францыска дзеля заснавання сусветнай арганізацыі — яна будзе рэгуляваць адносіны паміж дзяржавамі і не дапускаць новых войнаў.

Вайна цяпер ідзе на нямецкай зямлі. Чатыры гады чакаў Грыша гэтай навіны.

А газеты аж стракацяць паведамленнямі інстытутаў аб наборы студэнтаў. Абяцанні высокія: стыпендыя, інтэрнат, харчаванне.

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт — славуты БДУ, пра які ў свой час марыў Грыша,— таксама аб'явіў набор студэнтаў. Толькі дзіва: няма ва ўніверсітэце літаратурна-гістарычнага факультэта. Ёсць асобна філалагічны і асобна гістарычны.

На філалагічным факультэце гісторыя нібыта нават не выкладаецца.

І яшчэ адна падзея, прыемная для Грышы. Адзін з вучняў, які ходзіць на ваенныя заняткі, знайшоў гранату, самую небяспечную,— лімонку, прычым з устаўленым запалам. Вядома, знайшліся прыяцелі, якія прагнулі жаданнем паглядзець, як ён будзе яе ўзрываць. Хлапчына, аднак, паступіў разумна.

Перш-наперш ён вывінціў запал з гранаты, зрабіўшы яе бяспечнай, потым загадаў сябрукам лажыцца і толькі пасля гэтага вырваў чаку і шпурлянуў запал падалей. Пачуўся гучны трэск — і толькі тае бяды.

Канец вайны зусім блізка. Прадчуваннем перамогі, здаецца, напоўнена само паветра, вясёлыя галасы птушак, высокае сіняе неба.

Вестка пра смерць Рузвельта, амерыканскага прэзідэнта, засмуціла Грышу, але ж пераможная хада падзей усё роўна працягваецца. Савецкія войскі акружаюць Берлін, яшчэ праз дзень ці два злучаюцца на Эльбе з амерыканцамі.

Грыша ваяваў у няўдзячны час. Што добрае ён можа ўспомніць? Цёмныя, закіданыя снегам вёскі, адступленне, холад, голад, маркоту ваенных шпіталяў. Хай бы і ён выпіў чарку з салдатамі-пераможцамі на нямецкай зямлі!..

Каля школы часта з'яўляецца высокі маёр з палачкай у правай руцэ. Ён трохі накульгвае. Маёр то сядзіць на лавачцы сярод акацый, якія яны, старшакласнікі, пасадзілі яшчэ да вайны на ўсходнім баку шырокага школьнага двара, то ходзіць па дашчаным тратуары, пракладзеным наўзбоч вуліцы, што прылягае да школы.

Аднойчы Грыша бачыць разам з маёрам Гэлю і ўсё разумее. Ён пазбягае сустрэч з дзяўчынай, да якой за апошнія месяц-два так моцна прывязаўся.

Але падзеі развіваюцца з шалёнай хуткасцю. Грышу здаецца, што цяпер Гэля сама шукае сустрэчы з ім. І аднойчы спыняе каля вугла клуба. У голасе Гэлі ледзь не плач:

— Грыша, што мне рабіць? Маёр Кузьменка хоча са мной ажаніцца.

Што можа сказаць Грыша? «Пачакай месяц, год, нават два гады, і тады я вазьму цябе замуж. Толькі пачакай?..» Але ён

не можа прамовіць гэтых слоў. Бо што ён можа прапанаваць дзяўчыне? Што ў яго ёсць? І калі што будзе?..

— Ідзі, калі харошы чалавек,— гаворыць ён, паварочваецца і неяк залішне хутка ідзе прэч.

На наступны дзень адбываюцца заліковыя стрэльбы. Грыша водзіць вучняў страляць на курган могільніка. Мішэнь прымацоўваюць да тоўстага камля хвоі. Калі хто-небудзь не трапіць у мішэнь, то страх невялікі: курган узвышаецца метраў на дзесяць, і куля затрымаецца ў зямлі.

Страляюць з дробнакаліберннай вінтоўкі. Кожнаму са стралкоў Грыша дае па тры патроны. Паспела адстраляцца толькі першая пара, як Грыша ўбачыў лахматага, у падзёртых штанах і сарочцы Бахілку, якога ён нядаўна вывалак з класа. Хлопец трымае ў руках лімонку. Відаць, хоча выхваліцца перад былымі сябрамі. Халастая пробка вынята, запал увінчаны.

— Дай гранату! — не тоячы страху, крычыць Грыша, кідаючыся да Бахілкі.

Той вырывае чаку, наважваецца кінуць гранату, але нечакана граната выслізгвае з ягоных рук і падае на дол. Да выбуху застаецца дзве-тры секунды.

— Лажыся! — гучна крычыць Грыша.

Наском чаравіка ён адкідвае гранату далей і сам падмінае пад сябе Бахілку, навальваючыся на яго зверху. І тут жа грыміць выбух...

Пад шчаслівай зоркай нарадзіўся Грыша. Два разы смерць глядзела ў вочы і на трэці раз адступіла. Асколкі пранесліся міма. Толькі адзін гарачы кавалачак металу шаргануў па назе і парваў штаніну, якая адразу набракла крывёю.

Школьнікі накінуліся на Бахілку.

— Адставіць! — выгуквае Грыша.

Ён падымаецца, закасвае штаніну, перавязвае насавой хустачкай драпіну, якую на лытцы, ніжэй калена, пакінуў асколак. Нага дрыжыць, але ісці ён можа.

Там, на захадзе, заканчваецца найвялікшая, якая толькі была на свеце, вайна, там яшчэ гінуць салдаты, а тут, на могілках, лёс даў Грышу Ладуценку, бадай, канчатковую карту на жыццё, на ўсё тое, што ёсць у гэтым жыцці: чорнае і белае, горкае і салодкае...

*1998*

# ПОМНІ СТАЛІНГРАД

## I

Вайна для дзесяцікласнікаў выбухнула нечакана. Стаялі хлопцы ў доўгім школьным калідоры каля акна, падпускалі адзін аднаму шпількі, рагаталі і не думалі, што вайна на самым парозе. Большасць хлопцаў пасля дзясятага класа збіраліся паступаць у ваенныя вучылішчы. Але не дзеля таго, каб здзяйсняць подзвігі. Яны былі дзецьмі небагатых бацькоў — калгаснікаў, чыгуначнікаў, служачых. Якраз летась увялі ў інстытутах (і ў старэйшых класах сярэдняй школы таксама) плату за навучанне. Стыпендыю сталі плаціць толькі выдатнікам.

Хто з выпускнікоў, паступаючы ў інстытут, мог разлічваць на круглыя пяцёркі? Хіба што адзін Іван Дрозд. Ён і ў школе акрамя пяцёрак іншых адзнак не прызнаваў. Калі настаўнік на пачатку навучальнага года ставіў яму чацвёрку, то Іван за парту не садзіўся.

— Я ведаю матэрыял — прасіў настаўніка.— Спытайце яшчэ...

Так і пераходзіў Іван з класа ў клас з аднымі пяцёркамі і пахвальнымі граматамі. А з усіх прадметаў хлопец найбольш любіў матэматыку.

Іван з малодшай сястрой жывуць з маці. Бацька, таварны касір на станцыі, пайшоў да другой жанчыны. І ў новай сям'і ёсць дзеці, так што бацька, акрамя аліментаў, якія з яго вылічваюць, нічым Івану і яго сястры дапамагчы не можа.

Іван ціхмяны, трохі запаволены. А вуліца, на якой ён жыве, пярэстая, крыклівая, адчайна-рашучая. Яна не прызнае ніякіх аўтарытэтаў. А вось Івану падпарадкоўваецца. Чым гэта можна вытлумачыць? Хіба тым, што Іван нікога не крыўдзіць, добра гуляе ў валейбол і ў яго доме звычайна збіраюцца хлопцы, бо ён тут поўны гаспадар.

Сярод дзесяцікласнікаў Іван аказаўся прарокам. Бо толькі адзін ён лічыў, што з Германіяй пачнецца вайна.

— У нас з немцамі дагавор аб ненападзенні. Нават аб дружбе,— перабівалі яго хлопцы.

— Пляваў Гітлер на вашы дагаворы. Хіба не бачыце: ён ледзь не ўсю Еўропу пад сябе падтаптаў...

Вайна грымнула на другі дзень пасля выпускнога вечара. Не было для дзесяцікласнікаў ні аркестра, ні развітальных прамоў. Нават у цягнік іх не пасадзілі. Ён проста не мог прыбыць на станцыю: нашы з пярэпалаху самі ўзарвалі мост на Дняпры. Пайшлі пешшу.

У прадпісанні каржакаватага малодшага лейтэнанта, які вядзе калону мабілізаваных, значыцца: дабрацца да Лоева, за Дняпром пасадзіць ваеннаабавязаных у цягнік і даставіць у горад Сеўск Арлоўскай вобласці. Што за горад Сеўск, чым ён адметны, дзесяцікласнікі не ведаюць. Хлопцы ідуць разгубленыя, прыціхлыя. Не чуваць ні дасціпных жартаў, ні смеху.

Бясконцымі дарогамі цячэ за Днепр бежанства. На двух доўгіх прычэпах гусенічны трактар вязе яўрэяў з Глуска. Пыляць па дарогах статкі кароў. Нямецкія самалёты вісяць над Дняпром і прасёлкавымі дарогамі. То ў адным, то ў другім месцы чуюцца выбухі. У паветра ўздымаюцца слупы чорнай зямлі.

На нейкай украінскай станцыі хлопцы садзяцца ў цягнік і за два дні дабіраюцца да Сеўска. У ваенкамаце лейтэнант збірае паперы дзесяцікласнікаў. Праз гадзіну ён выклікае Івана Дразда і двух ягоных таварышаў.

— Паедзеце ў сталінградскае вучылішча сувязі. Білет і атэстат на траіх. Дрозд за старшага...

Па дарозе таварышы Івана захварэлі на дызентэрыю. Іх знялі з цягніка. У Сталінград хлопец прыехаў адзін.

## II

Сталінград, які раскінуўся ўздоўж Волгі вёрст на сорак, асабліва Дразда не ўразіў. Індустрыяльны горад першых пяцігодак. Звычайныя дамы-каробкі.

З вучылішча Іван піша ліст дамоў, у палескае мястэчка Паддубічы, і паспявае атрымаць адказ. На другое пісьмо адказу няма: маці і малодшая сястра Ніна, відаць, трапілі пад акупацыю.

Хлопец цяжка пераносіць разлуку з домам. Яму мроіцца мястэчка, іхні агарод, які даходзіць да балота і вясной заліваецца вадой, вербы каля хаты, станцыйныя таполі.

Напрыканцы першага ваеннага лета курсантаў возяць збіраць ураджай з бахчаў. Паласатыя кавуны грузяць на аўтамашыны: хлопцы стаяць доўгай шарэнгай, перакідваючы іх з рук у рукі.

Тыя лета і восень для Сталінграда былі яшчэ бясхмарныя. Але трывога ў душы нарастала. Бо ўжо і Харкаў, і нават Курск былі заняты немцамі.

Іван здагадваецца, чаму ў ваенных зводках указваюцца толькі напрамкі баёў: вайна манеўраная, суцэльнага фронту няма. У курылцы, не адчуваючы страху, хлопец выказвае ўласныя меркаванні наконт ваенных дзеянняў. Хутка яго выклікае да сябе намеснік камандзіра па палітычнай частцы.

— Раскажы, пра што баеш у курылцы. Пра танкавыя кліны? Лічыш, што немцы выйграюць вайну?

— Ні ў якім разе. Іх стратэгія авантурная. Калі-небудзь мы навучымся рабіць такія, як яны, акружэнні, катлы.

Іван не тоіцца, шчыра адказвае на ўсе пытанні, і маёр пераконваецца, што курсант Дрозд не палахлівец і не панікёр. Проста хлопец мае галаву на плячах. Аднак загадвае:

— Спыні ў курылцы лекцыі. Час ваенны. Могуць быць непрыемнасці.

У красавіку сорак другога года курсантаў, датэрмінова прысвоіўшы ім толькі сяржанцкія званні, адпраўляюць на фронт. Пад Харкаў. Там нібыта намячаецца наступленне.

Некаму Іван адважваецца сказаць, што немцы ваююць добра, што яны пакуль мацнейшыя за нас. І вось ён ужо сядзіць не перад нампалітам, а стаіць перад упаўнаважаным Смерша, танклявым чалавекам у чорным, са злоснымі, як бураўчыкі, вачамі. Смершавец загадвае пакласці на стол усё, што ёсць у кішэнях і ў брызентавай камандзірскай сумцы. Багацце там невялікае: зашмальцаваная насоўка, агрызак алоўка, «Нямецка-рускі слоўнік» і кішэннага фармату «Атлас свету».

Капітан трохі азадачаны. Відаць, ён спадзяваўся знайсці карту-двухвёрстку, якая ёсць у камандзіраў (Іван камандуе ўзводам сувязі), якія-небудзь адзнакі на ёй, бо сам думае пра

шпіёнаў, марыць вызначыцца. Матэрыял, аднак, бедны, і ён пачынае распытваць пра Іванавых родзічаў, якія засталіся на акупаванай тэрыторыі, хто яны, чым займаюцца.

Зачэпак, як і раней, няма.

— Вы сцвярджалі, што немцы лепей за нас ваююць?

— Нічога я не сцвярджаў. Я гаварыў, што немцы пакуль мацнейшыя за нас. Таварыш Сталін сказаў, што будзе свята і на нашай вуліцы, гэта значыць, навучымся і мы ваяваць...

— Ведаеце, куды можна трапіць за такія размовы?

— Баец павінен быць свядомым! — выбухае Іван.— Людзі хіба з-за страху ваююць? Не, яны вераць: пагонім ворага. Як гналі пад Масквой...

Капітан здзіўлены. Такія, як гэты Дрозд, яму яшчэ не трапляліся. Між тым ён не забывае пра інтарэс службы.

— Вы свядомы чалавек,— гаворыць ён.— Гэта вельмі добра. Але ёсць і несвядомыя. Вы павінны нам памагаць...

Іван разумее, куды хіліць смершавец.

— Ворагаў у маім узводзе няма. Калі такога выяўлю, сам да вас прыйду.

## III

Дывізія, відаць, будзе наступаць на Харкаў. Ён — ключ ад Украіны. Пэўным чынам Іван звязаны з гэтым вялікім горадам. Гады за два да вайны Харкаўскі ўніверсітэт праводзіў матэматычную віктарыну. «Комсомольская правда» друкавала яе ўмовы. Алгебраічныя і геаметрычныя з прымяненнем трыганаметрыі задачы былі не надта цяжкія. Але іх трэба было рашыць некалькімі спосабамі. Іван знайшоў пяць варыянтаў рашэння і трапіў у лік найбольш здольных пераможцаў. Яго прэміравалі, прапанавалі па сканчэнні дзесяцігодкі паступаць на матэматычны факультэт. З таго часу Іван думаў пра Харкаў. Цяпер хоць пабачыць, які ён.

У вучылішчы кормяць не надта добра, асабліва ў апошнія месяцы. Збіраючыся ў курылцы, курсанты ўспамінаюць, калі хто еў што-небудзь асабліва смачнае. Івану няма чаго ўспамінаць. На бацькавых аліментах не разгонішся. Мелі яны з агарода бульбу, агуркі, у краме куплялі хлеб, камсу і зрэдку

цукар. Найбольш выручала карова, для якой Іван нарыхтоўваў сена. Наймаўся хлопец на пагрузку торфу, каб падзарабіць грошай. Торфазавод быў недалёка, ён забяспечваў палівам добрушскую папяровую фабрыку «Герой працы», якая выпускала вучнёўскія сшыткі для ўсёй Беларусі. Іван нават трохі ганарыўся гэтым. Ён дзеду (матчынаму бацьку) як мог пасабляў. Араў, касіў. За гэта дзед на свята прыносіў унукам ёмісты, круглы бохан хлеба і крышан сала. Дзедавы гасцінцы трохі паляпшалі сумнае Іванава жыццё.

Так што ў вучылішчы Іван адчуваў сябе лепей за іншых. Няхай сабе слабавата тут кармілі, але апроч таго апраналі, абувалі. Адно што дысцыпліна была жорсткая. Пад’ём у пяць гадзін, бясконцыя заняткі, страявая, дзяжурствы каля апаратаў. Да адбою ён так стамляўся, што быў як выціснутаяануча. Але ж неяк прыцёрся да вайсковага рэжыму. Дакаралі Івана толькі за неахайнасць: ён забываў то прышыць падкаўнерык, то падстрыгчы пазногці, часам не меў чыстай насоўкі. А ўвогуле быў курсантам вынаходлівым, умелым і здольным. Каманды выконваў на ляту. Меў кампанейскі характар. Не выстаўляўся, не пахваляўся.

Вясна. У небе звіняць жаўрукі, дол, лагчыны, яры ўсыпаны кветкамі. Ноччу на небе выспяваюць на дзіва чыстыя зоркі. Над перадавой лётае птушка лунь, у зарасніках па краях яроў заліваюцца салаўі.

Вайна выключана з прыроды. Яна не патрэбная ні птушкам, ні звярам, ні траве. Яна і зямлі не патрэбная, бо калечыць яе. Бомбы выварочваюць наверх самыя неўрадлівыя пласты, чарназём пакрываюць пяском.

З самага пачатку наступлення на Харкаў Іван адчувае штосьці няладнае. Яно, слаба падрыхтаванае, павінна стаць працягам зімовага наступлення Чырвонай Арміі. Глыбока ў нямецкую абарону ўклініўся Ізюм-Барвенкаўскі выступ. Нашы нават станцыю Лазавую занялі. Мабыць, генералы ў высокіх штабах, падбадзёраныя разгромам немцаў пад Масквой, і тут, на Украіне, задумалі наступленне. Армія да яго яшчэ не была гатовая. Іван бачыў гэта па пахмурных тварах байцоў, па няўпэўненых паводзінах камандзіраў, па многіх дробязях, якія кідаліся ў вочы. Войска нагналі, праўда, багата.

Але сапраўднай сувязі паміж часцямі не было, ніхто дакладна не ведаў сваёй паласы дзеяння. Увогуле радасных вестак з фронту не паступае. Немцы дабіваюць керчанскі дэсант, і таму незразумела, навошта высадзілі на паўвостраў, захоплены ворагам, некалькі дзясяткаў дывізій. Вызваліць Севастопаль? Але, здаецца, яшчэ рана. Украіна ў немцаў.

Іван у школе някепска ведаў нямецкую мову. Цяпер, падбіраючы абрыўкі газет, маючы слоўнік, ён збольшага стаў чытаць па-нямецку. Дзіўныя рэчы адкрываюцца яму. Аказваецца, немцы не проста рынуліся заваёўваць савецкія землі,— яны лічылі іх сваімі. Яго страшэнна здзівіў загаловак на ўсю паласу ў нямецкай газеце: «Крым зноў стаў нямецкім». Адкуль у Крыме немцы, якія немцы? — нічога гэтага ў курсе школьнай гісторыі не паведамлялася.

Полк тады стаяў на ўскраіне Барвенкава. Адпрасіўшыся ў камандзіра роты, Іван пабег па гарадскіх бібліятэках. Яму пашчасціла знайсці том (без вокладак і першых старонак) «Гісторыі СССР».

Нібы гаючы бальзам, піў Іван веды з гэтай раней невядомай яму крыніцы. Ён настолькі гэтым захапіўся, што яму самому падалося, нібы ён не ваяваў, а вучыўся на гістарычным факультэце.

Колькі народу прайшло за гісторыю па паўднёва-рускіх стэпах! Скіфы, сарматы, раксаланы, аланы, печанегі, полаўцы. Былі тут і готы, што сядзелі на Дняпры, затым гуны адцяснілі іх у Крым. Можа, немцы і лічаць готаў сваімі папярэднікамі? Але гэта быў не надта магутны народ: ён плаціў даніну стэпавым вандроўнікам і займаў толькі паўднёвую частку паўвострава з горадам Фаросам.

Плямёнамі, якія вандравалі ў паўднёва-рускіх стэпах і мелі падобныя да германцаў рысы, былі аланы. У Івана выклікае здзіўленне тая акалічнасць, што высновы нямецкіх вучоных пра паходжанне германцаў ад старажытных плямёнаў базуюцца на такой хісткай глебе. Гэта іначай як авантурызмам не назавеш.

Увогуле, дзіўную карціну ўяўляў сабой старажытны свет. На паўднёвым прычарнаморскім узбярэжжы размяшчаліся грэчаскія калоніі. Заваёўнікі ўвесь час змянялі заваёўнікаў. Але

культура расла. Лічыцца, што паўднёвыя прычарнаморскія і прыкаспійскія стэпы далі Еўропе каня (прыручаны дзікі конь з пустыняў Гобі), павозку (кола было пазычана з ірыгацыйных сістэм Егіпта), медзь (назва вострава Кіпр сугучна лацінскай назве металу — купрум, гэта значыць медзь).

## IV

Узвод займае хутарок на ўскраіне вялікага сяла. Недзе паблізу зліваюцца рэкі Северскі Данец і Аскол. Гаспадыня хутарка — мілавідная жанчына — жыве з дачкой Аксанай. Да гаспадыні прыязджае начпрад суседняга палка, тоўсты ганарысты капітан, і ў яе з ім асобныя рахункі. А на байцоў узвода сувязі нібы ліхаманка нападае. Старых ва ўзводзе, якія перасталі думаць пра жанчын, толькі двое — павольны, паважны ў рухах Лявоненка і прыродны латруга Серкуноў. Астатнія — народ спрытны. Некаторыя падэшвы на хаду адрэжуць. Толькі сляпы мог не заўважыць, што вакол Аксаны ўзнялася мітусня. Івану спачатку здавалася, што дачка гаспадыні аддае перавагу памочніку камандзіра ўзвода сяржанту Папову, высокаму, стройнаму прыгажуну. Неяк заўважыў камандзір узвода, як яго намеснік, затуліўшыся за прыгрэбнікам, прагна цалаваў вогненна-імклівую Аксану. Ну што ж, тут не было ніякага дзіва. Сышліся роўныя.

Толькі Аксана, відаць, нікому не хоча наперад даваць вексель. Яна і астатнім не адмаўляе ў заляцаннях. За ёй след у след ходзіць рыжы паляк Шыхтар, які вырас у Сярэдняй Азіі і па-польску слова не можа прамовіць. Падкочваецца да дзяўчыны жулікаваты рагатун Халімончык, які трапіў на фронт пасля вызвалення з палону. І яшчэ адзін прэтэндэнт ёсць — вялізны кодаўбень, малодшы сяржант Смелякоў.Ягоны непрыгожы твар з задзёртым шырокім носам густа ўсеялі прышчы. Смелякоў не пазбаўлены гумару і, неяк напаткаўшы Аксану, заяўляе:

— Паглядзі на маю абразіну. Адчуваю востры недахоп кахання. Маю залаты пярсцёнак. Магу падараваць.

Але Аксану пярсцёнак мала вабіць. Яна, як апантаная, носіцца па вузкім дворыку. Яе кавалеры, карыстаючыся

цішынёй на перадавой, падшываюць каўнерыкі, глянцуюць боты, збіраюцца нават наладзіць банкет, каб завабіць рухавую, неспакойную птушку.

Іван начуе на сене на вышках. Аднойчы ён чуе асцярожныя крокі на лесвіцы. Абудзіліся сонныя куры. Цяжка ўздыхнула, перажоўваючы жвачку, карова. Зашасцела сена.

— Гэта я, Аксана,— чуецца прыглушаны голас. Дзяўчына лягла побач з Іванам. Паклала яму на грудзі руку.— Чапляюцца твае сувязісты. Аж моташна. Нікога не хачу. Ты мне падабаешся...

Мала што памятае Іван. Ударыла ў галаву кроў, стаў абдымаць, цалаваць дзяўчыну. Яна зняла з сябе ўсе адзежкі. А ён сумеўся.

Аксана спытала:

— У цябе не было дзяўчыны?

— Не было.

Яна задаволена засмяялася.

— Так і думала, і я яшчэ нікога не зведала. Толькі цалавалася...

У тую ноч яны належалі адно аднаму.

Сяржант Папоў дазнаўся пра Іванава спатканне з дачкой гаспадыні.

— Патаскушка?

— Чыстая, брат, дзеўка. Тое, што языком мянціла,— лухта...

Калі ўзвод пакідаў хутарок, Аксана не хавала сваіх адносін да Івана. Пры ўсіх да яго тулілася, цалавала, прасіла пісаць.

Прыгожы красавіцкі стэп. Пярэсты дыван з белых, сініх, чырвоных кветак, яркая ў першай зеляніне трава, лагодныя павевы ветру, птушкі, якія сваімі спевамі славяць Божы свет,— усё гэта так не адпавядае вайне, якая вельмі хутка знішчыць гэтую ўрачыстасць і прыгажосць.

Грымнулі 152-міліметровыя гарматы артылерыйскага палка, падтрымалі іх сотні стваloў суседніх вайсковых злучэнняў. Наперадзе былі чыгуначная станцыя і вялікае сяло. Здавалася, што пасля такой бамбардзіроўкі там нічога жывога не засталося. Але, калі пайшлі ў наступленне, немцы сустрэлі байцоў знішчальным агнём. Рух наперад адразу замарудзіўся.

Іван упершыню ўбачыў у гэтым наступленні нашы самалёты і танкі, нават агромністыя КВ. Імчаліся тачанкі з кулямётамі на вазках. Аднак ні станцыю, ні сяло ўзяць у лоб не ўдалося. Іх абышлі. І наступленне пасля затрымкі, здаецца, добра разгортвалася. На гэты раз немцы супраціўляліся слаба. Ужо не было ранейшай трывогі і няўпэўненасці сярод салдат, і Іван перажываў радасныя хвіліны паспяховага наступлення. Яму ўжо мроіўся вызвалены Харкаў. Ад Харкава і Беларусь недалёка. Станцыі Варажба, Бахмач, а затым ужо і Гомель.

Перад Краснаградам наступленне як бы захлынаецца. Грыміць артылерыя, раз-пораз падымаецца ў атаку пяхота, але тут жа адступае. Далей — горай. Сувязісты дачуліся, што ў артылерыйскія дывізіёны не падвозяць снарадаў, ёсць перабоі з харчаваннем. Праз дзень кухні наогул перасталі пад’язджаць да часцей.

Прадчуванне бяды спраўдзілася: загадана адступаць. Куды адступаць? Вакол немцы. Яны адрэзалі Барвенкаўскі выступ. Байцы галодныя. Наша авіяцыя знікла, затое ў небе бясконца шнырaюць нямецкія самалёты і закідваюць лістоўкамі: «Здавайцеся, вы сядзіце ў шчыльным мяшку...»

Артылерысты яшчэ спрабуюць страляць. У сіняе неба, як у капеечку.

Вось вам і перамога.

## V

Самае страшнае, што камандзір палка, увесь штаб зніклі ў невядомым накірунку. Гэта ганьба. Называецца — камандзіры! Завялі салдат у пастку, а самі збеглі.

Скончылася паліва. Няма чым заправіць грузавікі. Нехта загадвае знішчыць тэхніку. Артылерысты сыплюць у ствалы гармат пясок, затым страляюць — калечаць гарматы.

Без камандзіраў войска ператварылася ў натоўп. Ніхто не ведаў, што рабіць. Узвод стоўпіўся вакол Івана. На яго глядзелі як на выратавальніка. Вырашылі прарывацца разам. Дзень ішлі ў паўднёва-ўсходнім напрамку. Усё болей кінутых павозак, грузавікоў, нават танкаў траплялася на іхнім шляху. Відавочна, што сярод нашых войскаў была паніка, бо ў кузавах

машын сувязісты знаходзілі хлеб, кансервы, нават махорку. Набівалі імі рэчавыя мяшкі, процівагазныя сумкі.

Яны так і брылі — узводам. Перамяшчаліся пераважна ноччу, а днём хаваліся ў ярах. Вакол грукаталі нямецкія танкі, матацыклы. Чуліся гартанныя каманды. Івану пашэнціла раздабыць карту-двухвёрстку, і хлопец увесь наступны дзень яе вывучаў. На трэцюю ноч ён вывеў узвод на хутарок, з якога яны пачыналі наступленне. Там былі немцы. Якраз збег паляк Шыхтар, і байцы баяліся, што той прывядзе немцаў. Аднак не прывёў. Клапаціўся, відаць, пра ўласную скуру, ведаў, што нашы не даруюць здрады.

Немцаў станавілася ўсё больш. Паблізу зліцця Северскага Данца і Аскола сабралася вялікая група акружаных савецкіх салдат. У небе пастаянна вісела процьма нямецкіх самалётаў. Яны выбівалі акружэнцаў, коней, знішчалі транспарт.

Івану пашчасціла дайсці да хутарка, і ён здолеў сустрэцца з Аксанай. Яна прапанавала хлопцу схавацца. Але не мог ён згадзіцца на такое, бо ў яры яго чакалі шаснаццаць чалавек — большая частка ўзвода.

Іван сказаў, што ім не хапае вады. І Аксана, кожны раз выбіраючыся паліваць агарод, вядро ці два прыпасае для тых, хто хаваецца ў зарасніках. Але так не можа цягнуцца доўгі час, бо ў некаторых мясцінах немцы пачалі выпальваць кустоўе.

Аднойчы дзяўчына прыходзіць з кволым сівым дзядком, які бярэцца правесці сувязістаў да Северскага Данца. Тым часам здараецца няшчасце. Выпадковай куляй параніла Івана.

І ўжо ў наступную ноч знікаюць адразу тры чалавекі. Узвод на вачах распадаецца. У адчаі салдаты рашаюць самастойна выходзіць з акружэння. Нарэшце ў зарасніках засталося двое сяржантаў — Дрозд і Папоў. Рана ў Дразда не такая страшная: перабіта левае прадплечча. Хлопец ляжыць на брызентавай плашч-палатцы пры памяці, у любую хвіліну гатовы ісці.

Каля Івана завіхаецца Аксана, прыкладае да яго засмяглых губ мокрую палоску бінта, дае піць, выцірае хусцінкай пот. Івану цяжка дыхаць, у грудзях хрыпіць. Дзяўчына прыносіць

адвары траў, поіць яго. Тыдзень змагаецца за хлопца, якога толькі нядаўна сустрэла.

Калі Іван трохі акрыяў, ён разам з Паповым пераходзіць у другі яр. І якраз своечасова: Шыхтар на месца былога схову прыводзіць немцаў.

## VI

Далей адцягваць адыход нельга. Трэба ісці. Ад дапамогі дзядка сяржанты адмаўляюцца. У іх ёсць карта і компас.

— Я буду чакаць цябе,— гаворыць Аксана Івану.— Ты мой муж...

Адыходзяць ноччу, калі дзённыя выбухі бомбаў, стрэлы сціхаюць. Два сяржанты, абняўшыся, ідуць і ідуць па начным стэпе. Цёмныя хмары шчыльна завесілі неба. Нельга зірнуць ні на карту, ні на компас. Стэп поўны людзей — брыдуць акружэнцы. Перамовы, галасы, шэпты. Людзі ідуць, паўзуць, ляжаць. Многія не ведаюць, куды ісці, але ідуць. Чуваць стогны параненых. Некаторыя з іх просяцца: «Браток, вазьмі мяне. На смерць пакідаеш...»

Але хто і як можа дапамагчы небаракам? Дрозд сам ледзьве трымаецца на нагах. Папоў іншы раз нагінаецца, робіць перавязку ці круціць салдату цыгарку.

То ў адным, то ў другім месцы чуюцца стрэлы і нават кулямётныя чэргі. Гэта салдаты натыкаюцца на нямецкія пасты. Некаторыя самі страляюцца.

Стэп шырокі, і пастунова акружэнцы разбрыдаюцца па ярах, канавах, зашываюцца ў балацянкі. Яшчэ два разы Дрозд з Паповым напорваюцца на немцаў. Яны ўжо выпрацавалі тактыку: кідаюцца на зямлю і маўчаць. Але ў іх ёсць вінтоўкі, таму, калі на світанні перад імі вырастае немец, які паспявае толькі крыкнуць: «Хальт!», яны страляюць з двух ствалоў і бягуць у ахутаны туманам лес. Тут балацянка, і тут усчынаецца асабліва жорсткая страляніна. Яны не проста бягуць — падаюць, паўзуць, падымаюцца і зноў бягуць. Нарэшце лес. Ён як збавенне. Толькі яны не ведаюць, чый ён.

Наперадзе рачулка. Плаваць, між тым, ніводзін з іх не ўмее. Яны знаходзяць бервяно. Трымаючыся за яго, пера-

плываюць рэчку. І ад радасці ледзь не слупянеюць: на беразе стаіць чырвонаармеец. Ён падыходзіць да акружэнцаў.

— Дакументаў у вас няма. Але малайцы, вінтоўкі не кінулі. Пойдзеце на фільтр. Такі парадак...

## VII

Тры месяцы лечыцца сяржант Дрозд. Перакідваюць яго са шпіталя ў шпіталь. Пачыналася гангрэна, але ўрачы руку ўратавалі.

З Паповым яны разлучаюцца адразу. Дзе цяпер ён, верны, самаахвярны таварыш? Увогуле, Іван нічога не ведае пра свой узвод. Хлопца гнятуць перажыванні. Яшчэ ў катле ён чытаў нямецкую лістоўку. З яе даведаўся, што ў акружэнне трапіла дзвесце сорак тысяч чырвоных байцоў і камандзіраў. Жахліва! Што думалі генералы ў штабах, вярхоўнае камандаванне, калі рыхтавалі наступленне?

Усё часцей хлопцу згадваецца Аксана. Калі застанецца жывы, пасля вайны паедзе на знаёмы хутарок, знойдзе яе.

Апошні шпіталь быў ва Уральску, дзе Іван знайшоў магілу беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі, пахадзіў па бібліятэках і начытаўся ў ахвоту. Тады зразумеў, што такое свастыка, а таксама чаму немцы называюць сябе арыйцамі, і канчаткова пераканаўся, што іх вучоныя ідуць на свядомую фальсіфікацыю. Бо арыйцамі, гэта значыць індаеўрапейцамі, могуць лічыць сябе ўсе народы Еўропы, а таксама індусы, афганцы, персы.

Са шпіталя ва Уральску Дразда накіроўваюць у Сталінград. Туды кіруюцца маршавыя роты.

## VIII

У пахмурным кастрычніку маршавая рота прыбывае на бераг Волгі. Горад гарыць. Такое ўражанне, што нехта распаліў агромністы пажар, у якім гіне ўсё жывое.

Праз Волгу перабіраюцца ноччу. Неба зацягнута шэрабурымі воблакамі. Немцы безупынна б'юць з гармат, мінамётаў. Шырокая рака ў вогненных водсветах. Гарыць на-

фта. Салдаты грузяцца на пантоны. У адзін з іх трапляе снарад. Зброя, боепрыпасы тонуць. Байцы боўтаюцца ў халоднай вадзе. Адны хапаюцца за бярвенні, дошкі, каб неяк утрымацца на паверхні. Другія чапляюцца за суседнія перагружаныя пантоны. Іх б'юць па руках, не даючы ўзабрацца, бо іначай пантон патоне.

Жудасная карціна! Крык, лямант. Кожны ратуецца як можа.

Правы бераг круты, абрывісты. Байцы ўзлазяць наверх. Парадзелы полк мусіць абараняць завадскі пасёлак. Іван Дрозд і цяпер камандуе ўзводам, толькі стралковым. Высадзіўшыся на бераг, байцы займаюць пазіцыі, пачынаюць акопвацца каля доўгага двухпавярховага будынка. Хутка высвятляецца, што ў падвале дома, каля якога яны занялі абарону, туляцца сем'і сталінградцаў, якія не паспелі перабрацца на другі бераг. Яны некалькі дзён нічога не елі. Дзеці плачуць. Галодныя мацяркі не ведаюць, што рабіць, і байцы аддаюць ім свой недатыкальны запас.

Побач фабрыка-кухня. Прыціскаючыся да зрытага варонкамі долу, байцы займаюць пазіцыі вакол яе. Тут праходзіць і чыгуначная ветка — яна абслугоўвала некалі завод. На рэйках нават дзве цыстэрны з нафтай засталіся. Нібы Богам падорана байцам фабрыка-кухня. Яе будынак мае падвал. Ёсць дзе затуліцца, бо за якіх-небудзь трыста-чатырыста метраў — круты бераг Волгі.

Кастрычнік палівае руіны дажджом, засцілае туманам. Неба, як і раней, зацягнута воблакамі. Але з-за гэтых воблакаў адзін за адным вырываюцца нямецкія самалёты. Немцы бясконца атакуюць і з зямлі. Яны бамбяць завод, прылеглыя да яго вуліцы, будынкі, фабрыку-кухню.

Загараецца цыстэрна з нафтай. Лопаецца, нібы вогненны шар. Полымя ўздымаецца перад самымі акопамі абаронцаў.

Іван радуецца, што не ён цяпер камандзір узвода сувязі. Асколкі перабіваюць провад кожную хвіліну.

Міны, бомбы, кулямётныя чэргі. З раніцы да вечара. Без перадыху. Нашы саракапяткі б'юць з адкрытых пазіцый. Байцы кідаюцца пад танкі са звязкамі гранат. Ніхто не думае пра смерць. У час атакі кроў кіпіць, і няма іншага жадання, як адолець, пагнаць з занятых пазіцый ворага. Пасля атакі, у

абароне, глыбей уціскайся ў непадатлівую камяністую зямлю. Яна — збавенне.

Мінае дзень, два, тыдзень. Вызваленая прастора пашыраецца. Знясіленыя, напалову парадзелыя палкі замацоўваюцца на рубяжы трох вуліц. Але ад гэтага не робіцца лягчэй. Нямецкая пяхота пад прыкрыццём танкаў напірае на абаронцаў фабрыкі-кухні. Байцы расстрэльваюць танкі з гармат, закідваюць гранатамі, бутэлькамі з гаручай сумессю.

Тут няма слова «герой». Насмерць стаяць усе. Гарматы артылерыстаў выведзены на прамую наводку. У бліжэйшым ад правага крыла фабрыкі-кухні гарматным разліку застаўся толькі адзін паранены артылерыст. Танкаў, аднак, не прапускае. Сам носіць снарады, зараджае гармату, страляе.

Левы бераг памагае. Пры кожным наступленні танкаў перад імі паўстае сцяна з зямлі і агню.

Байцы бяруць у палон нямецкага маёра. Ён у акуратна адпрасаваным, чыстым мундзіры. Палкавога перакладчыка няма. Дапытвае маёра сяржант Дрозд.

— Даўно пад Сталінградам?

— Са жніўня. Наступалі спачатку на паўднёвым напрамку.

Палонны дрыжыць як асінавы ліст, выцірае насоўкай спацелы лоб.

— Чаму вы нацэліліся на гэты пасёлак?

— Камандаванне лічыць, што тут лягчэй прарвацца да Волгі. Менш чым паўкіламетра...

Прыпаўзае счарнелы камандзір батальёна. Убачыўшы перапалоханага дашчэнту немца, крычыць:

— На бераг яго. У штаб. Перакладзі: хай не дрыжыць. Мы палонных не расстрэльваем...

Немцы ўсё ж такі прарваліся да Волгі каля вусця ракі Царыцы. Разгарнуцца ім, аднак, не даюць.

Ноч — дзень, дзень — ноч. За нямецкімі танкамі, як заўсёды,— ланцуг аўтаматчыкаў. Няспынны гул выбухаў зліваецца ў пранізлівую шалёную хвалю. Пекла. Канец свету...

Аднойчы ў акопчыку чуецца глухі стук і Іван бачыць, як тырчыць з зямлі стабілізатар нямецкай міны. Хлопец мігам выкульваецца з акопчыка. Міна, аднак, не ўзрываецца.

Колькі прайшло месяцаў? Два, тры? Дыхнула зімой. Быў першы замаразак. Толькі не гэта галоўнае. Ужо чуюцца грымоты агромністай сілы. Такой кананады яшчэ не было. Б'е дальнабойная артылерыя з-за Волгі, з завываннем праносяцца зыркія палосы-снарады «кацюш», ажывіліся нават гарматкі-саракапяткі, што ва ўпор расстрэльвалі нямецкія танкі ледзь не на самым беразе Волгі. Становіцца вядома, што Сталінградскі, Стэпавы, Варонежскі франты пераходзяць у наступленне. Нездарма гаварыў Сталін пра свята на нашай вуліцы. Хоць да сапраўднага свята яшчэ далёка...

Нарэшце радасная вестка: армія Паўлюса акружана, і наогул уся сталінградская групоўка немцаў у катле. Навіны такога значэння не было за ўсю вайну.

Дрозд запамінае гэты дзень — дзевятнаццатага лістапада тысяча дзевяцьсот сорак другога года. У тое, што здарылася, ён укладвае містычны сэнс: роўна праз год армія вызваліць Паддубічы, яго роднае мястэчка. Так яму гаворыць нейкі патаемны ўнутраны голас.

Немцы ўжо не рвуцца з такім імпэтам у атакі. Навошта цяпер ім бераг Волгі? Але страляюць, абараняюцца. Хочуць вырвацца з катла, але Сталінград пакідаць не збіраюцца, гэта — крэпасць на Волзе. Загадам Гітлера было да гэтай крэпасці прабіць калідор. Пакуль што акружаная армія Паўлюса забяспечваецца паветраным шляхам. Адзін цюк з правіянтам, зімовымі рэчамі перахопліваюць абаронцы фабрыкі-кухні. У падвале сапраўднае свята. Яшчэ раней байцы прывалаклі крыху памяты самавар, патэфон, кардонную скрынку з пласцінкамі і тоўстую ватную коўдру. Зараз з нямецкага, скінутага на парашуце цюка таксама сёе-тое перападае: некалькі бляшанак кансерваў, дзве бутэлькі віна і нават пара цёплых шарсцяных шкарпэтак, якія байцы ахвяруюць Дразду як камандзіру ўзвода.

Усе п'юць віно, ласуюцца кансервамі, слухаюць песні. Сувязісты, якія сядзяць побач, гавораць, што генерал Гот ідзе на дапамогу, хоча разблакіраваць акружэнне. Толькі, відаць, не разумеюць немцы, што насталі іншыя часы. Насмерць стаяць пад Кацельнікавам савецкія байцы і Гота не прапускаюць.

А ў горадзе немцаў выкурваюць з падвалаў, руін, сутарэнняў. Убогі выгляд маюць заваёўнікі свету, захутаныя ў розныя транты, лахманы, з абмарожанымі чырвонымі насамі. Так яно і павінна было здарыцца. Распачатая імі вайна не можа скончыцца для іх перамогай.

Няўжо падчас вайны, у смяртэльным віры, у гэтай мясарубцы можна аналізаваць уласны лёс? Аднак дзеецца нешта падобнае. У Сталінград Івана Дразда пасылалі вучыцца — зараз ён абараняе гэты горад. Ён рашыў задачы Харкаўскага ўніверсітэта — і ледзь не загінуў ва ўкраінскім стэпе. У Сеўск прыбылі яны, дзесяцікласнікі, на размеркаванне, а цяпер Сталінградская дывізія нібыта накіроўваецца вызваляць Сеўск. Дзіўнае кола... Толькі дзе тыя хлопцы, якія прыбылі ў Сеўск? І наогул, дзе ўсё маладое пакаленне, тыя юнакі і дзяўчаты, якія выраслі да вайны? Паразмятала, параскідала іх па розных франтах. І ці многа засталося жывых?

## IX

Пісем Дрозд ні ад кога не атрымлівае. Нічога пра сяброўтаварышаў не ведае.

Дывізія прыбыла пад Сеўск папоўненая, добра апранутая, абутая. Ужо ўступае ў правы вясна сорак трэцяга года. Хутка будзе два гады вайне. Так, абарона пад Сеўскам зусім не тое, што пад Сталінградам. І тут страляюць. І нашы, і немцы. Але ёсць добра зладжаныя акопы, аплеценыя фашыстамі траншэі. Харчаванне тры разы на дзень, хоць і не такое ўжо выдатнае. Заладзяць тыдні на тры пярловую сечку або, яшчэ горш, магаравую кашу, і свет робіцца нямілы. Але будзеш есці, бо нічога іншага няма.

У немцаў адваёўваюць вёсачку, каб палепшыць пазіцыі. Захопліваюць харчовы склад. Божа, чага толькі ў фашыстаў няма! Як у тым цюку, які немцы скінулі сваім бядотнікам у Сталінградзе, а ён трапіў у размяшчэнне роты,— багата рознай ежы: кансервы, шмалец, плаўлены сыр, штучны мёд у вялізных бляшанках і нават цаглінкі хлеба, якія, не псуючыся, могуць захоўвацца месяц ці нават два. Але не гэта ўражвае. Байцы асталёўваюцца ў хаце, да сцен якой кнопкамі прыма-

цаваны нямецкія газеты. Газеты розныя, за мінулы год і нават за гэты. Такой раскошы Іван яшчэ не бачыў. Гэта не тыя шкуматы, якія ён падбіраў на дарогах і, вымаючы з рэчавага мяшка слоўнік, чытаў.

Іван здымае дзясяткі два газет, з прагнасцю на іх накідваецца. Хлопец даведваецца пра цікавыя рэчы. Так, у Германіі была жалоба па Сталінградзе. У прамове, прысвечанай страце крэпасці на Волзе, Гітлер сказаў, што атрымана вялікая перамога. Пад Сталінградам, маўляў, загінула армія — уся, да апошняга салдата,— але яна скавала дзеянні некалькіх савецкіх армій, якія ў адваротным выпадку стаялі б, магчыма, на самым Дняпры. Карацей, шостая армія Паўлюса, ахвяраваўшы сабой, выратавала Германію.

Івана Дразда выклікае начальнік штаба палка, высокі, танклявы маёр-сталінградзец, які заўсёды курыць люльку.

— Я цябе памятаю,— гаворыць ён Івану.— У Сталінградзе ты дапытваў немцаў. Зараз пойдзеш ва ўзвод пешай разведкі камандзірам. Там такія людзі патрэбны.

Памаўчаўшы, маёр дадае:

— Помні Сталінград. Я не ваенны, я настаўнік. На свеце яшчэ не было такой бітвы. Нельга перамагчы народ, у якога быў Сталінград...

Уражаны гэтымі словамі, хлопец не ведае, што адказаць.

— Мы прадстаўлялі цябе на лейтэнанта,— працягвае начальнік штаба.— Відаць, паперы згубіліся. Не вешай нос: яшчэ раз прадставім.

Дрозд просіць перавесці ў разведку чатырох байцоў, з якімі асабліва сышоўся. Начальнік штаба дазваляе.

Іван лёгка прыжываецца сярод разведчыкаў. Ён не прагне ўзвышэння, да кожнага ставіцца як да роўнага, але ні з кім не заводзіць асаблівай дружбы.

Сталінградцаў ва ўзводзе двое ці трое, яшчэ чатырох прывёў Дрозд. Астатнія — навічкі. Але ўвогуле хлопцы зухаватыя, пранырлівыя.

Іван не такі, які быў да Сталінграда. Штосьці ў ім змянілася. Што? Адразу не адкажаш. А ён ведае: ёсць хвіліны, калі зусім не думаеш пра жыццё, няма страху перад смерцю, жыццё і нежыццё зліваюцца ў адно. Чалавек, які гэта зведаў, подзвігамі

пахваляцца не будзе. Бо ён нібы зазірнуў за заслону небыцця і нічога страшнага там не ўбачыў.

Вясна канчаецца. Наступае лета сорак трэцяга года. Што прынясе яно спакутаванай, знясіленай краіне? Густым разнатраўем пакрываюцца поле, узлобкі, нават леташнія брустверы акопаў. Спяваюць птушкі. Блізка мясціны Тургенева, Талстога. Славутыя мясціны. Далёка зайшлі немцы ў глыб Расіі.

Сяржант Дрозд шмат думае пра немцаў. Ён знаходзіць іх лісты да жонак, сяк-так разбіраючы, чытае і разумее, што іх пісалі звычайныя, нават сентыментальныя людзі. У канвертах трапляюцца дзіцячыя фатаграфіі, пасмачкі бялявых валасоў. Салдаты зусім не пішуць, як ваююць, затое падрабязна паведамляюць пра ежу — пра абеды і сняданні, пра кансервы і фрукты, якія ім выдаюць. Але ж ваююць яны за тысячы кіламетраў ад сваіх дамоў, жонак, дзяцей. Якая сіла іх тут трымае?

У вучылішчы і тут, на фронце, Іван сутыкаецца з хлопцамі-равеснікамі, якіх мабілізавалі ў армію адразу, як толькі пачалася вайна. Беларускія, украінскія хлопцы пацярпелі болей. Бо яны, непадрыхтаваныя, без баявой вывучкі ўдзельнічалі ў баях, траплялі ў акружэнні, здавалі гарады яшчэ ў сорак першым годзе.

Тут, у пяхотным палку, дзе Дрозд назначаны камандзірам узвода пешай разведкі, ёсць два масквічы: малодшы лейтэнант, які служыць у аддзеле шыфравальнай службы, і сяржант Бяздомны, начальнік ПСД, такі ж, як Іван, небарака, якога датэрмінова выпусцілі з вучылішча, не прысвоіўшы камандзірскага звання.

Шыфравальшчык трохі мнецца, зацінаецца — як жа, ён на сакрэтнай службе,— у шчырыя размовы не ўступае, затое з сяржантам Бяздомным у Івана поўнае супадзенне поглядаў.

Бяздомны — завуць яго Сяргей — з інтэлігентнай сям'і. Бацька — урач, маці — настаўніца. Але ў размовах з таварышам Іван не адчувае ягонай перавагі. Абодва яны вывучалі адны прадметы, глядзелі аднолькавыя фільмы. Але справа, відаць, не толькі ў кнігах, фільмах, школьнай адукацыі. Ёсць штосьці большае. Яны дыхалі адным паветрам, трохі ўзвышана

глядзелі на жыццё. У іх час была эпапея чалюскінцаў, на ўсю краіну грымелі імёны лётчыкаў Чкалава, Белякова, Байдукова. Так ці інакш яны былі адданыя гэтаму часу і не мыслілі сабе інакшага жыцця.

Вядома, яны былі збянтэжаны, збіты з панталыку падзеямі сорак першага года, якія ішлі ўразрэз з агульным настроем гераізму. Найбольш разгублены быў Іван: ён бачыў адступленне, бежанства, акружэнні, катлы.

Тым часам краіна ўжо два гады трымаецца ў вайне. Фашыстам далі па зубах пад Масквой, Сталінград, як пішуць у газетах, пераламаў хрыбет нямецкай арміі. Толькі ці пераламаў? Хлопцы адчуваюць, што немцы не збіраюцца так лёгка здавацца.

На рускай раўніне трапляецца шмат цэркваў. То ў адным месцы, то ў другім мільгне праз зялёную бярозавую навісь царкоўная макаўка. Цэркаўкі тут пераважна каменныя. Іх пабеленыя сцены паступова страцілі першапачатковы выгляд, сталі абшарпанымі, шэрымі.

Іван адчувае настолькі моцную цягу да кутка, дзе нарадзіўся і правёў дзяцінства, што ўвесь час думае пра сваё мястэчка. Нічым яно не адметнае, з драўлянымі дамамі, раскіданымі па ўзгорках, ад звычайнай вёскі адрозніваецца хіба толькі гэтай раскіданасцю, некалькімі вуліцамі, чыгуначнай станцыяй. І ў ім некалі была царква. Можа, нават прыгажэйшая за тутэйшыя цэркаўкі. Яе пабудавалі ў людным месцы, паблізу пляца. Зялёныя макаўкі з пазалочанымі крыжамі як бы рваліся ў неба. Прыгожы, незабыўны быў царкоўны перазвон у святочную раніцу. Званоў было некалькі — вялікіх і малых, з рознымі галасамі, і яны пералівіста, радасна вызвоньвалі мелодыю, якая нараджала ў душы ўрачысты настрой. Царкву разбурылі, а з бярвенняў збудавалі Дом культуры.

У Доме культуры паказвалі кіно. Спачатку нямое, потым гукавое. У кіно яны, школьнікі, бегалі з вялікай ахвотай. Грошай амаль ніколі не было, таму куплялі білет якому-небудзь прайнырліваму зуху. Ён праходзіў у залу і, калі на экране пачыналі мільгаць цітры, адчыняў бакавыя дзверы. Як гарох рассыпаліся безбілетнікі па зале, і знайсці, вытурыць каго-небудзь з іх не было ніякай магчымасці...

Іван пакутуе ад таго, што не атрымлівае пісьмаў. Яго родны край пад немцамі. Зрэдку адгукаецца толькі санітарка Ліза, з якой ён пазнаёміўся, калі ляжаў у шпіталі ва Уральску. З Лізай магла быць кароткая любоў, але Іван захоўвае вернасць Аксане.

Аднойчы Іван атрымлівае ад Лізы ліст, а ў ім — вестачка ад школьнага таварыша Ізі Перальмана. Ізя служыць у санітарным цягніку, возіць раненых у шпіталь ва Уральск, дзе і пазнаёміўся з Лізай.

## X

Жыць стала весялей. Іван піша Ізю, і той дае адрас Рувы Зайчыка, які ваюе недзе на Паўднёвым фронце. Дрозд цяпер не толькі кухні чакае, але і лістоў ад сяброў. Старшына Якутаў, падобны да велізарнага крата, не толькі кацялкі з гарохавым супам прыносіць, а і пошту.

Ён, мардвін па нацыянальнасці, двойчы цяжка паранены, па-руску гаворыць дрэнна. Напіўшыся, спявае панылыя, доўгія песні. Аднойчы Якутаў коршакам накідваецца на Івана:

— Ты камандзір узвода, а как ходыш? Варатнічок нэ падшыты. Сапагі нэ чышчаны. Ты нямецкі язык знаеш. Адын ва ўсім палку. А нэ паважаеш сябе...

Дрозд сапраўды неахайны. Можа, таму ходзіць сяржантам. Ды і не цікавіцца ён лейтэнанцкім званнем. І ўвогуле да ўлады над людзьмі не імкнецца.

З пісьмаў сяброў Іван даведаўся, што яго два былыя аднакласнікі трапілі ў Бранска-Вяземскае акружэнне, і пра іх нічога не чуваць. Хутчэй за ўсё хлопцы загінулі.

А на перадавой артналёты, перастрэлка. То ў адным, то ў другім месцы рвуцца снарады. Ноччу неба паласуюць ракеты. Не спускаюць вока з варожых акопаў і траншэй снайперы. Сочаць за нямецкімі траншэямі і разведчыкі. Раз-пораз яны робяць вылазкі.

Нечым трывожным насычана паветра. Канчаецца чэрвень, а немцы не наступаюць. Што гэта азначае? Некалькі разоў сапёры рэжуць дрот, пракладваюць праходы ў мінных палях. Тым часам вылазкі разведчыкаў поспеху не маюць. Немцы іх

заўважаюць і абстрэльваюць. Кожны раз на плашч-палатцы разведчыкі прыносяць аднаго ці двух параненых. Немцы таксама вядуць разведку. Гэта сведчыць пра тое, што фронт хутка актывізуецца.

Нарэшце загрымела. Кіламетраў за сотню ад пазіцый дывізіі пачынаецца Курская бітва. Дачакаліся немцы ліпеня месяца — сярэдзіны лета — і толькі цяпер рушылі ў наступленне. Чаму так? І куды накіраваны іх удар? Каля Волгі яны ўжо былі. І ваду пілі, і боты ў ёй мылі. Яўна, Гітлер хоча рэваншу. Хоча паказаць, што нямецкая армія не зломлена, яна поўная сілы і моцы.

Ідзе магутная танкавая бітва. Тысячы танкаў з абодвух бакоў. На першым часе немцы нібыта маюць перавагу, але невялікую. З сярэдзіны месяца Чырвоная Армія пераходзіць у наступ. І вось перамога! Узяты Арол і Белгарад. Узяты летам, і на гэтым канчаецца казка пра тое, што, маўляў, Чырвоная Армія летам толькі адступае. Поўняцца радасцю салдацкія сэрцы. Нездарма два гады ваявалі, страцілі тысячы забітымі, палоннымі. Сяму-таму падвучыліся. Мабыць, набліжаецца тое самае свята на нашай вуліцы.

Пры адступленні капай акопы, зарывайся ў зямлю. Толькі яна выратуе. Праз дзень-два пакідай акопы. Капай у новым месцы.

Пры наступленні таксама пакідай акопы. Калі пашанцуе — зоймеш варожыя. Нямецкія акопы лепшыя, чым нашы.

Пачалося! Савецкая Армія займае Грайваран, Багадухаў, Ахтыру, Зміеў, Лебядзін і, нарэшце, Харкаў. Шматпакутны Харкаў. У мінулым годзе яго не здолелі заняць, і Іван зазнаў акружэнне. Дзе цяпер ягоны таварыш і напарнік сяржант Папоў? Дзе астатнія сябры-таварышы? Іван піша ліст у сельсавет, да якога належыць хутарок, дзе яны, сувязісты, два тыдні раскашавалі і дзе ён пазнаёміўся з украінкай Аксанай, але адказу не атрымлівае.

Наступленне разгортваецца па ўсім фронце. І ўсюды немцы адступаюць. Праз тры дні пасля Харкава савецкія войскі займаюць Сеўск.

Кожны дзень газеты паведамляюць пра вызваленыя гарады. Ужо стала нашай станцыя Варажба, гарады Палтава, Чарнігаў.

Якія варвары немцы! Нават малыя гарады, дзе не было вялікіх баёў, ператвораны ў суцэльныя руіны і пажарышчы. Ацалелыя дамы па вокны зараслі бур'янам, рэдкія жыхары туляцца па падвалах, зямлянках. Савецкім войскам дастаецца выпаленая, вынішчаная зямля. Толькі з гунамі, з набегамі стэпавых ордаў можна параўнаць нямецкае нашэсце.

Армія рвецца да Дняпра. Ужо вызвалены Сумы, Бахмач, Канатоп, Нежын.

Двух «языкоў» узялі разведчыкі з узвода Івана Дразда. Адзін з іх эсэсавец. Кусаўся, брыкаўся, адбіваўся рукамі, галавой, нагамі, але хлопцы яго скруцілі. Звязаны эсэсавец пазіраў, як занясілены воўк.

Настрой у разведчыкаў прыўзняты. Свайму камандзіру з ліку трафеяў яны падаравалі сярэбраны швейцарскі гадзіннік. Акрамя таго камандзір узвода франціць у хромавых ботах. Калі, у якія часы Іван насіў хромавыя боты? Увогуле з голымі рукамі разведчыкі з задання цяпер не вяртаюцца. Старшына Якутаў мае запас нямецкіх цыгарэт, кансерваў, цвёрдага нямецкага хлеба, плаўленага сыру, нават спіртнога. Ёсць ва ўзводзе акардэон. На ім вучыцца іграць смаленскі хлопец Сузін.

Армія проста выштурхоўвае немцаў. Вось і Бранск вызвалены. Нашы войскі займаюць Прылукі, Рамны, Пірацін, Лубны. Але Іван Дрозд незадаволены такім ходам падзей. Трэба рабіць немцам тое, што яны рабілі нам у сорак першым. Ды гэта, мусіць, наперадзе.

Якія авантурысты Гітлер і ягоныя генералы! Захапілі агромністую тэрыторыю і цяпер, як цюцькі, яе пакідаюць. Крычалі на ўвесь свет пра перамогі і цяпер уцякаюць. Няўжо нямецкі народ не разумее, што ён абдураны?..

## XI

Вось і Днепр. Правы бераг, як вядома, высокі; левы, якога дасягнула дывізія, нізкі, пясчаны, парослы лазняком. Пачынаецца Палессе, і тут выгляд ракі трохі мяняецца: і на правым беразе трапляюцца нізкаватыя мясціны, балацянкі, парослыя чаротам, сітнягом, асакой. Фарсіраваць Днепр прыйдзецца

падручнымі сродкамі. А ён тут метраў чатырыста ўшыркі. Паблізу Дняпра тры азяркі, на якіх трэніруюцца байцы. Плаваюць на дошках, бярвеннях, лодках.

Збоку невялікая вёсачка. Тут жывуць рыбакі, сплаўшчыкі, бакеншчыкі. Жыхары вёскі збіраюць схаваныя па кустах, лугавінах, балацянках рыбацкія лодкі, падцягваюць іх да ракі. Чацвёра дзядоў садзяцца за вёслы.

Камандзір батальёна загадвае пасадзіць у лодкі не толькі разведчыкаў, а і сувязістаў.

— Трэба мець на плацдарме вочы і вушы,— заяўляе ён.

І дзіўную карціну бачыць Дрозд у шэрані вечара, калі лодкі вось-вось адплывуць ад берага.

На беразе стаіць дзед, які арганізаваў лодачную флатылію. Ён у белай сарочцы, і на грудзях у яго чатыры Георгіеўскія крыжы. Камандзір палка абдымаецца з дзедам.

З левага берага па правым б’е наша артылерыя. Грыміць некалькі залпаў «кацюшы». Пад завесай шчыльнага агню лодкі кіруюць да правага берага. Пасярэдзіне ракі — востраў. Немцы, якія сядзяць там, б’юць з мінамётаў. Адна лодка тоне, другая. Астатнія торкаюцца ў правы бераг. Высаджваюцца разведчыкі і сувязісты там, дзе некалькі акопаў займаюць нямецкія салдаты. Відаць, яны яшчэ не апомніліся ад артылерыйскай падрыхтоўкі. Разведчыкі закідваюць іх гранатамі.

Нечакана здараецца бяда. Шалёнай куляй забівае радыётэлеграфіста. Камандзіры разгублены. З ляска паказваецца ланцуг нямецкай пяхоты. Гітлераўцы ідуць хуткім крокам, страляюць на хаду з аўтаматаў. Дрозд падпаўзае да радыёстанцыі.

— Давайце даныя,— патрабуе ён.— Перадам...

Яму дыктуюць:

— Квадрат восем. Каля дзвюх пяхотных рот. Ідуць у атаку. Прашу агню...

Перад шарэнгай немцаў уздымаюцца чорныя слупы зямлі. Добра відаць, як падаюць на зямлю салдаты. Шэрагі іх радзеюць. Нарэшце яны залягаюць. Яшчэ праз колькі хвілін сярод іх усчынаецца мітусня. Немцы адступаюць.

Фарсіраваны Днепр, хоць і з вялікімі ахвярамі. Многа лодак, плытоў пайшло на дно. Шмат загінула байцоў, якія ўмелі

плаваць ці якія хацелі пераадолець шырокую раку, трымаючыся за бярвенні, дошкі.

Перамога! Ёсць плацдарм, устаноўлены нарэшце пантонны мост, па якім на правы бераг пераходзяць батальёны, палкі, перапраўляюць танкі, гарматы. Аднак немцы супраціўляюцца.

Іван заўважае, што на Рэчыцу ідзе лепшая тэхніка: танкі, бронетранспарцёры, самаходкі. На Паддубічы, яго мястэчка,— пераважна пяхота.

Нарэшце вызвалены Кіеў! Якраз у дзень Кастрычніцкага свята. Ясна, што дзеля сталіцы Украіны найбольш старалася армія.

«Добры дзень, роднае Палессе! Вось я і дачакаўся, ступіў на тваю зямлю. Доўга думаў пра гэта. Прадчуваў: мае Паддубічы вызваліць Сталінградская дывізія менавіта ў той дзень, калі год назад вакол Сталінграда зацягнулася пятля акружэння»,— так Іван у думках вітаў родныя мясціны.

З чатырма разведчыкамі і радыстам хлопец ідзе пад Паддубічы. Двое з разведчыкаў — масквічы, нядаўна прыбылі ва ўзвод. Яны ў новенькім абмундзіраванні з пагонамі, у зімовых шапках, і Дразду гэта прыемна. Бо пяхота, ды і яго разведчыкі, зачуханыя: у старых шынялях, разлезлых чаравіках. Дзіва няма: фактычна ад самага Сеўска не выходзяць з баёў.

Кіруюць у саўгас «Ведрыца», яго ад Паддубіч аддзяляе толькі асушанае балота. Не дайшлі разведчыкі і да сярэдзіны саўгаснай вуліцы, як убачылі некалькі ўзброеных хлопцаў.

Клацаюць затворы:

— Хто такія?

І раптам ад іх бяжыць да разведчыкаў высакаваты хлапчына ў нейкай шырокай хламідзе.

— Іван! Дрозд!

Разведчык таксама зрываецца з месца.

— Саша!

Сябры абдымаюцца. На ваеннай дарозе нечакана сыходзяцца старыя школьныя таварышы. Саша Мялешка вучыўся на клас ніжэй за Дразда, але быў яго сябрам.

Іван дакладвае па рацыі пра становішча ў «Ведрыцы», і праз паўгадзіны саўгасную вуліцу запаўняе пяхота. Салдаты зараз жа пачынаюць акопвацца.

У гэты шэры лістападаўскі надвячорак сувязіст робіць данясенне:

— Узяты горад Рэчыца і населены пункт Паддубічы.

Але хлопец бачыць, як яго роднае мястэчка захлынаецца ў пажары, і перадае па рацыі камандзіру батальёна:

— Паддубічы ў немцаў!

Хвілін праз дзесяць Івана клічуць да рацыі.

— Не сей панікі, Паддубічы вызвалены. Толькі станцыя застаецца ў немцаў.

Мястэчка вызвалілі назаўтра, дзевятнаццатага лістапада. У гэты дзень год назад савецкія войскі акружылі немцаў пад Сталінградам.

Вайна для Івана Дразда ўжо скончылася. І хоць вораг яшчэ не адолены, хлопец жыве прадчуваннем Вялікай Перамогі.

Сапраўды, ніколі не скарыцца і ніколі не будзе пераможаны той народ, у якога быў Сталінград.

*2000*

# ВЕРНАСЦЬ ПРЫЗВАННЮ

У чацвёрты том Збору твораў Івана Навуменкі ў 10 тамах увайшлі аповесці, напісаныя пісьменнікам у 1991—2000 гг.: «Дзяцінства» (1991), «Падлетак» (1993), «Юнацтва» (1994), «Вір» (1997), «Дзясяты клас» (1998) і «Помні Сталінград» (2000). Фактычна яны, уключаючы яшчэ змешчаны ў папярэднім томе выдання «Любімы горад» (1996), сталі фінальным акордам, а ў значнай ступені і падсумаваннем усяго, створанага аўтарам у гэтым жанры.

Першыя тры з названых аповесцяў складаюць надзвычай адметную з'яву як у творчасці самога І. Навуменкі, так і ў гісторыі беларускай літаратуры. Трылогія «Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва» стваралася аўтарам пасля даволі працяглай творчай паўзы ў напісанні буйных мастацкіх твораў і ў вельмі няпросты час, калі адбываліся карэнныя зрухі ў грамадска-палітычным ладзе краіны і руйнаваліся ўстойлівыя, нават, здавалася б, непахісныя светапоглядныя прынцыпы і каноны. Літаральна на вачах незваротна адыходзіла ў нябыт эпоха пакаленняў савецкіх людзей, якія былі выгадаваны на ідэалах Кастрычніцкай рэвалюцыі, перажылі страшныя рэпрэсіі 1930-х, перамаглі ў самай крывавай у гісторыі чалавецтва вайне... Людзей, ад імя якіх і ў славу якіх, асабліва тых, сямнаццацігадовых, «хлопцаў самай вялікай вайны», гаварыў у сваіх апавяданнях, аповесцях, раманах І. Навуменка.

Шукаючы вытокі напісання яго «дзіцячай» трылогіі, даследчыкі нязменна разглядалі зварот пісьменніка да аўтабіяграфічнага матэрыялу на новым вітку жыццёвага і творчага шляху праз прызму гэтага няпростага часу. Так, у прыватнасці, С. Андраюк адзначаў: «І. Навуменка, шмат у чым не прымаючы сучаснасць, <...> звяртаецца яшчэ раз да гадоў далёкага мінулага, каб пака-

заць духоўны рост свайго любімага героя — рамантычнага юнака»[1]. Падобную да гэтай думку выказвае і Л. Ламека, якая заўважае, што «не ў адкрытай, аголена-публіцыстычнай форме, але апасродкавана, найперш праз паэтызацыю свайго пакалення» пісьменнік «выказвае непрыманне цынічнага прагматызму сучаснага жыцця, татальнага разбурэння спрадвечных каштоўнасцей»[2]. Як маральную пераацэнку былога, у якой «дамінуюць матывы сталай памяркоўнасці, пэўнага расчаравання ў часовым, паверхоўным, кан'юнктурным, пошук нязменных этычных каштоўнасцей»[3], ахарактарызаваў трылогію П. Васючэнка. У сваю чаргу І. Шаладонаў пабачыў у ёй мастацкае ўвасабленне «адказнай спавядальнасці Івана Навуменкі перад нашчадкамі, найперш маладым пакаленнем, якое, <…>, магчыма, пазней зможа больш справядліва ацаніць жыццёвую рэалізацыю пакалення сваіх дзядоў, праз пэўную часавую дыстанцыю»[4].

Разам з тым, зварот пісьменніка да аўтабіяграфічнага матэрыялу супаў з агульнай тэндэнцыяй літаратуры канца XX — пачатку XXI ст., калі дамінуючае становішча ў ёй пачалі займаць жанры з яскрава выяўленай дакументальнай асновай: мемуары, дзённікі, лісты, нататнікі і іншыя, калі амаль неабходнай прыкметай мастацкага тэксту становіцца эсэізацыя, выхад на першы план суб'ектыўнага аўтарскага «я». Можна сцвярджаць, што і ў гэтай новай літаратурнай сітуацыі І. Навуменка застаўся верным сабе, не паддаўшыся на спакусы таго своеасаблівага мастацкага эгацэнтрызму, які захапіў хіба не большасць пісьменнікаў-сучаснікаў. Праз сваю ўласную біяграфію, як і ў ранейшых творах, ён яскрава паказаў духоўны і жыццёвы вопыт цэлага пакалення. Расказаная ў «Дзяцінстве», «Падлетку», «Юнацтве» як быццам бы асабістая, прыватная

---

[1] Андраюк, С. А. Проза / С. А. Андраюк // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т.— Мінск, 2001.— Т. 4. Кн. 2.— С. 19.

[2] Ламека, Л. А. Памяці хлопцаў-равеснікаў… / Л. А. Ламека // Творчая асоба І. Навуменкі і праблемы беларускай філалогіі і адукацыі: матэрыялы навук. канф.— Мінск, 2006.— С. 106.

[3] Васючэнка, П. Іван Навуменка / П. Васючэнка // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т.— Мінск, 2001.— Т. 3.— С. 712.

[4] Шаладонаў, І. М. Станаўленне чалавека ў мастацкай прасторы часу аповесцяў І. Навуменкі «Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва» / І. М. Шаладонаў // Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст.— Мінск, 2010.— С. 437.

гісторыя, як справядліва сцвярджае Л. Алейнік, «урэшце вырастае ў аб'ёмную і шматфарбную карціну нацыянальнага свету»[1].

У прадмове да двухтомнага Збору выбраных твораў пісьменніка В. Каваленка заўважыў, што першыя апавяданні І. Навуменкі «ўтрымліваюць у сваім змесце ўсе адзнакі яго пазнейшай творчасці, а пры жаданні іх можна зусім апраўдана лічыць своеасаблівай філасофска-эстэтычнай праграмай адчування і разумення жыцця»[2], якую ён надалей нязменна развіваў і паглыбляў. «Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва» — выдатная ілюстрацыя таго, як закладвалася, на чым грунтавалася гэта навуменкаўская «праграма».

Пішучы аб першай аповесці трылогіі, даследчыца творчасці пісьменніка Л. Піскун зазначала: «Тым, хто ведае навуменкаўскія творы і яго герояў, няцяжка ўбачыць і прасачыць, як і дзе ўзнікла сюжэтнае ядро яго аповесці «Дзяцінства», як нараджаліся ідэі, вобразы, якія атрымалі ў новай аповесці завяршальнае развіццё»[3]. Гэтыя заўвагі справядлівыя і ў дачыненні да астатніх твораў трылогіі: адшукаць «сюжэтныя ядры» і іх адгалінаванні не будзе асаблівай складанасцю для ўдумлівага, зацікаўленага чытача. Аднак сабраныя ў асобнае цэласнае мастацкае палатно, яны ствараюць новае якаснае адзінства, сутнасць якога ўзбагачаецца за кошт прырашчэння закладзеных у ранейшых творах сэнсаў.

Стрыжнявым цэнтрам, які нітуе ўсе кампазіцыйна-змястоўныя элементы аповесцяў з'яўляецца вобраз Васі — Васіля — старшыны Война, у якім паўнавартасна выявіла сябе alter ego самога аўтара. Паказальная гэта адрознасць у імёнах галоўнага персанажа трылогіі. Відавочна, яна ўказвае не толькі на ўзроставы чыннік, фактар сталення, але і на важныя глыбінныя трансфармацыі ў духоўным свеце героя. Наагул, гэта магло б быць тэмай цэлага даследавання — асаблівасці мастацкай анамастыкі ў І. Навуменкі. Бо называнне, найменне мае ў творах пісьменніка надзвычайнае, шмат у чым нават сакральнае значэнне. Адзін з многіх яскравых

---

[1] Алейнік, Л. В. Канцэпцыя станаўлення асобы ў трылогіі Івана Навуменкі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» і Льва Талстога «Детство. Отрочество. Юность» / Л. В. Алейнік // Беларускае літаратуразнаўства. Выпуск 7.— Мінск, 2009.— С. 86.

[2] Каваленка, В. І радасць, і смутак, і боль… / В. Каваленка // Навуменка, І. Выбраныя творы ў двух тамах.— Мінск, 1995.— Т. 1. — С. 5.

[3] Піскун, Л. А. Іван Навуменка / Л. А. Піскун.— Мазыр, 1997.— С. 78.

прыкладаў гэтага можна знайсці, азнаёміўшыся з «Варыянтамі і розначытаннямі» дадзенага тома. Так, у часопіснай версіі аповесці «Дзяцінства» маладая дачка дзеда і бабкі галоўнага героя носіць імя Маня. У асноўнай жа, кніжнай, версіі яе завуць Аляксандрай, што нашмат больш адпавядае характару гэтай рашучай, наравістай дзяўчыны. Яшчэ больш красамоўным можа быць той факт, што ўсведамленне сябе менавіта як пісьменніка, а не журналіста было пазначана ў Навуменкі праз змену подпісу пад уласнай публікацыяй. У адным з інтэрв'ю ён прыгадваў: «Помню, напісаў вялікі нарыс і падпісаў яго не І. Навуменка, як заўсёды, а Іван Навуменка»[1].

Такім чынам, вяртаючыся да галоўнага героя трылогіі «Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва», можна канстатаваць, што кожнае з яго імён — гэта выразнік пэўнага, якасна адрознага ад іншых узроўню светаадчування і самаўсведамлення асобы. Дарэчы, гэты момант падкрэслены і самой манерай аўтарскага аповеду, на што ўжо звярталі ўвагу даследчыкі. «У першых дзвюх частках І. Навуменка абраў даволі адмысловую манеру аповеду: гаворка пра героя вядзецца ў трэцяй асобе, але пераважна ў цяперашнім часе,— адзначае, у прыватнасці, Л. Алейнік.— Аўтар расказвае пра жыццё хлопчыка, фіксуе падзеі і факты, аднак стыль маўлення апавядальніка выключна дакладна адпавядае логіцы мыслення і псіхалогіі дзіцяці, пазней — падлетка. <…> І толькі ў трэцяй частцы ўзмужнелы і самастойны герой пачынае гаворку з чытачом ад першай асобы»[2].

Маленькі Вася сталее ў цікавы і неспакойны час. У няспешны патрыярхальны побыт вялікага старасвецкага мястэчка Базылевічы (яшчэ адзін сімвалічны штрых — сугучча ў імені героя і назве мясцовасці), ход падзей у якім вымяраецца праз традыцыйны каляндарна-абрадавы цыкл, з нязменнымі Піліпаўкай, Калядамі, Вялікаднямі, Пакровамі, прастольнымі святамі, уваходзяць новыя рэаліі і з'явы: калектывізацыя, раскулачванне, ссяленне хутароў, рэпрэсіі... Хаця большасць местачкоўцаў унутрана супраціўляецца гвалтоўным праявам сучаснасці,— нездарма аўтар неаднойчы

[1] Мікуліч, М. Пошук вядзе ў глыбіню. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Старонкі інтэрв'ю. Публікацыі / М. У. Мікуліч.— Гродна, 1998.— С. 58.

[2] Алейнік, Л. В. Канцэпцыя станаўлення асобы ў трылогіі Івана Навуменкі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» і Льва Талстога «Детство. Отрочество. Юность».— С. 86.

падкрэслівае, што ў Базылевічах працягваюць весці адлік паводле старога царкоўнага календара,— ні ігнараваць іх, ні пазбегнуць ужо немагчыма. «Жыццё выглядае як дзіўны кантрапункт, у якім спалучаецца, здаецца, неспалучальнае, і светлае, і цёмнае»[1] — так ахарактарызавала рознаскіраваныя вектары, якія ўплываюць на фарміраванне асобы героя Л. Сінькова.

І калі гэта былі вектары таго вялікага, гістарычнага часу, эпахальнасць падзей якога паўстае перад чытачом апасродкаваная Васевым дзіцячым успрыманнем, то ёсць яшчэ каардынаты, якія вызначаюць каштоўнасці асобаснага свету хлопчыка: птушкі і кнігі. Птушкі выклікаюць здзіўленне і захапленне найперш сваёй незвычайнасцю, выключнасцю, здольнасцю да палёту: «Ні з чым не параўнаную асалоду адчувае Вася, назіраючы, як з маленькіх — сіненькіх ці рабенькіх — яечак нараджаюцца таямнічыя і найцікавейшыя ў свеце істоты — птушкі. Бо птушкі ў адрозненне ад жывёл і нават ад чалавека лятаюць. Могуць уздымацца пад самыя аблокі». Кнігі ж, якія напачатку прываблівалі тым, што напісанае ў іх выразна перагукалася з пабачаным «на ўласныя вочы», пазней — як магчымасць вырвацца за межы «не надта прыгожага і прыемнага жыцця», спакваля становяцца важным крытэрыем у ацэнцы таго ці іншага чалавека: «Жуль Верн, Луі Бусенар, Дзюма нібы рвуць ніці ранейшай хлапечай дружбы. Бо ёсць хлопцы, якія чытаюць гэтыя кнігі і якія не чытаюць. Тых, што не чытаюць,— большасць. На жаль, сярод іх амаль усе ранейшыя Васевы сябры...»

У кантрапунктным ракурсе, як барацьбу старога і новага, успрымае Вася і адносіны ва ўласнай сям'і, паміж бацькам і дзедам, які «гневаецца на сына, што не захацеў жыць на хутары, кінуўся на чыгунку». Наагул, дзед Піліп — адзін з самых каларытных персанажаў аповесці «Дзяцінства» і адзін з найважнейшых вобразаў дарослых у ёй паводле ступені свайго ўздзеяння на галоўнага героя. Як заўважае П. Васючэнка, «ягоны скепсіс і прыхаваны нонканфармізм пэўным чынам уплываюць на фарміраванне псіхалогіі ўнука»[2]. І ці не дзедавы ўрокі здаровага крытыцызму адгукнуцца пазней у развагах падлетка Васіля, які, нягледзячы на захопленасць агульнай атмасферай эпохі вялікіх, нават гераічных

---

[1] Сінькова, Л. Д. Размаўляючы з Іванам Навуменкам / Л. Д. Сінькова // Творчая асоба І. Навуменкі і праблемы беларускай філалогіі і адукацыі.— Мінск, 2006.— С. 76.

[2] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 713.

здзяйсненняў стаханаўцаў, чалюскінцаў, папанінцаў, Чкалава і іншых савецкіх куміраў, бачыць і негатыў, і выдаткі гэтай эпохі, балюча ўспрымае перамены, якія адбываюцца ў родным мястэчку: «Палавіна мястэчка перабіваецца з хлеба на квас. І вопраткай местачкоўцы не могуць пахваліцца. Авечак ніхто не мае. Значыць, і воўны няма. Ніхто не сее на вузкіх сотках лён. Забываюцца старыя рамёствы: краўцы не шыюць з аўчын кажухоў, людзі не валяюць валёнкаў.

Калгас не прынёс перамен да лепшага. Грошай калгаснікі не атрымоўваюць зусім. Таму не будуюць новых хат, хлявоў. Наадварот, занепадае тое, што было.

Жыць нялёгка і не надта весела. Гэта адчувае моладзь і, можа, па гэтай прычыне так адчайна рвецца з мястэчка. Бо што яе тут можа прывабіць?»

Акрэсліваючы вобраз галоўнага героя аповесці «Падлетак», крытыкі рабілі акцэнт найперш на ранняе сталенне, адчуванне адказнасці за сябе, за блізкіх, самастойнасць і незалежнасць Васіля, на яго працалюбства, шырокі кругагляд, прагу да ведаў, паступовую выпрацоўку ўласнай пазіцыі, імкненне да гармоніі і раўнавагі, якія хлопец знаходзіць у прыродзе.

У сваю чаргу, хацелася б звярнуць увагу на багаты ўнутраны свет падлетка. Уражвае, наколькі выразна і дакладна аўтару ўдалося перадаць тыя складаныя пачуцці, рознаскіраваныя адчуванні, няўлоўныя душэўныя парывы, смутныя прадчуванні, якія ўласцівы такому непрацягламу, «далікатнаму» ўзросту паміж дзяцінствам і юнацтвам. Тут і смутак па пары бесклапотнага маленства, розных прыгод і захапленняў, і мроі пра незвычайныя, гераічныя ўчынкі, і здзіўленне перад веліччу і загадкавасцю светабудовы, і маркота ад непазбежнага расстання са старэйшымі сябрамі, і ўзвышаныя мары пра таямнічыя, прывабныя і ў той самы час драматычныя адносіны, якія нясе з сабой каханне, і адчуванне «нейкага рубяжа, за якім павінна пачацца новае, зусім не падобнае на ранейшае жыццё».

У пакалення Васіля Войціка гэтыя асабістыя, споўненыя адначасова надзеяй і трывогай прадчуванні будучага дарослага самастойнага жыцця супалі з трывожным прадчуваннем подыху новай, нечуванай па сваім маштабе вайны, якім жыла ўся краіна, а па вялікім рахунку і ўвесь кантынент. Трагічны пачатак гэтай вайны, які ўмомант развеяў міф аб непераможнасці Чырвонай Арміі і многія ілюзіі ўчорашніх школьнікаў паказаны на апошніх старонках аповесці «Падлетак».

Трэцяя частка трылогіі пачынаецца з апісання падзей, якія адбываюцца ва Усходняй Прусіі. Гэтым парушаецца дакладная храналогія ў разгортванні жыццяпісу Васіля Войціка, вытрыманая практычна пагадова ў «Дзяцінстве» і «Падлетку». Чым гэта можна вытлумачыць? Вычарпальнай паўнатой сказанага пра прапушчаны адрэзак гістарычнага часу, лёсу пакалення, а значыць, і біяграфіі героя ў раманнай трылогіі пра мясцовае падполле і партызанскі рух «Сасна пры дарозе» (1962), «Вецер у соснах» (1967), «Сорак трэці» (1973), а таксама ў рамане «Смутак белых начэй» (1978)? Ці былі яшчэ нейкія іншыя аб’ектыўныя альбо суб’ектыўныя акалічнасці, якія абумовілі менавіта такую аўтарскую волю? Гэта не такое простае, як можа падацца пытанне, яшчэ чакае сваіх будучых даследчыкаў.

Сучаснае літаратуразнаўства, звяртаючыся да аповесці «Юнацтва», ставіла яе, як і іншыя аповесці, апавяданні і раманы І. Навуменкі, прысвечаныя франтавым падзеям, у адзін шэраг з творамі Стэндаля, Л. Талстога, А. Барбюса, Э. М. Рэмарка, Э. Хэмінгуэя, М. Гарэцкага, Ю. Бондарава, В. Быкава і іншых, а менавіта з тымі ўзорамі мастацкага асэнсавання ваеннай рэчаіснасці, дзе пануе, паводле слоў П. Васючэнкі, «гэтак званая «акопная праўда», жорсткі рэалізм, агульнагуманістычныя нормы ў маральнай ацэнцы вайны»[1].

У гэтым пераліку, безумоўна, асаблівае месца займае Э. М. Рэмарк, чыё імя неаднаразова згадваецца на старонках аповесці «Юнацтва». Яе герой, супастаўляючы падзеі, апісаныя ў рамане нямецкага пісьменніка «На Заходнім фронце без перамен», з уласным баявым досведам, прыходзіць да думкі, што «і там чалавек пастаўлены перад сцяной перашкод, якіх асабіста адолець не можа. Ён сядзіць у акопе і чакае смерці. Гэтае чаканне і ёсць сучасная вайна...» Прыведзеная цытата добра ілюструе, што не толькі амаль дзённікава-дакументальная фіксацыя героем падзей на фронце, але і асэнсаванне ім у сваіх шматлікіх рэфлексіях самой сутнасці вайны становіцца адметнасцю навуменкаўскага твора. Асноўная выснова, якую робіць баец Войцік, гэта тое, што ў сучаснай вайне жалеза, матораў, бомбаў, кулямётаў, гармат чалавек як асоба, адзінка мала што значыць: «вельмі многа прыдумана розных сродкаў ягонага знішчэння». Але вайна нішчыць не толькі фізічна. Гатоўнасць забіваць і быць забітым у любы момант, калі смерць хочаш не хочаш становіцца звыклым элементам

[1] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 701.

паўсядзённага быту, накладае адбітак на духоўны стан, нівелюе саму каштоўнасць чалавечага жыцця. Менавіта ў гэтым знаходзіць сугучча сваім думкам і адчуванням герой «Юнацтва» з персанажамі-франтавікамі з рамана «На Заходнім фронце без перамен»: «...ёсць у маіх пачуццях штосьці рэмаркаўскае. Пачынаючы з сорак другога года, немцы расстрэльвалі падпольшчыкаў — знаёмых мне хлопцаў, дзяўчат. Гінула моладзь у партызанах і асабліва гіне тут, на фронце. Са знаёмых хлопцаў з дзявятага, дзясятага класаў, бадай, большай палавіны на свеце няма. І навошта таіць: у душы нешта надламалася. Калі ў лістах з дому пішуць, што загінуў той ці іншы чалавек, асабліва той, што трохі пажыў, мяне такая вестка мала кранае».

Традыцыі «рэмаркізму», комплекс ідэй «страчанага пакалення» ў творчасці І. Навуменкі даволі падрабязна разгледзела Л. Сінькова. Яна засяродзіла ўвагу на тых эпізодах, што прысутнічаюць у тым ліку ў трылогіі «Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва», на якіх найбольш адбіўся «рэмаркаўска-тужлівы след»: «Тут — і першы для хлопца-ідэаліста ўдзел у «рэйдзе» знішчальнага батальёна, байцам якога выдалі бутафорскія вінтоўкі са зрэзаным байком, з дзіркамі над парахавой камерай, бо гэта былі вінтоўкі для вучобы, а не для сапраўднага бою. Праўда, у міліцыянераў былі наганы... Добра, што дэсант, супраць якога мусіў выступіць гэты знішчальны батальён, аказаўся сваім, савецкім... Тут і белыя ад солі гімнасцёркі адступаючых чырвонаармейцаў, якія пад высокім сонцам адыходзілі на ўсход, пакідаючы сваё насельніцтва акупантам; тут і здабытая ўрэшце магчымасць, пакінуўшы сям'ю ва ўладзе фашыстаў, апынуцца ў партызанскім лесе, начаваць проста на зямлі пад якой-небудзь мокрай асенняй хваінаю ў сваім даваенным пінжачку; тут і незабыўны голад навабранцаў запаснога вайсковага палка ўзору 1943 года — падлеткаў, якіх у тым 43-м клялі, праводзячы да эшалона, жанкі, бо іх мужы ваявалі ўжо з 1941-га; тут і немагчымасць для 16—17-гадовых хлопцаў-дапрызыўнікаў уцячы з-пад акупацыі, з-за чаго амаль усё астатняе жыццё яны мусілі афіцыйна пацвярджаць свой удзел у падполлі, працу пад немцамі, партызанства, добрую армейскую службу»[1].

---

[1] Сінькова, Л. Творчасць Івана Навуменкі ў люстэрку ідэй «страчанага пакалення» / Л. Сінькова // Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратуры.— Гомель, 2009.— С. 31.

Сапраўды, усё гэта ёсць і ў «Юнацтве», прысутнічае ў якасці ўспамінаў галоўнага героя. Аднак ёсць і тое, што карэнным чынам адрознівае атмасферу гэтай аповесці ад агульнай танальнасці іншых буйных твораў І. Навуменкі, прысвечаных франтавым будням, у першую чаргу ад рамана «Смутак белых начэй», дзе ў найбольш канцэнтраваным выглядзе выявіўся комплекс ідэй «страчанага пакалення». На старонках «Юнацтва» адлюстраваны апошні этап Вялікай Айчыннай вайны, калі змаганне вядзецца на чужой тэрыторыі, калі з'явілася ўжо не проста жаданне або разуменне таго, што вораг будзе пераадолены, але бясспрэчная ўпэўненасць у гэтым. Прадчуванне хуткай перамогі, гонар за Айчыну, якая выстаяла ў неймаверных выпрабаваннях, усведамленне сваёй вызваленчай місіі — такі вынік таго доўгага ваеннага шляху, якім давялося прайсці Васілю Войціку. І гэта кардынальна адрознівае яго пакаленне ад «страчанага пакалення» Першай сусветнай, у прадстаўнікоў якога не было адказу на пытанне, дзеля чаго яны апынуліся на бессэнсоўнай крывавай бойні ў цэнтры «цывілізаванай» Еўропы.

Расійскі спецыяліст у галіне ваенна-гістарычнай антрапалогіі А. Сяняўская, аналізуючы асаблівасці псіхалогіі савецкіх салдат на заключным этапе вайны, адзначала, што адчуванне блізкасці перамогі «само па сабе выклікала цэлы комплекс думак і пачуццяў, складаны псіхалагічны настрой»[1]. «Чым бліжэй яна была,— піша даследчыца,— тым большымі былі жаданне і надзея выжыць, тым цяжэй было падымацца ў атаку пад агонь ворага, які шалёна супраціўляўся, тым больш балючымі і крыўднымі былі страты таварышаў і сяброў, тым больш страшнай была магчымасць уласнай гібелі. Людзям, якія прайшлі праз усю вайну, праз усе небяспекі і выпрабаванні, у самыя апошнія яе дні патрабавалася асаблівая мужнасць — наперадзе быў мір, за які яны ваявалі, дзеля якога столькім было ахвяравана, столькі перанесена. І так хацелася жыць у гэтым свеце, у якім не будзе вайны... Але было і разуменне таго, што ніхто за іх фашыста «не дакалоціць». І падымаўся ў атаку, і ішоў пад смяротны агонь савецкі воін, і падаў, забіты куляй ці асколкам, за месяц, за тыдзень, за дзень, за гадзіну да Перамогі, і жыццём і смерцю сваёй сцвярджаючы вернасць Радзіме і воінскаму абавязку»[2]. Увесь гэты пазначаны А. Сяняўскай складаны комплекс

[1] Цыт. паводле: Сенявская Е. Психология войны в XX веке: исторический опыт России.— М., 1999.— С. 181.

[2] Тамсама.

думак і пачуццяў не выказваецца ў аповесці І. Навуменкі адкрыта, але ў поўнай меры прачытваецца ў яе падтэксце. Герой твора не дазваляе сабе думаць аб мірным часе, па сутнасці, аб будучыні пакуль ідзе вайна і жыццё можа абарвацца ў кожную хвіліну: «Удалечыні нібы вал за валам узвышаюцца Судэты, пакрытыя зялёным хвойным лесам. Цяпер, вясновай парой, яны нібы ў мроіве сіняватай смугі. Мне часам здаецца, што, калі мы дойдзем да Судэтаў, вайна скончыцца. Але я пра гэта не толькі не гавару, нават думаць баюся. Перакладчык Гоц рыхтаваўся здаваць кандыдацкія экзамены. Дзе цяпер Гоц? У час вайны нельга складаць планаў. Вайна крыважэрная і не пакідае ніякага месца для светлых надзей».

Пасля заканчэння вайны параненага старшыну Войціка, які лекуецца ў шпіталі, чакае яшчэ адно выпрабаванне — выпрабаванне каханнем. Неспадзявана лёс падарыў яму сустрэчу з нямецкай дзяўчынай са скандынаўскім імем Інгеборг.

Як заўважыла Л. Сінькова, у творах І. Навуменкі «вельмі многа няспраўджанага кахання» і «паўсюль у пачуццях — больш трапяткіх перажыванняў, менавіта трымцення і пустых надзей, чым спраўджанасці; людзі не разумеюць адзін аднаго, яны вельмі розныя»[1]. Каханне герояў у «Юнацтве», нягледзячы на ўсю яго крохкасць, нязбытнасць, адсутнасць надзеі на працяг, непазбежнасць расстання, ці не самае светлае, чыстае, узаемнае і спраўджанае пачуццё ў творах пісьменніка. Яно нібыта перараджае галоўнага персанажа аповесці, ставіць яго на новую прыступку ўласнага светаадчування і самаўсведамлення. Нездарма герой зноў набывае новае імя: Віктар — так ён называе сябе пры знаёмстве з Інгеборг. Гэта духоўная метамарфоза героя звязана з яшчэ адным вельмі важным аспектам. Менавіта ў размове з каханай ён упершыню выказвае сваю запаветную мару: вучыцца, скончыць інстытут, стаць пісьменнікам, «напісаць кнігу пра гэту вайну».

Крытыка і літаратуразнаўства ўпісала трылогію І. Навуменкі ў шырокі абсяг твораў, прысвечаных сталенню маленькага чалавека, духоўнаму росту, пазнанню сябе, свету і сябе ў гэтым свеце. Перш за ўсё згадваліся, вядома, хрэстаматыйныя творы Л. Талстога з аналагічнымі назвамі. Больш дэталёва прапісвае гэты кантэкст Л. Алейнік, называючы не менш хрэстаматыйныя горкаўскія «Дзяцінства» (1913—1914), «У людзях» (1916), «Мае ўніверсітэты» (1923), а таксама класічныя «Дзіцячыя гады Багрова-ўнука» (1858)

[1] Сінькова, Л. Размаўляючы з Іванам Навуменкам — С. 78.

С. Аксакава, «Дзяцінства Цёмы» (1892), «Гімназісты» (1893), «Студэнты» (1895), «Інжынеры» (1907) М. Гарына-Міхайлоўскага, «Дзяцінства Мікіты» (1922) А. Талстога і інш. Адзінае, у чым можна не пагадзіцца з даследчыцай, гэта тое, што ў беларускай літаратуры адсутнічаюць прыклады твораў такога тыпу. Бо ведучы гаворку аб айчынных мастацкіх узорах, дзе адлюстраваны свет дзяцінства і юнацтва, далучаючы сюды «Новую зямлю» і «На прасторах жыцця» Я. Коласа, «Пошукі будучыні» К. Чорнага, «Палескую хроніку» І. Мележа, «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча і іншыя, нельга, безумоўна, абысці ўвагай цыкл аповесцяў А. Васілевіч «Расці, Ганька» (1966), «Доля знойдзе цябе» (1968), «Новы свет» (1970), «Пачакай, затрымайся…» (1970), якія склалі тэтралогію «Пачакай, затрымайся…» (1972). Падзеі ў тэтралогіі пісьменніцы разгортваюцца прыблізна ў тыя ж гады, што і ў «Дзяцінстве», «Падлетку», «Юнацтве», і жыццё гераіні, Ганькі, гаворачы словамі Л. Алейнік, якія датычацца галоўнага персанажа трылогіі І. Навуменкі, «натуральным чынам звязана з гістарычнымі і сацыяльнымі падзеямі часу, а лёс — адначасова індывідуальны, непаўторны і тыповы для цэлага пакалення»[1]. Больш за тое, калі выказваць пэўныя крытычныя заўвагі ў дачыненні да трылогіі І. Навуменкі, то тут найлепей прыдадуцца ацэначныя характарыстыкі Г. Шупенькі, дадзеныя ў свой час творам, што ўвайшлі ў тэтралогію «Пачакай, затрымайся...»: «Аўтар часам піша як бы не дзеля таго, каб яшчэ адным нюансам, яшчэ адным душэўным, псіхалагічным жэстам акрэсліць выразней і выявіць паўней складаны шлях духоўнай эвалюцыі сваіх герояў, а каб паведаміць, што ў гэты час у краіне адбывалася нейкая падзея...»[2]

Вышэй мы ўжо адзначалі тую сувязь, якая існуе паміж «Дзяцінствам», «Падлеткам», «Юнацтвам» і больш раннімі творамі І. Навуменкі. У сілавым полі трылогіі знаходзяцца таксама аповесці «Дзясяты клас» і «Помні Сталінград», якія па-свойму працягваюць, паглыбляюць і ўдакладняюць некаторыя яе эпізоды і сюжэтныя лініі. Да таго ж яны рэпрэзентуюць, па сутнасці, адзін і той самы тып галоўнага героя — юнака, які трапляе ў вір вайны.

---

[1] Алейнік, Л. В. Канцэпцыя станаўлення асобы ў трылогіі Івана Навуменкі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» і Льва Талстога «Детство. Отрочество. Юность».— С. 85.

[2] Шупенька, Г. «Дзякуй лёсу, што ёсць Вы...» / Г. Шупенька // Крыніца.— 1996 — № 10.— С. 20.

Складаную сукупнасць думак, пачуццяў і перажыванняў чалавека, што прыйшоў з фронту дадому, даследуе пісьменнік у аповесці «Дзясяты клас». Няспешна, крок за крокам І. Навуменка паказвае абуджэнне душы галоўнага героя, Грышы Ладуценкі, які вяртаецца ў роднае мястэчка ў цяжкім, прыгнечаным настроі. Напачатку героем, які пабачыў шмат жахаў і жудасцей вайны, валодае толькі адна думка: «пабыць у цішыні, адаспацца, адагрэцца, знайсці душэўную раўнавагу». Але стомленасць, апатыя — наступствы доўгага фізічнага і нервовага напружання, перажытага ў баявой абстаноўцы,— спакваля адступаюць. А яшчэ прыходзіць разуменне, што таго ранейшага, даваеннага, мірнага жыцця, пра якое мроілася і марылася на фронце, ужо не будзе. Герой адчувае і ўласнае перараджэнне, ён глядзіць на многія знаёмыя рэчы нібыта іншымі вачамі: старыя акопы Першай сусветнай вайны, што ў дзяцінстве вабілі найперш грыбамі, цяпер выклікаюць думкі аб лёсах тых людзей, якія іх капалі, каб выратавацца ад смерці. Аднак у нечым Грыша вяртаецца да сябе ранейшага, даваеннага. На фронце, у шпіталях, успамінаючы родныя Паддубічы, дом, сям'ю, ён думаў пра тое, што «не трэба нікуды ездзіць, блукаць па чужых дарогах, а жыць там, дзе нарадзіўся,— на роднай зямлі, пад родным небам». Цяпер жа Грыша зноў марыць аб тым, што «паедзе ў шырокі свет». Жыццё набывае сэнс, якім становяцца вучоба, школа, дзясяты клас. Але не толькі. Крытык А. Марціновіч вельмі слушна заўважыў, што «за назвай «Дзясяты клас» хаваецца і больш шырокі сэнс»[1]. «Своеасаблівым класам для Грышы Ладуценкі і тых яго сяброў, каго не забрала вайна,— адзначае ён,— становіцца пасляваеннае жыццё, да яго яны мусяць прывыкаць <...>. І не толькі прывыкаць, а і выжываць у абставінах, не нашмат лягчэйшых, чым ваенныя. Выжываць найперш фізічна, а для гэтага трэба праца, таму і згаджаецца Грыша адначасова і вучыцца, і быць ваенруком. Але ёсць яшчэ і выжыванне маральнае. Трэба не растраціць таго добрага ў душы, што захавалася, неабходна набыць і новыя якасці, каб не сорамна было глядзець людзям у вочы. Праз гэта таксама праходзіць Грыша Ладуценка»[2].

У аповесці «Помні Сталінград» І. Навуменка засяроджвае ўвагу на тых няпростых выпрабаваннях, што выпалі на долю

---

[1] Марціновіч, А. З вышыні пражытага: Штрыхі да творчага партрэта Івана Навуменкі / А. Марціновіч // Роднае слова.— 2000.— № 2.— С. 8.

[2] Тамсама.

ўчорашняга школьніка, які апынуўся ў эпіцэнтры баявых падзей, там, дзе вырашаўся далейшы лёс не толькі адной бітвы, але і ўсёй вайны. Галоўны герой твора Іван Дрозд — равеснік, духоўны таварыш Васіля Войціка і Грышы Ладуценкі. Малюючы гераічны партрэт свайго пакалення, падкрэсліваючы тыя агульныя рысы, якія яго аб'ядноўвалі: патрыятызм, веру ў ідэалы, імкненне да ведаў, сумленнасць, мужнасць, вернасць воінскаму абавязку, пісьменнік у той самы час стварае вельмі індывідуалізаваныя, паўнакроўныя вобразы яго асобных прадстаўнікоў, надаючы ім адметныя, толькі ім уласцівыя рысы. Іван Дрозд надзелены надзвычайнымі матэматычнымі здольнасцямі, мае бясспрэчны аўтарытэт у сяброў, адрозніваецца незалежнасцю думкі. А яшчэ ён мае дар прадбачання, бо адзіны сярод дзесяцікласнікаў меркаваў, што пачнецца вайна з Германіяй.

Іван і ў сваім лёсе, у тым ланцужку падзей, які звязвае даваеннае жыццё з франтавой рэчаіснасцю, бачыць невыпадковыя супадзенні, дзіўную заканамернасць: у Сталінград ён быў пасланы ў вучылішча сувязі — а пасля абараняў гэты горад; рашыў задачы Харкаўскага ўніверсітэта — і ледзь не загінуў ва ўкраінскім стэпе, выходзячы з акружэння; трапіў на пачатку вайны ў горад Сеўск — а потым разам са Сталінградскай дывізіяй яго вызваляў... Але галоўным на баявым шляху героя быў усё ж Сталінград: «Іван не такі, які быў да Сталінграда. Штосьці ў ім змянілася. Што? Адразу не адкажаш. А ён ведае: ёсць хвіліны, калі зусім не думаеш пра жыццё, няма страху перад смерцю, быццё і небыццё зліваюцца ў адно. Чалавек, які гэта зведаў, подзвігамі пахваляцца не будзе. Бо ён нібы зазірнуў за заслону небыцця і нічога страшнага там не ўбачыў».

Ад гераічнага горада на Волзе працягваюцца і нябачныя ніці на радзіму галоўнага персанажа аповесці, у мястэчка Паддубічы. Роўна праз год пасля акружэння немцаў пад Сталінградам Іван Дрозд удзельнічае ў вызваленні роднага мястэчка.

Спавядальнай інтанацыяй, імкненнем разабрацца ў няпростых варунках асабістага жыцця чалавека і складаных перыпетыях жыцця грамадскага адрозніваецца аповесць І. Навуменкі «Вір». У цэнтры яе, па сутнасці, усё той жа герой — прадстаўнік пакалення, чыё юнацтва прыйшлося на гады Вялікай Айчыннай вайны. Толькі ўзмужнелы, які ўжо сцвердзіўся, ці, як кажуць, адбыўся, і можа ганарыцца сваімі дасягненнямі, здзейсненымі ў мірны час. Аляксандр Іванавіч Несцяровіч — «малады дацэнт і трохі вядомы пісьменнік» — надзелены многімі біяграфічнымі рысамі

самога І. Навуменкі. Відаць, таму ў гэтым творы за вонкавай меладраматычнай фабулай, звязанай з перажываннямі героя, які падазрае ў нявернасці сваю жонку, праступае другі, нашмат больш складаны сюжэтны пласт, які ўключае ў сябе запаветныя думкі аўтара пра творчасць, пра стаўленне да роднай мовы і гісторыі, да балючых і вірлівых падзей.

Пісьменнік выдатна перадае ў аповесці атмасферу, якая запанавала ў краіне пасля XX з'езда партыі, той «подых нязнанай раней свабоды», які, з аднаго боку, дае Несцяровічу штуршок да стварэння сваіх першых мастацкіх твораў, а з іншага — спараджае ў яго душы нязгоду «з найбольш радыкальнымі дзеячамі, публіцыстамі, якія на выяўленні злачынстваў у час культу асобы будуюць уласную кар'еру».

Старонкі «Віру» напоўнены шматлікімі аўтапрызнаннямі галоўнага героя, звязанымі з самой сутнасцю мастакоўскай дзейнасці, з пакутлівым працэсам узнікнення новага твора, з той пісьменніцкай кухняй, якая нябачная чытачу: «Творчы працэс пачынаецца як бы па-за межамі свядомасці. Магчыма, у патаемных глыбінях душы нараджаецца патрэбная музыка, вымалёўваецца галоўная ніць апавядання. Так-так: пісанне пачынаецца з настрою, з музыкі. Яна — галоўная. Але як пакутліва, марудна яна нараджаецца».

Пра тое, што падобныя да гэтага выказванні І. Навуменкі не выдумка, не творчая фантазія, а глыбока вынашанае, адчутае і перажытае ім самім, сведчаць шматлікія інтэрв'ю пісьменніка, а таксама ўспаміны яго вучняў і калег. Так, у «Віры», звяртаючыся ўжо да праблем сучаснага літаратуразнаўства, аўтар праз свайго героя праводзіць думку аб тым, што яно «мае вялікую хібу», бо пераважна цікавіцца тым, што стварыў пісьменнік, тэмамі і праблемамі, стылем твораў, «але зусім абмінае асабістае жыццё творцы». Паводле ж успамінаў Т. Шамякінай, у час лекцый у БДУ І. Навуменка «заўсёды прыводзіў незвычайныя эпізоды з жыцця пісьменнікаў, пераконваючы студэнтаў, што на індывідуальны аўтарскі стыль уплываюць самыя розныя фактары: жыццёвая біяграфія творцы, яго псіхалогія, адукаванасць, уплыў асяроддзя, кола чытання і іншае»[1]. І ці не таму ў сваіх апавяданнях, аповесцях і раманах І. Навуменка пакінуў так шмат згадак пра асабістае

---

[1] Шамякіна, Т. І. Іван Навуменка і Іван Шамякін — сябры, паплечнікі, творчыя індывідуальнасці / Т. І. Шамякіна // Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст: матэрыялы навук. канф.— Мінск, 2010.— С. 61.

жыццё, спадзеючыся на лепшае разуменне сваёй творчасці адданымі чытачамі і ўдумлівымі даследчыкамі.

Літаратуразнаўцы перманентна задаваліся пытаннем аб яскрава выяўленай у мастацкім свеце пісьменніка сістэме паўтораў (кампазіцыйных хадоў, сюжэтных ліній, асобных эпізодаў, імён персанажаў), што знайшло сваё адлюстраванне і ў аповесцях, уключаных у чацвёрты том Збору твораў. Ацэнкі гэтай праяве даваліся самыя розныя: ад адкрыта негатыўных да апалагетычных, падмацаваных цэлымі разгорнутымі калі не тэорыямі, дык гіпотэзамі. Як бачыцца, гэтай асаблівасцю мастацкай манеры і мастакоўскай індывідуальнасці І. Навуменка тыпалагічна блізкі старэйшаму сабрату па пяры У. Фолкнеру. Падобна да таго, як амерыканскі аўтар амаль усё сваё творчае жыццё ўслаўляў невялічкі кавалак зямлі, «памерам з паштовую марку», выдуманую і адначасова цалкам рэальную Іокнапатафу, так і беларускі пісьменнік бясконца вяртаўся да закінутых сярод палескіх балот і лясоў Базылевічаў — Бацькавічаў — Паддубічаў і іх насельнікаў, імкнучыся хоць бы на старонках сваіх кніг пакінуць нашчадкам неверагодна прывабны, напоўнены шчырасцю і любоўю, жывы і ўжо амаль страчаны свет роднага мястэчка.

*Наталля Пыско*

# КАМЕНТАРЫІ

У чацвёрты том Збору твораў Івана Навуменкі ўвайшла трылогія «Дзяцінства» (1991), «Падлетак» (1993), «Юнацтва» (1994), а таксама аповесці «Вір» (1997), «Дзясяты клас» (1998), «Помні Сталінград» (2000).

Усе творы былі апублікаваны пры жыцці пісьменніка ў перыядычным друку, зборніках «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» (1997, 2000), «Гуканне над верасамі» (2002).

Творы друкуюцца ў храналагічным парадку, датуюцца па прыжыццёвых выданнях, аўтографах і машынапісных крыніцах.

За асноўны тэкст аповесцяў прыняты прыжыццёвыя зборнікі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» (Мінск, 1997) і «Гуканне над верасамі» (Мінск, 2002). З прычыны таго, што крыніц асноўнага тэксту некалькі, яны ўказваюцца ў каментарыях да кожнага твора. Пры наяўнасці аўтографаў і машынапісаў падаюцца іх апісанні.

Для ўзнаўлення дакладнага аўтарскага тэксту твораў, удакладнення іх датавання і напісання каментарыяў выкарыстаны наступныя крыніцы:

**1. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ):**

а) аўтограф аповесці «Дзясяты клас»;

б) машынапісы аповесцяў «Падлетак», «Вір», «Дзясяты клас», «Помні Сталінград».

**2. Прыжыццёвыя выданні твораў Івана Навуменкі:**

а) зб.: «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 1997; «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 2000; «Гуканне над верасамі», 2002.

**3. Прыжыццёвыя публікацыі ў перыядычным друку:**

а) часопісы: «Маладосць», 1998, № 10; «Першацвет», 1994, № 2; «Полымя», 1991, № 4, 5, 6; 1993, № 9; 1994, № 7; 1997, № 2; 2000, № 2.

б) газеты: «Веды», 2000, 16 сак.; «ЛіМ», 1994, 1 ліп.; 1997, 17 студз.; 1998, 28 жн.; 2000, 11 лют.

**4. Пасмяротныя выданні:**

а) зборнік: «Аповесці, апавяданні», 2009.

У выніку зверкі тэкстаў з аўтографамі і прыжыццёвымі выданнямі выпраўлены памылкі друку. Творы публікуюцца паводле правіл сучаснай арфаграфіі з захаваннем характэрных асаблівасцей мовы пісьменніка.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі па гісторыі напісання аповесцяў, называюцца крыніцы тэкстаў з апісаннем пры наяўнасці аўтографаў і машынапісаў.

Выяўленыя ў працэсе зверкі крыніц тэксту разначытанні носяць пераважна моўна-стылёвы характар. Яны падаюцца ў каментарыях асобным падраздзелам пад назвай «Варыянты і разначытанні».

Прыведзены звесткі пра пераклады твораў на іншыя мовы.

**1991**

**Дзяцінства (с. 3)**

Друкуецца паводле зб. «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 1997.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1991, № 4—6.

Уваходзіла ў зб. «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 2000.

Аповесць пераклаў на рускую мову А. Ждан (Нёман, 1995, № 2).

С. 5:

*Тырса* — пілавінне.

С. 10:

*Пілiпаўка (Пiлiпаў пост, Калядны пост)* — пост у гонар Раства Хрыстова. Працягваецца з 28 лістап. па 6 студз. уключна. Назва звязана з тым, што запускі (пярэдадзень посту) прыпадаюць на дзень памяці апостала Піліпа.

С. 13:

*Вялікдзень* — веснавое свята старажытных славян у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікіх» палявых работ. Адсюль і назва. Хрысціяне пераасэнсавалі Вялікдзень у свята ўваскрэсення распятага Ісуса Хрыста, якое стала галоўным хрысціянскім святам. Яму надаецца асаблівы сэнс як азнаменаванню перамогі над грахом і смерцю.

*Радуніца* — свята язычніцкага паходжання ва ўсходніх славян, звязанае з культам продкаў, дзень памінання памерлых. Адзначаецца ў аўторак пасля велікоднага тыдня. Паходжанне слова выво-

дзяць ад агульнаславянскіх «род», «радзіцца», ад імя міфалагічнага бога Рады (Роды) і інш. У хрысціянскай царкве прынята лічыць, што назва ўзыходзіць да слова «радасць», бо ў гэты дзень вернікі, памянуўшы памерлых у храме, прыходзяць на магілы родных, каб падзяліцца з імі радаснай весткай аб уваскрэслым Ісусе Хрысце.

*...ў яго ёсць вялікая, туга напакаваная мікалаеўскімі і керанскімі грашамі шабета.*— маюцца на ўвазе грошы, якія былі ў абарачэнні ў час праўлення апошняга расійскага імператара Мікалая II і пры Часовым урадзе пад кіраўніцтвам А. Ф. Керанскага; шабета — торба, якую носяць на поясе.

С. 14:

*...захапляецца птушкамі, агнястрэльнай зброяй і вайной, якая, па чутках, была не гэтак даўно. Немцы прыходзілі ў мястэчка, белапалякі, розныя булак-балаховічы.*— маецца на ўвазе грамадзянская вайна і ваенная інтэрвенцыя 1918—1922 гг., у час якой значная частка тэрыторыі Беларусі акупавалася германскімі і польскімі войскамі; Булак-Балаховіч Станіслаў Нікадзімавіч (сапр. Балаховіч Станіслаў-Мар'ян; 1883—1940) — ваенна-палітычны дзеяч беларускага паходжання, былы царскі афіцэр. У 1920-я гг.— адзін з ваенных кіраўнікоў войска БНР, затым служыў у польскім войску.

*Каляды* — традыцыйнае свята язычніцкага паходжання ў славянскіх народаў, звязанае з перыядам зімовага сонцастаяння. З усталяваннем хрысціянства прымеркавана да свят Раства Хрыстова і Хрышчэння Гасподняга. Працягваецца з 6 па 19 студз. Неад'емныя атрыбуты свята: калядаванне, варажба, шматлікія забавы, гульні.

С. 17:

*Шчадроўкі (Шчадрэц, Шчодры вечар)* — вечар-пярэдадзень Старога Новага года (13 студз.), а таксама народны звычай адзначаць гэты вечар, які заключаецца ў тым, што ўдзельнікі абраду ходзяць па хатах, спяваюць шчадроўскія песні, зычаць гаспадарам дабрабыту, здароўя і добрага ўраджаю.

С. 25:

*Стракапытаў Міхаіл Аляксандравіч* — былы царскі афіцэр, кіраўнік антыбальшавіцкага паўстання на Беларускім Палессі ў сак. 1919 г.

С. 26:

*...на турэцкай вайне...*— маецца на ўвазе руска-турэцкая вайна 1877—1878 гг.

*...казна нарэзала прадзеду Івану валоку зямлі.*— Валока — старажытная (XVI—XIX стст.) адзінка вымярэння плошчы зямельных участкаў, роўная 21,36 га.

С. 27:

*...на японскую вайну...*— маецца на ўвазе руска-японская вайна 1904—1905 гг.

С. 28:

*Благавешчанне (Дабравешчанне, Звеставанне)* — хрысціянскае свята, адзначаецца 7 крас. Прысвечана апісанай у Новым Запавеце падзеі, калі архангел Гаўрыіл паведаміў Панне Марыі, што яна народзіць Сына Божага — Ісуса Хрыста. У народным календары лічылася днём надыходу вясны, абуджэння зямлі, прылёту буслоў.

*Саракі* — беларускае народнае свята, якое адзначаецца на вясновае раўнадзенства 22 сак. Праваслаўная царква прымеркавала да яго дзень сарака пакутнікаў. Лічба сорак часта абыгрывалася ў павер'ях і абрадавых дзеяннях. Лічылася, што з гэтага дня вясна паволі ўваходзіць у свае правы і дадому вяртаецца сорак выраяў.

С. 30:

*...валачобнічаць.*— абыходзіць хаты ў першы дзень Вялікадня са спевам валачобных песень, зычачы гаспадарам ладу ў сям'і, плёну на ніве, прыплоду ў статку і атрымліваючы ад іх падарункі («валачобнае» — фарбаваныя яйкі, велікодныя булкі, сыр і інш.).

С. 36:

*...ахвотна пускае ў хату старцоў з лерамі...*— старац — жабрак; лера (колавая ліра) — струнны музычны інструмент, вядомы ў Беларусі з канца XVI — пачатку XVII ст. Была звязана пераважна з побытам жабракоў (лірнікаў), якія здабывалі сабе сродкі для існавання спевамі ў яе суправаджэнні, вандруючы па вёсках.

С. 48:

*Свята Кузьмы-Дзям'яна (Кузьмінкі)* — свята беларускага народнага календара, адзначаецца 14 лістап. Кузьма і Дзям'ян лічыліся апекунамі кавалёў, шаўцоў, земляробства і вяселляў, ахоўнікамі сямейнага агменю. Паводле народных уяўленняў, на Кузьмінкі восень праводзяць, а зіму сустракаюць. Праваслаўная царква ўшаноўвае ў гэты дзень святых бессярэбранікаў і цудатворцаў Касму і Даміяна Азійскіх.

С. 52:

*Дняпро (Днепр)* — рака ў Расіі, у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях Беларусі і ва Украіне; трэцяя паводле даўжыні і плошчы басейна рака Еўропы пасля Волгі і Дуная, упадае ў Чорнае мора.

*Ведрыца (Ведрыч, Ведрач)* — рака ў Калінкавіцкім і Рэчыцкім раёнах Гомельскай вобласці, правы прыток Дняпра.

С. 54:

*Калектывізацыя* — працэс аб'яднання аднаасобных сялянскіх гаспадарак у сельскагаспадарчыя кааператывы. Праводзілася

ў канцы 1920 — пачатку 1930-х гг. у СССР з мэтай сацыялістычных пераўтварэнняў у вёсцы, ліквідацыі сельскай буржуазіі (кулацтва), павышэння таварнасці сельскагаспадарчай вытворчасці.

*Пудоў трыццаць рознага збожжа здае...*— Пуд — старадаўняя адзінка масы ў Беларусі і Расіі. Вядома з XII ст. На пачатку XX ст. роўная 16,38 кг.

С. 55:

*Міткаль* — гатунак бавaўнянай тканіны палатнянага перапляцення, неапрацаваны паркаль.

*Корт* — баваўняная тканіна, звычайна цёмнага колеру, для рабочага і спартыўнага адзення.

С. 56:

*Салаўкі (Салавецкія астравы)* — група астравоў у Белым моры, пры ўваходзе ў Анежскую губу, у Архангельскай вобл. Расіі. З 1923 г. на Салаўках размяшчаўся адзін з найбуйнейшых папраўча-працоўных лагераў — Салавецкі лагер асобага прызначэння. У 1937 г. ён быў рэарганізаваны ў турму (ліквідавана ў 1939 г.).

С. 57:

*...раскулачыць.*— пазбавіць селяніна, які лічыўся кулаком, сродкаў вытворчасці, вынікаў вытворчай дзейнасці, грашовых накапленняў, права карыстання зямлёй і палітычных правоў. Раскулачванне праводзілася ў СССР у 1920-я — пачатку 1950-х гг. Поўная экспрапрыяцыя гаспадарак часта спалучалася з бязлітаснымі пакараннямі (расстрэлы, зняволенне ў канцлагерах, ссылка ў аддаленыя раёны і інш.) іх уладальнікаў за сапраўдныя або ўяўныя контррэвалюцыйныя дзеянні. У Беларусі набыла асабліва масавы характар у 1929—1931 гг. (усходнія і цэнтральныя раёны) і 1949—1952 гг. (Заходняя Беларусь).

*Прадналог (харчпадатак)* — харчовы падатак з сялянскіх гаспадарак, уведзены ў 1921 г. замест харчразвёрсткі і заменены ў 1923 г. адзіным сельскагаспадарчым падаткам.

С. 59:

*«Гудок»* — газета савецкіх чыгуначнікаў, орган Міністэрства шляхоў зносін СССР і ЦК прафсаюза рабочых чыгуначнага транспарту. Цяпер — найбуйнейшае чыгуначнае карпаратыўнае выданне ў Расіі. Выдаецца ў Маскве з 23 снеж. 1917 г. (штодзённа — з мая 1920 г.).

*...У Германіі да ўлады прыйшоў Гітлер...* — Гітлер Адольф (1889—1945) — фашысцкі дыктатар Германіі ў 1933—1945 гг., правадыр (фюрар) Нацыянал-сацыялісцкай партыі з 1921 г. Прыход Гітлера да ўлады адбыўся з прызначэннем яго рэйхсканцлерам

30 студз. 1933 г. Палітычны курс Гітлера прывёў да развязвання Другой сусветнай вайны. Паводле Нюрнбергскага працэсу (1945—1946) прызнаны галоўным нацысцкім ваенным злачынцам. Скончыў жыццё самагубствам.

*Фашызм* — палітычная плынь праваэкстрэмісцкага характару і адпаведны ёй таталітарны рэжым; ідэалогія, заснаваная на ваяўнічым антыдэмакратызме і нацыяналізме, кульце расавай перавагі. Найбольш характэрныя рысы фашысцкага палітычнага рэжыму: адмаўленне ад дэмакратычнай сістэмы як формы дзяржаўнага ладу на карысць дыктатуры, татальны масавы тэрор, сцвярджэнне асаблівай місіі адпаведнага («абранага») народа і апраўданне выкарыстання ім сілы для вырашэння сваіх геапалітычных інтарэсаў, насаджэнне культу пэўнага харызматычнага лідара.

*Вясновы Мікола — прастольнае мястэчковае свята...*— Мікола вясновы — народнае, а таксама хрысціянскае свята, устаноўленае ў гонар перанясення мошчаў Святога Мікалая Цудатворца (каля 270 — каля 345), архіепіскапа Мір Лікійскіх (Візантыя), у горад Бары ў канцы XI ст. Адзначаецца 22 мая; прастольнае свята — свята ў памяць святога або падзеі, якім прысвечаны мясцовы храм. Разам з Вялікаднем — адно з найгалоўнейшых гадавых свят. У гэты дзень лічылася абавязковым наладзіць вялікі прыём гасцей.

С. 61:

*Фунт* — старадаўняя адзінка масы (вагі) у Беларусі і Расіі. У пачатку XX ст. роўная 409,5 грама.

С. 62:

*...абавязацельствы па кантрактацыі бульбы...* — Кантрактацыя — сістэма пагадненняў паміж дзяржавай і сялянскімі гаспадаркамі (калектыўнымі і аднаасобнымі) у СССР, якая прадугледжвала замову на вытворчасць пэўнай сельскагаспадарчай прадукцыі і арганізаваную здачу яе дзяржаве ва ўстаноўленыя тэрміны і на пэўных умовах.

*...чуткі пра голад на Украіне пацвярджаюцца...* — маецца на ўвазе масавы голад, штучна арганізаваны сталінскім рэжымам на тэрыторыі Украіны ў 1932—1933 гг.

С. 63 :

*Субар* — сумесь celi рознага зерня.

С. 65:

*...працаваў валасным старшынёй...* — Валасны старшыня — выбарная старшая службовая асоба воласці, ніжняй адзінкі адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ў 1797 г.—1920-я гг. у Расійскай імперыі і СССР у сельскай мясцовасці. Адказваў за захаванне агульнага парадку ў воласці, даводзіў да насельніцтва законы

і распараджэнні ўрада, назіраў за выкананнем пашпартных правіл і судовых прыгавораў і інш.

*...выбралі пазней дэпутатам Думы...* — Дэпутат Думы — асоба, абраная ў Дзяржаўную думу, прадстаўнічую заканадаўчую ўстанову Расійскай імперыі, якая дзейнічала ў 1906—1917 гг.

С. 69:

*Вобмешка* — тое, чым абмешваюць (г. зн. чым дапаўняюць) корм жывёле. Звычайна гэта мука, вотруб'е.

С. 73:

*Машынна-трактарная станцыя (МТС)* — дзяржаўнае прадпрыемства ў СССР, якое ажыццяўляла абслугоўванне і рамонт трактароў, камбайнаў і іншай сельскагаспадарчай тэхнікі і давала яе ў арэнду калгасам. МТС пачалі працаваць у канцы 1920-х гг., скасаваны ў 1958 г.

С. 76:

*Вагоны неаднолькавыя: звычайныя і чатырохвосныя, пульманаўскія.*— Пульманаўскі вагон — вялікі пасажырскі або таварны вагон, назва паходзіць ад імя амерыканскага вынаходніка і прамыслоўца Д. М. Пульмана (1831—1891).

*Тормаз Матросава* — аўтаматычны паветраны тормаз для грузавых цягнікоў, распрацаваны ў 1926 г. савецкім вынаходнікам І. К. Матросавым (1886—1965). За кошт рэзкага скарачэння тармазнога шляху дазволіў значна павялічыць вагу і даўжыню чыгуначнага саставу, хуткасць і бяспеку руху. З 1931 г. усталёўваўся ў тармазных сістэмах грузавых вагонаў і лакаматываў.

*Тормаз Казанцава* — чыгуначны аўтаматычны паветраны тормаз, распрацаваны расійскім і савецкім інжынерам і вынаходнікам Ф. П. Казанцавым (1877—1940). Упершыню пачаў прымяняцца ў 1925 г. на грузавых цягніках, але да 1933 г. быў заменены тормазам Матросава.

*Тормаз Весцінгаўза* — першы паветраны чыгуначны тормаз, прапанаваны ў 1869 г. амерыканскім прамыслоўцам, інжынерам і прадпрымальнікам Д. Весцінгаўзам (1846—1914). У 1872 г. вынаходнік запатэнтаваў першую аўтаматычную сістэму паветраных тармазоў, пасля чаго стварыў кампанію па іх вытворчасці, арганізаваў укараненне і эксплуатацыю тармазоў на цягніках у ЗША, Заходняй Еўропе і Расіі. У СССР узамен тормаза Весцінгаўза ў 1925 г. упершыню быў прыменены тормаз Казанцава.

С. 85:

*...да мястэчка тры з палавінай вярсты.*— Вярста — старадаўняя мера (адзінка) даўжыні. Вядомая з XI ст. З канца XVIII ст. раўнялася 1066,781 м.

С. 96:

*...Новы год па новым календары людзі не адзначаюць. Будуць адзначаць па старым календары...*— маецца на ўвазе юліянскі (стары) і грыгарыянскі (новы) каляндар, на які Савецкая Расія перайшла 31 студз. 1918 г.

С. 98:

*У германскую вайну...* — маецца на ўвазе Першая сусветная вайна 1914—1918 гг.

*То сотню дасць, мікалаеўскую, з малюнкам прыгожай царыцы...*— на старублёвай банкноце, якая была ў абарачэнні ў час праўлення апошняга расійскага імператара Мікалая II, знаходзілася выява царыцы Кацярыны II.

С. 99:

*Попрадкі (вячоркі)* — даўні звычай беларускіх вясковых дзяўчат і жанчын збірацца вечарамі з работай у адной хаце. Пачыналіся ад Пакроваў і доўжыліся да Вялікадня. На попрадках звычайна пралі, ткалі, вышывалі, а таксама жартавалі, апавядалі цікавыя здарэнні, казкі, паданні, былічкі.

*Ражаство (Раство)* — адно з галоўных хрысціянскіх свят, устаноўленае ў гонар нараджэння Ісуса Хрыста ад Панны Марыі. Адзначаецца 7 студз.

С. 100:

*...прыпала тры дзесяціны.*— Дзесяціна — старадаўняя мера зямельнай плошчы, роўная 1,0925 га.

С. 101:

*Гэтак ён называе рэвалюцыю, калі скінулі цара.*— маецца на ўвазе лютаўская рэвалюцыя 1917 г.— буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расіі, у выніку якой скінута царскае самадзяржаўе.

С. 102:

*Споведзь* — пакаянне, адно з сямі хрысціянскіх таінстваў, якое заключаецца ў прызнанні вернікам сваіх грахоў перад святаром, які дазвольнымі (магічнымі) словамі ад імя Ісуса Хрыста адпускае грахі хрысціяніну, што шчыра пакаяўся.

*...прымае просвірку і лыжачку салодкага прычасця.*— гаворка ідзе пра абрад прычасця — адно з сямі хрысціянскіх таінстваў. У час прычасця вернікі з’ядаюць кавалачак асвячонага хлеба і выпіваюць лыжачку віна, якія сімвалізуюць «цела і кроў» Ісуса Хрыста, і тым самым далучаюцца да «Боскай сутнасці». Лічыцца, што ў час апошняй трапезы Ісус Хрыстос частаваў сваіх вучняў віном і хлебам, ператвараючы іх у цела і кроў сваю, наказваў захоўваць гэты абрад у памяць аб ім.

С. 116:

*Спас* — старажытнае свята земляробчага календара, звязанае з выспяваннем садавіны і агародніны. Адзначаюцца тры Спасы: Першы (Мядовы) — 14 жн., Другі (Яблычны) — 19 жн. і Трэці (Арэхавы) — 29 жн. У Беларусі найбольш святкуецца Яблычны Спас, лічыцца, што да гэтага часу нельга есці яблыкі. Царква прымеркавала да яго свята Перамянення.

С. 119:

*Пра грамадзянскую вайну...*— маецца на ўвазе грамадзянская вайна і ваенная інтэрвенцыя 1918—1922 гг.

С. 121:

*«Іскры Ільіча»* — такую назву з кастр. 1929 па крас. 1941 г. насіў штомесячны ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс для дзяцей і падлеткаў «Бярозка». Да верас. 1929 г. называўся «Беларускі піянер». Сучасная назва — з чэрв. 1945 г. Выдаецца ў Мінску са снеж. 1924 г., са студз. 2012 г. пад адной вокладкай з часопісам «Маладосць».

С. 126:

*Ворагі, аказваецца, забілі Сяргея Міронавіча Кірава...* — Кіраў Сяргей Міронавіч (сапр. Кострыкаў; 1886—1934) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Першы сакратар Ленінградскага абласнога камітэта ВКП(б), член Палітбюро ЦК ВКП(б). Застрэлены супрацоўнікам Інстытута гісторыі ВКП(б) Л. В. Нікалаевым 1 снеж. 1934 г. у Смольным, дзе размяшчаўся Ленінградскі абкам ВКП(б). Ужо праз некалькі гадзін пасля забойства афіцыйна было заяўлена, што С. М. Кіраў стаў ахвярай змоўшчыкаў — ворагаў СССР.

*Чалюскінцы* — удзельнікі экспедыцыі на параходзе «Чалюскін», мэтай якой было прайсці Паўночным марскім шляхам за адну навігацыю на неледакольным судне, сабраць навуковыя звесткі пра палярныя моры. «Чалюскін» выйшаў у рэйс 8 жн. 1933 г. з Мурманска ва Уладзівасток. У Берынгавым праліве судна было зацёрта льдамі, штормам вынесена ў Чукоцкае мора і 13 лют. 1934 г. расціснута вялізным ледзяным валам. Параход затануў за 100 км ад берага, 104 удзельнікі экспедыцыі высадзіліся на льдзіну ў дрэйфе. Праз два месяцы самалётамі яны былі вывезены на мыс Ванкарэм на паўночным захадзе Чукоцкага паўвострава. Аперацыя выратавання працягвалася з 5 сак. па 13 крас. 1934 г.

*Паўночны Ледавіты акіян* — найменшы паводле плошчы акіян на Зямлі. Размешчаны ў паўночным паўшар'і, паміж Еўразіяй і Паўночнай Амерыкай.

С. 129:

*...ў сямнаццатым годзе адбылася рэвалюцыя.*— маецца на ўвазе Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г., узброенае звяржэнне Часовага ўрада і прыход да ўлады ў Расіі партыі бальшавікоў.

С. 140:

*...з вуліцай Чангарскай дывізіі...*— у гонар 6-й кавалерыйскай Чангарскай дывізіі, якая існавала з кастр. 1918 па 19 верас. 1941 г. У свой час дывізія ўваходзіла ў склад Першай коннай арміі і вызначылася ў баях на Чангарскім паўвостраве (1920). Доўгі час размяшчалася на тэрыторыі Беларусі, у Гомелі.

С. 143:

*Урал* — тэрыторыя паміж Усходне-Еўрапейскай і Заходне-Сібірскай раўнінамі ў Расіі і Казахстане. Асноўнай часткай гэтага рэгіёна з'яўляецца Уральская горная сістэма, якая цягнецца ад Карскага мора на поўначы да ракі Урал на поўдні больш як на 2 тыс. км. Уздоўж усходняга падножжа Урала звычайна праводзяць мяжу паміж Еўропай і Азіяй.

*Сярэдняя Азія* — частка тэрыторыі Азіі ад Каспійскага мора на захадзе да мяжы з Кітаем на ўсходзе і ад Арала-Іртышскага водападзела на поўначы да мяжы з Іранам і Афганістанам на поўдні. У межах Сярэдняй Азіі знаходзяцца Кыргызстан, Таджыкістан, Туркменістан, Узбекістан і часткова Казахстан.

*Каўказ* — тэрыторыя паміж Чорным, Азоўскім і Каспійскім морамі ад Кума-Маныцкай упадзіны да паўднёвай часткі Армянскага нагор'я. У межах Каўказа знаходзяцца Азербайджан, Арменія, Грузія, частка Турцыі, Ірана і Расіі.

С. 149:

*...многіх пісьменнікаў беларускіх ведае — Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю.*— Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942) — беларускі паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч, класік беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1925). Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — беларускі паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык, вучоны, педагог, грамадскі дзеяч, класік беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1926). Бядуля Змітрок (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941) — беларускі паэт, празаік, публіцыст, крытык.

С. 155.

*Базылевічы...*— пад такой назвай І. Навуменка вывеў у творы сваё роднае мястэчка Васілевічы.

*Прыпяць* — рака ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях Беларусі, Валынскай, Ровенскай і Кіеўскай абласцях Украіны, правы прыток Дняпра.

С. 156:

*...ўязджаюць і выязджаюць паравозы — «авечкі», «шчукі»...*— маюцца на ўвазе паравоз серыі О («Основной») — асноўны ў лакаматыўным парку расійскіх чыгунак, і паравоз серыі Щ, які выпускаўся ў Расійскай імперыі і Савецкай Расіі з 1906-га па 1918 г.

С. 165:

*...дзве мажы бульбы...*— Мажа — вялікі воз.

*У часы нэпа сарганізаваў хаўрус...*— Нэп (скар.: новая эканамічная палітыка) — гаспадарчая палітыка Савецкай дзяржавы ў 1920-я гг. Прынята увесну 1921 г. Х з'ездам РКП(б), названа новай у адрозненне ад палітыкі «ваеннага камунізму», якая праводзілася падчас грамадзянскай вайны 1918—1922 гг. Была разлічана на аднаўленне народнай гаспадаркі, прадугледжвала выкарыстанне рынку, розных форм уласнасці, легалізацыю гандлю, пашырэнне прыватнай ініцыятывы, развіццё спажывецкай кааперацыі.

*Пакровы (Пакроў Прасвятой Багародзіцы)* — праваслаўнае свята ў гонар дзівоснага з'яўлення Маці Божай ва Улахернскім храме ў Канстанцінопалі ў 910 г. Адзначаецца 14 кастр.

*...невыразнага колеру мультавую кофту...*— маецца на ўвазе кофта, пашытая з мультану, баваўнянай тканіны з начасаным ворсам з левага боку.

С. 167:

*Асенні Мікола* — народнае, а таксама хрысціянскае свята, дзень ушанавання Святога Мікалая Цудатворца (каля 270 — каля 345), архіепіскапа Мір Лікійскіх (Візантыя). Адзначаецца 19 снеж.

С. 174:

*Некаторыя з іх перакладзены на беларускую мову. Напрыклад, «Маці» Максіма Горкага, «Чапаеў» Фурманава.*— Горкі Максім (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868—1936) — рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч, ганаровы акадэмік АН БССР (1932); раман «Маці» (1907) выйшаў на беларускай мове ў перакладзе З. Астапенкі ў 1932 г., затым неаднаразова перавыдаваўся (1935, 1936, 1938, 1941); Фурманаў Дзмітрый Андрэевіч (1891—1926) — рускі пісьменнік, ваенны і палітычны дзеяч; раман «Чапаеў» (1923) друкаваўся на беларускай мове ў 1930-я гг. пад рэдакцыяй К. Зарэмбоўскага без указання аўтара перакладу.

С. 184:

*...прачытаў «Ціхі Дон» Шолахава...*— Шолахаў Міхаіл Аляксандравіч (1905—1984) — рускі савецкі пісьменнік, лаўрэат

Нобелеўскай прэміі (1965). Раман «Ціхі Дон» напісаны ў 1928—1940 гг.

*...тры кнігі «Ціхага Дона» на беларускай мове.*— маецца на ўвазе выданне рамана М. А. Шолахава «Ціхі Дон» (Мінск, 1936) у перакладзе на беларускую мову У. Хадыкі.

С. 194:

*...пачынае чытаць «Вайну і мір» Талстога.*— Талстой Леў Мікалаевіч (1828—1910) — рускі пісьменнік і публіцыст. Раман «Вайна і мір» напісаны ў 1863—1869 гг.

С. 197:

*«Рабяты і звяраты»* (1925) — кніга рускай савецкай дзіцячай пісьменніцы В. В. Пяроўскай (1902—1961).

С. 198:

*Паўночны полюс* — пункт, у якім уяўная вось вярчэння Зямлі перасякае яе паверхню ў паўночным паўшар'і. Знаходзіцца ў цэнтральнай частцы Паўночнага Ледавітага акіяна, дзе глыбіня перавышае 4000 м.

*Чкалаў Валерый Паўлавіч* (1904—1938) — савецкі лётчык-выпрабавальнік, Герой Савецкага Саюза (1936). Камандзір экіпажа самалёта, які ажыццявіў у 1937 г. першы беспасадачны пералёт праз Паўночны полюс з Масквы ў Ванкувер (штат Вашынгтон, ЗША).

*«Железнодорожник Белоруссии»* — газета беларускіх чыгуначнікаў, найстарэйшае галіновае выданне ў краіне. Выдаецца ў Мінску з чэрв. 1936 г.

*«Абрэк Заур»* (іншая назва «Сын гор», 1926) — нямы фільм рэжысёра Б. Міхіна.

*«Двойчы народжаны»* (1933) — першы гукавы фільм на беларускай мове. Рэжысёр — Э. Аршанскі.

*«Хвоі гавораць»* — верагодна, маецца на ўвазе нямы мастацкі фільм рэжысёра Л. Малчанава «Хвоі гамоняць» (1929), зняты паводле матываў аповесці А. Вольнага «Два».

*«Лясная быль»* (1926) — першы беларускі мастацкі фільм, зняты паводле аповесці М. Чарота «Свінапас» рэжысёрам Ю. Тарычам.

*...ў клубе імя Вароўскага...* — Вароўскі Вацлаў Вацлававіч (1871—1923) — расійскі рэвалюцыянер, публіцыст і літаратурны крытык, адзін з першых савецкіх дыпламатаў.

*...праносяцца паўтаратонкі і нават «эмкі»...* — Паўтаратонка — грузавая аўтамашына грузападымальнасцю ў паўтары тоны; «эмка» (ГАЗ-М-1) — савецкі легкавы аўтамабіль, які выпускаўся на Горкаўскім аўтамабільным заводзе (ГАЗ) у 1936—1943 гг. Літара «М»

у маркіроўцы з’явілася як вынік прысваення заводу імя В. М. Молатава, тагачаснага кіраўніка ўрада СССР.
С. 199:

*...ў штаб пілсудчыкаў пралезуць...*— Пілсудчыкі — палітычныя прыхільнікі Юзафа Клемента Пілсудскага (1867—1935) — польскага дзяржаўнага, палітычнага і ваеннага дзеяча, лідара руху за аднаўленне польскай дзяржаўнасці ў пачатку ХХ ст.

*«Максім Максімавіч»* (1927) — фільм рэжысёра У. Барскага, зняты паводле матываў рамана М. Ю. Лермантава «Герой нашага часу».

*«Смерць Пушкіна»* — верагодна, маецца на ўвазе нямы мастацкі кароткаметражны фільм рэжысёра В. Ганчарова «Жыццё і смерць Пушкіна» (1910).
С. 201:

*Кагановіч Лазар Майсеевіч* (1893—1991) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З верас. 1917 г. старшыня Палескага камітэта РСДРП, кіраваў устанаўленнем савецкай улады ў Гомелі. У 1935—1944 гг. наркам шляхоў зносін.
С. 202:

*...у Камуністычным інстытуце вучыўся...*— верагодна, маецца на ўвазе Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава (КІЖ), які існаваў у 1932—1940 гг. у Мінску як навучальная ўстанова для падрыхтоўкі кадраў для раённых, абласных і рэспубліканскіх газет. Заснаваны на базе газетнага аддзялення Камуністычнага ўніверсітэта Беларусі. Рэарганізаваны ў Беларускі інстытут журналістыкі (існаваў да 1941 г.).
С. 203:

*Стаханаўскі рух* — масавы рух наватараў і перадавікоў вытворчасці ў СССР у сярэдзіне 1930 — пачатку 1940-х гг. за павышэнне прадукцыйнасці працы і лепшае выкарыстанне тэхнікі. Узнік у гады другой пяцігодкі ў вугальнай прамысловасці Данбаса (Украіна), названы ў гонар зачынальніка — забойшчыка шахты «Цэнтральная-Ірміна» А. Р. Стаханава, які 31 жн. 1935 г. здолеў за змену пры норме ў 7 тон здабыць 102 тоны вугалю, а 19 верас.— 227 тон.

*...ведае пра рэкорд машыніста Крыванoса...* — Крыванос Пётр Фёдаравіч (1910—1980) — адзін з ініцыятараў стаханаўскага руху на чыгуначным транспарце. У 1935 г., будучы паравозным машыністам, першым на чыгунцы пры кіраванні грузавымі цягнікамі павялічыў фарсіроўку катла паравоза, дзякуючы чаму тэхнічная хуткасць была павышана ў два разы, да 46—47 км/гадз. Меў шматлікіх паслядоўнікаў.

С. 213:

*Наогул у мястэчку перамены. Яно цяпер стала раённым цэнтрам.*— Васілевіцкі р-н існаваў у 1926—1927 і 1938—1959 гг.

С. 214:

*Яна пачала раённую газету выпускаць, якая называецца «Уперад да камунізму».*— У сапраўднасці васілевіцкая раённая газета называлася «Сацыялістычная праўда». Выдавалася з 1938-га па 1959 г.

*«Правда»* — масава-палітычная газета, асноўны штодзённы друкаваны сродак масавай інфармацыі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, найбольш уплывовае савецкае выданне. Заснавана У. І. Леніным. Першы нумар выйшаў 5 мая 1912 г. у Пецярбургу. З 1918 г. выдаецца ў Маскве. З крас. 1997 г. выходзіць як орган Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі.

*«Звязда»* — штодзённая грамадска-палітычная беларускамоўная газета. Першы нумар выйшаў 9 жн. 1917 г. у Мінску на рускай мове. Напачатку выдавалася як орган Мінскага, з кастр. 1917 г.— Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП (б). У 1920 г. стала друкаваным органам ЦК КП(б)Б. Да жн. 1991 г. друкаваны орган ЦК КПБ, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР. Цяпер — парламенцкая і ўрадавая газета.

С. 220:

*...чытае ўрывак з аповесці Пушкіна «Капітанская дачка»...*— Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799—1837) — рускі паэт, празаік і драматург; пачынальнік новай рускай літаратуры, заснавальнік сучаснай рускай літаратурнай мовы. Аповесць «Капітанская дачка» напісана ў 1836 г.

С. 223:

*«haben»* — з *ням.* дзеяслоў «хабен» («мець») выкарыстоўваецца ў нямецкай мове як асноўны і дапаможны.

С. 224:

*«Kommt heraus aus dem Haus / Junge Sturmbrigaden! / Schnee und Eis, alles weiß, / Vorwärts, Kameraden!»* — з *ням.* «Выходзьце з дому, / Маладыя штурмбрыгады! / Снег і лёд — усё белае. / Уперад, таварышы!»

С. 229:

*«Грач — птица весенняя»* (1937) — раман рускага савецкага пісьменніка С. Д. Мсціслаўскага (1876—1943).

С. 230:

*«Ха!»* — маецца на ўвазе зборнік пародый «Ха» (1932) беларускага паэта М. Хведаровіча (1904—1981), які выйшаў пад псеўданімам Сабасцьян Старобінскі.

*«Пионерская правда»* — савецкая і расійская дзіцячая газета. Заснавана ў 1925 г. як штодзённая піянерская газета — орган Маскоўскага камітэта ВЛКСМ, з 1927 г.— орган ЦК і МК ВЛКСМ, з 1958 г.— ЦК ВЛКСМ і Цэнтральнага савета Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна. З 1991 г.— усерасійская газета для дзяцей і падлеткаў. Выдаецца ў Маскве з 6 сак. 1925 г.

*«Піянер Беларусі»* — масавая газета для дзяцей школьнага ўзросту і падлеткаў у БССР, орган ЦК ЛКСМБ і Рэспубліканскага савета піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна. Выдавалася з кастр. 1929 г. у Мінску на беларускай мове штотыднёва. З 1994 г. стала называцца «Раніца». У 2012 г. спыніла існаванне і была далучана да «Настаўніцкай газеты».

*...томік вершаў Някрасава...*— Някрасаў Мікалай Аляксеевіч (1821—1877) — рускі паэт, празаік і публіцыст.

*...кніга Ільфа і Пятрова «Золотой теленок»...*— Ільф І. і Пятроў Я.— рускія савецкія пісьменнікі-сатырыкі, якія працавалі сумесна. Ільф Ілья (сапр. Файнзільберг Ілья Арнольдавіч; 1897—1937); Пятроў Яўген (сапр. Катаеў Яўген Пятровіч; 1903—1942). Раман «Залатое цяля» напісаны ў 1931 г.

С. 231:

*...«Залаты ключык, ці Прыгоды Бураціна» А. Талстога.*— Талстой Аляксей Мікалаевіч (1883—1945) — рускі савецкі пісьменнік. Аповесць-казка «Залаты ключык, ці Прыгоды Бураціна» напісана ў 1936 г.

*...кніжачка «На залатым пакосе» Валерыя Маракова.*— «На залатым пакосе» (1927) — зборнік вершаў В. Д. Маракова; Маракоў Валерый Дзмітрыевіч (1909—1937) — беларускі паэт і перакладчык.

С. 232:

*Бялінскі Вісарыён Рыгоравіч* (1811—1848) — рускі літаратурны крытык, публіцыст.

*Гогаль Мікалай Васілевіч* (1809—1852) — рускі пісьменнік, пачынальнік крытычнага рэалізму ў рускай літаратуры.

*Ганчароў Іван Аляксандравіч* (1812—1891) — рускі пісьменнік.

*Чэхаў Антон Паўлавіч* (1860—1904) — рускі празаік і драматург.

*«Нива»* — маецца на ўвазе папулярны рускі штотыднёвы часопіс «Нива» сярэдзіны XIX — пачатку XX ст. з дадаткамі. Выдаваўся з канца 1869-га па 1918 г. у Пецярбургу. Пачынаючы з 1891 г. бясплатным дадаткам да часопіса выдаваліся Зборы твораў вядомых рускіх і замежных аўтараў, пераважна класікаў.

С. 233:

*Верн Жуль* (1828—1905) — французскі пісьменнік, класік прыгодніцкай літаратуры, адзін з заснавальнікаў навуковай фантастыкі.

*Бусенар Луі Анры* (1847—1910) — французскі пісьменнік, аўтар шматлікіх прыгодніцкіх раманаў для дзяцей і юнацтва.

*Рыд Томас Майн* (1818—1883) — англійскі пісьменнік, аўтар прыгодніцкіх раманаў і твораў для дзяцей і юнацтва, частка якіх была апублікавана пад псеўданімам Капітан Майн Рыд.

*Купер Джэймс Фенімор* (1789—1851) — амерыканскі пісьменнік, пачынальнік гістарычнага жанру ў амерыканскай літаратуры.

*Маўр Янка* (сапр. Фёдараў Іван Міхайлавіч; 1883—1971) — беларускі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры.

*...пачынаецца паляванне на Дзюма: «Три мушкетера», «Виконт де Бражелон», «Двадцать лет спустя»...*— Дзюма Аляксандр (Дзюма-бацька; 1802—1870) — французскі пісьменнік, аўтар прыгодніцкіх раманаў. «Тры мушкецёры» (1844), «Віконт дэ Бражэлон» (1848—1850) і «Праз дваццаць гадоў» (1845) склалі трылогію пра мушкецёраў.

С. 234:

*...чытаў раман Тургенева «Дым»...*— Тургенеў Іван Сяргеевіч (1818—1883) — рускі пісьменнік. Раман «Дым» напісаны ў 1867 г.

*«Любоў Яравая»* (1926) — найбольш вядомая п’еса рускага драматурга і празаіка К. А. Транёва (1876—1945). Упершыню пастаўлена ў 1926 г., у 1936 г. аўтарам падрыхтавана новая рэдакцыя твора.

С. 235:

*И грянул бой, Полтавский бой...*— радок з «Песні трэцяй» паэмы «Палтава» (1828) А. С Пушкіна (1799—1837).

С. 237:

*...дэкламуе пісьмо Тацяны да Яўгенія Анегіна...*— маецца на ўвазе ўрывак з рамана ў вершах «Яўген Анегін» (1823—1831) А. С. Пушкіна (1799—1837).

С. 239:

*«Крыжачок»* — беларускі народны парна-масавы танец. У народным побыце Гомельскай вобл., дзе яго назву выводзяць ад слова «крыжак» (дзікі качар), у харэаграфічным малюнку імітуюць рухі качара.

*...ні «Дрыгвы» Якуба Коласа яшчэ не прачытаў, ні «Сокаў цаліны» Цішкі Гартнага.*— Аповесць Якуба Коласа «Дрыгва»

напісаная ў 1933 г. Гартны Цішка (сапр. Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; 1887—1937) — беларускі пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Акадэмік АН Беларусі (1928). У 1936 г. рэпрэсаваны. Рэабілітаваны ў 1988 г. Раман «Сокі цаліны» напісаны ў 1914—1929 гг.

*Галавач Платон Раманавіч* (1903—1937) — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. У 1937 г. рэпрэсаваны, расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Чарот Міхась* (сапр. Кудзелька Міхаіл Сымонавіч; 1896—1937) — беларускі паэт, драматург, празаік, грамадскі і культурны дзеяч. У 1937 г. рэпрэсаваны, расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

С. 240:

*Тухачэўскі Міхаіл Мікалаевіч* (1893—1937) — савецкі ваенны дзеяч, палкаводзец, адзін з першых Маршалаў Савецкага Саюза (1935). У 1937 г. рэпрэсаваны па «справе ваенных» і прыгавораны да пакарання смерцю. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Блюхер Васіль Канстанцінавіч* (1890—1938) — савецкі ваенны, дзяржаўны і партыйны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1935). У 1938 г. рэпрэсаваны, памёр на следстве ў Лефортаўскай турме. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*...церпіць паражэнне рэспубліканская армія ў Іспаніі, якая ваюе з генералам Франка.*— маюцца на ўвазе падзеі грамадзянскай вайны ў Іспаніі (1936—1939). Франка Баамондэ Франсіска (1892—1975) — іспанскі ваенны і дзяржаўны дзеяч, кіраўнік Іспанскай дзяржавы ў 1939—1975 гг. Генералісімус (1936). У час грамадзянскай вайны ў Іспаніі ўзначаліў ваенны мяцеж супраць Іспанскай рэспублікі і ў выніку яе паражэння ўстанавіў у краіне дыктатуру.

С. 241:

*Самагубствам пакончыў жыццё старшыня ЦВК БССР Чарвякоў.*— Чарвякоў Аляксандр Рыгоравіч (1892—1937) — дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР і СССР. У 1920—1937 гг. старшыня ЦВК БССР. З пачатку 1930-х гг. неабгрунтавана абвінавачваўся ў адыходзе ад генеральнай лініі партыі. Скончыў самагубствам 16 чэрв. 1937 г. Рэабілітаваны ў 1957 г.

С. 244:

*«Если завтра война»* (1938) — савецкі перадваенны мастацкі фільм аб падрыхтаванасці СССР да нападу агрэсара, створаны калектывам кінарэжысёраў (Л. Анцы-Палоўскі, Г. Бярозка, Я. Дзіган, М. Кармазінскі) пад кіраўніцтвам Я. Дзігана.

*«Истребители»* (1939) — савецкі мастацкі фільм рэжысёра Э. Пенцліна.

*«Девушка с характером»* (1939) — савецкі камедыйны мастацкі фільм рэжысёра К. Юдзіна.

*«Свинарка и пастух»* (1941) — савецкая музычная камедыя рэжысёра І. Пыр’ева.

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» // *часоп. «Полымя»*

С. 5:

[11] Пагэтаму // Таму

[12—13] наўзбоч левай, а затым пярэдняй сцяны. // наўзбоч левай сцяны.

С. 6:

[18—19] Са страхам сочыць Вася за ляпіцай: раптам успомніць пра аловак. // Са страхам сочыць Вася за ўсім.

С. 7:

[10—11] Якая яму справа да гэтага? // Што яму да гэтага?

[17] Аляксандрай // Маняй

[21] ні яе дачка // ні Маня

[24—25] змазаныя свіным шмальцам дзедавы боты // змазаныя дзедавы боты

[29—30] з асінавых бярвенняў // з асінавага бярвення

С. 8:

[11] цёлка // цялушка

[18] Ганчаркай // Варашылаўкай

[27—28] накрыўшыся вялізнай шубай, якая пахне // накрыўшыся вялізным кажухом, які пахне

[29] Такія шубы // Такія кажухі

С. 9:

[7] Петрык // Пятрок

[9] з Петрыкам! // з Петраком!

[9—10] Петрыку // Петраку

[11] Петрык // Пятрок

[17] Петрык. // Пятрок.

[20] Петрыка // Петрака

[35] трое // двое

С. 10:

[14] раптам трапіш у балотную бездань, патонеш. // раптам трапіш у балотную бездань.

[17] Прыемна // Цікава

С. 11:

[7] Ганчарцы // Варашылаўскай

[17—20] Летам Заброддзе — сенажаць, на якой буяе багатае разнатраўе,— загароджваюць. Там і нешырокі праход на лугавіну,

і каб туды не трапіла жывёла, яго загароджваюць жэрдкамі. // Летам Заброддзе — сенажаць, на якой буяе багатае разнатраўе. Таму нешырокі праход на лугавіну, каб туды не трапіла жывёла, загароджваюць жэрдкамі.

[37—38] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Бо ёй, як і яму, па сем гадоў. Адаму восем, але ён у школу не пайшоў, бо хварэў жаўтухай».

С. 12:

[17] Петрык // Пятрок

[19] Прохар Прохаравіч // Аўдзей Аўдзеевіч

[20] Петрык // Пятрок

С. 12—13:

[25—20] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад слоў «З’яўленне на свет…» да слоў «…раскіданых вакол мястэчка».

С. 13:

[30] раскладваюць // распальваюць

[37—38] з гумна ў падосець // знізу, з гумна, у падосець

С. 14:

[2] закопчаных // закураных

[8] папалам // напалам

[33—34] Вася з нецярпеннем чакае Каляды. Чуў, што яны ўжо блізка. // Вася з нецярпеннем чакае каляды́. Чуў, што яна ўжо блізка.

[37] шчаціну // шчацінне

[38] шкуркі? // скуркі?

С. 15:

[17] задобрываюць // задабрываюць

[20] выскаквае // выскоквае

[22] бабцы // бабе

[34] Ужо абсмалілі, абскрэблі нажом кабана // Ужо абсмалілі, паліваючы вадой, абшкрэблі нажом кабана

С. 16:

[18] скварку // шкварку

С. 17:

[31] паўбулкі // паўбохана

С. 18:

[2] вадзіў казу // быў з казой

[9—10] раскрывае сакрэты // раскрывае іх сакрэты

[10] па-майстэрску // майстэрскі

С. 19:

[7] семачак. // семак.

[15] праз тыдзень ці два // праз тыдзень

[22] памёршыя // памёрлыя

30 пасядуць // засядуць

35 зярнят. // зярняты.

С. 20:

7—8 не пасмяешся над імі // не надсмяешся з іх

17 у глухую ноч. // у «глупую» ноч.

С. 21:

21 навучыўся яшчэ два гады назад. // навучыўся рана, яшчэ да школы.

28—29 О, варвар! Дурны, бязлітасны варвар! // О, дзікун! Дурны і безгаловы.

С. 22:

34 Петрык // Пятрок

35 Петрык // Пятрок

36 У часопісе адсутнічае сказ: «Ён часта так робіць».

С. 23:

1 Петрыку // Петраку

4 топяць грубку // паляць у грубцы

5 знаходзіцца // знаходзяцца

15 У часопісе адсутнічае сказ: «— Там бык,— Вася калоціцца як асінавы ліст».

17 стула // крэсла

23 не прыкідаецца // не прыкідваецца

24 Петрык // Пятрок

29—30 Петрыкам. // Петраком.

30 Петрык // Пятрок

31 з гладышыка // з гладышак

33 на некалькі чалавек. // на некалькі частак.

35 абнімаецца // абдымаецца

38 ён // той

С. 24:

5 за чыгунку. // на ўзбочыну агародаў.

24 лядзяшыкі // лядзяшкі

34 светла-жоўтага // жоўта-светлага

С. 25:

8—9 але ён даўно, ужо гады два або тры як навучыўся чытаць і лічыць. // але ж ён умее чытаць і лічыць.

16 Збароўскі // Бароўскі

19—20 ён жанаты на Паўлавай сястры Мар’і. // які жанаты з Паўлавай сястрой Мар’яй.

С. 26:

32 на гэтай валоцы // на гэтай зямлі

С. 27:

[12] шасцяронкі // шасцерні

[19—20] з іхняй вуліцы. // іхняй вуліцы.

С. 28:

[30] кідаць трэскі // кінуць сорак трэсак

С. 29:

[7—8] Дзе дык проста трапілі адна на другую. // Дзе дык проста трапілі адна на другую — трэцяя ляжыць трохі наводшыбе.

[10] не болей аднаго кроку… // не болей як адзін крок…

[13] бекасаў // бакасаў

[38] кірнаты — з малымі вушамі — Павел. // кірнаты Павел.

С. 30:

[2] штурхаля. // штурхяля.

[4] пукаўкі // покаўкі

[6] праляцеў // пралятаў

С. 31:

[20] тукаць // стукаць

[28] Кузьме // Кузьму

[29] У часопісе пасля сказа «Потым выступае сваё» ідзе сказ: «Здаецца, ягонае яйка мацнейшае».

С. 32:

[30] правулак // завулак

С. 33:

[8] гербарый. // гербарыем.

[10] Якое вялікае цуда // Які вялікі цуд

[12] па спіску // па спісе

[16] ў спісках // ў спісе

[18] тры месяцы. // сем месяцаў.

[19] было восем. // было поўныя восем.

С. 34:

[14] дзе складзены ў стусы бярвенні. // дзе складзена ў стусы бярвенне.

[14—15] У асінавых, альховых, нават дубовых бярвеннях // У асінавым, альховым, нават дубовым бярвенні

[32] пакрыўджан // пакрыўджаны

С. 35:

[24] Петрык // Пятрок

[27] Суцяшаецца // Суцяшае сябе

[33—34] У Якава, нібы вераўчаны вузел, скручаны ногі. // У Якава, нібы ў вераўчаны вузел, скручаныя ногі.

С. 36:

[10] слухае гісторыі вандроўнікаў. // слухае гісторыі вандроўнікаў і бадзяг.

[26] Надзя // Галя

[27] Ёсіпа // Сцяпана

[29] Ёсіп // Сцяпан

[31] конскі шчавель // конскае шчаўе

[33] Надзю // Галю

[34] Надзя // Галя

[37] Надзя // Галя

С. 37:

[18—19] Расце шыракалісты і дзікі, вузкалісты шчавель // Расце шыракалістае і дзікае, вузкалістае шчаўе

[24] У часопісе адсутнічае сказ: «Цвіце сінім цветам».

С. 38:

[24] пылкай // пыльнай

С. 39:

[10] плашмя. // плашма.

[10—11] Пагэтаму // Таму

[13] шчарбінка. // шчарбіна.

[30] самадзельным // самаробным

[33] можа зрабіць, што хто захоча. // можа зрабіць, што захоча.

С. 40:

[11] Петрык // Пятрок

[12] асклепак // аскялепак

[18] Петрык // Пятрок

С. 41:

[11] Цімох // Цімох Стрыж

[30] закопчанага // закуранага

С. 42:

[7] над ім пасміхаюцца. // з яго пасміхаюцца.

[30—31] нават у Васеў двор не зазірнуў. // у Васеў двор і не зазірнуў.

С. 43:

[10] зварачае // зварачвае

[10—11] складзен // складзены

[11] абмазан // абмазаны

[16] сканчваюць чатыры класы. // сканчваюць толькі чатыры класы.

С. 44:

[1] Петрык // Пятрок

С. 45:

[7] Петрык // Пятрок

[10] Петрык // Пятрок
[12] неспакойна-пераліўчатай // неспакойна-пералівістай

С. 46:
[3] хусткі // хустачкі
[5—6] Петрыкам // Петраком
[31] наўскокі // наўскачкі
[33] наўскачкі // наўскокі

С. 48:
[10] пакатацца. // пакоўзацца.
[23] абсыпле // абсыпае

С. 49:
[4] не дае пладоў. // не родзіць.
[8] перамешан // перамешаны
[10—11] Вася хацеў было засыпаць ямку, каб пачаць у другім месцы // Вася хацеў быў засыпаць ямку, каб пачаць капаць у другім месцы
[27] праімчаўся. // прамчаўся.

С. 50:
[2] смяюцца над ім // смяюцца з яго
[13] ленты. // стужкі.
[15] ленту. // стужку.
[18] лента // стужка
[21] У пацверджанне таго // Для пацверджання таго
[26—27] капалі ямкі ў рове каля тупіка // капалі ямкі ў рове

С. 51:
[33] замярзае // замярзаюць

С. 52:
[26—27] Іх сем'і жывуць на станцыі Дземяхі і ў вёсцы Салтанаўцы // Іх сем'і жывуць каля станцыі Дземяхі ў вёсцы Салтаноўцы
[31] на святах // на святы
[37] Міхаль. // Міхал.
[38] Міхаль // Міхал

С. 53:
[3] Міхаля. // Міхала.
[9] паўбулкі // паўбохана
[35—36] цаглінкі печанага хлеба // цаглінкі хлеба

С. 54:
[4] астаўся ў яго ад яды // застаўся ў яго

С. 55:
[11—12] Унутраная частка гадзінніка, яго механізм прыкручан // Унутраная частка гадзінніка, яго механізм, прыкручана
[16—17] а таксама бацька Іллі і Мікалая Кісялёў // а таксама Кісель, бацька Іллі і Мікалая

[24] у калгасе адзін месяц пабылі. // у калгасе толькі адзін месяц пабылі.
[25] і паступілі ў «Лесбел» грузчыкамі. // і адразу паступілі на чыгунку грузчыкамі.
[27] астаўся // застаўся
[32] апярэзваецца // апяразваецца
[37] прызначан // прызначаны

С. 56:
[24] не называе! // не абзывае!
[28] разгублен. // разгублены.
[35] касымі // косымі

С. 57:
[16] кідаецца // падаецца
[21] зяць Свірыдзёнка // зяць старога Свірыдзёнка
[23] круглатвары, шыракаплечы. // круглатвары і шыракаплечы.
[38] прывален // прывалены

С. 58:
[2—3] Складае ў чамадан якія можа рэчы // Складае ў чамадан рэчы
[7] Рыгор жа кіпіць // Рыгор аж кіпіць
[28] стулы // крэслы
[35—36] саставіцель паяздоў Збароўскі // кандуктар Бароўскі

С. 59:
[1] Саставіцель Збароўскі // Кандуктар Бароўскі
[6] Збароўскі // Бароўскі
[11] Зязюля // Бабошка
[11] За партыйца Івана // За партыйца Івана Бабошку
[19] Зязюлем. // Бабошкам.
[29] Зязюлем // Бабошкам
[32] Зязюля // Бабошка

С. 60:
[9] начальніку // начальству
[15] не памерзла. // не памёрзла.
[31] набліжаецца. // прыбліжаецца.
[35] па картачцы. // па картцы.

С. 62:
[12] не адвернешся // не адвінешся
[28] белых палатняных // белых і палатняных
[35] Баба // Бабка

С. 63:
[10] стул // крэсла

[35—36] яўна падсміхаецца над бадзягай. // надсміхаецца з бадзягі.
С. 64:
[1] зрабіць у чыгуне дзірку // зрабіць у чыгуне яшчэ адну дзірку
[20] складаў // складваў
[25] думаў // думае
[27] картовыя // кортавыя
С. 65:
[27] Па сакрэце // Па сакрэту
С. 66:
[28] за запалку. // за запалкі.
С. 67:
[3—4] часам нават пераспелыя яблыкі // часам пераспелыя яблыкі
[7] уе // віе
[20] сіллі // сіло
[20] на даху // на страсе
[21] прыманкі // прынады
[29—30] дубовых, альховых, асінавых бярвенняў, прывезеных сюды // дубовага, альховага, асінавага бярвення, прывезенага сюды
[35] вышэйшыя. // вышэйшы.
[38] нахіленых // нахільных
С. 68:
[2] грузчыкаў, якія цягнуць // грузчыкаў, што цягнуць
[8] бярвенняў // бярвення
[10] бярвенняў // бярвення
[13—14] бярвенні, якія ляжаць па некалькі гадоў, ураслі ў зямлю, зараслі асакою // бярвенне, якое ляжыць па некалькі гадоў, урасло ў зямлю, зарасло асакою
[33] ніякага пайка. // нават грошай.
С. 69:
[5] гладышыку // гладышку
[9] баршчу з буракоў // баршчу
[10] засмажан // засмажаны
[36] цэментная // цэментовая
[36—37] ручай // ручэй
С. 70:
[3] нібы землетрасенне. // нібы трасецца зямля.
[23] шнырують // шуруюць
[26] прыгаршню. // прыгаршчы.
[35] Шкроба // Барбутовіча
С. 71:
[4] шчавель большы і лепшы. // шчаўе большае і лепшае.
[7] У другі ці трэці раз // Другі ці трэці раз

[8] Галаднавата жыве Дзядок. // Галаднавата жыве Дзядок — канец Васевай вуліцы.

[28] прыданае // пасаг

[28] падобна // падобная

[29] вельмі любіць яе // яе вельмі любіць

[36—37] садзіць бульбу сумесна са стрыечнай сястрой маці // садзіць бульбу са стрыечнай сястрой маці

[37—38] Бацька раскарчоўвае лясную паляну, насенне бульбы дае Паліна // Бацька раскарчоўвае лясную палянку, бульбу дае Паліна

С. 72:

[5] Прохар Прохаравіч // Аўдзей Аўдзеевіч

[6] кор // адзёр

[7] фельчар. // Аўдзей Аўдзеевіч.

[11—12] Прохара Прохаравіча. // Аўдзея Аўдзеевіча.

[17] фельчара // Аўдзея Аўдзеевіча

[17—18] Прохар Прохаравіч // Аўдзей Аўдзеевіч

[21] кіяхі пусцілі // кукуруза пусціла

[25] братоў Цімоха // Цімохавых братоў

С. 74:

[2] мёрзлую // мерзлую

[9] кіяхі // кукурузу

[22] Сяргей // Петрык

[25] Сяргеем // Петрыкам

[26] Петрык. // Сяргей.

С. 75:

[1] толькі крануў // толькі злёгку крануў

[2] шчавель // шчаўе

[20] назбіраюць // назбірваюць

С. 76:

[35] скваркамі // шкваркамі

С. 77:

[12—13] Карову прывяла яшчэ цёлачкай у прыданае маці // Карову прывяла яшчэ цялушкай у пасаг маці

[16] з круглым тварам дачка Аляксандра // з круглым буйным тварам дачка Маня

[28] а дзеду ўсё гэта ні ў галаве. // а дзеду гэта ні ў галаве.

[37] завісае // навісае

[38] голлі гнуцца // голле гнецца

С. 79:

[8—9] Агромністае па прасторы Блізкае Ляда, куды Вася водзіць пасвіць Гнядога, складаецца з аднаго толькі дубовага пнёўя. // На

агромністым прасторы Блізкага Ляда, куды Вася водзіць пасвіць Гнядога, адно толькі дубовае пнёўе.

[21] пахучага печанага хлеба. // пахучага хлеба.

С. 80:

[6] Пад бульбінамі, якія цвітуць // Пад бульбаю, якая цвіце

[16] гнядой // гнедай

[25] Васевых далоняў // у Васевы далоні

[25] з ахвотай хапаючы губамі // хапаючы губамі

С. 81:

[31—32] дачка чыгуначнага абходчыка Ёсіпа Надзя // дачка чыгуначнага абходчыка Вераса Галя

[33] У Надзі // У Галі

[33—34] засеяным вяснушкамі тварам // ледзь з прыкметна засеяным вяснушкамі тварам

С. 82:

[5] Надзя // Галя

[17] пярэстае // стракатае

[28] сінія васількі // валошкі

[29] Шкробава // Шкрабава

С. 83:

[1] Шкробавай // Шкрабавай

[3] Шкроб // Шкраб

[6] Шкроб // Шкраб

[8] Шкробавай // Шкрабавай

С. 84:

[13—14] Нялёгкая справа — набраць ягад. // Нялёгка набраць ягад.

[16] вялы // панылы

[17] вяршаліны // вершаліны

С. 85:

[21] перад ім Кротава паляна. // перад ім Кротава будка і Кротава паляна.

[30] Шкробавай // Шкрабавай

С. 86:

[8] ў гладышку // ў гладышык

[18—19] За якую-небудзь паўгадзіну // За якое-небудзь паўгадзіны

[25] Яно ўжо пераваліла // Яно пераваліла

С. 87:

[6—7] кавалкі ёлкага, пажаўцелага сала. // кавалкі сала.

[10] Аляксандра // Маня

[19] пакляпаўшы // накляпаўшы

[29] з сабою // з сабой

С. 88:

[17—18] У часопісе адсутнічае сказ: «Прагнуць маладыя душы незвычайнага, адметнага, хочучы самасцвердзіцца ў жыцці, і Вася не выключэнне».

[20] Нарасла бульба, агуркі, памідоры // Нарасло бульбы, агуркоў, памідораў

С. 89:

[15] тулупа // кажуха

[17] тулупаў // кажухоў

[23] Аляксандра // Маня

[27] з Аляксандрай. // з Маняй.

[29] Аляксандра? // Маня?

[32] За Аляксандру // За Маню

[34] У Аляксандры // У Мані

[36] У часопісе пасля сказа «У дзедавай хаце не сціхае сварка і калатнеча» ідзе наступны фрагмент тэксту: «За чыгункай, навакол нафтабазы (тут цяпер працуе бацька Цімоха Стрыжа, адпускае шафёрам, трактарыстам гаручае), шчыльны круг таполяў. Гэтыя таполі якраз абрала месцам гнездавання вараннё. На кожным дрэве па два, нават па тры гнязды.

Воронняе гняздо вядома якое. Нацягае птушка ахапак хварасцін, раскладзе між сукоў, і гняздо гатова. Садзіцца варона ў яго, кладзе яйкі.

На варон Вася ўвагі не звяртае. Не цікавяць яго няўклюдныя, з доўгімі дзюбамі птушкі: ядуць усялякую здыхляціну і самі нядобра пахнуць. Тым часам налятае імклівая летняя навальніца, якая суправаджаецца такім моцным, напорным ветрам, які ломіць галіны дрэў, а некаторыя дрэвы з карэннем вырывае.

Воронняе царства страшэнна пацярпела ад навальніцы. Амаль усе гнёзды разбураны. Маладыя вараняты, якіх павыкідала з гнёздаў, хаваюцца ў траве, жаласна верашчаць (каркаць яны яшчэ не ўмеюць).

Вася падабраў чатырох варанят і занёс у хату. Пасадзіў у кош у пустым свіным катуху. Прынёс варанятам бульбы (голад, бадай, мінуў, маці кожны дзень варыць чыгун бульбы). З першага разу вараняты пачалі есці бульбу. Зрэшты, яны аказаліся такімі пражорлівымі, што самі сябе загубілі.

На другі ці трэці дзень бацька пачуў варанячае верашчанне, выявіў у катушку кош, у якім вараняты сядзелі, і, узяўшы за ногі, пабіў аб шула хлява ўсіх да аднаго, склаўшы іх затым у кучу ля дзвярэй хлява.

І Васю вуха накруціў.

— Самім есці нечага, а ты погань корміш,— злосна сказаў бацька.— Прынясі ў двор яшчэ якой заразы. То літасці тады не прасі...»

С. 90:

[1] школьная восень. // першая школьная восень.

[3] абсаджан // абсаджаны

[4] стаіць таксама чатырохскатны // стаіць чатырохскатны

[26—27] прапаноўвае выбраць на гэтую пасаду Васю. // прапаноўвае выбраць Васю.

[32—35] На школьным двары так многа пяску, што двор аж звініць ад узбуджаных галасоў: хлопцы высняюць між сабой адносіны, штосьці адзін другому даказваюць, адзін другога даганяюць, валтузяцца. // На школьным двары так многа пяску, што можна ў ім купацца. Двор гэты аж звініць ад узбуджаных галасоў: хлопцы высняюць між сабой адносіны, штосьці адзін другому даказваюць, адзін другога даганяюць, валтузяцца.

С. 91:

[2—3] скачуць у класы ці выдумліваюць якую-небудзь другую гульню. // скачуць у класы ці ў яшчэ якую-небудзь іншую гульню.

[15] сіллямі // сіламі

С. 92:

[4] не вабіць // не вабяць

С. 93:

[25] бярвенняў // бярвення

С. 94:

[9] Марыі Рыгораўне. // Марыю Рыгораўну.

С. 96:

[1—3] Першакласнікам раздае цукеркі Ліза Мазуркевіч з першага «А» класа. Яе нізенькая хата стаіць якраз каля загародкі на Заброддзе. // Першакласнікам раздае цукеркі добра знаёмая Васю Ліза Мазуркевіч з першага «А» класа, тая самая, чыя нізенькая хата стаіць якраз каля праходу на Заброддзе.

[3—6] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Вася часта бачыць Лізу: яна тоненькая, чысценькая, светлавалосая. Восенню Заброддзе залівае вадой, зімой яно замярзае. Прыходзячы катацца па лёдзе на каньках, Вася часта бачыць Лізу».

[15] Лізы // Лізін

[16] так і знаў: // так і ведаў:

[18] не злічыць. // не пералічыць.

С. 97:

[2] Даўно гэтага не каштаваў. // Даўно ён гэтых рэчаў не каштаваў.

[5] па картачках // па картках
[17—18] па картачцы. // па картцы.
[23] За хлебам // Па хлеб
[27] зарабіў // запрацаваў

С. 98:

[3] У часопісе пасля сказа «Дзедава хата — старасвецкая» ідзе сказ: «Вокны невялікія, каля сцен доўгія лавы».

[12] густа намазаныя // густа намазаныя дзёгцем

[17—18] У часопісе пасля сказа «Вада жоўтая нібыта ад таго, што дзед некалі трымаў многа жывёлы» ідуць сказы: «Здаецца, ці не васямнаццаць кароў і цялушак. Не на малако, на гной трымаў столькі быдла».

[18—19] У часопісе пасля сказа «Зямля ў двары прасякнулася гноем, таму і ў калодзежы жоўтая вада» ідзе наступны фрагмент тэксту:

«— Дзед, навошта было дзяржаць васямнаццаць кароў? — пытае Вася.

— Усе людзі столькі дзяржалі. У нас зямлі мала, унучак. Дый благая яна. Трэба было добра зямлю ўгнойваць, каб мецць хлеб.

— Васямнаццаць кароў мелі, а масла не елі,— устаўляе слова бабка Аўгіння.

Астатняе Вася ведае. Расказвалі бацька, маці, дзядзька Платон».

С. 99:

[19] Аляксандра // Маня

С. 100:

[2] абмазан // абмазаны
[11] не задаволен // не задаволены

С. 101:

[19] гляўкаваты // глеўкаваты

[21] які пячэ чыгуначная пякарня, размешчаная ў доме Грэчкі. // які пячэ чыгуначная пякарня

[30] не разгінаючы спіны // з раніцы да ночы не разгінаючы спіны

[36] У часопісе адсутнічае сказ: «Суха і на вуліцы».

С.102:

[29] І чалавек-грыб шыбуе // Дык вось чалавек-грыб шыбуе

[33—36] У часопісе адсутнічае сказ: «Ён прыходзіць з дзедам на споведзь, па навучэнні дзеда ў момант, калі поп ахінае яго чорнай хусткай, гаворыць: «Грэшан», прымае просвірку і лыжачку салодкага прычасця».

С. 103:

[5—6] У школе ёсць лінейка, якая выстрайваецца ў доўгім школьным калідоры раз, а то і два разы на тыдзень. // У доўгім школьным

калідоры раз, а то і два разы на тыдзень выстрайваюцца ўсе класы.

[6—7] На ёй спецыяльныя дзяжурныя // Спецыяльныя дзяжурныя

[23] заслужыў па праве // заслужыў

[24—25] Лета пачынаецца харошае: сонечныя дні пагодлівыя, ясныя // Май месяц, калі першакласнікаў адпускаюць на канікулы, харошы: сонечныя, пагодлівыя, ясныя дні

С. 104:

[14—18] У гэтым месцы вуліца нібы раздвойваецца, разыходзіцца, як канцы нажніц, калі імі што-небудзь рэжуць, утвараючы пасярэдзіне выган, на якім ходзяць куры, гегаюць гусі, пасуцца свінні і ўчыняе розныя гульні дзятва. // У гэтым месцы вуліцы нібы раздвойваюцца, разыходзяцца, нібы канцы нажніц, калі імі што-небудзь рэжуць, утвараючы пасярэдзіне выган, на якім ходзяць куры, свінні, гергечуць гусі і ладзіць розныя гульні дзятва.

С. 105:

[3—6] разабрацца з абавязацельствамі па праднатогу, з абкладнымі лістамі, страхоўкамі, безліччу розных квіткоў дзед сваімі сіламі не можа, заклікае на дапамогу Васю. // разабрацца з абкладнымі лістамі, страхоўкамі, безліччу розных квіткоў дзед сваімі сіламі не можа, кліча на дапамогу Васю.

[34—35] Падснежнікаў — белых, сініх — хоць касой касі. // Кураслепу — белага, сіняга — хоць касой касі.

С. 105—106:

[35—1] Белыя гарлачыкі сама распускаюцца. // Лотаць, белыя гарлачыкі распускаюцца.

С. 106:

[8] ні над кім // ні з кога

[33—34] Пярэстая, трохі падобная на дзятла. // Стракатая, трохі падобна на дзятла.

С. 107:

[36—37] расхінаючы рукамі траву // расхінаючы рукамі высокую траву

С. 108:

[2] віюць // уюць

[23] прыглядваецца // як бы прыглядваецца

С. 109:

[7—8] выстойвае ў чэргах // выстойвае ў дзесяці ці нават дванаццаці чэргах

[14—15] Ён ужо і гняздо сарокі выгледзеў, і пліскі, і маленькага паўзунка. // Ён ужо і гняздо сарокі выгледзеў, і пліскі.

[21—22] ў розных частках двара. // ў розных канцах двара.

[26] па ўтоптанай // па ўтаптанай
[29] ад Петрыка. // ў Петрыка.

С. 110:
[9] маланках-бліскавіцах // маланках-бліскаўках
[12] маляўніча выблісне сонца. // выблісне сонца.

С. 111:
[12] ускаквае // ускоквае

С. 112:
[2] ўсчынаецца // ўсчыняецца

С. 113:
[18—22] Бацька Стрыжа пахмуры, ссутулены, з чорным татарскім тварам, нядаўна быў заядлым застрэльшчыкам калгаса, самаўладна раскулачыў Цераха Грэчку, іншых местачкоўцаў. Сам, аднак, у калгас не ўступіў: быў на розных пасадах, а цяпер стаіць за прылаўкам лесбелаўскай крамы. // Бацька Стрыжа пахмуры, ссутулены, з чорным татарскім тварам быў на розных пасадах, а цяпер стаіць за прылаўкам лесбелаўскай крамы.
[24] цёлку // цялушку
[26] цёлцы // цялушцы

С. 114:
[17—19] У зялёнай шапцы бярозы ўсё болей жоўтых лісцяў, паволі барвавее трапяткая шапка асіны, кусты воўчай ягады. // У зялёнай шапцы бярозы ўсё болей жоўтага лісця, барвеюць трапяткая шапка асіны, кусты воўчай ягады.
[28] не сціхае // не сціхаюць
[30] У часопісе пасля сказа «І наогул у школе шмат чаго пачуеш» быў сказ: «І ад хлопцаў, і ад настаўніцы».
[31] цёлку // цялушку

С. 115:
[2] чашачкі. // каўпачкі.
[6] ў драўляную чашачку. // ў драўляны каўпачок.
[9] ў чашачцы. // ў каўпачку.
[14] да чашачкі // да каўпачка
[14] чашачку // каўпачок
[35] Патыхае ад яго // Дыша

С. 116:
[30] грушы // ігрушы
[36] дрэў // дрэваў

С. 117:
[11] садавіну. // трохі садавіны.
[13] зусім не так. // далёка не так.

[15] такія арэлі, на якіх // такую карусель, на якой

[19] на качэлях. // на каруселі.

[21] Вася часта бывае на станцыі. // Носячы бацьку абед на далёкую будку, Вася часта бывае на станцыі.

С. 118:

[1—2] шасцяронак. // шасцерняў.

[8] Ва ўсялякім выпадку // Ва ўсякім выпадку

[12] намерзліся. // мёрзлі.

[16] У часопісе адсутнічае сказ: «Часта яны сядзелі, не здымаючы паліто».

[24] бярвенняў // бярвення

[26—27] У часопісе адсутнічае сказ: «Упаў, пакаціўся па падлозе і знік у шчыліне».

С. 119:

[18—19] і цяпер скача па лесе вольны, незалежны, і Васю добра ўспамінае. // і цяпер скача па лесе вольны, незалежны.

С. 121:

[10] болей // лепей

[18] ножык-кірпель // ножык-курпель

[30] асталіся // засталіся

С. 122:

[33] закладзен // закладзены

[33] І колькі тут усяго! // Чаго тут толькі няма!

[37] момант // скарб

С. 123:

[4—6] У Васі толькі падручнік арыфметыкі за першы клас, кніга з адарванымі вокладкамі // У Васі толькі падручнік арыфметыкі за першы клас, дзве чыгуначныя інструкцыі, кніга з адарванымі вокладкамі

С. 124:

[14] хто завітвае // які завітвае

С. 125:

[3] тушаную // смажаную

[28] бярвенняў // бярвення

С. 126:

[27] лістаць // гартаць

[27] У каторы раз // Каторы ўжо раз

С. 127:

[12] прысасалася // прыссалася

[27—29] У часопісе пасля сказа «Час ад часу торкаецца то ў школьную бібліятэку, то ў сельсавецкую, але яго не запісваюць» ідзе сказ: «Малы».

С. 128:

[24] а таксама новы старшыня сельсавета // і новы старшыня сельсавета

[26] носіцца на прыгожай кабыле // носіцца па мястэчку на прыгожай кабыле

[26] чырвона-гнядой // чырвона-гнедай

С. 129:

[1] штыхом // штыком

[17—18] выстройваюцца ў ланцуг, нагінаюцца // выстройваюцца ў ланцуг, як па камандзе, нагінаюцца

[33] але гучны голас // але зычны, гучны голас

С. 130:

[29—30] Колькі засеялі, загрузілі вагонаў, платформ драўнінай і якія бяруць абавязацельствы наперад. // Колькі чаго пасеялі, адправілі са станцыі вагонаў і якія бяруць абавязацельствы.

С. 131:

[13—14] і пад вокнамі, якія цяпер расчынены. // і пад вокнамі.

[15] Баба // Бабка

[24] жывы чалавек і... няма? // жыве чалавек і няма яго.

С. 132:

[12] дачцэ Аляксандры // дачцы Мані

[17—18] дзве насыпаныя з жоўтага пяску гурбачкі. // два насыпаныя з жоўтага пяску гурбочкі.

С. 133:

[3—4] азываюцца ластавяняты. // ціха папіскваюць маладзенькія ластаўкі.

[6] калясніцах // калясніках

[17] Рэкс // Рэкса

[25] ластавянят. // птушанят.

[28] шкрэбці // шкрэбсці

[32] Штосьці // Хтосьці

С. 134:

[7] Многа ўсялякага народу // Многа хто

[10] дуркаватае // дурнаватае

[14] бярвеннямі // бярвеннем

С. 135:

[7—8] Ва ўсіх іх тут // Ва ўсіх іх ужо

[13] яечак // яечачак

[25] статкі. // статак.

[28] пацёр // нацёр

[33—34] Вася тады начаваў у дзеда і памятае // Вася якраз тады начаваў у дзеда і добра памятае

[36] Дзям'ян Мачула // Мачула

С. 136:

[17] а ўжо потым // а потым

[23] а калі бацька // што, калі бацька

[34] яечак // яечачак

[37] калеснік // каляснік

С. 138:

[7] пранясеш // прынясеш

[25—28] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Вася цяпер не такі дурны, як у той час, калі не хадзіў яшчэ ў школу. Ён ведае: дробныя птушкі ў чалавека не жывуць, у няволі марнеюць і гінуць, таму ён іх не чапае. Прыходзіць толькі глядзець, як падрастаюць».

С. 139:

[30—31] старэйшая, чарнявая // старэйшая, высокая і чарнявая

[36] наводдаль шляху // наводдаль

С. 140:

[6—7] на шырокія, бясконцыя Далёкага і Блізкага Ляда пні // на пнёўе, якое разлягаецца на Далёкім і Блізкім Лядзе

[37] і шмат чаго іншага. // і шмат чаго іншага, не меней выдатнага.

С. 141:

[8] Звініць жаночымі, дзіцячымі галасамі бор // Звініць галасамі бор

[12] сівымі // шызымі

[13] вяршалін // вершалін

[13] вяршалінах // вершалінах

[18] белавата-сівай // белавата-шызай

[23] ведае і стары і малы. // ведае стары і малы.

[29] паласаваўся // ласаваўся

[37] агуркі-жаўтлякі. // агуркі-жаўклякі.

С. 142:

[23] абкладзен // абкладзены

[33] не дзярэцца // не староніцца

[34] Клімёнка // Свірыдзёнка

С. 143:

[7] астаўшыся // застаўшыся

С. 144:

[20] калі-нікалі // часам

[25—29] Страха правалена, сцены струхлелі, глядзіць будыначак на свет маленькімі падслепаватымі акенцамі. Відаць, і Мар’я ў гэтай хацінцы жыла, пакуль не прыняла да сябе Івана, але гэтага часу Вася ўжо не памятае. // Страха правалена, сцены струхлелі, глядзіць будыначак на свет маленькімі падслепаватымі акенцамі, і Мар’я ў гэтай хацінцы жыла, пакуль не прыняла да сябе Івана, але гэтага часу Вася ўжо не памятае.

[31] пашкуматала // пашкамутала

[32—34] У зб. «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» сказ «Па гэтай прычыне не ажаніўся, жыве бабылём, сам сабе варыць, мые палатаныя порткі, <...>» друкаваўся ў наступным варыянце: «Па гэтай прычыне не ажаніўся, жыве бабылём, сам сабе варыць, мые палатаныя порткі, варыць страву».

С. 145:

[18—19] будуць есці. // ядуць.

[32] дождж. // дожджык.

С. 146:

[9] Кротаву // Барсуковую

[10] прабіваецца // прабіваюцца

[17] Кротаву // Барсукову

[18] лапікі // лапінкі

С. 146—147:

[37—2] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Ім нават авалодвае жаданне адбіцца ад Валодзі. Тады хоць гэтым ён вытлумачыць сваю няўдачу перад маці і хлопцамі».

С. 148:

[3] Надзя… // Галя…

[14] бачацца // здаюцца

[20] з якой яны заедна // з якой заедна

С. 149:

[5—6] за імі агромністая чарга. // на іх агромністая чарга.

[13] шкафы // шкапы

[16] ён // Вася

С. 150:

[21] дый і сам // і дый сам

[25—26] размешчан // размешчаны

[32—33] З правага боку стаіць калгасная кантора — доўгае, нізкае, як адрына, збудаванне. // З правага боку стаіць калгасная кантора.

С. 151:

[16] ўпрытык прылягае // прылягае ўпрытык

[19] за хлебам. // па хлеб.

[25] за хлебам // па хлеб

[26—27] Бо яшчэ і плашку дроў украсці, і ўрокі трэба парабіць. // Бо яшчэ трэба і плашку дроў украсці, і ўрокі парабіць.

[37] як відаць // відаць

С. 152:

[20] жалудовага кофе // жалудовай кавы

[28] банкі // слоікі

[30—31] Выпадаюць дні, калі за камсой, сялёдкай, нават за цукрам няма чаргі. // Часцей і часцей выпадаюць дні, калі па камсу, сялёдку, нават па цукар няма чаргі.

[34] ці рубель // ці нават рубель

С. 153:

[23] бярвенняў // бярвення

[27—28] на Васевым // на яго ўласным

С. 154:

[19] пярэсты // стракаты

[25] пярэстыя // стракатыя

С. 155:

[11] акенцамі // аконцамі

[14] бярвенняў // бярвення

[31—32] чыгунак // чыгункі

[36] малы гарадок паміж Дняпром і Прыпяццю. // малы, размешчаны паміж Дняпром і Прыпяццю гарадок.

С. 156:

[1] Ёсць двухпавярховы дом // Ёсць нават двухпавярховы дом

[13—14] Страшэнная вонь // Страшэнны смурод

С. 158:

[15] шасцяронкі // шасцерні

[17] для гіганоў ужо здабыты // для іх здабыты

[28] магазінаў // магазынаў

С. 159:

[10] Драздовічыха. // Зяблікава.

[12] мужык // мужык Трахім

[12] Драздовіч // Трахім

[13] ціхі // ціхі і памяркоўны

[15] Дуня // Зяблічыха

[25] кірнатага // кірпатага

[25] Яўмена // Мацвея

С. 160:

[8—10] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Выкапалі некалькі чарапоў, іншых чалавечых касцей. Абмытыя дажджамі, яны доўга бялелі на старых могілках, пакуль іх нехта не прыкапаў зямлёй».

С. 161:

[6] апранут // апрануты

[6—7] і яшчэ на ягонай худой спіне // і толькі ля ягонай худой спіны

С. 162:

[5] ўзбуджаны. // ўзбуджаныя.

С. 163:

[26] Ведрыцы // Ведрыца

С. 164:

[1] пракладзен. // пракладзены.

[14] Анюта і Пеця // Насця і Пеця

С. 165:

[1] стулаў // крэслаў

[28] па падвоканню // па падваконню

С. 166:

[4] не мітусіцца. // не рвецца.

[23] будынкаў. // будынкаў, хат.

[31] ацалелі. // ўцалелі.

С. 167:

[18—19] хоча купіць // хоча ён купіць

[23] Зязюлю // Бабошку

[28—30] У часопісе пасля сказа «Цыганы з мядзведзем мусілі прыехаць з вёскі Макаў, якая з'яўляецца наступнай станцыяй на захад ад мястэчка» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Вася такі дачакаўся моманту, калі цыганы з вялікай сіняй будай паказаліся на макаўскім шляху і звярнулі на местачковы пераезд. За будай прывязаны за жалезны ланцуг сапраўды валюхае руды, трохі аблезлы мядзведзь. Ён зусім не злосны. Бліскучыя маленькія вочкі па куточках трохі закаравелі і здаюцца абыякавымі, і валюхае мядзведзь абыякава.

Закураныя, чорныя цыганы, толькі даехаўшы да пераезда, распускаюць коней, пускаюць на папас. Цыганкі кідаюцца па хатах: варажыць і выпрошваць харч. Тым часам малады, прыгожы цыган, пераканаўшыся, што хлапчукі, якія сабраліся ля пераезда, трымаюць у потных кулачках медзякі, пачынае спецыяльны спектакль для іх. Напачатку цыган кладзе на дол парваную шапку-казырок. І толькі пасля таго, як хлопцы кідаюць у шапку некалькі медзякоў, цыган падымае мядзведзя на заднія лапы і пачынае вадзіць па крузе. Нічога асаблівага мядзведзь не робіць: ходзіць, прысядае, ківае вялікай галавой. Нарэшце цыган згортвае цыгарку, запальвае, дае мядзведзю. Не зважаючы, што цыгарка запалена, мядзведзь яе з ахвотай з'ядае».

С. 168:

[1] Зязюля // Бабошка

[7] Зязюля // Бабошка

[25] Зязюлю. // Бабошку.

[32] лінейкі // лінейкі, транспарціры

[32] на полцы // на паліцы

[34] шлейкі-цясёмкі // шлейкі-тасёмкі

С. 169:

[4] над Васем. // перад Васем.

[7] Зязюля // Бабошка

[8—9] да Зязюлі // да Бабошкі

[12] Зязюля // Бабошка

[15] Зязюля // Бабошка

[19] Зязюля // Бабошка

[21] пад сорак. // па сорак.

[24] Прохар Прохаравіч // Аўдзей Аўдзеевіч

[33] кешкаецца ў малюсенькай крамцы // кошкаецца ў маленькай крамцы

[36] буйнога // буйнага

С. 170:

[19] цыгарку // чыгарку

С. 171:

[22] задаволен. // задаволены.

С. 172:

[1] стараўся // стараўся, змагаўся

[15] сургучныя // сургучовыя

[19] напісан // напісаны

[25] размешчан // размешчаны

[26—27] абмазан // абмазаны

[27] пабелен. // пабелены.

[28] За малако маці выдаюць макуху і адгон. // За малако маці налічваюць грошы, выдаюць макуху, вотруб’е і адгон.

[37] мала знаходзіцца // мала цяпер знаходзіцца

С. 173:

[14] ячмень ці проса. // трохі ячменю ці проса.

[20] Прохар Прохаравіч // Аўдзей Аўдзеевіч

[28—29] намазанага маслам белага хлеба. // намазанай маслам булкі.

С. 174:

[1—2] Прохара Прохаравіча. // Аўдзея Аўдзеевіча.

[23] Стрыжам. // Стрыжом.

С. 175:

[4] выклікваць // выгукваць

[13] справа не зусім бліскучая. // не зусім бліскуча.

[30] растайвае // растае

С. 177:

[6—7] бульбу, садавіну і агародніну. // бульбу, яблыкі, іншую садавіну і агародніну.

[15] на дзверках // на дзверцах

С. 178:

[6] на штабелях // на штабялях

[9] Дзялянку, на якой // Участак, на якім

[9—10] Васю такі паварот справы зусім не з рукі. // Васю гэта не падабаецца.

[12] не перарываюцца. // не надрываюцца.

[22] паваленых бярвенняў // паваленага бярвення

[37—38] растуць па восем і нават дзесяць штук // растуць кучна, па восем і нават дзесяць штук

С. 179:

[12] Хмуры // Пахмурны

[20] брат // стрыечны брат

С. 182:

[1—2] з тоўстых бярвенняў. // з тоўстага бярвення.

[35] ягоная, скінутая ім скура // ягоная скінутая скура

С. 183:

[23] ўскарабкваецца. // ўскараскваецца.

С. 184:

[7] адведзен // адведзены

[8] шафы // шкапы

[10] знывае // ные

[18] да кніжнай шафы // да кніжнага шкапа

С. 184—185:

[37—2] Палохаючыся вужоў, якія, калі ён грабе сена, выпаўзаюць з-пад самых грабель, хаваюцца ў кучах буралому, кустах, гідзячыся іхніх леташніх скурак, вельмі падобных на вужоў, толькі святлейшых. // Палохаючыся вужоў, якія, калі ён грабе сена, выпаўзаюць з-пад самых грабель.

С. 185:

[11] завязан // завязаны

[13—14] У часопісе адсутнічае сказ: «Некалькі кавалкаў такога сала, зашытага ў мяшэчак, з зімы вісела на гарышчы».

[23—26] У часопісе пасля сказа «Зялёная травяная блошка паўзе

па сцяблінцы, на суседняй былцы распраўляе свае чырванаватыя, з цёмнымі кропкамі крыллі, збіраючыся ўзляцець, божая кароўка» ідзе сказ: «У мястэчку гэтага прыемнага жучка завуць Пятро».

[26] Відаць, палахлівая // Ён, відаць, палахлівы

[31] крылцамі // крыльцамі

[33] гэтыя істоты // гэтыя астатнія істоты

С. 186:

[2] амаль не бачная вокам істота // амаль не бачная істота

[27] прыгожа // прыгожае

[35] колеру // колеры

С. 187:

[5] малінаўкі-заранкі // малінаўкі, заранкі

[12] спільваюць. // спілоўваюць.

[16] прыдатна // прыдатнае

[22—24] Агорне нагу чыстымі белымі анучамі, абуе лутавыя лапці і скача па двары, нібы шустрая, непаседлівая птушка сініца. // Агорне нагу чыстымі белымі анучамі, абуе лутавыя лапці і носіцца па двары. Спрытны і лёгкі на нозі.

С. 188:

[5—7] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Вельмі лёгка разведвае. Падымае галаву і бачыць: на спляценні галін ляжыць сетачка, складзеная з тоненькіх пруцікаў».

[28] трэба на кнігі. // трэба ашчаджаць.

С. 189:

[9] Драздовіча // Трахіма Зябліка

[10—11] і складзеныя з гладкай чырвонай цэглы. // і з гладкай чырвонай цэглы.

[22] над рачулкай Ведрыцай. // над Ведрыцай.

[34] змізарнела рачулка Ведрыца. // змізарнела Ведрыца.

С. 190:

[10] падобна // падобная

[17—18] будкі па ўсёй чыгунцы, відаць, аднолькавыя. // будкі па ўсёй чыгунцы аднолькавыя.

[26—27] дзе размешчана патрэбная мясціна. // дзе што размешчана.

С. 191:

[1—2] Як і ў мінулы раз // Як і мінулы раз

[22—23] агарода і могілак. // агарода.

[23—26] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Бралі адтуль зямлю і раўнялі вуліцу. На агародзе старога Свірыдзёнка запоўненая вадой копанка. Хлопцы ў копанцы купаюцца і нават ловяць баўтушай малых срабрыстых карасікаў».

[28] з сасновых, добра ачэсаных бярвенняў. // з сасновага, добра ачэсанага бярвення.

[33] Супроць // Супраць

С. 192:

[16] Коля скрашвае Васевы дні ў Бабінавічах. // Васю добра з ім у Бабінавічах.

[25] Нецікавая справа — збіранне чарніц. // Нецікава збіраць чарніцы.

[34] Але пакутлівая справа. // Але пакутліва ўсё гэта.

С. 193:

[3] чарніца ад жывата памагае // чарніцы ад жывата памагаюць

[8] даволі шырокая рэчка. // рэчка даволі шырокая.

[10] У часопісе адсутнічае сказ: «І розных ракавін на пясчаным пляжы колькі хочаш».

[12] выхад // выйсце

[30] Адна справа // Адно

[31] другая // другое

С. 194:

[15] У часопісе пасля сказа «Чыгуначны білет каштуе рубель пятнаццаць капеек» ідзе сказ: «Грошай Вася з дому не браў: ёсць толькі пятнаццаць капеек».

С. 195:

[24—25] насміхаюцца над ім // насміхаюцца з яго

С. 196:

[6—7] на бярвенні, з якіх // на бярвенне, з якога

С. 197:

[23] «Рабяты і звяраты». // «Рабяты і звераняты».

С. 198:

[16—17] з царкоўных бярвенняў // з царкоўнага бярвення

[22] бярвенняў // бярвення

С. 199:

[9] Лента // Стужка

[19—20] Кіно паказваюць у гарадку, у клубе прафтэхшколы, дзе вучаць на шафёраў. // Кіно паказваюць у «гарадку».

[22] засаджан // засаджаны

[25] напаўголасу // напаўголаса

[36] і ў чацвёрты раз. // і чацвёрты раз.

С. 200:

[12—15] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Бацька яе нібыта быў вельмі ўвішны: зімой, па найме купцоў, вазіў у Рэчыцу дровы, розныя бярвенні, абручы, арэхавыя кійкі нарыхтоўваў, таму цукар купляў цэлымі галовамі, селядцы бочкамі».

[33] высачэнны, як дуб. // высечаны як дуб.
С. 202:
[4] згаварваюцца // згаворваюцца
[10] са сваім фельчарам Прохарам Прохаравічам // са сваім фельчарам, цельпукаватым, маўклівым
[12—13] Зязюлю // Бабошку
[18] Зязюля // Бабошка
[25] Зязюля // Бабошка
[27] Зязюля // Бабошка
[32—35] Цётка Паліна смяецца як бы з галубіным вуркатаннем і адкідвае галаву: можа, дзеля таго каб госць лепш убачыў яе прыгожую шыю, арліны профіль твару, густыя залацістыя валасы. // Цётка Паліна смяецца як бы з галубіным вуркатаннем. Усё ў яе прыгожае: далікатны твар, шыя, густыя залацістыя валасы.
С. 203:
[23] каменні. / каменне.
[27] каменні // каменне
[29] пакладзен // пакладзены
[30] павукі-заклёпкі // павукі-наклёпкі
[38] патыхае // павявае
С. 204:
[4] парадкам // добра
С. 206:
[12] прывітая // прышчэпленая
[33] вяртаюцца // ідуць
С. 207:
[2] Гусцініхі. // Мамоніхі.
[2] У яе // У Мамоніхі
[5] не зварачаюць. // не звяртаюць.
[6] Гусцінішына // Мамонішына
[15] Паўла. // Паўла Чыркуна.
[30] рыхтуе // гатуе
С. 208:
[31] выдатная бяроза. // расце выдатная бяроза.
[33—34] Кісялёвы хлопцы Ілля ці Мікалай // Кісялёвы хлопцы
[36] сабака Рэкс, які ходзіць у двары // сука Рэкса, якая ходзіць у двары
С. 209:
[2—5] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Уступалі ў калгас дзядзька Платон, Адамаў бацька, Сямён Дрыц, бацька няўрымслівага Аркадзя, які забівае вандроўных сабак і наогул творыць што хоча, бацька Кузьмы Поклада, Цімоха. І ўсе павыходзілі адтуль».

[7] Убіўся // Убіўшыся
[10] сабакам Рэксам // сукай Рэксай
[24] слязіну за слязінай // слязіну са слязінай
[25] сын Івана Кісяля // сын Івана
[27] увагі // вагі

С. 210:

[1] наскробшы // нашкробшы
[28] Гваздзюк каля паркана рос. // Гваздзюкі каля паркана раслі.

С. 212:

[1] даруе і большыя злачынствы. // казённага дабра не шкадуе.
[3—4] Уволю // Заўсёды
[5] вастраверхім, падобным на чум шалашы. // вастраверхім шалашы.
[9] сплаўляе // спраўляе
[11] Насіць // Носяць
[12] загружаць // загружаюць
[18] па тры рублі // тры рублі
[24] прывёў трох // бярэ траіх
[30—31] Пад базай цесна, пыльна, туды ўсе, хто мае патрэбу, ходзяць апраўляцца. // Пад базай цесна, пыльна.

С. 213:

[4—5] У часопісе адсутнічае сказ: «Пяты клас гэта не чацвёрты і тым болей не трэці».
[11—15] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Школа размешчана якраз на тым месцы, дзе стаяла царква. Збудаваны з бярвення разабранай царквы клуб — доўгая, падобная на стадолу будыніна — размешчан якраз насупраць школы, па другі бок вуліцы».

С. 214:

[6] не на жарт // не на жарты
[11—12] на вельмі прыкметнай для вуліцы пабудовы. // на вельмі непрыкметнай вуліцы пабудавана.
[13—14] У часопісе пасля сказа «Яна пачала раённую газету выпускаць, якая называецца «Уперад да камунізму» ідзе сказ: «Гэта Васю дужа падабаецца».
[14] Вася // Ён
[22] ўзяў абавязацельствы. // ўзяў на сябе абавязацельствы.
[25—26] Заняткі ў пятым класе, як і ў чацвёртым, былі ў другую змену. // Заняткі ў пятым класе, як і чацвёртым,— у другую змену.
[26] цёплая, сонечная стаіць восень. // цёплая стаіць восень.

С. 215:

[5—6] Восень дорыць сонечныя дні — светлыя, незвычайныя, празрыстыя. // Дзень на дзень непадобны.

[7] крылляў // крылаў
С. 216:
[13] не прывітае // не прышчэпленае
С. 217:
[21—22] сядзеў у рыпучым жоўтым сядле, скураной тужурцы, нібы нейкі камісар. // сядзеў у рыпучым жоўтым сядле, нібы нейкі камісар.
С. 218:
[19] не ведаў. // не ведае.
[23] цёлку // цялушку
С. 221:
[28] Толькі іх трое // Іх толькі трое
С. 222:
[15] Адным // Аднастайным
[21] шчуплы // хударлявы
[37] акаляючы людзей свет // навакольны свет
С. 223:
[7] чорны турак // географ
[25—26] малы, як вузел, хлопец // шустры хлапчак
С. 224:
[11] ў час урокаў // на ўроках
С. 226:
[4] сігануць // сягануць
[17] Аляксандра // Маня
[19—20] ні са сваім братам, Васевым бацькам // ні з Васевым бацькам
[22—33] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад слоў «Жыць робіцца…» да слоў «…свайго роду».
С. 227:
[1] перасварылася. // пасварылася.
[5] Ляпіцай // Ляпіцам, ці Казлом
[16] Такое // Тое
[30] на прысядзібных участках. // на прысядзібным участку.
[32] Нарыхтоўваючы ёй корм // Дзякуючы карове
[36] бульбы // бульбу
С. 228:
[3—4] за дзецьмі прыглядае // дзяцей прыглядвае
[7] што навакольнае жыццё // таму што навакольнае жыццё
[24] праз плячо // цераз плячо
[25] прывабныя // вабныя
С. 229:
[11—13] У часопісе пасля сказа «Ён і скакаць умее з гарышча, з вышыні трох-чатырох метраў, і гэта не ўяўляе ніякай небяспекі» ідзе

наступны фрагмент тэксту: «Раніцай на лугавіне, дзе расце Цімохава вербалозіна, густа сцелецца туман, напаўзаючы на суседнія агароды, на якіх яшчэ не ссечана капуста, не выкапаны буракі. Узыходзіць сонца, паступова разганяючы туман. У другой палавіне дня светлай празрыстасцю поўняцца далі. У суботу, калі раней адпускаюць са школы, і ў нядзелю з Цімохавага лужка запускаюць хлопцы ў неба змеяў. Прыемна, хораша на душы, калі твой змей з прывязаным ільняным ці канапляным хвастом адразу рване ў неба, усё барзджэй і барзджэй набіраючы вышыню. Бывае, прывязаная да змея нітка парвецца, і ён, вольны і незалежны, шыбае проста пад воблакі. Ніткі не шкада. Ды і не знойдзеш такой трывалай, расцягнутай на дзвесце ці на трыста метраў ніткі, якая б вытрымала імклівага неспакойнага змея».

[17] астаўся // застаўся

[36] прыходзяць да яго дадому // прыходзяць да яго

С. 232:

[8] тых скупых аліментах // тыя скупыя аліменты

[30] камбат // камбрыг

С. 233:

[9] далёкі родзіч // сваяк

[17] кнігі Жуля Верна // гэтыя кнігі

[35] за ноч… // за адну толькі ноч…

С. 234:

[7] былой // ранейшай

[8] сябрамі // хлопцамі

[30] вучыцца добра, нягледзячы на тое, што бацька дырэктар. // вучыцца добра.

С. 235:

[17] Перэльман // Крук

[31—32] Хлопцы з вуліцы Чангарскай дывізіі даўно шастаюць у клуб курсантаў аўташколы // Хлопцы даўно шастаюць у клуб прафшколы

[33—34] каму-небудзь аднаму з вуліцы // каму-небудзь з вуліцы

С. 236:

[3] гуляюць // гуляць

С. 237:

[9] няўдзячных // няўдачных

С. 238:

[11] падгніўшыя // падгнілыя

[23] атапляе // ацяпляе

[25] пар // пара

С. 239:

[14] ўвесь зал. // ўсю залу.

С. 240:

[17] якіх і ў падручніку // якіх у падручніку

[18] вытрэшчвае. // шырока раскрывае.

С. 241:

[17—25] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад слоў «Дома паранейшаму…» да слоў «…сярэднюю школу».

С. 242:

[21] шапка-кучомка // шапку-кучомку

[27] завітае // завітвае

С. 243—244:

[35—1] Сямён Іванавіч Дарафеенка // Сямён Дарафеевіч Дарошка

С. 244:

[34] з царкоўных бярвенняў // з царкоўнага бярвення

С. 245:

[12] нешматслоўны // нешматслоўным

## 1993

### Падлетак (с. 245)

Друкуецца паводле зб. «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 1997.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1993, № 9.

Уваходзіла ў зб.: «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 1997; «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 2000.

У БДАМЛМ, у папцы часоп. «Полымя», захоўваецца фрагмент машынапісу аповесці «Падлетак» з аўтарскімі і рэдактарскімі праўкамі (ф. 42, воп. 1, адз. зах. 1065, арк. 1—50). На першай старонцы пазначаны год — 1993.

С. 245:

*«Звязда»* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 682).

*«Пионерская правда»* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 683).

С. 247:

*...друкавала раман Адамава «Тайна двух океанов».*— Адамаў Рыгор Барысавіч (сапр. Гібс; 1886—1945) — рускі савецкі пісьменнік-фантаст. Раман «Тайна двух акіянаў» напісаны ў 1938 г.

*Амундсен Руаль* (1872—1928) — нарвежскі палярны падарожнік і даследчык.

*Міклуха-Маклай Мікалай Мікалаевіч* (1846—1888) — расійскі падарожнік, прыродазнавец, антраполаг, этнограф. Вывучаў карэннае насельніцтва Паўднёва-Усходняй Азіі, Аўстраліі і Акеаніі.

*Пржавальскі Мікалай Міхайлавіч* (1839—1888) — расійскі географ, падарожнік, натураліст, даследчык Цэнтральнай Азіі.

*Стэнлі Генры Мортан* (сапр. Роўлендс Джон; 1841—1904) — англійскі падарожнік і журналіст, даследчык Афрыкі.

*Гама Васка да* (1469—1524) — партугальскі мараплавец, які ўпершыню праклаў марскі шлях з Еўропы ў Індыю.

*...пісалі пра чалюскінцаў і папанінцаў, пра пералёт праз Паўночны полюс Чкалава, Байдукова і Белякова, пра першых стаханаўцаў.*— Чалюскінцы — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 677); папанінцы — гераічныя даследчыкі Арктыкі. Паводле прозвішча І. Д. Папаніна (1894—1986), які разам з Э. Т. Крэнкелем, П. П. Ширшовым і Я. К. Фёдаравым у 1936—1937 гг. здзейсніў дзевяцімесячны дрэйф на льдзіне ад Паўночнага полюса да Грэнландыі, у 1937—1938 гг. быў начальнікам першай навукова-даследчай станцыі «Паўночны полюс»; Паўночны полюс, Чкалаў — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 680); Байдукоў Георгій Піліпавіч (1907—1994) — савецкі лётчык-выпрабавальнік, генерал-палкоўнік авіяцыі (1961), Герой Савецкага Саюза (1936), у якасці другога пілота экіпажа (камандзір — В. П. Чкалаў, штурман — А. В. Беляхоў) 18—20 чэрв. 1937 г. ажыццявіў беспасадачны пералёт Масква — Паўночны полюс — Ванкувер (штат Вашынгтон, ЗША); Белякоў Аляксандр Васілевіч (1897—1982) — савецкі лётчык-штурман, генерал-лейтэнант авіяцыі, Герой Савецкага Саюза (1936), у якасці штурмана экіпажа (камандзір — В. П. Чкалаў, другі пілот — Г. Ф. Байдукоў) 18—20 чэрв. 1937 г. ажыццявіў беспасадачны пералёт Масква — Паўночны полюс — Ванкувер (штат Вашынгтон, ЗША); стаханаўцы — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 681).

*...у Першую сусветную вайну, калі немцы захапілі Баранавічы...*— Першая сусветная вайна (1914—1918) — вайна паміж дзвюма кааліцыямі дзяржаў: Цэнтральнымі дзяржавамі (Германія, Аўстра-Венгрыя, Турцыя, Балгарыя); Антантай (Расія, Францыя, Вялікабрытанія, Сербія, пазней Японія, Італія, Румынія, ЗША і інш.), выкліканая барацьбой за сферы ўплыву, крыніцы сыравіны, сусветнае панаванне.

*Баранавічы цяпер пад Польшчай...*— Баранавічы адышлі да Польшчы ў 1921 г. па Рыжскім мірным дагаворы і ўваходзілі ў яе склад да 1939 г.

*Пілсудскі* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 681).

С. 248:

*...не аддаваў належнай увагі грамадзянскай вайне ў Іспаніі і яшчэ менш — італа-абісінскай вайне.*— Грамадзянская вайна ў Іспаніі (1936—1939) — канфлікт паміж прыхільнікамі Іспанскай рэспублікі (рэспубліканцамі) і паслядоўнікамі генерала Франсіска Франка (франкістамі), падтрыманага фашысцкай Італіяй і нацысцкай Германіяй, у выніку якога была ліквідавана Іспанская рэспубліка і скінуты рэспубліканскі ўрад, які карыстаўся падтрымкай СССР; італа-абісінская вайна (італа-эфіопская вайна; 1935—1936) — каланіяльная вайна фашысцкай Італіі супраць Абісініі (Эфіопіі), вынікам якой стала анексія апошняй.

*...ідуць жорсткія баі пад Уэскай, Сарагосай.*— маюцца на ўвазе падзеі грамадзянскай вайны ў Іспаніі (1936—1939); Уэска — горад на паўднёвым усходзе Іспаніі, цэнтр аднайменнай правінцыі; Сарагоса — горад на паўднёвым усходзе Іспаніі, сталіца аўтаномнага рэгіёна Арагон, правінцыі Сарагоса і аднайменнай акругі.

*Мюнхенская здрада* — маецца на ўвазе Мюнхенскае пагадненне 1938 г. па Чэхаславакіі. Заключана 29 верас., падпісана 30 верас. у Мюнхене (Германія) на канферэнцыі кіраўнікоў урадаў фашысцкай Германіі (А. Гітлер) і Італіі (Б. Мусаліні), Вялікабрытаніі (Н. Чэмберлен), Францыі (Э. Даладзье). Было вынікам прэтэнзій Германіі на Судэцкую вобл. Чэхаславакіі, населеную пераважна немцамі, і палітыкі «прымірэння» з Германіяй Вялікабрытаніі і Францыі перад Другой сусветнай вайной. Паводле Мюнхенскага пагаднення Чэхаславакія на працягу дзесяці дзён (1—10 кастр.) мусіла перадаць Германіі Судэцкую вобл.

*Савецкі Саюз* — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (СССР), шматнацыянальная федэратыўная дзяржава, якая існавала са снеж. 1922 г. да снеж. 1991 г. на тэрыторыі Усходняй Еўропы, паўночнай, частцы цэнтральнай і ўсходняй Азіі. СССР займаў $^1/_6$ частку заселенай сушы і быў найбуйнейшай паводле плошчы краінай свету на тэрыторыі, якую да 1917 г. займала Расійская імперыя без Фінляндыі, часткі Польскага царства і некаторых іншых зямель.

*Чэхаславакія* — дзяржава ў Цэнтральнай Еўропе ў 1918—1992 гг. на тэрыторыі сучасных Чэхіі і Славакіі.

*Бенеш Эдуард* (1884—1948) — дзяржаўны і палітычны дзеяч Чэхаславакіі. У 1918—1935 гг. міністр замежных спраў, у 1935—1938 гг. прэзідэнт Чэхаславацкай рэспублікі. У 1940—1945 гг. прэзідэнт Чэхаславацкай рэспублікі на эміграцыі (Лондан), пасля вызвалення Чэхаславакіі прэзідэнт рэспублікі (1946—1948).

*Чырвоная Армія* — Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія (РСЧА) — афіцыйная назва Савецкай Арміі ў 1918—1946 гг. З’яўлялася асноўнай часткай узброеных сіл Савецкай дзяржавы, у склад якіх таксама ўваходзілі Ваенна-Марскі флот, пагранічныя і ўнутраныя войскі.

*Гітлер* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 673—674).

*Чэмберлен Невіл* (1869—1940) — дзяржаўны і палітычны дзеяч Вялікабрытаніі, лідар кансерватыўнай партыі. У 1937—1940 гг. прэм’ер-міністр Вялікабрытаніі. Прыхільнік тактыкі ўступак гітлераўскай Германіі.

*Даладзье Эдуар* (1884—1970) — французскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, дыпламат. Прэм’ер-міністр Францыі ў 1933, 1934, 1938—1940 гг. У знешняй палітыцы прыхільнік кампрамісу з фашысцкай Германіяй.

*Уварванне Гітлера ў Аўстрыю, якое адбылося ў тым жа трыццаць восьмым годзе...*— германскія войскі акупавалі Аўстрыю 12 сак. 1938 г. 13 сак. быў апублікаваны закон, згодна з якім Аўстрыя была абвешчана адной з зямель Германскай імперыі пад назвай «Остмарк».

С. 248—249:

*...называе раманы Белы Ілеша «Ціса гарыць», Вілі Брэдэля «Выпрабаванне», Янкі Маўра «Аповесць будучых дзён», «Авадзень» Войніч...*— Ілеш Бела (1895—1974) — венгерскі пісьменнік. Раман «Ціса гарыць» напісаны ў 1929—1933 гг.; Брэдэль Вілі (1901—1964) — нямецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Раман «Выпрабаванне» напісаны ў 1934 г.; Маўр Янка — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 684). «Аповесць будучых дзён» напісана ў 1932 г.; Войніч Этэль Ліліян (1864—1960) — ірландская і англійская пісьменніца. Раман «Авадзень» напісаны ў 1897 г.

С. 249:

*«Прыгоды бравага салдата Швейка» Яраслава Гашака* — «Прыгоды бравага салдата Швейка» (1921) — нязакончаны сатырычны раман Я. Гашака; Гашак Яраслаў (1883—1923) — чэшскі пісьменнік.

*...удзельнічаў у паўстанні шуцбунда...*— Шуцбунд (*ням.* Schutzbund — Саюз абароны) — ваенізаваная арганізацыя Сацыял-дэмакратычнай партыі Аўстрыі (СДПА) у 1920—1930-я гг. Заснавана ў 1923 г. дзеля абароны дэмакратычнай рэспублікі і процістаяння прафашысцкаму нацыяналістычнаму ваенізаванаму аб’яднанню хаймвер. Шуцбунд быў асноўнай сілай сацыял-дэмакратычнага ўзброенага супрацьурадавага паўстання ў лют. 1934 г. у Вене, Лінцы

і іншых гарадах краіны. Аднак яго выступленне не было падтрымана СДПА і пасля некалькіх дзён жорсткіх баёў было задушана хаймверам і ўрадавымі войскамі. Многія члены шуцбунда былі вымушаны эміграваць з краіны.

*Чуткі ходзяць: у іспанскім небе змагаюцца з фашыстамі і савецкія лётчыкі. А колькі іншых добраахвотнікаў ваюе на іспанскай зямлі.*— У час грамадзянскай вайны ў Іспаніі 1936—1939 гг. рэспубліканцаў падтрымлівалі СССР (каля 3 тыс. добраахвотнікаў) і інтэрнацыянальныя брыгады — баявыя злучэнні добраахвотнікаў з 54 краін з агульнай колькасцю асабовага складу 35—50 тыс. чалавек.

С. 255:

*«Полымя рэвалюцыі»* — назва часопіса «Полымя» ў 1932—1941 гг.

*...сабрала фунтаў дзесяць масла...*— Фунт — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 674).

С. 256:

*...паслалі вучняў, у дзённіках якіх ніводнай «пяцёркі» няма.*— Пяцёрка — выдатная адзнака ў школе і ВНУ пры 5-бальнай сістэме ацэнкі ведаў, якая дзейнічала ў СССР, а таксама ў Беларусі да 2003 г., калі была ўведзена 10-бальная сістэма.

С. 258:

*Сталін Іосіф Вісарыёнавіч* (сапр. Джугашвілі; 1878—1953) — савецкі палітычны, дзяржаўны, ваенны і партыйны дзеяч. Генеральны сакратар Цэнтральнага камітэта Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) з 1922 г. З канца 1920 — пачатку 1930-х гг. і да самай смерці аднаасобна кіраваў Савецкай дзяржавай.

*Ленін Уладзімір Ільіч* (сапр. Ульянаў; 1870—1924) — расійскі і савецкі палітычны, дзяржаўны дзеяч, дзеяч міжнароднага рабочага руху, арганізатар і кіраўнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., адзін з ініцыятараў стварэння СССР.

С. 259:

*Корт, міткаль* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 673).

*...хацеў кнігу купіць, «Яўгенія Анегіна»...*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 684).

*Пушкін* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 682).

С. 261:

*Стаяў на бруку Краснай плошчы, глядзеў на абсаджаныя елкамі сцены Крамля...*— Красная плошча — галоўная плошча Масквы, размешчаная ў цэнтры радыяльна-кальцавой планіроўкі горада паміж Маскоўскім Крамлём (на захад) і Кітай-горадам (на ўсход); Крэмль (Маскоўскі Крэмль) — старажытная частка, галоўны

грамадска-палітычны і гістарычна-мастацкі комплекс цэнтра Масквы, месцазнаходжанне вышэйшых органаў дзяржаўнай улады СССР. З 1991 г. рэзідэнцыя прэзідэнта Расійскай Федэрацыі.

*Паўтаратонка* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 680).

С. 262:

*У Іспаніі перамог генерал Франка. Ягоныя войскі авалодалі Мадрыдам.*— Франка — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 685); Мадрыд — сталіца і найбуйнейшы горад Іспаніі. Войскі франкістаў без бою ўвайшлі ў Мадрыд 28 сак. 1939 г. 1 крас. рэжым Франка кантраляваў усю тэрыторыю Іспаніі і было абвешчана аб заканчэнні вайны ў краіне.

*І ўсё больш нахабна паводзіць сябе Гітлер. Мала яму Аўстрыі. Дык яшчэ адарваў частку Чэхаславакіі, а затым і ўсю праглынуў.*— 15 сак. 1939 г. чэхаславацкі прэзідэнт Э. Гаха падпісаў у Берліне прапанаваны А. Гітлерам акт аб скасаванні «нежыццяздольнай» Чэхаславакіі і нямецка-фашысцкія войскі акупавалі Чэхію і Маравію, дзе 16 сак. быў створаны гэтак званы Пратэктарат Багемія і Маравія.

*...Данцыг — вольны горад — аддзелены ад Германіі «польскім калідорам»...* — Данцыг — назва горада Гданьска (размешчаны на поўначы Польшчы) у 1308—1466 і 1793—1945 гг. Пасля Першай сусветнай вайны паводле Версальскага мірнага дагавора (1919) Данцыг атрымаў статус вольнага горада і знаходзіўся пад кіраваннем Лігі Нацый. Дагавор таксама перадаваў Польшчы тэрыторыі, якія давалі ёй доступ да Данцыга, гэтак званы Данцыгскі калідор (ці Польскі калідор), які аддзяляў Усходнюю Прусію ад Германіі.

С. 263:

*Ад Жыткавіч да местачковай станцыі сто сорак кіламетраў. Там мяжа, граніца з Польшчай.*— Каля Жыткавіч праходзіла мяжа паміж Савецкай дзяржавай і Польшчай, устаноўленая паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г.

*...з вуліцы імя Чангарскай дывізіі.*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678).

С. 265:

*...купляе «Праўду», «Огонёк».*— «Правда» — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 682); «Огонёк» — расійскі і савецкі грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі ілюстраваны часопіс. Першы нумар выйшаў 21 снеж. 1899 г. у Пецярбургу як штодзённы ілюстраваны літаратурна-мастацкі дадатак да газ. «Биржевые ведомости». У 1918 г. выпуск часопіса спыніўся і быў адноўлены ў 1923 г. у Маскве. Да 1940 г. выходзіла 36 нумароў у год, з 1940 г.— штотыднёвік.

С. 266:

*...перапісаўшы вядомую паэму Пушкіна і назваўшы яе «Руслан і Шыпіла»...*— маецца на ўвазе паэма А. С. Пушкіна «Руслан і Людміла» (1820).

С. 267:

*...падчас белапольскай акупацыі...*— маецца на ўвазе захоп войскамі Польшчы беларускіх зямель у час польска-савецкай вайны 1919—1921 гг.

С. 268:

*Пачынаецца ссяленне хутароў.*— працэс ссялення хутароў пачаўся ў СССР згодна з пастановай ЦК ВКП(б) і СНК «Аб ссяленні двароў калгаснікаў, якія пражываюць на былых участках хутарскога землекарыстання, у калгасныя сялібы» ад 27 мая 1939 г.

*Летась каля возера Хасан, сёлета паблізу ракі Халхін-Гол і возера Буір-Нур Чырвоная Армія разграміла японцаў.*— Хасан — возера ў Прыморскім краі Расіі. У 1938 г.— месца ваеннага канфлікту паміж савецкімі і японскімі ўзброенымі сіламі; Халхін-Гол — рака ў Манголіі і Кітаі, пачынаецца на заходніх схілах Вялікага Хінгана; Буір-Нур — возера на тэрыторыі Манголіі і Кітая, у якое ўпадае двума рукавамі рака Халхін-Гол. У 1939 г. тут адбыўся ваенны канфлікт паміж савецка-мангольскімі і японскімі войскамі, які завяршыўся поўным разгромам японскіх сіл.

С. 270:

*— Дагавор заключылі з Гітлерам,— паведамляе без усялякай прадмовы брыгадзір.— На станцыі па радзіву чуў...*

*— Можа, з англічанамі і французамі? — перапытвае Васіль.— Іх дэлегацыі прыязджалі ў Маскву.*— СССР заключыў з Германіяй 23 жн. 1939 г. дагавор аб ненападзе (гэтак званы пакт Рыбентропа — Молатава). У Маскве 12—25 жн. 1939 г. паміж ваеннымі дэлегацыямі СССР, Вялікабрытаніі і Францыі вяліся перамовы аб заключэнні дагавора пра ўзаемадапамогу, папярэднія кансультацыі па якіх праходзілі ў крас.— ліп. 1939 г. Аднак узаемная падазронасць і недавер бакоў перагаворнага працэсу завялі Маскоўскія перамовы ў тупік.

*Рыбентроп Іаахім* (поўнае імя Ульрых Фрыдрых Вільгельм Іаахім) *фон* (1893—1946) — міністр замежных спраў Германіі ў 1938—1945 гг., саветнік А. Гітлера па знешняй палітыцы. Ад імя Германіі падпісаў савецка-германскі дагавор аб ненападзе ад 23 жн. 1939 г.

*Молатаў Вячаслаў Міхайлавіч* (сапр. Скрабін; 1890—1986) — савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч, дыпламат. У 1930—

1941 гг. Старшыня Савета Народных Камісараў СССР. У 1939—1949 і 1953—1956 гг. міністр замежных спраў СССР. Ад імя Савецкага ўрада падпісаў савецка-германскі дагавор аб ненападзе ад 23 жн. 1939 г.

С. 271:

*І Польшча не хацела савецкія войскі прапусціць.*— На Маскоўскіх перамовах 1939 г. ключавым было пытанне аб праходжанні савецкіх войск для ўдзелу ў адбіцці магчымай германскай агрэсіі праз тэрыторыі саюзных Вялікабрытаніі і Францыі Польшчы і Румыніі, бо СССР не меў агульнай мяжы з Германіяй. Брытанскаму і французскаму ўрадам не ўдалося атрымаць згоду польскага і румынскага ўрадаў на пропуск савецкіх войск.

С. 273:

*Шчань* — бочка.

С. 278:

*Арыфмометр* — настольная (альбо партатыўная) механічная вылічальная машына, прызначаная для дакладнага памнажэння і дзялення, а таксама для складання і адымання.

*Германія напала на Польшчу. Англія аб'явіла Германіі вайну.*— Напад гітлераўскай Германіі на Польшчу адбыўся 1 верас. 1939 г. Вялікабрытанія аб'явіла вайну Германіі 3 верас. 1939 г.

*— Францыя заўтра ці паслязаўтра аб'явіць вайну Германіі. Пачнецца Другая сусветная...*— Францыя аб'явіла вайну Германіі 3 верас. 1939 г. Пачаткам Другой сусветнай вайны лічаць 1 верас. 1939 г.

С. 279:

*І вось сямнаццатае верасня. Чырвоная Армія пераходзіць граніцу з Польшчай, каб узяць пад ахову заходніх беларусаў і ўкраінцаў.*— СССР 17 верас. 1939 г. увёў свае войскі на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якія былі ў складзе Польшчы. Заходняя Беларусь аб'ядналася з БССР, Заходняя Украіна — з УССР.

*Заходняя Беларусь* — частка тэрыторыі Беларусі, якая ў выніку польска-савецкай вайны 1920 г. адышла да Польшчы паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. і знаходзілася ў яе складзе да верас. 1939 г. Тэрыторыя Заходняй Беларусі прыблізна адпавядае сучасным Брэсцкай, Гродзенскай, частцы Мінскай і Віцебскай абласцей.

*Броўка Пятрусь* (Пётр Усцінавіч; 1905—1980) — беларускі паэт і грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1962).

*«Палілі вас агнём, / Знішчалі вас мячом, / Не смелі гаварыць вы моваю сваёй...»* — радкі з верша «Заходнім беларусам» (17 верас. 1939 г.) П. Броўкі (1905—1980).

С. 280:

*Імклівa праходзіць Чырвоная Армія абсягі Заходняй Беларусі і Украіны. А там і ўстаноўчы сход галасуе за савецкую ўладу.*— Паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну працягваўся з 17 па 29 верас. 1939 г. Народны сход Заходняй Беларусі, які адбыўся 28—30 кастр. 1939 г. у Беластоку, прыняў дэкларацыю пра абвяшчэнне савецкай улады і ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР.

С. 281:

*Хутка немцы ўступілі ў Варшаву.*— гітлераўскія войскі ўвайшлі ў Варшаву 27 верас. 1939 г.

*Выбірае зарубежных пісьменнікаў — Ралана, Флабера, Бальзака, Гюго.*— Ралан Рамэн (1866—1944) — французскі пісьменнік, грамадскі дзеяч, музыказнавец; Флабер Гюстаў (1821—1880) — французскі празаік-рэаліст; Бальзак Анарэ дэ (1799—1850) — французскі пісьменнік, пачынальнік рэалізму XIX ст.; Гюго Віктор Мары (1802—1885) — французскі пісьменнік, кіраўнік і тэарэтык французскага рамантызму.

*Цішка Гартны* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 685).

*Зарэцкі Міхась* (сапр. Касянкоў Міхаіл Яўхімавіч; 1901—1937) — беларускі празаік, драматург, перакладчык, крытык. У 1936 г. арыштаваны па лжывым даносе. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Платон Галавач* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 685).

С. 282:

*Якуб Колас* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678).

*Шаўчэнка Тарас Рыгоравіч* (1814—1861) — украінскі пісьменнік, мастак, рэвалюцыянер-дэмакрат. Заснавальнік новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы.

*...нядаўна адшумеў шаўчэнкаўскі юбілей.*— маецца на ўвазе 125-годдзе з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі.

С. 283:

*«По долинам и по взгорьям»* — папулярны ваенны марш часоў грамадзянскай вайны. Словы і музыка П. Парфёнава.

*«Зашумели, заиграли провода»* — верагодна, маецца на ўвазе папулярная песня 1930-х гг. «Уздоўж вёскі», дзе былі наступныя радкі: «Загудели, заиграли провода,— / Мы такого не видали никогда». Словы М. Ісакоўскага, музыка У. Захарава.

*«Тачанка-ростовчанка»* — вядомая песня пра грамадзянскую вайну. Словы К. Лістова, музыка М. Рудэрмана.

*«Широка страна моя родная»* — вядомая патрыятычная савецкая песня, напісаная для фільма «Цырк» (1936) Г. Аляксандрава. Словы В. Лебедзева-Кумача, музыка І. Дунаеўскага.

*...прамова Сталіна на XVIII з'ездзе партыі.*— маецца на ўвазе справаздачны даклад І. В. Сталіна аб працы ЦК ВКП(б) 10 сак. 1939 г. на XVIII з'ездзе партыі, які праходзіў 10—21 сак. 1939 г. у Маскве.

С. 285:

*Бялая Падляска (Бяла-Падляска)* — горад на ўсходзе Польшчы, на рацэ Кшна, уваходзіць у Люблінскае ваяводства.

С. 286:

*пачынаюць працаваць абаронныя гурткі: па хімічнай абароне — ПВХО, санітарнай — ГСО...* — гурткі, якія займаліся падрыхтоўкай школьнікаў да здачы нарматываў на значкі «Гатоў да ПВХО» («Гатоў да проціпаветранай і проціхімічнай абароны») і «Гатоў да санітарнай абароны».

*«Варашылаўскі стралок»* — нагрудны значок для ўзнагароджвання трапных стралкоў. Палажэнне пра стварэнне звання «Варашылаўскі стралок» было зацверджана 29 кастр. 1932 г. Прэзідыумам Цэнтральнага Савета Асаавіяхіма СССР і РСФСР, а сам значок — 29 снеж. 1932 г.

*«Гатоў да працы і абароны»* — значок, які пацвярджае паспяховую здачу нарматываў па праграме ГПА — фізічнай падрыхтоўкі ў агульнаадукацыйных, прафесійных і спартыўных арганізацыях у СССР, якая існавала з 1931-га па 1991 г. і была галоўнай у сістэме патрыятычнага выхавання моладзі.

С. 287:

*А на свеце ўжо вялікая вайна.*— маецца на ўвазе Другая сусветная вайна (1939—1945).

*Савецкі Саюз мяжуе цяпер не з Польшчай, з самой Германіяй.*— пасля акупацыі Польшчы Германіяй і ўводу савецкіх войск на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны паміж СССР і Германіяй 28 верас. 1939 г. быў падпісаны дагавор аб дружбе і граніцы, які вызначыў савецка-германскую мяжу.

*«Истребители»* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 685).

*«Пройдем, товарищ, все бои и войны, / Не зная сна, не зная тишины. / Любимый город, можешь спать спокойно, / И видеть сны, и зеленеть среди весны...»* — радкі з песні «Любімы горад» у выкананні М. Бернэса. Словы Я. Далматоўскага, музыка М. Багаслоўскага. У

арыгінале гэтыя радкі гучаць крыху інакш: «Пройдет, товарищ, все бои и войны, / Не зная сна, не зная тишины. / Любимый город, может спать спокойно, / И видеть сны, и зеленеть среди весны...»

*...прачытаў кнігу «Гитлер против СССР» О. Генры...*— верагодна, маецца на ўвазе кніга «Гітлер супраць СССР» (Лондан, 1936; Масква, 1937) Эрнста Генры (сапр. Растоўскі Сямён Мікалаевіч; 1904—1990) — савецкага разведчыка, пісьменніка, журналіста, даваенныя творы якога публікаваліся ў Маскве як пераклады кніг «прагрэсіўнага» англійскага журналіста.

*...надрукаваны раман М. Шпанава «Дванаццаць гадзін вайны».*— Шпанаў Мікалай Мікалаевіч (1896—1961) — савецкі пісьменнік, сцэнарыст і публіцыст, аўтар ваеннай, дэтэктыўнай і фантастычнай прозы. Раман «Дванаццаць гадзін вайны» напісаны ў 1937 г.

С. 288:

*Нечакана выбухае новая вайна.*— 30 лістап. 1939 г. пачалася савецка-фінская вайна.

*Ленінград* — горад на паўночным захадзе Расіі, на ўзбярэжжы Фінскага заліва і ў вусці ракі Нявы. Заснаваны ў 1703 г. Пятром І і названы ў яго гонар Санкт-Пецярбургам. У гады Першай сусветнай вайны перайменаваны ў Петраград. Пасля смерці У. І. Леніна ў 1924 г. названы Ленінградам. З 1991 г. носіць ранейшую назву — Санкт-Пецярбург.

*Карэлія* — Рэспубліка Карэлія, у складзе Расійскай Федэрацыі. Мяжуе на захадзе з Фінляндыяй, на ўсходзе абмываецца Белым морам, на поўдні Ладажскім і Анежскім азёрамі. У час савецка-фінскай вайны — Карэльская Аўтаномная ССР.

С. 289:

*Лінія Манергейма* — сістэма фінскіх доўгатэрміновых фартыфікацыйных збудаванняў і загарод працягласцю 135 км на Карэльскім перашыйку ўздоўж мяжы з СССР. Пабудавана ў 1927—1939 гг. пры ўдзеле нямецкіх, англійскіх, французскіх і бельгійскіх спецыялістаў. Названа імем К. Г. Э. Манергейма (1867—1951) — фінскага дзяржаўнага і ваеннага дзеяча.

С. 290:

*...сапраўды дзіўна ідзе вайна. Праўдзівей кажучы, ніяк не ідзе. Франты нерухомыя.*— Пачатковы перыяд (з 3 верас. 1939-га па 10 мая 1940 г.) Другой сусветнай вайны на фронце ў Заходняй Еўропе характарызаваўся адсутнасцю актыўных баявых дзеянняў паміж англа-французскімі і германскімі войскамі. У гістарычнай літаратуры гэты перыяд атрымаў назву «дзіўная вайна».

*Французы схаваліся за лініяй Мажыно...*— Лінія Мажыно — сістэма доўгатэрміновых фартыфікацыйных умацаванняў і

загарод даўжынёй каля 400 км на паўночна-ўсходняй мяжы Францыі. Пабудавана ў 1929—1936 гг. (удасканальвалася да 1940 г.) паводле ініцыятывы А. Мажыно (1877—1932) — ваеннага міністра Францыі.
С. 291:

*Горш за ўсё, што фактычна церпіць паражэнне Чырвоная Армія, якая таўчэцца на Карэльскім перашыйку без ніякага руху наперад.*— Карэльскі перашыек — участак сушы паміж Фінскім залівам Балтыйскага мора і Ладажскім возерам. У час савецка-фінскай вайны на Карэльскім перашыйку вяліся найбольш цяжкія і кровапралітныя баі.
С. 300:

*Канчаецца нарэшце фінская вайна. Карэльскі перашыек з горадам Выбаргам становіцца савецкім.*— Спыненне савецка-фінскай вайны абвясціў падпісаны 12 сак. 1940 г. у Маскве мірны дагавор паміж СССР і Фінляндыяй. Паводле гэтага дагавора да СССР адышоў Карэльскі перашыек (гл. вышэй) з горадам Выбаргам (сёння — горад у Расіі, цэнтр раёна ў Ленінградскай вобл.).
С. 301:

*«Лінія Манергейма»* (1940) — савецкі дакументальны ваенны фільм рэжысёраў В. Бяляева і В. Салаўцова.
С. 304:

*...чытае «Жана Крыстофа» Рамэна Ралана.*— «Жан Крыстоф» (1904—1912) — раман-эпапея Р. Ралана (1866—1944); Рамэн Ралан — гл. вышэй камент. да с. 723.

*...прачытаў Стэндаля, Мапасана...* — Стэндаль (сапр. Бейль Анры Мары; 1783—1842) — французскі пісьменнік, пачынальнік класічнага рэалізму; Мапасан Гі (поўнае імя Анры Рэнэ Альбер Гі) дэ (1850—1893) — французскі пісьменнік, прызнаны майстар навелы.

*...чытае пра музыканта Жана Крыстофа...*— маецца на ўвазе Жан Крыстоф Крафт — галоўны герой рамана-эпапеі Р. Ралана «Жан Крыстоф» (1904—1912).

*...раман Флабера «Мадам Бавары».*— Флабер — гл. вышэй камент. да с. 723. Раман «Мадам Бавары» напісаны ў 1856 г.

*Эма Бавары* — галоўная гераіня рамана Г. Флабера «Мадам Бавары» (1856).
С. 307:

*ордэн «Знак Пашаны»* — дзяржаўная ўзнагарода ў СССР. Заснаваны ў 1935 г., у 1988 г. перайменаваны ў ордэн Пашаны.
С. 309:

*Нямецкія войскі, захапіўшы Бельгію і фактычна абышоўшы лінію Мажыно, урываюцца ў Францыю.*— Нямецкія войскі ўвайшлі

ў Бельгію 10 мая 1940 г., акт аб капітуляцыі краіны быў падпісаны 28 мая. Бельгійска-французскую мяжу гітлераўцы перасеклі 13 мая, абышоўшы лінію Мажыно з поўначы, прарваўшы французскую абарону ў раёне горада Седана.

*...англійскія войскі паспешліва эвакуіруюцца праз Дзюнкерк...*— Дзюнкерк — горад-порт у Францыі на беразе праліва Ла-Манш. З Дзюнкерка 26 мая — 4 чэрв. 1940 г. была праведзена марская эвакуацыя ў Вялікабрытанію англійскіх і часткі французскіх і бельгійскіх войск, блакаваных у раёне горада.

С. 311:

*...даматканыя андаракі, закручаныя на галовы на манер цюрбаноў хусткі-канаплянкі.*— Андарак — спадніца з шарсцяной ці паўшарсцяной саматканай тканіны ў падоўжныя ці папярочныя палосы, у краткі на вохрыстым, ружовым, вішнёвым, сінім, зялёным, серабрыста-белым, чорным тле. Выйшла з ужытку ў 1930-я гг.; цюрбан (турбан) — у народаў Азіі і Паўночнай Афрыкі галаўны ўбор у выглядзе палотнішча лёгкай, пераважна шаўковай тканіны, якую абгортваюць вакол галавы паверх валасоў; хустка-канаплянка — хустка з даматканага палатна, вырабленага з валакна канапель.

*Закон злучаных сасудаў* — адзін з законаў гідрастатыкі, згодна з якім узроўні аднародных вадкасцей у злучаных сасудах, калі лічыць ад найбольш блізкага да паверхні зямлі пункта, заўсёды роўныя.

*...пусцілі Гітлера ў Парыж...*— гітлераўскія войскі без бою занялі Парыж 14 чэрв. 1940 г.

*Напалеон увёў супраць Англіі кантынентальную блакаду, а напаў на Расію...*— Напалеон (Напалеон I Банапарт; 1769—1821) — французскі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец, першы консул Французскай Рэспублікі (1799—1804), імператар (1804—1814, 1815); кантынентальная блакада — эканамічная палітыка Францыі ў дачыненні да Вялікабрытаніі ў 1806—1814 гг. Абвешчана дэкрэтам імператара Напалеона I Банапарта ад 21 лістап. 1806 г. з мэтай зламаць супраціўленне Вялікабрытаніі ў барацьбе за гегемонію ў Еўропе і стварыць спрыяльныя ўмовы для развіцця французскай прамысловасці; Напалеон I з «Вялікай арміяй» уварваўся ў Расію 24 чэрв. 1812 г., пачалася вайна 1812 г.

С. 314:

*...апавяданне Якуба Коласа «У старых дубах».*— Якуб Колас — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678). Апавяданне «У старых дубах» напісана ў 1912 г.

*...ўрывак з аповесці таго ж Якуба Коласа «Дрыгва»...*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 684—685).

С. 324:

*...сустрэць гадавіну Вялікага Кастрычніка.*— маецца на ўвазе дзяржаўнае свята ў СССР — гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г. Адзначалася ў дзень здзяйснення Кастрычніцкай рэвалюцыі штогадова 7 і 8 лістап.

*Варашылаў Клімент Яфрэмавіч* (1881—1969) — савецкі партыйны, дзяржаўны і ваенны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1935).

*Кагановіч* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 681).

*...працуе ў Пінскай вобласці, недалёка ад былой граніцы.*— Пінская вобласць — адміністрацыйная адзінка ў БССР, якая існавала з 4 снеж. 1939-га па 8 студз. 1954 г. Утворана ва Усходнім Палессі, на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая адышла да СССР ад Польшчы ў 1939 г.

С. 326:

*Ляскоў Мікалай Сямёнавіч* (1831—1895) — рускі пісьменнік.

*Пісемскі Аляксей Феафілактавіч* (1821—1881) — рускі пісьменнік.

*Шэлер-Міхайлаў Аляксандр Канстанцінавіч* (сапр. Шэлер; 1838—1900, пісаў пад псеўданімам А. Міхайлаў) — рускі пісьменнік.

*Данілеўскі Рыгор Пятровіч* (1829—1890) — рускі і ўкраінскі пісьменнік і публіцыст, аўтар раманаў з гісторыі Расіі і Украіны XVIII—XIX стст.

*Гогаль* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 683).

*Тургенеў* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 684).

С. 327:

*...належала нэпману Руману.*— Нэпман — прыватны прадпрымальнік, гандляр у 1920-я гг. у Савецкай Расіі і СССР у перыяд нэпа.

С. 329:

*Бачыць сябе Васіль і студэнтам КІЖа (Камуністычнага інстытута журналістыкі)...*— КІЖ — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 681).

*...натыкаецца на томік Кнута Гамсуна...*— Гамсун Кнут (сапр. Кнуд Педэрсен; 1859—1952) — нарвежскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1920).

*Шолахаў* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 679—680).

*...зачаравалі раманы «Голад» і асабліва «Пан». Выдатна пачынаўся і трэці раман «Вікторыя»...*— «Голад» (1890), «Пан» (1894), «Вікторыя» (1898) — раманы К. Гамсуна (1859—1952).

С. 330:

*«Нива»* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 683).

*Асаавіяхім* — Таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву — масавая добраахвотная грамадская арганізацыя ў СССР у 1927—1948 гг., асноўнай задачай якой было распаўсюджванне ваенных ведаў сярод насельніцтва. У 1948 г. замест Асаавіяхіма створаны тры самастойныя таварыствы, якія ў 1951 г. аб'яднаны ў ДТСААФ.

С. 334:

*Днямі Молатаў ездзіў у Берлін, у Германію.*— Молатаў — гл. вышэй камент. да с. 721—722; Візіт В. М. Молатава ў Берлін адбыўся 12—13 лістап. 1940 г.

*Аляксандр Першы* (1777—1825) — расійскі імператар (1801—1825).

С. 336:

*Адкрываюцца школы фабрычна-заводскага навучання, розныя рамесныя вучылішчы.*— Школы фабрычна-заводскага навучання — ніжэйшыя прафесійныя навучальныя ўстановы ў СССР. Створаны ў 1940 г. з мэтай падрыхтоўкі рабочых масавых прафесій вытворчых спецыяльнасцей. У 1959—1963 гг. пераўтвораны ў прафесійна-тэхнічныя вучылішчы; рамесныя вучылішчы — прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы ў СССР для падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых, існавалі ў 1940—1959 гг. Пераўтвораны ў прафесійна-тэхнічныя вучылішчы.

*...раман Цішкі Гартнага «Сокі цаліны».*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 685).

*Міхась Чарот* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 685).

*Нацдэмы* (нацыянал-дэмакраты) — прыхільнікі кірунку грамадска-палітычнай думкі, які спалучае агульнадэмакратычныя ідэі і мэты з задачамі сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення прыгнечаных народаў. У сярэдзіне 1920-х гг. нацыянал-дэмакратызм быў абвешчаны «контррэвалюцыйнай плынню», «варожай антысавецкай ідэалогіяй і практыкай». У рамках барацьбы супраць нацдэмаў да крымінальнай адказнасці неабгрунтавана прыцягнуты і рэпрэсаваны многія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі.

*Астатніх пісьменнікаў, якіх ведае Васіль, нядаўна ўзнагародзілі. Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, Міхася Лынькова.*— Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678). Лынькоў Міхась (Міхаіл Ціханавіч; 1899—1975) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1962). У лют. 1939 г. Янка

Купала і Якуб Колас былі ўзнагароджаны ордэнам Леніна, Змітрок Бядуля і Міхась Лынькоў — ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

*Лермантаў Міхаіл Юр'евіч* (1814—1841) — рускі пісьменнік.

*...даведваецца пра армянскі народны эпас «Давід Сасунскі», паэму старажытнага грузінскага паэта Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры».*— «Давід Сасунскі» — сярэднявечны армянскі эпас, склаўся ў VII—X (не пазней XIII) стст.; Шата Руставелі (1160 ці 1166—1216) — грузінскі паэт і дзяржаўны дзеяч. Паэма «Віцязь у тыгравай шкуры» напісана, верагодней за ўсё, паміж 1189—1212 гг.

*Александроўская Ларыса Пампееўна* (1904—1980) — беларуская спявачка (сапрана), рэжысёр і грамадскі дзеяч. Народная артыстка Беларусі (1938), народная артыстка СССР (1940).

*...ў Маскве прайшла Дэкада беларускай літаратуры і мастацтва.*— Дэкада беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве адбылася ў чэрв. 1940 г.

С. 337:

*Прыпяць* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 679).

С. 339:

*...ў прыдняпроўскім гарадку, які яшчэ нядаўна быў цэнтрам Васілёвага раёна.*— маецца на ўвазе горад Рэчыца Гомельскай вобл. У Рэчыцкі р-н у 1927—1938 гг. уваходзілі Васілевічы — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678).

*Мао Цзэдун* (1893—1976) — кітайскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Адзін з заснавальнікаў Камуністычнай партыі Кітая. У 1943—1976 гг. Старшыня КПК.

С. 340:

*...у горадзе Ломжы, на цяперашняй граніцы з немцамі.*— Ломжа — горад у Падляскім ваяводстве Польшчы. У выніку далучэння Заходняй Беларусі да СССР у 1939 г. увайшоў у склад БССР і стаў цэнтрам Ломжынскага р-на Беластоцкай вобл. Тут праходзіла мяжа паміж СССР і Германіяй, вызначаная паводле германа-савецкага дагавора аб дружбе і граніцы ад 28 верас. 1939 г. У 1944 г. горад і раён былі вернуты ў склад Польшчы.

*Бярэзіна (Беразіна)* — рака ў Беларусі, у Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях, правы прыток Дняпра.

*«Любоў Яравая»* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 684).

С. 341:

*Споведзь* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 676).

С. 342:

*Новы год мястэчка адзначае па старым царкоўным календары...*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 676).

*Каляды* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 671).

С. 347:

*...школьнікі перахрысцілі Міколу ў Кузьму-Дзям'яна. Ёсць такое свята ў познюю восень...*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 672).

С. 349:

*...«Сымон-музыка», «У палескай глушы», «У глыбі Палесся» Якуба Коласа.*— Якуб Колас — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678); «Сымон-музыка» — паэма, напісаная ў 1911—1925 гг.; «У палескай глушы» (1923), «У глыбі Палесся» (1927) — аповесці Якуба Коласа, якія пазней увайшлі ў трылогію «На ростанях» (завершана ў 1954 г.) як першыя дзве часткі.

С. 352:

*ІФЛІ (МІФЛІ)* — Маскоўскі інстытут філасофіі, літаратуры і гісторыі імя М. Г. Чарнышэўскага — гуманітарная ВНУ ўніверсітэцкага тыпу, якая існавала ў Маскве з 1931-га па 1941 г. Быў вылучаны з Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта і пасля зноў з ім зліты.

С. 354:

*...зазірнуў у энцыклапедыю Бракгаўза і Эфрона, а таксама ў «Жывапісную Расію» Адама Кіркора...*— Бракгаўза і Эфрона энцыклапедычны слоўнік — найвялікшая руская дарэвалюцыйная ўніверсальная энцыклапедыя. Першае выданне ажыццёўлена ў 1890—1907 гг. у Пецярбургу ў 82 асноўных і 4 дадатковых паўтамах, другое выданне пад назвай «Новы энцыклапедычны слоўнік» выйшла ў 1911—1916 гг. (выдадзена 29 тамоў з 48); «Жывапісная Расія» — 19-томнае выданне, падрыхтаванае ў Расіі таварыствам М. В. Вольф у 70-х XIX ст. (выдадзена ў 1881—1901); Кіркор Адам Ганоры Карлавіч (1818—1886) — беларускі і польскі гісторык, археолаг, этнограф, выдавец, грамадскі дзеяч. Фундаментальная праца А. Кіркора, прысвечаная этнаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі, стала асновай трэцяга тома «Жывапіснай Расіі», які быў выдадзены ў 1882 г.

*...пачаў асушваць тутэйшыя некранутыя балоты пяхотны генерал Жылінскі.*— Жылінскі Іосіф Іпалітавіч (1834—1916) — расійскі і беларускі геадэзіст. У 1873—1898 гг. узначальваў Заходнюю экспедыцыю па асушэнні балот Палесся.

С. 355:

*...вывяржэнне вулкана Везувія і пагібель Пампеі.*— Везувій — дзеючы вулкан на поўдні Італіі; Пампеі — старажытны рымскі горад недалёка ад Неапаля, пахаваны пад пластом вулканічнага попелу ў выніку вывяржэння Везувія 24 жн. 79 г.

С. 356:

*...слоўнік у карычневай ледэрынавай вокладцы.*— маецца на ўвазе вокладка з ледэрыну, баваўнянай тканіны, вырабленай пад скуру.

*...праводзіў калектывізацыю, раскулачваў...*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 672—673).

*Быў зампалітам у МТС...*— Зампаліт — намеснік па палітычнай рабоце; МТС — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 675).

С. 358:

*Біном Ньютана* — формула раскладу адвольнай натуральнай ступені двучлена ў мнагачлен.

С. 359:

*Законы Кеплера* — тры законы руху нябесных цел, выведзеныя нямецкім астраномам, адным са стваральнікаў нябеснай механікі І. Кеплерам (1571—1630).

С. 360:

*ТАСС* (Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза) — цэнтральнае дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва СССР. Заснавана 10 чэрв. 1925 г. на базе Расійскага тэлеграфнага агенцтва. У 1992 г. на аснове ТАСС утворана Інфармацыйнае тэлеграфнае агенцтва Расіі (ІТАР-ТАСС).

*...Германія напала на Савецкі Саюз.*— Напад Германіі на СССР адбыўся а 4 гадзіне раніцы 22 чэрв. 1941 г.

С. 361:

*У нас жа толькі вопыт грамадзянскай вайны.*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 677).

*Брэсцкі напрамак* — стратэгічны ўчастак баявых дзеянняў у раёне Брэста ў чэрв. 1941 г.

С. 361—362:

*...на паўднёвым фронце, якім камандуе маршал Будзённы, немцы поспеху не маюць.*— Будзённы Сямён Міхайлавіч (1883—1973) — савецкі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1935), тройчы Герой Савецкага Саюза (1958, 1963, 1968). У ліп.— верас. 1941 г. быў галоўнакамандуючым войскамі паўднёва-заходняга напрамку (Паўднёва-Заходні і Паўднёвы франты).

С. 362:

*У Цімашэнкі на Заходнім фронце і ў Варашылава — на Паўночным справы, відаць, ідуць горш.*— Цімашэнка Сямён Канстанцінавіч (1895—1970) — дзяржаўны і ваенны дзеяч СССР. Маршал Савецкага Саюза (1940), двойчы Герой Савецкага Саюза (1940, 1965). У ліп.— верас. 1941 г. быў камандуючым Заходняга фронту, 10 ліп. адначасова ўзначаліў галоўнае камандаванне войскамі заходняга напрамку; Варашылаў (гл. вышэй камент. да с. 728) — у ліп.— жн. 1941 г. галоўнакамандуючы войскамі паўночна-заходняга напрамку.

С. 363:

*...Немцы ў Бабруйску...*— Гітлераўскія войскі ўвайшлі ў Бабруйск 28 чэрв. 1941 г.

*...немцы ўжо ў Бабруйску. Значыць, Мінск яны таксама захапілі.*— Мінск быў акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 28 чэрв. 1941 г.

*...тады Германія ваявала на два франты.*— маюцца на ўвазе Усходні фронт Першай сусветнай вайны, на якім Германія ваявала з Расіяй, і Заходні фронт Першай сусветнай вайны, дзе яе супернікамі былі Бельгія, Брытанская імперыя і Францыя.

С. 364:

*...гусенічны трактар «Чалябінец»...*— трактар, выраблены на Чалябінскім трактарным заводзе.

*...Бабруйск захоплены немцамі. Не толькі Бабруйск, а і некаторыя іншыя гарады. Напрыклад, Рагачоў.*— Рагачоў быў акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 2 ліп. 1941 г.

С. 365:

*Дняпро (Днепр)* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 672).

С. 369:

*Палессе* — гісторыка-культурная і фізіка-геаграфічная вобласць на тэрыторыі Палескай нізіны. Размяшчаецца на поўдні Беларусі і поўначы Украіны, часткова ахоплівае тэрыторыі Люблінскага ваяводства Польшчы і Бранскай вобл. Расіі.

*Ужо ідзе бітва за Смаленск, узнік Пскоўска-Порхаўскі напрамак, узяты пад Ленінградам горад Луга...*— Смаленск — горад у Расіі, цэнтр Смаленскай вобл. Бітва за Смаленск працягвалася з 10 ліп. па 10 верас. 1941 г.; Пскоўска-Порхаўскі напрамак — стратэгічны ўчастак баявых дзеянняў у раёне гарадоў Пскова і Порхава ў ліп. 1941 г.; Ленінград — гл. вышэй камент. да с. 725; Луга — горад у Расіі, адміністрацыйны цэнтр Лужскага

муніцыпальнага раёна Ленінградскай вобл. Быў заняты нямецка-фашысцкімі войскамі 24 жн. 1941 г.

*Мазыр і Гомель застаюцца савецкімі.*— Мазыр быў акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 22 жн. 1941 г., Гомель — 19 жн. 1941 г.

*Гарадавікоў Ока Іванавіч* (1879—1960) — савецкі кавалерыст, генерал-палкоўнік. Герой Савецкага Саюза (1958).

*Оўруч* — горад у Жытомірскай вобл. Украіны.

*Інфармбюро (Савецкае інфармацыйнае бюро)* — інфармацыйна-прапагандысцкае ведамства ў СССР, утворанае пры Савеце Народных Камісараў 24 чэрв. 1941 г. Асноўнай задачай бюро было складанне зводак для радыё, газет і часопісаў аб палажэнні на франтах, працы тылу, аб партызанскім руху ў час Вялікай Айчыннай вайны. Ліквідавана пастановай ЦК КПСС ад 5 студз. 1961 г.

С. 371:

*У прамове Сталіна, з якой правадыр выступіў месяц назад, сказана, што трэба знішчаць пасевы, спальваць іх, каб не засталіся ворагу.*— маецца на ўвазе прамова І. В. Сталіна па радыё 3 ліп. 1941 г.— першы зварот кіраўніка СССР да савецкага народа пасля пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

С. 374:

*Булак-Балаховіч, Стракапытаў* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 671).

*Шопа* — хлеў ці вялікі навес.

С. 376:

*Райземаддзел* — раённы зямельны аддзел.

*...савецкія войскі пакінулі Нікалаеў і Крывы Рог.*— Нікалаеў — горад на поўдні Украіны, адміністрацыйны цэнтр Нікалаеўскай вобл. Акупаваны гітлераўскімі войскамі 16 жн. 1941 г.; Крывы Рог — горад у Днепрапятроўскай вобл. Украіны. Здадзены Чырвонай Арміяй без бою і акупаваны нямецкімі войскамі 15 жн. 1941 г.

С. 377:

*...падвешана на таганах...*— Таганы — трыножнік для падвешвання ў полі калыскі, катла.

Варыянты і розначытанні:

Зб. «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» // *часоп. «Полымя»*

С. 248:

[1] сур’ёзна // усур’ёз

С. 249:

[11] ў тэхнікуме // ў тэхнікумах

С. 258:

[11] пасміхаецца. // насміхаецца.

С. 263:

[36] закіданы // закідан

С. 271:

[36] Аркадзя // Аляксея

С. 272:

[2] Аркадзя // Аляксея

С. 295:

[22] Ліда. // Ліда Галкоўская.

С. 307:

[22] мясцовая, раённая. // мясцовыя, раённыя.

С. 323:

[16] Апрануты // Апранут

## 1994

### Юнацтва (с. 377)

Друкуецца паводле зб. «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 1997.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1994, № 7.

Уваходзіла ў зб.: «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 1997; «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», 2000.

Аповесць пераклаў на рускую мову А. Ждан (Нёман, 1996, № 4).

С. 377:

*Яшчэ летам, пасля зацятых крывапралітных баёў на Карэльскім перашыйку...*— Карэльскі перашыек — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 726). На Карэльскім перашыйку ў чэрв.— ліп. 1944 г. вяліся баі паміж Чырвонай Арміяй і фінскімі войскамі.

С. 378:

*Волга* — рака ў еўрапейскай частцы Расіі, адна з найвялікшых рэк на зямным шары, найбуйнейшая ў Еўропе.

*Дняпро* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 672).

*Вісла* — найвялікшая рака Польшчы, найбольш працяглая рака басейна Балтыйскага мора.

*Дунай* — рака ў Еўропе, на тэрыторыі ФРГ, Аўстрыі, Славакіі, Венгрыі, Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі, Босніі і Герцагавіны,

Македоніі і Славеніі, Балгарыі, Румыніі, Украіны; у Еўропе другая паводле даўжыні пасля Волгі.

*Астраленка (Астралэнка)* — горад на паўночным усходзе Польшчы, на рацэ Нараў, уваходзіць у Мазавецкае ваяводства.

*Калварыя* — горад у Літве ў Марыямпальскім уездзе.

*Марыямпаль (Марыямпале)* — горад на паўднёвым захадзе Літвы, цэнтр Марыямпальскага павета.

*Усходняя Прусія* — герцагства Прусія, якое ўзнікла ў 1525 г. на частцы земляў Тэўтонскага ордэна, захопленых немцамі ў прусаў (адсюль назва), у 1618 г. аб'ядналася з Брандэнбургам. Аб'яднаная дзяржава атрымала назву Прусія, былое герцагства стала лічыцца Прусіяй Усходняй. У 1947 г. Усходняя Прусія ліквідавана, землі адышлі да СССР (пазней — Расіі), Літвы і Польшчы.

С. 379:

*...перанёс ленінградскую блакаду.*— Ленінградская блакада — ваенная блакада нямецкімі, фінскімі і іспанскімі войскамі ў час Вялікай Айчыннай вайны Ленінграда (гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 725). Доўжылася з 8 верас. 1941-га па 27 студз. 1944 г. (блакаднае кальцо было прарвана 18 студз. 1943 г.).

С. 380:

*Эсэсаўская дывізія* — дывізія ў складзе войскаў СС, якія ўзніклі на аснове СС (SS — скар.: ад *ням.* Schutzstaffel — ахоўныя атрады) — ваенізаваных фарміраванняў Нацыянал-сацыялісцкай германскай рабочай партыі. Часці войск СС бралі ўдзел як у ваенных дзеяннях, так і ў карных аперацыях.

*НЗ* — скар.: недатыкальны запас — сухі харчовы рацыён, які выдаецца вайскоўцам падчас спецыяльных заданняў, калі адсутнічае палявая кухня.

С. 381:

*...доўгія вёрсты...* Вярста — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 675).

С. 382:

Ржэў — горад у Расіі, цэнтр Ржэўскага р-на Цвярской вобл.

С. 383:

*Пэнша* — памочнік начальніка штаба.

С. 384:

*ПФС* — скар.: харчова-фуражнае забеспячэнне (з *рус.* продуктово-фуражное снабжение).

*Выбарг* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 726).

*Тарту* — горад у Эстоніі, на рацэ Эмайыгі.

С. 386:

*Прыгрэбнік* — прыбудоўка перад уваходам у пограб, склеп.

С. 387:

*«Дунайскія хвалі»* — вальс, напісаны румынскім кампазітарам сербскага паходжання І. Іванавічам у 1880 г., адна з найбольш вядомых і знакамітых румынскіх мелодый у свеце.

С. 388:

*Коварат* — вароты.

*Нямецка-рускі слоўнік Неслера* — нямецка-рускі слоўнік, складальнікам якога з'яўляецца А. Ф. Неслер. Упершыню апублікаваны ў Маскве ў выдавецтве «Советская энциклопедия» ў 1928 г. Затым неаднаразова перавыдаваўся.

*...ў чорнай ледэрынавай вокладцы...*— гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 732).

С. 389:

*Да прыходу Саветаў і пры немцах.*— маецца на ўвазе далучэння Літвы да СССР, якое адбылося ў 1940 г., і ў час акупацыі яе нямецка-фашысцкімі войскамі ў чэрв. 1941 — студз. 1945 гг.

*Малдавію вызвалілі...*— Малдавія была вызвалена ад гітлераўскіх войск 24 жн. 1944 г.

С. 390:

*ЧП* — скар.: надзвычайнае здарэнне (з *рус.* чрезвычайное происшествие).

С. 391:

*«Кацюша»* — папулярная руская песня. Словы М. Ісакоўскага, музыка М. Блантэра.

*Сувалкі* — горад на паўночным усходзе Польшчы, уваходзіць у Падляскае ваяводства.

*...чытаў кнігу пра Першую сусветную вайну.*— Першая сусветная вайна — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 716).

*Падзеі адбываліся пад гэтымі самымі Сувалкамі, Гумбіненам, на Мазурскіх балотах, дзе загінулі арміі Самсонава і Рэненкампфа.*— Гумбінен — да 1946 г. назва горада Гусева ў Калінінградскай вобл. Расіі; Мазурскія балоты — маецца на ўвазе раён Мазурскіх азёр на паўночным усходзе Польшчы, да 1945 г. на тэрыторыі Усходняй Прусіі; Самсонаў Аляксандр Васілевіч (1859—1914) — рускі дзяржаўны і ваенны дзеяч; Рэненкампф Павел Карлавіч фон (1854—1918) — рускі ваенны дзеяч. У раёне Мазурскіх азёр у жн.— верас. 1914 г. ішлі кровапралітныя баі паміж рускімі і германскімі войскамі, у выніку якіх 1-я расійская армія пад

камандаваннем П. К. Рэненкампфа і 2-я расійская армія пад камандаваннем А. В. Самсонава пасля першых поспехаў пацярпелі цяжкае паражэнне і адступілі.

С. 392:

*Уласаўцы* — салдаты і афіцэры, што ваявалі на баку гітлераўскіх войск у складзе «Рускай вызваленчай арміі» пад камандаваннем А. А. Уласава (1901—1946), былога генерал-лейтэнанта Чырвонай Арміі, які ў ліп. 1942 г. трапіў у палон.

*Сталін* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 719).

*Львоў* — горад ва Украіне, цэнтр Львоўскай вобл.

*Кіеў* — горад, сталіца Украіны, цэнтр Кіеўскай вобл., на рацэ Дняпро.

С. 393:

*...з двайнога Кіеўскага акружэння выбрацца...*— Кіеўскае акружэнне — адно з найбольш маштабных і крывавых акружэнняў Чырвонай Арміі нямецка-фашысцкімі войскамі ў жн.— верас. 1941 г. у выніку бітвы пад Кіевам. Толькі частка савецкіх воінаў выйшла з акружэння, многія загінулі або трапілі ў палон.

*...злучыліся з Чырвонай Арміяй...*— Чырвоная Армія — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 718).

*...на станцыі Фаянсава...* — маецца на ўвазе станцыя Фаянсавая — вузлавая чыгуначная станцыя ў г. Кіраве.

С. 394:

*...з прычэпленымі, прыкрытымі брызентам «кацюшамі».*— «Кацюша» — народная назва баявых машын рэактыўнай артылерыі ў Вялікую Айчынную вайну. Мяркуецца, што паходжанне назвы звязана з заводскай маркай (літара «К»), якая была на машыне, і з аднайменнай папулярнай песняй.

С. 395:

*...няўдалае наступленне пад Вуоксай.*— Вуокса — найбуйнейшая рака Карэльскага перашыйка. У чэрв.— ліп. 1944 г. савецкія войскі ліквідавалі фінскі плацдарм на паўднёвым беразе Вуоксы, фарсіравалі раку і захапілі плацдарм на яе паўночным беразе, аднак цалкам зламаць абарону праціўніка і развіць наступленне на Карэльскім перашыйку не ўдалося.

*...прадстаўлялі да звання Героя Савецкага Саюза.*— Герой Савецкага Саюза — ганаровае званне ў СССР у 1936—1991 гг., найвышэйшая ступень адзнакі за асабістыя ці калектыўныя заслугі, звязаныя са здзяйсненнем гераічнага подзвігу. Зацверджана пастановай ЦВК СССР ад 16 крас. 1934 г.

С. 396:

*Т-34* — савецкі сярэдні танк перыяду Вялікай Айчыннай вайны, выпускаўся серыйна з 1940 г., з 1944 г. стаў асноўным танкам Чырвонай Арміі. Самы масавы сярэдні танк Другой сусветнай вайны.

С. 397:

*Сталінград* — у 1925—1961 гг. назва г. Валгаграда на паўднёвым усходзе еўрапейскай часткі Расіі (да 1925 г. меў назву Царыцын).

*Сібір* — большая частка азіяцкай тэрыторыі ў Расійскай Федэрацыі, якая распасціраецца ад Урала на захадзе да хрыбтоў ціхаакіянскага водападзелу на ўсходзе і ад Паўночнага Ледавітага акіяна на поўначы да стэпаў Казахстана і мяжы з Цэнтральнай Азіяй на поўдні.

*Арол* — горад у Расіі, цэнтр Арлоўскай вобл., на рацэ Ака.

*Бранск* — горад у Расіі, цэнтр Бранскай вобл., на рацэ Дзясна.

*Харкаў* — горад ва Украіне, цэнтр Харкаўскай вобл., у сутоках рэк Харкаў, Лопань і Уда.

С. 398:

*«В тумане тысячелетий»* (1902) — аповесць нямецкага пісьменніка-фантаста К. Ласвіца (1848—1910).

*«Война со славой неразлучна, / Нет в мире лучше дел войны, / Кто не был ранен, прожил скучно, / Как осень, дни его темны».*— словы з аповесці «У далечыні стагоддзяў» (1901) рускага пісьменніка і журналіста А. І. Красніцкага (1866—1917), надрукаванай пад псеўданімам Аляксандр Лаўроў. У арыгінале гэтыя радкі гучаць крыху інакш: «С войною слава неразлучна, / Нет в мире лучше дел войны... / Кто не был в битвах — прожил скучно! / Как осень дни его темны!»

*Я чытаў раман Рэмарка — «На Заходнім фронце без перамен».*— Рэмарк Эрых Марыя (1898—1970) — нямецкі пісьменнік. Раман «На Заходнім фронце без перамен» напісаны ў 1929 г.

С. 399:

*...шуцманы з атрада СД...* — Шуцман (*ням.* Schutzmann) — паліцэйскі; *СД* (SD — скар. ад *ням.* Sicherheitsdienst des Reichsführers SS — служба бяспекі рэйхсфюрэра СС) — служба бяспекі і палітычнай разведкі (шпіянажу) унутры СС, якая дзейнічала ў межах Нацыянал-сацыялісцкай партыі (НСДАП) у час дыктатуры гэтай партыі ў Германіі. Заснавана ў 1931 г. Г. Гімлерам як служба разведкі, з верас. 1932 г. называлася СД.

С. 405:

*Герынг Герман* (1893—1946) — палітычны, дзяржаўны і ваенны дзеяч Германіі, адзін з галоўных нацысцкіх злачынцаў Другой сусветнай вайны. У 1933—1945 гг. прэм’ер-міністр Прусіі, рэйхсміністр авіяцыі. Рэйхсмаршал (1940). З 1934 г. імперскі ляснічы Германіі. Паводле загаду А. Гітлера 23 крас. 1945 г. пазбаўлены ўсіх званняў і пасад.

С. 406:

*Смерш* — скар.: ад «Смерць шпіёнам!» — назва шэрагу незалежных адна ад адной контрразведвальных арганізацый у Савецкім Саюзе ў час Другой сусветнай вайны.

С. 407:

*«Герман Герынг»* — элітнае падраздзяленне люфтвафе, якое асабіста падпарадкоўвалася рэйхсмаршалу Г. Герынгу. Створанае на базе паліцэйскага батальёна, за перыяд свайго існавання было разгорнута ў танкавы корпус. Адна з найбольш дзейсных ваенных сіл нацысцкай Германіі.

С. 410:

*Прачытаў два тамы падручніка па нямецкай арміі, які напісаў Шванебах...*— маецца на ўвазе «Дапаможнік па нямецкім ваенным перакладзе» (Масква, 1943—1944) — падручнік для ваенных перакладчыкаў Б. Э. Шванебаха; Шванебах Барыс Эмануілавіч (1903—1981) — расійскі перакладчык і выкладчык.

С. 413:

*Кант Імануіл* (1724—1804) — нямецкі філосаф, родапачынальнік нямецкага класічнага ідэалізму.

С. 415:

*...у камандзірскай дыяганалевай гімнасцёрцы...*— маецца на ўвазе гімнасцёрка, пашытая з дыяганалю, тоўстай бавоўнянай ці шарсцяной тканіны з рубчыкамі, якія ідуць па касой лініі.

*Сталінагорск* — у 1933—1961 гг. назва горада Новамаскоўска ў Тульскай вобл. Расіі (да 1933 г. меў назву Бобрыкі).

*...мусілі праверыць у Сталінагорскім лагеры-фільтры.*— маецца на ўвазе праверачна-фільтрацыйны лагер № 283 НКУС СССР у Сталінагорску — спецустанова для праверкі асоб, якія былі ў нямецкім палоне ці на акупаванай тэрыторыі.

С. 416:

*Волагда* — горад у Расіі, цэнтр Валагодскай вобл.

*...у камунальнай кватэры на Малой Ардынцы.*— Малая Ардынка — вуліца ў раёне Замаскварэчча, у цэнтры Масквы.

*«Фронт»* (1943) — чорна-белы ваенны мастацкі фільм, зняты рэжысёрамі братамі Васільевымі паводле аднайменнай п'есы А. Карнейчука.

*«Капітал» Карла Маркса* — «Капітал» (1867) — галоўная праца К. Маркса па палітычнай эканоміі, якая ўтрымлівае крытычны аналіз капіталізму; Маркс Карл (1818—1883) — нямецкі мысліцель, грамадскі дзеяч, рэвалюцыянер, заснавальнік марксізму.

*Медаль «За адвагу»* — дзяржаўная ўзнагарода СССР. Заснаваны 17 кастр. 1938 г. для ўзнагароджвання воінаў Чырвонай Арміі, Ваенна-Марскога Флоту і пагранічнай аховы за асабістую мужнасць і адвагу ў баях з ворагамі Савецкага Саюза. Пасля распаду СССР быў нанова заснаваны ў сістэмах узнагарод Расіі і Беларусі.

С. 417:

*Уладзівасток* — горад, цэнтр Прыморскага краю, у Расіі. Размешчаны на паўвостраве Мураўёва-Амурскага, вакол бухты Залаты Рог і ўздоўж усходняга ўзбярэжжа Амурскага заліва Японскага мора.

*Каўнас* — другі паводле велічыні і значэння горад Літвы. Размешчаны на рацэ Нямунас (Нёман), пры ўпадзенні ракі Нярыс (Вілія).

*Вільнюс* — сталіца Літвы.

С. 418:

*Бахмач* — горад ва Украіне, у Чарнігаўскай вобл., размешчаны на рацэ Барзенка.

*Канатоп* — горад у Сумскай вобл. Украіны.

С. 419:

*Роўна* — горад, цэнтр Ровенскай вобл. ва Украіне, на рацэ Вусце (басейн ракі Прыпяць).

*Кох Эрых* (1896—1986) — дзяржаўны і партыйны дзеяч нацысцкай Германіі. У 1928—1945 гг. гаўляйтар, з 1933 г. і оберпрэзідэнт Усходняй Прусіі, у 1941—1944 гг. рэйхскамісар Украіны.

*Сендзішуў* — горад у Польшчы, у Свентакшыскім ваяводстве.

*Сандамірскі плацдарм* — аператыўны плацдарм савецкіх войск на левым беразе ракі Вісла ў раёне горада Сандамір, захоплены войскамі 1-га Украінскага фронту ў ходзе Львоўска-Сандамірскай аперацыі 1944 г.

С. 420:

*«Віраж»* — радыёпрыёмнік, які выпускаўся ў гады вайны на Аляксандраўскім радыёзаводзе (Уладзімірская вобл.), эвакуіраваным у Казахстан, у горад Петрапаўлаўск.

*...галоўнага камандавання вермахта...*— Вермахт (*ням.* Wehrmacht) — афіцыйная назва ўзброеных сіл фашысцкай Германіі ў 1935—1945 гг.

*«Das Oberkommando der Wehrmacht gibt bekannt...»* — *з ням.*: «Галоўнае камандаванне вермахта паведамляе...»

С. 421:

*Сярэдняя Азія* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678).

С. 422:

*«Выстрал»* — вышэйшыя афіцэрскія ордэнаў Леніна і Кастрычніцкай рэвалюцыі Чырванасцяжныя курсы імя Маршала Савецкага Саюза Б. М. Шапашнікава, ваенна-навучальная ўстанова ва Узброеных Сілах СССР і Расіі. Створаны ў 1918 г., у 2009 г.— расфарміраваны. Праводзілі перападрыхтоўку каманднага і палітычнага складу сухапутных войск у галіне тактыкі, стралковай справы, методыкі тактычнай і баявой падрыхтоўкі.

*«Красная звезда»* — газета, створаная паводле рашэння Палітбюро ЦК РКП (б) ад 29 ліст. 1923 г. як друкаваны орган наркамата абароны СССР па ваенных справах (у наступным — Міністэрства абароны СССР). Першы нумар выйшаў 1 студз. 1924 г. З 1991 г.— газета Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі. У гады Вялікай Айчыннай вайны была адным з вядучых савецкіх выданняў.

С. 423:

*Палтава* — горад ва Украіне, цэнтр Палтаўскай вобл., на рацэ Ворскла.

*Чэхаславакія* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 717).

*Бімбер* — з *пол.* самагон.

С. 425:

*...у Ардэнах немцы на злом галавы зноў пагналі саюзнікаў...*— Ардэны — узвышша, заходні працяг Рэйнскіх Сланцавых гор на поўдні Бельгіі, часткова ў Францыі і Люксембургу. У раёне Ардэнаў (Бельгія) у снеж. 1944 — студз. 1945 г. адбылося контрнаступленне нямецкіх армій з мэтай разграміць амерыканска-англійскія войскі і дасягнуць пералому ў Другой сусветнай вайне на карысць Германіі. У выніку яго саюзныя войскі панеслі вялікія страты і адступілі.

С. 427:

*Марзянка (код Морзе, азбука Морзе)* — прыняты ў тэлеграфіі спосаб знакавага кадавання: прадстаўленне літар, лічбаў, знакаў прыпынку і іншых сімвалаў паслядоўнасцю сігналаў — кароткачасовых (кропка) і працяглых (працяжнік). Названы ў гонар амерыканскага вынаходніка і мастака С. Морзе.

С. 428:

*...не толькі пра Усходні, а і пра Заходні фронт...*— Усходні фронт — баявыя дзеянні ва Усходняй Еўропе ў час Другой сусветнай вайны; Заходні фронт — баявыя дзеянні ў час Другой сусветнай вайны ў Заходняй Еўропе і Атлантыцы.

*Атлантыка (Атлантычны акіян)* — другі паводле велічыні акіян Зямлі пасля Ціхага, размешчаны паміж Грэнландыяй і Ісландыяй на поўначы, Еўропай і Афрыкай на ўсходзе, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкай на захадзе і Антарктыдай на поўдні.

*«Студэбекер»* — грузавыя аўтамашыны УС-6, што выпускаліся амерыканскай фірмай «Студэбекер» і пастаўляліся ў Савецкі Саюз з 1941 г.

*...пры прарыве першай лініі Манергейма...*— Лінія Манергейма — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 725).

С. 430:

*Хмельнік* — горад у Польшчы, у Свентакшыскім ваяводстве.

*Кельцэ (Кельцы)* — горад на поўдні Польшчы, адміністрацыйны цэнтр Свентакшыскага ваяводства.

*Астравец* — маецца на ўвазе Астровец-Свентакшыскі — горад на паўднёвым усходзе Польшчы, у Свентакшыскім ваяводстве.

*Рыбнік* — горад у паўднёвай Польшчы, у Сілезскім ваяводстве.

С. 431:

*Вызвалена Варшава.*— Варшава была вызвалена савецкімі войскамі 17 студз. 1945 г.

*Чэнстахоў (Чанстахова)* — горад на поўдні Польшчы, у Сілезскім ваяводстве, на рацэ Варта.

*Кракаў* — горад на поўдні Польшчы, у верхнім цячэнні ракі Вісла. Адміністрацыйны цэнтр Малапольскага ваяводства.

*Сілезія* — гістарычная славянская вобласць у верхнім і сярэднім цячэнні ракі Одра (Одэр). Большая частка ў складзе Польшчы. Паўднёвая Сілезія часткова ў складзе Чэхіі.

*Сілезія — нямецкая тэрыторыя, хоць некалі належала палякам.*— З 990-га па 1335 г. Сілезія была ў складзе Польшчы (дзяржавы Пястаў). У сярэдзіне XVII ст. большая частка Сілезіі ўвайшла ў Прусію, а ў 1871 г.— у Германскую імперыю.

*Захопліваем Гляйвіц. Горад, які нейкім чынам звязаны з пачаткам Другой сусветнай вайны. Бо, згодна з нямецкімі паведамленнямі, менавіта ў Гляйвіцы палякі нібыта напалі на нямецкую радыёстанцыю, перабілі ахову і завалодалі радыёстанцыяй. Напад*

*Германіі на Польшчу быў, такім чынам, як бы вымушаным.*— маецца на ўвазе Гляйвіцкі інцыдэнт (Гляйвіцкая правакацыя) — аперацыя пад кодавай назвай «Кансервы», якая была праведзена СС у горадзе Гляйвіц (цяпер горад Глівіцы, у Сілезскім ваяводстве Польшчы) у межах яшчэ больш маштабнай «аперацыі Гімлер» і паслужыла нагодай для нападу Германіі на Польшчу 1 верас. 1939 г., што стала пачаткам Другой сусветнай вайны.

С. 434:

*Валагодская вобласць* — вобласць у складзе Расіі. Цэнтр — горад Волагда. Размешчана на паўночным захадзе Усходне-Еўрапейскай раўніны.

С. 436:

*Одэр (Одра)* — рака ў Чэхіі, Польшчы і Германіі.

С. 437:

*Верхняя Сілезія* — гістарычны і геаграфічны рэгіён на паўночным усходзе Сілезіі.

*Судэты* — горы ў Цэнтральнай Еўропе, на тэрыторыі Германіі, Польшчы і Чэхіі.

*Інгермаландцы* — прадстаўнікі аднаго з фіна-ўгорскіх народаў, якія жывуць на тэрыторыі Ленінградскай вобл. Расіі.

С. 438:

*Беразіна* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 730).

С. 440:

*...бачу ў шкапе «Вікторыю» Кнута Гамсуна.*— гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 729).

С. 441:

*...раённая кантора наркамзага.*— Наркамзаг — Народны камісарыят загатовак.

С. 442:

*ПНШ-два* — гл. вышэй камент. да с. 736.

С. 445:

*...мястэчка вызваляла Сталінградская дывізія і якраз у той дзень, калі год назад вакол Сталінграда замкнуліся савецкія клешчы.*— Сталінградская дывізія — 181-я Сталінградская ордэна Леніна стралковая дывізія Чырвонай Арміі. Утворана 5 лют. 1943 г. шляхам перайменавання 10-й стралковай дывізіі ўнутраных войск НКУС СССР і перадачы яе ў склад РСЧА. Васілевічы былі вызвалены 19 лістап. 1943 г., праз год пасля пачатку контрнаступлення Чырвонай Арміі пад Сталінградам.

*Пра бой пад Кацельнікавым, калі танкавая армія Гота ішла выбаўляць з акружэння армію Паўлюса...*— Кацельнікава — горад у Расіі, у Валгаградскай вобл.; Гот Герман (1885—1971) — нямецкі

военачальнік, генерал-палкоўнік (1940); Паўлюс Фрыдрых (1890—1957) — нямецкі военачальнік, генерал-фельдмаршал (1943). У снеж. 1942 г. пад Кацельнікавым адбывалася аперацыя нямецкіх войск па вызвалені з акружэння 6-й арміі пад камандаваннем Ф. Паўлюса, удзел у якой брала 4-я танкавая армія Г. Гота.

С. 446:

*Фаўстпатрон* — ручная рэактыўная зброя, гранатамёт аднаразовага дзеяння для паражэння танкаў і іншых браніраваных цэлей.

С. 451:

*Апарат Бадо* — літарадрукавальны шматразовы тэлеграфны апарат. Мае клавіятуру, з дапамогаю якой перадача тэлеграм праводзіцца ў вызначаным рытме, што задаецца тактавымі сігналамі. Створаны французскім вынаходнікам Ж. Бадо ў 1876 г.

С. 452:

*...даведаліся, што гэта «тыгры» і «фердынанды».*— «Тыгр» — нямецкі цяжкі танк часоў Другой сусветнай вайны, распрацаваны ў 1941 г. фірмай «Хеншэль»; «фердынанд» — нямецкая цяжкая самаходна-артылерыйская ўстаноўка перыяду Другой сусветнай вайны класа знішчальнікаў танкаў. Распрацавана ў 1942—1943 гг. нямецкім канструктарам Фердынандам Поршэ, у гонар якога і была названа.

С. 455:

*Той восенню на бок партызан перайшла ўласаўская часць на чале з падпалкоўнікам Гіль-Радзіёнавым.*— Гіль-Радзіёнаў Уладзімір Уладзіміравіч (1906—1944) — адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Трапіўшы ў палон, з 1942 г. быў камандзірам «дружыны», палка, брыгады «Рускай нацыянальнай народнай арміі», сфарміраванай гітлераўцамі з ваеннапалонных. Падрыхтаваў і арганізаваў 16 верас. 1943 г. пераход у поўным складзе на бок партызан гэтага фарміравання, якое атрымала назву 1-я Антыфашысцкая партызанская брыгада.

*Некалькі тодтаўцаў-антыфашыстаў...*— Тодтаўцы — члены ваенна-будаўнічай арганізацыі, якая дзейнічала ў нацысцкай Германіі. Арганізацыя названа па імені Ф. Тодта, які ўзначаліў яе ў 1933 г. З пачаткам вайны атрады тодтаўцаў працавалі за межамі Германіі на аднаўленні шашэйных і чыгуначных мастоў, палатна аўтамабільных дарог і чыгунак.

С. 457:

*«Achtung! Achtung!..»* — з *ням.* «Увага! Увага!..»

С. 458:

*Зольдбух* — з *ням.* салдацкая кніжка.

*...у Італіі высадзіліся саюзнікі...*— амерыканскія і англійскія войскі 10 ліп. 1943 г. высадзіліся на востраве Сіцылія, у пачатку верас.— на Апенінскім паўвостраве.

*Курск* — горад у Расіі, цэнтр Курскай вобл., на рацэ Сейм і яе прытоку Тускар.

С. 460:

*«Пралегомены» («Пралегомены да любой будучай філасофіі»)* (1783) — сціслае выкладанне працы «Крытыка чыстага розуму» (1781) І. Канта (1724—1804), напісанае самім аўтарам.

*«Kritik der reinen Vernunft» («Крытыка чыстага розуму»)* (1781) — філасофская праца І. Канта (1724—1804).

*Вялікія Лукі* — горад у Расіі, цэнтр раёна ў Пскоўскай вобл., на рацэ Ловаць.

С. 461:

*Галілей Галілеа* (1564—1642) — італьянскі фізік, механік і астраном, адзін з заснавальнікаў дакладнага прыродазнаўства.

*Капернік Мікалай* (1473—1543) — польскі астраном, стваральнік геліяцэнтрычнай сістэмы свету.

*— Калумб, дапусцім, хацеў адкрыць Індыю. Адкрыў Амерыку.*— Калумб Хрыстафор (1451—1506) — іспанскі мараплаўца італьянскага паходжання, які ў 1492 г. адкрыў для еўрапейцаў Амерыку; Індыя — краіна, размешчаная ў Паўднёвай Азіі, большай часткай на паўвостраве Індастан.

*Гітлер* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 673—674).

С. 462:

*...носімся на нямецкім «опелі»...*— «Опель» — легкавы аўтамабіль нямецкай фірмы «Адам Опель» (з 1929 г. фірма ў складзе «Джэнерал мотарс»).

С. 464:

*Пэпэжэ* — паходна-палявая жонка.

С. 465:

*...дзяжураць на апаратах Бадо, СТ...*— Апарат Бадо — гл. вышэй камент. да с. 745; апарат СТ — маецца на ўвазе тэлеграфны літарадрукавальны апарат СТ-35 («савецкі тэлетайп», мадэль 1935 г.), які выраблялі на Ленінградскім заводзе імя А. А. Кулакова, характарызаваўся тым, што ўсе паведамленні пры перадачы зашыфроўваліся.

С. 466:

*Браслау (Брэслаў)* — нямецкая назва Вроцлава — горада на паўднёвым захадзе Польшчы, на рацэ Одра (Одэр), цэнтра Ніжнесілезскага ваяводства.

С. 468:

*Нездарма ў тэхніка Папова такое прозвішча, як і ў славутага вынаходніка радыё.*— маецца на ўвазе А. С. Папоў (1859—1906), рускі фізік і электратэхнік.

*«Grüne Erbsen»* — з *ням.* «Зялёны гарошак».

С. 469:

*...дорыць мне цёмна-зялёную шавіётавую гімнасцёрку...*— маецца на ўвазе гімнасцёрка, пашытая з шавіёту, лёгкай, мяккай, злёгку варсістай ваўнянай ці паўваўнянай тканіны.

С. 470:

*...пакладаючыся на яўрэйскую мову, якая з'яўляецца блізкім дыялектам нямецкай.*— маецца на ўвазе ідыш — яўрэйская мова германскай групы, якая ўзнікла ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў X—XIV стст. на аснове сярэдненямецкіх дыялектаў з запазычаннямі са старажытнаяўрэйскага і арамейскага дыялектаў, а таксама з раманскіх і славянскіх моў.

С. 471:

*...Здаецца, на Чырвоную Зорку.*— маецца на ўвазе ордэн Чырвонай Зоркі — дзяржаўная ўзнагарода ў СССР. Зацверджаны пастановай Прэзідыума ЦВК СССР ад 6 крас. 1930 г.

С. 473:

*...быў родам з Памераніі...*— Памеранія — ад *лац.* Pomerania (скажонае *пол.* Pomorze), сярэднявечнае герцагства (1170—1648) у складзе «Свяшчэннай Рымскай імперыі», створанае на месцы германізаванага славянскага княства памаран. Размяшчалася на ўзбярэжжы Балтыкі, на ўсход і захад ад ракі Одэр (Одра). Пазней стала прускай правінцыяй з цэнтрам у горадзе Штэцін (Шчэцін), пасля 1945 г. Памеранія часткова адышла да Польшчы, часткова (землі на захад ад Одэра) — да Германіі.

*«Pommersche Zeitung»* — нямецкая рэгіянальная газета. Выдавалася ў Шчэціне з 1853 г. У часы нацысцкай Германіі афіцыйны орган НСДАП у Памераніі.

С. 474:

*З энцыклапедыі Бракгаўза і Эфрона...*— гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 731).

*...чытаў пра арыйцаў, старажытных германцаў, готаў.*— Арыйцы (арыі) — індаеўрапейскія плямёны, што ў IV—III тыс. да н. э. насялялі стэпавую зону паўднёва-ўсходняй Еўропы (паводле іншых звестак — поўдзень Сярэдняй Азіі і прылеглую да яго тэрыторыю Іранскага плато). Разглядаюцца як непасрэдныя продкі сучасных індаіранскіх і большасці еўрапейскіх народаў; старажыт-

ныя германцы — вялікі саюз плямён індаеўрапейскай моўнай групы ў паўночна-заходняй частцы Еўропы. Займалі тэрыторыю паміж Паўночным і Балтыйскім морамі, Рэйнам, Дунаем і Віслай, а таксама Паўднёвую Скандынавію. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з І ст. да н. э.; готы — плямёны ўсходніх германцаў, якія ў пачатку І тыс. н. э. перасяліліся са Скандынавіі на паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора.

*«Фёлькішэр беабахтэр»* — (*ням.* «Völkischer Beobachter», «Народны аглядальнік») — нямецкая газета. З 1920 г. друкаваны орган Нацыянал-сацыялісцкай германскай рабочай партыі. Выдавалася штотыднёва, з 8 лют. 1923 г. штодзённа. Апошні нумар выйшаў 30 крас. 1945 г.

С. 475:

*...мемарандум Гітлера савецкаму ўраду, надрукаваны ў дзень аб'яўлення вайны Савецкаму Саюзу.*— маецца на ўвазе нота Міністэрства замежных спраў Германіі Савецкаму ўраду. Апублікавана ў газ. «Фёлькішэр беабахтэр» 23 чэрв. 1941 г.

*...у прамове Гітлера, якую ён выгаласіў 3 кастрычніка сорак першага года...*— маецца на ўвазе радыёзварот А. Гітлера да нацыі з нагоды адкрыцця кампаніі зімовай дапамогі фронту.

*...Басфор, Дарданелы, панаванне на Балканах.*— Басфор — праліў паміж Еўропай і Азіяй (паўвостраў Малая Азія), злучае Чорнае і Мармуровае моры; Дарданелы — праліў паміж Еўропай (Балканскі паўвостраў) і Азіяй (паўвостраў Малая Азія), злучае Эгейскае і Мармуровае моры; Балканы (Балканскі паўвостраў) — паўвостраў на паўднёвым усходзе Еўропы, абмываецца з захаду Адрыятычным і Іанічным морамі, з усходу — Чорным, Мармуровым і Эгейскім морамі.

С. 476:

*«Unter Herbststernen» («Пад асенняй зоркай»), «Gedämpfte Seitenspiel» («Ігрок пад сурдзінку»), «Segen der Erde» («Благаслаўленне зямлі»)* — «Пад асенняй зоркай» (1906), «Ігрок пад сурдзінку» (1909), «Блаславўленне зямлі» (1917) — раманы К. Гамсуна (1859—1952).

С. 477:

*Прачытаў яго «Голад», «Пана», «Запіскі лейтэнанта Глана», «Розу», «Бенані»...*— «Голад» (1890), «Пан» (1894), «Роза», «Бенані» (абодва 1908) — раманы К. Гамсуна (1859—1952). «Запіскі лейтэнанта Глана» — верагодна, маецца на ўвазе навела К. Гамсуна «Смерць Глана» (1893).

*Талстой* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 680).

*Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч* (1821—1881) — рускі пісьменнік.

*...рака і горад Нейсэ...*— Нейсэ (Ныса-Лужыцка) — рака ў Еўропе, на тэрыторыі Чэхіі, Польшчы і Германіі, левабярэжны прыток ракі Одра (Одэр); Нейсэ — нямецкая назва горада Ныса, размешчанага ў Польшчы, у Апольскім ваяводстве.

*Нейштат* — да 1945 г. назва горада Пруднік у Польшчы, у Апольскім ваяводстве.

*Рацібор* — нямецкая назва горада Рацібуж, размешчанага ў Польшчы, у Сілезскім ваяводстве.

*...вадасховішча Отмахау* — маецца на ўвазе Отмухуўскае возера — вадасховішча ў раёне горада Отмухув, у Апольскім ваяводстве Польшчы.

С. 478:

*Майданак, куды эшалон накіроўваўся, даўно заняты савецкімі войскамі.*— Майданак — канцэнтрацыйны лагер, створаны ў прадмесці польскага горада Люблін увосень 1941 г. паводле загаду Г. Гімлера. 23 ліп. 1944 г. у Майданак увайшлі часці 1-га Беларускага фронту.

*Скончыліся баі каля возера Балатан.*— Балатан — возера ў Венгрыі, на Сярэднедунайскай раўніне, каля паўднёва-ўсходняга падножжа гор Баканъ. Баі каля возера Балатан скончыліся 15 сак. 1945 г.

*Немцы перастралялі ў Будапешце савецкіх парламенцёраў, але, зрэшты, здалі горад...*— Будапешт — сталіца Венгрыі. У Будапешце 29 снеж. 1945 г. былі забіты савецкія парламенцёры, накіраваныя для перадачы ўльтыматуму аб капітуляцыі акружанаму гарнізону. Горад быў узяты штурмам войскамі Чырвонай Арміі 13 лют. 1945 г.

С. 479:

*...запыняюцца два «вілісы».*— «Віліс» — аўтамабіль, які лічыцца прататыпам сучасных пазадарожнікаў. Вытворца — амерыканская фірма «Willys-overland motors», гады выпуску 1941—1945. З лета 1942 г. паводле ленд-лізу масава пачалі пастаўляцца ў СССР і адразу набылі папулярнасць як камандзірскае аўто. Часам выкарыстоўваліся як цягачы для 45-мм пушак.

С. 480:

*«Служу Савецкаму Саюзу».*— устаўная фраза, якую належала прамаўляць ваеннаслужачым Чырвонай Арміі і Узброеных Сіл СССР пры прадстаўленні да чарговага звання, абвяшчэнні заахвочвання ці падзякі і ў іншых урачыстых выпадках. Афіцыйна была ўведзена ў Чырвонай Арміі і Чырвоным Флоце 21 снеж. 1937 г.

*Прачытаў кнігу І. С. Конева, камандуючага Першым Украінскім фронтам.*— маецца на ўвазе гісторыка-мемуарная праца І. С. Конева «Запіскі камандуючага фронтам» (1972); Конеў Іван Сцяпанавіч (1897—1973) — савецкі военачальнік. Маршал Савецкага Саюза (1944), двойчы Герой Савецкага Саюза (1944, 1945). Камандуючым 1-м Украінскім фронтам быў з мая 1944-га па май 1945 г.

С. 483:

*Ленін* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 719).

*Максім Горкі* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 679).

*«Трое»* (1900—1901) — раман Максіма Горкага (1868—1936).

*...зборнік «Sowjetrussischer Humor», выдадзены ў 1940 годзе...*— верагодна, маецца на ўвазе зборнік «Schlaf schneller Genosse!: Sowjetrussische Satiren» («Спі хутчэй, таварыш!: руская савецкая сатыра»), які пабачыў свет у Штутгарце — Берліне ў выдавецтве «Rowohlt Verlag» у 1940 г.

*...калі ў нас з немцамі існаваў дагавор аб дружбе.*— гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 724).

*Зошчанка Міхаіл Міхайлавіч* (1894—1958) — рускі пісьменнік.

*Ідзе бітва за Берлін...*— Берлінская стратэгічная наступальная аперацыя, кульмінацыйнай часткай якой быў штурм Берліна, працягвалася з 16 крас. па 8 мая 1945 г.

С. 484:

*Пасля ўзяцця Бранска, Арла...*— Бранск быў заняты нямецка-фашысцкім захопнікамі 6 кастр. 1941 г.; Арол акупаваны гітлераўскімі войскамі 3 кастр. 1941 г.

*Крым* — паўвостраў у паўночнай частцы Чорнага мора. Абмываецца на ўсходзе Азоўскім морам і Керчанскім пралівам.

*Готланд* — найвялікшы востраў у Балтыйскім моры, тэрыторыя Швецыі.

С. 485:

*Але ў канцы III стагоддзя готаў нашчэнт разбілі ваяўнічыя гуны.*— Гуны — качавы народ, які склаўся ў II—IV стст. у Прыўраллі з мясцовых ограў і сарматаў і цюркамоўных хуну, што прыйшлі ў II ст. з Цэнтральнай Азіі. Гуны разграмілі готаў у 375 г.

*Фарос* — адно з найстаражытнейшых паселішчаў на паўднёвым беразе Крыма, заснаванае грэкамі ў V ст. да н. э. Сёння — пасёлак гарадскога тыпу.

*...плацілі даніну розным вандроўным народам — полаўцам, печанегам.*— Полаўцы — руская назва заходняга адгалінавання

сярэдневяковага цюркамоўнага качавога народа, вядомага ў Азіі як кіпчакі (кыпчакі), у Еўропе — як куманы (каманы); печанегі (бечанегі) — саюз цюркамоўных качавых плямён у паўночным Прычарнамор'і ў VIII—XII стст.

*«Слова аб палку Ігаравым»* — помнік старажытнарускай літаратуры канца XII ст.

С. 487:

*Інфармбюро* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 734).

*Чайкоўскі Пётр Ільіч* (1840—1893) — рускі кампазітар, дырыжор.

*Рахманінаў Сяргей Васілевіч* (1873—1943) — рускі кампазітар, піяніст, дырыжор.

*...завяршаецца ўласаўскім гімнам.*— маецца на ўвазе марш Рускай вызваленчай арміі, песня «Мы идем широкими полями». Словы А. Фралова, музыка М. Давыдава.

С. 494:

*Нінашвілі Эгнатэ Фаміч* (сапр. Інгароква; 1859—1894) — грузінскі пісьменнік.

С. 496:

*Каўказ* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678).

С. 498:

*Яфрэмаў* — горад у Расіі, у Тульскай вобл.

*Ішла бітва за Кіеў, ужо былі захоплены немцамі Гомель, Чарнігаў...*— бітва за Кіеў працягвалася з 7 ліп. па 26 верас. 1941 г.; Гомель — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 734); Чарнігаў — горад на поўначы Украіны, цэнтр Чарнігаўскай вобл., на рацэ Дзясна. Акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 9 верас. 1941 г.

С. 498—499:

*Пад Сталінградам немцам зрабілі выдатны кацёл, адагналі ад Масквы...*— маюцца на ўвазе Сталінградская бітва 1942—1943 гг. і Маскоўская бітва 1941—1942 гг.

С. 499:

*Чырвоная Армія, авалодаўшы Харкавам, палавінай Данбаса, зноў здае іх немцам.*— Харкаў (гл. вышэй камент. да с. 739) быў акупаваны 24 кастр. 1941 г. У лют. 1943 г. у працэсе развіцця наступлення, пачатага пасля Сталінградскай бітвы, вызвалены Чырвонай Арміяй. Аднак контрнаступленне гітлераўскіх войск у сак. 1943 г. мела вынікам паўторную здачу горада 15 сак.; Данбас — рэгіён, які ўключае паўночную частку Данецкай, за выключэннем Прыазоўя, і паўднёвую частку Луганскай абласцей Украіны (малы Данбас). Вялікі Данбас уключае ў сябе Данецкую і Луганскую вобл.,

а таксама часткі Днепрапятроўскай вобл. Украіны і Растоўскай вобл. Расіі.

*Урал* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678).

С. 500:

*Нарэшце пачалося нямецкае наступленне. І зноў, як і ў мінулым годзе, на паўднёвым напрамку.*— наступленне войск вермахта пачалося 5 ліп. 1943 г. у раёне Курскага выступу.

*Цяпер «тыгры» і «фердынанды» напіраюць на Курскі выступ.*— маюцца на ўвазе падзеі Курскай бітвы, якая працягвалася з 5 чэрв. па 23 жн. 1943 г.; Курскі выступ, або Курская дуга,— звернуты на захад выступ у раёне Курска, які ўтварыўся ў ходзе наступлення Чырвонай Арміі і контрнаступлення гітлераўскіх войск ва ўсходняй Украіне ўзімку і ўвесну 1943 г. Глыбіня выступу складала да 150 км, шырыня да 200 км.

С. 501:

*...немцы паведамляюць: пакінулі Арол і Белгарад.*— Арол — гл. вышэй камент. да с. 739; Белгарад — горад на поўдні еўрапейскай тэрыторыі Расіі, цэнтр Белгародскай вобл., на рацэ Северскі Данец. Арол і Белгарад былі вызвалены савецкімі войскамі 5 жн. 1943 г.

С. 502:

*Фольксдойч* — (*ням.* Volksdeutsche) — абазначэнне «этнічных германцаў», якія жылі за межамі Германіі.

С. 503:

*...прачытаў тоўстую кнігу белагвардзейскага генерала Краснова «Vom weissen Adler bis zum roten Stern».*— Красноў Пётр Мікалаевіч (1869—1947) — расійскі ваенны дзеяч, адзін з кіраўнікоў белай гвардыі, пісьменнік. Генерал-лейтэнант (1917); верагодна, маецца на ўвазе раман-эпапея П. М. Краснова (1869—1947) «Ад двухгаловага арла да чырвонага сцяга», які выйшаў у Берліне ў 1921—1922 гг. на рускай мове і быў перакладзены на 12 моў.

*Зрэшты, кнігу Рэмарка я чытаў. На беларускай мове. Яна была перакладзена яшчэ ў пачатку трыццатых гадоў.*— Раман Э. М. Рэмарка «На Заходнім фронце без перамен» выйшаў у перакладзе на беларускую мову (з рускага выдання) Х. Шынклера ў 1931 г.

С. 505:

*...у Ломжы, на самай граніцы з немцамі.*— гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 730).

*Эрэнбург Ілля Рыгоравіч* (1891—1967) — рускі пісьменнік, перакладчык, публіцыст і грамадскі дзеяч.

*Паявіўся матэрыял «Товарищ Эренбург упрощает» за подпісам незнаёмага аўтара...* — аўтарам гэтага артыкула,

апублікаванага 14 крас. 1945 г. у газ. «Правда», быў савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, будучы міністр культуры СССР (1954—1955), вучоны-філосаф Г. Ф. Аляксандраў (1908—1961), які ў той час працаваў начальнікам упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б), а пазней (1955—1961) загадваў сектарам у Інстытуце філасофіі і права Акадэміі навук БССР.

С. 506:

*«Deutschland, Deutschland über alles»* — маецца на ўвазе «Песня немцаў» (*ням.* «Das Lied der Deutschen»), мелодыяй да якой паслужыла «Імператарская песня» (1797) аўстрыйскага кампазітара Й. Гайдна, створаная для дзяржаўнага гімна Аўстрыйскай імперыі. Словы напісаў у 1841 г. нямецкі германіст Г. Фалерслебен. 11 жн. 1922 г. на пасяджэнні Нацыянальнага сходу Германіі, дзе была прынята Веймарская канстытуцыя, першы рэйхспрэзідэнт Германіі Ф. Эберт абвесціў «Песню немцаў» дзяржаўным гімнам рэспублікі. У часы нацысцкай Германіі выконвалася толькі першая страфа песні, пасля чаго ішоў гімн НСДАП, песня Х. Весэля.

С. 507:

*Ля паселішчаў капры шахтаў...*— Капёр — збудаванне над шахтай для ўстаноўкі пад’ёмніка.

*Малайчына, маршал Конеў! Выштурхнуў немцаў з прамысловай Верхняй Сілезіі...*— маецца на ўвазе Верхне-Сілезская наступальная аперацыя Чырвонай Арміі супраць нямецка-фашысцкіх войскаў 15—31 сак. 1945 г. Праводзілася часткай сіл 1-га Украінскага фронту пад камандаваннем І. С. Конева (гл. вышэй камент. да с. 749) з мэтай авалодання Сілезскім прамысловым раёнам.

*...ні ад Чырвонага Крыжа пасылак не палучалі.*— Чырвоны Крыж — Міжнародны гуманітарны рух, заснаваны ў 1863 г. Уключае добраахвотныя таварыствы дапамогі ваеннапалонным, хворым і параненым воінам, іншым ахвярам вайны. У мірны час яны аказваюць дапамогу пацярпелым ад стыхійных бедстваў, у шэрагу краін праводзяць мерапрыемствы па прадухіленні захворванняў.

*«Аміко, аміко!..»* — з *італ.*: «Сябар! Сябар!»

С. 509:

*...зноў захапілі Керчанскі паўвостраў...*— Керчанскі паўвостраў — усходняя частка паўвострава Крым. Абмываецца на поўначы Азоўскім морам, а ў заходняй частцы залівам Сіваш, на усходзе — Керчанскім пралівам, на поўдні — Чорным морам. У выніку дэсантнай аперацыі Чырвонай Арміі Керчанскі паўвостраў, захоплены ў лістап. 1941 г. часцямі вермахта, да 2 студз. 1942 г. быў поўнасцю заняты савецкімі войскамі. Аднак 8 мая 1942 г. нямецка-фашысцкія

войскі перайшлі ў наступленне, і ўжо 20 мая савецкі плацдарм быў ліквідаваны.

*...дабівалі заліты крывёй Севастопаль.*— Севастопаль — горад на паўднёвым захадзе Крымскага паўвострава, на беразе Чорнага мора. У чэрв.— ліп. 1942 г. гарнізон Севастопаля, абарона якога працягвалася з 30 кастр. 1941 г., чатыры тыдні супрацьстаяў нашмат большым сілам праціўніка.

С. 510:

*Ніякіх падрабязнасцей аб смерці Гітлера няма. Напісана толькі, што ён загінуў, як салдат.*— А. Гітлер скончыў самагубствам у бункеры берлінскай імперскай канцылярыі 30 крас. 1945 г.

С. 511:

*Прага* — сталіца Чэхіі. У 1918—1993 гг.— сталіца Чэхаславакіі.

*«Газік»* — усюдыходны легкавы аўтамабіль маркі «ГАЗ» (Горкаўскага аўтамабільнага завода).

С. 512:

*Берлін узяты...*— савецкія войскі штурмам узялі Берлін 2 мая 1945 г.

*«Пройдем, товарищ, все бои и войны»...*— гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 724—725).

С. 513:

*Русалка, Ларэлея, як у вершы Генрыха Гейнэ.*— маецца на ўвазе гераіня верша Г. Гейнэ «Ich weiß nicht, was soll es bedeuten...» (1824), які ў перакладах найчасцей меў назву «Ларэлея»; Гейнэ Генрых (1797—1856) — нямецкі паэт, празаік, эсэіст.

С. 517:

*Фёрстэнберг* — верагодна, маецца на ўвазе горад Мюнстэрберг — сучасны Зембіцэ ў Замбкавіцкім павеце Ніжнесілезскага ваяводства Польшчы.

С. 518:

*— У Празе паўстанне...*— маецца на ўвазе ўзброенае антыфашысцкае нацыянальна-вызваленчае паўстанне ў Празе 5—8 мая 1945 г.

*Кейтэль Вільгельм* (1882—1946) — германскі ваенны дзеяч, адзін з галоўных нацысцкіх ваенных злачынцаў Другой сусветнай вайны. У 1938—1945 гг. начальнік штаба вярхоўнага галоўнакамандавання вермахта. Падпісаў акт аб безумоўнай капітуляцыі ўзброеных сіл Германіі 8 мая 1945 г.

*Дзёніц Карл* (1891—1980) — ваенна-марскі дзеяч фашысцкай Германіі, адзін з галоўных нацысцкіх ваенных злачынцаў Другой сусветнай вайны. У маі 1945 г., паводле завяшчання А. Гітлера,

рэйхсканцлер і вярхоўны галоўнакамандуючы. Урад Дзёніца арганізаваў капітуляцыю Германіі перад дзяржавамі антыгітлераўскай кааліцыі.

С. 519:

*«Наздар! Наздар!»* — з *чэш.* «Прывітанне! Прывітанне!»

С. 520:

*Бенеш* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 717).

С. 521:

*Рур (Рурская вобласць)* — галоўная вугальна-металургічная база Германіі, на тэрыторыі зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, па абодвух берагах ракі Рэйн (асноўная частка на правабярэжжы, у басейнах рэк Рур, Эмшэр, Ліпе). Тэрытарыяльна супадае з Рурскім вугальным басейнам — найбуйнешым у Заходняй Еўропе.

С. 526:

*...чытаю прамову Сталіна на ўрачыстым банкеце з нагоды перамогі над фашысцкай Германіяй.*— маецца на ўвазе прамова І. В. Сталіна на прыёме ў Крамлі ў гонар камандуючых войскамі Чырвонай Арміі 24 мая 1945 г. На наступны дзень была апублікавана ў цэнтральных савецкіх газетах.

С. 527:

*...цэлыя арміі траплялі ў акружэнне, а затым у палон. Пад Беластокам, Мінскам, паміж Бранскам і Вязьмай.*— Беласток — горад на паўночным усходзе Польшчы, на рацэ Бяла, адміністрацыйны цэнтр Падляскага ваяводства. Бранск — гл. вышэй камент. да с. 739; Вязьма — горад у Расіі, цэнтр Вяземскага р-на Смаленскай вобл. У выніку прыгранічных баёў і адступлення Чырвонай Арміі практычна да 26 чэрв. 1941 г. тры арміі яе Заходняга фронту апынуліся ў акружэнні нямецка-фашысцкіх войск паміж Беластокам і Мінскам. У кастр. 1941 г. гітлераўцы акружылі асноўныя сілы Бранскага фронту, а таксама чатыры арміі Заходняга і Рэзервовага франтоў Чырвонай Арміі на захад ад Вязьмы.

*...Кіеўскае, Харкаўскае акружэнні.*— Кіеўскае акружэнне — гл. вышэй камент. да с. 738; Харкаўскае акружэнне — акружэнне і амаль поўнае знішчэнне наступальных сіл Чырвонай Арміі нямецка-фашысцкімі войскамі ў раёне Харкава ў маі 1942 г.

*...ніякія рускія не азіяты з раскосымі вачамі...*— алюзія на радкі з верша рускага паэта А. А. Блока «Скіфы» (1918): «Да, скифы — мы! Да, азиаты — мы, // С раскосыми и жадными очами!»

*Фольксштурм* — апалчэнне ў фашысцкай Германіі ў канцы Другой сусветнай вайны, апошні ваенны рэзерв нацыстаў. Утвораны ў выніку татальнай мабілізацыі мужчын ад 16 да 60 гадоў паводле ўказа А. Гітлера ад 25 верас. 1944 г.

*Гаўптман Герхарт* (1862—1946) — нямецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1912).

С. 528:

*«Ткачы»* (1892) — п’еса нямецкага пісьменніка Г. Гаўптмана (1862—1946).

*Андарак* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 727).

*...я ўспамінаю радкі Гейнэ: «Auf die Berge will ich steigen, / Wo die frommen Hütten stehen».*— радкі Г. Гейнэ (гл. вышэй камент. да с. 754) з верша «Пралог», які распачынае яго твор «Падарожжа па Гарцу» (1824, апублікаваны ў 1826). Пазней гэты верш увайшоў у цыкл «З падарожжа па Гарцу», уключаны ў зборнік «Кніга песень» (1827).

*Пяст* — легендарны продак першай польскай княскай і каралеўскай дынастыі Пястаў.

С. 529:

*Баўцэн (Будзішын)* — горад у Германіі, у Саксоніі. Лічыцца «сталіцай» лужыцкіх сербаў.

*Называюць сябе сорбамі. Гэта лужыцкія славяне.*— маюцца на ўвазе лужычане, ці лужыцкія сербы,— славянскі этнас, прадстаўнікі якога жывуць на тэрыторыі Лужыцы — гістарычнай вобласці ў паўднёва-ўсходняй частцы сучаснай Германіі, на германска-польскім памежжы.

С. 530:

*Ібсен Генрык* (1828—1906) — нарвежскі драматург, заснавальнік еўрапейскай «новай драмы».

*Фольксшуле* — з *ням.* народная школа.

*«Юнацтва Максіма»* (1934) — савецкі чорна-белы мастацкі фільм рэжысёраў Р. Козінцава і Л. Траўберга.

С. 532:

*Гётэ Іаган Вольфганг фон* (1749—1832) — нямецкі пісьменнік, мысліцель і прыродазнавец, адзін з заснавальнікаў нямецкай літаратуры новага часу.

С. 535:

*...прачытаў дзве п’есы Гаўптмана: «Перад узыходам сонца» і «Перад заходам сонца».*— Гаўптман (гл. вышэй камент. да с. 756); п’еса «Перад узыходам сонца» напісана ў 1889 г., «Перад заходам сонца» — у 1932 г.

С. 536:

*Хіршберг* — да 1945 г. назва горада Яленя-Гура ў Польшчы, у Ніжнесілезскім ваяводстве.

С. 537:

*БВУ* — былы ва ўжыванні.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» // *часоп. «Полымя»*

С. 400:

[15—16] І ці не нам іх прыйдзецца браць? // І ці нам іх прыйдзецца браць?

С. 413:

[10] ў штадыве... // ў штабдыве...

С. 419:

[27] у хатах // у хатках

С. 426:

[32] всползает... // всплывает...

С. 432:

[4—5] У вуглавым доме // У бліжэйшым вуглавым доме

С. 446:

[26] ўзгоркавае // ўзгоркаватае

С. 457:

[15—16] Мілаванаў дапамагае // Мілаванаў толькі дапамагае

С. 488:

[23] пешай разведкі // нашай разведкі

С. 501:

[22] ходзіць у пары. // ходзяць у пары.

## 1997

## Вір (с. 538)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1997, № 2.

Уваходзіла ў зб.: «Гуканне над верасамі», 2002; «Аповесці, апавяданні», 2009.

У БДАМЛМ, у папцы газеты «Літаратура і мастацтва», захоўваецца машынапіс урыўка з аповесці «Вір» (ф. 12, воп. 3, адз. зах. 511, арк. 2—13) з аўтарскімі і рэдактарскімі праўкамі.

У гэтай жа папцы газ. «Літаратура і мастацтва» захоўваецца таксама аўтограф І. Навуменкі (ф. 12, воп. 3, адз. зах. 511, арк. 1) наступнага зместу: «Іван Навуменка. Вясна першай цаліны. У другім нумары часопіса «Полымя» за гэты год друкуецца мая невялікая аповесць «Вір». Прапаную чытачам «Літаратуры і мастацтва» ўрывак з гэтай аповесці. Аўтар».

С. 542:

*Таталітарызм* — палітычны рэжым, які імкнецца да поўнага (татальнага) кантролю дзяржавы над усімі аспектамі жыцця грамадства і чалавека.

С. 544:

*Якуб Колас* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678).

*«Звязда»* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 682).

С. 546:

*Уладзівасток* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 741).

*Памёр Сталін.*— Сталін — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 719). І. В. Сталін памёр 5 сак. 1953 г.

С. 547:

*...дысертацыі пра Максіма Танка...* — Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995) — беларускі паэт. Народны паэт Беларусі (1968), акадэмік АН Беларусі (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974).

*«Фізкультурнік Беларусі»* — «Физкультурник Белоруссии» — назва газеты «Спортивная панорама» ў 1951—1995 г.

С. 548:

*Час першай цаліны.*— маецца на ўвазе асваенне цаліны, комплекс мерапрыемстваў па ліквідацыі адставання сельскай гаспадаркі і павелічэнні вытворчасці збожжа ў СССР у 1954—1960 гг. шляхам увядзення ў абарот зямельных рэсурсаў найперш у Казахстане, а таксама ў Паволжы, Сібіры, на Урале і Далёкім Усходзе.

*Дваццаты з'езд з дакладам Мікіты Хрушчова аб кульце асобы Сталіна...*— Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894—1971) — савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1964), тройчы Герой Сацыялістычнай Працы (1954, 1957, 1961). У 1953—1964 гг. Першы сакратар ЦК КПСС, адначасова ў 1958—1964 гг. Старшыня Савета Міністраў СССР. XX з'езд КПСС адбыўся 14—25 лют. 1956 г. у Маскве. На закрытым пасяджэнні з'езд заслухаў даклад М. С. Хрушчова «Аб кульце асобы і яго выніках».

*...яшчэ ў першую вайну пасля заняцця немцамі Баранавіч...*— гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 716).

*...бессэнсоўнае раскулачванне...*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 673).

С. 550:

*Пушча Язэп* (сапр. Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; 1902—1964) — беларускі паэт, крытык, перакладчык. У 1930 г. арыштаваны, у 1931 г. асуджаны на пяць гадоў высылкі. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч* (1900—1976) — беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1930 г. арыштаваны, у 1931 г. асуджа-

ны на пяць гадоў высылкі. У 1937 г. зноў рэпрэсаваны, асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. У 1949 г. зноў арыштаваны, асуджаны на 25 гадоў зняволення. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Бабарэка Адам Антонавіч* (1899—1938) — беларускі пісьменнік і крытык. У 1930 г. арыштаваны, у 1931 г. асуджаны на пяць гадоў высылкі. У 1937 г. зноў рэпрэсаваны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*З далёкай высылкі вярнуліся Пушча і Дубоўка.*— Я. Пушча вярнуўся ў Мінск у 1958 г.; У. Дубоўка пасля рэабілітацыі ў 1957 г. жыў у Маскве.

С. 555:

*Дэпутат Вярхоўнага Савета* — асоба, абраная ў Вярхоўны Савет СССР, вышэйшы пастаянна дзеючы орган дзяржаўнай улады ў СССР у 1936—1991 гг.

*ЦК камсамола* — Цэнтральны камітэт ЛКСМБ, вышэйшы кіруючы орган Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі паміж з’ездамі.

*ЦК партыі* — Цэнтральны Камітэт КПБ, вышэйшы калектыўны кіруючы орган Камуністычнай партыі Беларусі паміж з’ездамі ў 1924—1991 гг.

С. 557:

*З вядомых слоў паэта «не продается вдохновенье, но можно рукопись продать»...*— радкі з верша «Размова кнігапрадаўца з паэтам» (26 верас. 1824 г.) А. С. Пушкіна.

*...пра Аляксандра Пушкіна альбо Льва Талстога...*— Аляксандр Пушкін — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 682); Леў Талстой — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 680).

*«добрых і розных пісьменнікаў»* — алюзія на радкі з верша «Пасланне да пралетарскіх паэтаў» (1926) рускага паэта У. У. Маякоўскага (1893—1930): «А мне / в действительности / единственное надо — / чтоб больше поэтов / хороших / и разных».

*Размаўляў на «трасянцы»...*— Трасянка — моўная з’ява, якая ўзнікае пры змешванні беларускай і рускай моў, а дакладней, у выніку кантамінацыі беларускай мовы рускай лексікай, а часам і сінтаксісам.

*Яшчэ ў сярэднявеччы яны мелі дзяржаву, няхай сабе пад чужой каронай.*— маецца на ўвазе Вялікае Княства Літоўскае, феадальная дзяржава на тэрыторыі Беларусі і Літвы, якая існавала ў XIII — канцы XVIII ст., з 1569 г. была ў складзе Рэчы Паспалітай.

*Францыю стварыла германскае племя франкаў, Іспанію — готы...*— Франкі — група заходне-германскіх плямён, аб’яднаных

у племянны саюз, які ўпершыню згадваецца ў сярэдзіне III ст. Падзяляліся на дзве групы. Ядро адной з іх — салічаскія франкі — да пачатку IV ст. рассяліліся ў нізоўях Рэйна, а да пачатку V ст. авалодалі большай часткай Галіі і ўтварылі Франкскую дзяржаву (V—IX стст.), якая лічыцца непасрэднай папярэдніцай Францыі; готы [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 745)] у III ст. падзяліліся на малых готаў, готаў-тэтраксітаў, остготаў і вестготаў. Апошнія пасля шэрагу міграцый у V ст. апынуліся ў Іспаніі, дзе стварылі сваё каралеўства, якое існавала амаль трыста гадоў, да заваявання ў 711 г. арабамі.

С. 557—558:

*След германскага панавання прагледжваецца ў назвах французскай Андалузіі — тут засяродзілася нямецкае рабаўнічае племя вандалаў...*— Андалузія — самая паўднёвая частка Іспаніі, якая абмываецца Міжземным морам і Атлантычным акіянам. Паводле адной з версій, яе імя паходзіць ад назвы старажытных германскіх плямён — вандалаў, якія першапачаткова жылі ў паўднёвай Скандынавіі, а ў I ст. н. э. на ўсходнім беразе Одры да Паўночнага мора. У пачатку V ст. вандалы апынуліся на тэрыторыі паўднёвай Іспаніі, дзе жылі на працягу дваццаці гадоў, пакуль націск вестготаў не вымусіў іх пераправіцца ў Афрыку.

С. 558:

*...Ламбардыі, дзе панавалі ў сярэднявеччы нямецкія заваёўнікі лангабарды, якія, мабыць, насілі доўгія бароды.*— Ламбардыя — гістарычная і адміністрацыйная вобласць на поўначы Італіі, найвялікшая паводле плошчы ў краіне. Атрымала сваю назву паводле імені аднаго з плямён старажытных германцаў — лангабардаў (*ням.* Langobarden — літаральна доўгабародыя), якія ў I ст. н. э. жылі на левым беразе Эльбы, у IV—V стст.— у басейне сярэдняга Дуная. У 568 г. лангабарды мігравалі ў паўночную Італію, заваявалі Ламбардыю і Таскану, дзе стварылі сваё каралеўства.

*Беларусь, да прыкладу, яшчэ ў XIX стагоддзі называлі Літвой.*— З канца XVIII ст. да 1880-х гг. Віцебская, Магілёўская, Смаленская губерні Расійскай імперыі называліся беларускімі, а Гродзенская, Мінская і Віленская — літоўскімі. З канца XIX ст. па меры шырокага і дэталёвага вывучэння народнай культуры назва «Беларусь» спакваля стала дамінуючай на ўсёй этнічнай тэрыторыі, а назва «Літва» замацавалася за этнічнай тэрыторыяй літоўцаў.

*Дрыгавічы* — адно з племянных аб’яднанняў усходніх славян, вядомых па пісьмовых крыніцах і археалагічных помніках. Займалі тэрыторыю на ўсходзе да Дняпра, на поўначы да лініі

Барысаў — Лагойск — Заслаўе — вярхоўе Нёмана, на поўдні мяжа пераходзіла за Прыпяць, на захадзе — за Заходні Буг (паводле іншых дадзеных да Выганашчанскага балота, на поўнач ад Пінска).

*Крывічы* — аб'яднанне ўсходне-славянскіх плямён, якія жылі ў басейне верхняга Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі і на поўдні Чудскага возера. Працэс фарміравання крывічоў адбываўся ў другой палове I — пачатку II тыс. н. э. у выніку асіміляцыі славянамі балцкіх і заходне-фінскіх плямён.

*Радзімічы* — усходнеславянская этнічная супольнасць. Жылі ў міжрэччы Дняпра і Дзясны, па цячэнні Сажа і яго прытоках.

С. 561:

*...паходзячы з Заходняй Беларусі...*— Заходняя Беларусь — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 722).

С. 562:

*...пра зняцце з пасады Мікіты Хрушчова.*— Вынікам незадаволенасці партыйнага і дзяржаўнага апарату СССР палітыкай і стылем кіраўніцтва М. С. Хрушчова стала яго вызваленне («па стане здароўя») ад усіх пасад на кастрычніцкім Пленуме ЦК КПСС 1964 г.

*Пленум ЦК КПСС* — орган палітычнага кіраўніцтва Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ў перыяд паміж з'ездамі — пленарнае пасяджэнне ўсяго складу членаў і кандыдатаў у члены ЦК КПСС для абмеркавання найбольш важных пытанняў унутрыпартыйнай працы, палітычных і эканамічных праблем.

С. 564:

*...Дон Кіхот, які выдумаў Дульцынею Табоскую.*— маюцца на ўвазе героі рамана «Хітрамудры гідальга Дон Кіхот Ламанчскі» (1615) іспанскага пісьменніка эпохі Адраджэння М. дэ Сервантэса Сааведры (1547—1616).

С. 565:

*...як гавораць у Адэсе...*— Адэса — горад ва Украіне, адміністрацыйны цэнтр Адэскай вобл.

С. 566:

*...выкладчык марксізму-ленінізму...*— Марксізм-ленінізм — навуковая сістэма філасофскіх, эканамічных і сацыяльна-палітычных поглядаў, створаная нямецкімі філосафамі К. Марксам [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 740)] і Ф. Энгельсам (1820—1895) і развітая У. І. Леніным [гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 719)]. У СССР з'яўлялася ядром афіцыйнай камуністычнай ідэалогіі і пазіцыянавалася як навука аб пазнанні і рэвалюцыйным пераўтварэнні свету, аб законах развіцця грамадства, прыроды і чалавечага мыслення, аб класавай барацьбе і формах пераходу да сацыялізму,

аб стваральнай дзейнасці працоўных у пабудове сацыялістычнага і камуністычнага грамадства.

С. 567:

*...з далёкіх калымскіх, сібірскіх лагераў...*— маюцца на ўвазе лагеры прымусовай працы ў СССР у перыяд масавых рэпрэсій (1930—1950-я гг.), якія размяшчаліся на Калыме — залатаноснай тэрыторыі ў басейне ракі Калыма (сучасная Магаданская вобл. Расіі) і ў Сібіры [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 739)].

*...а самаму вялікаму правадыру ўсіх вякоў і народаў...*— маецца на ўвазе І. В. Сталін.

*...памятае шматлікія радкі з «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну».*— маецца на ўвазе ліст у вершах «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа» (11 ліп. 1936 г.).

*Пісьмо гэта напісалі самыя славутыя беларускія пісьменнікі, у іх ліку Янка Купала і Якуб Колас.*— Янка Купала, Якуб Колас — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678); стваральнікамі вершаванага ліста «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа» былі таксама паэты Андрэй Александровіч (1906—1963), Пятрусь Броўка [гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 722)], Пятро Глебка (1905—1969) і Ізі Харык (1898—1937).

С. 568:

*«Адважна і пільна ўзлятае высока, / Краіну сваю аглядае штодня, / І цешыцца сэрца, і цешыцца вока — / Якое раздолле, прастор, шырыня!..»* — радкі з ліста ў вершах «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа» (11 ліп. 1936 г.).

*...належыць да пакалення шасцідзясятнікаў.*— Шасцідзясятнікі — пакаленне савецкай інтэлігенцыі, якое сфарміравалася пасля XX з’езда КПСС, у асноўным у 1960-я гг. (адсюль назва). Гістарычным кантэкстам, які зрабіў уплыў на погляды шасцідзясятнікаў былі гады сталінізму, Вялікая Айчынная вайна і эпоха адлігі.

*Лермантаў* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 730).

*Някрасаў* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 683).

*Дастаеўскі* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 748).

*...у эпоху прыгоннага права...*— Прыгоннае права — сістэма юрыдычных норм, якія замацоўвалі пазямельную, судовую, маёмасную, асабістую залежнасць сялян ад феадалаў і феадальнай дзяржавы. Скасавана паводле Сялянскай рэформы 1861 г.

С. 569:

*...лічылі сябе вышэйшай арыйскай расай.*— Арыйская раса — тэрмін у заходнееўрапейскай антрапалогіі і расазнаўстве, уведзены ў XIX ст. Абгрунтоўваў перавагу белай расы, у тым

ліку існаванне «вышэйшага» расавага тыпу — бялявых арыйцаў, заснавальнікаў вялікай цывілізацыі.

*...але пра арыйцаў, нардычную расу...*— Арыйцы — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 747); нардычная (паўночная) раса — малая раса ў складзе вялікай еўрапіоіднай расы. Згодна з тэорыяй нардызму, узятай на ўзбраенне тэарэтыкамі германскага фашызму і ўзведзенай у ранг афіцыйнай ідэалогіі гітлераўскай Германіі, прадстаўнікі нардычнай расы з'яўляюцца стваральнікамі сусветнай цывілізацыі.

*Кіеў* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 738).

*Крым* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 750).

*Германскія плямёны* — маюцца на ўвазе старажытныя германцы [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 747)].

*...ў энцыклапедычным слоўніку Бракгаўза і Эфрона...*— гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 731).

*Індаеўрапейскія народы* — носьбіты індаеўрапейскіх моў.

С. 570:

*...у Чэхаславакіі фашысты спалілі вёску Лідзіцэ, у Францыі — Арадур.*— Чэхаславакія — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 717); Лідзіцэ (Лідзіцы) — шахцёрскі пасёлак у Чэхіі на захад ад Прагі, знішчаны 10 чэрв. 1942 г.; увасабленне нацыянал-сацыялісцкага тэрору на акупаваных тэрыторыях; Арадур (Арадур-сюр-Глан) — пасёлак на захадзе Францыі, знішчаны гітлераўцамі 10 чэрв. 1944 г.

*...салдаты дывізіі СС...*— гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 736).

*...разам з салдатамі вермахта..*— Вермахт — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 741).

*...бліжэй да санскрыту...*— Санскрыт (ад *санскр.* апрацаваны) — літаратурна апрацаваная мова арыйскай цывілізацыі ў Індыі (у процілегласць пракрыту — мове неадукаваных мас); адна з асноўных старажытнаіндыйскіх моў.

С. 571:

*...сістэма індаеўрапейскіх моў адна...*— Індаеўрапейскія мовы — адна з найбольшых сем'яў моў Еўразіі, якая на працягу апошніх пяці стагоддзяў пашырылася таксама ў Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, Аўстраліі, часткова ў Афрыцы. Развівалася ў выніку распаду і драбнення агульнаеўрапейскай прамовы, якая існавала не пазней за IV тыс. да н. э.

*...з мовамі ўрала-алтайскімі ці цюркскімі.*— Урала-алтайскія мовы — гіпотэза, папулярная ў канцы XIX — пачатку XX ст.,

якая абгрунтоўвала агульнае паходжанне ўральскіх і алтайскіх моў. Сучасная лінгвістыка асобна вылучае сям'ю ўральскіх і сям'ю алтайскіх моў; цюркскія мовы — група роднасных моў, пашыраных у Азіі і Усходняй Еўропе.

С. 573:

*Мястэчка занепадае, хоць называецца горадам.*— У 1950 г. Васілевічы сталі гарадскім пасёлкам.

*Раён ліквідавалі, цяпер гэта толькі цэнтр сельсавета.*— Васілевіцкі р-н быў скасаваны ў 1959 г.

*Праехаўшы дванаццаць вёрст...*— Вярста — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 675).

С. 577:

*«...Смотрю на тёмную вуаль / И вижу берег очарованный / И очарованную даль...»* — радкі з верша «Незнаёмка» (24 крас. 1906 г.) рускага паэта А. А. Блока (1880—1921). У арыгінале першы з працытаваных радкоў гучыць інакш: «Смотрю за тёмную вуаль».

*Блок Аляксандр Аляксандравіч* (1880—1921) — рускі паэт-сімваліст.

*Ён быў рамантык і сімваліст.*— Рамантык — паслядоўнік рамантызму, літаратурна-мастацкага кірунку канца XVIII — першай паловы XIX ст., для якога характэрна сцвярджэнне самакаштоўнасці духоўна-творчага жыцця асобы, паказ моцных пачуццяў і характараў, адухоўленай прыроды; сімваліст — прадстаўнік сімвалізму, літаратурна-мастацкага кірунку канца XIX — пачатку XX ст., які ўзыходзіць да эстэтыкі рамантызму і вылучае ў якасці свайго асноўнага мастацкага прыёму сімвал як сродак выражэння неспасцігальнай сутнасці прадметаў і з'яў.

Варыянты і разначытанні:

Зб. «Гуканне над верасамі» // часоп. *«Полымя»*

С. 538:

15—16 За вокнамі вецер. Нават у змроку відаць, як хвоя хістаецца ўлева-ўправа, махнатая галіна матляецца перад самай шыбінай. // Перад акном шастае галінамі хвоя, нават у змроку відаць, як ствол хістаецца ўлева-ўправа, махнатая ветка матляецца перад самай шыбінай.

25 не ведае прычыны гэтага. // не ведае прычыны.

28 што-небудзь напісаць. // што-небудзь зрабіць.

С. 539:

3 Дом творчасці — былая паляўнічая рэзідэнцыя // Дом творчасці — паляўнічая рэзідэнцыя

[11] Галоўнае, што сюды можна // Галоўнае: можна

[17] Ведае тут амаль усе // Ведае амаль усе

[19] за пісьмовы стол ён так і не сеў. // за стол ён так і не садзіўся.

[23] і ён не мог ухіліцца // і ў гэтым выпадку ён не мог ухіліцца

[26—27] не перапіў, але мінулі суткі // не перапіўся. Тым часам суткі мінулі

[27—28] У дадатак няпэўная, няясная // Няпэўная, няясная

[29—30] Асабліва глухія ўздыхі даносяцца // Глухія ўздыхі даносяцца асабліва

[32] пад акном стала не відаць. // пад акном не відаць.

[34] і сыпаць снегам // сыпаць снегам

[35] Лясныя жыхары пахаваюцца // Жывое насельніцтва лесу пахаваецца

[36] дзюбаць // дубаць

[38—39] у небагатай шматдзетнай сям'і — тры хлопцы і дзяўчына // у небагатай і досыць шматлюднай сям'і — тры хлопцы, дзяўчына

С. 540:

[2] зімою // у дзяцінстве

[2] не насіў // не знасіў

[12] розныя падзеі // розныя прыгоды

[14] Але праз // І праз

[18] верхаводзіць за сталом. // верхаводзіць на застольных зборышчах.

[19] Несцяровічу нават падабалася, што жонка дасціпная // Несцяровічу гэта нават падабалася. Жонка дасціпная

[22] Занадта вогненна-вясёлая, яна мітусілася // Была нейкай вогненна-вясёлай, мітусілася

[34—35] Цяпер, з цягам часу, ён разумее // Бо цяпер, на адлегласці часу, ён добра бачыць

[37] але не больш, чым іншыя. // не больш, чым многія другія.

С. 541:

[2] якую дзяўчына заканчвала. // якую яна канчала.

[3] Мяняла іх як пальчаткі. // Мяняла іх.

[11] Пазней // Хоць пазней

[23] чытаў кнігі // прачытаў многа кніг

[26—27] да ног каханай // каля ног каханай.

[28—29] і гэта Несцяровічу падабалася. // і такі стан рэчаў Несцяровічу падабаўся.

[34] не проста самым звычайным // не проста нармальным

[35—36] У часопісе пасля сказа «Нібы брыдкае качанё ператварылася ў лебедзя» ідуць сказы: «У яго не закружылася галава. У хлопцаў, здаецца, ад такога яна наогул не кружыцца».
С. 542:

[5—6] У грамадстве тады панавала дурнота // Гэта была дурнота тых, хто вярнуўся з фронту, не быў у акупацыі, прызначалі на кіруючыя пасады: старшыня калгаса, загадчык, кіраўнік прадпрыемства. // тых, што вярнуліся з фронту, не былі ў акупацыі, прызначалі на кіруючыя пасады: старшынь калгасаў, загадчыкаў, кіраўнікоў розных прадпрыемстваў.

[14] пра вучобу. // аб вучобе.

[20—21] вобраз ідэальнай дзяўчыны // ідэальны вобраз дзяўчыны

[22—23] жыццё было іншым. // свет стаў іншы.

[24] заканчвае // канчае

[27] з Галінай Мікалаеўнай. // з Галінай Мікалаеўнай, другой жонкай.

[29—30] падрабляў у маладзёжным часопісе. // у маладзёжным часопісе падрабляў.

С. 543:

[4] сабе і яму // яму і сабе

[9—11] Першы ён атрымаў пяць гадоў назад пасля заканчэння ўніверсітэта. І зараз ён не таіў // Першы ўніверсітэцкі ён атрымаў пяць гадоў назад. Ён не таіў

[13] пышнацелая, з буйнымі завіткамі // буйнацелая, з пышнымі завіткамі

[26—27] З ім пайшла Галя, але Несцяровіч ледзь валачыўся, запляталіся ногі, і дзяўчына // Але ісці не мог, запляталіся ногі, і Галіна Мікалаеўна

С. 544:

[13] якая выходзіла // якая пачала выходзіць

[17—18] мае рытм, інтанацыю, якія ствараюць настрой // мае рытм, інтанацыю, эмацыянальна афарбаванае слова, якія ствараюць настрой

[19—20] яго эмацыянальная афарбоўка, свежасць, гучанне. // яго свежасць, гучанне.

[21—22] Несцяровіч збіраецца нават напісаць апавяданне, якое ўражвала б мілагучнасцю мовы, але пакуль не адважваецца. // Несцяровіч збіраецца напісаць апавяданне, але пакуль не адважваецца.

[24—25] прывяла яго да сябе начаваць. // з інтэрната на Маскоўскай прывяла да сябе начаваць.

[25—26] У дрызіну п’яны, не маючы ў адносінах да дзяўчыны ніякіх сур’ёзных намераў // У дыміну п’яны, не маючы ў адносінах да дзяўчыны, якая прапанавала начлег, ніякіх сур’ёзных намераў

[27—28] Тады, калі сустракаўся з Ізольдай, гэтая акалічнасць не мела значэння. // Тады, калі сыходзіўся з Ізольдай, гэта не мела значэння.

[28] Цяпер ён ведае // Ён цяпер ведае

[29—30] ён не збіраецца. // не збіраецца.

С. 545:

[3—4] Але паступова Галя ўзяла // Тым часам Галя бярэ

[4] знаходзіла // знаходзіць

[6] падабалася // падабаецца

[9] яна была абыякавая. // была абыякавая.

[14] Пазней Несцяровіч зразумеў, што была // Пазней да Несцяровіча дайшло: была

[20—21] было шмат вуліц, чыгуначная станцыя, па нядзелях ладзілі базары, і ў той жа час там і там // па нядзелях былі базары, было шмат вуліц, чыгуначная станцыя. І ў той жа час

[34] тулілася // латалася

[35] нічога ад іх не патрабавала. // не патрабавала.

С. 546:

[3] Яна скончыла // Так яна скончыла

[10—11] У часопісе адсутнічае сказ: «Быў яшчэ адзін брат, які жыў недзе ва Уладзівастоку і даваў знаць пра сябе вельмі рэдка».

[14] Ладу // Міру

[15] як вялікую // як велічную

[15—16] У часопісе пасля сказа «Несцяровіч успрыняў гэта як вялікую трагедыю» ідзе сказ: «Не бачыў наперадзе прасвету».

[31] наском чаравіка // наском туфля

[33—35] У часопісе пасля сказа «Яна не таіла радасці, калі ён прыходзіў, старалася нават накарміць яго, зацыраваць шкарпэткі» ідзе сказ: «Галя званіла, расшуквала яго кожны дзень».

[34] старалася нават накарміць // нават старалася падкарміць

[36] працавала // працуе

[38] Яна Несцяровічу // Несцяровічу

С. 547:

[3] ведаў // ведае

[4] у «Звяздзе». // у рэспубліканскай газеце.

[4] разумны чалавек. // разумны.

[5] круціла // круціць

[5] пісаў // піша

[6] быў надзвычай // надзвычай

[8—9] чуючы аднойчы, як безуважліва Несцяровіч з Галяй размаўляе па тэлефоне, сказала // чуючы аднойчы, як безуважліва размаўляе Несцяровіч з Галяй, гаворыць

[10] адгукнецца. // адрыгнецца.

[11—12] гэтай бяссоннай ноччу ў Доме творчасці, з параненай душой // з падраненай душой

[14] хутчэй за ўсё, збіралася // збіралася

[16] пражылі // пражылі з Галяй

[17] тая // яна

[18] Знайшоўшы мужа-фельчара // Знайшоўшы ў раёне мужа-фельчара

[20] І Несцяровіч // А Несцяровіч

[23] Гудзелі-шумелі // Гудзяць-шумяць

[24] ледзь не кожную ноч наладжвалі // ледзь не кожнай ночы наладжваюць

[23—25] У часопісе пасля сказа «Гудзелі-шумелі да поўначы студэнты, ледзь не кожную ноч наладжвалі пагулянкі суседзі-аспіранты» ідуць сказы: «Але пакойчык вуглавы і не ўсе гукі чатырохпавярховага інтэрната да іх далятаюць. Дзве рэчы ў інтэрнаце нават смешныя».

[29—30] ў газеце «Фізкультурнік Беларусі» // Фізкультурнай газеце

[30] з дзяўчынай. // з хімічкай.

[31] але разам пражылі // але пражылі

[33] ні гатаваць // ні варыць

С. 548:

[5—7] У часопісе адсутнічае сказ: «Але Несцяровіч з маладой жонкай займалі вуглавы пакойчык, і не ўсе гукі чатырохпавярховага інтэрната да іх далята범і».

[8] па начах піша, бо днём // па начах піша. Днём

[9] праца ў рэдакцыйным аддзеле // рэдакцыйны аддзел

[10] Часопісу ён аддае // Часопісу аддае

[10—11] У часопісе пасля сказа «Часопісу ён аддае нават больш увагі, чым лекцыям» ідуць сказы: «У рэдакцыі сыходзяцца пісьменнікі, мастакі — людзі дагэтуль незнаёмыя Несцяровічу. Ён прагна да іх прыглядаецца, прыслухоўваецца».

[14] з’яўляецца рэцэнзія // рэцэнзія з’яўляецца

[18] неасвоеных мясцін. // дзікіх неасвоеных мясцін.

[19] У часопісе пасля сказа «Нібы подых нязнанай раней свабоды» ідуць сказы: «Смерць Сталіна, якую Несцяровіч перажыў так пакутліва, як здаецца, даволі хутка забываецца. Набягаюць новыя падзеі».

[32] портках // партках

С. 549:

[4] пакутавала // бунтавала

[4—5] У часопісе пасля сказа «Чалавека маглі зняважыць, арыштаваць і нават расстраляць за нішто» ідзе сказ: «Які ж гэта новы свет?»

[6—7] у мірны час. // у мірным жыцці.

[8] Якраз тады Несцяровіч пачаў пісаць. // Якраз у гэты час Несцяровіч пачаў актыўна пісаць.

[21—22] з уласнымі дабаўкамі і перабольшваннямі. // з прыбаўкамі і дабаўкамі.

[23—26] У часопісе пасля сказа «У мястэчку, дзе Несцяровіч нарадзіўся і дзе жыў у пасляваенныя гады, працуючы карэспандэнтам абласной газеты, брындала па вуліцах звольненая з настаўніцкай пасады пані Кульбацкая» ідзе сказ: «Так яе звалі».

[26—27] было вядома, што // было вядома

[34] не далі // аднак не далі

[35—36] Хоць свабода не спяшалася паўсюдна запанаваць, а ўжо такім // У паветры пахла свабодай. Хоць яна не спяшалася паўсюдна запанаваць. Але ўжо такім

С. 550:

[1—2] У часопісе пасля сказа «Доўга насіў Несцяровіч боль, узрушанасць, трывогу ад таго, што пачуў пра Сталіна» ідуць сказы: «Гадоў сем. Да дваццаць другога з'езда. Потым як бы пачаў разумець, што справа не ў адным Сталіне».

[6] не атрымалася. Ён перайшоў // не атрымалася: перайшоў

[7] у тоўстых часопісах // нават у «тоўстых» часопісах

[9—10] выяўляць супярэчнасці ў грамадстве. // выяўляць супярэчнасці.

[19] рэабілітаваць. // рэабілітоўваць.

[24—26] У часопісе пасля сказа «І зусім не трывожыць Ямпольскага, што ў дысертацыі інакш пра іх напісана, што нехта, калі захоча, можа прачытаць гэтую дысертацыю» ідзе сказ: «Між іншым Ямпольскі аказвае Несцяровічу і добрую паслугу».

[25—26] што нехта, калі захоча // што, калі хто захоча

[27] як выскаляюцца // гэтак выскаляюцца

[28] Ямпольскі // ён

[34—35] Несцяровіч пасля прачытання таго рамана не выказаў захаплення // Несцяровіч не захапіўся раманам

С. 550—551:

[36—2] ён зразумеў, што мае ўласны матэрыял для твора, можа, нават багацейшы, чым у Ямпольскага. // зразумеў: мае ўласны матэрыял, можа, нават багацейшы, чым Ямпольскі.

С. 551:

[9] рабілі інакш. // зрабілі інакш.

[9] хвалілі // пахваляць

[9] крытыкавалі. // крытыкуюць.

[10] І Ямпольскі // Ямпольскі

[11] За свой промах Несцяровіч атрымаў па заслугах. // Несцяровіч атрымаў па заслугах.

[13] сябра. // друга.

[23] добрыя // выдатныя

[24—25] Ледзьве не кожную ноч Несцяровіч працуе над сваімі творамі. // Несцяровіч начамі піша.

[29] Мінаюць гады. // Мінаюць харошыя маладыя гады.

[31] прыязджаў // прыязджае

[32] не мог // не можа

С. 552:

[1] У часопісе сказ «Самі, без ніякай прынукі» ідзе пасля сказа: «Яны, местачковыя хлопцы, учарашнія школьнікі, стварылі баявую групу».

[1—2] Агромністая трывога // А галоўнае: агромністая трывога

[10] ён не заглядваў. // раманіст не заглядваў.

[15] У нейкай ступені // Нейкім чынам

[17—18] зацяжарыла. // цяжарная.

[19] маглі даўно мець // маглі ўжо мець

[21] манаткі // майнткі

[25] заробку. // заработку.

[26—27] бо ад аднаго да другога пырхала як матылёк з кветкі на кветку // бо пырхала з кветкі на кветку

[35] не ведаў. // не ведае.

[35—36] ён высветліў, што гасцей // высветлілася: гасцей

[37] з фарбаванымі // з нафарбаванымі

С. 553:

[4] з гэтай кампаніі выбіваецца. // ў гэтай кампаніі зусім не глядзіцца.

[6] прамаўляе // выказвае

[12] толькі дзеля таго // дзеля таго толькі

[14] Несцяровіч не вытрымлівае // Між іншым ён не вытрымлівае

[20] адчувае, што немаладыя // адчувае: немаладыя

[23] У кампаніі // Між тым у кампаніі

[25] ведае, што дырэктар // ведае: дырэктар

[26—27] дырэктар магазіна атрымае вучоную ступень // атрымае вучоную ступень дырэктар магазіна

[31] дыбаюць // выдыбаюць

[34] пісьменнік разам з жонкай пражылі ў // пісьменнік пражыў у

[35] так Несцяровіч // так ён

С. 554:

[1—2] У часопісе пасля сказа «Тым больш што будзе яшчэ адно дзіцё» ідзе сказ: «Але як яе здабыць?»

[4] узяла // бярэ

[4] ўставала // ўстае

[4—5] У часопісе пасля сказа «Ноччу ўставала да дзяцей, даючы яму магчымасць выспацца» ідуць сказы: «Новай кватэры яны яшчэ не атрымлівалі. «Вагон з тамбурам» і цяперашняя былі запушчаныя ўшчэнт. Іх ранейшыя гаспадары не паклапаціліся нават, каб хоць смецце вынесці. Усё рабіла Галя».

[12—13] Два вечары і дзве ночы // Два вечары і ночы

[15] Галя гатавала сама. // гатавала таксама Галя.

[16] вымыць. // мыць.

[18] у якіх ён банкетаваў // у якіх выдыбаў і галёкаў

[28] не запрасілі. // не заклікалі.

С. 555:

[8—9] у «Юнацкім свеце» ўзнікае непрыемная справа. // узнікае непрыемная справа ў «Юнацкім свеце».

[33] нялёгкае // цяжкае

С. 556:

[9] Надыходзіць і благаслаўлёная часіна // І вось благаслаўлёная часіна.

[9—11] У часопісе пасля сказа «Надыходзіць і благаслаўлёная часіна — канікулы ці вось такія, як цяпер, фортачкі ў час экзаменацыйных сесій» ідзе сказ: «Гэта для таго, хто хоча пісаць, як Божае благаславенне».

[10—11] Вырывайся ў Дом творчасці // Вырывайся ў лес

[12] з іншымі // з другімі

[18] такія ўзлёты // такія ўдалыя ўзлёты

[26] сарвецца. // паломіцца.

[28] пагутарыш з людзьмі // пагутарыш з многімі людзьмі

С. 557:

[1—2] Галоўнае, што яна дае // Галоўнае: дае

[8] элемент займальнасці. // элемент цікавасці і займальнасці.

[10] Але Несцяровіч // Несцяровіч

[12] мае вялікую хібу. // мае вялікі хіб.

[13—14] стылем твораў // стылем

[15] пра Аляксандра Пушкіна // пра Пушкіна

[16] тут акалічнасці // тут нават акалічнасці

[21] Многія яе лічаць другараднай. // Яна нібы другарадная.

[21—24] Мала таго, што ў Мінску ніхто, апрача пісьменнікаў ды невялікай кучкі закаранелых беларусаў-настаўнікаў, па-беларуску

не гаворыць, дык у школе // У Мінску ніхто, апрача пісьменнікаў ды невялікай кучкі закаранелых беларусаў-настаўнікаў, па-беларуску не гаворыць. У школе

[26] Чаму так адбываецца? // Чаму так?

[33] пакрыўдзіла беларусаў. // беларусаў пакрыўдзіла.

С. 558:

[2] дзе панавалі // панавалі

[5] ў XIX стагоддзі // ў мінулым стагоддзі

[9—10] касцяк // хрыбетнік

[18—19] Іншая справа, што лепшыя людзі // Другая справа: лепшыя людзі

[21] падаецца, што ў глыбіні // адчувае: ў глыбіні

[24—26] не падзялялі думак сваіх мужоў, адстойвалі ўласную самастойнасць, незалежнасць. // адстойвалі ўласную самастойнасць, незалежнасць.

[32—33] Чуў, як аціхае віхура, не так глуха ўздыхае лес, не так шалёна свішча вецер. // Чуў: віхура аціхае, не так глуха ўздыхае лес, не чуваць шалёнага посвісту ветру.

С. 559:

[4—5] ў карункавых сукенках. // ў белых карункавых сукенках.

[9] размешчаны // размешчан

[20] туляцца // латаюцца

[25] Несцяровіч здагадваецца. // Несцяровіч трохі здагадваецца.

[29—30] Быў тут, на ўзмежку з лесам, зарослы верасам дубняк // Было тут, на ўзмежку з лесам, зарослае верасам дубовае кустоўе

[32] за вярсту адсюль // за вярсту ад Іванавай хаты

[32—35] У часопісе фрагмент тэксту ад слоў: «Прыкладна за вярсту...» да слоў «...легкавыя машыны» ідзе пасля сказа: «Проста глядзіць на лес, на дрэвы, на зямлю, думаючы аб усім, што ў гэтыя хвіліны набяжыць на душу».

[35] пракочваюцца // пракачваюцца

[37] Несцяровіч не першы сюды завітаў. // Бо не першы Несцяровіч тут вандруе.

С. 560:

[4] дзюбае // длубае

[5] у яе стрыжані // у яе сарцавіне

[6] стварыла // творыць

[7] жучкоў // ўсялякіх жучкоў

[7—8] увогуле розных насякомых, у лесе аж занадта, і іх не трэба даставаць з-пад кары дрэва. // увогуле тых, каго называюць насякомымі, у лесе аж занадта.

[15—16] У ягоным голасе яна адчувае нейкую трывогу // Нейкую трывогу ў ягоным голасе яна адчувае
[16] з’яўляецца // паяўляецца
[20] адкрылася // паявілася
[21] Галя яго супакойвае. // Галя аднак яго супакойвае.
[24] Свет адноўлены. // Мір адноўлен.
[27] Вузел пытанняў // Пытанні
[37—38] Акрамя таго, падсвядома Несцяровіч адчуваў, што не народжаны // Падсвядома Несцяровіч адчувае: ён не народжан

С. 561:
[5] два ваенныя гады // два гады
[10] у якім ён жыве. // у якім жывеш.
[10—11] Людзі, якіх ён ведае, рэалісты па светаўспрыманні, але ў той жа час вясёлыя і гуллівыя. // Людзі, якіх ён ведае, звычайныя, хоць, вядома, розныя. Ніякімі выключнымі асаблівасцямі характару, паводзін яны не вызначаюцца.
[19—20] быў эксплуататарам і фашыстам. // эксплуататар і фашыстовец.
[23] выдае // адбівае
[26—27] працавала маладая асоба // працавала даволі відная маладая асоба
[31] Вынікам заляцанняў // Вынікам марцовых заляцанняў

С. 562:
[1] знік // шуснуў
[9—10] усяго чалавек пяць. // сустракаюцца чалавек пяць.
[12] і працаваў // працаваў
[12] напісаў // ён напісаў
[15] дзякаваў // быў удзячны
[16] гаварыў // сказаў
[19—20] якую сам чытаў студэнтам, увёў творчасць Жарстака. // якую чытаў сам, і творчасць Жарстака ўвёў.
[21] адданы // аддадзены
[21] Як творца // Як пісьменнік
[25] пераканаўся, што Жарстак // пераканаўся: Жарстак
[27] Там сядзеў Жарстак. // Там і Жарстак сядзеў.
[35] ад пасады // ад пасад

С. 563:
[11] пакутаваць // пакутваць
[13] перад першай жаніцьбай меў пэўныя сумненні // перад жаніцьбай меў вялікія сумненні
[13—14] У часопісе пасля сказа «Несцяровіч перад першай жаніцьбай меў пэўныя сумненні наконт Ізольды» ідуць сказы: «Спадзяваўся,

што як-небудзь адарвецца ад яе. Не адарваўся. Праўдзівей, не здолеў адарвацца».

[14] Але ў душы жылі // Жылі ў душы

[15] распісаўся. // запісаўся.

С. 564:

[6] Несцяровіч не надта кідае позіркі. // не надта кідае вокам Несцяровіч.

[7] ён любіць // ён яшчэ любіць

[18—20] чым у юнацкім узросце да Ізольды. Ён зразумеў, хто такая Ізольда, і выкінуў былую жонку з душы. // чым у юнацкім узросце. Бо Ізольду ён забыў хутка. Адчуў, зразумеў, хто яна, і выкінуў з душы.

[21] і ні аб чым // і нічога

[23—24] падазрэннем у адносінах // падазрэнню ў адносінах

[28] не ўмее, і няхай растуць. // не ўмее. Няхай растуць.

[30] ўзнікаюць // вынікаюць

[31] з Дома творчасці // дамоў з лесу

[33] Галіна спалохалася. // Галіна проста спалохалася.

[35] і адчуваў // і адчувае

[35] сышлося // як бы сышлося

[37] Расхісталі // Расхліствалі

С. 565:

[1] настрой панылы. // настрой панылы, прыгнечаны.

[1] Піць малыя // Браць малыя

[3—4] а ў такія вольныя часіны // а ў такіх прасветлінах

[17] на працягу некалькіх дзён // доўгі час

[21] на вітаміннае дражэ // на вітамінную шрацінку

[30] Старэйшы брат Галіны // У Галіны два браты. Адзін, самы старэйшы

[31—32] Несцяровіч яго бачыў толькі адзін раз. // Яго толькі адзін раз бачыў Несцяровіч.

[33] не шанцуе з сям'ёй. // не шанцуе ў сямейным жыцці.

[35] наведаў // наведваў

С. 565—566:

[38—2] на баляванні з нагоды дня нараджэння і ўзнагароджання дэкана факультэта, дзе вельмі віхурна, не так, як звычайна // на баляванні, дзе вельмі віхурна, не падобна на самую сябе

С. 566:

[5] розныя // іншыя

[5] ён прынёс // прынёс

[10] заляцаецца да Галіны // дамагаецца ўвагі Галіны

[12] зусім непрыгожы. // проста пачварны.

[13] справу // дзела

[15—16] глыбока схаваныя вадзяністыя вочы, над якімі навісае вузкі лоб. // над якім навісае вузкі лоб з глыбока схаванымі ў ім бялёсымі вачамі.

[28] прыгожы, статны // прыгожы, відны

[29] часткова // хоць часткова

[30] ад прыгожых мужчын // ад прыгожых, відных мужчын

[34—35] Несцяровіча ахоплівае трывалы панылы настрой. // Паступова ў Несцяровіча нараджаецца сталы, хоць панылы настрой.

[35] шматграннае // шматлучнае

[35] ведае яго не толькі // ведае не толькі

С. 567:

[1] на аліменты // аліментамі

[4] канечне // яшчэ

[4—5] Аднак на сумныя думкі невядомы Грыша наводзіць. // На сумныя думкі невядомы Грыша аднак наводзіць.

[4—5] У часопісе пасля сказа «Аднак на сумныя думкі невядомы Грыша наводзіць» ідуць сказы: «Пасля смерці Сталіна ў паветры як бы носіцца прагнае жаданне перамен. Якіх? Пасля закрытага даклада Мікіты Хрушчова на дваццатым з’ездзе Несцяровіч месца не знаходзіць ад адчування крыўды, несправядлівасці, што панавалі ў жыцці. Нават іх, моладзь, зняважылі. Яны, маладыя хлопцы, дзяўчаты, самаахвярна змагаліся ў дні, месяцы фашысцкай акупацыі. Іх не толькі не прызналі баявой групай, а нават дзякуй не сказалі».

[6—7] Некалі новыя кіраўнікі выкрылі Сталіна, але новых ідэй узамен не прапанавалі. // Новыя кіраўнікі Сталіна разаблачылі, але новых ідэй у іх галовах няма.

[7] ішло // ідзе

[8] не саджалі // не саджаюць

[9] здаралася. // здараецца.

[10—11] ў нібыта здзейсненых злачынствах. // ў віне.

[16] Вярнуліся // Вярнулася

[16—17] некалькі пісьменнікаў. // некалькі ўцалелых пісьменнікаў.

[19] нібыта дзеля апраўдання // Дзеля апраўдання нібыта

[23] якое было досыць шматлікім // якія былі досыць шматлікімі

[28—29] нікім не выбраныя правадыры // высокія, нікім не выбраныя правадыры

С. 568:

[2] па пакоі // па пакою

[10] Школьнікам // Школьнік

[12] У часопісе пасля сказа «Ён марыў аб далейшым навучанні, інстытуце, горадзе» ідуць сказы: «Паступова Несцяровіч пачынае спакайнець. Культ асобы як бы адыходзіць на задні план».

[15] Аднак як пісьменнік ён // Ён як пісьменнік

[24] праз глыбіннае // глыбіннае

[24—25] праз стварэнне філасофіі чалавечага быцця. // стварылі філасофію чалавечага бытавання.

[27] не пастаўлены. // не створан.

[32] праходжваліся // выдыбалі

С. 569:

[16] звесткі пра арыйцаў. // звестак пра арыйцаў, нардычную расу.

[18—19] З артыкула пра арыйцаў, змешчанага ў энцыклапедычным слоўніку Бракгаўза і Эфрона // У прыватнасці, энцыклапедычны слоўнік Бракгаўза і Эфрона. З артыкула пра арыйцаў, змешчанага ў гэтым выданні

[29] Той // Немец

[34—35] разам з дзецьмі, дзядамі, жанчынамі. // разам з жывымі людзьмі — з дзецьмі, дзядамі, жанчынамі.

С. 570:

[1—2] пра чалавеканенавісніцтва // пра людаедства

[11] Зразумела, што // Вывад адзін:

[11] немцы не лічылі // германская раса не лічыла

[12—13] давалі заваёўнікам // давалі храбрым заваёўнікам

[18] усур’ёз // зацікаўлена

[22] з XIX стагоддзя. // з мінулага стагоддзя.

[35] аналітычнага складу (centum) // аналітычнага (centum) складу

С. 571:

[2—3] кожнай з іх блізкія паміж сабой у параўнанні // блізкія ў параўнанні

[5—6] У часопісе пасля сказа «Падручнік Несцяровіча, трэцяе выданне якога пайшло па школах, відаць, пабачыла Ізольда» ідзе сказ: «Першая жонка».

[8—9] вядома, што, калі выйшла ягоная першая тоненькая кніжачка // вядома: калі выйшла першая тоненькая ягоная кніжачка

[10] атрымаў ён // атрымаў ён за яе

[18] мела трохі сумлення і не квапілася // мела трохі сумлення. Не квапілася

[18—19] ганарары за літаратурныя творы. // літаратурныя заробкі.

[27—28] зарплата не вельмі... // зарплата не вельмі гучная.

[32—33] Несумленны яна чалавек у сямейных справах. // Несумленны ў сямейных справах чалавек.

[33—34] Несумленны і ва ўсім астатнім. // Несумленны ва ўсім астатнім, думае Несцяровіч.

да вайны бальніцы і ў гарадку прафшкольцаў размясціўся шпіталь. Там, між іншым, працуюць некалькі школьніц. Некаторыя і ў школу не пайшлі, чакаючы заканчэння вайны. Сакрэт, відаць, просты: дзяўчаты-медсёстры кормяцца ў шпіталі. Бо мястэчка голае, галоднае, спустошанае. Крамы адчыненыя, але ў іх па картках даюць хлеб і рэдка што-небудзь другое.

Ёсць ваенны прадуктовы пункт у мястэчку, таму па вуліцах шастае многа вайскоўцаў. Некаторыя абменьваюць палучаныя на прадуктовым пункце прадукты на гарэлку. Іменна дзеля гэтага бедныя ўдовы, наогул местачковая галеча цісне паціху самагонку».

[5] Грыша збліжаецца // Грыша зноў збліжаецца

[5—16] У часопісе фрагмент тэксту ад слоў «Грыша збліжаецца...» да слоў «...ляжаў у шпіталях» ідзе пасля сказа: «Чыгунка, вузлавая станцыя, вялікае паселішча, і пра гэта — ні слова».

[9] займае Іван. // Іван займае.

[11] мястэчка // паселішча

[16] у шпіталях // па шпіталях

[17—18] лічаць мястэчкам. // так называюць.

[22] пра гэта — ні слова. // аб гэтым — ні гуку.

[23] ёсць рукапіс // нават рукапіс ёсць

[25] яго пачытаць // пачытаць рукапіс

[26—27] Але часам трапляецца нешта новае і цікавае. // Але нейкія крупінкі трапляюцца.

[27] Так, Іван // Іван

[27—28] У часопісе пасля сказа «Так, Іван сёе-тое ўведаў пра даўніну краю, пра плямёны, якія яго насялялі» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Галоўнае: Івана зацікавілі немцы. Чаму гэты параўнальна невялікі народ замахнуўся на ўвесь свет? Дзе карані, прычыны яго ваяўнічасці?

Іван недзе вычытаў, што немцы, праўдзівей, іх продкі готы, у дагістарычныя часы жылі ў Прыдняпроўі. Яны перабраліся з паўвострава Готланд у Скандынавіі на кантынент, у вусце Віслы, і далей рухаліся на паўднёвы ўсход, да Дняпра. Недзе ніжэй цяперашняга Кіева ў іх нават горад быў — Градзір. Навакольныя славянскія плямёны плацілі готам дань. Потым готаў разбілі гуны, і рэшткі гэтых былых жыхароў Поўначы атабарыліся на самай паўднёвай аканечнасці Крыма — у Форасе».

[29] Яшчэ ён даведаўся пра экспедыцыю генерала Жылінскага. // Ёсць яшчэ новае для Ладуценкі ў рукапісе Гарошыка. З яго ён даведваецца пра экспедыцыю генерала Жылінскага.

[31] Пасля гэтага стаў // Стаў

[32] сяла // станцыі Паддубічы

С. 607:

[1—2] У часопісе пасля сказа «Жылінскі адкрыў у Паддубічах метэаралагічную станцыю, пабудаваў гасцініцу, наогул узвысіў Паддубічы» ідуць сказы: «Мястэчка старажытнасці не памятае. Няма ніякіх пісьмовых доказаў. А вось пасля экспедыцыі Жылінскага перамены нарасталі імкліва».

[3—5] У часопісе сказ «Станцыя мела ўласную службу цягі, дэпо, вугальны склад, воданапорную вежу» ідзе пасля сказа: «Хлопцы адчайна рынуліся на чыгунку».

[6] Хлопцы // Маладзейшыя сялянскія хлопцы

[6] рынуліся // рынулі

[6] З'явіліся // Паявіліся

[12—13] Палавіна іх насельніцтва, калі не болей, была яўрэямі // Палавіну, калі не болей, іх насельніцтва складалі яўрэі

[17] XIX стагоддзя. // мінулага стагоддзя.

[20—24] У часопісе пасля сказа «Якімчык, шустры і цікаўны, які быў у нямецкім палоне ў час першай германскай вайны, не прапускаў выпадку, каб не падступіцца да купкі і не наставіць вуха: ён трохі разумеў па-нямецку, а значыць, і па-яўрэйску, бо ідыш мае ў сваёй аснове нямецкія дыялекты» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Вуліца Варашылаўка, на якой жыве Іван, цягнецца ўздоўж чыгункі, праўдзівей, ахапляе той яе працяг, адкуль пачынаецца чыгуначная станцыя. Да станцыі прымыкаюць розныя нарыхтоўчыя базы, склады, размешчаныя каля тупіковых пуцей, вагавой будкі, агромністага дрывянога склада, дзе высяцца штабялі бярозавых, грабавых, альховых плашак, стусы бярвенняў, у тым ліку дубовыя кражы — іх амаль штодня грузяць на доўгія пульманаўскія платформы».

[21—23] не прапускаў выпадку, каб не падступіцца да купкі і не наставіць вуха: ён трохі // не прапускаў такіх выпадкаў. Ён падступаў да купкі і настаўляў вуха: трохі

[24] бо ідыш мае ў сваёй аснове нямецкія дыялекты. // бо так званы ідыш — дыялект нямецкай мовы.

[25—26] але са з'яўленнем станцыі павялічылася высяканне лесу. // але станцыя, на якой у шмат разоў вырасла пагрузка драўніны, яго агаляе.

[34] перавезлі // перавязлі

[36] заняла // засяліла

С. 608:

[1] ў сярэдзіне дваццатых гадоў XX стагоддзя // ў сярэдзіне дваццатых гадоў

[2—3] Праз нейкі час райцэнтр чамусьці ліквідавалі, але пакуль Іван Гарошык і Грыша Ладуценка // Яго чамусьці ліквідавалі, але да часу, калі Іван Гарошык, Грыша Ладуценка

[5] З’явіліся грамадскія і дзяржаўныя // Паявіліся кіраўнічыя

[7—16] У часопісе фрагмент тэксту ад сказа «Восень сорак чацвёртага» да слоў «...шмат работы» друкаваўся ў наступным выглядзе: «Восень сорак чацвёртага года — пераможная. На ўсіх франтах ваенныя поспехі. Ёсць прарыў ва Усходнюю Прусію. Савецкія войскі ў Польшчы, Румыніі, Балгарыі.

Саюзнікі ціснуць немцаў. Занялі Парыж, падбіраюцца з захаду да нямецкіх гарадоў. Тым часам лік пахаронак, якія прыходзяць у мястэчка, не змяншаецца.

Ідуць дажджы, стаяць голыя дрэвы. Вось-вось ляжа зіма. Грыша завітвае да Івана. Іван у школе паяўляецца рэдка. Раз ці два на тыдзень. Бо на вугальным складзе работа таксама ёсць. Адмыцца ад вугальнага пылу Івану няма як: мыла даюць у абрэз».

[20] ён адчуў // Грыша стаў адчуваць

[21] ўвайшоў // ўваходзіць

[21—32] У часопісе фрагмент тэксту ад слоў «Грыша ўвайшоў...» да сказа «А далей што?» ідзе пасля сказа «Іншага жыцця не бачыў».

[22—25] устае, бярэ з сабой сякі-такі полудзень, праз усю станцыю ідзе да казармы, дзе работнікі атрымліваюць інструмент, у другой палове дня ідзе ў школу і толькі ў восем гадзін вечара вяртаецца дадому. // устае, праз усю станцыю ідзе да казармы, дзе рамонтнікі атрымліваюць інструмент. Ён бярэ з сабой сякі-такі полудзень і толькі ў восем гадзін вечара прыходзіць дадому.

[27] іншую // другую

[27—28] У часопісе пасля сказа «Толькі дзе яе знойдзеш?» ідуць сказы: «Калі пасля другога ранення Грышу спісалі па чыстай, ён марыў аб адным: дабрацца дамоў, ад’есціся, адаспацца. Ніякіх узвышаных парыванняў не было».

[32] У часопісе пасля сказа «А далей што?» ідзе сказ: «Асабліва калі вайна скончыцца?»

[33—35] Грыша не забыўся, як на фронце не мроілася яму ніякая далейшая навука. Нават мільгала думка: пабудаваць хату і працаваць хоць бы ў той самай рамонтнай брыгадзе. // Вось так. Перабароў сябе Грыша. Дабіраючыся дамоў, думаў толькі пра адно: адпачыць, адаспацца, далячыць раны. Марыў пра родную печ, на якой доўгімі начамі чытаў кнігі. Не мроілася ніякая далейшая навука. Нават мільгала думка: пабудаваць хатку і працаваць хоць бы ў той самай рамонтнай брыгадзе.

[36] хлопец // Грыша

С. 609:

[1] плаціла // плоціць

[2] трымала // трымае

[2] засейвала // засейвае

[3] І зараз бацька раздвойваецца // Бацька нібы раздвойваецца: адной нагой стаіць на чыгунцы

[5—6] Прыйшоўшы з аднаго дзяжурства, заўсёды адпачывае, каб набрацца сіл на наступнае. // Прыйшоўшы з дзяжурства, бацька заўсёды адпачывае, каб набрацца сіл на наступнае дзяжурства.

[7] І ўсё ж, нягледзячы на цяжкасці, бацька // Бацька

[10—11] У часопісе пасля сказа «Усю зіму, устаючы досвіткам, цупаў цэпам, малаціў збажыну» ідуць сказы: «І што меў? Ацеслівы, глёўкі хлеб, і то да палавіны зімы».

[11] малаціў збажыну // малаціў бедную збажыну

[15] Моцна прыціскалі дзеда і падаткамі. // Праўда, моцна прыціскалі дзеда падаткамі.

[15—16] У часопісе пасля сказа «У калгас ён не ўступіў, і яго, як аднаасобніка, завальвалі падаткамі аж залішне» ідзе сказ: «І грашыма, і натурай».

[16—17] Аднаго жыта дзед здаваў пудоў сорак. // Пудоў сорак здаваў дзед на падатак аднаго жыта.

[21] добра // прыстойна

[22] запрасіла // заклікала

[30] неўразумела глядзіць на дырэктара. // недаўменна глядзіць на матэматычку.

[34] У часопісе пасля сказаў «— Вінтоўку, аўтамат ведаеш. Устаў, ці як там ён у вас называецца, падчытаеш» ідзе сказ: «Вайна, відаць, хутка скончыцца».

[37] працуе ў школе. // пахаджвае па школе.

С. 610:

[7] прыгнечаны // прыгнечан

[11] І сам // Сам

[11] У часопісе пасля сказа «На пасадзе ваенрука хоць адаспішся» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Іван працуе. Але ён ужо скончыў дзясяты клас. Яму патрэбен толькі атэстат. Мікалай нідзе не працуе. Хоць і вучыцца не надта. Тройка для яго нармальная адзнака. На недалёкім балоце — за паўсотню кіламетраў ад мястэчка, калі там спыніўся фронт, яго пакрэмзала парадкам. Ледзьве сшылі. Мікалай — інвалід першай групы. Палучае ніштаватую пенсію».

[12] раіць і Мікалай. // раіць ён.

[13] Можа, прыйдзецца да цябе калі звярнуцца. // Можа, нам чым паможаш.

[14] А Грышу шкада кідаць чыгунку. // Грышу шкада чыгункі.

[14] Яшчэ // Ён яшчэ

[15] хлопец працаваў // працаваў

[17—18] яму прыходзілася мець // ён меў

[18—19] Школа ж // Школа

[20] рэчам. // справам.

[21—22] каля Барсуковай будкі. // ля другой, Барсуковай будкі.

[23] з другога — лес // з другога — змешаны лес

[27—28] гэта была адна з прычын, чаму // па гэтай прычыне

С. 611:

[2] Вось // Вот

[10] Грышавым здабыткам. // Грышавай здабычай.

[14—15] Ён заўсёды чым-небудзь памагаў. // Як памятае Грыша, ён заўсёды чым-небудзь памагаў.

[16] Калі працаваў будачнікам // Ён і будачнікам быў

[21] гладыш // гладышык

[28] чаго хочаш // што хочаш

[34—35] дзе яны мяняюць шпалы, пачынае імжыць дождж. // пачынае імжыць дождж.

[36] на дзялянках, вісіць туман. // на дзялянках высечанага лесу, вісіць густы туман.

С. 612:

[1—2] Каля Барсуковай будкі пуцейцаў застае // Каля Барсуковай будкі, дзе пуцейцы мяняюць шпалы, іх застае

[4] пасмы і, чапляючыся // пасмы, чапляючыся

[6—7] На платформах, пад макраватым брызентам // На платформах, пакрытых макраватым брызентам

[11] памятае, як за // памятае: за

[12] гэтак жа імчалі на захад // на захад гэтак жа імчалі

[13—15] Куды пасля падзеліся тыя салдаты, вясёлыя, гаманкія, тыя гарматы, танкі? // Дзе тыя салдаты, вясёлыя, гаманкія, дзе гарматы, танкі?

[15] Хлопец // Ён

[19] якія цягнулі коні. // на коннай цязе.

[20] які б адступаў. // які адступаў.

[21—22] Па дарогах ішлі байцы з перавешанымі праз шыю аўтаматамі // У байцоў былі перавешаны праз шыю аўтаматы, па дарогах

[23—24] У часопісе пасля сказа «У небе, збіваючы «юнкерсы», «месершміты», мітусіліся савецкія самалёты» ідуць сказы: «Як такое магло здарыцца? Здарылася».

[24] мітусіліся // з яўнай колькаснай перавагай мітусіліся

[25] У час акупацыі па мястэчку // па мястэчку

[26—28] Яны спалілі большую палавіну вёсак раёна, вынішчылі лес уздоўж чыгункі. // Спалілі большую палавіну вёсак, якія належалі да раёна, вынішчылі лес каля чыгункі.

[28] Дзе зараз // Дзе

[28—29] У часопісе пасля сказа «Дзе зараз тыя немцы, аб чым думаюць, на што спадзяюцца?» ідуць сказы: «Эшалоны імчаць. Чыгунку латае пуцейская брыгада ў парваных фуфайках, брызентавых штанах, распоўзлых чаравіках. Мужчыны няголеныя, нястрыжаныя, старыя. Нават дзве-тры маладзіцы ёсць сярод рамонтнікаў. Нэндза, галеча праглядвае на кожным кроку.

Гэткі ж някідкі дзясяты клас».

[30] хмарных // хмурых

[30] без журнала // без журнала пад пахай

[32—33]— Загінуў ваш таварыш Сяргей Валавік,— прамаўляе яна. // — Загінуў ваш таварыш Сяргей Валавік.

[34—35] Валянціну Паўлаўну // матэматычку

[36—37] Яшчэ ў пачатку восені, узяўшы ў Зімчука адрас, напісаў Сяргею два лісты. // Узяўшы ў Зімчука адрас, напісаў Сяргею два лісты. Яшчэ ў пачатку восені.

[38] Рос Сяргей // Рос Сяргей, здаецца

С. 612—613:

[38—1] Нядаўна Грыша атрымаў адказ на апошні ліст. // На апошні ліст не зусім даўно Грыша атрымаў адказ.

С. 613:

[1—2] Сяргей ваяваў // Сяргей

[2—3] Усе ягоныя лісты былі стрыманыя, сумныя. // Лісты ягоныя стрыманыя, сумнаватыя.

[2—3] У часопісе пасля сказа «Усе ягоныя лісты былі стрыманыя, сумныя» ідзе сказ: «Два радасныя моманты ў цяперашнім сваім жыцці адзначыў Сяргей: калі прыносяць пошту і прыязджае кухня».

[4—5] Загінуў Васіль Грышкін. // Загінуў Грышкін, таксама дзевяцікласнік.

[7—8] яны гналі калгасны статак — Грыша, Мікалай і Васіль. // яны ўтрох гналі калгасны статак у Курск — Грыша, Мікалай, Васіль Грышкін.

[8] Да месца так і не дапялі. // Да Курска не дапялі.

[11] гнаць далей // гнаць да Курска

[12] ісці далей // ісці на ўсход.

[14] І мяккі // Мяккі

[15] з’яўляецца // паяўляецца

[16—17] У часопісе пасля сказа «Перад гэтым яго выклікаюць у ваенкамат» ідзе сказ: «Ваенкамат размешчан на дальняй ціхай вуліцы, непадалёк ад сядзібы МТС».

[21] паедзеце спачатку ў Маскву // паедзеце ў Маскву

[29—31] Спачатку заняў месца лейтэнанта, зволенага за тое, што трапіў у палон, цяпер у Сталінагорск // То заняў месца зволенага за палон лейтэнанта, цяпер

С. 614:

[4—5] І бацька // Бацька

[6] напачатку здарылася // вынікла

[8] Там ён // Там, у момант фатаграфавання, ён

[13] Стаяла летняя гарачыня. Масква перабудоўвалася. // Масква перабудоўвалася. Стаяла летняя гарачыня.

[15] пісалі // пісалі нават

[23] каб купіць // каб накупіць

[24] на штаны і сарочкі // на штаны, сарочкі

[25] які-небудзь абутак. // якога-небудзь абутку.

[25] Частку грошай // Грошай

С. 615:

[1] і нічым // нічым

[3] У часопісе пасля сказа «А цяпер вось Грыша паедзе ў ваенную Маскву» ідзе сказ: «Паблізу яе ён ваяваў і быў першы раз паранены».

[4] Нарэшце заканчваецца панылая дажджлівая восень. // Панылая дажджлівая восень нарэшце заканчваецца.

[5] ў замёрзлую груду. // ў замёрзлы груд.

[6] і дыхаць // дыхаць

[7] былыя старасты // старасты

[8] прадуктовых пунктах // прадпунктах

[9] вайсковы паёк. // нармальны вайсковы паёк.

[10] Аднойчы старшы лейтэнант // Старшы лейтэнант

[12—13] картавага чалавека // картавага

[13—14] Чаго яго баяцца? // Чаго баяцца?

[15—16] Грыша быў на фронце. Шмат паездзіў у такіх цяплушках, у адной з якіх яны едуць зараз. // Грыша прайшоў свой фронт. Зведаў такія вось цяплушкі. Шмат паездзіў у іх.

[16] Нічога ў іх // Нічога

[18] разаграваецца // разаграваецца іншы раз

[19] Нараў // Нар

[20—21] не заўсёды хапае на ўвесь доўгі шлях // не заўсёды дастанеш

[21] мерзнуць // стынуць

[23] мерзнуць // мёрзнуць

[24] Нарэшце яны прыехалі ў Сталінагорск. // Нарэшце яны прыехалі.

[24—25] Здаўшы ваеннаабавязаных // Здаўшы ў Сталінагорску ваеннаабавязаных

[32] Аляксандра Карнейчука. // А. Карнейчука.

[33] Карла Маркса // К. Маркса

[35] ён // Грыша

[36] ён // Грыша

С. 616:

[1—2] ён запіхвае яе пад лаўку // скрутак з вошамі ён запіхвае пад лаўку

[3—4] прадуктовы пункт // прадпункт

[5—6] і не паспявае хлопец сунуць у акенца атэстат на атрыманне прадуктаў // Не паспявае Грыша сунуць у акенца прадпункта прод-атэстат

[8] і прыводзяць // прыводзяць

[9] які таксама // Ён таксама

[11] Хутка высвятляецца прычына іхняга затрымання. // Хутка прычына высвятляецца.

[14] лейтэнанта наогул правяраюць. // лейтэнанта пасля затрымкі наогул правяраюць.

[15] «За адвагу» // «За отвагу»

[23] мітуслівых // мігатлівых

[24] здагадаўся, што капітан пра ўсё ведае. // бачыць: ведае тоўсты капітан пра ўсё.

[25] работнікі ваенкамата. // ваенкаматаўцы...

[27—28] Дзеля яе з самага вялікага класа павыносілі парты. // Дзеля яе павыносілі з самага вялікага па плошчы класа парты.

[28] Дрэва // Ёлку

[28] што лечацца ў шпіталі // з каманды выздараўліваючых

[30—32] Лейтэнанты, якіх праз тыдзень-два пашлюць на фронт, хочуць патанцаваць з дзяўчатамі-старшакласніцамі. // Хочуць патанцаваць з дзяўчатамі-старшакласніцамі лейтэнанты са шпіталя, якіх праз тыдзень-два пашлюць на фронт.

[38] А яно // Яно

С. 617:

[3—4] зараз знойдзеш? // знойдзеш.

[5] Такі закон // Вечны закон

[7] пастаяльцы шпіталя імкнуцца за яго межы // часовыя тубыльцы шпіталя ўсімі магчымымі спосабамі імкнуцца за яго межы

[8] тыя абдымкі. // абдымкі.

[10—11] А дзяўчаты, якія-небудзь васьмікласніцы, нават сямікласніцы, за гэты час падраслі, папрыгажэлі. // Школьныя дзяўчаты, якія-небудзь васьмікласніцы, нават сямікласніцы, за вайну падраслі, вылюднелі.

[12] з іх загінулі. // паспелі скласці галовы.

[18] Усю вайну думаў Грыша пра Габрыелу. // Усю вайну думаў Грыша пра Габрыелу, разам з якой гнаў статак на ўсход і якая аднойчы пры бамбёжцы пацягнула яго на сябе, нібы шукаючы абароны.

[19] ён // Грыша

[22] апынуліся побач // заляглі

[23] атрымалася школьная ёлка. // школьная ёлка.

[24] Упрыгожвае // Красіць

[26] вінегрэту // вінегрэтаў

[36—37] Яна скончыла // Яна, аказваецца, скончыла

[37—38] ведае армейскую службу // Армейскую службу ведае

[38] ў медсанбатах // медсанбатах

С. 618:

[3] Ад гэтых слоў Грыша // Грыша

[4—5] вучылася ў дзясятым класе // ў дзясятым класе вучылася

[5] уступала з ім // уступала

[7] Тыя месяцы // Гэтыя месяцы

[7] хлопец правучыўся // правучыўся

[7—8] У часопісе пасля сказа «Тыя месяцы, што хлопец правучыўся ў школе, ён думаў пра Габрыелу» ідзе сказ: «А яна не звяртала на яго ніякай увагі».

[8—9] Цяпер жа ён у яе бок не зірне — хопіць, намучыўся // Цяпер ён у яе бок не зірне. Намучыўся

[10—11] Грыша ўжо дакарае сябе за тое, што ён, як той Дон Кіхот зрабіў дамай сэрца памаўзлівую верціхвостку // Грыша дакарае сябе. Як той Дон-Кіхот, зрабіў дамай сэрца невядомую, памаўзлівую верціхвостку.

[16] не ўмеў. // не ўмее.

[16—18] У той жа час хлопец разумеў, што толькі на добрым падпітку ён навучыцца танцаваць, бо рытм адчувае // Але ў той жа час разумее: толькі добра падпіўшы, ён навучыцца танцаваць. Рытм адчувае.

[20] Дзяўчаты і хлопцы // Дзяўчаты, хлопцы

[21] вытанцоўваў // вытылінгваў

[23—24] ад дзяўчыны // ад яе

[26] Смяецца, паказваючы прыгожыя белыя зубы // Скаліць белыя, як часнок, зубы

[28] кожную адорвае // дорыць

[32] Аня Базылевіч, выдатніца // Аня Базылевіч, наступная пасля Івана выдатніца

[33] якая // яна

[35] чуткі, што руская // чуткі: руская

С. 619:

[1—2] На вечары ў шпіталі адбылося незвычайнае здарэнне, вестка пра якое // На вечары, што адбыўся ў шпіталі, вынікла незвычайнае здарэнне, якое

[4] Да падпалкоўніка // Да падпалкоўніка, што служыць у шпіталі

[5] але і розныя // а і розныя

[6] жыў // жыве

[8] Танцаваў // Танцуе

[9] не вытрымала і // не вытрымлівае.

[10] спытала // пытае

[12] адказаў // адказвае

[15] выхапіла // выхоплівае

[16] стрэліла // страляе

[17] высветлілася, што замежны // высвятляецца: замежны

[19] адносіны да вайскоўцаў дзяўчат // адносіны дзяўчат

[22] ходзяць // выдыбаюць

[22—23] кашлатыя хвоі // кашлатыя хмуркія хвоі

[23—24] такой высока-рамантычнай афарбоўкі. // такога высока-рамантычнага колеру.

[25] дык трэба // То трэба

[29—30] Бо такія сустрэчы местачковых дзяўчат з хлопцамі адбываліся // Бо трапяткія сустрэчы местачковых дзяўчат адбываліся

[33] стала гэтаму прыкладам. // гэта наглядна пацвердзіла.

[35—36] Здаралася, што нават // Нават

[37] шэльмы. // шалыганы.

С. 620:

[3—4] Таму бясконца // Бясконца

[6] ці пачак танных // ці на пачак дзяшовых

[7—9] Справа, можа, у тым, што людзі, якія жывуць у такім вялікім мястэчку, носяць пераважна прозвішчы тых, хто некалі гэтае мястэчка заснаваў. // Сакрэт, можа, у тым, што вялікае разлеглае мястэчка (у нядаўнім мінулым казённае сяло) мае толькі некалькі прозвішчаў тубыльцаў, якія паселішча заснавалі.

[9] Таму якую вуліцу ні вазьмі // Якую вуліцу ні вазьмі, малюнак паўтараецца.

[10] местачкоўцы // грамадзяне

[13—14] Асабліва ў дынастыі Чорных. // У дынастыі Чорных асабліва.
[14] У сем'ях // У сямей
[13—16] У часопісе пасля сказа «У сем'ях з такім прозвішчам нярэдка нараджаюцца разумова абмежаваныя дзеці, якія, падрастаючы, робяцца залішне жорсткімі» ідзе сказ: «Забіваюць, вешаюць катоў, сабак, здзіраюць з іх скуры».
[17—18] з прыезджымі // з далёкімі
[21] Вучыцца яна // Вучыцца
[23] упэўнена, што ў любой // упэўнена: у любой
[24—25] Што болей трэба для такой, як яна? // Што болей трэба?
[26] Пасля навагодняга вечара Грыша праводзіў // У навагодні вечар Грыша праводзіць
[27] недалёка // блізка
[27] шырокай // шырокай і прамой
С. 621:
[1] завітвае ў дзясяты клас // і ў дзясяты клас завітвае
[1] тут піянераў няма. // тут ніякіх піянераў няма.
[2] сядзіць Грыша // Грыша сядзіць
[5] не адметнае // не выдатнае
[5—6] можа быць радасным. // мае радасць і прывабнасць.
[6—7] У часопісе пасля сказа «Ад яго адвярнулася Габрыела, затое прыйшла Гэля» ідуць сказы: «Ён з прыемнасцю думае пра Гэлю. Часта з ёй спатыкаецца».
[7] І хоць ён // Ён
[8] адчувае, што іншая // адчувае: другая
С. 621—623:
[9—38] У часопісе фрагмент тэксту ад слоў «Дваццаць сёмы год...» да слоў «...Валянцін Авечкін» друкуецца ў наступным выглядзе: «Ён цяпер уволю высыпаецца. З вечара, як і ў далёкія мірныя гады, ледзь не да паўночы чытае. У часопісах пачынаюць мільгаць творы пра вайну, і Грыша з прагнасцю на іх накідваецца. Толькі вайна паказваецца залішне прыгладжанай. Яна амаль што такая, якую Грыша бачыў у даваенных фільмах.

Дваццаць сёмы год бяруць у армію, так што вучняў у Грышы паменшала. Затое маладзейшыя падлеткі аж гараць ад узбуджэння, калі на занятках ім трапляе ў рукі вінтоўка або аўтамат.

Заняткі ідуць у ваенным кабінеце, вузкім, як пенал, пакойчыку, які нібы пераламваецца, маючы такі ж вузкі працяг каля знешняй сцяны. У першай палавіне класнага пакоя Грыша развесіў розныя дыяграмы, карты, схемы. Бліжэй да адзінага акна стаяць некалькі партаў. Грыша разам з вучнямі разбірае і складвае затвор вінтоўкі, аўтамат ППШ,

пільна сочачы, каб шустрыя падшыванцы не прыняслі ў клас патронаў ці — не дай Бог — гранату. Бо ўжо ёсць выпадкі, калі цікаўныя хлапчакі паплаціліся жыццём з-за неасцярожнага абыходжання са зброяй. На заняткі па ваеннай справе раптам з'яўляецца Кастусь Бахілка, лахматы, выключаны са школы хлапчына. Яго і выключылі за тое, што прыходзіў на ўрокі са зброяй: то з гранатай, то з толавай шашкай. Аднойчы заявіўся нават з наганам.

— Каб твайго духу тут не было! — выгуквае Ладуценка. Не захоўваючы ніякага педагагічнага такту, хапае ваенрук Бахілку за каўнер, вывалаквае з класа. І Дудзінскую папрасіў, каб пазваніла наконт гэтага хлопца ў міліцыю.

Калісьці настаўнікі здаваліся Грышу незямнымі, незвычайнымі істотамі. Ён бачыў у іх асобах штосьці выключнае, асаблівае, лічачы ледзь не багамі. Гэты флёр даўно спаў з вачэй. Але і цяпер Грыша саромеецца настаўнікаў і па гэтай прычыне ў настаўніцкай залішне не затрымліваецца. Нават правёўшы ваенныя заняткі, ідзе ў свой дзясяты клас.

Калісьці, яшчэ ў пятым, шостым класе (ён і тады ўжо працаваў у рамонтнай брыгадзе), на летнія месяцы Грыша выпісваў «Звязду». Цяпер ён выпісаў газету на ўвесь год. У кожным нумары друкуе газета ваенныя зводкі, загады Вярхоўнага галоўнакамандуючага. Вайна перахліснула межы Савецкага Саюза, ідзе на палях Венгрыі, на нямецкай зямлі. Толькі курляндская групіроўка немцаў трымаецца за кавалак савецкага балтыйскага ўзбярэжжа. Відавочна: фашысцкая Германія вайну прайграла.

Дзівосным чынам нашы адступленні, паражэнні перараслі ў перамогу. Пачалося са Сталінграда. Пасля яго фашысты ўжо не маглі спыніць вал савецкіх наступленняў. Яны яшчэ здолелі выбіць нашы войскі з Харкава, Жытоміра, але на большае сіл не хапіла. Апустошылі, разарылі краіну дашчэнту. Пра гэта цяпер і піша «Звязда». Пра аднаўленне МТС, калгасаў, саўгасаў, пра тое, што адкрываюцца бібліятэкі, кінатэатры, пачынаюцца заняткі ў тэхнікумах, інстытутах. Шмат сходаў і мітынгаў. На іх калгаснікі, рабочыя бяруць на сябе абавязацельствы па вырошчванні высокага ўраджаю, уводу ў дзеянне прадпрыемстваў.

Высокім урачыстым стылем напісаны газетныя матэрыялы. Прайшоўшы вайну, Грыша не зусім верыць у высокія, напышлівыя словы. Гэта нібы малітвы. Стратэгія духу. А практыка — рэч іншая. Жыць цяжка. Проста невыносна цяжка. У газетах пра гэта не пішуць. Толькі гора не схаваеш. На здымках мужчыны, жанчыны ў парваных ватоўках, разлезлым абутку. Не радуюць вока адноўленыя, скіданыя на скорую руку хаткі, хлявы, наогул першая мірная забудова.

Два месяцы мінула, як Грыша пакінуў брыгаду. Адпала самая цяжкая работа. Пасля змены, пасля школы ён прыходзіў дамоў ушчэнт знясілены, зняможаны. Нібы выціснутая ануча. Неяк яшчэ і дамашнія заданні выконваў.

Цяпер ён вольны казак. Разам з Грышам у пакоі малодшы брат Сяргей. На сваім матрасіку, пастаўленым на калодкі, ён хутка засыпае.

На падлозе пад бокам грубкі Грыша рассцілае фуфайку. Другую фуфайку кладзе пад галаву. Лямпу ставіць на падлогу. У пакоі паўзмрок. Толькі відаць круг святла ад лямпы.

Грыша наўмысна так робіць. Так ён чытаў да вайны. Пакой займала кантора «Плодагародніна». Днём у ёй ляскалі на лічыльніках, трашчалі на арыфмометрах бухгалтары і рахункаводы. Вечарам наступала Грышава царства.

Да вайны, уступаючы ў пару юнацтва, Грыша марыў пра высокія здзяйсненні, якія чакаюць яго ў жыцці. Цяпер асабліва ні пра што не марыць. Ён вярнуўся з вялікага, ахопленага вайной свету, і галоўнае — вярнуўся жывы. Пранёс праз вайну вобраз малазнаёмай, загадкавай дзяўчыны. Думаў пра яе часта. Можа, гэта было каханне? Калі сапраўды так, то каханне — з’ява незразумелая, нават неразумная.

Грыша рад, што зблізіўся з ціхай, прыветлівай Гэляй. У яе заўсёды роўны настрой, хоць яна не такая ўжо рацыянальная асоба: умее пажартаваць, пасмяяцца.

Грыша паспеў адчуць: адносіны з дзяўчатамі не такая простая справа. У Гэлю ён не закахаўся: не было калі. Але ён пра яе думае, і гэтыя думкі прыносяць спакой і раўнавагу.

Галоўнае — ён упэўнен, што Гэля не падвядзе, не будзе, як Габрыела, круціцца каля другіх хлопцаў, віхляць, хітрыць. Калі штонебудзь здарыцца, скажа ў вочы.

Месяц люты на свеце. У мінулую зіму было разводдзе, фронт стаяў паблізу мястэчка, і хата была поўна ваенных людзей. Тады Грыша не мог дазволіць сабе раскошы чытаць па начах.

За акном вецер, мяцеліца. Наступіла паласа віхур. Галінка бэзу раз-пораз шкрабе па шыбіне. У коміне завывае вецер.

Разасланыя каля грубкі фуфайкі пахнуць газай, паленым вугалем і яшчэ чымсьці такім, што ёсць толькі на чыгунцы.

Грыша напачатку праглядвае «Звязду». Чырвоная Армія даўно перайшла рубяжы СССР. Цяпер ідуць вулічныя баі ў Будапешце. Інфармбюро паведамляе: савецкія войскі фарсіравалі Одэр. Наступная вялікая рака ў Германіі — Рэйн. Вось так, значыць. Не толькі немцы мылі боты ў нашых рэках, а і мы памыем.

Самае галоўнае паведамленне — трохі прытоенае. У раёне Чорнага мора сустрэліся кіраўнікі саюзных дзяржаў — Сталін,

Рузвельт, Чэрчыль. Калі думаць пра савецкую тэрыторыю, то раён Чорнага мора — хутчэй за ўсё Крым. Ён яшчэ летась вызвален ад немцаў.

Няцяжка здагадацца і пра мэту сустрэчы дзяржаўных кітоў. Вайна, па ўсіх прыкметах, ідзе да пераможнага канца. Варта дамовіцца пра пасляваеннае ўладкаванне. Шмат ёсць пытанняў, якія чакаюць сваёй развязкі: як будзе з Японіяй, якая ўпарта ваюе?

І навіны з рэспублік Грыша праглядвае з прыемнасцю. Тэхнікумы, інстытуты наперабой аб'яўляюць аб прыёме студэнтаў. Прычым пра некаторыя даваенныя абмежаванні і ўпаміну няма. Напрыклад, стыпендыя выдаецца ўсім: выдатнікам і невыдатнікам. Харчаваннем забяспечваюцца студэнты, інтэрнатам. Нечуваная раскоша!..

Зрэдку ў «Звяздзе» праскокваюць навіны мясцовага значэння. Напрыклад, у апошнім нумары паведамляецца, што паляўнічы Паддубіцкага раёна здаў восем шкур ліс і шмат іншай пушніны. Развялося за вайну звяр'я. Грыша ведае, што ваўкі нават да мястэчка дабіраюцца, да Залінейнай вуліцы. Падкопваюцца пад хлявы, душаць авечак, парсюкоў.

Начамі Грыша чытае кнігі па гісторыі. Гісторыю дрэнна выкладалі ў школе. Да апошняга часу настаўнікі, ведучы ўрокі, зазіралі ў свае інстытуцкія канспекты, а то і проста дыктавалі з іх. Грыша чытае пра сярэднія вякі, пра готаў, якія, нібы цяперашняя Германія, замахваліся на ўсю Еўропу.

Нарэшце ў часопісе паяўляецца аповесць пра вайну, якая ўсхвалявала Грышу. Аказваецца, і праўду можна пісаць пра ваенныя падзеі, не выдумваючы суцэльнай гераікі. Аповесць называецца «С фронтовым приветом», і напісаў яе невядомы Грышу пісьменнік Валянцін Авечкін».

С. 624:

[3] Прагульваецца // пахаджвае

[3—4] ён і заўважыў, што // ён заўважыў: што

[4] прагулкі // вандроўкі

[7] якая замяняе // якая, можна сказаць, замяняе

[9] шамаціць // шастае

[10] тапаляў // топаляў

[11—13] У часопісе пасля сказа «На станцыі заўсёды мітусяніна, таўханіна, з воданапорнай калонкі ў змроку вечара б'е серабрысты струмень вады» ідзе сказ: «Да цягнікоў пад'язджаюць санітарныя машыны».

[12—13] серабрысты струмень вады. // срабрысты фантан.

[16] Нават // І нават

[17] з-пад калонкі // з-пад воданапорной калонкі

[19] І стрыманая // Нават стрыманая

[19] залішне // трохі залішне

[22—23] Гэля неяк сказала, што Габрыела звязалася з урачом-капітанам, які быў жанаты. // Гэля неяк уведала, што дзесяцікласніца Габрыела звязалася з урачом-капітанам. Ён тым часам жанаты.

[30] ўвіваўся каля яе // ўхлёстваў за ёй

[32] Так увіваўся // Так ухлёстваў

[34] І ўсё ж такі ў грудзях // У грудзях

[36] Але не было // Цяпер ведае: не было

[38] і хоча // і з халадком у голасе хоча

С. 625:

[6] Гэля адразу спакайнее. // Гэля спакайнее.

[6] наладжаны. // наладжан.

[6] А Грыша // Грыша

[6—7] У часопісе пасля сказа «А Грыша робіць вывад, што і з Гэляй трэба быць асцярожным» ідуць сказы: «Іх спатканні працягваюцца. Надвячоркам Грыша праводзіць Гэлю да станцыі, яны садзяцца ў скверы на лавачку, размаўляюць».

[8] Дзяўчына // Гэля

[8—9] у якіх шпіталях лячыўся. // як лячыўся ў шпіталях.

[14] смяецца. // пасміхаецца.

[21] як і я // як я

[22] у санітарным батальёне // у санбаце

[22—23] спачатку ў шпіталь // ў шпіталь

[25] Нечакана Грышу // Грышу нечакана

[27] завітвае ў // завітваюць у

[28—29] і гаворыць прамову. // і яшчэ прамову гаворыць.

[30] здаецца // чамусьці здаецца

[31] яны // Ваенкамы

[31] каб замяць // Каб зацерці

[32] яго і старшага лейтэнанта // яго і ваенкамаўскага старшага лейтэнанта

С. 626:

[1—2] На Восьмае сакавіка здарыўся выпадак, пра які стараліся не гаварыць, бо інакш гэта зняважыла б школу. // На Восьмае сакавіка таксама складчына. У гэты дзень якраз здарыўся выпадак, пра які стараліся не гаварыць, бо інакш ён бы зняважыў школу.

[3] перашэптваліся // перашэптваюцца

[7—8] Здолеўшы неяк адчыніць замкнёныя знутры // Адчыніўшы зачыненыя на ключ

[8] застала // застае

[13—14] Ведае нягодніца, што дырэктар // Ведае нягодніца: дырэктар

[13—14] У часопісе пасля сказа «Ведае, нягодніца, што дырэктар школы скандал раздуваць не будзе» ідзе наступны фрагмент тэксту: «У Грышы ў душы бура. Пра каго ён усю вайну думаў? Пра звычайную верціхвостку. Цяпер яму ясна, чаго хацела ад яго Габрыела ў густым запалавелым жыце. Нават бамбёжкі не спалохалася. Сапраўды, каханне мацней смерці, нават такое, якім захаплялася Габрыела. А ён — лапух. Звычайны недарэка, які ў жыцці нічога не кеміць».

[16] падсвядома думаў // думаў

[17—19] На фронце на кожным кроку ён бачыў адносіны накшталт тых, якія былі ў Габрыелы з «цукровым пеўнікам», і амаль не верыў у сумленных дзяўчат. // Дзіўная рэч: на фронце на кожным кроку ён бачыў адносіны накшталт тых, якія вынiклі ў Габрыелы з «цукровым пеўнікам». Верыў у іншых дзяўчат.

[19—20] Зараз жа ён не сумняваецца, што такія дзяўчаты ёсць. // Ён не сумняваецца: такія дзяўчаты ёсць.

[20] У часопісе пасля сказа «Напрыклад, Гэля» ідуць сказы: «Толькі ён не звяртаў на іх увагі. Калі шчыра прызнавацца, нават ходзячы з Гэляй, ён думаў пра Габрыелу. На нешта спадзяваўся».

[21] увабралася ў сілу. // ўступае ў сапраўдную сілу.

[21—22] Сонца зранку зацягнута павалокай // Сонца яшчэ ўзыходзіць рэдка, яно зацягнута павалокай

[22] але ўдзень светла // але светла

[23] Зямля падсохла. На пагорках пачынае зелянець трава. // На пагорках пачынае зелянець трава. Зямля падсохла. Хадзіць, дыхаць паветрам прыемна.

[24] Вайна набліжаецца да завяршэння. // Вайна коціцца да пераможнага канца. Хоць у шпіталі донары — маладыя дзяўчаты і хлопцы яшчэ здаюць кроў. За гэта ім, відаць, штосьці плацяць.

[24—25] Варшава і Кракаў. // Варшава, Кракаў.

[25] пра канферэнцыю // аб канферэнцыі

[29] У часопісе пасля сказа «Вайна цяпер ідзе на нямецкай зямлі» ідзе сказ: «З усходу і захаду».

[29—30] У часопісе пасля сказа «Чатыры гады чакаў Грыша гэтай навіны» ідзе сказ: «Ёсць усё-такі праўда на свеце».

[35] ў свой час // час ад часу

С. 627:

[3] адна падзея // дзве падзеі

[7] У часопісе пасля сказа «Хлапчына, аднак, паступіў разумна» ідзе сказ: «Проста выратаваў прэстыж школы».

9 потым загадаў // загадаў

12 зусім блізка. // блізка.

12 У часопісе пасля сказа «Канец вайны зусім блізка» ідзе сказ: «Гэта відаць не толькі з газетных паведамленняў».

15—17 Вестка пра смерць Рузвельта, амерыканскага прэзідэнта, засмуціла Грышу, але ж пераможная хада падзей усё роўна працягваецца. // Памёр Рузвельт. Грышу шкада амерыканскага прэзідэнта. Пераможная хада падзей між тым працягваецца.

17—18 У часопісе пасля сказа «Савецкія войскі акружаюць Берлін, яшчэ праз дзень ці два злучаюцца на Эльбе з амерыканцамі» ідзе сказ: «Грышу сумна».

19 Грыша // Ён

19 ён можа // можа

21 Хай бы і ён // Хай бы ён

23 Каля школы // Між тым каля школы

24 Маёр то сядзіць // То сядзіць

26 баку // абсягу

27 ходзіць // выдыбае

29—30 і ўсё разумее. // Яму ўсё ясна.

30 Ён // Цяпер ён

32 Але падзеі развіваюцца з шалёнай хуткасцю. // На шалёнай хуткасці развіваюцца падзеі.

34 спыняе каля вугла клуба. // насцігае: каля вугла клуба, перабудаванага з царквы.

35—36 У часопісе пасля сказа «Маёр Кузьменка хоча са мной ажаніцца» ідзе сказ: «Ён твой далёкі родзіч...»

С. 628:

1—2 У часопісе адсутнічае сказ: «Бо што ён можа прапанаваць дзяўчыне?»

2 Што // Бо што

2 што // што-небудзь

4 ідзе прэч. // ідзе прэч ад Гэлі...

5 На наступны дзень адбываюцца // На наступны дзень

7 да тоўстага камля хвоі. // да камля тоўстай хвоі.

9 метраў на дзесяць, і куля затрымаецца ў зямлі. // над акаляючым балотам метраў на дзесяць.

11 патроны // патрончыкі

12 як Грыша ўбачыў // У гэты час Грыша бачыць

13 штанах і сарочцы // штанах, сарочцы

13 якога ён нядаўна // таго, каго ён нядаўна

14 Хлопец // Бахілка

18—19 неспадзявана // ад неспадзеўкі

22 ён адкідвае // адкідвае
22 далей // падалей
27—28 па назе і парваў // ваенрука па назе. Парваў
29 накінуліся // кінуліся збіваць
31—32 хустачкай // хусцінкай
33 ён можа. // ён пакуль можа.

## 2000

### Помні Сталінград (с. 629)

Друкуецца паводле зб. «Гуканне над верасамі», 2002.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1997, № 2.

Уваходзіла ў зб.: «Гуканне над верасамі», 2002.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца фрагмент машынапісу з аўтарскімі праўкамі агульнай колькасцю 29 арк. (с. 1—21 і 37—44) і першая старонка рукапісу-аўтографа, на якой угары пазначаны нумар — 115 (ф. 495, воп. 1, ум. адз. 35).

С. 629:

*Сталінград* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 739).

*...разлічваць на круглыя пяцёркі?* — Пяцёрка — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 719).

*— У нас з немцамі дагавор аб ненападзенні. Нават аб дружбе...* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 721, 724).

С. 630:

*Гітлер* — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 673—674).

*...ўзарвалі мост на Дняпры...* — Дняпро — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 672).

*...даставіць у горад Сеўск Арлоўскай вобласці.*— Сеўск — горад у Расіі, цэнтр Сеўскага р-на Бранскай вобл., на рацэ Сеў. Да 1944 г. уваходзіў у Арлоўскую вобл.; Арлоўская вобл.— вобласць у складзе Расіі. Цэнтр — горад Арол. Размешчана на паўднёвым захадзе еўрапейскай часткі Расіі.

*...ўздоўж Волгі...*— Волга — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 735).

*...вёрст на сорак...* — Вярста — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 675).

С. 631:

*Бо ўжо і Харкаў, і нават Курск былі заняты немцамі.*— Харкаў — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 739, 751); Курск — гл.

камент. да апов. «Юнацтва» (с. 745). Курск быў акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 3 лістап. 1941 г.

*...перад упаўнаважаным Смерша...*— Смерш — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 740).

*...знайсці карту-двухвёрстку...*— Двухвёрстка — геаграфічная карта, якая мае маштаб дзве вярсты ў цалі.

С. 632:

*Сталін* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 719).

*...пагонім ворага. Як гналі пад Масквой...*— маецца на ўвазе Маскоўская бітва 1941—1942 гг.

*Харкаўскі ўніверсітэт* — Харкаўскі нацыянальны ўніверсітэт імя В. Н. Каразіна, адзін з найстарэйшых універсітэтаў Усходняй Еўропы, афіцыйна адкрыты 29 студз. 1805 г. З 1933 г. насіў назву Харкаўскі дзяржаўны ўніверсітэт, з 1936 г.— імя А. М. Горкага. Сучасная назва — з 1999 г.

*«Комсомольская правда»* — штодзённая масавая савецкая і расійская газета. Заснавана 13 сак. 1925 г. у адпаведнасці з рашэннем XIII з’езда РКП(б) для асвятлення дзейнасці камсамола. Выдаецца з 24 мая 1925 г. у Маскве. Да 1991 г. была друкаваным органам ЦК ВЛКСМ і арыентавалася на моладзевую савецкую аўдыторыю. Пасля распаду СССР у 1992 г. была прыватызавана і змяніла сваю канцэпцыю на займальную, захаваўшы назву.

С. 633:

*...забяспечваў палівам добрушскую папяровую фабрыку «Герой працы»* — Добрушская папяровая фабрыка «Герой працы» — прадпрыемства па вырабе паперы, заснаванае ў 1870 г. князем Ф. М. Паскевічам у мястэчку Добруш (цяпер горад у Гомельскай вобл.). Назву «Герой працы» носіць з 1922 г.

*З самага пачатку наступлення на Харкаў...*— наступленне Чырвонай Арміі на Харкаў пачалося 12 мая 1942 г.

*...зімовага наступлення Чырвонай Арміі.*— маюцца на ўвазе наступальныя аперацыі савецкіх войск у ходзе Маскоўскай бітвы 1941—1942 гг.

*Ізюм-Барвенкаўскі выступ* — выступ, заняты савецкімі войскамі ў выніку баявых дзеянняў у студз. 1942 г. у раёне гарадоў Ізюм і Барвенкава Харкаўскай вобл. Глыбіня выступа складала амаль 90 км, а шырыня 10 км.

*Нашы нават станцыю Лазавую занялі.*— Лазавая — станцыя Паўднёвай чыгункі. Знаходзіцца ў горадзе Лазавая Харкаўскай вобл. Украіны. Акупаваная 11 кастр. 1941 г. Лазавая была занята Чырвонай Арміяй 27 студз. 1942 г. у ходзе Барвенкава-Лазаўской аперацыі.

С. 634:

*Немцы дабіваюць керчанскі дэсант...*— гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 753).

*Севастопаль* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 754).

*Крым* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 750).

*Барвенкава* — горад ва Украіне, цэнтр Барвенкаўскага р-на Харкаўскай вобл., на рацэ Сухі Тарэц.

*Скіфы* — агульная назва плямён паўночна-іранскай моўнай групы, якія насялялі Паўночнае Прычарнамор'е ў VII ст. да н. э.— III ст. н. э.

*Сарматы* — аб'яднанне качавых жывёлагадоўчых іранамоўных плямён (аланы, раксаланы, саўраматы, языгі і інш). У VI—IV стст. да н. э. жылі ў стэпах і лесастэпах паміж рэкамі Табол (у Сібіры) і Волга. У III ст. да н. э. рассяліліся ў раёнах на поўнач ад Каўказскіх гор і ў Паўночным Прычарнамор'і, дзе моцна пацяснілі скіфаў.

*Раксаланы* — іранамоўнае сармата-аланскае племя, якое качавала з II ст. да н. э. па першую палову I тыс. н. э. у землях Паўночнага Прычарнамор'я і Дунайскага рэгіёна.

*Аланы* — вялікі племянны саюз сармацкага паходжання. Жылі на Паўднёвым Урале, напаўкачэўнікі. У I ст. да н. э. прасунуліся ў паўднёвыя стэпы. У 370-я гады разгромлены гунамі і адцеснены да Паўночнага Каўказа.

*Печанегі, полаўцы, гуны* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 750).

*Готы* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 747).

*...з горадам Фаросам.*— гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 750).

С. 635:

*Гобі* — пустынная і паўпустынная вобласць у Цэнтральнай Азіі, на тэрыторыі Манголіі і Кітая.

*...ірыгацыйных сістэм Егіпта...*— Ірыгацыйная сістэма — сістэма штучнага арашэння недастаткова ўвільготненых зямель з мэтай павышэння іх урадлівасці; Егіпет — маецца на ўвазе Старажытны Егіпет — старажытная дзяржава ў ніжнім цячэнні ракі Ніл, у паўночна-ўсходняй Афрыцы.

*Кіпр* — востраў ва ўсходняй частцы Міжземнага мора.

*Северскі Данец* — рака ў Расіі і ва Украіне, правы прыток ракі Дон.

*Аскол* — рака ў Расіі і ва Украіне, левы (найвялікшы) прыток Северскага Данца.

*начпрад* — скар. начальнік харчовай службы (з *рус.* начальник продовольственной службы).

*...затуліўшыся за прыгрэбнікам...*— Прыгрэбнік — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 736).

*...вырас у Сярэдняй Азіі...*— Сярэдняя Азія — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678).

С. 636:

*152-міліметровыя гарматы* — савецкія пушкі вялікай магутнасці калібру 152,4 мм узору 1935 г. або савецкія пушкі-гаўбіцы калібру 152,4 мм ўзору 1937 г.

С. 637:

*...агромністыя КВ.*— савецкія цяжкія танкі выпуску 1940—1943 гг. Абрэвіятура КВ азначае «Клім Варашылаў» — у гонар К. Я. Варашылава [гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 728)].

*Станцыі Варажба, Бахмач* — Варажба — станцыя Паўднёва-Заходняй чыгункі. Знаходзіцца ў горадзе Варажба Белапольскага р-на Сумскай вобл. Украіны; Бахмач — станцыя Паўднёва-Заходняй чыгункі. Знаходзіцца ў горадзе Бахмач [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 741)].

*Перад Краснаградам наступленне...*— Краснаград — горад ва Украіне, цэнтр Краснаградскага р-на Харкаўскай вобл., на рацэ Берастовая.

*Вакол немцы. Яны адрэзалі Барвенкаўскі выступ.*— войскі вермахта акружылі войскі Чырвонай Арміі ў раёне Барвенкава 23 мая 1942 г.

С. 640:

*...быў ва Уральску* — Уральск — гл. камент. да апов. «Дзясяты клас» (с. 783).

*...знайшоў магілу беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі...*— Змітрок Бядуля — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 678). Памёр 3 лістап. 1941 г. ад інфаркту ў эвакуацыі каля Уральска, дзе і быў пахаваны.

*Свастыка* — адзін з найстаражытнейшых і шырока распаўсюджаных графічных сімвалаў: крыж з загнутымі канцамі, накіраванымі па гадзіннікавай стрэлцы або супраць яе. У большасці старажытных народаў свастыка сімвал руху, жыцця, сонца, святла, дабрабыту. У XX ст. набыла негатыўнае адценне ў сувязі з выкарыстаннем у гітлераўскай Германіі.

*...называюць сябе арыйцамі* — Арыйцы — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 747).

*...гэта значыць індаеўрапейцамі* — гл. камент. да апов. «Вір» (с. 763).

*Індусы* — карэнныя жыхары Індыі, якія належаць да арыйскай расы.

*Афганцы* (саманазва пуштун, пухтун) — іранскі народ, які насяляе ў асноўным паўднёвы усход, поўдзень і паўднёвы захад Афганістана і паўночны захад Пакістана.

*Персы* (саманазва ірані) — іранскі народ, этналінгвістычная агульнасць шматлікіх рэгіянальных груп насельніцтва Ірана і некаторых прылеглых краін, для якой роднай мовай з'яўляецца фарсі. Найбуйнейшы і вядучы складальнік іранскай нацыі.

С. 641:

*Нашы саракапяткі б'юць...*— маюцца на ўвазе савецкія паўаўтаматычныя супрацьтанкавыя гарматы калібру 45 мм.

С. 642:

*Царыца* — рака ў Валгаградскай вобл. Расіі, правы прыток Волгі. Працякае па тэрыторыі Гарадзішчанскага р-на Валгаградскай вобл. і цэнтральнай частцы Валгаграда.

С. 643:

*...палосы-снарады «кацюш»...*— гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 738).

*...Сталінградскі, Стэпавы, Варонежскі франты пераходзяць у наступленне.*— Сталінградскі фронт — адзін з франтоў Чырвонай Арміі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Дзейнічаў з 28 верас. 1942 г., узнік шляхам пераўтварэння Паўднёва-Усходняга фронту; Стэпавы фронт — адзін з франтоў Чырвонай Арміі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Дзейнічаў з 9 ліп. па 20 кастр. у Цэнтральнай Расіі і ва Усходняй Украіне; Варонежскі фронт — фронт, утвораны 7 ліп. 1942 г. з часткі войск Бранскага фронта, якія абаранялі раён г. Варонежа. Існаваў да 20 кастр. 1943 г.

*Нездарма гаварыў Сталін пра свята на нашай вуліцы.*— у загадзе народнага камісара абароны І. В. Сталіна ад 7 лістап. 1942 г. № 345 былі наступныя радкі: «Вораг ужо адчуў аднойчы сілу ўдараў Чырвонай Арміі пад Растовам, пад Масквой, пад Ціхвінам. Недалёка той дзень, калі вораг зазнае моц новых udараў Чырвонай Арміі. Будзе і на нашай вуліцы свята!»

*...армія Паўлюса акружана...* — Паўлюс — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 744). Акружэнне 6-й арміі вермахта пад камандаваннем Ф. Паўлюса было завершана савецкімі войскамі 23 лістап. 1942 г.

*Дрозд запамінае гэты дзень — дзевятнаццатага лістапада тысяча дзевяцьсот сорак другога года. У тое, што здары-*

*лася, ён укладвае містычны сэнс: роўна праз год армія вызваліць Паддубічы, яго роднае мястэчка.*— гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 744).

*...генерал Гот ідзе на дапамогу, хоча разблакіраваць акружэнне.*— гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 744).

*Насмерць стаяць пад Кацельнікавам савецкія байцы...* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 744).

С. 644:

*Сталінградская дывізія* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 744).

*...магаравую кашу...*— маецца на ўвазе каша з зярнят магару — кветкавай расліны сямейства метлюжковых, пашыранай у Азіі, харчовай і кармавой культуры, паводле сваіх якасцяў падобнай да проса.

С. 646:

*Блізка мясціны Тургенева, Талстога...*— Тургенеў — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 684). У сяле Спаскае-Лутавінава Мцэнскага р-на Арлоўскай вобл. Расіі знаходзілася сядзіба маці І. С. Тургенева, атрыманая ім у спадчыну (цяпер — дзяржаўны мемарыяльны і прыродны Музей-запаведнік І. С. Тургенева «Спаскае-Лутавінава»); Талстой — гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 680). У вёсцы Ясная Паляна Шчокінскага р-на Тульскай вобл. Расіі знаходзілася сядзіба Л. М. Талстога (цяпер — дзяржаўны і мемарыяльны запаведнік Музей-сядзіба Л. М. Талстога «Ясная Паляна»).

*ПСД* — скар.: пункт збора данясенняў (з *рус.* пункт сбора донесений).

С. 647:

*...эпапея чалюскінцаў...*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 677).

*...грымелі імёны лётчыкаў Чкалава, Белякова, Байдукова.*— гл. камент. да апов. «Дзяцінства» (с. 680), «Падлетак» (с. 716).

С. 648:

*...ваюе недзе на Паўднёвым фронце.*— маецца на ўвазе Паўднёвы фронт другога фарміравання, які быў утвораны 31 снеж. 1942 г. на базе расфарміраванага Сталінградскага фронту.

*Бранска-Вяземскае акружэнне* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 755).

С. 649:

*...пачынаецца Курская бітва.*— Курская бітва — адна з вырашальных вайсковых аперацый у Вялікую Айчынную вайну. Адбылася ў ліп.— жн. 1943 г. на тэрыторыі сучасных Курскай, Арлоўскай,

Белгародскай, Бранскай і Калужскай абласцей Расіі, Харкаўскай і Сумскай абласцей Украіны. Складалася з двух этапаў: абарончых баёў (5—23 ліп.) і контрнаступлення (12 ліп.— 23 жн.) савецкіх войск.

*Узяты Арол і Белгарад* — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 739, 752).

*...Савецкая Армія займае Грайваран, Багадухаў, Ахтыру, Зміеў, Лебядзін і, нарэшце, Харкаў.*— Грайваран — горад у Белгародскай вобл. Расіі, цэнтр Грайваронскага р-на, на рацэ Ворскла. З 1934-га па 6 студз. 1954 г. уваходзіў у склад Курскай вобл. Вызвалены ад нямецка-фашысцкіх акупантаў 7 жн. 1943 г.; Багадухаў — горад у Харкаўскай вобл. Украіны, цэнтр Багадухаўскага р-на, на рацэ Мерла, вызвалены Чырвонай Арміяй 7 жн. 1943 г.; Ахтыра (Ахтырка) — горад у Сумскай вобл. Украіны, цэнтр Ахтырскага р-на, на рацэ Ахтырка, вызвалены савецкімі войскамі 26 жн. 1943 г.; Зміеў (Змiёў) — горад у Харкаўскай вобл. Украіны, цэнтр Зміёўскага р-на, на рацэ Северскі Данец, вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 18 жн. 1943 г.; Лебядзін — горад у Сумскай вобл. Украіны, цэнтр Лебядзінскага р-на, на рацэ Альшанка, вызвалены савецкімі войскамі 19 жн. 1943 г.; Харкаў [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 739)] быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 23 жн. 1943 г.

*Шматпакутны Харкаў. У мінулым годзе яго не здолелі заняць...*— наступальная аперацыя савецкіх войск пад Харкавам у маі 1942 г. закончылася акружэннем і амаль поўным знішчэннем сіл Чырвонай Арміі.

*Праз тры дні пасля Харкава савецкія войскі займаюць Сеўск.*— Сеўск (гл. вышэй камент. да с. 820) быў заняты савецкімі войскамі 27 жн. 1943 г.

*Ужо стала нашай станцыя Варажба, гарады Палтава, Чарнігаў.*— Станцыя Варажба (гл. вышэй камент. да с. 823) была вызвалена ад гітлераўскіх захопнікаў 3 верас. 1943 г.; Палтава — [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 742)] вызвалена Чырвонай Арміяй 23 верас. 1943 г.; Чарнігаў — [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 751)] быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх акупантаў 21 верас. 1943 г.

С. 650:

*...вызвалены Сумы, Бахмач, Канатоп, Нежын.*— Сумы — горад на паўночным усходзе Украіны, адміністрацыйны цэнтр Сумскай вобл., на рацэ Псёл, вызвалены савецкімі войскамі 2 верас. 1943 г.;

Бахмач [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 741)] быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 9 верас. 1943 г.; Канатоп [гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 741)] вызвалены Чырвонай Арміяй 6 верас. 1943 г.; Нежын — горад у Чарнігаўскай вобл. Украіны, цэнтр Нежынскага р-на, на рацэ Асцёр, вызвалены ад нямецка-фашысцкіх акупантаў 15 верас. 1943 г.

*Вось і Бранск вызвалены.*— Бранск — гл. камент. да апов. «Юнацтва» (с. 739). Бранск выў вызвалены савецкімі войскамі 17 верас. 1943 г.

*Нашы войскі займаюць Прылукі, Рамны, Піраціn, Лубны.*— Прылукі — горад у Чарнігаўскай вобл. Украіны, цэнтр Прылукскага р-на, на рацэ Удай, вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 18 верас. 1943 г.; Рамны (Ромны) — горад у Сумскай вобл. Украіны, цэнтр Роменскага р-на, на рацэ Сула, вызвалены савецкімі войскамі 16 верас. 1943 г.; Піраціn — горад у Палтаўскай вобл. Украіны, цэнтр Піраціnскага р-на, на рацэ Удай, вызвалены ад гітлераўскіх войск 18 верас. 1943 г.; Лубны — горад у Палтаўскай вобл. Украіны, цэнтр Лубенскага р-на, на рацэ Сула, вызвалены Чырвонай Арміяй 18 верас. 1943 г.

*Палессе* — гл. камент. да апов. «Падлетак» (с. 733).

С. 651:

*...і на грудзях у яго чатыры Георгіеўскія крыжы.*— Георгіеўскі крыж (знак узнагароды Ваеннага ордэна) — прылічаная да ордэна Святога Георгія ўзнагарода для ніжэйшых чыноў у Расіі з 1807-га па 1917 г. за баявыя заслугі і храбрасць, праяўленую супраць непрыяцеля. З 1856 г. знак узнагароды меў чатыры ступені: 1-я і 2-я — залатыя крыжы, 3-я і 4-я — срэбныя. Знакі насіліся на георгіеўскай стужцы на грудзях. З 1913 г. знак Ваеннага ордэна афіцыйна сталі называць Георгіеўскім крыжам.

С. 652:

*Нарэшце вызвалены Кіеў! Якраз у дзень Кастрычніцкага свята.*— гл. камент. да апов. «Дзясяты клас» (с. 782).

С. 653:

*У гэты шэры лістападаўскі надвячорак сувязіст робіць данясенне:*

*— Узяты горад Рэчыца і населены пункт Паддубічы.*

*Але хлопец бачыць, як яго роднае мястэчка захлынаецца ў пажары, і перадае па рацыі камандзіру батальёна:*

*— Паддубічы ў немцаў!* — Васілевічы былі вызвалены 19 лістап. 1943 г., але ў зводцы стаяла дата 18 лістап. 1943 г.

